# Мікалай Лапіцкі

## У служэньні Богу й Беларусі



# Nicholas Lapitzki

## In the Service of God and Belarus



# У служэньні Богу й Беларусі



# In the Service of God and Belarus



Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва
Інстытут Славістыкі Польскай Акадэміі Навук

Мікалай Лапіцкі

# У служэньні Богу й Беларусі

Уступнае слова
Вітаўт Кіпель

Укладаньне, прадмова, камэнтары
Юры Гарбінскі

Нью Ёрк – Варшава
2005

Belarusian Institute of Arts and Sciences
Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences

Nicholas Lapitzki

# In the Service of God and Belarus

Preface
Vitaŭt Kipel

Edited by
Yuri Garbinski

New York – Warsaw
2005

**Publication Reviewer:**

Jan Zaprudnik (New York, U.S.A.)
Eugene Miranovich (Białystok, Poland)

**Consultation Staff:**

Vitaŭt Kipel (New York, U.S.A.)
Helen Kasoŭski (New Jersey, U.S.A.)

**Research and publication funds for this book were made possible through a grant from the Helen Kasoŭski & George Lapitzki families**

**Text Proofreaders:**

Natalla Mazoŭka
Maria Maŭzon
Teresa Castelluzzo

**Pagination Team & Graphic Project:**

Elżbieta and Marek Kamiński



Printed in U.S.A.

ISBN 838919135-0




History of Belarusian Religious Life

Volume No. 3

**ЗЬМЕСТ • CONTENTS**

## Разьдзел IV • Chapter IV
## Лісты • Letters



## Разьдзел V • Chapter V
## Стужкі памяці • Recollections



## Разьдзел VI • Chapter VI
## Успаміны й рэфлексіі пра а. Мікалая Лапіцкага
## Memories and Reflections about Rev. Nicholas Lapitzki

## Разьдзел VII • Chapter VII

## Айцец Мікалай Лапіцкі ў дакумантах і фотаздымках
## The Priest Nicholas Lapitzki in documents and pictures



## Дадаткі • Supplements



**Сьвятая Еўфрасіньня Полацкая**
**апякунка Беларусі**



**Мітрапаліт Мелхісэдэк**

**ініцыятар аднаўленьня БАПЦ у першай чвэрці XX стагодзьдзя**

Царква – народнае цела. Яна заўсёды мае нацыянальнае аблічча, бо царква – гэта народ (вернікі) і гіерархія. Царква непераможная, калі гэтыя два пачаткі (народ ды гіерархія) моцна спаяны паміж сабою. Царква ня служыць антынародным мэтам, бо ў гэтым выпадку яна дзее супраць самое сябе й немінучым насьледкам вядзе да яе-ж заняпаду, як гэта здарылася з Царквой Расейскае імпэрыі, калі царкоўная гіерархія, адышоўшы ад паняволеных расейскім урадам народаў, пайшла на службу імпэрыялістычным мэтам Масквы й заміж праваслаўнае зрабілася „рускай”.

Кожны народ павінен мець сваю Царкву, інакш ён ніколі ня будзе суб’ектам міжнародных дачыненьняў ды астанецца аб’ектам міжнароднага гандлю. Народ, які дасьпеў да таго, каб мець сваю самастойную Царкву, лічыцца дзяржаўна сьпелым народам. Вось чаму ідэя арганізацыі беларускага рэлігійна-нацыянальнага жыцьця спатыкае моцную рэакцыю з боку ворагаў беларушчыны розных масьцей. Яны – ворагі беларускае незалежніцкае думкі – вельмі добра разумеюць, што, арганізуючы наша рэлігійна-нацыянальнае жыцьцё, мы кладзем моцны грунт пад наш незалежніцкі й палітычны рух.

а. Мікалай Лапіцкі

## Уступнае слова

Напрыканцы XVIII-га стагодзьдзя, з падзелам Рэчы Паспалітай у 1772, 1793 і 1795 гадох, Беларусь поўнасьцю была заваяваная ды ўлучаная ў склад Расейскай імпэрыі. Праўда, самыя ўсходнія часткі беларускай тэрыторыі – Смаленшчына ды паўночна-ўсходнія раёны Чарнігаўшчыны – былі забраныя Масквой яшчэ ў другой палове XVII-га стагодзьдзя. Падбітыя Расеяй землі, населеныя ў асноўным ліцьвінамі – тагачасны тэрмін для беларусаў – былі чужыя Маскве. Царская ўлада гэта ведала. І таму ў дачыненьні да Беларусі й беларусаў праводзілася адмысловая імпэрыяльная палітыка, якую вызначалі такія парамэтры: усе адзнакі апрычонасьці гістарычнага разьвіцьця зацерці, насельніцтва зрусыфікаваць, рэлігійныя структуры зьнішчыць ды парваць кананічную сувязь беларускага праваслаўя з Канстантынопальскім Патрыярхатам, а ўсё існаваньне краю зьвязаць з Масквой. Палітыка русыфікацыі была жорсткай і праводзілася праз царкву, адміністрацыю ды вельмі абмежаванае школьніцтва.

Русыфікацыйную місію расейскага праваслаўя на Беларусі, распачатую царскай уладай, сёньня, пры актыўным заангажаваньні Масквы, падтрымоўваюць афіцыйныя ўлады ў Менску. І тым ня менш, пачуцьцё нацыянальнай самасьведамасьці ў беларусаў засталося нязьнішчаным. У 1918 годзе Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвесьціла незалежнасьць Беларусі, а ў 1922 годзе ў Менску была праклямавана аўтакефалія Беларускай Праваслаўнай Царквы, якую ачоліў мітрапаліт Мелхісэдэк. Імкненьне да самастойнасьці ў палітычным і рэлігійным жыцьці беларусы выявілі і ў часе Другой сусьветнай вайны. У 1942 годзе Ўсебеларускі Праваслаўны Сабор у Менску выказаўся за аднаўленьне Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Гэтаксама Другі Ўсебеларускі Кангрэс 27 чэрвеня 1944 году акрэсьліў ідэю дзяржаўнага сувэрэнітэту стратэгічнай мэтай беларускага незалежніцкага руху. У 1991 годзе была абвешчана незалежнасьць дзяржавы Рэспублікі Беларусь.

У дадзенай працы яе аўтар, протапрэсьвіцер Мікалай Лапіцкі, дзейны праваслаўны сьвятар і аўтарытэтны дасьледнік гісторыі Праваслаўнай Царквы на Беларусі ў пару Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ), даводзіць легальнасьць кананічнае лучнасьці Беларускай Праваслаўнай Царквы з Канстантынопальскім Патрыярхатам. Ён таксама пралівае шмат сьвятла на рэлігійныя справы паваеннага часу на эміграцыі. З глыбокім перакананьнем праваслаўнага дзеяча й дасьведчанага душпастыра а. Мікалай Лапіцкі накрэсьлівае шлях у будучыню да адноўленага існаваньня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на службе Богу і свайму народу.

Вітаўт Кіпель

# ПРАДМОВА

Жыў, вучыўся, працаваў, удзельнічаў, верыў...

Гэтыя словы мы сустракаем бадай за кожным разам, калі гартаем старонкі фундамэнтальных энцыкляпэдый, аднатомных біяграфічных слоўнікаў ці проста звычайных даведнікаў. Ад іх пачынаем пошукі біяграфічных зьвестак пра тую або іншую асобу, яе жыцьцё, палітычную, грамадзка-культурную ці сьвятарскую дзейнасьць. Паўтараючыся ў такой безьлічы людзкіх лёсаў, у кожным асобным выпадку гэтыя максімы-дэфініцыі за скупымі энцыкляпэдычнымі радкамі хаваюць свой адметны сэнс і глыбіню, якую адкрываюць гадамі й стагодзьдзямі.

Айцец Мікалай Лапіцкі нарадзіўся 13 сьнежня (па старым стылі 30 лістапада) 1907 году ў вёсцы Грэлікі Вялейскага павету Віленскай губэрні[1]. Сям'я ня мела багатага матар'яльнага дастатку. Уся гаспадарка Лапіцкіх складалася з лапіку зямлі ды невялікай хаты з прыбудовай. Бацькі, Сьцяпан і Домна – сяляне-гаспадарнікі, мелі аднак іншыя каштоўнасьці: павагу да працы, беларускі традыцыяналізм, глыбокую рэлігійнасьць і шанаваньне праваслаўных царкоўных традыцыяў. Гэтыя якасьці, як самы каштоўны скарб, перадалі сваім дзецям – дочкам Ксені, Настулі, Ніне ды сынам Мікалаю, Юзіку й Валодзю. На багаслужбы й гадавыя царкоўныя сьвяты сям'я выпраўлялася ў суседняе мястэчка Іжу, дзе была праваслаўная царква. У ёй атрымаў хрост і а. Мікалай[2], каб потым праз усё жыцьцё і на Бацькаўшчыне, і ў далёкай Амэрыцы самаахвярна служыць Усявышняму, Беларускай Праваслаўнай Царкве й роднаму народу.

Першыя веды М. Лапіцкі атрымаў у сям'і. Потым два гады вучыўся ў пачатковай школе ў Іжы. З выбухам Першай сусьветнай вайны Лапіцкія падаліся ў бежанства ў Расею, дзе Мікалай закончыў дзьве клясы сярэдняй школы. Лютаўская рэвалюцыя 1917 году прысьпешыла вяртаньне на бацькаўшчыну сотняў беларускіх сем'яў. На пачатку 1918 году ў родныя Грэлікі вярнуліся й Лапіцкія. Мікалай распачаў вучобу ў расейскай прыватнай гімназіі ў Вялейцы[3]. Пасьля двух гадоў навукі перайшоў у пятую клясу Віленскай духоўнай праваслаўнай сэмінарыі. Ад дзяцінства шмат чытаў. Бібліятэчныя фонды сэмінарыі дазволілі пашырыць кніжныя зацікаўленьні маладога адэпта. У часе вучобы ў сэмінарыі М. Лапіцкі захапіўся творчасьцю Зьмітрака Бядулі, асобныя творы якога, як напрыклад, апавяданьне „Малітва малога Габрусіка", ведаў на памяць. З расейскіх пісьменьнікаў цікавіўся прозай Антона Чэхава[4].

Тут, у сэмінарыі, нягледзячы на кансэрватызм асяродзьдзя й расейскі характар багаслоўскага навучаньня, прыйшло пачуцьцё беларускасьці. Пазьней, на эміграцыі, а. М. Лапіцкі ўспамінаў, што амаль усе яго

---

[1] Пэрсанальная справа студэнта М. Лапіцкага: AUW (Варшава), sygn.: 36058/8.

[2] Ibidem.

[3] Ibidem.

[4] Раляцыя Лёлі Касоўскай, дачкі а. М. Лапіцкага ад 18 лютага 2004 году (Нью Джэрзі, ЗША).

калегі з курсу выйшлі з сэмінарыі сьведамымі беларусамі. Непасрэдны ўплыў на гэта, як можна меркаваць, меў ня толькі праграмны курс беларусаведы ў часе навучаньня, але таксама кантакты сэмінарыстаў зь беларускімі студэнтамі з унівэрсытэту Стэфана Баторага й з вучнямі Віленскай Беларускай Гімназіі ды ўдзел у беларускіх моладзевых імпрэзах.

У травені 1930 году М. Лапіцкі скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю й атрымаў атэстат сталасьці. Далейшую навуку прадоўжыў на факультэце праваслаўнага багаслоўя Варшаўскага ўнівэрсытэту, куды паступіў у верасьні 1930 году[5]. У лісьце да ўнівэрсытэцкіх уладаў прот. М. Тучэмскі, рэктар Віленскай праваслаўнай духоўнай сэмінарыі, даючы апінію сэмінарысту М. Лапіцкаму, пісаў:

„Мікалай Лапіцкі, абсальвэнт тутэйшай сэмінарыі, мае сярэднія здольнасьці, працавіты й спакойны. Заўсёды паводзіў сябе вельмі добра. Не адзначаецца ён вялікім палётам, мае аднак характар, які сьведчыць пра тое, што ў асобе сэмінарыста Лапіцкага царкоўная ніва будзе мець ахвярнага й шчырага сьвятара"[6].

Варта адзначыць, што ў міжваеннай Польшчы Варшаўскі ўнівэрсытэт быў адзінай вучэльняй, якая давала вышэйшую праваслаўную багаслоўскую асьвету й рыхтавала высокакваліфікаваных сьвятароў. Факультэт праваслаўнага багаслоўя быў утвораны пры ўнівэрсытэце ў лютым 1925 году адмысловым арганізацыйным камітэтам пры падтрымцы акадэміцкага Сэнату[7]. Непасрэдны ўдзел у яго зарганізаваньні прыняў мітрапаліт Дыянісій (Валедынскі) і група ўнівэрсытэцкіх выкладчыкаў на чале з праф. Ф. Крышталовічам, тагачасным рэктарам вучэльні. Утварэньне багаслоўскага факультэту на Варшаўскім унівэрсытэце мела на мэце падрыхтоўку высокаадукаваных праваслаўных духоўнікаў, іх усебаковае інтэлектуальнае й маральна-царкоўнае выхаваньне.

Вось-жа, з дапамогай новага пакаленьня праваслаўных сьвятароў польскі ўрад меў намер зьмяніць расейскі характар Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, каб выкарыстаць яе як інструмэнт у працэсе асыміляцыі беларускага і ўкраінскага праваслаўнага насельніцтва.

У лютым 1927 году на ўрачыстай акадэміі з нагоды 2-х угодкаў адкрыцьця факультэту праваслаўнага багаслоўя яго кіраўнік, мітрапаліт Дыянісій, адзначаў:

„Мінула два гады, але ўжо бачныя вынікі, за што складаем гарачую падзяку Ўсемагутнаму Богу. Сёньня на факультэце замест аднаго прафэсара выкладае шасьцёх, маем 150 студэнтаў, добраўпарадкаваны і ўтульны інтэрнат, а яшчэ – багатую бібліятэку, свой уласны часапіс, а нават капліцу..."[8].

---

[5] Пэрсанальная справа студэнта М. Лапіцкага: AUW (Варшава), sygn.: 36058/8.

[6] Пэрсанальная справа сэмінарыста М. Лапіцкага: LCVA (Вільня), ф. 220, воп. 2, спр. 237.

[7] Uroczystości obchodu drugiej rocznicy otwarcia Studjum Teologii Prawosławnej Uniwersytetu Warszawskiego (1925–1927), „Elpis", nr 4, Warszawa, 1928, ss. 87–88.

[8] Ibidem.

У хуткім часе пасьля адкрыцьця на Варшаўскім унівэрсытэце праваслаўнага багаслоўскага факультэту зь ліку яго першых студэнтаў у травені 1925 году паўстала „Кола праваслаўных багасловаў"[9]. Дзейнасьць гуртка палягала на зарганізаваньні студэнтаў-багасловаў у кірунку паглыбленьня іх рэлігійных ведаў і ўзаемадапамогі пры сумеснай навукова-дыдактычнай працы, што было запісана і ў статуце арганізацыі. Працу гуртка каардынаваў адмысловы прэзыдыум, выбраны зь ліку сяброў „Кола праваслаўных багасловаў". Ладзіў ён публічныя выступы з рэфэратамі й дыскусіямі царкоўна-багаслоўскага характару, а таксама аказваў матар'яльную дапамогу бяднейшым студэнтам. Гурток меў аўтарытэтнага апекуна ў асобе мітрапаліта Дыянісія. Ад 1930 году „Кола праваслаўных багасловаў" выдавала свой часапіс „Путь Правды", які асьвятляў дзейнасьць гуртка й меўся служыць самаадукацыі й пашырэньню рэлігійных ведаў сярод студэнтаў-багасловаў. Часапіс выходзіў у чатырох мовах (беларускай, украінскай, расейскай і польскай) і публікаваў матар'ялы зь гісторыі хрысьціянства, філасофска-багаслоўскія артыкулы, зьмяшчаў рэцэнзіі й бібліяграфічныя агляды, вёў хроніку студэнцкага жыцьця на факультэце[10].

Ад пачатку вучобы ў Варшаве, нягледзячы на цяжкае матар'яльнае становішча, М. Лапіцкі браў чынны ўдзел у грамадзка-культурным і навуковым жыцьці факультэту. Яго веды й аўтарытэт сярод калегаў спрычыніліся да таго, што ўжо на 2-м курсе, у красавіку 1932 году, галасамі ўкраінскіх і беларускіх студэнтаў М. Лапіцкага абралі старшынёй „Кола праваслаўных багасловаў"[11].

Дарэчы, зь беларусаў на багаслоўскім факультэце ў розныя гады вучыліся й былі сябрамі „Кола праваслаўных багасловаў" арх. Філафей (Нарко), арх. Апанас (Мартас), а. прот. І. Кушнер, а. М. Сеўба, а. Н. Пыск, а. А. Сурвіла, а. М. Багаткевіч, а. В. Багаткевіч, а. У. Голасаў, а. М. Неслухоўскі, а. В. Малашка, а. М. Скабей, а. В. Баравы, а. У. Шостак ды іншыя.

У навукова-дасьледніцкай дзейнасьці М. Лапіцкі выяўляў зацікаўленьні да гісторыі раньняга хрысьціянства й праваслаўя ў Вялікім Княстве Літоўскім. Зь вялікай павагай ставіўся да гісторыка-культуралягічных дасьледаваньняў беларускага навукоўца й грамадзка-палітычнага дзеяча В. Ластоўскага, перад усім да яго славутай „Гісторыі Беларускай (Крыўскай) Кнігі". Сэмэстральныя курсавыя працы студэнта М. Лапіцкага па беларускай мове й літаратуры былі прысьвечаны асьветніцкай і друкарскай дзейнасьці Ф. Скарыны, а таксама жыцьцю й паэтычнай творчасьці Цёткі (Алаізы Пашкевіч)[12]. Ад пачатку ўнівэрсытэцкіх студыяў ён супрацоўнічаў з рэдакцыяй часапісу „Путь Правды", дзе апублікаваў

---

[9] M. S–ki, Latopis Koła Teologów Prawosławnych Studentów Uniwersytetu Warszawskiego, „Путь Правды", № 1, Варшава, 1930, ss. 64–67.

[10] Гл.: „Путь Правды", № 1, Варшава, 1930; № 2, Варшава, 1934.

[11] Гл.: M. Łapicki, Działalność Koła Teologów Prawosławnych Studentów Uniwersytetu Warszawskiego w roku akademickim: 1932–1933 (17 IV 1932–17 VI 1933 r.), „Путь Правды", № 2, Варшава, 1934, ss. 324–325.

[12] Пэрсанальная справа студэнта М. Лапіцкага: AUW (Варшава), sygn.: 36058/8.

адзін зь першых сваіх артыкулаў, прысьвечаных праваслаўю й царкоўнай вуніі ў ВКЛ[13]. Спрыяла гэтаму агульная атмасфэра ў вучэльні й высокія кваліфікацыі выкладчыкаў. На факультэце чыталі лекцыі й кіравалі студэнцкай навукова-практычнай дзейнасьцю такія вядомыя прафэсары й дасьледчыкі царкоўнай гісторыі як А. Латоцкі, І. Агіенка, М. Арсеньеў, В. Бідноў, А. Зызыкін. Зацікаўлены гісторыяй праваслаўя ў ВКЛ, Лапіцкі рыхтуе магістэрскую працу пад кіраўніцтвам праф. А. Латоцкага, якую пасьпяхова абараняе ў кастрычніку 1935 году[14]. Гэта было адно зь першых дасьледаваньняў, у якім зь беларускага пункту гледжаньня асьвятляліся сярод іншага гістарычныя й кананічныя асновы аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы. Ужо тады малады студэнт-багаслоў зразумеў, як важным ёсьць для дасьледчыка беларускай царкоўнай гісторыі ўмець адрозьніваць рэальны гістарычны факт ад чужой беларусам думкі, прыбранай у апратку гістарычнага факту.

Вучоба М. Лапіцкага на Варшаўскім унівэрсытэце мела істотнае значэньне ў яго далейшай працы на царкоўнай ніве. Яна паглыбіла багаслоўскія веды будучага сьвятара, умацавала ў ім пачуцьцё беларускасьці й шчырае жаданьне служыць ідэі аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы й нацыянальнай справе.

12 ліпеня 1932 году, у дзень Сьвятых Пятра й Паўла, М. Лапіцкі ажаніўся з Валянцінай Трафімюк, дачкой багатага землеўладальніка зь Беласточчыны. Яго абраньніца ня мела дачыненьня да беларускасьці. Але так было толькі да пэўнага часу. Вось што згадвае Лёля Касоўская, дачка а. Мікалая й матушкі Валянціны:

„Мама нарадзілася 30 сьнежня 1909 году ў маёнтку Ярылаўка каля Ваўкавыска. Яе бацькі, Марыя й Цімафей, былі заможнымі памешчыкамі. Цімафей быў стройны, прыгожы й адукаваны чалавек з царскай Расеі, які працаваў на Беларусі. Мама скончыла толькі пачатковую школу, бо на той час яе бацькі лічылі, што большае адукацыі дзяўчыне й ня трэба, паколькі будзе мець добры пасаг. У сваім жыцьці яна стала адчувала недахоп адукацыі й таму старалася шмат чытаць, каб праз самаадукацыю пашырыць свае веды, якіх не ўдалося асягнуць у школьныя гады. Вельмі любіла матэматыку...

Мама паходзіла зь сям'і, дзе не цікавіліся беларускасьцю й Беларусьсю. Але дзякуючы майму бацьку, яна моцна пранялася беларускімі праблемамі й да канца жыцьця засталася шчырай і адданай беларускай. Пазьней нават з палякамі й расейцамі гаварыла толькі па-беларуску, хоць магла гаварыць і на іх мовах"[15].

Пасьля заканчэньня ўнівэрсытэцкіх студыяў, 9 ліпеня 1934 году М. Лапіцкі быў рукапаложаны ў сан дыякана, а 29 ліпеня – у сан

---

[13] Гл.: М. Лапіцкі, Як паўстала царкоўная вунія на Беларусі, „Путь Правды", № 2, Варшава, 1934, бб. 39–41.

[14] Пэрсанальная справа студэнта М. Лапіцкага: AUW (Варшава), sygn.: 36058/8.

[15] Лёля [Лёля Касоўская], С.п. матушка Валянціна Лапіцкая (1909–2000), „Беларуская Думка", № 48, Нью Ёрк – Саўт Рывэр, 2000, б. 32.

прэсьвітэра[16]. У тым-жа годзе царкоўныя ўлады Віленскай епархіі прызначылі маладога сьвятара настаяцелем праваслаўнай царквы ў заходнебеларускае павятовае места Ашмяну.

Варта памятаць, што ў міжваеннай Польшчы ўмовы, у якіх прыходзілася жыць і працаваць нацыянальна-сьведамаму беларускаму сьвятару, да ўсяго яшчэ сьвятару праваслаўнаму, не былі ані простымі, ані лёгкімі. У адроджанай польскай дзяржаве, дзе большасьць насельніцтва вызнавала каталіцкую веру, першынство аддавалася Каталіцкаму Касьцёлу. Зусім іншыя адносіны польскія адміністрацыйныя ўлады мелі да Праваслаўнай Царквы. З аднаго боку, глядзелі на яе як на апору расейшчыне й чужы элемэнт у польскай рэчаіснасьці. Але з другога боку, у паўсядзённым жыцьці не маглі не акцэптаваць яе прысутнасьці, маючы пасьля 1921 году на абшарах новаарганізаваных усходніх ваяводзтваў каля 4 мільёнаў украінцаў і беларусаў праваслаўнага веравызнаньня, а таксама невялікі адсотак расейцаў. Зрэшты, у адносінах паміж польскай дзяржавай і Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой ішло не толькі пра акцэптацыю, але й пра супрацоўніцтва:

„Для польскай палітыкі непрыхільнасьць, а нават варожасьць праваслаўнага духавенства ў адносінах да нацыянальна-культурнага адраджэньня беларусаў і ўкраінцаў, ды адначасна яго сьхільнасьць да ўступак польскім адміністрацыйным уладам, былі на руку. Якраз у асобе расейскага праваслаўнага духавенства польскі ўрад знайшоў добрага, хоць не заўсёды можа шчырага й надзейнага саюзьніка там, дзе справа датычыла нэўтралізацыі ўплываў украінскай і беларускай інтэлігенцыі на массы"[17].

Пачатак сьвятарскай дзейнасьці а. М. Лапіцкага прыпаў на той час, калі ў Віленскай епархіі трываў востры канфлікт паміж беларускімі царкоўнымі й грамадзка-культурнымі арганізацыямі з аднаго боку й духоўнымі ўладамі на чале зь еп. Феадосіем з другога. Канфлікт гэты быў выкліканы ігнараваньнем вышэйшым духавенствам беларускіх пастулятаў у справе беларусізацыі Праваслаўнай Царквы на заходнебеларускіх абшарах. Патрабаваньні беларускіх дзеячаў і грамадзка-культурных арганізацыяў успрымаліся Віленскай Духоўнай Кансісторыяй выключна як ініцыятыва інтэлігенцыі, а не вымогі шырокай масы беларускіх вернікаў[18].

Ад першых дзён побыту а. М. Лапіцкага ў Ашмяне яго адносіны да працы на царкоўнай ніве і ў паўсядзённым жыцьці вызначаліся ахвярнасьцю й беларускасьцю. Прыгожыя пропаведзі маладога сьвятара ў роднай мове, яго выразна акрэсьлены нацыянальны падыход у царкоўных і сьвецкіх справах знайшлі шырокі водгук і прызнаньне не толькі сярод

---

[16] Гл.: Wykaz absolwentów Studjum Teologii Prawosławnej z uwzględnieniem dat uzyskania stopnia magistra Św. Teologji oraz święceń kapłańskich, „Elpis", nr 1–2, Warszawa, 1935, s. XXXIV.

[17] A.B., Białorusini i Cerkiew Prawosławna, „Przegląd Wileński", nr 9, Wilno, 1930, s. 7.

[18] Гл.: M. Papierzyńska-Turek, Między tradycją a rzeczywistością. Państwo wobec prawosławia, Warszawa, 1989, s. 220–225.

праваслаўных беларусаў, але і ў каталікоў. Аднак так было да пэўнага часу. Сьвятарскі аўтарытэт і нацыянальная актыўнасьць а. М. Лапіцкага на Ашмяншчыне ў хуткім часе выклікалі супраціў царкоўных уладаў Віленскай епархіі й засьцярогі мясцовай польскай адміністрацыі. Духоўную асобу з вышэйшай багаслоўскай адукацыяй з-пад Вільні неўзабаве перавялі на праваслаўны прыход у вёску Сьцяфанпаль на Дзісеншчыне.

Трэба сказаць, што а. М. Лапіцкі ня быў ані першым, ані апошнім зь беларускіх сьвятароў, каго епархіяльныя царкоўныя ўлады ў паразуменьні з польскай адміністрацыяй высылалі ў глухія й лічэбна невялікія праваслаўныя прыходы. На пачатку трыццатых гадоў такі лёс сустрэў ведамага заходнебеларускага царкоўнага й грамадзкага дзеяча а. А. Каўша. Тыя-ж мэтады рэпрэсіяў і перасьледу, толькі ў іншай форме, выкарыстоўваліся ў адносінах да сьведамых беларускіх каталіцкіх сьвятароў – Ст. Глякоўскага, Я. Рэшэця (Рэшаця), М. Пятроўскага, В. Шутовіча ды іншых, якіх каталіцкія духоўныя ўлады Віленшчыны высылалі ў парафіі на этнічна польскіх абшарах[19].

Увосені 1935 году ў сям'ю маладога святара прыйшлі першыя радасьці. У верасьні ў Лапіцкіх нарадзілася дачка Алена (Лёля), а ў кастрычніку таго-ж году а. Мікалай абараніў магістэрскую працу „Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы" і атрымаў навуковую ступень магістра багаслоўскіх навук[20].

Як у свой час у Ашмяне, так і ў Сьцяфанпалі а. М. Лапіцкі бадай адразу здабыў сярод прыхаджан і мясцовага духавенства вялікую пашану й аўтарытэт. І як заўсёды, шмат працаваў. Але тут, у Сьцяфанпалі, было трохі лягчэй, бо падмогай служыла матушка Валянціна:

„Прыход меў многа зямлі й трэба было на ёй умець гаспадарыць. За гэтую справу ўзялася матушка, а а. Мікалай заняўся царквой і прыходзкімі справамі. Тут нарадзіўся ў іх сын Жорж. Айцец Мікалай пачаў будаваць над рэчкаю Дзісною дом для настаяцеля, але ня скончыў – перашкодзіла вайна"[21].

У верасьні 1939 году, пакінутая на волю лёсу саюзнымі дзяржавамі Англіяй і Францыяй, Другая Рэч Паспалітая памірала ў няроўным змаганьні на два фронты. Амаль ад пачатку на акупаваных абшарах Заходняй Беларусі й Заходняй Украіны, а пазьней і Прыбалтыкі бальшавіцкія ўлады распачалі арышты й масавыя дэпартацыі мясцовага насельніцтва ў стэпы Казахстану, на Салаўкі і ў Сібір. У другой палове верасьня 1939 году з трывогай і няўпэўненасьцю ў сям'ю а. М. Лапіцкага прыйшла страшная вестка зь Беласточчыны: у маёнтку Ярылаўка савецкімі „вызваліцелямі" былі забітыя бацькі матушкі Валянціны й яе родны брат

---

[19] J. Garbiński, Wprowadzenie – у кн.: J. Garbiński, J. Turonek, Białoruski ruch chrześcijański XX wieku. Słownik biograficzno-bibliograficzny, Warszawa, 2003, s. XLIV – XLVII.

[20] Гл.: *Wykaz absolwentów Studjum Teologii Prawosławnej z uwzględnieniem dat uzyskania stopnia magistra Św. Teologji oraz święceń kapłańskich*, „Elpis", nr 1 – 2, Warszawa, 1935, s. XXXIV.

[21] Лёля [ Лёля Касоўская], С. п. матушка Валянціна Лапіцкая (1909 – 2000), „Беларуская Думка", № 48, Нью Ёрк – Саўт Рывэр, 2000, б. 32.

Валодзя[22]. Улетку 1941 году саветы меліся дэпартаваць зь Дзісеншчыны ў Сібір і сям'ю а. М. Лапіцкага. Ад высылкі ўратаваў хуткі наступ нямецкіх войскаў напрыканцы чэрвеня таго-ж году.

Як часта парадоксы беларускай гісторыі ўпляталіся ў канкрэтныя людзкія лёсы: і гэтым разам ад усходніх акупантаў „ратавалі" іншыя, больш „цывілізаваныя" – заходнія.

Першыя месяцы нямецкай акупацыі ў Беларусі, прыхільныя адносіны й палітыка новых адміністрацыйных уладаў на чале з гаўляйтэрам В. Кубэ ў беларускім пытаньні абнадзеілі шмат каго зь дзеячаў беларускага незалежніцкага руху. Арганізоўваліся беларускія адміністрацыйныя структуры й школьніцтва, пачалі выходзіць беларускія пэрыёдыкі, распачаў працу нацыянальны тэатр. Поруч з грамадзка-культурным жыцьцём ажывілася й жыцьцё рэлігійнае. Адкрываліся цэрквы, касьцёлы й малітоўныя дамы. Духавенства й вернікі аднаўлялі й арганізоўвалі новыя прыходы й парафіі, наладжваліся багаслужбы. Першая зь іх была адпраўлена ў жніўні 1941 году. Пасьля двух дзесяцігодзьдзяў бальшавіцкага тэрору ў паўсядзённае жыцьцё вярталіся рэлігія, царкоўныя традыцыі й сьвяты.

Тады-ж, увосені 1941 году, беларускім незалежніцкім актывам пры ўдзеле палітыкаў і сьвецкіх рэлігійных дзеячаў быў распрацаваны плян працы па аднаўленьні Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. На яго правядзеньне ў жыцьцё адводзілася адзін-два месяцы. У першую чаргу прадугледжвалася неадкладна зрабіць наступнае:

„1. У цэнтры царкоўнага жыцьця Беларусі – г. Менску павінны знаходзіцца: а) адна вышэйшая царкоўная ўлада; б) якая-б стаяла за скарэйшае правядзеньне аўтакефаліі Беларускай Царквы; в) мела-б перад сабой ясную, здэцыдаваную нацыянальную беларускую лінію й г) праводзіла-б справу арганізацыі Аўтакефальнай Беларускай Царквы здэцыдавана, сыстэматычна, без шавінізму з аднаго боку й нацыянальных ухілаў з другога.

2. Гэта вышэйшая царкоўная ўлада, або адзін вышэйшы яе прадстаўнік павінен мець у помач сабе ў Менску беларускае, здольнае й аўтарытэтнае духавенства для пастырскай працы ў гарадзкіх прыходах і для абняцьця пасадаў у цэнтральных установах Беларускай Мітраполіі, а таксама для выкладаньня прадметаў у багаслоўскіх школах.(...)*.

Усе вышэйпайменаваныя асобы, духоўныя й сьвецкія, з вышэйшай багаслоўскай асьветай, беларусы, маладыя сілы, бо маюць па 27–40

---

[22] Так, прынамсі, да нядаўняга часу лічылі ў сям'і а. М. Лапіцкага. Іншыя зьвесткі падае др Гэлена Глагоўская, беларускі гісторык у Польшчы, якая, спасылаючыся на навочных сьведкаў, сьцьвярджае, што сям'ю Трафімюкоў забілі мясцовыя сяляне (Гл: „Czasopis", № 4, Беласток, 1994).

* Самымі запатрабаванымі асобамі для такой працы ў Менску зь сьвятароў называліся а.а. К. Комар, В. Багаткевіч, А. Майсееў, М. Лапіцкі, А. Несьцяровіч, М. Сеўба, В. Скурко, А. Беляеў, а зь сьвецкіх М. Майсееў, Дз. Агіцкі, М. Бондар. Трох апошніх асобаў з гэтага сьпісу, „як здольных да навуковай працы", плянавалася выкарыстаць у характары прафэсараў багаслоўскіх школ і сакратароў цэнтральных установаў Мітраполіі.

гадоў, сілы самыя здольныя сярод беларускай царкоўнай інтэлігенцыі й самыя папулярныя з добрага боку. Астатняе духавенства, якое займае становішчы, меней надаецца да згоднай, аб'еднанай, інтэнсіўнай, карыснай працы для дабра Сьв. Праваслаўнай Беларускай Аўтакефальнай Царквы.

3. Патрэбна як найхутчэйшае прыбыцьцё з Валыні (Пачаеўская Лаўра) епіскапа Вэніяміна ([Сяргея] Навіцкага), які выбраны, як беларус, на Наваградзка-Баранавіцкую катэдру й якога прыбыцьцё істотна спрычынілася-б да арганізацыі Беларускай Царквы.

4. Неабходна найскарэйшае прыняцьце Статута Беларускай Царквы празь нямецкія ўлады да ведама.

5. Патрэбна неадкладная папулярызацыя ідэй па арганізацыі Аўтакефальнай Беларускай Царквы ў прэсе – існуючай сьвецкай, ці ў спэцыяльнай – царкоўнай. У апошнім выпадку патрэбны друкаваны орган Мітраполіі. Апрача гэтага папулярызацыя ідэі неабходнасьці Аўтакефаліі для Беларускай Царквы й працы духавенства ў нацыянальна-беларускім напрамку для дабра Царквы й Народа павінна весьціся праз асабістую візытацыю благачыній і прыходаў празь епіскапаў, шчыра адданых гэтай ідэі, шчыра адданых сапраўднай карысьці Беларускай Праваслаўнай Царквы й Беларускаму Народу.

6. Патрэбна як найхутчэйшая падгатоўка 200 сьвяшчэньнікаў для ўсёй Мітраполіі, зь якіх 3/4 павінны заняць прыходы на ўсходзе Беларусі. Аднак гэта падгатоўка павінна [весьціся] у здольных беларускіх руках, дзеля якой таксама патрэбны тыя сілы, аб якіх гаварылася вышэй.

7. Неабходны кантроль епіскапамі й іх высланьнікамі працы благачынных і настаяцеляў прыходаў, каб пастырская праца добра вялася ў нацыянальна-беларускім духу.

8. Патрэбна ўсебаковая й належная падрыхтоўка на кананічных падставах да абвешчаньня й дэ юрэ Аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы.

9. Неабходна падняць дысцыпліну сярод духавенства, зарганізаваць органы Епархіяльнай Улады, якія-б праз асабісты кантроль навялі парадак у прыходах, парадак і добрыя адносіны між сьвяшчэньнікамі, адносіны сьвяшчэньнікаў да сваёй улады, кантроль і дысцыплінарны суд над сьвяшчэньнікамі, запляміўшымі званьне сьвяшчэньніка сваімі амаральнымі ўчынкамі, або якія-б правялі духоўны суд над сьвяшчэньнікамі, правініўшыміся падчас бальшавізму, выступаючы проціў Веры й Царквы.

10. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на неадкладную арганізацыю царкоўнага жыцьця ў усходніх епархіях, празь як найскарэйшае замяшчэньне хаця-б галоўных прыходаў у раёнах добрымі беларускімі сьвяшчэньнікамі.

Дзякуючы таму, што Нямецкі Народ (у асобе свайго Вялікага Правадыра Адольфа Гітлера, сваёй непераможнай арміі, сваіх урадоўцаў) стварыў Беларускаму Народу праз асвабаджэньне ад палякаў і бальшавікоў абставіны арганізаваць сваё нацыянальнае жыцьцё так добра, можа як ніколі, беларуская гіерархія й духавенства павінны быць удзячнымі за

гэта й пастарацца зарганізаваць і Беларускую Праваслаўную Царкву так, каб гэта было карысна Беларускай Царкве й шматпакутнаму Беларускаму Народу, а таксама, каб не сорамна было й перад гісторыяй"[23].

Зразумела, што зрэалізаваць такі вялікі плян у поўным маштабе ды яшчэ на працягу аднаго-двух месяцаў, як гэта меркавалася беларускім незалежніцкім актывам, было заданьнем няпростым ды й невыканальным. Перш за ўсё з увагі на невялікі адсотак нацыянальна-сьведамых сьвятароў ды прарасейскую пазыцыю мясцовай царкоўнай гіерархіі й пераважнай большасьці ніжэйшага духавенства ў местах і на беларускай правінцыі. Эйфарыя першых месяцаў неўзабаве адышла на другі плян, а на яе месца прыйшлі расчараваньні й засьцярогі да нямецкай адміністрацыі. Расстрэлы цывільнага насельніцтва, экстэрмінацыя беларускіх габрэяў, канцэнтрацыйныя лягеры, пацыфікацыя беларускіх вёсак, вываз насельніцтва на прымусовую працу ў Нямеччыну – усё гэта прымушала больш асьцярожна, а перад усім, крытычна ацэньваць палітыку й чарговыя дэклярацыі акупацыйных уладаў у рашэньні беларускага пытаньня.

Вайна зьмяніла лёсы й сьвядомасьць шмат каго з колішніх унівэрсытэцкіх калегаў а. М. Лапіцкага, а некаторых зь іх разьвяла па розныя бакі барыкад.

Якім было жыцьцё, рэлігійная ды грамадзкая дзейнасьць а. М. Лапіцкага ў гады Другой сусьветнай вайны? Што чакала нацыянальна-сьведамага сьвятара ў рэаліях тагачаснай рэчаіснасьці? Беларускі незалежніцкі дзеяч І. Касяк, блізкі сваяк а. М. Лапіцкага, успамінае:

„На пачатку жніўня 1941 году, па просьбе сваіх прыхаджанаў, а. Мікалай паехаў разам зь імі абозам у Менск да цэнтральных уладаў, каб адшукаць прыхаджанаў-навабранцаў у савецкую армію, якія маглі быць у палоне ў немцаў. У Менску ён наведаў старшыню Менскай акругі праф. Радаслава Астроўскага, ад якога атрымаў патрэбныя інфармацыі па шуканьні ваеннапалонных беларусаў. Астроўскі запрасіў а. Мікалая пераехаць у Менск для працы пры адбудове Беларускай Праваслаўнай Царквы, зьнішчанай поўнасьцю бязбожнай бальшавіцкай уладай.

У хуткім часе а. Мікалай прыехаў у Менск для працы на царкоўнай ніве. Старшыня Астроўскі прадставіў яго ў Генэральным Камісарыяце Беларусі, дзе за подпісам Генэральнага Камісара Вільгельма Кубэ было выдадзена а. Мікалаю пасьведчаньне, упаўнаважваючае яго для дзейнасьці па адбудове Беларускай Праваслаўнай Царквы на Беларусі.

Па прыбыцьці ў Менск епіскапа Венэдыкта (Бабкоўскага) старшыня Астроўскі прадставіў яго й рэкамэндаваў мітрапаліта Панцялеймана Генэральнаму Камісару Беларусі як кіраўнікоў для Беларускай Праваслаўнай Царквы, што й было сьцьверджана адпаведным пісьмовым упаўнаважаньнем В. Кубэ. Айцец Мікалай быў прыдзелены для службы ў Кацярынінскай (жоўтай) царкве.

---

[23] Плян працы па арганізацыі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы: Архіў Епіскапату БАПЦ (1941–1946). Перахоўваецца ў архіве БІНіМа (Нью Ёрк, ЗША).

Для палагоджаньня патрэб Сьцяфанпальскага прыходу а. Мікалай паехаў туды самаходам. У гэтым часе па лясох Беларусі ўжо хадзілі збройныя савецкія партызаны, перакінутыя з Расеі на парашутах, якіх людзі зрэдку бачылі. На дарозе каля Вялейкі шофэр сьцьвердзіў, што дзераўлянага паліва ня хопіць для газа-гэнэратара да канца дарогі. Тады яны паехалі за „чуркамі" ў лес каля вёскі Мамаі й пачалі іх набіраць. Трох маладых савецкіх партызанаў акружыла іх з аўтаматамі й абшукала. Ад а. Мікалая яны забралі ўпаўнаважаньне на нямецкай мове за подпісам Генэральнага Камісара Кубэ. Старшы партызан доўга аглядаў гэту паперу, але, прыпушчальна, ня мог яе прачытаць і забраў з сабой. Затрыманых партызаны выпусьцілі, сказаўшы, каб нікому не гаварылі аб гэтым здарэньні, бо іх людзі ёсьць усюды і іх усюды знойдуць.

Прыехаўшы на прыход у Сьцяфанпаль а. Мікалай на другі дзень паехаў у горад Дзісну, каб даведацца аб стане мясцовага беларускага арганізаванага жыцьця. Прыхаджане паведамілі яго, што мясцовыя палякі ўсюды забіралі ў свае рукі адміністрацыю й паліцыю пад нямецкім кіраўніцтвам ды мардавалі беларусаў актывістых. Айцец Мікалай зайшоў да Лупчонка, ведамага яму беларуса, каманданта мясцовай паліцыі. Прывітаўшыся, гэты камандант адразу сказаў, што мае загад арыштаваць а. Мікалая й даставіць яго ў нямецкую жандармэрыю, як абвінавачанага ў супрацоўніцтве з бальшавікамі. Шчасьцем для арыштаванага было, што камандант даў канваіраў беларускіх паліцэйскіх. Калі яны вялі арыштаванага берагам ракі Дзісны, то там ужо ляжаў застрэлены польскімі паліцэйскімі ведамы беларускі дзеяч Кузьма Крук, нібы таму, што ён уцякаў ад паліцэйскіх.

Зь Дзісны а. Мікалая перавезьлі ў горад Глыбокае й перадалі ў СД (нямецкая палітычная паліцыя). Паведамленая матушка Валянціна ўвесь час ехала возам за арыштаваным сьвятаром, каб дапамагаць яму ў патрэбе, а перад усім запабегчы забойству. СД правяло сьледзтва, дапытываючы а. Мікалая, пасылала сваіх службоўцаў у вёску Грэлікі, дзе жылі бацька й родныя арыштаванага, сьцьвердзіла беспадстаўнасьць абвінавачаньня й пасьля чатырох тыдняў увязьненьня выпусьціла а. Мікалая на волю"[24].

У такіх няпростых варунках ішла адбудова рэлігійнага жыцьця, не ў апошнюю чаргу дзякуючы вялікай волі й самаахвярнасьці тых, хто ініцыяваў аднаўленьне БАПЦ у гады Другой сусьветнай вайны.

Пасьля ўсяго пражытага а. М. Лапіцкі зь сям'ёй настала пераехаў у Менск, дзе служыў настаяцелем у Чыгуначнай царкве й браў удзел у працы Часовай Мітрапалітальнай Управы Беларускай Праваслаўнай Царквы. Пазьней быў абраны сябрам Менскай Духоўнай Кансісторыі. Працаваў законавучыцелем у пачатковых і сярэдніх школах у Менску, а яшчэ, не зважаючы на пагрозу расстрэлу, ратаваў габрэйскае насельніцтва. Прыводзіў да прысягі батальёны Беларускай Краёвай Абароны.

[24] І. Касяк, Протапрэсьвіцер Мікалай Лапіцкі – у кн.: М. Лапіцкі, Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы. Пераклаў з польскай мовы і падрыхтаваў да друку а. Сьвятаслаў Коўш, Нью Ёрк, 1978, бб. 8 – 9.

Арганізатарскія здольнасьці а. М. Лапіцкага выявіліся пры пабудове новай праваслаўнай царквы на Козыраве ў Менску. Разам з а. І. Кушнерам ён актыўна ўдзельнічаў у працах Перадсаборнай Камісіі. Айцец М. Лапіцкі быў адным зь ініцыятараў зарганізаваньня й правядзеньня Ўсебеларускага Царкоўнага Сабору (30 жніўня – 2 верасьня 1942 г.), які паставіў на парадак дня справу аднаўленьня аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы[25].

Трэба аднак памятаць, што ідэя арганізацыі (аднаўленьня) Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі ад пачатку мела ня толькі прыхільнікаў. Яе апанэнты падкрэсьлівалі, што аўтакефалія Беларускай Праваслаўнай Царквы – гэта „нямецкі замысел", які пярэчыць вялікарускаму праваслаўю[26]. А таму ў барацьбе зь беларускім праваслаўным актывам і духоўнікамі-аўтакефалістамі расейцы выкарыстоўвалі ўсе магчымыя сродкі, уключна з правакацыямі, фальшывымі даносамі да акупацыйных уладаў і фізычнай ліквідацыяй найбольш актыўных дзеячаў і сьвятароў. Ва ўсім гэтым мелі шырокую падтрымку зрусыфікаванай часткі беларускага духавенства. З такой пэрспэктывы больш зразумелай бачацца сёньня справы нявысьветленых да канца забойстваў а. А. Каўша й а. І. Кушнера. У першым выпадку, як вядома, прыхільнікі вялікарускага праваслаўя выкарысталі немцаў, а ў другім – зробленае „прыпісалі" савецкім партызанам, відаць яшчэ ў Менску замінаваўшы машыну, у якой а. І. Кушнер меўся выехаць у Ракаў. Гэта была яшчэ адна вайна – вайна ў вайне.

Прарасейскія тэндэнцыі й арыентацыі гіерархаў і часткі духавенства БАПЦ не маглі застацца не заўважанымі для нямецкіх уладаў, а таксама беларускага незалежніцкага актыву. У інфармацыйна-аналітычных рапартах, падрыхтаваных штабным упраўленьнем шэфа паліцыі бясьпекі й СД у сакавіку – чэрвені 1942 году ў Бэрліне на падставе апэрацыйных матар'ялаў, паведамлялася, што хоць Праваслаўная Царква ў Беларусі і ўяўляе сабой традыцыйную мясцовую царкву, яна аднак пераважна зрусыфікаваная й знаходзіцца пад расейскім уплывам, а ў заходніх абласьцях змагаецца з польскімі ўплывамі Рыма-каталіцкай Царквы[27]. Адначасна зьвярталася ўвага на тое, што гіерархіяй і духавенствам Беларускай Праваслаўнай Царквы ігнараваліся дырэктывы нямецкай цывільнай адміністрацыі ў справе беларусізацыі царкоўнага жыцьця:

„Розныя падзеі й выказваньні ў Беларускай Нацыянальнай Царкве пераканаўча пацьвярджаюць той факт, што мітрапаліт Панцялейман і яго атачэньне спрабуюць перашкодзіць беларусізацыі зрусыфікаванай Беларускай Праваслаўнай Царквы. Гэтыя расейцы мелі магчымасьць

---

25 Гл.: N. Teodorovich, *The Belorussian Autocephalous Orthodox Church* (in): *Religion in the USSR*. Institute for the Study of the USSR. Munich, 1960, series I, No 59, pp. 70 – 75.

26 Гл.: Дакуманты № 134 – 135 – у кн.: М. В. Шкаровский, Политика Третьего рейха по отношению к Русской Православной Церкви в свете архивных материалов: 1935 – 1945 годов. Сборник документов, Москва, 2003, сс. 272 – 288.

27 Дакумант №135, op. cit.

напачатку зьбірацца перад усім у Беларускай Аўтакефальнай Нацыянальнай Праваслаўнай Царкве, пасьпяхова яе выкарыстоўваючы, што ў пэўным сэнсе дазволіла ім перайграць цывільную адміністрацыю. [...]

Менск падтрымоўвае сувязі з расейскімі цэнтрамі ў Варшаве, Гародні, Вільні, Пінску, Рызе перш за ўсё праз епіскапа Венэдыкта, які мае сваё месцапрабываньне па-за Беларусьсю (Гародня) і зьяўляецца руплівым расейскім арганізатарам і пасыльным. Неаднаразова рабіліся спробы спыніць гэтыя сувязі-кантакты, але, на жаль, не заўсёды можна было гэта зрабіць пасьпяхова, бо сьвятары прыязджалі ў Менск з дазволам на ўезд. [...]

Акрамя мітрапаліта Панцялеймана, чыя прарасейская палітыка й царкоўная пазыцыя не выклікаюць ніякага сумніву, з боку зрусыфікаванага беларускага праваслаўнага духавенства ў якасьці каардынатара й рухаючай сілы расейскага праваслаўнага царкоўнага разьвіцьця пастаянна называецца былы намесьнік Сергія з Масквы мітрапаліт Сергій, які цяпер рэзыдуе ў Вільні, а раней жыў у Рызе. Сергій неаднойчы спрабаваў усталяваць кантакты з Панцялейманам, каб мець магчымасьць умешвацца ў працэс арганізацыі Аўтакефальнай Нацыянальнай Беларускай Праваслаўнай Царквы.[...] Сергій імкнецца уплываць на Панцялеймана, каб затамаваць далейшае разьвіцьцё й арганізацыю Нацыянальнай Беларускай Царквы"[28].

Адной з прычынаў такой цяжкой сытуацыі ў „Беларускай Аўтакефальнай Нацыянальнай Праваслаўнай Царкве", як падкрэсьлівалі аўтары гэтых інфармацыйна-аналітычных рапартаў, была адсутнасьць адпаведнай колькасьці нацыянальна-сьведамых беларускіх праваслаўных сьвятароў.

Вось так, далёка неаптымістычна, у сьвятле нямецкіх апэрацыйных матар'ялаў выглядала на пачатку лета 1942 году справа арганізацыі (аднаўленьня) Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Праз тры месяцы ў Менску адбыўся Ўсебеларускі Царкоўны Сабор (30 жніўня – 2 верасьня 1942 г.), на якім быў прыняты Статут БАПЦ й фактычна адноўлена яе аўтакефалія. Але й пасьля Сабору русыфікатарская дзейнасьць паасобных іерархаў і духоўных БАПЦ не спынілася й мела далейшы, драматычны працяг. Сваё лягічнае завяршэньне яна атрымала ў лютым 1946 году, калі епіскапат БАПЦ перайшоў у Расейскую Праваслаўную Зарубежную Царкву.

Тымчасам пастановы й рашэньні, прынятыя ў верасьні 1942 году на Ўсебеларускім Царкоўным Саборы ў Менску, не знаходзілі свайго выяўленьня ў канкрэтных справах. Толькі праз восем месяцаў, у адпаведнасьці з пастановай Сабору Епіскапаў ад 20 красавіка 1943 году, былі нарэшце падрыхтаваны на беларускай мове лісты (зь нямецкім перакладам кожнага) да галоўных іерархаў Праваслаўных Аўтакефальных Цэркваў у сьвеце. У іх выказвалася просьба прызнаць аўтакефалію Беларускай Праваслаўнай Царквы. Лісты мелі атрымаць наступныя

[28] Ibidem, c. 286.

асобы: патрыярх Канстантынопальскі Вэніямін – у Канстантынопалі-Стамбуле (Фанар); патрыярх Александрыйскі Хрыстафор – у Александрыі (Егіпет); патрыярх Анціяхійскі Аляксандр – у Дамаску; патрыярх Ерусалімскі Цімафей – у Ерусаліме; патрыярх Румынскі Нікадзім – у Бухарэсьце; патрыярх Сэрбскі Гаўрыіл – у Белградзе; мітрапаліт Варшаўскі Дыянісій – у Варшаве; мітрапаліт Афінскі Хрысанф – у Афінах; мітрапаліт Сафійскі Стэфан – у Сафіі; мітрапаліт Маскоўскі Сергій – у Маскве й мітрапаліт Анастасій – у Белградзе[29].

Спробы беларускага незалежніцкага актыву й нацыянальна-сьведамых сьвятароў, у прыватнасьці а. М. Лапіцкага й а. І. Кушнера, яшчэ тут, на Беларусі, спыніць русыфікатарскія тэндэнцыі ў вышэйшых уладах БАПЦ, на жаль, не далі чаканых вынікаў.

Уся складанасьць становішча, у якім апынулася БАПЦ, знайшла неўзабаве сваё асьвятленьне ў аналітычным рапарце „Русыфікатарская праца ў Беларускай Царкве"[30], які ў чэрвені-ліпені 1943 году ў Менску апрацаваў, як можна меркаваць, І. Касяк у супрацы з а. М. Лапіцкім і а. І. Кушнерам. У рапарце паведамлялася:

„Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква сягоньня па складу гіерархічна-адміністрацыйнага апарату, па яго нацыянальным настаўленьні ўстабілізавалася як расейская, з моцным антыбеларускім характарам, і як такая праяўляе актыўную дзейнасьць. Сэнс гэтага той, каб і праз царкву ўтрымаць лучнасьць абшараў былой „адзінай-недзялімай" матушкі Расеі.

Аб гэтым сьведчаць далучаныя лісты. Стараюцца закулісна ўплываць у гэтым кірунку на Беларускую Царкву расейскія мітрапаліты – Сяргей Рыскі й Віленскі ды Серафім Берлінскі. Як чырвоны, так [і] белы расейскія мітрапаліты клапоцяцца аб непадзельнасьці Расеі. Мітрапаліт Рыскі Сяргей, прысланы бальшавікамі ў 1940 годзе ў Прыбалтыку, як заядлы расеец, для русыфікацыі і ўтрыманьня ў бальшавіцкай паслухмянасьці духавенства й вернікаў, сягоньня ўтрымлівае той самы расейскі дух „адзінай-недзялімай Расеі", а нават, як гэта сьцьвярджае ліст сьвяшч. расейца Іванкевіча да сьвяшч. расейца Балая з дн. 12.3.1943 г. робіць патаемныя захады ў гіерархіі Беларусі, каб перашкодзіць аўтакефаліі Беларускай Царквы, каб не парываць лучнасьці з Расейскай Маскоўскай Царквой. Калі гэта не ўдалося, то ён загадвае лічыць Беларускую Царкву праклятай і забараняе на абшары сваёй юрысдыкцыі служыць сьвяшчэньнікам Беларускай Аўтакефальнай Царквы, хочучы такой прэсыяй уплынуць на клір Беларусі. Сам-жа ён уважае й цяпер сваю Царкву за залежную ад Масквы, ад Маскоўскага Экзархату так, як гэта загадалі яму яшчэ бальшавікі, пасылаючы ў Прыбалтыку.

Аб кантакце гіерархіі Беларускай Царквы з расейцам, Берлінскім мітрапалітам Серафімам, сьведчыць паштоўка, напісаная 27.5.1943 г.

---

[29] Архіў Епіскапату БАПЦ (1941–1946). Перахоўваецца ў архіве БІНіМа (Нью Ёрк, ЗША).
[30] „Русыфікатарская праца ў Беларускай Царкве": Архіў Епіскапату БАПЦ (1941–1946). Перахоўваецца ў архіве БІНіМа (Нью Ёрк, ЗША).

расейскай фірмай „Производство русских знаков отличия в Берлине" расейцу, сьвяшч. Балаю. Маскуючы справу нібы перасылкай крыжыкаў, якія ўзапраўднасьці вырабляюцца і ў Менску, абгаворваецца справа кантакту расейскага духавенства ў Берліне зь менскім для іх супольнай мэты. Вонкавыя расейскія чыньнікі знаходзяць добры адгалосак сваім імкненьням у пануючай сёньня гіерархіі й царкоўнай адміністрацыі Беларускай Царквы. Антаганізм, існуючы паміж мітрапалітам Беларусі Панцялейманам і кіруючым архіепіскапам Філафеем, базуецца на падставе выключна асабістай – [барацьбе] за ўладу. Па зьместу працы абодва яны, карыстаючы зь небывалых паўнамоцтваў у адміністраваньні Царквой, дадзеных нямецкімі ўладамі, утрымліваюць яе расейскі характар, пакінуты бальшавікамі. Так усе благачынныя маскалі, якіх устанавілі бальшавікі, хаця часта неадукаваныя, сягоньня падтрымліваюцца імі абоімі й не замяняюцца беларускімі акадэмікамі, хаця аб гэтым прасіла беларускае грамадзства. Высьвечана больш 130 зацятых неадукаваных маскалёў у сьвяшчэньнікі, а не арганізавана навучаньне беларускіх кандыдатаў. Курсы праводзіліся толькі для змыльваньня фактычнай работы, бо выйшла зь іх толькі каля 11 (?) духоўнікаў.

Цяпер 7.7.1943 г. яны хочуць высьвяціць у епіскапы Беларусі зацятага маскаля з Бранску Паўла, які ніколі нічога супольнага ня меў зь беларускасьцю і мець ня хоча, а будзе добрым русыфікатарам Беларусі. Тымчасам ёсьць лепшыя кандыдаты ў епіскапы, беларусы: акадэмік Дземьячонак і сьвяшч. Баслык Астап. Але маскальская гіерархія думае толькі аб умацаваньні расейскіх пазыцыяў у Беларускай Царкве.

У Менску яны стараюцца ўтрымаць той самы расейскі дух. Сюды сьцягнулі пераважна цёмнае, неадукаванае духавенства, якое зьяўляецца паслухмяным выканаўцам іх волі. Усімі справамі ў Менску запраўляе расеец сьвяшч. Балай, які мае шырокія карэспандэнцыйныя прыватныя зносіны, а таксама [вядзе іх] празь Беларускую Самапомач ня толькі з акругамі Беларусі, але нават з расейцамі ў Берліне. Празь яго выконвае сваю волю ўсё расейскае духавенства, зь якім Балай быў шчыльна зьвязаны праз увесь час сваей працы.

Сьвяшч. Юльян – расеец, без адукацыі. Сьвяшч. Кур'ян – без адукацыі, пры бальшавіках кінуў служыць у царкве і быў забаронены ў сьвяшчэннаслужэньні, нязвольнены ад забароны, што абурае агул веруючых. Але як паслухмяны чалавек і інфарматар, [ён] быў запрошаны арх. Філафеем на працу ў Менск. Сьвяшч. Брукін – стары расеец. Сьвяшч. Багалец – расеец, без адукацыі. Сьвяшч. Скабей – малады беларус, без адукацыі, паслухмянае арудзьдзе. У апошніх днях арх. Філафей сьцягнуў у Менск на працу свайго швагру – сьвяшч. Шашка, без духоўнай асьветы. На гэту колькасьць духавенства ў Менску ёсьць толькі адзін акадэмік – сьвяшч. Лапіцкі, якому арх. Філафей часта прыпамінае, што ён яго вышле зь Менску, а дзеля гэтага ён павінен быць паслухмяным усім пажаданьням арх. Філафея [падкрэсьлена намі. – Ю.Г.].

Дня 27.6.1943 г. у мітр. Панцялеймана й арх. Філафея была дэлегацыя паветавых начальнікаў з Глыбокага, якая прасіла выдаліць зь Менску сьвяшч. Балая, як шкоднага Беларускай Царкве, якога яны ведаюць як ворага беларушчыны й зацятага маскаля, і які пры Польшчы ладзіў спэцыяльны палянізацыйны курс. На гэта мітр. Панцялейман і арх. Філафей сказалі, што ў такім выпадку яны выдаляць зь Менску беларускіх сьвяшчэньнікаў Лапіцкага й Кушнера, а возьмуць саўсім новых. Так яны хочуць у Менску зрабіць выключна расейскі адміністрацыйны апарат.

Але існуючая расейская гіерархія з расейскімі благачыннымі ня толькі ўтрымлівае расейскі характар Царквы, але актыўна перасьледуе духоўнікаў-беларусаў. У той час, калі маскаль сьвяшч. Балай, без адукацыі, мае аж два прыходы (у Глыбоцкай акрузе і ў Менску, каб спраўней весьці русыфікацыйную работу), то беларус-акадэмік, сьвяшч. Пыск цэлымі паўгодзьдзямі сядзіць бяз працы, ня маючы чым нават карміць сваіх 5 малых дзяцей і пасылаецца арх. Філафеем пад пагрозай забароны ў сьвяшчэннаслужэньні ў далёкі небясьпечны прыход, як на сьмерць, бо сям'і ён і так туды ня зможа перавезьці. Так арх. Філафей пазбаўляе народ добрага прапаведніка, злоўжываючы небывалай воляй, якую цяпер мае духоўная адміністрацыя. Сьвяшч. Пазьняка, беларуса-акадэміка, таксама скуець маскальскае духавенства ў Глыбоцкай акрузе, стараючыся выкінуць з працы. Сьвяшч. Бягун, энергічны беларус, сядзіць амаль бяз працы ў той час, як стары 80-гадовы маскаль Ігнатовіч затрымлівае вялікі двухклірны прыход. Сьвяшч. Старыкевічу, беларусу, нашы гіерархі зусім забаранілі служыць. Таксама выгрызаюць і перакідваюць у горшыя прыходы сьвяшч. Стахо[ў]скага, беларуса ды іншых. Духавенства шмат якіх акругаў гавора пропаведзі й вядзе справаводзтва па-расейску, а арх. Філафей зь мітр. Панцялейманам толькі прыкрыва[юць] гэтыя факты.

Без прызначэньня сьведамага беларуса на рэфэрэнта царкоўных справаў (ці пры Генэральным камісарыяце, ці пры мітрапаліце) не прыпыніць русыфікацыйнай работы маскалёў у Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве"[31].

Спыніць расейскія тэндэнцыі ў царкоўных структурах БАПЦ, на думку аўтараў рапарту, магла-б хуткая й мэтанакіраваная рэалізацыя наступных заданьняў:

„1. Аформіць аўтакефалію Беларускай Царквы ў найбліжэйшым часе, урачыста абвесьціўшы аўтакефальнасьць.

2. Рэарганізаваць і беларусізаваць адміністрацыйны апарат:

а) арганізаваць Мітрапалітальнае Ўпраўленьне ў Менску, запрасіўшы на сяброў: сьвяшч. М. Лапіцкага, Н. Пыска й А. Несьцяровіча;

б) арганізаваць Епархіяльнае Ўпраўленьне ў тых епархіях, дзе яны яшчэ не сарганізаваныя (Віцебская, Магілёўская) і рэарганізаваць ужо

---

[31] Ibidem, бб. 2–3.

існуючыя, выдаліўшы зь іх расейцаў па ідэалёгіі (сьвяшч. Балай у Менскай і інш.);

в) высьвеціць у епіскапы для неабсаджаных епархіяў кандыдатаў беларусаў (мгр. Дземьячонак і Баслык Астап);

г) зьмяніць благачынных расейцаў або асобаў з расейскай ідэалёгіяй на знаных беларусаў.

3. Прыпыніць цкаваньне сьвяшчэньнікаў-беларусаў (Пазьняк, Пыск, Бягун, Стахоўскі, Старыкевіч і інш.) і даць перавагу сьвяшчэньнікам-беларусам:

а) перавесьці сьвяшчэньнікаў-расейцаў па паходжаньні або па ідэалёгіі з прыходаў, знаходзячыхся ў адміністрацыйных цэнтрах, у сельскія, замяняючы іх беларусамі;

б) прыпыніць высьвячэньне ў сьвяшчэньнікі неадпаведных расейцаў, а высьвячаць толькі беларусаў.

4. Арганізаваць навучаньне беларускага духавенства:

а) адчыніць у Менску Духоўную Сэмінарыю;

б) адчыніць у меру патрэбы, як часовае мерапрыемства, пастырскія курсы й псаломшчыцкія ў паасобных епархіях;

в) для сьвяшчэньнікаў, няведаючых беларускай мовы, правесьці адпаведныя курсы з абавязковым экзаменам, зложаным у слове й пісьме перад камісіямі, у склад якіх увойдуць прадстаўнікі школьных уладаў.

5. Рэарганізаваць душпастырскую працу:

а) паставіць на адпаведны ўзровень справу пропаведзі ў цэрквах, праводзячы іх у абавязковым парадку ў беларускай мове;

б) навучаць дзяцей Закону Божаму па-беларуску;

в) ладзіць пэрыядычныя місіянерскія зьезды духавенства па благачыніях і епархіях;

г) арганізаваць адпаведныя бібліятэкі пры епархіях і благачыніях;

д) узьняць узровень благалепнасьці сьвятыняў (рамонты) і багаслужэньня (хор, інвентар і інш.).

6. Арганізаваць рэлігійна-ўзгадаваўчыя згуртаваньні вернікаў пры сьвятынях (брацтвы).

7. Арганізаваць выданьне й пашырэньне духоўнай літаратуры ў беларускай мове:

а) пэрыядычныя (аднаднёўкі, календары, епархіяльныя лісткі й інш.);

б) непэрыядычныя (маліцьвеньнікі, падручнікі Закону Божага, Евангельлі, малітвы й інш.);

в) выданьне або спраўджэньне сьв. абразоў.

8. Арганізаваць матар'яльную гаспадарку царквы:

а) даход царквы ад даходу кліра, і праводзіць адналіты ўлік гэтых даходаў (кнігаводзтва);

б) выконваць працу згодна зацьверджанаму гадавому бюджэту (мітраполіі, епархіі, па асобнаму прыходу), ліквідуючы безгаспадарнасьць;

в) арганізаваць прадпрыемствы вырабу царкоўных матар'ялаў (сьвечкі, крыжыкі, царкоўнае віно й інш.) пры Епархіяльных Управах, забіраючы ўжо існуючыя ад прыватных духоўных асобаў;

г) арганізаваць пры Епархіяльных Управах склады царкоўных матар'ялаў (сьвечкі, крыжыкі й царкоўнае віно ды інш., ліквідуючы спэкуляцыю)"[32].

Нямецкія ўлады ў Бэрліне й на месцах, занепакоеныя разьвіцьцём сытуацыі ў БАПЦ, імкнуліся мацней заангажавацца ў справу беларусізацыі царкоўнага жыцьця на акупаванай тэрыторыі Беларусі й падтрымаць беларускі незалежніцкі актыў. 1 чэрвеня 1944 году фон Мільвэ-Шродэн, кіраўнік Усходняга міністэрства па пытаньнях культуры, у службовым лісьце да сваіх падначаленых пісаў:

„Факты пераканаўча сьведчаць пра тое, што пераважная большасьць праваслаўнага духавенства на Беларусі настроена ў расейскім духу. З гэтай прычыны справа падрыхтоўкі беларускай нацыянальна-зарыентаванай іерархіі сутыкаецца зь перашкодамі. Пасьпяховае яе вырашэньне магчымае, але толькі пры ўмове, што зь нямецкага боку будзе праяўлена ініцыятыва ў рэлігійным пытаньні. Але гэта пярэчыла-б раней прынятым палітычным дырэктывам. Асабіста лічу, што такая ініцыятыва з нашага, нямецкага боку, у царкоўным пытаньні проста неабходная. У гэтай справе я зьвяртаўся ўжо да обергруппэнфюрэра [Готтберга. – Ю. Г.]. Адказу яшчэ няма. У справе беларускіх падручнікаў я атрымаў неабходныя распараджэньні й пацьверджаньні"[33].

27 чэрвеня 1944 году ў Менску адбыўся Другі Ўсебеларускі Кангрэс, у якім, як дэлегат ад духавенства БАПЦ, браў удзел і а. М. Лапіцкі. Тымчасам наступ савецкіх войскаў на пачатку ліпеня перакрэсьліў новыя ініцыятывы беларускага незалежніцкага актыву й нямецкіх уладаў у справе рэарганізацыі беларускага царкоўнага жыцьця. Зь епіскапатам і часткай духавенства БАПЦ эвакуавалася на Захад і сям'я а. М. Лапіцкага: першапачаткова – у Чэхію, а пазьней – у Нямеччыну[34]. Тады наўрад ці думалася, што вярнуцца на Бацькаўшчыну ўжо не давядзецца.

Няпросты лёс чакаў родных а. М. Лапіцкага, якія засталіся на Беларусі. Яго бацьку, Сьцяпана Лапіцкага, савецкія ўлады напрыканцы 40-х гадоў пазбавілі ўласнай гаспадаркі й сваёй хаты, выгнаўшы паміраць на вуліцы. Недзе паміж Вялейкай і Менскам згубіліся сьляды сясьцёр Ніны й Настулі. Юзік, малодшы брат а. М. Лапіцкага, пасьля чарговага „вызваленьня" Беларусі ў ліпені 1944 году быў змабілізаваны ў савецкае войска й кінуты пад Кёнігсберг, дзе й загінуў у адным з баёў. Ня менш драматычна склалася жыцьцё малодшага брата а. М. Лапіцкага – Валодзі, які

---

32 Ibidem, б. 3.

33 Гл.: Дакумант № 136 – у кн.: М. В. Шкаровский, Политика Третьего рейха по отношению к Русской Православной Церкви в свете архивных материалов: 1935–1945 годов. Сборник документов, Москва, 2003, сс. 287–288.

34 Архіў Епіскапату БАПЦ (1941–1946). Перахоўваецца ў архіве БІНіМа (Нью Ёрк, ЗША).

служыў у польскім войску. У верасьні 1939 году ён браў удзел ваенных дзеяньнях. Трапіў у палон. Прайшоў савецкія лягеры. Потым ваяваў на баку аліянтаў у II корпусе генэрала Ул. Андэрса. Удзельнічаў у баях супраць нямецкіх войскаў фэльдмаршала Ромеля ў Паўночнай Афрыцы й пад Монтэ Касіна. У палове 50-х гадоў выехаў у ЗША, дзе й памёр. Ксенія Грышкевіч, старэйшая сястра сьвятара, была арыштавана савецкімі ўладамі. Знаходзілася ў Вялейскай турме, дзе ў лютым 1945 году памерла ад тыфусу[35].

Пра ўсё гэта аднак стане вядома значна пазьней – на эміграцыі ў ЗША.

Першыя некалькі месяцаў Лапіцкія жылі пры Беларускім Епіскапаце ў курортнай мясцовасьці Францэсбад. Капітуляцыя Нямеччыны ў травені 1945 году й пагроза прымусовай рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз змусілі вышэйшыя царкоўныя ўлады й духавенства БАПЦ пераехаць у Амэрыканскую акупацыйную зону й асталявацца ў Тырсгайме (Баварыя). Пазьней у сваіх успамінах пра той час арх. Апанас, адзін зь іерархаў БАПЦ, пісаў:

„Пасьля чатырохмесячнага туляньня, ня маючы сталага месца жыхарства, мы атрымалі ў сваё распараджэньне вялікі зручны дом у два паверхі ў гарадку Тырсгайм. Уладкавала нас туды УНРРА (Міжнародная арганізацыя Дапамогі перамешчаным асобам). Яна-ж выдала нам і харчаваньне. Зь нямецкай эканомікай мы справаў ужо ня мелі. За выключэньнем адзінага – зьбіралі ў навакольным лесе нямецкія грыбы"[36].

У Тырсгайме, такім чынам, апынулася шэсьць епіскапаў БАПЦ на чале зь мітрапалітам Панцялейманам, некалькі протаіерэяў зь сем'ямі, а таксама групка цывільных асобаў з атачэньня арх. Венэдыкта[37]. Тут, 10 сакавіка 1945 году адбыўся першы на эміграцыі Сабор епіскапаў БАПЦ. На ім разглядалася пытаньне далейшай арганізацыі й структурна-адміністрацыйнага афармленьня Беларускай Праваслаўнай Царквы на Беларусі, а таксама справа царкоўна-кананічнага статусу БАПЦ. Удзельнікі Сабору прыйшлі да высновы, што канчатковае вырашэньне гэтых пытаньняў магчымае толькі пасьля заканчэньня вайны й тады, калі будзе акрэсьлена палітычнае становішча Беларусі ў паваеннай Эўропе[38]. Там-жа, на Саборы, было пастаноўлена, што епіскапы БАПЦ павінны прадаўжаць сваю архіпастырскую працу й сумесна з духавенствам апекавацца беларускімі вернікамі, якія знаходзяцца ў межах Нямеччыны. Час аднак паказаў, што гэтая апошняя пастанова праводзілася ў жыцьцё непасьлядоўна.

І на бацькаўшчыне, і на эміграцыі а. М. Лапіцкі любіў паўтараць: „Там, дзе двох, – там царква". Таму і тут, у Нямеччыне, ён адразу-ж узяўся

---

35 Рэляцыя Рагнеды Аляхновіч, дачкі Ксеніі Лапіцкай-Грышкевіч ад 15 сьнежня 2003 году (Менск, Беларусь).

36 Архіепіскап Апанас, На ніве Хрыстовай. У пяцідзесятыя ўгодкі сьвятарства: 1928 –1978. Успаміны, Нью Ёрк – Менск – Варшава, 2005. Машынапіс, с. 59.

37 Ibidem.

38 Архіў Епіскапату БАПЦ (1941 – 1946). Перахоўваецца ў архіве БІНІМа (Нью Ёрк, ЗША).

за зарганізаваньне праваслаўнага прыходу й пабудову беларускай царквы ў Рэгэнсбургу, якія сталіся першымі царкоўнымі інстытуцыямі ў паваеннай гісторыі беларускай эміграцыі. Трэба адзначыць і тое, што менавіта ў Рэгэнсбургу закладваўся й трывалы фундамант пад ідэю адбудовы Беларускай Праваслаўнай Царквы на чужыне ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярхату.

Увесну 1946 году была завершана пабудова беларускай царквы ў Рэгэнсбургу, якую высьвецілі ў гонар апякункі беларускай зямлі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Цікавы й знамянальны факт: культ Сьв. Еўфрасіньні Полацкай на эміграцыі, як успамінае беларуская культурная й грамадзкая дзеячка Зора Кіпель, пазнавалі менавіта праз а. М. Лапіцкага. Яго „каньком" у Беларускай Гімназіі ў Міхэльсдорфе быў курс лекцыяў пад назвай „Сьв. Еўфрасіньня – патронка Беларусі", які чытаўся вучням у рамках гімназіяльнай праграмы па навучаньню рэлігіі[39].

5 траўня 1946 году ў Рэгэнсбургу адбыўся Першы Зьезд Праваслаўных Беларусаў з Амэрыканскай, Ангельскай ды Францускай зонаў Нямеччыны. Яго скліканьне зарганізавала ініцыятыўная група беларускага царкоўнага актыву, у якую ўвайшлі а. М. Лапіцкі, Ю. Віцьбіч, М. Ігнатовіч, Хв. Шыбут, І. Касяк, Н. Арсеньнева, А. Асіпчык й М. Сяднёў. Напачатку былі прачытаны два рэфэраты царкоўна-гістарычнага характару й заслуханы інфармацыі а. М. Лапіцкага, Хв. Ільляшэвіча й В. Войтанкі пра беларускае царкоўнае жыцьцё ў трох акупацыйных зонах – Амэрыканскай, Ангельскай і Францускай. Потым са справаздачай выступіў Юрка Віцьбіч, рэдактар беларускага царкоўна-грамадзкага часапісу „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі". Ад епіскапату БАПЦ на зьезьдзе прысутнічалі арх. Філафей і еп. Апанас, якія ўжо напачатку падкрэсьлілі, што яны могуць прысутнічаць выключна ў характары гасьцей. Зь бягучых справаў разглядаліся: а) арганізацыя рэлігійнага жыцьця на чужыне; б) Праваслаўнае Беларускае Аб'еднаньне; в) Адозва да беларусаў на чужыне; г) Ліст да Прэзыдэнта ЗШПА Трумэна.

На зьезьдзе было запрапанавана ўтварыць рэлігійную арганізацыю, якая садзейнічала-б зарганізаваньню рэлігійнага жыцьця праваслаўных беларусаў на эміграцыі. Пасьля зацьверджаньня назвы арганізацыі як „Беларускае Праваслаўнае Аб'еднаньне" (БПА) удзельнікі зьезду прыступілі да выбараў яго кіраўніцтва – Тымчасовага Ўраду БПА:

„Разгарнулася шырокая дыскусія ў сувязі з падачай кандыдатаў – арх. Філафея й еп. Афанасія, якія пакуль што адмовіліся прыняць кандыдатуры. У выніку дыскусіі выявілася, што Епіскапат Бел.[арускай] Праваслаўнай Царквы мае замеры далучыцца да Зарубежнай Расейскай Царквы, якая пасягае на нашу незалежнасьць. Пастанову зьезд прыняў аднагалосна й прасіў сваіх беларускіх архіепіскапаў Філафея й Афанасія не далучаць Бел.[арускую] Прав.[аслаўную] Царкву да Зарубежнай Расейскай, а застацца незалежнымі з сваім народам. Тым болей,

[39] Рэляцыя др. Вітаўта Кіпеля ад 25 кастрычніка 2003 году (Нью Ёрк, ЗША).

што Бел.[аруская] Прав.[аслаўная] Царква ўжо стаіць на глыбокім шляху да Аўтакефальнай Беларускай Праваслаўнай Царквы"[40].

Такі ход падзеяў дыктаваў прыняцьце неадкладных захадаў, каб прадухіліць пераход епіскапату БАПЦ у юрысдыкцыю Расейскай Праваслаўнай Зарубежнай Царквы. У пастанове, прынятай арганізатарамі і ўдзельнікамі зьезду ў Рэгэнсбургу, паведамлялася:

„Мы, праваслаўныя беларусы, прадстаўнікі ўсёй беларускай эміграцыі з Заходняй Нямеччыны, на агульным Праваслаўным Зьезьдзе з дня 5 травеня 1946 году просім наш Беларускі Епіскапат, які знаходзіцца на эміграцыі ў Тырсгайме (Баварыя), каб наш Беларускі Епіскапат захаваў усю тую поўню арганізацыйнай сваёй самастойнасьці, ня ўліваючыся ані ў якой форме ў „Расейскую Зарубежную Царкву", якая поўнасьцю нэгуе нашы імкненьні да беларускай нацыянальнай самастойнасьці. Просім, захоўваючы чыстым дагматычна-кананічны бок нашай Праваслаўнай Беларускай Царквы, увайсьці ў маліцьвеннае абшчэньне зь іншымі самастойнымі Цэрквамі як адміністрацыйная адзінка"[41].

На пастанове ня скончылася. 31 травеня 1946 году ў Рэгэнсбургу беларускі царкоўны актыў выступіў са „Зваротам беларускай грамадзкасьці да Беларускага Епіскапату", у якім было выказана спадзяваньне, што епіскапы БАПЦ „у цяжкія хвіліны нацыянальнага й рэлігійнага жыцьця будуць заўсёды з народам, а ня супроць яго..."[42].

Усе гэтыя захады, у многім ініцыяваныя а. М. Лапіцкім, а таксама спробы ўзьдзейнічаць на арх. Філафея й еп. Апанаса як беларусаў, з мэтаю захаваньня БАПЦ на эміграцыі, прывялі да таго, што ўказам мітрапаліта Панцялеймана на сьвятара наклалі забарону ў сьвяшчэннаслужэньні. Трывала яна аднак толькі тыдзень і, як зьезд у Рэгэнсбургу, паказала, што справа пераходу гіерархіі БАПЦ у расейскае зарубежніцтва ня ёсьць выключна царкоўнаю, але агульна-нацыянальнаю справаю.

Але ў травені 1946 году арганізатары і ўдзельнікі Першага Зьезду Праваслаўных Беларусаў ня ведалі, што іх заклікі, звароты й пастановы да вышэйшых царкоўных уладаў БАПЦ былі дарэмнымі.

Яшчэ 10 студзеня 1946 году, у Тырсгайме, пад старшынствам мітрапаліта Панцялеймана адбыўся Сабор епіскапаў БАПЦ, на якім было сьцьверджана:

„1) Кананічнае палажэньне Беларускага Епіскапату, які знаходзіцца па-за межамі Беларусі й ня можа вярнуцца ў свае епархіі, дастаткова няпэўнае й да сёньняшняга часу неаформленае ў сэнсе прыналежнасьці да той або іншай Аўтакефалічнай Царквы. Хоць да сёньняшняга моманту Беларускі Епіскапат лічыў сябе асобнай самастойнай адзінкай, што

---

[40] Пратакол Беларускага Праваслаўнага Зьезду ў Рэгэнсбургу дня 5 траўня 1946 г. Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША).

[41] Пастанова Праваслаўнага Беларускага Зьезду ў Рэгэнсбургу дня 5 траўня 1946 г. Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША).

[42] Зварот беларускай грамадзкасьці да Беларускага Епіскапату. Рэгэнсбург, 31 травеня 1946 году. Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША).

вынікае з 34 Правіла Сьв. Ап., але такога прызнаньня з боку Праваслаўных Аўтакефальных Цэркваў пакуль што няма, не гаворачы ўжо пра тое, што Беларускі Епіскапат знаходзіцца па-за межамі Беларусі й ня мае падставаў прымаць якія-кольвек крокі ў кірунку афармленьня сваёй поўнай самастойнасьці й незалежнасьці ад якой-кольвек Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы;

2) Беларускі Епіскапат у цэлым, так як і паасобныя епіскапы, ня мае права ўхіляцца ад аб'яднаньня ўсяго беларускага праваслаўнага духавенства й беларускіх вернікаў, якія знаходзяцца па-за межамі Беларусі й па магчымасьці павінен дзяліць іх лёс і ў выгнаньніцкім жыцьці, усебакова клапоцячыся пра іх духоўнае акармленьне;

3) Вызначыць фармальна сваё кананічнае палажэньне, зрабіць магчымым і зручным агульнае ўладкаваньне паасобных епіскапаў, а таксама афармленьне беларускіх вернікаў Беларускі Епіскапат можа толькі пры цесным супрацоўніцтве й аб'яднаньні зь Епіскапатам РЗЦ, якую ўзначальвае Высокапрэасьвяшчэнны мітрапаліт Анастасій"[43].

На гэтай падставе Сабор епіскапаў БАПЦ, нягледзячы на пратэст паасобных беларускіх епіскапаў, у прыватнасьці еп. Апанаса, пастанавіў:

„1) Вітаць прапанову першагіерарха Праваслаўнай Зарубежнай Царквы, Высокапрэасьвяшчэннага мітрапаліта Анастасія ў справе магчымага аб'яднаньня Праваслаўнага Беларускага Епіскапату з Праваслаўным Епіскапатам Зарубежнай Расейскай Царквы й выказаць падзяку за яго бацькоўскі клопат пра Беларускі Епіскапат, духавенства й вернікаў.

2) Лічыць мэтазгодным неадкладна закончыць перамовы з Праваслаўным Епіскапатам Зарубежнай Царквы пра ўваход Беларускага Епіскапату з духавенствам і вернікамі ў поўныя братнія й малітоўныя суадносіны й адміністратыўнае аб'яднаньне пад кіраўніцтвам Высокапрэасьвяшчэннага мітрапаліта Анастасія для сумеснай агульнай працы на карысьць Сьвятой Праваслаўнай Зарубежнай Царквы да моманту, калі адкрыецца магчымасьць вярнуцца на родную зямлю.

3) Згодна з прапановаю мітрапаліта Анастасія выбраць аднаго зь беларускіх епіскапаў у якасьці свайго прадстаўніка на правох сябра Архірэйскага Сыноду Расейскай Праваслаўнай Зарубежнай Царквы.

4) Выступіць зь пісьмовай дэклярацыяй у Архірэйскі Сынод РЗЦ і з подпісамі ўсіх епіскапаў з просьбаю аб прыняцьці ў склад епіскапаў гэтай Царквы.

5) Прасіць Божага благаслаўленьня на сумесную працу й ахвярнае служэньне Сьвятой Праваслаўнай Царкве і ў славу Госпаду"[44].

У лютым 1946 году Сынод РПЗЦ фармальна прыняў епіскапат БАПЦ у сваю юрысдыкцыю[45].

---

[43] Архіў Епіскапату БАПЦ (1941–1946). Перахоўваецца ў архіве БІНіМа (Нью Ёрк, ЗША).

[44] Ibidem.

[45] Краткое изложение организации Белорусской метрополии в 1941 году и положение её до настоящего времени в эмиграции, „Церковный Листок", № 2–3, Мюнхен, 1948.

Вось-жа, пераход беларускіх епіскапаў у Расейскую Зарубежную Царкву, як паказваюць факты й архіўныя дакуманты, ад пачатку быў заплянаваным крокам. Яго ініцыятарамі ад беларускай царкоўнай гіерархіі былі мітрапаліт Панцялейман і арх. Венэдыкт. З расейскага боку працэс гэтага пераходу-далучэньня каардынавалі й актыўна падтрымоўвалі мітрапаліт Серафім і, перш за ўсё, мітрапаліт Анастасій. Гэты апошні яшчэ ў кастрычніку 1943 году ў Вене, пры хіратоніі ў епіскапы БАПЦ архім. С. Сеўбы, распачаў нефармальныя перамовы з арх. Венэдыктам у справе пераходу БАПЦ у юрысдыкцыю РПЗЦ, што пацьвярджаюць перапіска й асабістыя блізкія кантакты арх. Венэдыкта й мітрапаліта Панцялеймана зь мітрапалітамі РПЗЦ Анастасіем і Серафімам. Зь іх вынікае, што з 1943 году й асабліва зь лістапада-сьнежня 1944 году старшыня Сыноду РПЗЦ мітрапаліт Анастасій неаднойчы зьвяртаўся да Епіскапату БАПЦ з прапановаю ўступіць у склад Расейскага Праваслаўнага Зарубежнага Епіскапату й сумесна працаваць „на духоўнай ніве Зарубежнай Царквы”[46].

Улетку 1945 году, бадай адразу пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны, прарасейская частка Беларускага Епіскапату на чале зь мітрапалітам Панцялейманам і арх. Венэдыктам распачала актыўную падрыхтоўку да пераходу Епіскапату БАПЦ у юрысдыкцыю Расейскай Зарубежнай Царквы. Шлях да такога „пераходу-аб’еднаньня” арх. Венэдыкт, мітрапаліт Панцялейман і іх аднадумцы бачылі ў скліканьні гіерархам РЗПЦ мітрапалітам Анастасіем Сабору ўсіх епіскапаў за мяжой і стварэньні агульнага царкоўнага органу кіраваньня, які ўмацаваў-бы прававое палажэньне Праваслаўнай Зарубежнай Царквы й змог знайсьці найлепшы спосаб акармляць вернікаў, маючы на ўвазе нацыянальныя асаблівасьці кожнай з групаў, якія ўвайшлі-б у склад такога агульнага царкоўнага цэнтру[47]. Але гэтай прапановы епіскапаў БАПЦ мітрапаліт Анастасій не прыняў і ў лісьце ад 4 сьнежня 1945 году да арх. Венэдыкта напісаў, што ў сучасны момант склікаць Сабор епіскапаў Зарубежнай Царквы няма магчымасьці й таму аб’еднаньне беларускіх епіскапаў з Расейскай Зарубежнай Царквой можа адбыцца шляхам іх пераходу ў юрысдыкцыю Зарубежнага Архірэйскага Сыноду на падставе афіцыйнай заявы-просьбы, якую падпісалі-б усе беларускія епіскапы[48].

Зразумела, што пра ўсё гэта і беларускі незалежніцкі актыў, і нацыянальна-сьведамыя сьвятары наўрад ці маглі ведаць, а нават здагадвацца. Пераход беларускіх епіскапаў быў актам нацыянальнай здрады й на доўгія дзесяцігодзьдзі падзяліў беларускую эміграцыю на „крывічоў” і „зарубежнікаў”.

У 1948 годзе Антон Адамовіч, адзін зь ідэёлягаў крывічоў, у брашуры „Здрада. Як запрадаўся былы беларускі епіскапат маскоўскаму зарубежжу” напіша:

---

46 Архіў Епіскапату БАПЦ (1941–1946). Перахоўваецца ў архіве БІНіМа (Нью Ёрк, ЗША).
47 Ibidem.
48 Ibidem.

„Нас ня ганьбіць назоў Крывіч, аналёгамі якога зьяўляюцца нацыяналіст, аўтакефаліст, незалежнік, патрыёт, змагар і жаўнер Беларускага Народу. Мы ня хочам цягнуцца за вамі ў Маскву і мець назоў зарубежнікаў, русафілаў, фэдэралістаў, абласьнікоў, рэакцыянераў, апартуністаў і здраднікаў беларускіх інтарэсаў – Аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы і Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Мы – будучыня Народу. Вы і вам падобнае „беларускае" зарубежжа – брудная пляма ў гісторыі Беларусі"[49].

Са свайго боку не заставаліся ў даўгу й зарубежнікі. У вострых палеміках, з узаемнымі абвінавачваньнямі, сьвядома перакручваючы факты ці проста іх замоўчваючы, як адзін, так і другі бок імкнуўся давесьці сваёй рацыі, а перад усім, засьведчыць сваё права на палітычнае лідэрства ў беларускай паваеннай эміграцыі. У гэтых зацятых спрэчках-дыскусіях, якія асабліва актыўна вяліся ў беларускім пэрыядычным друку на эміграцыі ў 50-я й 60-я гады, часьцей пераважалі эмоцыі, палітыканства й амбіцыі паасобных дзеячаў.

„Зарубежнікам-рэакцыянерам" у вачах крывічоў стаўся й а. М. Лапіцкі. Той самы а. Лапіцкі, які заўсёды быў незалежнікам, патрыётам, перакананым аўтакефалістам, ці не адзіным зь беларускіх сьвятароў з бацькаўшчыны, які пасьля далучэньня Епіскапату БАПЦ да юрысдыкцыі РПЗЦ не перайшоў у расейскае зарубежніцтва, ніколі ня служыў у расейскай царкве й да канца свайго жыцьця апекаваўся праваслаўнымі беларусамі на эміграцыі.

Актыўны ў царкоўна-рэлігійнай дзейнасьці, ён браў чынны ўдзел у арганізацыі беларускага рэлігійнага й грамадзка-культурнага жыцьця ў Заходняй Нямеччыне. Ня толькі ў Рэгенсбургу, але таксама і ў лягерох ДП у Бакнангу, Міхэльсдорфе, Остэргофэне. Супрацоўнічаў з рэдакцыяй беларускага царкоўнага часапісу „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", дзе публікаваў казаньні й матар'ялы па царкоўнай гісторыі. Падкрэсьліваў важнасьць беларускага друкаванага слова для еднасьці на беларускай праваслаўнай ніве, зьвяртаў увагу на патрэбу пропаведзяў у роднай мове й духоўнага ўдасканаленьня з дапамогаю друкаванага слова. Быў сябрам рэдкалегіі эміграцыйнага пэрыёдыку „Беларускае Слова". Працаваў на пасадзе дырэктара той часткі Беларускай Гімназіі, што пасьля падзелу функцыянавала ў беларускіх лягерох ДП у Міхэльсдорфе, а пазьней, па пераезьдзе лягеру – у Бакнангу[50].

Сьвятар, дырэктар гімназіі, настаўнік, публіцыст, апякун для тых, хто патрабаваў дапамогі й спагады, – гэтыя іпастасі вызначалі асабовасьць а. М. Лапіцкага ў яго царкоўнай і грамадзка-культурнай дзейнасьці ў Нямеччыне.

---

[49] Зьніч М. [Ант. Адамовіч], Здрада (Як запрадаўся былы беларускі япіскапат маскоўскаму зарубежжу), Нямеччына, 1948.

[50] Гл.: Я. Максімюк, Беларуская Гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне: 1945 – 1950, Нью Ёрк – Беласток, 1994.

Напрыканцы 1949 году заходнія краіны, перад усім ЗША, а таксама Аўстралія, Аргентына й Канада распачалі прымаць на сталае пасяленьне эмігрантаў зь лягероў ДП у Нямеччыне[51]. У гэтую справу актыўна ўключыўся й а. М. Лапіцкі, дапамагаючы выехаць у краіны вольнага сьвету не аднаму дзесятку беларускіх сем'яў. Неўзабаве прыйшоў час пакаваць і свае валізкі.

Выезд а. М. Лапіцкага зь сям'ёй у ЗША вясной 1950 году распачаў яшчэ адну старонку яго рэлігійнай і грамадзка-культурнай дзейнасьці на эміграцыі. У рэаліях амэрыканскай рэчаіснасьці пачыналася арганізацыя беларускага царкоўнага жыцьця. Зьвязаны з Пассэйкам і з працай на адной зь мясцовых фабрык у штаце Нью Джэрзі, а. М. Лапіцкі не парываў лучнасьці зь беларусамі ў Саўт Рывэры. Па просьбе мясцовага парафіяльнага камітэту выконваў абавязкі настаяцеля аднаго зь першых беларускіх праваслаўных прыходаў у Нью Джэрзі. Вось як пра той час успамінае М. Сенька, нязьменны сакратар і адзін зь сяброў першай царкоўнай парафіяльнай рады ў Саўт Рывэры:

„У той час у штаце Нью Джэрзі апынулася даволі значная колькасьць беларусаў. Адзін з большых асяродкаў паўстаў у Саўт Рывэры, зь якім а. Мікалай навязвае лучнасьць. Пасьля зарганізаваньня беларусамі ў Саўт Рывэры прыходу Беларускай Праваслаўнай Царквы на просьбу парафіяльнага камітэту а. Мікалай прымае настаяцельства царквы. Жывучы й працуючы на фабрыцы, ён прыяжджае кожную суботу й нядзелю ў Саўт Рывэр. Адпраўляе багаслужбы, не беручы жаднай аплаты, апрача заахвяраванага яму парафіяльным камітэтам звароту коштаў падарожжа. Апрача служэньня, а. Мікалай аказаў вялікую помач парафіі, перадаючы царкве іконы, прывезеныя з Рэгэнсбурскай царквы, а таксама ўсё неабходнае пры адпраўленьні Сьвятой Літургіі.

Даезды з Пассэйку ў Саўт Рывэр у тыя часы былі нялёгкай справай, бо парафіяне й сам настаяцель ня мелі самаходаў, і трэба было карыстацца з аўтобусаў і цягнікоў, на што трацілася шмат часу. У Саўт Рывэры настаяцель быў змушаны карыстацца з гасьціннасьці й начлегу ў сяброў парафіі. Гэтакі стан трываў да 1958 году – часу прыезду а. Мікалая ў Саўт Рывэр. Зь пераездам у Саўт Рывэр ён не працуе больш на фабрыцы, а ўвесь свой час аддае парафіяльным справам"[52].

У 1950 годзе пры парафіі а. М. Лапіцкі зарганізоўвае суботнюю парафіяльную школу, у якой навучае рэлігіі й асновам праваслаўнай веры ды адкрывае курс лекцыяў па беларусазнаўству для дарослых парафіянаў. У сувязі з адсутнасьцю катэхізацыйнай літаратуры ў беларускай мове рыхтуе й выдае ўласным коштам для сваіх выхаванкаў „Першую кніжку для дзяцей па Закону Божаму"[53].

---

[51] Гл.: А. Вініцкі, Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Частка I; Частка II: Рэлігійныя справы; Частка III, Лос Анжэлес, 1968.

[52] М. Сенька, Сьв. пам. айцец Мікалай Лапіцкі, „Беларус", № 234, Нью Ёрк, 1976, б. 4.

[53] Першая кніжка для дзяцей па Закону Божаму, Саўт Рывэр, 1959.

Айцец М. Лапіцкі ад пачатку сваёй царкоўна-рэлігійнай дзейнасьці выступаў за ідэю аўтакефаліі й за кананічны характар БПЦ на эміграцыі. У гэтым пытаньні быў бескампрамісным. Ніколі не заакцэптаваў БАПЦ, утворанай у 1948 годзе ў Канстанцы. Адзіным і трывалым фундамантам для ідэі аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы на эміграцыі ўважаў юрысдыкцыю Канстантынопальскага Патрыярха. Неаднойчы і ў казаньнях, і на старонках беларускага эміграцыйнага друку падкрэсьліваў, што вытокі беларускага праваслаўя – у Канстантынопалі, а не ў Маскве.

Змагаючыся за чысьціню праваслаўнай веры, а. М. Лапіцкі адмоўна ацэньваў вунію й яе ролю ў гістарычным разьвіцьці беларускага народу. У гэтым пытаньні салідарызаваўся зь беларускім палітыкам й культурным дзеячам В. Ластоўскім, на якога часта спасылаўся ў сваіх публікацыях. Так падыходзіў да гэтай праблемы яшчэ з часоў вучобы на праваслаўным багаслоўскім факультэце Варшаўскага ўнівэрсытэту[54]. Але ў адрозьненьні ад свайго славутага папярэдніка разглядаў вунію, перад усім, як „польска-ватыканскую" інтрыгу ў беларускім незалежніцкім руху. Як у першых сваіх публікацыя, так і пазьней, на эміграцыі, а. М. Лапіцкі падкрэсьліваў:

„Асобнае месца ў нашых дачыненьнях займае г. зв. вунія. Яна была створана ў 1596 годзе ў Берасьці й зьяўляецца пасьлядоўным працягам палітычнае вуніі ў Любліне (1569). Палітычная Люблінская вунія клала канец беларускай дзяржаўнасьці ў форме Вялікага Княства Літоўскага. З мэтаю паланіць беларускі народ ня толькі палітычна, але й духова, і была прыдумана г. зв. рэлігійная вунія. Яна ўвайшла ў гісторыю беларускага народу як адна з самых цёмных бачын. Здрада й прымус былі сродкамі пашырэньня вуніі на Беларусі. Зараз на Беларусі ад вуніі апрача ганебнага ўспаміну не асталося ніякіх сьлядоў. Хіба-ж нельга лічыць нейкім гістарычна абумоўленым сьледам тыя адпадкі праваслаўнае беларускае грамадзкасьці, якімі карыстаецца вунія зараз, намагаючыся адрадзіцца ў беларускім асяродзьдзі. Вунія на Беларусі – не рэлігія. Гэта пераходны мосьцік з праваслаўя ў каталіцтва. Яна народжана не па тое, каб жыць, як гэта мае месца з сапраўднымі рэлігіямі. Посьпех і няўдача вуніі абазначае яе сьмерць. У першым выпадку яна павінна памерці для трыумфу Рыма-каталіцкага Касьцёлу, калі, адарваўшы вернікаў ад Сьвятога Праваслаўя, складзе іх да ног папскага прастолу. У другім выпадку яна паміpae ў выніку браку грунту пад нагамі, як нежыцьцёвы твор, бо ня можа жыць тое, што нарадзілася, каб памерці ўва ўлоньні маткі"[55].

Айцец М. Лапіцкі ўважаў, што менавіта беларускія „вуніяцка-ватыканскія" чыньнікі зь ліку дзеячаў й прыхільнікаў БНР спрычыніліся ў 1948

[54] Гл.: М. Лапіцкі, Як паўстала царкоўная вунія на Беларусі, „Путь Правды", № 2, Варшава, 1934; яго-ж, Вунія й змаганьне за чысьціню праваслаўя, № 1 – 2 (12), Саўт Рывэр, 1962.

[55] Гл.: М. Лапіцкі, Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, № 2 (3), „Царкоўны Сьветач", Саўт Рывэр, 1951/1952.

годзе ў Канстанцы да зарганізаваньня некананічнай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на эміграцыі. Гэтая „некананічная" БАПЦ з часоў Канстанцы, а таксама актыўнасьць беларускіх вуніяцкіх асяродкаў у Лёндане (Англія) і Чыкага (ЗША), на думку сьвятара, у аднолькавай ступені шкодзіла як рэлігійнай, так і незалежніцкай беларускай справе:

„Вехі беларускай незалежніцкай барацьбы вызначаны Першым і Другім Кангрэсамі й Царкоўнымі Саборамі. А ў пастановах гэтых апошніх няма ані слова пра рэлігійную барацьбу, якую немінуча нясе вунія. Вуніййны экспэрымэнт вельмі небясьпечны тым, што дае козыр у рукі ворагам беларушчыны. Выкарыстоўваючы вунійную акцыю, антыбеларускія колы будуць ачарняць чыстую вопратку беларускае незалежніцкае барацьбы, называючы яе польска-каталіцкай інтрыгай. Нас, як праваслаўных, вунійная акцыя не палохае, бо гісторыя паказала, што вунія ня можа пагражаць праваслаўю на Беларусі, але ў змаганьні за незалежнасьць гэтая акцыя толькі абцяжае наша й так цяжкое змаганьне"[56].

Зь ініцыятывы а. М. Лапіцкага ў 1950 годзе ў Саўт Рывэры была склікана нарада беларускага праваслаўнага духавенства й сьвецкага актыву, якая мела на мэце кананічна-праўнае ўрэгуляваньне статусу беларускіх парафіяў на эміграцыі. У сувязі з тым, што беларускія кананічныя епіскапы ў лютым 1946 году перайшлі ў Расейскую Зарубежную Царкву, яе ўдзельнікамі была прынята пастанова аб уваходзе беларускіх парафіяў у юрысдыкцыю Канстантынопальскай Патрыярхіі.

Ад моманту пераезду ў Саўт Рывэр а. М. Лапіцкі наладзіў цесныя кантакты й цёплыя адносіны з арх. Міхаілам, экзархам Канстантынопальскай Патрыярхіі на Паўночную і Паўдзённую Амэрыку, зь якім вёў пасьпяховыя перамовы ў справе юрысдыкцыі для новапаўсталых беларускіх праваслаўных парафіяў.

Асоба арх. Міхаіла займае важнае месца ў гісторыі беларускай эміграцыі. Ён адным зь першых прыйшоў з дапамогай беларускай дыяспары й спрыяў арганізацыі яе царкоўнага жыцьця ў Паўночнай Амэрыцы. Не ў апошнюю чаргу дзякуючы арх. Міхаілу ў Саўт Рывэры паўстаў адзін з найбольш моцных беларускіх рэлігійных й грамадзка-культурных асяродкаў у вольным сьвеце.

У хуткім часе самаахвярная праца а. Мікалая на беларускай царкоўнай ніве была адзначана высокай узнагародай. 5 чэрвеня 1954 году, на просьбу парафіяльнага камітэту арх. Міхаіл, экзарх Усяленскага Патрыярха на Паўночную й Паўдзённую Амэрыку ўзьвёў а. М. Лапіцкага ў сан протапрэсьвіцера з правам нашэньня мітры.

У кастрычніку 1959 году парафія Сьв. Еўфрасіньні Полацкай зь беларускай грамадзкасьцю ўрачыста адзначала 25-годзьдзе сьвятарскага служэньня а. М. Лапіцкага.

---

[56] Гл.: М. Лапіцкі, Адкрыты ліст да беларускай грамадзкасьці..., № 2 (31), „Беларускае Слова", Саўт Рывэр, 1956.

Але і на бацькаўшчыне, і на эміграцыі а. М. Лапіцкі не спачываў на лаўрах. Добра разумеючы, якую ролю адыгрывае царква й рэлігія ў кансалідацыі беларускіх вернікаў на чужыне, ён выступіў зь ідэяй заснаваньня самастойнай Беларускай Праваслаўнай Царквы ў краінах вольнага сьвету. Айцец М. Лапіцкі выдатна разумеў, што без уласна-беларускай гіерархіі й нацыянальна-сьведамага сьвятарства ідэю гэтую ажыцьцявіць будзе складана. Таму ўжо напрыканцы 50-х гадоў ён вядзе перамовы з архімандрытам Язэпам Строкам[57], а перад усім навязвае лучнасьць зь беларускімі епіскапамі Апанасам і Філафеем[58]. Чыніць актыўныя захады па вяртаньню былых гіерархаў БАПЦ да беларускіх вернікаў у рамках юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярхату. У гэтую справу актыўна ангажуе І. Касяка й беларускіх палітыкаў, у прыватнасьці прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага[59].

Ня ўсё аднак ішло лёгка й гладка ў гэтых перамовах. Часам бракавала ўзаемаразуменьня й памяркоўнасьці, іншы раз – звычайнай цярплівасьці й развагі. У выніку з аднаго й другога боку кідаліся вострыя словы й паўставалі непатрэбныя канфлікты. Хранічная непасьлядоўнасьць і адсутнасьць акрэсьленай пазыцыі былых гіерархаў БАПЦ, у прыватнасьці арх. Філафея й арх. Апанаса, у справе вяртаньня й ачольваньня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на Чужыне асабліва непакоіла царкоўны актыў у Саўт Рывэры. З гэтай прычыны ў студзені 1963 году ў адным зь лістоў да арх. Апанаса, не без дакору а. М. Лапіцкі напіша:

„Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

Атрымаў Ваш ліст, за які шчыра дзякую. Прачытаў яго два разы й прыйшоў да перакананьня, што Вы беларусаў трымаеце на ўсякі выпадак у рэзэрве. Магчыма, я памыляюся, але зь ліста вынікае: дадуць Вам тое, што Вы хочаце, – Вы астанецеся й надалей у Расейскай Зарубежнай Царкве.

Што тычыцца Вашых „засакрэчаных" плянаў, дык аб іх ведае РЗЦарква. Па прыезьдзе з Аўстраліі ў Рп. Бенку (недалёка ад Саўт Рывэру) служыў арх. Нікан і ў прыватнай гутарцы гаварыў аб іх. Тайнай можа быць толькі тое, што ведама аднаму чалавеку, калі-ж нешта ведама двум, дык гэту тайну, як кажуць, будуць і куры знаць. А таму РЗЦаркве ведама, што бурляць міране, але за іх плячамі стаіць арх. Афанасій. А таму, на маю думку, у РЗЦарквы, каб выйсьці з паложаньня, ёсьць дзьве магчымасьці. Адна, гэта даць арх. Афанасію тое, што ён хоча. Другая, забараніць яго ў сьвяшчэннаслужэньні. Вось гэта мяне трывожыць, і я магчыма ізноў астануся ў дурацкім палажэньні, дзякуючы таму, што не паслухаў некаторых людзей, якія казалі, што з гэтага нічога

---

57 Ліставаньне а. М. Лапіцкага з архім. Язэпам Строкам. Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША).

58 Ліставаньне а. М. Лапіцкага з арх. Апанасам (Мартасам). Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША).

59 Ліставаньне а. М. Лапіцкага зь І. Касяком і Р. Астроўскім. Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША).

ня выйдзе, дзеля таго, што арх. Афанасій з РЗЦарквы ня выйдзе. Раней за нос вадзіў арх. Філафей, калі ў яго [былі] непаладкі ў Вісбадэне, а цяпер тое самае робіць арх. Афанасій, калі і ў яго паўсталі пэўныя няўвязкі з РЗЦарквой. Давяраючы Вам, я з гэтым не пагадзіўся й [папрасіў] парафіі, каб яны выслалі Вам лісты з просьбай, каб Вы ачолілі Беларускую Праваслаўную Царкву. Прайшоў час, а справа наша стаіць на точцы замерзанія. Вы зразумела, скажаце, што ў гэтым вінаваты я, а я на гэта адказываю, што першы шаг з нашага боку зроблены й мы чакаем Вашага выхаду з РЗЦарквы. Калі гэтага Вы ня хочаце зрабіць, дык напрасна наша суета. Выбачайце, калі я памыляюся.

Даражэнькі Ўладыка! Не хістайцеся й ня бойцеся, палагодзьце прыхільна нашу просьбу, а Гасподзь Бог благаславіць Вашы сьвятыя пачынаньні. Ці-ж не зь яго дапамогі мы ў Саўт Рывэры пабудавалі новую царкву, а таксама і ў Нью Ёрку ўзвялі сьцены й сягоньня крыюць страху? Калі расходзіцца аб матар'яльны бок, таксама галадаць ня будзеце. Запэўніваю Вас у гэтым.

Нарэшце, што да пытаньня як аформіцца? Гэту справу мы будзем афармляць праз наш Экзархат, а Вы ў Аўстраліі – праз Ваш. Тым больш, што ў Вас добрыя суадносіны з экзархам, а па-другое, ім ведамы Сяргей Ахоценка, якога работа ў Аўстраліі ёсьць шкоднай і для грэкаў. Пры гэтым мушу зазначыць, што калі Вас забароняць у сьвяшчэннаслужэньні, дык справа аслажніцца, а таму найлепш выйсьці з РЗЦарквы і, пасьля ачоліўшы БПЦарквы, Вы можаце рэалізаваць свае пляны. Мы не будзем мець нічога супроць, каб да Вас належаў прыход іншай нацыянальнасьці. Жыць Вы можаце напачатку ў Аўстраліі, а пасьля, калі ўсё палагодзіце, пераедзеце ў Амэрыку. Гэта ўсё будзе залежыць ад Вас. Арх. Якава цяпер няма ў Нью Ёрку. Як толькі прыедзе, будзем зь ім гутарыць у гэтай справе. У асноўным яны ня маюць нічога супраць, каб мы мелі свайго епіскапа. Што тычыцца Канстантынопаля, дык там трэба дзейнічаць праз Фоціядзіса, зь якім, я думаю, у Вас добрыя суадносіны. Адрас яго падаю ніжэй. Здаецца, ён забыў славянскія мовы, а таму трэба пісаць, магчыма, па-ангельску.

За Калядныя пажаданьні я й матушка шчыра дзякуем, ды адначасна жадаем Вам шчаслівага Новага Году. Дай Божа, каб распачатая справа стала рэчаіснасьцю.

З любоўю ў Хрысьце
Ваш паслушнік а. М. Лапіцкі"[60].

Прынцыповасьць і бескампраміснасьць у справах кананічнасьці БАПЦ (Канстанца, 1948) і яе гіерархаў не перашкаджала аднак а. М. Лапіцкаму шукаць паразуменьня, а таксама й магчымасьцяў для пераадоленьня падзелу паміж „крывічамі" і „зарубежнікамі". Чыніў гэта ён, у першую чаргу, з думкаю пра аб'еднаньне ўсіх беларускіх парафіяў на аснове

---

60 Ліставаньне а. М. Лапіцкага з арх. Апанасам (Афанасіем). Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША).

аўтакефальнасьці й з апірышчам на аўтарытэт і юрысдыкцыю Канстантынопальскага Патрыярхату. Ёсьць падставы меркаваць, што зь ініцыятывы а. М. Лапіцкага напачатку 60-х гадоў а. В. Сагайдакоўскі з Таронта вёў перамовы й намовіў арх. Васіля (Тамашчыка) з БАПЦ, каб ён падаў заяву арх. Міхаілу й стаў на кананічны шлях, аформіўшы паўторную хіратонію ў грэкаў[61]. 8 кастрычніка 1963 году ў адным з чарговых лістоў да арх. Апанаса, прысьвечаных гэтай праблеме, а. М. Лапіцкі напісаў:

„Справа Тамашчыка, яшчэ ня вырашана. Калі яе вырашаць? Ня ведаю. Ён перажывае й мае шмат непрыемнасьцяў ад крывічоў, якія вельмі злыя на яго за гэту заяву. Адным словам Тамашчыку ўшчамілі хваста і ён ня ведае, як далей будзе. Мае жаль да мяне й ня ведае, як я захаваюся нават тады, калі ён аформіцца. Можа для дабра нашай Царквы і варта яго выцягнуць з балота, абсушыць, абагрэць, прыласкаць ды разам славіць Госпада Бога.

Справа цяжкая, а таму цяжка яе й вырашыць. Падумайце й падскажыце, як паступіць. У нас ёсьць тэндэнцыя й такая, каб арх. Афанасій ачоліў Царкву й прыняў Тамашчыка пасьля яго кананічнага афармленьня ў сваю юрысдыкцыю. Гэта аб'яднала-бы нас, праваслаўных беларусаў. Праўда, знойдуцца з боку крывічоў і такія, каторыя з гэтым не пагодзяцца. Але такіх будзе няшмат, не рахуючы вуніятаў, якія за ўсякую цану будуць перашкаджаць.

Апрача гэтага ёсьць думка, каб прыцягнуць і еп. Мацьвея, які ня проч ачоліць нашу Царкву, але ня ведаю, ці ўвойдзе ў Яе, калі Яе будзе ачоліваць нехта іншы. Калі-б гэта сталася, мы-бы мелі вялікія магчымасьці для далейшай працы.

Пра арх. Філафея ні слуха, ні духа. У Амэрыцы яго, здаецца, няма, а з Гамбургу ён ня піша. Рабіў ён што-небудзь у справе Тамашчыка ці не? Ня ведаю. Вось, здаецца, усё, аб чым меўся Вам напісаць"[62].

Шляхі да пераадоленьня падзелу на царкоўнай ніве шукалі са свайго боку й дзеячы БАПЦ, у прыватнасьці В. Войтанка. У паразуменьні з арх. Васілём (Тамашчыкам) і са згоды Епархіяльнай Управы БАПЦ ён меўся распачаць перамовы зь беларускім праваслаўным актывам у Саўт Рывэры. З гэтай мэтай у сьнежні 1966 году В. Войтанка зьвярнуўся да а. М. Лапіцкага зь лістом, у якім, акцэнтуючы ўвагу на патрэбе канструктыўнага дыялогу й супрацоўніцтва, напісаў:

„Вельмі паважаны Ойча !

Найлепшыя навагоднія й сьвяточныя пажаданьні. Карыстаючыся з гэтай сьвяточнай нагоды, хачу паразумецца ў справе агульна-беларускай і праваслаўнай.

---

61 Ліставаньне а. М. Лапіцкага з а. Віталіем Сагайдакоўскім (Таронта). Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША).

62 Ліставаньне а. М. Лапіцкага з арх. Апанасам (Афанасіем). Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША).

У мяне даўно ўжо маецца думка аб'яднаньня нас, праваслаўных беларусаў розных царкоўных юрысдыкцыяў, у некую Раду, ці каардынацыйны асяродак, які дапамог-бы нам супольна дзеяць у тых галінах рэлігійнага й царкоўнага жыцьця, дзе прыналежнасьць да розных епіскапаў мае малое значэньне.

Прыкладам, у друку царкоўных кнігаў, місійных лістоў, можа рэлігійна-грамадзкага часапісу, каляндара. У раскладзе летняга абслугоўваньня „Бэлэр-Менску", каб не было „канкурэнцыі", ці, наадварот, запушчаньне гэтага важнага беларускага гурту людзей праз праваслаўнае духавенства. Ваюючы з сабою, нашыя сьвятары толькі далей разганяюць людзей ад Царквы.

Дагэтуль мы стараліся пераканаць адзін аднаго ў тым, хто кананічны, а хто – не. Што гэта дало нам праз 15 гадоў? Хто каго пераканаў? А сварка йдзе са стратаю парафіянаў у Вас і ў нас на карысьць таму трэцяму – ворагу беларусаў ці, нат, ворагу веры, наагул.

Я ўпэўнены, што знойдзеце сярод вашых колішніх парафіянаў кагось, хто ўжо ходзіць да баптыстаў, ці сьведкаў Яговы. Не, іх няшмат, але й гэтага шкода для праваслаўнай веры й для беларускага народу таму, што яны адышлі ў чужую стыхію.

Мне ўдалося здабыць згоду ўладыкі Васіля й епархіяльнай управы на праводжаньне працы над такім праваслаўным беларускім паразуменьнем. Мая думка адкрытая для ўсякіх перагавораў і дагавораў. Трэба толькі адкінуць сварку аб кананічнасьці вас, нас ці іх. Ані будзем сварыцца, хто мае закон і права – БНР, БЦР, БВР, ці іншая [„]бэ["] і рэшта. Мы маем дзьве пэўныя рэчы як асновы гутаркі й згоды: беларускасьць кожнага з нас ды праваслаўная хрысьціянская вера. Тое, што можна зрабіць на гэтых асновах, трэба зрабіць. Гэта мой погляд, а які Ваш, Ойча?

Як гэта зрабіць тэхнічна? Зь кім і хто мае весьці гутарку й дагавор? Які ўкладаць статут, арганізацыю, ці толькі часовае прадстаўніцтва? Ці маем сюды запрашаць людзей з Амэрыканскай мітраполіі, дзе маецца шмат старых і новых беларусаў? Маем запрасіць з Зарубежнай Царквы ўладыкаў Апанаса й Філафея?

Гэтыя пытаньні й справы патрабуюць абгаворваньня й разважаньня. Але яны могуць быць разважаныя й палагоджаныя, калі, наагул, будзем хацець гаварыць і тварыць супольны праваслаўны беларускі „фронт".

Мы маглі-б гэта рабіць даўно. Але тады мы яшчэ ня мелі гадоў практыкі, але сварку, якая нам нічога не дала, а толькі страту часу, атлясу, здароўя і нэрваў. Замест выбеліць нашыя грэшныя душы, яна выбеліла нашыя галовы.

Вашае слова ў рэлігійных і царкоўных справах было заўсёды паважанае так-жа Вашымі праціўнікамі. Так-жа і ў гэтым яно важнае. Калі ўважаеце, што нам варта гаварыць у новай плошчы праваслаўнага беларускага супрацоўніцтва, калі ласка, падавайце месца, час і людзей, ці, наадварот, пачынайма ад людзей, і будзем гаварыць, прынамсі, [каб] абмяняцца думкамі.

Мая ініцыятыва толькі „плошчы", а ўсё іншае будзе добра, калі гэта будзе Вашае, як асобы знаючай закон і людзей.

Памажэце зрабіць добрую беларускую й праваслаўную справу, хаця можа й ня верыце ў яе паводжаньне. Хай жыцьцё паказвае, але ня нашае ацяганьне.

Ваш В. Войтанка"[63].

Можна меркаваць, што дзеячы БАПЦ, у прыватнасьці асобы з атачэньня арх. Васіля й В. Войтанкі, гатовыя былі пайсьці на немалы кампраміс у справе аб'яднаньня ўсіх беларускіх парафіяў на эміграцыі. Аднак а. М. Лапіцкі, відаць, досыць асьцярожна падыходзіў да гэтых прапаноў і не сьпяшаўся актыўна ангажавацца ў іх рэалізацыю. Цяжка сьцьвярджаць, але, магчыма, нечаканая ды шмат у чым загадкавая сьмерць арх. Васіля (Тамашчыка), аднаго з прыхільнікаў паразуменьня, вярнула справу перамоваў да пункту выйсьця й паставіла новыя пытаньні ды засьцярогі. Адказу на іх карэспандэнцыя а. М. Лапіцкага, на жаль, не дае.

27 – 28 сакавіка 1970 году на зьездзе духавенства й вернікаў ад беларускіх прыходаў у ЗША і Канадзе зь ініцыятывы а. М. Лапіцкага й саўтрывэрскага царкоўнага актыву зноў разглядаецца пытаньне заснаваньня самастойнай Беларускай Праваслаўнай Царквы на эміграцыі й справа беларускага епіскапа ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярха. Прымаюцца адпаведныя пастановы, якія былі перададзены ў Канстантынопальскую Патрыярхію.

У травені 1971 году ў адным з чарговых лістоў да арх. Апанаса а. М. Лапіцкі пісаў:

„Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

Распачатая справа стаіць на пункце замерзаньня дзеля таго, што прыходы нашы выслалі Вам афіцыйныя лісты з просьбай, каб Вы выйшлі з Расейскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквы й ачолілі нас, а Вы да сягоньня не адказалі на іх. Якая прычына – я ня ведаю? Магчыма, не прыйшоў яшчэ час. Але гэта стаіць на перашкодзе й мы ніяк ня можам выйсьці, як кажуць, з зачараванага кола.

У Вашых лістах Вы пішаце, што Вас могуць забараніць у служэньні, калі Вы пры выхадзе не захаваеце належных фармальнасьцяў. Тое самае адносіцца й да нас, духаўнікоў і нашых прыходаў. Мала гэтага, калі нас адпусьцяць, а мы не будзем мець свайго епіскапа, дык адразу паўстане праблема: куды ісьці? Бо павароту назад ужо ня будзе.

Даражэнькі Ўладыка! Справа стаіць на месцы, а час ня церпіць. Мы ўжо амаль закончылі царкву й магчыма на Сьв. Пакрава будзем асьвячаць яе. У Нью Ёрку таксама падходзіць будова да канца. Хацелася-б, каб нашы беларускія цэрквы асьвяціў наш, беларускі епіскап – гэта значыць, Вы. А гэта можа стацца тады, калі Вы выйдзеце з РЗ Царквы. За

---

63 Ліставаньне а. М. Лапіцкага з В. Войтанкам. Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША)

нас Вы ня бойцеся. Мы сваё паложаньне аформім безь ніякіх труднасьцяў, калі мы будзем мець свайго епіскапа.

Што тычыцца Вашай забароны. У свой час мелі судзіць арх. Філафея, але ён, як Вы казалі мне, заявіў, што яго можа судзіць толькі Епіскапат Беларускай Праваслаўнай Царквы, які тымчасова знаходзіцца ў РЗЦаркве. На падставе гэтай заявы суд не адбыўся. На падставе гэтага-ж паложаньня й Вас ня маюць права забараняць"[64].

У 1971 годзе Сьвяцейшы Сынод у Канстантынопалі пратаколам за №424 заакцэптаваў просьбу беларускага царкоўнага актыву Паўночнай Амэрыкі й пастанавіў даць для Беларускай Царквы Заходняй Гемісфэры беларускага епіскапа[65]. Аднак цяжкасьці з падшуканьнем адпаведнага кандыдата, на жаль, не дазволілі зрэалізаваць намер.

У сваёй сьвятарскай дзейнасьці а. М. Лапіцкі памятаў пра тое, што на эміграцыі акрамя сьвятароў трэба яшчэ мець свае нацыянальныя цэрквы. І тут, за акіянам, неаднойчы паўтараў: „Будзе царква – будуць і людзі". Захады ў гэтым кірунку рабіў яшчэ ад 1952 году, калі царкоўны актыў і парафіяне пад кіраўніцтвам а. М. Лапіцкага ўпершыню паставілі на першы плян справу набыцьця пляцу й пабудовы ўласнай беларускай царквы ў Саўт Рывэры. Актыўнасьць настаяцеля, яго сьвятарскі аўтарытэт, адданасьць й самаахвярнасьць, а таксама ўзаемаразуменьне й цеснае супрацоўніцтва з парафіяльным царкоўным камітэтам і вернікамі спрычыніліся да таго, што ў 1972 годзе ў Саўт Рывэры цягам трох гадоў былі збудаваныя царква й Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтр[67]. Падсумоўваючы зробленае, адзін з удзельнікаў і ахвярадаўцаў пазьней пісаў:

„Як настаяцель прыходу Сьв. Еўфрасіньні ў Саўт Рывэры а. Мікалай разам з прыхаджанамі прайшоў вялікі й цяжкі, але пачэсны шлях разбудовы царквы ад найманага малога склепіку, праз дастасаваны будынак сынагогі, да новазбудаванай велічнай царквы-сабору, а пры ёй вялікага царкоўнага будынку для патрэбаў рэлігійна-грамадзкага жыцьця"[68].

Зразумела, што царкву пасьвяцілі ў гонар патронкі Беларусі – Сьв. Еўфрасіньні Полацкай як працяг традыцыі з часоў царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Нямеччыне.

Настала зьвязаны царкоўным і грамадзка-культурным жыцьцём з Саўт Рывэрам, а. М. Лапіцкі браў дзейны ўдзел у зарганізаваньні беларускіх парафіяў Грэцкай юрысдыкцыі ў Чыкага, Нью Ёрку й Таронта. Ён рабіў стараньні аб кансалідацыі вакол іх беларускай эміграцыі ў ЗША

---

[64] Ліставаньне а. М. Лапіцкага з арх. Апанасам (Афанасіем). Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША)

[65] І. Касяк, Протапрэсьвіцер Мікалай Лапіцкі – у кн.: М. Лапіцкі, Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Уладыслава Ягайлы. Пераклаў з польскай мовы і падрыхтаваў да друку а. Сьвятаслаў Коўш, Нью Ёрк, 1978, б. 11.

[66] V. Kipel, *Belarusans in the United States*. Lanham – New York – Oxford, 1999, pp. 303 – 306.

[67] І. К.[Іван Касяк], Сьв. пам. а. протапр. М. Лапіцкі, „Беларуская Думка", № 20, Нью Ёрк – Саўт Рывэр, 1978, б. 20.

[68] Ліставаньне а. М. Лапіцкага з П. Ракуцем (Ракфорд), Э. Ясюком (Пассэйк). Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША)

(Чыкага, Кліўленд, Нью Ёрк, Ракфорд, Пассэйк, Трэнтан)[69], Канадзе (Таронта)[70], а таксама ў Англіі (Лёндан, Манчэстэр)[71] і Аўстраліі (Адэлаіда, Мэльбурн)[72].

Далёка ня ўсе праблемы пры гэтым удавалася вырашыць пасьпяхова. Адной з галоўных цяжкасьцяў пры арганізацыі новых беларускіх праваслаўных парафіяў на эміграцыі было (і застаецца да сёньняшняга дня) запатрабаваньне на сьвятароў. У такой няпростай сытуацыі а. М. Лапіцкі стараўся знайсьці й знаходзіў выйсьце. Вёў пошук кандыдатаў, дапамагаў сваім маладзейшым калегам словам, грашмі і ўласным прыкладам. Не хаваў ад іх усіх тых цяжкасьцяў, якія чакалі духоўную асобу ў паўсядзённым эмігранцкім жыцьці. У лісьце да аднаго з такіх беларускіх сьвятароў, а. Паўла Вялікага зь Лёндану, а. М. Лапіцкі пісаў:

„ ... пішу Вам гэты ліст з тым, каб паінфармаваць Вас аб варунках, зь якімі Вы спаткаецеся, калі пераедзіце ў Канаду ці Амэрыку. Варункі гэтыя для духаўніка, які працуе сярод беларусаў, вельмі цяжкія, але пачэсныя. Цяжкія, па-першае, тым, што народ наш расьсеяны і адначасна ў сваей масе нацыянальна нясьведамы. Па-другое, калі Вы прыбудзіце ў Амэрыку, Вы мусіце арганізовываць прыход і адначасна працаваць на фабрыцы. Магчымасьць арганізаваць беларускі прыход ёсьць у Пассэйку, Нью Ёрку й нават Трэнтане. Я арганізаваў прыход ў Саўт Рывэры. Ёсьць арганізаваны прыход у Чыкага й па нашай лініі там даездам з Канады служыць а. М. Мігай. [...]

Матар'яльны бок напачатку вельмі слабы. Я працаваў 8 год на фабрыцы, каб утрымаць сябе й радзіну. Цяпер не працую й маю 170 дал. у месяц плюс трэбы. Матушка яшчэ працуе, але магла-б і не працаваць. На кусок хлеба хватаіць, бо дзеці кончылі калэдж і таксама не забываюць пра бацькоў. Праўда, калі ёсьць лішні грош, высылаем пачкі ў Польшчу й на Беларусь. Вось так прадстаўляюцца варункі, якіх пужацца ня трэба, бо ўсюды ёсьць добрыя людзі і апека Ўсявышняга Бога. Тут Вы знойдзіце працу, кватэру й падтрыманьне сярод сьведамых беларусаў. Спаткаецеся з прыемнымі й непрыемнымі зьявішчамі, якія заўсёды бываюць у жыцьці й працы кожнага чалавека, а тым больш духоўніка. Я з свайго боку абяцаю дапамогу ўва ўсім тым, што ёсьць у маёй магчымасьці. Праўда, магчымасьці гэтыя ў мяне невялікія, але пры пераезьдзе, пры рукапалажэньні ў сан іерэя й пры арганізацыі прыходу, што ад мяне залежыць, ува ўсім дапамагу"[73].

---

69 Ліставаньне а. М. Лапіцкага з Э.Ясюком (Пассэйк), В. Пунтусам, М. Латушкіным (Чыкага) і інш. Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША).

70 Ліставаньне а. М. Лапіцкага з Б. Сладкоўскім (Таронта). Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША)

71 Ліставаньне а. М. Лапіцкага з а. Паўлам Вялікім (Лёндан). Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША)

72 Ліставаньне а. М. Лапіцкага з С. Розмыслам і М. Зуем (Адэлаіда). Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША)

73 Ліставаньне а. М. Лапіцкага з а. Паўлам Вялікім (Лёндан). Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША)

Айцец Мікалай Лапіцкім стараўся быць усім для ўсіх. З набыцьцём Беларускага Рэлігійна-Адпачынкавага Цэнтру „Бэлэр-Менск" у штаце Нью Ёрк дапамагаў улетку ў наладжваньні царкоўных урачыстасьцяў і багаслужбаў. Прычым, не толькі праваслаўных, але й рыма-каталіцкіх, якія са згоды а. Мікалая адпраўляў кс. Ф. Чарняўскі[74].

Не будзе перабольшваньнем той факт, што а. М. Лапіцкі, як мала хто з царкоўных і сьвецкіх дзеячаў беларускай дыяспары, разумеў архіважнае значэньне царквы й рэлігіі як кансалідуючых фактараў для беларускай эміграцыі. Яго празорлівасьць у гэтым пытаньні, уменьне бачыць працэс з розных пэрспэктываў вельмі трапна акрэсьліў беларускі эміграцыйны гісторык і грамадзка-культурны дзеяч др Я. Запруднік, які заўважыў:

„Пасьля нямецкіх лягероў умовы жыцьця на новым месцы радыкальна зьмяніліся. У Нямеччыне была лягерная цесната. На зьмену ёй прыйшла раскіданасьць. Патрэбен быў асяродак, вакол якога гуртаваліся-б людзі. Калі ў Нямеччыне яны жылі ў лягерох, адзін каля аднаго, й грамадзкае жыцьцё значна аблягчалася, нават стымулявалася гэтай лягернай базай, дык па пераезьдзе за акіян тэрытарыяльная база зусім зьмянілася. Зразумела, на новым месцы людзі стараліся сяліцца бліжэй адзін да аднаго, але абставіны былі ўжо зусім іншыя. Шмат каму давялося жыць наводдалі. Патрэбен быў свой цэнтар, куды зыходзілася-б ці зьяжджалася-б як мага большая колькасьць суродзічаў. Гэткім цэнтрам сталася свая царква. У нармальных, неэміграцыйных умовах шмат якія грамадзкія патрэбы задавальняюцца па-за царквой. Але эмігранты такіх магчымасьцяў найчасьцей ня маюць. Для іх царква з прыналежнымі да яе плошчамі – гэта і месца рэлігійных абрадаў, і месца праводжаньня самых розных грамадзка-культурных ды грамадзка-палітычных мерапрыемстваў. Айцец Мікалай выдатна бачыў гэтую ўзаемасувязь. Прайшоўшы частку свайго жыцьцёвага шляху на Бацькаўшчыне ў абароне праваслаўнае веры й беларушчыны ад польскага наступу, ён добра разумеў ролю царквы ў перахоўваньні народных традыцыяў і нацыянальнае саматоеснасьці. Пры палітычных разыходжаньнях, слабой нацыянальнай сьведамасьці некаторых суродзічаў, адукацыйнай рознасьці ды іншых разьяднальніках згуртаванасьць вакол царквы сталася натуральнай разьвязкай. Гэта было відавочным яшчэ ў Нямеччыне. Гэтак вось і на новым месцы пасяленьня, у Амэрыцы, пад наглядам а. Мікалая й пры ягоных намаганьнях была адразу закладзеная аснова, а з часам разбудавалася салідная рэлігійна-матар'яльная база, што трывае й да сёньняшняга дня як помнік вернасьці традыцыям і стваральнаму духу нашых суродзічаў"[75].

Поруч з працай на царкоўнай ніве а. М. Лапіцкі шмат часу аддаваў беларускай грамадзка-культурнай дзейнасьці ў Паўночнай Амэрыцы.

---

[74] Ліставаньне а. М. Лапіцкага з кс. Ф. Чарняўскім (Форт Эдвард). Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Бpансвік, ЗША).

[75] Рэляцыя др. Я. Запрудніка ад 24 лістапада 2004 году ў Самэрсэце (Нью Джэрзі, ЗША).

Ад 1950 году ачольваў Задзіночаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамогавы Камітэт. Як сябра Беларускай Цэнтральнай Рады пастаянна прымаў удзел у пленумах Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР) і ў аддзеле рэлігійных спраў БЦР, а таксама ў Беларускім Кангрэсавым Камітэце. У 1950-х гадох удзельнічаў у міжнацыянальных зьездах, зарганізаваных амэрыканскімі палітыкамі ў Вашынгтоне. На працягу некалькіх гадоў чытаў малітвы за беларускі народ у Кангрэсе ў Вашынгтоне, прысьвечаныя дню абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году. Разам з матушкай Валянцінай у складзе беларускай дэлегацыі штату Нью Джэрзі наведваў губэрнатара штату ў Трэнтане й прысутнічаў пры ўрачыстым падпісаньні губэрнатарам сьвяточнай праклямацыі, якая абвяшчала дзень 25 сакавіка Днём Беларускай Незалежнасьці. Сярод іншага а. М. Лапіцкі браў удзел у беларускай калёне ў парадзе Амэрыканскага Дня Лаяльнасьці ў Нью Ёрку, у якім прымалі ўдзел арганізацыі народаў паняволеных савецкай Расеяй. Дзейна падтрымліваў удзел беларусаў у амэрыканскіх міжэтнічных фэстывалях. У памяці сучасьнікаў а. М. Лапіцкі застаўся чалавекам, які служыў дапамогай – словам і прыкладам – у кожнай беларускай ініцыятыве й цешыўся падтрымкай і зразуменьнем.

Асобнай увагі заслугоўвае царкоўна-выдавецкая й публіцыстычная дзейнасьць а. М. Лапіцкага. Ад травеня 1951 году ён выдаваў часапіс „Царкоўны Сьветач", у якім бараніў ідэю аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы й нацыянальную справу. Арганізаваў штогадовае выданьне беларускіх царкоўных календароў. Быў сябрам і дзейсна дапамагаў у рэдакцыйнай калегіі газэты „Беларускае Слова" і ў часапісе „Беларуская Думка". Служыў дапамогай ня толькі праваслаўным, але й беларускім рыма-каталікам, друкуючы ў Беларускай Друкарні ў Саўт Рывэры каталіцкі пэрыёдык „Siaŭbit", які выдаваў у Паўночнай Амэрыцы кс. Ф. Чарняўскі[76].

У 1975 годзе беларуская парафія ў Саўт Рывэры сьвяткавала свой 25-гадовы юбілей. На ўрачыстай акадэміі, аглядаючы з пэрспэктывы часу пройдзены шлях, а. М. Лапіцкі адзначаў:

„Калі мы арганізоўвалі прыход, дык мо ня ўсе ўсьведамлялі значэньне свайго чыну, бо ён ня выклікаў надзвычайнага вонкавага эфэкту, бо мы пачалі багаслужбы ў мэтадысцкай царкве, а пасьля – у заарэндаванай залі. Мне прыходзілася чуць, калі заклікалася беларусаў прылучыцца да нашага прыходу: „Нам надаела маліцца па гаражах у Нямеччыне, а вы й тут цяпер цягнеце нас у залі, калі пад бокам ёсьць такая прыгожая праваслаўная царква". Гэтыя людзі, хачу сказаць, не разумелі, што людзкія справы Госпад Ісус Хрыстос ацэньвае не паводле вонкавага эфэкту, а паводле выяўленых пачуцьцяў ды мэты.

Калі Марыя Магдалена абмыла ногі Вучыцеля, то ў гэтым было пачуцьцё адданасьці, любові й яе пакаяньня, і Збаўца сьвету Ісус Хрыстос

---

76 Ліставаньне а. М. Лапіцкага з кс. Ф. Чарняўскім (Форт Эдвард). Перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага (Нью Брансвік, ЗША).

сказаў: „Яна зрабіла, што магла". Так і мы, арганізатары беларускае праваслаўнае царквы імя Сьвятой Еўфрасіньні, зрабілі, што маглі, а Госпад Бог благаславіў нашы сьвятыя намеры ды глыбокія пачуцьці любові да Бога, да сваёй Царквы й свайго народу.

Дзякуючы гэтаму, сягоньня, калі сьвяткуем юбілей 25-годзьдзя нашага прыходу, дык мы маем і вялікі вонкавы эфэкт – царкву, зямлю, парафіяльную залю, курган-помнік, могілкі й Рэлігійна-Адпачынковы Цэнтр „Бэлэр-Менск" у Глен Спэй (Нью Ёрк). Гэта, паводле нашага рэлігійнага разуменьня, – цуд і ласка Божая. Дык не забывайма аб міласьці й ласцы Божай, якую Ён праявіў для нас, дзякуючы чаму ў Саўт Рывэры паўстала яшчэ адна Царква – Праваслаўная й Беларуская, якая аб'яднала пераважна ўсю новую беларускую эміграцыю тут. Гэта Царква для беларусаў сталася супольным месцам малітваў, нацыянальным ядынаньнем, кавалачкам старой бацькаўшчыны, апраўданьнем і напамінам. Утрымлівае яе ня столькі матар'яльная ахвярнасьць, колькі нязгасная вера ў Бога й вера ў вызваленьне нашай Бацькаўшчыны, дзеля якога мы яе й пакінулі. Бяз гэтых якасьцяў нам, безумоўна, не ўдалося-б арганізаваць свайго рэлігійнага жыцьця ў новай краіне. Праца й ахвярнасьць усіх, а ініцыятыва адзінак, прывялі да жаданага выніку. І было-б несправядліва зьменшыць чыё-небудзь значэньне.

У першую чаргу, сталай працай і непасрэдным удзелам для ўзросту й разьвіцьця парафіі спрычыніліся старшыні й стырасты Царкоўных Камітэтаў, на чале якіх стаялі: Уладзімер Брылеўскі, Хведар Высоцкі, Васіль Місюль, Сьцяпан Прыдыбайла, Юры Мяжэвіч, Аляксандар Банкет і Барыс Плескачэўскі. Таксама нельга абыйсьці сястрыцтва, якое ачольвалі: Сафія Шчорс, Надзя Занковіч, Кацярына Высоцкая, матушка Людміла Махнюк і цяпер Рэня Касьцюк. Таксама нельга абыйсьці й Раду дырэктароў, якая кіруе Рэлігійна-Адпачынковым Цэнтрам „Бэлэр-Менск", на чале з Грыгорам Арцюшэнкам.

Неадлучнай часьцінай нашага царкоўнага жыцьця ёсьць наш царкоўны хор, якім напачатку кіраваў Аркадзь Евец, а пасьля яго рэзыгнацыі да сёньняшняга дня кіруе кампазытар Дзімітры Верасаў. Хор захапляе нас сваім сьпевам у царкве, а таксама сваім сьпевам на залі"[77].

Наступнага юбілею а. М. Лапіцкі не дачакаўся. Ён раптоўна памёр 8 жніўня 1976 году ў Беларускім Адпачынкавым Цэнтры „Бэлэр-Менск" каля мясцовасьці Глен Спэй у штаце Нью Ёрк. Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт Рывэры (штат Нью Джэрзі). Зь яго сьмерцю, як адзначалася на эміграцыі, беларускае грамадзтва страціла выдатнага нацыянальнага дзеяча й сьвятара, а на рэлігійнай ніве засталася незакончанай ініцыятыва а. М. Лапіцкага па афармленьню Беларускае Аўтакефаліі ва ўлоньні Ўсяленскага Канстантынопальскага Патрыярхату[78].

Матушка Валянціна надалей заставалася актыўнай у царкоўным і грамадзка-культурным жыцьці беларускай парафіі ў Саўт Рывэры.

---

[77] Гл.: а. М. Лапіцкі, З пэрспэктывы часу, „Памятная Кніга. 1950 – 1975", Саўт Рывэр, 1975.
[78] Рэляцыя др. Вітаўта Кіпеля ад 27 лістапада 2003 году (Нью Ёрк, ЗША).

У памяць а. Мікалая ахвяравала ў царкву Сьв. Еўфрасіньні Полацкай чатыры іконы. З радасьцю вітала моладзь у парафіяльным камітэце і ў беларускім царкоўным жыцьці ў Саўт Рывэры[79]. Гэта дадавала веры ў тое, што справа а. Мікалая Лапіцкага будзе прадоўжана. На працягу ўсяго свайго жыцьця з адданасьцю служыла Богу, Беларускай Праваслаўнай Царкве й роднай сям'і. Памерла 23 лютага 2000 году й пахавана на беларускіх могілках у Саўт Рывэры.

Яны адышлі, каб назаўсёды застацца ў вечнасьці – зь беларускай царквой Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры, з сваімі парафіянамі, сябрамі, суседзямі, аднадумцамі, з жывымі й з памерлымі. Іх працяг – у дзецях і ўнуках.

Лёля, дачка а. М. Лапіцкага й матушкі Валянціны, атрымала вышэйшую адукацыю, закончыўшы дзьве прэстыжныя амэрыканскія вучэльні – Гарадзкі ўнівэрсытэт у Нью Ёрку (па спэцыяльнасьці хімік) і Радгарскі ўнівэрсытэт у Нью Брансвіку (па спэцыяльнасьці бібліятэкар-архівіст). Выйшла замуж за беларуса Лявона Касоўскага. Выгадавала двух сыноў – Нікаласа, якога назвалі ў гонар а. М. Лапіцкага, і Алекса. Дачакалася ўнукаў.

Сын Жорж закончыў Ньюёрскі ўнівэрсытэт па спэцыяльнасьці інжынер-будаўнік. Працаваў у кампаніі M. W. Kellog. Вёў будаўнічыя працы бадай ва ўсіх амэрыканскіх штатах. Працаваў па кантракту ў Турэччыне й Вэнэсуэлі. Мае двух сыноў – Стывэна й Нікаласа, таксама названага ў гонара дзеда. Абодва атрымалі вышэйшую адукацыю: Стывэн – выпускнік Бостанскага Паўночнаўсходняга ўнівэрсытэту ў галіне геалёгіі, Нікалас закончыў Рэнссэльлерскі палітэхнічны інстытут і працуе інжынерам па электроніцы й кампутарных сістэмах.

Так, а. М. Лапіцкі адышоў у іншы сьвет, але ён прадаўжае жыць у тым, што пакінуў пасьля сябе. І на Бацькаўшчыне, і на эміграцыі, самаахвярна працуючы на царкоўнай ніве, а. М. Лапіцкі тварыў беларускую царкоўную гісторыю й яшчэ пры жыцьці стаўся неад'емнай часткай гэтай гісторыі. Яна мае мэтрыку нараджэньня й не закончыцца нэкралёгам, пакуль у беларускіх цэрквах Паўночнай Амэрыкі й на Бацькаўшчыне будзе гучаць сьвяточны канон у гонар патронкі Беларусі – Сьв. Еўфрасіньні Полацкай.

Творчая спадчына а. М. Лапіцкага багатая й шматгранная. Яна адначасна і фрагмэнт беларускай гісторыі, і дакумант эпохі. І так гэтую спадчыну варта ўспрымаць – у канкрэтным гістарычным ракурсе й кантэксьце, часам з праекцыяй на праблемы сучаснага беларускага царкоўнага жыцьця на эміграцыі і ў Беларусі.

Кароткі агляд напісанага а. М. Лапіцкім варта пачаць ад публікацый багаслужбовага зьместу. Асноўную іх частку склалі царкоўныя казаньні (пропаведзі) сьвятара з нагоды каляндарных праваслаўных сьвятаў –

---

79 Рэляцыя Лёлі Касоўскай, дачкі а. М. Лапіцкага ад 18 лютага 2004 году (Нью Джэрзі, ЗША).

Стрэчаньня, Калядаў, Вербніцы, Крыжапаклоннай нядзелі, Вялікадня й Нядзелі міраносіц. Усе яны, бяз вынятку, у сваім часе былі апублікаваны а. М. Лапіцкім у беларускім рэлігійным друку ды ў сьвецкіх пэрыядычных выданьнях на эміграцыі. У прыватным архіве сьвятара захаваўся таксама арыгінальны тэкст малітвы, якая была ўкладзена а. М. Лапіцкім і чыталася ім па-ангельску ў Кангрэсе ЗША з нагоды чарговых угодкаў абвешчаньня БНР.

Асобнай увагі заслугоўваюць гісторыка-культуралягічныя дасьледаваньні, прысьвечаныя праваслаўю ў ВКЛ, ролі царкоўнай вуніі й гісторыі аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы ад старажытнасьці да XX стагодзьдзя. Яны займаюць адно з важных месцаў у беларускай царкоўнай гістарыяграфіі. У гэтых працах а. М. Лапіцкі выявіў вялікую эрудыцыю й глыбокае веданьне прадмета дасьледаваньня. Што важна, пры вывучэньні гістарычных шляхоў праваслаўя ў ВКЛ і аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы падыходзіў зь беларускага пункту гледзішча, ламаючы стэрэатыпы расейскай і польскай царкоўных гістарыяграфіяў.

Безумоўна, галоўнае з дасьледаваньняў а. М. Лапіцкага – гэта магістэрская праца сьвятара. Яна прысьвечана вывучэньню праваслаўя і яго ролі ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы. Аўтар даў дастаткова глыбокі аналіз дасьледуемай праблемы й паказаў складанасьці праваслаўнага царкоўнага жыцьця ў згаданую пару. Варта аднак зазначыць, што далёка не з усімі тэзамі гэтага дасьледаваньня а. М. Лапіцкага сёньня можна пагадзіцца. І гэта зразумела. Бо яно адлюстроўвае стан ведаў свайго часу (міжваеннага дваццацігодзьдзя) і тыя архіўныя крыніцы, якімі аўтар меў магчымасьць карыстацца пры напісаньні працы.

Сёньня, дарэчы, цяжка ўстанавіць, ці (і ў якой ступені) тэкст дасьледаваньня рэдагаваўся пры жыцьці аўтарам, а пазьней, магчыма, і перакладчыкам а. С. Каўшом. На жаль, пры падрыхтоўцы працы да публікацыі не было мажлівасьці параўнаць перакладу ў беларускай мове зь яе польскамоўным арыгіналам. Як высьветлілася, у архіве Варшаўскага ўнівэрсытэту магістэрскае дасьледаваньне а. М. Лапіцкага не захавалася. На жаль, і ў прыватным архіве сьвятара ў ЗША ўдалося выявіць толькі паасобныя разьдзелы. Сьпіс апублікаванай у працы літаратуры аднак не паказвае на тое, што а. М. Лапіцкі нешта дадаваў ці зьмяняў. Неаднатавана там новых царкоўна-гістарычных дасьледаваньняў паваеннага часу.

Яшчэ адзін важны фрагмэнт інтэлектуальнай спадчыны а. М. Лапіцкага – гэта публіцыстыка. Яна ахоплівае публікацыі сьвятара, што былі зьмешчаныя ў 1947 – 1975 гадах пераважна ў газэце „Беларускае Слова" (Нямеччына; Саўт Рывэр) і ў царкоўна-грамадзкім часапісе „Царкоўны Сьветач" (Саўт Рывэр). Паасобныя матар'ялы друкаваліся таксама ў часапісе „Беларуская Думка" (Нью Ёрк – Саўт Рывэр) і ў юбілейных

выданьнях беларускай праваслаўнай парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры[80].

Публіцыстычныя артыкулы сьвятара закранаюць цэлы шэраг праблемаў беларускага царкоўна-грамадзкага жыцьця. Сярод іх на першы плян а. М. Лапіцкім нязьменна ставілася праблема юрысдыкцыйна-кананічнага афармленьня БАПЦ і яе гіерархіі. Як правіла, разглядалася яна ў кантэксьце палемікі з крывічамі пра „некананічнасьць" БАПЦ, якая была ўтворана ў Канстанцы ў 1948 годзе і якую а. М. Лапіцкі і яго паплечнікі называлі „польска-ватыканскай" і „вуніяцкай інтрыгай"[81].

Публіцыстыка а. М. Лапіцкага – гэта выдатны фактаграфічны матар'ял, які адлюстроўвае разьвіцьцё беларускай грамадзка-палітычнай, культурнай й рэлігійнай думкі на эміграцыі ў другой палове XX стагодзьдзя. Яе палемічны характар у многім вызначыла процістаяньне на лініі БНР – БЦР і падзел беларускай паваеннай эміграцыі на крывічоў і зарубежнікаў. Шэраг публіцыстычных артыкулаў а. М. Лапіцкага – гэта якраз яго палемічныя адказы апанентам зь лягеру крывічоў. Часам не пазбаўленыя катэгарычнасьці, а іншы раз – празьмерна суб'ектыўныя.

Як вядома, а. М. Лапіцкі моцна ангажаваўся ў дзейнасьць БЦР на эміграцыі. Без перабольшваньня быў адным зь яе цэнтральных філяраў. Аднак у ацэнках палітычнай і рэлігійнай сытуацыі на эміграцыі заўсёды стараўся мець свой пагляд.

Магчыма таму не стаўся ахвярай палітыкі.

Важнае месца ў творчай спадчыне а. М. Лапіцкага займае багатая карэспандэнцыя. Яна налічвае каля 500 архіўных адзінак (лістоў, паштовак, кароткіх допісаў). Ліставаньне а. М. Лапіцкага ахоплівае досыць вялікі прамежак часу: ад пачатку 50-х гадоў – да канца ліпеня 1976 году. Сярод адрасатаў і рэспандэнтаў сьвятара – беларускія эміграцыйныя палітыкі, царкоўныя дзеячы й актывісты з Аргентыны, Аўстраліі, Англіі, Нямеччыны, са Злучаных Штатаў Амэрыкі й Канады. Асобную ды колькасна невялікую частку эпісталярнай спадчыны а. М. Лапіцкага склала ліставаньне зь гіерархамі Ўсяленскай Праваслаўнай Царквы й Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы за мяжой, а таксама лісты да сваякоў у Польшчы.

У пераважнай большасьці зьмест ліставаньня а. М. Лапіцкага закранае, як і ў публіцыстыцы, праблемы арганізацыі беларускага рэлігійнага жыцьця на эміграцыі ды паказвае на тыя складанасьці й перашкоды, якія паўставалі пры іх вырашэньні. У цэлым шэрагу лістоў нельга не заўважыць вострых эмацыянальных й суб'ектыўных адносін ды пасажаў аўтара эпісталярыяў і яго рэспандэнтаў да пэўных падзеяў, канфліктных сытуацыяў і канкрэтных асобаў.

---

80 Гл.: а. М. Лапіцкі, З пэрспэктывы часу, „Памятная Кніга. 1950 – 1975", Саўт Рывэр, 1975.

81 Гл.: а. М. Лапіцкі, У імя праўды, „Царкоўны Сьвета", № 1 (4), Саўт Рывэр, 1953; яго-ж, Адкрыты ліст да беларускай грамадзкасьці..., № 2 (31), „Беларускае Слова", Саўт Рывэр, 1956.

Лісты а. М. Лапіцкага разам зь яго публіцыстыкай ня проста адлюстроўваюць гісторыю беларускай палітычнай і рэлігійнай думкі на эміграцыі. Яны зьяўляюцца каштоўным матар'ялам, які дазваляе глыбей зразумець спэцыфіку рэлігійнага жыцьця беларускай эміграцыі ў вольным сьвеце й наглядна паказвае, што ў варунках эміграцыйнага жыцьця менавіта „нацыянальная царква поруч з рэлігійнай функцыяй выконвала ролю культурнага й палітычнага цэнтру, свайго роду лобі для абароны нацыянальных інтарэсаў" (др Я. Запруднік).

Пашыраны вопіс публікацыяў а. М. Лапіцкага, якія ўвайшлі ў дадзенае выданьне, зьмешчаны напрыканцы кнігі ў разьдзеле „Камэнтары" (с. 597–647) і суправаджаецца разгорнутымі бібліяграфічна-інфармацыйнымі анатацыямі.

У тэкстах і ў эпісталярнай калекцыі сьвятара, якая друкуецца ўпершыню, выпраўляліся відавочныя недакладнасьці й памылкі. Па магчымасьці таксама ўдакладняліся цытаты й спасылкі. На жаль, далёка ня ўсе зь іх удалося зьверыць. У асобных публікацыях пры цытаваньні а. М. Лапіцкім былі апушчаны спасылкі на першакрыніцы. Ня ўзноўлены яны і ў нашай публікацыі.

У выданьні выкарыстоўваўся правапісны варыянт беларускай мовы (тарашкевіца), што ўжываецца беларускай дыяспарай на Захадзе. Адначасна ў тэкстах захоўваліся й асаблівасьці мовы а. М. Лапіцкага.

На вокладцы кнігі зьмешчаны здымкі сьвятара з розных пэрыядаў яго жыцьця.

Напрыканцы хацелася-б выказаць словы ўдзячнасьці ўсім тым, хто дапамагаў кваліфікаванымі кансультацыямі, парадамі й проста добрым словам пры падрыхтоўцы гэтай кнігі: родным і сваякам а. М. Лапіцкага – Лёлі Касоўскай, Жоржу Лапіцкаму й Рагнедзе Аляхновіч; кіраўніцтву й навуковым супрацоўнікам БІНіМа – др. Вітаўту Кіпелю, др. Янку Запрудніку, др. Лявону Юрэвічу й праф. Томасу Бэрду, а таксама праф. Аўгену Міpановічу зь Беластоку й др. Гэлене Глагоўскай з Гданьска; навуковым супрацоўнікам Інстытуту Славістыкі Польскай Акадэміі Навук у Варшаве – праф. Ірыдзе Грэк-Пабіс, праф. Квірыне Хандкэ і праф. Ірэне Марыняк; праф. Аляксандру Баршчэўскаму з Варшаўскага ўнівэрсытэту; Надзі Міцкевіч-Касмовіч са Штутгарту ў Нямеччыне; беларусам Нью Ёрку – Яніне Каханоўскай, Антону Шукелойцю, Алесю Міцкевічу, др. Алене Юрэвіч і Навуму Кацнельсону; парафіяльнаму царкоўнаму актыву й вернікам царквы Сьв. Еўфрасіньні ў Саўт Рывэры– Лізе Літаровіч, Надзі Запруднік, Віталю Цярпіцкаму, Міхасю Сеньку, а. Алегу Махнюку; у Канадзе – а. Паўлу Вялікаму й матушцы Зоф'і з Бэры, царкоўнаму актыву парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта – Аўгену Рымшу, Бранiславу Сладкоўскаму, Міхасю Жыбулю, а таксама Марыі Ганько з парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ; у Чыкага – Мікалаю Латушкіну (парафія Сьв. Юрага); Васілю Шчэцьку й Эмігідыю Рыжаму; спадарыні Сацэвіч і Міхасю Белямуку з Кліўленду; кіраўніцтву беларускай парафіі Маці Божай Жыровіцкай БАПЦ у Гайленд Парку, у прыватнасьці Алексу Сільвановічу й Віктару Дубягу ды многім іншым.

Юры Гарбінскі

# МАЛІТВА

Прадвечны і Ўсемагутны Божа, у гадавіну абвешчаньня незалежнасьці Беларусі мы з пакораю схіляем галовы перад Табою і зь вераю просім Цябе: Божа й Спасе наш, прымі шчырую малітву ад нас, недастойных рабоў Тваіх, блаславі Злучаныя Штаты Амэрыкі й нашую Маці-Беларусь, свабода якой неміласэрна патаптана бязбожнай бальшавіцкай сілаю.

У гэты ўрачысты мамэнт мы пасылаем да Цябе малітву нашу й просім Цябе: Міласьцівы і Ўсёшчодры Божа, выслухай верных дзяцей Беларусі ў іхным смутку й журбе, і Маці-Беларусь усясільнай Тваёй уладаю ад бальшавіцкае няволі вызваль.

Госпадзі Божа, Спасіцелю наш, апора, надзея і абарона наша, не адвярніся ад нас у гневе Сваім, але ў міласьці й шчадротах Тваіх наведай пакорных рабоў Тваіх і блаславі волю й незалежнасьць нам, а таксама ўсім паняволеным народам.

Ты бо наш ратунак і перамога, і абарона тых, хто на Цябе спадзяецца, і Табе славу ўзносім Айцу, і Сыну, і Сьвятому Духу цяпер і заўсёды, і навекі вякоў. Амінь.



# „ЯКО ВИДЕСТИ ОЧИ МОИ СПАСЕНИЕ ТВОЕ”

Сягоньня – Стрэчаньне Госпада нашага Ісуса Хрыста. Сягоньня – гадавое сьвята, дзень, калі часьцей б'ецца сэрца хрысьціяніна, дзень, калі на кліч званоў царкоўных пацягнецца ён па сьцежках і дарожках у сьвятыні, каб памаліцца тут Богу й атрымаць так патрэбныя яму гарт і сілу на пакананьне тых цяжкасьцяў, якіх не шкадуе яму дачаснае жыцьцё.

Мінаюць вякі за вякамі, паміраюць людзі, забываюцца іхныя думкі й погляды, але звон царкоўны й сёньня, як і ўчора, гудзе й знаходзіць водгук у сэрцах людзей добрай волі. Праўда, з жалем трэба сьцьвердзіць, што мы ня чуем на эміграцыі нашых беларускіх царкоўных званоў. Але, кіраваныя любоўю да Бога й верачы ў Ягоную сьвятую апеку й справядлівасьць, мы сабраліся тут, каб памаліцца і ўзьнясьціся думкамі да крыніцы сёньняшняе ўрачыстасьці – да Ісуса Хрыста й Ягонага Стрэчаньня, якое так дакладна апісвае евангеліст Лука (Ев. Лук. 11, 22 – 40). З гэтай крыніцы мы даведаліся, што калі скончылася Ісусу Хрысту 40 дзён, Яго, як і кожнага першанароджанага, згодна із Старым Законам, Прасьвятая Дзева Марыя із Сьвятым Іосіфам прынесла ў Ерусалімскую сьвятыню, каб ахвяраваць Яго на службу Богу (Вых. 3, 2). Згодна з тым-жа законам Прасьвятая Дзева прынесла ў ахвяру й пару галубоў.

Жыў у той час у Ерусаліме вельмі стары чалавек, які зваўся Сымэонам і быў надзвычай справядлівым і богабаязным. Ён ад усёй душы чакаў Збавіцеля сьвету. Дух Сьвяты, які прабываў у ім заўсёды, адкрыў яму, што ён не памрэ, пакуль ня ўбачыць гэтага Збавіцеля. Кіраваны Сьвятым Духам, Сымэон прыйшоў у сьвятыню якраз у той час, калі туды прынесьлі Сьвятое Дзіця і, пазнаўшы ў маленькім Хрысьце Збавіцеля, узяў Яго на рукі й сказаў гэтыя прыгожыя словы: „Цяпер кою, бо бачылі вочы мае Спасеньне Тваё, каторае Ты прыгатаваў перад абліччам усіх народаў, сьвятое для асьветы паганаў і слаўнага роду Твайго Ізраеля”.

Магутныя, прыгожыя й праўдзівыя словы... Ужо ідзе дваццаты век, а зьмест іхны заўсёды жывы, заўсёды сьвежы. Хрыстос – Збавіцель сьвету, сьвятло праўды, якое асьвячае ўсе народы. Мільёны людзей, асьвечаныя гэтым сьвятлом, пазналі Бога, адчуваюць вышыні сапраўднага, чыстага шчасьця й супакой яшчэ тут – на зямлі. А па сьмерці цешацца вечнаю радасьцяй у царстве Айца Нябеснага. І таму сёньня, калі людзі загразьлі ў сторсьці бясчэсьця й пачалі ўсё больш абыходзіцца бяз Бога, чалавецтва сталася нешчасьлівым. І зьніклі зь зямлі спакой і праўдзівае шчасьце й багаваленьне. Аглянецеся вакол і вы ўбачыце, што гэта так, што адвярнуўшыся ад Бога, чалавецтва парушыла духовы парадак сьвету й цяжка за гэта пакутуе.

Таму з натхнёнай песьняй Сымэона на вуснах хадзем да Хрыста – Збавіцеля сьвету. Вытрывала працуйма на ніве душы нашай. Арэм, баронуйма, ачышчайма добрае насеньне ад кукалю і ўсякага ліхазельля.

Пазнавайма веру нашую праваслаўную й кіруймася ўва ўсіх нашых прыкрасьцях і клопатах, у нашай працы нацыянальнай і грамадзкай, і ў нашых суседзкіх дачыненьнях, агулам ўва усім нашым жыцьці навукаю Хрыста, навукаю сьвятое веры нашае. Сьвет – нясталы, сьвет – зьменны. Вера нашая не павінна хістацца із сьветам: сёньня – у адзін бок, а заўтра – у іншы. Мы павінны верыць непарушна й спаўняць запаветы й традыцыі нашай Праваслаўнай Царквы. Так, як гэта споўніла, даючы нам прыклад, сьвятая сям'я. Так, як гэта спаўнялі нашыя дзяды й прадзеды.

Хай непахісная вера й царкоўныя традыцыі цьвітуць у сэрцы нашым і даюць свае духовыя плады. Вера й царкоўныя традыцыі цесна зьвязаныя між сабой і ў іх так шмат уцехі й красы. Напрыклад, сягоньня мы абходзім дзень Стрэчаньня Госпада нашага Ісуса Хрыста, дзень, які зьвязаны з традыцыйным асьвячэньнем сьвечак, дзень, які ў нашым народзе мае асаблівае значэньне й які называюць Грамніцамі. У гэты дзень наш беларускі народ нясе ў царкву васковыя сьвечкі, дзе яны асьвячаюцца. На працягу ўсяго году гэтыя сьвечкі людзі запальваюць у трывожныя часіны свайго жыцьця, верачы, што яны прынясуць ім дапамогу й адвернуць бяду.

Запаленая сьвечка ёсьць наагул сымбалем вечнага сьвятла, духовага ўяўленьня Хрыста, Які ёсьць сьветласьцю праўдзівай, што асьвячае кожнага чалавека, што прыходзіць на гэтае сьвятло (Ев. Ін. 1, 9).

Тым большае дапамогі чакае вернік ад сьвечкі грамнічнае.

Таму сёньня, сьвяткуючы на эміграцыі Стрэчаньне Ісуса Хрыста, у няпэўныя, што да нашага лёсу, цяжкія часы, трымаючы запаленыя асьвячоныя сьвечкі ў руках – сымбаль Сьвятла вечнага, перанясемся думкамі ў свой родны край. Успомнім свае вольныя й нявольныя грахі, за якія мы, магчыма, і пазбаўленыя самага дарагога – сваёй Бацькаўшчыны. Ахвяруем свой будучы лёс Волі Божай, і з малітвай і верай у Боскі Провід, з пакорай панясём пасланы нам цяжкі крыж эмігранцтва.

Госпад, Збавіцель сьвету – усемагутны. Ад Ягонага Провіду залежыць увесь сусьвет і ўсе народы. Дык пакаемся прад Ім, памолімся Яму й зажывём згодна навукі, якую прынёс нам Хрыстос – Збавіцель сьвету. Быць можа яшчэ не аканчальна перапоўнілася чара гневу Божага. Магчыма, Госпад Бог – бязьмежна міласэрны Збавіцель пачуе нашае пакаяньне й нашыя малітвы, і дасьць нам магчымасьць жывымі й здаровымі вярнуцца да хаты, у свой вольны й незалежны Край. Амінь.

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Жвавей, чым заўсёды, б'ецца сёньня сэрца праваслаўнага хрысьціяніна. І ня дзіва, бо Хрыстос уваскрос. Уваскрэсьнем і мы. Гэтай вялікай ночы тысячы цэркваў, перапоўненыя народам, сьвецяцца агнямі сьвечак, агнямі веры й духоўнай радасьці.

Сьвяткуючы гэты вялікі й сьвяты дзень далёка ад родных гоняў, мы чуем сваім сэрцам урачысты вялікодны перазвон:

„Разьбіты ўшчэнт званы Сьвятой Сафіі. Сьвятое сьвятых нашага народу ператворана ў склад. Нават у катавальнях і ў турмах, нават на эміграцыі – у лясох Канады й на палёх Аргентыны – чулі й чуюць сапраўдныя беларусы за безьліч кілёмэтраў як зьвіняць званы Сьвятой Сафіі".

Выдаючы вялікодны нумар часапісу „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", настроіўшы струны нашага сэрца ў тон вялікодных званоў, зварочваюся да Цябе, Беларускі Народзе, з гарачым заклікам да разьвіцьця тых духоўных і нацыянальных скарбаў, якія стагодзьдзямі зьбіраліся й замацоўваліся нашымі слаўнымі продкамі. Асягнуць гэтае дапаможа друкаванае слова. Друк у наш век – гэта вялікая сіла, якая з аднолькавым посьпехам можа служыць і дабру і злу. Наш абавязак гэтую магутную зброю выкарыстаць для служэньня беларускаму народу й ягонай праваслаўнай веры.

Невялікія ў нас магчымасьці. Большая частка беларускай прэсы знаходзіцца ў чужых для праваслаўя, а часам і варожых, руках. Мала гэтага. З-за разыходжаньня на беларускай праваслаўнай ніве да сёньняшняга не зарганізавана справа пропаведзі й справа духоўнага ўдасканаленьня з дапамогаю друкаванага слова. Таму для кожнага веруючага мусіць быць дарагім ужо існуючае друкаванае слова, якім зьяўляецца ў сучасны мамэнт часапіс „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі".

Гэты часапіс, які спалучае нас духоўна ў вадну беларускую праваслаўную сям'ю, вольны ад усякага чалавецкага самалюбства, можа пранікнуць да сэрца кожнага хрысьціяніна, запаліць агонь веры, абудзіць любоў да сьвятога праваслаўя й нашае вялікае Бацькаўшчыны – Беларусі.

Браты-беларусы! Чытайце часапіс „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі". Шануйце й вызнавайце праваслаўную веру. У сучасны цяжкі мамэнт на чужыне захоўвайце бадзёрасьць духу й шукайце падтрыманьня й дапамогі ў Госпада Бога й Ягоных Сьвятых Угодніках.

Хрыстос Уваскрос!

# ВЕРА, НАДЗЕЯ, ЛЮБОЎ

Была прыгожая раніца. Доўгія прамяні-косы ўзыходзячага сонца дасягалі аж да муроў сьвятыні й дамоў Ерусаліму. Сваім залацістым бляскам яны, казаў-бы, жадалі абудзіць сонных грамадзян сьвятога гораду, каб хутчэй уставалі й праслаўлялі з труны ўстаўшага Збавіцеля сьвету.

Але сьпяць спакойным сном жыхары Ерусаліму. Адны зь іх соладка спачываюць ад радасьці, што гэты дзіўны Галілеянін, Які хацеў сьціраваць іх жыцьцё на шлях Праўды Божай, а чаго яны не хацелі, укрыжаваны, пахаваны й старожай абстаўлены. Іншыя сьпяць сном глыбокім ад мукаў маральных, з болю сэрца, з расчараваньня. Яны, праўда, пакахалі свайго Вучыцеля ўсёй душой, усёй сваёй істотай. Іхнія сэрцы былі поўныя веры, надзеі, любові. Але мінула ўсё гэта як сон цудоўны, скончылася ганьбай і сьмерцяй крыжовай. Зь іхняга любімага Настаўніка зьдзекваліся. Білі Яго. Плявалі на Яго. Кпілі зь Яго. Мучылі Яго, і сьпечаныя смагаю вусны звільжвалі воцатам і жоўцю. Ён памёр на крыжы паміж двух разбойнікаў. Сэрцы іхнія былі поўныя суму, жалю, горычы й недаверу. І сталася гэта нават з тымі, якія так блізка былі да Ісуса Хрыста, да Ягонай навукі й цудаў.

Аднак ня ўсе спалі. Былі асобы, якія пасьля бяссоннай ночы, калі сонца толькі што ўзьнялося з-за гор, як найхутчэй сьпяшаліся да труны Хрыста, каб целу Ягонаму зрабіць апошнюю паслугу. Каб яшчэ раз у жыцьці глянуць на свайго Настаўніка. Былі гэта жанчынымiраносіцы. На чале гэтых жанчын бачым Марыю Магдалену. Тую самую Магдалену, якую людзі грубага сэрца зьбясчэсьцілі й ад сябе адкінулі, а якую Хрыстос падняў зь нізінаў граху і ўліў у ейную душу новае жыцьцё. Але пляны Божыя папярэдзілі намеры жанчынаўміраносіцаў. Яны не знайшлі ўжо ў труне свайго любімага Вучыцеля – Хрыстос уваскрос.

Хрыстос уваскрос – два словы, а колькі ў іх духовай радасьці! Амаль дзьве тысячы гадоў прайшло з таго часу, як Ісус Хрыстос, зьявіўшыся пасьля свайго уваскрашэньня міраносіцам, сказаў ім: „Радуйцеся!" (Ев. Мацьв. 28, 9). Але гэтая радасьць і да сёньняшняга дня ўласьціва ўсяму хрысьціянскаму сьвету, бо Хрыстос уваскрос. І мы ўваскрэсьнем.

Хрыстос Уваскрос! – пяе сёньня душа кожнага хрысьціяніна.

Хрыстос Уваскрос! – чуваць сёньня ва ўсім сьвеце. А ў гэтай песьні, у тонах ейных як-жа чутны Вера, Надзея й Любоў.

Вера – гэта перад усім паказальніца нашай жыцьцёвай падарожы. Як падарожнік, выбраўшыся ў далёкую й невядомую дарогу, дайшоўшы да раздарожжа, ня ведае, у які бок мае сьціраваццa, каб дайсьці да мэты сваей. І толькі паказальнік на слупе гранічным дае мажлівасьць пазнаць патрэбны яму кірунак. Або як дзіцё на рынку ў дзень гандлёвы, сваю матку згубіўшае, плача. Ня ведае куды кінуцца, і толькі нечае добрае сэрца, расчуленае бядою дзіцяці, дапамагае яму знайсьці ягоную дарагую матку. Так і мы, казаў-бы, як гэты падарожнік, ці гэнае дзіцё бязраднае, з раздарожжа жыцьця свайго можам выйсьці, ідучы стала за праводнай зоркай Сьвятое Веры нашае да праўды вечнае, да дабра й красы праўдзівае.

Далей, Вера – гэта жыцьцё. Як сонца выклікае вясной жыцьцё ў прыродзе й стройнымі краскамі й зелянінаю яе прыбірае, так Сьвятая Вера нашая ёсьць сонцам, што вечна сьвеціць душы нашай, вечна яе ажыўляючы й адраджаючы.

А парукай праўдзівай нашай Веры, яе асновай непарушнай ёсьць Збавіцель Сьвету, што ўваскрос зь мёртвых. Глыбока зразумеў гэтую праўду й пацьвердзіў яе сьвяты апостал Павел, кажучы: „...Калі Хрыстос не ўваскрос, дык дарэмна ёсьць навучаньне нашае, дарэмная й вера нашая... Але цяпер Хрыстос уваскрос, першы з тых, што паснулі" (1 Кар. 15, 14). Уваскрос Хрыстос і гэтым пячаць праўдзівасьці веры нашай прылажыў назаўсёды.

Зь веры, быццам крыніцы вады жывой, выплывае родная ейная сястра – Надзея. Як многа кажа гэтае слова сэрцу хрысьціяніна. Як вязень, на ўсё жыцьцё ў вастрог пасаджаны, безнадзейна прытуляе твар свой да жалезнай краты вастрожнага ваконца, распаленым вокам углядаецца ў нябесныя прасторы, настаўляе чутка вушы свае, прагавіта ловіць кожную праяву жыцьця на волі й ясна бачыць, што з усім гэным жыцьцём ня ўбачыцца ўжо ніколі, або як жаўнер адважны, ранены сьмяротна і ў палон узяты, памірае на чужыне, сумна спаглядаючы на чужы край, на чужыя варожыя асобы, ведаючы адначасна, што на бацькаўшчыне сваей родных і дарагіх сабе асобаў ня ўбачыць ужо ніколі, так і мы без Надзеі зьяўляемся на сьвеце гэным палонным. Праўда, Вера прад нашымі вачыма малюе прыгожы абраз з Богам у душы чалавека, але Надзея на асягненьне гэтага шчасьця духовага ўлівае ў сэрца наша супакой, раўнавагу, вытрываласьць у барацьбе зь перашкодамі да гэтага праўдзівага шчасьця.

Як для карабля на моры якар, так для нас апорай пэўнасьці Надзеі нашай ёсьць Хрыстос, уваскрошаны зь мёртвых. Ён паканаў найбольшага

ворага нашай Надзеі – сьмерць. „А дзеля гэтага, як у Адама ўсе ўміраюць, так у Хрысьце ўсе ажыўлены будуць” (1 Кар. 15, 22), – слушна кажа той-жа апостал Павел.

Але не канец на гэтым. З умершых паўстаньне Хрыста яшчэ адзін дар нам прыслугоўвае. Вера й Надзея – гэта, праўда, стройны будынак, але яшчэ бяз даху. Гэта прыгожая музыка, але недакончаная, абарваная. Зь Веры й Надзеі на ўваскрашэньне Хрыста, абапёртых сьвежым, бурлівым, вясёлым руччом, плыве ў сэрцы нашы Любоў.

Як рачныя воды ў сваёй падарожы не знаходзяць супакою, і толькі ўліўшыся ў мора, разам зь ягонымі бяздоннымі водамі то бурна шумяць-рагочаць, то спакойна плывуць на паверхні, быццам цешачыся з дасягненьня сваей мэты, або як арол лёгкакрылы, узьняўшыся ў высь нябесную, затрымліваецца на адным месцы, як-бы з радасьці, што змог узьняцца над усім, што патрапіў у недасяжных прабываць прасторах і быць вольным і шчасьлівым, так і мы, плывучы на хвалях ці летучы на крылах жыцьця нашага, невымоўна дазнаем шчасьця, калі мы, як гэныя воды рачныя ў марскіх бяздоньнях, або як арол гэны ў прасторах недасяжных, у Хрысьце, у любові Яго нашу мэту, наша жыцьцё знаходзім.

Уся тайніца адкупленьня роду чалавецкага – гэта справа Любові. Крыж, Галгофа – гэта ступені той Любові. З уваскрашэньнем Хрыста – карона залатая ўсёй справы Хрыстовай. З умерших устаньне нашага Спасіцеля адчыніла нам насьцеж браму да вечнага шчасьця, да вечнага жыцьця. „Сьмерць, дзе твая перамога?”(1 Кар. 15, 55) – можна слушна запытацца з апосталам.

Дык няхай-жа гудзіць звон Вялікодны, а на хвалях тонаў сваіх няхай у сэрцы людзкія нясе Веру, Надзею й Любоў!

Няхай-жа ў кожнай душы чалавечай вясёла сёньня разьлягаецца магутнае, чароўнае „Хрыстос Уваскрос!”.



# ХРЫСТОС УВАСКРОС, ДАРАГАЯ НАША РАДЗІМА!

Хрыстос Уваскрос!

Які багаты зьмест маюць гэтыя два словы.

Для нас яны зьяўляюцца сымбалем, вечнай зарукай перамогі сьвятла над цемрай, праўды над няпраўдай, дабра над злом. Нямала мы перажылі гэтае няпраўды, несправядлівасьці, зла. Але мы верым, што іх пераможам, што дойдзем да сьвятла, якое бачым, хоць перанясем нямала пакутаў на гэтым шляху. І вялікае сьвята Вялікадня ёсьць сьвятам веры ў боскасьць нашае душы, у ейную непераможнасьць цёмнымі зьвярынымі інстынктамі, выяўленьнем веры ў сілу й магутнасьць паходу нашага народу па шчасьце.

Хрыстос Уваскрос! – вітаемся мы ў гэты радасны дзень, адганяючы думку пра ўсякія нягоды штодзённага жыцьця, ачышчаючы душу ад амаральнай дрэні.

Хрыстос Уваскрос! – вітаем мы тых з нас, што ў любові да свайго народу склалі на алтар ягонае свабоды сваё жыцьцё, бо яны для нас не памерлі. Дух іхні між намі. Яны для нас уваскросьлі.

Хрыстос Уваскрос, дарагая наша Радзіма! І Ты, як Той на крыжы, прайшла пакутны шлях. І Цябе, як Хрыста, укрыжоўвалі й мучылі нат уласныя дзеці. Плявалі ў Тваё сьвятое аблічча, ганарыліся, што маглі Табе зрабіць новую балючую рану. Злачынна кавалі супроць Цябе злыя думкі й намеры. Але мы верым, што й Ты, як Хрыстос, уваскрэсьнеш. Мы бачым Тваё Ўваскрашэньне. Сваімі цярпеньнямі Ты скранула нат закамянелыя сэрцы тых сваіх сыноў, што Табе здрадзілі. І так, як Хрыстос праз свае пакуты даў чалавецтву збавеньне, так і Ты нясеш яго нам.

Хрыстос Уваскрос!



# НАЛЕЖНА СКАРЫСТАЙМА ЧАС

Стоячы на парозе Новага Году, міжвольна прыпамінаюцца словы прарока Давіда з 38 псальма, дзе псальмапевец, разважаючы аб хутка прамінаючым нашым зямным жыцьці, кажа: „Преемнік аз есьмь у Тебе і прышлец, якоже все отцы мои" (Пс. 38, 13). І сапраўды, калі прыглядзецца да гісторыі чалавецтва, дык заўважаецца, што ўсё цячэ, усё зьмяняецца. Праходзяць вякі, зьмяняюцца народы, пакаленьні, вялікія й слаўныя культуры, паўстаюць і паміраюць людзкія навукі й філязофіі, зьгіне нават гэты ўвесь сьвет і толькі вечны Бог.

Колькі пераменаў спазнала зямля за ўсю сваю гісторыю?! Колькі на ёй жыло такіх народаў, якія былі зьнішчаны часам назаўсёды зь яе твару ды імёны многіх зь іх нават не захаваліся ў памяці чалавецтва?! Колькі дзяржаваў ведае гісторыя, якія асягнулі росквіту ў навуцы, мастацтве, гандлі, ды ад іх нічога не асталося?! Колькі за даўгую гісторыю сусьвету было прыгожых гарадоў, якія славіліся сваім мастацтвам, а час іх зьнішчыў?! І сёньня яны разбураныя, засыпаныя ілам, пяском, залітыя марской вадой. Пра іх існаваньне людзі даведваюцца, робячы раскопкі ў розных частках сьвету ды знаходзячы рэшткі калісь прыгожых гарадоў, ведамых гісторыі толькі назовам або й няведамых зусім. У сваю чаргу, чалавек – вянец тварэньня, пастаўлены ў сэрцы гэтага плыўкога й зьменлівага сусьвету, таксама падхопліваецца агульнай плыньню часу ды, не пасьпеўшы азірнуцца, адыходзіць у вечнасьць. Быў час, калі на зямлі жылі нашы прадзеды. Кожны зь іх займаўся сваёй працай, хварэў, лячыўся, старыўся. Яны ўступілі месца нашым дзядам, дзяды – нашым бацькам, бацькі – нам. Пройдзе яшчэ няшмат часу й ня будзе нас на зямлі. Іншыя людзі – нашыя дзеці і ўнукі – будуць прадаўжаць нашу работу. Аб чым гэта ўсё гаворыць нашаму сэрцу? Вось аб тым, што мы тут на зямлі – „странькікі й прышэльцы". На зямлі няма нічога вечнага. Вечны адзіны Бог, які ня мае ані пачатку, ані канца ў сваім Быцьці, і вечнае Ягонае Нябеснае Жыцьцё, у Якое мы ўвойдзем нашай несьмяротнай душой пасьля цялеснае сьмерці. Наша вечнасьць на небе, дзе прабывае Госпад наш Ісус Хрыстос – Збавіцель сьвету, Каторы за нас, грэшных, пацярпеў крыжовыя мукі, памёр, уваскрос у трэці дзень па Пісаньню, узьнёсься на Неба, адчыніў дзьверы Царства Нябеснага кожнаму з нас і там чакае нас пасьля канца нашага кароткага зямнога жыцьця. Мы вечна жыць будзем там. Там ужо вечна жывуць нашы сьвятыя ўгоднікі і ўсе нашы продкі, памёршыя зь верай у Бога. На зямлі мы толькі тымчасовыя госьці, як і нашы продкі, якія прайшлі свой зямны шлях і назаўсёды зь верай адышлі да Госпада Бога. Дык належна скарыстайма час. Бо

час не стаіць на месцы, а ўсьцяж коціцца, бяжыць, мінае. Час – гэта тое, што плынь хвалі. Час бяжыць, а мы мусім лавіць яго, мусім карыстацца ім, мусім ткаць на ім узор добрага, багабойнага й прыгожага жыцьця, бо інакш час праміне, а мы астанемся з пустымі рукамі або яшчэ горш – абцяжанымі грахамі. Вось чаму ад старых людзей, якія змарнавалі свой час, сваё жыцьцё, перад сьмерцю можна пачуць пажаданьне: „О, каб можна было пачаць жыць нанова, перайсьці ўсё жыцьцё ўзноў па парадку... Як-жа інакшым было-б яно!...".

Час дарагі. Ад таго, як мы яго скарыстаем, залежыць наша вечнасьць, для якое мы створаны й да якое мы плывем на хвалях часу. Вечнасьць – гэта наша мэта. Вечнасьць – мера нашых учынкаў і нашага паступаваньня. Аб тым, што мы жывем для вечнасьці, вучаць нас розум і сэрца, вучыць Сьвятая Праваслаўная Царква, якая абымае ўсё наша жыцьцё, асьвячае яго й стройна спалучае ў адно цэлае зямлю зь небам, дачаснасьць зь вечнасьцю, веру з чынам.

Ад таго, як мы скарыстоўваем час, залежыць і наша шчасьлівая або нешчасьлівая дачаснасьць. Час заўсёды нам добра радзіць. Калі мы неспакойныя ў душы сваёй, калі адчуваем балючую крыўду ад сваіх блізкіх, калі воля ня мае сілы змагацца са злом, тады час сапраўды добра нам радзіць. Ён нас супакойвае, прасьвятляе нашу душу, дапамагае нам адрадзіцца духова і ўзбагаціцца сьвятой сілай душы й целу.

Апрача гэтага час лечыць. Калі нас спатыкае вялікае няшчасьце, няўдача, маральны ўдар, тады нам здаецца, што ня вытрываем, не перажывём, што нашы духовыя й цялесныя сілы адмаўляюць нам паслухмянасьці. І вось час лагодзіць гэтыя раны, супакойвае іх боль і паволі часта залечывае зусім.

Скарыстайма належна час, бо час беззваротны! Час прамінуў і загінуў. Яго ўжо ня зьвернеш. Страчанае багацьце, славу ды іншыя дачасныя вартасьці можна страціць ды зьвярнуць ізноў; дрэннае здароўе можна направіць; зваяваную ворагамі бацькаўшчыну можна вызваліць; можна адбудавацца пасьля пажару. Але прамінулага часу ня зьвернеш, не здабудзеш яго ізноў. Бо час, як выкінутая страла, як заўзяты віхар. Дык як-жа трэба карыстацца часам? Надта проста. Ня трэба рабіць нічога ані супраць Бога, ані бяз Бога, а толькі з Богам, бо ў ім знаходзім сваю мэту, сэнс жыцьця, сваё шчасьце – як дачаснае, таксама й вечнае. Гэтак вучыць і згоднага з гэтай навукай нашага паступаньня вымагае ад нас наша Сьвятая Праваслаўная Вера.

**Дык з Богам, Беларускі Народзе, пачынайма Новы Год, а пабожнай, чэснай і вытрывалай працай здабудзем долю, волю й шчасьце на зямлі ды вечнае жыцьцё на небе!**

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Хрыстос Уваскрос! – гучыць сягоньня ўва ўсіх праваслаўных сьвятынях усяго сьвету.

Хрыстос Уваскрос! – пяе сягоньня душа кожнага веруючага хрысьціяніна. А ў песьні гэтай, у яе тонах чутна радасьць вялікодная, якую перажывае кожны: стары й малы, вучоны й няпісьменны, бедны й багаты. Дык наладзіўшы струны нашага сэрца ў тон гэтай вялікай радасьці, імкнёмся думкаю да яе крыніцы.

У пятніцу Язэп з Арыматэі й Нікадзім зьнялі цела Ісуса з крыжа, абвілі плашчаніцай і палажылі цела ў каменны гроб (Ев. Ін. 19, 38 – 42). Рымскі валадар Юдэі Понцій Пілат, асудзіўшы Ісуса Хрыста – Збавіцеля сусьвету на сьмерць на крыжы ды пераканаўшыся ў Ягонай сьмерці, дазволіў узяць цела Язэпу з Арыматэі, каб пахаваць, але загадаў паставіць варту каля гробу, каб вучні не забралі цела Настаўніка (Ев. Мацьв. 27, 62 – 66).

Раніцай дня, які мы называем нядзеляй, узыходзячае сонца ягоным залаціста-прамяністым бляскам, маўляў, жадала збудзіць сьпячых яшчэ жыхароў Ерусаліму, каб сьпяшаліся праслявіць паўстаўшага з гробу Хрыста. Але жыхары Ерусаліму сьпяць непрабудным сном. Адны тыя, што Яго ўкрыжавалі, спалі салодка, поўныя задаваленьня, што гэты дзіўны Настаўнік з Назарэту, Які хацеў ськіраваць іх жыцьцё на шлях Божае Праўды, якое яны не схацелі прыняць, укрыжаваны й памёр. Яго пахавалі й варту да гробу прыставілі. Другія – вучні Ісуса Хрыста, якія да Сьветлага Хрыстовага Ўваскрашэньня й да зьніспасланьня на іх Сьвятога Духа былі звычайнымі людзьмі, – спалі сном непрабудным, стомленыя духоўнай трывогай і расчараваньнем. Пасьля ўрачыстага ўваходу іх Настаўніка ў Ерусалім радасьць запоўніла іх сэрцы. Варожасьць і зайздрасьць жыхароў Ерусаліму, здалося ім, перамяніліся ў радаснае прызнаньне іх Настаўніка. Слава й панаваньне былі забясьпечаны іх Вялікаму Настаўніку,– так разважалі яны. Ды вось, прамінула некалькі дзён, і замест спаўненьня іх радасных спадзяваньняў Настаўнік скончыў свой земскі шлях на Галгофе...

Аднак ня спалі ўсе... Былі й такія, што пасьля бяссоннае ночы раніцай у нядзелю сьпяшаюцца да Гробу Хрыста, Якога яны пакахалі ўсім сэрцам сваім. А сэрцы іх былі поўныя верай, надзеяй, любоўю. Евангеліст Мацьвей гаворыць: „Калі прайшла субота, у час сьвітаньня першага дня тыдня прыйшла Марыя Магдалена й другая Марыя паглядзець магілу. І вось сталася вялікае трасеньне зямлі, бо Ангел Гасподні, зыйшоўшы зь неба, прыступіўшы, адваліў камень ад дзьвераў магілы й сядзеў на ім. Выгляд яго быў як бліскавіца, і вопратка яго белая як сьнег. І ад страху перад ім задрыжэлі вартаўнікі й зрабіліся як нежывыя. Ангел-жа жанчынам сказаў: „Ня бойцеся, бо ведаю, што

вы шукаеце Ісуса расьпятага. Яго няма тут: Ён уваскрос, як і сказаў. Хадзеце, паглядзеце месца, дзе ляжаў Госпад, і пайдзеце хутчэй, скажэце вучням Ягоным, што Ён уваскрос зь мёртвых...". Калі-ж яны ішлі апавясьціць вучняў Яго, дык вось Ісус спаткаў іх і сказаў: „Радуйцеся!". І яны, прыступіўшы, абнялі ногі Яго й пакланіліся Яму (Ев. Мацьв. 28, 1-9).

Радуйцеся! - сказаў уваскрэсшы Хрыстос Марыі Магдалене й другой Марыі, а ў іх асобах і ўсяму чалавецтву, якое верыць у імя Яго. Праходзяць гады, прамінаюць пакаленьні й народы, а радасьць вялікодная трывае заўсёды. Яна вечная з увагі на крыніцу, зь якое паходзіць. Падараваў яе нам сваім словам „Радуйцеся!" сам уваскрэсшы Хрыстос - Збавіцель сьвету.

Пасьля свайго ўваскрашэньня Ісус Хрыстос на працягу сарака дзён шмат разоў зьяўляўся вучням Ягоным, навучаў іх таямніцаў Царства Божага й гаварыў ім: „Ідзеце й навучайце ўсе народы й хрысьціце іх у Імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа, навучаючы іх выпаўняць усё, што Я сказаў вам..." (Ев. Мацьв. 28, 19 - 20). І вучні Ягоныя, тыя самыя, што не супрацьсталі страху чалавечае натуры ў садзе Гефсыманскім ды, пакінуўшы Яго, уцяклі (Ев. Мацьв. 26, 56), зараз, пасьля Ягонага ўваскрашэньня, прасьвяцілі Хрыстовай навукай увесь сусьвет, а вернасьць сваю іх Боскаму Настаўніку сьцьвердзілі сваім жыцьцём і сваёй сьмерцю, бо амаль усе сьвятыя апосталы скончылі жыцьцё сваё сьмерцю мучанікаў за пропаведзь уваскрэсшага Хрыста.

Хрыстос уваскрос, перамогшы сьмерць, і ўсяму чалавецтву адчыніў дзьверы ў вечнае жыцьцё. Вось чаму, сьвяткуючы ўваскрашэньне Хрыста, мы сьвяткуем і сваё будучае ўваскрашэньне, вызнаем сваю веру ў вечнае, загробнае жыцьцё, у вечную шчасьлівасьць у Царстве Божым.

Для людзей, якія жывуць навукай Хрыста, сьмерць - ужо ня сьмерць, а нараджэньне да жыцьця вечнага. Нашы дзяды й прадзеды жывуць ня толькі ў нашай памяці. Але кожны зь іх жыве ў Бога ў сваёй непаўторнай асобе. „Я - уваскрашэньне й жыцьцё; хто верыць у Мяне, хоць і памрэ, жыць будзе" (Ев. Ін. 11, 25). Які-ж цудоўны лёс тых, што вераць у Хрыста! Яны не паміраюць, а спадкаймуць жыцьцё вечнае ў Царстве Божым.

Дык дарагія браты й сёстры, бацькі і маткі, дзеці Беларускага Народу!

Дзе-б мы не знаходзіліся і ў якіх - бы абставінах не апынуліся, няхай узмоцніцца ў сэрцах нашых Вялікодная Радасьць! Бо Хрыстос Уваскрос!

І мы пасьля сьмерці ўваскрэсьнем да вечнае шчасьлівасьці, калі будзем жыць згодна з навукай Хрыста, якая стройна спалучае зямлю зь небам, дачаснае наша жыцьцё зь вечнасьцю.

# З СЬВЯТАМ 25 САКАВІКА

Тыя, што сеюць у сьлязох,
з радасьцю жаць будуць
(Пс. 125, 5)

Зноў надышла вясна. Прырода зноў абуджаецца ад зімовага сну, каб пачаць новае жыцьцё. Зноў надышоў сакавік, а зь ім і нашае вялікае нацыянальнае сьвята – Дзень 25-га сакавіка.

У жыцьці народаў і нават кожнага з нас ёсьць дні, якія сваімі падзеямі й сваім значэньнем выдзяляюцца з нашага штодзённага жыцьця. Для нас, беларусаў, такім днём ёсьць Дзень 25-га сакавіка, у які Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвесьціла Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай. Хоць маладая Беларуская Дзяржава, адноўленая Актам 25-га сакавіка 1918 году, была хутка паняволена нашымі ворагамі з усходу й захаду, аднак барацьба за незалежнасьць працягвалася. Яна працягваецца й будзе працягвацца да таго мамэнту, пакуль Беларусь ня будзе вольнай і незалежнай дзяржавай.

Кроў, пралітая за гэтую вялікую й несьмяротную ідэю, не засыхае. Цяпло яе ёсьць цяплом у сэрцы народу, які змагаецца за сваю волю. Цяпло пралітай крыві на алтар Бацькаўшчыны адыгрывае ролю неспакойнага й трывожнага сымбалю, які прыпамінае нам аб няскончаным і кліча да прадаўжэньня распачатага. Дзякуючы гэтаму, на працягу 37-мі год беларускі народ адважна ішоў у барацьбе за вольнасьць і незалежнасьць Беларусі на сьмерць, у турмы, у Сібір, каб сваім жыцьцём і крывёй сьцьвердзіць веліч, сьвятасьць і несьмяротнасьць гэтай ідэі. Сьвятасьць і несьмяротнасьць гэтай ідэі ўзмацняе нашу веру ў перамогу, дае нам сілу й вядзе да гэраічных чынаў, натхняе беларускі народ на Бацькаўшчыне й на эміграцыі да няспыннага змаганьня за сваю волю, за сваё шчасьце й сваю незалежнасьць.

Нашы ворагі паняволілі беларускі народ, але не змаглі паняволіць ідэі беларускага народу да свайго самастойнага й незалежнага жыцьця. Барацьба за гэтую ідэю прадаўжаецца. Няхай яна будзе цяжкой і жорсткай, няхай бярэ новыя й новыя ахвяры, па якіх ільлюцца горкія сьлёзы нашых матак, жанок, сясьцёр і дзяцей-сірат, але, несучы крывавыя ахвяры ў гэтым змаганьні, мы **здабудзем вольнасьць** для сваёй Бацькаўшчыны, хочуць ці ня хочуць гэтага нашыя ворагі.

„Тыя, што сеюць у сьлязох, з радасьцю жаць будуць”, – так гаворыць Сьвятое Пісаньне. А сьлёзы, горкія сьлёзы, ільлюцца там на

Галгофе пад Крыжам, на якім крамлёўскія наезьнікі ўкрыжавалі нашую Беларусь.

Сёньня там іньлецца кроў з глыбокіх ранаў нашага народу. Мы сьчуем стогны й плач забіваных крамлёўскімі катамі нашых братоў і сёстраў, ды адначасна верым непахісна, што пасьля Крыжа й Галгофы ёсьць Уваскрашэньне. Гэтай верай натхняе нас Сьвятая Праваслаўная Царква, якая сягоньня як-бы спэцыяльна для нас, калі мы абходзім Дзень 25-га сакавіка, абходзіць Крыжапаклонны Тыдзень. Гэтай верай натхняе нашыя сэрцы й сьвяты Крыж, які ў гэтым годзе ў Дзень 25-га сакавіка знаходзіцца на сярэдзіне царквы ў кожнай праваслаўнай сьвятыні. Крыж выносіцца на сярэдзіну царквы, а людзі й хоры ангелаў сьхіляюцца прад Ім і разам сьпяваюць: „Крыжу Твайму пакланяемся, Уладыка, і сьвятое Ўваскрашэньне Тваё апяваем і славім". Крыж прыпамінае нам тую крыжовую дарогу, якою ішоў Ісус Хрыстос ад нараджэньня да ўваскрашэньня. Усё зямное жыцьцё Ісуса Хрыста ёсьць вялікім правобразам нашага жыцьця, якое ў бальшыні ёсьць цярністым і цяжкім. Але ня толькі паасобнага чалавека жыцьцё бывае крыжаносным. Цяжкі крыж вельмі часта выпадае й на долю цэлых нацыяў, цэлых народаў. Цяжкі крыж няволі нясе й наш беларускі народ, які мае свой край, сваю гісторыю, сваю культуру й свае правы, ад Бога дадзеныя на вольнасьць і незалежнасьць. Верым, што па Промыслу Божаму краіне нашай пасланы цяжкі крыж няволі. Дык працуйма для адраджэньня нашай незалежнасьці згодна Акту 25-га сакавіка! І там, дзе нашы сілы людзкія нас пакідаюць, мы шчыра зь верай і надзеяй і вялікай пакорай клічма на дапамогу ўкрыжаванага і ўваскрослага Хрыста.

Малітва:

Госпадзі! Пазбаў Бацькаўшчыну нашу Беларусь ад бязбожнай улады. Пашлі міласьць Тваю, спакой, жыцьцё, збавеньне й дараваньне грахоў усім нам і кожнай душы жывой, што Твае дапамагі патрабуе, за малітвы Прачыстае Багародзіцы, Сьвятое Прэпадобнае Еўфрасіньні Полацкае, Сьвятых Віленскіх Мучанікаў Антона, Іаана й Аўстаха, Сьвятога Прэпадобнага Мучаніка Афанасія Брэсцкага і ўсіх Святых. Амінь.

А Ён, верым і спаведуем, нас выслухае й пасьля цяжкой няволі благаславіць сваёй міласьцю на вольнасьць і незалежнасьць.

І тады тыя сьлёзы нашых матак і сёстраў стануцца сьлязьмі ўмільнай радасьці, калі мы ўсе сустрэнемся ў Вольнай і Незалежнай Беларусі.

## ВЕРБНІЦА

Вербніца - гэта асаблівае й вельмі шанаванае сьвята на Беларусі. У гэты дзень Сьвятая Праваслаўная Царква ўспамінае ўрачысты ўезд Ісуса Хрыста ў Ерусалім і адначасна асьвячае вярбу - сымбаль уваскрашэньня, якую, падобна старажытнаму Ізраелю, наш народ прыносіць у сьвятыню ды пасьля асьвячэньня перахоўвае ў сваёй хаце за абразамі як вялікую сьвятасьць.

За пяць дзён да жыдоўскай Пасхі Ісус Хрыстос, акружаны сваімі вучнямі й народам, ідзе ў Ерусалім. Чутка аб гэтым хутка распаўсюдзілася і ўсхвалявала Ерусалім зь яго ваколіцамі. Імя Вучыцеля з Назарэту было ва ўсіх на вуснах. Яго навука, Яго магутная й цудатворчая сіла выклікала агульнае зьдзіўленьне й тварыла Яму далёкасяжную славу ў Палестыне. Дык няма нічога дзіўнага, што дарога ад Віфаніі да Елеонскай гары была запоўнена народам, які разам з Ісусам Хрыстом і Яго вучнямі паволі прыбліжаўся да сьвяшчэннага гораду Ерусаліму. Настрой у народзе быў падняты і ўрачысты. Адны, што ішлі наперадзе Хрыста, падсьцілалі свае адзежы пад ногі асла, на якім ехаў Вучыцель. Іншыя адрывалі пальмавыя галінкі і, махаючы імі ў паветры ды сьцелючы дарогу, віталі: „Осана (спасеньне) сыну Давідаваму! Багаслаўлен ідучы ва імя Гасподняе! Осана ў вышніх!" (Ев. Мацьв. 21, 9.)

Трыумф асягнуў свайго кульмінацыйнага пункту, калі народ зь Віфаніі спалучыўся каля гары Елеонскай з народам зь Ерусаліму, што выйшаў за горад, каб сустрэць Вялікага Вучыцеля й Цудатворцу. І калі ўвайшоў Ісус Хрыстос у Ерусалім, усё места, як гаворыць евангеліст Мацьвей, заварушылася й гаварыла: „Гэта Ісус - прарок з Назарэту Галілейскага". Радасна лікаваў Ізраель. У асобе Ісуса Хрыста ён убачыў свайго Цара-Месію. А Ісус Хрыстос, як і заўсёды, лагодны, спакойны, у гэты ўрачысты мамэнт быў сумны больш, чым калі-небудзь. Глыбокі й цяжкі сум сьціскае й хвалюе Ягонае сэрца. Калі-ж падняўся Ён на гару Елеонскую й зь яе ўбачыў свой улюбёны горад Ерусалім, заплакаў і сказаў: „О, каб і ты хоць у гэты дзень твой зразумеў, што ёсьць дзеля спасеньня твайго! Але гэта схавана цяпер ад вачэй тваіх; бо прыйдуць на цябе дні, калі ворагі твае абкладуць цябе акопамі й акружаць цябе, і сьціснуць цябе зусюль; і зруйнуюць цябе, і пазабіваюць дзяцей тваіх у табе, і не пакінуць у табе каменя на камені, бо не распазнаў часу адведзінаў тваіх" (Ев. Лук. 19, 42 - 44).

Гледзячы на Ерусалім, Ісус Хрыстос плакаў. Плакаў над тым цяжкім лёсам, які меў спаткаць гэта места. Плакаў, бо любіў свой народ, і ведаў чаго народ хоча, і чаго ад Яго чакае! Тры з паловай гады хадзіў Ён па гарадох і вёсках Палестыны сярод людзей усялякага ўзросту й сацыяльнага стану, прапаведваў ім аб любові, аб дабры, аб агульным брацтве, аб Айцы, што на небе. Пацяшаў у скрусе, аблягчаў

пакутуючых – тварыў для іх цуды й быў такі блізкі да іх, як блізкія адзін да аднаго дзеці ў доме свайго бацькі. Але яны Яго не разумелі.

Ізраель чакаў Месію, якога ён хацеў і якога стварыў у сваім паняцьці й спадзяваўся, што Ісус Хрыстос зьяўляецца тым Месіяй. Ізраель хацеў у асобе Ісуса Хрыста бачыць цара, але цара зямнога: ня **Бога воплоцівшегося нас радзі і нашего радзі спасеньня**, а слаўнага зямнога цара, які ўстанавіў-бы царства Ізраельскае. Царства не духовае, як царства Божай праўды й ісьціны, а царства зямнога дабрабыту й вонкавай сытасьці. Царства павінна быць, але толькі для Ізраеля, як сыноў Аўраама па плоці. Імкненьне да духоўна-маральнага адраджэньня народнага сэрца – ідэя Царства Божага, як Царства ісьціны, любові й сьвятасьці, зусім была адкінута Ізраелем.

Зусім інакш вучыў Ісус Хрыстос. Ён – Цар, але Царства Яго не ад **міра сего**. Ён – Збаўца, але Збаўца ад граху, праклацьця й сьмерці. Яго Царства ня толькі для Ізраеля, але для ўсяго людзтва. Удзельнікам Царства, якое прапаведываў і да якога заклікаў Ісус Хрыстос, можа быць кожны, хто мае веру ў Бога й адрачэцца ад граху й нягоднага жыцьця. Як бачым, між вучэньнем Ісуса Хрыста й жаданьнямі Ізраеля поўнае разыходжанне, што выклікала сум і сьлёзы ў Ісуса Хрыста, калі Ён убачыў з Елеонскай гары Ерусалім.

Прадчуваньні Ісуса Хрыста споўніліся. Праз чатыры дні пасьля ўрачыстага „осана" той-жа самы народ крычаў: „Распні, распні Яго!". Народ Ізраеля не пазнаў Месію, а Ён быў сярод яго, гаварыў зь ім, датыкаўся яго й з смуткам і жалем глядзеў на яго падчас урачыстага ўезду ў Ерусалім. Народ Ізраеля адчуваў, што сярод іх незвычайны чалавек, але, на вялікі жаль, ён не зразумеў, што перад ім Бог і Месія ўсяго людзтва. Не зразумеўшы гэтага, народ Ізраеля не пайшоў за Ім і ўкрыжаваў Яго.

З таго часу прайшло шмат вякоў, але памылка жыдоўскага народу паўтараецца людзтвам зь веку ў век. Бог-Збаўца й сёньня многімі не вызнаецца, а нават ганьбіцца, нягледзячы на тое, што людзкае сэрца ня можа быць бяз Бога, як расьліна без цяпла й сонца. Не вызнаецца Бог у той мамэнт, калі Ён такі блізкі да нас, як сьвет, у якім мы жывём. Гэты сьвет ляжыць перад чалавекам, цудоўны й незразумелы, але кожнаму, хто хоча пазнаць ягоны парадак і жыцьцё, ён, сьвет, высоўвае вялікія пытаньні, якія, як сьветачы сярод цёмнай ночы, паказваюць дарогу да Бога. Бог – блізкі да нас.

У дзень уваходу Госпада Ісуса Хрыста ў Ерусалім зь вярбою ў руках і натхнёнай песьняй на вуснах „Осана" ў вышніх! Багаслаўлен ідучы ва імя Гасподняе!" сьпяшаймася, як заўсёды, да Хрыста – Сьвятла ўсіх народаў, і ў сваім грамадзкім, палітычным і асабістым жыцьці кіруймася Ягонымі навукамі. А Ён благаславіць нас, а наша праца й жыцьцё з Богам прынясуць у свой час пажаданае збаўленьне.

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Два словы, а колькі духовай радасьці яны ўліваюць ў сэрца беларуса ды наагул у сэрца веруючага ў Бога ўсяго людзтва.

Любяць беларусы Каляды, Вадохрышча, Сёмуху, але перавагу кожны аддае Вялікадню. Вялікдзень, як ні адно іншае, – самае народнае й самае шанаванае ў беларусаў сьвята. Ніводнае сьвята так не чакаецца, як сьвята сьветлай Хрыстовай Нядзелі. Дарослыя й моладзь, дзяды й дзеці, вучоныя й няпісьменныя, бедныя й багатыя – усе зь нецярплівасьцю чакаюць гэтага дня і ўсе аднолькава радуюцца яго надыходу.

І, мусіць, ніводнае сьвята не пакідае па сабе гэтулькі сьветлых успамінаў, радасных перажываньняў, як сьвята Ўваскрашэньня Хрыста. Бо гэтае сьвята сапраўды збаўляе людзкія душы ад спусташальнага зямнога холаду й саграе іх вышэйшымі праменьнямі, што дабрачынна пасылаюцца нам Госпадам Богам зь неба.

Сьвята Ўваскрашэньня Хрыста – гэта сьвята вялікай радасьці, бо сьвяткуючы Хрыстова Ўваскрашэньне, мы сьвяткуем і сваё будучае ўваскрашэньне, і адначасна іспаведуем сваю веру ў вечнае, загробнае жыцьцё, у вечнае блажэнства ў Царстве Божым. Хрыстос уваскрос, паканаў сьмерць і ўсё людзтва прылучыў да вечнага жыцьця – усяму людзтву дараваў бясьсьмерце. І дзеля гэтага мы радуемся й весялімся.

З асобым пачуцьцём і з асобым значэньнем і надзеяй успрымаем словы „Хрыстос Уваскрос!" мы, беларусы. І гэта так натуральна.

Хрыстос уваскрос і гэтым сьцьвердзіў, што цярпеньне, крыж і Галгофа нявечныя. Пасьля Галгофы ёсьць уваскрашэньне. Калі-б мука Хрыста – Спасіцеля міру не закончылася Яго ўваскрашэньнем, дык веруючае чалавецтва ня мела-б маральных сіл несьці крыж, спасыланы паасобнаму чалавеку, а часам цэлай нацыі, цэламу народу. Вельмі цяжкі крыж няволі нясе наш беларускі народ, які мае свой край, сваю гісторыю й свае правы, дадзеныя Богам на вольнасьць і незалежнасьць.

Хрыстос уваскрос і гэтым абвясьціў перамогу жыцьця над сьмерцю, перамогу сьвету над цемрай, перамогу дабра й вечнай праўды над злом і праступствам.

Вера ў уваскрашэньне нашай каханай краіны Беларусі крэпне. Кожны беларус і беларуска няхай унясуць свой уклад у гэтую сьвятую й вялікую справу: бойкая моладзь – свой энтузыязм, дарослыя – сваю аддансьць, сваю любоў і асабліва свае малітвы. Адкідаючы сваркі, пашквільнасьць, груповыя падзелы, асабістыя абразы, яднаймася для супольнае барацьбы зь верай, што прыйдзе па Промыслу Божаму час, калі над нашай Краінай засьвеціць Сонца Праўды і Яна, скінуўшы кайданы бальшавіцкай пакуты, ўваскрэсьне з клічам: „Сапраўды Ўваскрос Хрыстос!"

# КАЛЯДНАЯ НОЧ

Другая сусьветная вайна, прайшоўшы амаль па ўсім сьвеце, не амінула й нашу бацькаўшчыну Беларусь. У выніку гэтай вайны наш край акупаваў бязбожны бальшавізм, які прынёс з сабой няволю й тэрор.

Каб захаваць сваё жыцьцё, многія пакінулі свой родны кут і пайшлі на эміграцыю. Сягоньня беларускага эміґранта можна спаткаць па ўсім сьвеце, дзе ён у прыбранай бацькаўшчыне вольна жыве, працуе й перахоўвае сваю веру, культуру й нацыянальнасьць. Дык няма нічога дзіўнага, што і ў гэтым годзе ўвечары 24 сьнежня тысячы сем'яў беларускага народу па гэтым баку жалезнай заслоны зьбяруцца ў цесным коле сваіх бліжэйшых родзічаў ды знаёмых на куцьцю. Яшчэ раз у гэты традыцыйны Калядны вечар у кожнага з нас абудзяцца прыемныя й радасныя ўспаміны зь дзіцячых год, ды адначасна сумам агорне сэрца, бо-ж за супольным сталом многіх ня будзе.

Калядны вечар, Калядная куцьця й Калядная ноч на Беларусі, як ніводнае іншае сьвята, дае асаблівы прастор апафеозу сямейнага кола, бо зьяўляецца адначасна ўрачыстасьцю рэлігійнай і ўрачыстасьцю сямейнай. У цесным сямейным коле, пры сьвятле лампадак або сьвечак, памаліўшыся супольна, садзіліся за стол. Падобныя хвіліны былі рэдкімі ў жыцьці, а таму яны былі такімі дарагімі для кожнага з нас. Дзеці й дарослыя ў гэты Сьвяты вечар праймаюцца Хрыстовымі запаламі любові да чалавека, пазнаюць глыбіню значэньня хрысьціянскай рэлігіі й сваімі думкамі лунаюць там, дзе нарадзіўся Хрыстос – Спасіцель сьвету. У думках сваіх ідзем і мы ў далёкую Палестыну – у горад Давідаў Віфліем. Ідзем да ясьляў народжанага Хрыста, да тэй крыніцы, якая дае спасеньне для ўсіх людзей бяз вынятку.

Глыбокая цёмная ноч апусьцілася над невялічкім горадам Віфліемам і ягонымі ваколіцамі. Апусьцілася так, як яна апускаецца над зямлёю заўсёды. Ярка мігацелі зоркі на небе. Заснулі, змораныя працай, людзі. На вуліцах гораду й ваколіцах была поўная цішыня. Ніхто не спадзяваўся й не чакаў, што ў гэтую ноч збудзецца цуд, споўніцца тое, што калісьці прадказвалі сьвету прарокі. Род Давідаў, надзея й слава Ізраеля, стаўся зрубаным дрэвам, з пня якога мела выйсьці збаўленьне. Ніхто не спадзяваўся, што ў гэтую ноч споўніцца ўсё тое, чаго з такім нецярпеньнем чакалі лепшыя людзі ўсіх часоў і ўсіх народаў. Адзін з найбольшых мудрацоў старажытнасьці філёзаф Платон нібы ад імя ўсіх іх казаў: „Людзі павінны згінуць у сваім няшчасьці, калі сам Бог ня прыйдзе ім з дапамогай". І гэта дапамога прыйшла. Калі прайшла поўня часу, Бог паслаў Сына Свайго, Які нарадзіўся ад жанчыны (Гал. 4, 4). Бог прыходзіць чалавеку насустрач і, каб быць яму больш даступным і зразумелым, прыходзіць ня толькі як Бог, але як Бог і чалавек адначасна. Прыходзіць у гэту Вялікую й Сьвятую Ноч!

Ад таго часу прайшлі стагодзьдзі, але кожны раз, калі прыходзіць Калядная Ноч, жывей, чымся ў іншы час, б'ецца сэрца веруючага чалавека, напаўняецца асаблівай духовай радасьцю.

Аб гэтай найвялікшай ува ўсёй гісторыі чалавецтва падзеі евангеліст Лука піша: „І сталася ў тыя дні: Выйшаў ад кесара Аўгуста загад зрабіць перапіс па ўсёй зямлі... І пайшлі ўсе запісвацца кожны ў сваё места. Пайшоў таксама й Язэп з Галілеі, з места Назарэту ў Юдэю, у места Давідавае, званае Віфліем, бо ён быў з роду й дому Давідавага, запісацца з Марыяю... Калі-ж яны былі там, надышоў час радзіць ёй; і ўрадзіла Сына Свайго Першага, і палажыла Яго ў жолаб, бо ня было ім месца ў заезьдзе (Ев. Лук. 2,1 - 7)". Як бачым, паслухмяныя загаду, патомкі Давідавы Сьвяты Язэп і Марыя ідуць з Назарэта ў Віфлием, каб там запісацца. Быў ужо позьні вечар. Дарэмна шукалі яны прыпынішча. Віфліем запоўнены людзьмі больш заможнымі. Для мацеры Госпада й Сьвятога Язэпа не знайшлося ў Віфліеме іншага прыпынішча як толькі цёмная пячора ў ваколіцы гораду. І вось тут адбыўся цуд. Тут нарадзіўся Хрыстос - Збавіцель сьвету.

І гэтае здарэньне мае вялікае значэньне. Яно вучыць нас, што сутнасьць нашага жыцьця - гэта жыцьцё духовае, а ўсё іншае - багацьце, слава - усё гэта другараднае, мінаючае, тымчасовае.

Беларуская эміграцыя, разселеная па ўсёй зямлі, радуйся! Хоць часам і няма месца, дзе можна было-б адпачыць целам і душою, цешся: Хрыстос народжаны не ў царскіх харомах, не сярод крывавых ірадаў, а сярод нас! З намі зраўняўся ён і, падобна многім з нас, ня меў дзе галавы прытуліць.

У часе вялікай тайны Боганароджаньня глыбокім сном спаў горад Віфліем. Толькі бедныя пастушкі, якія выконвалі свой абавязак - сьцераглі стадка, маглі любавацца красою неба, усеянага яркімі зоркамі. Іхныя шчырыя сэрцы напаўняюцца баязьлівым захапленьнем перад веліччу Бога, які словам Сваім стварыў гэты неабсяжны й прыгожы сьвет.

Цішыня на палёх Віфліемскіх. І раптам неба асьвятляецца яркім сьвятлом. Ангел Божы зьяўляецца перад імі й кажа: „Ня бойцеся! Я абвяшчаю вам вялікую радасьць, якая будзе ўсім людзям, бо цяпер нарадзіўся вам у горадзе Давідавым Збавіцель, які ёсьць Хрыстос Госпад. І вось вам знак: вы знойдзеце Дзіця ў пялёнках, якое ляжыць у яськлях". І раптам з Ангелам зьявілася войска нябеснае, якое славіла прыход Госпада, гаворачы: „Слава на вышынях Богу, на зямлі мір сярод людзей добрае волі" (Ев. Лук. 2, 8 -13). І вось гэтыя простыя пастушкі вычуваюць Праўду ў песьні Ангелаў і сьпяшаюцца ў пячору, і тое Дзіця ў жолабе вызнаюць за Хрыста й Бога свайго. Так была

агалошана вестка па зямлі аб нараджэньні Збавіцеля сьвету. Абвешчана яна была не ў сталіцы тагачаснага сьвету Рыме, не ў багатых харомах рымскіх цэзараў, не перад сабраньнем вялікіх мужоў у сэнаце, не на форуме або перад натоўпам народу, не ў сьвяцілішчы нават – у ерусалімскім храме Бога Еговы, а была абвешчана ў ваколіцах невялікага гарадка Віфліема. А слухалі гэтую вестку звычайныя пастушкі, якія былі першымі вызнаўцамі й першымі прапаведнікамі, дзякуючы якім першым хрысьціянствам быў асьвечаны сьвет і радасьць і благаваленьне праз словы Ангелаў на працягу амаль двух тысячагодзьдзяў. Гэта напаўняе душы й сэрцы ўсяго веруючага, г. зн. лепшага стану чалавецтва – лепшага ад часоў першасьвяшчэньнікаў і „сільных міра гэтага".

Дык не сумуй-жа, змораны, як тыя пастушкі, працаю пры фабрычным станку, брат-беларус! Ідзі з чыстым сэрцам, духовай радасьцю й пакорай да ясьляў Хрыста! Узьнясі хвалу Яму, бо Ён міласьціва прыняў першае пакланеньне ад убогіх, пакорных людзей, скромных людзей працы – Віфліемскіх пастушкоў! І так, як яны, ідзі да Бога, а народжаны Хрыстос прыме тваё пакланеньне й дапаможа табе!

Хрыстос аб'явіўся ня толькі Віфліемскім пастухам. Кіраваныя Віфліемскай зоркаю, прыйшлі ў Віфліем пакланіцца й прынясьлі Хрысту дары валхвы з далёкага Ўсходу. Царкоўная традыцыя называе іх царамі, бо яны былі царскага роду. Аднак іхнае паходжаньне не перашкодзіла ім быць добрымі людзьмі. Яны былі вучоныя, але й навука не аддаліла іх ад Бога, наадварот, памагла ім знайсьці Бога.

Упадабляйцеся й вы валхвам, і нясеце свае дары – золата, ладан і сьмірну – Госпаду. Падзяліцеся сваім дастаткам з тымі, якія сягоньня яшчэ патрабуюць дапамогі. Дайце тое, што зможаце для тых, хто яшчэ сягоньня там, у Эўропе, церпіць ад холаду й голаду. Пачуйце голас народжанага Хрыста: „Тое, што вы зрабілі аднаму з гэных меншых братоў маіх, вы зрабілі Мне" (Ев. Мацьв. 25, 40). Радуйцеся й слаўце Хрыста, што Ён дае вам магчымасьць паслужыць Яму. Нясеце Яму ўсё, што можаце, як Тварцу і Ўладару ўсяго сьвету.

У Сьвятым Пісаньні гаворыцца, як у той час дзейнічаў і жыў Ірад. Яму дарага была ўлада, ягоныя дварцы й палацы, ягонае багацьце. Каб ўратаваць свой зямны дабрабыт, ён выдае загад перабіць усіх Віфліемскіх нованароджаных дзетак. Ён спадзяецца ўтапіць у крыві народжанага Хрыста – Цара Іўдзейскага. Язэп і Марыя змушаны былі пакінуць бацькаўшчыну й выехаць з Віфліему ў Егіпет. Аднак ён ня змог зьнішчыць Хрыста, а сам загінуў страшэннай сьмерцю – яго жывога елі чэрві.

Выгнаныя з бацькаўшчыны крамлёўскімі ірадамі, пакрыўджаныя й абяздоленыя беларусы! Падымеце вашу голаву й радуйцеся! Вы не адны ўратаваны ўцёкамі Язэпа й Марыі. Хрыстос – сярод нас!

Браты й сёстры! У гэту Калядную ноч адчынім народжанаму Хрысту багацьце свайго сэрца й прынясём Яму дары: золата веры, фіміям любові й малітву, і сьмірну дабрадзейства! Будзем імкнуцца рабіць гэта ня толькі ў дні вялікага сьвята Калядаў, а і ў кожны дзень нашага жыцьця, каб яно заўсёды зьзяла сьвятлом Віфліемскай Зоркі! Тады сам Збавіцель-Бог наш пашле нам у нашым жыцьці міласьцівыя дары: Радасьць, Мір і Добрую Волю.

## ДНІ ПРАХОДЗЯЦЬ, ДНІ ЛЯТУЦЬ...

Скажы мі, Госпадзі, канчыну маю і число дней маіх, кое есть, да разумею, что лішаюся аз (Пс. 38, 5)

Праходзіць 1957 год. Як там, на Бацькаўшчыне, так і тут, на эміграцыі, прайшла вясна, адзьвінела гулкае лета, адцярушыла жоўтым, сухім лісьцём восень і за дажджлівым лістападам прыйшоў сьнежань. Прыйшоў сьнежань, які белай пярынай пакрыў прасторы Беларусі, далёкія ад нас сягоньня, але адначасна й блізкія нашаму сэрцу.

Пройдзе сьнежань, і не агледзімся, як наступіць Новы Год – 1958.

Яшчэ, здаецца, не так даўно мы пасьля капітуляцыі Нямеччыны спатыкалі амэрыканскую армію, жылі ў лягерох, турбаваліся аб куску хлеба, вопратцы... Усё прайшло, праляцела, і ў памяці асталіся толькі ўспаміны.

Бываюць у жыцьці кожнага чалавека мамэнты, калі ён затрымліваецца над сабой, над сваім жыцьцём і яго зьместам, ды задумоўваецца над няўнікнёным яго канцом. Бываюць мамэнты, якія мімаволі змушаюць нас сягаць думкай да глыбіняў быту, да яго поўных трывогі тайніцаў і загадак. Да такіх мамэнтаў адносіцца й час, калі мы завяршаем і як-бы замыкаем пройдзены круг 1957 году, і стаім на парозе Новага – 1958 году ды вітаем яго. Новы год распачынае месяц студзень, які свой назоў атрымаў нездарма ад паганскага міфалягічнага баства Януса з двума тварамі: адзін зь іх (нармальны) – глядзеў наперад, а другі – назад. Уступаючы ў новы год, і мы, падобна Янусу, раздвойваемся. Пераходзячы нябачную лінію, якая аддзяляе адзін пэрыяд часу ад другога, мы аглядваемся назад і пераконваемся, што час прайшоў, мінуў, згінуў і яго ўжо ня вернеш, незалежна ад таго, ці мы выкарысталі належна яго ці не. Адначасна глядзім наперад і затрымліваемся над гэтым: з чым Новы Год да нас ідзе й што нам прыносіць – радасьць альбо гора, жыцьцё альбо сьмерць. У гэткім прыблізна настроі, такім зразумелым і такім натуральным вытрыманым, прыгадаем адчай псальмапеўца: „Скажы мі,

Госпадзі, канчыну маю, і чысло дней маіх, кое есть, да разумею, что лішаюся аз". Калі-б кожны чалавек часьцей і больш думаў і затрымліваўся над тым, што будзе пасьля яго канца, жыцьцё шмат перамянілася-б на лепшае. Але, на вялікі жаль, чалавек забываецца аб гэтым. Уся ўвага сучаснага чалавека скіравана на жыцьцё зямное, тымчасовае. Мы турбуемся пераважна багацьцем, славай, хлебам штодзённым, вопраткай, а пра душу сваю й яе долю па сьмерці амаль усе заўсёды забываемся. У жыцьцёвых клопатах няма часу падумаць, што, магчыма, гэты год, месяц, дзень – апошнія на зямлі, і з чым, зь якім духовым набыткам пяройдзем у вечнасьць.

Забыцьцё Бога, забыцьцё вечных, нягаснучых хрысьціянскіх ідэалаў, забыцьцё душы сваей і вечнасьці ў асабістым жыцьці і ў грамадзкім нясе за сабой нялад і непарадак. Калі-б хрысьціянскае па імені чалавецтва было ці імкнулася быць хрысьціянскім у сапраўднасьці, тады й асабістае й грамадзкае жыцьцё ішло-б зусім іншым шляхам. Ня было-б атэізму, чалавецтва не сядзела-б на вулькане, загрожаным войнамі й крывавым камунізмам. Але аздараўленьне жыцьця павінна пачацца з адзінкі. Калі адзін, другі ды шматлікія пранікнуцца хрысьціянскімі ідэаламі й пачнуць належнае, згоднае з воляй Божай і Божымі законамі, жыцьцё, – а іх будзе станавіцца ўсё больш і больш, – жыцьцё зьменіцца да лепшага. Хрысьціянізацыя жыцьця павінна пачацца ня сілаю якога-небудзь загаду прымусовага, яно павінна выходзіць з сэрца кожнага асобнага чалавека. Маральнае аздараўленьне чалавека ў „асобнасьці", зразумела, прычыніцца да аздараўленьня ўсяго людзтва.

Кожны на сваім становішчы – вучоны й няпісьменны, грамадзкі й дзяржаўны дзеяч, работнік і селянін, старэйшая грамадзкасьць і моладзь, уступаючы ў Новы 1958 год, павінен прыгледзецца да свайго жыцьця. У гэтыя дні (колькі-б іх ня было), стараймася жыць з Богам, жыць па-хрысьціянску, жыць у служэньні Богу й бліжнім, і гэтым самым па магчымасьці мы будзем падрыхтоўвацца да вечнасьці. Шукайце сьпярша праўды й валадарства Нябеснага, а рэшта будзе Вам дадзена (Ев. Мрк. 6, 33).

Няхай Новы 1958 год нясе людзям ня злосьць і нянавісьць, а мір і любоў! Няхай у гэтым 1958 годзе і ў жыцьці народаў, і ў жыцьці паасобных людзей зь яркай сілай абновіцца забыты евангельскі запавет любові, які толькі й можа прынясьці людзям шчасьце, што мы ў гэты дзень жадаем адзін другому!

Няхай жыцьцёвая дарога нас, беларусаў, і ўсіх людзей у наступаючым Новым Годзе заўсёды будзе з Хрыстом!

Госпадзі! Благаславі вянец наступаючага лета Тваей дабраты й зрабі яго для Царквы Тваей Сьвятой, для Беларускага Народу й для ўсіх людзей летам Міласьці Тваей!

# НЯДЗЕЛЯ МІРАНОСІЦ

На Дзень Маткі

І калі прыйшла субота, Марыя Магдалена й Марыя Якавава й Салямэя купілі пахнідла, каб пайсьці памазаць Яго

(Ев. Мрк. 16, 1)

Паміж першымі вучнямі Ісуса Хрыста былі ня толькі мужчыны, але гэтаксама й жанчыны: Марыя Магдалена, Марта, Салямэя, Іоанна, Марыя Якавава, Марыя Іосіпава. Хрысьціянская традыцыя ўспамінае гэтаксама яшчэ й пра Вероніку, якая абцерла абкрываўлены твар Ісуса Хрыста, калі Яго праводзілі рымскія жаўнеры на гару Галгофу. За гэты чын Гасподзь Ісус Хрыстос узнагародзіў яе тым, што на хустцы, якой яна выцерла, адбіўся Яго нерукатворны абраз.

Уключыўшы сябе ў перадавыя рады вучняў, гэтыя жанчыны ўсей душою, усей істотаю палюбілі свайго Вучыцеля й ішлі за Ім ня толькі праслаўленым, але паніжаным і зганьбяным ды пасьля ўкрыжаваным. І Госпадзь Ісус Хрыстос узнагародзіў іх за гэта сваім першым зьяўленьнем, калі ўваскрос на трэці дзень, ды словам „радуйцеся!”.

Іхныя сэрцы былі поўны любові, веры й надзеі. Іхная вера, любоў і надзея былі моцнымі, як скала. Любоў, вера, надзея пазбавілі іх страху й памаглі ім перанясьці ўсе ўпакарэньні, паніжэньні й насьмехі ворагаў Ісуса Хрыста.

Яны ішлі за Ісусам Хрыстом на Галгофу й шчырымі сьлязамі горка аплаквалі Яго, стоячы каля крыжа. Яны не забыліся аддаць Яму астатнюю паслугу, калі зьнялі з крыжа Яго мёртвае цела. Першага дня па субоце, г. зн. у нядзелю, пасьля бяссоннай ночы, калі сонца чуць паказалася з-за гораў, яны пайшлі да Божага гробу, каб згодна з законам Майсея памазаць цела Ісуса Хрыста пахучымі алеямі. Але пляны Божыя папярэдзілі намеры набожных жанчын. Яны не засталі свайго Вучыцеля ў гробе – „Ён ускрос” ужо. Прыйшоўшы да гробу, яны пабачылі ангела, апранутага ў белую шату, які сказаў ім: „Не палохайцеся! Шукаеце Ісуса Назарэя, расьпятага на крыжы? Ён уваскрос. Яго няма тут. Вось месца, дзе палажылі Яго. Дык ідзеце, скажэце вучням Яговым, што ідзе перад вамі ў Галілею, там Яго пабачыце, як сказаў вам” (Ев. Мрк. 16, 6 – 7). Калі-ж яны ішлі апавясьціць вучням Яго, дык Ісус спаткаў іх...

Ці можам мы сабе ўявіць тую радасьць надзвычайную, якая агарнула іх сэрцы пры спатканьні ўваскросшага Хрыста? За сваю вернасьць Ісусу Хрысту, за сваё ня лукава любячае сэрца, за сваю адвагу й мужнасьць яны дасупіліся вялікае чэсьці – першымі бачыць уваскросшага Хрыста ды пакланіцца Яму.

Сьвятая Праваслаўная Царква з пашаны да іх прысьвяціла іх памяці другую нядзелю пасьля Вялікадня, якая дзеля гэтага й называецца Нядзеляю Міраносіц.

Сьвяткуючы Нядзелю Міраносіц, мы маем прыклад вернасьці й ахвярнасьці (пасьвяты) у службе Госпаду, гэтаксама прыклад навукі для ўсіх хрысьціянскіх жанчынаў, як жыць і працаваць для Божае Славы, і як трэба выконваць усе тыя абавязкі, якія сталіся ўдзелам жанчын паводле Божага Провіду.

Як калісьці пабожныя Міраносіцы, гэтак і цяперака жанчыны адыгрываюць вялікую ролю ў хрысьціянскім сьвеце. Хрысьціянская жанчына, каторая заховывае ў сваім сэрцы запаведзі Божыя, каторая мае любоў да Бога й да чалавека, нічога не шкадуе для сваей Сьвятой Царквы, бэзінтэрэсоўна працуе й зь вялікай пасьвятай нясе ўсякую ахвяру для дабра сваей парафіі, грамадзкасьці й сваей сям'і.

У гэтым годзе ў Нядзелю Міраносіц сьвяткуецца Дзень Маткі. Гэта змушае зьвярнуць нашую ўвагу на ролю жанчыны як у царкоўным, гэтак і грамадзка-нацыянальным жыцьці. Жанчына-жонка можа мець вялікі ўплыў на долю й характар свайго мужа. Любячага, шляхэтна добрага сэрца жонка заўсёды будзе тым магнітам, што трымае пры сабе мужа і ўсю сям'ю. Яна ня будзе прычынай сварак, непаразуменьняў, канфліктаў, а наадварот, хрысьціянская жанчына-жонка заўсёды будзе церплівай, выразумелай, прабачаючай, будзе сапраўды міраносіцай, ад якое залежыць згода, супакой і шчасьце яе мужа. Але гора мужу, калі жонка не датрымлівае вернасьці й не турбуецца адносна свае сям'і. Тады сямейнае шчасьце руйнуецца, маральная аснова сям'і падае й сама сям'я перастае існаваць. Калі-б сягоньня кожная жанчына-хрысьціянка жыла сапраўднымі хрысьціянскімі ідэаламі й напаўняла сваё сямейнае жыцьцё Духам Божым, дык ня было-б столькі зла, амаральнасьці й нянавісьці сярод сучаснага чалавецтва. Тым больш, што Божы Провід паклаў на жанчыну й абавязкі маткі. З прычыны Божага й прыроднага права жанчыне-матцы аддана ў рукі доля дзяцей, маладога пакаленьня. Жанчына-матка можа зрабіць з сваіх дзяцей што захоча. Можа ўзгадаваць іх на добрых або дрэнных людзей, у залежнасьці ад таго, якой яна зьяўляецца сама. Праўдзівая хрысьціянская матка – гэта ідэал, да якога павінна імкнуцца кожная жанчына-матка. Толькі яна можа выхаваць сваіх дзяцей па-хрысьціянску ды навучыць любіць Бога – Тварца сьвету, навучыць перасьцерагаць запаведзі Божыя, баяцца граху, шанаваць сваю родную мову, традыцыі й гэткаю дарогаю ўшляхэтніць душу дзіцяці. Калі хрысьціянская маці ўложыць у сэрца сваіх дзяцей высокія ідэалы хрысьціянскія ды любоў да свайго народу, якія сама вызнае, дык яны, напэўна, будуць для іх маральна-духовым капіталам на ўсё іхнае жыцьцё.

Як бачым, надзвычайна высокія й адказныя абавязкі мае хрысьціянская жанчына й матка. І хоць шляхі яе жыцьця нялёгкія, хоць ёй часта даводзіцца перажываць грубую няўдзячнасьць і абыякавасьць, і часта цярпець ад мужа або й ад уласных дзяцей, хрысьціянская матка скора забывае няўдзячнасьць. І далей яна ня толькі турбуецца, але і моліцца, і просіць дабраслаўленьня ў Госпада Бога для сваей сям'і. Ніякая людзкая сіла ня можа зьнішчыць гэтага шляхэтнага пачуцьця любові ў маткі-хрысьціянкі, што жыве й дзейнічае ў яе сэрцы, за што ўвесь культурны сьвет адным днём у годзе аддае чэсьць і пашану матцы.

Хоць афіцыяльнае ўстанаўленьне сьвята Дня Маткі выводзіцца з часоў жыцьця нашага пакаленьня, аднак ідэя ўшанаваньня маткі для беларусаў не зьяўляецца новай. Ідэя гэтая сярод нас памятае старыя часы. Дзеля гэтага Дзень Маткі сярод нас прыняўся бязь ніякіх засьцярогаў, бо ідэя яго ёсьць блізкай і зразумелай. Але сьвяткуючы Дзень Маткі на эміграцыі, для беларусаў за мала падзякаваць матцы за тое, што яна даглядае й турбуецца адносна сваіх дзяцей. Гэта-ж яе жыцьцёвае прадназначэньне. Беларускі народ ставіць сваім маткам большыя вымаганьні. Ён жадае, каб беларускія маткі на эміграцыі стаялі на тэй самай вышыні сваіх заданьняў, на якіх годна стаялі нашыя праматкі, якія захавалі нашу Праваслаўную Веру й нашую беларускую мову.

Мы ня маем тутака беларускіх дзяржаўных і ўзгадаваўчых асяродкаў, але мы маем свае дамы, а ў іх беларускую матку, якая можа стварыць у сваім уласным доме беларускую нацыянальную цытадэлю. Сіла й астоя гэтае цытадэлі залежыць ад нацыянальнае сьведамасьці бацькоў, і ў апрычонасьці, ад нацыянальнае сьведамасьці маткі. Дзеля гэтага беларускае грамадзтва на эміграцыі кіруе свой зрок на беларускія маткі й спадзяецца, што яны годна выканаюць свой рэлігійна-нацыянальны абавязак. Каб гэта асягнуць, беларуская матка мусіць сама паднесьціся высака й стаць жывым прыкладам як для сваіх дзяцей, гэтак і для цэлага грамадзтва. Яна мусіць быць сама прасякнута беларускім духам, каб запоўніць душы сваіх дзяцей родным рэлігійна-беларускім зьместам ад першых дзён іхнае сьведамасьці. Яна мусіць шанаваць і цаніць усё, што беларусам дарага, і ў такім духу ўзгадоўваць сваіх дзяцей.

Дык няхай-жа кожная беларуская матка спытае сябе, ці яна ёсьць такой?! Калі так, дык яна можа быць гордай, што сталася высокай насьледніцай беларускае праматкі, якая захавала веру й мову нашага народу. З другой стараны, беларускае грамадзтва ў дзень Сьвята Беларускае Маткі пахіляе свае галовы перад Ёю і моліць Бога, каб Ён паслаў Ёй усякую памыснасьць у яе адказным высілку.

# ДЗЕЙНАСЬЦЬ СЬВЯТОГА ДУХА

У пяцідзесяты дзень пасьля ўваскрашэньня Ісуса Хрыста мы сьвяткуем вялікае сьвята, якое ў царкоўным уставе называецца Нядзеляй Пяцідзесятніцы. Народ наш беларускі называе гэтае сьвята Зшэсьцем Сьвятога Духа, Тройцай, Пяцідзесятніцай і Сёмухай. Сьвята гэтае вельмі старажытнае. Сягае яно часоў апостальскіх. У „Пастановах Апосталаў" гаворыцца: „У дзесяты дзень пасьля Ўзьнясеньня, г. зн. у пяцідзесяты дзень ад першага дня Госпадняга (Пасхі) няхай будзе ў вас вялікае сьвята, бо ў гэты дзень а трэцяй гадзіне Госпадзь Ісус Хрыстос паслаў на нас дар Сьвятога Духа, і мы напоўніліся дзейнасьцю Яго й загаварылі новымі мовамі, як Ён падаваў нам і прапаведвалі, гэтаксама юдэям, як і паганам, што Ён ёсьць Хрыстос Божы, прызначаны ад Яго Судзьдзя жывых і мертвых" (Пастановы Апосталаў, кніга 5, разьдз. 20). „З гэтага часу, – як гаворыць Сьвяты Рыгор Багаслоў, – канчаецца дзейнасьць цялесная Хрыста або, інакш кажучы, дзейнасьць, спалучаная зь цялесным прабываньнем Яго на зямлі, а пачынаецца дзейнасьць Духа" (Слова 41 на Сьвятую Пяцідзесятніцу. Тварэньне, ч. IV, б. 7).

З гэтага часу дзейнасьць Сьвятога Духа адбываецца Ім у Царкве, самае існаваньне Каторай абумоўліваецца прабываньнем у Ёй Сьвятога Духа.

Зшэсьце Сьвятога Духа на апосталаў адбылося ў межах Божага пляну.

Ісус Хрыстос яшчэ да свайго ўкрыжаваньня гаварыў Сваім вучням: „Я ўпрашу Айца, і Ён дасьць вам другога Пацяшыцеля, каб быў з вамі давеку. Духа праўды... " (Ев. Ін. 14, 16 – 17).

Зьявіўшыся пасьля свайго ўваскрашэньня ў дзень увазьнясеньня на неба, Ісус Хрыстос наказаў сваім вучням: „Аставайцеся ў месьце Ерусаліме, пакуль не апранецеся Сілаю зьверху" (Ев. Лук. 24, 49). Мінула дзесяць дзён пасьля гэтага, і ў дзень жыдоўскае пяцідзесятніцы, калі ўсе апосталы прабывалі на маліцьве ў Сыёнскім верхнім пакоі, з шумам, падобным да ветру, у выглядзе агнявых языкоў, зышоў на апосталаў Сьвяты Дух. Сьвятыя апосталы, прыняўшы Духа Праўды, усё, аб чым вучыў іх Ісус Хрыстос, цяпер ясна прыпомнілі сабе й дакладна зразумелі.

Прыняўшы дар Сьвятога Духа, апосталы – простыя рыбакі – загаварылі рознымі мовамі й із пужлівых, сілаю Сьвятога Духа, яны сталіся адважнымі прапаведнікамі Слова Божага.

Для ерусалімскіх першасьвяшчэньнікаў і старэйшын зьяўленьне апосталаў, іхная пропаведзь і адвага былі незразумелым зьявішчам. Яшчэ гэтак нядаўна рыбакі кінулі свайго Вучыцеля й разьбегліся.

Яны хаваюцца й запіраюць дзьверы з прычыны „страху перад жыдамі" (Ев. Ін. 20, 19). І раптам гэтакая перамена. Апостал Пётра, які адрокся ад Хрыста, адважна гаворыць аб Ягоным уваскрашэньні із мертвых і аб тым, што Ён ёсьць сапраўды Спасіцель сьвету – Месія. Ягоныя словы мелі гэтакую сілу перакананьня й чар у сабе, што зараз, пасьля першай ягонай пропаведзі ў дзень зшэсьця Сьвятога Духа, каля трох тысяч людзей прыняло Сьвятое хрышчэньне ў Імя Ісуса Хрыста (Дзеі Сьв. Апосталаў, 2, 38 – 41).

У Сыёнскі верхні пакой увайшлі простыя галілейскія рыбакі, а выйшлі адтуль, авеяныя Сьвятым Духам, апосталы. Цяпер яны адважна й сьмела апавяшчаюць аб уваскросшым Хрысьце, Які ім сказаў: „Ідзеце, навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа, навучаючы іх выпаўняць усё, што Я сказаў вам, і вось Я з вамі ўва ўсе дні да сканчэньня веку" (Ев. Мацьв. 28, 19 – 20). Паводле запавету Спасіцеля сьвету, яны словы Сьвятога Евангельля пранесьлі праз усе заселеныя пункты на нашай зямлі, прымаючы сьмерць мучанікаў за пропаведзь і веру ў уваскросшага Ісуса Хрыста.

Пліні (Плініюс) Малодшы – упаўнаважаны Рымам валадар на Малаазіяцкую правінцыю – у 112 годзе, у вадным із сваіх ведамых лістоў даносіў Рымскаму імпэратару Траяну, што паганскія сьвятыні пустуюць, а ахвярнае мяса ня мае купцоў. Прычына – гэта хрысьціянства! „Ня толькі месты, але і сёлы, і вёскі, – даносіць ён, – ахоплены гэтай заразаю". Сучасьнік Плінія, Карнэлі Тацыт, сьцьвярджае, што каля 64 году ў Рыме было шмат пасьлядоўнікаў новае навукі, г. зн. хрысьціянаў.

„Дзеяньні Сьвятых Апосталаў" і сьвядоцтвы археалёгіі паказваюць, што на працягу некалькі дзесяткаў гадоў пасьля ўваскрашэньня Ісуса Хрыста, тысячы чалавек прылучаецца да Сьвятое Царквы ў Палестыне, Сырыі, Егіпце, Малой Азыі, Грэцыі, Афрыцы, Галіі...

Дух Сьвяты, зышоўшы на апосталаў, праяўляў сваю Божую Сілу й кіраваў Царквою. Дух Сьвяты напаўняў Яе нябеснаю мудрасьцю, асланяў чысьціню навукі й дапамагаў Ёй быць здольнай выконваць абавязкі, якія ўзлажыў на Яе яе заснавальнік Ісус Хрыстос.

„Калі-б не прысутнічаў сярод нас Сьвяты Дух, – гаворыць Сьвяты Іаан Залатавусны, – Царква ня існавала-б" (Разважаньні на дзень Пяцідзесятніцы).

Сьвятая Царква дзеля гэтага ёсьць непамыльнаю вучыцелькаю. Яна адсланяе нам вечныя праўды, заклікае нас да маральна-хрысьціянскага жыцьця й праз малітву трымае нас у лучнасьці з Госпадам Богам.

У дзень зшэсьця Сьвятога Духа на апосталаў нарадзілася ў Ерусаліме першая хрысьціянская грамада, зь якой запачаткавалася Сьвятая Ўсяленская Царква. Паўстаньне Сьвятой Усяленскай Царквы разам з зшэсьцем Сьвятога Духа на апосталаў гаворыць аб тым, што

Царква мае надпрыродны характар Божае Ўстановы. А таму Сьвятая Царква ня ёсьць звычайнай сьвецкай арганізацыяй, якою дзе-якія людзі хочуць Яе бачыць, а нават зрабіць. Сьвятая Царква – гэта пазасьвецкая „Божая Ўстанова”. Сьвятая Царква зьяўляецца райскім дрэвам жыцьця сярод грэшнага сьвету. Як першыя людзі, спажываючы плады з дрэва жыцьця, не падпадалі закону сьмерці, гэтак і мы, верныя Хрыстовае Царкве, прымаючы з рук сьвятара Сьвятыя Тайны, гэтаксама замацоўваем за сабою вечнае жыцьцё ў Госпада. Вялікае й бязьмежна шырокае поле дзейнасьці Сьвятое Хрыстовае Царквы на зямлі й на небе. Нават заціяты бязбожнік ня можа запярэчыць Яе сьвятога ўплыву на людзкія душы й культуру ўсяе людзкасьці. Няма на зямлі сьвецкае арганізацыі, якая магла-б дараўняцца Ёй сваей маральнай сілай, а нават колькасьцю сяброў і ўплывам.

Гаворачы пра Сусьветную Царкву, мы ня можам абмінуць нашую Беларускую Праваслаўную Царкву, якая пад аховай Сьвятое Сусьветнае Праваслаўнае Царквы спрычынілася да таго, што наш народ разьвіваўся й духова аформіўся як *праваслаўны й беларускі*. Мы верым, што гэта сталася паводле дару Сьвятога Духа!

Мы верым адначасна, што паводле і ў сузгоднасьці гэтага самага Сьвятога Духа мы, праваслаўныя беларусы, належым сапраўды да Адзінае, Сьвятое, Сусьветнае й Апостальскае Царквы, якую абаснаваў тут, на зямлі, для спасеньня душ нашых Госпад Ісус Хрыстос. Дык на эміграцыі шануйма нашую Беларускую Праваслаўную Царкву, якая зьбірае нас у адну сям'ю, аб'ядноўвае, бароніць ад асыміляцыі й захоўвае нашыя рэлігійныя й нацыянальныя вартасьці!

Будзем Яе жывымі й актыўнымі сябрамі!

Не шкадуйма ані працы, ані ахвяраў пры пабудове й пры ўпрыгожваньні Яе сьвятыняў!

Праз грэшнасьць, гордасьць, срэбралюбства й малаверства не стаўляйма перашкодаў дзейнасьці Сьвятога Духа ў Царкве і ў душах нашых. „Бо дары Божае добразычлівасьці, – як кажа мітрапаліт Палескі й Пінскі Аляксандр, – беспараўнальна вышэй, болей каштоўнымі зьяўляюцца й даражэйшымі за ўсё мінаючае дабро ў жыцьці на гэтай зямлі, страта якіх разбурвае ўсё духовае жыцьцё чалавека, быццам забіваючы ягоную душу, чынячы яго падобным да зьвера”[1].

Матэрыялізм і бязбожнасьць ня можа падняць чалавека да маральна-чыстага, ідэальнага й Нябеснага.

Дык схілім-жа паслухмяна нашыя галовы й папросім Сьвятога Духа словамі малітвы: „Цару Нябесны, Уцяшыцелю, Душэ ісьціны! Прыйдзі і ўсяліся ў нас, і ачысьці нас ад усяго дрэннага, і спасі, Добры, душы нашыя”.

[1] Навукі на нядзельныя дні, вялікія сьвяты й розныя праявы штодзённага жыцьця, Варшава, 1937, б. 175.

## У ІМЯ АЙЦА, І СЫНА, І СЬВЯТОГА ДУХА

Слава на вышынях Богу й на зямлі мір
сярод людзей добрае волі (Ев. Лук. 2, 13)

Хрысьціянскі „Захад" адсьвяткаваў ужо дзень нараджэньня Госпада Ісуса Хрыста, а веруючы „Усход" – старастыльны ды эміграцыя, пераважна славянская, з усходу, у вольным сьвеце – сягоньня радасна сьвяткуе гэты вялікі й сьвяты дзень.

У Сьвятым Евангельлі гаворыцца, што першымі із людзей даведаліся аб вялікай тайне Боганароджаньня пастухі, якія недалёка ад Віфліема вартавалі свае стада: „Ім зьявіўся Ангел Гасподні, і слава Госпадава асьвяціла іх; і ўбаяліся страхам вялікім. І сказаў ім Ангел: Ня бойцеся! Бо вось я абвяшчаю вам вялікую радасьць, што будзе ўсім людзям; бо цяпер нарадзіўся вам у месьце Давідавым Спасіцель, Каторы ёсьць Хрыстос Госпад; і вось вам знак: вы знойдзеце Дзіця ў пялёнках, лежачае ў яськях. І неўспадзеўкі зьявілася з Ангелам вялікае войска нябеснае, славячы Бога й гаворачы: Слава на вышынах Богу й на зямлі мір сярод людзей добрае волі" (Ев. Лук. 2–14).

Радасная вестка аб нараджэньні Хрыста была агалошана, а ангельскае Славаслоўе была прапета ня толькі пастухам, але ўсяму чалавецтву на ўсе часы. Радасная вестка аб нараджэньні Хрыста, словы й сіла ангельскае песьні перавышаюць прастор і час. Гэтая падзея й песьня ангельская зьяўляецца для людзей добрай волі такой самай рэчаіснасьцяй сягоньня, як і 1970 гадоў таму назад.

„Гасподзь Бог Ісус Хрыстос прыйшоў на зямлю для ўсіх народаў, каб прымірыць чалавека, створанага па образу й падобію Божаму", з Богам, каб даць новы й больш дабрародны характар чалавеку. Бог стаў чалавекам, каб чалавек абагатварыўся праз адраджэньне ў Хрысьце.

Дахрысьціянскі, паганскі мір, які мог стварыць магутныя дзяржавы зь імёнамі вялікіх валадароў (Навахуданосара, Кіра, Аляксандра, цэзара Аўгуста), нягледзячы на вялікія культурныя асягненьні тых ці іншых народаў, у аснаўным быў няшчасны. Старажытны Егіпет, вялікі Кітай, вучоная Александрыя, прыгожая й мудрая Гэльляда і, нарэшце, магутны Рым – гэтыя велічэзныя цэнтры дахрысьціянскай культуры, страціўшы сапраўднае богапазнаньне, задыхаліся ад сваіх грахоў і парокаў, калі дэвізам стала „чалавек чалавеку воўк", а не брат. І як-бы ад імя ўсяго дахрысьціянскага чалавецтва, адзін з найбольшых мудрацоў старажытнасьці філёзаф Платон сказаў: „Людзі павінны згінуць у сваім няшчасьці, калі сам Бог ня прыйдзе ім з дапамогай". І гэта дапамога прыйшла, калі споўнілася ўсё тое, што даўным-даўно аб Божых народзінах прадказвалі сьвету прарокі.

Калі прыйшла поўня часу, Бог Айцец паслаў Сына Свайго, Які нарадзіўся ад Дзевы. Бог прыходзіць на сустрач і, каб быць Яму больш даступным і зразумелым, прыходзіць ня толькі як Бог, але як Бог і Чалавек разам. Пагане верылі, што ёсьць нейкая сіла, якая пануе над сьветам, але не разумелі й ня зналі сапраўднага Бога. І толькі Госпадзь Ісус Хрыстос даў людзям правідловае паняцьце аб Богу. З гэтага мамэнту пачынаецца на зямлі новая – Хрысьціянская Эра ў гісторыі чалавецтва. Абасноўваецца Сьвятая Царква і, асьвечанае навукай Хрыста, чалавецтва паволі пачынае тварыць новую хрысьціянскую мараль, культуру й цывілізацыю, узносячы адначасна славу Ўсявышняму Богу.

Сярод хрысьціянскіх народаў заняў сваё месца й наш беларускі народ, які за прыкладам нябеснага воінства, гэтую радасную й надзвычайную падзею – нараджэньне Хрыста – праслаўляе прыгожымі калядкамі, у якія ўлажыў шмат любові, надзеі й сьвятога пачуцьця. З глыбіні свае душы, ахоплены шчырым пачуцьцём сваей жывой веры, беларускі народ сваімі калядкамі заклікае ўсіх людзей весяліцца й пакланяцца народжанаму Хрысту:

Сусьвет цэлы весяліся:
Бог ад Дзевы Нарадзіўся...
Пастушком упадобімся,
Цару Богу паклонімся,
Каб спасаў сваю спагаду,
Каб зьмяніў тугу на радасьць,
Верыць, верыць хто ў Яго[1].

Мы верым, што нават цяпер, калі наш народ апынуўся ў няволі бязбожнага камунізму, ён, калі не сьпявае калядак, бо яму гэта забаронена, дык імі жыве й верыць, што прыйдзе час, калі народжаны Хрыстос зьменіць „тугу" на „радасьць" ды запануе на Беларусі як у жыцьці пасобнага чалавека, так і цэлай дзяржавы.

У гэтую перамогу Божай праўды мы ўсе верым, і ніхто не захістае нашай веры ў тое, што Хрыстос пераможа й прынясе той Хрыстоў мір, пра які сьпявалі ангелы на небе ў Дзень Нараджэньня. Мы верым, што гэта па волі Божай станецца так, як сталася з дачкой Сталіна Сьвятланай, якая, асьветленая сьветам Хрыста, сягоньня ўзносіць славу народжаному Хрысту.

---

[1] Сусьвет цэлы весяліся. Зборнік беларускіх калядак. Сабраў і апрацаваў Юліян Рымко, Саўт Рывэр, Н. Дж., 1966.

„Мір Хрыстоў", сьпяваны ангеламі, ёсьць, у першую чаргу, унутраным мірам душы чалавека, ад чаго залежыць і мір вонкавы.

Дзе словы ангельскай песьні зьяўляюцца крыніцай калядной радасьці, дзе чалавек аддае хвалу Богу, дзе чалавек у сэрцы сваім мае Бога, там мір і любоў. І наадварот. Там, дзе сягоньня бязбожны камунізм імкнецца стварыць брацтва па абязьяне, адкінуўшы Бога, там няма міру й любові. Там бязбожная камуністычная партыя зьнішчыла правы й свабоду аддзельнага чалавека й цэлых народаў. Там сягоньня адбываецца зьдзек над Богам і чалавекам.

На вялікі жаль, няма міру й любові сягоньня і ў гэтак званых хрысьціянскіх дзяржавах, дзе хрысьціянства астаецца толькі ў традыцыях ды рытуалах. Забыцьцё Бога, забыцьцё вечных, нягаснучых хрысьціянскіх ідэалаў, забыцьцё душы свае й вечнасьці прынясло маральны расклад, нянавісьць і духоўную апатыю да ўсяго й да ўсіх, што й парадзіла г. зв. „гіт" маладых людзей, барадатых, доўгавалосых, амаральных, брудных, абарваных, жалю годных.

Хрысьціянінам па імені можа быць кожны, але ў сапраўднасьці ёсьць толькі той, хто мае ў сэрцы народжанага Хрыста і ў сваім жыцьці кіруецца Яго Навукай. Хрысьціянін, які гэтага ня мае, і які ў гэты час не адчувае, што нешта новае родзіцца ў сэрцы яго, робячы яго „дзіцём Божым" (Ев. Ін. 1, 12), можа быць чым-колечы іншым, але, напэўна, ён ня ёсьць праўдзівым хрысьціянінам.

Мае ўлюбленыя браты й сёстры, беларусы на Бацькаўшчыне й рассеяныя па ўсім сьвеце! Калі ня будзе духоўнага й маральнага адраджэньня й аддаленьня ад нашай грахоўнасьці, калі ў сэрцы сучаснага чалавека не народзіцца „Мір Хрыста", „Слава на вышынях Богу", тады ніколі не асягнецца пяяная слава й пакланеньне Богу, і ніколі ня зьменіцца дысананс і разнагалосьсе матар'ялістычнага клімату нашых часоў.

І мір, форма шчасьлівага й спакойнага сужыцьця людзей, ніколі не заменіць недаверу й напружанасьці ў сучасных людзкіх суадносінах. І добрая воля, як зразуменьне, спачуваньне і ўзаемнасьць, ніколі не заменіць сацыяльных і расавых канфліктаў паміж людзьмі.

Чалавечыя праблемы, як асабістыя, так і ў сусьветным маштабе, будуць памнажацца й супраціўляцца палагоджаньню. Дзякуючы гэтаму, калі сьціхла вайна ў Карэі, дык паўстала ў В'етнаме, а калі й гэта заціхне, дык узьнікне ў іншым месцы, магчыма, нават атамная. І няма нічога дзіўнага, што страх перад атамнай вайной спрычыніўся да таго, што ў 1949 годзе ў Парыжы й Празе адбыўся „Першы Сусьветны Кангрэс Прыхільнікаў Міру". Пасьля гэтага ня было ні аднаго году, каб у імя Хрыста не адбылося якогасьці кангрэсу, асамблеі, канфэрэнцыі арганізацыяў за мір на зямлі, сярод якіх выдзяляецца „Хрысьціянская

Мірная Канфэрэнцыя", у якой галоўную ролю адыгрываюць прадстаўнікі ў расе Маскоўскай Патрыярхіі, дэлегаваныя савецкай бязбожнай камуністычнай партыяй, якая не прызнае ні Хрыста, Сына Божага, ні Яго Сьвятога Евангельля. І няма нічога дзіўнага, што гэтая арганізацыя прыняла антыхрысьціянскі й аднабаковы характар, і гэтым самым упадобілася да Бабілёнскай вежы. Нехрысьціянскі й аднабаковы характар выяўляюцца ў тым, што „Мір Хрыстоў" – мір душы, мір унутраны – зьведзены да пытаньня вайны, а пагроза страшнае вайны ніколі ня бачыцца з боку камуністычных дзяржаў, а толькі з боку дэмакратычных.

Якая вялікая супярэчнасьць з навукай Хрыста й рэчаіснасьцю! Жыцьцё вымагае адраджэньня ў Хрысьце, а на хрысьціянскіх канфэрэнцыях з аналоя й трыбуны робіцца ўсё тое, што прысьпяшае духовую й маральную сьмерць, а з гэтым адначасна й вайну ды сьмерць фізычную.

Саўдзельнікам у гэтым ёсьць і ўладыка Антоні, архіепіскап Менскі й Беларускі, які, разьяжджаючы за межамі Беларусі, жадае іншым народам „Благаславеньня Божага, свабоды, незалежнасьці", чаго ня мае народ на Беларусі. На вялікі жаль, затуманеныя вочы архіепіскапа Антонія ня бачаць, вушы ня чуюць плачу й стогну паняволенага народу.

У цяжкую й страшную эпоху сягоньня сьвяткуем Каляды. А Каляды – гэта вялікі заклік, вялікі зоў да сучаснага чалавека, усёведаючага і ўсясільнага, каб ён стаўся дзіцём Божым, каб яго духоўны твар ня быў перакрыўлены сэксам матар'яльнай сілы, а сьвяціўся дабратою й любоўю Сьвятога Дзіцяці з Бэтлеему.

Адчыніце вашы сэрцы й прыміце народжанага Хрыста! Ён прыйшоў да ўсіх нас, справядлівых і несправядлівых, добрых і злых. Хрыстос на зямлі – будзьце ўзвышанымі! Будзьце ўзвышанымі духова й маральна! І Яго благаслаўленьне й міласьць заўсёды будзе з вамі. Амінь.



## З НАРАДЖЭНЬНЕМ ХРЫСТА!

Хрыстос нараджаецца – слаўце!
Хрыстос зь нябёс – прымiце!
Хрыстос на зямлі – узвысьцеся!

Гэтых пара слоў робяць дзіўна зразумелай глыбокую містэрыю ўцелаўлення Сына Божага і ў той самы час прыпамінаюць нам, што Каляды – гэта ёсьць падарунак, які Госпадзь Бог даў чалавецтву, каб яно было адроджана, абноўлена і ўратавана нават у апошнюю хвіліну. „Бо так палюбіў Бог сьвет", – кажа Евангельле, – „што аддаў Сына свайго адзінароднага, каб усякі, хто веруе ў Яго, ня зьгінуў, але меў жыцьцё вечнае" (Ев. Ін. 3,16).

Каляды – гэта дзень, які створаны Богам, каб чалавек, адчуўшы, што „Хрыстос на зямлі", сам пазбавіўся старога сябе зь „яго зямнымі жаданьнямі й грахамі" ды прыблізіўся сваім жыцьцём і захаваньнем да Бога. Адзінародны Сын – Ісус Хрыстос, Спасіцель міра – прыйшоў на зямлю, каб падняць нас зь цемры нашых грахоўных шляхоў і скіраваць на шлях, вядучы да Бога.

Каляды ёсьць цуд, які мусіць сьвяткавацца зь іншым цудам – цудам нашага адраджэньня ў Хрысьце. Гэта тым больш патрэбна сягоньня, калі многія пачалі заглядацца на Каляды як на каляндарную, а не духоўную падзею і сьвяткуюць іх у сьвецкім стылі. А гэта-ж сьвята, калі яно абходзіцца духоўна, сапраўды збаўляе людзкія душы ад спусташальнага зямнога холаду й саграе іх вышэйшымі праясьненьнямі любові, што дабрачынна пасылаюцца нам Нябеснай міласьцяй.

Дзеля гэтай прычыны наша Сьвятая Праваслаўная Царква заклікае нас падняцца духоўна й маральна так высока, як гэта магчыма, сьвяткуючы дзень, калі Сын Божы „прыняў выгляд слугі й стаўся падобным да чалавека" (Філ. 2, 7). Хрыстос нарадзіўся – славім Яго. Хрыстос зышоў на зямлю – спаткаем Яго й прымем ў нашае сэрца, якое зьяўляецца Яго домам. Хрыстос на зямлі – будзем духоўна ўзвышанымі.

У дзень нараджэньня Хрыста няхай агнівам усяе нашае ўвагі будзе ангельская хвала Народжанаму. І толькі пры гэтым гімн анёлаў „Слава на вышынях Богу", які людзіператварылі ў традыцыйныя віншавальныя карткі, якія радуюць наша сэрца, але не даюць таго, што магло-б адрадзіць чалавека, стане песьняй пакланеньня Богу й зьменіць дысананс і разнагалосьсе матар'ялістычнага клімату нашых часоў. І мір, форма шчасьлівага сужыцьця людзей, заменіць недавер, страх і напружанасьць у нашых суадносінах. І добрая воля й любоў, зразуменьне, спачуваньне і ўзаемнасьць, заменяць канфлікты – як асабістыя, так і ў сусьветным маштабе.

Каляды – гэта вялікі заклік, вялікі зоў да сучаснага чалавека, каб ён стаў дзіцём Божым і каб яго сэрца не было перакрыўлена сэнсам бязбожнае навукі, а сьвяцілася часнотамі навукі Сьвятога Дзіцяці з Бэтлеему,

якая абасновываецца на двух запаведзях: „Палюбі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім і ўсею душою тваёю, і ўсім разуменьнем тваім, і бліжняга твайго, як самога сябе (Ев. Мацьв. 22, 27 – 39). Дзе чалавек аддае хвалу Богу й жыве згодна гэтых двух прыказаньняў, там мір і любоў. І наадварот. Там, дзе рэлігія ў дзяржаўным, грамадзкім і сямейным жыцьці астаецца толькі ў традыцыях і рытуале, а часам, як у Савецкім Саюзе, церпіць лютае перасьледваньне, там няма міру й любові. Там разгульваюць сілы маральнага гніеньня й духовае пустаты. Там, дзе рэлігія –„опіюм для народа", замест прапаведаннага царства „роўнасьці, брацтва й свабоды" стварылі царства сатаны, поўнае нянавісьці, гора, мучаніцтва, праклёну й сьлёз. Дзякуючы гэтаму „царству сатаны", чалавецтва, нягледзячы на велізарныя здабыткі навукі, культуры й тэхнікі, можна сказаць, стаіць на краю гібелі, дзеля таго, што ўсе здабыткі чалавечага розуму зьвернуты не для дабра чалавека, а на яго гібель і зьнішчэньне.

Нездарма малады доктар, амэрыканец Томас Дулі, асновапалажнік сусьветнай мэдыцынскай арганізацыі дапамогі бедным краінам „Мэдіко" у сваім слове напярэдадні Каляд кажа: „Няшчасны мір разьдзелены й змучаны. Людзі атручаны страхам таго, што бязь іх жаданьня выбухне над іх галовамі новае кровапраліцьце. Людзі абняты страхам будучага, страхам чужой ідэалёгіі й ворага, які дзесьці прытаіўся. Страх – галоўная небясьпека людзей! Ён змушае людзей паступаць горда, памылкова й неразумна. Спасеньне чалавека ў непагаснай зорцы Віфліема, у радасьці йісьціне Нараджэньня...".

Дзеля гэтага павернемся вачыма нашае душы да Віфліемскае зоркі, прыносячы падарункі набожнасьці, любові, паклону й сьвяткуйма нараджэньне Хрыста, як найбольш па-хрысьціянску, узвысіўшы сябе да такой духоўнай вышыні, ад якой толькі малітва й пакорлівасьць маюць сілу падняць. Ды з сэрцам, напоўненым славаю да Бога, прыхільнасьцю й любоўю да людзей, просім Сьвятое Дзіцятка, каб Яно праліло сьвятло Яго заступніцтва на пацямнеўшыя твары людзей, каб Яно дало надзею ўтраціўшым яе, каб Яно прынясло мір, волю, справядлівасьць усім тым, што сягоньня церпяць „у краінах сьмертнага ценю", а таксама й нашаму беларускаму народу, які сягоньня знаходзіцца за жалезным бар'ерам.

Каляды ёсьць дзень, калі Бог ходзіць з чалавекам, аддаючы сябе поўнасьцю – як ласка, як прымірэньне, як мір, як новае жыцьцё, як збаўленьне. А таму адчынім нашы сэрцы й прымем Яго ды просім, каб Ён напоўніў нас агнём сьвятой і жывой Веры, каб мы былі хрысьціянамі ня толькі па імені, але і ў сапраўднасьці! Наш дзень з Хрыстом будзе пачаткам новага жыцьця. І наша радасьць пашырыцца так шырока, што яна станецца радасьцю ўсіх нас і радасьцю Хрыста, Які нарадзіўся, каб мы маглі перарадзіцца.

## ЯК ПАЎСТАЛА ЦАРКОЎНАЯ ВУНІЯ НА БЕЛАРУСІ

Збудаванае высілкамі Міндоўга, Альгерда й Вітаўта, Вялікае Княства Літоўскае было фізычна вялікім, і ў выпадках аднадушнасьці – грозным для суседзяў, але ў грунце – слабым духова, бо ня мела ні супольнай гістарычнай традыцыі, якая творыць нацыянальную культуру, ні аднастайнай жывой мовы, ані адзінага веравызнаньня. Рознародны нацыянальны й веравызнаўчы склад дзяржавы, асабліва пасьля збліжэньня Літвы з Польшчай, стаўся прычынай няўпынных унутраных нездаволень і закалотаў. Пачынаючы з XIII стагодзьдзя, як вядома зь гісторыі, на літоўска-беларускіх землях заўсёды спатыкаліся дзьве найбольшыя галіны хрысьціянства – Праваслаўная Царква й Каталіцкі Касьцёл, якія вядуць між сабою інтэнсыўную рэлігійную барацьбу аж да сягоньняшняга дня. Сюды для каталіцкай прапаганды прысылаліся кадры езуітаў, тут-жа групаваліся й найлепшыя сілы праваслаўя. Дзякуючы гэтаму, перавага была й ёсьць то на адным, то на другім баку. Праваслаўе зьявілася шмат раней на Беларусі чымсь каталіцызм, і не было прыпадковым ці накінутым фактам у жыцьці нашага народу, але зусім натуральным вынікам ходу тагачаснага жыцьця.

Найстарэйшыя цэрквы, манастыры й першыя праваслаўныя мучанікі – Сьвятыя Антон, Іаан і Аўстах, а таксама Сьвятая Еўфрасіньня Полацкая сьведчаць аб гэтым. Такім чынам, Праваслаўная Царква ў XIII стагодзьдзі ўжо мела шмат прыхільнікаў, у той час калі Каталіцкі Касьцёл толькі што пачаў разьвівацца й да Ягайлы меў вельмі слабы посьпех. Ордэн Лівонскіх рыцараў, які хацеў сілаю зброі падбіць наша беларускае грамадзянства папу, а таксама дамінікане й францішкане, каторыя распаўсюджвалі каталіцтва за часоў Гэдыміна й Альгерда (1320 – 1377), на кожным кроку спатыкалі глебу, непадатную для іхняй дзейльнасьці. Але ў хуткім часе наступае 1386 год. Гэты год прыносіць збліжэньне Вялікага Княства Літоўска-Беларускага з Польшчай, хрост літоўцаў і заснаваньне каталіцкага біскупства, у той час калі ўсходні абрадак, г. зн. праваслаўе на крыўскіх землях здолела глыбока ўвайсьці ў жыцьцё нашых прапрадзедаў і сталася роднай беларускай верай. Вялікі гісторык, мітрапаліт Макар кажа: „Во всех этих древних русских областях существовала вера православная, и существовала уже целые века, следовательно успела укорениться глубоко и прочно, ее исповедывали как простой народ, так и всё дворянство и князья"[1].

---

[1] Митрополит Макарій, Исторія Русской Церкви, С.-Петербург, 1879, т. IX, с. 2.

Нават сярод вялікіх князёў Праваслаўная Царква мела сваіх прыхільнікаў, як, напрыклад, Войшэлк, сын Міндоўга, які, прыняўшы праваслаўе, пастрыгся ў манахі і ў 1261 годзе заснаваў Лаўрышэўскі манастыр каля Навагрcraдку, недалёка ракі Нёмна. Каталіцтва-ж, якое праз увесь час існаваньня заховывае характар ваюючага хрысьціянства (ecclesia militaris), толькі за часоў Ягайлы пасьля злучэньня Літвы з Польшчай (1386) пачынае разьвівацца й шырыцца на Беларусі, асабліва сярод сацыяльна вышэйшых слаёў. Але Ягайла і ўсе Ягайлавічы, зьвязаныя паходжаньнем, псыхікай і ахопленыя любоўю да свайго грамадзянства, добра ведалі, што яно ня столькі літоўска-каталіцкае, колькі беларуска-праваслаўнае. І дзеля гэтага, нягледзячы на пастановы Гарадзельскага сойму 1413 году, розьніца рэлігіі да пэўнага часу ня грае амаль што ніякае ролі ў той мамэнт, калі на захадзе Эўропы пануе догмат „cujus regio, ejus religio". Ягайлавічы, паміма іх „двулічнай" палітыкі, аднолькава, можна сказаць, дбаюць аб праваслаўных цэрквах і каталіцкіх касьцёлах, а сваімі граматамі пацьвярджаюць роўнае трактаваньне абедзьвюх рэлігіяў. Так, напрыклад, у прывілеі, выданым каралём Жыгімонтам Аўгустам у 1563 годзе гаварылася: „Прымаючы пад увагу, што каталікі, таксама як і праваслаўныя, за панаваньня яго продкаў і ў дні панаваньня яго самаго заўсёды выпаўнялі службы свае верна й шчыра, са згоды Дзяржаўнай рады пастаноўлена, што ад цяпер усе павінны карыстацца ў Вялікім Княстве Літоўскім аднымі й тымі-ж шляхоцкімі й земскімі правамі й прывілеямі: ня толькі шляхта й баяры, каторыя з патомства знаходзяцца ў паслушнасьці Рымскай Царквы й якіх продкі атрымалі ад Польшчы гэрбавыя клейнаты, але і ўсе іншыя асобы хрысьціянскага веравызнаньня, прыналежачыя да шляхты літоўскай і народу, якіх продкі ад Польшчы не запазычылі гэрбаў. Дзеля гэтага як ліцьвіны, так і рускія, якія паходзяць з баярства й вызнаюць хрысьціянскую веру, бяз розьніцы – каталікі яны ці праваслаўныя – павінны быць назначаны да выпаўненьня ўрадаў дзяржаўных, прыдворных і земскіх; кожны па меры сваіх здольнасьцяў і выказаных заслуг перад дзяржавай"[2]. Дапусьціўшы поўную талеранцыю ў справах веры й сумленьня, Вялікае Княства Літоўскае ўзрастае ў моц і сілу. Пачатак XVI стагодзьдзя – гэта расьцьвет дзяржаўнага жыцьця. Уплывы літоўска-польскага гаспадарства пашыраюцца на Мадзяршчыну й Чэхію. Ува ўсіх галінах жыцьця бачым красаваньне й разьвіцьцё. Ф. Скарына друкуе й выдае першыя друкаваныя кніжкі. Укладаецца й выдаецца вялікі правадаўчы Літоўскі Статут, у якім скадыфікавана мясцовае літоўскае права. Ведама, існуючае на землях Княства праваслаўе,

[2] В. Ластоўскі, Гісторыя Беларускай (Крыўскай) Кнігі, Коўна, 1926, б. 247.

каталіцтва й лютэранства вядуць барацьбу, але ў межах дапушчанае для агітацыі свабоды. Дзяржава ня ўмешваецца ў гэта й стаіць збоку, пакідаючы самым веравызнаньням вырашэньне й пашырэньне ўплываў сярод народу.

Пры гэтым мушу зазначыць, што літоўскія каралі, будучы каталікамі, знаходзіліся аднак пад уплывам лацінскага духавенства, а „потому нечего, – як кажа мітрапаліт Макар, – удивляться, если литовские государи, дававшие столько льготных грамот православным подданным и православному духовенству, издавали также и враждебныя им постановления"[3].

Паварот на горшае наступае толькі ў другой палове XVI стагодзьдзя, калі Каталіцкі Касьцёл на Беларусі здабыў сабе пэўную сілу, дзякуючы езуітам, якія зьявіліся ў 1569 годзе для барацьбы з рэфармацыяй. Зь іх прыходам пачынае ў царкоўнае жыцьце пранікаць заходнеэўрапэйскі тэзіс „cujus regio, ejus religio". Езуіты, узяўшы ў свае рукі выхаваньне маладога пакаленьня, у хуткім часе зламалі рэфармацыю й цяпер усю сваю ўвагу зьвярнулі на пашырэньне сваіх уплываў сярод праваслаўнага грамадзянства. Але ўсходні абрадак, за некалькі стагодзьдзяў існаваньня на крыўскіх землях, здолеў глыбока ўвайсьці ў жыцьцё, і езуіты хутка пераканаліся, што найлягчэй будзе распаўсюджваць (па думцы езуіта Пассэвіна) каталіцтва сярод праваслаўных пры помачы вуніі. Тым болей, што да гэтага часу быў падгатаваны грунт. Праф. М. Каяловіч кажа: „Церковная уния, как во время Ягеллы, Казимира и Александра, так и во всей истории Церквей, была мыслью посторонней, чуждою самой Православной Церкви. Но мысль эта с первых дней соединения Литвы с Польшею вторглась в Литовско-Русскую Церковь путем сближения русинов с поляками, путем притеснений православных и путем намеренных беспорядков в самой Западно-Русской Церкви"[4]. Польска-літоўскія каралі, ведаючы, што адзінае веравызнаньне мае вялікую сілу й моц у гаспадарстве, за ўсякую цану імкнуліся да таго, каб як-небудзь праваслаўных змусіць прыняць каталіцтва. Дзякуючы гэтаму, „литовско-польское правительство, хотя редко решалось прибегать к открытому преследованию православнаго населения, тем не менее, постоянно давало ему чувствовать свое нерасположение, проявлявшееся в систематической урезке его политических прав"[5]. Асабліва

---

[3] Митрополит Макарій, op. cit., с. 10.
[4] М. Коялович, Литовская церковная унія, С.-Петербург, 1859 – 1862, т. 2, сс. 166 – 168.
[5] И. Чистович, Очерк исторіи Западно-Русской Церкви, С.-Петербург, 1884, гл. 1, с. 49.

гэта адчуваецца пасьля палітычнай Люблінскай вуніі (1569). З гэтага мамэнту ўціск праваслаўя й „торжество католицизма пошло вперед быстрыми шагами". Польска-літоўскі ўрад, апіраючыся на пастанову Гарадзельскага сойму (1413), адбіраў ад праваслаўных цэрквы й аддаваў іх лацінянам, забараняў будаваць новыя, а часам нават „унижал" самую праваслаўную веру, называючы яе ў афіцыяльных паперах „схизмою".

Аднак нічым столькі не прынясьлі каралі крыўды й шкоды праваслаўю ў сваім гаспадарстве, як прысвоеным сабе правам „патранацтва". Права „патранацтва" было вострай зброяй ў руках каралёў для прапаганды каталіцтва. Дзякуючы праву „патранацтва", польска-літоўскія каралі, а таксама абшарнікі (на сваіх абшарах) былі вярхоўнымі ўладарамі ўсіх царкоўных земляў і раздавалі іх па свайму погляду розным епіскапам, архімандрытам і сьвяшчэньнікам. Гэткая эканамічная залежнасьць, як кажа А. Пакроўскі, „тяжело отражалась на положении западной иерархии и сильно влияла на ея искусственный подбор"[6].

Усе гісторыкі таго часу самымі жахлівымі калёрамі малююць сумнае палажэньне Праваслаўнае Царквы й яе вышэйшай гіерархіі. Так, напрыклад, праф. С. Голубеў піша: „Самые представители Западно-Русской Церкви (митрополиты и епископы) не стояли на высоте своего положения: занимали кафедры без надлежащей подготовки к прохождению высокаго иерархическаго служения, смотрели в большинстве случаев на свои места с утилитарной точки зрения, и даже нередко поступали на оныя с нарушением канонических постановлений. Так некоторые епископы сожительствовали с женами. В 80-ых годах XVI столетия в течении нескольких лет первосвятительскую кафедру занимал двоеженец (Онисифор Девочка); наставилось епископов много на одну столицу „по два", вследствии чего происходила между ними соблазнительная, иногда и вооруженная, борьба".

Зразумелая рэч, „мнящиеся быти святители, сущии же по истине сквернители", не маглі ўплываць на падведамае ім духавенства.

Такім чынам, калі епіскапы „невозбранно жили с женами", то і „священницы двоеженцы увидевши сие, дерзностно литургисали". Усё гэта зрабіла вялікі разлад у царкоўным жыцьці, а таксама падарвала аўтарытэт вышэйшай духоўнай улады ў вачох праваслаўнага грамадзянства, сярод якога перакананьні аб вышэйшай гіерархіі былі ня вельмі зайздросныя. У хуткім часе гэта перакананьне, як падае праф. С. Голубеў,

---

[6] „Богословскій Вестник", № 9 (12), С.-Петербург, 1905, с. 114.

„с полной наглядностью и оправдалось: большинство иерархов, влекомое большею алчностью и жаждою достатков, изменило православию и перешло в унию, во главе с митрополитом”[7].

У 1596 годзе на саборы ў Берасьці праваслаўныя епіскапы на чале зь мітрапалітам Рагозаю ўступілі ў вунію й прызналі над сабой уладу папы Клімэнта VIII. У грамаце 8 верасьня 1596 году гаворыцца: „Выправілі семо до отца Святейшага Клемента VIII папы Рымскага послы... просячы, абы нас до своего послушэнства, яко найвышній пастыр церкві вселенской католічэской принял и от зверхнасьци патріархов Царагородских вызволіл і разрешил, заховуючы нам обряды церквей: Восточных, Греческих и Руских, а ни якое отмены ■ церквах наших не чинячы, только по преданію Святых Отец Греческих нас оставил. Што и учинил”.

Такім чынам, *de facto* і *de jure* акт царкоўнай вуніі адбыўся. Рымская Царква, а таксама літоўска-польскія каралі ў працягу трохсотгадовай настойлівай працы дасягнулі мэты, але можна сказаць не зусім. Здабыўшы гвалтам і подступам вышэйшую гіерархію, унійны рух ніяк ня мог захапіць сваімі ідэаламі народную масу. Дзякуючы гэтаму, пры самых сваіх народзінах вунія апынулася паміж двома варожымі ёй абозамі: з аднаго боку – мясцовай народнай масай, а з другога – Канстантынопалем. Як загрожанаму небясьпекай рэфармацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім, каталіцтву Рым пасылаў бязупынную падмогу з усей Заходняй Эўропы, таксама й Канстантынопальскі Патрыярхат пасылаў з Грэцыі й Масквы ўсе найлепшыя сілы для барацьбы з вуніяй. Словам, на беларускіх і ўкраінскіх землях кіпела змаганьне ня толькі нашых кансэрватараў і наватараў, але на жыцьцё й сьмерць ішла барацьба між Канстантынопалем і Рымам. Галоўнай-жа апорай праваслаўя ўнутры краю, у крыўскіх і ўкраінскіх землях, сталіся шырокія народныя масы, якія не захапіліся ўнійным рухам. Усё, што было жывога ў гэтых масах, было мабілізавана ў брацтвы, каторых ахвярнасьць, ідэйнасьць і пасьвячэньне для справы праваслаўя ня мае граніц. Усе лепшыя сыны гэтых брацтваў, паміма немагчымых варункаў, у якіх знаходзіліся, бралі ў рукі праваслаўны сьветач і з глыбокай верай і пасьвячэньнем ішлі ў цёмныя гушчы народу, будзячы яго да барацьбы за лепшае заўтра.

З уласнай жыцьцёвай практыкі ведаем добра, што нічога само ня робіцца й ніхто нікому нічога дарма не дае. Усё, што сапраўды добрага чалавек (як адзінка, як сям'я, як народ) мае, здабывае ўласным мазалём,

[7] С. Голубев, Кієвскій митрополит П. Могила и его сподвижники, С.-Петербург, 1903, т. II, сс. 465–466.

уласным высілкам, вялікай ахвярнасьцю, пасьвячэньнем і сыстэматычнасьцю.

Пры гэткім скрыжаваньні рознародных ідэй і ўплываў працякала да XVII стагодзьдзя нашае грамадзкае жыцьцё, у аснове якога ня было яснай, самаістай, палітычнай мысьлі, ні нацыянальнага імя, нягледзячы на значны ўздым культуры, які мы можам прасьлядзіць на пісаных помніках. Наша змаганьне адрадзіла праваслаўе, змацніла Маскву, выклікала да жыцьця казацтва, але не дало беларускаму народу ні нацыянальнага веравызнаньня, ні дзяржаўнай ідэалёгіі, ні нават нацыянальнага імя. Палітычна наш край і народ фігуруюць як Літва. Па веравызнаньню-ж разьбіваецца на некалькі абозаў, бесканечна зацятых і варожых сабе: праваслаўных, каталікоў, уніятаў і рознавераў.



# ПРАВАСЛАЎЕ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ ЗА ЧАСОЎ ПАНАВАНЬНЯ ЎЛАДЫСЛАВА ЯГАЙЛЫ

Прадмова

Тэмай маёй працы зьяўляецца пытаньне: „Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы".

Гэтая праблема ня была яшчэ разгледжана аддзельна ў гістарычнай літаратуры. Праўда, што шмат гісторыкаў польскіх і ўкраінскіх, а пераважна расейскіх (напрыклад, А. Лявіцкі, ксёндз Я. Фіялэк, А. Прахаска, А. Галэцкі, М. Грушэўскі, А. Латоцкі, В. Бідноў, мітрапаліт Макар, Е. Галубінскі, І. Чыстовіч ды інш.) займаліся пытаньнем гісторыі Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім.

На першы пагляд здаецца, што для канструкцыйнае працы дастаткова аглядаў і дакумантаў для насьвятленьня праваслаўя ў Вялікім Княстве Літоўскім падчас панаваньня Ўладыслава Ягайлы. У сапраўднасьці няма ніводнай праўдзівай працы, якая-б бесстаронна насьвятляла вышэй успомненае пытаньне. Праўда, мітрапаліт Макар, М. Грушэўскі, Е. Галубінскі, К. Хадыніцкі ў сваіх працах прысьвяцілі яму шмат месца. Аднак дастаткова вычэрпываюча яны насьвятляюць толькі некаторыя справы, у той час калі цэласьць насьвятляецца толькі агульнікова.

Апрача гэтага я павінен падкрэсьліць, што закранутая мною тэма датычыць рэлігійнага жыцьця беларускага народу, які ў свой час жыў самастойным рэлігійным, палітычным і культурным жыцьцём.

З жалем заўважаецца, што няма больш занядбанай дзялянкі ў літаратуры ўсяго сьвету, чымся гісторыя падуладных народаў. Гэта востра кідаецца ў вочы пры разглядзе якой-бы то ня было часткі беларускае гісторыі. А найбольш рэжа вочы супраціўнасьць паміж гістарычнымі памятнікамі й асьвятленьнем іх у нашых гістарычных працах, асабліва пры дасьледаваньні паходжаньня й істоты літоўскага пэрыяду нашае мінуўшчыны.

Тут маецца такая награмаджанасьць супрацьлежнасьцяў, што найсьвятлейшыя розумы пры рассьвятленьні цемры, пануючай у гэтай галіне, губляюцца ў лябірынтах і, заміж распутаць, будуюць новыя запоры на дарозе да адшуканьня гістарычнае праўды сваім наступнікам. А літоўскі сфінкс зьяўляецца аднолькава таямнічым і недасьледаваным, як і ў працах XIII і XX стагодзьдзяў.

Разгледзім, для прыкладу, рэлігійнае жыцьце беларусаў за часоў Уладыслава Ягайлы. І што-ж бачым? Кожны дасьледчык стварае новыя дапушчэньні й робіць штораз новыя памылкі. Прычынай гэтага зьяўляецца тое, што да сучаснасьці гісторыя была слугою палітыкі дынастыяў і пануючых гаспадарстваў. Доказаў гэтаму вельмі шмат. Сапраўды, колькі-ж патрэбна бяскрытычнасьці й злое волі, каб чалавек,

прыпісваючы сабе імя дасьледчыка-гісторыка, мог гаварыць аб падзеле Літоўскай мітраполіі не як аб натуральным зьявішчы ў гістарычным жыцьці нашага народу, але як аб нармальным факце ў жыцьці мітраполіі ўсяе Русі.

Ад народу, які 100 – 200 гадоў знаходзіўся ў няволі, адбіралі нават ягоную слаўную мінуўшчыну, а найлепшыя старонкі ягонае гісторыі ўпісывалі ў сваю гісторыю. У выніку гэтага беларускую гісторыю амаль што да гэтага часу трактавалі не як праяў жыцьця крывіцкага народу, народу зусім адрозьненага, самаіснага, але як галіну ўяўленай расейскім цэнтрызмам агульна-расейскай культуры. А яшчэ горш, абміналі ўсе дадзеныя, якія ня вяжуцца зь ніякай гісторыяй нацыянальнае Расеі.

Гэта ўсё ставіць перад дасьледчыкам крывіцкае гісторыі такія цяжкасьці, якія можна будзе разьвязаць толькі тады, калі добра разгорнуцца ўласныя дасьледаваньні над гістарычнай праўдай гэтага народу. Гэта цяжкое заданьне, бо нават юрыдычныя дакуманты гісторыі захаваліся ў нямногіх частках. Большасьць іх была бязьлітасна зьнішчана ў пару рэлігійных закалотаў і палітычных змаганьняў.

Такім чынам, з часоў Ягайлы засталіся толькі ўрыўкі тых дакумантаў, на падставе якіх павінна дасьледавацца гісторыя гэтага пэрыяду. Для абнаўленьня іх у крывіцкага народу ня было ўласных навуковых інстытуцыяў.

Вось-жа, пры апрацоўцы тэмы „Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Уладыслава Ягайлы” трэба лічыцца з вышэй пералічанымі цяжкасьцямі.

Гістарычны матар’ял, які датычыць вышэй менаванае працы, зьяўляецца вельмі распыленым і адрыўкавым ды цяжкім быць аднойдзеным з такой дакладнасьцю, якой вымагае гэтая праца.

У выніку паддаўшыхся абагульненьню сабраных мною першакрынічных матар’ялаў, маю працу пры выяўленьню цэласьці гістарычнага жыцьця рэлігійнага праваслаўя ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Уладыслава Ягайлы я падзяліў на наступныя разьдзелы:

I. Гістарычны нарыс Вялікага Княства Літоўскага да паловы XV ст.;
II. Юрыдычнае палажэньне праваслаўных у Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Уладыслава Ягайлы;
III. Унутраны лад Праваслаўнае Царквы ...;
IV. Вернікі Праваслаўнае Царквы ...;
V. Праваслаўныя манастыры ...;
VI. Царкоўная літаратура ...;
VII. Царкоўнае мастацтва ...;
VIII. Заканчэньне.

# I.

## Гістарычны нарыс Вялікага Княства Літоўскага да паловы XV стагодзьдзя

Эпоха палітычнае раздробленасьці ўсходніх славянаў на паасобныя землі й княствы закончылася аб'яднаньнем іх у два гаспадарствы – Вялікае Княства Літоўскае й Маскоўскае гаспадарства.

Пачатак арганізацыі першага зьяўляецца на цэлае стагодзьдзе ранейшым, чымся другога, а ў выніку гэтага да яго пасьпелі далучыцца беларуская і ўкраінская часткі ўсходняга славянства (у пераважаючай колькасьці).

У склад Маскоўскага гаспадарства ўвайшла галіна славянства вялікарускага.

Кожная з гэтых галінаў усходняга славянства мела неаднолькавы ўдзел у працэсе тварэньня аб'яднаных гаспадарстваў.

У той час, калі вялікарасейская галіна згуляла галоўную й адзіную ролю ў стварэньні Маскоўскага гаспадарства, Вялікае Княства Літоўскае было зарганізаваным празь літоўскае племя.

Беларусь-жа і Ўкраіна мелі пабочную й другарадную ролю ў стварэньні гэтае астатняе дзяржаўнае арганізацыі й памагалі пераважна матар'яльнымі й культурнымі сродкамі[1].

У XI і XII стагодзьдзях Літва (Жмудзь), якая займала далёкі ад культурнага сьвету абшар дарэччаў Нёмана й Дзьвіны, зьяўлялася найбольш адсталай культурна спаміж усіх плямёнаў.

Літоўскае насельніцтва, якое жыло ў пушчах і паміж балотаў, займалася пераважна паляўніцтвам, рыбалоўствам і бортніцтвам (пчалярствам). Земляробства мела месца толькі на ўрадлівых адрэзках глебы, якія знаходзіліся ў сярэдзіне пушчаў і балотаў. Яно павінна было заспакоіць толькі ўнутраныя патрэбы свайго краю. Выменны гандаль з суседнімі пляменамі быў вельмі слабы: прадавалі скуркі забітых зьвяроў, воск і мёд, а куплялі хатняе начыньне, гаспадарчыя прылады, аружжа, тканіны і ўпрыгожаньні.

У той час, калі ў X стагодзьдзі ўсходнія славяне прымалі хрысьціянства, а разам з гэтым і пачаткі пісьменнасьці й культуры, ліцьвіны (жмудзіны) заставаліся зацьвярдзелымі ў сваёй паганскай рэлігіі, цямноце й дзікасьці.

Летапісы й хронікі літоўскіх суседзяў гавораць, што ліцьвіны паважалі бога грымотаў „Пэркунаса", і што ў іх існаваў культ сьвятога агню,

---

[1] М. Грушевський, Історія України-Русі, Львів, 1903, т. IV, с. 5.

пакланяліся зьмеям, зьвярам, лясам, рэкам, паасобным дрэвам, мелі звычай прыносіць у ахвяру багом зьвяроў і нават нявольнікаў, спальвалі памёршых правадыроў разам з зброяй, канём, псамі, нявольнікамі й г. д.

Аднак незалежна ад вышэй сказанага І. Малышэўскі гаворыць: „Якой-бы цёмнай і грубай ні была тая рэлігія, усё-ж яна была найбольш агульным злучвом паміж рознымі літоўскімі плямёнамі, і гэтае злучво змагло прывясьці да дзяржаўнага аб'яднаньня ў аблічча нейкай небясьпекі або нейкай карысьці"[2].

Арганізацыя грамадзкасьці ў ліцьвіноў таксама была прымітыўнай: яна не разгарнулася ў больш складаныя формы, чымся грамадзкія супалкі, на чале якіх знаходзіліся найбольш дзелавыя ў грамадзе[3]. Аднак і такая арганізацыя была лепшай і шырэйшай, чымся родава-сямейная, хоць і ўзяла пачатак ад апошняе. Да дробных грамадзкіх супалак належалі ня толькі сябры дадзеных сем'яў-родаў, але таксама й іх суседзі. Правадырамі былі ня толькі старшыя ў родзе, але й выбіраныя грамадзкасьцю, а часам некаторыя зь іх, а пераважна з багацейшае клясы, сілаю рабіліся правадырамі грамадзкіх супалак (старшыні).

Трэба зацеміць, што ўжо ў тыя часы была сацыяльная розьніца ў літоўскім грамадзтве. У склад адасобленай клясы ўваходзілі князькі й царкі (кунігасы й рыкасы), якія былі правадырамі[4]. Імі былі пераважна ўласьнікі вялікіх абшараў зямлі, якія самі сабе прысвоілі. Яны мелі сядзібы, абгароджаныя абаронным плотам, шмат нявольнікаў і г. д., а нямецкі летапісец Пётр Дусбурскі, паводле М. Любаўскага, называе іх вяльможамі (domini praepotentes, potiores)[5].

Аднак улада і ўплывы „паноў-вяльможаў" не сягалі па-за межы гмінаў, у якіх яны жылі[6]. З увагі на гэта літоўскае племя ў XI і XII вякох было вельмі раздробленым палітычна.

Не зважаючы на культурную й грамадзкую прымітыўнасьць, гэта было маладое, здаровае, поўнае жыцьцёвай сілы, энэргіі й адвагі племя, з моцнай воляй і здатнасьцю да жыцьця. Усё гэта было патрэбным для літоўскага племені ў палажэньні, у якім яно апынулася з волі лёсу ў XI – XII стагодзьдзях.

---

[2] И. Малышевскій, Западная Русь в борьбе за веру и народнасть, ч. I, Москва, 1903, с. 13.

[3] М. Грушевський, op. cit., с. 4.

[4] H. Paszkiewicz, Z zagadnień ustrojowych Litwy przedchrześcijańskiej, „Kwartalnik Historyczny", Lwów, 1930, с. 303.

[5] М. Любавскій, Очерк исторіи Литовско-Русского государства до Люблинской уніи, Москва, 1910, с. 10.

[6] М. Грушевський, op. cit., с. 4.

На пачатку XI і XII веку польскія, беларускія і ўкраінскія князі, выкарыстоўваючы разьдзел ліцьвіноў на паасобныя грамадзкія супалкі, нападалі на іх з мэтаю рабункаў і лоўлі нявольнікаў[7]. Гэтыя напады ўзварушылі літоўскае племя й выклікалі ў ім імкненьне да аб'яднаньня. На бітвы з ворагам пачалі літоўскія правадыры хадзіць разам, аб'ядноўваючы сілы некалькіх грамадаў[8].

Усе гэтыя прычыны далі штуршок да стварэньня сталага й вялікага аб'еднанага гаспадарства й былі прычынай ягонага нараджэньня.

На стварэньне гэтага аб'еднанага гаспадарства мела ўплыў у канцы XI і пачатку XIII вякоў зьяўленьне новага ворага ў постаці ордэнаў: Прускага й Лівонскага.

Такая небясьпека прымусіла паасобныя літоўскія групы да аб'еднаньня вакол аднаго старэйшага вялікага князя. Такім вялікім князем у палове XIII веку быў Міндоўг[9], які, перамогшы непаслухмяных князькоў, нават блізкіх сваякоў, стаўся самаўладным князем літоўскае зямлі.

„Миндовг… нача избивати братію свою… и нача княжити один на всей земле Литовской"[10]. Ня трэба Іпацьеўскі летапіс аб мардаваньні шматлікіх князёў літоўскіх разумець даслоўна. Пераважаючая большасьць іх, як вынікае з далейшага працягу, асталася на папярэдніх становішчах. Але за гэта яны заплацілі цану: прызналі зьверхніцтва вялікага князя, г. зн. Міндоўга[11]. Нават Чорная Русь з гарадамі Наваградкам (які стаўся сталічным горадам), Горадняй, Слонімам і Ваўкавыскам прызнала зьверхнасьць Міндоўга.

Ад гэтага часу Чорная Русь так цесна злучылася зь Вялікім Княствам Літоўскім, што хоць даўнейшыя князі беларускія мелі тут свае валаданьні, яны знайшліся ў вялікай залежнасьці ад Літвы[12].

Праўда, Даніла – князь Валынска-Галіцкі ў палове XIII веку хацеў адабраць ад Літвы Чорную Русь, але сваей мэты не асягнуў[13].

І хоць Міндоўг стаўся ахвярай змовы князёў, якія не прызналі ягонага самаўладзтва, але справа, ім пачатая, не загінула. Створаная ім цэнтральная ўлада была настолькі патрэбнай для народу, што Вялікае Княства Літоўскае, не зважаючы на доўгатрывалую ўнутраную барацьбу, не

---

7 НОВГ. Л. III, 211.
8 М. Любавскій, op. cit., c. 12.
9 М. Грушевський, op. cit., cc. 5–6.
10 Полное Собраніе Русских Летописей, т. II. Ипатьевская и Густинская Летопись, С.-Петербург, 1843, с. 201.
11 Ibidem.
12 М. Грушевський, op. cit., cc. 6–7.
13 М. Любавскій, op. cit., c. 13.

разваліласе пасьля сьмерці Міндоўта (1263). Літоўскія князі ўжо не змагаліся за незалежнасьць паасобных княстваў, але за ўладу й тытул вялікага князя.

Пры канцы XIII веку барацьба скончылася перамогай Лютавэра, які стаў вялікім князем літоўскім. Ягонымі наступнікамі былі Вітэн (1293 – 1316) і Гэдымін (1316 – 1341)[14]. Гэты апошні стаўся закладчыкам дынас-тыі вялікіх князёў літоўскіх, якая ў асобах Альгерда (1341 – 1377), Ягайлы (1377 – 1392), Вітаўта (1392 – 1430), сына Альгерда – Сьвідрыгайлы, Жыгімонта – сына Кейстута (1430 – 1440), Казімера – сына Ягайлы (1440 – 1492), Аляксандра (1492 – 1506), Жыгімонта Старога (1506 – 1548), Жыгімонта Аўгуста (1548 – 1572) кіравала Вялікім Княствам Літоўскім падчас яго незалежнага існаваньня.

Іншыя князі (Гедраўскія, Сьвірскія, Гальшанскія) сталі князямі-васаламі, памочнікамі й дарадчыкамі вялікага князя ў справах кіраваньня гаспадарствам[15].

Пры канцы XIV веку ў выніку гістарычных абставінаў Літва была прымушана навязаць палітычную лучнасьць з Польшчай, наступствам якой было ня толькі зьбліжэньне гаспадарчае, палітычнае й грамадзкае, але таксама й духовае. Калі адступім у часы перад заключэннем хаўрусу з Польшчай, дык убачым, што перад новаствораным Вялікім Княствам Літоўскім у XIII і XIV стагодзьдзях сталі тры галоўныя заданьні:

1. На поўначы яно мусіла бараніцца ад ордэнаў: Прускага й Лівонскага, якія нішчылі ягоныя ўладаньні й стараліся пад клічам пашырэньня хрысьціянства заваяваць усю Літву;
2. На поўдні й паўдзённым усходзе непакоілі татары;
3. Ня менш пагражаючым ворагам было Вялікае Княства Маскоўскае, якое імкнулася пашырыць свае межы за кошт беларускіх і ўкраінскіх земляў[16].

Амаль да канца XIV веку Вялікае Княства Літоўскае пасьпяхова адбівала напасьці вонкавых ворагаў. Але пасьля сьмерці вялікага князя Альгерда (1377) у Літоўскім гаспадарстве пад уплывам немцаў пачаліся ўнутраныя непаладкі. Маладому гаспадарству пагражаў разлом і ўпадак.

У такіх абставінах вялікі князь Ягайла, а таксама князі, якія яго падтрымоўвалі нароўні з літоўскімі высока пастаўленымі асобамі, пастанавілі скарыстаць з прапановы польскіх паноў ды пачалі шукаць блізкага злучэньня з Польшчай шляхам жанімства Ягайлы зь Ядвігай, польскай каралевай.

---

[14] М. Грушевський, op. cit., с. 7.
[15] М. Любавскій, op. cit., с. 15.
[16] A. Sokołowski, Dzieje Polski..., t. II, Warszawa, 1902, ss. 35 – 39.

Польшча таксама шукала дапамогі Літвы ў барацьбе зь немцамі. У гэтай справе праф. А. Сакалоўскі гаворыць вось што: „Польшча ў абліччы нямецкае пагрозы, Літва, сьціснутая ордэнам з аднаго боку і магутнай Масквою з другога, шукалі сувязі й аб'яднаньня, як ратунку ад нямінучае згубы".

Вось-жа, у такіх абставінах дня 14 жніўня 1385 году Польшча й Літва падпісалі ў Крэве Акт Вуніі[17].

Тэкст гэтае вуніі ня мае прыкладу ўва ўсёй гісторыі. Ён адбыўся не шляхам вялікіх і крывавых пераваротаў, ня быў вынікам заваяваньня і ўціску, але выплываў з неабходнасьці палітычнага злучэньня абодвух суседніх народаў.

Але як і кожны гістарычны выпадак, ён меў далёка сягаючыя насьледзтвы, даўгія ўнутраныя й вонкавыя змаганьні, пакуль увайшоў у жыцьцё, пакуль праграма ягоная зьдзейсьнілася.

Абавязкі, якія прымаў на сябе вялікі князь Ягайла, былі наступнымі:

1. Ён абацяў прыняць з братамі й літоўскім народам (тае ягонае часткі, якая была паганскай) каталіцкую веру;
2. Ахвяраваць свой скарб на патрэбы Польшчы й зьвярнуць ёй папярэдне адабраныя ад яе землі;
3. Заплаціць жаніху Ядвігі, князю аўстрыяцкаму Вільгельму, 200 000 флёрэнаў;
4. Назаўсёды далучыць да Польшчы Літоўскую зямлю.

З гэтага вынікае, што індывідуальнае існаваньне Вялікага Княства Літоўскага цалкам зьнікла й стварылася адно гаспадарства з Польшчай на асновах карпарацыі.

„Demum etiam Jagiello dux epedictus promittit terras suas Lithoaniae et Russiae coronae regni Poloniae perpetuo aplicare..."[18].

Гэты пастулят, як гаворыць гісторык М. Грушэўскі, быў далёка сягаючым і ня выпаўненым нават Люблінскай вуніяй, таму што было цяжка пахаваць жыцьцёвы палітычны арганізм[19]. Вось-жа, над гэтай інкарпарацыяй Вялікага Княства Літоўскага ў Польскае гаспадарства, якая павінна была-б адбыцца паводле акту 14 жніўня 1385 году, належала-б затрымацца, бо ўласцівага акту, які-б дакладней і ясьней тлумачыў гэтыя суадносіны, ня маем і ня ведаем.

Праф. А. Галэцкі гаворыць, што фармальна гэта яшчэ ня быў акт вуніі, але ён стаўся выхадной пазыцыяй для ўсіх пазьнейшых і стварыў вунію ў найгалаўнейшым і традыцыйным значэньні гэтага слова, як

[17] Akta Unii Polski z Litwą 1385 – 1791. Wydali St. Kutrzeba i Wł. Semkowicz, Polska Akademja Umiejętności i Towarzystwo Naukowe Warszawskie, Kraków, 1932, s. 1.
[18] Akta Unii Polski z Litwą 1385 – 1791..., op. cit., s. 1.
[19] М. Грушевський, op. cit., т. V, c. 113.

злучэньня Польшчы зь Літвою[20]. Юрыдычна канчатковы артыкул, славутыя словы, што Ягайла абяцае свае землі Літвы й Русі назаўсёды прылучыць да Польскага Каралеўства, ніяк не азначае вунію, але інкарпарацыю, уцяленьне гаспадарства Гэдымінавага ў Польскае гаспадарства. Ён сьцьвярджае нарэшце, што ў самым акце гэтая пастанова (інкарпарацыя) сфармулявана так лякачнічна й агульнікова, што можна тлумачыць па-рознаму.

Што асобнае Літоўскае гаспадарства мела перастаць існаваць, можна было выснаваць стуль, што замест аб Вялікім Княстве, гаварылі толькі аб двох складовых частках – аб землях Літвы й Русі.

Праф. Л. Калянкоўскі за рэзультат крэўскага акту лічыць „уцяленьне ў склад Польшчы ўсяго Вялікага Княства Літоўскага"[21]. „Вялікае Княства Літоўскае, – гаворыць ён, – фармальна перастала існаваць як асобнае гаспадарства й станавілася складоваю часткаю Вялікага Каралеўства Польскага, спадчыннага ў Ягайлавым родзе".

Ясьней і выразьней, на маю думку, характарызуе значэньне крэўскага акту нямецкі гісторык Ёзэф Пфітцнэр[22]. Паводле ягонае думкі, Літва ў сілу здарэньня 1385 году страціла сваё самастойнае міжнароднае палажэньне, сваю дзяржаўную незалежнасьць навонкі, аднак захавала сваю ўнутраную самадзельнасьць. Літва й Русь, г. зн. Беларусь, ужо ў 1386 годзе мелі дзяржаўны арганізм, у якім Вялікае Княства Літоўскае было галоўным ядром гаспадарства, у той час, калі Беларусь складалася з паасобных рэгіянальных адзінак, належачых да Літвы, як т. зв. анэкса. Выходзячы з гэтага, у новым дзяржаўным арганізьме Пфітцнэр бачыць тры групы ў наступнай чарговасьці: Польшча – Літва – Беларусь, як „Kernland", „Nebenkernland" і „Nebenland".

Польскае Каралеўства (Regnum Poloniae) стварала самы пачатковы й самы важны орган гэтага новага дзяржаўнага твору, а іншыя абшары, чыё адзінства ня было парушаным, заставаліся ў дачыненьні да таго „Regnum" як „Nebenlander" кароны, якую насіў кароль. Пфітцнэр разважае, што, памінаючы ўсё, інкарпарацыя й адзінства Літвы й Русі ў сярэдзіне „кароны" маглі пагадзіцца.

Пагляды Пфітцнэра трэба браць пад увагу, разважаючы суадносіны Вялікага Княства Літоўскага да Польшчы. Акт у Крэве ўводзіць інкарпарацыю Літвы з Польшчай не як з гаспадарствам, але як з „Каронай Польскага Каралеўства". Вялікае Княства Літоўскае павінна было астацца ў гэтай інкарпарацыі як аддзельнае й самастойнае й неразьдзельнае

---

[20] O. Halecki, Dzieje Unii Jagiellońskiej, t. I – II, Kraków, 1919 – 1920, t. I, s. 15.
[21] L. Kolankowski, Dzieje W. Ks. Litewskiego za Jagiellonów, t. I (1377 – 1499), Warszawa, 1930, s. 4.
[22] J. Pfitzner, Grossfürst Witold von Litauen als Staatsmann, Brun., 1930, s. 92.

цела, а не як частка Польскага Каралеўства, і мела захаваць поўную незалежнасьць у сваіх унутраных справах. Так, напэўна, разумелі й трактавалі гэтую справу князі й баяры Вялікага Княства Літоўскага, калі падпісывалі акт Вуніі ў Крэве. Сьцьвярджаецца гэта таксама тым, што калі Ўладыслаў Ягайла, пасьля таго як вызначыў на намесьніка Вялікага Княства Літоўскага Скіргайлу, выехаў у Польшчу й стуль пачаў кіраваць Вялікім Княствам Літоўскім пры дапамозе польскіх паноў і пралатаў, сярод ліцьвіноў выбухнула вялікае незадаваленьне й нават бунт.

На чале таго руху, які ўздымаў сьцяг поўнае незалежнасьці Літвы ад Польшчы, стаў Вітаўт, які перад гэтым салідарызаваўся ўва ўсім з плянамі Ўладыслава Ягайлы й падпісаў крэўскі акт. У абароне незалежнасьці ён быў прымушаны двойчы шукаць дапамогі ў крыжакоў. Рух гэты скончыўся падпісаньнем умовы ў Остраве (4 жніўня 1392 году)[23]. У сілу гэтае ўмовы Ягайла аддаваў у дажывоцьце поўнае кіраўніцтва Літвою Вітаўту, які прысягнуў вернасьць каралеве Ядвізе й Польскай кароне.

Астравецкая ўмова мела паважнае значэньне для Вялікага Княства Літоўскага, ствараючы фундамант да звароту ягонае самадзельнасьці. Гістарычныя абставіны гэтаму вельмі спрыялі. З аднаго боку, гваранцыя дапамогі немцаў, з другога – здабыцьцё нэўтральнасьці Маскоўскага княства цаною жанімства дачкі Вітаўта з маскоўскім князем Васілём[24] паставілі яго (Вітаўта) на верхавіне ягонае магутнасьці.

Гісторыкі дапушчаюць думку, што калі-б не паражэньне каля Ворсклы (12 жніўня 1399 году) у бітве з татарамі, самастойнасьць Вялікага Княства Літоўскага была-б адноўлена шляхам зрыву вуніі з Польшчай.

У гэтай бітве палеглі найлепшыя сілы літоўскага й беларускага рыцарства, а паражэньне пакрыжавала далёка сягаючыя пляны Вітаўта, мэтай якіх было валаданьне ўсёй Русьсю й берагамі Чорнага мора ды зблізжэньне з Польшчай праз г. зв. Віленскую вунію, хоць гэта не ламала ідэі незалежнасьці.

Пад кіраўніцтвам Вітаўта Вялікае Княства Літоўскае вельмі хутка стала магутным[25]. Асабліва гэта заўважаецца пасьля бітвы пад Грунвальдам у 1410 годзе, дзе літоўска-беларуска-ўкраінскія сілы згулялі вырашаючую ролю.

Грунвальдзкая перамога ўзьняла вельмі высока ў вачах Эўропы імя Вітаўта й краіны, у якой ён панаваў. Як захад, так і ўсход лічыў цяпер Вялікае Княства Літоўскае за магутную дзяржаўную адзінку ў Эўропе і ўваходзіў зь ім у бліжэйшыя суадносіны.

---

[23] М. Грушевський, op. cit., т. IV, сс. 20, 121–128.
[24] Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, с. 274.
[25] М. Грушевський, op. cit., сс. 124–125.

Захаваньне Вітаўта ў адносінах да Ягайлы ў сапраўднасьці было беззаганным, аднак розныя пагалоскі адносна ягоных замераў непакоілі палякаў, якія тады, калі пачала насьпяваць справа каранацыі Вітаўта, пастараліся аднавіць вунію.

Гэта сталася ў Горадле над Бугам 2 кастрычніка 1413 году. Паводле складзенага тут новага акту вуніі, Вялікаму Княству Літоўскаму прызнавалася фактычная й фармальная самадзельнасьць, а інкарпарацыя замянялася пэрсанальнай вуніяй з прызнаньнем зьверхнасьці польскага караля[26].

Зусім адменнае становішча ў адносінах да Гарадзельскае вуніі займаюць польскія гісторыкі А. Галэцкі й Л. Калянкоўскі. Першы гаворыць, што папярэдняй канцэпцыі, створанай папярэдняй вуніяй, Гарадзельскія пастановы не зьмянялі.

Захоўвалася дзяржаўная адасобленасьць, якую ўжо тады прызналі Вялікаму Княству Літоўскаму, але захоўваўся ў поўні прынцып суцэльнае прыналежнасьці яго да Польскага каралеўства, у якое ўлучаецца на вечныя часы, так як пастанавіў Ягайла, калі дабіўся кароны[27].

Яшчэ далей пайшоў Л. Калянкоўскі, сьцьвярджаючы, што Гарадзельская вунія не абазначала паслабленьня адналітага дзяржаўнага арганізму, але была толькі ўзноўленым пацьверджаньнем інкарпарацыі цэлага Літоўскага гаспадарства ў склад Кароны[28].

Наадварот, нямецкі гісторык Ё. Пфітцнэр лічыць, што ў Гарадзельскай вуніі выказаліся аднача́сна дзьве плыні палітычныя: з польскага боку – імкненьне да ўзмацненьня вуніі, а зь літоўскага – да як магчыма далей сягаючае самадзельнасьці Літвы[29].

Аднак памінаючы цьверджаньне польскіх гісторыкаў, кожны бесстаронна думаючы чалавек, прачытаўшы акт Гарадзельскае вуніі, прыйдзе да пераканаmake, што вунія – гэта выразна сфармулявала факт, што Літва й Польшча – гэта дзьве аддзельныя дзяржаўныя адзінкі ў рамках „Кароны Польскага Каралеўства". Зьвязваючым вузлом гэтыя два гаспадарствы была асоба пануючага караля.

Такім чынам, дзякуючы высілкам і энэргіі вялікага князя Вітаўта, Вялікае Княства Літоўскае здабыло самадзельнасьць, якая павінна была астацца паводле Гарадзельскае вуніі й пасьля ягонае сьмерці[30].

Аднак Вітаўт на гэтым не паўстрымаўся і, памінаючы тое, што цаніў вунію з Польшчай, імкнуўся да поўнае эманцыпацыі Вялікага Княства

[26] М. Грушевський, op. cit., т. IV, c. 132.
[27] O. Halecki, op. cit., ss. 206–214.
[28] L. Kolankowski, op. cit., s. 115.
[29] J. Pfitzner, op. cit., s. 113.
[30] М. Грушевський, op. cit., cc. 131–132.

Літоўскага, якую спадзяваўся асягнуць сваёй каранацыяй[31]. Неспадзяваная сьмерць 27 кастрычніка 1430 году паклала канец ягоным намерам.

Пасьля сьмерці Вітаўта ідэя незалежнасьці Вялікага Княства Літоўскага ня толькі не пагасла, але займела яшчэ большыя разьмеры[32].

Акт Гарадзельскае вуніі быў зломлены тым, што ўладу ў Вялікім Княстве Літоўскім узяў Сьвідрыгайла пры падтрымцы пераважна беларускіх і ўкраінскіх, а часткава й літоўскіх князёў і магнатаў, які, як кажа М. Грушэўскі, быў „проводыр руського элемэнту"[33].

А. Алясьніцкі гаворыць, што Сьвідрыгайла, пануючы на Севершчыне перад сьмерцю Вітаўта, здабыў сабе патаемна ўсіх князёў і магнатаў абяцаньнем, што ўзвысіць іх веру й будзе пытацца іх рады, калі здабудзе становішча вялікага князя літоўскага[34]. Узяўшы ўладу ў рукі, Сьвідрыгайла ня толькі зламаў Вунію, але заняў варожае становішча ў адносінах да Польшчы.

На жаль, як гаворыць гісторык М. Грушэўскі, апазыцыя Русі й Літвы ня была ўжо такой аднalітнай, якой магла-б быць даўней. Паміж літоўскім і рускім элемэнтамі ўбілі клін, які іх штораз далей адпіхаў ад сябе й паслабляў супольныя сілы Вялікага Княства Літоўскага. Клінам тым было хрышчэньне ліцьвіноў у рыма-каталіцкім абрадзе й прызнаньне тым каталікам спэцыяльных прывілеяў у параўнаньні да праваслаўнае Русі. Наступствам гэтага быў рускі падзел і руская ірыдэнцыя[35].

Сьвідрыгайла, каб выканаць абяцанае, быў змушаны прызнаць беларускім і ўкраінскім князям і магнатам першарадныя правы й паставіць іх на кіруючыя становішчы ў Вялікім Княстве Літоўскім[36].

Звычайная рэч, што гэта ня вельмі падабалася ліцьвінам каталікам, якім акт Гарадзельскае вуніі даваў такія агромністыя прывілеі. Палякі выкарысталі гэтае незадаваленьне й пасьля двухгадовага змаганьня Сьвідрыгайлу ськінулі са становішча вялікага князя, а ў ягонае месца са згоды палякаў і пэўнае часткі ліцьвіноў выбралі Жыгімонта, брата Вітаўта (1432)[37].

У 1440 годзе Жыгімонт стаў ахвярай змовы літоўскіх магнатаў, незадаволеных ягоным дыктатарскім кіраваньнем[38]. Змова гэтая, як гаворыць пазьнейшы летапіс руска-літоўскі, мела за мэту пасьля таго, як ськінуць

---

[31] Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, с. 61.

[32] М. Любавскій, op. cit., сс. 62–65.

[33] М. Грушевський, op. cit., т. IV, с. 160; Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, сс. 61–62.

[34] М. Грушевський, op. cit., с. 162.

[35] Ibidem, с. 157.

[36] Ibidem, сс. 161–163.

[37] Кажу „некаторай часткі", таму што й сярод ліцьвіноў (каталікоў) было шмат прыхільнікаў Сьвідрыгайлы.

[38] Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, с. 287.

Жыгімонта, абвесьціць вялікім князем літоўскім Сьвідрыгайлу[39]. Але гэта не ўдалося, і літоўскія магнаты пасьля сьмерці Жыгімонта паслалі ў Польшчу пасолў з просьбай, каб кароль Уладыслаў Ягайла прыслаў у Літву намесьніка каралевіча Казімера. Але як толькі Казімер прыбыў у Літву, яго зараз-жа абвесьцілі вялікім князем літоўскім бяз згоды на гэта Польшчы й наўсуперак пастановам 1413 і 1432 гадоў. Каб захаваць Вунію палякі, пасьля сьмерці караля Ўладыслава, выбралі польскім каралём Казімера.

Кожны, хто варочае старонкамі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, ня можа не заўважыць таго, што яно складалася зь дзьвюх частак, зусім асобных і чужых сабе: уласьцівае Літвы (Жмудзі) й Беларусі, падлягаючых зьверхніцтву вялікага князя літоўскага.

Ведамым зьяўляецца, як патомкі Гэдыміна пашыралі свае валаданьні коштам менш, чымся Літва, зарганізаваных і палітычна расьцярушаных рускіх земляў. Так пад канец XIV стагодзьдзя Літоўскае гаспадарства аб'яднала пад сваёй уладай амаль што ўсе беларускія землі й некаторыя ўкраінскія.

Перш за ўсё да Вялікага Княства Літоўскага была прылучана Полацкая зямля. Геаграфічнае палажэньне гэтай апошняй спрычынілася да суадносінаў зь Літвою яшчэ ў XI і XII стагодзьдзях.

Полацкія князі часта нападалі на літоўскія землі, рабавалі іх і забіралі палонных. У Літву наплывалі з Полаччыны земляробы й прамыслоўцы, якіх вабіла багацьце літоўскіх пушчаў і бясьпечнае сховішча ў іх нетрах ад хатніх войнаў і напасьцяў з боку суседзяў. Такім чынам, на літоўскай зямлі асела значная частка людзей з суседніх беларускіх земляў.

Так званая „Чорная Русь" з прыналежнымі да яе гарадамі Наваградкам, Ваўкавыскам, Горадняй і Слонімам была, як гаворыць М. Любаўскі, калёніяй плямёнаў крывічоў і дрыгавічоў у Літоўскай зямлі[40].

Ад паловы XII веку, наадварот, ліцьвіны пачалі нападаць на землі: Полацкую, Наваградзкую й Смаленскую, а часам нават і на Чарнігаўскую. Часта заклікалі іх мясцовыя князі на дапамогу падчас хатніх войнаў[41].

Але часам ліцьвіны бывалі няпрошанымі гасьцямі ў Полацкай зямлі[42]. Калі ліцьвіны пачалі аб'ядноўвацца ў адну дзяржаўную арганізацыю, Полацкая зямля была падзеленай на некалькі княстваў: Полацкае, Віцебскае, Менскае, Друцкае, Ізяслаўскае ды іншыя. Наступствам

---

39 М. Грушевський, op. cit., cc. 196 – 197.

40 М. Любавскій, op. cit., c. 17.

41 Полное Собраніе Русских Летописей, т. II. Ипатьевская и Густинская Летопись, С.-Петербург, 1843, с. 187.

42 В. Данилевич, Очерк Полоцкой земли до конца XIV века, „Кіев. Унив. Изв.", Кіев, 1896, сс. 73, 75, 79.

такога расьцярушаньня было тое, што Літва штораз больш захоплівала полацкія землі, якія, дзякуючы гэтаму, штораз больш гублялі лучнасьць зь іншымі славянскімі плямёнамі.

Праф. М. Любаўскі гаворыць: „Напасьці іх (ліцьвіноў) ад другой паловы XII веку зрабіліся больш частымі й прымусілі аўтара „Слова о полку Игореве" з трывогай глядзець на будучыню полацкага народу. „Двина, – чытаем у ягоным творы, – болотомъ течетъ онымъ грознымъ полочаномъ подъ кликомъ поганыхъ". Полацкія князі, аслабленыя расьцярушанасьцю, ня мелі сілаў супраціўляцца. „Ярославе и вси внуцы Всеславли, – зварочваецца да іх пясьняр. – Уже понижите стязи вашы вонзите свои мечи, уже бо выскочите из дедней славы"[43].

Татарская навала й заваяваньне імі (татарамі) абшараў паміж рэкамі Акой і Волгай і на Ўкраіне пакінулі полацкія землі бараніцца ўласнымі сіламі й прымусілі насельніцтва шукаць апоры ў Літве.

Вось-жа, у 50-ых гадох XIII веку сваякі Міндоўга запанавалі над Полацкай зямлёй. Ня толькі Полацкая зямля, але й іншыя ўкраінскія й беларускія землі, страціўшы магутнасьць у выніку расьцярушанасьці й татарскае напасьці, не супраціўляюцца пашырэньню літоўскае ўлады, але ў пераважаючай колькасьці шукаюць супакою й ідуць на спатканьне Літвы[44].

І вось адна за другою, ці то праз сваяцтва князёў, ці ў выніку палітычных прычынаў, прылучаюцца да Літвы беларускія землі, а нават украінскія[45]. Вялікі князь Гэдымін у 1315 годзе адабраў ад валынскіх князёў Берасьцейскую зямлю, а потым завалодаў Турава-Пінскім княствам[46]. За часоў наступніка Гэдыміна – Альгерда (1341 – 1377) да Літвы былі прылучаны землі: Кіеўская й Чарнігаўска-Северская[47]. Падчас панаваньня Вітаўта да Літвы былі далучаны Смаленская зямля й княствы, паложаныя над берагамі верхняе Акі[48].

Літва, якую нішчылі напады крыжакоў, шукала сховішча на беларускіх землях і коштам тых земляў павялічвала свае сілы.

Агульны ціск з усіх старон спалучыў у адно гаспадарства Вялікае Княства Літоўскае-Жмудзь і беларускія ды ўкраінскія землі пад зьверхняй уладай Вялікага Князя Літоўскага.

---

[43] М. Любавскій, op. cit., сс. 17 – 19.
[44] A. Brückner, Dzieje kultury Polskiej, t. I, Kraków, 1931, s. 641.
[45] M. Bobrzyński, Dzieje Polski w zarysie, wydanie IV, t. II, Warszawa Kraków Lublin, 1927, s. 205.
[46] М. Грушевський, op. cit., с. 10.
[47] Ibidem, сс. 62 – 99.
[48] П. Голубовскій, Исторія Смоленской земли до начала XV века, Кіев, 1895, с. 316. Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, с. 49.

Характар спалучэньня меў уплыў на ўнутраную структуру новага гаспадарства Літоўскага. Землі й княствы, якія былі далучанымі, у бальшыні выпадкаў ня трацілі ўласьцівых ім бытавых рысаў. У некаторых княствах асталіся нават дагэтуляшнія князі, каторыя не пераставалі супольна з вяльможамі кіраваць сваімі падданымі. Яны рабіліся васаламі вялікага князя, якому павінны былі плаціць падаткі й адбываць павіннасьці.

Вельмі часта вялікі князь аддаваў абшары й княствы ягоным сваякам, якія кіравалі імі „з волі вялікага князя".

Апрача гэтага, ніякія іншыя зьмены ў палажэньні земляў і княстваў славянскіх, далучаных да Вялікага Княства Літоўскага, ня мелі месца[49]. Вялікі князь літоўскі ня ўмешываўся ў іх традыцыі, хатні ўклад і звычаі.

У сапраўднасьці Літоўскае гаспадарства ў XIV веку ня было адзіным палітычным арганізмам, а зьяўлялася зьбіранінай земляў і валаданьняў, спалучаных пад уладаю вялікага князя літоўскага. У канцы XIV і на пачатку XV веку вялікі князь меў магчымасьць пераканацца ў тым, што аддаваць землі ў валаданьне сваякам-князям ня толькі не карысна, але й небясьпечна.

Такія князі неаднаразова паказывалі брак пакорнасьці вялікаму князю і ўздымалі супраць яго паўстаньні, якія пагражалі разваламі вялікаму князю літоўскаму (Андрэй Полацкі, 1377)[50]. У выніку гэтага вялікі князь быў змушаны зьліквідаваць рэгіянальныя княствы, а заміж пануючых там князёў-сваякоў паставіць намесьнікаў[51]. Аднак і такая зьмена ня мела ўплыву на палажэньне ў беларускіх і ўкраінскіх землях.

З мэтаю здабыць сабе прыхільнасьць гэтых земляў, вялікі князь даваў ім прывілеі, якія гварантавалі ім непарушальнасьць іх традыцыяў, даўнейшых правоў і свабодаў і прысвойваў новыя вольнасьці. У такіх абставінах Вялікае Княства Літоўскае займела характар фэдэратыўнага гаспадарства.

Увакол ягонага асяродка з стольным горадам Вільняю, закладзеным Гэдымінам (каля 1323), згрупаваліся краіны й княствы, якія захавалі рысы свайго ўнутранага жыцьця. Гэтымі землямі былі Жмудзь, Полаччына, Віцебшчына, Смаленшчына, Кіеўшчына, Валынь з Падольлем і княствы: Слуцкае, Мсьціслаўскае, Пінска-Тураўскае й Чарнігаўска-Северскае.

Асяродкам Вялікага Княства Літоўскага зьяўляліся Жмудзкая зямля й значная частка беларускіх земляў (апрача земляў: Полацкай, Віцебскай

[49] М. Грушевський, op. cit., с. 66.

[50] Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, сс. 40 – 41.

[51] М. Грушевський, op. cit., сс. 138 – 155.

і Смаленскай). Ён займаў пануючае палажэньне ў Літоўскім гаспадарстве й меў найбольшую шчыльнасьць насельніцтва спаміж іншых земляў. Тут была большасьць маёнткаў вялікага князя й літоўскіх абшарнікаў, такіх як князі Гальшанскія, Гаштольды, Радзівілы ды іншых.

Гэты край адрозьніваўся ад іншых, прыналежных Вялікаму Княству Літоўскаму, сваім унутраным ладам і мясцовымі законамі. Узброеныя сілы тут стваралі асобныя палкі, на чале якіх стаялі Віленскія й Троцкія ваяводы. Усе адміністрацыйныя становішчы былі адданы мясцовым абшарнікам.

Асновай матар'яльнае магутнасьці вялікага князя былі ягоныя собскія зямельныя абшары, якія ў першую чаргу складаліся з маёнткаў тых дынастыяў, зь якіх паходзілі вялікія князі. Зь бегам часу яны павялічыліся коштам абшараў, адабраных ад іншых літоўскіх князёў або атрыманых у спадчыне ад беларускіх ды ўкраінскіх князёў, чэлядзьдзю, будынкамі для яе й рознымі запасамі. Тут было шмат вайскоўцаў і войтаў вялікага князя, якія высылалі чэлядзь і сялянаў гэтае ваколіцы на працу.

Прыгонная праца мела месца ня толькі ў валаданьнях вялікага князя, але таксама ў маёнтках князёў і магнатаў. Сялянства было ўпоўні падпарадкавана ўладзе вялікіх князёў, князёў і абшарнікаў, ды пасыўна выконывала загады зьверхнікаў[52].

Большай самастойнасьцю й свабодай карысталіся тыя людзі, якія займаліся промыслам або гандлем. Гэтак званыя „месьцічы" прымалі ўдзел у гмінных сходах, т. зв. „вечах", дзе вырашаліся справы палітычнага жыцьця, судаўніцтва й г. д.

У кіраўніцтве гаспадарствам вялікі князь карыстаўся дапамогай і супрацоўніцтвам князёў і вяльможаў літоўскіх, якія й выбіралі яго вялікім князем. Іх галоўным абавязкам была вайсковая служба, яны былі ўдзельнікамі княжых паходаў і паляваньняў, але пад паглядам юрыдычна-палітычным аставаліся ў поўнай залежнасьці ад князя.

Землі, якія былі спалучаны зь Вялікім Княствам Літоўскім, хаця-ж і ня былі больш самастойнымі княствамі й гаспадарствамі, аднак захавалі шмат рысаў свае палітычнае мінуўшчыны[53]. Перад усім непарушанымі асталіся межы паасобных земляў. Вайсковы абавязак адбывалі ў мясцовых гарнізонах, т. зв. „заставах". Падчас вайны „дружыны" ішлі пад правадырствам намесьніка зямлі.

Судовыя справы разглядаліся мясцовымі трыбуналамі. У літоўскай зямлі на суд ішлі толькі тады, калі на гэта была згода абодвух старон, якіх гэтая справа датычыла.

---

[52] М. Любавскій, op. cit., cc. 17–34.

[53] Ibidem, cc. 35–39.

У асобе князя або „намесьніка" кожнае княства або зямля мела свайго аўтаномнага кіраўніка, які знаходзіўся ў васальскай залежнасьці ад вялікага князя літоўскага. Дарадцамі-ж, урадоўцамі князя або намесьнікамі былі вяльможы дадзенае зямлі.

Такім чынам, зьбіраніну земляў і княстваў беларускіх, украінскіх і жмудзкіх за часоў Уладыслава Ягайлы аб'ядноўвала й вязала ў адно цэлае гаспадарства ўлада вялікага князя, пры чым жмудзіны й беларусы ды ўкраінцы займалі кіруючае й раўназначнае становішча.

Старадаўняя гістарычная літаратура, бачыўшы зашмат жмудзкага (літоўскага) элемэнту ў Вялікім Княстве Літоўскім, пакідала за беларускай стыхіяй „занадта падпарадкаванае палажэньне".

У апошні час, наадварот, пачалі цьвердзіць, што Літва была толькі шыльдам Вялікага Княства, якое ў сутнасьці было ўпоўні беларускім.

Уласьцівая Літва-Жмудзь, хаця-ж і зьяўлялася ў гаспадарстве Гэдыміна й Альгерда цэнтрам тых магутных палітычных сілаў, якія выраслі ў Вялікае Княства, усё-ж, калі гэтыя сілы спаткаліся з больш культурнай Беларусьсю, падпала пад яе ўплыў[54].

Польскі праф. А. Брукнэр гаворыць: „Як пруская, так і літоўская паганская культура ні на хвіліну не маглі супрацьставіцца хрысьціянскай рускай, і ўжо ў паганскую Літву ўрываліся не паўстрымана рускія звычаі, пісьменнасьць, урады, а ўпоўні ёй авалодалі ў пасьледуючы пэрыяд"[55].

Шляхам навуковых досьледаў гісторыкі цьвёрда сьцьвердзілі, што праваслаўе ў Беларусі, безумоўна, існавала перад 988 годам, і ня толькі існавала, але карысталася роўнымі з паганскай верай прывілегіямі.

Зьяўляецца ведамым, што пасьля ўвядзеньня праваслаўнае веры Уладзімерам Сьвятым, хрысьціянства вельмі хутка пашырылася ўва ўсіх рускіх землях.

Дзякуючы гэтаму, да часоў Ягайлы ў працягу некалькіх сотак гадоў хрысьціянская культура й праваслаўе патрапілі глыбока закараніцца на беларускіх землях і сталіся верай бацькоў[56].

Мітрапаліт Макар гаворыць: „Ува ўсіх тых старарускіх землях, г. зн. Смаленскай, Магілеўскай, Віцебскай, Менскай, Горадзенскай, Чарнігаўскай, Кіеўскай, Валынскай і Падольскай, існавала праваслаўная рэлігія ды існавала ўжо цэлыя стагодзьдзі, значыць, здужала закараніцца глыбока й моцна: верылі ў яе просталюдзіны нароўні з дваранамі, вяльможамі й князямі, нашчадкамі тых рускіх удзельных князёў, якія тут некалі панавалі"[57].

---

54 М. Грушевський, op. cit., т. IV; П. Батюшков, Белоруссія и Литва, С.-Петербург, 1890, с. 3.
55 A. Brückner, op. cit., s. 411.
56 Митрополит Макарій, Исторія Русской Церкви, С.-Петербург, 1879, т. IX, с. 2.
57 Ibidem.

## II.

## Юрыдычнае палажэньне праваслаўных у Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Уладыслава Ягайлы

Пытаньне аб тым, у якой меры правы праваслаўнага насельніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Ягайлы былі абмежаванымі ў параўнаньні з правамі каталіцкага насельніцтва, уяўляе сабою вялікую зацікаўленасьць для гісторыкаў. Аднак адносна шмат месцаў разьвязка ня знойдзена з увагі на тое, што кожны дасьледчык гэтае галіны рабіў новыя дагадкі[1].

Гаворачы пра абмежаваньні праваслаўнага насельніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Ягайлы, трэба памятаць, што яно адносілася не да ўсяе тэрыторыі гэтага гаспадарства, але адзіна да тэрыторыі Літвы ў вузкім значэньні гэтага слова.

У тыя часы землі беларускія і ўкраінскія ствaралі гэтак званыя ўдзелы, а кожны зь іх меў імя, якое паходзіла ад галоўнага гораду. Яны захавалі сваю самадзельнасьць у галіне шматвяковае традыцыі. Прынцып „старыны не рухаці" быў усеўладным. На аснове тае „старыны" вытварыліся ў кожным большым удзеле звычаёвыя законы, якія пазьней сабралі ў кадэксы асобных удзельных прывілегіяў[2]. На пачатку XV веку сувязь паміж такімі акругамі міжсобку й зь Літвой была вельмі слабою. Землі – Полацкая, Смаленская, Віцебская, Кіеўшчына, Падольле, Валынь і Жмудзь – стваралі хутчэй фэдэрацыю, чымся адналіты дзяржаўны арганізм. Становішча намесьнікаў, кіруючых гэтымі землямі, было блізкім да князевага.

Функцыі цэнтральных органаў гэтых дзяржаўных акругаў абмяжоўваліся рэпрэзэнтацыяй у асноўных абрысах. Навонкі іх абавязкі зводзіліся да абароны перад супольным ворагам. Гэты абавязак даваў ім

---

[1] Проф. В. Беднов, Православная Церковь в Польше и Литве, по „Volumina Legum", Екатеринослав, 1908; W. Czermak, Sprawa równouprawnienia schizmatyków i katolików na Litwie (1432–1563), Rozprawy i sprawozdania z Posiedzeń Akademii Umiejętności, Wydział Historyczno-Filozoficzny, t. XIX, Kraków, 1903; W. Kamieniecki, Ograniczenia wyznaniowe w prawodawstwie Litewskim w XV i XVI stst., „Przegląd Historyczny", t. XIII, Warszawa, 1911; K. Chodynicki, Kościół Prawosławny a Rzeczpospolita Polska, 1370–1632. Zarys historyczny, Warszawa, 1934, ss. 76–91; J. Fijałek, Opisy Wilna aż do połowy XVII wieku, „Ateneum Wileńskie", rocz. II, Wilno, 1924; A. Lewicki, Powstanie Swidrzgiełły. Rozprawy i sprawozdania z Posiedzeń Akademii Umiętności, Wydział Historyczno-Filozoficzny, t. XXIX, Kraków, 1892, ss. 128–516; M. Bobrzyński, Dzieje Polski w zarysie, t. II, wydanie IV, Warszawa – Kraków – Lublin, 1927; М. Грушевський, Історія України-Русі, т. V, Львів, 1903, сс. 47–52.

[2] В. Беднов, op. cit., c. 25.

права на пэўныя ападаткаваньні, якія плылі з усяго Вялікага Княства Літоўскага ў скарб вялікакняжы. Па-за гэтым цэнтральны ўрад за часоў Уладыслава Ягайлы пакідаў акругам поўную свабоду. Ён не парушаў ані „старыны" мясцовай, ані ствараў агульных законаў, абавязкавых для кожнае зямлі.

Першым агульнадзяржаўным заканадаўчым актам можна лічыць земскі прывілей 1447 году, дзе падкрэсьлены ўніверсальны характар.

У актах, выдадзеных за часоў Уладыслава Ягайлы, перад земскім прывілеям 1447 году (акт Віленскі, Гарадзельскі ды інш.), гутарка ідзе толькі пра Літву й Літоўскую зямлю, у той час калі Беларуская зямля й яе насельніцтва абыходзяць маўчаньнем, не зважаючы на тое, што геаграфічны тэрмін „Русь" быў, напэўна, добра ведамым у канцылярыі вялікага князя літоўскага.

Нарэшце, а гэта самае важнае, цэлы шэраг акруговых прывілеяў, пазьней выдадзеных, як гаворыць В. Камянецкі[3], паклікаючыся на папярэднія прывілеі Казімера Ягелёнчыка й Аляксандра, маўчаць пра першыя прывілеі Уладыслава Ягайлы.

З гэтага можна рабіць высноў, што прывілеі Уладыслава Ягайлы адносіліся адзіна да ўласьцівае Літвы. Што праўда, канкрэтных доказаў для такога цьверджаньня няма.

Што датычыцца праўнага палажэньня праваслаўя на абшарах паганскае Літвы, дык за часоў Гэдыміна, Альгерда і Уладыслава Ягайлы перад Крэўскаю вуніяй яно карысталася прывілейным палажэньнем. Ад пары дынастычнага аб'еднаньня Вялікага Княства Літоўскага, сьцьверджанага Крэўскім актам, праўнае палажэньне праваслаўнага насельніцтва ў акругах Вялікага Княства Літоўскага зьмянілася на горшае.

14 жніўня 1385 году ў горадзе Крэва Ягайла за руку Ядвігі й прызнаньне яго каралём Польшчы прыабяцаў, што прыйме каталіцкую веру разам з усімі ягонымі братамі, сваякамі й шляхтай[4].

Такая вунія не абяцала нічога добрага для праваслаўя. Пасьля падпісаньня яе можна было спадзявацца пагоршаньня ў палажэньні праваслаўных. Так яно й здарылася ў сапраўднасьці.

За некалькі дзён перад шлюбам зь Ядвігай Ягайла зрокся праваслаўя, у якім дагэтуль быў. Ягонаму прыкладу пасьледавалі ягоныя чатыры браты, якія зь ім прыехалі ў Кракаў, і ўся ягоная сьвіта.

Разам зь вялікай колькасьцю каталіцкага духавенства Уладыслаў Ягайла вярнуўся ў 1388 годзе ў Вялікае Княства Літоўскае й энэргічна пачаў наварачываць ліцьвіноў паганаў на каталіцкую веру[5].

---

[3] W. Kamieniecki, op. cit., s. 271.
[4] Akta Unii Polski z Litwą 1385 – 1791..., op. cit., ss. 2 – 3.
[5] Полное Собраніе Русскихъ Летописей, Густинская Летопись, С.-Петербургъ, 1843, т. II, с. 351.

Карыстаўся пры гэтым ня толькі словамі перакананьня, але гвалтам і насільствам. На Жмудзі, дзе нацыянальная традыцыя была моцна закаранію́шыся, каталіцкая прапаганда даўжэйшы час ня мела паводжаньня, таксама як яна была беспасьпяховай сярод праваслаўнага насельніцтва на землях Вялікага Княства Літоўскага.

Народ ня толькі не пайшоў сьледам Уладыслава Ягайлы ды іншых князёў, але вельмі часта ў пазьнейшыя часы ня хістаўся аддаць жыцьцё за чысьціню й непарушальнасьць праваслаўнае веры.

Асабліва гэта здаралася тады, калі вялікі князь прабаваў сілай перавярнуць праваслаўных у каталіцкую веру[6].

Аднак Уладыслаў Ягайла вельмі хутка пакінуў такі мэтад і прымяняў да праваслаўных аграніченьні ў абсягу асабістых вольнасьцяў: пабудовы новых цэркваў і доступу праваслаўных на найвышэйшыя ўрады ў кіраўніцтве дзяржавай.

У галіне абмежаваньня асабістае свабоды сілай распараджэньня Ўладыслава Ягайлы забаранялася ліцьвінам, якія прынялі каталіцкую веру, уваходзіць у сужэнствы з праваслаўнымі.

Адначасна з гэтым з мэтай распаўсюджаньня каталіцкае веры сярод ліцьвіноў, якія бачылі ў ёй „крыжацкую" веру й з большай прыхільнасьцю адносіліся да праваслаўнае царквы, ува ўласьцівай Літве, праўдападобна, існавала забарона будаваць новыя мураваныя цэрквы. Такая забарона абасноўвалася на касьцельным праве, сфармуляваным у Велюньска-Каліскім статуце 1420 году[7].

Гэты статут забараняў на вечны час усім іншаверцам мець або будаваць новыя маліцьвенныя дамы без дазволу мясцовых рыма-каталіцкіх біскупаў епархіяльных ува ўсей правінцыі Гнезна, а пазьней і ў Віленскай епархіі, якая прыналежала да яе й кіравалася тым самым сынадальным статутам, што й рэшта епархіяў у Польшчы[8].

Да гэтага часу не ўдалося ніякаму дасьледчыку або гісторыку знайсьці эдыкт Уладыслава Ягайлы або Вітаўта, які-б забараняў пабудову праваслаўных сьвятыняў. Можа быць, што такі закон і быў выданы, як гаворыць К. Хадыніцкі, але на гэта няма беспасярэдніх доказаў[9]. Аднак пазьнейшыя валадары, як напрыклад, Аляксандр Ягелёнчык у 1494 –1495 гадох на жаданьне вялікага князя маскоўскага, каб для ягонае дачкі ў Вільні была пабудавана новая праваслаўная царква, паклікаючыся на закон, ужо даўно існуючы, кажа: „Князи наши и панове наши, вся земля мають

[6] В. Беднов, op. cit., c. 11.
[7] J. Fijałek, op. cit., s. 154.
[8] K. Chodynicki, op. cit., s. 79.
[9] Ibidem.

то право и записи от предков наших и от отца нашего и от нас и то в правех написано, што церквей греческого закону больше не прибавляти, ино нам тех прав предков и отца нашего и наших не годится рухати"[10]... На падставе гэтага сказу можна рабіць выснаў, што забарона пабудовы новых цэркваў у Літве існавала з часоў продкаў Аляксандра Ягелёнчыка. Аднак, як гаворыць К. Хадыніцкі, Аляксандр нароўні зь ягонымі папярэднікамі й наступцамі ня прытрымоўваўся такое забароны.

У такім сьвятле няма нічога дзіўнага, што калі рымскі біскуп Фэррары, пасланы папам у 1513 годзе ў Маскву, прыехаў на Літву й пабачыў там праваслаўныя цэрквы, зразумеў, якой вялікай пагрозай для Рымска-каталіцкага Касьцёлу яны зьяўляюцца, і, як гаворыць кс. Я. Фіялэк, засароміўся тым, што праваслаўная царква астаецца тут зусім вольнай[11].

Калі-ж нават некалі й была выдадзена забарона пабудовы новых цэркваў, дык, як кажа кс. Я. Фіялэк, „фальшывай зьяўляецца думка, быццам такой забаронай літоўскія валадары намерываліся зьнясьці Ўсходнюю Царкву ў сваім гаспадарстве або хоць бы адабраць ад яе нейкія правы, якія да гэтага часу яна мела й якімі кіравалася".

Справа ішла пра нешта іншае: пра паўстрыманьне росту гэтае Царквы як схізмы, каб далей не разьвівалася за межы сваёй сучаснасьці з паніжэньнем і ўшчэрбкам каталіцкае веры як пануючага Касьцёлу[12].

Памінаючы розныя абмежаваньні і ўціск, Праваслаўная Царква ў Вялікім Княстве Літоўскім разьвівалася. Прычынай гэтага была вялікая колькасьць і гушчыня праваслаўнага насельніцтва ды апека над Царквою князёў і вяльможаў удзельных.

З гэтым не маглі пагадзіцца тварцы палітычнае вуніі, кіраваныя польскім каталіцкім духавенствам. Польскія магнаты й Ягайла, каб узмоцніць вунію, пастанавілі пашырыць правы літоўскай шляхты, надаючы ёй пэўныя свабоды й прывілеі, якія мела польская шляхта. Аднак, баючыся, каб праваслаўная вера не пашыралася паміж ліцьвіноў, прывілеі былі дадзены шляхце, якая была каталіцкай або прымала каталіцкую веру.

У 1387 годзе Ўладыслаў Ягайла выдаў прывілей, у якім пералічаюцца правы каталіцкае шляхты. На пачатку яго маюцца такія словы: „Для пашырэньня (augmentum) сьвятое веры й замацаваньня (firmatatem) каталіцкае рэлігіі мы аддаём і ўступаем хрышчаным або жадаючым хрысьціцца падданым наступныя свабоды й правы.

---

[10] Акты, относящіеся к Исторіи Западной Россіи, собранные и изданные археологическою комиссіею, т. I – II, С.-Петербург, 1846, т. I, № 111; J. Daniłowicz, Skarbiec dyplomatów papieskich, cesarskich, królewskich..., t. I – II, Wilno, 1860 – 1862, s. 241.

[11] J. Fijałek, op. cit., ss. 149 – 150.

[12] Ibidem, ss. 155 – 156.

Пайменна: кожны шляхціц (armiger sive bojarin), прымаючы каталіцкую веру (fidem catholicam), нароўні зь ягонымі спадкаемцамі й наступнікамі атрымоўваюць поўную свабоду мець, карыстацца, уладаць, прадаваць, адступаць, мяняць, даваць, ахвяроўваць і пераказываць згодна зь іх гледжаньнем (beneplacitos) і жаданьнем (voluntarios) замкі, акругі (districtus), маёнткі (villas), дамы і, наагул, усё, чым у спадчыне пасьля бацькі кожны валодае, каб папярэдзіць праўнай няроўнасьці тых, каго вунія зрабіла грамадзянамі аднае й тае самае кароны, каб яны карысталіся й цешыліся правамі, падобнымі да тых, якія маюць іншыя нашыя падданыя на землях нашага (гутарка пра асобу Ягайлы) Каралеўства Польскага; хочам, каб у кожным каштэлянстве (in castellanea) і акрузе або на тэрыторыі быў адзін судзьдзя, які-б разглядаў справы (causas quaerunlantium audiat) і вызначаў кары (poenas) паводле звычаю й права судзьдзяў, якія знаходзяцца ў акругах і судох нашага Польскага Каралеўства.

Шляхце пакідаецца права й свабоду выдаваць замуж сваіх дочак, унучак і, наагул, жанчын, ня выключаючы і ўдоваў, каб толькі ў такіх выпадках захаваўся каталіцкі абрад (rituum catholicum).

Калі-ж дачка, унучка або сваячка якога-небудзь шляхціца астанецца пасьля сьмерці мужа ўдавою, дык яна можа астацца ў маёнтках або валаданьнях (in bonis su possesionibus) свайго мужа, пакуль, разумеецца, будзе ўдавою, калі-ж захоча выйсьці замуж паўторна, хай аддасьць мужу, якога сабе выбярэ, падаркі (donatum), а маёнткі й тое, што мае ў карыстаньні, няхай аддасьць дзецям памёршага, калі такія будуць, у выпадку браку дзяцей – найбліжэйшым сваякам свайго першага мужа, як робяць удовы ў Польшчы.

Шляхта звольнена ад усякіх паставак у натуры ў адносінах да гаспадарства, за выняткам будовы новых і направы старых замкаў у тым выпадку, калі да гэтага паклічуць усю Літву. Ваенныя паходы, згодна з хатнім звычаем, шляхта выконывае за ўласны кошт, і ў выпадку пагоні за непрыяцелем ня толькі шляхта, але й кожны здольны абыходзіцца са зброяй мужчына павінен браць удзел.

Кожны, хто пасьля прыняцьця каталіцкае веры адступіў ад яе, нароўні з тым, хто ня прыняў каталіцкае веры, з гэтых правоў карыстаць ня будзе. Прывілей, выдадзены ў Вільні 20. II.1387 года".

На аснове віленскага прывілею з дня 20 лютага 1387 году толькі шляхта атрымоўвала права на спадчыннае карыстаньне гарадамі, паветамі, вёскамі й дамамі. Апрача гэтага яна атрымала права свабодна выдаваць дочак і сваячак замуж ды адначасна з гэтым звальнялася ад нясеньня пастаянных служэбнасьцяў, за выняткам пабудовы новых і направы старых гарадзішчаў ды ўдзелу ў вайне. Аднак да гэтага яе маглі паклікаць толькі разам з усей Літоўскай зямлёй[13]. Мэтаю гэтага прывілею, які мае на

---

[13] T. Działyński, Zbiór Praw Litewskich od roku 1389 do 1529, Poznań, 1841, ss. 1 – 2; М. Грушевський, op. cit., т. V, с. 47; В. Беднов, op. cit., сс. 13 – 14.

сабе сьлед рэлігійнага празэлітызму, было ўзвысіць становішча каталікоў у Вялікім Княстве Літоўскім да клясы прывілейнай і адначасна прынізіць праваслаўных. Такую самую мэтанакіраванасьць заўважаем у „грамаце" Ягайлы, дадзенай ім у тым-жа 1387 годзе першаму каталіцкаму біскупу ў Вільні Андрэю (гэрбу Ястраб)[14].

Абодва вышэй прыведзеныя дакументы вобразна сьведчаць, што каталіцкая рэлігія ад 1387 году стала пануючай і прывілегіяванай рэлігіяй у Вялікім Княстве Літоўскім.

Што датычыцца праваслаўя, дык яно займае другараднае становішча й яго лічаць ніжэйшым у параўнаньні з каталіцтвам.

Аднак каталіцкае духавенства, якое мела тады вялікі ўплыў на палітычнае жыцьцё, і польскія паны не здаволіліся гэтым і пастанавілі з мэтаю ўзмоцніць каталіцызм задушыць праваслаўе (схізму) і адначасна з гэтым падпарадкаваць народы літоўскі, украінскі й беларускі ўладзе Рыму.

Зразумелая рэч, гэта нічога добрага праваслаўю не абяцала. Што, праўда, аб гэтым не сказана ў вышэй прыведзеных прывілеях, але са зьместу гэтых апошніх відаць, што Ягайла й польскія паны пашырылі правы каталіцкае шляхты з тым, каб каталіцкая вера разьвівалася зь відавочным ушчэрбкам праваслаўнае веры.

Толькі Гарадзельскі сойм, які адбыўся ў 1413 годзе, парушыў справу праваслаўных[15].

Праўда, і ў ягоных пастановах няма адкрытага выказваньня аб праваслаўных, але там маюцца такія месцы, на падставе якіх можна рабіць выснаў, што пералічаныя абмежаваньні накіраваны супраць прыхільнікаў праваслаўнага веравызнаньня. Прыняты гэтым соймам Гарадзельскі прывілей, пацьвердзіўшы яшчэ раз правы Віленскага прывілею, дадае наступныя новыя. Артыкул пяты гаворыць: „Паны й шляхта, баяры нашых літоўскіх земляў, вышэй пералічаных, маюць цешыцца, удзельнічаць і карыстацца з даравізнаў, прывілеяў і адступстваў ад нас ім дадзеных, паколькі падлягаюць каталіцкаму й Рымскаму Касьцёлу, і паколькі ім былі прызнаны гэрбы, так як з сваіх маюць пажытак і карыстаюцца паны й шляхта Польскага Каралеўства".

Адзінаццаты артыкул, пастанавіўшы стварыць 2 ваяводзтвы, каштэляніі і, абяцаючы стварэньне яшчэ іншых высокіх чыноў на польскі ўзор, мае ў сабе наступную кляўзулю: „Аднак ніякі земскі ўрад або высокае становішча як каштэляніі й г.д. ня могуць быць прызнаны нікому іншаму апрача вернікаў хрысьціянскае веры, і толькі такія могуць быць дапушчанымі да нашых радаў"[16].

---

14 В. Беднов, op. cit., с. 11.
15 Akta Unji Polski z Litwą 1385–1791..., op. cit., ss. 49, 50, 51.
16 T. Działyński, op. cit., ss. 12–16.

З агульніковага акрэсьленьня аб верніках „хрысьціянскае веры" можна-б было рабіць выснаў, што вышэй прыведзеная засьцярога не замыкала доступу да ўрадаў праваслаўным, але толькі нехрысьціянам.

Аднак усякія сумнівы адносна гэтага разьвявае артыкул чатырнаццаты, каторы, падсумоўваючы ўсе прывілеі, дадзеныя ў папярэдніх артыкулах, гаворыць: „**З вышэй пералічаных свабодаў, прывілеяў і ласкаў могуць карыстацца й цешыцца імі толькі паны й шляхта Літоўскае зямлі, якім прызнаны гэрбы й скарбы шляхты Польскага каралеўства й якія зьяўляюцца вернікамі хрысьціянскае рэлігіі Рымскага Касьцёлу, а не схізматыкі або няверныя**"[17].

Тут праваслаўных трактуюць нароўні з паганамі-ліцьвінамі. Выдаючы гэты акт, Ягайла й Вітаўт мелі на ўвазе дзьве мэты, а менавіта, даючы прывілеі каталіком, узмоцніць каталіцкую веру.

Відавочным становіцца факт, што такая спрытная палітыка не магла прыблізіць вяльможаў і шляхту да праваслаўя, а значыць аддаляла праваслаўных ад палітычнае дзейнасьці й пазбаўляла іх уплываў у гэтай сфэры. Аднак здараліся выняткі. Ужо пасьля распаўсюджаньня ў Літве каталіцкае веры частка вяльможаў далучылася да Ўсходняе Царквы[18]. Па-другое, пры дапамозе Гарадзельскае вуніі вышэйшая ўлада, асабліва яе польская старана, старалася ўзмоцніць палітычную вунію.

Упрывілеяванае становішча каталіцкае шляхты з аднаго боку прывязывала яе да вуніі з Польшчай[19], а з другога – заахвочвала праваслаўных прымаць каталіцызм.

Такім чынам, Гарадзельскі акт юрыдычна даваў польска-каталіцкай культуры калі ня поўную перавагу над праваслаўнай беларуска-ўкраінскай, дык, прынамсі, рабіў пачатак гэтаму. У выснаве гэтага зразумелым становіцца, чаму палякі і, наагул, усе каталікі былі ім задаволены. Адначасна з гэтым для праваслаўя ён абяцаў адно толькі непрыемнасьці, таму што сьцьвердзіў, што ня толькі выканаўчая ўлада, але й заканадаўства пайшло дарогай уціску. Маючы на ўвазе ўзмацаваньне вуніі, Гарадзельскі акт будаваў дарогу перамозе каталіцызму над праваслаўем у Вялікім Княстве Літоўскім.

Вышэйшыя пласты праваслаўнае грамадзкасьці маглі хіліцца ў бок каталіцызму ў рэзультаце гэтых правоў і прывілеяў, якія былі дадзены каталіцкай шляхце. У той самы час ніжэйшыя грамадзкія пласты з пераходам у каталіцкую веру вяльможаў гублялі абаронцаў і апекуноў рэлігійных інтарэсаў.

---

17 Ibidem.

18 Литва в отношенiи к Россiи и Польше, „Вестник Юго-Западной Россiи", Кiев, 1860, кн. I, отд. II, с. 117.

19 М. Грушевський, op. cit., т. V, сс. 48–49.

Зразумела, што пастановы Віленскага й Гарадзельскага актаў не маглі падабацца праваслаўным вяльможам, пражываючым на літоўскіх, беларускіх і ўкраінскіх землях, таму што паніжалі іх веру.

У выснаве гэтага, сярод праваслаўных, якія значна перавышалі кольксасьцю ліцьвіноў-каталікоў, нараджаецца незадаваленьне самой вуніяй Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай.

Да трыццатага году XV стагодзьдзя такое незадаваленьне стрымоўвалася асабістай энэргіяй і здольнасьцю Вітаўта. Пасьля ягонае сьмерці (1430) вялікім князем літоўскім быў абвешчаны брат Ягайлы – Сьвідрыгайла[20].

Вельмі хутка паміж ім і Ягайлам наступілі непаразуменьні, рэзультатам якіх сталі хатнія забурэньні й змаганьні. Падчас гэтых забурэньняў грамадзкасьць Вялікага Княства Літоўскага разьдзялілася на два варожыя лягеры: літоўска-каталіцкі з Жыгімонтам, сынам Кейстута, які карыстаўся падтрымкай Ягайлы, і беларуска-ўкраінска-праваслаўны, кіраваны Сьвідрыгайлам.

Пасьля ўпадку Сьвідрыгайлы ў верасьні 1432 году вялікім князем літоўскім быў абвешчаны Жыгімонт, родны брат Вітаўта. Змаганьне, закончыўшыся перамогай Жыгімонта, пакінула сьлед на літоўскім заканадаўстве ў галіне раўнапраўя веравызнаньняў.

Прыхільнікі Жыгімонта зразумелі, што праваслаўная грамадзкасьць падтрымала Сьвідрыгайлу таму, што ён апекаваўся іх верай. Таму яны пастанавілі зраўняць правы праваслаўных і каталікоў. Яны здавалі сабе справу з таго, што незадаволенае й шматлікае насельніцтва рускіх земляў, прыпадкова або сьведама аб'еднанае ў лягеры Сьвідрыгайлы, хай сабе й пераможанае на гэты раз, можа стаць назаўтра ізноў небясьпечным праціўнікам.

У кастрычніку 1432 году ў Горадні адбыўся зьезд прадстаўнікоў польска-літоўскіх прыхільнікаў Жыгімонта, на якім пастанавілі паменшыць прыхільнасьць праваслаўных да Сьвідрыгайлы. З гэтай мэтаю яшчэ 15 кастрычніка 1394 году ад імені Ўладыслава Ягайлы быў выдадзены наступны прывілей: „З увагі на тое, што калі мы прызналі ласкі, прывілеі й свабоды прывілеяў, выключанымі былі князі, баяры, шляхта й пася-ляне рускія, падданыя Літоўскае зямлі, жадаючы, каб з гэтага ня вынік-нула ў будучыні паміж людзьмі адных і тых самых земляў раздваеньне або якаянебудзь шкода, у выніку якое становішча гэтых-жа земляў ма-гло-б стаць пад пагрозай, але каб усе былі абдзелены ласкамі, зьедналыя духам і згоднаю воляй, каб такім чынам сільней і трывалей накіроўвалі свае

[20] A. Lewicki, Powstanie Swidrzgiełły. Rozprawy i sprawozdania z Posiedzeń Akademii Umiejętności, Wydział Historyczno-Filozoficzny, t. XXIX, Kraków, 1892, ss. 151–158.

імкненьні й стараньні да захаваньня цэласьці тых-жа земляў і шчасьлівага дабрабыту, і каб уклаліся ў яшчэ больш прыхільную й верную службу й належную ўступлівасьць у адносінах да нас і да вышэй званага нашага брата, найдаражэйшага Жыгімонта, Вялікага Князя Літоўскага й Русі, хочам, каб успомненыя князі, шляхта й баяры рускія цешыліся й карысталіся з тых самых ласкаў свабодаў, прывілеяў і палёгкаў, якія мелі й зь якіх карыстаюцца князі, шляхта й баяры літоўскія, і каб ма-глі насіць гэрбы або клейноты шляхэцкія й карыстацца імі падобным спосабам, як ліцьвіны, якія атрымалі гэрбы ад шляхты Польскага Каралеўства й цяпер маюць іх у карыстаньні ды імі цешацца. Ліцьвіны тыя, паразумеўшыся з братамі з Польскага Каралеўства аб супольнай гэнэалёгіі, няхай прымуць да пайменаваных сваіх гэрбаў або клейнотаў рускую шляхту, каб ёй даць магчымасьць насіць гэтыя клейноты паводле звычаю шляхты ў Польскім Каралеўстве"[21].

Як відаць з гэтага акту, праваслаўная шляхта на падставе сказанага вышэй атрымала тыя самыя прывілеі, якія ў свой час былі дадзены літоўскай шляхце каталіцкага веравызнаньня.

Але гэты акт, складзены сямю ўпаўнаважанымі Ягайлы ў Горадні (хоць у самым прывілеі сказана, што ён быў складзены ў Львове), як гаворыць праф. В. Бідноў і праф. В. Чэрмак, ня быў сьцьверджаны каралеўскай пячацьцю, і таму не атрымаў юрыдычнай санкцыі[22].

У сваю чаргу, праф. А. Лявіцкі ў ягонай працы „Повстане Сьвідрыгеллы" гаворыць: „Тое, што кароль у сапраўднасьці сваю пячаць загадаў прывесіць, ня можа падлягаць сумніву, бо ў 15 дзён пазьней сам падобны дакумант выставіў". І паказывае крыху пазьней на зьмест падобнага прывілею, выдадзенага ад Уладыслава Ягайлы й зь ягонай пячацьцю ў Львове 30 кастрычніка 1432 году.

Паводле А. Лявіцкага, зьмест вышэй прыведзенага дакуманту, выдадзенага для шляхты Луцкае зямлі, можа быць доказам таго, што кароль Ягайла павінен быў прызнаць правы, падобныя да тых, якія на супольным зьездзе ў Горадні 15 кастрычніка 1432 году былі складзены прадстаўнікамі абодвух гаспадарстваў для ўсяе праваслаўнае шляхты.

Другі факт, які сьведчыць у карысьць гэтага, як сьцьвярджае праф. А. Лявіцкі, гэта тое, што каля таго самага часу было праведзена зраўнаньне правоў праваслаўных з каталікамі на Чырвонай Русі й Падольлі. Ад гэтага часу праваслаўныя саноўнікі ўвайшлі ў склад польскага сэнату.

Да гэтага самага акту, гаворыць праф. А. Лявіцкі, належыць вестка, запісаная ў Густынскім летапісе з 1432 году наступнымі словамі:

---

21 A. Lewicki, „Codex epist.", т. III, ss. 525 – 534; W. Czermak, op. cit., s. 357.

22 В. Беднов, op. cit., с. 29.

„Ягелло король будучи на Кіеве, дал привилей Волынским обывателем абы им в вере никто насилия не чинил, а не церквам православным пакостил ани до своей их веры никто не принуждал"[23].

В. Чэрмак, наадварот, крытыкуе доказы праф. А. Лявіцкага й катэгарычна цьвердзіць, што „такога прывілею Ягайла ня выдаў ані ў часе 30 кастрычніка 1432 году, ані некалі пазьней да канца свайго жыцьця"[24].

Канкрэтных доказаў, каб сьцьвердзіць або адкінуць абодва цьверджаньні, у нас няма.

Падсумоўваючы цьверджаньні праф. А. Лявіцкага, нам здаецца, што больш праўдападобным зьяўляецца тое, што праваслаўная шляхта ў Вялікім Княстве Літоўскім атрымала ў 1432 годзе правы з увагі на тое, што гады каралеўскага місыянэрства прамінулі, а паўстаньне Сьвідрыгайлы паказала, што праваслаўнае насельніцтва зьяўляецца здольным бараніць з зброяй у руках сваю веру й дамагаецца сваіх правоў.

Гарадзенскі прывілей 1432 году, хоць і ня быў зацьверджаны каралём, усё-ж выразіў сабою пачатак ініцыятывы зраўняць у правах усіх, якая паўстала ўва ўлоньні тагачасных кіруючых колаў.

Прадаўжэньнем гэтага быў Троцкі прывілей, дадзены Жыгімонтам 6 траўня 1434 году, наступнага зьместу: „У Імя Госпада. Амінь. У вечную памяць. Таму, што можна папярэдзіць нягоднасьць шмат памылак і сумніваў, узмацняючы памяць пра справы нашага веку з дапамогаю пісьмовых даведак і паіменных сьведкаў, таму мы, Жыгімонт, з Божае ласкі Вялікі Князь Літоўскі, нароўні пан і спадкаемца земляў рускіх, гэтым абвяшчаем, каму выпадае, усім сучасным і патомству, якія ўспрымуць весткі з гэтага акту, што жадаючы землі нашы Літву й Русь да лепшага стану давесьці й дабрабыт іх, паколькі гэта ёсьць у нашай магчымасьці з дапамогай Бога, дапамагчы й больш памысныя для іх стварыць абставіны, жадаючы сабе апрача гэтага, каб паміж людзьмі гэтых земляў не паўстала братняя варожасьць, ані каб становішча гэтых земляў не спазнала ў будучыні ніякага ўшчэрбку, але каб усе былі забясьпечаны роўнымі ласкамі, у еднасьці розуму й з няпрымушанай воляй як мага больш старанна й трывала да падтрымкі гэнага стану земляў і да захаваньня штораз шчасьлівейшага дабрабыту скіроўвалі супольнае імкненьне й высілкі ды адчувалі ахвоту зьдзейсьніць зь вялікшай вернасьцю належных нам услугаў і абавязкаў – даём, пазваляем і прызнаём безадкліканна на вечныя часы князям і баярам, так літоўскім як рускім, земляў нашых Літвы й Русі. Па-першае, што ў выніку ніякага даносу, яўнага ці скрытага,

[23] Полное Собраніе Русских Летописей. Густинская Летопись, С.-Петербург, 1843, т. II, с. 354.

[24] W. Czermak, op. cit., s. 357.

ані пад уплывам ніякага неабаснаванага падазрэньня ня будзем успомненых баяраў і князёў вінаваціць, караць, пакуль перад гэтым на яўным судзе згодна з указаньнем права Літоўскае зямлі дастаткова будзе даказана іх віна. Наступна, што названыя князі, баяры ды іх праўныя нашчадкі будуць трымаць усе маемасьці спадчынныя й айчынныя роўным правам, так як і недзе ў іншым месцы ў хрысьціянскім сьвеце й будуць мець права свабодна прадаваць тыя, мяняцца імі, дароўваць, пазбаўляць спадчыны й карыстацца паводле свайго жаданьня й на сваю думку, такім чынам, аднак, каб перад намі або нашымі ўрадамі складалі асьведчаньне аб усякіх такіх пазбаўленьнях спадчыны, заменах, продажах і даравізнах.

Калі некатораму з названых князёў альбо баяраў здарыцца зыйсьці з гэтага сьвету, тады ягоная жана, астаўшыся ў стане ўдавы, зможа затрымаць айчыннае дабро свайго мужа, але астаецца забавязанай да непаменшаных сьведчаньняў у нашу й нашых патомкаў карысьць.

Аднак калі пажадае ўступіць у новую сужэнскую сувязь, будзе карыстаць адзіна з пасагу, мужам вызначанага, а дабро пакіне праўным нашчадкам памёршага.

Калі-б нашчадкаў па мужчынскай лініі ня было, у тым выпадку родныя браты забяруць спадчыннае дабро, аднак заўсёды з падобнай засьцярогай адносна спаўненьня ўсіх сьведчаньняў пад поглядам нас і нашых наступнікаў.

Яны затрымоўваюць і надалей усю маемасьць і тое, што ў іх карыстаньні дадзеныя Найясьнейшым Князем Аляксандрам альбо Вітаўтам тады Вялікім Князем Літоўскім, родным братам нашым шчасьлівае памяці, як ня менш і ад нас наданае.

Нарэшце, сяляне ўсе разам і кожны паасобку, а таксама падданыя ўспомненых князёў і баяраў у нашых землях павінны быць цалком звольненымі й вызваленымі ад усякіх данінаў і аплатаў, якія называюцца дзеклямі й належалі нам і нашым продкам.

У ня меншай меры засьцерагаем для нас і нашых наступнікаў права, што ўспомненыя князі й баяры ды іх падданыя будуць і надалей забавязанымі, як былі забавязанымі з даўніх часоў, будаваць замкі й напраўляць іх, таксама як хадзіць у ваенныя паходы ўласным коштам, бо бяз гэтага нашы землі ў добрым стане ўтрымаць нельга; ад іншых работаў у нашых замках людзей вышэй пайменаваных князёў і баяраў звальняецца.

Апрача гэтага дапушчаем і пазваляем, каб князі й баяры рускія маглі насіць і мець у карыстаньні гэрбы або клейноты шляхэцкія, таксама як літоўскія, і каб былі прыйманымі ў тыя клейноты праз ліцьвіноў, аднак атрымаўшы на гэта згоду братоў тае самае гэнэалёгіі з Польскага Каралеўства.

У канцы ўсе пісьмы, прывілеі й ласкі, дадзеныя ўспомненым вышэй нашым братам Касьцёлам, князём, баярам пры якіх бы ні было ўмовах і формах, яшчэ раз узнаўляючы зацьверджаем, прызнаём, ратыфікуем і пастанаўляем, што яны маюць захаваць сілу, абавязваючаю сапраўднасьць.

Для сьведчаньня гэтае справы й для таго, каб прыдаць ёй абавязваючую сілу, загадваем гэты акт прывешанаю пячацьцю нашае велічнасьці агледзець.

Здарылася гэта й дадзеным было ў нашым горадзе Троках у самы дзень Ушэсьця Госпадняга, г. е. 6 траўня 1434 году"[25].

Са зьместу прыведзенага прывілею бачым, што ён прыносіць палепшаньне ў палажэньні праўна-палітычным і праваслаўнае шляхты ў Вялікім Княстве Літоўскім. Хаця-ж ён і зьяўляецца паўтарэньнем папярэдніх прывілеяў шляхэцкіх, аднак ён трактуе праваслаўных нароўні з каталікамі і, прынамсі, ня відаць у ім тэндэнцыі ўпрывілеяваць каталіцкую рэлігію. Праўда, поўнага зраўнаньня ў правох прывілей гэты ня даў, бо бачым, што для праваслаўных вяльможаў пакідаў дарогу да найвышэйшых становішчаў зачыненай. Яны маглі мець толькі шляхэцкія гэрбы й займаць ніжэйшыя ўрадавыя становішчы[26].

Д-р В. Чэрмак гаворыць: „Што вось, нават у 1434 годзе ня прыйшлі да поўнага зраўнаньня ў правох схізматыкаў з каталікамі ў Літве, бо схізматыцкай шляхце літоўскай бракавала й надалей поўні правоў доступу да саноўніцкіх земскіх урадаў"[27].

Гэтак выглядае таму, што аб іншым нічога ня сказана ў акце, а паводле д-ра В. Чэрмака, „вялікі князь Жыгімонт выказаў у ім усё, што хацеў прызнаць сваім падданым шляхэцкага званьня абедзьвюх рэлігіяў і народнасьцяў, і што ня прызнаў нічога больш гэтага"[28].

Дзеля гэтага й пасьля 1434 году ў Вялікім Княстве Літоўскім ня было па праву поўнага раўнапраўя праваслаўнае шляхты з каталіцкай. І ўсё-ж Троцкі прывілей выраўнаў так яскрава выказаную няроўнасьць паміж праваслаўнымі й каталікамі ў Гарадзельскіх прывілеях.

Такім чынам, жыцьцё й палітычныя здарэньні, якія мелі месца пасьля сьмерці Вітаўта, прымусілі Жыгімонта злагодзіць юрыдычныя абмежаваньні, якія былі ўведзены пасьля заключэньня вуніі Літвы з Польшчай.

Апрача гэтага, самое жыцьцё ня спрыяла ўвядзеньню і ўтрыманьню ў Вялікім Княстве Літоўскім пастанаўленьняў, абмяжоўваючых свабоду праваслаўнага насельніцтва.

---

[25] A. Lewicki, „Codex epist.", т. II, s. 22; W. Czermak, op. cit., s. 374.
[26] В. Беднов, op. cit., c. 32.
[27] W. Czermak, op. cit., s. 374.
[28] Ibidem.

Цяжкое палажэньне Польшчы ў выніку частых войнаў з Крыжацкім ордэнам, даволі доўгі несупакой у Літве, выкліканы супрацівам неахвотных вуніі з Польшчай ды палітычныя й дынастычныя камбінацыі Ягайлы, прымусілі ўладу зьмяніць адносіны да праваслаўных.

Апрача таго Ягайла і ўсе Ягайлавічы, спалучаныя паходжаньнем, псыхікай і любасьцю да свайго народу, добра ведалі, што ён хутчэй праваслаўна-беларуска-ўкраінскі, чымся літоўска-каталіцкі.

Вось таму, не зважаючы на тое, што пад уплывам каталіцкага духу ў 1413 годзе былі выдадзены пастановы Гарадзельскага сойму, паніжаючыя праваслаўных, рэлігійная розьніца й пасьля яго ня гуляе амаль ніякае ролі.

У гэты час на Захадзе Эўропы пануе догмат „cujus regio, ejus religio", а ў Вялікім Княстве Літоўскім быў бачным пачатак рэлігійнае талеранцыі.

Па гэтаму пытаньню д-р В. Чэрмак выказваецца наступнымі словамі: „Урэзваючы крыху правы схізматыцкае шляхты, адзінаццаты артыкул Гарадзельскага прывілею рабіў паважныя абмежаваньні адзіна на пэргамэньце; на практыцы схізматыцкая шляхта трактавалася й перад 1563 годам нашмат ласкавей, чымся на гэта пазваляў забавязваючы да сёмага дзесяцігодзьдзя XVI веку прынцып успомненага артыкулу. Няма сумніваў адносна таго, што ў часе паміж 1434 і 1563 гадамі князі, паны й пасяляне рускія схізматыцкае рэлігіі бывалі неаднаразова адзначанымі праз вялікіх князёў пры раздаваньні саноўніцтваў і ўрадаў"[29].

Дзякуючы гэтаму, адміністрацыйная практыка, уступаючы жыцьцёвай неабходнасьці, прыгатавала, такім чынам, грунт поўнаму зраўнаньню ў правох веравызнаньняў на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў 1563 годзе.

---

[29] Ibidem.



## III.

## Унутраны лад Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Уладыслава Ягайлы

Праваслаўная Царква ў Вялікім Княстве Літоўскім ня толькі перад панаваньнем Уладыслава Ягайлы, але й за ягоных часоў ня мела дакладна акрэсьленага, праўнага й арганізацыйнага ладу. Знаходзячыся ў цеснай лучнасьці з Усходняй Праваслаўнай Царквой, яна падпарадкавалася агульным царкоўным правілам[1].

Аднак пад уплывам жыцьцёвых патрэбаў амаль усе Памесныя Цэрквы стварылі свае лёкальныя законы, якімі кіраваліся нароўні з агульнацаркоўнымі законамі, перайшоўшымі ад вуснае традыцыі да забавязваючых правоў, складзеных у адпаведныя царкоўныя кадэксы.

Праваслаўная Царква ў Вялікім Княстве Літоўскім, аднак, нават за часоў Ягайлы ня здолела стварыць уласнага права, нармуючага яе рэлігійнае жыцьцё, і кіравалася агульным правам Усходняе Царквы. Адзіным мясцовым законам, пісаным і абавязваючым Праваслаўную Царкву ў Вялікім Княстве Літоўскім, быў „Світок Яраслава", зацьверджаны Вітаўтам[2]. Ён прадаўжае й дакладней абмяркоўвае „Устаў князя Уладзімера"[3].

Хоць тут і былі зроблены пэўныя крокі, каб стварыць мясцовае права, усё-ж царкоўныя законы сьпісаны з „Новаканону" Усходняе Царквы й не ахопліваюць усіх бакоў жыцьця Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім[4]. Практычна ў жыцьці законы „Сьвітка Ярослава", як сьведчыць гісторыя, ня былі стасаванымі нават удзельнымі князямі[5], якія ў сваю чаргу выдавалі „Устаўныя граматы", меўшыя характар арзаізмаў агульнага зьместу й трактаваўшыя правы царквы й духавенства ў гаспадарстве[6].

Спаміж іх асабліва вялікае царкоўна-праўнае значэньне для Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Уладыслава Ягайлы мела „грамата" вялікага князя літоўскага Вітаўта, выдадзеная

---

[1] Украінскі праф. А. Латоцкі па гэтаму пытаньню гаворыць: „Норми церковного права Східної церкви обовъязують всі складові частини Вселеньскої Церкви, всі місцеві краєві церкви окремих народів, якщо Церкви ті перебувають в єдності з Вселеньскою Православною Церквою..." (Українські джерела церковного права, Варшава, 1931, с. 3).

[2] П. Батюшков, Белоруссія и Литва, С.-Петербург, 1890, с. 119.

[3] О. Лотоцький, op. cit., с. 233.

[4] Ibidem, с. 236.

[5] Акты... Западной Россіи, op. cit., т. I, с. 49.

[6] О. Лотоцький, op. cit., сс. 253 – 259.

ў 1415 годзе[7], гаварыўшая пра аддзяленьне Літоўскай мітраполіі ад Маскоўскае. Усе іншыя ў іх пераважным зьмесьце насілі маёмасны характар, таму што гаварылі пра маёмасьць і матар'яльны стан архірэйскіх катэдраў, манастыроў і паасобных цэркваў[8].

Можна сказаць, што Праваслаўная Царква ў Вялікім Княстве Літоўскім ня мела нават тэалягічнае сыстэмы й катэхізму, у якіх былі-б разгорнуты праваслаўныя дактрыны аб Царкве, царкоўным адзінстве, яе ўладзе, узаемаадносінах такіх элемэнтаў, як сьвецкі й духоўны, стваpаючых царкоўную арганізацыю.

У аблічча гэтага ў строі Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім усечасна адбывалася эвалюцыя, а часам раптоўныя зьмены ў арганізацыі цэнтральнае ўлады у адносінах яе да зьверхніка Канстантынопальскага патрыярха, сынодаў ды ўдзелу вялікага князя й сьвецкае грамадзкасьці ў царкоўным кіраўніцтве. Згэтуль выплывае заўсёдная зьменнасьць формаў праваслаўнае царкоўнае арганізацыі. Гэтыя рысы асабліва характэрны для ладу Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Ягайлы.

Пасьля прыёма хрысьціянства ўва ўсходнім абрадзе ўся Русь пабудавала сваю іерархічную структуру Царквы так, што, не зважаючы на свае тэрытарыяльныя абшары, яна складала адну Кіеўскую мітраполію з катэдраю мітрапаліта ў Кіеве, якой падлягалі паводле ўрадовых дадзеных Канстантынопальскае Царквы (1259 – 1261 – 1282) наступныя рускія епіскапствы:

1. Вяліка-Наваградзкае,
2. Чарнігаўскае,
3. Суздальскае,
4. Растоўскае,
5. Вяліка-Ўладзімерскае,
6. Пераяслаўска-Рускае,
7. Вяліка-Белагародзкае пры Кіеве,
8. Сьвята-Юр'еўскае над ракою Росьсю,
9. Полацкае,
10. Разанскае,
11. Цьверскае,
12. Сараеўскае,
13. Галіцкае,
14. Уладзімерскае,
15. Перэмыскае,
16. Луцкае,
17. Тураўскае,
18. Холмскае,
19. Смаленскае[9].

У выніку заваяваньня й спусташэньня Паўдзённае Русі татарамі, кіеўскія мітрапаліты, пачынаючы з XIII веку, штораз часьцей пераносіліся зь Кіева ў Уладзімер на Клязьме, дзе ствараецца новы дзяржаўны асяродак. Каля 1300 году мітрапаліт Максім канчаткова перанёс туды рэзідэнцыю сваёй мітраполіі.

---

[7] Акты... Западной Россіи, op. cit., т. I, с. 25.
[8] Ibidem.
[9] J. Fijałek, Średniowieczne Biskupstwa Kościoła wschodniego na Litwie i Rusi, „Kwartalnik Historyczny", Lwów, 1898, t. 10, s. 487.

Патрыярх пагадзіўся з такім станам рэчаў і канчаткова пастанавіў, што Кіеў будзе ўласьцівай сталіцай мітраполіі і першай сядзібай рускіх мітрапалітаў, у той час, як епіскапства ў Уладзімеры над Клязьмай станевіцца другой сядзібай і сталым месцам прабываньня мітрапалітаў.

Перанясеньне мітрапалітальнае сталіцы мела вельмі паважнае значэньне для Паўночнае Русі й для яе гісторыі (Уладзімер). Пачынаючы ад XIV веку, Царква, як сьведчыць Прэсьнякоў паводле К. Хадыніцкага, „была адным з найважнейшых дзейнікаў, спрыяўшых росту ўлады князтваў Уладзімерскага й Маскоўскага". Пры гэтым Руская Царква, а ў першую чаргу, мітрапаліты сталіся галоўнымі, побач вялікіх князёў, стварыцелямі аб'еднаньня Русі[10]. Ад гэтага часу выходзяць на гістарычную арэну найвышэйшыя дастойнікі Царквы, быццам у яе абарону, каб ратаваць душы верных, а на самай справе зьдзейсьніваюць настойліва пляны сьвецкіх паноў[11].

У абліччы гэтага валадары Паўдзённае Русі й Вялікага Княства Літоўскага, дзе праваслаўе займала выдатнае месца, пачалі клапаціцца пра тое, каб закласьці свае незалежныя ад мітрапалітаў Поўначы іерархіі.

На першы погляд вока здаецца, што гэта была справа вылучна рэлігійнага зьместу, таму што кожнае гаспадарства, згодна з уставам Праваслаўнае Царквы, мае права ствараць незалежную іерархію[12], аднак у сутнасьці справы ў бальшыні выпадкаў палітычныя праблемы гулялі немалую ролю.

Вось-жа, дзякуючы такім прадумовам, XIV век для Кіеўскай мітраполіі стаў эпохай пералому, бо пад узьдзеяньнем літоўскіх і рускіх князёў, а ў роўнай меры й Кіеўскага мітрапаліта, у яе ўлоньні выявілася раздвоенасьць.

Вялікія князі, аб'яднаўшы рускія землі ўвакол трох галоўных асяродкаў – Уладзімера, Галіча, Вільні, здабылі, кожны ў асобку падыходзячы, для гэтых трох палітычных цэнтраў і тры царкоўныя асяродкі, г. зн. самастойныя мітраполіі, спасярод якіх выдзяліліся наступныя мітрапаліты: адзін – зь сядзібай у Уладзімеры над Клязьмай (пазьней у Маскве), другі – у Галічы, а трэці, Літоўскі – у Навагрудку.

Такім чынам, адналітая Кіеўская мітраполія на парозе XIV веку распалася на мітраполіі: 1) Уладзімерскую, пазьней Маскоўскую; 2) Галіцкую і 3) Літоўскую.

Прыгледзьмася ў галоўных абрысах да гісторыі гэтае апошняе, г. зн. Літоўскае, што й зьяўляецца тэмай маёй навуковай дысэртацыі.

---

[10] K. Chodynicki, op. cit., s. 4.

[11] Никоновская Летопись, т. III, с. 153.

[12] Е. Голубинскій, Исторія Русской Церкви, Москва, 1880, т. I, сс. 223–229.

Першакрынічныя матар'ялы адносна Літоўскае мітраполіі, як гавораць украінскі гісторык М. Грушэўскі, зьяўляюцца непамерна скупымі[13]. Яна паўстае ў 1299–1300 гадох у панаваньне Візантыйскага імпэратара Андроніка Старэйшага[14] й зьяўляецца доказам узрастаючае магутнасьці Літоўскага гаспадарства пад кіраўніцтвам Вітэна (1296–1315). Яе сядзібай зь першых дзён існаваньня быў Наваградак. Яе межы нам бліжэй нявeдамы. Праўдападобна, яны ахоплівалі ўвесь абшар Вялікага Княства Літоўскага.

Што датычыцца яе ўдзельнае вагі, дык спасярод іншых 110 мітраполіяў, залежных ад Канстантынопальскага патрыярха, яна займала 82-ое месца.

Не зважаючы на пагрозныя нападкі Маскоўскіх мітрапалітаў і Ўладзімера-Суздальскіх князёў, Літоўская мітраполія, закладзеная Вітэнам, утрымалася праз панаваньне ягонага наступніка Гэдыміна (1316–1341). У гэтым часе мітрапаліт Феафіл Літоўскі выступае на сынодзе ў Канстантынопалі (1329)[15]. Гэты мітрапаліт памёр у 1329 годзе й не пазьней 1330 году[16].

З сьмерцю мітрапаліта Феафіла перастае існаваць самастойная Літоўская мітраполія. Повадам гэтаму паслужыла тое, што „у Літве было мала хрысьціянаў, а тым хрысьціянскім насельніцтвам, якое там было, мог лёгка кіраваць мітрапаліт Усяе Русі". Такі аргумэнт, праўдападобна, прыдумаў мітрапаліт Уладзімерскі Феагност[17], які імкнуўся аб'яднаць усе рускія землі пад ягонай духоўнай уладай. Ягонае жаданьне зьдзейсьнілася ў выніку падпарадкаваньня Ўладзімерскай мітраполіі епіскапстваў, зьліквідаваных Літоўскае й Галіцкае мітраполіяў. Гэтае падпарадкаваньне было ня толькі царкоўным, а зьяўлялася таксама палітычнай перамогай Масквы.

Аднак такі трыумф ня трываў доўга, таму што літоўскія князі, здабыўшыя новыя рускія землі, не маглі забыцца на праваслаўную мітраполію ў Літве й яшчэ за жыцьця Феагноста Альгерд (1345–1377), „вялікі кароль паклоньнікаў агня" рабіў пэўныя крокі ў напрамку аднаўленьня незалежнае Літоўскае мітраполіі.

---

[13] М. Грушевський, op. cit., т. III, с. 304.

[14] J. Fijałek, Średniowieczne Biskupstwa Kościoła wschodniego na Litwie i Rusi, „Kwartalnik Historyczny", Lwów, 1896, t. X, ss. 513 – 514; K. Chodynicki, Kościół Prawosławny a Rzeczpospolita Polska. Zarys historyczny. 1370 –1632, Warszawa, 1934. Расейскі гісторык Е. Галубінскі гаворыць, што Літоўская мітраполія паўстала ў 1316–1317 гадах за часоў Гэдыміна (Исторія Русской Церкви, Москва, 1900, т. II, сс. 126–128).

[15] J. Fijałek, ibidem, s. 515.

[16] Расейскі гісторык Е. Галубінскі дапушчае думку, што ў гэты пэрыяд мітрапаліту Феафілу падпарадкаваліся Літоўская й Галіцкая епіскопіі.

[17] М. Грушевський, op. cit., т. IV, с. 304.

Праўдападобна, бліжэй няведамы мітрапаліт Феадарыт[18] з дапамогай і зь ініцыятывы літоўскіх князёў рабіў захады, каб здабыць Кіеўскую мітраполію. Аднак патрыярх на гэта не згаджаўся, бо яшчэ жыў Феагност, які, будучы грэкам, мог лёгка паралізаваць захады вялікіх князёў літоўскага й галіцкага ў напрамку аднаўленьня ў іх гаспадарствах самастойных мітраполіяў. Пасьля сьмерці Феагноста сапраўдны стан рэчаў зьмяніўся.

За Кіеўскага мітрапаліта і ўсяе Русі высьвяцілі русіна сьв. Аляксея. Што праўда, такое высьвячэньне не ляжала ў інтарэсах Канстантынопальскага патрыярха, які стараўся, каб Русь ня толькі гіерархічна залежала ад Канстантынопалю, але каб мітрапалітамі для яе былі толькі грэкі[19]. Пасьля высьвячэньня Аляксея змаганьне за незалежную Літоўскую мітраполію закіпела з новай сілай, бо палітычны стан зьмяніўся настолькі, што ніяк нельга было захаваць гіерархічнае адзінства Кіеўскай мітраполіі.

У меру таго, як у рэзультаце заваяваньняў пашыраліся межы Літоўскага гаспадарства, паслаблялася дасюлешняя лучнасьць епіскапстваў Феагноста, здалёк лежачых ад Уладзімера. Прычынай гэтага было тое, што ў гэтых карэнна рускіх землях ставілі за епіскапаў ахрышчаных у праваслаўнай веры сыноў Альгерда, якія занядбалі духоўную апеку.

Апрача палітычных прычынаў расла патрэба стварыць асобную мітраполію для праваслаўных епархіяў у Вялікім Княстве Літоўскім. Нават Канстантынопальскі патрыярх, найвышэйшы ў той час зьверхнік Праваслаўнае Царквы на Русі, палічыў слушнай і неабходнай патрэбай, а нават сам першы, як гаворыць расейскі царкоўны гісторык Е. Галубінскі, адхіляючы й адмовіўшыся прызнаць Феадарыта, запрапанаваў Альгерду высьвяціць амаль самастойнага мітрапаліта для Вялікага Княства Літоўскага[20]. Альгерд скарыстаў з такое прапановы й пасьля сьмерці Феагноста паслаў у Канстантынопаль як кандыдата ў літоўскага мітрапаліта, сваяка па жонцы – Рамана. Раман прыбыў у патрыяршую сталіцу тады, калі за мітрапаліта Кіеўскага і Ўсяе Русі быў высьвечаны Аляксей. Памінаючы гэта, патрыярх Філафей, займеўшы з гэтага вялікую матар'яльную карысьць, зьмяніў нядаўна занятае становішча аб непадзельнасьці Кіеўскае мітраполіі й высьвяціў на Літоўскага

18 Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, с. 30.

19 Acta Patriarchatus Constantinopolitani MCCCXV – VCCCII. T. I – II, Vindobonae 1860, 2 ed. F. Miklosisch et Müller, t. I, p. 580; Русская историческая библиотека: т.VI, № 24, с. 336, т.VI, № 9, с. 45.

20 Е. Голубинскій, op. cit., с. 182.

мітрапаліта Рамана (1354)[21]. Ягонай сталіцай астаўся Наваградак, як найдаўнейшая архіепархія ў Літве.

Згодна з пастановай Патрыярхату да Рамана, як Літоўскага мітрапаліта, павінны былі належаць епархіі Літоўская, Полацкая, Тураўская, а таксама епархіі Малае Русі: Галіцкая, Уладзімерская, Перэмысьльская, Луцкая й Холмская, у той час калі Кіеў і надалей належаў да Ўладзімерскага мітрапаліта сьв. Аляксея[22]. З такое пастановы быў вельмі незадаволены мітрапаліт Раман, які хацеў, каб да Літоўскае мітраполіі належалі ўсе землі, якімі валодала Вялікае Княства Літоўскае[23].

Вось-жа, з гэтае прычыны закіпела доўгатрываючае змаганьне паміж Раманам і Аляксеем, якіх у гэтай справе неаднаразова выклікаў Канстантынопальскі патрыярх.

Памінаючы тое, што Кіеў быў прызнаны мітрапаліту сьв. Аляксею, Раман зараз-жа пасьля высьвячэньня накіраваўся ў гэтае места (1354). Але пасьля таго, як яго там не прынялі жыхары Кіева, прыбыў туды паўторна і як мітрапаліт правіў багаслужбы, рукапалагаў духаўнікоў ды называў сябе мітрапалітам Усяе Русі[24]. Калі-ж мітрапаліт сьв. Аляксей у 1358 годзе накіраваўся ў Кіеў, гэтаму супрацівіліся Раман нароўні зь вялікім князем Альгердам. Гэты апошні, праўдападобна, загадаў укінуць у астрог сьв. Аляксея, арыштаваць ягоных слугаў, а царкоўнае аблачэньне ды іншую багаслужбовую належнасьць паадбіраць[25].

Апрача Кіева тэрыторыяй спаборніцтва двох мітрапалітаў была Цьверская епіскапія. Змаганьне за Кіеўскае й Цьверскае епіскапствы паміж Аляксеем і Раманам завастрылася да такое ступені, што патрыярх для рассьледаваньня справы ў 1361 годзе быў прымушаны выслаць на Русь сваіх паўнамоцных (апокрысарыяў)[26].

У паміжчасе памёр мітрапаліт Раман (1361). Пасьля ягонае сьмерці патрыяршым актам Літоўская мітраполія была ў 1364 годзе ўлучана ў Уладзімерскую мітраполію, што мела за тытул мітраполіі „Ўсяе Русі"[27].

---

[21] Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, с. 34; Митрополит Макарій, op. cit., т. VI, сс. 42–43; М. Грушевський, op. cit., т. V, с. 387; Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 16; J. Fijałek, Średniowieczne Biskupstwa Kościoła wschodniego na Litwie i Rusi, „Kwartalnik Historyczny", Lwów, 1896, t. X, s. 519; Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 206.

[22] J. Fijałek, op. cit., ss. 2–15; М. Грушевський, op. cit., т. V, сс. 388–392; Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, сс. 43, 44; Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 182.

[23] Е. Голубинскій, op. cit., с. 191.

[24] Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, сс. 45–46.

[25] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 192; К. Хадыніцкі ў сваёй працы „Kościół Prawosławny a Rzeczpospolita Polska, 1370–1632" гаворыць: „Хто ведае, ці цэлае апавяданьне пра тое, што мітрапаліта Аляксея ўкінулі ў астрог, не зьяўляецца пазьнейшым вымыслам, з мэтаю увеньчыць мучаніцкаю славай сьв. Аляксея".

[26] Е. Голубинскій, ibidem, с. 192; М. Грушевський, op. cit., т. V, с. 390.

[27] М. Грушевський, ibidem.

Пасьля гэтага барацьба за самастойную мітраполію закіпела з адноўленай сілай.

Аднак можна было прадбачыць згары, што ўсе спробы Альгерда, каб атрымаць асобнага для Вялікага Княства Літоўскага мітрапаліта, разаб'юцца аб супраціў у той час прыхільнае да Масквы візантыйскае палітыкі.

Распачалася даўгая, поўная драматычных мамэнтаў барацьба за пасад Літоўскае мітраполіі. Адважная дзейнасьць вялікага князя літоўскага Альгерда, якога на пачатку спаткала няўдача, не затрымалася на паўдарозе, але пэўная ў перамозе ішла далей.

Альгерд не хацеў, каб ягоныя падданыя былі залежнымі пад царкоўным паглядам ад мітрапаліта Ўладзімерскага і „Ўсяе Русі", які, як гаворыць зь некаторым перавелічэньнем К. Хадыніцкі, „стаўшы мітрапалітам, аддаў сябе на службу князю (уладзімерскаму)". „Гэта быў – гаворыць ён, – вялікі палітычны дзеяч, але ані рэлігійны, ані царкоўны"[28].

З дапамогаю царкоўнае цэнтралізацыі пры мітрапаліце Аляксею вялікі князь уладзімерскі пачаў аб'ядноўваць пад сваім зьверхніцтвам землі „Цэлае Русі"[29]. Мітрапаліт-жа, які ўвесь час быў пад ягоным вокам, стаўся ягоным палітычным аружжам, гатовым служыць на кожны кліч.

Вялікі князь літоўскі Альгерд ясна здаваў сабе справу зь вялічыні такое небясьпекі, асабліва ў апошнім дзесяцігодзьдзі свайго панаваньня, калі аставаўся ў трывалай вайне з Масквою.

Гэта відаць зь ліста Альгерда да Канстантынопальскага патрыярха, які напісаў у 1371 годзе, стараючыся ўстанавіць агульную мітраполію ў сваім княстве для рускіх земляў. У гэтым лісьце ён скардзіцца на мітрапаліта Аляксея й гаворыць: „Аж да цяперашняга часу ані за часоў маіх продкаў ня было такога мітрапаліта, як гэты мітрапаліт... Дай нам іншага мітрапаліта для Кіева, Смаленска, для Цьверу, для Малай Русі, для Новасіля, для Ніжняга Ноўгараду"[30]. Разумеецца, што тут гулялі вялікую ролю ня толькі палітычныя, але й рэлігійныя матывы.

Мітрапаліт Аляксей пакінуў на ласку лёсу без духоўнае апекі Літоўскую частку сваёй мітраполіі й зусім яе не наведываў[31]. У абліччы гэтага можна лёгка ўявіць, якім вялікім было жаданьне Альгерда, каб вырваць рускія землі Вялікага Княства Літоўскага з-пад царкоўнае ўлады маскоўскага мітрапаліта.

---

[28] K. Chodynicki, op. cit., s. 18.

[29] Ibidem, ss. 18 – 19.

[30] Acta Patriarchatus Constantinopolitani..., op. cit., t. I, p. 580; Русская историческая библиотека, т.VI, № 24, с.135.

[31] Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, сс. 51–56.

Асягненьне такіх замераў натрапіла на значныя цяжкасьці, хоць вялікі князь Альгерд, як гаворыць расейскі царкоўны гісторык Е. Галубінскі, зусім слушна імкнуўся здабыць асобную царкоўную ўладу для свайго Княства[32].

Аднак такі прынцып, як гаворыць К. Хадыніцкі, „не адразу прызнаў Грэцкі патрыярх, а тым больш ня мог зь ёю пагадзіцца маскоўскі князь і тытулярны Кіеўскі мітрапаліт"[33]. Вось таму, калі ў 1354 годзе Альгерд здаволіўся заснаваньнем асобнае Літоўскае мітраполіі, мэты ягоныя цяпер сягалі далей.

З увагі на тое, што Кіеў належаў да Вялікага Княства Літоўскага, а літоўскія заваяваньні значна пашыраліся на Русі, Альгерд імкнуўся, каб мітрапаліт Цэлае Русі ўрадаваў у Кіеве. Пытаньне аб тым, ці Масква падлягацьме ўладзе гэтага мітрапаліта, ці будзе мець іншага, для яго было абыякавым, абы толькі мітрапаліт Цэлае Русі меў сталую сядзібу ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Канстантынопальскі патрыярх Філафей у 1373 годзе з мэтай разглядзець справу на месцы прыслаў на Русь свайго „апокрысарыя" Кіпрыяна[34], які, калі прыбыў на месца й азнаёміўся з тагачаснай сытуацыяй, сам пажадаў стаць Кіеўскім мітрапалітам.

З мэтаю асягнуць такі замер Кіпрыян перш-наперш адштурхнуў прысланага зь ім супрацоўніка, каб гэны апошні ня стаў сьведкам ягонае дзейнасьці й не перашкаджаў яму. Наступна ён наведывае мітрапаліта Аляксея, дзе патрапіў пакіраваць справай так, што ад мітрапаліта атрымаў падарункі й паўнамоцтвы заступніцтва перад патрыярхам Канстантынопальскім у насьвятленьні спрэчкі зь вялікім князем літоўскім. Аднак у сапраўднасьці дзейнічаў нязгодна з сваім абяцаньнем.

Кіпрыян, як сьведчыць расейскі гісторык мітрапаліт Макар, „атрымаўшы ад Ягонае Сьвяцейшасьці (г. зн. мітрпаліта Аляксея) вялікую колькасьць падарункаў, накіраваўся ў Літву. Тут правёў даволі шмат часу ў прыемнасьцях, увайшоў у давер Альгерда й здабыў ягоную прыхільнасьць ды любасьць іншых князёў. Прыгатаваў данос, поўны фальшывых абвінавачаньняў супраць Аляксея, і сам склаў лісты ад імені вялікага князя літоўскага да патрыярха, у якіх пераконываў яго, каб назначыў для іх мітрапалітам Кіпрыяна, ды пагражаў, што калі іх дамаганьні ня будуць споўненымі, дык будуць прасіць для сябе мітрапаліта з лацінскае царквы"[35].

---

32 Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 207.
33 K. Chodynicki, op. cit., s. 20.
34 М. Грушевський, op. cit., т. V, с. 393.
35 Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, сс. 59–60.

Пад канец 1376 году, за некалькі месяцаў перад сьмерцю, Альгерд дабіўся ў Канстантынопальскім Патрыярхаце ўсяго таго, чаго дамагаўся беспасьпяхова дагэтуль. Канстантынопальскі патрыярх Філафей павернуў закідам супраць мітрапаліта Аляксея й 2 сьнежня 1375 году Кіпрыян быў абвешчаны Літоўскім мітрапалітам, а пасьля сьмерці мітрапаліта Аляксея – мітрапалітам Цэлае Русі[36].

У якой меры да гэтага спрычынілася тагачаснае палітычнае палажэньне й як вялікую ролю ў Канстантынопалі згулялі грошы, якіх не шкадавалі ані Альгерд, ані Масква, сказаць цяжка. Ува ўсякім выпадку гэта было для Вялікага Княства асягненьне агромністае вагі, якое Альгерд, паміраючы ў хуткім часе, пакінуў у спадчыне Ягайлу.

Імкненьні Альгерда й Кіпрыяна зьдзейсьніліся. Пасьля доўгага змаганьня, выдатна апісанага гісторыкамі М. Грушэўскім, Е. Галубінскім і мітрапалітам Макарам, Літоўская мітраполія здабыла сваю незалежнасьць з найвышэйшым гіерархам мітрапалітам Кіпрыянам, які з тытулам і ўладай мітрапаліта асеў у Кіеве.

Кіпрыян ня быў сэрбскага паходжаньня, як прыпушчае мітрапаліт Макар[37], а баўгарам з гораду Тырнова. Паходзіў ён зь ведамае шляхоцкае сям'і Цамблакоў[38] і быў родным дзядзькам па бацькаўскім боку тагачаснага Маскоўскага мітрапаліта Грыгора Цамблака. Даўжэйшы час быў манахам на Атосе. Пазьней, немаведама якім чынам, стаў клерыкам Канстантынопальскага патрыярха. Гісторык Е. Галубінскі тлумачыць гэта тым, што Кіпрыян меў нямала сваякоў паміж вяльможаў у Канстантынопалі й Тырнове (Цамблакоў).

Вось-жа, зь іх падтрымкай ён стаў урадоўцам у Канстантынопальскім Патрыярхаце. Калі крыху пазьней займеў давер патрыярха, яго назначылі апокрысарыем і выслалі ў Літву з мэтаю высьсніць яе спрэчку зь мітрапалітам Аляксеем, дзе з дапамогаю літоўскіх князёў і пры падтрымцы тых самых сваякоў яго паставілі мітрапалітам[39].

Аб дзейнасьці Кіпрыяна як Літоўскага мітрапаліта асталося вельмі мала зьвестак. Зь лістоў, пісаных ім у 1378 годзе сьвятому Сяргею Раданежскаму, выплывае, што ён працаваў, наварочваючы ліцьвіноў у хрысьціянства, і шмат каго спаміж іх ахрысьціў у праваслаўным абрадзе[40].

Пакуль жыў мітрапаліт Аляксей і Вялікае Княства Літоўскае, і Масква мелі свайго асобнага мітрапаліта. Кожны зь іх, паводле акрэсьленьня Канстантынопальскага патрыярха, лічыў сябе мітрапалітам Цэлае Русі.

---

[36] М. Грушевський, op. cit., т. V, с. 393; Полное Собраніе Русскихъ Летописей, т. XVII, с. 40.

[37] Митрополит Макарій, op. cit., с. 59.

[38] М. Грушевський, op. cit., с. 393.

[39] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, сс. 298 – 299.

[40] Митрополит Макарій, op. cit., с. 60.

Што праўда, яшчэ пры жыцьці сьв. Аляксея Кіпрыян імкнуўся ськінуць яго са становішча мітрапаліта й стаць кіраўніком Усяе Русі, аднак за жыцьця мітрапаліта Аляксея яму гэта не ўдалося.

Наўгародзкі летапісец з году 6884 (1376) піша пра яго: „Той же зимы присла митрополит Кипріян из Литвы свои послове и патриарши грамоты привезоша к владыце ■ Новгород и повествует тако благословил мя патріарх Филофей мітрополит на всю русскую землю и новгородцы слышав грамоту и даша им ответ: посылай к великому князю, аке приимет тя князь великій митрополит. всея Русской земли, и нам еси митрополит. И слышав ответ Новгородский митрополит Кипріян и не сла на Москву к великому князю"[41].

Мітрапаліт Аляксей 12 лютага 1378 году стаў Кіеўскім мітрапалітам, але абсяг ягонае ўлады не распашыраўся на Вялікае Княства Літоўскае й на Галіцкую Русь.

Тут мітрапалітам быў Кіпрыян, які меў пад сваёй уладай епіскапствы: Чарнігаўскае, Полацкае, Смаленскае, Тураўскае, Галіцкае, Уладзімерскае, Пярэмыскае, Луцкае й Холмскае. Пяць апошніх епіскапстваў мелі асобнага мітрапаліта ў асобе Антонія. Аднак, як гаворыць К. Хадыніцкі, „калі мітрапаліт Кіпрыян атрымаў уладу над Праваслаўнай Царквой у Літве ў 1380 годзе, падданай яму стала таксама Галіцкая мітраполія. Паводле акрэсьленьня Патрыярхату, Кіпрыян, памінаючы тое, што Галіцкую мітраполію яшчэ займаў Антоні, меў быць мітрапалітам Літвы й Малое Русі"[42].

Такім было праўнае становішча Праваслаўнае Царквы ў першы год панаваньня Ўладыслава Ягайлы.

Незадоўга, па дзевяці месяцах пасьля сьмерці Альгерда (1377), памёр мітрапаліт Аляксей (12 лістапада 1378 году)[43]. Пасьля сьмерці Аляксея палажэньне мела зьмяніцца ў карысьць Вялікага Княства Літоўскага. На чале ўсяе Рускае Царквы, асяродак якое перанёсься-бы ў Кіеў, павінен быў стаць Кіеўскі мітрапаліт Кіпрыян, залежны ад вялікага князя літоўскага.

Узьвядзеньне мітрапаліта Кіпрыяна на становішча мітрапаліта Цэлае Русі з рэзыдэнцыяй у Кіеве й ягоная залежнасьць ад вялікага князя літоўскага былі-б балючым паражэньнем Масквы, але гэта прадбачыў вялікі князь маскоўскі Дзімітры Іванавіч. Ён ня думаў лёгка паддацца

---

[41] Полное Собраніе Русских Летописей, т. III,с. 91. Аб тым самым гаворыць „Сафійскі летапіс". Ibidem, т. V, с. 235 і „Васкрасенскі летапіс", т. VIII, с. 25.

[42] K. Chodynicki, op. cit., s. 26; М. Грушэўскі адносна гэтага пытаньня робіць некаторыя засьцярогі (op. cit., т. V, с. 394).

[43] Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, с. 40.

складу такіх умоваў. У працягу двох гадоў, якія прайшлі ад высьвячэньня Кіпрыяна да сьмерці мітрапаліта Аляксея, ён старанна працаваў над падрыхтоўкай грунту для будучае дзейнасьці[44].

Перадусім яшчэ пры жыцьці сьв. Аляксея падшукаў чалавека, які-б стаў наступнікам мітрапаліта й якому мог-бы даверыць у такім цяжкім і клапатлівым палажэньні, выплываючым зь відавочнае перавагі, якую віленскія ўлады здабылі ў Канстантынопальскага патрыярха. Князю хацелася, каб на становішчы мітрапаліта мець чалавека, яму адданага й ад яго залежнага. Такім чалавекам быў ягоны спаведнік і канцлер Міцяй, які паходзіў з Каломны. Ён быў, як сьведчыць Васкрасенскі летапіс, „красамоўны, начытаны й азнаёмлены з усімі „папоўскімі" справамі"[45].

Аднак, не зважаючы на такія дадатнія рысы ягонага кандыдата, вялікі князь Дзімітры Іванавіч спаткаўся зь немалою цяжкасьцю, правоўваючы (сьвецкага) простага сьвяшчэнніка Міцяя ў мітрапаліты. Але й на гэта знайшоўся спосаб. Вось-жа, калі памёр архімандрыт Спаскага манастыра, Дзімітры Іванавіч загадаў безадкладна пастрыгчы ў манахі Міцяя ды ўзьвесьці яго ў сан архімандрыта вышэй названага (Спаскага) манастыра.

Не зважаючы на тое, што Масква была прызвычаена да самаволі князёў, усё-ж такі Васкрасенская хроніка пра гэты выпадак гаворыць наступныя словы: „И ту бяше диво полно, иже до обеда белец сый, а по обеде архимандрит: Иже до обеда мірянин а по обеде мнихом начальник и старейшим старейшина и наставник и учитель и вождь и пастух"[46].

Наступна вялікі князь Дзімітры пачаў рабіць ціск на старога мітрапаліта Аляксея, каб той зьмяніў становішча ў адносінах да Міцяя, бо ён (мітрапаліт Аляксей), не зважаючы на тое, што быў адданым слугою Дзімітрыя Іванавіча, хацеў, каб ягоным настаўнікам стаў сьв. Сяргей Раданежскі, а не Міцяй. Нарэшце мітрапаліт Аляксей быў прымушаны выканаць волю князя.

Назначэньне Міцяя наступцам мітрапаліта Аляксея спаткала паважную апазыцыю духавенства, якое не хацела прызнаць князевага стаўленьніка на такім высокім духоўным становішчы.

Усякая апазыцыя была зломлена, а пасьля сьмерці мітрапаліта Аляксея Міцяй накіраваўся за благаславенствам да Канстантынопальскага патрыярха.

Такім чынам, мэта, да якое імкнуўся вялікі князь Дзімітры Іванавіч была асягнена. З паводзінаў Дзімітрыя Іванавіча, аб якіх мы сказалі

---

[44] Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, cc. 61–62.
[45] Полное Собраніе Русских Летописей, т. VIII.
[46] Ibidem.

вышэй, відаць, як шмат яму залежала на тым, каб на становішчы мітрапаліта мець чалавека ўпоўні адданага яму й ад яго залежнага.

„Тымчасам, – гаворыць гісторык Е. Галубінскі, – калі ў Маскве выбіралі наступніка Аляксея, у Кіеве знаходзіўся ўжо гатовы ягоны наступнік мітрапаліт Кіпрыян"[47], які пасьля сьмерці Аляксея павінен-бы ўзначаліць і Маскоўскую мітраполію.

У абліччы такіх абставінаў, у няцэлага паўгоду пасьля сьмерці Аляксея (1378), Кіпрыян выбраўся ў падарожжа ў Маскву, каб там яго прызналі мітрапалітам Усяе Русі[48].

Гэтае падарожжа было нічым іншым, як небясьпечнай маніфэстацыяй таго, што Кіеўскі мітрапаліт, згодна з акрэсьленьнем Патрыярхату, зьяўляецца галавою ўсяе Рускае Царквы, і што Маскоўскія епархіі павінны яму падпарадкавацца так, як і літоўскія епархіі. Кіпрыян ведаў, якія пачуцьці адносна яго меў вялікі князь маскоўскі й што сучасны мамэнт не спрыяў асягненьню ягоных плянаў. Калі-ж ён адважыўся на такое небясьпечнае падарожжа, дык гэта адзіна таму, што хацеў задэманстраваць сваю ўладу ў кіраваньні ня толькі Праваслаўнаю Царквою ў Вялікім Княстве Літоўскім, але й Царквою ў Вялікім Княстве Маскоўскім. Да гэтага даходзіў аргумэнт, што на колішніх мітрапалітаў, якія ўва Ўладзімеры над Клязьмай і ў Маскве мелі рэзыдэнцыю, скардзіліся літоўскія епархіі, што іх пакідалі без апекі й наведваньня.

Мітрапаліт Кіпрыян, прыехаўшы ў Маскву, навязвае лучнасьць з праціўнікамі Міцяя й робіць захады, каб тут яго прызналі мітрапалітам Усяе Русі[49].

Аднак прыхільнікі намераў вялікага князя Дзімітрыя Іванавіча прынялі яго вельмі няпрыхільна. Калі ў палове чэрвеня 1378 году Кіпрыян зьявіўся ў мурох вялікакняжага гарадзішча, яго схапілі, абрабавалі, наздзекаваліся над ім ды ўкінулі ў астрог[50].

У гэты час вялікі князь маскоўскі пачаў гутаркі з наступцам Філафея, патрыярхам Макарам, якога нават у царгародзкіх урадавых актах называлі „хабарнікам". Перамовы гэтыя далі вялікаму князю Дзімітрыю Іванавічу вельмі карысныя вынікі. Незадоўга пасьля сьмерці мітрапаліта Аляксея ён (Дзімітры Іванавіч) выстараўся ў патрыярха Макара лісты да духавенства ў Вялікім Княстве Маскоўскім, якія загадывалі, каб у Маскве не прынялі мітрапаліта Кіпрыяна. Адначасна з гэтым улада над Праваслаўнай Царквою была перасказана архімандрыту Міцяю

---

47 Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 232.
48 Ibidem.
49 K. Chodynicki, op. cit., s. 22.
50 Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, сс. 64–65; М. Грушевський, op. cit., т. V, с. 394.

з дамаганьнем, каб ён зьявіўся ў Канстантынопаль за благаславенствам[51].

У хуткім часе мітрапаліта Кіпрыяна выпусьцілі з маскоўскае вязьніцы й ён сьпешна вярнуўся ў Кіеў, дзе кінуў пракляцьце на ўсіх тых, што прынялі ўдзел у ягоным зьняволеньні як праўнага мітрапаліта,назьдзекваліся над ім і спрычыніліся да гэтакага нечуванага паніжэньня[52]. Наступна ён накіраваўся ў Канстантынопаль (1379), каб там дабівацца сваіх правоў – кіраваньня Маскоўскімі епархіямі[53]. Аднак там, як ужо сказана вышэй, дзейнічаў уплыў Масквы, і Кіпрыян, як сьведчаць акты Патрыярхату, прыбыў у Канстантынопаль „у час, неадпаведны для асягненьня свайго намеру”[54].

На падставе таго, што гаворыць сам Кіпрыян у „Жыцьці Сьв. Пятра” аб прыняцьці, якое яго спаткала ў патрыярха Макара й аб самым Макару, можна рабіць выснаў, што прыняцьце гэтае было для яго няпрыхільным[55].

Аднак у хуткім часе такі стан рэчаў зьмяніўся й стварыліся абставіны, якія вельмі спрыялі намерам Кіпрыяна. У чэрвені 1374 году сталіца занепадаючае Візантыйскае імпэрыі стала арэнай рэвалюцыі, якая займела ўплыў на справы Патрыярхату, а таксама на лёс Рускае Царквы.

Стары Ян Палеоляг вызваліўся з астрогу й зьвярнуў сабе імпэратарскую карону, якое яго пазбавіў ягоны ўласны сын Андронік. З упадкам Андроніка ўпаў і патрыярх Макар, якога вялікі князь маскоўскі сьхіліў у бок благаславенства Міцяя мітрапалітам Маскоўскім. Кіпрыян нават браў удзел у сынодзе, які ськінуў „хабарніка” патрыярха Макара з займанага ім званьня[56].

Зьяўляецца магчымым, што й распараджэньне патрыярха Макара, вядучае да далейшага разьдзелу Рускае Царквы на дзьве мітраполіі, было адкліканым. Такое прыпушчэньне пацьвярджаецца тым, што на адным зь ягоных актаў зь верасьня 1379 году знаходзім подпіс Кіпрыяна у поўным тытуле – „Уніжаны Мітрапаліт Усяе Русі”[57].

[51] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, сс. 235 – 236.
[52] Митрополит Макарій, op. cit., т. II, с. 235.
[53] Па дарозе ў Канстантынопаль Кіпрыян наведаў ягоны радзімы горад Тырноў, дзе яго вельмі ўрачыста спаткаў патр. Ефімій. У спатканьні браў удзел таксама Грыгор Цамблак.
[54] Е. Голубинскій, op. cit., с. 235.
[55] Митрополит Макарій, op. cit., т. III, с. 236.
[56] Ibidem.
[57] Acta Patriarchatus Constantinopolitani..., op. cit., t. II, № 332 (Аб мітрапаліце Кіпрыяне).

Вестка аб гэтым, напэўна, хутка дайшла да Міцяя, бо ён, зьбіраючы зусюль грошы, патрэбныя на падарожжа ў Канстантынопаль з мэтаю атрымаць благаславенства, раптам раздумаўся[58] і паводле сьведчаньня летапісаў зьвярнуўся да вялікага князя Дзімітрыя Іванавіча з наступнай прапановай: „У апостальскіх канонах напісана, што два або тры епіскапы могуць паставіць епіскапа; а ў канонах Рускае Царквы сказана: няхай зьбяруцца 5 або 6 епіскапаў і няхай яны выберуць сабе епіскапа й мітрапаліта"[59].

Вялікі князь згадзіўся з такою думкаю выбару мітрапаліта без санкцыі Канстантынопаля. Аднак апазіцыя на чале з найбольш уплывовым епіскапам Суздальскім Дыянісіем запратэставала супраць гэтага, і спроба абвесьціць Міцяя Маскоўскім мітрапалітам без благаславенства Патрыярхату не ўдалася[60].

Зразумелая рэч, што Міцяй і вялікі князь Дзімітры Іванавіч, панёсшы паражэньне сваіх намераў, пастанавілі зьвярнуцца за дапамогай да Канстантынопальскага патрыярха. Яны вельмі добра ведалі, што там, у Канстантынопалі, вялікую дапамогу ім могуць прынесьці грошы.

Вось-жа, Міцяй, забясьпечыўшыся грашыма й лістамі, аблягчаючымі атрыманьне крэдытаў, накіраваўся ў Канстантынопаль. Яму спадарожнічалі архімандрыты Ян Пятроўскі й Пімен Пераяслаўскі, Марцін Каломенскі, Дарапей ды шмат дастойнікаў духоўных і сьвецкіх[61].

Дарога была даўгая й стамляючая, бо вяла ў Каффу праз татарскія качэвішчы. З Каффы пасольства паплыло морам. Ужо віднеліся муры Канстантынопалю, калі раптоўна, напэўна ад цяжкасьцяў падарожжа, цяжка расхварэўся й памёр на караблі кандыдат у мітрапаліты архімандрыт Міцяй[62].

Ягоная сьвіта ў сувязі з гэтым апынулася ў вельмі клапатлівым палажэньні. Пасьля некаторых хістаньняў пастанавілі пахаваць Міцяя ў Галаце, а спаміж трох архімандрытаў выбралі новага кандыдата на званьне мітрапаліта з тым, каб прадставіць яго ў Канстантынопалі, як выбранага вялікім князем Дзімітрыем.

Гісторык Е. Галубінскі лічыць, што такая думка зрадзілася не ў галовах спадарожнікаў Міцяя, але выключна сярод растаропных грэкаў у акружэньні самога патрыярха. Паводле ягонае думкі, духоўныя, што

---

[58] Полное Собраніе Русских Летописей, т. VIII, с. 29.

[59] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 239.

[60] Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, с. 67.

[61] Полное Собраніе Русских Летописей, т. VIII, с. 30.

[62] Ibidem, с. 31.

былі на караблі, не маглі гэтага зрабіць. „Зьяўляецца няпэўным і незразумелым, – гаворыць ён, – чаму пасля маглі адважыцца на такі надзвычайны крок, як самавольная пастанова шукаць кандыдата ў мітрапаліты спаміж знаходзіўшыхся там трох архімандрытаў, каб самым бяз волі вялікага князя распараджацца мітрапалічай катэдрай. На гэта было патрэбным, каб яны былі людзьмі цалком нерассуднымі або двугаловымі.

Як-жа можна сабе вытлумачыць такі іх неправдападобны паступак? Адзіным магчымым і праўдападобным зьяўляецца тое, што іх падвучылі да гэтага й зацікавілі грэкі'"[63].

Аднак-жа разважаньні гісторыка Е. Галубінскага зьяўляюцца вельмі хісткімі. Агульнаведама, што для належнае ацэнкі кожнага гістарычнага факту трэба добра ведаць абставіны, у якіх ён займеў месца.

Вось-жа, сьвіта памёршага Міцяя вельмі добра разумела, што іх зварот з-пад муроў Канстантынопалю ў Маскву без благаслаўенства патрыярхам мітрапаліта быў-бы раўназначным з пахаваньнем справы Маскоўскае мітраполіі калі не назаўсёды, дык, прынамсі, даў-бы Кіпрыяну магчымасьць перамогі, што было вельмі нявыгадным усёй палітыцы Вялікага Княства Маскоўскага. Вось-жа, спадарожнікі Міцяя пастанавілі ратаваць сытуацыю тым, што пасьля некаторых церцяў выбралі спаміж сябе кандыдата ў мітрапаліта ў асобе архімандрыта Пімена. Наступна на адным зь лістоў з подпісам вялікага князя напісалі пэтыцыю, рэкамэндуючую Пімена ў мітрапаліта.

З такімі фальшыўкамі яны прыехалі ў Канстантынопаль. Аднак там яны адразу спаткаліся зь вялікімі цяжкасьцямі пры зьдзяйсьненьні іх намеру.

Не зважаючы на самыя ўрачыстыя прысягі, якімі зьвязалі сябе маскоўскія пасьлы, іх ашуканства выйшла на яў. Мітрапаліт Макар гаворыць: „Ня можа быць, каб у Канстантынопалі ня ведалі праўды: там знаходзіўся ўжо й Дыяніс, епіскап Суздальскі, вораг Міцяя, і Кіпрыян, мітрапаліт Кіеўскі, які прыбыў коратка перад гэтым, якія не маглі не паведаміць аб тым, хто кіраваў Маскоўскай царквою больш чым год і каго вялікі князь Дзімітры меў замер выслаць у Грэцыю, каб атрымаць пасьвячэньне мітрапаліта"[64].

А далей мітрапаліт Макар піша: „Кесар Ян VI Палеоляг і патрыярх (Ніл), калі ліст быў прачытаны на саборы, ня выказаў ніякага зьдзіўленьня й толькі сказаў: „Пашто расейскі князь піша пра Пімена, калі на

---

[63] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, сс. 244–245.
[64] Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, с. 19.

Русі ёсьць ужо гатовы мітрапаліт Кіпрыян? Мы яго высылаем на Рускую мітраполію, а ставіць іншага мітрапаліта ня лічым патрэбным"[65].

У абліччы такога стану рэчаў ад маскоўскага пасольства вымагалася больш энэргічная дзейнасьць. Вось-жа, з дапамогаю розных сродкаў, а пераважна подкупаў, яны паволі сьхілілі на свой бок сяброў Сьвяшчэннага Канстантынопальскага Сыноду, апрача Нікейскага мітрапаліта Феафана, які трывала бараніў справу Кіпрыяна. Аднак калі Феафан цяжка захварэў і таму ня змог прыбыць на паседжаньне Сьвяшчэннага Сыноду, выслалі да яго сваіх паслоў з мэтаю паразумецца, і з дапамогаю спрытных тактычных крокаў і захадаў здолелі яго нагаварыць, каб адступіўся ад Кіпрыяна й паддаўся бальшыні.

У чэрвені 1380 году прыехаў Ніл абвесьціць Пімена мітрапалітам Кіева і Ўсяе Русі. Такі рэзультат быў асягнены з дапамогай маскоўскіх грошай, якімі ў Канстантынопалі быў падмінаваны грунт пад нагамі Кіпрыяна, так што ён быў прымушаны згадзіцца на кампраміс. Ягонае становішча было настолькі небясьпечным, што зьявіўся намер пазбавіць яго званьня мітрапаліта.

Становішча патрыярха ў адносінах да Кіпрыяна, гаворыць К. Хадыніцкі, было вельмі арыгінальным. Бо адразу патрыярх хацеў пазбавіць Кіпрыяна званьня мітрапаліта й пазбавіць яго нават Кіева й Літоўскіх епіскапстваў. І толькі зь літасьці да Кіпрыяна патрыярх згадзіўся на тое, каб астаўся мітрапалітам Малое Русі й Літвы[66].

Мітрапаліт Кіпрыян, хоць і атрымаў некалькі месяцаў таму назад зацьверджаньне ўзначаліць Мітраполію ўсіх рускіх земляў, рады ці ня рады, быў змушаны пагадзіцца з падзелам Рускае Царквы й задаволіцца становішчам мітрапаліта Малое Русі й Літвы. Ён нават ня змог абараніць таго, каб яму пакінулі тытул Кіеўскага мітрапаліта, хоць Кіеў належаў да Вялікага Княства Літоўскага. Сьвяцейшы Сынод выдаў распараджэньне, што Кіеўская сталіца павінна належаць да мітрапаліта Пімена. Пры гэтым абасноўваліся на цьверджаньні, „што зьяўляецца немагчымасьцю стаць архірэем Вялікае Русі, калі ня быць перш абвешчаным мітрапалітам Кіева, які зьяўляецца агульнай Царквою ўсяе Русі й зьверхняй мітраполіяй".

Такім чынам, і надалей захоўваўся падзел Рускае Царквы на Літоўскую й Вялікарускую мітраполіі, а перавага Вялікага Княства Літоўскага або Маскоўскага вырашала аб становішчы мітрапаліта ў дачыненьні да абодвух гаспадарстваў.

---

[65] Н. Карамзин, Исторія Государства Россійского, С.-Петербург, 1892, выданьне II, т. V, с. 60.

[66] K. Chodynicki, op. cit., ss. 23–24.

Спазнаўшы паражэньне, мітрапаліт Кіпрыян, не чакаючы на высьвячэньне свайго суперніка, зьвярнуўся ў Літву[67]. Гісторык Макар гаворыць: „Ён ня мог змагацца зь Піменам тым самым аружжам, якім змагаўся гэты апошні". Альгерд, вялікі князь літоўскі, які перад гэтым апекаваўся Кіпрыянам, ня мог яму цяпер дапамагчы, бо ўжо ня жыў. Само-ж акрэсьленьне папярэдняга сабору аб правох Кіпрыяна ў Вялікай Русі цяпер было заменена гэтым саборам у адваротным напрамку. Усё гэта засмуціла яго да такое ступені, што, не разьвітаўшыся з патрыярхам і іншымі сябрамі сабору, ён патайна выехаў з Канстантынопалю ў Кіеў[68].

Новаабвешчаны Пімен, які подступам здабыў сабе званьне мітрапаліта, не ўзяў у рукі кіраваньня, бо вялікі князь Дзімітры, якому дапушчанае ім (Піменам) надужываньне ня вельмі спадабалася, перад зваротам Пімена ў сьнежні 1381 году распачаў перамовы з мітрапалітам Кіпрыянам, якія закончыліся заключэньнем згоды пасьля бітвы на Кулікоўскіх палёх.

У дзень Госпадняга Ўшэсьця 1381 году мітрапаліт Кіпрыян прыбыў у Маскву, дзе быў вельмі ўрачыста прыняты й прызнаны мітрапалітам Кіеўскім і Ўсяе Русі. У той-жа самы час мітрапаліт Пімен, які ў пару месяцаў пазьней зьвярнуўся з Канстантынопалю, быў пасаджаны ў астрог. Гэта быў новы й вельмі цікавы паварот таго часу ў гісторыі Рускае Царквы, аб якім, на жаль, да нас дайшлі скупыя й лякацічныя весткі.

Вось як „Васкрасенскі летапіс", пад 6888 (1380), запісаў: „Тое же зимы посла князь великій по Кипріяна митрополита на Кіев". У наступным годзе 6889, чытаем у гэтым самым летапісе: „На Вознесеніев день прійде Кипріян на Москву"[69].

Удакладненьне тых лякацічных летапісных вестак знаходзім у сучасных помніках[70], ахопліваючых гісторыю Рускае Царквы ў тыя гады, якія былі ўключаны ў „Васкрасенскі летапіс": „Пріиде весть к Великому князю, яко Митяй умре а Пимен в митрополиты стал: князь же великій не всхоте Пимена в митрополію, рече: „аз не послах Пимена стати на митрополію, но послах его яко единого от служащих Митяю, что

[67] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 248.

[68] Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, сс. 70–71.

[69] Полное Собраніе Русских Летописей, т. VIII, с. 42; Митрополит Макарій, ibidem, с. 71; Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 248.

[70] Гэты абшырны разьдзел, ахопліваючы гісторыю Рускай Царквы ў 1378–1381 гадох пачаткова не ўваходзіў у склад „Васкрасенскага летапісу", але быў улучаны пазьней. Аб гэтым сьведчыць ягоны розны, адбягаючы ад гадавіковае схемы, стыль, які вельмі дакладна захаваны. Аб гэтым таксама сьведчыць і тое, што ў далейшым „Васкрасенскі летапіс" зьмяшчае пад уласьцівымі датамі гадавіковыя запісы аб некаторых фактах, шырэй апісаных у гэтым разьдзеле.

се ныне слышу таковая" и посла на Кіев по Кипріяна митрополита Феодора игумена Симоновского, отца своего духовного и пойде с Москвы на великое заговеніе по Кипріяна митрополита зовущи его на Москву от великого князя. Кипріан же пріиде из Кіева на Москву в четверток 6 недели по Пасце на праздник Вознесенія, а срете его весь народ града Москвы, князь же великій Димитрій Івановічъ пріят его с великою честью и любовію. По седми же месяцах прихода его, пріиде весть, яко Пимен иде из Царегряда на Русь митрополит, князь же великій посла противу ему, и егда бысть в Коломне, и ту разведаша от него вся сущая люди бывшия с ним, сняша с него клобук белый и весь сан митрополическій отняша от него и прмставивша к нему Ивана Григорева Чюрилова, наричаемаго Драницу, и поведоша Пимена в заточеніе с Коломны в Охну не замаа Москвы и оттоле к Переяславлю таже к Ростову и к Галичу, приведши же его на Чюхлому, ту посадиша его: и пребысть ту едино лето и оттуда ведень бысть в Тверь"[71].

Такім чынам, мітрапаліт Кіпрыян стаў прызнаным вялікім князем маскоўскім Дзімітрыем Іванавічам мітрапалітам Кіева й Цэлае Русі пад умовай, што ён (Кіпрыян) пакіне Кіеў і паселіцца ў Маскве.

Пасьля перамогі над татарамі на Кулікоўскім полі аўтарытэт вялікага князя Дзімітрыя Іванавіча быў такі вялікі, што Кіпрыян пажадаў пасяліцца ў Маскве больш, чымся аставацца ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзе ў той час адбывалася хатняя вайна.

Паводле сьведчаньня летапісаў, Дзімітры Данскі першы зьвярнуўся з прапановай да Кіпрыяна. Што паклікала яго зрабіць такі крок, што сьхіліла яго шукаць згоды з мітрапалітам Літвы й Малое Русі, якога ён сам два гады таму назад гэтак ганебна зьняважыў, – цяжка знайсьці адказ на такое пытаньне. Трудна дапусціць думку, што толькі гнеў, выкліканы самавольным паступаньнем пасольства, быў адзінай прычынай гэтага.

Пасьля бітвы на Кулікоўскім полі скрозь, як далёка гучэла руская мова, плыла слава пра Дзімітрыя Іванавіча, слава пераможцы татараў і зьнішчальніка кайданоў ненавіснае няволі. Ягоная зорка зазьзяла так ясна, што ён бачыў перад сабою расчыненай дарогу для стварэньня гэгэмоніі Масквы над усімі рускімі землямі, а нават тымі, якія знахозіліся пад зьверхніцтвам вялікага князя літоўскага.

Гэтую мэту можна было лягчэй асягнуць пры дапамозе ўплыву Царквы. Дзеля гэтага падзел Рускае Царквы ў дадзеную хвіліну на дзьве мітраполіі, аб чым два гады таму назад стараўся вялікі князь Дзімітры, быў не патрэбны й бескарысны. Пакліканьне Кіпрыяна на мітрапаліта

[71] Полное Собраніе Русских Летописей, т. VIII, с. 32.

Маскоўскага й Цэлае Русі аб'ядноўвала Рускую Праваслаўную Царкву й ставіла яе ў залежнасьць ад Масквы.

Кіпрыян з свайго боку, пабачыўшы аслабленьне прэсьціжа Вялікага Княства Літоўскага ў выніку паражэньня войска Ягайлы на Кулікоўскім полі, якое памагала Мамаю, і ў рэзультаце росту вагі Вялікага Княства Маскоўскага пастанавіў перайсьці на бок Дзімітрыя Іванавіча.

Аднак такі стан рэчаў у хуткім часе цалкам зьмяніўся. „Вялікія грашовыя сумы, – гаворыць гісторык Е. Галубінскі, – якімі Пімен заплаціў за катэдру мітрапаліта ў Канстантынопалі, зрабілі тое, што гісторыя на гэтым ня скончылася. Патрыярх Ніл, калі даведаўся, што ягоныя стараньні пра Пімена асталіся безрэзультатнымі й што замест (атрыманьня) катэдры ён апынуўся ў вязьніцы, зьвярнуўся з новымі, больш энэргічнымі захадамі да яго. Вынікам гэтага было тое, што вялікі князь выслаў з Масквы Кіпрыяна, а на катэдру паклікаў папярэдне зьняволенага Пімена"[72].

Падчас наезду Тахтамыша на Маскву мітрапаліт Кіпрыян, пабачыўшы небясьпеку, падаўся з Масквы ў Цьвер да сваяка Альгерда, Міхаіла Аляксандравіча. Гэтага было дастаткова, каб на яго ўпала падазрэньне ў тым, што ён рыхтуе здраду супраць Дзімітрыя Іванавіча, і 7 кастрычніка 1382 году Кіпрыяна выселілі з Масквы, а ў ягонае месца паставілі Пімена (1382 – 1389) і гэтым здаволілі патрабаваньні патрыярха Ніла.

Мітрапаліт Кірыян ізноў перанёсься ў Кіеў, пад уладу Ягайлы, дзе пасьля ўпадку Кейстута перад мітраполіяй раскрыліся сьвятлейшыя, чымся ў Маскве, гарызонты.

Што датычыцца Пімена, дык яго ў хуткім часе скінулі з займанага ім становішча мітрапаліта й вялікі князь Дзімітры Іванавіч выслаў у 1384 годзе ў Канстантынопаль Дыяніса, епіскапа Суздальскага, як кандыдата ў мітрапаліта Маскоўскага.

Не зважаючы на тое, што ў Рускай Праваслаўнай Царкве ўжо былі два мітрапаліты Пімен і Кіпрыян, патрыярх, як сьведчыць гісторык мітрапаліт Макар, абвесьціў епіскапа Дыяніса мітрапалітам[73].

Як відаць, у Канстантынопалі ў той час панавала такая маральная атмасфэра, што калі-б туды зьявіліся ўсе рускія епіскапы з мэтаю купіць сьвятасьць мітрапаліта, дык хто ведае, ці іх жаданьні ня былі-б здаволены.

Гісторык Е. Галубінскі[74] лічыць, што Дыяніс ня быў абвешчаны мітрапалітам у Канстантынопалі, але ўзьвядзеньне яго ў сан было зроблена

---

[72] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 250.
[73] Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, с. 74.
[74] Е. Голубинскій, op. cit., сс. 252–253.

двума грэцкімі мітрапалітамі Мацьвеем і Нікандрам у Маскве. Патрыярх Ніл прыслаў іх на Русь у 1384 годзе для расьсьледаваньня справаў[75].

„Такім чынам, – гаворыць Е. Галубінскі, – у нас мела месца нябывалае здарэньне – рукапалажэньне расейскага мітрапаліта ў самой Расеі рукамі грэцкіх мітрапалітаў".

Аднак у сапраўднасьці такога здарэньня ня было. Дыяніса, калі ён вяртаўся з Канстантынопаля праз Кіеў у Маскву, схапіў, вельмі магчыма з намовы Кіпрыяна, Уладзімер Альгердавіч і ўкінуў у вязьніцу, у якой ён праз год памёр. Мітрапаліты, прысланыя з Канстантынопаля для разгляду справаў Рускае Царквы, прыехалі ў Маскву зімою 1384 году і, разгледзіўшы справу, асудзілі Пімена віноўнікам ды ськінулі яго са становішча Маскоўскага мітрапаліта.

Нездаволены Пімен 9 траўня 1385 году выехаў у Канстантынопаль, дзе дамагаўся, каб ягоную справу разгледзіў суд сабору. Патрыярхат дазволіў яму выконываць сьвятыя дзеяньні да тае пары, пакуль зьвернуцца паслы, якія выканалі сьледзтва.

Незадоўга зьвярнуліся паслы, а разам зь імі прыехаў пакліканы патрыярхам Кіпрыян. Магчымым зьяўляецца, што ён у самай справе быў абвінавачаны Піменам і вялікім князем маскоўскім[76]. Гэта становіцца праўдападобным з таго, што, калі ў 1386 годзе кесар з мэтаю палагодзіць свае справы паслаў да вялікага князя літоўскага часова мітрапаліта Кіпрыяна, гэты апошні мусіў падпісацца, што вернецца ў Канстантынопаль на саборны суд, які зьбярэцца для разгляду пастаўленых яму закідаў[77].

Мітрапаліты Кіпрыян і Пімен у чаканьні суду пражылі ў Канстантынопалі блізка тры гады, а Праваслаўная Царква ў Вялікім Княстве Літоўскім і Вялікім Княстве Маскоўскім была пакінута на волю лёсу.

Нарэшце, пасьля доўгіх спрэчак і працэсаў суд патрыярха Антонія пазбавіў Пімена званьня мітрапаліта, а адзіным мітрапалітам Цэлае Русі прызнаў Кіпрыяна[78]. У гэтай справе гісторык Е. Галубінскі гаворыць: „У канцы 1387 й пачатку 1388 гадоў мітрапаліт Пімен быў пазбаўлены ягонага званьня патрыярхам Нілам, а мітрапаліт Кіпрыян быў

---

[75] Полное Собраніе Русских Летописей, т. V, с. 239; VIII, с. 49; „Васкрасенскі летапіс": „Тое же зимы пріидоста из Цареграда некая два митрополита Гречина, единому имя Матвей и другому Никандр, а с ними архидіаконы и прочія сановницы."; Acta Patriarchatus Constantinopolitani MCCCXV – VCCCII. T. I – II, Vindobonae 1860, 2 ed. F. Miklosisch et Müller, t. II, p. 123.

[76] Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, с. 75.

[77] Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, с. 68; VIII, с. 50; Н. Карамзин, op. cit., с. 124.

[78] Acta Patriarchatus Constantinopolitani..., op. cit., t. II, pp. 111 – 129; Русская историческая библиотека, т. VI, № 33, сс. 194 – 228.

прызнаны мітрапалітам Цэлае Русі. У 1389 годзе такое рашэньне было пацьверджана патрыярхам Антоніем"[79].

Калі Кіпрыян, быўшы ў Канстантынопалі, дабіваўся катэдры мітрапаліта Цэлае Русі, у Вялікім Княстве Літоўскім адбылася Крэўская вунія 1385 году, якая згуляла адмоўную ролю для праваслаўя, паніжаючы гэтую рэлігію.

Для Кіпрыяна асабіста, як мітрапаліта, яна ня мела такіх балесных насьледкаў Праваслаўнае Царквы ў цэлым, таму што ён знаходзіўся ў вельмі добрых асабістых суадносінах з Уладыславам Ягайлам і Вітаўтам, зь якімі меў лучнасьць і тады, калі пражываў у Маскве. Ён нават пісаў патрыярху аб тым, што Ягайла зьяўляецца найлепшым ягоным прыяцелем.

Падчас ягонага прабываньня на становішчы мітрапаліта Цэлае Русі (1389 – 1406) Кіпрыян прыяжджаў да Вялікага Княства Літоўскага аж два разы[80]. Першы раз ён наведаў Вялікае Княства Літоўскае ў Вялікі Пост 1396 году. Разам зь ім прыехаў да свайго цесьця вялікі князь маскоўскі Дзімітры Іванавіч. Пасьля таго, як яны супольна адсьвяткавалі Вялікдзень, Кіпрыян паехаў у Кіеў, дзе жыў да 7 кастрычніка 1397 году. Пасьля гэтага ён вярнуўся ў Маскву.

Што рабіў Кіпрыян падчас паўтарагадовае бытнасьці ў Вялікім Княстве Літоўскім у галіне кіраваньня Царквою, нам няведама, апрача таго, што супольна з Ягайлам працаваў над увядзеньнем царкоўнае вуніі.

У другой палове XIV веку, калі націск туркаў на Канстантынопаль рабіўся штораз больш пагражаючым, усіліліся стараньні Візантыйскіх імпэратараў заключыць вунію з Рымам. Папы, разумеецца, ахвотна падтрымоўвалі такое імкненьне.

У выніку гэтага ў канцы XIV і на пачатку XV стагодзьдзяў справа аб'яднаньня Праваслаўнае Царквы з Каталіцкім Касьцёлам сталася найгалаўнейшай праблемай тагачаснага жыцьця – ня толькі рэлігійнага, але й палітычнага.

Вось-жа, Уладыслаў Ягайла ня мог быць абыякавым да ідэі царкоўнае вуніі таму, што ў ягоным гаспадарстве былі вернікі Праваслаўнае Царквы й Каталіцкага Касьцёлу. Прапаганду царкоўнае вуніі ў Вялікім Княстве Літоўскім узначальваў сам караль, улюблены ў грэцкае мастацтва і ўпрыгожываючы творамі такога стылю сьвятыні ў Польшчы.

---

[79] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 257.

[80] М. Грушевський, op. cit., т. V, сс. 509 – 511; Полное Собраніе Русских Летописей, т. IV, с. 302; Е. Голубинскій, op. cit., сс. 336 – 339.

З свайго боку мітрапаліт Кіпрыян спрыяў напрамку, які ўзначаліваў кароль[81]. Праўдападобна з такою мэтаю яшчэ перад паходам пад Акропаліс Уладыслаў Ягайла разам зь мітрапалітам Кіпрыянам выслалі лісты да Канстантынопальскага патрыярха.

Лісты караля й мітрапаліта не захаваліся да нашых дзён, і аб тым, што яны былі высланы, можна рабіць высновы, як гаворыць К. Хадыніцкі, „адзіна з адказу патрыярха Антонія, высланага ім каралю й мітрапаліту ў студзені 1397 году"[82]. Гэты адказ не спрыяў намерам караля, бо патрыярх пісаў наступныя словы: „І мы молімся за гэта, толькі цяпер час не адпаведні, ані месца. Гэтая справа вымагае сусьветнага сабору, а не мясцовага, а час не дазваляе паехаць туды ані патрыярху, ані ягонаму заступніку, ані каму-небудзь з нашых архіпастыраў або блізкіх асобаў, таму што вайна (паражэньне хрысьціянскіх войскаў пад Акропаліс) нам пагражае, загарадзіла ўсе дарогі для нас і ўкінула нас у вялікую бяду. Ды, зрэшты, нават у мірны час Русь не зьяўляецца месцам, адпаведным для экумэнічнага сабору".

На гэтым часова скончылася прапанова вуніі ў 1396 годзе, якая адрозьніваецца ад іншых падобных спробаў тым, што перамовы пачаліся з Канстантынопалю, а не як звычайна, з Рыму.

Другі раз мітрапаліт Кіпрыян прыбыў у Вялікае Княства Літоўскае ў 1404 годзе. Падчас гэтага падарожжа яго вельмі шчодра прымаў Вітаўт у Вільні. Наступна ён накіраваўся ў Кіеў, дзе загадаў зьняволіць і адаслаць у Маскву намесьніка і ўрадаўцаў за надужываньні, а на іх месца паставіў новых ды на жаданьне Вітаўта скінуў са становішча епіскапа Тураўскага Антонія, на якога ўпала падазрэньне ў тым, што падтрымоўваў з татарамі суадносіны, некарысныя для Вялікага Княства Літоўскага.

В. Тацішчаў, паводле Е. Галубінскага, запазычыўшы немаведама скуль весткі, цьвердзіць, што Антонія ачарнілі ў вачох Вітаўта „лацінцы", якія яго ненавідзелі за тое, што ён сурова караў іх за гэрэзыю, узмацоўваў Літву й Валынь у навуцы, адпаўшых наварочываў, а хісткіх узмацняў і рабіў цьвёрдымі ў пазнаньні праўды, і што не маглі ўстрымаць яго ані падарункамі, ані пагрозамі"[83].

Нам ведама толькі тое, што Кіпрыян, скарыстоўваючы волю Вітаўта, выслаў епіскапа Антонія ў Сіманаўскі манастыр у Маскве.

---

[81] М. Грушевський, op. cit., т. V, сс. 509 – 512; Е. Голубинскій, op. cit., т. II, сс. 337 – 339; A. Lewicki, Sprawa Unii za Jagełły, „Kwartalnik Historyczny", Lwów, 1896/1987, т. XI, s. 310; L. Kolankowski, op. cit., s. 113; K. Chodynicki, op. cit., ss. 41 – 49.

[82] K. Chodynicki, ibidem, s. 43.

[83] Е. Голубинскій, op. cit., c. 340.

Падчас апошняга падарожжа ў Вялікае Княства Літоўскае суадносіны паміж Кіпрыянам ды Ягайлам і Вітаўтам былі як магчыма найлепшымі. Ён прымаў удзел у нарадах Вітаўта зь Ягайлам на нейкім бліжэй нам няведамым зьездзе ў Мілолюбію (1405) падчас прыгатаваньняў да вайны з Масквою[84].

Адным словам, як гаворыць К. Хадыніцкі, мітрапаліт Кіпрыян цешыўся поўным даверам валадароў Вялікага Княства Літоўскага й Польскага гаспадарства[85]. Ці Кіпрыян шукаў такіх добрых суадносінаў для карысьці праваслаўя ў Вялікім Княстве Літоўскім, ці наадварот, таму што мала дбаў пра яго, сказаць вельмі цяжка.

Аднак, памінаючы добрыя суадносіны, Ягайла не схацеў падтрымаць захады Кіпрыяна пра поўную ліквідацыю Галіцкае мітраполіі і ўвесь час выступаў у яе абароне. Нарэшце, пасьля доўгіх хістаньняў, трэба думаць у 1405 годзе, а, напэўна, у 1415 годзе, значная яе частка была падпарадкавана Кіеўскай мітраполіі[86]. Дакладных першакрынічных вестак пра гэта ня маем. Ведамым зьяўляецца тое, што ў 1405 годзе мітрапаліт Кіпрыян ужывае тытул мітрапалітаў Кіеўскіх, Галіцкіх й Цэлае Русі.

У той самы час, падчас ягонае бытнасьці ў Вялікім Княстве Літоўскім, ён высьвяціў разам зь епіскапам Луцкім і Холмскім для Ўладзімера епіскапа Гаголя[87], чаго ня змог-бы зрабіць нават са згодай караля й вялікага князя, калі-б ня быў Галіцкім мітрапалітам, да якога гэтыя епіскапствы належалі.

Пасьля звароту зь Вялікага Княства Літоўскага ў Маскву мітрапаліт Кіпрыян пачаў падаць здароўем. Каб запабегчы гарадзкім чуткам, пасяліўся ў вёсцы Галеншчава, дзе памёр 16 верасьня 1406 году. За чатыры дні перад ягонай сьмерцю ён напісаў разьвітальную „грамату", у якой усім верным абвесьціў прабачэньне й благаславенства ды ўзаемна прасіў прабачэньня для сябе. Згодна з жаданьнем памёршага яе прачыталі над ягонай труною падчас Божае службы над ягонымі астанкамі. Ніканава хроніка, паводле Е. Галубінскага, дае характарыстыку Кіпрыяна як мітрапаліта вельмі асьвечанага, дабрадзейнага й вельмі энэргічна павучаючага „Божае Слова"[88].

---

[84] A. Prochaska, Król Władysław Jagełło, t. I – II, Kraków, 1908, ss. 374 – 376; Е. Голубинскій, op. cit., c. 341.

[85] K. Chodynicki, op. cit., s. 26.

[86] М. Грушевський, op. cit., т. V, cc. 395 – 398; Е. Голубинскій, op. cit., т. II, cc. 341 – 345; L. Kolankowski, op. cit., ss. 124 – 130; J. Fijałek, Średniowieczne Biskupstwa Kościoła wschodniego na Litwie i Rusi, „Kwartalnik Historyczny", Lwów, 1896; 1897, t. XI, ss. 35 – 40.

[87] Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, c. 85.

[88] Е. Голубинскій, op. cit., c. 356.

Пасьля сьмерці Кіпрыяна (1406) пачалося нанова змаганьне за падзел Рускае мітраполіі на Літоўскую й Маскоўскую. Асноўнай прычынай гэтага была барацьба Вялікага Княства Літоўскага зь Вялікім Княствам Маскоўскім.

Вялікі князь маскоўскі Васіль Дзімітравіч выслаў сваіх паслоў у Канстантынопаль прасіць, каб патрыярх і імпэратар выбралі й прыслалі ў Маскву мітрапаліта[89]. Вялікі князь літоўскі Вітаўт таксама выслаў як кандыдата ў Кіеўскага мітрапаліта архіепіскапа Феадосія[90]. Маскоўскія ўплывы ў Канстантынопалі перамаглі, і мітрапалітам Цэлае Русі ў дзень 8 верасьня 1408 году быў абвешчаны грэк з Морлі Фоцій[91]. Вялікі князь літоўскі Вітаўт прыняў яго як мітрапаліта Праваслаўнае Царквы ў сваё гаспадарства толькі пасьля таго, як ён даў абяцаньне, што будзе клапаціцца пра яе дабро.

Але Фоцій ня быў такім выдатным дыпляматам, як ягоны папярэднік. У 1410 годзе, акружаны пасламі кесара й патрыярха, адведаўшы Кіеў, накіраваўся ў Маскву і тут перш за ўсё заняўся адбудовай мітрапалічага дому, які разам з маёнткам быў часткова зруйнаваны падчас нападу Эдыгея, а часткова завалоданы баярамі ды іншымі асобамі. У выніку адбіраньня зрабаванае маемасьці ён нарабіў сабе шмат ворагаў.

Падчас падарожжа ў Вялікае Княства Літоўскае таксама зьнеахвоціў шмат каго. Гэта тлумачылася тым, што ня толькі аблажыў духавенства вялікімі плацяжамі, але вывозіў зь Кіева ў Маскву царкоўныя скарбы, якія паходзілі з дароў рускіх князёў. З гэтае прычыны суадносіны паміж мітрапалітам Фоціем і вялікім князем літоўскім пагоршыліся.

У 1415 годзе Вітаўт скардзіцца на яго ў лісьце да патрыярха й кажа: „Кіеўская мітраполія не разрастаецца, але ўпадае, колькі было за нашай памяці мітрапалітаў, усе яны не будавалі сьвятыняў, як даўней бывала, але, зьбіраючы царкоўныя даходы, выносілі грошы кудысьці ў іншае месца, пазабіралі й павыносілі царкоўную прыналежнасьць і сьвятасьці… Сьвятыя абразы, каваныя золатам, і іншыя дарагацэнныя рэчы, усю красу царкоўную Кіеўскае мітраполіі, што падаравалі даўныя князі ў сваю пашану й памяць, не гаворачы ўжо пра золата, срэбра й царкоўныя аблачэньні, хто-ж можа зьлічыць, колькі яны павывезьлі"[92].

Няма нічога дзіўнага ў тым, што Вітаўт непрыхільным вокам глядзеў на тое, што мітрапалічыя даходы, зьбіраныя ў Літоўскай Русі, ішлі

[89] Ibidem, c. 357.

[90] М. Грушевський, op. cit., c. 398.

[91] Акты… Западной Россіи, op. cit., т. I, № 25; Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, сс. 3–4.

[92] Акты… Западной Россіи, op. cit., т. I, № 25; Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, сс. 3–4.

ў багацтва спаборнічаючаму зь ім гаспадарству – Маскве. Не падабалася гэта й праваслаўным епіскапам у Вялікім Княстве Літоўскім, якія прыносяць Вітаўту скаргу на Фоція… Гісторык Е. Галубінскі гаворыць, што яны зрабілі так пад ціскам самога вялікага князя літоўскага[93].

У 1414 годзе Вітаўт склікаў епіскапаў і князёў, якім прадставіў усю справу. У паразуменьні зь імі вялікі князь літоўскі адмовіў Фоцію права кіраваць Літоўскімі епархіямі, а таксама адхіліў намесьніка мітрапаліта, а самую мітраполію аддаў пад кіраўніцтва сваім урадоўцам.

Даведаўшыся аб гэтым, мітрапаліт Фоцій накіраваўся ў Вялікае Княтва Літоўскае, дзе меў замер паразумецца зь Вітаўтам, а ў тым выпадку, калі-б паразуменьня не асягнулі, пастанавіў зьвярнуцца са скаргай да патрыярха ў Канстантынопалі на Вітаўта[94]. Па дарозе зьбіраў даніну ад духавенства. Наступна пакінуў свой скарб у Смаленску, а сам накіраваўся ў Горадню, дзе ў той час быў вялікі князь літоўскі.

Вітаўт ня толькі не прыняў яго на аўдыенцыю, але загадаў, каб Фоцій пакінуў межы ягонага гаспадарства[95]. Вітаўт, паступаючы згодна з сваімі замерамі, пастанавіў дабівацца аднаўленьня Літоўскай мітраполіі, кіраванай асобным мітрапалітам[96]. Кандыдатам у мітрапаліта ён вызначыў Рыгора Цамблака, аб жыцьці й дзейнасьці якога перад прыездам у Вялікае Княства Літоўскае даведываемся зь ягонага тытулу й часткова са зьместу ягоных твораў[97].

Грыгор Цамблак паходзіў з гораду Тырнова й належаў да ведамага шляхоцкага роду[98]. Ягоным родным дзядзькам быў мітрапаліт Кіпрыян. Паводле сьведчаньня А. Яцімірскага, ён нарадзіўся ў 1364 годзе й пры хрышчэньні атрымаў імя Гаўрыіл[99]. Маладыя гады свайго жыцьця правёў у радзімым горадзе, дзе, як гадунец патрыярха Ефімія, атрымаў высокую асьвету. Пасьля, як высокаадукаваны чалавек, быў урадоўцам пры

---

[93] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, сс. 369 – 370. Е. Галубінскі лічыць, што галоўнай прычынай спрэчкі паміж Вітаўтам і Фоціем былі злосныя зьнявагі тых, хто ў выніку энэргічнае дзейнасьці Фоція страціў маемасьць у карысьць царквы.

[94] Полное Собраніе Русских Летописей, т. II, дапаўненьне, с. 353; T. Narbutt, Dzieje narodu Litewskiego, Wilno, 1835 –1841, t. VI, ss. 343 – 344.

[95] Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, сс. 89 – 90.

[96] М. Грушевський, op. cit., т. V, сс. 399 – 400.

[97] Митрополит Макарій, op. cit., с. 98.

[98] А. Яцимирскій, Григорій Цамблак. Очерк его жизни, административной и книжной деятельности, С.-Петербург, 1904, сс. 27 – 28; Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 374. Не зважаючы на тое, што Цамблак у слове над гробам Кіпрыяна гаворыць пра сваю бацькаўшчыну Баўгарыю, шмат расейскіх вучоных (напрыклад, мітрапаліт Макар) лічаць яго сэрбам (op. cit., т. IV, с. 98).

[99] А. Яцимирскій, ibidem, с. 18.

патрыярху Ефімію[100]. У 1379 годзе Грыгор Цамблак браў удзел у ўрачыстасьцях, спраўленых патрыярхам для спатканьня мітрапаліта Кіпрыяна.

Маюцца весткі аб тым, што Кіпрыян яго благаславіў і прадказаў яму слаўную будучыню[101]. Існуюць дапушчэньні, што ў 1393 годзе разам з патрыярхам Ефіміем і іншымі выдатнымі асобамі быў высланы з Тырнова. Пазьней, калі туркі занялі Канстантынопаль, паехаў туды ў 1394 годзе[102]. Аднак з такім цьверджаньнем не згаджаецца А. Яцімірскі, які ў гэтай справе гаворыць вось што: „Думаем, што выезд Цамблака з Тырнова наступіў значна раней. Аднак ён накіраваўся не ў Канстантынопаль, але на Атос, дзе жыў у манастыры Сьв. Афанасія каля 1389 году"[103]. Цяжка дапусьціць, каб тут ня скончыў літаратурную школу манахаў, і тут, праўдападобна ў першай палове дзевяностых гадоў XIV веку, прыняў манашы пострыг зь імем Грыгорыя. Цяжка сказаць з поўнай упэўненасьцю, дзе быў Грыгор Цамблак перад ад'ездам у Малдавію (1401) – у Канстантынопалі або на Атосе. Калі возьмем пад увагу тое, што каб атрымаць місыю ад патрыярха, трэба перш здабыць ягоны давер, а асягнуць гэта найлягчэй было, жывучы ў Канстантынопалі[104].

Вось-жа, Грыгор Цамблак, жывучы ў Студыйскім манастыры, або інакш Пантократосавым, каля 1400 году стаў іераманахам, а ў 1401 годзе патрыярх паслаў яго ў Малдавію, каб пагадзіць тамтэйшую царкву з Канстантынопалем[105].

Аб тым, як Грыгор Цамблак выканаў сваю місыю, сказаць цяжка, бо ня маем дакладных вестак, аднак можна меркаваць, што патрыярх ня быў ім задаволены хоць бы таму, што, выканаўшы сваё заданьне, ня толькі не зьвярнуўся ў Канстантынопаль, але спыніў усякую карэспандэнцыю[106] й стаў прэсьвіцерам мітрапалітальнае царквы ў Сочаве. Як доўга ён быў на гэтым становішчы, няведама[107]. А. Яцімірскі гаворыць, што на падставе твораў Грыгора Цамблака можна дапусьціць думку, што ў хуткім часе яго назначылі на становішча ігумена Нямецкага манастыра[108], знанага як Пантократосавы манастыр.

---

[100] Митрополит Макарій, т. II, с. 376.

[101] А. Яцимирскій, op. cit., сс. 28–29.

[102] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 376.

[103] А. Яцимирскій, op. cit., сс. 31–36.

[104] Ведама, што як Кіпрыян, Цамблак быў пасланы на Русь, каб там зрабіць парадак, супакоіць і аб'яднаць Праваслаўную Царкву. Так-жа й Грыгор Цамблак з амаль такім заданьнем быў пасланы ў Малд авію.

[105] А. Яцимирскій, op. cit., сс. 53–80.

[106] Ibidem, с. 90.

[107] Ibidem.

[108] Ibidem, с. 108. Назоў „Нямецкі" манастыр атрымаў ад назову ручайка, над якім ён знаходзіцца.

Е. Галубінскі й П. Сокалаў не згаджаюцца з гэтым. Яны трымаюцца думкі, што ён быў ігуменам Дрэздэнскага манастыра[109]. Ігуменам Нямецкага манастыра Грыгор Цамблак быў нядоўга. Восеньню або летам 1406 году ён атрымаў запросіны ад свайго дзядзькі Кіпрыяна прыехаць у Маскву.

І так Грыгор Цамблак пакідае Малдавію ды едзе на Русь[110]. У Вялікім Княстве Літоўскім, недалёка ракі Нёмана ён атрымаў паведамленьне пра сьмерць мітрапаліта Кіпрыяна. Тут ён астаўся на даўжэйшы час[111], а пазьней накіраваўся ў Сэрбію[112].

Паміж іншым, усе дасьледчыкі, за выняткам А. Яцімірскага, зазначаюць, што Грыгор Цамблак быў у Вялікім Княстве Літоўскім. Зьдзіўляюцца толькі тым, чаму няма ніякіх сьлядоў аб ягонай сямігадовай дзейнасьці да 1415 году, калі быў назначаны Кіеўскім мітрапалітам.

Калі-б Грыгор Цамблак сапраўды аставаўся ў Вялікім Княстве Літоўскім, дык, напэўна, браў-бы ўдзел у стараньнях Вітаўта аб аддзяленьні Літоўскае мітраполіі.

Бо-ж тыя гады (1407 – 1408) былі вельмі спрыяльнымі для яго, як эвэнтуальнага кандыдата ў мітрапаліта Вялікага Княства Літоўскага. І гэта таму, што зараз-жа пасьля ягонага прыезду сюды й пасьля сьмерці Кіпрыяна пачалася барацьба вялікага князя літоўскага зь вялікім князем маскоўскім, якая прывяла да папярэдне пайменаванага пасольства ў Канстантынопаль з просьбаю высьвяціць у мітрапаліта Феадосія.

Можна дапусьціць думку, што калі-б Грыгор Цамблак знаходзіўся ў Літве, хто ведае, ці ня быў-бы выбраны кандыдатам у мітрапаліта. Аднак гэтак ня сталася, таму што, як гаворыць А. Яцімірскі, Грыгор Цамблак ужо тады быў у Сэрбіі, скуль, напэўна, сачыў за ходам падзеяў у жыцьці Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Вось-жа, калі даведаўся пра намінацыю Канстантынопальскім патрыярхам Фоція мітрапалітам Цэлае Русі (1 верасьня 1408 году) і аб тым, што Вітаўт не хацеў яго прызнаць (1409), накіроўваецца ў Вялікае Княства Літоўскае, каб заняць становішча мітрапаліта.

Можна дапушчаць, што ў той самы час Грыгор Цамблак сказаў у Кіеве ў прысутнасьці Фоція[113] казаньне пад загалоўкам „Григорія мниха и пресвитера игоумена Плинаирскія", у якім усхваляў мітрапаліта Кіпрыяна.

---

[109] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 376.
[110] Ibidem.
[111] А. Яцимирскій, op. cit., с. 143.
[112] Ibidem.
[113] Ibidem, сс. 165 – 168.

Шмат вучоных стараліся адгадаць, аб якім таямнічым манастыры ўспамінаў Грыгор Цамблак у сваім казаньні, але да гэтага часу не змаглі сьцьвердзіць, дзе Плінаірскі манастыр знаходзіўся, бо манастыра з такім назовам гісторыкі ня ведаюць. Дзеля гэтага можна думаць, што прапаведнік, хацеўшы скрыць месца свайго прабываньня, назваў нейкі іншы манастыр Плінаірскім.

Падчас свайго прабываньня ў Вялікім Княстве Літоўскім Грыгор Цамблак зьвярнуў на сябе ўвагу сказанымі казаньнямі, а часткова словамі пахвалы для Кіпрыяна.

У абліччы таго, што са згодаю й парадаю епіскапаў і ўдзельнікаў князёў, выказаную на саборы, які адбыўся ў Вялікім Княстве Літоўскім у 1414 годзе, ён быў абвешчаны кандыдатам у Літоўскага мітрапаліта й разам з пасольствам, якое мела прадставіць скаргу на Фоція за зробленыя ім шкоды Праваслаўнай Царкве, накіраваўся ў Канстантынопаль з мэтаю атрымаць высьвячэньне ў мітрапаліта[114].

Ня можам сказаць з дакладнасьцю, ці Грыгор Цамблак быў гордым і амбітным чалавекам і сам стараўся атрымаць катэдру мітрапаліта для сябе, ці толькі згадзіўся прыняць кандыдатуру на такое высокае царкоўнае становішча, уступаючы волі Вітаўта й літоўскіх епіскапаў.

Густынская хроніка гаворыць пра гэта наступнымі словамі: „Видяше доброе желаніе князя повинушася повеленію его и согласишася все епископы, и весь священный собор и все на мітрополію благовейна мужа Григорія Цамблака. А Витольт посла грамоту моленія от всех епископов и от себя ко святейшему патріарху да благословит посвятити инаго митрополита Кіеву написа же вины, почто не хощет митрополитов московских"[115].

Даведаўшыся аб гэтым, мітрапаліт Фоцій пачаў дзейнасьць, якая мела за мэту перашкодзіць намерам вялікага князя Вітаўта. Ён скарыстаў розныя спосабы й сродкі, а стараньні ягоныя ўвенчыліся памысным рэзультатам.

Грыгор Цамблак (кандыдат у Літоўскага мітрапаліта) ня толькі быў пазбаўлены ўсіх царкоўных узнагародаў, якія меў, але адначасна з гэтым быў адлучаны ад царквы. Расейскія гісторыкі на падставе абежніка мітрапаліта Фоція бачаць прычыну экскамунікацыі Грыгора Цамблака ў тым, што, быўшы ў Канстантынопалі, ён карыстаўся недазволенымі сродкамі для здабыцьця катэдры мітрапаліта.

---

114 Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, с. 98; Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 376; П. Соколов, Кіевскій митрополит Григорій Цамблак, „Богословскій Вестник", 1895, т. VIII, сс. 158–159; А. Яцимирскій, op. cit., сс. 159–163.

115 Полное Собраніе Русских Летописей, „Прибавленіе", с. 353.

Аднак пагадзіцца з гэтым цяжка, бо ведаем, што Фоцій мог ачарніць свайго працаўніка, дый наагул ведамым зьяўляецца факт прадажнасьці тагачасных Канстантынопальскіх патрыярхаў і іх урадоўцаў.

Уся справа станецца для нас крыху ясьнейшай, калі возьмем пад увагу тое, што ў Канстантынопалі яшчэ не забыліся аб тым, як Грыгор Цамблак выканаў даручэньне патрыярха падчас ягонае місыі ў Малдавіі.

Патрыярх ня мог яму дараваць таго, што ня толькі не звярнуўся ў Канстантынопаль, але нават спыніў зь ім усякую карэспандэнцыю. Апрача гэтага ён баяўся таго, каб Грыгор Цамблак, як асьвечаны літаратар, добры прапаведнік, строгі аскет, які са сваёй ведай кіраваньня царквою, якую здабыў, быўшы ўрадоўцам патрыярха Ефімія, мог парваць лучнасьць з Канстантынопалем. Тым больш, што такая магчымасьць пацьвердзілася ўжо падчас ягонае місыі ў Малдавіі.

Апрача гэтага ён баяўся, каб Масква, якая так настойліва дамагалася экскамунікацыі й адлучэньня Грыгора Цамблака ад царквы, не перастала высылаць багатую даніну, калі яе жаданьні ня будуць споўнены.

Меліся прычыны й чыста палітычнага характару. Нам ужо ведама, што Візантыя, ціснутая туркамі, усякімі спосабамі старалася здабыць падтрымку вялікага князя маскоўскага, зь якім імпэратар Эмануіл быў зьвязаны сваяцтвам[116].

Вось-жа, у выніку ўсіх гэтых прычынаў сталася тое, што Грыгор Цамблак зьвярнуўся ў Вялікае Княства Літоўскае зь нічым.

Даведаўшыся пра няўдачу свайго протэжэ, Вітаўт склікаў епіскапаў: Феадосія – архіепіскапа Полацкага, Ісайю – Чарнігаўскага, Дыянісія – Луцкага, Герасіма – Уладзімерскага, Харытона – Холмскага, Ефімія – Тураўскага і, прадставіўшы ім справу, сказаў: „Мне ня хочацца, каб пра мяне казалі, вось валадар іншае веры, таму Царква зьбяднела"[117]. Кіруючыся радай епіскапаў, Вітаўт пастанавіў яшчэ раз прасіць Канстантынопальскага патрыярха вызначыць асобнага мітрапаліта для Вялікага Княства Літоўскага.

На гэты раз ён ня вызначаў свайго кандыдата, сказаўшы, што мітрапалітам можа быць нават грэк, абы толькі меў благаславенства патрыярха.

У сакавіку 1415 году паслы накіраваліся ў Канстантынопаль зь ягонай просьбай. Пры гэтым Вітаўт загадаў ім, каб чакалі адказу не пазьней 20 чэрвеня. Пазьней гэты тэрмін быў прадоўжаны да 15 жніўня. Нарэшце на просьбу візантыйскіх паслоў, якія вярочаліся з Масквы, якія прыабяцалі, што прадставяць літоўскую справу кесару й патрыярху,

---

[116] Сын Эмануіла Ян быў жанаты з дачкой Васіля Дзімітравіча.
[117] Акты... Западной Россіи, т. I, № 25.

Вітаўт прадоўжыў гэты тэрмін яшчэ на тры месяцы. Аднак няўдача спаткала й гэтую просьбу Вітаўта й праваслаўных епіскапаў Вялікага Княства Літоўскага.

У той час, калі ад паслоў ня было ніякіх вестак і надзея на тое, што патрыярх выканае іх просьбу, разьвеялася, Грыгор Цамблак або нехта іншы пераканаў Вітаўта ў тым, што мітрапаліта можа абвесьціць сабор епіскапаў нават бяз згоды Сусьветнага патрыярха.

У доказ гэтага пакліkаліся на:

1. Ведамыя Першыя Апостальскія Правілы пра пакліканьне епіскапаў;
2. Выпадак назначэньня Клімэнта Смаляціча пры Ізяславе;
3. Прыклад з практыкі паўдзённых славянаў;
4. Цьверджаньне, што апосталы пераказалі аднолькавае дабрадзейства ўсім епіскапам.

Вітаўт вырашыў скарыстаць з гэтага. Дзеля гэтага ў паразуменьні зь Ягайлам склікаў на дзень 5 лістапада 1415 году мясцовы сынод у Наваградку, на якім прысутнічалі: Феадосій – архіепіскап Полацкі, які разам зь Вітаўтам кіраваў нарадамі, Ісайя – епіскап Чарнігаўскі, Дыянісій – епіскап Луцкі, Герасім – епіскап Уладзімерскі, Гелазій – епіскап Перамышльскі, Сэбастыян – епіскап Смаленскі, Харытон – епіскап Холмскі й Ефімій – епіскап Тураўскі, адначасна з архімандрытамі, манахамі, духаўнікамі, князямі беларускімі, украінскімі й літоўскімі ды вяльможамі[118].

Прысутнасьць епіскапаў з Кароннае Русі сьведчыць аб тым, што сынод быў ня толькі літоўскім, але сынодам усяго фэдэральнага гаспадарства й адбыўся з волі так вялікага князя Вітаўта, як і караля Ўладыслава Ягайлы[119].

На гэтым саборы Вітаўт прадставіў справу Кіеўскае мітраполіі й даказываў віну мітрапаліта Фоція, які, быўшы зьверхнікам Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім, зусім ня дбаў пра яе. Ён зьбіраў адно даніну, якую вывазіў у Маскву. Калі-ж Вітаўт паслаў сваіх паслоў у Канстантынопаль з просьбаю, каб патрыярх вызначыў асобнага мітрапаліта для ягонага гаспадарства, яму нават не адказалі.

Выслухаўшы словы вялікага князя, епіскапы, прысутныя на саборы, „nolens volens" выбралі мітрапаліта дня 15 лістапада 1415 году ў царкве

[118] Ibidem, № 24.

[119] Што датычыцца Галіцкага епіскапства, дык у той час яно не было ўзначаленым, і таму на сынодзе ня мела прадстаўніка.

Прачыстае Багародзіцы ў Наваградку. Выбраным быў Грыгор Цамблак[120], які меў кіраваць усей Праваслаўнай Царквой у Вялікім Княстве Літоўскім.

Гэта быў пратэст супраць гэгэмоніі Грэцкае Царквы й прадажнасьці яе кіраўнікоў. Апрача гэтага такая пастанова сабору даказала, што мітрапаліта можна вызначыць і бяз санкцыі патрыярха, ды зрабіла Праваслаўную Царкву ў Вялікім Княстве Літоўскім Аўтакефальнаю Царквою, кіраванаю сваім мітрапалітам і сваім саборам.

У пісьме, паведамляючым пра выбар мітрапаліта Грыгора Цамблака, епіскапы ў абароне супраць магчымых закідаў пішуць:

„Мы смиреніи епископы Русских стран и братія друг ко другу по Духу святому... понеже видехом презираему от митрополита Фотія церковь Кіевскую, яже глава есть всей Руси и стадо Христово небрегаемо и к погибели готово скорбихом о том и в печали бехом... И тако нам скорбящим о церкви и о людех Божьих, подвиже милостивый Бог сердце великого князя Александра, зовомага Витовта, Литовскаго и многих Русских земль господаря, и того убо митрополита Фотія изгна, посла же в Царьград, к царю и патриарху просяще дати ему митрополита быти людем Божьим на спасеніе, достойна, и тоя церкви на утвержденіе. И царь Маноил не восхоте послушати прошенія его, праведнаго, своих деля прибытков неправедных. Он же с нами советовася, истинно и праведно, яко правый истинный великій князь; и собра вси князи Литовских и Русских земль и иных стран елико суть ему покорены Богом нашея церкве, и бояр и вельмож архимандриты же и егумени и благоговейныя инокы и попы и сих всех свет. и волею, и нашим избраніем і хотеніем сшедшеся в Новемграде Литовском в святей Церкви Пречистыя Богородице по благодати данней нам от святаго Духа поставихом митрополита святей нашей церкви Кіевской и всея Руси, именем Григорія, по преданію святых Апостол, яко же пишут в своих правилех: „Два или три епископи рукопологают митрополита", яко же і прежде нас створіша епіскопі, прі веліком князе Ізяславе Кіевском поставиша митрополита по правилом; яко иже прежде нас крещеніи Болгаре и нам сродницы створиша своими епископи поставльша собе пръвесвятителя. Такоже и Сербского языка епископи рассудивше, яко по правилом есть и по апостольскому уставу створиша собе своими епископи пръвосвятителя даже до днесь есть, поспешьствующу Богу, пръвосвятитель в Срьбской земли, имея многи епископи под собою. Таже не толика есть Срьбская земля, елика есть Русская, яже есть в области господина великаго князя Александра, прежде реченага Витовта, но есть вельми мала и землею и людми. И что глаголем

[120] Акты... Западной Россіи, op. cit., т. I, № 24; Полное Собраніе Русских Летописей, т. II, „Прибавленіе", с. 353; т. XVII, сс. 56–57.

о Болгарех, или о Сербех? От святых Апостол тако усталено бысть. Равно на всех епископех православных благодать действует святаго Духа: ибо Апостоли от Господа поставлени быша, они же иных поставиша, и паки они других и тако благодать святаго Духа даже и до нас смиренных дойде; и имамы власть яко апостольскіи ученицы (со) многими испытаньми и в прошаньи и сходитися и поставляти своему отечеству пастыря достойна, егоже Бог хощет. Такоже и власть имамы от Господа: и егоже аще свяжем на земли, будет связана на небесах, и егоже аще разрешим на земли, разрешена будет на небесах"[121].

Гэты дакумант выразна сьведчыць аб тым, што Вітаўт прызнае легальнасьць існаваньня Праваслаўнае Царквы ў ягоным гаспадарстве й клапоціцца пра яе дабрабыт.

Аднак расейскія гісторыкі, асуджаючы Грыгора Цамблака й Вітаўта, як ініцыятараў гэтае справы, цьвердзяць, што галоўнай прычынай, якая паслужыла аддзяленьню Кіеўскай мітраполіі ад Маскоўскае, былі асабістыя меркаваньні Вітаўта[122].

Згадзіцца з гэтым вельмі цяжка, бо хоць асабістыя й палітычныя меркаваньні гулялі немалую ролю, дык, як бачым з дакуманту, дабро царквы было вядучым дзейнікам. Уступ, у якім Вітаўт гаворыць, што кожны можа паступаць так, як хоча, насоўвае розныя тлумачэньні. Некаторыя тлумачаць гэта як поўную рэлігійную талеранцыю, як прызнаньне за жыхарамі Вялікага Княства Літоўскага свабоды ў прызнаньні юрысдыкцыі Цамблака або Фоція. Іншыя дасьледчыкі, наадварот, тлумачаць словы „хто хоча, няхай робіць, як яму падабаецца", адносяцца да людзей, якія жывуць па-за межамі Вялікага Княства Літоўскага й якія, калі хочуць, могуць прызнаваць уладу Цамблака або Фоція[123].

І так на Наваградзкім саборы пастановаю епіскапаў была зарганізавана Кіеўская мітраполія, незалежная ад Маскоўскай, на чале якой меў стаць Грыгор Цамблак, выбраны гэтым саборам.

Гэтае здарэньне гуляе пераломную ролю ў гісторыі Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім. І гэта таму, што на Наваградзкім саборы, згодна з канонамі і ўладжаньнем Сусьветнае Праваслаўнае Царквы, былі сфармуляваны праўныя асновы Аўтакефальнае Царквы.

Назначэньне Грыгора Цамблака мітрапалітам Літоўска-Беларуска-Украінскае Праваслаўнае Царквы й абнародаваны саборам ліст, які апраўдываў такі крок[124], выклікалі буру гневу Фоція, супраць якому гэты

[121] Крыніца адсутнічае дзеля недахопу адбіткі.
[122] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, сс. 384–386.
[123] Гл.: A. Lewicki (op. cit., s. 337); а таксама цікавыя заўвагі А. Калянкоўскага (op. cit., t. I, s. 131).
[124] Акты... Западной Россіи, op. cit., т. I, № 24.

ліст перш за ўсё быў скіраваны. На пачатку 1416 году зьявіўся новы акт пракляцьця Кіеўскага мітрапаліта ды шматлікія абежнікі Фоція да праваслаўных жыхароў Пскова, Кіева ды іншых гарадоў, у якіх ён перасьцерагае перад прызнаньнем мітрапаліта, абвешчанага бясправўна й без благаславенства патрыярха.

У адным з такіх лістоў-абежнікаў тых, хто абвесьцілі Грыгора Цамблака мітрапалітам, называюць „абрыдлымі, нячыстымі, неасьвечанымі, асьлепленымі ваўкамі, а не пастырамі, атэістамі й зьвястунамі Антыхрыста”. Наступна паўтараецца абвінавачаньне, быццам Грыгор Цамблак стараўся падкупіць патрыярха й ягоных урадоўцаў, ды робяцца намёкі на „лацінства” Кіеўскага мітрапаліта.

Адначасна з гэтым Фоцій выслаў патрыярху Ефімію трывожны ліст, у якім просіць, каб ён як мага хутчэй зьліквідаваў падзел Рускае Царквы, як некарысны[125]. Патрыярх, здаволіўшы ягоную просьбу, паўторна адбірае ад Грыгора Цамблака ягоны сан, адлучае яго ад царквы й праклінае[126].

Аднак і гэтага было замала. Вось-жа, на просьбу Фоція патрыярх Ефімій дамагаецца ад Вітаўта, каб ён выгнаў „бясправўна абвешчанага” мітрапаліта зь ягонага гаспадарства.

У сакавіку 1416 году памёр патрыярх Ефімій, і ягоны наступнік Язэп II паўтарае адлучэньне ад царквы Цамблака, якое абвесьціў ягоны папярэднік[127].

Як бачым, Грыгор Цамблак узначаліў катэдру мітрапаліта ў вельмі цяжкіх абставінах. Займеў яе за вельмі дарагую цану і ўтрымаць мог толькі на вельмі кароткі час. Пра ягоную дзейнасьць як мітрапаліта маем вельмі мала вестак. Ведамым зьяўляецца толькі, што перанёс сядзібу мітрапаліта ў Вільню, і што браў удзел у Канстанцкім Саборы, які трываў ад 5 лістапада 1414 да 22 красавіка 1418 году[128].

Пасьля паражэньня Візантыйскае імпэрыі пад Нікропаліс (28 лістапада 1396 году) ідэя вуніі паміж Усходам і Захадам ня толькі не загінула, але яшчэ больш узмоцнілася. Разумеецца, што як у Вялікім Княстве Літоўскім, таксама і ў Польшчы заклікі да вуніі знайшлі прыхільнае водгульле й збудзілі нанова захады Ўладыслава Ягайлы й Вітаўта ў напрамку яе рэалізацыі.

---

[125] Е. Голубинскій, op. cit., сс. 380–382. Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, сс. 95–98.

[126] Што датычыцца таго, што Грыгор быў скінуты з духоўнага становішча й адлучаны ад Царквы ды выкляты, калі быў з пасольствам у Канстанцы, відаць з працы мітрапаліта Макара (op. cit., т. IV, сс. 91–97).

[127] М. Грушевський, op. cit., т. V, с. 402.

[128] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 385.

З гэтай мэтай зь ініцыятывы сьвецкіх уладароў у Канстанцыю (Швайцарыя) было выслана пасольства, на чале якога быў мітрапаліт Грыгор Цамблак. Ніканава хроніка за 1418 год, паводле Е. Галубінскага, прыводзіць характэрную гутарку мітрапаліта Грыгора Цамблака зь вялікім князем Вітаўтам, у якой бачыць повад падарожжа ў Канстанцыю. Сутнасьць гутаркі зьяўляецца наступнай. На пытаньне Грыгора Цамблака, чаму князь жыве ў „лацінскай" веры, Вітаўт адказаў, што, калі мітрапаліт хоча мець яго і ўсю Літву пад духоўнай уладай, дык няхай паедзе ў Рым і там пагутарыць з папам і бацькамі Касьцёлу, калі-ж не пераканае іх у вышшасьці ўсходняе веры, тады князь загадае прыняць „лацінскую" веру. Вітаўт паслаў мітрапаліта ў Рым да папы[129].

І ў сапраўднасьці, у хуткім часе і, напэўна, не з тае прычыны, якую падае лёгкаверны летапісец, але з мэтай злучэньня Праваслаўнае Царквы з Каталіцкім Касьцёлам Грыгор Цамблак быў пасланы ня ў Рым, а ў Канстанцыю, дзе адбываўся сабор.

Як добры царкоўны дагматык, Цамблак не прызнаваў вуніі Цэркваў Усходняе з Заходняй пад зьверхніцтвам папы. Кіруючыся такімі меркаваньнямі, як добры палітык, ён пастараўся прыехаць на сабор пад канец ягоных нарадаў (19 лютага 1418 году).

Гэта была ў сапраўднасьці працэсія рознакалёрных дэлегатаў ува ўсходніх вопратках. Мітрапаліт, а зь ім пяць епіскапаў праваслаўных у акружэньні князёў і баяраў русінаў і валынскіх татараў, вёў у сваёй сьвіце прадстаўнікоў гарадоў літоўскае й польскае Русі[130].

Урачыстае паседжаньне было вызначана на дзень 15 лютага. Калі папа Марцін V засеў на троне, Маўрыц з Прагі прачытаў тэкст прамовы Грыгора Цамблака, які зьмяшчаў праект царкоўнае вуніі. Мітрапаліт пасьля кароткага ўступу, у якім злажыў пажаданьне ад свайго імені й ад імені Ягайлы й Вітаўта папе Марціну V з нагоды выбару яго ўзначаліць Апостальскую сталіцу, далей гаварыў аб тым, што цяпер усе жадаюць вуніі: і кесар, і Царгародзкі патрыярх, і Ягайла, і Вітаўт, згарае жаданьнем яе й ён сам. Таму ён просіць папу, каб той дапамог заключыць вунію адпаведным спосабам, учцівым і дастойным. З такою мэтаю, гаварыў ён, належыцца склікаць сабор, на якім учцівыя й дасьведчаныя ў кананічным праве мужы вырашаць справу веры.

---

[129] Ibidem.

[130] М. Грушевський, op. cit., сс. 512–517; Е. Голубинскій, op. cit., сс. 385–386; Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, с. 100; A. Prochaska, Dążenia do unii cerkiewnej, „Przegląd Powszechny", Kraków, 1896, t. 51, ss. 47–52; A. Lewicki, op. cit., ss. 332–337; L. Kolankowski, op. cit., ss. 133–134.

Прамова Цамблака бароніць выжшасьць сусьветнага сабору[131], у якім ён бачыць адзіны выхад з усіх недахопаў так Касьцёлу, як і, наагул, хрысьціянскага сьвету.

Папа з свайго боку адказаў пажаданьнем, каб споўніліся замеры мітрапаліта, і ў справе вуніі абяцаў узважыць спосабы й тэрмін яе рэалізацыі, бо сабор у Канстанцыі, заняты рэформай Касьцёлу й справай Гуса, ня мог разгледзець гэтую праблему, і ў хуткім часе быў закрыты.

Пасьля сканчэньня паседжаньняў сабору Грыгор Цамблак накіроўваецца назад у Вялікае Княства Літоўскае. Па дарозе ён затрымаўся ў Кракаве, дзе прабываў ад 5 траўня 1418 году, а выказаўся становукасьцю ў справе праваслаўя.

Не зважаючы на тое, што Грыгор Цамблак выказаўся непахіснасьцю ў праваслаўі, калі быў у Кракаве, і што ў Канстанцыі стаяў далёка ад вуніі, якую хацеў Каталіцкі Касьцёл, бо ня прызнаваў зьверхнасьці папы, усё-ж зь бегам часу расейскія гісторыкі пачалі закідаць яму праўдападобнасьць каталіцызму.

Рэгабілітацыя Грыгора Цамблака ад гэтых закідаў пасоўваецца вельмі павольна. Праўда, П. Сакалоў гаворыць, што Грыгор ня здрадзіў праваслаўя й гісторык павінен зьняць зь яго закід у вуніяцтве, кінуты на яго празь некалькі пакаленьняў ад таго часу, калі ён жыў[132]. Аднак гэтыя словы не магчыма пагадзіць з агульнай характарыстыкай Грыгора Цамблака, якую аўтар дае на папярэдняй старонцы.

Такое-ж няяснае абвінавачаньне мітрапаліта знаходзім у іншага гісторыка Е. Галубінскага. Дасьледчык згаджаецца з тым, што „ня маючы ніякіх доказаў таго, каб Грыгор хіліўся ў бок вуніі з папам, і, маючы просты доказ таго, што ён катэгарычна адмовіўся ад яе, ня сумняваемся ў ягонай моцнай прывязанасьці да праваслаўя". „Аднак такая акалічнасьць, што ў адным з сваіх казаньняў ён катэгарычна змагаецца супраць вуніі, само сабою ня служыць доказам таго, што аставаўся непахісна ў праваслаўі да канца. Сёньня ён мог пісаць супраць „лаціны", а заўтра мог аддацца ім. Такое зьявішча было цалкам магчымым"[133].

Зусім натуральным было-б чакаць, што каталіцкія пісьменьнікі, абаснуўваючыся на тых самых першакрыніцах, якімі карысталіся расейскія дасьледчыкі, залічаць Грыгора Цамблака ў свой лягер. Аднак такія прыпушчэньні астаюцца беспадстаўнымі. Усе каталіцкія дасьледчыкі

---

[131] А. Яцимирскій, op. cit., с. 204; K. Chodynicki, op. cit., s. 47.
[132] П. Соколов, op. cit., с. 196.
[133] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 386.

сучаснай пары (А. Лявіцкі, А. Прахаска, К. Хадыніцкі й А. Барташэвіч) цьвердзяць пра прывязанасьць Грыгора Цамблака да праваслаўя.

Так, напрыклад, А. Барташэвіч піша: „Цамблак быў гарачым вернікам усходняга абраду, а хоць жадаў аб'еднаньня абодвух цэркваў і езьдзіў на сабор у Канстанцыі, дык аднак зусім ня думаў сьлепа паддацца Рыму й на саборы дамагаўся рэлігійнае дыскусіі".

Некаторыя цьвердзяць, што праз амбіцыю й для здабыцьця славы Грыгор Цамблак стараўся ўвясьці рэлігійную вунію. Гэта яму закідае М. Карамзін, пішучы, што яго паўсюдна лічылі „папістам" і таму праклінапі ў маскоўскіх цэрквах. Аднак-жа Фоцій, хоць быў ягоным антаганістам, ніколі не закінуў яму здрады веры[134].

Нарэшце, напэўна, гаварылі-б пра яго папы (Марцін V, Пій II і Аўген IV), пішучы лісты на Русь падчас Флёрэнцкага сабору або ў спрэчках пра вунію ў XVI веку. Аднак ні ў адным зь іх няма ўспаміну пра Грыгора Цамблака.

Вось-жа, прыведзеныя вышэй факты гавораць пра тое, што хоць Грыгор з волі сьвецкае ўлады браў удзел у Канстанцкім саборы, усё-ж ён ня здрадзіў праваслаўю, і гэта дае нам падставы цьвердзіць, што ён быў прывязаны да праваслаўя.

У хуткім часе пасьля звароту з Канстанцкага сабору Грыгор Цамблак памёр або пакінуў Вялікае Княства Літоўскае.

Расейскія хронікі паўтараюць адна за другою вестку аб тым, што Грыгор Цамблак памёр зімою 1419 або 1420 году[135]. Пры дакладным акрэсьленьні даты ягонае сьмерці дасьледчыкі прыходзяць да выснаву, што ён памёр у 1420 годзе. Прыпушчаюць, што стаў ахвяраю шалеючае тады пошасьці, пра якую ўспамінаюць хронікі 1420 – 1421 гадоў[136].

З гэтым згаджаюцца ня толькі амаль усе манаграфіі пра Цамблака, расейскія царкоўныя й агульныя гісторыкі[137], але й іншыя дасьледчыкі, напрыклад, украінскі гісторык М. Грушэўскі[138], разьдзяляюць гэтую думку.

Аднак калі супаставім усе весткі аб сьмерці Цамблака, дык атрымоўваецца ўражаньне, што ані дата яе, ані месца паховінаў мітрапаліта нам няведамы. Тым больш, што заходнія дасьледчыкі й некаторыя польскія

---

[134] Wielka Encyklopedia Powszechna Illustr., Warszawa, 1893, zesz. 80, s. 973.

[135] П. Соколов, op. cit., сс. 193, 194 (сумніўнасьць у крыніцы).

[136] Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, сс. 182–183.

[137] Мітрапаліт Макар, архіепіскап Філарэт, У. Салаўёў. Больш асьцярожны Е. Галубінскі: на падставе Наўгародзкай хронікі сьцвярджае час сьмерці Грыгора Цамблака на гады 1419–1420.

[138] М. Грушевський, op. cit., т. V, сс. 402–403.

гісторыкі дату, пададзеную расейскімі і ўкраінскімі гісторыкамі, перасоўваюць на гады крыху пазьнейшыя[139].

Усе такія дадзеныя пра сьмерць Грыгора Цамблака даюць магчымасьць А. Яцімірскаму ў ягонай абшырнай працы аб жыцьці й дзейнасьці гэтага мітрапаліта зрабіць выснаў, што ён добраахвотна зрокся катэдры Літоўскае мітраполіі й накіраваўся ў Малдавію, дзе зьвярнуўся да пачатковае дзейнасьці[140]. „Памёр мітрапаліт Грыгор, каб нарадзіўся чарнец Гаўрыіл"[141].

Памінаючы ўсе супярэчнасьці, бяссумніўным астаецца, што дзейнасьць Грыгора Цамблака ў Вялікім Княстве Літоўскім канчаецца з 1420 годам.

Калі катэдра Літоўскага мітрапаліта сталася вакантнай, ізноў зьявіліся спробы захаваць адзіную мітраполію для Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім і Маскоўскім. Магчыма, на гэта мела ўплыў згода, якую заключылі гэтыя два гаспадарствы.

У 1420 годзе ў Наваградак прыбыў мітрапаліт Фоцій з паслом грэцкага кесара Філантропам, каб правесьці нейкія бліжэй няведамыя гісторыкам нарады. Наступна ён наведаў Мозыр, Кіеў, Галіч, Львоў і Ўладзімер[142]. У наступным 1421 годзе мітрапаліт Фоцій наведаў Львоў перад сьвятамі Нараджэньня Хрыста. Самыя-ж сьвяты правёў ува Ўладзімеры-Валынскім, а дзень Богаяўленьня Гасподняга ў Вільні. Наступна наведаў гарады Барысаў, Друцк, Мсьціслаў, Смаленск, а ў Вялікі Пост вярнуўся ў Маскву.

Мітрапаліт Фоцій быў прысутным на ведамым зьезьдзе каралёў і князёў, які адбыўся ў Троках у 1430 годзе з нагоды меўшаеся адбыцца каранацыі Вітаўта каралеўскай каронай. Калі-ж летуценьні 86-гадовага Вітаўта ня зьдзейсніліся й госьці разьехаліся, Фоцій там аставаўся яшчэ 11 дзён і пры выезьдзе ў Маскву яго віталі зь вялікім гонарам.

Адным словам, ад 1420 году да 1431 году, г. зн. да свае сьмерці, Фоцій зьвярнуў адзінства мітраполіі Цэлае Русі. Падобна Кіпрыяну астатнія гады свайго жыцьця ён пражывае ў Маскве.

Аднак такі стан рэчаў ня трываў доўга. Пасьля сьмерці Фоція[143] ізноў закіпела змаганьне за мітрапаліта. Маскоўскае княства перажывала ў той час цяжкую хатнюю барацьбу. Васіль Васільевіч змагаўся з Юрыем

139 Wielka Encyklopedia Powszechna Illustr., Warszawa, 1898, zesz. 80, s. 972.

140 А. Яцимирскій, op. cit., с. 181.

141 Ibidem, с. 212.

142 Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, сс. 58–59; т. VIII, с. 95; Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 387; Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, сс. 101–103; K. Chodynicki, op. cit., s. 48.

143 Полное Собраніе Русских Летописей, т. II, „Прибавленіе", г. зн. „Густынскі летапіс", с. 354, т. XVII, с. 61.

Дзімітравічам ды іншымі князямі за вялікакняжы пасад і за валаданьне Масквою[144].

Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ў Маскве мала дбалі пра новага мітрапаліта. Хоць там і выбралі кандыдата ў мітрапаліта Разанскага епіскапа Іону, але не паслалі яго для назначэньня Канстантынопальскім патрыярхам.

Таксама ў Вялікім Княстве Літоўскім выбухнула паўстаньне Сьвідрыгайлы, але тут не занядбалі справу Праваслаўнае мітраполіі.

Восеньню 1432 году Смаленскі епіскап Герасім з волі Сьвідрыгайлы накіраваўся ў Канстантынопаль з мэтаю атрымаць благаславенства патрыярха на становішча мітрапаліта[145], скуль у наступным годзе вярнуўся як мітрапаліт Цэлае Русі[146]. Пасьля прыезду з Канстантынопаля мітрапаліт Герасім не паехаў у Маскву ў сувязі з хатняю вайною, якую там вялі Васіль Сьляпы й Шэмяка, а затрымаўся на жыхарства ў Смаленску.

Ягоная гіерархічная дзейнасьць ведама нам тым, што ў 1434 годзе ён назначыў Наваградзкага архіпастыра й быў прыхільнікам царкоўнае вуніі. Сьвідрыгайла, які пасьля ўпадку паўстаньня ўтрымаўся пры ўладзе на Літоўскай Русі, якая бараніла ягоных інтарэсаў, спачатку прыхільна адносіўся да мітрапаліта Герасіма, аднак пазьней загадаў яго зьняволіць у Віцебску, а праз чатыры месяцы, за праўдападобны ягоны ўдзел у змове супраць яго, спаліць[147].

Са сьмерцю Герасіма, якая наступіла ў 1435 годзе, скончылася гісторыя вышэйшае гіерархіі Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Уладыслава Ягайлы (ад 1380 да 1434 гадоў).

Вось-жа, бачым, як у часе ўсяго гэтага пэрыяду Вялікае Княства Літоўскае змагалася за сваю самастойную мітраполію. Князі гэтага гаспадарства імкнуліся альбо да таго, каб Кіеўскі (Літоўскі) мітрапаліт быў зьверхнікам Масквы, альбо да стварэньня асобнае Літоўскае мітраполіі.

Большасьць расейскіх гісторыкаў, а ў тым ліку мітрапаліт Макар, Е. Галубінскі, М. Карамзін, У. Салаўёў ды інш., заглядаюцца на аддзяленьне Літоўскае мітраполіі, як на зьявішча ненармальнае ў жыцьці

---

144 С. Соловьев, Исторія Россіи с древнейших времен, С.-Петербург, 1893, т. IV, с. 54; Д. Іловайскій, Исторія Россіи, т. II, Москва, 1884, сс. 237–262.

145 Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, сс. 61–62; Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 416.

146 Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, с. 67; Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, с. 104; М. Грушевський, op. cit., т. V, с. 404; K. Chodynicki, op. cit., s. 49.

147 Полное Собраніе Русских Летописей, т. XVII, с. 67.

Рускае Царквы й стараюцца вытлумачыць гэта выключна палітычнай праграмай вялікіх князёў літоўскіх, пачынаючы ад Вітаўта й канчаючы Сьвідрыгайлам. Аднак такая памылка расейскіх гісторыкаў выплывае адтуль, што гісторыя служыла й служыць пануючым дынастыям і гаспадарствам. Доказаў гэтаму ёсьць шмат у мінуўшчыне і ў навейшую пару. І сапраўды, колькі-ж трэба аб'ектыўнасьці, каб чалавек з (назовам) тытулам гістарычнага дасьледчыка не прыпісваў аддзяленьне Літоўскае мітраполіі выключна палітыцы літоўскіх князёў.

Калі возьмем пад увагу, што хрысьціянства ўсходняга абраду вельмі рана пранікла на Ўкраіну й Беларусь, і што яно тут пусьціла глыбока корні й шырока разгарнулася, дык няма нічога дзіўнага ў тым, што згодна з нармальнымі гістарычнымі законамі разьвіцьця XIII і XIV стагодзьдзяў мела ўжо выдатную сваю арганізацыю й старалася мець свайго кіраўніка ў асобе мітрапаліта.

Вось-жа, бачым, што, памінаючы перашкоды, робленыя суздальскімі й маскоўскімі князямі ды стаяўшым па іх баку Патрыярхатам, Вялікае Княства Літоўскае здабывае сваю асобную мітраполію.

Што датычыцца залежнасьці ад Канстантынопальскага Патрыярхату Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Ягайлы, дык яна выражалася ў наступных справах:

1. Аддзяленьне Літоўскае мітраполіі ад Усерускае або аб'яднаньне зь ёю;
2. Назначэньне мітрапаліта або зацьверджаньне й высьвячэньне кандыдата ў мітрапаліты, запрапанаванага вялікім князем літоўскім;
3. Права нагляду над дзейнасьцю Літоўскага мітрапаліта й права суду над ім;
4. Права апэляцыі ў мітрапалітальны суд;
5. Права „ставропігіі" ў адносінах да мітраполіі як абшару;
6. Дазвол склікаць правінцыйныя (мясцовыя) саборы.

Канстантынопальскія патрыярхі прэтэндавалі на права беспасярэдняга кантролю й суду над Літоўскім мітрапалітам, але такое права было хутчэй намінальным і ня мела практычнага застасаваньня. Сачыць за дзейнасьцю й паступаваньнем рускіх мітрапалітаў патрыярхі маглі-б адзіна пры дапамозе адмысловых сваіх урадоўцаў, якія-б павінны былі пражываць у Вялікім Княстве Літоўскім або хоць прыяжджаць на візытацыю. Але такіх урадоўцаў, наколькі нам ведама, зусім ня было. На пачатку XV-га, а нават ужо ў другой палове XIV веку Літоўская мітраполія *de facto* выйшла з-пад зьверхніцтва Патрыярхату.

Асталося патрыярхам адзіна зусім фармальнае права пацьверджаньня й благаславенства вызначанага Літоўскага мітрапаліта. Наагул, прытрымоўваліся санкцыі патрыярха, палічыўшы выбар Цамблака за выняткак. Што датычыцца выяўленьня ўлады патрыярха ў іншых галінах жыцьця Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім, дык яна (ўлада) была дужа маленькай[148].

Вышэйшая духоўная ўлада Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім належала мітрапаліту, пры выбары якога, пакольki такія адбываліся нармальным спосабам, гулялі ролю наступныя дзейнікі:

1. Роля вялікага князя літоўскага;
2. Выбар кандыдата ў мітрапаліты духавенствам і сьвецкімі асобамі;
3. Благаславенства патрыярха (значэньне гэтых дзейнікаў ня было аднолькавым; наданьне патрыярхам сьвяшчэнства й благаславенства было толькі фармальнасьцю).

Уплыў грамадзкасьці быў вельмі малы, вырашаючай ува ўсім была воля вялікага князя.

Да кампэтэнцыяў мітрапаліта належала:

1. Вышэйшае кіраўніцтва й агульны нагляд над епархіямі й епіскапамі, яму падпарадкаванымі;
2. Хіратонія епіскапаў;
3. Скліканьне сынодаў і старшынства на іх;
4. Найвышэйшая дысцыплінарная ўлада й суд над епіскапамі, ніжэйшым духавенствам, ігуменамі манастыроў, а нават і над вернікамі;
5. Дагляд за чысьцінёю веры й маральнасьцю грамадзянства;
6. Абарона інтарэсаў Праваслаўнае Царквы перад сьвецкімі ўладамі.

---

[148] Цікавым зьяўляецца тое, што з практыкай залежнасьці Кіеўскае мітраполіі ў грэкаў вязалася думка пра тое, што візантыйскі кесар у рэзультаце залежнасьці Рускае Царквы ад Царгораду карыстаўся правам зьверхнасьці над Русьсю, як пратэктар Канстантынопальскага Патрыярхату. Гэты пагляд выявіўся ўжо ў XIV веку, калі Васіль Дзімітравіч, стараючыся пабольшыць самадзельнасьць Маскоўскае мітраполіі, забараніў маліцца ў цэрквах за Візантыйскага кесара (1393), тады Царгародзкі патрыярх паясьняў маскоўскаму князю, што кесар рамеяў і ўсіх хрысьціянаў, і што дзеля гэтага Царква ня можа не прызнаваць улады кесара (візант.), бо ўлада кесара й царква маюць шмат супольнага, так што іх нельга разьдзяліць. Рачовых праяваў такіх грэцкіх паглядаў ня маем і гаворым пра іх толькі як пра цікавы тэарэтычна выснаў.
М. Грушевський, op. cit., т. V, сс. 418–419.

Паводле царкоўных канонаў галоўнаю характэрнаю рысаю кіраваньня мітрапаліта павінна быць „саборнасьць"[149].

З увагі на адсутнасьць першакрынічных дадзеных ня можам сказаць, у якой меры кананічныя перасьцярогі „саборнасьці" царкоўнага кіраўніцтва былі захаванымі ў Вялікім Княстве Літоўскім у апісаны намі пэрыяд.

Рускія хронікі, гаворыць Е. Галубінскі, вельмі рэдка ўспамінаюць пра скліканьне мітрапалітамі сабору. Такім чынам, можна рабіць высноў, што кіраўніцтва нашых мітрапалітаў захавала самыя малыя астаткі саборнасьці[150].

Аднак адкінуць саборнасьць цалкам было немагчымым у кіраваньні мітраполіяй, таму што зьяўляліся патрэбы, якія можна было палагодзіць адзіна з дапамогаю сабору. Да такіх належаць: падбор епіскапаў на паасобныя катэдры, суд над епіскапамі й г. д.

Мітрапаліт Кіпрыян у 1320 годзе адлучыў ад царквы епіскапа Цьверу Ефімія, а ў 1401 годзе прымусіў зрачыся катэдры Саву, епіскапа Наўгародзкага й Луцкага. У абодвух выпадках ён судзіў епіскапаў з дапамогаю сабораў, якія складаліся пераважна зь епіскапаў[151].

Ад сыноду адрозьніваем элекцыйнае сабраньне, якое адбылося ў 1415 годзе ў Наваградку з мэтаю выбару мітрапаліта. На гэтым саборы хоць вырашаючую ролю гулялі вышэйшыя іерархі, дык аднак былі прысутнымі архімандрыты ды іншыя прадстаўнікі духоўныя й сьвецкія. Старшынствавалі на гэтым саборы вялікі князь літоўскі й епіскап, а князі, баяры й шляхта мелі дарадчы голас.

У кіраўніцтве Праваслаўнаю Царквою ў Вялікім Княстве Літоўскім вялікае значэньне мела ўлада вялікага князя, якому належалі наступныя правы:

1. Скліканьне сынодаў і выбарных сабраньняў, калі гэтага вымагалі асаблівыя непаладкі ў царкоўным жыцьці;
2. Царкоўнае законадаўства;
3. Найвышэйшая дысцыплінарная ўлада й суд над зьверхнікамі Царквы, а нават і над мітрапалітам[152];

---

149 34-ае Апостальскае Правіла загадвае: „Епіскапам кожнага народу (кожнае мітраполіі) трэба ведаць першага спаміж іх і прызнаваць яго галавою, і нічога перавышаючага іх уладу не рабіць безь ягонае развагі… Але й першы хай ня робіць нічога без развагі ўсіх". 9-ае правіла Антыяхійскага сабору загадвае: „Няхай ня сьмее епіскап малое акругі рабіць што-небудзь безь епіскапа мітраполіі, але таксама й гэны бяз згоды іншых епіскапаў (сваёй епархіі).

150 Е. Голубинскій, op. cit., т. II, сс. 18–19.

151 Ibidem, сс. 318–323.

152 Выпадак спаленьня Герасіма.

4. Назначэньне кандыдатаў у мітрапаліты й пасыланьне іх для зацьверджаньня патрыярхам, а таксама зацьверджаньне мітрапаліта, вызначанага патрыярхам;
5. Права патранату над выдатнейшымі манастырамі й большасьцю цэркваў.

З увагі на тое, што ў жыцьці Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім права патранату згуляла паважную ролю, затрымаймася над асьвятленьнем ягонае істоты.

Права патранату было своеасаблівай інстытуцыяй у Вялікім Княстве Літоўскім. Разгарнулася яно толькі ў другой палове XV веку. Аб ягоным паходжаньні маюцца супярэчныя тэорыі: адныя прыроўніваюць яго да візантыйскага „кцітарства" і заходняга патранату, іншыя, ізноўжа, лічаць яго за „jus patronatus" – элемэнт фэадальнага права, палягаючага на тым, што сэньёр мог кіраваць ня толькі ўсімі падлягаючымі яму правінцыямі, але таксама ўсімі знаходзячыміся там інстытуцыямі.

І толькі праф. Уладзімірскі-Буданаў прабуе выясьніць розьніцу паміж тэрмінамі „кцітарства", „jus patronatus", „падаваньне". Паводле ягонае думкі, гэтыя тры тэрміны маюць неаднолькавае значэньне. „Кцітарства", гаворыць ён, зьяўляецца закладзінамі й матар'яльным забесьпячэньнем якой-небудзь царкоўнае інстытуцыі. Гаспадар можа быць „кцітарам", адзіна ім або ягонымі продкамі закладзенае царквы.

„Кцітарскае" права прыслугоўвала перадусім закладчыку й ягоным спадкаемцам. Да „кцітара" належалі кіраўніцтва й апека царкоўнай маемасьцю і ўтрыманьне ў належным парадку царкоўнага будынку. У замен за гэта яму прыслугоўвалі наступныя правы:

1. Ягонае імя павінна ўспамінацца падчас кожнае Багаслужбы й было запісаным у кнігах дадзенае царквы або на адпаведнай табліцы, зьмешчанай на сьцяне;
2. Права рэкамэндацыі духоўных асобаў.

Аднак у апошнім выпадку прытрымоўваліся звычаю, каб пры вызначэньні духаўнікоў епіскап у кожным паасобным выпадку мог сьцьвердзіць, што запрапанаваны кандыдат адпавядае варункам, якіх вымагае такое адказнае становішча.

Такім чынам, „кцітарства" паводле свайго характару было абаснаваным на прыватным праве. „Jus patronatus" уяўляе сабою зьявішча заходне-эўрапэйскага паходжаньня. Пры стварэньні заходне-эўрапэйскіх гаспадарстваў царква атрымоўвала на лепшых правох розныя маёнткі. Такім чынам, тут „кцітарам" быў не фундатар царквы, а само гаспадарства.

Ад пары змаганьня папы зь сьвецкімі ўладарамі за інвэстытуру паміж царквою й гаспадарствам вытварыліся іншыя суадносіны.

Цяпер сьвецкія валадары маюць права апекі над царквою, але ня маюць ніякае ўлады над ёю. Гэта й ёсьць гэтак называны закон – „jus patronatus".

Вось-жа, як бачым, маецца паважная розьніца паміж „кцітарствам" і „jus patronatus". Жышман, паводле К. Хадыніцкага[153], цьвердзіць, што няма найменшае аналёгіі паміж патранатам Рымскага Касьцёлу й „кцітарствам" Візантыйскае Царквы. Сьледам за гэтым вучоным ідзе Буданаў, які асноўную розьніцу паміж „кцітарствам" і патранатам бачыць у тым, што закон „кцітарства" абасноўваўся на праўна-прыватных дачыненьнях, у той час, калі патранат выходзіў з дачыненьняў гаспадарства й царквы.

Права патранату, „падаваньня" у Праваслаўнай Царкве Вялікага Княства Літоўскага спалучыла рысы візантыйскага „кцітарства" з заходнім патранатам, таму што права „падаваньня" зьмяшчае ў сабе праўнаprыватны элемэнт у адносінах „падаючага" да царкоўнае інстытуцыі й яе маемасьці. З другога боку, права „падаваньня" зьмяшчала ў сабе акрэсьленьне адносінаў да найвышэйшае дзяржаўнае ўлады.

Сэньёр меў уладу над царквою й тымі яе інстытуцыямі, якія знаходзіліся ў ягоных валаданьнях. Ён быў ня толькі фундатарам царквы, але й яе абаронцам. Ведамым зьяўляецца, што такое апекі патрабавалі малыя цэрквы й манастыры ў той час, калі вялікія царкоўныя інстытуцыі жадалі мець за апякуна самога вялікага князя.

На абшары Вялікага Княства Літоўскага існавалі такія праваслаўныя манастыры й царкоўныя інстытуцыі, чые валаданьні раўняліся сваімі абшарамі валаданьням вяльможаў, і таму яны прызнавалі пратэктарат адзіна вялікага князя, які называўся „падаўцам", „фундатарам" і абаронцам духоўнага хлеба, бо яго лічылі ўласьнікам багацьцяў Вялікага Княства Літоўскага[154].

На аснове вышэйшых выснаваў можам абагульніць падставы царкоўнага патранату ў Вялікім Княстве Літоўскім. Яны зьяўляюцца наступнымі:

1. Права апекі (jus patronatum) над інстытуцыямі патранаванымі й забесьпячэньне ўсіх іншых патрэбаў;
2. Права даравізны (jus donatum) царквы й манастыроў пэўным асобам;
3. Права рэкамэндацыі (jus praesentationes), (jus praebendi) кандыдатаў у сьвяшчэньнікаў і манастырскіх ігуменаў;

---

153 K. Chodynicki, op. cit., c. 116.

154 Акты, относящіеся к Исторіи Южной и Западной Россіи, т. I, С.-Петербург, 1863, т. I, № 233; Архив Юго-Западной Россіи, ч. I, т. I, № 56.

4. Права кіраўніцтва й суду ў некаторых нормах у адносінах да дзяржаўнага й царкоўнага законаў.

У практыцы права патранату абмяжоўвалася да збораў даніны й вызначэньнем манастырскіх наглядчыкаў і часам сьвяшчэньнікаў, калі парафія не знаходзілася ў спадчыннай арэндзе сьвяшчэньніка.

У штодзённым жыцьці „патранат" звычайна разумелі як крыніцу даходаў патрона. У аблічча гэтага такое права было часта прадметам продажы, замены, закладу ды іншых трансакцыяў прыватна-працоўных, а гэта прыносіла вялікую крыўду й шкоду праваслаўю ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Епархіяльная арганізацыя Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Уладыслава Ягайлы была дастаткова разьвітай.

Так пры канцы XIV і ў пачатку XV стагодзьдзяў было ў ім шэсьць наступных епархіяў: Полацкая, Чарнігаўская, Смаленская, Тураўская, Кіеўская, Наваградзка-Віленская.

На чале іх стаяў мітрапаліт з тытулам мітрапаліта Кіеўскага або Цэлае Русі, які беспасярэдна кіраваў Кіеўскай епархіяй у спалучэньні з Наваградзка-Віленскай епархіяй.

Паводле памераў абшары епархіі Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім былі значна большымі грэцкіх. Вынікала гэта часткова з таго, што самі епіскапы, баючыся паменьшаньня даходаў, перашкаджалі стварэньню новых епіскапскіх катэдраў.

Як прыклад гэтага, можа паслужыць перашкода ў стварэньні Смаленскае епіскапіі[155].

Рэлігійнае й праўна-палітычнае значэньні епархіяльных праваслаўных епіскапаў у Вялікім Княстве Літоўскім было таксама большым, чымся ў Візантыі. З таго часу, як тут ня стала князёў і магнатаў праваслаўных, якія перайшлі ў каталіцызм, яны (епіскапы) сталіся сапраўднаю рэпрэзэнтацыяю праваслаўнага насельніцтва ў аблічча ўлады.

У выснаве ўпадку ўлады мітрапаліта падчас змаганьняў за мітраполію і ў аблічча адсутнасьці сынодаў, епіскапы пачуваліся незалежнымі ў адносінах да вышэйшае духоўнае ўлады.

Паводле кананічных правілаў адносіны епіскапа да мітрапаліта суадказывалі адносінам гэтага апошняга да патрыярха. Епіскап павінен быў быць высьвечаным мітрапалітам і ня меў права палагоджываць больш паважных спраў бяз згоды й ведама свайго зьверхніка.

Да самастойнае дзейнасьці епіскапа належалі наступныя справы:

1. Рукапалажэньне сьвяшчэньнікаў;
2. Прызнаньне пазваленьняў на пабудову цэркваў і манастыроў;

---

155 М. Грушевський, op. cit., т. III, с. 308.

3. Нагляд, дысцыплінарная ўлада й суд над усім епархіяльным духавенствам, за выняткам некаторых манастыроў „гаспадарскага падаваньня”;
4. Клопат пра чысьціню веры й маральнасьць вернікаў;
5. Суд за парушэньне маральнасьці, пераважна ў справах разводаў, а таксама ўдзел у судох, разглядаючых сямейныя спадкаемчыя справы й г. д.

Толькі ў выпадку нейкіх надужываньняў мітрапаліт мог умяшацца ў справы епіскапа, а нават паклікаць яго на свой суд.

Некаторыя абмежаваньні ўлады епіскапаў рабіла ўлада вялікага князя. Аднак выпадкі ўмяшаньня ў епіскапскія справы былі вельмі рэдкімі. Бадай самым вялікім абмежаваньнем іх правоў было права патранату, абмеркаванае намі вышэй.

Кандыдатаў у епіскапы выбіралі пераважна спасярод манахаў або перад выбарам пастрыгалі ў манахі.

Што датычыцца таго, каму належала права вызначаць кандыдатаў у епіскапы, дакладна ня ведаем. Трэба думаць, што такое права належала мітрапаліту й вялікаму князю.

Пайменна, калі вялікі князь ня меў свайго кандыдата, тады мітрапаліт падбіраў такога ад сябе. Затое кандыдат, выбраны вялікім князем, павінен быў быць зацьверджаны мітрапалітам.

Апрача епіскапаў епархіяльнымі органамі ў Літоўска-Кіеўскай мітраполіі былі „катэдры” і „клірасы”. Але, як слушна заўважыў праф. А. Латоцкі, „няведама, зь якое прычыны, як заўважым, маецца вельмі мала вестак з XIV веку пра „клірасы” ў Украінска-Рускай Царкве ў параўнаньні з папярэднім векам і асабліва з даўнейшымі часамі. Але тое, што „клірас” тут не зьнікаў і не падупадаў, відаць з таго, што ў наступных вяках XV – XVII бачым ягоны поўны росквіт і распаўсюджаньне ў Украінскай Царкве”.

Пры такім, падкрэсьленым праф. А. Латоцкім браку матар’ялаў адносна „клірасаў” у Праваслаўнай Царкве ў апісываны пэрыяд, на падставе сьціплых вестак, якія маем, можам рабіць выснаў, што „клірас” быў сынодам прэсьвіцераў катэдральнае царквы[156].

Спаміж епархіяльных урадоўцаў найбольшае значэньне меў „намесьнік”, урад якога адпавядаў ураду грэцкага „хартафілакса”.

---

[156] А. Латоцкі, Соборні Клыросы на Украіні та Белай Русі ў XV–XVI веку, Зап. Наук. Тов. ім. Шэвчэнкі, Кіев, 1896, т. IX, сшытак 1, с. 6. Апрача вышэйшае працы праф. А. Латоцкага гэтае пытаньне разглядаецца Е. Галубінскім (Гл.: Історія Русской Церкви, Москва, 1880, т. II, ч. II, сс. 65 – 68).

Намесьніка выбіралі пераважна спаміж сьвяшчэньнікаў нароўні з сябрамі „кліраcу". Мітрапаліт з увагі на абшырнасьць і раскіданасьць мітраполіі меў некалькіх намесьнікаў.

На землях Вялікага Княства Літоўскага за часоў Уладыслава Ягайлы пры епіскапах існаваў яшчэ ўрад „дзесятнікаў", якія спаўнялі гаспадарчыя й фінансавыя функцыі.

Апрача гэтага, гістарычныя крыніцы ўспамінаюць яшчэ пра „ўладычніх ураднікаў", якія выконывалі гаспадарчыя, фінансавыя, судовыя, сьледчыя ды іншыя дзейнасьці[157].

Што датычыцца сродкаў для ўтрыманьня вышэй пералічанае гіерархіі ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы, дык яны складаліся зь дзесяціны й даніны ад духавенства ніжэйшае ступені ды з даходаў з розных маёнткаў і маемасьці гэтага духавенства.

Апрача гэтых даходаў былі яшчэ іншыя, пра якія ўспамінае гісторык М. Грушэўскі, гаворачы: „За вызначэньне (на сьвяшчэньніка) кандыдат плаціў нейкую аплату ўладыку і ўраднікам... Апрача гэтага, сьвяшчэньнікі плацілі гадавую даніну ўладыку. Ведамымі ёсьць таксама саборныя „куніцы", аб якіх успаміналі ўжо ў XIII веку, калі ўладыка склікаў духавенства да сябе на сабор. Быў яшчэ іншы падатак – „уезд" альбо „выезд" – дань, якую плацілі ўладыку, калі прыяжджалі да яго на месца[158].

Колькасьць духавенства сьвецкага й манаскага ў Вялікім Княстве Літоўскім у пэрыяд ад 1380 да 1434 году значна вырасла.

Гэты рост ня быў паўстрыманы нават Крэўскай вуніяй, якая зьвяла праваслаўную рэлігію на палажэньне паніжанае рэлігіі.

Заўважаем у гэты пэрыяд пабольшаньне колькасьці праваслаўных парафіяў і манастыроў, што неразьдзельна выклікала пабольшаньне колькасьці духавенства[159], галоўны кантынгент якога складаўся зь дзяцей сьвяшчэньнікаў.

Аднак духавенства ў той час не стварала клясы, і духоўнай асобай мог быць кожны вернік, які адпавядаў стаўленым яму вымогам[160]. Адзіным вымаганьнем, якое ставілася кандыдату ў сьвяшчэньнікі, была здольнасьць чытаць.

Ведамым ёсьць, што за часоў Уладыслава Ягайлы ў Ліцьве, у Беларусі і на Ўкраіне ня было адмысловых школаў, якія прыгатоўвалі праваслаўных сьвяшчэньнікаў, бо брацкія школы паўсталі значна пазьней.

---

157 Е. Голубинскій, ibidem, сс. 65 – 68.
158 М. Грушевський, op. cit., т. V, с. 478.
159 Ibidem, с. 261; Е. Голубинскій, op. cit., сс. 79 – 94.
160 М. Грушевський, op. cit., т. V, с. 261; Е. Голубинскій, op. cit., сс. 76 – 94.

Кандыдат у сьвяшчэньнікі здабываў асьвету падчас царкоўнае службы. Ён вучыўся чытаць Псалтыр ды іншыя малітвы, якія ўжываліся падчас Божае службы. Адзіныя вогнішчы асьветы існавалі ў манастырох і пры епіскапскіх катэдрах.

Няма нічога дзіўнага, што кандыдат у сьвяшчэньнікі, а часам і сам сьвяшчэньнік, не валодалі „мастацтвам чытаць".

Рукапаложаны епіскапам сьвяшчэньнік мог зьмяняць парафію й пераяжджаць туды, куды яго прымалі вернікі[161].

Аднак ён мусіў атрымаць ад епіскапа, які яго рукапалажыў, „грамату" або „перахожую", калі зьмяняў месца ў ягонай епархіі, альбо „адпускную", калі меў замер шукаць прыход у іншай епархіі.

Колькасьць бедных парафіяў у той час была вельмі вялікай. Згэтуль вынікае вялікая колькасьць вандроўных сьвяшчэньнікаў, якія шукалі лепшых месцаў.

Сродкі ўтрыманьня парафіяльнага духавенства былі вельмі скупымі. Галоўнай крыніцай даходаў былі аплаты за розныя царкоўныя трэбы: споведзь, царкоўныя багаслужбы, хрэсьбіны, хаўтуры й г. д.[162]. Шмат дзе сьвяшчэньнікам давалі „дзесяціну". Гэта была даніна ў збожжы, якую тады называлі „скіпшчынай".

Гісторык М. Грушэўскі гаворыць, што звычай даваць дзесяціну й яе назоў запазычаны ў Каталіцкім Касьцёле[163].

Апрача гэтага пры некаторых парафіях былі зямельныя „датацыі", купленыя сялянамі або ахвяраваныя ў дарозе тэстамэнтаў. Такія „датацыі" належалі да настаяцеля парафіі.

Апрача сьвяшчэньніка да ніжэйшага кліру належаў дыякан. Ягоныя сродкі былі ідэнтычнымі з сродкамі сьвяшчэньніка. Ступень дыякана была пераходнай ступеньню ад „чэрнеца" да сьвяшчэньніка. Ягоным абавязкам было дапамагаць сьвяшчэньніку правіць багаслужбу. Да царкоўнага „прычту" належаў „панамар" і „чцец".

У асноўных абрысах строй Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы ствараў арганізацыю, ідэнтычную з строем пазьнейшым.

З бегам гадоў і пашырэньнем асьветы гэты лад дасканаліўся, прымаў багацейшыя формы й канчаткова вырас у такую пабудову царкоўнага жыцьця, якую бачым у сучаснасьці.

---

[161] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 91.
[162] М. Грушевський, op. cit., т. V, с. 279.
[163] Ibidem, с. 277.

# IV.

## Вернікі Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы

Ужо за часоў Уладыслава Ягайлы вернікі Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім складаліся з трох асноўных грамадзкіх пластоў: шляхты, мяшчанства й сялян. Шляхта й вяльможы былі выказчыкамі перадавое думкі й тварылі народную інтэлігенцыю.

Заданьнем яе (інтэлігенцыі) была апека над царквою, якую вяльможы за ўласны кошт будавалі і ўпрыгожвалі. Чым багацейшым бываў вяльможа, тым больш выглядную царкву стараўся пабудаваць, каб яна сваёй пабудовай і хараством гаварыла пра ягонае багацьце.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што ў тыя часы было вельмі шмат драўляных цэркваў, бо дрэва зьяўлялася найбольш даступным і танным будаўляным матар'ялам. З росквітам архітэктуры зьяўляюцца мураваныя цэрквы.

Адначасна з гэтым вяльможа стараўся аб тым, каб у царкве, якая знаходзілася ў ягоных валаданьнях, быў сьвяшчэньнік і літургічныя кнігі, патрэбныя для багаслужбаў. Такім чынам ён спрычыняўся пашырэньню царкоўнае асьветы.

Аднак удзел кіруючых пластоў у жыцьці Праваслаўнае Царквы Вялікага Княства Літоўскага не ўва ўсіх яго дзялянках быў аднолькавым.

Як ужо было сказана на ўступе, Вялікае Княства Літоўскае складалася з двох асноўных частак: рускай (украінскай і беларускай) і літоўска-жмудзкай.

Вось-жа, Русь (Украіна) і Беларусь былі брамай, празь якую ішло хрысьціянства зь Візантыі. Прывозілі яго сюды купцы, нясьлі з сабою ваеннапалонныя, якіх здабывалі падчас шматлікіх ваенных паходаў рускія, сюды таксама даходзілі прапаведнікі Хрыстовае веры.

Няма нічога дзіўнага, што, як гаворыць мітрапаліт Макар, „праваслаўная рэлігія на ўсіх гэтых землях рускіх існавала ўжо цэлыя вякі і, дзякуючы гэтаму, здолела закараніцца глыбока й моцна: вызнавалі яе так просты народ, як вяльможы й князі"[1].

За часоў Уладыслава Ягайлы на Русі ня было ўжо паганства. Нават народ, пражываўшы ў лясох, забыўся ўжо пра „Пяруна" з залатым вусам, а паганскія вераваньні займелі хрысьціянскія рысы. Такім чынам, веснавыя гімны сьпявалі ўжо ня ў чэсьць сонца, але ў славу Сьв. Юрыя ды іншых сьвятых. Сьвята Купалы прыстасавалі да дня Сьв. Яна й г. д.

---

[1] Митрополит Макарій, op. cit., т. IX, с. 2.

Такому пашырэньню хрысьціянскае веры на Русі спрычыніліся ў вялікай меры кіруючыя пласты грамадзкасьці. Складаліся яны з удзельных князёў ды іх нашчадкаў. Двары вяльможаў былі асяродкамі культурнага жыцьця ўсяго народу. Тут зьбіралася шляхта ў княжыя „дружыны". Яна жыла тут супольным грамадзкім жыцьцём. Падчас ваенных паходаў яна знаёмілася з жыцьцём навакольнага народу.

Калі князі прынялі хрысьціянскую веру й пачалі будаваць сьвятыні, баяры сталі рабіць тое самае. Воля князя ў тыя часы выконвалася бясспрэчна, а кожны князь меў свой удзел на правох уласнасьці й кіраваў ім, як сваім гаспадарствам. Ён зьбіраў даходы, будаваў сьвятыні й загадываў людзям, як яны павінны верыць. Ягоны загад быў законам.

Хрысьціянская рэлігія прыцягвала рускіх славянаў сваёй прастатою й адначасна з гэтым узвышанасьцю. Перад імі, заміж жахлівага, вымагаючага крывавых ахвяраў Пяруна, зьявіўся вобраз Хрыста, які пацярпеў за ўсіх і клікаў да сябе ўсіх пакрыўджаных.

Дзякуючы гэтаму, хрысьціянства мела вялікі ўплыў на рускі народ. Жорсткасьць замянілася ў ласку. Міласэрнасьць да бедных і нешчасьлівых, гаворыць мітрапаліт Макар, „была аднэй з пануючых дабрадзейнасьцяў таго часу й зьяўлялася характэрнаю рысаю некаторых князёў"[2].

Міласэрнасьць выплывала з зразуменьня запаведзяў Хрыстовае веры. Яна таксама спрыяла прывязанасьці вернікаў да свае Праваслаўнае Царквы, якая навучала іх такой міласэрнасьці. Такая прывязанасьць выказалася ня толькі ў пабудове цэркваў, але і ў тым, што князі часта грэбавалі дачасным жыцьцём і праводзілі рэшту сваіх дзён у манастырох[3], і былі прыкладам хрысьціянскага жыцьця, годным насьледаваньня іншымі. Спаміж такіх манахаў шмат якія часта займалі месца на вышэйшых ступенях гіерархіі ў Рускай Царкве.

Нароўні з такімі прыкладамі хрысьціянскага жыцьця бывалі іншыя, бо было шмат князёў, якія зьяўляліся хрысьціянамі толькі навонкі і, памінаючы тое, што вызнавалі Хрыстовую веру, вялі самыя жудасныя ўдзельныя войны, у якіх не шкадавалі ані сябе, ані сваіх падуладных.

Вось як аб гэтым гаворыць мітрапаліт Макар: „Уваходзячы з войскам у валаданьні свайго суперніка, князі бурылі ўсё, што спатыкалі па дарозе. Рабавалі й палілі вёскі й месты, забівалі мірнае насельніцтва бяз розьніцы веку й полу, а частку забіралі ў палон"[4].

І гэта не перашкаджала таму, што пасьля звароту з такога ваеннага паходу князі будавалі ў сваім валаданьні царкоўкі й манастыры, маліліся пра дараваньне грахоў. Асабліва такая раскаенасьць прыходзіла

---

[2] Митрополит Макарій, op. cit., т. V, с. 266.
[3] Ibidem, c. 264.
[4] Ibidem, c. 269.

падчас розных хваробаў, якія часта наведывалі рускія землі й зьнішчалі цэлыя акругі. Такая адсутнасьць маральнасьці ў князёў і баяраў рускіх выплывала зь недахопу асьветы й культуры.

Мяшчанства ня мела асаблівага ўплыву на царкоўныя справы. Яно займалася гандлем, прыносіла ахвяры на цэрквы, але таксама, як сяляне, жыло ў забабонах. Яны верылі ў розных „чараўнікоў" і „кудзесьнікаў", у розныя „загаворы", якія ў цёмных народных масах у дробных частках ператрывалі да нашых часоў.

Пры такім агульным стане веры на Русі вера ўва ўласнай Літве была зусім іншай. Тут розьніца паміж вяльможамі, шляхтай, мяшчанствам і сялянамі была вельмі вялікай. У той час, калі на Русі (Украіне й Беларусі) праваслаўная рэлігія была агульнай, ува ўлоньні ўласнае Літвы перад вуніяй з Польшчай дзяржаўнай рэлігіяй было паганства.

Ліцьвіны адчувалі недавер да хрысьціянскае веры, дзякуючы нападам і зьдзеку, якія яны спазналі ў імя пашырэньня Хрыстовае веры з боку крыжакоў. Просты народ, які пакланяўся „Пэркунасу" і паліў нягаснучае полымя „Зьніч", ня мог разрозьніць каталіцызм і праваслаўе. Жыў ён у лясох і пушчах, і зносіны яго з праваслаўнай Русьсю былі вельмі малымі. У той самы час іншыя пласты літоўскага народу, як шляхта й мяшчанства, былі знаёмымі з праваслаўнай рэлігіяй і паддаваліся яе ўплывам.

Шляхі, якімі праваслаўе ішло ў Літву, былі аналягічнымі тым шляхам, якімі яно пранікла на рускія землі.

Трэба адмеціць, што суадносіны паміж паганскай Літвою й праваслаўнай Русьсю былі шмат бліжэйшымі, чымся гэтай апошняй зь Візантыяй. Спайваючымі (аб'ядноўваючымі) дзейнікамі тут былі ня толькі гандлёвыя суадносіны й ваенныя паходы, але тое, што некаторыя рускія землі яшчэ задоўга перад Уладыславам Ягайлам уваходзілі ў склад Літоўскага гаспадарства.

Ня будзем затрымоўвацца над тым, калі першы раз ліцьвіны пачалі прымаць праваслаўе. Ведамым зьяўляецца тое, што ўжо за часоў Войшэлка яно існавала на літоўскіх землях. Гэты князь павінен быў ведаць бліжэй гэтую веру, таму што, як гаворыць Іпацьеўская хроніка, „потым уступіў у закон Божы..., хрысьціўся ў Наваградку (Новегороде)..., пазьней пайшоў Войшэлк у Галіч да Галіцкага князя Данілы, меўшы замер прыняць манашы пострыг"[5].

Значыць, ужо ў часы гэтага князя ў Літве былі прываслаўныя сьвяшчэньнікі, якія хрысьцілі ў праваслаўе.

---

[5] Полное Собраніе Русских Летописей, т. II; Ипатьевская Летопись, С.-Петербург, 1843, с. 201.

Трэба думаць, што манастыроў у той час у Літве яшчэ ня было, бо Войшэлк з мэтаю атрымаць манашы пострыг мусіў ехаць у Галіцкае княства.

Такі выпадак, аб якім гаворыць летапісец, сьведчыць пра місыйную праваслаўную акцыю паміж ліцьвінамі.

Літоўскія можнаўладцы, якія стараніліся ад усяго крыжацкага, ахвотна прымалі праваслаўе, асабліва за часоў Уладыслава Ягайлы, калі шматлікія рускія землі былі прылучаны да Вялікага Княства Літоўскага.

Першым, спрыяючым пашырэньню праваслаўя паміж літоўскіх вяльможаў, дзейнікам былі сужэнствы нашчадкаў Гэдыміна з рускімі князёўнамі. Праваслаўная руская князёўна, выйшаўшы замуж за ліцьвіна-паганіна, прыносіла ў ягоны замак і акружэньне сваю рэлігію й сваю мову. Перш за ўсё яна клапацілася пра тое, каб яе дзеці былі выхаванымі ў вызнаванай ёю праваслаўнай рэлігіі.

Некаторыя літоўскія князі, пабачыўшы бездапаможнасьць сваіх багоў, прымалі хрысьціянства як узвышаную рэлігію, рэлігію культурнага народу, рэлігію таго народу, які змагаўся разам зь імі ў адным радзе[6].

Цікавым зьяўляецца сьпіс літоўскіх князёў, праваслаўных, пададзены В. Ластоўскім. З увагі на ягоную важнасьць прывяду яго ў цэласьці. Так з Наваградзкіх князёў хрысьціянамі былі:

1. Гінвіл Міхайлавіч, у хрысьціянстве Юры; паводле польскіх гісторыкаў быў Полацкім князем (1135 – 1149). М. Каяловіч –„Гіст. Літвы", Ріб. 69; Стэбэльскі –„Жыцьцё с.с. Еўфрас. і Параск.", б. 127; Нарбут – „Дзее Народу Літэвскего", т. IV, б. 297.
2. Барыс Гінвілавіч (1147 – 1206),
   як вышэй: Каяловіч, Нарбут і Стэбэльскі.
3. Васіль-Рагвалод Барысавіч (1164 – 1223), тыя самыя аўтары, як вышэй.
4. Глеб Рагвалодавіч (тыя самыя аўтары).
5. Міндоўг Рынгольдавіч (1203 – 1263). У Густынскім летапісе сказана „прыят веру хрыстіянскую от Востока". Полн. Собр. Рус. Лет., т. II, 34.
6. Довмунд або Монвід ці Арвід, сын Эрдзівілла Ігуміса, паводле М. Стрыйкоўскага – князь Смаленскі (Стрыйкоўскі –„Хроніка", 1845, ч. I, б. 286).

---

[6] Н. Карамзин, op. cit., т. IV, сс. 162 – 267; M. Stryjkowski, Kronika Polska, Litewska, Żmudzka i wszystkiej Rusi, t. II, Warszawa, 1846, s. 14; M. Naruszewicz, Historia narodu polskiego, t. IX, Warszawa, 1824, s. 16; J. Jaroszewicz, Obraz Litwy pod względem jej cywilizacji..., t. II, Wilno, 1844, s. 4; Акты... Западной России, op. cit., т. II , прыкл. 50. Наагул, можна налічыць да 16 сужэнстваў літоўскіх князёў з рускімі князёўнамі; Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, сс. 129 – 130.

7. Вікунд, сын Эрдзівілла Ігуміса, князь Вілейскі (Стрыйкоўскі – „Хроніка", 1845, б. 286).
8. Тоўтвіл у хрысьціянстве Феофіл, сын Эрдзівілла Ігуміса, быў князем Полацкім, забіты ў 1264 годзе (Стрыйкоўскі – „Хроніка", б. 286).
9. Войшэлк, або Вольштінік Міндоўгавіч (1223 – 1267). Лет. Літвы і Хроніка Русі, б. 148.

Спаміж князёў Завілейскіх былі хрысьціянамі:

1. Довмунт Гэрмундавіч, у хрысьціянстве Сьв. Цімафей, які пазьней быў князем Пскоўскім (1227 – 1299). (Лет. Літвы й Хроніка Русі – Даніловіча, б. 149, 150; „П.С.Р.Л.", т. II, б. 345).
2. Нарымунд – Сірпуцкі Ромундовіч (†1284). „Образ Літвы" – Ярашэвіча, т. II, б. 2; М. Карамзін – „Ист. Царст. Рос.", т. IV, б. 377.
3. Гольша – Лесій Ромундовіч (там-жа).
4. Гэдрусь Сьбількель Ромундовіч (там-жа).
5. Рымунд Тройданавіч пры хрышчэньні атрымаў імя Лаўрына або Лаўра, адступіў трон Вітэнэсу (нар. у 1281 годзе). (Стэбэльскі – „Жыцьцё с.с. Еўфрас. і Параск.", б. 173; Нарбут – „Дзее Народу Літэвскего", т. IV, б. 297; „Пол. Собр. Рус. Летоп.", т. II, б. 315). У Густынскім летапісе яго называюць Елісеем, каторы жыў у Лаўрышэўскім манастыры, але са сьведчаньня Стэбэльскага відаць, што Елісей зьяўляецца зусім іншай асобай.
6. Міндоўг Альгімунтавіч – падчас хрышчэньня атрымаў імя Яна, быў Кіеўскім намесьнікам („Летап. Літвы й Рус. Хроніка", б. 227).
7. Нелюб – сын Міндоўга-Яна, пры хрышчэньні Аляксандр (†1406) („Летап. Літвы й Рус. Хроніка").

Пасьля аб'яднаньня княстваў Завілейскага й Наваградзкага хрысьціянамі былі:

1. Воін – сын Вітэнэса, пасьля хрышчэньня Васіль, князь Полацкі (1269 – 1350). Нарбут – „Дзее Народу Літэвскего", т. IV, б. 485).
2. Нарымунт Гедымінавіч, пасьля хрышчэньня Глеб, князь Пінскі (1277 – 1346); Нарушэвіч – „Гісторыя Народу Польскего", выданьне 2-ое, т. 9, б. XI; Нарбут – „Дзее Народу Літэвскего", т. V, б. 30. Заўвага I: Стрыйкоўскі называе яго пасьля хрышчэньня Васілём; Стрыйкоўскі – „Хроніка", 1845, частка II, б. 14; Карамзін – „Ист. Госуд. Рос.", т. IV, увага 297 і т. V, б. 51 і ўвага 50.
3. Альгерд Гэдымінавіч, князь Літоўскі й Віцебскі (1297 – 1377), пры хрышчэньні атрымаў імя Аляксандра, а ў манашым жыцьці называўся Аляксеем (Стрыйкоўскі).

4. Любарт Гэдымінавіч, у хрышчэньні Фёдар, князь Луцкі (Карамзін – „Ист. Гос. Росс.", т. IV, б. 193; Стрыйкоўскі – „Хроніка", 1845, частка II, б. 41 і 74).
5. Корыят Гэдымінавіч, у хрышчэньні Міхаіл (1301–1357); Нарушэвіч – „Гісторыя Народу Польскего", выданьне 2-ое, т. IX, б. 13.
6. Яўнута Гэдымінавіч, пры хрышчэньні атрымаў імя Яна (нар. у 1303 годзе), вялікі князь літоўскі, пазьней князь Заслаўскі (каля Менску). (Стрыйкоўскі – „Хроніка", 1845, частка II, б. 3).
7. Аляксандр Нарымунтавіч (Глебавіч). („Летапіс Літвы й Хроніка Руска", б. 163).
8. Андрэй-Вінгальд Альгердавіч, князь Полацкі (Стрыйкоўскі – „Хроніка", 1845, частка II, б. 57 і 76; „Летапіс Літвы й Хроніка Руска", б. 165 і 167; Длугаш – „Гісторыя Польскі", б. 61; Стэбэльскі – „Хронолёгія", б. 12, прыпіска 6; Нарушэвіч – „Гісторыя Польскі", выд. 2, т. 9, б. 17).
9. Дзімітры Альгердавіч, князь Трубчэўскі (Стрыйкоўскі – „Хроніка", 1845, частка II, б. 57; Нарбут „Дзее Народу Літэвскего", т. V, б. 145).
10. Корыгайла Альгердавіч, у хрышчэньні Канстанцін, а пасьля прыняцьця каталіцтва Казімер, князь Чарнігаўскі й Чартарыйскі, забіты ў 1390 годзе; (Стэбэльскі – „Хронолёгія", б. 9; Стрыйкоўскі – „Хроніка", 1845, частка II, б. 87; Нарбут – „Дзее Народу Літэвскего", т. V, б. 145).
11. Уладзімер Альгердавіч, князь Кіеўскі, а пазьней Копыльскі, радзіўся ў 1390 годзе (Паводле В. Ластоўскага 1316 – перакл.). (Нарушэвіч – „Гісторыя Народу Польскего", выд. 2, т. 10, б. 217 і прыпіска 2; Стрыйкоўскі – „Хроніка", 1845, частка II, б. 57 і 74).
12. Корыбут Альгердавіч, у хрышчэньні Дзімітры (1358–1399). (Длугаш – „Гісторыя Польскі", б. 125; Стрыйкоўскі – „Хроніка", 1845, частка II, б. 58 і 74; Стэбэльскі – „Хронолёгія", б. 8).
13. Скіргайла Альгердавіч, у хрышчэньні Ян, пасьля прыняцьця каталіцтва Казімер, князь Троцкі, пазьней вялікі князь літоўскі, урэшце, – Кіеўскі намесьнік („Летапіс Літвы й Хроніка Руска", б. 47; Длугаш – „Гісторыя Польскі", б. 60 і 142; Стрыйкоўскі – „Хроніка", 1845, частка II, б. 58; Стэбэльскі – „Хронолёгія", б. 8 і 15).
14. Ягайла, у хрышчэньні Якуб (мы думаем, па аналёгіі з народнай вымовай: Іоанн – „Югайла", Еўан – „Югася", што хроснае імя яго было Ян), пасьля прыняцьця каталіцтва – Уладыслаў, князь Віцебскі, пазьней вялікі князь літоўскі і ўрэшце польскі кароль (1350 – 1434), (Длугаш – „Гісторыя Польскі", б. 60; Стрыйкоўскі – „Хроніка", 1845, частка II, б. 58; Нарбут – „Дзее Народу Літэвскего", т. V, б. 239; Крашэўскі – „Гіст. Літвы").

15. Луквён (Лігвеній) Сымон Альгердавіч, князь Мсьціслаўскі („Летапіс Літвы й Хроніка Руска", б. 205; Стрыйкоўскі – „Хроніка", частка II, 1845, б. 57 і 74).
16. Сьвідрыгайла Альгердавіч, у хрышчэньні Леў, пасьля прыйма каталіцтва Баляслаў. (Нарушэвіч – „Гісторыя Народу Польскего", выданьне II, т. 9, б. 19; Стэбэльскі – „Хронолёгія", б. 8; Нарбут – „Дзее Народу Літэвскего", т. V, б. 239; Стрыйкоўскі – „Хроніка", частка II, б. 58).
17. Зодзевіт Альгердавіч, пасьля хрышчэньня Ян (Стрыйкоўскі – „Хроніка", частка II, б. 57).
18. Міхайла-Васілі Альгердавіч, пасьля прыняцьця хрысьціянства Аляксандр-Вігунд, князь Керноўскі, атручаны ў 1393 годзе.
19. Вітаўт або Вітальд Кейстутавіч, пасьля хрышчэньня Аляксандр (1344 – 1430)[7].

У той час, калі пра князёў праваслаўных маем няхай сабе й скупыя весткі, дык аб тым, як праваслаўе пашыралася паміж літоўскімі баярамі й мяшчанствам, можам судзіць толькі з колькасьці цэркваў і манастыроў. Праўда, што калі праваслаўную рэлігію вызнаваў князь, дык гэтым самым ён уплываў на ягонае акружэньне. Ён быў прыкладам для баяраў, а нават і для мяшчанства.

Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ўва Ўласнай Літве было дастаткова шмат праваслаўных цэркваў. Прывяду тыя цэрквы, якія нам ведамыя.

У Вільні існавалі цэрквы: Сьв. Тройцы, Сьв. Мікалая, у якой перахоўваліся мошчы мучанікаў Антона, Іаана й Аўстаха. Прачысьценская царква, якую збудаваў Альгерд і ў якой ён быў пахаваны, Пятніцкая[8].

Апрача вышэй успомненых цэркваў у Літоўскім гаспадарстве падчас панаваньня Ўладыслава Ягайлы й Вітаўта былі закладзены, або мы першы раз пра іх пачулі, наступныя цэрквы й манастыры: у Лагожску, або Лагойску – Прадцечэнскі манастыр (1387); у Слуцку – царква Сьв. Міхаіла.

У Крэве Ашмянскага павету у Віленскай зямлі, напэўна, існавала царква ў XIV веку.

У Троках існавала царква Сьв. Юрыя, заснаваная жонкай Вітаўта Юльянай, княгіняй Гальшанскай.

У Мозыры – Яснагорскі манастыр Сьв. Пятра і Паўла, аб якім успамінаюць у 1404 годзе.

---

[7] В. Ластоўскі, Гісторыя Беларускай (Крыўскай) Кнігі, Коўна 1926, б. 111.
[8] Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, с. 131.

У Слуцку – Усьпенскі Сабор, закладзены ў 1404 – 1409 гадох князёўнай Анастасіяй Алелькавай.

У Віцебску – Дабуйскі манастыр, аб якім успамінаецца ў 1406 годзе.

У Маламожырску Лідзкага павету ў Віленскай зямлі – Прачысьценская царква, закладзеная ў 1407 годзе ад Шымка Мяшчэрскавіча-Шклескага і ў Сынковічах Слонімскага павету ў Гарадзенскай зямлі.

У Берасьці існавала царква Сьв. Міколы, якую заснавала жонка Вітаўта Анна Сьвятаславаўна. Заметка пра яе маецца ўжо ў 1418 годзе.

У Клецку, у Менскай зямлі існавалі ў першай чвэрці XV веку чатыры праваслаўныя царквы.

У 1427 годзе Аляксандр-Вітаўт заклаў „Малецкую Царкву" ў Гарадзенскай зямлі.

У Оршы існавала старажытная царква Сьв. Міколы.

У Казачызьне, Ковенскай зямлі існаваў у XV стагодзьдзі праваслаўны манастыр[9].

Такая ведамая нам колькасьць цэркваў і манастыроў праваслаўных сьведчыць аб колькасьці вернікаў.

Для пабудовы гэтых сьвятыняў былі патрэбныя матар'яльныя сродкі. Гэтыя сродкі паступалі ад вяльможаў і мяшчанаў, а гэта сьведчыць пра ахвярнасьць вернікаў Праваслаўнае Царквы ўва Ўласнай Літве. Толькі людзі, захопленыя хрысьціянскім духам, маглі пабудаваць стольскі сьвятыняў, ня толькі драўляных, але й мураваных.

Уступленьне Войшэлка ў манастыр ня было, як відаць з прыведзенага намі перапісу вернікаў праваслаўя, здарэньнем вынятковым. Князі й баяры, асабліва пад канец іх зямнога жыцьця, ішлі ў манастыр, каб лепш падрыхтавацца да вечнага жыцьця.

Хрысьціянскі містыцызм ужо тады існаваў у Літве. Што датычыцца пытаньня аб тым, як да праваслаўя аднесьліся іншыя пласты жыхарства ўва Ўласнай Літве за часоў Уладыслава Ягайлы, дык у гэтым напрамку вялікую ролю згуляла татарская няволя, у якую трапілі рускія землі, што не належалі да Вялікага Княства Літоўскага.

Насельніцтва гэтых земляў бегла ад пагрознага непрыяцеля ў Літву й сялілася там, асабліва ў гарадох. Гэтыя людзі займаліся пераважна рамяслом і гандлем. Яны будавалі цэрквы й пашыралі хрысьціянскую веру паміж мяшчанамі. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што за часоў Ягайлы ў гарадох было шмат праваслаўных цэркваў.

---

[9] П. Батюшков, op. cit., c. 110.

За часоў Альгерда Вільня была пакроплена мучаніцкай крывёю Сьвятых Мучанікаў Антона, Іаана й Аўстаха (1347)[10]. Іх мучаніцкая сьмерць стала доказам таго, наколькі станоўкімі былі праваслаўныя ў сваей веры, бо большага доказу, чымся сьмерць за сваю веру, у выпрабаваньні станоўкасьці быць ня можа.

Аб тым, што праваслаўе за часоў Уладыслава Ягайлы мела вялікую колькасьць вернікаў, гаворыць яшчэ тое, што, не зважаючы на прыніжанасьць гэтае рэлігіі пасьля вуніі з Польшчай, памінаючы розныя прасьледаваньні, яно праіснавала й існуе цяпер.

Пазьней, калі частка вяльможаў пакінула праваслаўную царкву й перайшла ў каталіцтва, або яшчэ пазьней іншая яе частка – у вунію, мяшчанства бярэ пад сваю апеку царкву й стварае брацтвы, якія змагаюцца за сваю веру.

Гаворачы пра вернікаў Праваслаўнае Царквы ў цікавячую нас пару, трэба сказаць некалькі словаў пра літоўскіх сялянаў.

Вось-жа, гэты элемэнт быў дужа кансэрватыўным. Жыў ён, як было ўжо сказана, у нетрах дзікіх пушчаў і перахоўваў паганскую веру. Не знаходзім беспасярэдных доказаў таго, што гэтыя сяляне прымалі праваслаўе. Можна думаць, што пры наяўнасьці такое вялікае колькасьці праваслаўных цэркваў, пры такой вялікай колькасьці вернікаў гэтае царквы паміж вяльможамі й мяшчанамі, некаторыя сяляне былі знаёмымі з праваслаўем, якое пашыралася не загадамі валадароў, а словам праўды.

Нам здаецца, што зь бегам часу і ў выніку даўжэйшага сужыцьця з Русьсю ўсе ліцьвіны прынялі-б праваслаўе. Аднак такі натуральны бег выпадкаў быў перачэркнуты Ўладыславам Ягайлам. Гэты валадар загадаў ліцьвінам-паганам прыняць каталіцкую веру. Ведамым зьяўляецца, што такі загад павінен быў быць выкананым.

Пры такім палажэньні праваслаўе ад вуніі Літвы з Польшчай скіравала свой высілак у напрамку захаваньня тых вернікаў, якія яго ўжо вызнавалі.

Місыйная дзейнасьць спынілася, а пачалася апалёгэтычная. Што датычыцца маральнага стану вернікаў Праваслаўнае Царквы ўва Ўласнай Літве, дык ён быў такім самым, як і на рускіх землях.

Нароўні зь вернікамі, чыё жыцьцё характарызавалася хрысьціянствам, нароўні з князямі, якія праводзілі жыцьцё ў рэлігійных разважаньнях у манастырох, была частка, якая вызнавала навуку Хрыста толькі намінальна, а жыла ў забабонах і дзікунстве.

---

[10] Полное Собраніе Русских Летописей, т. V, с. 226, т. VII, с. 214; „Житіе Св. Мучеников в Четьі Мінеі 14 апреля", „Журнал Народного Просвещения", С.-Петербург, 1843, № 6.

# V.

## Праваслаўныя манастыры ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы

Аскетызм і містыцызм спрычыніліся паўставаньню манашых ордэнаў у цэрквах – Усходняй і Заходняй.

Ня будзем тут затрымоўвацца над гэнезісам такога паўставаньня, але сьцвердзім, што разам з пашырэньнем хрысьціянства ў землях Вялікага Княства Літоўскага арганізавалася манастырскае жыцьцё. Разам з будоваю цэркваў будаваліся манастыры.

Разьвіццю манастыроў у вялікай меры спрыяла тагачасная літаратура. Яна складалася са Сьвятога Пісаньня й перакладаў „Жыцьця Сьвятых".

Жыцьцёапісаньні сьвятых былі асноўнай літаратурай тых, хто ўмелі й хацелі чытаць. Чалавек станавіўся сьвятым, пераважна жывучы ў адасобленасьці – у пустэльні або манастыры.

Немалую ролю ў стварэньні манастыроў і манашых ордэнаў у землях Вялікага Княства Літоўскага згулялі падарожжы ў Сьвятую Зямлю. Пілігрымствы, якія ішлі да Хрыстовага Гробу ў Палестыне, знаёміліся з жыцьцём хрысьціянаў і пасьля звароту дамоў апавядалі або апісвалі гэтае жыцьцё[1].

Зразумелая рэч, што манастыры зь іх аскетычным жыцьцём не маглі не пакінуць уражаньне на пілігрымаў. Дзякуючы гэтаму, яны самі пераважна й вельмі часта, зьвярнуўшыся ў сваю краіну, стараліся правесьці рэшту жыцьця ў рэлігійных разважаньнях. Некаторыя проста даслоўна разумелі словы Евангельля, што калі нехта хоча быць дасканалым, няхай адмовіцца сябе, возьме свой крыж і ідзе за Хрыстом. Некаторыя верылі, што за свае ўчынкі яны павінны адпакутаваць, павінны маліцца за свае грахі ды шукалі аказіі для гэтага. Іншыя былі нездаволенымі зямным жыцьцём і шукалі месцаў, аддаленых ад гэтага сьвету.

Такая ідэя служыць Богу й грэбаваць зямным жыцьцём, жаданьне прыгатавацца да жыцьця вечнага альбо хаценьне вымаліць дараваньне грахоў былі глыбока закараніўшыся ў нашых продкаў хрысьціянаў, якія разумелі навуку Хрыста ня толькі сухім рассудкам, але ўсім сэрцам.

Часта такія асобы, кіраваныя жаданьнем уцячы ад часовага сьвету, які, паводле Сьвятога Пісаньня, „ляжыць у зле", ішлі ў дзікія нетры пушчаў. Чалавек з такім містычным накіраваньнем будаваў сабе хатку й маліўся, як умеў. З часам да яго прыходзілі іншыя людзі, якія таксама жадалі адпушчэньня грахоў або хацелі ўцячы ад гэтага грэшнага сьвету. Гэтыя людзі таксама будавалі сабе хацінкі або капалі пячэры, каб у іх жыць. Пазьней, сабраўшыся ў адну грамаду, хрысьціяне выбіралі кіраўніка супольні. Бываў ім пераважна сьвяшчэньнік, які мог правіць багаслужбы, або стары, дасьведчаны ў адшэльным жыцьці сужыхар.

---

[1] Маем, напрыклад, „Путешествіе Даніла ко святым местам", выданьне М. Сахарава.

Такім чынам зьяўляліся ў рускіх і літоўскіх землях аселішчы манахаў, называныя манастырамі.

Часта князь або землеўласьнік, у валаданьнях якога знаходзіўся манастыр, ахвяроўваў яму акрэсьлены абшар зямлі, а нават прызначаў да яго цэлыя вёскі з насяляючым іх жыхарствам ды прызнаваў для манахаў некаторыя прывілеі.

У пазьнейшую пару гэта стала прычынай таго, што ў манастыры ішлі ня толькі тыя, што хацелі маліцца пра дараваньне грахоў ды ўпадобніцца сваім жыцьцём жыцьцю сьвятых, чый прыклад бачылі ў „Жыцьцеапісаньні сьвятых", але таксама тыя, што хацелі пражыць сваё жыцьцё ў супакоі й бесклапотна.

Сказаць, колькі праваслаўных манастыроў было ў Вялікім Княстве Літоўскім за панаваньня Ўладыслава Ягайлы, ня можам, бо нам бракуе першакрынічных матар'ялаў.

Ведамымі нам зьяўляюцца наступныя манастыры: Лаўрышэўскі, які знаходзіўся над ракою Нёман каля Наваградка. Ён быў закладзены князем Войшэлкам у 1262 годзе.

У Вільні існавалі манастыры Сьв. Тройцы, чыя царква была закладзена жонкай вялікага князя Альгерда Марыяй (1330) і манастыр Нараджэньня Господняга (Ражджэственскі), закладзены жонкай вялікага князя Вітаўта Юльянай.

У Віцебску існавалі 2 манастыры: у Добуйцы Багародзіцы. У Полаччыне было аж 5 манастыроў: Мікалаеўскі на Лугне (XIII ст.); Тройцкі над ракой Палотай, Пятроўскі на Полацкім замку, закладзены Міхаілам, сынам Полацкага князя Андрэя Альгердавіча; Барысаглебскі й Прадцечанскі (XIV ст.).

У Смаленску быў Сьмядынскі манастыр над ракой Сьмядынкай. У адлегласьці шасьці кілямэтраў ад Смаленску быў Усьпенскі манастыр. Ведама яшчэ пра манастыры: Крэстовазьдзьвіжэнскі, Абраамаўскі, Прадцечанскі ў Лагожску (1387), Пятра й Паўла ў Мозыры, Ражджэственскі й Сямёнаўскі ў Берасьці, Сьв. Спаса ў Кобрыне. У Пінску існаваў манастыр Сьв. Барбары й Лешчынскі Багародзіцы[2].

Ад таго часу, калі Кіеў быў прылучаны да Вялікага Княства Літоўскага, колькасьць вернікаў Праваслаўнае Царквы, а разам з гэтым колькасьць праваслаўных манастыроў у гэтым Княстве значна пабольшылася.

---

[2] Полное Собраніе Русских Летописей, т. II, с. 201; Акты Западной Россіи, т. I, сс. 22, 27, 41, 57 і т. II, сс. 7 – 13; Собрание Актов Вильна, Ковна, Трок, т. II, с. 146; Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, сс. 172 –173; П. Батюшков, op. cit., сс. 110 –111; М. Грушевський, op. cit., т. V, с. 264; П. Голубовскій, История Земли Віленской до начала XV века, Кіев, 1897; Г. Кипріянович, Историческій очерк православія, католичества и уніи в Белоруссіи и Литве, изд. II, Вильна, 1899, сс. 26 – 27.

Найбольшай пашанай карыстаўся й быў найбольшым манастыром тут Пачаеўская Лаўра. Аб тым, зь якой пашанай да яе адносіліся нават князі літоўскія, сьведчыць тое, што некаторыя зь іх, якія былі праваслаўнымі, выбралі Пачаеўскую Лаўру за месца іх вечнага спачынку.

Так, напрыклад, тут была пахавана вялікая княгіня Юльяна. Ізноўжа, іншыя князі багата абдарылі гэты манастыр. У Пачаеўскай Лаўры стварылася вогнішча рэлігійнага жыцьця Паўдзённай Русі[3].

Украінскі гісторык М. Грушэўскі ўспамінае яшчэ пра наступныя манастыры на Русі (Украіне), якія існавалі за часоў Уладыслава Ягайлы: „У Пярэмышлі – манастыр Сьв. Мікалая (Мікулінскі) і ў Білчу – Багародзіцы (жаночы); у ягонай ваколіцы быў манастыр Каленікаў Прачыстае Усьпеньне, уласнасьць баяраў Дзядковічаў, прадаты ў 1378 годзе перамышльскаму протадыякану Губцы й спалучаны з катэдрай.

Гарадышчанскі манастыр і яшчэ іншыя манастыр (вось-жа, яшчэ не найменаваныя іменем валаданьняў Бельскіх) – у ваколіцах сучаснага Новага Места, ведамыя з XV веку.

Манастыр пад Яраславам, каля Шчытнай – ува Ўгорцах пад Самбарам. Увядзеньня – каля Шэптыц (у Рудзіцкім). Сьв. Ануфрыя й другі Сьв. Ануфрыя – у Добрамілі. Трэці – у Лаўраве й каля яго манастыр Спаса (цяпер Спаскаля Старога Места). Смольніцкі Багародзіцы й Созанскі Сьв. Міхала – там-жа. Чэрхаўскі – на ўсход ад іх. У Нагуевічах – Сьв. Мікалая, у Чарнілаве (у Яворскім) – Сьв. Тройцы. УДамашаве (у Зоўкаўскім) – Сьв. Мікалая і ў Смоліні (Ямніцы) – Усьпеньня.

Багатай манастырамі была таксама Валынь[4].

Няма ніякіх сумніваў у тым, што мы не маглі пералічыць імёны ўсіх праваслаўных манастыроў, якія існавалі на абшары Вялікага Княства Літоўскага за часоў Уладыслава Ягайлы.

Як мы ўжо сказалі вышэй, бракуе для гэтага гістарычных крыніцаў.

Наколькі вялікай была колькасьць манахаў у манастырах у кожным у асобнасьці, цяжка сказаць.

У летапісах ды іншых гістарычных крыніцах, калі гутарка ідзе пра манастыры, амаль заўсёды гаворыцца, што гэта быў вялікі манастыр, што ў ім было шмат манахаў, а іх (манахаў) жыцьцё ўсхвалялася. Мітрапаліт Макар гаворыць, што манастыры, якія былі дужа вялікімі й складаліся зь вялікай колькасьці манахаў, называліся Лаўрамі[5]. Побач зь імі былі зусім малыя манастыры, у якіх сяліліся шэсьць, пяць а нават тры манахі[6].

Усе манастыры ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Уладыслава Ягайлы можна падзяліць на групы: паводле іх залежнасьці ад вышэйшых

[3] М. Грушевський, op. cit., т. II, cc. 415–417.
[4] Ibidem, cc. 268 – 269.
[5] Митрополит Макарій, op. cit., т. V, c. 267.
[6] М. Грушевський, op. cit., т. V, c. 268.

уладаў; паводле значэньня іх кіраўнікоў у дачыненьні да іншых манастыроў і на аснове іх унутранага ладу.

Згодна з кананічнымі законамі ўсе манастыры знаходзіліся ў залежнасьці ад сваіх епархіяльных епіскапаў.

Аднак былі й такія манастыры, якія знаходзіліся ў беспасярэдняй залежнасьці ад Канстантынопальскага патрыярха. Яны называліся „стаўрапігіяй" патрыярха. Такая „стаўрапігія" абасноўвалася на тым, што пры пабудове манастыра крыж стаўляў не епархіяльны архіерэй, але сам патрыярх, што гаварыла аб тым, што гэты манастыр у далейшым будзе залежаць ад яго[7].

Апрача гэтага некаторыя манастыры заставаліся ў беспасярэдняй залежнасьці ад князёў, як, напрыклад, можам паказаць Прадцечанскі манастыр у Полацку[8]. Такая залежнасьць выказвалася ня толькі ў тым, што князь даваў сродкі на пабудову дадзенага манастыра, ня толькі клапаціўся аб тым, каб манахі мелі забясьпечанае існаваньне, але яму прыслугоўвала зьверхняя ўлада над гэтым манастыром. Ён сам прымаў удзел у выбары зьверхніка (ігумена), падпарадкаванага яму манастыра. Яму прыслугоўвала права суду над такім зьверхнікам ды іншымі манахамі.

Мясцовыя епіскапы ня мелі ніякіх правоў у такіх манастырох. Яны маглі судзіць іх (зьверхнікаў або ігуменаў) толькі за праступствы духоўнага характару. Але і ў такім судзе ўдзел прымаў князь[9].

Былі такія манастыры, якія залежалі проста ад самаго мітрапаліта, як адзінага найвышэйшага зьверхніка.

Большая частка манастыроў была незалежнай ад іншых манастыроў. Яны мелі сваіх зьверхніх ігуменаў або архімандрытаў[10], якіх выбіралі на дажывоцьце. Зьверхнік такога манастыра залежаў адзіна ад епіскапа сваёй епархіі, князя або мітрапаліта.

Аднак былі таксама манастыры, якія падлягалі іншым, галоўным манастырам. Такая залежнасьць выказвалася ў тым, што манастыр такога тыпу атрымоўваў свайго зьверхніка з галоўнага манастыра й там здаваў справу з сваёй дзейнасьці.

Апрача мужчынскіх манастыроў былі жаночыя манастыры, паміж якімі, праўдападобна, ня было такое залежнасьці міжсобку.

Аднак пасярод іх былі такія, што залежалі ад мужчынскіх манастыроў. Залежнасьць гэтая выказвалася ў аб'яднаньні манастыроў пад зьверхнасьцю аднаго кіраўніка[11].

Пад паглядам унутранага ладу ўсе манастыры дзяліліся на дзьве катэгорыі. Да аднае належалі тыя, у якіх манахі жылі супольна (агульна-

---

[7] K. Chodynicki, op. cit., s. 29.

[8] Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, с. 211.

[9] Акты...Западной Россіи, op. cit., т. I, сс. 27, 28, 57.

[10] Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, с. 211.

[11] Ibidem, c. 213.

жыльлёвыя манастыры). Да другое катэгорыі належалі такія, дзе манахі жылі паасобна ў адзіночных келіях, а нават у асобных доміках. Да апошняе катэгорыі належала большасьць малых манастыроў.

Характэрнай рысай такога тыпу манастыроў было тое, што знаходзіўшыеся тут манахі ня мелі міжсобку нічога супольнага, апрача царквы. Кожны манах меў тут уласную келію, сам клапаціўся пра яе, пра харчаваньне й пра адзежу.

Аднак найбольш ведамыя праваслаўныя манастыры таго часу былі брацкімі манастырамі.

У сваім унутраным жыцьці манастыры кіраваліся пастановамі сабораў ды ўказаньнямі й павучаньнямі бацькоў Царквы: Васіля Вялікага, Яфрэма Сірына, Іаана Лествянічніка й Фёдара Студзіта[12].

Судзіць аб тым, ці існаваў нейкі мясцовы манастырскі ўстаў за часоў Уладыслава Ягайлы, судзіць ня можам, бо да нашых дзён не захаваліся ніякія зьвесткі. Дзеля гэтага можам зрабіць выснаў, што тагачасныя манастыры засноўваліся й кіраваліся на візантыйскі лад.

Аб тым, якім было жыцьцё праваслаўных манахаў на землях Вялікага Княства Літоўскага за часоў Уладыслава Ягайлы, даведываемся з аповесьцяў пра закладчыкаў манастыроў або выдатных манахаў. Праўда, гэтыя аповесьці часта маюць усхвальваючы характар, бо былі напісаны пасьля сьмерці дадзенага законьніка з мэтаю перахаваць пра яго памяць і маючы на ўвазе павучыць іншых манахаў. Яны (манахі) павінны былі мець прыклад сьвятога чалавека ня толькі зь Візантыі, ня толькі – зь Егіпту або Палестыны, але ў сваім радзімым краі, а нават у сваім манастыры.

Доказам таго, што такія прыклады былі, зьяўляецца праслаўленьне Праваслаўнай Царквою памяці Еўфрасіньні Полацкае, Аўраама Смаленскага, Кірылы Тураўскага ды іншых. Дзякуючы такому жыцьцю манахаў і ў выснаве іх жаданьня прыраўняцца сваімі чынамі жыцьцю сьвятых, грамадзкасьць глядзела на манастыры як на праяву ў земскім жыцьці хрысьціянскае дасканаласьці. Дзеля гэтага колькасьць манастыроў і манахаў была такою вялікай, і таму яны карысталіся агромнай апекай князёў і магнатаў.

Вось-жа, манастыры мелі вельмі вялікі ўплыў на рэлігійна-маральнае ўзгадаваньне народу. Сьвяталюбнае жыцьцё манахаў, іх навука й вера ў тварэньне некаторымі зь іх цудаў прыцягвала ў манастыры вялікую колькасьць пілігрымаў.

Адныя ішлі сюды, каб вымаліць дараваньне грахоў, іншыя, ізноў-жа, накіроўваліся ў манастыры, каб у зьверхных і дасьведчаных манахаў атрымаць параду, як павінны паступаць у сваім жыцьці. У такіх пілігрымствах бралі ўдзел ня толькі просталюдзіны, але таксама князі й вяльможы. Анёлы зьяўляюцца наўзорам для манахаў, а манахі ёсьць прыкладам

[12] Ibidem, т. II, с. 215; М. Грушевський, op. cit., т. III, с. 413.

для міранаў[13]. Гэта словы тагачаснасьці, якія падкрэсьліваюць значэньне манастыроў і манахаў тае пары.

Ня будзем пярэчыць таму, што за часоў Уладыслава Ягайлы манастыры раўналегла з дадатнімі рысамі мелі шмат ад'емных бакоў, аб выкарчаваньні якіх стараліся ўлады духоўная й сьвецкая[14].

Другім узвышаным значэньнем праваслаўных манастыроў, асабліва ўва Ўласнай Літве, была іхняя місыйная дзейнасьць.

Манастыры тут засноўвалі ў лясох або ў месцах мала заселеных. Манахі мелі сутычнасьць пераважна з паганскім літоўскім насельніцтвам, а для яго яны былі ня толькі наўзорам хрысьціянскага жыцьця, але былі й носьбітамі сьвятла Хрыстовае праўды, якую Ён абвесьціў.

Апрача гэтага манастыры мелі вялікае значэньне ў галіне народнае асьветы. Сьвецкая грамадзкасьць недаацэнівала ў той час вагі народнае асьветы. Вяльможы й шляхта клапаціліся пра тое, каб дзеці мелі вайсковую асьвету й ведалі ваеннае рамясло. Калі-ж нехта вучыўся чытаць, дык гэта пераважна па тое, каб стаць сакратаром у замчышчы або быць духоўным.

„Буквар", „Часаслоў" і „Псалтыр" – вось галоўныя кніжкі-падручнікі тагачаснае навукі.

Адзіна ў манастырох існавалі тады большыя асьветныя асяродкі. А гэта таму, што манахі верылі ў тое, што перапісываньне кніжак зьяўляецца працай, дастойнай Бога.

Трэба адзначыць, што амаль усе тагачасныя кніжкі зьмяшчалі Божае Слова, або навукі аб ім, або сказы пра жыцьцё такіх людзей, якія выконывалі Божыя запаведзі, г. зн. пра сьвятых.

Сьвятое Пісаньне, літургічныя кнігі або „Жыцьцеапісаньні Сьвятых" былі кнігамі, зь якіх складаліся манастырскія бібліятэкі й якія распаўсюджываліся сярод насельніцтва.

Ня ўсе манахі былі перапісчыкамі кнігаў. Шмат манахаў займалася маляваньнем іконаў сьвятых або вырабам царкоўнае ўтвары, а гэтым яны спрычыніліся разьвіцьцю хрысьціянскага мастацтва. Іншы ізноў манах запісываў здарэньні, якія мелі месца ў ягонай аколіцы або ў ягоным гаспадарстве, а нават у гаспадарствах, далёкіх ад яго.

Вось-жа, ён быў заснавальнікам гісторыі свайго краю, якая пазьней паслужыла першакрыніцай для будучых дасьледчыкаў гісторыі.

На аснове прыведзеных фактаў можна зрабіць выснӑў, якое важнае значэньне мелі манастыры ў жыцьці Праваслаўнае Царквы Вялікага Княства Літоўскага ў часы панаваньня Ўладыслава Ягайлы.

---

13 Митрополит Макарій, op. cit., т. IV, с. 171.

14 Акты... исторіи Южной и Западной Россіи, op. cit., № 204; „Чтеніе Моск. Об.", Москва, 1859, III; „Рассужденія Вассіана", с. 1.

## VI.

## Царкоўная літаратура ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы

Гаворачы пра літаратуру й мастацтва царкоўныя ў Вялікім Княстве Літоўскім, нельга памінуць маўчаньнем лёсу, які выпаў гэтаму гаспадарству.

Ад найдаўнейшых часоў гэты край быў тэрыторыяй несупынных змаганьняў, абшарам ваенных пажараў і паходаў армій розных народаў. Калісьці тут мелі месца зацятыя хатнія войны. На тэрыторыі гэтага краю змагаліся расейская й польская магутнасьці. Празь ягоныя землі прайшлі арміі Напалеона й нішчылі ўсё, чаго не змаглі знішчыць адступаючыя расейскія вайсковыя сілы.

Аб тым, колькі гістарычных вартасьцяў літаратуры й мастацтва загінула тут падчас апошняе сусьветнае вайны (1914–1921) ведае толькі Той, Хто з вышыні нябёс быў сьведкам гэтых здарэньняў. У абставінах вайны акупант не лічыўся са скарбамі краю: цэлыя архівы, не зважаючы на іх гістарычную вартасьць, вывозілі ў фабрыкі як макулятуру й там перараблялі на паперу.

Усё гэта стала прычынай таго, што помнікі хрысьціянскае літаратуры й мастацтва, якія маем цяпер, уяўляюць сабою толькі частку таго скарбу, які быў у Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Уладыслава Ягайлы.

Што датычыцца праваслаўнае літаратуры ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Уладыслава Ягайлы, дык трэба адмеціць, што яна была наскрозь царкоўна-рэлігійнай.

Паўдзённыя славяне (баўгары, сэрбы й маравы), ад якіх да нас прыйшлі літаратура й пісьменнасьць, яшчэ перад 988 годам, калі афіцыйна хрысьціянства стала распаўсюджаным на Русі як дзяржаўная рэлігія, мелі ўжо багатую царкоўную літаратуру.

Складалася яна з Сьвятога Пісаньня, літургічных кнігаў, рэлігійных сьпеваў, жыцьцеапісаньняў сьвятых, апавяданьняў пра жыцьцё сьвятых мучанікаў, сабраных у „Чэцьці Мінеі" і „Патрыконы" казаньняў і апокрыфаў.

Разам з хрысьціянствам на Русі і ў Літве пашыралася й вышэй найменаваная царкоўная літаратура[1]. Што датычыцца Сьвятога Пісаньня, дык праваслаўнае жыхарства на абшары Вялікага Княства Літоўскага карысталася ў працягу даўжэйшага часу перакладамі, якія пакінулі браты Кірыл і Мяфодзій[2].

---

[1] М. Грушевський, op. cit., т. III, с. 447; Е. Голубинскій, op. cit., т. I, ч. I, сс. 604–605.

[2] Е. Голубинскій, ibidem, сс. 605–606; М. Гарэцкі, Гісторыя Беларускай Літаратуры, Вільня, 1924, бб. 21–25.

Толькі ў пачатку XVI веку зьявіўся пераклад на рускую й беларускую мову поўнага тэксту Сьвятога Пісаньня, зроблены мясцовым вучоным Францішкам Скарыною[3].

Да гэтага часу, калі ў гэтай галіне й рабіліся нейкія крокі, дык уся справа абмяжоўвалася аднаўленьнем састарэлых баўгарскіх тэкстаў.

Амаль тое-ж самае можна сказаць і пра літургічнае пісьменьніцтва. Літургічныя кнігі тады старанна перапісываліся, прычым сьвядома ўнікалі карыстацца мясцоваю моваю, стараючыся верна прытрымоўвацца кожнае літары й кожнага знаку арыгіналу. Элемэнт народнае мовы пранікаў у літургічныя кнігі адзіна праз няўвагу або няўмеласьць перапісчыка.

Тэалягічна-навуковая літаратура, зьмяшчаючая рэлігійна-маральную сутнасьць, за часоў Уладыслава Ягайлы ў Вялікім Княстве Літоўскім была даволі багатай.

Памінаючы ўрыўкі драбнейшых пісьменьнікаў, знаходзім у тых часох пераклады шматлікіх працаў грэцкіх бацькоў Царквы. Першае месца тут займаюць пісаньні Іаана Хрызастома, які быў самым папулярным візантыйскім пісьменьнікам пасярод праваслаўных рускіх славянаў. На Русі спатыкаем зборнікі ягоных казаньняў пад загалоўкам „Златастрой", „Златауст", „Андрыапіс".

Казаньні Іаана Хрызастома часта зьмяшчаліся ў адным зборніку з казаньнямі іншых бацькоў Царквы. Такія зборнікі маюць наступныя загалоўкі: „Ізмарагд", „Златая Цэль" і г. д.

Было таксама даволі шмат павучаньняў катэхізыстычных Кірылы Ерусалімскага, Васіля Вялікага, Грыгора Багаслова, Ефрэма Сырыйскага, Іаана Лествянічніка, Іаана Дамаскіна, Грыгора Дваеслова ды інш[4].

Зусім адменны тып літаратуры зьявіўся ў манастырох. Гэта былі папярэдне пайменаваныя намі апісаньні жыцьця сьвятых і адзначыўшыхся сьвяталюбным жыцьцём манастырскіх зьверхнікаў або манахаў. Такіх апісаньняў было даволі шмат. Яны служылі павучэньнем у роўнай меры манахам і вернікам. Былі напісаны ў дужа папулярнай і даступнай форме, а таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ахвотна чыталіся вернікамі Праваслаўнай Царквы.

Аб тым, як шмат у тыя часы было жыцьцёапісаньняў сьвятых, сьведчыць тое, што да нашых дзён іх захавалася нямала. Як прыклад, можам успомніць: „Жыціе Барыса й Глеба", „Меркурыя Смаленскага", „Аўрамія Смаленскага", „Кірылы Тураўскага", „Еўфрасіньні Полацкай" і інш[5].

---

[3] М. Гарэцкі, op. cit., бб. 21–25.

[4] Е. Голубинскій, op. cit., т. I, сс. 606–613; Митрополит Макарій, op. cit., т. V, сс. 166–168.

[5] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 168.

Ня будзем затрымоўвацца над літаратурнай вартасьцю такога роду тагачаснае літаратуры. Зразумелая рэч, што пры агульным узроўні асьветы таго пэрыяду гэтыя творы не маглі быць дасканала напісанымі.

Вялікім недахопам зьяўляецца панігірычны (усхвальваючы) характар гэных жыцьцяпісаў, а разам з гэтым насьледваньне аналягічнае візантыйскае літаратуры.

Форма й спосаб уняцьця такіх апісаньняў жыцьця ня былі мясцовага паходжаньня. Аднак трэба падкрэсьліць важнасьць значэньня такога роду літаратуры ў галіне рэлігійна-маральнай і гістарычнай. Вернікі чыталі гэтыя творы й вучыліся зь іх, як павінны праводзіць зямное жыцьцё. Жыцьцеапісаньні сьвятых паказывалі ідэалы хрысьціяніна, ідэалы, якія былі вартымі таго, каб іх насьледаваць кожнаму чалавеку, а ў першую чаргу манаху.

Вось-жа, іх чыталі вельмі ахвотна. Некаторыя разьдзелы вывучалі напамяць. Прапанаваныя ў іх маральныя павучаньні захоўваліся ў памяці й практыкаваліся ў штодзённым жыцьці.

Дзеля гэтага няма нічога дзіўнага ў тым, што да нашага часу захавалася дастатковая колькасьць „Жыцьцёў Сьвятых". Яны служылі й служаць матар'ялам для досьледаў гісторыкаў пра жыцьцё мітрапалітаў, епіскапаў і манахаў тагачаснасьці.

Палестына – краіна жыцьця Хрыста, ягонае дзейнасьці ды жыцьця й дзейнасьці апосталаў і першых хрысьціянаў, прыцягвала да сябе праваслаўнае насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага. Ня маючы іншых сродкаў падарожнічаць, яны ішлі пераважна пешкі ў Сьвятую Зямлю, каб каля Хрыстовага Гробу вымаліць для сябе й для свайго народу дараваньне грахоў і дапамогу ў далейшым жыцьці.

Палестына зь яе гістарычнымі помнікамі й краіны, праз якія ішлі пілігрымствы, рабілі вялізарнае ўражаньне на пілігрымаў у сьвятыя месцы зь ліку праваслаўных жыхароў Вялікага Княства Літоўскага.

І вось, зьвярнуўшыся ў свой край, яны расказваюць пра свае ўражаньні, вынесеныя з часу пілігрымства. Жадаючы падзяліцца гэтымі ўражаньнямі з усім народам, хочучы здаволіць ягоную зацікаўленасьць іншымі краінамі, яны запісываюць тое, што бачылі й перажылі ў чужых старонах, праз якія праходзілі, і пра самую Палестыну. У наступстве гэтага ствараецца асобны тып літаратуры, які можна назваць „пілігрымскім"[6].

За часоў Уладыслава Ягайлы ў Вялікім Княстве Літоўскім ужо былі апісаньні падарожжа, зробленыя праз „Данііла, игумена Русской земли" ды Ігната Смаленскага.

---

[6] Митрополит Макарій, op. cit., т. V, сс. 179 – 180.

Ня будзем затрымоўвацца над зьместам і формай апісаньняў гэтых пілігрымстваў. Тут маецца шмат прастаты й наіўнасьці. Аўтары ня могуць разрозьніць у чутым імі праўды ад апокрыфаў. Аднак іменна гэтая прастата й арыгінальнасьць былі прычынай такое вялікае іх папулярнасьці[7].

Пасьля такога павярхоўнага агляду агульнае характарыстыкі некаторых родаў літаратуры, існуючай у Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Уладыслава Ягайлы, можам адмеціць, што яны (літаратурныя віды) мелі рэлігійны характар і выразна ўплывалі на жыцьцё праваслаўных.

Апрача гэтага, існавала ў той час рэлігійна-царкоўная літаратура, існавалі яе носьбіты.

Нельга ня ўспомніць пра літаратурную дзейнасьць Кірылы Тураўскага, Кіпрыяна й Грыгора Цамблакоў. Праўда, гэтыя два апошнія паходзілі са сталіцы Ўсходняе Баўгарыі, але яны жылі й працавалі ў Вялікім Княстве Літоўскім і сваёй працай павялічылі скарб царкоўнай літаратуры гэтага краю.

Мітрапаліт Кіпрыян паходзіў з Баўгарыі. Меў даволі высокую асьвету. Добра ведаў царкоўныя каноны. Пераклаў з грэцкае мовы на славянскую некаторыя багаслужэбныя кнігі, а нават, праўдападобна, сам склаў адну малітву[8]. Аднак самай галоўнай спадчынай ягонае дзейнасьці былі казаньні, якія, на жаль, не захаваліся да нашых дзён.

Не захаваўся нават ягоны ліст да ігуменаў, сьвяшчэньнікаў, дыяканаў ды ўсіх праваслаўных хрысьціянаў[9]. Зьмест гэтага ліста нам нявядамы. З перахаваўшыхся адрыўкаў іншага ліста можам зрабіць выснаў, што ён меў павучальны зьмест[10].

Апрача гэтага, знойдзены й выдадзены яшчэ чатыры лісты мітрапаліта Кіпрыяна, якія з увагі на іх зьмест можна назваць гістарычнымі. Яны былі напісаны да слаўных ігуменаў–сьвятога Сяргея Раданежскага й Фёдара Сіманаўскага. Побач з апісаньнем жыцьця аўтара ў гэтым лісьце акрэсьлена палажэньне тагачаснае Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім.

У першым мітрапаліт Кіпрыян паведамляе пра сваё падарожжа зь Кіева ў Маскву. У другім апісвае прыгнёт і крыўду, якую яму прычынілі падчас гэтага падарожжа. У трэцім і чацьвертым лісьце паведамляе пра падарожжа ў Канстантынопаль[11].

---

7 М. Грушевський, op. cit., т. III, с. 464; М. Гарэцкі, op. cit.; Е. Голубинскій, op. cit., т. II, ч. II, сс. 204–208.

8 Митрополит Макарій, op. cit., с. 183.

9 Ibidem, с. 184.

10 „Посланіе к игум. Афанасію" у: Акты... Западной Россіи, op. cit., т. I, с. 481 (паводле мітрапаліта Макара).

11 Надрукавана ў „Православном Соб.",С.-Петербург, 1861, ч. II, сс. 75–106.

Наступнай ягонай большай працай зьяўляецца „Житіе Св. Пятра". Тут апісана жыцьцё Сьв. мітрапаліта Пятра, ягоныя цуды й кананізацыя ў сьвятога.

З дужа вялікай пахвалой гаворыць летапісец аб „Прощальной грамоте", якую Кіпрыян напісаў перад сваёй сьмерцю. Яна мае рысы тэстамэнту, бо была прачытана пасьля сьмерці аўтара над ягонай труною. Яна была накіравана да ўсіх вернікаў ягонае мітраполіі[12].

Апрача гэтага Кіпрыяну прыпісываюць аўтарства паважнай колькасьці жыцьцеапісаньняў сьвятых, рускага летапісу ды пераклады з грэцкае мовы на рускую.

Аднак для выясьненьня гэтага пытаньня належыць прывесьці думку гісторыка Е. Галубінскага, выказаную наступнымі словамі: „Адносна сьведчаньня Тацішчэва, прыпісваючага Кіпрыяну напісаньне „Жыцьцяў" шматлікіх рускіх сьвятых і злажэньне „Степенной книги" і рускага летапісу ад пачатку рускае зямлі, павінна быць сказана, што ў першым выпадку – аб напісаньні ім шматлікіх „Жыцьцяў" – ягоныя цьверджаньні, бяссумніўна, зьяўляюцца памылковымі, што ў другім і трэцім выпадку, яны ёсьць няпэўнымі"[13].

Галоўным прадстаўніком царкоўнае рэторыкі ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Уладыслава Ягайлы быў мітрапаліт Грыгор Цамблак. Усіх ягоных твораў можна налічыць да дваццаці пяці. Гэта былі пераважна казаньні. Вось пералік ведамых нам ягоных твораў-казаньняў і пісаньняў:

1. „На неделю Ваій...";
2. „На часех в Св. Великій Четверток слово Григорія...";
3. „Беседа о предательстве Іуды, Беседа о пріобщеніи Таин і Беседа о Забвеніи обид";
4. „Слово на Преображеніе Господа Бога и Спаса нашего Ісуса Христа";
5. „Слово на Воздвиженіе Честнаго Креста";
6. „Слово на Всечестное Рождество Пресвятой Влад. нашея Богородіцы";
7. „Слово на Вознесеніе Господне";
8. „Слово на Успеніе Божей Матери";
9. „Похвальное слово Пророку Илье";
10. „Слово на Рождество Предтечи и Крестителя Іоанна";
11. „Слово похвальное св. и верховным ап. Петру и Павлу";
12. „Слово похвальное Великомуч. Георгію";
13. „Слово похвальное Славному Великомуч. мироточцу Георгію";
14. „Слово похвальное великомуч. четыренадесятым";

[12] Полное Собраніе Русских Летописей, т. V, с. 254; „Ніканаўскі летапіс", т. V, с. 3.
[13] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 352.

15. „Слово о пяти днех”;
16. „Слово ■ суботу Сыропустную”;
17. „Слово о иноческом житіи”;
18. „Слово о усопших”;
19. „Слово в похвалу терновскому патріарху Евфимію”;
20. „Слово надгробное Кипріяну митрополиту русскому”;
21. „Сказаніе о перенесеніи мощей препод. Параскевы”;
22. „Повествованіе о сербском короле Стефане”;
23. „Страданія св. великомуч. Іоанна Новаго Сотовскаго”;
24. „Богослужебный стих на Успеніе Пресвятой Богородіцы”;
25. „Полемичный трактат против ужыванія католиками хлеба до св. Таинств”[14].

На падставе пералічаных твораў можна зрабіць выснаў, што мітрапаліт Цамблак перавышыў Кіпрыяна пладаноснасьцю сваёй літаратурнай працы.

У сваіх казаньнях ён насьледаваў Іаана Хрызастома, Васіля Вялікага, Андрэя Крыцкага, Іаана Дамаскіна й іншых. Але ягонае насьледаваньне зроблена так, што творы Цамблака маюць цалкам адменную характарыстыку ад ягоных прататыпаў.

Большая частка ягоных казаньняў гаворыць пра біблейскія здарэньні, але некаторыя прысьвячаюцца пытаньням яму сучасным: напрыклад, казаньне, прысьвечанае памяці Кіпрыяна, або выказваньні супраць каталіцкага звычаю выконваньня еўхарыстыі на прэсных хлябах.

Дамінуючай рысай ягоных казаньняў ёсьць дагматычны й гістарычны характар. Маральна павучаючых казаньняў ён напісаў адно некалькі.

Калі цяпер глянем на царкоўную літаратуру ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Уладыслава Ягайлы ў цэлым, дык заўважым, што яна была вельмі ўбогай.

Пераклады Сьвятога Пісаньня, багаслужэбныя кнігі, дзесятак зь нечым „Жыцьцяў Сьвятых”, крыху казаньняў, пара апісаньняў падарожжаў – вось усё, што гэты пэрыяд пакінуў у спадчыну пасьля сябе.

Апрача гэтага, літаратура была пераважна запазычанай ад іншых народаў.

Арыгінальнае тэалягічнае творчасьці ў той час на землях Вялікага Княства Літоўскага не магло быць з увагі на брак асьветы.

Даецца заўважыць пацяшаючае зьявішча, што тагачасная царкоўная літаратура мела ў сабе зародкі разьвіцьця й тое, што была даступнай для ўсяго народу, дзякуючы таму, што яе пісалі ў мове гэтага народу.

---

[14] В. Ластоўскі, op. cit., бб. 146–147.

## VII.

## Царкоўнае мастацтва ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы

У разьвіцьці мастацтва хрысьціянства згуляла ня меншую ролю, чымся ў разьвіцьці літаратуры. Зьяўляецца ведамым, што для багаслужбаў патрэбны пабудовы, якія сваёй канструкцыяй і ўпрыгожаньнем адказвалі-б свайму прызначэньню.

Ня станем тут затрымоўвацца над тым, як паўсталі хрысьціянскія сьвятыні, над іх архітэктурай, малярствам і разьбою. Зазначым толькі, што калі народы (украінскі, беларускі й літоўскі) прынялі хрысьціянскую веру, царкоўнае мастацтва на ўсходзе й на захадзе дасягнулі вялікага росквіту.

У той-жа час будаўніцтва на землях Вялікага Княства Літоўскага ў Жмудзі ў пару панаваньня Ягайлы, калі прымалася хрысьціянства, стаяла на вельмі нізкім узроўні. Разьба выражалася адзіна ў здольнасьці выразаць статую „Пяруна" з адным залатым вусам. Пра існаваньне малярства ў той час нам нічога няведама.

Галоўным клопатам князёў, якія ў сваіх валаданьнях пашыралі хрысьціянства, была будова сьвятыняў.

Паводле думкі гісторыкаў, першымі цэрквамі на Русі былі драўляныя з увагі на тое, што будаўніцтва з такога матар'ялу было найбольш ведамым для беларусаў і ўкраінцаў[1]. Такія першыя цэрквы будаваліся вельмі прымітыўна. Аднак зь бегам часу, калі хрысьціянства закаранілася ў беларускім і ўкраінскім народах, калі пачало захапляць сваёй узвышанасьцю, царкоўнае будаўніцтва зьмяняе свой характар.

Зараз будуюць цэрквы ня толькі князі, але й багатыя людзі добрае волі. Яны стараюцца сваё багацьце й сваю пышнасьць прысьвяціць Богу. Вось-жа, зьяўляюцца велічныя сьвятыні.

Зразумелая справа, што асягнуць гэта было немагчымым сіламі ўласнага народу, бо ён ня быў азнаёмлены з мастацтвам пабудовы цэркваў. Дзеля гэтага сьцягвалі фахова асьведамленых людзей з усходу, адкуль прыйшла й хрысьціянская вера. Гэта стала істотнай прычынай таго, што калі будаўніцтва драўляных цэркваў мела мясцовыя рысы, мураваная архітэктура была цалкам запазычанай зь Візантыі.

У рэзультаце досьледаў гісторыкі цьвердзяць, што на хрысьціянскае мастацтва ў цэлым зрабілі ўплыў усходнія плыні, якія ішлі з Малое Азіі, Сырыі й Каўказу[2]. Вось-жа, царкоўнае мастацтва беларускага і ўкраінскага народаў займела знаменныя ўсходнія рысы.

---

[1] Е. Голубинскій, op. cit., т. I, ч. II; Москва, 1904, сс. 126–149; М. Голубэць, Начэрк історіі україньского містэцтва, Львів, 1922, ч. I, с. 63.

[2] М. Грушевський, op. cit., т. III, сс. 418–419; М. Шчакаціхін, Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва, Менск, 1928, т. I, бб. 77–79.

Ведамым зьяўляецца, што князі або іншыя закладчыкі царквы не маглі сьцягнуць зь Візантыі столькі людзей, колькі патрэбным было для спаўненьня ўсіх работаў пры пабудове. Дзеля гэтага пры будаўніцтве скарыстоўвалі мясцовых работнікаў, якія з часам здабывалі фаховы досьвед да такое ступені, што рабіліся самастойнымі архітэктарамі.

Гісторыя захавала для нас імёны некаторых украінскіх будаўнікоў[3].

Не будзем затрымоўвацца над дэталямі царкоўнае архітэктуры перад панаваньнем Уладыслава Ягайлы. Трэба толькі адмеціць, што яна вельмі дакладна прытрымоўвалася грэцкіх узораў.

Такім чынам, цэрквы мелі выгляд грэцкага крыжа ў сярэдзіне й правідловага або блізкага да правідловага чатырохкутніка навонкі[4] з адным купалам або большай колькасьцю, якія апіраліся на чатырох слупах, спалучаных паміжсобку лукамі. Лукі спалучаліся паміжсобку сфэрычнымі скляпеньнямі.

У асноўным будаўніцтва сучасных цэркваў астаецца падобным да першабытнага будаўніцтва. Асабліва відавочным гэта робіцца, калі адкінем прыбудоўкі сучасных цэркваў.

Што датычыцца царкоўнае архітэктуры ў Вялікім Княстве Літоўскім у панаваньне Ўладыслава Ягайлы (1346 - 1434), дык тут належыць разрозьніць два пэрыяды.

Першы пэрыяд быў перад вуніяй з Польшчай. У гэты пэрыяд прадаўжалі надалей візантыйскі тып. Пры пабудове новых цэркваў прытрымоўваліся ўжо існуючых наўзораў. А іх было вельмі шмат. Найбольш увагі заслугоўваюць наступныя: Сабор Сьвятой Сафіі ў Кіеве, пабудаваны ў 1036 годзе[5]. Ён быў збудаваны ў форме простакутніка, падоўжаны, зь пяцьцю закругленымі алтарамі, і меў трынаццаць купалоў. З трох бакоў царкву апаясывала нізкая галерэя, апёртая на калёны. Гэты сабор быў упрыгожаны мазаікай і жывапісам.

У 1054 - 1068 гадох зьявіўся манастыр Кіева-Пячэрскі. У працягу чатырох гадоў грэцкія архітэктары будавалі ў ім царкву. Ведамай таксама зьяўляецца Васількоўская царква, манастыр Сьвятога Кірылы, царква Сьвятога Міхаіла й інш.

У горадзе Чарнігаве існавала ня менш пяці цэркваў. Ува Ўладзімеры-Валынскім ведамай ёсьць царква Багародзіцы. Існавалі таксама цэрквы ў іншых украінскіх гарадох.

На Беларусі таксама перад вуніяй Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай існавала паважная колькасьць мураваных цэркваў. Вось галаўнейшыя зь іх. У Смаленску: цэрквы Сьвятых Барыса й Глеба, Сьвятога Спаса,

---

3 М. Голубэць, op. cit., c. 72.

4 Ibidem, c. 73; Е. Голубинскій, op. cit., т. I, ч. II, c. 93.

5 Е. Голубинскій, op. cit., c. 100; М. Голубэць, op. cit., c. 67.

Пятра й Паўла, Архангела Міхаіла, Усьпеньня Божае Маці, Іаана Багаслова й інш. У Полацку былі цэрквы: Сьвятой Сафіі, Спаса, Багародзіцы. Трэба яшчэ ўспомніць царкву Благавешчаньня ў Віцебску й царкву Барыса й Глеба на Каложы.

Усе яны належаць да гістарычных памятнікаў у візантыйскім архітэктурным стылі. Мясцовы ўплыў у іх пабудове быў вельмі зьнікомы.

Што датычыцца царкоўнае архітэктуры ў Вялікім Княстве Літоўскім у панаваньне Ўладыслава Ягайлы, дык з прычыны адсутнасьці першакрынічных гістарычных матар'ялаў навуковая літаратура ў гэтай справе зьяўляецца вельмі ўбогай.

Гэта быў пэрыяд змаганьняў на гэтым абшары плыняў усходняе з заходняй. Візантыя апынулася адмежаванай ад Вялікага Княства Літоўскага татарскім гаспадарствам. Грэцкіх майстроў цяпер нельга было прывозіць сюды з папярэдняй лёгкасьцю. Падлягаючы культурнаму ўплыву Заходу пасьля злучэньня з Польшчай, Вялікае Княства Літоўскае гэтым самым раскрывала дарогу заходняй архітэктуры. Аб гэтым можна судзіць на падставе пазьнейшых пабудоваў. Вось-жа, перадусім губляецца чысьціня візантыйскага стылю праз ўводжаньне ў яго элемэнтаў готыку й раманскага стылю.

Гэта робіцца бачным на прыкладзе царквы ў Кодні на Падляшшы й Багаяўленскае царквы ў Астрогу. Пацьвярджаюць гэта й востралукавыя вокны Дзерманскага манастыра[6]. Пры пабудове цэркваў пачалі ўводзіць крыжападобныя скляпеньні й востралукавыя вокны. Пачынае зьмяняцца й сам характар будовы. Цяпер будуюць цэрквы з таўстымі сьценамі, вузкімі вокнамі й стрэльбішчамі. У гэтым заўважаецца ўплыў нямецкага будаўніцтва.

Ня будзем затрымоўвацца над дэталямі ў пабудове тагачасных цэркваў, бо, як сказана вышэй, у асноўных рысах яны (цэрквы) былі падобнымі да сучасных цэркваў.

У пару панаваньня Ўладыслава Ягайлы мураваныя цэрквы ўяўлялі сабою вельмі малую колькасьць у параўнаньні з колькасьцю драўляных цэркваў. На роскаш сьцягнуць будаўнічых з-за межаў краю маглі сабе дазволіць адно князі, баяры або багатыя мяшчане. Такая пабудова каштавала вельмі шмат. У выснаве гэтага краіна была пакрыта вялікай колькасьцю драўляных цэркваў. Зразумелая рэч, што помнікі драўлянага будаўніцтва не маглі захавацца да нашых дзён, бо нават весткі пра іх у летапісах зьяўляюцца надта скупымі.

Вось-жа, што датычыцца формы гэных цэркваў, маюцца розныя думкі вучоных. Некаторыя дапушчаюць, што пачатковае будаўніцтва іх

[6] М. Голубэць, op. cit., ч. I, с. 138.

мела мясцовы характар, прыстасаваны да вымогаў свайго прызначэньня.

Гісторык Е. Галубінскі па гэтаму пытаньню выражаецца наступнымі словамі: „Першай формай драўлянае царквы, ад якое належыць пачынаць гутарку, зьяўляецца форма падабенства да мураваных цэркваў, г. зн. форма чатырохкутніка, зьбліжанага да квадрату. Другую форму ўяўляў чатырохкутнік, значна выдаўжаны, разьдзелены ў сярэдзіне папярэчнай сьцяной на дзьве палавіны й як быццам складзены з двух простакутнікаў... Існавалі яшчэ цэрквы з дваццацьцю сьценамі й дваццацьцю пяцьцю вугламі"[7].

Такое выказваньне не зьяўляецца дакладным, бо драўляныя цэрквы на Ўкраіне й Беларусі зьявіліся раней, чымся мураваныя. Дзеля гэтага такое дапушчэньне можа адносіцца да пазьнейшых часоў. Калі прыгледземся да драўляных цэркваў сучаснасьці, дык прыйдзем да пераканаНьня, што іх будова ў розных частках краю ня ёсьць аднолькавай, а мае рысы мясцовага будаўніцтва. Агульным зьяўляецца толькі плян, дастасаваны да асноўных вымогаў царкоўнага будаўніцтва.

Унутраная будова цэркваў у Вялікім Княстве Літоўскім у панаваньне Ўладыслава Ягайлы ў агульных асновах была аднолькавай з будовай цяперашніх цэркваў.

Ужо тады ў царкве былі тры асноўныя часткі, а пайменна: алтар, месца для малельнікаў і прытвор. Пры пабудове царквы не адыходзілі ад асноўнага пляну як вонкавага, так і ўнутранага.

Цэрквы заўсёды ўпрыгожываліся ў сярэдзіне, а часта й навонкі. Унутраным упрыгожаньнем служылі сьвятыя іконы, жывапіс, мазаіка, фрэскі й пласкарэзьба.

Царкоўнае малярства нароўні з архітэктурай на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага было запазычаным зь Візантыі. Яно ішло сюды ў двох выглядах. У першым выпадку гэта былі іконы й малярства ў цэрквах, пабудаваных багатымі людзьмі, у другім – іконы, якімі карысталася маса вернікаў.

Як у Візантыі, так і ў Вялікім Княстве Літоўскім іконы маляваліся паводле сьцісла ўстаноўленых наўзораў, ад якіх ня можна было адступаць.

Такія наўзоры называлі „подлинниками" (арыгіналамі). Яны зьмяшчаліся ў „Прологах", якія складаліся з указаньняў, як адносны абраз або ікону трэба маляваць.

Дзякуючы гэтаму аставалася толькі справа выканаНьня іконаў-абразоў. Вось-жа, ў Грэцыі такое мастацтва стаяла на дужа высокім узроўні:

---

[7] Е. Голубинскій, op. cit., т. I, ч. II, сс. 132–133.

побач з абразамі, выкананымі сапраўднымі мастакамі, меліся абразы (іконы), якія былі намаляваныя малярамі-рамесьнікамі.

У сапраўднасьці паміж людзьмі, якія мелі моцна разьвітае артыстычнае адчуваньне, збытам карысталіся толькі вартасныя прадукты. Дзеля гэтага іконы сьвятых, артыстычна напісаныя, па-за межамі Візантыі каштавалі вельмі шмат. У сваю чаргу тое, што не куплялася ў сваім краі, шукала збыту ў іншых краінах.

Вось-жа, Украіна, Беларусь і Літва былі якраз месцам збыту такое малярскае тандэты, бо насельніцтва гэтых земляў нават у пару панаваньня Ўладыслава Ягайлы ў вельмі малой частцы разумелася на малярстве.

Царкоўнае малярства на абшары Вялікага Княства Літоўскага ад найдаўнейшых часоў не разглядалася як рамясло, бо мы ня маем ніякіх вестак пра існаваньне маляроў-рамесьнікаў. У сваю чаргу існавалі паасобныя маляры іконаў сьвятых (сьвятых абразоў), якія навучыліся гэтага мастацтва ад грэцкіх або сваіх мастакоў. Такой працай займаліся пераважна манахі, а нават і князі з увагі на тое, што лічылі яе за дастойную ў вачох Бога. Ня дбаючы пра матар'яльную выгаду, яны пісалі іконы не сьпяшаючыся, з тым, каб як мага лепш выканаць работу. Вось-жа, такім чынам зазьзялі такія мастацкія таленты як Алімп Пячэрскі, Авраам Смаленскі й інш.

Інакш справа ўяўлялася з маляваньнямі, якімі ўпрыгожывалі цэрквы. Для выкананьня іх прывозілі маляроў з Грэцыі. Дзеля гэтага цэркваў, упрыгожаных такімі малюнкамі, было вельмі мала. Трэба думаць, што існавалі яшчэ мясцовыя мастакі, якія займаліся ўпрыгожаньнем цэркваў ня толькі мураваных, але й драўляных.

Спалучэньне Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай мела вельмі вялікі ўплыў на царкоўнае малярства. Заходнія артысты намагаліся ў сваіх малюнках выявіць натуральную красу. Такі напрамак выявіўся зь бегам часу ў слаўных мадоннах. Перш за ўсё ніякага арыгіналу (подлинника) тутэйшае малярства ня ведала. Насьледаваньне італьянскага мастацтва ў Вялікім Княстве Літоўскім у XIV і XV стагодзьдзях можна заўважыць у абразе Усьпеньня Багародзіцы: у іконе Багародзіцы ў Уладзімеры-Валынскім, Успенскім саборы, Багародзіцы ў Менскім Петрапаўлаўскім саборы[8].

Аднак уплыў Захаду найясьней выявіўся ў царкоўнай разьбе. Хрысьціянства, змагаючыся на Ўсходзе з паганствам, змагалася station... 

---

[8] М. Голубэць, op. cit., ч. I, с. 145.

Выразьбленыя статуі прыпаміналі грэку Вэнэру, Юпітэра, Апалона, Марса ды іншых багоў. Нават сьвятыя абразы-іконы ў Візантыі павінны былі змагацца за належнае ім месца. Ужываньне-ж статуяў для рэлігійных мэтаў лічылася ідалапаклонствам. У той самы час на Захадзе статуі сьвятых ставілі нароўні з абразамі. Вось-жа, дзеля гэтага ў Вялікім Княстве Літоўскім перад спалучэньнем з Польшчай разьба была ведамай адзіна ў форме ўпрыгожаньня саркафагаў і сьценаў сьвятыняў. Уплыў Захаду ў пазьнейшую пару выявіўся ў гэтай галіне тым, што для ўпрыгожаньня цэркваў пачалі скарыстоўваць разьблёныя статуі, якія адрозьніваліся ад такіх-жа статуяў у каталіцкім касьцёле адзіна матар'ялам, зь якога былі зроблены. Заміж мармуру, як у каталіцкіх сьвятынях, у праваслаўнай царкоўнай разьбе Вялікага Княства Літоўскага карысталіся дрэвам. Такія разьблёныя статуі называлі тут „резными иконами"[9].

Гісторык Е. Галубінскі дае некалькі прыкладаў гістарычных памятнікаў такіх выразаных іконаў, гаворачы: „Резныя иконы (деревянные статуи святых) перешли к нам из Литовской Руси, которая, как это нужно думать, заимствовала от католической Польши"[10].

На аснове гэтакіх кароткіх даведак можна сьцьвердзіць, што царкоўнае мастацтва ў Вялікім Княстве Літоўскім падчас панаваньня Ўладыслава Ягайлы да ягоных чыста візантыйскіх рысаў пачало дамешываць рысы заходняга мастацтва.

---

[9] Е. Голубинскій, op. cit., т. II, с. 365.
[10] Ibidem, с. 367.





# VIII.

## Заканчэньне

Візантыя й Рым – вось два асяродкі, зь якіх пашыраліся ў славянскіх землях культура й цывілізацыя хрысьціянскія.

Вялікае Княства Літоўскае было тым абшарам, на якім спатыкаліся й змагаліся гэтыя дзьве плыні. Рускія землі гэтага гаспадарства былі брамай, празь якую, як мы ўжо сказалі папярэдне, распашыраўся ўплыў Візантыі на рускія славянскія плямёны.

Пачатак гэтага ўплыву авеяны імглою таямнічасьці.

Усе гістарычныя й археалёгічныя крыніцы ня могуць усталіць ягонае пачатковае даты. Мы таксама не прабуем разьвязаць гэтую загадку.

З прыведзеных намі ў гэтай працы доказаў відаць, якім моцным быў уплыў Візантыі на землях Вялікага Княства Літоўскага ў пару панаваньня Ўладыслава Ягайлы.

Уплыў Рыму амаль не пранікаў сюды зусім. Польшча не магла пашыраць тут заходнюю культуру, бо перад вуніяй зь Ягайлам знаходзілася ў нясупынным змаганьні зь Літвою. Апрача гэтага, сама польская культура мела лацінскі характар. Пашыралася яна ў лацінскай мове, якую не разумелі ліцьвіны.

Можна сьмела сказаць, што ў той час Польшча яшчэ ня вытварыла айчыннай культуры. У гэты час Русь прыняла візантыйскую культуру ў яе ўласнай славянскай мове.

Залежнасьць Рускае царквы ад Канстантынопаля была толькі намінальнай. Усё праваслаўнае духавенства на землях Вялікага Княства Літоўскага гутарыла мясцовай мовай і ў гэтай мове правіла багаслужбы.

Асьвета таксама пашыралася ў рускай мове. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што пры такім стане рэчаў візантыйская культура зь бегам часу закаранілася так глыбока, што сталася проста ўласнай культурай рускіх народаў. Ад вышэйшых грамадзкіх пластоў яна магла без цяжкасьцяў пранікаць і пашырацца ў ніжэйшых пластох, бо кожны яе разумеў і мог прымаць удзел у яе насаджэньні й распашырэньні.

Ліцьвіны, якія жылі ў блізкіх суадносінах з рускім народам, ведалі добра ягоную мову. Нават князі й вяльможы ахвотна карысталіся ёю на сваіх дварышчах і ўва ўрадавых актах.

Разам з мовай павінна была стаць зразумелай і руская культура.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што праваслаўе так пасьпяхова расшыралася паміж ліцьвінамі. Яны ахвотней прымалі веру таго народу, які жыў зь імі ў адным гаспадарстве, які дзяліў зь імі цяжкасьці войнаў, долю й нядолю, чымся прымаць веру крыжакоў, якія з дымам пажараў

зьнішчалі іх майно, а на пажарышчах зруйнаванага дабрабыту ставілі сьвятыні, у якіх правілі багаслужбы на незразумелай для іх мове.

Пры такім агульным стане справаў здавалася, што праваслаўе запануе над усімі народамі, насяляючымі Вялікае Княства Літоўскае. Гэтаму спрыяў рост магутнасьці гэтага гаспадарства.

Апёршыся аб Балтыцкае мора й маючы пасьля прыяднаньня Кіеўскае зямлі адкрытую дарогу да Чорнага мора, Вялікае Княства Літоўскае мела перад сабою будучыню магутнае дзяржавы.

Зразумела, што зь бегам часу руская культура й праваслаўе павінны былі стаць неаддзельным дзейнікам ягонага разьвіцьця й магутнасьці.

Аднак палітычныя абставіны зьмянілі напрамак здарэньняў і накіравалі кола гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў адваротным напрамку.

Ня станем тут уваходзіць у аналіз прычынаў, якія схілілі Ўладыслава Ягайлу зрабіць крок, які ў канцы прывёў да вуніі з Польшчай. Абмяжуемся толькі самым павярхоўным аналізам праўдападобных прычынаў такога кроку.

Нам здаецца, што боязьнь узмацняючаеся магутнасьці Масквы з аднаго боку й крыжацкая пагроза – з другога прымусілі Ўладыслава Ягайлу шукаць моцнага апірышча ў Польскім гаспадарстве. Рэшту зрабіла польская дыпляматыя.

Вунія Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай мела вельмі шмат адʼемных бакоў для праваслаўя. Яна раскрывала вароты заходняй культуры ў Літву. Хрышчэньне ліцьвіноў было першым крокам гэтае рымскае культуры, распашыранае загадам уладаў. Было шмат дзейнікаў, дапамагаючых пашырэньню каталіцтва ў Літве, а ў першую чаргу, як сказана вышэй, розныя прывілеі для каталікоў.

Вунія Літвы з Польшчай стрымала вялікі поступ рускае культуры на землях Вялікага Княства Літоўскага, але выказала сілу праваслаўя ў народных гушчах.

На нашу думку, вышэй абгавораныя намі талеранцыйныя акты й акт 1553 году з поўнай вобразнасьцю падкрэсьлілі сілу, зь якой праваслаўе супрацьставілася каталіцызму, а ўсходняя культура – заходняй.

Адначасна з гэтым тыя акты зьяўляюцца доказам таго, зь якой прывязанасьцю й любоўю праваслаўныя вернікі ў Вялікім Княстве Літоўскім адносіліся да свае рэлігіі.



## Пераказ гістарычных крыніцаў і літаратуры

**а) крыніцы:**


1. Acta Patriarchatus Constantinopolitani MCCCXV–VCCCII. T. I–II, Vindobonae, 1860, 2 ed. F. Miklosisch et Müller.
2. Акты, относящіеся к Исторіи Западной Россіи, собранные и изданные археологическою комиссіею, т. I – II, С.-Петербург, 1846.
3. Акты, относящіеся к Исторіи Южной и Западной Россіи, т. I, С.-Петербург, 1863.
4. Akta Unji Polski z Litwą 1385 – 1791. Wydali S. Kutrzeba i W. Semkowicz, Polska Akademja Umiejętności i Towarzystwo Naukowe Warszawskie, Kraków, 1932.
5. J. Daniłowicz, Skarbiec dyplomatów papiezkich, cesarskich, królewskich..., t. I – II. Wilno, 1860; 1862.
6. J. Daniłowicz, Latopisiec Litwy i Kronika Ruska, Wilno, 1827.
7. Полное Собраніе Русских Летописей, изданное по Высочайшему повеленію археографическою комиссіею: т. II. Ипатьевская и Густинская Летопись, С.-Петербург, 1843. т. VIII. Воскресенская Летопись, С.-Петербург, 1907. т. XVII. Западно-Русская Летопись, С.-Петербург, 1907.
8. M. Stryjkowski, Kronika Polska, Litewska, Żmudzka i wszystkiej Rusi, t. I – II, Warszawa, 1846.


**б) літаратура:**


1. П. Батюшков, Белоруссія и Литва, С.-Петербург, 1890.
2. A. Bartoszewicz, Wielka Encyklopedia Powszechna Illustr., t. IX–X, Warszawa, 1893, ss. 972 – 973.
3. В. Беднов, Православная Церковь в Польше и Литве, по „Volumina Legum”, Екатеринослав, 1908.
4. A. Brückner, Dzieje kultury Polskiej, t. I, Kraków, 1931.
5. M. Bobrzyński, Dzieje Polski w zarysie, wydanie IV, Warszawa – Kraków – Lublin, 1927.
6. K. Chodynicki, Kościół Prawosławny a Rzeczpospolita Polska. Zarys historyczny. 1370 –1632, Warszawa, 1934.
7. W. Czermak, Sprawa równouprawnienia schizmatyków i katolików na Litwie (1432 – 1563). Rozprawy i sprawozdania z Posiedzeń Akademii Umiejętności, Wydział Historyczno-Filozoficzny, t. 44, Kraków, 1903, ss. 348 – 405.
8. И. Чистович, Очерк Исторіи Западно-Русской Церкви, С.-Петербург, 1884, т. I – II.

9. В. Данилевич, Очерк Полоцкой Земли до конца XIV в., „Кіев. Унив. Изв.", Кіев, 1896.
10. J. Fijałek, Średniowieczne Biskupstwa Kościoła wschodniego na Litwie i Rusi, „Kwartalnik Historyczny", Warszawa, 1896; 1897. Opisy Wilna aż do połowy XVII wieku, „Ateneum Wileńskie", rocz. II, Wilno, 1924.
11. М. Гарэцкі, Гісторыя Беларускай Літаратуры, Вільня, 1924.
12. Е. Голубинскій, Историія Русской Церкви, Москва, 1880, т. I, ч. I; т. II, ч. I, 1900, ч. II, Москва, 1917.
13. П. Голубовскій, Исторія Смоленской земли до начала XV века, Кіев, 1895.
14. М. Грушевський, Історія України-Русі, Львів, 1900, т. III; 1903, т. IV; 1905, т. V.
15. М. Грушевській, История Туровско-Пинского княжества, „Кіев. Унів. Изв.", Кіев, 1901.
16. O. Halecki, Dzieje Unii Jagiellońskiej, t. I–II, Kraków, 1919–1920.
17. J. Jakubowski, Studia nad stosunkami narodowościowemi na Litwie przed Unią Lubelską, Warszawa, 1912.
18. А. Яцимирскій, Григорій Цамблак. Очерк его жизни, административной и книжной деятельности, С.-Петербург, 1904.
19. W. Kamieniecki, Ograniczenia wyznaniowe w prawodawstwie W. Ks. Litewskiego, „Przegląd Historyczny", Warszawa, 1911.
20. Г. Кипріянович, Историческій очерк православія, католичества и уніи в Белоруссіи и Литве, изд. II, Вильна, 1899.
21. М. Кояловичъ, Литовская церковная унія, С.-Петербург, 1859–1862, т. II.
22. L. Kolankowski, Dzieje W. Ks. Litewskiego za Jagiellonów, t. I (1377–1499), Warszawa, 1930.
23. Н. Карамзин, Исторія Государства Россійского, С.-Петербург, 1892, т. I–XII.
24. В. Ластоўскі, Гісторыя Беларускай (Крыўскай) Кнігі, Коўна, 1926.
25. A. Lewicki, Powstanie Swidrzgiełły. Rozprawy i sprawozdania z Posiedzeń Akademii Umiejętności, Wydział Historyczno-Filozoficzny, t. XXIX, Kraków, 1892, s. 128–516.
26. О. Лотоцький, Соборні клироси на Україні і Білий Русі в XV–XVI вв., „Зап. Наук. Тов. ім. Шевченка", р. 1896, т. IX; Українські Джерела церковного права, Варшава, 1931.
27. М. Любавскій, Очерк исторіи Литовско-Русского государства до Люблинской Уніи, Москва, 1910; Литовско-Русскій сейм, Москва, 1901.
28. Митрополит Макарій (Булгаков), Исторія Русской Церкви, С.-Петербург, 1866, т. IV и V.

29. И. Малышевскій, Западная Русь в борьбе за веру и народнасть, ч. I, Москва, 1903.
30. T. Narbutt, Dzieje starożytne narodu litewskiego, t. I–IX, Wilno, 1835–1841.
31. H. Paszkiewicz, Jagiellonowie a Moskwa, t. I, Warszawa, 1933. Z zagadnień ustrojowych Litwy przedchrześcijańskiej, „Kwartalnik Historyczny", Warszawa, 1930.
32. A. Prohaska, Król Władysław Jagiełło, t. I–II, Kraków, 1908.
33. J. Pfitzner, Grossfürst Witold von Litauen als Staatsmann, Brun., 1930.
34. S. Smolka, Kiejstut i Jagiełło, Pamiętnik Ak. Umiejętn., t. VII, Kraków, 1888.
35. A. Sokołowski, Dzieje Polski ilustrowane, t. I–II, Warszawa, 1899–1902.
36. П. Соколов, Кіевскій митрополит Григорій Цамблак, „Богослов. Вест.", 1895, кн. VII–VIII.
37. С. Соловьев, Исторія Россіи с древнейших времен, С.-Петербург, 1893.
38. А. Сапунов, Река Западная Двина. Историко-географическій обзор, Витебск, 1893.
39. I. Szaniewicz, Patriarchat wschodni wobec Kościoła Ruskiego w Polsce i Rzeczypospolitej, Rozprawy i sprawozdania z Posiedzeń Akademii Umiejętności, Wydział Filozoficzny, t. VII–X, Kraków, 1876–1879.
40. М. Шчакаціхін, Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва, Менск, 1928.
41. M. Walicki, Cerkiew Św. Borysa i Gleba na Kołoży pod Grodnem, Warszawa, 1929.
42. „Вестник Юго-Западной Россіи", 1860, кн. I, отд. II.
43. М. Владимирскій-Буданов, Церковныя имущества в Юго-Западной Россіи, „Архив Юго-Западной Россіи", т. IV, г. VII. Предисловіе.



# БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

Пытаньне Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ня раз парушалася ў прэсе на эміграцыі. Яно парушалася ў прэсе ўкраінцамі, епіскапы каторых працягнулі „брацкую руку дапамогі" беларускаму народу і ўзялі яго пад юрысдыкцыю Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, хоць беларускі народ, у поўным значэньні гэтага слова, аб гэтым і не прасіў. Да ўкраінцаў зварочвалася толькі групоўка „крывічоў". Але гэта групоўка – не беларускі народ, а беларускі народ – ня толькі „крывіцкая" групоўка. Гэта элемэнтарная праўда: палітычная група астаецца толькі групаю, і толькі, а не народам, прызнаваным усім сьветам.

Пытаньне Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы парушалася расейскай прэсай, варожа настроенай да беларускае царкоўнае аўтакефаліі. Парушалася гэтае пытаньне й беларускай прэсай. У апошнім выпадку яго парушалі людзі некампэтэнтныя – іноверцы або й зусім няверуючыя. Дык ня дзіва, што гэта вельмі важнае пытаньне надта часта насьвятлялася памылкова, аднабакова, а нават тэндэнцыйна шкодна. Украінец насьвятляў справу з свайго пункту гледзішча, расеец, які цалкам нэгуе нашы імкненьні да беларускае нацыянальнае самастойнасьці – з свайго, а беларус вельмі часта насьвятляў гэтае пытаньне з пункту гледзішча карысьці свае палітычнае арыентацыі. У сувязі з гэтым лічым сваім абавязкам парушыць гэтае пытаньне яшчэ раз і насьвятліць яго аб'ектыўна ды паклікацца на гістарычныя факты, аб якіх замоўчваюць або тэндэнцыйна іх перайначваюць. Праўда, рамкі газэтнага артыкулу не дазваляюць вычарпаць увесь матар'ял да гэтае вялікае тэмы, і таму нам прыйдзецца абмежавацца асноўным.

Праваслаўная Царква – гэта ўстаноўлены Богам саюз зь Ім, задзіночаны Праваслаўнай Верай, Сьвятымі Таінствамі, законнай царкоўнай гіерархіяй і ўзаемнай любоўю Ісуса Хрыста. Праваслаўная Царква складаецца з вышэйшай гіерархіі, духавенства й вернікаў.

Вельмі часта людзі нармуюць сваю прыналежнасьць да Царквы мэтрыкамі хрышчэньня, але Богам гэтая прыналежнасьць ацэньваецца ступеньню рэлігійнасьці. Па-за Царквой знаходзіцца кожны той, хто ў сваім жыцьці зьяўляецца поўным індэфэрантам да рэлігійных справаў. Па-за Царквой знаходзіцца кожны той, хто ня моліцца Богу, не спавядаецца й не прымае Сьвятога Прычасьця, не вызнае Праўды Веры Праваслаўнай і царкоўных канонаў. Людзі, якія сваім жыцьцём стаяць па-за Царквой, ня маюць права браць голас у царкоўных справах або вырашаць царкоўныя пытаньні. Тым больш ня маюць права ўмешвацца ў нашы беларускія царкоўныя справы ды вырашаць іх іноверцы. На сьвітаньні

сваёй гісторыі беларускі народ быў праваслаўным. Ход гістарычных падзеяў разгарнуўся так, што беларусы вызнаюць дзьве рэлігіі: праваслаўе – 85% усяго насельніцтва, каталіцтва – меншасьць. Мы, праваслаўныя, ня ўмешваемся ў рэлігійныя справы рыма-католікоў, хоць і ў іх зь беларускага нацыянальнага пункту гледзішча ня ўсё ў парадку. У пару акупацыі Заходняе Беларусі палякамі беларускае рыма-каталіцкае духавенства падпарадкавалася польскай вышэйшай касьцельнай уладзе і, спаўняючы волю апошняе, без найменшага супраціву пакінула свой беларускі каталіцкі народ ды пайшло за граніцу рабіць там місыянерскую работу паміж чужынцамі. Іншая невялікая частка запёрлася ў кабінэты й працавала над выдавецтвам рэлігійнае літаратуры на беларускай мове, хоць гэтае літаратуры беларусы каталікі ня чыталі, бо асталіся пад апекай ксяндзоўпалякаў. Вынікам такое сытуацыі было хуткае апалячваньне беларусаў каталікоў.

Так было на Бацькаўшчыне. Ды ня лепш справа прадстаўляецца ў эміграцыі. Хто бываў у польскіх ДП лягерох у Нямеччыне (Фульда, Вільдфлекэн, Равэнсбург, Браўншвайг, Оснабрук і інш.), той спаткаў там тысячы беларусаў рыма-каталікоў, якімі апекаваліся выключна польскія ксяндзы, а беларускае рыма-каталіцкае духавенства туды нават не паказвалася. Дык няма нічога дзіўнага, што беларусы рымакаталікі лічаць сябе палякамі, хоць паходзяць з-пад Налібокаў ды Вялейшчыны. Магчыма, для рыма-каталіцкіх ксяндзоў ня гуляе ролі нацыянальнасьць, галоўнае – прыналежнасьць да Рыма-каталіцкага Касьцёлу. Праўда, выняткам быў сьвятой памяці кс. маг. В. Гадлеўскі, які за сваю беларускую дзейнасьць у Жодзішках ды іншых месцах быў суджаны польскім судом. Падчас Другое сусьветнае вайны гэты выдатны рыма-каталіцкі духаўнік, чалавек крыштальнае душы, быў арыштаваны гэстапа ў Менску на каляды 1942 году, пасьля чаго аб ім загінуў сьлед. Не зважаючы на стараньні беларускае грамадзкасьці, нямецкія нацысцкія ўлады не далі аб ім ніякае інфармацыі. Паводле агульнага пераканання, ён расстраляны гэстапа.

Асобнае месца ў нашых дачыненьнях займае г. зв. вунія. Яна была створана ў 1596 годзе ў Берасьці й зьяўляецца пасьлядоўным працягам палітычнае вуніі ў Любліне (1569). Палітычная Люблінская вунія клала канец беларускай дзяржаўнасьці ў форме Вялікага Княства Літоўскага. З мэтаю паланіць беларускі народ ня толькі палітычна, але й духова, і была прыдумана г. зв. рэлігійная вунія. Яна ўвайшла ў гісторыю беларускага народу як адна з самых цёмных бачын. Здрада й прымус былі сродкамі пашырэньня вуніі на Беларусі. Зараз на Беларусі ад вуніі апрача ганебнага ўспаміну не асталося ніякіх сьлядоў. Хіба-ж нельга лічыць нейкім гістарычна абумоўленым сьледам тыя адпадкі праваслаўнае

беларускае грамадзкасьці, якімі карыстаецца вунія зараз, намагаючыся адрадзіцца ў беларускім асяродзьдзі. Вунія на Беларусі – не рэлігія. Гэта пераходны мосьцік з праваслаўя ў каталіцтва. Яна народжана не па тое, каб жыць, як гэта мае месца з сапраўднымі рэлігіямі. Посьпех і няўдача вуніі абазначае яе сьмерць. У першым выпадку яна павінна памерці для трыумфу Рыма-каталіцкага Касьцёлу, калі, адарваўшы вернікаў ад Сьвятога Праваслаўя, складзе іх да ног папскага прастолу. У другім выпадку яна памірае ў выніку браку грунту пад нагамі, як нежыцьцёвы твор, бо ня можа жыць тое, што нарадзілася, каб памерці ўва ўлоньні маткі.

У нашых беларускіх дачыненьнях вунія памерла, і ніхто яе не ажывіць. Дарэмна стараецца кс. Гарошка й тыя, што зь ім на чале, са спадаром Абрамчыкам, – вунія на Беларусі назаўсёды пахавана ў гістарычным архіве. Мы – талерантны народ. Мы ня ўмеем некага ненавідзець за ягоныя іншыя, чым нашы, рэлігійныя перакананьні. Мы шануем кожную веру, а значыць, і каталіцкую, але вунія – гэта ня вера.

Нам вельмі дзіўна, што людзі г. зв. крывіцкае групоўкі зь пенай на вуснах бароняць БАПЦ. Нам дзіўна, бо гэта робяць людзі, якія ў пару нямецкае акупацыі нападалі на адноўленую БАПЦ. Яны рабілі гэта, выконваючы патаемныя загады бальшавікоў, немцаў ды іншых ворагаў беларускае аўтакефаліі. Нападалі й аплёўвалі ў друку нямецкае прапаганды па-беларуску. Перадавое месца ў гэтым заняла газэта „Раніца"[1].

Нам вельмі дзіўна, што людзі г. зв. крывіцкае арыентацыі ваююць за БАПЦ, а пару гадоў таму назад газэта „Бацькаўшчына" пісала: „Нам трэба парваць із шкоднай традыцыяй нашага беларускага селяніна, які аднаго сына вуча на „пісара" (валаснога п'яніцу), а другога – на сьвятара"[2]. Нам вельмі дзіўна, што людзі г. зв. крывіцкае арыентацыі як-бы змагаюцца за БАПЦ і ў гэты самы момант пішуць: Адносна канонаў мы маем іншыя меркаваньні. Мы людзі XX-га веку й ня жывём уяўленьнямі сярэднявечча. За зьмены гэтых устарэлых канонаў вяліся працяглыя войны..."[3].

Згодна з навукай Праваслаўнай Царквы каноны – гэта асноўныя законы, якімі павінны кіравацца епіскапы, духавенства, манахі й вернікі. Без канонаў ня можа існаваць Царква. Бязь іх зьнікне царкоўнае адзінства, дысцыпліна й запануе хаос. Адмаўленьне канонаў вядзе да расколаў, гэрэзыяў і сэктаў. Гэта тое, што патрэбна ворагам БАПЦ, а не яе сапраўдным абаронцам.

---

[1] „Раніца", № 12 (174), Бэрлін, 1944, 19 сакавіка.
[2] Гл.: Др. Я. М., На тэмы дня, „Бацькаўшчына", № 17(20), Мюнхэн, 1948, 23 травеня, б. 2.
[3] „Патрыёт", №1 (6), Брадфорд (Англія), 1951, сакавік, б. 9.

Ад Праваслаўнай Грэцкай Царквы зь Візантыі ўвесь беларускі народ прыняў праваслаўную веру. Зь Візантыі, а ня з Рыму прыйшло да нас, на Беларусь, хрысьціянства, а зь ім хрысьціянская мараль і культура. Амаль увесь беларускі народ вызнае праваслаўе як сваю веру. Народ наш надзвычай рэлігійны, і таму свае традыцыі й абрады праваслаўныя пабудаваў на хрысьціянскай маралі. Уся Беларусь з даўніх часоў пакрыта прыгожымі праваслаўнымі сьвятынямі, якія пабудаваў сам наш беларускі народ і абараняў у пару рэлігійнае барацьбы (XVI – XVIII стагодзьдзі). У апошняе чэцьверцьвечча ні страх сьмерці, ні турма, ні ссылкі, ні канцэнтрацыйныя лягеры не змаглі зламаць праваслаўнай веры ў нашым народзе. Ён мужна прайшоў праз зьдзек, і ў кожным беларускім сэрцы гарыць полымя праваслаўнае веры прадзедаў, дзядоў, бацькоў.

Грэцкая Праваслаўная Царква, а не Расейская зьяўляецца маткай Беларускай Праваслаўнай Царквы. Лучнасьць Грэцкай Праваслаўнай Царквы-Маткі зь Беларускай Праваслаўнай Царквой існуе на працягу ўсіх стагодзьдзяў і ў хвіліну патрэбы Царква-Матка аказвае сваю духовую дапамогу... Так, напрыклад, калі беларускі народ пасьля здрады праваслаўных епіскапаў, якія прынялі вунію, астаўся сам без вышэйшае гіерархіі, у 1620 годзе Беларусь і Ўкраіну наведаў Канстантынопальскі патрыярх Феафан і аднавіў вышэйшую праваслаўную гіерархію. Украінскі праф. Д. Дарашэнка піша: „Выкарыстоўваючы прыезд на Ўкраіну Царгародзкага патрыярха Феафана, Сагайдачны дасягнуў высьвячэньня на мітрапаліта І. Барэцкага, а акрамя таго, чатырох епіскапаў. Такім спосабам праваслаўная гіерархія для Ўкраіны й Беларусі была адноўлена ў законны кананічны спосаб, і хоць польскі ўрад не хацеў яе вызнаць, але факт астаўся фактам"[4].

Сягоньня, калі беларуская гіерархія на эміграцыі адышла ад свае Царквы й спалучылася з Расейскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквой, Сусьветная Канстантынопальская Патрыярхія прыняла пад сваю апеку Беларускую Праваслаўную Царкву. Падобна таму, як у 1620 годзе гэты факт ня быў па сэрцы палякам, як кажа праф. Д. Дарашэнка, так і сёньня на эміграцыі гэты факт не па сэрцы польскай агэнтуры, якая працуе ў асяродзьдзі г. зв. крывіцкае групоўкі. На ўсе лады забілі трывогу г. зв. „айцы", „рэдактары", „старшыні", „аграномы", калі даведаліся аб тым, што Беларускай Праваслаўнай Царквой у Амэрыцы заапекаваўся Сусьветны Канстантынопальскі патрыярх у асобе свайго экзарха – архіепіскапа Міхаіла. Вось як аб гэтым гаворыць крывіцкая прэса:

[4] Православна Церква в минулому и сучасному житті Українського Народу, Берлін, 1940, сс. 34 – 35.

„Пасьля чатырохгадовага разьбіваньня беларускае справы ў супалцы з Расейскай Зарубежнай Царквой, найвышэйшы савет зарубежнікаў – прэзыдыюм пленуму й калегія БЦР – пастанавілі ўвайсьці пад апеку Грэцкае Царквы. Гэта ёсьць натуральны вынік палажэньня, у якім аказалася сама Расейская Зарубежная Царква, якая ў насьледак расьсяленьня перамешчаных асобаў згубіла амаль усе свае прыходы й цяпер мусіць прасіцца й шукаць прытулку для сваіх безработных сьвятароў у іншых мясцовых цэрквах. Епіскапскія мантыі й тытулы Расейскай Зарубежнай Царквы ўжо не памагаюць нашым зарубежнікам у падкопваньні беларускіх арганізацыяў перад IРО й амэрыканскімі акупацыйнымі ўладамі, як гэта было ў Нямеччыне. Дзеля гэтага зарубежнікі здрадзілі сваіх апекуноў (зарубежны епіскапат) і адкалоліся ад іх, таксама як чатыры гады таму гэты епіскапат адкалоўся ад беларускага грамадзтва. Практычна новы крок зарубежнікаў ня мае значэньня для беларускага грамадзтва, бо стварае толькі ў Саўт Рывэры прыход для аднаго сьвятара. Для беларускае справы асьведчаньне зарубежнікаў азначае іх намер далейшага разьбіваньня беларускага руху й Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы, намер далейшага бадзяньня па чужых задворках. Цяжкая доля прымакоў: з адных прымаў – у другія.Ч."[5] .

Аўтакефалія не зьяўляецца ніякім дагматам веры. Аўтакефалія – гэта чыста кананічнае паняцьце для азначэньня пабудовы Праваслаўнае Царквы. Сусьветная Праваслаўная Царква складаецца з Паместных Цэркваў, якія ў сваім кіраўніцтве незалежныя, або аўтакефальныя.

У царкоўных канонах няма ўказаньняў пра спосаб устанаўленьня аўтакефаліі для новых цэркваў. У канонах Праваслаўнае Царквы знаходзім толькі падставы, пры наяўнасьці якіх Царква можа быць аўтакефальнай. 34-ае правіла Сьвятых Апосталаў падае нацыянальную падставу для царкоўнае незалежнасьці: „Епіскапам кожнага народу належыцца знаць першага між імі...". Правіла 6-ае Першага Сусьветнага Сабору й 17-ае Чацьвертага Сусьветнага Сабору падаюць палітычна-тэрытарыяльныя падставы: „Калі царскай уладай заснаваны або будзе заснаваны горад, дык разьдзел царкоўных парафіяў няхай пасьледуе за цывільным ды земскім парадкам". І сапраўды, у гісторыі Царквы бачым, што гэтыя дзьве падставы далі магчымасьць атрымаць аўтакефалію ў свой час беларусам, сэрбам, румынам ды інш. На вялікі жаль, аўтакефалія новым Цэрквам давалася нялёгка.

Царкоўная гісторыя паказвае, што ініцыятыва ў справе ўнезалежненьня царквы таго ці іншага народу выходзіла ад часткі падпарадкаванае, а не ад мітраполіі, ці „маткі" царквы. Наадварот, цэрквы – „маткі" амаль

---

[5] Гл.: З Варагаў у Грэкі, „Беларус", № 2 (4), Нью Ёрк, 1951, 21 красавіка.

заўсёды супрацiўляліся аддзяленьню й часта, каб утрымаць пры сабе „сястру", вялі зацятую барацьбу. Але гэтая барацьба звычайна канчалася вынікам у карысьць таго народу, які змагаўся за сваю аўтакефалію.

Матывамі да барацьбы за царкоўную незалежнасьць у кіраваньні быў ня толькі прэстыж народу пры яго ўзросьце, але й заданьне: па-першае, стварыць лепшыя ўмовы для пазытыўнага разьвіцьця духоўных якасьцяў у царкоўна-рэлігійным жыцьці свайго народу; па-другое, вызваліцца ад панаваньня ў царкве чужое нацыянальна гіерархіі й духавенства, якія праз царкву праводзілі нацыянальную й культурную асыміляцыю. Гэтымі матывамі кіраваўся беларускі народ, калі ў другой палове XIII стагодзьдзя стварыў Наваградзкую праваслаўную мітраполію, якую ў 1291 годзе зацьвердзіў Андронік Старэйшы, імпэратар Візантыі й прызнаў ёй даволі высокае, бо 82-ое месца ў Патрыяршай Радзе на агульную колькасьць 100. Гэтымі матывамі кіраваўся беларускі народ, калі з часоў Гэдыміна ўтрымоўваў сваю мітраполію на чале зь мітрапалітам Феафілам, які ў 1329 годзе прымаў удзел у Канстантынопальскім Сынодзе[6]. Апрача гэтага, як удзельнік Канстантынопальскага Сыноду, мітрапаліт Наваградзкі ўспамінаецца ў жніўні 1317 і студзені 1327 году[7]. Гэтымі матывамі кіраваўся Альгерд, калі ў 1355 годзе аднавіў Наваградзкую мітраполію. Тады Канстантынопальскі патрыярх высьвяціў мітрапалітам брата Альгердавае жонкі (Марыі Яраслаўны, князёўны Віцебскай) Рамана. Але гэтыя асягненьні здабываліся і ўтрымоўваліся нялёгка. Новастворaная аўтакефальная Наваградзкая мітраполія вяла заўсёднае змаганьне з цэнтралізмам Кіеўскіх мітрапалітаў, якія ўвесь час рабілі заходы перад Канстантынопальскай Патрыярхіяй, каб скасаваць яе. Як вынік гэтага змаганьня ў пару панаваньня Вітаўта (1415) у Наваградку адбыўся Сабор праваслаўных епіскапаў Беларусі (Полацкага, Тураўскага, Смаленскага, Чарнігаўскага), якія выбіраюць аўтакефальным мітрапалітам Наваградзкім Грыгорыя Цамблака. Гэты апошні астаецца мітрапалітам да ягонае сьмерці (1419).

Такім чынам, Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква мае кананічныя й гістарычныя асновы. Зусім зразумела, што беларускі народ працуе над адбудовай разбуранага, а пайменна – над адбудовай Беларускае Праваслаўнае Царквы.

Гістарычныя падзеі разгортваліся так, што беларускі народ трапіў у палон, які трывае стагодзьдзямі. Аднак беларускі народ не пагадзіўся з такім станам рэчаў і змагаецца за права быць незалежным палітычна й духоўна, а значыць, змагаецца й за аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы. Паказьнікам жывучасьці беларускага нацыянальнага

---

[6] Acta Patriarchatus Constantinopolitani..., Vindobonae, 1860, t. 2, p. 147.
[7] J. Daniłowicz, Latopisiec Litwy i Kronika Ruska, Wilno, 1827, ss. 72–143.

духу зьяўляецца разьвіцьцё беларускае незалежніцкае думкі ў XIX і XX стагодзьдзях. Акт 25 сакавіка 1918 году, якім Беларусь была абвешчана незалежнай дзяржавай, зьяўляецца выражэньнем волі мільённых масаў беларусаў мець сваю суверэнную дзяржаву. На жаль, маладая Беларуская Рэспубліка была зноў акупавана сіламі нашых ворагаў з усходу й захаду. Аднак акупанты не змаглі зламаць народнага духу: беларускія незалежніцкія ідэалы жывуць у народных гушчах. Сьведчаньнем жывучасьці гэтых ідэалаў зьяўляецца барацьба за Вольную Бацькаўшчыну, якая пасьля падзелу Беларусі Рыскім трактатам паміж Польшчай і камуністычнай Масквой вялася на прасторы ад Беластоку да Смаленску й каштавала нам шмат крыві. Тыя ахвяры, якія склаў беларускі народ у барацьбе за незалежнасьць, не даюць нам права зрачыся мэты, у імя якое людзі ішлі на сьмерць і ў астрог. Самаахвярнасьць тых, што цярпелі й зьгінулі, натхняе нас на далейшую барацьбу. Гэтай высокай ідэяй кіраваўся мітрапаліт Мелхісэдэк, калі ў 1922 годзе аднаўляў аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы ў акупаванай бальшавікамі частцы Беларусі. Пра аднаўленьне Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы мітрапалітам Мелхісэдэкам 23 ліпеня 1922 году сьведчыць адозва Зьезду прадстаўнікоў гіерархіі, духавенства й вернікаў, выдадзеная ў 1927 годзе, у якой гаворыцца:

„Роўна пяць год таму, у адзін з самых вострых мамэнтаў царкоўнае бязладзіцы, у часы створанага тады бязуладзьдзя ў Царкве й нараджэньня абнаўленчае блытаніны, у Менску, у асяродзьдзі царкоўных людзей узьнікла думка адгарадзіць сваю мясцовую Царкву ад цяжкіх сатрасеньняў, выставіўшы ў якасьці ратуючае котвы ідэю самабытнасьці Беларускай Царквы на нацыянальнае самавызначэньне. Здаровы царкоўны інстынкт самазахаваньня й прагрэсыўная плынь рэлігійнай думкі гарманічна спалучыліся ў гэтым ідэйным руху.

Тым ня менш, акт абвешчаньня Беларускай мітраполіі 23 ліпеня 1922 году, радасна спатканы ўсім праваслаўным насельніцтвам Менскага краю, быў падарваны ў сваім сапраўдным значэньні засільлем абнаўленства й таму ня даў усіх сваіх дабрадзейных для Царквы вынікаў. Далейшая паласа царкоўнага жыцьця ў Менскай епархіі, хоць і вярнула старацаркоўніцтву ягонае сапраўднае месца, таксама мала спрыяла законнаму імкненьню Праваслаўнай Беларусі да адбудовы свайго царкоўнага жыцьця на грунце пастаноў незалежнасьці (аўтакефаліі). Адносіны кіруючых царкоўных кругоў у Маскве да гэтага пытаньня насілі характар пераменны й нясталы, прымаючы то форму спагады (пры нябожчыку патрыярху), то форму выразнай непрыхільнасьці (пры ягоных намесьніках). Прайшло сумнае пяцігодзьдзе, на працягу якога пытаньне Беларускай мітраполіі ня толькі не пасунулася да пажаданага канца, але ўскладнілася рознымі абставінамі царкоўнага жыцьця, пакуль, нарэшце, падзеі апошніх гадоў

не скранулі Беларускую Царкву з стану паралічу. І вось тады жыцьцё зноў высунула тую ідэю аўтакефаліі, якую да гэтага часу прыгняталі царкоўныя веяньні й плыні, нічога супольнага ня маючыя з сапраўднымі інтарэсамі Царквы. Беларускі зьезд, які толькі што закончыўся, увачавідкі паказаў, як глыбока прасякнула гэтая ідэя ў сьведамасьць епархіі й зь якім адзінадушшам яна была санкцыянавана саборным розумам яе – зьездам. Інакш і быць ня можа. У той час, калі сувязі, якія злучалі раней царкоўную акругу з вышэйшым адміністрацыйным цэнтрам, ужо аджылі, калі гэтыя сувязі прыносяць ёй не карысьць, а шкоду, гэтая акруга павінна шукаць апорны пункт у самой сабе, у свабоднай канцэнтрацыі сваіх жывых сілаў, у арганізацыі свайго адміністрацыйнага ладу...

Каму, нарэшце, ня ведамы некаторыя выразныя факты нашай беларускай гісторыі, якая сьведчыць аб наяўнасьці гэтай ідэі ў сьведамасьці беларусаў, продкаў нашых (гісторыя мітрапаліта Грыгорыя Цамблака ў XV веку), нягледзячы на ўвесь шматвяковы й рэлігійны цяжар, пад якім мы жылі...".

Апрача гэтага, Я. Найдзюк у працы „Беларусь учора і сёньня" ў разьдзеле „Да бібліяграфіі" прапануе наступную кнігу: „Белорусская Автокефальная Православная Церковь. Устав Союза Православных староцерковных общин в своей совокупности образующих Белорусскую Автокефальную Православную Церковь" (Менск, 1927)[8].

Вось аўтарытэтнае жарало свайго часу, якое сьведчыць пра аднаўленьне Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы. На жаль, бальшыня матар'ялаў, адносна цікавячае нас тэмы, загінула ў агні бальшавіцкага антырэлігійнага тэрору. Высокавартасны матар'ял даюць нам жывыя сьведкі. Савецкая ўлада зь першых дзён яе існаваньня пачала бескампрамісную барацьбу з Праваслаўнай Царквою. Вёўся наступ на праваслаўную гіерархію, духавенства й вернікаў. Мгр. А.М. піша: „Барацьба вялася ўсімі магчымымі сродкамі й спосабамі: зачыняньнем цэркваў, перарабліваньнем іх на кіно, тэатры, клюбы, магазыны, склады й г. д., высьмейваньнем праваслаўнае веры, арганізацыяй публічных лекцыяў, зьдзекам над духавенствам, вывешваньнем у публічных месцах абражаючых духавенства карыкатураў, арыштамі й высылкай у канцлягеры ды расстрэламі епіскапаў і сьвяшчэньнікаў ды актыўных парафіянаў. Атэізм прапагандаваўся адкрыта, афіцыйна ды з цэлай энэргіяй усюды"[9]. Але нягледзячы на гэта, беларускае рэлігійна-царкоўнае жыцьцё і ў атмасфэры прасьледу Царквы й духавенства не памёрла, а разьвівалася ў напрамку сапраўдных пажаданьняў беларускіх верачых гушчаў.

---

[8] Гл.: Я. Найдзюк, Беларусь учора і сёньня, Менск, 1943, б. 281.

[9] Мгр. А.М., Матэр'ялы да гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы, Нямеччына, 1948, б. 17.

Беларуская царкоўна-рэлігійная думка ў разгляданую намі пару фармавалася ў духу рэлігійна-гістарычных шуканьняў беларускага народу. Падзеі гэтае крытычнае пары паказалі, што ўплывы маскоўскае царквы ня мелі нейкага глыбейшага ўплыву на царкоўную самасьведамасьць беларусаў. Прыведзеныя намі вышэй вытрымкі з Пасланьня Сабору беларускіх герархаў, духавенства й вернікаў сьведчаць вымоўна аб тым, што ідэя аўтакефальнасьці Беларускае Царквы была тым коранем, зь якога расьце дрэва нашае Царквы.

Кожнае дзеяньне выклікае супрацьдзеяньне. Бальшавіцкі антырэлігійны тэрор і абнаўленчыя акцыі жывацаркоўнікаў вызвалі рэлігійнае пачуцьцё, якое даходзіла да захапленьня, да экстазу. Рух за праваслаўную веру, як веру дзядоў, за беларусізацыю царквы, захапіў беларускія народныя гушчы. Асяродкам гэтага руху быў Менск - сядзіба мітрапаліта Мелхісэдэка (Паеўскага) й сталічнага духавенства, а паменна: протапр. В. Ачапоўскага, прот. С. Кульчыцкага, прот. А. Кіркевіча, прот. Касьцючэнкі, прот. Д. Паўскага, прот. М. Навіцкага, прот. А. Пігулеўскага й інш. У вельмі цяжкіх абставінах мітрапаліт Мелхісэдэк (тады яшчэ епіскап) склікаў 23 ліпеня 1922 году сабор, на якім была абвешчана Беларуская мітраполія, незалежная ад Маскоўскага патрыярха. Першым мітрапалітам Беларускае мітраполіі быў выбраны епіскап Мелхісэдэк. Адначасна былі хіратанізаваны тры беларускія епіскапы: Мікалай - епіскап Слуцкі, Іаан - епіскап Мозырскі й Філарэт - епіскап Бабруйскі. У епіскапа Слуцкага Мікалая быў хіратанізаваны настаяцель Слуцкага Сабору прот. Мікалай Шэмеціла, у епіскапа Мозырскага Іаана быў хіратанізаваны настаяцель царквы ў вёсцы Прылепы, Менскага раёну прот. Іаан Пашын і ў епіскапа Бабруйскага Філарэта быў хіратанізаваны праф. Менскай Духоўнай Сэмінарыі Феадосі Раменскі.

Такім чынам, 23 ліпеня 1922 году актам, прачытаным у Менскім катэдральным саборы, была адноўлена аўтакефалія Беларускае Праваслаўнае Царквы. Цьверджаньне мгр. А.М., што епіскап Мелхісэдэк, „каб абараніць сваю епархію ад пануючае ў Расеі царкоўнай смуты й некананічных узрухаў, маючы на ўвазе распараджэньне патрыярха Ціхана аб аўтаноміях паасобных епархіяў і архіпастырскае пасланьне мітрапаліта Агафангела ў тэй самай справе, пастанавіў арганізаваць Праваслаўную Беларускую Мітраполію й паставіць яе ў незалежнае палажэньне ад Маскоўскай Патрыярхіі"[10], зьяўляецца выказваньнем у духу расейскіх тэндэнцыяў, нэгуючых наяўнасьць самастойніцкіх пачаткаў у будаваньні беларусамі свайго царкоўна-рэлігійнага жыцьця. Аўтар намагаецца зьменшыць нацыянальны пачатак у акце аднаўленьня аўтакефаліі Беларускае Царквы мітрапалітам Мелхісэдэкам у 1922 годзе.

---

[10] Мгр. А. М., op. cit., бб. 19-20.

Заміж „ідэі самабытнасьці Беларускай Царквы на нацыянальнае самавызначэньне"[11] ён прапануе, відавочна, не адказваючае праўдзе тлумачэньне, быццам беларускія аўтакефалісты толькі й выключна выконвалі прапанову патрыярха Ціхана: у цяжкую для Расейскае Царквы пару арганізавалі епархіяльную аўтаномію, або тымчасовую аўтакефалію. Такі падыход да справы нам прыгадвае словы В. Ластоўскага, які ў „Гісторыі Беларускай (Крыўскай) Кнігі" гаворыць у прадмове: „Няма больш занядбанай дзядзіны ў сьветавой пісьменнасьці, як гісторыя паняволеных народаў. Вышэй сказанае асабліва кідаецца ў вочы, калі ўзяць якую-колечы галіну нашай крыўскай гісторыі. То знача гісторыі народу, каторы ня так яшчэ даўно жыў сваім самастойным палітычным і культурным жыцьцём. Супярэчнасьць паміж сьведчаньнем гістарычных помнікаў і асьвятленьнем іх сучаснай пісьменнасьцю проста паражаючая. Бяручы ў рукі кнігу часовых нашых пераможцаў, няведама чаму больш дзівіцца: ці іх бескрытычнасьці, ці паражаючай умеласьці тэндэнцыйна выкарыстоўваць аб'ектыўныя сьведчаньні гісторыі".

На вялікі жаль, гэтыя словы датычаць і мгр. А. М., аўтара кнігі „Матэр'ялы да гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы". Толькі наяўнасьць тэндэнцыйнасьці тлумачыць нэгаваньне нацыянальна-беларускіх пачаткаў у адбудове Аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы. Толькі той чалавек, які ня хоча бачыць, можа не дагледзець нацыянальнага кораня ў Пасланьні зьезду духавенства й вернікаў Менскае епархіі 10 жніўня 1927 году, бо-ж там сказана, што глебай, на якой вырасла й сфармавалася думка беларускае царкоўнае аўтакефаліі, зьяўляецца „ідэя самабытнасьці Беларускае Царквы на нацыянальнае самавызначэньне". У цытаваным ім і намі дакуманце нідзе няма мовы аб распараджэньні Сьвяцейшага патрыярха Ціхана, але затое шмат гаворыцца пра гістарычныя падставы беларускае аўтакефаліі. Там нідзе не паклікаюцца на аўтарытэт Маскоўскага патрыярха, затое гаворыцца пра аўтарытэт мітрапаліта Беларускае Праваслаўнае Царквы Грыгорыя Цамблака. Калі-ж гутарыць пра дачыненьні Маскоўскае Патрыярхіі да ідэі аўтакефальнасьці Беларускае Царквы, дык у дакуманце, на які паклікаецца мгр. А. М., сказана выразна: „Адносіны правячых царкоўных сфэраў у Маскве да гэтага пытаньня насілі характар зьменны й нясталы, прымаючы то форму прыхільнасьці, то форму адчыненай варожасьці". Аб тым, што аўтакефалія Беларускае Царквы ў разгляданую намі пару насіла характар сталы, а не часовы, як гэтага хоча мгр. А. М., сьведчаць яе (Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы) выданьні, аб якіх мы гаварылі вышэй. І, нарэшце, ідэя беларускае аўтакефаліі зрадзілася не ў цяплярнай атмасфэры прыхільнасьці Маскоўскае

---

[11] Тэкст Пасланьня зьезду.

Патрыярхіі, а ў атмасфэры выразнае варожасьці маскоўскага бальшавізму й Маскоўскага патрыяршага прастолу, якія сумесна ліквідавалі БАПЦ, а катэдральны сабор у Менску, скуль было абвешчана аднаўленьне БАПЦ, быў зьмецены з твару зямлі дынамітам.

Ліквідацыя БАПЦ адбывалася жорстка й плянова. Напачатку мітрапаліта Мелхісэдэка й тых, што былі зь ім (менскае саборнае духавенства), у канцы 1922 году абвінавацілі ў затойваньні царкоўных каштоўнасьцяў, якія падлягалі здачы савецкай уладзе для галадаючага Паволжа. На мітрапаліта Мелхісэдэка наклалі хатні арышт, а рэшту саборнага духавенства накіравалі ў астрог. Абвінавачваньне не адпавядала сапраўднасьці: усе каштоўнасьці Менскага катэдральнага сабору, нават рызы з абразоў, былі здадзены савецкай уладзе. Асталіся толькі сасуды, неабходныя для выконваньня Бажэсьцьвеннае літургіі, але ўзамен за гэта былі здадзеныя ў патройнай колькасьці прадметы хатняга абіходу, якія па просьбе духавенства сабралі спаміж сябе парафіяне. Пратрымаўшы духавенства шэсьць месяцаў у астрозе, савецкая ўлада зладзіла над ім паказальны працэс. Працэс працягваўся пяць дзён. Мэтай працэсу было паганьбіць духавенства ў вачах народу. Працэс выклікаў парушэньне ў Менску: мянчане праявілі вялікую зацікаўленасьць лёсам свайго духавенства. Заля суда была перапоўненай. Натоўпы зьбіраліся й перад будынкам суда, так што моцныя аддзелы пешае й коннае міліцыі былі змабілізаваны для падтрыманьня парадку. Аднак намаганьні савецкае ўлады паганьбіць духавенства ня мелі посьпеху. Апошняе слова спасярод абвінавачаных меў настаяцель Менскага катэдральнага сабору а. Касьцючэнка, які гаварыў: „Галоднае Паволжа патрабуе дапамогі каштоўнасьцямі. Усе царкоўныя каштоўнасьці сабору здадзены. Вернікі Менска і ўсяе Беларусі прасілі пакінуць рызу на Цудатворнай Менскай Іконе. Узамен гэтай рызы яны сабралі ў тры разы больш каштоўнасьцяў для галадаючага Паволжа, чымся рыза, але савецкая ўлада патрабавала толькі рызу з Цудатворнае Менскае Іконы, каб накарміць галадаючае Паволжа. З болем у сэрцы прышлося аддаць і гэтую агульна шанаваную сьвятасьць, каб накарміць галоднае Паволжа".

Суду прышлося апраўдаць абвінавачанае духавенства. Пасьля гэтага больш не рабіліся паказальныя працэсы над духавенствам. Сакрэтная калегія ГПУ самаўладна арыштоўвала, судзіла, высылала ў ссылку й расстрэлівала. Другім цяжкім ударам, нанесеным Беларускай Царкве, быў выклік мітрапаліта Мелхісэдэка ў Маскву. Там яго пасадзілі ў астрог. Савецкая ўлада сумесна з „блюстителем" Маскоўскае Патрыярхіі дамагаліся ад мітрапаліта Мелхісэдэка, каб ён зрокся тытулу мітрапаліта Беларускае Аўтакефальнае Царквы й даў пісьмовае абяцаньне, што ў Менск больш ня зьвернецца. Ці даў такое абяцаньне мітрапаліт Мелхісэдэк – нам няведама, але ў Менск ён ужо не зьвярнуўся.

З Масквы яго выслалі на пасяленьне ў Краснаярск. Праз нейкі час мітрапаліт Мелхісэдэк прыбыў у Маскву, дзе раптоўна памёр у рызьніцы царквы перад пачаткам Бажэсьцьвеннай літургіі. Яго пахавалі, праўдападобна, на могілках Нова-Дзевічага манастыра. Далёка ад дарагога Менску перастала біцца сэрца беларускага архіпастыра-аўтакефаліста.

Перастала біцца сэрца беларускага мітрапаліта Мелхісэдэка – архіпастыра, які ў самых неспрыяльных абставінах аднавіў аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы. Змоўклі ягоныя вусны, што заклікалі любіць Бога, Царкву й Бацькаўшчыну Беларусь. Аддаючы пашану ягонай архіпастырскай і патрыятычнай дзейнасьці, схіляем галовы перад магілай свайго мітрапаліта. Няхай Ягонае заступніцтва перад Пасадам Усявышняга стане непераможнай абаронай аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы.

Высяленьне й сьмерць мітрапаліта Мелхісэдэка мелі вельмі цяжкія наступствы ў жыцьці Беларускае Праваслаўнае Царквы. Словы Ісуса Хрыста „удару пастыра – і рассыплюцца авечкі" (Ев. Мрк. 14, 27) спраўдзіліся. Пасьля сьмерці мітрапаліта Мелхісэдэка на працягу некалькіх гадоў царкоўнае жыцьцё было спаралізавана ўціскам і тэрорам бязбожнае савецкае ўлады. У гэты адказны момант Бабруйскі епіскап Філарэт робіць спробу ратаваць царкоўную справу. Наражаючыся на арышт, ён прыяжджае ў Менск, дзе 9 – 10 жніўня 1927 году пад ягоным-жа кіраўніцтвам адбываецца Зьезд прадстаўнікоў ад духавенства й вернікаў. Гэты зьезд апрацаваў далейшы плян працы ды выдаў пасланьне, якім заклікаў прадаўжаць працу ў напрамку арганізаваньня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы[12]. Аднак перасьлед Хрыстовае Царквы савецкаю ўладаю прадаўжаецца. Жыцьцё епіскапаў, духавенства й вернікаў у разгляданую намі пару – гэта суцэльная мартыралёгія, якая прыгадвае пару Нэрона. Епіскап Бабруйскі Філарэт памёр у турме, епіскап Мазырскі Іаан памёр у канцлягеры, епіскап Слуцкі Мікалай памёр у турме. Расстрэл, турма, канцлягер, высяленьне за межы Беларусі – вось той крыжовы шлях, якім ішла веруючая ў Бога Беларусь пад уладай бальшавіцкае Масквы. Ноччу 29 ліпеня 1937 году савецкая ўлада арыштавала апошніх духаўнікоў, а цэрквы, дзе яны адпраўлялі Божую службу, зачыніла.

Гэткім чынам, ад 1937 году да нямецкай акупацыі на Беларусі пад савецкай уладай (мы маем на ўвазе акругі, акупаваныя бальшавікамі да 1939 году) не асталося ніводнай дзеючай праваслаўнай царквы. Але савецкай уладзе ўдалося зьнішчыць толькі царкоўную арганізацыю, бо вера ў Бога, праваслаўныя царкоўныя традыцыі ды царкоўны сьветапогляд

[12] Гл.: „Царкоўны Сьветач", № 3, Саўт Рывэр, 1952, б. 6. Паасобнік пасланьня, выданага зьездам, мае а. прот. М. Лапіцкі.

жылі ды будуць жыць у чалавечай сьведамасьці. І вось гэтая сьведамасьць мільёнаў людзей зьяўляецца закансьпіраванымі ад савецкай улады „катакомбамі", куды ня мае доступу моц Крамля.

Інакш склалася жыцьцё Праваслаўнае Царквы на абшарах Беларусі, якія згодна з Рыскім трактатам (1921) апынуліся пад акупацыяй Польшчы. У той час, калі бальшавіцкія акупанты цалкам зьнішчылі царкоўную арганізацыю ў падуладнай ім частцы Беларусі, гэтая царкоўная арганізацыя захавалася пад польскай акупацыяй аж да Другой сусьветнай вайны, маючы назоў „Праваслаўная Аўтакефальная Царква ў Польшчы", згодна з „Томасам" Канстантынопальскага патрыярха Грыгорыя з дня 13 лістапада 1924 году. Даючы „Томас", патрыярх Грыгоры, прыняўшы пад увагу тое, што Праваслаўную Царкву ў Польшчы склалі беларусы ды ўкраінцы, пісаў: „Першае аддзяленьне Кіеўскай мітраполіі ды мітраполіяў Літвы й Польшчы, а таксама прылучэньне іх да Сьвятой Маскоўскай Царквы сталася аднак не паводле прадпісаньняў кананічных правілаў"[13]. Гэтым Канстантынопальскі патрыярх Грыгоры сьцьвярджае, што ў свой час мы былі некананічна (не паводле прадпісаньняў кананічных правіл) прылучаны да Маскоўскай Царквы, якая з тае самае прычыны не зьяўляецца сягоньня нашай Маткай Царквой. Аўтакефалію Праваслаўнае Царквы ў Польшчы прызналі ўсе іншыя аўтакефальныя Цэрквы, апрача Масквы. Прызнаючы Праваслаўную Аўтакефальную Царкву ў Польшчы (яна была абвешчана 17 верасьня 1925 году) ды навязваючы зь ёю лучнасьць, усе аўтакефальныя Праваслаўныя Цэрквы прызналі й некананічнасьць прылучэньня ў свой час да Масквы Праваслаўнае Царквы на Ўкраіне (Кіеўская мітраполія) і Беларусі (Літоўская мітраполія). Гэткім чынам, прызнаньне Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы ў Польшчы ўсім праваслаўным сьветам, за выняткам Масквы, мае ў гістарычным пляне вялізную вагу, выкрывае некананічнасьць падпарадкаваньня Беларускае Царквы Маскоўскай.

Праваслаўная Аўтакефальная Царква ў Польшчы мела пяць епархіяў: Варшаўска-Холмскую, Валынскую, Палескую, Горадзенскую й Віленскую. Тры апошнія паводле нацыянальнага складу іх насельніцтва былі блізу чыста беларускімі, калі не лічыць некалькіх парафіяў у большых гарадох, дзе абасноваліся былі расейскія эміграцкія колы або рэшткі чыноўніцкага апарату былое расейскае акупацыі.

Адносіны польскага ўраду да праваслаўя выражаліся тэрмінам „талеранцыя". У практыцы гэтая талеранцыя вельмі часта вылівалася ў дыскрымінацыю, якая насіла больш або менш вострыя характар, у залежнасьці ад абставінаў, месца й часу. Каб апраўдаць сваё непрыхільнае, а часам і выразна варожае адношаньне да праваслаўя (глядзі ніжэй сьведчаньне

---

[13] M. Zyzykin, Autokefalia i zasady jej zastosowania, Warszawa, 1931, ss. 90–91.

польскага публіцыста Ст. Мацкевіча-Цата), польскія кіруючыя колы гаварылі, што праваслаўе прыпамінае ім нацыянальна-рэлігійны ўціск пары расейскае акупацыі. На вялікі жаль, трэба сьцьвердзіць, што праваслаўнае духавенства на Беларусі, пачынаючы ад вышэйшай іерархіі ды канчаючы парафіяльным духавенствам, у бальшыні было расейскім, калі не паводле паходжаньня, дык паводле нацыянальных адчуваньняў. Гэта й паслабляла пазіцыі праваслаўя ў ягоным абаронным змаганьні з каталіцтвам, якое, згодна з Канстытуцыяй Рэчы Паспалітае Польскае, лічылася веравызнаньнем пануючай большасьці. Цэнтральныя ўстановы мітраполіі ды кансысторыяў, а таксама духоўная праваслаўная сэмінарыя ў Вільні былі абсаджаны расейцамі. Дык няма нічога дзіўнага, што ў гэткага духавенства й ня было супольнае мовы зь беларускім праваслаўным морам. Вось як акрэсьлівае суадносіны духавенства й вернікаў польскі публіцыст Ст. Мацкевіч-Цат: „Popi i archireje byli to ludzie całkowicie zawieszeni w powietrzu. Rosji bolszewickiej obawiali się najwięcej. Emigracja rosyjska, do której lgnęły może ich serca, nic im dać nie mogła. Owczarnie mieli białoruską lub ukraińską, ▪ ponieważ sami czuli się moskalami, Rosjanami, więc nawet i ta owczarnia nie dawała im dostatecznego politycznego poparcia”[14].

Наколькі варожымі да ўсяго беларускага былі адносіны расейскага духавенства, можна судзіць хоць бы на падставе таго, што яно адмовілася ўвясьці беларускую мову як мову пісьмаводзтва, заміж расейскае, калі гэту апошнюю, як мову чужую, забараніў польскі ўрад. І вось тады расейскае духавенства паказала свой сапраўдны твар: яно не пажадала карыстацца мовай сваіх вернікаў – беларускай, а выбрала польскую. Гэткае становішча было аднолькава шкодным і для Праваслаўнае Царквы, і для беларускае справы, бо адчыняла дзверы палянізацыйнай дзейнасьці польскага ўраду. А гэтая шырокая палянізацыйная акцыя ўрадавых колаў не прымусіла чакаць сябе доўга. Яна паплыла праз урадавыя й напалову ўрадавыя ўстановы, праз касьцёл і нават праз царкву. І вось у тую адказную пару беларускія праваслаўныя гушчы ды нешматлікае нацыянальна-сьведамае беларускае праваслаўнае духавенства ставіць супраціў спробам русыфікацыі й палянізацыі. Ствараюцца беларускія царкоўна-грамадзкія арганізацыі. Асяродкам нацыянальна-рэлігійнай дзейнасьці зьяўляецца Вільня. Тут і нараджаюцца большыя рэлігійна-нацыянальныя арганізацыі як Беларускае Дэмакратычнае Праваслаўнае Аб'еднаньне й Беларускі Праваслаўны Царкоўны Камітэт. Кожная з гэтых арганізацыяў выдае свой часапіс: Беларускае Дэмакратычнае Аб'еднаньне – „Праваслаўную Беларусь”, а Беларускі Праваслаўны Царкоўны Камітэт – „Сьветач Беларусі”. Побач з гэтым выходзіць у сьвет грамадзка-рэлігійны часапіс „Беларуская

[14] S. Mackiewicz (Cat), Historia Polski od 11 listopada 1918 r. do 17 września 1939 r., Londyn, 1941, s. 312.

Зарніца", які выдае й рэдагуе а. прот. А. Коўш. Дзейнасьць беларускіх царкоўных сілаў ішла ў двух напрамках: праз прэсу й арганізацыю аддзелаў у парафіях, г. зн. у напрамку нізоў, арганізуючы іх ды падтрымоўваючы ідэйна, а з другога боку - угару, дзе рабіўся націск на мітрапаліта ды гіерархію. Захады беларускіх царкоўных дзейнікаў займелі посьпех: з аднаго боку, ідэя беларусізацыі царквы жыла ў народных гушчах, а з другога боку, царкоўная гіерархія вымушана была пайсьці на некаторыя ўступкі беларусам, як напрыклад, увядзеньне выкладаньня беларускае мовы ў Віленскай духоўнай праваслаўнай сэмінарыі побач з выкладаньнем гісторыі ды геаграфіі Беларусі. Вялікім асягненьнем былі закладзіны беларускага лектарату на багаслоўскім факультэце Варшаўскага ўнівэрсытэту. У беларускім нацыянальным пляне гэта мела вялізнае значэньне, бо падрыхтоўвала будучых беларускіх праваслаўных сьвятароў да разуменьня культурных вартасьцяў беларускага народу.

Аўтар гэтага нарысу прыпамінае сабе выпуск абсальвэнтаў Віленскае духоўнае праваслаўнае сэмінарыі ў 1930 годзе. Усе абсальвэнты, за малым выняткам, былі сьведамымі беларусамі. Ды калі яны прыбылі на праваслаўны багаслоўскі факультэт у Варшаву, аб'яднаўшыся з студэнтаміўкраінцамі, адразу авалодалі „Колам праваслаўных тэалёгаў", якое да гэтага часу знаходзілася ў руках тэалёгаў-расейцаў. Студэнцкі часапіс „Путь Правды", які друкаваўся ў расейскай мове, ад гэтага часу выходзіў у сьвет у беларускай, украінскай, расейскай і польскай мовах.

Дзякуючы ўзьдзеяньню на мітрапаліта, была створана Беларуская Камісія для выдаваньня падручнікаў рэлігіі. Захадамі гэтай Камісіі былі выдадзены: Закон Божы Старога Запавету (мгр. С. Паўловіча), Закон Божы Новага Запавету й Малітваслоў. Пазьней, калі польскі ўрад зачыніў амаль усе беларускія школы, а выкладаньне Закону Божага для беларускіх дзяцей вялося ў польскай мове, Камісія выдала Беларускі Лемантар (падаруначак для беларускіх дзетак) з малітвамі й кароткім нарысам з Старога й Новага Запаветаў. Мэтай выдавецтва было: даць магчымасьць навучыць дзяцей дома чытаць па-беларуску й адначасова навучыць іх Закону Божаму ў роднай мове.

Найбольш востры прыгнёт адчулі беларусы ў апошняе дзесяцігодзьдзе існаваньня Рэчы Паспалітай. Вышэйшыя адміністрацыйныя становішчы на Беларусі, як ваяводзтвы ды староствы, былі абсаджаны людзьмі тыпу Косткі-Бэрнацкага ды Бацянскага. Гэта былі вышэйшыя афіцэры польскае арміі - генэралы ды палкоўнікі, чый палітычны кругагзор быў вельмі абмежаваны наагул, а ў галіне ўнутранае нацыянальнае палітыкі гэтыя людзі ведалі адзіны дэвіз - „дзяржы й не пушчай". Дык ня дзіва, што гэткія носьбіты адміністрацыйнае ўлады на казарменны ўзор зьліквідавалі ўсе дзеючыя беларускія ўстановы й газэты.

Пасьля няўдалай спробы пашырэньня вуніі на Беларусі (маем на ўвазе архімандрыта Піліпа Марозава, Гапановіча, Ружыцкага ды інш.), польскі ўрад скарыстоўвае Праваслаўную Царкву як аружжа паляніза-цыі беларусаў. Зьяўляецца канцэпцыя г. зв. „праваслаўных палякаў". У гэты адказны час расейская іерархія й духавенства замест таго, каб сумесна зь беларускім народам супрацьставіцца рэлігійнаму й нацыянальнаму прыгнёту, пайшлі на нейкі кампраміс з палякамі, шкодны для праваслаўя й беларускае справы, але даўшы часовую матар'яльную карысьць самому духавенству. Замест даўно абяцанага дэкрэтам прэзыдэнта Рэчы Паспалітае царкоўнага сабору, які павінен быў урэгуляваць юрыдычнае становішча Праваслаўнае Царквы, польскі ўрад увёў у жыцьцё Статут, які цалкам узалежніў Царкву ад адміністрацыі ня толькі вышэйшай, але й ніжэйшай. На падставе Статуту польская адміністрацыя выдавала загады праваслаўным сьвятаром гаварыць пропаведзі для беларусаў па-польску, а таксама выкладаць Закон Божы для беларускіх дзяцей па-польску. У Варшаве, Горадні й Вільні пачалі выдаваць праваслаўныя газэты па-польску. У Горадні быў адчынены Праваслаўны Навуковы Інстытут, які заняўся перакладам праваслаўных багаслужэбных кнігаў на польскую мову ды выдавецтвам прапагандовых брашураў у польскім патрыятычным духу. Зьліквідавалі Віленскую праваслаўную духоўную сэмінарыю, а ў Варшаве заснавалі праваслаўны ліцэй у чыста польскім нацыянальным духу. Праваслаўны багаслоўскі факультэт у Варшаве ды інтэрнат пры ім поўнасьцю спалянізавалі. Польская ўлада старалася спалянізаваць Праваслаўную Царкву ды аднач асна з гэтым здэмаралізаваць яе. З мэтай раскласьці адзінства царкоўнае іерархіі, польскі ўрад дамогся высьвячэньня двух епіскапаў, якія абвясьцілі сябе палякамі. Адзін зь іх – епіскап Мацьвей (Сямашка) прыбыў на Беларусь ды, абаснаваўшыся ў Вільні, павёў шырокую палянізатарскую працу. Аб настроях праваслаўнага насельніцтва найлепш сьведчыць дэманстрацыя, якою прывіталі ў Вільні епіскапа Мацьвея, калі ён служыў удзячны малебен. Для супакаеньня натоўпу, узбуранага выступленьнем епіскапа Мацьвея, была паклікана польская паліцыя. Дэманстранты дамагаліся ад епіскапа Мацьвея, каб ён пакінуў Вільню. Толькі пасьля таго, як аддзелы польскае паліцыі зрабілі шматлікія арышты дэманстрантаў, епіскап Мацьвей адважыўся выйсьці з царквы й пасьледаваць у епіскапскія пакоі. Хоць епіскап Мацьвей прыбыў у Вільню ў якасьці вікарнага епіскапа, на самай справе ён зьяўляўся кіруючым, бо ўсе справы Віленскай епархіі належалі да яго. Ад гэтага часу пачынаецца новы курс палянізацыйнае акцыі, у якой прымае ўдзел праваслаўны епіскап зь ягонымі супрацоўнікамі.

Пачатая ў 1937 годзе адміністрацыйнымі й вайсковымі коламі ўзмоцненая палянізацыйная дзейнасьць дасягнула кульмінацыйнага пункту

летам 1939 году, але замест карысьці яна прынесла Польшчы толькі шкоду. Вось як расцэньвае польскую ўнутрынацыянальную палітыку польскага ўраду польскі-ж публіцыст Ст. Мацкевіч-Цат: „Wojsko zaczęło przymusowo nawracać prawosławnych na katolicyzm i nawet palić niektóre cerkwie prawosławne, uznane za zbędne. Te dzikie, głupie i nikczemne wybryki wyrządziły niesłychaną szkodę naszemu Państwu"[15]. Пры такім стане рэчаў пачалася вайна, якая для Заходняй Беларусі прынясла новага акупанта – бальшавіцкую Расею.

1 верасьня 1939 году Нямеччына напала на Польшчу без папярэдняга абвешчаньня вайны. У працягу двох тыдняў супраціў польскіх збройных сілаў быў зламаны й большая частка Рэчы Паспалітае была занята немцамі. А 17 верасьня таго-ж 1939 году чырвоная армія перайшла ўсходнюю мяжу Польшчы, каб, згодна дамоўленасьці Молатава з Рыбэнтропам, заняць усходнія ваяводзтвы Рэчы Паспалітае, г. зв. заходнія Беларусь і Украіну.

Савецкая ўлада знайшла ў Заходняй Беларусі царкоўнае жыцьцё арганізаваным. За выняткам „ваўкоў у авечай скуры", г. зв. праваслаўных палякаў на чале з арх. Савай і епіскапам Мацьвеем, пакінуўшымі Беларусь, уся гіерархія й духавенства асталіся зь веруючымі гушчамі на бацькаўшчыне, гатовыя прыняць перасьледаваньне за сьвятую праваслаўную веру. Перасьледаваньне ня прымусіла сябе чакаць: у першыя дні акупацыі Заходняй Беларусі бальшавікамі Сьвятая Праваслаўная Царква несла страты ў асобе яе сьвятароў і вернікаў. З прычыны адсутнасьці месца мы ня можам пералічыць імёны ўсіх ахвяраў камуністычнага тэрору, а зьвернем увагу на першыя праявы бальшавіцкага генацыду. Вось гэтыя першыя мучанікі ад рукі бальшавіцкага акупанта на Беларусі: прот. А. Куц зь сям'ёю, замучаны ў Шылавічах, каля Жыровіцаў; а. Камінскі – у Ляўшове, каля Сьвіслачы; а. Бароўскі – у Лашы, пад Горадняй; а. А. Самковіч, каля Пружанаў. Аднычасова з гэтым былі расстраляны: настаяцель царквы ў Зэльве, каля Ваўкавыска (прозьвішча ня помню) і а. Е. Бука, родам з Шаркоўшчыны.

Як мы зазначылі вышэй, ахвярамі антырэлігійнае акцыі савецкае ўлады былі ня толькі сьвятары зь іх сем'ямі, але й вернікі. Як на адзін з прыкладаў гэтага, пакажам на забойства Цімафея Трафімчука, яго жонкі Марыі й сына Ўладзімера ў маёнтку Ярылаўка, Ваўкавыскага павету. Наагул, у першыя дні акупацыі камуністамі заходніх Беларусі і Украіны загінула 25 сьвятароў і значна больш вернікаў. Арышты духавенства, фізічныя абразы, зьнявагі рознага роду, сьвятакрадзтва, якое выяўлялася ў паганьбленьні цэркваў, могілак, іконаў у прыватных памешканьнях –

[15] S. Mackiewicz (Cat), op. cit., s. 313.

вось выявы бальшавіцкае антырэлігійнае акцыі. Усебаковы тэрор быў зброяй гэтае бязбожніцкае акцыі.

Здараліся выпадкі, калі духавенства ў выніку тэрору змушана было пакінуць выконваньне сваіх сьвятарскіх абавязкаў, каб ратаваць сваё жыцьцё, ды ўладжвалася на сьвецкую службу або прабавала перабрацца за межы Савецкага Саюзу. Бальшыня-ж аставалася на сваіх парафіях, абслугоўваючы рэлігійныя патрэбы вернікаў. На гэтых сьвятароў савецкая ўлада накладала вялізныя грашовыя падаткі, за нявыплату якіх карала астрогам або высылкай у канцэнтрацыйныя лягеры. Адначасна з грашовымі падаткамі на духавенства накладаліся адмысловыя нормы выпрацоўкі пры вырубцы лесу, пабудове дарогаў і інш.

Акупацыя Заходняй Беларусі бальшавікамі прынясла зьмены і ў епархіяльным кіраўніцтве Віленскае, Горадзенскае й Пінскае епархіяў. Нягледзячы на тое, што ў Вільні быў кіруючы архіепіскап Феадосі, а ў Пінску архіепіскап Аляксандр, мітрапаліт Сяргей (экзарх Маскоўскае Патрыярхіі) зь ведама й дазволу НКВД пэрфідна працягнуў сваю руку на парафіі Заходняй Беларусі праз сваіх стаўленьнікаў – мітрапаліта Елеферыя й архіепіскапа Панцялеймана. У свой час, калі была абвешчана аўтакефалія Праваслаўнае Царквы ў Польшчы, яе ня прызналі некаторыя епіскапы. Сярод іх былі мітрапаліт Елеферы, які выехаў у Літву, астаўшыся ў юрысдыкцыі Маскоўскае Патрыярхіі, і архіепіскап Панцялейман, які пайшоў у заштат ды падчас акупацыі Заходняй Беларусі бальшавікамі жыў у Жыровіцкім манастыры.

Адразу пасля акупацыі Заходняй Беларусі бальшавікамі архіепіскап Панцялейман заапекаваўся Горадзенскай епархіяй ды хутка пасьля гэтага быў назначаны экзархам Маскоўскае Патрыярхіі на заходнія Беларусь і Украіну. Мала гэтага, ён быў назначаны архіепіскапам Пінска-Наваградзкай епархіі, нягледзячы на тое, што ў Пінску быў архіепіскап Аляксандр.

У гэты самы час мітрапаліт Елеферы зьявіўся ў Вільню ды заняў епіскапскую катэдру. Кіруючы Віленскай епархіяй архіепіскап Феадосі за супраціў быў забаронены ў сьвяшчэннаслужэньні мітрапалітам Маскоўскім Сяргеем і мітрапалітам Елеферыем. Здараліся выпадкі забароны ў сьвяшчэннаслужэньні й радавога духавенства, пераважна беларусаў, за тое, што яно не прызнавала маскоўскае духоўнае апекі.

Не зважаючы на тое, што гэткая забарона ў сьвяшчэннаслужэньні чужою маскоўскаю юрысдыкцыяй клірыкаў Праваслаўнае Царквы ў Польшчы была некананічнай, архіепіскап Феадосі й духавенства, якое асталося на сваіх парафіях, паўстрымоўвалася ад сьвяшчэннаслужэньня, бо ведала, што за плячыма царкоўнае іерархіі стаіць НКВД. Здарылася так, што асоба, якая ліквідавала Беларускую Праваслаўную

Аўтакефальную Царкву на чале зь мітрапалітам Мелхісэдэкам, асоба, на вачах якое былі зачынены ўсе цэрквы ўва Ўсходняй Беларусі, у гэты крытычны для Беларускае Праваслаўнае Царквы момант заявіла свае прэтэнзіі на парафіі Заходняй Беларусі. Нявыключана, што гэтая асоба рабіла гэта з поўнай сьведамасьцю зьліквідаваць царкоўнае жыцьцё і ў рэшце Беларусі так, як гэта было зроблена ўва ўсходняй яе частцы. Пры чым, у гэтай ганебнай акцыі не апошнюю ролю згуляў г. зв. экзарх Маскоўскае Патрыярхіі. Прынамсі, ён ні разу не запратэставаў супраць зьдзеку бальшавіцкае ўлады над Праваслаўнаю Царквою.

У той час, калі ў Менскай, Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай епархіях не было ніводнага епіскапа, ніводнага дзеючага сьвятара, ніводнае адчыненае царквы, мітрапаліт Сяргей, г. зв. экзарх Маскоўскае Патрыярхіі, не паклапаціўся даць духоўную й рэлігійную апеку там, а пасьпяшыўся працягнуць сваю руку на Заходнюю Беларусь, дзе царкоўнае жыцьцё было арганізаваным. Заміж таго, каб сваіх гіерархаў - мітрапаліта Елеферыя й архіепіскапа Панцялеймана, якія ў свой час не прызналі аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы ў Польшчы ды аставаліся ў юрысдыкцыі Маскоўскае Патрыярхіі, - назначыць на тыя асірацелыя катэдры, ён назначыў іх на катэдры, дзе былі гіерархі, але якія не прызнавалі ягонае юрысдыкцыі, бо належалі да Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Польшчы. Гэткая інгэрэнцыя ў справы іншае Царквы, забарона ў сьвяшчэннадзеяньні гіерархаў і духавенства іншае Царквы была актам некананічным і сталася пачаткам ліквідацыі арганізаванага царкоўнага жыцьця ў новаакупаваных бальшавікамі абшарах.

Каб лягчэй было праводзіць задуманую акцыю, у 1940 годзе архіепіскап Панцялейман быў звольнены ад абавязкаў экзарха заходніх Беларусі і Ўкраіны ды заменены больш пэўным у вачох Маскоўскае Патрыярхіі - мітрапалітам Мікалаем Ярашэвічам. Архіепіскап Панцялейман стаўся ад гэтага часу толькі кіруючым архірэем новастворанае Горадзенска-Віленскае епархіі, якая налічвала каля 307 парафіяў. У дапамогу яму быў рукапаложаны вікарны епіскап - архімандрыт Венэдыкт (Бабкоўскі), які, астаючыся настаяцелем Жыровіцкага манастыра, у меру магчымасьці кіраваў разам з а. прот. Е. Каловічам епархіяльнымі справамі. Трэба сказаць, што архіепіскап Панцялейман хутка зарыентаваўся ў палажэньні Царквы пад саветамі. Ён хутка расчараваўся, а наступна абурыўся мэтадамі Масквы, што й было прычынаю пазбаўленьня яго становішча экзарха Маскоўскае Патрыярхіі. Сваё становішча архіепіскап Панцялейман выказаў, між іншым, тым, што зьняў забарону ў сьвяшчэннаслужэньні, наложаную ў свой час на сьвятароў Заходняй Беларусі за непрызнаньне маскоўскае духоўнае апекі.

У 1940 годзе памёр мітрапаліт Елеферы. На яго месца ў Вільню Масква прыслала мітрапаліта Сяргея (Васкрасенскага) з тытулам экзарха

Маскоўскае Патрыярхіі для Прыбалтыкі. Такім чынам, у вельмі кароткі час уся вышэйшая духоўная ўлада на акупаваных бальшавікамі землях Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны й Прыбалтыкі апынулася ў руках маскоўскіх намесьнікаў, якім давярала НКВД. У такой сытуацыі Праваслаўную Царкву на Беларусі спаткала нямецка-савецкая вайна 1941 году.

Пачатак нямецка-бальшавіцкае вайны (22 чэрвеня 1941 году) выклікаў вялікія надзеі беларусаў. Вайна – вялікае зло, гэта добра ведае беларускі народ. Аднак часам вайна бывае адзіным выхадам з сытуацыі. У 1941 годзе сытуацыя беларускага народу была настолькі нязноснай, а нянавісьць беларусаў да бальшавіцкіх акупантаў настолькі вялікай, што беларусы спаткалі вайну бяз страху. Як-ніяк, вайна раскрывала пэрспэктыву зьнішчэньня бальшавізму й вызваленьня Беларусі. Трэба сказаць шчыра, што беларускі народ вітаў прыход немцаў, бо немцы білі бальшавікоў. Але немцы хутка паказалі свой сапраўдны твар. Яны ня толькі ня зьдзейсьнілі таго, чаго чакалі ад іх беларусы, але ня выканалі таго, што самі абяцалі. Вачам беларусаў паказаўся яшчэ адзін нязбытачны міраж.

Аднак, не зважаючы на неспрыяльныя абставіны, беларусы разьлічвалі на разгром Нямеччыны й на непаводзіны Савецкага Саюзу ды імкнуліся асягнуць як найбольшыя нацыянальныя пазыцыі на бацькаўшчыне на выпадак спрыяльных для незалежніцкае справы абставінаў. Кіруючыся гэтым, лепшыя сыны беларускага народу, наражаючыся на сьмерць, зь вялікім патрыятызмам узяліся за адбудову асноваў свайго дзяржаўнага жыцьця. „У барацьбе супраць бальшавіцкай, польскай і расейскай дыверсіяў беларусы ахоплівалі сваім актывам адміністрацыю, паліцыю, школьніцтва, суд, сацыяльную апеку ды іншыя дзялянкі жыцьця"[16]. Несучы крывавыя страты ад ворагаў, і беларускае праваслаўнае духавенства ня было апошнім у гэты адказны час. Сьмерцяй мучанікаў за беларускую справу загінулі: а. прот. Аляксандр Коўш, а. Іван Кушнер, а. Кастусь Маеўскі, а. Мікалай Скабей, а. Вячаслаў Малашка, а. Міхаіл Леванчук, а. Антон Каліноўскі, а. Пётра Бацян, а. Анатолі Сярноў, а. Іван Аляхновіч, а. іераманах Лука, а. Мікалай Міхайлоўскі й а. Аладка. Гэты сьпіс замучаных і забітых духоўнікаў няпоўны. Загінула значна больш, але імёнаў іх не памятаю.

Апрача гэтага, нямала духоўнікаў сядзела ў астрогах пад сталай пагрозай расстрэлу, але Госпад Бог уратаваў іх ад сьмерці.

Падобна як у мінулым, так і падчас Другой сусьветнай вайны на крыві й мучаніцтве расла й разьвівалася адноўленая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Кароткая яе навейшая гісторыя, але якжа багатая падзеямі вялікага значэньня! Гэта свайго роду – эпапэя ў нацыянальным жыцьці беларускага народу.

---

[16] Другі Усебеларускі Кангрэс. Выданьне БЦР, 1954, б. 8.

Вялікі жаль агортвае сэрца, калі чытаеш „Матэр'ялы да гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы"[17], дзе аўтар тэндэнцыйна падае чытачам думку, што Праваслаўная Царква на Беларусі існавала па евангельскіх запаветах, і толькі некалькі асобаў беларускіх нацыяналістаў, людзей нецаркоўных, а можа й атэістаў, не падрыхтаваных да гэтай справы, неэтычных, неперабарлівых у сродках, праводзілі разбуральную й шкодную для праваслаўя работу.

Яшчэ большы жаль агартае, калі бачыш, як безадказныя колы на эміграцыі намагаюцца скампрамітаваць гісторыю нашай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, выкрывіць яе шлях, сьцерці зробленую працу ды зьняславіць яе праз утварэньне г. зв. БАПЦ з Ул. Тамашчыкам на чале.

Падчас нямецкай акупацыі 1941 году, калі паўстала магчымасьць для арганізацыі царкоўнае арганізацыі й царкоўнага жыцьця на Беларусі, у сталіцу Менск, не зважаючы на цяжкасьці ваеннага часу, прыбыло беларускае духавенства (а. прот. Аляксандр Коўш, а. Іосіф Балай, а. Іван Кушнер, а. Мікалай Лапіцкі й а. Н. П.), якое разам зь беларускай адміністрацыяй пачало працу над аднаўленьнем Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Ня толькі ў Менску, але й па іншых акруговых і павятовых гарадох ды мястэчках беларусы распачалі працу ў кірунку беларусізацыі Царквы. Распачаты нацыянальна-беларускі адраджэнскі царкоўны рух рос і пашыраўся, ахопліваючы ўсё болей і болей царкоўнае жыцьцё.

Акупацыйныя нямецкія ўлады дакладна ведалі аб нацыянальна-беларускім адраджэнскім царкоўным руху, але не рабілі ў гэтым напрамку перашкодаў. Адным з лёзунгаў немцаў на ўсходнім фронце быў лёзунг барацьбы за свабоду веравызнаньняў. Вось таму нямецкая палітыка не перашкаджала беларусам у іх нацыянальна-рэлігійнай працы. З гэтымі фактамі мусілі лічыцца мітрапаліт Панцялейман (Ражноўскі) і епіскап Венэдыкт (Бабкоўскі), якія жылі на Беларусі ў Жыровіцкім манастыры й прэтэндавалі на царкоўнае кіраўніцтва. Каб бліжэй запазнацца з сытуацыяй ды прыступіць да арганізацыі царкоўнай адміністрацыі й царкоўнага жыцьця, епіскап Венэдыкт у верасьні 1941 году прыбыў у Менск. Тут епіскап Венэдыкт спаткаўся зь беларускім незалежніцкім духавенствам, а таксама зь беларускай адміністрацыяй на чале з праф. Р. Астроўскім, намесьнікам Менскае акругі.

Пасьля некалькіх нарадаў ды спатканьняў з праф. Р. Астроўскім, зь беларускім духавенствам, епіскап Венэдыкт дакладна запазнаўся з палажэньнем ды з благаславеньня мітрапаліта Панцялеймана згадзіўся прыняць умовы беларускага духавенства й адміністрацыі.

---

[17] Гл.: Мгр. А.М., Матэр'ялы да гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы, Нямеччына, 1948.

Паводле гэтых умоў Праваслаўная Царква на Беларусі павінна была быць аўтакефальнай, незалежнай ані ад Масквы, ані ад Варшавы.

Калі было асягнута поўнае паразуменьне зь епіскапам Венэдыктам, праз некалькі дзён пасьля гэтага епіскап Венэдыкт быў выкліканы ў Генэральны Камісарыят Беларусі, які прызнаў правы мітрапаліта Панцялеймана ды лістом з дня 3 кастрычніка 1941 году падаў свае ўмовы. Умовы, пададзеныя ў гэтым лісьце, былі наступныя:

а) Праваслаўная Царква на Беларусі кіруецца сьвятымі канонамі сваей Царквы, і нямецкая ўлада ня ўмешваецца ў яе ўнутранае жыцьцё;
б) Праваслаўная Царква на Беларусі павінна насіць назоў: „Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Нацыянальная Царква";
в) Пропаведзь, навука Закону Божага й царкоўнае ўрадаваньне павінны быць у беларускай мове;
г) Прызначэньне епіскапаў, сьвятароў і благачынных ня можа стацца бязь ведама нямецкай улады;
д) Павінен быць прадстаўлены Статут Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Нацыянальнае Царквы;
е) Багаслужбы павінны адбывацца на царкоўна-славянскай мове.

Замацаваўшы сваё палажэньне, мітрапаліт Панцялейман прыняў тытул мітрапаліта Менскага і ўсяе Беларусі ды разам зь епіскапам Венэдыктам прыступіў да ўпарадкаваньня царкоўных спраў. З даручэньня мітрапаліта епіскап Венэдыкт утварыў Часовае Мітрапалітальнае Упраўленьне, у якое ўвайшлі: а. прот. І. Балай, а. М. Лапіцкі й а. І. Кушнер. Пачалася праца й жорсткае змаганьне за Беларускую Праваслаўную Царкву.

Гістарычная мінуўшчына пакінула на Беларусі сваю спадчыну на царкоўным грунце. Шматгадовае панаваньне Расейскай імпэрыі на Беларусі й асаблівая ўвага, якую аддавала расейская палітыка Праваслаўнай Царкве, пакінулі ў нашым краі наймацнейшую апору расейшчыны ў асобе Праваслаўнай Царквы. З прычыны гэтага падчас нямецкай акупацыі 1941 году гіерархі, духавенства й царкоўна-прыхадзкі актыў складаўся з расейцаў або з абруселых беларусаў, якія мроілі аб павароце часоў „адзінай і недзялімай" Расеі, а да незалежніцкай беларускай справы ставіліся варожа. Дык няма нічога дзіўнага, што пры аднаўленьні Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на царкоўным грунце на Беларусі пачалі змагацца два нацыянальныя дзейнікі беларускі й расейскі.

Не апошнюю ролю ў гэтым змаганьні па расейскім баку граў, прысланы ў 1940 годзе з Масквы, мітрапаліт Сяргей, які насіў тытул экзарха Прыбалтыкі. Ён, астаўшыся ў Прыбалтыцы на сваім становішчы й пры

нямецкай акупацыі Прыбалтыкі, рабіў захады перад немцамі ў Рызе, а таксама сярод расейскага духавенства на Беларусі супроць аднаўленьня аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Не асягнуўшы такой дарогай свае мэты, мітрапаліт Сяргей і яго памочнікі пачалі акцыю фізычнага зьнішчэньня беларускага незалежніцкага духавенства рукамі немцаў. У першую чаргу расейскія царкоўныя колы склалі правакацыйны данос немцам на а. прот. А. Каўша.

На прот. А. Каўша расейцы былі злосныя за ягоную нястомную дзейнасьць на ніве беларусізацыі царквы. За сваю 25-гадовую сьвятарскую дзейнасьць прот. А. Коўш зрабіў шмат карысьці адраджэньню Беларускае Праваслаўнае Царквы. Будучы законавучыцелем Віленскае Беларускае Гімназіі й кіраўніком інтэрнату гэтае гімназіі, ён узгадоўваў гімназіяльную моладзь у духу пашаны да Бога й Бацькаўшчыны. Ягонымі стараньнямі была адбудавана найстарэйшая царква ў Вільні – Пятніцкая, на вул. Вялікай. Гэтая царква сталася адзінай праваслаўнай беларускай царквой у Вільні й лічылася гімназіяльнай. Прот. А Коўш рэдагаваў і выдаваў беларускі царкоўны часапіс „Беларуская Зарніца", у якім даказаў неабходнасьць аднаўленьня Беларускае Праваслаўнае Царквы ў яе гістарычным аўтакефальным пляне. За адданасьць беларускай справе расейская епархіяльная ўлада ў Вільні неаднаразова забараняла яго ў сьвяшчэннаслужэньні. Асабістая інтэрвэнцыя мітрапаліта Дыянісія часткова стрымлівала глум чарнасоценскіх кансісторскіх колаў у Вільні. Пазбаўлены парафіі, а. прот. А. Коўш на працягу некалькіх гадоў вёў няроўную барацьбу з расейскім засільлем у Вільні. Нарэшце, у 1932 годзе Віленская кансісторыя ў асобе яе расейскага кіраўніцтва асягнула мэту: прот. А. Коўш вымушаны быў пакінуць Вільню й ачоліць парафію ў Ласіцы, Пастаўскага павету. Аднак нянавісьць расейскіх шавіністых не пакінула яго: у 1942 годзе расейцы зь Вільні склалі на яго ілжывы данос немцам. У той час прот. А. Коўш быў сьвятаром у Плешчаніцах і там-жа быў арыштаваны гэстапаўцамі, а хутка пасьля гэтага расстраляны немцамі ў Менску.

Пасьля быў заарыштаваны а. М. Лапіцкі. Пад пагрозаю расстрэлу а. М. Лапіцкі прасядзеў у астрозе некалькі тыдняў і быў звольнены, дзякуючы інтэрвэнцыі беларусаў.

У барацьбе й змаганьні, часта трагічнага зьместу, ішла праца. За досыць кароткі час (1941 – 1944) было зроблена ўсё, што зьяўляецца неабходным для аднаўленьня аўтакефаліі БПЦ. У першую чаргу былі хіратанізаваны тры епіскапы-беларусы: дня 23 лістапада 1941 году ў Жыровіцкім манастыры адбылася епіскапская хіратонія архімандрыта Філафея (Нарко); дня 8 сакавіка 1942 году ў Менску адбылася хіратонія ў епіскапа архімандрыта Афанасія (Мартаса), а дня 15 ліпеня 1942 году

ў Менску адбылася хіратонія ў епіскапа архімандрыта Сьцяпана (а. прот. Сямёна Сеўбы). У сакавіку 1942 году адбыўся пад старшынствам мітрапаліта Панцялеймана Першы Сабор беларускіх епіскапаў. На гэтым Саборы Беларусь была падзелена на епархіі й на кожную епіскапскую катэдру быў прызначаны кіруючы архірэй. На гэтым-жа Саборы быў абраны Сьвяцейшы Сынод Беларускае Праваслаўнае Царквы, як сталы ворган цэнтральнага царкоўнага кіраўніцтва, а таксама быў выбраны Вучэбны Камітэт, заданьнем якога было апрацаваць усе пытаньні вучэбнага й багаслоўскага характару.

У верасьні 1942 году ў Менску адбыўся Сабор праваслаўнай беларускай гіерархіі, духавенства й вернікаў, які прыняў:

1. Пастанову аб тым, што Беларуская Праваслаўная Царква становіцца на шлях рэалізацыі Аўтакефаліі;
2. Праект Статуту Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы;
3. Ліст да Канстантынопальскага патрыярха аб прызнаньні „Томасу" – акту незалежнасьці Царквы[18];
4. Праект лістоў да самастойных Праваслаўных Цэркваў аб прыняцьці Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы ў маліцьвеннае сужыцьце, як роўнае сястры;
5. Пастанову аб тым, што ў царкоўнай пропаведзі, у навучаньні Закону Божага і ў царкоўным справаводзтве павінна быць уведзена беларуская мова;
6. Пастанову аб даручэньні Сабору беларускіх епіскапаў завяршэньня далейшай працы ў кірунку аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы.

Такім чынам, сабор гіерархіі, духавенства й вернікаў у 1942 годзе надаў Праваслаўнай Царкве ў Беларусі беларускі характар **і аднавіў яе аўтакефалію**.

Ліст да Канстантынопальскага Патрыярха,

прыняты Праваслаўным Усебеларускім Саборам у верасьні 1942 годзе ў Менску, апрабаваны пазьней Саборам беларускіх епіскапаў зь некаторымі зьменамі й перададзены ў 1943 годзе ў палітычны аддзел Генэральнага Камісарыяту Беларусі для перасылкі ў Канстантынопаль, але ня высланы з прычыны ваенных падзеяў. Пазьней (дня 14 верасьня 1953 году) БЦР пераслала гэты ліст патрыярху праз ягонага экзарха – архіепіскапа Міхаіла.

---

[18] Ліст гэты падаём у канцы артыкула.

## Ваша Сьвяцейшаства, Сьвяцейшы Ўладыка!

Мы, гіерархі Праваслаўнай Беларускай Царквы, зварочваемся да Вашага Сьвяцейшаства й просім пачуць сваім, поўным любові, сэрцам патрэбы нашае Царквы, прыняць іх блізка да свайго сэрца й падаць Ёй руку помачы ў справе ўладжваньня царкоўнага жыцьця на падставах аўтакефаліі.

Праваслаўная Вера на беларускіх землях зьявілася ў X ст. Прынесена яна сюды з Канстантынопалю праз Кіеў і расьцвіла тут ва ўсім яе хараstве.

Ад самага пачатку гістарычнага жыцьця нашага народу Праваслаўная Вера была магутным дзейнікам у ягоным жыцьці й моцнай апорай у зьменнай долі. Пад уплывам Праваслаўнай Веры народ наш закрасаваў, душа яго ўзбагацілася ўсімі хараствамі праўды Божай, землі ягоныя пакрыліся мноствам сьвятыняў, манастыроў і школаў. Разьвіўшы ў сабе найпершыя якасьці чалавечай душы, Беларускі Народ даў Царкве сваіх сьвятых (Прэпадобная Еўфрасіньня – князёўна Полацкая, сьв. сьв. Кірыл і Лаўрэнці – епіскапы Тураўскія, Прэпадобны Афанасі – ігумен Берасьцейскі, сьв. сьв. Віленскія мучанікі Антон, Іаан і Аўстах) і праз доўгія вякі захаваў сваю Веру Праваслаўную ва ўсёй яе чысьціні й непашкоджанасьці.

Яшчэ ў XI ст. Беларускі Народ меў свае епіскапскія катэдры ў Полацку, Смаленску й Тураве, а пазьней – у Навагрудку і ў Берасьці. У XIV ст. царкоўнае жыцьцё было нагэтулькі шырока разьвітае, што зьявілася патрэба мець свайго мітрапаліта. Першым мітрапалітам Беларускае мітраполіі, якая тады называлася Літоўска-Рускаю, быў Раман. У сан мітрапаліта ён быў высьвечаны Канстантынопальскім патрыярхам Феафілам. Мітрапаліт гэты атрымаў ад Канстантынопальскага патрыярха праз аўтаномнага, амаль не аўтакефальнага, галавы сваёй мітраполіі, намінальна толькі залежнага ад Канстантынопалю. Пасьля сьмерці Рамана мітрапалітам беларускім стаў Кіпрыян з тытулам Літоўска-Кіеўскага. У 1415 г. быў скліканы ў Наваградку сабор, на каторым праваслаўныя епіскапы выбралі й самі пасьвяцілі ў сан мітрапаліта Літоўска-Рускага (Беларускага) Грыгорыя Цамблака. Са сьмерцяй Грыгорыя Цамблака (1415 г.) Беларуская мітраполія страціла самастойнасьць і ўвайшла ў склад Кіеўскай мітраполіі, а пазьней, пасьля злучэньня Літоўска-Рускага княства з Польшчай (1569 г.), нават адчула вялікае прасьледаваньне з боку фанатычнага каталіцызму ў Польшчы. Пасьля-ж падзелаў Польшчы (1772–1796 гг.), разам з прылучэньнем беларускіх земляў да Расеі, і Беларуская Царква перайшла пад юрысдыкцыю Расейскага Праваслаўнага Сыноду.

У 1921 г. Рыскім трактатам Беларусь была падзелена на дзьве часткі: гэтак званая Заходняя апынулася ў межах Польшчы, дзе праваслаўнае беларускае духавенства і насельніцтва належала да Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Большая-ж частка Беларусі, г. зв.

Усходняя, адышла да савецкай Расеі, дзе царкоўна-рэлігійнае жыцьцё было бальшавікамі зьнішчана, сьвятыні разбураны, царкоўная маёмасьць адабрана, а епіскапы й сьвяшчэньнікі былі вывезены ў ссылкі, дзе загінулі або расстраляны на месцы.

У 1941 г. нямецкая армія вызваліла Беларусь ад бальшавікоў і палякаў, і актам Генэральнага Камісара для Беларусі ад 3 кастрычніка 1941 г. жыцьцё Праваслаўнай Царквы на Беларусі было легалізавана пры ўмове яе аўтакефальнага кіраваньня.

Падзеленая [у 1921 г.] на дзьве часткі, цяпер Беларусь творыць адзін дзяржаўны арганізм пад назовам Генэральны Камісарыят Беларусі.

Усіх жыхароў на Беларусі налічваецца каля 15 мільёнаў, з каторых 85% праваслаўных.

Усходняя Беларусь, якая больш 20-ці гадоў знаходзілася пад бальшавікамі, цяпер творыць і арганізуе царкоўнае жыцьцё, аднаўляюцца й адчыняюцца храмы, зачыненыя або перароблены на клюбы, тэатры й інш., засноўваюцца прыходы, разьвіваецца праваслаўная місіянэрская праца сярод беларускага насельніцтва.

Царкоўным жыцьцём на Беларусі кіруе Сабор Епіскапаў і Сынод на чале з мітрапалітам. Сабор Епіскапаў у сакавіку 1942 г. падзяліў Беларускую мітраполію на 6 епархіяў. Усіх епіскапаў зь мітрапалітам разам у сучасны мамэнт ёсьць 5. Прадбачаюцца хіратоніі новых епіскапаў.

У верасьні 1942 г. у сталічным гор. Беларусі Менску адбыўся Царкоўны Сабор, складзены з гіерархіі й выбраных прадстаўнікоў духавенства й міранаў Беларускае мітраполіі, на якім быў апрацаваны й прыняты Статут для Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы. Статут гэты складзены на падставе канонаў і традыцыяў Сьвятое Ўсяленскае Ўсходняе Праваслаўнае Царквы. На гэтым самым Царкоўным Саборы пастаноўлена зьвярнуцца да Глаў усіх Праваслаўных Аўтакефальных Цэркваў з просьбаю даць сваё благаслаўленьне на аўтакефальнае існаваньне Беларускае Праваслаўнае Царквы.

Поўныя глыбокай пашаны, любові й адданасьці да Вас, Найсьвяцейшы Ўладыка, яшчэ раз просім даць сваё апостальскае благаславеньне на самастойнае жыцьцё нашае Сьвятое Праваслаўнае Царквы Беларускае й прыняць Яе ў лік сёстраў – Сьвятых Аўтакефальных Праваслаўных Цэркваў ва славу Сьвятой Царквы Хрыстовай і на карысьць багалюбівага праваслаўнага Беларускага Народу.

Божай Міласьцю мітрапаліт Панцялейман.
Сьмірэнны Філафей, арх. Магілёўскі й Мсьціслаўскі.
Сьмірэнны Афанасі, епіскап Віцебскі й Полацкі.

Менск, 20. IV. 1943 г.

# ВУНІЯ Й ЗМАГАНЬНЕ ЗА ЧЫСЬЦІНЮ ПРАВАСЛАЎЯ

Пасьлядоўнікі Ісуса Хрыста называліся хрысьціянамі яшчэ ў апостальскія часы (Дзеян. 11, 26). Калі-ж сярод хрысьціян зьявіліся ілжэхрысьціяне й іх вучыцелі, дык хрысьціян, у адрозьненьні ад прыхільнікаў несапраўднага хрысьціянскага вучэньня, пачалі называць праваслаўнымі. Юстын Філёзаф і Клімэнт Александрыйскі першымі ўжываюць слова праваслаўны. Вось гэта чыстае праваслаўнае хрысьціянства й прынялі зь Візантыі нашы продкі (988). З прыняцьцем ў 988 годзе хрысьціянства ад грэкаў наш беларускі народ уліўся ў Усяленскую Праваслаўную Царкву, да якой належыць і цяпер яго пераважаючая большасьць.

Гістарычная доля беларускага народу ўлажылася так, што ён вызнае праваслаўе (85%) і рыма-каталіцтва. Праваслаўе зьявілася шмат раней на Беларусі, чымсь каталіцызм ды вунія, якую цяпер называюць „беларускай царквой". Яно ня было прыпадкавым, ці накінутым фактам у жыцьці нашага народу, але зусім натуральным вынікам ходу тагачаснага жыцьця. Найстарэйшыя цэрквы, манастыры й першыя праваслаўныя віленскія мучанікі – Сьвятыя Антон, Іаан і Аўстах, а таксама Сьвятая Еўфрасіньня Полацкая – сьведчаць аб гэтым.

Такім чынам, Праваслаўная Царква ў XIII стагодзьдзі ўжо мела шмат прыхільнікаў у той час, калі Каталіцкі Касьцёл толькі што пачаў разьвівацца й да Ягайлы меў вельмі слабы посьпех. Ордэн Лівонскіх рыцараў, які хацеў сілаю зброі падбіць наша беларускае грамадзянства папу, а таксама дамінікане й францішкане, каторыя распаўсюджвалі каталіцтва за часоў Гэдыміна й Альгерда (1320 – 1377), на кожным кроку спатыкалі глебу, непадатную для іхняй дзеяльнасьці. Але ў хуткім часе наступае 1386 год. Гэты год прыносіць зьбліжэньне Вялікага Княства Літоўска-Беларускага з Польшчай, хрост літоўцаў і заснаваньне каталіцкага біскупства ў той час, калі ўсходні абрад, г. зн. праваслаўе, на беларускіх землях здолела глыбока ўвайсьці ў жыцьцё нашых прапрадзедаў і сталася **роднай беларускай верай**.

Нават сярод вялікіх князёў Праваслаўная Царква мела сваіх прыхільнікаў, як напрыклад, Войшэлк, сын Міндоўга, які, прыняўшы праваслаўе, пастрыгся ў манахі і ў 1261 годзе заснаваў Лаўрышэўскі манастыр каля Наваградку, недалёка ракі Нёмна. Каталіцтва-ж, якое праз увесь час існаваньня захоўвае характар ваюючага хрысьціянства (ecclesia militaris), толькі за часоў Ягайлы, пасьля злучэньня Літвы з Польшчай (1386), пачынае разьвівацца й шырыцца на Беларусі, асабліва сярод сацыяльна вышэйшых слаёў. Першымі былі навернуты Ян-Гаронім з сынам Янам-Карлам Хадкевічы, чатыры сыны Мікалая Радзівіла Чорнага ды Леў

Сапега. Пры дапамозе гэтых новых каталікоў ў 1579 годзе езуітам удалося з дазволу папы Грыгора VIII параўняць Віленскую калегію ў правох з Кракаўскай акадэміяй. Першым яе рэктарам быў ведамы польскі багаслоў езуіт Пётра Скарга. З гэтае пары наступае цяжкі пэрыяд для Праваслаўнай Царквы, дзякуючы польскім езуітам, якіх у 1569 годзе паклікаў віленскі рыма-каталіцкі эпіскап В. Пратасэвіч.

Зь іх прыходам у царкоўнае жыцьцё пачынае пранікаць заходнеэўрапэйскі тэзіс „cujus regio, ejus religio". Езуіты, узяўшы ў свае рукі выхаваньне маладога пакаленьня, у хуткім часе зламалі рэфармацыю й цяпер усю ўвагу зьвярнулі на пашырэньне сваіх уплываў сярод праваслаўнага грамадзянства. Але ўсходні абрад за некалькі стагодзьдзяў існаваньня на беларускіх землях здолеў глыбока ўвайсьці ў жыцьцё, і езуіты хутка пераканаліся, што найлягчэй будзе распаўсюдзіць (па думцы езу-іта Пассэвіна) каталіцтва сярод праваслаўных пры помачы вуніі. Тым болей, што да гэтага часу быў падгатаваны грунт. Праф. М. Каяловіч кажа: „Царкоўная вунія, як за часоў Ягайлы, Казіміра й Аляксандра, так і ў усенькай гісторыі цэркваў, была думкаю пабочнаю, чужой для самой Праваслаўнай Царквы. Але думка гэтая зь першых дзён злучэньня Літвы з Польшчаю ўціснулася ў Літоўска-Рускую Царкву шляхам зблізкэньня ліцьвіноў з палякамі, шляхам уціску праваслаўных і шляхам плянаваных закалотаў у самой Заходне-Рускай Царкве"[1]. Польскія каралі, ведаючы, што адзінае веравызнаньне мае вялікую сілу й моц у гаспадарстве, за ўсякую цану імкнуліся да таго, каб як-небудзь праваслаўных змусіць прыняць каталіцтва. Дзякуючы гэтаму Літоўска-Польскі ўрад хоць і рэдка адважваўся стасаваць адкрыты перасьлед адносна праваслаўнага насельніцтва, аднак-жа заўсёды даваў яму адчуць сваю непрыхільнасьць, якая праяўлялася ў сыстэматычным абмежаваньні ягоных палітычных правоў"[2]. Асабліва гэта адчуваецца пасьля палітычнай Люблінскай вуніі (1569). З гэтага мамэнту уціск праваслаўя й „посьпех каталіцызму пайшоў наперад хуткім крокам". Польскія каралі, апіраючыся на пастанову Гарадзельскага сойму (1413), адбіралі ад праваслаўных цэрквы й аддавалі іх лацінянам. Забаранялі будаваць новыя, як, напрыклад, Сьцяпан Баторы, а часам нават „паніжалі" самую праваслаўную веру, называючы яе ў афіцыяльных паперах „схізмаю".

Аднак нічым столькі не прынесьлі польскія каралі крыўды й шкоды праваслаўю ў сваім гаспадарстве, як прысвоеным сабе правам „патранацтва". Права патранацтва была вострай зброяй ў руках каралёў для прапаганды каталіцтва. Дзякуючы праву патранацтва, польскія каралі,

---

[1] М. Коялович, Литовская церковная унія, С.-Петербург, 1859–1862, т. IX, сс. 166–168.
[2] И. Чистович, Очерк исторіи Западно-Русской Церкви, С.-Петербург, 1884, гл. 1, с. 49.

а таксама абшарнікі (на сваіх абшарах) былі вярхоўнымі ўладамі ўсіх царкоўных земляў і раздавалі іх па свайму погляду розным епіскапам, архімандрытам і сьвяшчэньнікам. Гэткая эканамічная залежнасьць, як кажа А. Пакроўскі, „цяжка адбівалася на палажэньні заходняга духавенства й моцна ўплывала на ягоны штучны падбор"[3]. Усе гісторыкі таго часу самымі жахлівымі колерамі малююць сумнае палажэньне Праваслаўнае Царквы й яе вышэйшай гіерархіі. Так, напрыклад, праф. С. Голубеў піша: „Самыя прадстаўнікі Заходне-Рускай Царквы (мітрапаліты й епіскапы) не знаходзіліся на ўзроўні сваіх задачаў: займалі катэдры без адпаведнага падрыхтаваньня дзеля выконваньня высокага гіерархічнага служэньня. У большасьці выпадкаў глядзелі на свае месцы з утылітарнага пункту гледжаньня, і нават часта ўзыходзілі на іх з парушэньнем кананічных пастановаў. Гэтак некаторыя епіскапы жылі з жонкамі. У 80-х гадох XVI стагодзьдзя на працягу некалькіх гадоў найвышэйшую катэдру займаў двужэнец (Анісіфор Дзевачка). Наставілася шмат епіскапаў, на адну сталіцу „па два". У рэзультаце чаго паміж імі мелі месца дэмаралізуючыя бойкі, часамі й з аружжам у руках"[4]. Зразумэлая рэч, што „тыя, што павінны былі быць сьветачамі, у сапраўднасьці аказваліся абрыдласьцю", не маглі ўплываць на падуладнае ім духавенства. Такім чынам, калі епіскапы „бесперашкодна жылі з жанчынамі", дык і сьвяшчэньнікі-двужэнцы, бачачы гэта, паступалі падобна". Усё гэта зрабіла вялікі разлад у царкоўным жыцьці, а таксама падарвала аўтарытэт вышэйшай духоўнай улады ў вачох праваслаўнага грамадзянства, сярод якога пераканаваньні адносна вышэйшае гіерархіі былі ня вельмі зайздросныя. У хуткім часе гэта пераканаваньне, як падае праф. С. Голубеў, „з поўнаю спасьцярожнасьцю й апраўдалася: большасьць гіерархаў, што кіравалася прагнасьцю й большаю нажываю, прагнасьцю дастаткаў, здрадзіла праваслаўе й перайшло ў вунію на чале зь мітрапалітам"[5]. У 1596 годзе на саборы ў Берасьці праваслаўныя епіскапы на чале зь мітрапалітам Рагозаю ўступілі ў вунію й прызналі над сабою ўладу папы Клімэнта VIII. У грамаце 8 верасьня 1596 году гаворыцца: „Выправілі семо до отца Святейшага Клемента VIII папы Рымскага послы... просячы, абы нас до своего послушэнства, яко найвышній пастыр церкві вселенской католічэской принял и от зверхности патріархов Царагородских вызволіл і разрешіл, заховуючы нам обрады церквей: Восточных Греческих и Руских, а ни якое отмены в церквах

[3] „Богословскій Вестник", № 9 (12), С.-Петербург, 1905, с. 114.

[4] С. Голубев, Киевскій Митрополит П. Могила и его сподвижники, С.-Петербург, 1903, т. II, с. 46.

[5] Ibidem.

наших не чінячы, только по преданію Святых Отец Греческих нас оставил. Што и учинил".

Рымскі Касьцёл, а таксама польскія каралі ў працягу трохсотгадовай упорнай працы дасягнулі мэту, але можна сказаць ня зусім. Здабыўшы гвалтам і подступам вышэйшую гіерархію, вунійны рух ніяк ня мог захапіць сваімі „ідэаламі" народную масу. Дзякуючы гэтаму, пры самых сваіх нарадзінах вунія апынулася паміж двома варожымі ёй абозамі: з аднаго боку – мясцовая народная маса, а з другога – Канстантынопаль. Як загрожанаму небясьпекай рэфармацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім, каталіцтву Рым пасылаў бязупынную падмогу з усей Заходняй Эўропы. Таксама й Канстантынопальскі Патрыярхат пасылаў з Грэцыі ўсе найлепшыя сілы для барацьбы з вуніяй. Галоўнай-жа апорай праваслаўя ўнутры краю, на беларускіх і ўкраінскіх землях, сталіся шырокія народныя масы, якія не захапіліся ўнійным рухам. Усё, што было жывога ў гэтых масах, было мабілізована ў брацтвы, каторых ахвярнасьць, ідэйнасьць і пасьвячэньне для справы праваслаўя ня мае граніц. Усе лепшыя сыны гэтых брацтваў, паміма немагчымых варункаў, у якіх знаходзіліся, бралі ў рукі праваслаўны сьветач і з глыбокай верай і пасьвячэньнем ішлі ў шырокія гушчы народу, будзячы яго да барацьбы ня толькі з рэлігійным, але й нацыянальным ворагам – паляком. Самым заўзятым і моцным важаком вуніі быў Іпаці Пацей, чалавек з польскакаталіцкім напрамкам, які на працягу 14-гадовага свайго мітрапалічага служэньня стараўся замацаваць і зьберагчы вунію, ведучы бесперапынную барацьбу з праваслаўным духавенстам, падгатаўляючы сабе новых супрацоўнікаў у асобах В. Руцкага, Марахоўскага, Кунцэвіча. Гэты апошні перасягнуў самога І. Пацея.

Радзіўся Язафат Кунцэвіч у 1580 годзе ў Уладзімеры-Валынскім. Бацька яго належаў да шавецкага цэху й быў праваслаўным. Падвучыўшыся дома крыху граматы, малады Кунцэвіч паступіў да аднаго віленскага купца вучыцца купецкаму фаху. Будучы ў Вільні, Я. Кунцэвіч у Сьвята-Траецкай царкве чытаў і пяяў на клірасе, чым на сябе зьвярнуў увагу мітрапаліта І. Пацея, які прыняў яго ў манастыр пасьля таго, як ён далучыўся да вуніі. Будучы ў манастыры паслушнікам, Я. Кунцэвіч паступіў у Віленскую акадэмію. Скончыўшы ў 1604 годзе навукі ў акадэміі, Я. Кунцэвіч пастрыгся ў манахі пад імем Язафата. У 1609 годзе Я. Кунцэвіч быў ужо іераманахам і напісаў кнігу па-польску пад загалоўкам „Obrona Wiary". Па неякім часе дастае ён назначэньне на архімандрыю Жыровіцкага манастыра, а па сьмерці Пацея, наступнік апошняга В. Руцкі перадае яму сваю Сьвята-Траецкую архімандрыю ў Вільні. У 1617 годзе Я. Кунцэвіч быў пасьвячоны ў біскупа й назначаны сьпярша вікарным біскупам у Полацку, а па сьмерці Гэдэона Бральніцкага стаўся архібіскупам Полацкім. Атрымаўшы Полацкую арцыбіскупію, Я. Кунцэвіч

выстараўся ў караля ў 1619 годзе грамату на ўзалежненьне ад яго ўсіх праваслаўных цэркваў і манастыроў у Полацку, Віцебску, Воршы, Магілёве й іх ваколіцах. Ад падлеглых праваслаўных сьвятароў ён зажадаў пераходу ў вунію. Апорных пазбаўляў духоўных ступеняў і садзіў у вязьніцы, а цэрквы запячатваў. Дзякуючы яго прымусоваму спосабу заводжаньня вуніі, з боку праваслаўных падняўся супраціў, на які ён адказваў жорсткімі й нехрысьціянскімі рэпрэсыямі, аб якіх гаворыць нават рыма-католік Леў Сапега, канцлер і гэтман Вялікага Княства Літоўскага. У сваім лісьце з 12 красавіка 1622 году да Я. Кунцэвіча Леў Сапега піша наступнае: „Вунія ня прынесла радасьці, адно толькі сваркі й бунты... Было-б куды лепш, каб яна ніколі ня мела месца... Вашэцева сьвятасьць заключаецца ў тым, што вы пазваляеце пагромы схізматыкаў і адсякаеце ім галавы: эвангельле-ж вучыць зусім іншаму. Вашаць спрычыняеце насільле над сумленьнем і разбураеце цэрквы. Гэткім чынам хрысьціяне гінуць як пагане, без набажэнства й сакрамэнтаў. Калі-ж вашэцевы дзеяньні выклікаюць разрухі, вашэць зараз-жа пішаце нам, што ёсьць патрэбным пакараньне праціўнікаў вуніі. Уважайма, каб гэтая вунія ня спрычынілася да вашэцевай і нашай згубы".

Палажэньне асабліва завастрылася ад 1620 году, калі Канстантынопальскі патрыярх Феафан, вяртаючыся ў 1620 годзе з Масквы праз Кіеў, пасьвяціў на біскупскія катэдры, занятыя вуніяцкімі біскупамі, праваслаўных епіскапаў і, між іншым, на Полацкага праваслаўнага епіскапа Мялеція Сматрыцкага (3 сакавіка 1621 году). Сматрыцкі прыехаў у Віцебск і, упісаўшы на ратушы пасьветную патрыяршую грамату, апавясьціў у царкве пазбаўленьне Кунцэвіча духоўнага сану й адлучыў ад царквы. Граматы аб адлучэньні ад царквы Кунцэвіча й пазбаўленьне яго духоўнага сану былі разасланы ва ўсе гарады Полацкай арцыбіскупіі для публічнага чытаньня. Кароль выдаў грамату, каб злавіць Сматрыцкага й аддаць пад суд. Але апошні, пераяжджаючы зь месца на месца, хаваўся й кіраваў змаганьнем пры помачы рассыланых ім лістоў.

У 1623 годзе Кунцэвіч паехаў у Віцебск, галоўны цэнтр праваслаўя, і тут пачаў рэпрэсіямі прымушаць жыхароў да прыняцьця вуніі. У выніку гэтага паўстаў закалот паміж праваслаўнымі й вуніяцкімі сьвятарамі, які выліўся ў народны кравапралітны бунт, падчас якога быў забіты Кунцэвіч ударам бярдаша па галаве. Цела яго з прывязаным каменем было ўкінута ў Дзьвіну. Юда Кунцэвіч, які здрадзіў праваслаўе і прыняў вунію, за свае нехрысьціянскія чыны панёс заслужаную кару. У 1624 годзе папа Урбан VIII далучыў Язафата Кунцэвіча да ліку „сьвятых" мучанікаў Каталіцкае Царквы.

Прадказаньне канцлера Льва Сапегі споўнілася. Зьгінуў Я. Кунцэвіч, украінец па паходжаньню. Перастала існаваць Вялікае Княства Літоўскае. Зьгінула й вунія на Беларусі, калі вуніяцкія епіскапы на чале зь мітрапалітам

Язэпам Сямашкам у 1839 годзе з народам вярнуліся да Праваслаўнай Царквы. Гэткі лёс і ў далейшым чакае вунію, якую сяголыня прыкрываюць шыльдам „беларускай царквы" і „беларускай рэлігіі", але да гэтага пытаньня мы яшчэ вернемся. Мэтай-жа гэтага артыкулу было паказаць, што вунія сілай была накінута нашаму беларускаму народу чужымі польска-ватыканскімі дзейнікамі.

## II.

Каталіцызм і вунію беларускі народ лічыў „польскай верай", так як польскія магнаты праваслаўную – „рускай верай". Бараніць сваю праваслаўную веру ў тыя часы для беларускага народу значыла абараніць сваю нацыянальную свабоду, сваю мову, нацыянальныя традыцыі й звычаі. У абароне праваслаўя найболей чыннымі былі брацтвы, сярод якіх Віленскае брацтва лічылася галавой усіх іншых. Шмат вартасных дадзеных аб Віленскім брацтве й яго дзеячох, выдадзеных кніжках брацкай друкарняй, маецца ў працах В. Завітневіча, З. Капысьцінскага й іншых. На пачатку XVI стагодзьдзя ў Вільні налічвалася прыблізна 100 000 жыхароў, палавіна якіх былі праваслаўныя беларусы. Паводле свайго палажэньня сталіцы Вялікага Княства Літоўскага й складу насельніцтва Вільня зьяўлялася адным з важнейшых асяродкаў беларускае культуры. А таму ў Вільні не прыпадкова зьявіўся выпуск важнейшых выданьняў беларускае літаратуры канца XVI і пачатку XVII стагодзьдзя. Працу брацтваў езуіты ацэньвалі наступна.

У сувязі з выхадам кніжкі М. Сматрыцкага „Трэнас" („Плач") каралём быў выданы загад канфіскаваць брацкую друкарню, арыштаваць наборшчыкаў, карэктараў, аўтара, а кніжкі, што выйшлі з друку, забраць і спаліць. У сваю чаргу каталіцкі й вуніяцкі епіскапат абвінавачвае праваслаўных у зьнішчэньні кніжак, у якіх прапанавалася вунія. І. Пацей у „Антырызісе" наракае, што праваслаўныя, дзе могуць дастаць, паляць іх літаратуру. Езуіт П. Скарга ў другім выданьні „Аб Еднасьці Касьцёла" абвінавачвае праваслаўных у тым, што яны скупілі й зьнішчылі ягонае першае выданьне.

Ініцыятар вуніі, мітрапаліт Пацей у сваім „Антырызісе" незадаваленьне з вуніі й каталіцызму ў праваслаўных вернікаў акрэсьлівае наступна: „Воліма быць пад татарскага цэзара, а ніж пад папежа паслушэнствам".

Вуніяты, бачачы, што аграмаднай перашкодаю ў распаўсюджваньні вуніі зьяўляюцца брацтвы, у 1623 годзе пісалі Рымскаму папу, што нават казакі не так шкодныя, як брацтвы, якія неабходна выкараніць, бо-ж

[6] Русская старина, вып. 6, с. 23.

у іх рассаднік смутаў[6]. Галоўнаю зброяй брацтваў была пропаведзь і друкаванае слова. Аб вялікай сіле друкаванага слова вуніяцкі мітрапаліт Пацей кажа: „Сьцяпан Зізані сваімі кніжкамі так Русь „*паблазьніў*", што ім больш вераць, чым Эвангельлю". Аб „Трэнасе" М. Сматрыцкага езуіты казалі, што „кожнае слова яго - балючая рана, кожная думка яго - сьмяротная атрута для вуніяцтва"[7].

Будучы ў Вільні, А. Пассэвін надрукаваў некалькі сотняў экзэмпляраў каталіцкага катэхізісу, але віленскія друкары пры наборы паправілі яго на свой лад. У лісьце да гэрцога Тасканскага А. Пассэвін скардзіцца, што ў ягоную кнігу віленскія друкары ўнесьлі розныя схізматыцкія заблуджэньні[8].

Каб праводзіць змаганьне супраць прымусовай польска-ватыканскай вуніі, трэба было мець асьвету. Таму беларусы выяжджалі за межы свае краіны дзеля навукі. Захары Капысьцінскі з гордасьцяй аб гэтым пісаў: „Калі мы, Русіны, для навукі за межы свае выяжджаем, то не дзеля таго, каб сьляпымі ісьці за чужынцамі-навукоўцамі. Дык мы не па лацінскі, але па грэцкі розум удаемося, гдзе як сваё ўласнае, знаходзім ад грэкаў на час кароткі павеpанае, адбіраемо з растаропнасьцяй, аднак сьмецья адмятуема, а зярнё берамо, уголья застаўляема, а золата выймуема"[9]. Сярод адукаваных людзей таго часу не апошняе месца займалі браты Зізаніі. А таму не прыпадковым ёсьць, што першымі аўтарамі выдадзеных кніжак зьяўляюцца браты Зізаніі.

Дзе атрымалі яны адукацыю - няведама. Лаўрын Зізаній да 1592 году быў дыдаскалам брацкай школы ў Львове, потым перайшоў у Берасьцейскую школу, а ў 1595 годзе пераехаў у Вільню. У 1620 годзе Л. Зізаній удзельнічаў у Кіеве ў падгатоўцы выданьня кніжак ды быў сябрам супалкі вучоных Е. Плецянецкага. Ведамы тагачасны дзеяч З. Капысьцінскі называе Зізанія „славеснейша дідаскала і ветію, мастака эллінагрэчаскага языка ўменьня і мастацтва стяжаўша"[10]. С. Зізаній напачатку быў настаўнікам, а потым да канца 1593 году рэктарам Львоўскай школы. У гэтым часе яго, як актыўнага дзеяча ў барацьбе супроць вуніі, запрасалі ў Віленскае брацтва „на паратунак, як чалавека навучонага".

## III.

Дзейнасьць С. Зізанія была вельмі разнастайнай. Ён ведамы як дыдаскал брацкай школы й казнадзея „слова Божага прапаведнік". Ён ведамы як тэалёг і выдаўца кніг. Ён ведамы як чалавек, якому Бог ня даў

---

[7] Русская старина, вып. 6, с. 19.
[8] Русская старина, вып. 5, с. 39.
[9] Русская историческая библиотека, т. IV, кн. I, с. 901.
[10] П. Строев, Описание старопечатных книг, Москва, 1836, с. 98.

„духа баязьлівасьці, але моцы, любові й трэзвасьці". Дзякуючы гэтаму, Зізаній быў вельмі пасьлядоўным і стойкім у барацьбе з вуніяй. Ён не хістаўся ў сваіх поглядах як М. Сматрыцкі, але цьвёрда й рашуча змагаўся з вуніяй за чысьціню праваслаўя. У сваім пасланьні да жыхароў Вільні нездарма м. М. Рагоза гаворыць: „Пагалоскі аб адступніцтве й прадажы епіскапаў пусьціў на казанях Стэфанак, які іж не досыць у Львові крова-праліцьця насеяў, але і ў Вялікім Княстве Літоўскім таго-ж хоча"[11]. Гэта непакоіла м. М. Рагозу й польскага караля Сыгізмунда III. А таму яны няўстанна пісалі граматы й адну за другой пасылалі ў Вільню. У вадной з грамат м. М. Рагоза абвінавачвае С. Зізанія, што ён не падпарадкоўваецца яму ды „больщых і меншых станаў духоўных бесспагадна лаіць... у месьце Віленскім, сталіцы гаспадарства; пастырства баламуціць; народ раздвоіў, люд бунтуючы, у кровапраліцьцё людзей вядзець". Але гэта ня мела ўплыву. Віленскае брацтва й духавенства, сярод якога не апошнюю ролю меў С. Зізаній, востра выступала супроць польска-ватыканскай акцыі ды м. М. Рагозы й яго аднадумцаў, зь якімі ён падгатоўліваў Брэсцкую вунію (1596). За гэту дзейнасьць м. М. Рагоза дня 27 студзеня 1596 году адлучыў ад царквы С. Зізанія й духоўных брацтва Сьвятой Тройцы Васіля й Герасіма. Дня 18 кастрычніка 1596 году Сынод Праваслаўнай Царквы ўняважніў адлучэньне М. Рагозы (ён быў ужо вуніятам) як адносна С. Зізанія, так і ягоных супрацоўнікаў, дацэньваючы праваслаўную дзейнасьць, каторая асабліва праяўлялася ў друкаваным слове. Так у 1595 годзе С. Зізаній выдаў „Катэхізіс", у якім праўдзіва насьветліў вунію й гэтым самым за жывое закрануў польска-вунійныя дзейнікі, якія зараз-жа (1595) у Вільні выдалі на польскай мове кніжку тэалёга езуіцкай акадэміі Шчаснага-Жэброўскага пад назовам „Kąkol, który rozsiewa Stefanek". У кніжцы аўтар (польскі езуіт) бароніць вунію, нападае на С. Зізанія ды адкрыта пагражае зьнішчыць „гэрэтыка". Але гэта ня дзейнічае на С. Зізанія й ён у 1596 годзе выдае кнігу пад тытулам „Казаньне Сьвятога Кірылы, патрыярха Ерузалімскага аб антыхрысьце", дзе гаворыць аб бессьмяротнасьці слова, стойкасьці ў праўдзе, аб барацьбе з крыўдай, выхваляе мужнасьць, павагу, мудрасьць... Гэтым выданьнем С. Зізаній разаблачае вуніятаў-уладыкаў адступнікаў, называе іх „ілжывымі прарокамі, юдамі-прадаўцамі" і прызывае да „стойкасьці й змаганьня за свае правы, нічога не адступаючы". Адначасна з гэтым С. Зізаній, зварочваючыся да чытача ў гэтай кнізе, піша: „Чалавеча! Прачытай кніжку і, пазнаўшы яе зьмест, не застанаўляйся, а раскажы аб ёй другім. Вучы сваіх дзяцей, вучы кожнага так, каб ён не прымаў ілжывага, як сапраўднае". У адказ на гэта вуніяты выдалі ў польскай мове кніжыцу пад тытулам „Plewy Stefanka Zizani". Польска-вунійная прапаганда, абаснованая на „гліняных доказах", ня

[11] Акты Западной Россіи, т. IV, с. 105.

мела посьпеху сярод праваслаўных беларусаў дзеля таго, што вунія, як піша З. Капысьцінскі, „злога птаха, як паспаліта мовят, злое ёсьць яйцэ". Прапаведнікамі вуніі былі кіі, пастронкі, ланцугі, турмы, інквізыцыі, баніцыі ды іншыя зьдзекі й цярпеньні...". У доказ сваіх словаў З. Капысьцінскі падае расправы польска-вунійных дзейнікаў з праслаўленым жыхарствам местаў Берасьця, Пінску, Полацку, Віцебску, Воршы, Магілёва й Вільні[12]. Але аб гэтым наступным разам.

## IV.

Жэброўскі ў сваей кніжцы („Kąkol...") гаворыць, што выступаючы супроць кнігі Стэфана Зізанія, ён баіцца, каб самавольным вучэньнем шматлікія душы як простых людзей, гэтак асабліва нявінных дзяцей, якім выменены заблуджаньні падносяцца к школьнаму вывучэньню, ня сталіся заражанымі й засуджанымі навекі.

У тым-жа 1595 годзе езуітамі была выдадзена кніга „Вунія або выклад важнейшых артыкулаў ку задзіночаньню Грэкаў з Касьцёлам Рымскім". Аўтар кніжкі (праўдападобна Іпаці Пацей) высіляецца ў напрамку да аб'еднаньня Праваслаўнае й Каталіцкае Цэркваў пад пяршынствам Рымскага папы. У прадмове зроблена цікавае прызнаньне. Аўтар пралівае сьлёзы ў сувязку з тым, што праваслаўныя, ставячыся супроць вуніі, называюць папу Рымскага, пастыра знанага Царквы Божай, антыхрыстам, сынам д'явальскім, а каралёў і гаспадароў хрысьціянскіх... – нявольнікамі антыхрыставымі й сынамі д'явальскімі. Далей зьмешчана лаянка пад адрэсам брацтваў: „Паглядзіш адно, хто гэта чыніць ды хто гэтакія навіны спросныя рассейвае. Пэўне-ж ня стан духоўны, бо-ж ім прыстойней людзей высьцерагацца, ды люд паспаліты, просты, рамесны, які, пакінуўшы рамёслы, сваю дратву, ножніцы й шыла, а прылашчыўшы сабе ўрад пастырскі, пісьмом Божым шырмуюць, ніцуюць, выварочваюць на свае блізнерскія патвары абварочваюць, пастыраў сваіх уласных саромяць, бясчэсьцяць...". Далей каталікі пісалі: „Сусім нядаўна Зізаній прывёз у Вільню на кірмаш шмат кукалю, фальшывай навукі ды намерваўся прадаваць яго за чыстую пшаніцу, але-ж Зізаній быў пазбаўлены гэнай прадажы. Даўшы супакой кукалю, ён узяўся за плевялы, жадаючы й на іх папрабаваць шчасьця, напісаўшы новую кніжку, ня кукалю, але плевялаў перапоўненую. Але-ж, як плевялы ад першага падзьмуху ветра разлятаюцца ў паветры, так і ўсё, што ён у гэтых кніжках напісаў, адным падзьмухам кожны здуць можа."

Каталікі й вуніяты доўга не маглі забыцца С. Зізанія. Яны шальмавалі яго ў сваіх выступленьнях, намагаючыся паралізаваць дзеяньне яго

[12] Русская историческая библиотека, т. IV, с. 165.

„Казаньня". Імя С. Зізанія ня сходзіла з бачын палемічных выданьняў на працягу шмат гадоў. Так, у сваім „Otpisie klerykowi Ostrożskiemu" Іпаці Пацей называе С. Зізанія кукольнікам плевяласяў-бітам. „Новыя тэалёгі, а старыя кукальнікі", – кажа вуніят. „Але ня дзіў! Якое імя, гэтакая й філязофія! Куколь стаўся другім Стэфанкам: час яго каменьмі пабіць"– адкрыта зазывае раззлошчаны ўладыка да расправы з С. Зізаніем. Справа не абмежавалася пагрозамі. Па нагавору ўрадавых чыньнікаў ды пры падтрымцы натоўп вуніятаў і каталікоў акружыў дом, у якім укрываўся С. Зізаній. „Юж ся ты нам ня вышчабечаш пташкам і ня будзеш больш па сьвеці лятаць,"– крычалі яны. Прасекшы дзьверы ў сені, яны ўзяліся за другія. Тады С. Зізаній перайшоў ў другі пакой, а адтуль праз комін уцёк ў адным кажушку".

Гэны факт потым прывёў аўтара „перасьцярогі", вінаваціць вуніятаў і каталікоў, гаворачы: „І Стэфана Зізанія, дыдаскала й казнадзея, які на вас волал і кніжкі свае яўна друкаваў, абязчэсьцілі есце і на яго здароўе тое есце ся важылі, аж праз комін уцёк зь Вільні".

Вогнішчам, не пагасаючым уначы, клічам баявым была для народных гушчаў Беларусі і Украіны дзейнасьць С. Зізанія.

Разгортваецца барацьба. Зараз-жа пасьля Берасьцейскага сабору ў Вільні езуітамі выдана кніжка пад доўгім да крыклівым назовам „Сапраўднае апісаньне паступаваньня й справы сынодавае абароны згоды й еднасьці, якая ся стала на Берасьцейскім Сынодзе ў 1596 годзе. Насупраць яўнага фальшу й папушчэньня вымышлянага Сыноду. А радшей пакутнага зборышча гэрэтычэскага атправаванага". Ужо сам загаловак раскрывае зьмест кнігі, яе палемічны характар, накіраваны супроць другой часткі сабору – тых праваслаўных, што былі супраць вуніі, называючы іх загаворшчыкамі й гэрэтыкамі. У зьмесьце гаворыцца: „Супроцьставячыся вуніі, зьявіліся ў Берасьці з войскам, спалучыўшыся з пратэстантамі. У 1597 годзе ў Вільні Скаргай выдана ў гэтым напрамку кніжка ў беларускай мове „Апісаньне й абарона Сабору Берасьцейскага". У тым-жа годзе гэтая кніжка выдана ў Кракаве ў польскай мове пад назовам „Synod Brzeski i jego obrona". Таму што і тут сталася неабходным бараніць, бо-ж палажэньне вуніі было вельмі хілкае, зусім празрыстай была правамоцнасьць яе прагалошаньня супраць волі шырокіх народных гушчаў. Скарга кажа: „Сматрыцкі, гэты не астатні гэрц езуіцкай роты, выслаўляецца вывярнуцца за ўсё ў гэнай сваей кніжцы, каб даказаць праўнасьць вунійнай часткі Сабору й самой вуніі. Сваімі прамовамі на Саборы Скарга даводзіць, што праціўнікі вуніі „да разрухаў і тумульту прывялі. Няведамыя прастакі да бунтаў на ўрады, ад Бога пастаўленых... Люд прыводзячы". Абвінавачваньне праваслаўных ў бязбожжы й непадпарадкаваньні каралеўскай уладзе ёсьць асноўным у езуіта Скаргі.

Нельга не адзначыць, што і ў гэтай кніжцы Скарга, заўзяты ненавісьнік беларускага народу, сіліцца прыпалохаць сваіх чытачоў Масквою. „Што ся і цяпер ў Маскве дзеяць: што гаворыць гаспадар, то павінна быць і ў веры ды ў Цэрквах, – піша езуіт. – І тут на беларускіх землях тое-ж самае паложаньне, калі „больш духоўнымі міране радзяць і спраўуюць, і не авечкі за пастырамі, а пастыры за авечкамі ідуць". Барацьбіты за чысьціню праваслаўя супраць вуніі адказалі на абедзьве кніжкі ананімнага аўтара ды Скаргі выданьнем „Апокрысіса", або Адказу на кніжкі аб Берасьцейскім Саборы... праз Хрыстафора Філялета". На падставе шматлікіх дакумантаў ды сьведчаньняў нават вуніяцкіх пісьменьнікаў трэба здагадвацца, што пад імем Хрыстафора Філялета выступаў Хрыстафор Бронскі, польскі гуманіст, вораг езуітаў, жывіўшы спагаду да праваслаўных беларусаў ў барацьбе супроць вуніі й каталіцызму. „Апокрысіс",,врыхле дана", напісаны, як пісаў потым Сматрыцкі, у будынку Віленскага брацтва й па яго паручэньню. „Апокрысіс" выдана ў апошнім дню кастрычніка 1597 году й зараз-жа, пасьля выданьня кнігі Скаргі. Сам гэты факт гаворыць пра вялікія здольнасьці аўтара, які ў кароткім часе напісаў вельмі зьмястоўную аб'ёмістую працу, напісаную зразумелай і выразнай мовай, зьмяшчаючую ў сабе нязьбітыя доказы. У прадмове да чытача дасьціпна выказана значэньне кніжкі „Дзеля заткненьня вуснаў вуніятаў і каталікоў...", зазначаючы, чаму выдаўца папоўніў сваю працу ссылкамі на дакуманты грэцкіх і рымскіх пісьменьнікаў (у „Апокрысісе" ёсьць каля 60 спасылак на розных аўтараў). „Апокрысіс" распачынаецца наступна: калі „новых рэчаў ведаці хочаце..., купі, чытай, разважай ды асноўна". Далей наступае пасьведчаньне Замойскаму зь нядвузначнай заўвагай, якая кажа: „Надзею тэж пад заслонаю зацнага імені, яко за неякім шчытом меже людзі здало мі ся пусьціці тую кніжыцу". „Ласкавы чытачу,– гаворыць аўтар. – Чыніцца гэта дзеля таго, абы хто гдзе бы зась хацеў нам адпісаць, звычаем другіх сваіх цэхавых браці, аднаго не мяў, другога не звіваў, што мякшы кусок жуючы, а касьцей каторымі ся мог удавіці занехаючы. Захоча адказаці, няхай-жа на ўсё адкажа. Абачымо як з таго выбрыне. Другая прычына таго так частага пытаньня ёсьць, абы фантазіі ды дамыслаў тых дахадзіло, якія нявучонымі быці, але ўсё усіх, а асабліва нас хаця й іх о то не просім, учыці хочуць, прыпісваючы сабе выдворную мудрасьць, а нам прастоту. А так як прастакі..., бяз хцівасьці на кроў, без аблуды, пыхі й надутасьці, паваланьня свайго пільнуючы... А то ся бадаемо, пытаемо, давядуемо ў тых велебных сьвета таго мудрацоў, з тою пэўнаю надзеяй, же тыя пытаньні нашыя, каторыя ся тут папросту падаюцца, ня толькі імі патантаны будуць, але тэж... застыжэньням іх труцізну пад мёдам імі закрытую, і яд пад языком лагодне мовячых утаены латве здароўя душнага прагнучы акажуць". На заканчэньне аўтар просіць чытача, каб

зразумець сутнасць „спору нашага", прачытаць дакладна кнігу, „не так зоблючы зде, а ондзе углядаючы", а „ат пачатку да канца (бо-ж тут адны рэчы з другімі вэспул тлумачачы, даказваючы, накшталт ланцуховых суць) супольнасьці статэчне прачытаці...".

Як відаць са зьместу кніжкі, аўтар карыстаўся архівам брацтва, яго матар'яламі й дакумантамі, якімі вельмі багатая была брацкая бібліятэка ў працы антычных і тагачасных пісьменьнікаў. Гэта відаць са зьместу „Апокрысіса". Так, у першай частцы адказу гаворыцца пра адступніцтва мітрапаліта й епіскапаў, супроць чаго ўва ўсіх ваяводзтвах зроблены пратэсты. „У самым горадзе Вільні знойдзена шмат гэткіх пратэстацыяў, паміж імі найдакладнейшымі былі дзьве: адна – у жніўні 1595 году, другая – у красавіку 1596 году". Аўтар „Апокрысіса" вельмі моцна б'ець па каталіцызме й вуніі. На доказы Скаргі Філялет падае заслужаны праціўнікамі ўшчуплены адказ. Скарга ўздымае пяршынства папаў Рыма-каталіцкай Царквы, спасылаючыся на пісьменьнікаў рымскіх. Філялет прыводзіць факты, калі папскі пасад займалі ачавідныя праступнікі, маральна ўпаўшыя людзі. Папа Каліст свайго праціўніка, другога папу Бэнэдыкта, „паймаўшы, калі меў да Рыму уежджаці, казаў яго на мыліцу опак, г. зн. тылам да галавы ўгадзіці, і так перад хвост место узды ў руках дзержачы, мусялэ ехаці, а потым у вязеньню ест згноены".

Палеміка, выкліканая „Апокрысісам", працягвалася болей 30 гадоў. За гэты час у Вільні, Астрогу, Кіеве, Кракаве й шмат другіх гарадох выдана шмат працаў, у тым ліку „Антыкрысіс" Пацея.

Філялетам зьвернута ўвага на нарастаючую ўнутраную вайну, ды ён дае недвузначны адказ на прапанову Скаргі аб аб'яднаньні: „Добрае ёсьць адзінства, але ня ўсякае...". У гэных словах колерна адзначаны заклік да народных гушчаў Беларусі і Украіны стойка праводзіць барацьбу супраць каталіцызму й вуніі.

## V.

Змаганьне беларускага народу з польска-вунійнымі чыньнікамі шырака разгарнулася пры каралі Ўладыславу IV. Кароль Сыгізмунд III памёр у красавіку 1632 году. Са зьменай каралеўскай улады праваслаўныя папыталіся выкарыстаць мажлівасьці, каб адмяніць пастановы, абмяжоўваючыя правы й льготы праваслаўных ды праваслаўнай Царквы. Паслом да Сойму строга наказвалася, каб яны не прыступалі да выбару караля пакуль ня будуць прызнаны правы й льготы праваслаўным. Казацкія прадстаўнікі зьвярнулі асаблівую ўвагу на крыўды, чыненыя праваслаўным праз палякаў-вуніятаў, наказваючы сваім упаважненым дэпутатам дамагацца на канвэнцыйным сойме, „каб вунія была зьнішчаная аканчальна, а вуніяты, карыстаючыся чужым майном, зьвярнулі яго ўласьніку – Праваслаўнай Царкве. Пры гэтым ў лісьце да

каралевіча Ўладыслава вельмі выразна сыцьвярджалі: „Калі-б, барані Божа, справы прынялі іншы напрамак, дык нам тады прышлося-б шукаць другога выхаду з палажэньня для заспакаеньня свайго сумленьня". Стаўрапігальныя брацтвы злучыліся з другімі малодшымі брацтвамі, робячы складчыны ў прадбачаных паездках й пасылках ад сябе выбарных на абласныя й агульныя соймы з наказам ходаньня аб павароце правоў Праваслаўнай Царкве. Апрача таго, Віленскае Сьвята-Духаўскае брацтва выдала перад распачацьцем канвэнцыйнага сойму ў польскай мове „Сінопсіус", альбо Скарочанае апісаньне правоў ды льготаў і вольнасьцяў праваслаўнага старажытняга беларускага народу", а перад выбарчым Соймам другую кніжку – „Дапаўненьне да сінопсісу, як дапаможнік праваслаўным дэпутатам на Соймах". Прадстаўніком ад праваслаўнага духавенства ў гэныя часы быў Кіева-Пячэрскі архімандрыт Пётра Магіла, які й вёў перамовы й перапіску з урадавымі ды чаловымі прадстаўнікамі, запрашаючы нават пратэстанскіх прадстаўнікоў, каб агульнымі магчымасьцямі дамагацца належных правоў, а на соймавых камісіях асабіста праводзіў дэбаты з польска-вуніяцкімі прадстаўнікамі І. Руцкім й Пахомам Войнай-Аранскім. Наагул, усё сьведамае беларускае праваслаўнае насельніцтва брала чынны ўдзел у адзысканьні правоў свае Царквы ды мела значны посьпех дзякуючы таму, што ў гэтым часе прадбачылася вайна з Масквою.

На вакацыйным сойме асобнай камісіяй пад старшынствам каралевіча Ўладыслава былі апрацаваныя й на выбарчым перагледжаныя, папраўленыя й дапоўненыя *„пастановы"* для заспакаеньня беларускага народу. Гэтымі пастановамі ўсім вуніятам і невуніятам прызнаваліся роўныя правы ў адпраўленьні багаслужбаў і Сьвятых Таінстваў, рамонт сваіх цэркваў і пабудова новых. На каранацыйным сойме прадбачыліся выбары камісіі, якая неадкладна наведае гарады, мястэчкі й сёлы, каб адпаведна да колькасьці праваслаўных і вуніятаў падзяліць паміж імі цэрквы. Вуніятам, а таксама й праваслаўным дазволена свабодна пераходзіць як у праваслаўе, так і вунію. Спрэчкі павінны былі-б быць спыненымі, каб наступіў пакой у „сумленным жыцьці". Але-ж прадстаўнікі польскіх каталікоў ды вуніятаў не пагадзіліся з такім станам. Распачалі уносіць пратэсты супраць пастановаў камісіі ды адначасна напісалі папу скаргу. Выбраны польскім каралём, Уладыслаў пакляўся заспакоіць праваслаўны народ згодна пастановаў „камісіі". Праваслаўныя паслы па сканчэньні выбарчага сойму не паехалі дамоў, засталіся ў Варшаве й выбралі Кіеўскім мітрапалітам Пётру Магілу, епіскапам Луцкім – князя Аляксандра Пузыну, а на епіскапа Мсьціслаўскага – ігумена Віленскага Сьвята-Духава манастыра, рэктара школы пры манастыры Я. Бабрыкоўскага, Львоўскім пазастаў папярэдні епіскап Ірамея Тысарэўскі, што перад гэтым быў прызнаны ў гэным сане польскімі

ўладамі. Адначасна разгарнулася й вельмі пашырылася адбудова манастыроў і цэркваў ды брацтваў. Праваслаўныя баяры Статкевічы й Саламярэцкія адбудоўваюць раней распачатыя пры Сыгізмундзе III манастыры – Купяціцкі (мужчынскі) й Баркулабаўскі (жаночы). Будуюць новыя манастыры (Буйніцкі – ў 1633 годзе, Прылуцкі – ў 1635 годзе) ды школы й друкарні пры Воршанскім манастыры. Усе манастыры былі аб'яднаныя й на чале іх, па сьведчаньню патрыярха Нікана, „бысьць ігумен" Воршанскага Багаяўленскага манастыра Іаіл Труцэвіч, які „ня толькі гэтай аднэй лаўры, але й шмат другія сваімі трудамі й потам пабудаваў, і манахаў сабраў ды ў сваёй пастве усіх меў, і благачэсьце ва ўсей Белай Русі ўмацоўвае падчас прасьледаваньня праз разбэшчаных вуніятаў"[13].

У 1632 годзе зноў заіснавалі беларускія праваслаўныя епархіі, якіх у межах Беларусі знаходзіліся чатыры: Віленская, Менская, Луцкая (у яе ўваходзіла Берасьцейская зямля) і епархія Мсьціслаўская. Мітрапаліт Пётр Магіла ў 1629 годзе выхлапатаў для сябе ў Канстантынопальскага патрыярха назоў экзарха. Гэта дало яму права кіраваць беларускімі й другімі епархіямі, стаўшы мітрапалітам Кіеўскім.

Вельмі шырака разгарнулася дзейнасьць мітрапаліта П. Магілы на абшарах Беларусі пасьля сьмерці ў 1635 годзе першага епіскапа Мсьціслаўскага Я. Бабрыкоўскага, які памёр у Віленскім Сьвята-Духавым манастыры. На паховіны дастойнага сабрата мітрапаліт П. Магіла асабіста езьдзіў у Вільню, а калі варочаўся ў Кіеў па дарозе наведаў Менск, Воршу, Куцейна, Магілёў і ўсе гарады, паложаныя на Дняпры, і, як добры пастыр, знаёміўся зь іх патрэбамі. У Менску благаславіў пабудову жаночага Пётрапаўлаўскага манастыру, у Магілёве даў сыцьверджаную грамату мясцоваму брацтву, а ў Воршы асьвяціў царкву Куцейскага манастыра.

У 1635–1640 гадох ён запрашае Менскае Петрапаўлаўскае брацтва да супольных змаганьняў на соймах у абароне Праваслаўнае Царквы. Даведаўшыся, што царква Купяціцкага манастыра старая й патрабуе рамонту, мітрапаліт П. Магіла ў 1637 годзе дае неабходныя фундушы на абнаўленьне царквы. Адначасна дазваляе рабіць збор ахвяраў, ускладаючы гэта на свайго намесьніка Афанасія Філіповіча. Астатні езьдзіў у Маскву ў справе зборкі патрэбных матар'яльных сродкаў. Вярнуўшыся з Масквы, ён дастаў прызначэньне на ігумена Берасьцейскага Сыманаўскага манастыра й ў 1648 годзе памёр мучаніцкай сьмерцю, забіты палякамі.

[13] Апытаньні, апісаныя Магілёўскай губ., Дамбавецкага, т. 2, б. 101.

Спрыяльныя адносіны новага караля Ўладыслава IV былі вельмі кароткімі. Папа, як і належала прадбачыць, моцна быў незадаволеным чынамі караля на карысьць праваслаўных і таму даручыў свайму легату Ларыскаму й вуніяцкаму мітрапаліту Руцкаму ўплынуці на караля, каб ён узноў агранічыў у правох праваслаўных, што й сталася. Дня 14 сакавіка 1635 году кароль Уладыслаў IV выдаў пастанову: „Для агульнага дабра мы пастанаўляем і даем нашае сьведчаньне у тым, што мы людзям, знаходзячымся ў вуніі з Рымскаю Царквою, міласьціва зьберагаем на вечныя часы разам зь мітраполіяй і належнай да яе маемасьцяй архіепіскапствы Полацкае, Холмскае, Уладзімерскае, Пінскае, Смаленскае з манастырамі й царквамі, якія назаўсёды павінны пазаставацца пры вуніятах. У Віцебску, Полацку, Наваградку праваслаўныя ніколі не павінны будуць мець неякае царквы. Сьцьвярджаем гэтыя правы за нас і нашых наступнікаў: г. зн., што гэныя епіскапствы, архімандрыцтвы й ігуменствы ніколі намі альбо нашымі наступнікамі нікому другому ня могуць быць перададзенымі, апрача базыльянскіх манахаў, каторых будуць рэкамэндаваць нам і нашым наступнікам дзейны вуніяцкі мітрапаліт ды яго наступнікі вуніяты".

Гэтай граматай аканчальнаануляваліся правы й пастановы ды распараджэньні Ўладыслава IV на папярэдне выданыя прывілеі на карысьць Праваслаўнай Царквы, яе духавенства й вернікаў. Аднак і гэныя агранічэньні не задаволілі папу, палякаў й вуніятаў, і дня 20 сакавіка 1635 году папскі нунцый ў Польшчы выступіў з сваей пратэстацыяй супраць наданых праваслаўным правоў[14]. У наступстве гэтага зноў распачалася барацьба паміж праваслаўнымі й вуніятамі, паступова перахіляючыся ў бок вуніі. З набыцьцём берасьцейскімі праваслаўнымі Сыманаўскага манастыра й Рызьтва-Багародзіцкай царквы сярод вуніятаў некаторыя праявілі выразныя пажаданьні пакінуць вунію ды й зноў вярнуцца ў праваслаўе. Па цьверджаньню вуніятаў берасьцейскія жыхары й цэхавыя братчыкі зусім выйшлі з паслуху вуніяцкаму ўладыку, пакідаючы свае парафіі, пераходзячы ў царкву Сьвятога Сымона, падпарадкуючыся праваслаўнаму Луцкаму епіскапу Пузыне. Уладзімера-Берасьцейскі вуніяцкі епіскап неаднаразова скардзіўся на берасьцейскіх мяшчанаў і сьвятароў, не выпаўняючых пастановаў, прадбачаных граматай Сыгізмунда III. Грамата гэная не магла быць правамоцнай, бо-ж згубіла сваю сілу пасьля агалошаньня вольнасьці веравызнаньня й пераходу з аднаго зь іх ў другое. Памінаючы гэта, кароль прыняў скаргу й разгледзіў справу ў прысутнасьці

---

[14] Н. Петров, Очерк истории базильянскаго ордена в Польше, Працы Кіеўскай Духоўнай Акадэміі, Кіеў, 1870, сс. 391–396.

паверавых старон ў задворным асэсарскім судзе й вырашыў наступнае: „Грамата папярэдне выданая праваслаўным (мажліва 1633 году) касуецца цяперашняй граматай. Праваслаўным дазволена выключна й толькі вольнае адпраўленьне багаслужбаў. Цэхавыя брацтвы павінны складацца: палавіна - каталікі, другая палавіна - вуніяты й праваслаўныя. Вуніяцкія й праваслаўныя братчыкі ня маюць права бяз згоды братчыкаў-каталікоў ніякіх сходаў”[15].

## VI.

Аднак грамата не спыніла барацьбы праваслаўных за свае правы. Барацьба за часоў епіскапа Сыльвестра Косава, які ў 1635 годзе ачоліў Мсьціслаўскую епархію, нават пашыраецца, дзякуючы любові й адданасьці да праваслаўнае веры нашага народу.

Але як вялізарнай была адданасьць да праваслаўнае веры сярод беларускага насельніцтва, настолькі й памнажалася воражасьць ворагаў яго – палякаў і вуніятаў. У межах Мсьціслаўскай епархіі злосна дзейнічаў супраць праваслаўя яры ягоны вораг арх. Антон Селява. Ён, як і яго папярэднік Кунцэвіч, штодзённа быў заняты зьдзекамі над праваслаўнымі ды скаргамі на епіскапа Сыльвестра Косава, на праваслаўных мяшчанаў Віцебска й Воршы. У 1646 годзе арх. А. Селява скаржыўся на сяброў Віцебскага магістрату за тое, што яны адважыліся запрасіць схізмацкіх чэрняцоў ды пры наплыве да 3 000 узброеных мяшчанаў, у нядзелю 11 сакавіка 1646 году, урачыста праводзілі на цьвінтар памёршую матку бургамістра Мацея Жылкі па шляху вуніяцкіх цэркваў за горад, каб там пахаваць. Такім чынам, гаворыцца далей ў скарзе, „сябры магістрату, забавязаныя зьнішчажаць праваслаўе ў Віцебску й аколіцах, аднак ня толькі дазволілі азначаны беспарадак, але, будучы праваслаўнымі, тайна самі ўдзельнічалі ў ім, робячы гэта скрытна з пагардай да вуніяцкай і каталіцкай веры”. Асабліва зласьліва А. Селява вывяраў прэсію супраць прэасьвяшчэннага Сыльвестра Косава, намагаючыся перашкодзіць яму абаснавацца ў Полацку альбо Віцебску, памінаючы жалаваную грамату, дараваную папярэдніку Косава, епіскапу І. Бабрыковічу, выданую каралём Уладыславам IV, „дазваляючы ехаць у Полацак, Віцебск, Мсьціслаў ды іншыя месты й мястэчкі, да манастыроў і цэркваў сваіх, ня ў вуніі у тых ваевудзтвах і мястэчках знаходзячыся”. І ўсё-ж такі А. Селяве пашчасьціла ў 1636 годзе атрымаць ад караля наказ, забараняючы епіскапу С. Косаву наведваць Полацк і Віцебск. На скаргу А. Селявы ў 1636 годзе пастановай Віленскага трыбуналу прэасьвяшчэнны Сыльвестр Косаў прызнаны быў вінаватым ў тым, што прыехаў у епархію А. Селявы –

---

[15] Акты, выданыя Віленскай камісіяй, т. VI, бб. XXXII – XXXVI.

горад Полацак, нібы з натоўпам розных людзей ды крыкам са зброяй пераасьвяшчаў вуніяцкіх сьвятароў з парафіянамі, далучаючы іх да Праваслаўнае Царквы, нарушаючы агульны супакой, каб заваладаць ранейшым дастойніцтвам вуніяцкага архіепіскапа. У сувязі з гэтым трыбунальскі суд аштрафаваў епіскапа Косава на 10 000 злотых польскіх. У наступным годзе гэты штраф, як-бы за супраціў трыбунальнай пастанове, павялічана да 42 250 злотых. Такія штрафы па 10 000 злотых на епіскапа С. Косава наложана Віленскім трыбуналам за пабудову Юрым Пышкаю й ягонай жонкай праваслаўнае царквы ў Віцебску за Дзьвіною, у слабодскай пасадзе, як і нібы няпраўнае карыстаньне ў горадзе Мсьціслаўлю двума царкоўнымі пляцамі[16].

У адносінах да праваслаўных манастыроў і цэркваў, знаходзячыхся ў распараджэньні каталіцкіх абшарнікаў (памешчыкаў), дык астатнія ня былі абмежаванымі ніякімі соймавымі пастановамі й каралеўскімі граматамі, таму й распараджаліся праваслаўнымі цэрквамі як хацелі. Літоўскі канцлер Радзівіл у 1636 годзе самачынна забраў у праваслаўных Дубойскі манастыр у сяле Дубоях, Пінскага павету й аддаў у карыстаньне вуніятаў[17]. Сам кароль ня меў магчымасьці паканаць сваволі польскай шляхты, каб на просьбы казакоў пазбавіць праваслаўных ад прыгнёту, адказаў: „Памагчы вам ня ў стане. Час-бы вам усім ведаць, што вы – ваякі. Вы маеце аружжа, хто вам перашкаджае пастаяць за сябе. Я-ж з свайго боку буду заўсёды дапаможным вам"[18]. Салідарызуючыся з казакамі, праваслаўныя беларусы ў гарадох гаварылі: „Калі ў палякоў з казакамі распачнецца вайна й палякі势 стануць асільваць чаркесаў (казакоў), дык мы ўсялякіх чынаў людзі падымемся на палякоў, узброім у сябе такіх Хмяльніцкіх 10 чалавек, а войска выставім 100 000 ды станем з Польшчай ваяваць. Таму што, калі палякі казакоў асіляць, дык і нас усіх праваслаўных хрысьціянаў выгубяць. Таму нам паняволі супраць палякоў стаяць неабходна й змагацца, пакуль нашай мочы хваціць"[19].

Пасьля перамогі Багдана Хмяльніцкага над палякамі пад Жоўтымі Водамі й Карсунем распачаліся паўстаньні беларусаў з мэтай адзысканьня вольнасьці, якія пашыраліся з хуткасьцю маланкі па ўсей Беларусі. Усё жыхарства гуртавалася ў загоны пад кіраўніцтвам Нябабы, Напаліча, Феські, Міхненкі, Крывашапкі. Гарады Мазыр, Тураў, Гомель, Лоеў і Брагін былі перапоўнены паўстанцамі. Літоўскі гэтман у гэтым часе ляжаў пры сьмерці, а заступнік быў у адсутнасьці. Паўстанцы даўжэйшы час ніякага супраціву не спаткалі. І толькі праз нейкі час польская шляхта

[16] А. Сапунов, Витебская старина, Витебск, 1898, т. V, ч. I, сс. XXXIV.
[17] Митрополит Макарій, Исторія Русской Церкви, С.-Петербург, 1888, т. XI, с. 552.
[18] Н. Костомаров, Б. Хмельницкій, выд. 4, С.-Петербург, 1884, с. 242.
[19] С. Соловьев, Исторія Россіи с древнейших времен, С.-Петербург, 1893, т. X, с. 293.

пад кіраўніцтвам Друцкага-Горскага распачала наездамі дробную зь імі вайну. Зь бегам часу польны гэтман Януш Радзівіл паслаў супраць паўстанцаў Мірскага й польнага пісара Валовіча з дружынамі некаторых паноў. Мірскі быў разьбіты пад вёскай Гарволе на Бярэзіне. Валовіч зь перамагаючымі сіламі пайшоў на Нябабу. Паўстанцы змушаныя былі адступіць за Прыпяць у горад Пінск. Валовіч ім і іхным сем'ям пагражаў згладай. Яны, гавора польскі летапісец, „былі схізмацкімі" і таму адказалі: „Лепш загінем, чым выдамо тых, якія ратуюць веру нашую". Праз нейкі час Валовіч узяў Пінск і загадаў ператапіць усё жыхарства. Нябаба ўцёк з гарэўшага гораду, але быў дагнаны палякамі, заўзята баронячыся, загінуў у сечы.

У 1648 годзе памёр кароль Уладыслаў IV. Польскім каралём выбрана Яна Казімера, зь якім пасьля паражкі палякоў пад Піляўцамі Б. Хмяльніцкі распачаў перамовы аб пераміру, у часе якога належна прыгатаваўся да далейшай вайны, а ў жніўні 1649 году разьбіў палякоў пад Збаровам ды заключыў з каралём мір. Па Збароўскаму дагавору казаком зьвернена ўсе старыя правы й льготы. Адносна зьніштажэньня вуніі, прывярненьне правоў праваслаўным цэрквам і вотчынам, павінна была быць паўзята пастанова на сойме.

Для зацьверджаньня Збароўскага дагавору ў студзені 1650 году склікана ў Варшаве сойм, на якім зроблены значныя агранічэньні ў гэным дагаворы. Кіеўскаму мітрапаліту месца ў Сэнаце не прызначана, вунія зьнішчанай не застала. І толькі нязначныя ўступкі зроблена для праваслаўных ў выкананьні соймавых пастановаў. 12 студзеня 1650 году Ян Казімер граматай зьвярнуў праваслаўным вольныя епіскапскія катэдры: Луцкую, Холмскую, Віцебскую з Мсьціслаўскай, з усімі ім належачымі цэрквамі. Маемасьць, якая знаходзілася ў распараджэньні полацкага вуніяцкага архіепіскапа згодна граматы мусіла быць падзелена папалам.

Полацкі вуніяцкі архіепіскап Антон Селява запратэставаў супраць адданьня палавіны маемасьці праваслаўным епіскапам – Віцебскаму й Мсьціслаўскаму з адначасовай перадачай некаторых цэркваў. Ды, наагул, не пагаджаўся выпаўняць каралеўскую грамату.

У канцы 1650 году адкрыўся новы сойм, на якім палякі адмовіліся заспакоіць праваслаўных, а 24 сьнежня 1650 году пастанавілі распачаць вайну нанова. У 1651 годзе Б. Хмяльніцкі быў разьбіты палякамі пад мястэчкам Берастэчкам на Валыні. У верасьні 1651 году казакі былі змушаныя падпісаць мірны догавар у мясцовасьці Белая Царква, паводле якога праваслаўным забясьпечвалася толькі вольнасьць багаслужбаў й веравызнаньня нароўні з вуніятамі.

У 1654 годзе на просьбу Б. Хмяльніцкага цар Аляксей Міхайлавіч далучыў Украіну да Расеі. Чын гэты стаўся прычынай вайны Расеі

з Пальшчою. Галоўныя сілы расейцаў накіраваны былі на Смаленск, а адтуль на беларускія гарады па Дзьвіне. Галоўныя войскі літоўскія сабранымі і ўзбраенымі былі толькі ў жнівені. Радзівіл з паспалітым рушаньнем направіўся адбіваць Смаленск. Загоны Гансеўскага й Мірскага пад Воршаю напалі на спаўшых расейцаў (войска князя Чаркаскага), якія й разьбілі. Спалучаныя войскі Радзівіла й Гансеўскага, насьцігнутыя расейцамі пад Шкловам былі разьбітыя на галаву. Гэная перамога аддала расейцам палавіну Беларуска-Літоўскага гаспадарства. Гарады здаваліся адзін за другім. Палякі пісалі: „Гарады, што ўдзельнічалі ў вайне, пагражаюць адкрыта зь недаверам здавацца на міласьць царскую... Хлопы моляць Бога, каб прышла Масква".

24 жніўня Магілёў па нагавору настаяцеля а. Іаіла Труцэвіча здаўся Паклонскаму, літоўскаму шляхцічу, які ў ліпені, перабегшы ў лягер пад Смаленскам, запрапанаваў свае паслугі цару ды быў узведзены ў чын палкоўніка зборнага казачага палка.

Нарэшце, пасьля двухмесячнай асады 13 верасьня 1654 году паў Смаленск, а 22 лістапада 1654 году здаўся Віцебск. Такім чынам, цар Аляксей Міхайлавіч на працягу двух гадоў падпарадкаваў сабе амаль усю Беларусь і Літву ў межах, заплянаваных Іванам Грозным.

## VII.

Другая вайна Расеі з Польшчаю не пашчасьціла расейцам. Казацтва не дапамагло ім. Рускія ваяводы, пазастаўленыя царом на Беларусі, заўсёды скаржыліся на недастачу войска, хлеба й грошай. Зразумелым было, што яны ад наступленьня перайшлі да абароны. У сувязі з тым у Магілёве пад правадырствам бурмістра Леановіча арганізавана супроць расейцаў загавор. Невялікі расейскі гарнізон у Магілёве зьнішчана, ваяводы закованы ў кайданы й накіраваныя польскаму каралю ў Варшаву. Цяжкія эканамічныя ўмовы, цяжар вайны Расеі з Польшчаю змусілі абодва бакі скончыць вайну, прыйсьці да згоды ды ў 1667 годзе ў Андрусаве зрабіць перамір на 13 з палавінаю гадоў. Расея атрымала ад Польшчы ваяводзтвы: Смаленскае – з гарадамі Нэвелем, Себежам і Веліжам, Чарнігаўскае, левае пабярэжжа Украіны й Кіеў на 2 гады з акругамі аднэй мілі. Польшча – Полацкае й Віцебскае ваяводзтвы. Каталікам у мясцовасьцях, адышоўшых да Расеі, дазвалялася свабода багаслужбаў, а праваслаўным у Польска-Літоўскім гаспадарстве зьберагаліся правы на вольнасьць багаслужбаў. Апрача тэрытарыяльных абшараў Расея набыла для сябе ў гэтай вайне духовыя якасьці для свайго развою ў асобах лепшых культурных дзеячоў Беларусі. Неабходна зь іх адзначыць Іаіла Труцэвіча, іераманаха Полацкага Багаяўленскага манастыра, Сымона Сітнякевіча, паклаўшага пачатак

школьніцтва ў Маскве, які пазаставіў па сабе вельмі шмат вучоных літаратурных працаў[20].

Зараз-жа па заканчэньні вайны ў Польска-Літоўскім гаспадарстве распачалася жорсткая барацьба праваслаўных з рыма-каталікамі. Сутнасьць гэтай барацьбы ў тым, што рыма-каталіцкая вера, спалучыўшыся канчаткова з польскай народнасьцяй, стаўшы дзяржаўным веравызнаньнем, сілай імкнецца ў беларускіх вобласьцях Польска-Літоўскага гападарства беларусаў праваслаўнага веравызнаньня навярнуць у каталіцтва й апалячыць. Гэты прымус спаткаўся зь вялікім супрацівам беларускага насельніцтва, якое ніяк не хацела расставацца з прадзедаўскай верай, што было рысай яго народнага сумленьня, а таму й сьвята зьберагала яе ад прымусовага накіданьня непажаданай вуніі й палянізацыі. Каталіцызм ад гэтага часу становіцца як-бы панскай вераю, а праваслаўе (нават і вунія) – веравызнаньнем хлопскім. Галоўнымі сродкамі акаталічваньня й апалячваньня праваслаўных у Польшчы ў апошнім стагодзьдзі яе існаваньня былі шматколькасныя пабудовы касьцёлаў і кляштараў (манастыроў), наварот у каталіцызм вуніятаў і асабліва існаваньне базыльянскага ордэну, прыгнёт праваслаўных польскімі ўрадавымі чыньнікамі, каталіцкім духавенствам і прыватнымі ўласьнікамі-памешчыкамі. Здрадны перакід беларускага дваранства ў каталіцызм таксама спрычыніўся да пашырэньня пабудовы касьцёлаў і кляштараў.

У другой палове XVII стагодзьдзя на Беларусі пабудавана каля 327 касьцёлаў і шмат кляштараў. Частка гэтых касьцёлаў і кляштараў перабарудавана з праваслаўных цэркваў і манастыроў як, напрыклад, Веліжскі (1754) у Заскорках Віцебскае губэрні, дзе ў 1792 годзе знаходзілася ікона Сьвятога Мікалая з праваслаўным напісам[21]. Усе гэныя касьцёлы й кляштары пабудавана з выключнай мэтай акаталічваньня праваслаўных беларусаў. А таму, што ў бальшыні праваслаўных цяжка было перацягнуць у каталіцтва, дык пераходнай ступеньню паслужыла вунія. У пачаткавым выглядзе яна была вельмі недалёкая ад праваслаўя, а таму й не карысталася папулярнасьцяй сярод каталікоў Польшчы, якія часам недаверліва разглядалі яе й патрабавалі зьнішчажэньня, або падпарадкаваньня Каталіцкай Царкве. Замест палепшаньня палажэньня, згодна з Андрусаўскім дагаворам, польскія ўлады аддаюць праваслаўных сьвятароў у прыгон памешчыкам, жыдам-арандатарам, лацінскім ксяндзам ды вуніяцкім епіскапам. Кароль Ян Казімір

[20] П. Татарскій, Симеон Полоцкій, его жизнь и творчество, Москва, 1886; Л. Майков, Очерк из исторіи русской литературы XVII – XVIII стст., С.-Петербург, 1889.

[21] А. Семянтоўскі, Памятная кніжка генэрал-губэрнатара Віленскага, Вільно, 1868, сс. 426–427.

гавора: „Мясцовыя абшарнікі (памешчыкі) асабіста й праз сваіх падуладных застаўляюць праваслаўнае духавенства да адбываньня павіннасьцяў нароўні з хлопамі ды выпаўненьня паніжаючых паслугаў, забараняючы ім зносіны з сваімі епіскапамі, нагаварваюць да непаслушэнства, садзяць у турмы. У сувязі з тым духавенства пазбаўляецца магчымасьці адпраўляць багаслужбы к вялікаму ўшчэрбу дзеля спасеньня душы хрысьціяніна". У сёлах, дзе жыды арандавалі, усё насельніцтва (у тым ліку й духавенства) па дагавору забавязанымі былі купляць усе прыпасы выключна ў жыда па павышаных цэнах, малоць хлеб няйначай як на жыдоўскім млыне.

Па сканчэньні вайны Расеі з Польшчаю вунія поўных правоў для сябе не набыла, аднак карысталася значнымі прывілеямі з боку палякаў-каталікоў, якія разглядалі яе як пераходную ступень у каталіцызм, надаючы правы й льготы. Адным зь лепшых спосабаў акаталічваньня й апалячваньня вуніятаў для палякаў-каталікоў быў ордэн базыльянаў, заснаваны згодна з абычаямі й парадкамі лацінскага манаскага воргану, у напрамку пазбаўленьня апекі епархіяльных архіерэяў і мітрапалітаў. Ордэн базыльянаў непасрэдна быў падпарадкаваны папу, таму й адчувалася ягонае моцнае дзеяньне на справы вуніяцкае царквы, епархіі й белага вуніяцкага духавенства ды вернікаў у падпарадкаваньні каталіцызму.

У другой палове XVII стагодзьдзя базыльяне вельмі напорыста, энэргічна пачалі праслаўляць Я. Кунцэвіча сьвятым і апекуном Польшчы, просячы папу аб прыедананьні яго да ліку сьвятых Рымскае Царквы[22]. У тым самым часе, згодна з пастановамі Трыдэнцкага сабору, базыльяне ўсімі магчымымі сродкамі стараюцца пазбавіцца ўлады вуніяцкіх мітрапалітаў ды выключна залежаць ад Рыму. Пасьля 40-гадовых змаганьняў з вуніяцкімі мітрапалітамі Селявай і Жахоўскім на Замоскім саборы, скліканым ў 1720 годзе вуніяцкім мітрапалітам Львом Кішкай, усе вуніяцкія манастыры былі далучаны да базыльянскага ордэну з пастановай, што вуніяцкія епіскапы выбіраюцца выключна з манахаў базыльянскага ордэну, у аснову чаго й паложаны моцны пачатак лацінства ў вуніяцкай царкве. На гэным саборы былі прыняты вуніятамі й зацьверджаныя папай Урбанам VIII спаведаньне веры з дабаўленьнем словаў „і ад Сына", вучэньне аб непагрэшнасьці папы й прызнана Восьмы нібы Ўсяленскі сабор ды прынятыя на ім рыма-каталікамі новыя пастановы. Пастаноўлена, каб імя папы на літургіі падчас пераносу дароў прагалошвалася ясна ўслых. Пасьля Замойскага сабору, напачатку ў Супрасьльскай друкарні, а потым Віленскай і Пачаеўскай зьявіліся

[22] М. Коялович, Литовская церковная унія, С.-Петербург, 1859 – 1862, т. 2, сс. 223, 224.

непрыстойна надрукаваныя, бяз ведама нават Рымскага прастолу, новыя папсутыя багаслужэбнікі, неадпаведна перакладзеныя з лацінскага абраду: поўныя навізны й памылак[23].

З гэтага часу самымі заўзятымі праваднікамі каталіцызму ў жыцьці вуніяцкай царквы былі базыльяне, якія вельмі шмат заснавалі сваіх манастыроў на абшарах Беларусі, забіраючы подступам у праваслаўных наступныя манастыры: Жыровіцкі, Пінскі, Віленскі Сьвятой Тройцы, Лаўрышэўскі, Супрасьльскі, Браслаўскі, Мсьціслаўскі, Ануфрыеўскі, Пустынскі, Гарадзенскі, Лешчынскі, Полацкі, Барысаглебскі, Менскі, Кобрынскі, Чаройскі й Трокскі. Пры некаторых манастырох базыльяне адчынялі школы ды закладалі т. зв. „Місіі", напрыклад у Мозыры (1747), для забесьпячэньня ў збавеньні вернікаў. Прычым ім, гэным місіям, давалася права розных „індульгэнцыяў", а місіянерам – права блаславляць й раздаваць народу ўзнагароды. Пры манастырох утрымліваліся школы для манахаў і юнацтва. Для чэрнецоў ў XVIII стагодзьдзі існавалі ведамыя багаслоўскія школы ў Вільні й Полацку, а філасофскія – у Жыровічах і Полацку, Новым Сьвержані і Барунах[24]. Пад уплывам базыльянаў у 1668 годзе генэральнай канфэдэрацыяй прыняты быў наступны закон: „Арыяне й адступнікі ад каталіцкага веравызнаньня не карыстаюцца соймавымі пастановамі, забясьпечваючымі свабоду веравызнаньня. Адступнікаў неабходна караць і пазбаўляць Бацькаўшчыны, калі правіны даказаны судовым паступаваньнем".

Пастановай сойму 1676 году, пацьверджанай на соймах 1678 –1679, стаўрапіяльным брацтвам і, наагул, усім праваслаўным забаранялася выяжджаць па-за межы альбо вяртацца адтуль, каб мець лучнасьць з Канстантынопальскім патрыярхам. У зносінах з пастановай адносна веравызнаньня пастанова гэтая ня толькі пазбаўляла магчымасьці сувязі з патрыярхам, але накіравана была на разбурэньне праваслаўных епархіяў калі расходзілася пра рукапаложаньні сьвятароў[25].

У 1697 годзе ўва ўсіх судох Вялікага Княства Літоўскага абавязкава ўводзіцца польская мова замест беларускай[26]. Соймавай пастановай 1699 году „мяшчане, сапраўдныя вуніяты, прызнаваліся выключна здольнымі быць выбранымі магістрацкімі урадаўцамі", а праваслаўныя назаўсёды пазбаўляліся гэтага права. На сойме-ж 1712 году выданы закон, згодна каторага забаранялася прыкладаць урадавыя пячаткі нават да каралеўскіх актаў паміласаваньня, калі гэта было на карысьць не каталіцкага веравызнаньня. Такім чынам, праваслаўныя пазбаўляліся

---

[23] Н. Петров, op. cit., 1870, лістапад, с. 400; 1871, люты, с. 297; 1872, люты, сс. 195–196.
[24] Н. Петров, op. cit., 1872, люты, сс. 120, 151, 153–157.
[25] Н. Петров, op. cit., 1870, жнівень, сс. 410, 415, 416.
[26] Акты Віленскай камісіі, т. XI, б. V.

абароны законных правоў, падпадаючы пад самачынства каталіцкае шляхты.

Пасля сьмерці караля Аўгуста II у 1732 годзе паўзята наступныя пастановы: „Каталіцкая Царква ніякім чынам ня можа адначасна цярпець другія веравызнаньні. Іншаверцы, г. з. праваслаўныя й пратэстанты, пазбаўляюцца выбарчага права дэпутатаў на сойм і трыбуналы (абласныя суды). Правы іх дараўноўваюцца да жыдоў. Духавенства праваслаўнае ня мае права хадзіць па вуліцах зь сьвятымі дарамі, забаронены хрышчэньні, шлюбы. Яны павінны адбывацца з дазволу каталіцкага ксяндза за ўстаноўленую ім аплату. Урачыстыя паховіны забаронены, яны павінны адбывацца ўначы. У гарадох іншаверцы пазбаўленыя прысутнічаньня на каталіцкіх працэсіях (крэсныя ходы). У сёлах забаронена мець званы пры цэрквах. Дзеці ад мешаных шлюбаў маюць быць далучанымі да Каталіцкае Царквы. Каноны Каталіцкае царквы становяцца абавязкавымі для іншаверцаў"[27]. На сойме 1764 году пастаноўлена караць сьмерцяй тых, хто пяройдзе з каталіцтва ў другое веравызнаньне. У 1766 годзе кракаўскі епіскап Солтык зрабіў ў сойме прапанову „лічыць ворагамі тых, хто адважыцца прамовіць на сойме на карысьць іншаверцаў". Прапанову прынята з захапленьнем, што атрымала моц закону[28].

Пералічаныя пастановы-распараджэньні насьвятляюць цяжкое палажэньне Праваслаўнае Царквы, у якім яна знаходзілася ў другой палавіне XVIII стагодзьдзя. У 1674 годзе Пінскі вуніяцкі епіскап Белазор скаржыўся у судзе на старастаў горада Турава за тое, што яны не дапушчалі яго аглядаць праваслаўныя цэрквы ў горадзе й акалічных сёлах, у сувязі з чым каптуровы суд пастанавіў аддаць усе цэрквы Белазору[29].

У 1726 годзе магілёўскі плебан Ваўчок пасадзіў у касьцельную турму сьвятара, прыслужнікаў біў, паўзяўшы намер забіць епіскапа - прэасьвяшчэннага Сыльвестра. Князь Сьвятаполк-Чатвертынскі баяўся пасдаць ад сябе каго-небудзь са скаргай ў сойм, бо успомнены плебан ды езуіт Гінтафт пагражалі забойствам пасланца. У 1745 годзе плебан Грыневіч ў Магілёве заўсёды вымышляў, пагражаючы Магілёўскаму прэасьвяшчэннаму Героніму Валчанскаму і, наагул, праваслаўным, робячы „розныя ў сьвеце нячутныя пярэчаньні, напасьці, пішучы пашквілі, пратэстацыі й іншыя...".

У 1759 годзе каталіцкія місіянеры ў бытнасць прэасьвяшчэннага Юрыя Каніскага ў Воршы напалі з сваімі падручнымі на царкву, у якой

---

[27] Манаграфія Антановіча, т. 1, бб. 272, 274, 299 і 381.
[28] Ibidem, бб. 272, 274, 299 і 381.
[29] И. Чистович, Очерк исторіи Западно-Русской Церкви, С.-Петербург, 1884, т. XI, с. 200.

уладыка Юры служыў літургію й змусілі яго, пагражаючы зброяй, пакінуць царкву, ня скончыўшы багаслужбы. Уладыка ледзь знайшоў прытулак ў Куцейскім манастыры. Але разьюшанае зьвяр'ё акружыла манастыр з намерам пазбавіць яго жыцьця. Каб зьберагчы жыцьцё ад ярасьці насільнікаў, пагражаючых мучаніцкай сьмерцю, прэасьвяшчэнны ўладыка Юры загадаў палажыць яго на сялянскі воз, прыкрыць саломай і вывезьці з манастыра.

У 1761 годзе магілёўскі плебан Зяновіч, склікаўшы езуіцкіх гадунцоў і забясьпечыўшы іх зброяй (шаблямі й дубінамі), увайшоў пакрыёму ноччу ў дом уладыкі Юрыя, а пасьля ў памешканьне праваслаўнай сэмінарыі. Разьюшаны натоўп, выламаўшы вароты, параніў шмат каго з гадунцоў і манахаў, учыняючы розныя бясчынствы, шукаючы свае ахвяры. Зь вялікім высілкам прэасьвяшчэнны Юры здолеў схавацца ў сырым падвале свайго дому[30].

Чаму й завошта так жорстка быў перасьледаваны прэасьвяшчэнны ўладыка Юры Каніскі? Ён – беззаганны епіскап, вялікі казнадзея, Божы слуга, непахісны барацьбіт за чысьціню праваслаўя ў абароне Богам даручаных вернікаў, сваім красамоўствам умацоўваў сэрцы вернікаў у стойкасьці й зьберажэньні прадзедаўскай веры й іх традыцыяў. Неабходна зазначыць, што ўладыка Юры, апрача епіскапскай беззаганнасьці ў службе Богу й Ягонай Царкве ды свайму народу, лічыўся адным з найвялікшых ў тыя часы гісторыкаў славянства. А таму Царква Каталіцкая бачыла ў ім перашкоду, веліч і непахіснасьць энергічнага барацьбіта, ды вырашыла зьнішчыць, шукаючы ягонай сьмерці.

Вельмі часта праваслаўныя манастыры й цэрквы перадаванымі былі вуніятам, таму што нібы яны пабудаванымі былі для вуніятаў. На гэнай аснове ў 1666 годзе вуніятам прысуджана Заблудаўская царква, у рэчаіснасьці пабудаваная ў 1563 годзе праваслаўным вяльможай Хадкевічам для праваслаўных, калі ў Вялікім Княстве Літоўска-Беларускім зусім ня было вуніі[31]. Там, дзе меліся дакуманты ўласнасьці ў праваслаўных на пабудову цэркваў, там лаціна-вуніяты іх, гэтыя дакуманты, нішчылі альбо перараблялі на сваю карысьць.

Прыблізна ў 1745 годзе крычаўскі плебан Ільліч, выбраўшы з мэтрычных кнігаў Вялікага Княства Літоўска-Беларускага старыя прывілеі беларускіх цэркваў, прыпісаў у іх свае новыя прыдачы, згодна якім яны нібыта мелі быць ад заснаваньня свайго вуніяцкімі. З дапамогай такіх падложных дакумантаў выпрасіў ў караля прывілей на праваслаўныя беларускія цэрквы ў Крычаве, забіраючы іх для вуніятаў.

---

30 Н. Петров, op. cit., люты 1872, сс. 270 – 272.
31 Весьнік Гавароўскага, 1868, кн. 10, ч. 1, с. 5.

У 1765 годзе місіянеры езуіты, пабудавалі ў сяле Асмаловічы капліцу паблізу праваслаўнай царквы й пад відокам працэсіі напалі на праваслаўную царкву. Калі-ж асмаловіцкія аднадворцы-шляхцічы сталі ў абароне сваей царквы, тады ксёндз-місіянер, які ішоў наперадзе працэсіі з драўляным крыжом, сумысля паваліўся і, зламаўшы папярэчнік крыжа, закрычаў: „Схізмацікі руку Хрысту адламалі". Справу сьціравана да суду, які пагражаў сьмяротным пакараньнем, прымушаючы пераходзіць у каталіцызм і вунію[32].

Прыблізна ў 1747 годзе, спадзеючыся камісіі для разгляду скаргаў ад праваслаўных аб самачынным забіраньні праваслаўных цэркваў лаціна-вуніятамі, полацкі вуніяцкі афіцыял Іраклі Лісянскі аб'ехаў усе цэрквы, забраныя для вуніі, у якіх знайшоў старынныя фундушавыя запісі, граматы, праваслаўныя анцімінісы й багаслужэбныя кнігі. Усё забраў з сабою, каб памяць аб праваслаўі зьнішчыць, а вуніяцкім сьвятарам па ўсёй Беларусі бароды пабрыў і валасы на галовах астрыг па манеру рымскім[33].

Аднак высілкі палякаў не асягалі мэты. Апынуўшыся ў вуніі, праваслаўныя беларусы пры першай нагодзе сьцьвярджалі, што яны прымусова апынуліся ў вуніі й не жадаюць далей пазаставацца ў ёй[34]. „Калі нават некаторыя цэрквы ўжо па 20 гадоў знаходзяцца ў вуніі, – пісаў прэасьвяшчэнны Юры Каніскі ў 1757 годзе. – Аднак і сягоньня яшчэ бедныя тых цэрквах парафіяне прыходзяць да мяне скрытна, „страху радзі Рымскага", і з плачам просяць ім дапамагчы, каб так як і раней пазаставацца праваслаўнымі".

Пераважаючая частка беларускага насельніцтва, не зважаючы на прымусова-прыгоннае сваё палажэньне, да канца існаваньня Польшчы пазасталося праваслаўным. Праваслаўе зьберaглося дзякуючы трох дзейнікам: стойкасьці беларускага насельніцтва, пераважна сялянаў, частковай падтрымцы Канстантынопальскага патрыярха і ўнутранаму раскладу шляхецтва, што спрычынілася да ўпаду Польшчы.

## VIII.

Не апошнюю ролю ў змаганьні за правы Сьвятое Праваслаўнае Царквы й беларускага народу ў Польшчы мелі епіскапы, якія былі аб'яднаўчай сілай праваслаўных, ходаючыхся перад польскімі й расейскімі ўрадамі за даручаных ім вернікаў.

---

32 Гісторыя аб вуніі, А. Бантыш-Каменскага, бб. 452, 365, 368, 454; И. Чистович, Очерк исторіи Западно-Русской Церкви, С.-Петербург, 1884, т. 1, с. 11 – 111.

33 И. Чистович, op. cit., сс. 83 – 84.

34 А. Бантыш-Каменскі, op. cit., бб. 193, 194, 253, 367.

Сярод епіскапаў, як ужо зазначана вышэй, выдзяляўся архіепіскап Юры Каніскі, пры якім распачаўся пэрыяд палепшаньня палажэньня праваслаўных, дзякуючы яго асабістым здольнасьцям як вучонага й няўтомнага змагара. Прэасьвяшчэнны Юры ня толькі здолеў абараніць рэштку сваёй паствы, але, зьвярнуўшы асобую ўвагу, зьбіраў дакументы, якія нішчылі лаціна-вуніяты, і перахоўваў іх у архіве пры архірэйскай катэдры. Пазьней гэты збор дакумантаў стаўся цікавым гістарычным матар'ялам.

Каб пабольшыць і палепшыць кадры беларускага духавенства, ён засноўвае пры архірэйскай катэдры ў Магілёве духоўную сэмінарыю, а празь некаторы час пры архірэйскім доме - друкарню, у якой быў выдрукаваны катэхізіс Феафана Пракаповіча. Гэты катэхізіс ён разаслаў па ўсіх парафіях, наказваючы аб абавязковым навучаньні вернікаў правілам веры. У 1765 годзе архіепіскап Юры Каніскі прамовіў перад каралём у Варшаве аб цяжкім палажэньні праваслаўнага беларускага народу ў Польшчы. Прамова гэтая сталася ведамай у Заходняй Эўропе, аднак у Польшчы спачатку посьпехаў ня мела, а нават выклікала на сойме ў 1766 годзе неспрыяльныя адносіны да праваслаўных, у сувязі з чым уся шляхта, дваране беларусы склікалі ў 1767 годзе ў Слуцку канфэдэрацыю, патрабуючы роўнага права. Да канфэдэрацыі далучыўся й архіепіскап Юры. У 1768 годзе сойм, ідучы на ўступкі, вызначыў камісію з 70 асоб для разгляду гэтай справы. Ад гэтага часу наступіла частковае палепшаньне для праваслаўных у Польшчы. Праваслаўным прызнана нібы самастойнае гаспадарскае жыцьцё ў Царкве. Духавенства магло свабодна наведваць хворых, публічна хаваць памёршых, рабіць крэсныя ходы. Праваслаўныя звальняліся ад залежнасьці ад ксяндзоў і ад платы падаткаў на карысьць ксяндзоў. Дзеці, народжаныя ад зьмешанага сужэнства хрысьціліся наступным чынам: хлопцы – па веравызнаньню бацькі, а дзяўчынкі – па матчынаму. Далей праваслаўныя звальняліся ад абавязку прысутнічаньня на каталіцкіх працэсыях. У справах разгляду веравызнаньня быў пакліканы зьмешаны суд у складзе 17 каталікоў, 8 праваслаўных і пратэстантаў.

Пры першым падзеле Польшчы ў 1772 годзе пад Польшчаю засталася заходняя частка Беларусі: вобласьці Менская, Гарадзенская, Віленская, Пінская й частка Віцебскае. Ад гэтага часу тут ня было свайго беларускага праваслаўнага архіепіскапа. Расейскія цары, узяўшы на сябе абавязак назіральніка за палажэньнем праваслаўных беларусаў у Польшчы, з палітычнага гледзішча рабілі ўступкі для палякаў, якія зноў агранічылі праваслаўных у правох[35].

---

[35] Манаграфія Антановіча, т. 1, сс. 274, 275, 334 – 335.

Асабліва была непастаяннай Кацярына II, якая імкнулася ня толькі аб'яднаць праваслаўных беларусаў з расейцамі ды пазьней зрусыфікаваць іх, але й лаціна-вуніятаў, якім нароўні з каталіцызмам прызнавала правы й спрыяла шырокай дзейнасьці вуніятаў на новапрыяднаных абшарах Беларусі[36]. Аднак гэта не заламала праваслаўных беларусаў. Барацьба прадаўжаецца і, дзякуючы ёй, у 1785 годзе была заснавана праваслаўная епіскапія з назовам Перэяслаўска-Барысапольскай. Першым епіскапам быў вызначаны Віктар Садкоўскі з сядзібай у Слуцку, дзе ён залажыў праваслаўную сэмінарыю.

Для палякаў назначэньне праваслаўнага епіскапа ў асобе Віктара Садкоўскага ня было пажаданым. Пасьля візытацыі свае епархіі ў самым кароткім часе замест 94 парафіяў налічылася ажно 300, пакінуўшых вунію. Але заўзятая польская шляхта не драмала. У шмат якіх гарадох адбываліся насільлі, пабоі праваслаўнага духавенства й сялянаў. Прэасьвяшчэнны Віктар Садоўскі па наказу сойму разам з другімі беларусамі быў арыштаваны, закаваны ў кайданы й вывезены ў Варшаву ды пасаджаны там у турму. На пачатку зьняволеньня ён быў змушаны выдаць акруговае пасланьне да сваёй паствы быць вернымі каралю Польшчы, якому па наказу польскіх уладаў праваслаўнае духавенства складала прысягу на вернасьць. Каб у будучыні пазьбегнуць бунтаў і закалотаў, польскі сойм у 1791 годзе ў Пінску склікаў Сабор Праваслаўнай Царквы, які быў названы Пінскай Кангрэгацыяй.

На гэтым Саборы, які ў гістарычна-царкоўнай літаратуры называецца Пінскай Кангрэгацыяй, прысутнічалі камісары вызначаныя соймам, мясцовыя ўлады й 95 прадстаўнікоў ад Праваслаўнай Царквы.

Па прыблізнаму падліку на Саборы былі прадстаўлены 24 манастыры, 11 благачыньняў (зь якіх шмат было злучана па некалькі благачыньняў у адно), 26 брацтваў і 21 абшчына. Варта зазначыць, што на Пінскай Кангрэгацыі ня было епіскапа, дзеля таго што адзіны, які быў на тэрыторыі Польшчы, епіскап Віктар Садкоўскі сядзеў у турме.

Сабор прыняў 14 пастаноў, якія ў асноўным былі статутам для Царквы. У першай пастанове было сказана: „Згодна канонам і ўстановам 7 Усяленскіх Сабораў ды традыцыям Усходняй Царквы гіерархічна Царкоўная Ўправа павінна складацца найменш з аднаго архіепіскапа й трох епіскапаў, калі хоча быць спраўнаю й незалежнаю. Гэтыя епіскапы могуць тварыць нацыянальны сынод, зусім незалежны ўва ўсіх справах ад вышэйшай зарубежнай зьверхнасьці, за выняткам дагматычных спраў. Нацыянальны сынод у справах дагматычных павінен падлягаць Патрыяршай сталіцы Царгародзкай альбо Канстантынапальскай, што

[36] М. Коялович, Исторія воссоединения западно-русских уніатов старых времен, С.-Петербург, 1873.

на Ўсходзе, адкуль узяла свой пачатак і кананічны ўстаў Сьвятая Праваслаўная Вера Грэцкага Арыентальнага Абраду ў Найясьнейшых Дзяржавах Рэчы Паспалітай Польскай Абоіх Народаў ды ў прыналежачых да іх правінцыях".

Пастановы Пінскай Кангрэгацыі не былі ўрэчаісьнены. Хутка наступіў апошні падзел Польшчы, і для беларускага народу распачаўся новы пэрыяд як у царкоўным, так і нацыянальным жыцьці, пэрыяд змаганьня й барацьбы з царызмам і русыфікацыяй Царквы й народу.



## ПАЛОМНІЦТВА СТУДЭНТАЎ ...

Ужо даўно студэнты-тэалёгі жадалі пакланіцца машчам вялікага змагара за праваслаўе Прэпадобнага Іова, ігумена Пачаеўскага, і там, у гэтай найбольшай нашай сьвятыні, узмацавацца духова для працы на шляху змаганьня за сьвятыя ідэалы Хрыстовыя. Да 1932–1933 акадэміцкага году былі гэта імкненьні асабістыя. Толькі ў гэтым годзе ў кіраўніцтве гуртка праваслаўных тэалёгаў паўстае думка задаволіць гэтыя найвялікшыя жаданьні сяброў арганізаваньнем паломніцтва ў Сьвятую Пачаеўскую Лаўру. З думкай гэтай кіраўніцтва зьвярнулася да Блажэньнейшага Дыянісія, мітрапаліта Праваслаўнае Царквы ў Польшчы й вялікага апякуна нашага гуртка. Атрымаўшы цёпласардэчны й дображадаючы адказ, з благаслаўленьнем уладыкі пачалі інтэнсыўную працу над арганізацыяй паломніцтва. Пры помачы Яго Блажэнства ў канцы акадэміцкага году ўсё было гатова да ад'езду. У чацьвер (29 чэрвеня) вечарам быў адслужаны перададарожны малебен, а ў пятніцу раніцай 38 студэнтаў-паломнікаў, у пераважным ліку гадунцы Віленскай духоўнай сэмінарыі, пад кіраўніцтвам Прэасьвяшчэннага Савы, дырэктара інтэрнату й зь Мікалаем Смольскім, гармостарам таго-ж інтэрнату, выехалі з Варшавы. Нягледзячы на дрэнную пагоду, настрой быў самы радасны, і кожны зь нецярпеньнем чакаў, каб цягнік як мага хутчэй вырушыў у дарогу. Нарэшце дачакаліся гэтае мінуты. Цягнік рушыў...

Кожны заняў сваё месца ў вагоне й пад стукат колаў задумаўся аб марнасьці зямных справаў. У гэты мамэнт, у мамэнт поўнае цішыні, я думаю, што далёка адыйшлі ўсе зямныя клопаты, а месца іх занялі чыстыя рэлігійныя думкі. Дзякуючы гэтаму, амаль што ніхто не зварочваў увагі, як цягнік далей і далей аддаляўся ад Варшавы. Пад'яжджаючы да Любліну, на жаданьне Яго Прэасьвяшчэнства, Прэасьвяшчэньнейшага Савы пачалі пяяць рэлігійныя песьні. Ніколі не запомняцца хвілі, калі ўсе паломнікі-студэнты быццам аднымі вуснамі й адным сэрцам пяялі „Благаславі душе мая Госпада", „Блажен Муж", „Хваліце Імя Госпадне" і другія глыбока сэнсоўныя песьні.

Гэтага-ж дня ў 11 гадзін вечара прыехалі на станцыю Крэмянец, дзе нас сустрэлі айцец архімандрыт Лаўрыненка й дырэктар Крэмянецкай духоўнай сэмінарыі пан Міляшкевіч. На паручэньне Прэасьвяшчэньнейшага Сімана яны далі нам прытулак і пасілак у мурах інтэрнату Крэмянецкай праваслаўнай духоўнай сэмінарыі. На наступны дзень раніцай, памаліўшыся Богу ў сэмінарскай Сьвята-Мікалаеўскай царкве, пасьля сьнеданьня аўтабусам паехалі далей.

Да Пачаеўскае Лаўры ўсе паломнікі-студэнты прыехалі ў суботу 1 ліпеня а палудні. Зараз-жа па прыбыцьцю ў Пачаеў у вялікім храме Яго Прэасьвяшчэнства Прэасьвяшчэнны Сава павіншаваў паломнікаў са шчасьлівым прыездам да Сьвятое Пачаеўскае Лаўры й адслужыў перад цудадзейным вобразам Божае Мацеры малебен з каленапрэклоннай малітвай. Прылажыўшыся з благаслаўленьнем уладыкі да Цудадзейнага вобразу й Стапы Божай Мацеры, славячы Бога, усе разышліся на адпачынак у гасьцінныя пакоі. А 5-й гадзіне ўвечары званы з Лаўраўскай званіцы пачалі заклікаць на ўсяночнае бдзеніе. Усе студэнты на гэты магутны кліч сабраліся ў саборны храм, дзе праслухалі ўстаўное ўсяночнае бдзеніе, якое праслужыў Прэасьвяшчэнны епіскап Сава. Саслужыўцамі пры гэтым багаслужэньні былі: лаўраўскае духавенства, а. гармостар М. Смольскі, сьвяшчэньнікі-студэнты а. Нікіфар Пыск, а. Ян Кушнер, а. І. Сайчук і дыякан А. Несьцяровіч. Лаўраўскі хор пяяў хораша й мэлядычна царкоўныя песнапеньні, якія так многа гаворадь нашаму сэрцу. Багаслужэньне скончылася а 10-й гадзіне ўвечары. Нягледзячы на тое, што былі фізычна змораныя пасьля доўгай падарожы, усе студэнты-багасловы выслухалі багаслужэньне з глыбокім малітвенным скупленьнем.

Пасьля багаслужэньня студэнты-паломнікі паспавядаліся й на адпачынак вярнуліся ў гасьцініцу. У нядзелю, раніцай 2 ліпеня, памыўшыся, пасьля ранішняй малітвы, пайшлі паломнікі ў саборны храм, каб праслухаць Бажэсьцьвенную літургію й прыняць Цела і Кроў Хрыста. Урачыстую літургію адслужыў Прэасьвяшчэнны епіскап Сава ў саслужэньні духавенства, якое саслужывала на папярэднім ўсяночным бдзеніі. У часе літургіі а. дыякан А. Несьцяровіч быў пасьвячоны ў іерэі, а іпадыякан Н. Неслухоўскі – у дыяканы. Пры заканчэньні служэньня літургіі Яго Прэасьвяшчэнства, Прэасьвяшчэньнейшы епіскап Сава сказаў слова, у якім заклікаў усіх сабраных на Сьвятой Гары цьвёрда й моцна стаяць пад штандарам Сьвятое Праваслаўнае Царквы.

Пасьля палудня ў гэты самы дзень усе паломнікі, дзякуючы добрай пагодзе, зьведалі Пачаеўскі скіт Сьвятога Духа. У скітскай царкве студэнты й група паломнікаў праваслаўнае варшаўскае моладзі праслухалі малебен, які адслужылі а. гармостар Мікалай Смольскі, а. протапрэсьвіцер Т. Тэадаровіч і а. Ян Кушнер. Пасьля малебена, агледзеўшы гаспадарку манахаў-інакаў скіта, усе вярнуліся ў сьцены сьвятой абіцелі. Імпануючай была Сьвятая Лаўра, калі мы глядзелі на яе пры заходзе сонца. Нейкая незямная моц адбівалася ў гэтым вобразе. Вечарам, перад самым заходам сонца, усе студэнты-паломнікі з Прэасьвяшчэнным епіскапам Савай, сваім кіраўніком, пайшлі аглядаць царкву Сьвятой Тройцы, пабудаваную ў 1912 годзе архіепіскапам Антоніем, пячэру пад

Сьвятой Стапою й лаўраўскую гаспадарку: млын, электроўню й майстэрні. Разам з намі хадзіў і растлумачваў тое, чаго мы ня ведалі, а. ігумен Вэніямін, які моцна клапаціўся аб нас. Такімі багатымі ўражаньнямі закончыўся для нас гэты дзень.

Раніцай на наступны дзень Прэасьвяшчэнны Сава з саслугуючымі а. протаіерэем М. Смольскім і сьвяшчэньнікамі-студэнтамі адслужыў у пячэры пры рацы Прэпадобнага Іова акафіст, пасьля заканчэньня якога ўсе студэнты прыкладаваліся да машчэй Прэпадобнага Іова, а Прэасьвяшчэнны епіскап благаславіў кожнага з нас вобразам Мацеры Божай, прыложаным да машчэй. Апрача гэтага тут-жа былі пасьвечаны й прыложаны да сьвятых машчэй усе тыя сьвятыя памяткі, якія былі куплены студэнтамі-паломнікамі ў Пачаеўскай Лаўры.

Пасьля акафіста, падзякаваўшы а. архімандрыту Нікадыму за ўсе ягоныя клопаты аб нас, і, памаліўшыся горача ў вялікай нашай сьвятыні – Пачаеўскай Лаўры, паломнікі пачалі сабірацца ў паваротную падарожу. Як-жа ня хочацца ехаць з гэтага, прыцягваючага сэрца праваслаўнага хрысьціяніна, месца. Але трэба... Выяжджаючы з Пачаева, па даручэньню Яго Прэасьвяшчэнства Прэасьвяшчэньнейшага епіскапа Савы й калегаў-студэнтаў, старшыня гуртка тэалёгаў выслаў ліст да Яго Блажэнства, Блажэньнейшага мітрапаліта Дыянісія з падзякай за тую помач, якую Яго Блажэнства, Блажэньнейшы ўладыка аказаў пры арганізацыі паломніцтва. Зьмест ліста наступны:

„Его Блаженству, Блаженнейшему Дионисию, митрополиту Варшавскому, Волынскому и всей Польши, священно-архимандриту Почаевской Успенской Лавры.

Ваше Блаженство,
Блаженнейший Владыка, Дорогой
Отец Архипастырь!

Вознеся свои молитвы в дорогой нашему сердцу Великой Святыне – Почаевской Лавре, перед выездом из ея стен, приносим Вашему Блаженству благодарность за помощь, оказанную нам в деле организации паломничества, давшего возможность приобщиться к той благодатной жизни, истоки которой восходят к Преподобному Іову, основоположнику монастырского жития в Почаеве. Минуты духовной радости, пережитые нами при уставных церковных службах, а также и у благодатных Святынь Лавры, останутся неизгладимы в нашей памяти. Ваши духовные дети". Подпісы.

Апрача гэтага старшынёй гуртка тэалёгаў ад усіх студэнтаў з Пачаева былі высланы прывітаньні: для дэлегата Міністэрства асьветы й рэлігіі ў інтэрнаце, пана доктара З. Загуроўскага, Р. А. Кікіца, А. В. Краўчэнкі й П. І. Зайцава, каторыя памагалі нам тым ці іншым спосабам арганізаваць паломніцтва. Пасьля гэтага, сардэчна разьвітаўшыся зь некаторымі інакамі, якія пажадалі для нас у духоўнай радасьці й здароўі закончыць паломніцтва, мы пакінулі сьцены Пачаеўскай Лаўры. Таго-ж самага дня прыехалі ў Крэмянец. Тут з Прэасьвяшчэнным епіскапам Савай зьведалі Крэмянецкія цэрквы, ліцэй і самое места. Вярнуўшыся ў інтэрнат пасьля вячэры, усе студэнты былі прадстаўлены Прэасьвяшчэннаму Сіману, епіскапу Крэмянецкаму. Ад імя ўсіх студэнтаў а. Ян Кушнер у кароткіх словах падзякаваў Прэасьвяшчэннаму Сіману за гасьціннасьць, выяўленую нам у мурах Крэмянецкае сэмінарыі.

Дзякуючы гасьціннасьці сэмінарскага пэрсаналю, чуліся мы там быццам ува ўласным доме. На наступны дзень, 4 ліпеня раніцай паломнікі выехалі з Крэмянца, а вечарам таго-ж дня а 8-й гадзіне ўжо прыехалі да Варшавы. Зараз-жа па прыбыцьці да інтэрнату Прэасьвяшчэнны епіскап Сава адслужыў у нашай інтэрнацкай царкве малебен Сьвятому Мікалаю. Усе паломнікі ў Сьвятой Пачаеўскай Лаўры перажылі найвялікшыя рэлігійныя пачуцьці, якія застануцца ў памяці на доўгія-доўгія гады.

Вось як піша адзін зь іх у „Воскресном Чтеніи": „Почаевская Обитель произвела на паломников, особенно посетивших ее в первый раз, огромное, незабываемое впечатление. Древность святыни – Стопы Пречистой Богоматери, целебный источник, вытекающий из Стопы, Чудотворная икона, чтимая на всем православном славянском Востоке, нетленные мощи Преподобнаго Іова Чудотворца, пещера, где он подвизался, маленькая пещера, где Преподобный уединялся на длительную молитву, – всё это оставляет в душе паломника неотразимое впечатление святости, духовности и молитвы"[1].

Натуральна, што ўсё гэта напаўняла нашыя душы ўміленьнем і незямною радасьцю, умацоўвала ў нашых сэрцах веру ў Бога й цьвёрдасьць у змаганьні за ідэалы сьвятога праваслаўя.

---

[1] „Воскресное Чтеніе", № 31, Варшава, 1934, с. 492.



## ЗА БЕЛАРУСКУЮ ЦАРКВУ

Царква зьяўляецца магутным дзейнікам у жыцьці народаў. Яна мела й мае вялізны ўплыў на гістарычны шлях нацыяў. Як далёка сягае памяць гісторыі, рэлігійнае пытаньне зьяўлялася самым галоўным пытаньнем паасобных народаў і людзкасьці ў цэлым. Розныя народы на розных гістарычных этапах па-рознаму будавалі свае адносіны да Царквы, але ні адна грамадзкасьць не абмінула гэтае адвечнае праблемы. Раз гэта былі прыязныя дачыненьні грамадзкасьці да Царквы. І тады Царква раскрывала перад нацыяй скарбніцу сваёй тысячагадовай культуры ды давала народу выдатных дзеячоў на ніве прасьветы, як у нас, беларусаў, Кірыла Тураўскі, Клімэнт Смаляціч, Еўфрасіньня Полацкая й плеяда іншых, кім хваліцца гісторыя нашага народу. Іншы раз дачыненьні грамадзкасьці да Царквы бывалі варожымі. І тады гэта апошняя хавалася ад перасьледу ў катакомбы, як хрысьціянская Царква ў першыя вякі свае гісторыі ў Рымскай імпэрыі або ў нашыя дні ў чырвона-маскоўскай імпэрыі. Аднак і ў апошнім выпадку Царква не была й не бывае пераможанай, а ўзмацоўваецца пасьля часовых слабасьцяў і знаходзіць шлях да народнага сумленьня.

Царква не памірае. Яна можа толькі хварэць. Так хварэла наша Беларуская Праваслаўная Царква напярэдадні і ў пару нашага палітычнага й культурнага заняпаду. Так хварэе яна сёньня там, на Беларусі, пад бязбожнай бальшавіцка-маскоўскай акупацыяй, і ў эміграцыі, дзе махляры цёмных дарог для сваіх палітычных, шкодных беларускай незалежніцкай ідэі й дабру Праваслаўнае Царквы, меркаваньняў разьбіваюць адзінства беларускае праваслаўнае грамады.

Царква – народнае цела. Яна заўсёды мае нацыянальнае аблічча, бо царква – гэта народ (вернікі) і гіерархія. Царква непераможная, калі гэтыя два пачаткі (народ ды гіерархія) моцна спаяны паміж сабою. Царква ня служыць антынародным мэтам, бо ў гэтым выпадку яна дзее супраць самое сябе й немінучым насьледкам вядзе да яе-ж заняпаду, як гэта здарылася з Царквой Расейскае імпэрыі, калі царкоўная гіерархія, адышоўшы ад паняволеных расейскім урадам народаў, пайшла на службу імпэрыялістычным мэтам Масквы й заміж праваслаўнае зрабілася „рускай".

Кожны народ павінен мець сваю Царкву, інакш ён ніколі ня будзе суб'ектам міжнародных дачыненьняў ды астанецца аб'ектам міжнароднага гандлю. Народ, які дасьпеў да таго, каб мець сваю самастойную Царкву, лічыцца дзяржаўна сьпелым народам. Вось чаму ідэя арганізацыі беларускага рэлігійна-нацыянальнага жыцьця спатыкае моцную рэакцыю з боку ворагаў беларушчыны розных масьцей. Яны – ворагі беларускае незалежніцкае думкі – вельмі добра разумеюць, што, арганізуючы наша

рэлігійна-нацыянальнае жыцьцё, мы кладзем моцны грунт пад наш незалежніцкі й палітычны рух. Вось чым тлумачацца напады на нашых царкоўных дзеячоў з аднаго боку й жаданьне зьвесьці нашы здаровыя рэлігійна-нацыянальныя шуканьні на мыльныя й бязвыхадныя шляхі – з другога.

Ніколі нельга забывацца й аб тым, што арганізацыя рэлігійнага жыцьця – гэта справа веруючых у Бога людзей. Толькі царкоўныя людзі, якія любяць сваю веру й нацыю аднолькава, знойдуць адзіна добрае вырашэньне нашага нацыянальна-рэлігійнага пытаньня. Недапушчальна, каб Царква зрабілася месцам экспэрымэнтаў прыпадковых людзей, якія ў выніку няведаньня або злое волі зробяць шкоду Царкве, не прынёсшы карысьці нацыянальнай справе.

Наш часапіс ставіць сабе мэту крышталізаваць беларускую рэлігійна-нацыянальную думку й шукаць адказаў на пытаньні, хвалюючыя нашу царкоўную грамадзкасьць. Нашым дэвізам зьяўляецца служэньне Царкве й Бацькаўшчыне. Наша эміграцыйная прэса, на жаль, ня мае аб'ектыўнага падыходу да царкоўнага пытаньня. Яго, гэтае пытаньне, або абыходзяць маўчаньнем, або насьвятляюць праз прызму прыватных інтарэсаў тае ці іншае партыйнае групоўкі. Мы ставім сябе вышэй інтарэсаў паасобных групаў ды ідзем у напрамку самастойнае Беларускае Царквы. Шуканьне гэтага шляху – вельмі паважная справа, вымагаючая паважнага падыходу паважных людзей. Да гэтых людзей зварочваемся з заклікам падтрымаць наша пачынаньне. Дазволім сабе верыць, што людзі добрае волі нас падтрымаюць.

## СЬВЯТАЯ ЕЎФРАСІНЬНЯ ПОЛАЦКАЯ

Беларуская эміграцыя з году ў год урачыста сьвяткуе дзень Еўфрасіньні Полацкай. Гэтак было ў Эўропе, так маем цяпер у Амэрыцы.

Для нас дзень Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай – гэта асаблівае сьвята. У гэты дзень беларускі праваслаўны народ моліцца да Сьвятой Еўфрасіньні й складае ёй сваю падзяку й пашану за тое, што яна ўсім сваім жыцьцём вольна й непрымушана служыла найвышэйшай праўдзе – любові Бога й чалавека. Сваім жыцьцём яна паказала нам, як трэба жыць і працаваць, любіць і служыць Богу й Бацькаўшчыне.

Хрысьціянства на Беларусь прыйшло адносна рана. Згодна сьціплых вестак гісторыі ўжо ў IX стагодзьдзі ў Полацку была першая хрысьціянская царква. У X і XI стагодзьдзях хрысьціянства пашырылася па ўсёй Беларусі. У гэтым часе ўжо былі на беларускіх землях епіскапы, сьвяшчэньнікі, цэрквы й манастыры. Гэта была пара, калі зьявіліся першыя беларускія сьвятыя. Аднэй зь іх зьяўляецца Сьвятая Еўфрасіньня Полацкая. Яна была Полацкай князёўнай. Сьвятая Еўфрасіньня нарадзілася ў 1102 годзе й называлася Прадславай. Яна была дачкой князя

Сьвятаслава-Юрага ды ўнучкай ведамага Полацкага князя Ўсяслава Чарадзея. Прадслава славілася хараством, і было шмат выдатных асобаў, якія жадалі ажаніцца зь ёю. Ды яна выбрала сабе іншы жыцьцёвы шлях. Прадслава потайкам пакінула бацькаў княжы дом і пайшла ў манастыр. Прыняўшы пострыг манашкі, яна назвалася Еўфрасіньняй.

Сьледуючы духоваму голасу, Сьвятая Еўфрасіньня заснавала ў Сяльцы пад самым Полацкам манастыр, на што атрымала й благаслаўленьне ад епіскапа Ільлі. Аб яе сьвятым жыцьці пайшла слава. Пачалі прыходзіць людзі, жадаючыя паступіць у яе манастыр. Сэрца Сьвятой Еўфрасіньні цешылася радасьцю: яна прымала ў свой манастыр жадаючых. Манастыр вырас, і Сьвятая Еўфрасіньня зрабілася ігуменьняй.

На сьхіле сваіх гадоў Сьвятая Еўфрасіньня паехала ў Ерусалім, дзе й памерла ў 1173 годзе. Цела яе перавезьлі ў Кіеў, і там яно праляжала нятленным сем з палавінаю вякоў, а ў 1910 годзе было перавезена ў родны Полацак.

Падчас нямецкае акупацыі ў 1941 годзе труна й нятленнае цела Сьвятой Еўфрасіньні былі знойдзены ў Віцебскім антырэлігійным музэі полацкімі манашкамі, уцалеўшымі ад бальшавіцкага перасьледу. Труну й цела Сьвятой Еўфрасіньні перанесьлі ў Сьвята-Пакроўскую царкву ў Віцебску. Падчас майго наведваньня Віцебску ў 1941 годзе я меў шчасьце маліцца ў гэтай царкве, служыць малебен Сьвятой Еўфрасіньні й цалаваць яе сьвятыя мошчы.

Калі было наладжана ў Полацку царкоўнае жыцьцё, з дазволу вышэйшае духоўнае ўлады на Беларусі мошчы Сьвятой Еўфрасіньні перанесьлі ізноў у Полацак. Зрабілі гэта манашкі, якія перастрывалі бальшавіцкі зьдзек. Яны ізноў пачалі наладжваць жыцьцё ў жаночым манастыры.

Які лёс сьвятых машчэй і манашак, што імі заапекаваліся, сёньня? Цяжка адказаць на гэтае пытаньне.

Сьвятая Еўфрасіньня была ня толькі манашкай, але разам і прасьветніцай Беларусі. Калі яна была яшчэ адной і ня мела манастыра, яна перапісвала сьвятыя кнігі й пасылала іх у сьвятыні ды манастыры, чым пашырала прасьвету на Беларусі. Калі Сьвятая Еўфрасіньня заклала манастыр і займела пад сваім кіраўніцтвам манашак, дык манастыр яе зрабіўся ня толькі асяродкам хрысьціянскага жыцьця ў Беларусі, але й вогнішчам культуры. Тут перапісваліся й перахоўваліся кнігі ды маляваліся сьвятыя абразы. Тут-жа па-мастацку вышываліся рызы ды сьпісваліся летапісы. Усім гэтым кіравала Сьвятая Еўфрасіньня. Гэтым яна служыла нястомна Богу й Бацькаўшчыне. Пашана да яе перастрывала стагодзьдзі й жыве сягоньня, як сотні год назад.

Нашым абавязкам зьяўляецца перахаваць гэтую пашану й пераказаць любоў да яе нашым дзецям. Імя Сьвятой Еўфрасіньні – гэта сымбаль нашага адраджэньня, а зьместам гэтага адраджэньня зьяўляюцца

Бог і Бацькаўшчына. Гэтаму вялікаму зьместу й служыла сваім жыцьцём Сьвятая Еўфрасіньня Полацкая. Натхнёныя гэтым вялікім зьместам нашыя вялікія продкі змагаліся за шчасьце й славу свайго народу. Гэты зьмест дапамагаў ім перамагаць ворагаў або бязбоязна паміраць за сваю праўду. Сьведамасьць справядлівасьці нашых шуканьняў дапамагала нам ператрываць ліхалецьці й не памерці як нацыі. Дык няхайжа гэтая сьведамасьць акрыліць нас і ў будучыні, а Сьвятая Еўфрасіньня заступіцца за нас!

## MEMORIAL DAY

Вясна. Травень. Наваколь цьвітуць сады, а кветкі ды зелень упрыгожваюць зямлю. У гэты пэрыяд году людзі добрае волі ў Амэрыцы сьяткуюць вялікае й своеасаблівае сьвята „мэморыял дэй". Грамадзкасьць Амэрыкі штогод у дзень 30 травеня аддае пашану тым, хто загінуў на полі славы на ўсіх франтах за шчасьце й волю ня толькі народу амэрыканскага, але ўсяго чалавецтва.

Гэта сьвята нарадзілася ў пару хатняе вайны паміж штатамі (1861 –1865). Праз тры гады пасьля заканчэньня вайны генэрал Джон Лёзан заклікаў усіх вэтэранаў аддаць пашану загінуўшым сябрам, упрыгожваючы іх магілы, а 30 травеня назваў „мэморыял дэй". Ад тае пары гэты дзень з году ў год сьвяткуецца ў Амэрыцы як нацыянальнае ды агульна паважанае сьвята.

Падчас хатняе вайны прэзыдэнт Лінкольн на полі бітвы пад Гэтысбургам (19 красавіка 1863 году) сказаў: „Амэрыканскі народ, аддаючы пашану паўшым гэроям, павінен зь вялікай пашанай адносіцца да справы, за якую гэтыя гэроі аддалі жыцьцё, каб не пайшла намарна іх сьмерць, каб народ меў вольнасьць". Вось за гэтую вольнасьць ня толькі для Амэрыкі, але для ўсяго сьвету змагаўся амэрыканскі жаўнер падчас Другое сусьветнае вайны, а сягоньня змагаецца ў Карэі.

Не забудуцца тыя дні, калі падчас Другое сусьветнае вайны ў імя вольнасьці аліянты на чале з Амэрыкай змагаліся й перамаглі чалавеказьвера. У выніку ваеннага й крывавага высілку аліянтаў запанаваў на сьвеце, за выняткам СССР і ягоных сатэлітаў, чалавек духу, чалавек добрае волі. Мы помнім тыя дні, калі сьціхнуў гул баёвага самалёту, калі перасталі разрывацца бомбы, калі ўціх гэстапаўскі аўтамат. Гэта былі вялікія дні, калі зь гітлераўскіх лягераў мы выйшлі праз брамы, расчыненыя амэрыканскім жаўнерам-вызваліцелем. Гэты дзень мы адсьвяткавалі ня ў родным краі й не з сваім народам, але ў чужыне. Але тым ня менш, аліянты прытулілі нас, далі куток і кавалак хлеба ды клапоцяцца пра нас да сягоньняшняга дня: як народ – народам, як брат – братам.

Вось чаму мы з асаблівай пашанай схіляем свае галовы ў дзень, прысьвечаны памяці палеглых амэрыканцаў, бо верым, што вольнасьць адзінкі й чалавецтва, за якую змагаўся й змагаецца амэрыканскі жаўнер ды ўсё перадавое чалавецтва, запануе на ўсім сьвеце. Перамога вялікіх ідэяў свабоды будзе абазначаць вызваленьне нашага народу й яго крок да незалежна-дзяржаўнага жыцьця, бо беларускі народ, змагаючыся за сваю свабоду, гэтым самым прымае ўдзел у барацьбе ўсяе людзкасьці з „тыранам народаў". У гэтым змаганьні наш народ склаў ужо шмат ахвяраў, складае іх і цяпер. Сьхіляючы галовы перад амэрыканскімі жаўнерамі, якія аддалі сваё жыцьцё за вялікія ідэалы, адначасна ўспомнім нашых сёстраў і братоў, што загінулі ў барацьбе за волю нашага краю. Успомнім афіцэраў, падафіцэраў і жаўнераў Беларускага Армейскага Корпусу, Беларускага Асобнага Атраду, Беларускага Гродзенскага Палка, Самаабароны сталіцы Менску, Слуцкіх паўстанцаў, Вяліжскіх паўстанцаў. Успомнім мільён васемсот тысяч верных сыноў Беларусі, замучаных бальшавікамі ў ссылках халоднай Сібіры, Калымы, Салаўкоў, Беламорканалу, загінуўшых у пяскох Караганды, у стэпах Казахстану, памёршых у капальнях Уралу, у ледавітай прыстані Мурманску. Успомнім тых, каго бальшавікі бязьвінна расстралялі, павесілі ў астрогах, замучылі на роднай беларускай зямлі за тое толькі, што называліся беларусамі. Успомнім і тых, што бясстрашна адышлі ад жыцьця ў канцлягерох Картускае Бярозы, у Лукішскіх мурох Вільні, у Сьвятым Крыжы. Успомнім афіцэраў, падафіцэраў і жаўнераў Беларускае Народнае Самаабароны, палеглых у абароне нашых зямель беларускіх. Адначасна ўспомнім зьнішчаныя нямецкімі эсэсаўцамі беларускія вёскі, дзе загінула безьліч жывымі спаленых бязьвінных жанчын і дзяцей. Успомнім тых, што загінулі сьмерцю мучанікаў у Дахаў, Маўтхаўзэне, у Грос-Розэнгайме, Бухэнвальдзе ды ў сотнях іншых фабрыкаў сьмерці ў Нямеччыне. Успомнім беларускіх жаўнераў, якія пад польскім сьцягам у 1939 годзе змагаліся зь немцамі й бальшавікамі, трапілі ў савецкі палон ды наступна, пры першай магчымасьці, пайшлі ў змаганьне зь гітлерызмам. Ніхто ня зьліча, колькі беларусаў аддала жыцьцё ў баёх пад Нарвікам, Тобрукам, Монтэ Касіна.

Дык няхай-жа памяць палеглых, якіх сягоньня ўспамінаем, напоўніць сілай, гартам і энэргіяй усё лепшае, што ёсьць у чалавецтва, каб яно бязбоязна прадаўжала барацьбу за сьветлыя ідэалы вольнасьці!

Складаючы вянкі на магілах змагароў, якія жыцьцё за шчасьце блізкіх сваіх аддалі, памятайма аб тым, што барацьба яшчэ ня скончана, што ў нязьлічаных бальшавіцкіх кацэтах томяцца мільёны ахвяраў, якія чакаюць вызваленьня. Дайма-ж і мы абяцаньне крочыць шляхам змаганьня за прыгожыя ідэалы, за хрысьціянскі й нацыянальны зьмест у чалавечых і дзяржаўных дачыненьнях, за сьветлае заўтра для нашых дзяцей.

# АБ ЗГОДЗЕ РЭЛІГІЙНАЙ

„Бацькаўшчына" за 4 траўня гэтага году зьмясьціла артыкул Язэпа Каранеўскага „За згоду рэлігійную"[1]. Тэма вельмі ўдзячная: аб гэтым варта гаварыць і пісаць. Бясспрэчна, беларускай грамадзкасьці трэба выпрацаваць нейкі „модус", які-б зьнівэляваў выпрацаваны стагодзьдзямі комплекс рэлігійнага антаганізму, які, як спадчына чужацкіх уплываў, разьдзірае нашу грамадзкасьць.

І сапраўды, на тэму рэлігійных суадносінаў у беларусаў было шмат напісана й сказана. І аб гэтым будзе гаварыцца й пісацца ў будучыні. Мы ахвотна прызнаем рацыю спадару Каранеўскаму, што „беларускі народ патрапіў у сваім рэлігійным адчуваньні ўзьняцца шмат вышэй за чужацкае, хоць і асьвечанае, духавенства". Больш таго, мы перакананы ў тым, што працэс кансалідацыі беларускае грамадзкасьці сатрэ рэлігійныя антаганізмы, што нам удасца стварыць нацыянальны маналіт на базе роўнае пашаны да кожнага вызнаньня. Аднак нам здаецца, што ў такім пляне, як рэлігійнае пытаньне трактуецца „Бацькаўшчынай" наагул, а спадаром Каранеўскім у прыватнасьці, ніякага пазытыўнага адказу чакаць нельга. Ды й наагул, ствараецца ўражаньне, што артыкул спадара Каранеўскага „За згоду рэлігійную" напісаны ня з мэтай шукаць пазытыўнае разьвязкі рэлігійна-нацыянальнае праблемы, а каб выйсьці з тае вельмі двузначнае сытуацыі, у якую трапіла „Бацькаўшчына". А ў двузначнай сытуацыі няміնуча апынецца кожны, хто стараецца захаваць незалежны твар тады, калі ён упоўні ад некага залежны.

Ужо тая акалічнасьць, што „Бацькаўшчына" друкуецца ў Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur (München 8, Rosenheimer Str. 46a), гаворыць шмат аб чым. І непрыпадкова ў газэце „Бацькаўшчына" (№ 15 – 16) зьмешчана аж дзевяць фотарэпрадукцыяў кардынала Тыссэрана й айца Робэрта ван Каўвэлярта й дзесятая – торту „Кардынал". Няхай нас ніхто не падазрае ў антыпатыі да дастойнага кардынала Тыссэрана! Наадварот, мы вельмі добра разумеем, што ў газэце, якая друкуецца ў друкарні Апостальскае Візытатуры, гэтыя ілюстрацыі зусім на месцы. Але мы гаворым пра твар „Бацькаўшчыны", а ён, гэты твар, не такі ўжо незалежны, як чытачам хоча ўгаварыць рэдакцыя. Нас зусім не захапляе той ідылічны абразок, аб якім гаворыць спадар Каранеўскі, калі ў „Лювэне беларускі праваслаўны сьвятар падыйшоў пад багаславенства каталіцкага кардынала". Нам думаецца, што ідылія была-б больш поўнай, каб побач з праваслаўным сьвятаром, падыходзячым пад багаславенства каталіцкага кардынала, мы пабачылі каталіцкага ксяндза,

[1] „Бацькаўшчына", № 18 (97), Мюнхэн, 1952, 4 траўня, бб. 1–2.

які падыходзіць пад багаславенства праваслаўнага епіскапа, нават такога „епіскапа" як „сьмірэнны Васіль" (Тамашчык), чый партрэт красуецца на сьцяне сьвятліцы Беларускага Студэнцкага Дому ў Лювэне.

Тое, што зараз робіцца ў Лювэне, зьява ня новая ў гісторыі нашага шматпакутнага народу. Былі-ж у нас езуіцкія калегіі, дзе вучыліся дзеці беларускіх праваслаўных і пратэстанцкіх сем'яў, але згоды рэлігійнае яны стуль ня вынесьлі. У гэтыя калегіі яны ішлі праваслаўнымі або пратэстантамі, а выходзілі стуль янычарамі свае веры й свайго народу, і заміж згоды рэлігійнае несьлі рэлігійную вайну. А гэта тое, чаго нам трэба баяцца. Не, пане Каранеўскі, ня ў гэтай плошчы трэба шукаць згоды рэлігійнае й ня Вам аб ёй гаварыць, бо Вы ўжо цяпер зачыняеце вусны інакш думаючым. Вы-ж самі прызнаецеся да таго, што „рэдакцыя нашае газэты (г. зн. „Бацькаўшчыны") была змушана нядаўна адкінуць два артыкулы, напісаныя адным праваслаўным сьвятаром, а другі – кандыдатам на сьвятара з тае прычыны, што ў іх былі выразныя акцэнты, накіраваныя на распаленьне рэлігійнае нязгоды сярод беларусаў". Нам ня дадзена ведаць рэдакцыйных таямніцаў „Бацькаўшчыны". Нам няведама, аб чым пісаў гэты праваслаўны сьвятар, але прыпадак вельмі знаменны сам у сабе: ліст праваслаўнага сьвятара не дапушчаны рэдакцыйнай цэнзурай.

Практыка паказала, што зачыняньнем вуснаў інакш думаючым нельга прыйсьці да дадатніх паказчыкаў. Мы прызвычаіліся выказваньні адносна агульных пытаньняў выносіць на суд грамадзкасьці й грамадзкашкодныя тэорыі разьбіваць у парадку дыскусіі. Няма такога аўтарытэту, які-б стварыў катэхізіс грамадзка-рэлігійных дачыненьняў. Форма гэтых дачыненьняў выпрацоўваецца самым грамадзтвам у працэсе ягонага разьвіцьця. А ў беларускім маштабе гэтае разьвіцьцё ідзе й будзе ісьці ў напрамку, незалежным ад спадара Каранеўскага й „Бацькаўшчыны". І якраз дзякуючы гэтаму, мы астаемся перакананымі ў тым, што такія дачыненьні складуцца памысна. Мы верым у тое, што будучыня прынясе нам больш спрыяльныя формы, чым мінуўшчына, што Бог будзе міласьцівым і заміж змаганьняў рэлігійных пашле нам рэлігійную згоду. У гэтым напрамку й працуе беларуская незалежніцкая грамадзкасьць, і гэтай справе будзем служыць і мы.

Рэлігійнае пытаньне – справа вельмі далікатная. Ад асобаў, якія гавораць пра згоду рэлігійную, вымагаецца просталінейнасьць. А гэтаму варунку адпавядаюць толькі незалежныя людзі. Аўтарытэтнымі для беларускае грамадзкасьці будуць выказваньні ў рэлігійнай галіне выразна самаазначаных праваслаўных, каталіцкіх, або грамадзка-незалежных дзейнікаў, а „Бацькаўшчына", на жаль, ані першым, ані другім, ані трэцім не зьяўляецца. У рэлігійных дачыненьнях камуфляж ня мае месца! Аб гэтым трэба ведаць.

# У ІМЯ ПРАЎДЫ

Газэта „Беларус" за 30 травеня 1952 году зьмясьціла артыкул „У абароне нашае царквы"[1], у якім прыпісваюцца мне розныя чыны й становішчы, ня існуючыя ў сапраўднасьці. Паміж іншым, аўтар вышэй названага артыкулу намагаецца ўгаварыць ягоным чытачом, што часапіс „Царкоўны Сьветач" зьяўляецца маім асабістым выдавецтвам. Ня маючы магчымасьці своечасова запярэчыць гэтакаму хлусьліваму цьверджаньню на балонках рэлігійна-грамадзкага часапісу, якім зьяўляецца „Царкоўны Сьветач", ды не жадаючы пераносіць палеміку царкоўна-грамадзкага зьместу на балонкі грамадзка-палітычнае прэсы, я вымушаны зрабіць вось гэтае выясьненьне зь вялікім спазьненьнем.

1. Газэта „Беларус" піша: „...а. Лапіцкі пачаў выдаваць свой „Царкоўны Сьветач". З свайго боку выясьняю, што я лічыў-бы для сябе вялікім гонарам адзінаасобнае выданьне часапісу „Царкоўны Сьветач". Аднак у сапраўднасьці гэткім адзінаўласным гаспадаром „Царкоўнага Сьветача" не зьяўляюся, бо часапіс гэты мае свайго выдаўца ў асобе Беларускага Праваслаўнага Царкоўнага Камітэту ў Амэрыцы, старшынёю якога цяпер зьяўляецца спадар Уладзімер Брылеўскі, ды дзеючую рэдакцыйную калегію й галоўнага рэдактара, якім зьяўляецца спадар Сьвятаслаў Коўш. Відаць, спадару Аўтакефалістаму (такім імем падпісаны артыкул „У абароне нашае царквы") непрыемна бачыць арганізаваную беларускую праваслаўную грамадзкасьць і, каб ня бачыць сапраўднасьці, ён зачыняе вочы ды сьвядома ўпрашчае сытуацыю. Бачыце, гаворыць ён, існуе толькі а. Лапіцкі, а паколькі маем дачыненьне з аднэй толькі асобай, дык няма й праблемы. Аднак праблема Беларускае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы існуе.

Ня маю намеру запярэчваць свайго ўдзелу ў справе арганізацыі беларускага царкоўна-грамадзкага жыцьця. Бо як беларускі праваслаўны сьвятар, лічу сваім абавязкам прымаць у гэтым жыцьці самы жывы ўдзел. Тым ня менш, прыпісваць мне або нейкай іншай адзіночнай асобе асягненыя беларускім царкоўна-грамадзкім рухам пазыцыі, як гэта робіць спадар Аўтакефалісты ў „Беларусе", прынамсі, наіўна.

Ідэя арганізацыі беларускага праваслаўнага жыцьця ў Амэрыцы ў рамах юрысдыкцыі Яго Высокапрэасьвяшчэнства, Высокапрэасьвяшчэньнейшага архіепіскапа Міхаіла, экзарха Сусьветнага патрыярха, як правобраза будучае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, якую пашырае на сваіх балонках „Царкоўны Сьветач" ды за якую змагаецца Беларускі Праваслаўны Царкоўны Камітэт у Амэрыцы, здабыла

[1] „Беларус", № 3 (9), Нью Ёрк, 1952, 30 травеня.

сабе шырокія колы прыхільнікаў ды ўцелаісьцілася ў постаці магутных парафіяў, якія займелі свае ўласныя царкоўныя будынкі ды іншую рухомую й нерухомую маёмасьць.

Наяўнасьць арганізаваных беларускіх царкоўных асяродкаў і зьяўляецца вымоўным запярэчаньнем хлусьлівага цьверджаньня спадара Аўтакефалістага, быццам Беларускі Праваслаўны Царкоўны Камітэт у Амэрыцы ды часапіс „Царкоўны Сьветач" – гэта фікцыя, за якою хаваецца адна асоба а. Лапіцкага. У нас няма камуфляжу, бо мы апэруем імёнамі жывых людзей, якія не саромяцца й не палохаюцца свайго ўдзелу ў робленай імі справе. Нам няма патрэбы прыкрывацца псэўданімамі, асабліва гэткімі агульнымі, уласьцівымі кожнаму беларусу-незалежніку, як „аўтакефалісты", бо кожны, хто ідзе шляхам Беларускага Праваслаўнага Царкоўнага Камітэту ў Амэрыцы, зьяўляецца аўтакефалістым.

2. Спадар Аўтакефалісты зь „Беларуса" піша: „Гэты айцец добра ведамы ня толькі нам, але й нават сваім вернікам як асоба, што мае мала супольнага із сьвятарскім санам". Ня ведаю, што азначае ў разуменьні спадара Аўтакефалістага сьвятарскі сан, але калі ён і ягоныя аднадумцы зь „Беларуса" маюць на ўвазе тыя „сьвятарскія" якасьці, якія ўласьцівы іхняму г. зв. епіскапу Васілю (Уладзімеру Тамашчыку), дык я, зразумелая рэч, нічога супольнага з гэткім „сьвятарскім санам" ня маю. А гэта вось чаму. Рэлігіі я не высьмейваў. Епіскап, які мяне пасьвячаў у сан сьвяшчэньніка, сам пасьля гэтага не хіратанізаваўся ў сан епіскапа (маю на ўвазе епіскапа Вячаслава, які пасьля таго, як рукапалагаў г. зв. епіскапа Васіля, сам рукапалагаўся ў епіскапы).

Аб маіх кваліфікацыях як праваслаўнага сьвятара прапаную судзіць самім чытачам на падставе ніжэй пададзеных маіх біяграфічных зьвестак.

У 1923 годзе я паступіў у праваслаўную духоўную сэмінарыю ў Вільні, якую скончыў у 1930 годзе. У 1934 годзе скончыў тэалёгічны факультэт пры Варшаўскім унівэрсытэце. У 1935 годзе абараніў дысэртацыю „Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы", за што атрымаў ступень магістра тэалёгіі. У 1934 годзе рукапаложаны ў сан сьвяшчэньніка з прызначэньнем у Ашмяну, а наступна – ў Сьцяфанполь, Віленскай епархіі. У 1941 годзе, астаючыся настаяцелем Сьцяфанпольскае царквы, быў назначаны сябрам Беларускага Мітрапалітальнага Ўпраўленьня ў Менску. Быў ініцыятарам і сябрам Перадсаборнае Камісіі, а пасьля браў удзел у Беларускім Праваслаўным Саборы 1942 году ў Менску, які аднавіў аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы. На эміграцыі арганізаваў прыход у Рэгэнсбургу, дзе на мой заклік беларусы пабудавалі царкву. Быў выкладчыкам рэлігіі ў народнай

школе і ў Гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгэнсбургу, а наступна, пасьля пераносу лягеру, у Міхэльсдорфе. Пазьней быў дырэктарам гэтае-ж гімназіі. Быў і ёсьць апекуном беларускіх скаўтаў. Дапамагаў беднаму беларускаму студэнцтву, у доказ чаго маю лістоўныя падзякі. Рабіў захады, каб дапамагчы сп. сп. д-ру Грынкевічу С., Савёнку й Люткевічу, калі яны сядзелі ў лягеры. Прадпрымаў у гэтай справе паездкі ў Мюнхэн (разам з спадаром Віцьбічам) ды ў Штраўбінг (з спадарыняй Савёнак). Астаючыся праваслаўным сьвятаром, прымаў самы дзейны ўдзел у беларускім грамадзка-нацыянальным жыцьці. У 1946 годзе на зьездзе прадстаўнікоў ад беларусаў трох заходніх зонаў акупацыі Нямеччыны быў абраны старшынёю Беларускага (Крывіцкага) Цэнтральнага Дапамаговага Камітэту. Сваімі захадамі перад амэрыканскімі ўладамі забясьпечыў да 400 беларусаў „ашурансамі", дзякуючы чаму гэтыя асобы змаглі прыбыць у Амэрыку. І ў Амэрыцы, не пакладаючы рук, працую на карысьць беларускага народу й праваслаўя, бо зьяўляюся настаяцелем беларускае праваслаўнае парафіі ў Саўт Рывэры, якая знаходзіцца ў юрысдыкцыі экзарха Канстантынопальскага патрыярха для Амэрыкі. Там-жа выкладаю рэлігію для беларускіх дзяцей у царкоўнай школе. У 1954 годзе спаўняецца 20 гадоў майго служэньня ў духоўным сане. На працягу гэтых гадоў я атрымаў царкоўныя ўзнагароды: набедраньнік, скуф'ю, камілаўку, залаты наперсны крыж, протаіерэйскае званьне, паліцу, крыж з упрыгожаньнямі. У разуменьні людзей з-пад знаку „Беларуса" усё, пералічанае вышэй, ня мае нічога супольнага з сьвятарскім санам.

3. Спадар Аўтакефалісты ў „Беларусе" піша: „На хіратоніі епіскапа Васіля былі архіепіскап Сяргей, нябожчык епіскап Платон і Вячаслаў". Значыцца, калі-б нават і дапусьціць, што Вячаслаў, якога расейцы мусілі „перахрышчваць", і ня быў тады зь іхняга гледзішча епіскапам, дык і так хіратонія епіскапа Васіля „кананічная". Цьверджаньне, не вытрымоўваючае ніякае царкоўнае крытыкі. Рукапалагаць і хіратанізаваць мае права толькі епіскап. Нідзе ў гісторыі Праваслаўнае Царквы ня знойдзеце прыкладу, калі-б разам зь епіскапамі ролю епіскапа падчас хіратанізацыі выконвала сьвецкая асоба або сьвяшчэньнік, які наступна сам хіратанізуецца ў епіскапы. Удзел епіскапа Вячаслава ў хіратоніі г. зв. Васіля пахіснуў гэтую хіратонію, а пасьлядоўна насоўваецца высноў: Уладзімер Тамашчык не зьяўляецца кананічным праваслаўным епіскапам. Гэта бяссумніўная праўда, аб якой я гаварыў, гавару й буду гаварыць, а гэтае відавочнае праўды ня хоча бачыць толькі бязбожнік або гэрэтык.

Пагаджаюся зь цьверджаньнем спадара Аўтакефалістага, што царкоўныя каноны сувора забараняюць паўторную хіратанізацыю пад пагрозай царкоўнага праклёну (анафемы). Гэта добра ведаў і мітрапаліт Леонці, які, калі з сваімі епіскапамі хіратанізаваў Вячаслава ў епіскапы,

меў для гэтага падставы, дзякуючы чаму Праваслаўная Сусьветная Царква ня кінула на яго анафемы. Вось чаму й я не лічу сябе ў праве „ганіць тых", якія хіратанізавалі епіскапа Вячаслава. Тым больш, што й сам епіскап Вячаслаў лічыў гэтую хіратанізацыю патрэбнай.

Усе праваслаўныя цэрквы маюць духоўную лучнасьць зь мітрапалітам Леонціем, але ні адна зь іх ня лічыць Уладзімера Тамашчыка праваслаўным епіскапам. Што-ж датычыць мітрапаліта Анастасія, чыім аўтарытэтам царкоўныя дзеячы зь „Беларуса" хочуць падперці кананічныя пазыцыі г. зв. Васіля (Тамашчыка), дык Сынод Расейскае Замежнае Царквы на чале з мітрапалітам Анастасіем 27 лютага 1950 году пастанавіў: „Прызнаць, выкананую над Уладзімерам Тамашчыкам хіратонію ў епіскапы, незаконнай і нядзейнай".

Вельмі характэрным зьяўляецца й тое, што нават Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, епіскапы якое хіратанізавалі Уладзімера Тамашчыка, ня лічаць сапраўднаю Праваслаўнаю Царквою г. зв. БАПЦ Тамашчыка. Да гэткага выснаву мы прыйшлі, прачытаўшы „Український Православний Календар на 1953 рік. Видання Української Православної Церкви в ЗДА." Пералічаючы на 50-52 бачынах усе праваслаўныя аўтакефальныя цэрквы ў Эўропе, гэтае афіцыйнае выданьне УАПЦ ні словам не ўспамінае пра БАПЦ Тамашчыка. Пералічаны наступныя цэрквы: Албанская, Баўгарская, Грузінская, Грэцкая, Польская, Расейская, Румынская, Сэрбская і Украінская.

Нават людзі, якія астаюцца ў сфэры палітычных уплываў дзейнікаў, што скарыстоўваюць „епіскапскі сан" Уладзімера Тамашчыка для сваіх выразна палітычных мэтаў, у сваім прыватным жыцьці, дзе канчаецца палітыка ды пачынаюцца сапраўды рэлігійныя пачуцьці, ня лічаць Уладзіміра Тамашчыка епіскапам. Падаю прыклады. Сын спадара Фр. Кушаля, асобы першараднае вагі ў асяродзьдзі людзей з-пад знаку „Беларуса", старшыні Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША, спадар Ул. Кушаль браў шлюб з дачкою кампазытара Куліковіча Натальляй у расейскай царкве. Дачка спадара Родзькі, старшыні аддзелу БАЗА ў Саўт Рывэры, брала шлюб із спадаром Васілём Русаком, сябрам Рады БНР, у мясцовай расейскай царкве. Сьв. пам. Варонка, чыім аўтарытэтам людзі з-пад знаку „Беларуса" падпіралі г. зв. тэстамэнтовага прэзыдэнта Абрамчыка[2], не пажадаў, каб яго хаваў Уладзімер Тамашчык, ды быў пахаваны Прэасьвяшчэнным Дыянісіем, епіскапам расейскае царквы. Спадар Вярбіцкі хрысьціў сваё дзіця ў сьвятара грэцкае царквы. Дык, панове аўтакефалістыя з-пад знаку „Беларуса", няхай словы вашыя не разьмінаюцца з чынамі вашымі! Калі-ж вы ня хочаце карыстацца

[2] Гл.: Да беларусаў свету, „Беларус", №1 (7), Нью Ёрк, 1952, 25 сакавіка.

духоўнаю апекаю г. зв. епіскапа Васіля (Тамашчыка), дык ідзеце ў Украінскую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, а не ў расейскую!

4. Спадар Аўтакефалісты ў „Беларусе" далей піша: „Мы ведаем, што а. Лапіцкі й ягоныя аднадумцы... пераконваюць, што ўкраінскія епіскапы ня ёсьць епіскапамі". Я ніколі не выказваўся адносна ЎАПЦ-і яе гіерархіі, бо лічу, што гэта справа саміх украінцаў і да мае кампэтэнцыі не належыць. Гэткае цьверджаньне спадара Аўтакефалістага зьяўляецца звычайнай хлусьнёй.

5. Наступна спадар Аўтакефалісты піша: „Выступаючы супраць БАПЦ, „Царкоўны Сьветач" лёгічна й аўтаматычна сьцеле гэтым сьцежку для тых, добра нам знаных апекуноў, што ведаюць адно: ня было, няма й быць ня можа". Ані я, ані „Царкоўны Сьветач" ніколі не выступалі супраць Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, а як раз наадварот цьверджаньню „Беларуса" змагаемся за Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву на здаровых кананічных падставах.

Не хто іншы зь беларускага духавенства, а я быў ініцыятарам і арганізатарам Усебеларускага Праваслаўнага Сабору ў 1942 годзе ў Менску, на якім аднавілі аўтакефалію Беларускай Праваслаўнай Царквы. На эміграцыі не за што іншае, як за змаганьне за аўтакефалію Беларускай Праваслаўнай Царквы, а ў прыватнасьці, за арганізацыю Зьезду Праваслаўных Беларусаў у Рэгэнсбургу ў 1946 годзе, на якім баранілася аўтакефалія, не хто іншы, а я быў забаронены ў сьвяшчэннаслужэньні былымі беларускімі епіскапамі на чале зь мітрапалітам Панцялейманам. Забарона гэтая была зьнята ў выніку настойлівага дамаганьня беларускае грамадзкасьці.

Апрача гэтага, паважаным чытачам радзім яшчэ раз прачытаць папярэднія нумары „Царкоўнага Сьветача", каб пераканацца ў хлусьлівасьці спадара Аўтакефалістага, якому „Беларус" гэтак гасьцінна прапануе свае бачыны. Нэгатыўныя адносіны да епіскапскага сану Ўладзімера Тамашчыка ні ў якой меры не азначаюць запярэчаньня самое ідэі аўтакефаліі Беларускае Царквы. Экспэрымент Уладзімера Тамашчыка зьяўляецца паказальнікам таго, як ня трэба рабіць справу аўтакефаліі. Ня бачыць гэтага можа толькі той, хто ня хоча бачыць або сьведама імкнецца рабіць шкоду сьвятому праваслаўю ды беларускаму народу.

6. У свой час г. зв. епіскап Васіль наведаў экзарха Канстантынопальскага патрыярха, архіепіскапа Міхаіла ды прадставіўся яму як беларускі епіскап. Архіепіскап Міхаіл запатрабаваў ад яго дакуманты, якія-б сьцьвердзілі ягоную, г. зв. епіскапа Васіля архіпастырскую кананічнасьць. Адначасна архіепіскап Міхаіл сказаў, што ў ягонай юрысдыкцыі маюцца беларусы, ды парадзіў г. зв. Васілю пазнаёміцца з праваслаўнымі беларусамі ў Амэрыцы за пасярэдніцтвам мяне. Пра візыт

спадара Тамашчыка архіепіскап Міхаіл расказаў спадару Цярпіцкаму, калі гэты апошні наведаў яго для гутаркі ў справе арганізацыі ў Англіі беларускае парафіі, падпарадкаванае Сусьветнаму патрыярху. Зьмест гутаркі з архіепіскапам Міхаілам спадар Цярпіцкі расказаў сябрам рэдкалегіі „Царкоўнага Сьветача", якая й падала гэта да агульнага ведама. Мне няведама, ці спадар Тамашчык складаў Яго Высокапрэасьвяшчэнству архіепіскапу Міхаілу дакументы, якія сьцьвярджалі-б яго (Тамашчыка) епіскапскі сан, але духоўнае лучнасьці, пра якую прасіў спадар Тамашчык, няма. Яго Высокапрэасьвяшчэнства, Высокапрэасьвяшчэньнейшы архіепіскап Міхаіл ведае, што вымагаецца кананічным парадкам для навязаньня духоўнай лучнасьці зь іншым епіскапам. Ніякія інсынуацыі не займеюць уплыву, і калі-б г. зв. епіскап Васіль прадставіў экзарху вымаганыя царкоўным парадкам доказы сваёй кананічнасьці, духоўная лучнасьць, якой ён дамагаўся, была-б асягнута. З другога боку, ніякая пратэкцыя й судзеяньне якіх-бы ні было дзейнікаў не спрычыніцца да заіснаваньня гэтае лучнасьці, калі для гэтага няма кананічных асноваў. Аб гэтым павінен ведаць і спадар Аўтакефалісты, калі пачаў гутарыць пра царкоўныя справы.

Далей спадар Аўтакефалісты піша: „У гутарцы, між іншага, экзарх запытаўся ў епіскапа Васіля, ці ня ведае ён нейкага беларускага сьвятара, што быў у яго, але прозьвішча якога экзарх ня мог сабе прыпомніць. Епіскап Васіль заўважыў, што, магчыма, экзарх мае на думцы а. Лапіцкага? Экзарх аднак не адказаў на гэта нічога. Гутарка на часіну спынілася. Епіскап Васіль адчуў, што экзарх чакае мо ад яго заўвагаў аб асобе Лапіцкага, але вырашыў не казаць нічога".

Што тычыцца а. Лапіцкага, дык экзарх вельмі добра знае ня толькі маё прозьвішча, але й імя ды ўсё, што зьвязана з маёй асобай, бо копіі ўсіх маіх дакумантаў знаходзяцца ў экзарха. Дык няма нічога дзіўнага, што экзарх служыць са мною (гл. фатаграфію ў „Царкоўным Сьветачы")[3], а таксама дае самыя найлепшыя водзывы аб маёй сьвятарскай працы пад яго духоўнай апекай. Добра ведаў аб гэтым і г. зв. епіскап Васіль, а таму яму нічога не аставалася, як толькі маўчаць, калі экзарх успомніў маю асобу. Добра знаў г. зв. епіскап Васіль і тое, што, займаючыся інсынуацыямі, як гэта ён рабіў у Нямеччыне, нічога апрача кампрамітацыі не асягаецца.

Каб мне не закінулі, што я беспадстаўна абвінавачваю спадара Тамашчыка ў інсынуацыі, прыпомню артыкул „Вакол аднае справы" з газэты „Беларускае Слова" з дня 25 сакавіка 1949 году. Там напісана: „5 сакавіка афіцэр аддзелу С-5 у Мюнхэне выклікаў да сябе тэлефанічна

---

[3] „Царкоўны Сьветач" № 2 (3), Саўт Рывэр, 1952, сакавік-чэрвень.

рэдактара й ліцэнзіята газэты „Беларускае Слова". Там высьветлілася, што так званы „крывіцкі" Нацыянальны Камітэт (БНК) склаў данос... Данос падпісаў старшыня вышэй адзначанага крывіцкага камітэту спадар Тамашчык..."[4].

Дзякуючы празорлівасьці амэрыканскіх уладаў, данос гэты не займеў насьледкаў, але ганебны ўчынак спадара Тамашчыка ад гэтага ня стаў меншым. Лічу даносы справай, ня годнай чалавека-хрысьціяніна наагул, а для „сьмірэннага епіскапа Васіля", як спадара Тамашчыка называюць спадары з-пад знаку „Беларуса", зусім дыскваліфікуючай.

„Для разумнага – годзе", – казалі старажытныя рымляне. Усьлед за імі й я на заканчэньне скажу: для жадаючага бачыць праўду, прыведзеных доказаў годзе, бо хто мае вочы, каб бачыць, убачыць.

## З ВЫДАВЕЦТВА

Сёлета выйшла з друку ў Нью Ёрку кніга І. Касяка „З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу" (бал. 190, выданьнем Беларускай Цэнтральнай Рады). Гэта праца зьяўляецца наагул першай зь гісторыі Беларускай Праваслаўнай Царквы. Тут паказаны асноўныя падзеі за ўсю гістарычную пару Праваслаўнай Царквы на Беларусі. Асабліва каштоўным зьяўляецца нацыянальна-беларускі пункт гледжаньня, зь якога насьветлены матар'ял. Тут ясна прадстаўлена антыбеларуская палітыка чужынцоў, праводжаная імі праз царкву па акупацыі празь іх Беларусі, як і барацьба беларускага народу за сваю самастойную Царкву.

Зразумела, што кніга ня будзе да спадобы былым і сучасным акупантам Беларусі, як і іншым агэнтурам. Вельмі варожа выступае супроць гэтай каштоўнай кнігі палянафільска-ватыканская група ўка крывічоў. У сваіх публікацыях крывічы абмінаюць сутнасьць прынцыповых праблемаў, паважна й праўдзіва прадстаўленых у кнізе, а выліваюць мора брукавай лаянкі асабістага характару супроць аўтара кнігі й асобаў, дапамогшых у зьяўленьні кнігі. Небеларускія дзейнікі, стоячыя за плячыма крывічоў, падобную акцыю праводзілі ад стагодзьдзяў, і беларускі народ стагодзьдзямі зь імі змагаецца.

Аб каштоўнасьці кнігі сьведчаць ня толькі беларусы, але й паважныя прадстаўнікі іншых народаў. Так, напрыклад, епархіяльны орган Украінскай Праваслаўнай Царквы ў Амэрыцы „Український Вістник", між іншым, піша: „...Гэта кніга патрыёта-царкоўніка, які хоча даць сваім родным, бадай, кароткі нарыс гісторыі Беларускай Царквы ад пачаткаў.

[4] „Беларускае Слова", № 4 (5), Мюнхэн, 1949, 25 сакавіка.

Добра вывязваецца аўтар зь першай парой Царквы, якая ў форме Кіеўскай мітраполіі была супольная й для беларускіх епархіяў. Ягоны патрыятызм праяўляецца ў праўдзівым насьвятленьні супольных тады ўкраінска-беларускіх царкоўных падзеяў. Наезд лацінскага духавенства на Беларусь пачаўся ад XVI стагодзьдзя й падзяліў беларускі народ на два лягеры. „Вунія" была сродкам палянізацыі праваслаўных беларусаў, якія цярпелі жахлівыя прасьледваньні ад каталікоў. Маскоўская царская ўлада бяз посьпеху старалася абмаскаліць беларускія народныя масы. Расейская рэвалюцыя 1917 году дала беларусам магчымасьць стварыць сваю Царкву, якая ў форме Аўтакефальнай Беларускай Праваслаўнай Царквы перанясла цяжкую Галгофу ў гады бальшавіцкай і нямецкай акупацыі Беларусі. Касяк зрабіў добрую прыслугу сваім і нашым чытачам гэтай гістарычнай працай, якая паслужыць крыніцай для вывучэньня мінулых царкоўных падзеяў на Беларусі..."(№ 3, 1956, верасень). Гэта каштоўная як з рэлігійнага, так і з нацыянальнага боку кніга павінна быць на кніжнай паліцы ў кожнай беларускай сям'і.

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ДА БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАДЗКАСЬЦІ ...

Вуніяцкая газэта „Бацькаўшчына", выдаваная ў Нямеччыне па-беларуску, надрукавала пашквільны артыкул „З бруднай крыніцы толькі бруд можа пацячы"[1], у якім мне, сьвятару Беларускай Аўтакефальнай Кананічнай Царквы, прыпісвае чыны й становішчы, зь якімі я нічога супольнага ня меў.

Артыкул па сваёй якасьці, бясспрэчна, ня варты таго, каб над ім колькі-небудзь затрымоўвацца, а тым больш уваходзіць у палеміку зь „няведамым аўтарам" К. М., інсьпіратарамі якога зьяўляюцца вуніяты з-пад знаку „Бацькаўшчыны". Тым ня менш, нельга яго пакінуць без адказу з увагі на ягоную ману. Гэта й змусіла мяне напісаць ліст ды зьвярнуць увагу нашай беларускай грамадзкасьці ня толькі на ману, але на нешта большае й страшнейшае, чым гэтая мана й некультурнасьць „аўтара". На бачынах крывіцкага ўгрупаваньня, пераважна ў „Бацькаўшчыне", сыстэматычна друкуюцца артыкулы, сьціраваныя супраць Беларускай Аўтакефальнай Кананічнай Царквы, яе духавенства ды вернікаў, якія маюць вядучую ролю, і ў той самы час друкуюцца артыкулы, якія праслаўляюць вуніятаў а. Робэрта, а. Сіповіча, а. Гарошку ды іхнага стаўленка – агранома Уладзімера Тамашчыка. Адначасна газэта „Бацькаўшчына" вуніяцкую акцыю на эміграцыі сярод беларусаў рэклямуе як

[1] „Бацькаўшчына", № 23 (305), Мюнхэн, 1956, 3 чэрвеня, бб. 3– 4.

нацыянальную беларускую работу, прыкрываючы яе беларускасьцю. Для менш дасьведчаных ў царкоўных справах гэта астаецца не заўважаным, але для нас, беларускага праваслаўнага духавенства, мэта айцоў-вуніятаў ясная: справа ў тым, што ў новых абставінах яны выбралі іншую тактыку. Дастаткова ў газэце „Бацькаўшчына" прачытаць артыкулы „На юбілей айца Робэрта" і „Чалавек Вялікага Сэрца"[2], каб адразу пераканацца, што пытаньне аб вуніі ізноў, як трыста шэсьцьдзесят год таму назад, становіцца актуальным. Асабліва-ж зьвяртаюць на сябе ўвагу наступныя радкі: „Усе мы, праваслаўныя й каталікі, молімся за аб'яднаньне цэркваў... ". І далей: „Мы верым: у вызваленай сталіцы незалежнае Беларусі будзе таксама некалі стаяць помнік вялікаму ідэалісту сьвятару – бэльгійцу, але й беларускаму нацыянальнаму дзеячу, Чалавеку Вялікага Сэрца". Так, дастойныя кардыналы й паважаныя айцы з-пад знаку ,,Бацькаўшчыны". Мы, праваслаўныя, молімся за аб'яднаньне, але не за падпарадкаваньне Ватыкану. Мы молімся за аб'яднаньне, якое было да падзелу цэркваў у 1054 годзе. У вольнай і незалежнай Беларусі мы паставім помнікі беларускім змагарам і гэроям, але не вуніяцкім місіянэрам, нават калі яны будуць і бэльгійцамі. Для палянізацыі й акаталічваньня праваслаўных беларусаў вунія на Беларусі была творам чужых і варожых дзейнікаў – палякаў і Ватыкану. На Беларусі такую ролю вуніяцтва выконвала на працягу ўсяе гісторыі. У сучасны мамэнт на эміграцыі польскія дзейнікі схаваліся ў цень, а Ватыкан распачаў акцыю зь беларускасьцю ў вуніяцкай сваёй рабоце. Гэтая тактыка Ватыкану разьлічана на ўвядзеньне закалоту сярод беларусаў на эміграцыі. Калі-ж паўстануць магчымасьці для акцыі на Беларусі, дык туды ізноў будуць старацца пранікнуць, як падчас Другой сусьветнай вайны, польскія легіёны з польскім каталіцкім духавенствам. Крывіцка-вуніяцкая дыверсія тады ня будзе патрэбнай і польска-ватыканская акцыя адкіне іх прэч, як гэта яна рабіла раней з усякімі наемнікамі, кіруючыся прынцыпам: маўр сваё зрабіў, маўр можа адыйсьці. Пара вуніяцкай акцыі на Беларусі адыйшла ў гісторыю. Жахі тэй акцыі яшчэ цяпер, як здань, як пагрознае мэмэнто, блукаюць на балонках гістарычных аповесьцяў. Пісьменьнік Юрка Віцьбіч піша: „У самым цэнтры Віцебску, на рагу вуліцы Смаленскай і Афіцэрскай, перад будынкам старое ратушы знаходзіцца маленькі сквер. Здаецца, калі ўзяць тут жменьку зямлі й сьціснуць яе ў далані, дык паміж пальцамі праступіць кроў нашых гэраічных прашчураў. Сьціплая пляцоўка, якую займае сквер, зьяўляецца нашай беларускай сьвятыняй. Ніяк ня здолела Рэч Паспалітая заваяваць свабодалюбны беларускі народ. Беларусы ўпарта захоўвалі сваю веру, мову, звычаі. Тады на дапамогу польскаму каралю прыйшоў Рымскі папа,

[2] „Бацькаўшчына", № 21 (303), Мюнхэн, 1956, 20 травеня, б. 1.

побач з жаўнерамі сталі польскія манахі. Калі езуіты пераканаліся, што апалячыць наш народ з дапамогай каталіцызму нельга, яны хацелі выкарыстаць дзеля гэтага рэлігійную вунію – мост паміж праваслаўем і каталіцтвам. І асаблівая роля ў ейным гвалтоўным прасоўваньні належала Віцебскаму вуніяцкаму архіепіскапу Язафату Кунцэвічу – „душахвату", як ахрысьцілі яго беларусы. На прапанову Кунцэвіча тых віцяблянаў, якія не захацелі пераходзіць у вунію, абмяжоўвалі ў правох, павялічвалі для іх падаткі, зьдзекваліся зь іхняе мовы й звычаяў, кідалі ў турмы, катавалі, забівалі, але нават забітых не пакідаў у спакоі „душахват". Ён загадваў выкопваць з магілаў толькі што пахаваных праваслаўных і аддаваць іх сабакам. Свайго собскага сабаку Язафат Кунцэвіч называў імем „Мелецій", бо так звалі тагачаснага Полацкага праваслаўнага архіепіскапа Мялеція Сматрыцкага, аўтара славутае граматыкі. І, нарэшце, гнеў народны выліўся ў паўстаньне. 12 лістапада 1623 году над горадам загулі званы. Да архіепіскапскіх будынкаў адусюль бег народ. Віцябляне выцягнулі Кунцэвіча з хаты й тут-жа ландвойт Навум Воўк забіў яго бердышам. Калі аб паўстаньні даведаўся папа Урбан VIII, ён пісаў каралю Жыгімонту Трэцяму: „Няхай будзе пракляты той, хто стрымае меч свой ад крыві. Ты, валадарны кароль, не павінен стрымацца ад мяча й агню... ". Суд прысудзіў да кары сьмерцяй 114 чалавек. Крывёю гэрояў народнага паўстання ў 1623 годзе палітае тое месца, на якім знаходзіцца ў Віцебску маленькі сквер. Можа прыйдзе той час, калі тут будзе пастаўлены высокі гранітавы абэліск"[3]. Гэта не фантазыя, ня творчы вымысел пісьменніка, а гістарычная праўда, падмацаваная непадкупнымі дакумантамі.

Беларусы павінны былі вытрымаць непасільную, здавалася, барацьбу зь небясьпечным ворагам, які намерыўся пазбавіць іх нацыянальнасьці й веры дзядоў і прадзедаў. Яны ўступілі ў гэты няроўны бой і, прынёсшы вялікія ахвяры, захавалі сваю праваслаўную веру й сваю беларускую нацыянальнасьць. Для нас навука гісторыі не пайшла на марна: мы ведаем, што рэлігійная справа – гэта дужа далікатная матэрыя, якою нельга спэкуляваць. Вось таму мы не парушалі на бачынах нашае прэсы такіх пытаньняў, якія маглі-б закрануць рэлігійны гонар беларусаў неправаслаўнага веравызнаньня. Такую лінію нам падыктаваў прынцып: любіць сваю праваслаўную веру й шанаваць кожную іншую. Каталікі й пратэстанты розных філязофіяў спакушалі нас дабрадзействамі сваіх рэлігіяў, але зрабіць трывалы сьлед на псыхіку беларусаў, як нацыі, ім не ўдалося.

---

[3] Ю.Віцьбіч, Можна зьнішчыць звон, але нельга зьнішчыць народ, „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", № 3, Рэгэнсбург, 1946, красавік, бб. 13–14.

Вуніяцкія дзейнікі не здавалі й не здаюць сабе справы з таго, якую вялікую ролю адыграла праваслаўная вера ў гісторыі беларускага народу. Як сьвечкі перад пасадам Усявышняга Бога, сьвецяць вобразы Сьвятой Прэпадобнай Еўфрасіньні, князёўны Полацкай, Сьвятога Кірыла, епіскапа Тураўскага, мітрапаліта Клімэнта Смаляціча, Сьвятых Аўраама Смаленскага, Данілы Паломніка, Сымона Полацкага й інш. У разьвіцьці й пашырэньні беларускай культуры й пісьменства ніхто іншы, а яны – сьветачы праваслаўнай веры – занялі пачэсны пасад ў гісторыі Беларусі. Дык няма нічога дзіўнага, што вуніяты некаторых праваслаўных сьвятых прысвойваюць сабе ў той самы час, калі мы, праваслаўныя, не прэтэндуем на іх Язафата Кунцэвіча, Баболю ды сьвентэго Казімежа. Беларусы як нацыя, у асноўным, – гэта праваслаўны народ. Пратэстанты пагадзіліся з гэтым фактам. Яны здалі сабе справу з таго, што іх рэлігійная філязофія й літургічная практыка, не зважаючы на тое, якімі-б прыгожымі яны ня былі зь іх гледзішча, не адпавядалі беларускаму духу. Інакш Каталіцкі Касьцёл і палякі: не зважаючы на неаднаразовыя няўдачы ў іх барацьбе за душу беларускага народу, яны й да сягоньняшняга дня не спынілі экспансыі ў беларускім напрамку. Тым ня менш, мы ня лічым патрэбным выступаць супраць каталіцкае веры як такое. Мы шануем беларусаў каталіцкага веравызнаньня й не зьбіраемся рабіць нейкіх выпадаў у напрамку дагматаў і рэлігійных традыцыяў Каталіцкага Касьцёлу. На гэтым месцы мы затрымаемся толькі на мэтадах, якімі карыстаюцца палякі й Ватыкан у дачыненьні да праваслаўных беларусаў. Ні вышыня дагматаў Касьцёлу, ні ўрачыстасьць Божае службы, ні рэлігійныя звычаі зьяўляюцца іх зброяй у барацьбе з праваслаўем. Іх галоўнай зброяй зьяўляецца камуфляж. Гаворачы пра камуфляж, мы маем на ўвазе вунію. Вунія не зьяўляецца рэлігіяй, бо яна ня мае ўласнае рэлігійнае філязофіі, уласных дагматаў і канонаў, уласнае багаслужэбнае практыкі. Вунія – гэта мешаніна каталіцкіх і праваслаўных элемэнтаў. Пры гэтым каноны, дагматы і, наагул, рэлігійная філязофія ў вуніі – каталіцкія, а вонкавыя формы Божае службы й царкоўныя звычаі – праваслаўныя. Інакш кажучы, вунія па зьместу зьяўляецца каталіцкай, а па форме – праваслаўнай. За доказамі каталіцкае духовае прыроды вуніі хадзіць ня трэба. Доказаў гэтаму шмат. Вось адзін, вельмі вобразны. Айцец Маскалік, абслугоўваючы духоўныя патрэбы грэка-каталікоў украінцаў у Госьляры (Нямеччына), зьяўляецца вуніяцкім сьвяшчэньнікам. У той самы час (маем на ўвазе 1948 – 1949) гэты-ж самы а. Маскалік, абслугоўваючы духоўныя патрэбы каталікоў беларусаў у Ватэнштэце (Нямеччына), адпраўляе Божую службу як каталіцкі ксёндз. Як бачым, зьмяняецца толькі вопратка і, наагул, вонкавая форма, а зьмест астаецца той-жа. Усе, бяз вынятку, дагматы Каталіцкага Касьцёлу вызнаюцца вуніятамі, уключна зь вераю ў непагрэшнасьць Рымскага папы ды ягонае намесьніцтва Хрыста на зямлі. Аб нейкай рэлігійна-ідэалягічнай адасобленасьці

вуніятаў ад Ватыкану няма нават гутаркі. Тым ня менш, не зважаючы на відавочнасьць фактаў, вуніяты называюць вунію Царквой. Больш таго, гуляючы на нацыянальных пачуцьцях беларусаў яны называюць вунію „беларускай царквой". Гутарыць-жа пра нацыянальную адасобленасьць вуніі ніяк нельга ўжо таму, што яна зьяўляецца часткай Каталіцкага Касьцёлу, а гэты апошні зьяўляецца ўнівэрсальнай царкоўнай арганізацыяй, якая не дазваляе й думкі пра незалежнасьць ад Ватыкану. Міражом „беларускае царквы-вуніі" каталіцкія колы прабуюць увясьці закалот сярод праваслаўных беларусаў, барацьбу за беларусізацыю царквы ператварыць у барацьбу з самым праваслаўем. Непрыпадкова цяпер аднавілася вунійная акцыя. Яна разьлічана на слабасьць Беларускае Праваслаўнае Царквы, якая страціла сваю гіерархію ў выніку фізычнага вынішчэньня бязбожным камунізмам. „Заб'ю пастыра і разьбягуцца авечкі (Ев. Мацьв. 26, 31)". Але наш пастыр Хрыстос, Сын Божы зь Ягонага нябеснага пасаду, упасе ягоны статак – Сьвятую Праваслаўную Царкву й дапаможа беларусам адбудаваць сваю Аўтакефалію.

Дарэмна працуюць айцы-вуніяты сягоньня: праваслаўную веру з сэрцаў беларусаў ім вырваць ня ўдасца. Вунійныя вогнішчы, распаленыя рукамі айцоў-вуніятаў, як, напрыклад, іх парафія ў Чыкага з айцом „Іаанам" Тарасэвічам на чале, пагаснуць бясьследна, так, як яны пагасьлі на Беларусі ў мінулым.

Вехі беларускай незалежніцкай барацьбы вызначаны Першым і Другім Кангрэсамі й Царкоўнымі Саборамі. А ў пастановах гэтых апошніх няма ані слова пра рэлігійную барацьбу, якую немінуча нясе вунія. У беларусаў дастаткова ворагаў, зь якімі ім прыходзіцца змагацца за палітычную й царкоўную незалежнасьць. Таму іх немагчыма падняць на новае ўнутрырэлігійнае змаганьне. Каму, апрача вуніятаў, патрэбны новы вунійны экспэрымэнт? Беларускай Праваслаўнай Царкве? Не. Рэлігійнае незалежнасьці вунія беларусам ня дасьць, бо яна сама не зьяўляецца незалежнай. Вуніяты маюць на ўвазе толькі й выключна карысьць Ватыкану. Ніякія іншыя мэты для іх не існуюць. Нацыянальныя ідэалы беларусаў для іх – толькі сродак, а не сама мэта. Ці выйграе беларуская незалежніцкая барацьба ў цэлым ад вунійнае акцыі? Той самы адказ – не. Ня выйграе, бо ня можна выйграць, таму што рэлігійныя непаладкі толькі расьцярушаць нацыянальную энэргію. Вунійны экспэрымэнт вельмі небясьпечны тым, што дае козыр у рукі ворагам беларушчыны. Выкарыстоўваючы вунійную акцыю, антыбеларускія колы будуць ачарняць чыстую вопратку беларускае незалежніцкае барацьбы, называючы яе польска-каталіцкай інтрыгай. Нас, як праваслаўных, вунійная акцыя не палохае, бо гісторыя паказала, што вунія ня можа пагражаць праваслаўю на Беларусі, але ў змаганьні за незалежнасьць гэтая акцыя толькі абцяжае наша й так цяжкое змаганьне.

На бачынах „Бацькаўшчыны", як шыла зь мяшка, вылазіць інквізытарская лёгіка: праваслаўны сьвятар добры толькі тады, калі ён мёртвы. Само фізычнае існаваньне праваслаўнае духоўнае асобы для чалавека зь інквізытарскай лёгікай зьяўляецца злом, якое заслугоўвае самых чорных эпітэтаў, да „расстрыгі" уключна. Калі праваслаўны сьвятар ня быў зьнішчаны фізычна бальшавікамі або гітлераўцамі, дык аднаго гэтага дастаткова для „Бацькаўшчыны", каб яго зьнішчыць маральна, здыскваліфікаваць яго ў вачох царкоўнае грамадзкасьці ды адсунуць ад удзелу ў нацыянальным жыцьці. Кіруючыся гэтай інквізытарскай лёгікай, „Бацькаўшчына"[4] называе мяне „самарасстрыгам" ды прыпісвае мне продаж беларускае праваслаўнае царквы ў Рэгенсбургу. Усё гэта мана. Але недаацэньваць яе нельга.

Я запярэчваю нахабную ману „Бацькаўшчыны": сьвятарскага сану я ніколі не кідаў. У часы самага вострага прасьледваньня Сьвятой Царквы й ягонага духавенства я стойка пранёс крыж мучаніцтва разам з усёй Царквой. Ані пры бальшавіках, ані пры гітлераўцах я духоўнага сану не зракаўся. Падчас акупацыі Заходняе Беларусі бальшавікамі ў 1939 годзе быў сьвятаром у Сьцяфанпалі, Дзісьненскага Благачыньня. Адначасна з гэтым абслугоўваў суседні прыход у Мікалаеве, калі захварэў а. А. Стахоўскі. Урадоўцам я ня быў, бо само маё сьвятарскае служэньне выключала такую магчымасьць. Праўда, за адмову прызнаць Маскоўскага патрыярха спалучылі Сьцяфанпольскі прыход з Мікалаеўскім і настаяцелем спалучаных прыходаў назначылі а. В. Краскоўскага, а мяне, уступаючы просьбе парафіянаў, пакінулі другім сьвятаром. Пасьля таго, як паправіўся ў канцы 1940 году а. А. Стахоўскі, а. В. Краскоўскага перавялі ў Парэчча, я быў адноўлены ў сваіх правах, правах настаяцеля Сьцяфанпольскага прыходу. Адбітыя ў кнізе І. Касяка на балонцы 74-ай фотакопіі паквітаваньняў Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР, а таксама залучанае пасьведчаньне сьцьвярджаюць праўдзівасьць вышэй сказанага.

Гэтую праўдзівасьць могуць сьцьвердзіць і мае суседзі зь Беларусі: сп. сп. А. Занкавіч, Л. Рудак ды матушка Лідзія Балай з Залесься. Апрача гэтага, у Нью Ёрку жыве а. ігумен Юльян (Троцкі), які ў 1940 годзе карміў мяне ды даваў мне памешканьне, калі я ў царкоўных справах прыяжджаў у Жыровіцы. Бальшавікі арыштавалі й расстралялі маіх родзічаў, а мяне прасьледвалі непасільнымі падаткамі-кантрыбуцыямі ды змушалі выконваць катаржныя работы на пабудове дарогаў ды на лесарасьпрацоўках.

Таксама маною зьяўляецца інкрымінацыя „Бацькаўшчынай" продажы на злом царквы ў Рэгэнсбургу. За час майго сьвятарскага служэньня

[4] „Бацькаўшчына", № 23 (305), Мюнхэн, 1956, 3 чэрвеня, б. 3–4.

я не разбураў, а будаваў цэрквы, як, напрыклад, на Козыраве ў Менску, у Рэгэнсбургу (Нямеччына), ды закладаў прыходы ў ДП лягэрох (Рэгэнсбург, Міхэльсдорф, Остэргофен, Віндзішбэргэрдорф, Бакнанг). Царкву ў Рэгэнсбургу прадаў не я, а ўладыка Панцялейман. Царква служыла праваслаўным рэлігійным мэтам да таго часу, пакуль мела парафіянаў. Калі-ж гэтых апошніх ня стала (яны выехалі ў эміграцыю), Божыя службы ў царкве спыніліся. Гаспадар зямлі, на якой была пабудаваная царква, зажадаў платы за ягоную зямлю ды за тое, што ён выконвае абавязкі вартаўніка царквы й прыбіральшчыка вуліцы вакол яе. Грошай на пакрыцьце гэтых коштаў ня было, і мітрапаліт Панцялейман прадаў царкву не на злом, як ілжыва піша „Бацькаўшчына", а на кірху нямецкім уцекачам з акупаваных бальшавікамі абшараў. Немцы зрабілі ў гэтым будынку кірху, якая існуе й зараз, што відаць з далучанага пры гэтым ліста:

Saal/Donau, den 10.7.1956
Evang.-Luth. Expon. Vikariat
Saal/Donau
Tel. 666
Very Rev. Nikolaj Lapitzki
117 Market St. Passaic, N. J.

Das Evang.-Luth. Expon. Vikariat Saal/Donay bestätigt hiermit, dass die ehemalige weissrüthenisch orthodoxische Kirche, die früher in Regensburg Ganghofersiedlung stand, von der Evang.-Luth. Gemeinde Regensburg käuflich erworben worden ist. Sie dient bis heute ausschlieslich gottesdienstliechen Zwecken.

Ott, Pfr.

Я ў часе продажу Рэгэнсбургскае царквы быў настаяцелем беларускае праваслаўнае царквы ў Бакнангу й таму ніякае адказнасьці за продаж не нясу, хоць здаю сабе справу з таго, што пры тагачасных абставінах мітрапаліт Панцялейман іншага выхаду ня меў.

Самым улюбёным мэтадам дыскусіі крывічоў зьяўляецца інкрымінацыя іх праціўнікам службы ў розных агентурах: гэстапа, НКВД ды інш. Але ўсе гэтыя закіды варты ня больш таго, што варта папера, на якой яны напісаны, бо гэта толькі злосная інсынуацыя. А вось самым крывічам ёсьць на што азірнуцца. Не называючы на гэтым месцы імёнаў, запытаемся паноў крывічоў, хто былі супрацоўнікамі гэстапа ў Менску, Барысаве, Віцебску, Вялейцы, Баранавічах і гэтак далей, і да якое палітычнае плыні належаць гэтыя людзі сягоньня. Калі панам крывічам памяць адмовіла, дык мы можам ім прыпомніць. А прыпомніць ёсьць што, бо большасьць цяперашніх крывіцкіх „гэрояў" служыла ў гэстапа,

займаліся даносамі на беларусаў мэтаю іх, беларусаў, фізычнага зьнішчэньня. Зразумела, што беларусы мусілі бараніцца ад польскай і палянафільскай дыверсыі усімі даступнымі сродкамі, а не падстаўляць галовы пад кулі ворага. Звычайна належала-б сароміцца залічаць да нацыянальнае ахвяры асобу, высланую немцамі ў лягэр за крымінальныя злачынствы, аднак крывічы й на гэтым хочуць нажыць сабе брудную капейку.

Двурушнасьць людзей, якія рэдагуюць „Бацькаўшчыну", дужа вымоўна выявілася ў іх падыходзе да кнігі І. Касяка „З гісторыі Праваслаўнае Царквы беларускага народу". З аднаго боку, „Бацькаўшчына" называе яе брудам, а з другога боку гэта не перашкаджае ёй паклікацца на кнігу інж. І. Касяка як на аўтарытэтную крыніцу[5]. Зачынае свой наступ на гэтую кнігу „Бацькаўшчына" словамі: „Нядаўна выйшла ў Нью Ёрку (ЗША) кніжка „З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу", 190 бачын, аўтар І. Касяк, галоўныя фундатары а. М. Лапіцкі й Ю. Сабалеўскі"[6]. Не запярэчваю свайго ўдзелу ў пакрыцьці коштаў выданьня кнігі інж. І. Касяка „З гісторыі Праваслаўнае Царквы беларускага народу" і лічу гэта за гонар. Аднак мая матар'яльная падтрымка кнігі інж. І Касяка ня робіць мяне адказным за яе зьмест. Гэтая кніга мае свайго аўтара – І. Касяка. Увесь разбор кнігі інж. І. Касяка „Бацькаўшчынай" зводзіцца выключна да пэрсанальных выпадаў супраць аўтара ды мяне. Інжынеру Касяку й мне інкрымінуюцца самыя непраўдападобныя праступкі, а перш за ўсё, сыстэматычнае правакаваньне беларускае грамадзкасьці. У імя праўды я павінен асьведчыць, што ніхто іншы, а толькі крывічы распачалі й бязупынна праводзяць злосную правакатарскую антыбеларускую акцыю. „Каронай" у гэтым напрамку зьяўляецца кніжка „Беларусь", напісаная інж. Л. Рыдлеўскім, найбліжэйшым супрацоўнікам „тэстамэнтовага прэзыдэнта"[7].

Ужо тое, што гэтая кніжка надрукавана ў французскай мове, сьведчыць аб тым, што правакацыі ў ёй зьмешчаныя, разьлічаны не на беларускага чытача, а на чужую аўдыторыю. Скардзіцца на цяжкія часы 1945–1950 гады „Бацькаўшчыне" таксама ня сьлед, бо цяжар тых гадоў быў створаны крывічамі, а значыць яе аднадумцамі. Гэта-ж яны, крывічы, сваімі даносамі рабілі цяжкасьці ў эміграцыі беларусам, закідаючы амэрыканскія ды іншыя эміграцыйныя ўстановы правакацыямі на нявінных людзей.

Пры разглядзе кнігі інж. І. Касяка „Бацькаўшчына" намагаецца зрабіць нешта, чаго зрабіць яна нядольна, а пайменна – быць аб'ектыўнай.

---

[5] Гл.: М.Качар, Аб г.зв. БНА і Кананічнай Царкве, „Бацькаўшчына", № 27 (309), Мюнхэн 1956, 1 ліпеня, бб. 3–4.

[6] „Бацькаўшчына", № 23 (305), Мюнхэн, 1956, 3 чэрвеня, бб. 3–4.

[7] Л. Рыдлеўскі, Беларусь, [Парыж, 1948], бб. 21–25.

У кнізе інж. І. Касяка ёсьць шмат добрага й пазытыўнага, але крывічы не дастаткова аб'ектыўныя, каб гэта добрае ацаніць. Крывічы ў кнізе інж. І Касяка ня хочуць бачыць нічога добрага, бо для іх наша Беларуская Праваслаўная Царква – „схізма", а Канстантынопальская Патрыярхія, якая духоўна апякуецца намі на эміграцыі, – гэта „грэкі ці татары"[8]. Дык няма нічога дзіўнага, што для іх і кніга „З гісторыі Праваслаўнае Царквы беларускага народу" – толькі „саламаха" ды „атрута".

Кніга інж. І. Касяка мае дадатныя бакі, мае й адмоўныя бакі. Адмоўным зьяўляецца тое, што аўтар даволі дробным фактам надае вялікае значэньне, але гэта не дае падставы абліваць яе брудам толькі таму, што напісана праўда аб вуніятах і іх прыхільніках.

Я не бяруся абараняць кнігі інж. І. Касяка, бо яна сама сваім зьместам бароніцца ад выпадаў „Бацькаўшчыны". У імя аб'ектыўнасьці ў цэлым, гэта карысная й патрэбная кніга. З гэтым павінен пагадзіцца кожны аб'ектыўны крытык. Ды й сама „Бацькаўшчына", паклікаючыся на гэтую кнігу, аб чым мы казалі вышэй, пацьвярджае маю думку аб карыснасьці працы інж. І. Касяка.

Выступаючы ў якасьці пракурора, калі гутарка ідзе пра кнігу інж. І. Касяка, „Бацькаўшчына" прабуе адвакацкі талент у абароне агранома Ул. Тамашчыка. Аж дзьве трэціх артыкула „З бруднай крыніцы толькі бруд можа пацячы" прысьвечаны біяграфіі інж. Ул. Тамашчыка. Аднак „у шматслоўі няма ратунку".

Справа ў тым, што чалавек з такой біяграфіяй у Кананічнай Праваслаўнай Царкве ня можа быць ня толькі епіскапам, але нават панамаром. Для таго, каб быць епіскапам, не дастаткова адзначацца толькі „патрыятызмам". Епіскапу перш за ўсё патрэбна вера ў Бога ды рэлігійнае ўзгадаваньне. Самым важным мамэнтам у біяграфіі кожнага епіскапа зьяўляецца ягонае пакліканьне, духоўная асьвета (сярэдняя й вышэйшая), манастырскае жыцьцё й г.д. А гэтага ў біяграфіі інж. Ул. Тамашчыка няма. Ды й сама хіратонія ў епіскапы інж. Тамашчыка адбылася з парушэньнем канонаў[9].

Часам, але вельмі рэдка, у епіскапы хіратанізавалі й сьвецкую асобу, але гэтая асоба яшчэ перад хіратоніяй звычайна мела духоўную адукацыю ды была шырока ведамай сваім рэлігійным жыцьцём і працай на царкоўнай ніве. Здараліся выпадкі, калі ў епіскапы хіратанізавалі прафэсароў духоўных школаў, але гэта не здаралася з аграномамі як Ул. Тамашчык. Калі-б ня акцыя інж. Ул. Тамашчыка, дык на нашым царкоўным грунце ня было-б падзелу, і ўсе-б мы складалі адзіную царкоўную сям'ю. У нас былі-б кананічныя беларускія парафіі ўва ўсіх краінах

---

[8] „Бацькаўшчына", № 3 (233), Мюнхэн, 1955, 16 студзеня.
[9] Гл.: „Царкоўны Сьветач", № 1 (4), Саўт Рывэр, 1953, б. 11.

сьвету. Аднак, дзякуючы Ул. Тамашчыку, беларускае царкоўнае жыцьцё расьцярушылася, і ворагі праваслаўя цешацца тым, што побач з кананічнымі праваслаўнымі беларускімі цэрквамі закладаюцца неканічныя парафіі, як, напрыклад, у Таронта. Трэба прызнаць, што дзейнікі, якія высунулі Ул. Тамашчыка на „епіскапскае" становішча, сваю мэту асягнулі, бо яны раскалолі адзінства беларускае грамадзкасьці.

Вяртаючыся да кнігі інж. І. Касяка трэба сьцьвердзіць, што яна пры ўсякіх магчымых недахопах, бо ўсё створанае людзкімі рукамі мае недахопы, зьяўляецца надта карыснай. Матар'ялы ў ёй сабраныя зьяўляюцца неацэненым матар'ялам для будучага гісторыка Беларускае Праваслаўнае Царквы. Час і рука наезьніка сатруць з памяці людзкое сьляды барацьбы беларусаў у апошніх дзесяцігодзьдзях. Людзям з-пад знаку „Бацькаўшчыны" хацелася-б згладзіць тыя сьляды дашчэнту, згладзіць так...

Каб у віры тэй ашукі
Зьнішчыць нашы ўсе сьляды,
Каб ня ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды.

(Я. Колас, „Сымон Музыка")

Вось гэтым жаданьнем згладзіць сьляды барацьбы за беларускую праўду, жаданьнем сьцерці памяць сваіх злачынстваў супраць беларускага народу паны з рэдакцыі „Бацькаўшчыны" і кіраваліся, друкуючы свой бруд у крыніцы бруду супраць інж. І. Касяка ды мяне. Справа ў тым, што кніга інж. І. Касяка „З гісторыі Праваслаўнае Царквы беларускага народу" астанецца неўміручым сьведкам палянізатарскіх злачынстваў на Беларусі. А гэта ў вачах „Бацькаўшчыны" – сьмяротны грэх, за які, паводле законаў „сьвятое" інквізыцыі, належалася кара быць спаленым на агні. Аднак пара інквізыцыі прайшла, і „Бацькаўшчыне" ня ўдасца быць сьведкам аўтодафэ інж. І. Касяка ды мяне, хоць панам зь яе рэдакцыі вельмі хочацца апынуцца ў палажэньні пабожнае бабкі, што падкідала дроўцы ў вогнішча, на якім палілі Гуса. Кожная акцыя беларусаў выклікала рэакцыю палянафільскага лягеру. Часам гэта была помста, як за часоў Язафата Кунцэвіча, а часам гэта была трывога, выкліканая бясьсільнай злосьцю, як гэта мае месца з крывічамі. Гэтая рэакцыя – зьява ня новая.

Падтрыманыя на сілах верай у гэтую ясную праўду, будзем ісьці да выразна акрэсьленае Ўсебеларускімі Кангрэсамі й Беларускімі Царкоўнымі Саборамі мэты: незалежнасьці Беларусі й незалежнасьці Беларускае Праваслаўнае Царквы, абараняючы іх ад напасьцяй злога, у чым нам дапаможа Бог.

# КРЫВІЦКАЯ МАРАЛЬ

Яшчэ ня так даўна „чало" крывіцкага ўгрупаваньня ў прэсе ды па завугольлю зьневажала былую беларускую гіерархію на чале зь мітрапалітам Панцялейманам. Часапіс „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі" пісаў: „Тыя эпітэты, якія па завугольлю, але з моцным рэзанансам надаюцца імі (г. зн. крывічамі) нашым архіпастырам, цалкам супадаюць з той лаянкай, зь якой агенты НКВД гналі ў Сібір тысячы праваслаўных сьвяшчэннамучанікаў"[1]. Як ведама, не апошнюю ролю ў гэтым гуляў і прыхаджанін праданае царквы, які дня 10 сакавіка гэтага году ў крывіцкай газэце „Беларус" зьмясьціў артыкул „Валі на бліжняга свайго й барані сябе самога"[2]. Зьмяніліся часы, зьмяніліся абставіны, і ён сёньня ў артыкуле пралівае горкія сьлёзы па нябошчыку мітрапаліту Панцялейману. Але гэта ня ёсьць сьлёзы раскаяўшагася грэшніка, а звычайны манэўр крывіцкага падхаліма, разьлічаны на тое, каб зьняважыць праваслаўнае духавенства наагул, а прот. М. Лапіцкага ў прыватнасьці.

Гэты артыкул, як і кожны крывіцкі артыкул супраць беларускага праваслаўнага духавенства, пашквільны ды ілжывы. Наўсуперак цьверджаньню ўспомненага артыкулу, беларуская грамадзкасьць мяне ніколі ды ні ў чым не абвінавачвала, а таму мне апраўдвацца не прыходзіцца. Маім адкрытым лістом я зьвярнуў увагу беларускае грамадзкасьці на вуніяцка-польскую работу ды на брудны характар крывіцкіх выпадаў супраць беларускага праваслаўнага духавенства й мяне. Таксама гэтым артыкулам я не апраўдываюся, а толькі выяўляю ілжу „аўтара" артыкулу „Валі на бліжняга свайго й барані сябе самаго". Паміж іншым, ён піша: „Дапусьцім, што прэстарэлы мітрапаліт Панцялейман перад сваёю сьмерцю страціў сваё сумленьне і ўпотай прадаў царкву. Чаму-ж тады а. М. Лапіцкі, як адзіны настаяцель тае царквы, ведаючы, хто прадаў царкву, нічагусенькі не сказаў аб гэтым сваім прыхаджанам аж да кастрычніка 1956 году". Крывіцкая крывадушнасьць ды мана! Па-першае, настаяцелем успомненае царквы ў той час, як яе прадавалі, я ня быў, а па-другое, як благачынны беларускіх прыходаў у Нямеччыне я давёў да ведама беларускае грамадзкасьці аб здарыўшымся факце. Газэта „Беларускае Слова" давяла да ведама наступнае: „31 кастрычніка гг. на тэрыторыі г. Рэгэнсбургу перасталі існаваць усе ДП лягеры, а разам з гэтым і тыя ўстановы, якія функцыянавалі за часоў існаваньня гэтых лягероў. Таксама перастаў існаваць і цэнтр беларускага праваслаўнага жыцьця –

[1] „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", № 6, Міхэльсдорф, 1947.

[2] „Беларус", № 59, Нью Ёрк, 1957, 10 сакавіка б. 6.

парафія й парафіяльная царква Сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Царкву, пабудаваную высілкамі беларускіх вернікаў, за адсутнасьцю вернікаў і сьвятарства пры ёй, былы беларускі епіскапат прадаў лютэранам, як рухомасьць[3]. У гэтым няма нічога злачыннага або амаральнага, так як гэта прадстаўляе аўтар успомненага вышэй артыкулу, які, да спадобы вуніятам, зьневажае прэстарэлага праваслаўнага мітрапаліта (кажа: „страціў сваё сумленьне") ды ўсё праваслаўнае духавенства. Беларуская царква у Рэгэнсбургу ў 1949 годзе ня мела парафіянаў, ня мела сьвятара, стаяла на чужой зямлі (прыватнай), цякла. Вокны ў ёй былі павыбіванымі, шалёўку з дошак пачалі адрываць. Пакінуць яе ў такім стане было-б раўназначным поўнаму яе разбурэньню. Гэтага хацелі й гэтага чакалі крывічы. Аднак яно ня здарылася. Мітрапаліт Панцялейман, хварэючы душою за царкоўны будынак і ня маючы іншага выхаду яго выратаваць, прадаў яго на кірху. Пастуціць так ён меў права згодна із Статутам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, прынятым Праваслаўным Беларускім Саборам у 1942 годзе ў Менску. Усе аб гэтым сваечасна даведаліся з газэт і ніхто не пратэставаў. Знаў аб гэтым і аўтар бясслаўнага артыкулу, але маўчаў, бо ў той час да гэтага прычапіцца было нельга, а перадусім тады ён зь ягонымі аднадумцамі быў заняты пісаньнем даносаў на беларусаў з мэтаю перашкодзіць ім у эміграцыі[4]. Цяпер ён інкрымінуе праваслаўным сьвяшчэньнікам самарасстрыгства й гандаль царквою, а ў той час прыпісываў прыналежнасьць да Маскоўскае Патрыярхіі таму-ж мітрапаліту Панцялейману, якога зараз прабуе крывадушна бараніць ды рэгабілітаваць пасьмертна, так як гэта робяць бальшавікі зь нябожчыкамі, каб мець повад расстраляць жывых.

Статут Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы гаворыць вось што: „Рухомая маёмасьць можа быць збытай, зьмененай, або падлягаючай зьмене прызначэньня паводле згоды епархіяльнага епіскапа (Ап. 38, 39, 40; IV, 26; VII, 12 арт. 25). І далей, артыкул 4-ы гаворыць: „У выпадку скасаваньня царкоўнай уладай прыходу, маёмасьць прыхадзкой царквы пераходзіць на ўласнасьць епіскапства й прызначаецца на агульныя патрэбы епархіі, або аднэй з суседзкіх прыхадзкіх цэркваў"[5]. Сёньня ў Рэгэнсбурскай беларускай царкве моляцца Богу, а ў актах куплі запісана, што ён набыты ад праваслаўных беларусаў.

Гаворачы ў сваім лісьце аб вуніі, я нідзе не ўспамінаў пра беларускіх студэнтаў, якія бралі або бяруць студыі за кошт каталікоў у Бэльгіі. Аднак аўтар і гэта інсынуе мне. Праўда, можа хто й думаў, што беларускія студэнты ў Бэльгіі – гэта, як піша аўтар разгляданага мною ліста, „бараны".

---

[3] „Беларускае Слова", № 11–12, Нямеччына, 1949, 5 лістапада.
[4] „Беларускае Слова", № 25(?), Нямеччына, 1949, 30 ліпеня.
[5] І. Касяк, З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу, Нью Ёрк, 1956, б. 186.

Аднак той, хто так думае, мыліцца. Я асабіста шаную беларускіх студэнтаў у Бэльгіі й ганаруся тым, што яны, сярод якіх было шмат маіх вучняў, аказаліся стойкімі ў прынцыпах праваслаўнае веры, не зважаючы на націск з каталіцкага боку. Прычапіць ім ярлык вуніяцтва ды гэтым самым адарваць іх ад праваслаўя, што намагаецца зрабіць крывіцкі аўтар, аднак нельга. Праўда былі й слабыя натуры як Набагез, Наўмовіч і Мазура, якія прынялі вунію. Ведама, што сям'я бяз вырадка не бывае. І такі адзін, зламаны маральна, вырадак Хв. Мазура зьвярнуўся зараз у Савецкі Саюз і адтуль шчыпле сваіх-жа былых апекуноў. І гэта зусім зразумела, бо ад чалавека, які зьмяняе сваю веру нічога лепшага спадзявацца нельга. Наступна аўтар артыкулу, каб зьняважыць мяне ды, наагул, праваслаўнае сьвятарства, расказаў казачку пра сьвятара, які быццам раіў бацьку забраць сына са школы ды аддаць яго ў парабкі. Гэтую баечку я чуў з вуснаў крывічоў ня раз. Пры гэтым кожны крывіч, расказваючы яе, называў пры гэтым ягонага бацьку, якому, маўляў, ягоны сьвяшчэньнік радзіў выкіраваць сына ў парабкі. Гэта звычайная хлусьня пра праваслаўнага сьвяшчэньніка. Зыйсьці да ўзроўня крывіцкага аўтара, значыла-б заняцца пераказам анэгдотаў пра каталіцкіх ксяндзоў. Такіх анэгдотаў у народзе ходзіць шмат, але праз пашану да сябе самога займацца гэтым ня стану.

Крывіцкі аўтар і мяне прабуе зрабіць дзеючай асобай гэтае баечкі наўсуперак сьведчаньню жывых людзей ды дакумантаў. Калі яму, гэтаму аўтару, адмовіла паслушэнства й памяць, дык я прыпомню яму выпадак, калі Б. Рагуля ў прысутнасьці жыхароў лягеру Міхэльсдорф дзякаваў мне й адміністрацыі лягеру Міхэльсдорф за вялікую матар'яльную й маральную дапамогу беларускім студэнтам.

Нешта падобнае, адкажу словамі самаго-ж крывіцкага аўтара, „могуць рабіць людзі, што не прызнаюць ніякай маралі, права й справядлівасьці". І людзі з падобнай маральлю „нічтоже сумняшеся" прыпішуць табе й прадажу царквы, і „самарасстрыгства", і Сталіна. Ды набрэдзяць яшчэ больш розных небыліцаў. Пры жыцьці мітрапаліта Панцялеймана й архіепіскапа Венэдыкта крывічы ніколі мне не закідалі „самарасстрыгства", бо ведалі, што такую ману зараз-жа запярэчаць іерархі, якія пасьля акупацыі Заходняй Беларусі бальшавікамі ў 1939 годзе кіравалі там царкоўным жыцьцём. Сёньня няма паміж жывымі тых іерархаў, але асталіся дакуманты, якія пярэчаць крывіцкай хлусьні. З свайго боку раджу крывіцкаму аўтару азірнуцца ўвакол сябе, і там, у ягоным крывіцкім асяродзьдзі, ён пабачыць сапраўдных вуніятаў, самасьвятаў ды самарасстрыгаў, якія на ягоных-жа вачах у 1944 –1945 гадох сядзелі ў вайсковых мундзірах ды зь пісталетамі пры боку ў Бэрліне, а зараз служаць з „уладыкам" у Нью Ёрку.

Ня бойся, прыхаджанін праданае царквы! Яе ўпотайкі ніхто не прадаў і не прадасьць! Гэта не мікраскоп, які можна вывезьці зь лягеру пакрыёма, а на той мікраскоп і я ахвяроўваў грошы.

Азірніся ўвакол сябе і ў сваім-жа асяродзьдзі знойдзеш сапраўдных прадаўжальнікаў справы Сталіна ў царкоўным жыцьці. Якая розьніца паміж гіерархам Сталіна ды гіерархам крывічоў? Ніякай. Адзін і другі робяць пародыю з рэлігіі, а іх школай быў камсамол, а не духоўная сэмінарыя. Мы адкідаем БАПЦ і стаім на грунце Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Мы перакананы ў праўдзе нашых ідэяў і таму сьмела крочым да зьдзяйсьненьня нашых ідэалаў. Вось чаму я лічу сябе беларускім аўтакефальным сьвяшчэньнікам, бо такім я выехаў з Бацькаўшчыны, а гэтым ніяк ня могуць пахваліцца г. зв. архіепіскап Васіль ды ягонае духавенства.

## БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА Й ЯЕ ГІСТАРЫЧНЫЯ ДАТЫ XX СТАГОДЗЬДЗЯ (1922 і 1942)

У жыцьці кожнага народу, а нават у жыцьці асобнага чалавека ёсьць гады, якія сваімі падзеямі й сваім значэньнем выдзяляюцца з нашага штодзённага жыцьця.

У дваццатым стагодзьдзі такімі гадамі ў гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу ёсьць 1922 і 1942. У 1922 годзе, трыццаць пяць год таму назад, беларускі народ, на чале зь мітрапалітам Мелхісэдэкам аднавіў аўтакефалію Беларускай Праваслаўнай Царквы. У 1942 годзе, пятнаццаць год назад, адбыўся Ўсебеларускі Праваслаўны Сабор, які аднавіў зьнішчаную бальшавікамі аўтакефалію Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Ведамым ёсьць, што і ў нашы часы знойдуцца людзі, а нават вучоныя гісторыкі, якія запярэчваюць існаваньне Беларускай Праваслаўнай Царквы, а гэта значыць і яе гісторыю. Такое становішча роўназначна з запярэчваньнем існаваньня самаго беларускага народа як нацыі, які мае сваю мову, свой край, сваю культуру й сваю гісторыю. Думаю, займацца дыскусіяй у гэтай плошчы было-б анахранізмам, а артыкул, прысьвечаны юбілейным датам, не адказвае гэтаму сваім прызначэньнем.

У 988 годзе наш беларускі народ прыняў хрысьціянства ад Канстантынопальскай Сьвятой Усяленскай Саборнай і Апостальскай Царквы. Зь Візантыі ад Сьвяцейшага Прастолу Канстантынопальскага Патрыярхата для беларускага народу былі прысланыя першыя гіерархі й духавенства, таксама веравучэньне й царкоўны ўстаў (парадак). Згодна царкоўных канонаў і гістарычнай царкоўнай практыкі, новазаснаваныя цэрквы мусілі знаходзіцца ў юрысдыкцыі сваёй Царквы-Мацеры. А таму на працягу некалькіх стагодзьдзяў Беларуская Царква (ecclesia filialis) мусіла падпарадкавацца Канстантынопальскай Царкве (ecclesia matrix), як сваёй Мацеры Царкве.

Доля нашага народу, доля нашай Беларускай Праваслаўнай Царквы складвалася няпроста: быў час найбольшага росквіту й поўнае незалежнасьці, і быў час упадку, а за ім і залежнасьці ад чужынцаў. У 1291 годзе за панаваньнем Віценя была заснавана для Беларусі Наваградзкая мітраполія, на якую Канстантынопальская Патрыярхія прызначыла мітрапаліта Феафіла, а імпэратар Візантыі Андронік Старэйшы прызнаў ёй (Наваградзкай мітраполіі) 82-ое месца ў Патрыяршай Радзе. Ад гэтага часу Наваградзкія мітрапаліты прымаюць удзел у Сынодах Канстантынопальскай Патрыярхіі (1317, 1327 і 1329 гады) і сваёй сядзібай маюць Наваградак.

У 1356 годзе Канстантынопальская Патрыярхія падзяліла епархіі між мітрапалітам Наваградзкім Раманам і мітрапалітам Маскоўскім Аляксеем. Мітрапаліту Наваградзкаму Раману былі прызначаны й падпарадкаваны епархіі: Полацкая, Тураўская, Наваградзкая, епархіі Валыні, а пазьней і Бранская епархія. Аднак праблема самастойнага царкоўнага ўпраўленьня Беларускай мітраполіі ня была вырашана й на гэты час. Наваградзкая мітраполія Беларусі й надалей залежыла ад Канстантынопальскай Патрыярхіі, нягледзячы на яе духоўную сьпеласьць і імкненьні стаць Царквой Незалежнай (Аўтакефальнай).

На аўтакефалію Беларуская мітраполія мела бясспрэчныя свае кананічныя й тэрытарыяльна-дзяржаўныя правы. Лічба яе епіскапаў шмат перавышала той мінімум, які па канонах патрабаваўся для поўнай аўтакефаліі. Беларуская Наваградзкая мітраполія знаходзілася ў другой дзяржаве, зусім незалежнай ад дзяржавы яе Царквы-Маткі. Незалежнай дзяржаве, зразумела, адпавядае незалежная Царква.

У сілу гэтага царкоўныя й дзяржаўныя чыньнікі XIV і XV стагодзьдзяў вядуць сваё змаганьне за поўную царкоўную незалежнасьць (аўтакефалію), абасноўваючыся на 34 каноне Апостальскага Сабору й 17 правіле Чацьвёртага Ўсяленскага Сабору (1451). Робяцца захады, каб атрымаць благаславенства ад Царквы-Маткі, але калі захады застаюцца бяз посьпеху, зьмяняецца тактыка й самі гіерархі дня 15 лістапада 1415 году на Саборы ў Наваградку ўстанаўляюць аўтакефалію, абраўшы на мітрапаліта Наваградзкай мітраполіі Грыгорыя Цамблака. У 1448 годзе так паступілі расейцы, а ў 1872 годзе – баўгары. Са сьмерцю мітрапаліта Грыгорыя Цамблака (1419) Беларуская Наваградзкая мітраполія праходзіла такія-ж этапы, як і яе народ.

У выніку палітычных падзеяў беларускі народ быў прылучаны да Расейскай імпэрыі. Долю народу падзяліла й яго Царква, якая ў 1686 годзе была падпарадкавана Маскоўскай Патрыярхіі.

Ад гэтага часу Масква праз сваю Царкву на Беларусі заўсёды праводзіла русыфікатарскую палітыку й імкнулася праз праваслаўе накінуць

беларусу разуменьне сябе як расейца. Мова, урадаваньне, казаньне, споведзь і г. д. – усё праводзілася па-расейску. На кожным кроку ўбівалася думка аб належнасьці да Вялікае Расеі, – спэцыфічным разуменьнем беларускасьці ў сэнсе расейскага рэгіяналізму.

Аднак калі фундаманты царскае Расеі ў 1917 годзе захісталіся й беларускі народ Актам 25 сакавіка 1918 году агаласіў незалежнасьць Беларусі, частка праваслаўнага духавенства, сьведамасьць якога была ўжо ачышчана ад маскоўскага павуціньня, уключаецца ў агульны беларускі вызвольны рух, каб супольнымі сіламі пазбавіцца маскоўскае апекі. Але, на жаль, Беларуская дзяржава хутка была заваёвана акупантамі й падзелена трактатам у Рызе ў 1921 годзе паміж савецкай Расеяй і Польшчай. Бачучы сілу беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, бальшавіцкая Расея была змушана арганізаваць Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку. У пэрыяд НЭПу ў БССР Масквой былі талераваныя некаторыя праявы беларускасьці з тым, каб выявіць нацыянальны беларускі элемэнт ды пасьля зьнішчыць. Карыстаючыся гэтай талеранцыяй, духавенства й вернікі на чале зь мітрапалітам Мелхісэдэкам аднаўляюць аўтакефалію Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Гэты ўрачысты акт, які абвяшчае аб утварэньні Беларускай Незалежнай Праваслаўнай Царквы, быў агалошаны ў Менскім катэдральным саборы 23 ліпеня 1922 году. Рух па аднаўленьню аўтакефаліі мітрапалітам Мелхісэдэкам ва ўмовах таго часу ня мог быць рухам шырокіх грамадзка-царкоўных кантактаў ды спакойнай і глыбока абдуманай, далёка сягаючай нацыянальна-рэлігійнай працы. Гэта быў час, калі было зломлена Слуцкае паўстаньне. Гэта быў час вайсковага бальшавіцкага чырвонага тэрору. Гэта быў час, калі бальшавіцкая ўлада распачынае свой нечуваны ў гісторыі наступ на рэлігію як „опіюм для народу". Гэта быў час, калі кат „Чэка" старанна вышукоўваў і нішчыў усіх тых, што мелі хоць маленькую лучнасьць з нацыянальным вызвольным рухам Беларусі.

Вось тая прычына, дзеля якой змаганьне за родную Царкву, за праяўленьне нацыянальнага беларускага „я" ў царкоўна-рэлігійным жыцьці за часоў мітрапаліта Мелхісэдэка, хаця й прыкрывалася праваслаўем, аднак было хутка й жорстка зьліквідавана. Часапіс „Воскресное Чтеніе" у артыкуле „Ликвидация Белорусской Автокефальной Церкви" піша: „По сообщению из Советской России советские власти приступили к ликвидации Белорусской Автокефальной Церкви… По сообщениям советской печати это мероприятие вызвано тем, что православное духовенство в Советской Белоруссии занималось так называемой контрреволюционной деятельностью, проявляющейся в создании церковных попечительств и церковных братств почти в каждом приходе.

Непосредственным поводом репрессий, наложенных на Белорусскую Автокефальную Церковь, было постановление, принятое верующими в Витебске, в обращении к советским властям с требованием возвращения мощей Сьв. Ефросинии, конфискованных советскими властями и помещенных в антирелигиозный музей. Белорусская Автокефальная Церковь обвиняется так же в том, что ея представители вели национальную пропаганду среди белорусскаго населения и поддерживали сношения с Вселенским Патриархом"[1].

Акт агалошаньня незалежнай Беларускай Царквы быў спатканы варожа савецкімі ўладамі. Уважаючы мітрапаліта Мелхісэдэка, епіскапа Бабруйскага Філарэта, епіскапа Мазырскага й Тураўскага Іаана, епіскапа Слуцкага Мікалая ды сталічнае духавенства гораду Менску за кіраўнікоў Беларускай Царквы, бальшавікі сьціравалі свой тэрор супроць іх у першую чаргу. Усе яны былі арыштаваныя ў 1922 годзе й пасаджаныя ў турму.

Пратрымаўшы арыштаваных 6 месяцаў у турме, савецкі ўрад зрабіў над імі паказальны суд. Суд цягнуўся пяць дзён і меў на мэце ачарніць духаўнікоў у вачох народу. Народ вельмі цікавіўся гэтым судом. Судовая заля й вуліца былі перапоўнены народам, так што коннай міліцыі прыходзілася наводзіць парадак. Аднак савецкая ўлада не дасягнула свае мэты такім адкрытым шляхам. Суду прышлося апраўдаць усіх падсудных, і пасьля гэтага савецкая ўлада ніколі ўжо больш не рабіла адкрытых судовых працэсаў.

Падчас арышту сталічнага духавенства й судовага працэсу мітрапаліт Мелхісэдэк знаходзіўся пад дамашнім арыштам. Але пасьля суда мітрапаліт Мелхісэдэк хутка быў арыштаваны й сасланы на вольнае пасяленьне ў Краснаярск.

Дня 29 ліпеня 1937 году ў адну ноч былі арыштаваны ўсе епіскапы й духаўнікі ня толькі гораду Менску, але й на правінцыі. Усе яны на чале зь епіскапам Бабруйскім Філарэтам, заступнікам мітрапаліта Мелхісэдэка, былі пасаджаныя ў савецкія турмы ці ў канцлягеры далёкае Сібіры, адкуль і не вярнуліся.

Ад 1937 году ў савецкай Беларусі ня было дзейнай ніводнай праваслаўнай царквы, ані аднаго духаўніка, і рэлігійна-царкоўнае жыцьцё было поўнасьцю зьліквідавана.

І толькі ў 1941 годзе пры акупацыі Беларусі нямецкай арміяй беларусы разам зь іерархіяй ня толькі ў сталічным Менску, але й на ўсёй Беларусі распачалі захады ў напрамку арганізацыі й аднаўленьня аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы, незалежнай ад Масквы й Варшавы.

---

[1] „Воскресное Чтеніе", № 19, Варшава, 1931, 10 мая.

Нацыянальна-адраджэнскі беларускі царкоўны рух пашыраўся й рос, аж урэшце выліўся ў форме Ўсебеларускага Аўтакефальнага Праваслаўнага Сабору, які адбыўся дня 2 верасьня 1942 году ў Менску. Мітрапаліт Панцялейман прыбыць на Сабор ня мог і старшынстваваць на Саборы ўпаўнаважыў архіепіскапа Філафея наступным лістом: „У выніку маёй немагчымасьці па незалежных ад мяне абставінах прыбыць на Сабор, на скліканьне якога, згодна Вашаму жаданьню, я даў сваю згоду, я даручаю Вам давясьці ўсю справу да канца й старшынстваваць на саборы, калі ён адбудзецца, як Вы мяне аб гэтым просіце. Пакладаюся на Вашу епіскапскую сумленнасьць і мудрасьць, якія, спадзяюся, дадуць мне магчымасьць зацьвердзіць пастановы, выпрацаваныя на Сабраньні духавенства й міранаў пад Вашым старшынствам. Мітрапаліт Панцялейман. 29 жніўня 1942 г., м. Ляды, Смалявіцкага раёну".

У Саборы прымалі ўдзел: архіепіскап Магілеўскі й Мсьціслаўскі Філафей, заступнік мітрапаліта Ўсея Беларусі; епіскап Віцебскі й Полацкі Апанас; епіскап Смаленскі й Бранскі Сьцяпан. Ад духавенства – 43 дэлегаты й ад вернікаў – 65 дэлегатаў.

Усебеларускі Праваслаўны Сабор гіерархіі, духавенства й вернікаў прыняў:

1. Пастанову, што Беларуская Царква становіцца на шлях Аўтакефаліі;
2. Ліст да Канстантынопальскага патрыярха аб прызнаньні Акту Незалежнасьці Царквы;
3. Праэкт Статуту Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы;
4. Праэкт лістоў да самастойных Праваслаўных Цэркваў аб прыняцьці Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы ў маліцьвеннае сужыцьцё, як роднай сястры ;
5. Беларуская мова, мова беларускага верніка мусіць быць уведзена ў царкоўнай пропаведзі, навучаньні Закону Божага й царкоўным справаводзтве.

Летуценьні сьведамых праваслаўных сьвятароў і вернікаў споўніліся.

З гэтага часу Праваслаўная Беларуская Царква становіцца ізноў на прызначаны ёй Богам шлях служэньня свайму народу.

Але ў выніку заканчэньня Другой сусьветнай вайны Беларусь у 1944 годзе акупіруе савецкая Расея, якая кардынальна зьмяніла стан Беларускай Праваслаўнай Царквы, падпарадкоўваючы яе т. зв. Маскоўскай Патрыярхіі.

З прычыны акупацыі Беларусі бальшавікамі ўся беларуская праваслаўная гіерархія, многа духавенства й вернікаў пакінула Бацькаўшчыну й расьсяліліся па розных краінах вольнага сьвету, дзе арганізуюць сваё рэлігійнае жыцьцё ў юрысдыкцыі Мацеры Царквы – Канстантынопальскай Патрыярхіі.

Канчаючы артыкул, прысьвечаны юбілейным царкоўным датам XX стагодзьдзя, хачу зрабіць наступныя высновы:

1. Беларускі народ прыняў праваслаўную веру зь Візантыі (988), а таму Маці Царквой для нас зьяўляецца Канстантынопальская Патрыярхія.
2. Знаходзячыся на працягу некалькіх стагодзьдзяў пад духовай апекай Канстантынопальскай Патрыярхіі, Беларуская Царква, калі духоўна дасьпела, у 1415 годзе заснавала сваю самастойную Царкву, незалежную як ад Канстантынопаля, так і ад Масквы.
3. Сабор 1922 году й Сабор 1942 году Беларускай Праваслаўнай Царквы сваімі пастановамі аднавілі Аўтакефалію й сьцьвердзілі яе незалежнасьць ад Масквы й Варшавы.
4. Беларускі гісторык В. Ластоўскі ў артыкуле „Вунія" пісаў, што нам, беларусам, „патрэбна ўтварэньне такой формы хрысьціянскай і царкоўнай, якая-б, не аглядаючыся ні на ўсход, ні на захад, стаяла-б на грунце нашых нацыянальных інтарэсаў"[2]. Такой „формай" вось і зьяўляецца Беларуская Кананічная Аўтакефальная Праваслаўная Царква, а не Вунія, якую польская агентура крывіцкага ўгрупаваньня прапагуе як „збаўленьне" для беларусаў, а беларускі гісторык В. Ластоўскі й беларуская грамадзкасьць сьцьвярджаюць, што яна ёсьць трагэдыяй і згубай для нашай беларускай нацыі.
5. Праваслаўная Беларуская Царква – гэта Царква нашых прадзедаў, дзядоў і бацькоў. Пад яе духоўнай апекай, падобна як у мінулым, так і цяпер, мы зможам захавацца як нацыя, служыць Богу й змагацца за вольнась і незалежнасьць Беларусі.

---

[2] „Крывіч", № 1, Коўна, 1926, люты, б. 9.



# ДОБРЫ ПАСТЫР

Я – пастыр добры: добры пастыр аддае жыцьцё сваё за авец, а найміт, які ня пастыр, для якога авечкі не свае, бачыць, як прыходзе воўк і пакідае авец і ўцякае: і воўк хапае іх і разганяе авец.
Найміт-жа ўцякае, бо ён найміт і не турбуецца аб авечках.
Я – добры пастыр і ведаю, хто мае, і мае ведаюць Мяне.

(Ев. Ін. 10, 11–14)

Архіепіскап Міхаіл, экзарх Канстантынопальскага Патрыярхату для Паўночнае й Паўдзённае Амэрыкі й Канады, памёр. Ён спачыў у Богу 13 ліпеня 1958 году ў Нью Ёрку. У яго асобе Сьвятая Праваслаўная Царква страціла дастойнага архіпастыра, а праваслаўныя беларусы – вялікага прыяцеля й духоўнага апякуна.

Імя архіепіскапа Міхаіла ўвойдзе ў гісторыю беларускае эміграцыі як прыклад добрага пастыра, які паводле словаў Ісуса Хрыста, аберагаў давераны яму Госпадам статак у дні вялікіх спакусаў, на раздарожжы часоў пераходных. Ягоныя архіпастырскія пасланьні да беларусаў астануцца з намі, як запавет любові да Бацькаўшчыны, надзеі на будучыню й веры ў Бога. Ён гаварыў нам, што нашым „...неадзоўным абавязкам ёсьць памятаць аб нашых дарагіх братох на Беларусі, каторыя жывуць у жудасных абставінах і вялікіх недастатках, і маліць Усемагутнага Бога аб апецы й пасланьні ім сілы, каб яны маглі захаваць веру ў Бога й быць дастойнымі дзяцьмі нашай сьвятой і багаслаўленай Праваслаўнай Царквы свайго народу..."[1].

Разумеючы цяжкое матар'яльнае становішча беларускае эміграцыі, архіепіскап Міхаіл прыняў беларусаў у сваю юрысдыкцыю без абавязку плаціць епархіяльныя падаткі. Аб гэтым ён сказаў у сваім слове 5 чэрвеня 1954 году падчас урачыстае багаслужбы ў царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкае ў Саўт Рывэры:

„...Я шчыра жадаю як найбольш дапамагчы Вам маральна й духоўна, даючы вам свае ўслугі, адзінаю мэтаю якіх зьяўляецца духоўнае настаўленьне для збаўленьня вашых душаў...

...Пры гэтай нагодзе яшчэ раз хачу паўтарыць і падкрэсьліць, што і ў будучыні я заўсёды гатоў ахвотна дапамагчы Вам у кожным магчымым напрамку. Вы для мяне зьяўляецеся аднэй з парафіяў у архіепархіі:

---

[1] Архіпастырскае пасланьне з 25 сьнежня 1952 году.

ваша парафія ёсьць адзінай праваслаўнай парафіяй, якая мае прывілей быць поўнасьцю зводьненай ад усіх фінансавых сьведчаньняў, патрэбных для ўтрыманьня архіепархіі...".

Дня 20 красавіка 1956 году ў Вялікодным пасланьні да ўсіх беларусаў Злучаных Штатаў Амэрыкі, Канады й Эўропы Яго Высокапрэасьвяшчэнства архіепіскап Міхаіл гаворыць:

„ ...Самае радаснае сьвята ўсім сьвятам (Вялікдзень) вы сьвяткуеце ізноў далёка ад Бацькаўшчыны, якая ўсьцяж астаецца пад ярмом самае тыранічнае, безагляднае няволі, у палоне бязбожнага матэрыялістычнага камунізму. Але, мае дарагія прыяцелі й духоўныя дзеці, ■ гавару вам яшчэ раз зь нязломнай станоўкасьцю: не адчайвайцеся, ня страцьце Вашае хрысьціянскае веры й надзеі. Прыйдзе дзень, і ён ужо ідзе, калі Ваш край будзе вызвалены ад улады шатанскага бязбожнага камунізму...".

Ягоныя прарочыя словы асталіся паміж намі. Госпад Бог паклікаў яго ў лепшы сьвет, дзе няма балесьці, смутку й стагнаньня, каб спачываў з душамі праведнікаў. Няхай гэтая біяграфічная даведка будзе вянком з суквецьцяў нашых найлепшых успамінаў на ягоную магілу...

* * *

Архіепіскап Міхаіл нарадзіўся ў Туцьдах Канстанскіх (Заходняя Трацыя) 27 траўня 1892 году. Ад 1907 да 1914 году ён студыяваў тэалёгію ў Патрыярхальнай Тэалёгічнай Акадэміі на турэцкім абтоку Халкі. Ад 1915 да 1919 году ён паглыбляў тэалёгічныя веды ў Пецярбурзе й Кіеве, дзе быў сьведкам бальшавіцкае рэвалюцыі. У 1919 годзе ён выехаў з Расеі ў Канстантынопаль, дзе быў высьвечаны ў сан сьвятара й прызначаны ў царкву Сьв. Сьцяпана. У лістападзе таго самаго году Канстантынопальскім Сынодам ён быў прызначаны патрыяршым пасланьнікам у Камотын (Трацыя). Там ён аставаўся да 1923 году, спаўняючы наўзорна свае абавязкі. У 1923 годзе ён быў прызначаны сакратаром архідыяцэзыі Атэнаў і ўсяе Грэцыі. На гэтым становішчы ён аставаўся да 1927 году, калі быў прызначаны настаяцелям Грэцка-Праваслаўнага сабору Сьв. Сафіі ў Лёндане. На гэтым становішчы ён аставаўся да 1939 году. Сьвяшчэнным Сынодам Грэцыі ён быў прызначаны кіруючым архірэем апостальскага абтоку Карынт, дзе епіскапскі пасад быў заснаваны Сьв. апосталам Паўлам. Праз дзесяць год пасьля гэтага, 11 кастрычніка 1949 году Сьвяшчэнным Сынодам Сусьветнае Патрыярхіі ён быў прызначаны архіепіскапам і экзархам для Паўночнае й Паўдзённае Амэрыкі. На гэтым становішчы ён зьмяніў архіепіскапа Атэнагора, які заняў становішча Сусьветнага патрыярха. Згодна з вымогамі свайго становішча архіепіскап Міхаіл прыняў амэрыканскае грамадзянства. У саракавых гадох ён кіраваў зборам матар'яльнае дапамогі грэцкім дзецям, пацярпеўшым ад камуністычнае партызанкі ў Грэцыі.

Шэраг унівэрсытэтаў надалі архіепіскапу Міхаілу ганаровыя доктарскія тытулы. Вось некаторыя зь іх: доктар тэалёгіі Йельскага унівэрсытэту, доктар тэалёгіі Тэалёгічнае сэмінарыі Сьв. Уладзімера, доктар тэалёгіі Агульнае Тэалёгічнае Школы. У 1954 годзе архіепіскап Міхаіл рэпрэзэнтаваў Сусьветнага патрыярха на Другім зьездзе Сусьветнае Рады Цэркваў у Эванстон (Іліной). У адзнаку дакананых заслугаў ён быў выбраны адным з шасьці прэзыдэнтаў Сусьветнае Рады Цэркваў. На гэтым становішчы ён прымаў самы жывы ўдзел у рэлігійным руху ў напрамку аб'яднаньня хрысьціянскіх Цэркваў, апрача Рыма-каталіцкае. Падчас апошняе інаўгурацыі прэзыдэнта Д. Айзэнгаўэра архіепіскап Міхаіл быў адным з чатырох духаўнікоў, выконваўшых рэлігійны абрад. Пасьля сьмерці архіепіскапа Міхаіла прэзыдэнт Д. Айзэнгаўэр прыслаў дня 17 ліпеня гэтага году на рукі епіскапа Гэрмагэна, спачуваньне, у якім пісаў:

I was greatly distressed to learn of his passing. I had valued his friendship for many years. As I said in the public statement I issued on Monday (July 14) the members of the Greek Orthodox Church of North and South America and indeed all the people of the world – have suffered the loss of a great spiritual leader.

With deep personal sympathy.
Sincerely,
Dwight D. Eisenhower

Беларусы ў Амэрыцы, даведаўшыся аб сьмерці свайго духоўнага апякуна, ад беларускіх арганізацыяў выслалі сваё спачуваньне ў экзархат і прынялі ўдзел у апошняй паслузе: дня 16 ліпеня гэтага году ў Грэцкім катэдральным саборы ў Нью Ёрку каля труны архіепіскапа Міхаіла яны зложылі вянок і на чале з а. протапрэсьвіцерам М. Лапіцкім адслужылі паніхіду. Дня 24 ліпеня з экзархату атрыманы наступны ліст:

The Byelorussian Greek-Orthodox Church in USA
187 Whitehead Avenue
South River, New Jersey

Dear Brothers in Christ:

On behalf of the Greek Archdiocese and our Greek Orthodox Church of North and South America, we thank you wholeheartedly for the beautiful floral wreath which expressed so well your sentiments on the death of our beloved late Archbishop Michael.

Very sincerely yours,
Acting Archbishop of the Greek Archdiocese
(-) Bishop Germanos Polyzoides

# 350-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ КН. КАНСТАНТЫНА КАНСТАНТЫНАВІЧА АСТРОЖСКАГА

Царкоўная вунія на Беларусі – трагэдыя, якую наш народ пережыў у гістарычнай мінуўшчыне

У гэтым годзе прыпадае 350-гадовы юбілей князя Канстантына Канстантынавіча Астрожскага, які памёр у 1608 годзе, пражыўшы 82 годы. 350 год таму назад адышоў у вечнасьць апошні слаўны абаронца Праваслаўнай Царквы з роду князёў Астрожскіх.

На працягу XIV–XVI стагодзьдзяў род князёў Астрожскіх, зь якіх паходзіў Сьв. Прэпадобны цудатворац Фёдар (1442), уславіўся сваёй любоўю да Праваслаўнай Царквы й моцна бараніў яе ад рыма-каталіцка-польскага наступу. Архіепіскап Мялецій Сматрыцкі ў сваім творы „Трэнас" (1610) называе род князёў Астрожскіх „бясцэнным каменем, бліскучым, як сьвяцільнік між іншымі пэрламі, як сонца між зорамі ў кароне на галаве" Ўсходняй Праваслаўнай Царквы.

Паходжаньне роду князёў Астрожскіх дакладна ня выясьнена. Польскія гісторыкі звычайна выводзіць іх ад караля Данілы Галіцкага, а ўкраінскі гісторык М. Максімовіч – ад князёў Тураўскіх і Пінскіх, каторыя сваё імя атрымалі ад сваёй удзельнай сталіцы Астрогу.

Да XVI стагодзьдзя пра князёў Астрожскіх мала ведама. Пачынаючы з паловы XVI стагодзьдзя па простай радаслоўнай лініі да князя Канстантына Астрожскага ў родзе князёў Астрожскіх ідуць князі: Даніла, Фёдар, Васіль, Іван, Канстантын і, нарэшце, князь, якому прысьвечаны гэты артыкул, Васіль-Канстантын. Пры хрышчэньні яму далі імя Васіль, а пазьней, паводле княжай традыцыі таго часу, у чэсьць слаўнага бацькі сталі зваць яго Канстантынам. Згодна гэтаму ў гісторыі ён ведамы як князь Канстантын Канстантынавіч Астрожскі.

Князь Канстантын Астрожскі нарадзіўся ў Тураве ў 1526 годзе. Бацька яго – ваявода Троцкі й гэтман Вялікага Княства Літоўскага, які ў 1514 годзе пад Оршай пабіў войска Масквы й на гэту інтэнцыю ў Вільні пабудаваў у чэсьць Сьв. Тройцы царкву. Памёр ён у 1530 годзе, калі сыну было чатыры гады. Выхаваньнем малога князя занялася матка з дому князёў Слуцкіх, якія вызнавалі праваслаўную веру свайго беларускага народу й славіліся пабудовай Сьв. Троіцкага манастыра, каторы на Беларусі ў свой час быў рэлігійна-асьветным цэнтрам. Пад апекай маткі ў атмасфэры любові да Праваслаўнай Царквы рос і ўзгадоўваўся малады князь, каторы пасьля стаўся слаўным абаронцам Праваслаўнае Царквы й яе вернікаў ад вуніяцка-польскага ўціску, займаючы

ад 1560 году аж да сваёй сьмерці высокае становішча Кіеўскага ваяводы. Багацейшы за самаго польскага караля, ён на свае сродкі будаваў праваслаўныя цэрквы, адчыняў школы й друкарні, бо ведаў, што Праваслаўная Царква й асьвета – гэта ёсьць адзіная сіла, якая можа супроцьставіцца вуніяцка-польскай акцыі. Горад Астрог, у якім была адчынена Акадэмія й надрукавана Біблія 1581 году, за часоў князя Канстантына становіцца рэлігійна-асьветным цэнтрам.

Ушаноўваючы несьмяротныя заслугі князя Канстантына Астрожскага ў 350 гадавіну яго ўпакаеньня, нізка сьхіляем перад ім свае галовы, як перад абаронцам Праваслаўнай Царквы, і адначасна лічым сваім царкоўна-нацыянальным абавязкам прыпомніць у нашы часы, для нашага нацыянальна-царкоўнага ўсьведамленьня, якіх па веры бацькоў мы дзеці й як павінны насьледаваць іх, каб „бацькі ў сынох і сыны ў бацькох перабывалі".

Пачынаючы з XIII стагодзьдзя на літоўска-беларускай зямлі заўсёды спатыкаліся дзьве найбольшыя галіны хрысьціянства: праваслаўе й рыма-каталіцтва. Праваслаўе зьявілася шмат раней (988) на Беларусі, чым рыма-каталіцтва. І гэта не было прыпадковым ці накінутым фактам у жыцьці нашага народу, але зусім натуральным вынікам ходу тагачаснага жыцьця. Праваслаўе на беларускіх землях да XIII стагодзьдзя здолела глыбока ўвайсьці ў жыцьцё нашых прадзедаў і сталася роднай беларускай верай. Яе вызнавалі як просты народ, так і ўсё баярства й князі.

Праваслаўная Царква ў XIII стагодзьдзя была нацыянальнай Царквой беларускага народу ў той час, калі Рыма-каталіцкая Царква толькі пачала сваю дзейнасьць на Беларусі й да Ягайлы ня мела посьпеху. Толькі пасьля Крэўскай вуніі (1386), якая праз шлюб вялікага князя літоўскага Ягайлы з польскай каралеўнай Ядвігай прыносіць збліжэньне Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай, хрост літоўцаў і заснаваньне каталіцкага біскупства, пачынае шырыцца рыма-каталіцтва.

Ад гэтай пары польска-літоўскія каралі, якія знаходзяцца пад уплывам польскага рыма-каталіцкага духавенства, заўсёды падтрымліваюць Рыма-каталіцкую Царкву, каторая пасьля Гарадзельскай вуніі лічыцца ўпрывілеяваным веравызнаньнем і шырыцца ня толькі сярод паган Жмудзі й Аўкштоты, але й сярод сацыяльна вышэйшых праваслаўных беларускіх пластоў. Ад гэтай пары польска-літоўскія каралі сваімі граматамі часам сьцьвярджаюць роўнае трактаваньне абедзьвюх рэлігіяў. Але адначасна з гэтым выдаюць і пастановы, варожыя для Праваслаўнай Царквы, згодна якім Праваслаўная Царква станавілася другараднай, а яе вернікі ўразаліся ў палітычных правох. Асабліва гэта практыкуецца пасьля палітычнай Люблінскай вуніі (1569) ды прыходу

езуітаў, якія былі галоўнай пружынай уціску й перасьледу праваслаўя й беларускасьці. Уціск Праваслаўнай Царквы й коштам яе пашырэньне рыма-каталіцтва й палянізацыі з гэтага мамэнту хутка ідзе ўперад сярод магнатаў, баяраў і шляхты.

Аднак шырокія пласты беларускага грамадзтва (сяляне й мяшчане) моцна трымаліся сваёй праваслаўнай веры й сваёй нацыянальнасьці. З мэтай акаталічаньня й палянізацыі гэтай вялікай часткі беларусаў палякі й Ватыкан (па думцы езуіта Пассэвіна), каб лягчэй перацягнуць на свой бок, застасавалі ўвядзеньне рэлігійнай вуніі Праваслаўнай Царквы з Каталіцкай, як пераходнага маста для пазьнейшага акаталічаньня й апалячаньня вуніятаў беларусаў. Польска-каталіцкі кароль, Ватыкан, езуіты й польскія грамадзкія колы ў змове з вышэйшай гіерархіяй Праваслаўнай Царквы, штучна падабранай для гэтай мэты, пачалі патаемна праводзіць падрыхтоўку да царкоўнай вуніі, стасуючы да Праваслаўнай Царквы ўціск і тэрор.

Аднак нічым столькі не прынясьлі польска-літоўскія каралі крыўды й шкоды Праваслаўнай Царкве, як прысвоеным сабе правам „патранацтва". Дзякуючы праву „патранацтва", яны, а таксама абшарнікі (на сваіх абшарах), былі вярхоўнымі ўладарамі ўсіх царкоўных земляў і раздавалі іх па свайму погляду розным епіскапам, архімандрытам і духаўнікам. Такая эканамічная залежнасьць ад рыма-каталіцкіх каралёў і абшарнікаў, якія імкнуліся акаталічыць, а разам з гэтым і спалянізаваць праваслаўнае беларускае насельніцтва, цяжка адбівалася на палажэньні гіерархіі й вельмі моцна ўплывала на яе штучны падбор. Дзеля гэтага няма нічога дзіўнага, што ў XVI стагодзьдзя мітрапаліты й епіскапы не стаялі на вышыні свайго палажэньня і ў бальшыні выпадкаў глядзелі на свае катэдры з утылітарнага пункту гледзішча, займаючы іх без належнай падрыхтоўкі й вельмі часта з парушэньнем царкоўных канонаў. Так, у 80-х гадох XVI стагодзьдзя першасьвяціцельскую катэдру займаў шляхціч Анісіфор Дзевачка, які быў дваяжэнцам і дакладна няведама, якую вызнаваў веру. За яго часоў епіскапы жылі з жонкамі, а духаўнікі дваяжэнцы й трыжэнцы ды высьвячаныя ім праступнікі „дерзностно літургісалі". Зразумела „мнящыеся быці сьвяціцелі, сущчыі же по існціне скверніцелі", штучна падабраныя польска-літоўскімі каралямі, зрабілі вялікі разлад у царкоўным жыцьці й самі „влекомые большею алчбою і жаждою дастаткаў", страціўшы аўтарытэт у вачох праваслаўнага грамадзства, у 1596 годзе на саборы ў Берасьці здрадзілі Праваслаўную Царкву на чале зь мітрапалітам Рагозаю і ўступілі ў вунію, прызнаўшы над сабой уладу папы Клімэнта VIII.

Здабыўшы подступам вышэйшую гіерархію, „вунійная місія", задуманая й праводжаная зь імем Хрыста на вуснах, але зусім не ўласьцівая,

„чуждая" Яго навуцы й духу хрысьціянства, ніяк не магла захапіць народную масу, якая ведала, што з царкоўнай вуніяй вяжацца нешта нячэснае, прадажнае й чужое. Дзякуючы гэтаму, пры самых сваіх народзінах царкоўная вунія апынулася паміж двома варожымі ёй лягерамі. З аднаго боку – Канстантынопальскай Патрыярхіяй, а з другога боку – шырокімі народнымі масамі, зарганізаванымі ў брацтвы (Віленскае, Львоўскае й іншыя) на чале з князем Канстантынам Астрожскім, які ў сваёй грамаце-пасланьні да беларускага і ўкраінскага народу ў 1595 годзе пісаў:

„У нынешніх часах, усехітрымі ходамі ўселукавага дзіявала, галоўныя начальнікі нашай веры, спакушаныя славаю гэтага сьвету ды зацьмённыя хцівасьцю сластолюбства, нашы няверныя пастыры, мітрапаліт і епіскапы, пакінулі нашых сьвятых патрыярхаў і перакінуліся на лацінскую старану. Ператварыўшыся ў ваўкоў, яны патаёмна згадзіліся паміж сабой, акаянныя, як Хрыстапрадаўца Юда з жыдамі, адарваць праваслаўных хрысьціян гэтай вобласьці бязь іх ведама і ўцягнуць з сабой да загібелі. Дзеля таго, што бальшыня люднасьці гэтага краю, асабліва-ж праваслаўныя хрысьціяне, да пэўнай меры ўважаюць мяне абаронцам праваслаўя, і таму, што мне страшна перад Богам і перад вамі, дарагія браты, узяць якую-небудзь часьціну віны на маю галаву, даваджу да ведама ўсіх разам і кожнага ў аддзельнасьці, што я пастанавіў цьвёрда стаяць у саюзе з вамі, супроць гэтых ворагаў нашага спасеньня. Што можа быць больш бессаромнага, больш несправядлівага, калі тых шасьцёх ці сямёх людзей, што, як разбойнікі тайна змаўляюцца, пакідаюць нашых пастыраў-патрыярхаў; нас не пытаючы, заплутываюць у гэту здраду, нас праваслаўных... Нашто слухаць такіх людзей? Калі соль выдахлась, то яе трэба выкінуць і патаптаць нагамі..."[1].

Праваслаўны беларускі і ўкраінскі народ адкінуў рэлігійную вунію й гіерархаў-вераадступнікаў, „вытахшую соль ... выкінуў і патаптаў нагамі". Паралельна з вуніяцкім саборам у 1596 годзе ў Берасьці, пад старшынствам протасінкела Нікіфар, экзарха Канстантынопальскай Патрыярхіі, адбыўся праваслаўны сабор, які асудзіў мітрапаліта й епіскапаў, прыняўшых вунію, і, пазбавіўшы іх духоўнага сану, пастанавіў не падпарадкавацца вуніі, а супроцьставіцца ёй усімі магчымымі сродкамі. Адначасна з гэтым сабор пастанавіў выслаць паслоў да караля й прасіць яго зацьвердзіць нізлажэньне епіскапаў-вераадступнікаў.

Вунію на Беларусі праводзілі чужыя дзейнікі: польскі кароль і Ватыкан. Дык няма нічога дзіўнага, што пасольства да караля ад Берасьцейскага Праваслаўнага Сабору ў 1596 годзе ня мела посьпеху. Кароль

---

[1] Акты, относящіеся к исторіи Западной Россіи, собранные и изданные археологическою комиссіею, С.-Петербург, 1869, т. 4, с. 100.

польскі Сыгізмунд III, як і трэба было спадзявацца, акружной граматай 15 сьнежня 1596 году зацьвердзіў пастановы Берасьцейскага вуніяцкага сабору й адначасна тэй-жа самай граматай прызнаў няпраўнымі ўсе пастановы Берасьцейскага праваслаўнага сабору. Праваслаўная Царква гэтым актам пастаўлена была па-за правам. Старшыня сабору протасінкел Нікіфар, экзарх Канстантынопальскай Патрыярхіі, быў схоплены (1597) палякамі й замораны голадам у Марыенбурскай вязьніцы. Пасьля гэтага вунія ўводзіцца ў жыцьцё пры помачы жахлівага тэрору і ўціску. Кульмінацыйным пунктам тэрору былі часы вуніяцкага архіепіскапа Язафата Кунцэвіча. Пагромы й адбіраньне праваслаўных цэркваў, забарона направы старых і пабудовы новых цэркваў, забойствы праваслаўных духаўнікоў і вернікаў былі штодзённым зьявішчам. Падобныя злачынствы выклікалі вялікую нянавісьць да Я. Кунцэвіча, і ён у 1622 годзе быў забіты ў Віцебску беларусамі. За гэта 19-ці беларусам адсеклі галовы, а 100 іншых, якія ўцяклі, асудзілі на сьмерць завочна. За свабоду рэлігійнага сумленьня праваслаўны беларускі народ распачаў барацьбу, якая цягнулася стагодзьдзі й не дала палякам магчымасьці зьнішчыць праваслаўя й асыміляваць беларусаў, дзякуючы вытрываласьці беларускага народу, яго глыбокай пашане да сваёй веры й нацыянальнасьці. А таму дарэмна сягоньня працуе той, хто думае зьнішчыць нашу праваслаўную веру ды прышчапіць вунію. Наш беларускі народ ня прыме вуніі. Так, як ён не прыняў яе ў гістарычнай мінуўшчыне. Царкоўная вунія на Беларусі – трагэдыя, якую наш народ перажыў у гістарычнай мінуўшчыне, і да яе ніколі ня вернецца. Верай беларускага народу была й ёсьць вера праваслаўная, і яна на Беларусі народная й векавечная!

## ЯШЧЭ АБ КРЫВІЦКАЙ МАРАЛІ

Крывіцкая газэта „Беларус" прысьвяціла мне яшчэ адзін артыкул (ужо трэці) пад тытулам „Хвальшывае тлумачэньне"[1]. У гэтым „артыкуле", каб ня трэба было саромецца за тое, што напісана, згодна рэцэпту вуніяцкае газэты „Бацькаўшчына"[2] „аўтар", які заўсёды хаваецца пад псэўданім (бо ілжэ), піша: „Амінаючы ўсякае пустаслоўе аб вуніяцтве, даносах і ўсякіх іншых вінавачаньнях „крывічоў", хачу сказаць крыху аб продажы царквы, беручы пад увагу факты". Каб ня быць „пустаслоўным" аб вуніяцтве, даносах і продажы царквы, яшчэ раз змушаны ў беларускай прэсе парушыць гэтыя справы.

---

[1] „Беларус", № 61, Нью Ёрк, 1957, 30 верасьня, б. 6.

[2] „Бацькаўшчына", № 25–26 (359–360), Мюнхэн, 1957, 30 чэрвеня, б. 8

Беларуская праваслаўная грамадзкасьць даўно зварочвала ў сваёй прэсе ўвагу, што „чало" крывіцкага ўгрупаваньня, т. зв. БНР і БАПЦ Ул. Тамашчыка, заангажавана ў вуніяцкую акцыю, якую сягоньня Ватыкан праводзіць сярод беларускай эміграцыі. Аднак крывіцкая прэса пярэчыла гэтаму й за ўсякую цану старалася ўгаварыць наіўных, што М. Абрамчык, Ул. Тамашчык, сьвятой памяці Л. Рыдлеўскі ды й іншыя – гэта праваслаўныя беларусы, і нічога супольнага з вуніяй ня маюць. Закідаць „чалу" крывіцкага ўгрупаваньня вунію згодна крывіцкай прэсы – гэта „пэрфідыя" ды „бессаромная ілжа", а па цьверджаньню артыкулу „Хвальшывае тлумачэньне" – гэта пустаслоўе. Дык вось, пад развагу чытача падаю наступныя факты.

1. Крывіцкая газэта, выходзячая ў свой час у Канадзе, „Беларускі Эмігрант" у артыкуле „Грамадзкі бандытызм" пісала: „Бачыце, якая пэрфідная й бессаромная ілжа... Каму ня ведама, што інж. М. Абрамчык ёсьць праваслаўным?... Каму ня ведама, што інж. Л. Рыдлеўскі, гэты удзельнік Слуцкага паўстаньня, зьяўляецца праваслаўным"[3]. І далей: „Ну, і які-ж дурань, будучы каталіком, будзе падпісываць афіцыйную просьбу аб хіратанізацыі праваслаўнага епіскапа, сьціраваную да ўкраінскіх епіскапаў". У кастрычніку таго-ж самага 1953 году памёр святой памяці Лявон Рыдлеўскі, якога крывіцкая прэса называе праваслаўным і які падпісаў просьбу як праваслаўны да ўкраінскага епіскапату, каб высьвяцілі Ўладзіміра Тамашчыка на епіскапа, як самага дастойнага й адказваючага на гэта становішча „кандыдата". Пасьля паховін у вуніяцкім часапісе „Божым Шляхам" у артыкуле „Над сьвежай магілай інж. Лявона Рыдлеўскага" чытаем: „Ідучы на апэрацыю, ён рыхтаваўся на ўсякую эвэнтуальнасьць і выспавядаўся ў а. Фр. Чарняўскага, а пасьля апэрацыі, калі ўжо адчуў блізкую сьмерць, папрасіў лістоўна апошняга благаславенства ў Я. Э. Баляслава Слоскана, паспавядаўся й запрычашчаўся з рук рэктара Беларускай Каталіцкай Місіі ў Англіі а. Ч. Сіповіча"[4]. Не пустаслоўе, а праўдзівы факт. Падпісваецца Л. Рыдлеўскі як праваслаўны, а калі прыйшла сьмерць, спавядаецца не ў а. Аляксандра Крыта, а ў а. Сіповіча, а благаславенства просіць не ў Уладзіміра Тамашчыка, якога прасіў высьвяціць, а ў Я. Э. Баляслава Слоскана.

2. Прайшло яшчэ некалькі год і ў 1956 годзе на сьвятло выйшла заангажаванасьць у вуніі Ўладзіміра Тамашчыка. Беларуская газэта ў Канадзе „Беларускі Голас" піша: „Апошняя лістоўка Чыкагскага Камітэту Абароны беларускага праваслаўя з фотакопіяй лісту архіепіскапа Васіля з 2-га студзеня 1956 году да арганізатара гэтак званай „Беларускай

[3] „Беларускі Эмігрант", № 1 (49), Ашава,1953, 25 студзеня, б. 3.
[4] „Божым Шляхам", № 56 (195), Парыж, 1953, бб. 27–28.

Нацыянальнай Царквы" у Чыкага ставіць кропкі над „і". У сваім лісьце епіскап Тамашчык у адказ на запрашэньне прыбыць на высьвячэньне царквы сьвятароў а. І. Тарасэвіча й Я. Рэшэця піша: „...Мы на такую рэформу тымчасам надта слабыя... На маю думку, Вы не сьпяшайцеся з адкрыцьцем Вашае парафіі, зробіце гэта тады, калі ўжо паважна разбудуеце сваю культурную базу, калі будзеце мець каля сябе групу салідных людзей, а гэтым і базу свайго дзеяньня, калі пра Вас будуць ведаць і гаварыць. Словам, калі Вы станецеся моцнымі". І далей газэта піша: „Ня могучы сам адкрыта ўзяць удзел у арганізаваньні Чыкагскага разьбівацкага асяродку супроць праваслаўных, епіскап Тамашчык пасылае туды псаломшчыка й рэгента свае царквы з Кліўленду М. Куліковіча, каб падмацаваць культурную базу"[5].

Гэта не „пустаслоўе", а праўдзівы факт, які сьцьвярджае тое, што пад назовам крывіцкае БАПЦ крыецца й дзейнічае вунія. Страшная рэч! За яе др В. Войтэнка ўжо панёс кару, а рэшта вінавайцаў будуць адказваць калі ня тут на зямлі, дык там, на небе перад Богам, за гістарычныя „30 сярэбранікаў", аб якіх успамінае „аўтар" у артыкуле „Хвальшывае тлумачэньне".

3. Крывіцкія даносы таксама не „пустаслоўе", а праўдзівая рэчаіснасьць. Сягоньня ў Амэрыцы жывуць а. прот. Іван Жарскі, гасп. К. Вайцяхоўскі, Ф. Шыбут і інж. М. Ігнатовіч, якія разам зь іх сем'ямі былі затрыманы пры эміграцыі, дзякуючы толькі даносам крывічоў.

   Людзі гэтыя жывуць сярод нас, і кожны можа спраўдзіць праўдзівасьць пададзенага факту. Мала гэтага, крывічы не застанавіліся зрабіць данос нават на свайго аднадумца гасп. В. Рагажэцкага за тое толькі, што ён не згадзіўся зь іх той ці іншай устаноўкай, або паставіў двойку па матэматыцы дзіцяці крывіцкага „лідэра". І чалавек на старасьці год мусіў прасядзець даўжэйшы час у турме.

4. Летам 1946 году беларусаў з Рэгэнсбургу перавезьлі ў Міхэльсдорф. Пасьля пераезду з Рэгэнсбургу ў Міхэльсдорф старшыня Акруговага Беларускага Камітэту гасп. В. Кендыш зрабіў сход беларусаў і на гэтым сходзе запрапанаваў прадаць Рэгэнсбурскую царкву. Сход прапанову гасп. В. Кендыша адкінуў і тут-жа пастанавіў, што царква ў Рэгэнсбургу мусіць аставацца беларускай аж да таго часу, пакуль там будуць праваслаўныя, незалежна якой нацыянальнасьці. І далей гэты-ж сход пастанавіў, што калі праваслаўных людзей ня будзе, аб лёсе царквы мусіць задэцыдаваць епіскапат на чале зь мітрапалітам Панцялейманам, якому й пасьля адыходу ў Праваслаўную Расейскую Зарубежную Царкву падлягала Рэгэнсбурская царква. Вышэй

[5] „Беларускі Голас", № 29, Таронта, 1957, б. 2.

сказанае добра знаюць беларусы зь Міхэльсдорфу ды й крывічы. А таму ніхто не пратэставаў, калі ў 1949 годзе адбылася прадажа царкоўнага будынку празь мітрапаліта Панцялеймана. І толькі цяпер, калі прайшло 8 год, каб ударыць а. М. Лапіцкага, крывічы згодна сваёй крывіцкай маралі, лёгікі й права пачалі расьпісваць гэту справу.

На маю просьбу дзеканат Евангеліцка-Лютэранскай Царквы ў Рэгэнсбургу, дня 12 ліпеня 1957 году прыслаў мне копію акту прадажы царквы, якую, дэмаскуючы крывіцкую мараль, падаю да агульнага ведама:

„Abschrift

Metropolit Pantelejmon Schleissheim-Flug Platz bei München.

22. September 1949

Bestätigung

Hiermit bestätige ich als Metropolit von der Orthodoxen Weissrutheni-schen Kirche Pantelejemon Roschnowsky folgendes:

Mit Einverständnis des Metropolitanen Rates der Weissruthenischen Kirche vom 12.IX.1949, weil die Weissruthenische Gemeinde in der Stadt Regensburg liqudiert ist, verkaufte ich die hölzerne Barake ehemalige Kirche in Ganhofer Siedlung, Ludwig Thomas Strasse 1, wie man auf zugegebene Aufnahme sieht, dem Vertreter der Evang. Luther. Kirchen Gemeinde im Oberstadt Regensburg, dem Stadtpfarrer Friedrich Kaeppel für die Summe zwei tausend und drei hundert Mark (2.300), mit Bedingung, dass diese Barake nur als die Kirche für die Evang. Gemeinde im Bad Abbach b. Regensburg benutzt wird. Das Geld 2.300 Mark (zwei tausend und drei hundert Mark) habe ich erhalten und damit habe ich alle Rechte auf diese Barake übergeben.

Siegel, Metropolit Pantelejmon

Die Unterschrift des Metropoliten Pantelejmon bestätige ich hiermit: Siegiel, Erzbischof Benedykt.

Die Richtigkeit der Abschrift wird hiermit bestätigt: Regensburg, den 6. Dezember 1957.

Siegel, Evang.-Luth. Pfarramt Regensburg Dreleinigkeitskirche Silberne Fischgasse 9 Weber".

5. На запытаньне „аўтара" артыкулу „Хвальшывае тлумачэньне", ці Статут Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы 1942 году прадбачвае адыход мітрапаліта Панцялеймана з усімі епіскапамі ад БАПЦ у Расейскую Зарубежную Царкву, адказываю: не, не прадбачвае. Таксама, як не прадбачвае БАПЦ Ул. Тамашчыка, якую на эміграцыю стварыла „чало" крывіцкага ўгрупаваньня, рыма-каталікі й вуніяты: кс. Ч. Сіповіч, кс. П. Татарыновіч, кс. І. Тарасэвіч,

кс. Я. Рэшэць, кс. Л. Гарошка, гасп. гасп. А. Адамовіч, А. Бяленіс, Будзькі, Б. Грабінскі, С. Грынкевіч, В. Грышкевіч, Б. Даніловіч, Ф. Кушаль, Я. Малецкі, В. Пануцэвіч, В. Тумаш, Я. Станкевіч, С. Станкевіч, Ханяўка й іншыя, для якіх Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква непатрэбна. На сягоньняшні дзень „чалу" крывіцкага ўгрупаваньня патрэбна толькі манція праваслаўнага епіскапа й раса сьвяшчэньніка, каб рабіць свае груповыя крывіцкія махінацыі ды раскладаць Беларускую Праваслаўную Царкву ў сярэдзіне. А для гэтага яны й стварылі БАПЦ Тамашчыка.

Калі-б гэтым былым польскім урадоўцам ды сынкам польскіх вуйтаў на сэрцы ляжала беларуская справа, яны-б сарганізавалі свой Беларускі Рыма-каталіцкі, або Каталіцкі Нацыянальна-Беларускі Касьцёл. Для беларускай справы гэта мае такое самае значэньне, як і Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Беларускага Рыма-каталіцкага Касцёлу няма, і Рымскі папа Піус XII у сваім лісьце з 1952 году да „народаў Расеі" пра беларусаў не ўспамінае. Папа Піус XII ня знае Беларусі. Беларусь для яго й сягоньня – гэта „область России". Чыя віна ў гэтым? Зразумела, крывіцкага „чала", якое замест таго, каб заняцца сваімі рэлігійнымі справамі, умешваецца ў праваслаўныя й па загаду польскай агентуры, згодна лёзунгу „дзялі й пануй", прапагуе для нас, як „збаўленьне", вунію. Само-ж яно Беларускага Касьцёлу не арганізуе, і ўсё „чало" крывіцкага ўгрупаваньня бяз вынятку, згодна сваёй крывіцкай маралі, лёгікі й праву належыць да Польскага Касьцёлу.

6. Праваслаўныя беларусы не прызналі адыход мітрапаліта Панцялеймана з усімі епіскапамі з БАПЦ у Расейскую Зарубежную Царкву, так як не прызналі й крывіцкай „аўтакефаліі" на чале з Уладзімерам Тамашчыкам. Перасяліўшыся зь лягероў ДП на сталае месца свайго жыхарства, праваслаўныя беларусы пад юрысдыкцыяй Сусьветнай Канстантынопальскай Патрыярхіі як Царквы-Маткі, па ўсяму вольнаму сьвету арганізуюць беларускія прыходы, незалежна ані ад Масквы, ані ад Варшавы. Пры арганізацыі вышэй успомненых беларускіх праваслаўных прыходаў актыўны ўдзел прыходзіцца браць і мне. І гэта ёсьць той прычынай, дзеля якой ворагі Беларускай Праваслаўнай Царквы вуніяты ў сваёй крывіцкай прэсе ўдзяляюць мне ўвагу й згодна сваёй маралі ілжыва прыпісваюць тое, чаго ў сапраўднасьці ня было.



# „СЬЦЕРАЖЫЦЕСЯ ІЛЖЭПРАРОКАЎ...”

Каталіцкая прэса ў беларускай мове („Бацькаўшчына”, „Зьніч”, „Беларуская Царква”) аднагалосна адзначыла хіратонію ксяндза Часлава Сіповіча ў сан вуніяцкага епіскапа як здарэньне гістарычнае вагі, расчыняючае перад беларусамі новыя гарызонты. Пэўна-ж, хіратонія каталіцкага ксяндза ў сан епіскапа для вунійнае акцыі сярод праваслаўных не зьяўляецца штодзённым здарэньнем, але ў практыцы Ватыкану гэта ня новае зьявішча. Аднак аб гэтым пагутарым пазьней. Зараз-жа затрымаемся на супэрлятывах ватыканскіх рыцараў пяра, якімі яны аздобілі хіратонію ксяндза Сіповіча.

„Нарэшце жаданьні беларусаў на чужыне сталіся рэчаіснасьцяй: папа Ян XXIII вызначыў беларускім епіскапам вельмі дастойнага айца др. Часлава Сіповіча, а ягонае высьвячэньне адбылося 4 жніўня 1960 году ў Мюнхэне (Нямеччына) у часе Сусьветнага Эўхарыстычнага Кангрэсу... . Высьвячэньне беларускага епіскапа на Сусьветным Эўхарыстычным Кангрэсе мае й агульнае палітычнае значэньне для нашага народу. Беларускае вызваленьне становіцца справай усяго сьвету”[1].

Дык вось даведываемся, што справу беларускага вызваленьня на міжнародны форум ня вынесьлі самі беларусы. Няма ў гэтым заслугі тых, што памерлі, каб жыла Беларусь. Гэта не будаўнікі Сакавіковага Акту, не дэлегаты Ўсебеларускіх Кангрэсаў, ня слуцкія паўстанцы, і не жаўнеры Беларускае Краёвае Абароны, і не сам беларускі народ вынесьлі праблему беларускага вызваленьня на міжнародны форум. Гэта, як відаць з вышэй прыведзенае вытрымкі ватыканскага паходжаньня, заслуга Рымскага папы, які ў асобе ягонага пакорнага слугі ксяндза Часлава Сіповіча выявіў міласьць да беларусаў.

Толькі-ж сапраўднасьць выглядае інакш: Ватыканскі пасад мае свае прыватныя пляны адносна пакорнага слугі, „вельмі дастойнага” а. др. Часлава Сіповіча. Адносна наяўнасьці гэтых плянаў ніякіх сумніваў не пакінуў маньсіньёр Майолі, які сказаў, „что возведение в сан белорусского епископа имеет очень большое значение для всей Католической Церкви”[2]. Вось у гэтым пляне мы й будзем разглядаць хіратонію ксяндза Часлава Сіповіча ў сан епіскапа для беларусаў.

Ватыкан на працягу ягонае даўгое й бурлівае гісторыі перажыў нямала ўпадкаў і ўздымаў. Бывала, што ля папскіх ног у Каносе ніцма

---

[1] „Беларуская Царква”, № 17, Чыкага, 1960, бб. 1–3.
[2] „Наше общее дело”, № 17 (105).

ляжаў імпэратар, але здаралася й так, што самым папам даводзілася ўцякаць з Рыму ды шукаць прытулку ў непрытульным Авіньёне. Бывала, што каралеўскія польскія гусары нясьлі славу Рымскага папы разам з польскімі сьцягамі на ўсход ды мячамі пісалі катэхізму на беларускіх, украінскіх і казацкіх сьпінах. Але здаралася й так, што непакорныя беларусы, украінцы й казакі выганялі з сваіх земляў і шляхту, і ксяндзоў, сьпяваючы праваслаўнае „Верую". Бывала, што для славы папскага пасаду ў імя сьвятое інквізыцыі палілі на вогнішчах „гэрэтыкаў і ведзьмаў". Але здарылася й так, што, пабачыўшы сапраўдны жахлівы твар Ватыкану, каталіцкі манах Марцін Лютэр вывесіў на дзьвярах Віттэнбэргскага касьцёлу антыпапскія тэзісы. І адыйшлі ад Ватыкану народы Эўропы: Ангельшчына стварыла сваю нацыянальную царкву, Нямеччына захапілася лютэранствам, кальвінізм пашырыўся ў Швайцарыі, навука Яна Гуса запанавала паміж чэхаў. Апірышчам Рыму на Захадзе сталася Гішпанія, якая дала Каталіцкаму Касьцёлу заснавальніка ордэну езуітаў Ігната Лаёлу ды легіён інквізытараў, сваімі зьверствамі пакрыўшых сябе й папскі пасад нявянучай ганьбай.

Вартаўнікам ватыканскіх інтарэсаў у Цэнтральнай Эўропе астаўся аўстрыяцкі імпэратар, які пад прэтэкстам абароны каталіцкае веры выразаў чэхаў пад Белай Гарою, захапіў у векавы палон іх край, а нацыянальнага героя Яна Гуса аддаў на зьдзек папскім інквізытарам. Гонар носьбіта каталіцкасьці на ўсходзе ўзяла на свае плечы Рэч Паспалітая. Але, як мы сказалі вышэй, польская шляхта насіла свае сьцягі на ўсход, але вельмі часта іх там пакідала ды бясслаўна ўцякала дамоў. У Ватыкане пераканаліся, што такую паважную для яго справу, як пашырэньне каталіцтва на ўсходзе, палякам даручыць нельга. На каталіцкім Алімпе вырашылі скарыстаць Польшчу як пляцдарм для наступу на праваслаўную цьвярдыню ўсходу Эўропы. Сюды былі кінуты найбольш выпрабаваныя каталіцкія сілы, але калі й яны пераканаліся ў тым, што атакай з фронту дабыць цьвярдыню праваслаўя ня ўдасца, тады стратэгі каталіцкае агрэсіі апрацавалі плян рэлігійнае вуніі.

Вузкія рамкі газэтнага артыкулу не дазваляюць даць гістарычны нарыс вуніі. Ды яно й не патрэбна. На гэтую тэму напісана шмат. І той, хто цікавіцца, знойдзе багаты матар'ял у кожнай бібліятэцы. На гэтым месцы мы лічым патрэбным расьцярушыць ману новааб'яўленых прарокаў вуніі для беларусаў. Мана гэтая палягае на тым, што каталіцкія ксяндзы цьвердзяць нам, быццам вунія – гэта нацыянальная беларуская рэлігія. У сутнасьці вунія не зьяўляецца рэлігіяй наагул, а беларускай рэлігіяй – і пагатоў.

Гістарычная доля беларускага народу ўлажылася так, што ён у 988 годзе ад грэкаў прыняў праваслаўную веру. Ад гэтай гістарычнай даты

(988) да Берасьцейскай вуніі (1596) прайшло больш чымсьць шэсьць стагодзьдзяў. На працягу гэтых стагодзьдзяў праваслаўная вера глыбока зашчапіла рэлігійныя карэньні ў душу беларускага народу й сталася яго нацыянальнай рэлігіяй шмат раней, чымсьць нашаму народу чужыя дзейнікі (Ватыкан і Польшча) накінулі вунію, якую ён не прыняў. На Беларусі, ды й на эміграцыі, сягоньня няма сярод беларусаў вуніятаў, бо вунія не зьяўляецца рэлігіяй.

Мы гаворым гэтак таму, што вунія ня мае сваіх дагматаў, канонаў, філязофіі, звычаяў, абрадаў. З дагматычнага пункту гледжаньня вунія – гэта той самы Каталіцкі Касьцёл, які з тактычных меркаваньняў карыстаецца ў рэгіянальным пляне абрадамі Царквы, якую ён хоча разбурыць.

Вось некалькі прыкладаў у доказ вышэй сказанага. Папа Пій X дазволіў прымаць у вунію праваслаўных духаўнікоў з пакіданьнем іх на займаных месцах пры праваслаўных цэрквах пад юрысдыкцыяй праваслаўных архірэяў і Пецярбурскага Сыноду. У літургіі дазволіў не прагалашаць „Filoque", не памінаць папу, дазволіў маліцца за Сынод. Адным словам, поўнасьцю сугучэць з праваслаўнымі формамі[3]. У гэты самы час каталікі спакушаюць расейскіх стараавераў і з гэтай мэтай стараюцца прыблізіцца як мага шчыльней да літургічных асаблівасьцяў даніканаўскае пары[4].

Інакш кажучы, вуніяты, калі гэта ім карысна, апранаюцца ў авечую скуру, а значыць робяць тое, перад чым перасьцерагаў Хрыстос, сказаўшы: „Сьцеражыцеся ілжэпрарокаў, каторыя прыходзяць да вас у авечай адзежы, а ў сярэдзіне ёсьць ваўкамі хіжымі" (Ев. Мацьв. 7, 15). Такім ваўком сярод праваслаўных у авечай адзежы зьяўляецца вуніяцкі ксёндз, няхай сабе і ў біскупскім сане, як Часлаў Сіповіч, калі апранецца ў вопратку праваслаўнага сьвяшчэньніка па тое, каб змыліць ягонае стада.

Рым, які па сваёй віне страціў уладу над душамі ягоных вернікаў на захадзе Эўропы, стараецца папоўніць згубленае за кошт Праваслаўнае Царквы на ўсходзе. З гэтай мэтай Ватыкан пасылае сваіх місіянераў пашыраць хрысьціянства ў хрысьціянскай краіне. Такім чынам, Ватыкан зьдзекуецца над Сьвятым Пісаньнем, дзе сказана: „Пры гэтым я стараўся дабравяшчаць ня там, дзе ўжо было ведама імя Хрыста, каб не будаваць на чужой аснове" (Рым. 15, 20).

Каб асягнуць сваю мэту, вуніяты не паўстрымоўваюцца нават перад супрацоўніцтвам з ворагамі Хрыста. Гэта відаць з таго, што каталіцкае духавенства вітала бальшавіцкую рэвалюцыю, якая разбурыла

[3] Arcyb. T. Karewicz, Z dziejów pracy unijnej w Rosji. Kościół Katolicki w Rosji, Warszawa, 1932.
[4] Ks. Dr D. Kołpiński, s. 27.

Праваслаўную Царкву, спарадзіўшы надзеі каталікоў захапіць праваслаўную спадчыну. Вось што сказаў езуіт Я. Урбан у 1930 годзе ў Пінску на канфэрэнцыі ў справе вуніі: „Калі-б некалі напярэдадні вайны нам нехта з поўнай упэўненасьцю прадказаў упадак зьвязываўшае рэлігійную свабоду царскае ўлады й паўстаньне з грабу Польскае рэспублікі, каталіцкага гаспадарства, дык, напэўна, з гэтым вобразам мы-б злучылі ў нашых надзеях таксама вобраз напружанай каталіцкай працы над наваротам усходніх дысыдэнтаў да царкоўнае еднасьці.

Бяссумніўна, у нашым уяўленьні рысаваўся-б таксама шыбкі працэс гэтага навароту й загадзя цешыў-бы дапушчальны рэзультат. Калі мы ня песьцілі ў нашых душах такіх малюнкаў, дык адзіна толькі таму, што не спадзяваліся такіх радыкальных палітычных зьменаў, якія неспадзявана пацягнула за сабою сусьветная вайна"[5].

Папскі экзарх для Расеі Леанід Фёдараў, зацьверджаны на гэткім становішчы папам Бэнэдыктам XV, у сакавіку 1921 году на Маскоўскім працэсе сказаў вось што: „Усё мае жыцьцё было абаснавана на двох пачатках – любові да Царквы, да каторае я належу, і любові да Радзімы, каторую я паважаю". Далей, адказваючы на запытаньне старшыні, суду ён сказаў: „Я хацеў сказаць, што ўрад нас не зразумеў. Нас пераcьледвалі пры царскай уладзе й мы мелі вялікія цяжкасьці пры Керанскім. Таму, калі адбылася кастрычніцкая рэвалюцыя, архіепіскап Ропп і ўвесь каталіцкі клер нарэшце вольна ўздыхнулі. Але ня менш усьцешыліся расейскія каталікі, бо толькі пры савецкім строі Грэцкакаталіцкая Царква была пастаўлена ў роўнае палажэньне зь іншымі вызнаньнямі. Таму я з захапленьнем спаткаў дэкрэт аб аддзяленьні царквы ад гаспадарства. Вітаў з радасьцю чалавека, які ненавідзеў праціўную прыродзе сувязь, якая існавала ў Расеі паміж царквою й гаспадарствам. Яшчэ больш быў шчасьлівы, калі ў 1918 годзе архіепіскап Э. Ропп атрымаў ад Бонч-Бруевіча запросіны прыняць удзел у камісыі, якая мела на ўвазе апрацоўку выканаўчага загаду аб аддзяленьні царквы ад гаспадарства"[6].

Дык вось яна, езуіцкая дыялектыка: сувязь паміж Праваслаўнаю Царквою й дзяржаўнаю ўладаю ў Расеі – „зьявішча, праціўнае прыродзе", але сувязь Каталіцкага Касьцёлу й дзяржаўнае ўлады ў Польшчы – зьявішча поўнасьцю заканамернае.

Ужо таго, што мы сказалі вышэй, дастаткова, каб пераканацца ў тым, што вунія не зьяўляецца рэлігіяй, а толькі пераходным мастом у каталіцтва. Пры гэтым галоўную стаўку каталікі ставяць ня толькі на

[5] Pamiętniki I-ej Konferencji Kapłańskiej w sprawie Unji Kościelnej w Pińsku. Pińsk, 1931, ss. 109–110.

[6] Гл.: „Oriens", Warszawa, 1935, s. 65.

беларусаў, а й на расейцаў. Гэта відаць з наступнага. У 1908 годзе ў Пецярбургу была заснавана вуніяцкая царква. Настаяцелем яе быў нехта Зерчанінаў, блізкі прыяцель езуіта Я. Урбана. Але, паводле апініі гэтага апошняга, справа ішла няважна[7]. Вуніяцкія акцыі ў Пецярбургу палепшыліся ў 1911 годзе, калі ў вунію перайшла Натальля Ўшакова, сваячка П. А. Сталыпіна, тады Старшыні Міністраў. Паводле словаў вунята Д. Калпінскага, Натальля Ўшакова „мела магчымасьць дабіцца некаторага маўклівага дазволу кіруючых сфэраў". А гэта абазначала вось што: „Гэты, на выгляд нязначны факт, быў у сапраўднасьці здарэньнем вялікага значэньня, бо пасьля ліквідацыі вуніі на заходніх землях славяна-каталіцкі звычай перастаў існаваць на тэрыторыі Расейскае імпэрыі й наагул ня быў прадугледжаны заканадаўствам"[8].

З вышэй сказанага відаць, што гутарка пра вунію як „беларускую веру" – гэта вельмі няўдалы камуфляж, за якім скрываюцца сапраўдныя намеры Ватыкану: пашырэньне каталіцтва як на Беларусі, так і ў Расеі. Расея заўсёды трывожыла сны рымскіх папаў, як краіна неабмежаваных магчымасьцяў для Рыму. Ужо да Івана Грознага падыходзілі каталіцкія эмісары й спакушалі яго ў каталіцкую веру. На нашых вачах разгортываецца акцыя „Pro Russia", якая з тактычных меркаваньняў прымае тыя ці іншыя формы, але мэта астаецца тэй самай: абгрунтаваньне каталіцтва ў Расеі. Беларуская акцыя Ватыкану й высьвячэньне ксяндза Сіповіча ў біскупскі сан – гэта толькі эпізод тае вялікае акцыі „Pro Russia". Вунія ў гэтай акцыі – толькі сродак. Чым у сапраўднасьці зьяўляецца вунія ў вачах каталікоў, відаць са словаў вуніяцкага мітрапаліта Руцкага: „Будзь ты хоць раскатолік, пасьвечаны ў сан самым найзаконьнейшым чынам, але калі ты вуніят, дык сьвятар, станавіся ніжэй лацінскага сьвятара, епіскап, станавіся ніжэй лацінскага епіскапа". Вунія ня здала гістарычнага іспыту. Аб гэтым аўтарытэтна сказаў Андрэй, епіскап Луцкі й Вялікі Канцлер Каронны: „Вунію стварылі надарма, не абдумаўшы, не разьведаўшы, ці жадае яе насельніцтва, лёгкадумна й каб толькі здаволіць ганарлівасьць паасобных людзей. І духавенства, і шляхта, і народ ей не спачуваюць". Наўсуперак гэтаму аўтарытэтнаму голасу свайго-ж чалавека, Ватыкан аднаўляе вунійную акцыю, адным зьвяном каторае зьяўляецца высьвячэньне ў епіскапскі сан для праваслаўных каталіцкага ксяндза Часлава Сіповіча. Аднак гэтая акцыя Ватыкану асуджана на правал у будучыні, таксама, як гэта здарылася ў мінуўшыне, бо гэтак судзіць Бог і гэтак хоча народ, які памятае словы апостала Паўла: „Чувайце, стойце ў веры, будзьце мужнымі й цьвёрдымі"[9].

---

[7] „Oriens", Warszawa, 1934, s. 107.
[8] Ks. Dr D. Kołpiński, op. cit., s. 27.
[9] I пасланьне Паўла да Карынфянаў: 16, 13.

# СУЧАСНАЕ СТАНОВІШЧА БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ Ў ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ...

Беларускае Нацыянальнае Аб'яднаньне ў Канадзе й Беларускі Кангрэсавы Камітэт у Амэрыцы запрасілі мяне прачытаць даклад на вышэй упамянутую тэму. Тэма дакладу, як бачым, дзеліцца на дзьве часткі. Першая зь іх закранае сучаснае становішча Беларускай Праваслаўнай Царквы ў вольным сьвеце. Другая частка асьвятляе патрэбныя мерапрыемствы для ўзьняцьця царкоўнага жыцьця.

Сучаснае становішча БПЦ у вольным сьвеце ня раз насьветлівалася беларускай прэсай на эміграцыі. І мне прыходзіцца паўтарыць тое, аб чым бальшыня з прысутных знае.

Беларускі народ у X стагодзьдзі ад грэкаў зь Візантыі прыняў праваслаўную веру й гэтым самым уліўся ў Сьвятую Праваслаўную Ўсяленскую Саборную й Апостальскую Царкву, якую тут на зямлі заснаваў Ісус Хрыстос.

Сьвятая Праваслаўная Ўсяленская й Апостальская Царква – гэта ўстаноўлены Богам саюз людзей зь Ім, задзіночаны верай, Сьвятымі Таінствамі, кананічнай царкоўнай гіерархіяй і ўзаемнай любоўю Госпада Ісуса Хрыста. Галавой Сьвятой Праваслаўнай Усяленскай й Апостальскай Царквы ёсьць Ісус Хрыстос. Сьвятая Праваслаўная Царква стаіць на чатырох стаўбах, а менавіта: на Сьвятым Пісаньні, на Сьвятым Праданьні, на дагматах і канонах. Калі дзе адкідаецца адзін з гэтых стаўпоў, там няма Праваслаўнай Царквы.

Сьвятая Праваслаўная Ўсяленская й Апостальская Царква складаецца з праваслаўных аўтакефальных Цэркваў, незалежных у сваім унутраным жыцьці, але спалучаных паміж сабой адзінай верай, адзінымі дагматамі й канонамі, адзінай малітвай, адзінай чашай, зь якой мы ўсе прычашчаемся, з аднаго й таго-ж Бажэсьцьвеннага Цела й Жыватварашчай Крыві Госпада Ісуса Хрыста. Кожная праваслаўная аўтакефальная Царква, якая ўваходзіць у склад Усяленскай Царквы, складаецца з кананічнай гіерархіі, духавенства й веруючых у Бога вернікаў.

Вельмі часта людзі на эміграцыі нармуюць сваю прыналежнасьць да Царквы мэтрыкай хрышчэньня, але Сьвятой Царквой гэтая прыналежнасьць ацэньваецца ступеньню рэлігійнасьці. Па-за Царквой знаходзіцца кожны той, хто ня моліцца Богу, не спавядаецца й не прымае Сьвятога Прычасьця. Па-за Царквой знаходзіцца кожны той, хто не вызнае праўды веры праваслаўнай, дагматаў й **царкоўных канонаў**. Людзі, якія стаяць па-за Царквой, ня маюць права браць голас у царкоўных справах або вырашаць царкоўныя пытаньні. **Тым**

**больш ня маюць права браць голас у нашым царкоўным пытаньні беларусы рыма-каталікі. Так як і мы, праваслаўныя беларусы, ня маем права ўмешвацца ў рэлігійныя справы рыма-каталікоў.**

Няхай беларусы рыма-каталікі ды беларусы, якія сваім жыцьцём стаяць па-за Царквой, ніколі не забываюцца аб тым, што Беларуская Праваслаўная Царква – гэта справа праваслаўных беларусаў, веруючых у Бога. А таму толькі праваслаўныя, веруючыя ў Бога беларусы, якія любяць сваю Беларускую Праваслаўную Царкву й нацыю аднолькава, як у мінуўшчыне, так і цяпер, самі мусяць вырашаць свае царкоўныя справы.

У пару нашае дзяржаўнасьці ў межах Вялікага Княства Літоўскага сам беларускі праваслаўны народ, калі Беларуская Праваслаўная Царква канчаткова вырасла да самастойнага жыцьця, на саборы ў Навагрудку ў 1415 годзе, захоўваючы кананы, абʼявіў аўтакефалію свае Царквы.

Далей, калі Актам 25 сакавіка 1918 году Беларусь была агалошана незалежнай дзяржавай, сам праваслаўны беларускі народ на чале зь мітрапалітам Мелхісэдэкам 23 ліпеня 1922 году на саборы ў Менску аднавіў аўтакефалію Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Падчас Другой сусьветнай вайны, не зважаючы на неспрыяльныя абставіны, сам праваслаўны беларускі народ на саборы ў Менску 2 верасьня 1942 году аднавіў аўтакефалію БПЦарквы.

Беларускі народ амаль увесь належыць да Праваслаўнай Царквы й праваслаўе вызнае як сваю нацыянальную веру. Народ наш надзвычай рэлігійны й таму свае традыцыі пабудаваў на хрысьціянскай маралі, а сваю маці Беларусь пакрыў прыгожымі праваслаўнымі цэрквамі. У кожным беларускім сэрцы гарыць полымя праваслаўнай веры Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, Сьв. Кірылы Тураўскага, Сьв. Віленскіх Мучанікаў Антона, Іаана й Аўстаха. Гэтае полымя веры ён бараніў, бароніць і будзе бараніць як на Бацькаўшчыне, так і на эміграцыі як найбольшую сьвятасьць.

Доля нашага народу, доля нашай Беларускай Праваслаўнай Царквы складвалася няпроста. Быў час найбольшага росквіту й поўнае незалежнасьці, і быў час упадку, а за ім і залежнасьць ад чужынцаў. Так сталася і ў выніку Другой сусьветнай вайны (1939 – 1945). Беларусь паняволіла савецкая Расея, а Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву – савецкая Маскоўская Патрыярхія.

З прычыны акупацыі Беларусі бальшавікамі ў 1944 годзе ўся гіерархія, шмат духавенства й вернікаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы пакінулі Бацькаўшчыну й выехалі на захад у Нямеччыну й Аўстрыю. На эміграцыі, да капітуляцыі Нямеччыны,

гіерархі БАПЦ захавалі сваю поўную самастойнасьць. Па заканчэньню-ж Другой сусьветнай вайны, калі надзея на паварот стала невялікай, беларуская гіерархія, абмінаючы духавенства й вернікаў, тайна распачала захады аб уваходзе іх у склад Расейскай Зарубежнай Царквы. Даведаўшыся аб гэтым, я, як старшыня Беларускага Цэнтральнага Дапамаговага Камітэту, а таксама й благачынны БАПЦ у Нямеччыне, 5 траўня 1946 году ў Рэгэнсбургу склікаў Праваслаўны зьезд, які прасіў Беларускі Епіскапат, каторы знаходзіўся на эміграцыі ў Тырсгайме (Баварыя), каб ён захаваў усю тую поўню сваёй арганізацыйнай самастойнасьці, зь якой ён прыбыў з Бацькаўшчыны, і не ўліваўся ані ў якой форме ў Расейскую Зарубежную Царкву.

Голас зьезду быў праігнараваны гіерархамі, і епіскапат БАПЦарквы ўліўся ў Расейскую Зарубежную Праваслаўную Царкву, а мяне, як арганізатара зьезду, забараніў у сьвяшчэннаслужэньні.

Факт уліцьця нашай гіерархіі ў РЗПЦаркву быў шкодным для нашай нацыянальнай справы, а яшчэ больш шкодным і балючым ён быў для нашае БАПЦарквы. У гэтым часе сярод беларускай эміграцыі аформілася й пачала дзеяць на чале з вуніяцкім духавенствам невялікае ўгрупаваньне, папулярна званае „крывічамі". Скарыстаўшы ўліцьцё беларускіх праваслаўных гіерархаў у РЗПЦаркву, вуніяцка-крывіцкія дзейнікі, якія распачалі прапагаваць вунію як нацыянальную веру беларускага народу, стварылі г. зв. БАПЦ і на чале паставілі чалавека свайго ўгрупаваньня, агранома Тамашчыка. Пры тварэньні гэтай т. зв. БАПЦ былі праігнараваны ўсе кананічныя асновы, неабходныя для паўстаньня аўтакефальнай царкоўнай адзінкі. Вуніяцкім дзейнікам, зразумелая рэч, расходзілася не аб дабры БАПЦарквы, а аб паніжэньні павагі самае аўтакефаліі БПЦ, а таксама аб выкліканьні нутраной барацьбы сярод праваслаўных беларусаў, каб яны, узаемна змагаючыся, паніжалі павагу праваслаўя, праваслаўнай гіерархіі ды духавенства. І такім чынам стваралі падатную глебу для пашырэньня вуніі сярод праваслаўных беларусаў, для якой сягоньня высьвечаны вуніяцкі епіскап Ч. Сіповіч.

Праваслаўныя беларусы не прызналі крывіцкай аўтакефаліі на чале з Тамашчыкам, як не прызналі і ўваходу сваіх епіскапаў у Расейскую Зарубежную Царкву. І ў краінах сталага пасяленьня (ЗША, Канада, Англія) яны заснавалі свае цэрквы ў юрысдыкцыі Канстантынопальскай Патрыярхіі. У Амэрыцы 23 лістапада 1950 году зьездам праваслаўных беларусаў, які адбыўся ў Саўт Рывэры, быў пакліканы да жыцьця Беларускі Праваслаўны Царкоўны Камітэт, які, згодна пастанове зьезду, зьвярнуўся да экзарха Канстантынопальскай Патрыярхіі з просьбай, каб ён прыняў у сваю юрысдыкцыю. Архіепіскап

Міхаіл, экзарх Канстантынопальскай Патрыярхіі, благаславіў ініцыятыву беларусаў і прыняў іх у сваю юрысдыкцыю.

Адначасна з гэтым пачаліся арганізоўвацца прыходы ў Канадзе й Англіі. Дзякуючы прыхільнасьці архіепіскапа Міхаіла й пры яго дапамозе быў арганізаваны прыход нават у Англіі. А таму ўшануем яго памяць уставаньнем і хвілінай цішы.

Зь бегам часу, калі былі арганізаваны прыходы й царкоўныя абшчыны ў Амэрыцы, Канадзе й Англіі, дня 31 жніўня 1958 году у Саўт Рывэры адбыўся Зьезд праваслаўных беларусаў, які пастанавіў:

1. Склікаць Зьезд праваслаўнага беларускага духавенства й вернікаў з усіх краін вольнага сьвету не пазьней, як на працягу аднаго году, з мэтай унармаваньня існуючых недахопаў у царкоўным жыцьці праваслаўных беларусаў вольнага сьвету.
2. Для часовага кіраўніцтва справамі Беларускай Праваслаўнай Царквы на эміграцыі й для скліканьня агульнага праваслаўнага царкоўнага зьезду з усіх краін вольнага сьвету паклікаецца Беларуская Праваслаўная Царкоўная Рада ў складзе:
   а) усіх духаўнікоў, працуючых на беларускіх праваслаўных прыходах у вольным сьвеце;
   б) па тры сьвецкія прадстаўнікі ад кожнага прыходу.
3. Ад беларускіх праваслаўных абшчын, у якіх яшчэ няма зарганізаваных прыходаў, на агульным праваслаўным царкоўным зьезьдзе, маюць быць дэлегаты.

Пастанова зьезду не праведзена ў жыцьцё да сягоньняшняга дня дзеля таго, што беларусы ў Чыкага, прадстаўнікі якіх на чале з а. Ул. Фіньќоўскім бралі ўдзел у зьезьдзе, праігнаравалі пратакол з дня 31 жніўня 1958 году, падпісаны тым-жа а. Ул. Фіньќоўскім. Яны праігнаравалі рэзалюцыю Зьезду й сваёй групай абʼявілі новую, т. зв. „аўтакефальную" БПЦ, высьвяціўшы ў архіепіскапы Грыгорыя Агійчука ды а. Ул. Фіньќоўскага на т. зв. „епіскапа".

Такім чынам, на эміграцыі паўсталі дзьве т. зв. „аўтакефаліі": адна БАПЦ – на чале з Тамашчыкам, а другая БАПЦ – на чале зь Фіньќоўскім...

Пасьля гэтых падзеяў у Чыкага, згодна пастановы Царкоўнай Рады Беларускай Праваслаўнай Царквы з дня 30 жніўня 1959 году, Царкоўны Камітэт Сьв. Еўфрасіньнеўскай Царквы ў Саўт Рывэры й а. протапр. М. Лапіцкі зьвярнуліся да архіепіскапа Афанасія з просьбай, каб ён ачоліў Беларускую Праваслаўную Царкву на эміграцыі.

Дня 6 сьнежня 1959 году на супольным паседжаньні архіепіскап Афанасій сказаў: „У аснаўным я пагаджаюся. Але перад тым, як гэта зраблю, мусіць быць статут і аформлена кананічная плятформа для БПЦ, якая-б адпавядала мне й вернікам".

Падчас нарады й дыскусіі прыйшлі да высновы, што статутам можа быць Статут Беларускай Праваслаўнай Царквы, прыняты Аўтакефальным Саборам у Менску ў 1942 годзе, прыстасаваны да эміграцыйнага жыцьця, а плятформай адна з наступных двух:

1. Прасіць архіепіскапа Філафея ачоліць Беларускую Праваслаўную Царкву на эміграцыі. Калі-ж па тых ці іншых прычынах Філафей адмовіцца, прасіць яго зрачыся сваіх правоў Блюсьціцеля Мітрапалітальнага Прэстола БПЦ на карысьць архіепіскапа Афанасія, які выйдзе з Расейскай Зарубежнай Царквы й ачоліць Беларускую Праваслаўную Царкву, захоўваючы чыстым дагматычна-кананічны бок і ўсю тую поўню арганізацыйнай самастойнасьці, зь якой прыбылі з Бацькаўшчыны на эміграцыю;
2. Калі архіепіскап Філафей адмовіцца задаволіць нашу просьбу, прасіць Канстантынопальскага патрыярха даць нам Беларускі Экзархат, які ачоліў-бы архіепіскап Афанасій.

Але гэтай справай ніхто не займаецца, і пытаньне стаіць адчыненым.

Прадставіўшы сучаснае становішча Беларускай Праваслаўнай Царквы ў вольным сьвеце, пераходжу да другой часткі майго дакладу, а менавіта да разгляду патрэбных мерапрыемстваў для ўзьняцьця царкоўнага жыцьця. Гэтая справа ёсьць вельмі цяжкая. Цяжкая не таму, што гэтых мерапрыемстваў ня можна знайсьці. Знайсьці іх можна. Але прапанаваць іх для людзей, якія не вызнаюць канонаў Сьвятой Усяленскай Праваслаўнай Саборнай і Апостальскай Царквы – гэта „глас вапіюшчага ў пустыні", якога людзі, прыпадковыя ў царкоўнай аградзе, ня хочуць слухаць, кіруючыся матывамі асабістых амбіцыяў, каньюнктурных мажлівасьцяў і палітыканскіх камбінацыяў.

Надужываньне мажлівасьцямі „аўтакефаліі" ёсьць карыгодным і вялікім грахом супроць сьвятасьці Праваслаўнай Царквы. Надужываньне мажлівасьцямі „аўтакефаліі" для матываў асабістых, палітычных ці якіх іншых вядзе да самасьвяцтва, хаосу й падзелу. Яскравым доказам гэтага ёсьць паўсталыя дзьве беларускія т. зв. „аўтакефальныя" цэрквы: на чале з Тамашчыкам і на чале зь Фінькоўскім, якія не прызнаюць адна другой і якія па-за шыльдам нічога супольнага ня маюць з Праваслаўнай Усяленскай Саборнай і Апостальскай Царквой, а таксама зь Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой. Дзеля гэтага паўстаўшыя на эміграцыі т. зв. „аўтакефальныя" цэрквы не прызнаюцца Ўсяленскай Праваслаўнай Царквой, а таксама праваслаўнымі беларусамі, якія стаяць на кананічным шляху, знаходзячыся ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярха, і якіх канчатковай мэтай ёсьць адбудова Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы кананічнай дарогай.

Арганізуючы нашу Царкву на здаровых і кананічных падставах, мы гэтым самым кладзем моцны камень пад нашу аўтакефалію, а таксама пад наш нацыянальна-вызвольны рух. Мы імкнемся да гэтай мэты, але здаем сабе справу з павагі заданьня, якое ад нас вымагае паважнага падыходу й паважных людзей у епіскапскім сане. Перад намі стаіць сягоньня заданьне знайсьці паважнага й аўтарытэтнага кандыдата, які-б ачоліў нашу БПЦаркву й быў-бы адпаведным свайму высокаму архіпастырскаму служэньню. Вось гэта й зьяўляецца патрэбным мерапрыемствам для ўзьняцьця царкоўнага жыцьця.

Але гэта справа ўсіх праваслаўных беларусаў, а не справа аднэй групоўкі. У царкоўным жыцьці няма груповак, а ёсьць адна Царква, якая стаіць па-над групоўкамі. Ідучы дарогай груповак у царкоўным жыцьці, мы дойдзем да таго, што на эміграцыі паўстануць ня дзьве, а больш некананічных і фікцыйных т. зв. БАПЦэркваў, што зьяўляецца анармальным, шкодным і некананічным. Гэта адно. Другое – „кананічнасьць" як справа апостальская. „Самавольле" – справа дзіявальская, а дзеля гэтага яно павінна выкараняцца апостальскай кананічнасцю. А таму няхай т. зв. „аўтакефаліі" з сваімі „архіепіскапамі" адкінуць „самавольле", стануць на кананічную дарогу і ў нас на эміграцыі будзе адна Беларуская Праваслаўная Царква. У гэтым наша сіла як Царквы, так і нацыі.

## АДЗІНСТВА

Суадносіны рэлігіі й палітыкі належаць да тых справаў, аб якіх кажуць, што яны заўсёды актуальныя й заўсёды далікатныя.

Палітыка й рэлігія маюць супольны прадмет зацікаўленьня чалавека, але абсяг іхняга дзеяньня вельмі розны. Рэлігія займаецца душой чалавека, яе апошняю мэтаю й адносінамі да Бога. Палітыка-ж займаецца толькі дачасным жыцьцём чалавека ў яго грамадзкіх формах і ўзаемадачыненьнях.

Уся гісторыя людзтва ёсьць сьведкам, як часта й як блізка зыходзіліся й мяшаліся з сабою палітычныя й рэлігійныя справы. У некаторых дзяржавах у прошласьці вышэйшым кіраўніком рэлігіі быў адначасна кіраўнік дзяржавы. Такія суадносіны былі найлепшым выхадам, каб унікнуць супярэчнасьцяў, але яны былі магчымыя толькі тады, калі ў дзяржаве панаваў рэлігійны сьветапагляд.

У наш век поле дзеяньня палітыкі й рэлігіі, звычайна, тэарэтычна й практычна, востра разьмяжоўваецца. Сягоньня, за выняткам Кіпру, ува ўсіх дзяржавах кіраўнікамі рэлігіяў і дзяржаваў ёсьць розныя людзі. Кажам „рэлігіяў", бо цяпер рэдка дзе ў дзяржаве ёсьць адна

пануючая рэлігія. Калі-ж кіраўнічыя становішчы займаюць людзі, адпаведныя да сваіх заданьняў, дык яны знаходзяць супольную мову і ўмеюць быць узаемна памочнымі ў сваёй дзейнасьці для агульнага дабра сваёй нацыі. І наадварот, маецца справа, калі на кіруючых становішчах знойдуцца неадпаведныя людзі, тады паўстаюць розныя непаразуменьні, ад якіх церпіць увесь народ дадзенага краю.

Прычынаю непаразуменьняў між палітыкай і рэлігіяй могуць быць або ідэалягічныя разыходжаньні, або груповы падзел, або проста асабістыя інтарэсы. У першым выпадку немагчыма знайсьці супольную мову. Сягоньня мы зьяўляемся сьведкамі такога стану ў падсавецкіх краінах, дзе ўлада трымаецца бязбожнае ідэалёгіі й ня толькі ня думае шукаць супольнае мовы з рэлігіяй, але за ўсякую цану імкнецца зьнішчыць яе. З бальшавіцкай бязбожнай уладай нават здольны й вельмі рэлігійны кіраўнік на адказнай рэлігійнай пасадзе ня ў сіле знайсьці супольную мову. Наадварот, ён становіцца першай ахвярай перасьледу, і то тым больш жорсткага, чым больш будзе годным свайго духоўнага становішча. Прыкладам можа служыць Мелхісэдэк, мітрапаліт Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Перапоўненыя турмы й канцэнтрацыйныя лягэры за ўвесь час існаваньня гэтае бязбожнае ўлады сьведчаць аб тым, якое „шчасьце"народу яна можа даць.

Вялікім няшчасьцем для народу ёсьць ня толькі ваюючая бязбожная палітыка, якая змагаецца з рэлігіяй, але й такая палітыка, якая для сваіх нізкіх групавых альбо асабістых плянаў упрагае рэлігію (царкву) сабе на паслугі. Непаразуменьні з групавым і асабістым падкладам праяўляюцца вельмі па-рознаму. Склясыфікаваць непаразуменьні груповыя й асабістыя амаль немагчыма, бо звычайна матывы прыкрываюцца патрыятычнымі й прыгожымі клічамі, як, напрыклад, вуніяцкакрывіцкае ўгрупаваньне т. зв. БНР і „аўтакефаліяй".

Да большых церцяў і змаганьня ў гэткіх выпадках даходзіць найчасьцей тады, калі нехта зусім неадпаведны займе кіруючае становішча й Царкву стараецца гвалтам паставіць на службу сваім груповым або прыватным інтарэсам. Па прыклад далёка ісьці ня трэба. Сярод нас ёсьць такі „прэзыдэнт" М. Абрамчык, які выбраў сабе самазванна тытул прэзыдэнта й цяпер, знаходзячыся з „чалом" крывіцкага ўгрупаваньня на службе Ватыкану, па яго загаду за ўсякую цану імкнецца зьнішчыць Беларускую Праваслаўную Царкву праз аднаўленьне вунійнае акцыі сярод праваслаўных беларусаў. Па загаду вуніятаў спачатку вунійную дзейнасьць М. Абрамчык прыкрыў царкоўным шыльдам, а менавіта адноўленай БАПЦ ў Канстанцы на чале з С. Ахоценкам, які папярэдне падаваў заяву ў Ватыкан аб прыняцьці яго ў вунію. С. Ахоценка па

паходжаньні ўкраінец, што пярэчыць 18 параграфу Статуту БАПЦ, прынятага ў 1942 годзе ў Менску, згодна якому главой мусіць быць беларус незаганных паводзінаў. Мала гэтага, пры аднаўленьні аўтакефаліі ў Канстанцы былі дапушчаны й іншыя антыцаркоўныя й антыправаслаўныя памылкі, інсьпіраваныя праз тыя-ж вунійныя дзейнікі, з тым, каб БАПЦ не сталася агульна-беларускай Царквой, а была толькі груповай. Мэта, на вялікі жаль, была асягнута.

У выніку гэтай вунійнай інсьпірацыі БАПЦ не аказалася на вышыні свайго становішча й замест аб'яднаньня ўсіх праваслаўных беларусаў унесла шкодны падзел сярод праваслаўных, выгадны для вунійнай акцыі. Яна сталася толькі экспазытурай вуніяцка-крывіцкага ўгрупаваньня ў духоўных справах. Калі-ж т. зв. „канстанцкая аўтакефалія" 1948 году, інсьпіраваная й кіраваная вуніятамі, унесла на эміграцыі падзел сярод праваслаўнай беларускай эміграцыі, наступіў другі этап вунійнай дзейнасьці. Дня 4 жніўня 1960 году ў Мюнхэне (Нямеччына) быў высьвечаны на епіскапа для беларусаў-вуніятаў, якіх няма, рыма-каталіцкі ксёндз а. Часлаў Сіповіч, каторы згодна рэзалюцыі тыдня культурна-рэлігійных студыяў у Чыкага (ліпень, 1961) мае арганізаваць „свае парафіі" із сваімі сьвятарамі ва ўсіх беларускіх асяродках на эміграцыі, хаця зараз там няма зусім вуніяцкіх вернікаў. Зразумела, што гэтае высьвячэньне адбылося па загаду Ватыкану з удзелам расейца-вуніята кіра Андрэя Каткова, ды бяз удзелу С. Ахоценкі, царква каторага ад гэтага мамэнту стала небеларускай, і памочнік яго, вуніятамі абвінавачаны ва ўсіх „цяжкіх грахох" так, як папярэднія праваслаўныя былыя епіскапы БАПЦ[1].

Вунійная акцыя М. Абрамчыка ня зможа звабіць у вунію беларускіх праваслаўных вернікаў, але ўжо ўнесла падзел і ў далейшым зможа распаліць нутраную рэлігійную барацьбу сярод беларусаў, якая спаралізуе агульна-нацыянальную вызвольную беларускую дзейнасьць, замяняючы яе нутраным рэлігійным змаганьнем. А гэта толькі й патрэбна нашым ворагам, а не нашаму народу, які дзеля сваёй любові да Праваслаўнай Царквы й сягоньня ня прыме вуніі, так як ён не прыняў яе ў прошласьці. Але нягледзячы на гэта, *de facto* і *de jure*, акт аднаўленьня царкоўнай вунійнай акцыі, мэтай якой ёсьць зьнішчыць нашу Беларускую Праваслаўную Царкву, адбыўся. Пачалася чужая, старая й шкадлівая для беларусаў вунійная акцыя. Яна ня грэбуе нікімі сродкамі й сягоньня з тактычных меркаваньняў прыкрываецца ў рэлігійным пляне беларускай мовай, шыльдам „беларускай царквы", „любоўю" і праваслаўным абрадам. Інакш кажучы, дзярлівыя ваўкі

[1] Гл.: „Беларускі Праваслаўны Часапіс", № 2, Чыкага, 1962, бб. 3–78.

вуніяты апранаюцца ў авечую скуру з тым, каб ашукаць праваслаўных і несьці нязгоду, шкодную для беларускага народу. Дзякуючы інтэрвэнцыі вунійна-ватыканскіх дзейнікаў у нашы нутраныя справы, зьнікла на эміграцыі сярод беларусаў адзінства й згода. Зьнікла адзінства й згода ня толькі на грамадзка-палітычнай ніве, але й на ніве царкоўна-праваслаўнай, дзе, як піша А. К. з Кліўленду, „павінен быць супольны фронт змаганьня з вунійнай акцыяй, якая, як злыдзень, сіліцца ўносіць разлад сярод праваслаўных беларусаў на выгнаньні, каб разьяднаўшы іх, лепей было лавіць аблудныя душы ў мутнай вадзе”. Адгэтуль ясны выснаў, што ў інтарэсе найшырэйшых кругоў праваслаўна-беларускага грамадзтва ёсьць не дапускаць да такога падзелу, а калі ён і заіснаваў сягоньня, дзякуючы інсьпірацыі вуніятаў, дык не шкадаваць ніякіх сілаў і стараньняў для яго зьліквідаваньня, з тым, каб аб'яднаная Царква была не экспазытурай абрамчыкаўскага вуніяцка-крывіцкага ўгрупаваньня, а зьяўлялася ўсеагульным царкоўным цэнтральным ворганам усяго праваслаўнага беларускага народу й мела сілу супроцьставіцца вунійнай акцыі. Як гэта асягнуць? На гэта мы адкажам: адкінем усё тое, што нас дзеліць, і прымем усё тое, што нас лучыць зь Сьвятой Праваслаўнай Усяленскай Саборнай й Апостальскай Царквой, якую тут, на зямлі, заснаваў Ісус Хрыстос. Асягнутае ***гэтай дарогай адзінства*** будзе лучыць нас з нашым народам на Бацькаўшчыне, а таксама будзе для нас крыніцаю жывой вады, ласкі Божае, радасьці й натхненьня ў нашай малітве й нашай царкоўнай працы, бо асноваю яго будзе сам Хрыстос, Бог і Спас наш. Калі-ж ня возьмем за аснову для адзінства вышэйсказанага, дык мы да ніякага адзінства ня дойдзем.

Беларускі народ прыняў праваслаўную веру з Канстантынопалю (988) да падзелу хрысьціянства (1054), а таму наша вера апостальская, праўдзівая, чыстая, даная Богам, які для яе перахаваньня заснаваў Сьвятую Царкву, да якой мы належым. Вось-жа, калі хто з праваслаўных выступае супроць устаноўленай Богам Царквы, хто нішчыць сьведама ці нясьведама чысьціню яе, тым самым выступае супроць Бога – сусьветнага Валадара і ўсіх Яго плянаў. А на гэтым-жа сьвеце Божым, на якім жывем, нельга інакш разумна наладзіць царкоўнае жыцьцё, як толькі згодна з Божаю Воляю, паводле якой Божыя й царкоўныя прыказаньні ды каноны забавязваюць усіх людзей, у тым ліку палітыкаў, а тым болей духаўнікоў, якія ачольваюць высокія царкоўныя становішчы. Таму помні аб гэтым і глядзі, каб ты быў у лучнасьці зь Сьвятой Усяленскай Праваслаўнай Царквой. І гэтым ты паслужыш добра Богу, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве, нашаму адзінству й нашаму народу.

# СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ АНАТОЛЬ КОЎШ

Honors the Memory of **ANATOL KOUŠ**

This Certificate is Awarded by a Grateful Nation in Recognition of Devoted and Selfless Consecration to the Service of Mankind in the Armed Forces of the United States.

John F. Kennedy
President of the United States

Яшчэ адна магіла на беларускім могільніку ў Саўт Рывэры. Адыйшоў ад нас у лепшы сьвет, ня скончыўшы 22 год, поўны духовых і фізычных сілаў, сьв. п. жаўнер Анатоль Коўш. Новапрыстаўлены нарадзіўся на Беларусі 14 жніўня 1940 году. У выніку Другой сусьветнай вайны грудным дзіцем, разам з бацькамі, ён перанёс усе яе жорсткія праявы як на Бацькаўшчыне, так і ў Нямеччыне. Прыбыўшы з бацькамі ў Амэрыку, ён скончыў гайскул і паступіў у каледж на інжынэрыйны аддзел. Па прызыву сэрца ён пакідае каледж і ідзе ў армію з тым, каб па сканчэньню вайсковае службы зноў працягваць навуку. Але, на вялікі жаль, лёс ня судзіў сьв. п. Анатолю споўніць яго пляну й імкненьняў. У выніку аўтамабільнае катастрофы ў горадзе Гайдэльбэргу (Нямеччына) дня 26 ліпеня 1962 году трагічнай сьмерцяй ён скончыў сваё тутэйшае зямное жыцьцё, пакідаючы ў вялікай пакуце й нязгасным суме бацькоў – а. протад. Сьвятаслава, матушку Веру Мікалаеўну й брата Алега.

На жаданьне бацькоў цела сьв. п. Анатолія зь Нямеччыны было перавезена ў Амэрыку й пры асысьце амэрыканскай арміі пахавана на беларускім праваслаўным могільніку ў Саўт Рывэры.

Паніхіды, адпяваньне й паховіны – гэта плач і рыданьне ня толькі родных, але ўсіх тых, хто прыйшоў памаліцца за супакой яго душы й сказаць яму апошняе „бывай" каля яго адчыненай труны й каля яго так передчаснай магілы.

Заўпакойную літургію й чын адпяваньня адправілі мітрафорны протаіерэй а. Е. Сурвіла й протапрэсьвіцер а. М. Лапіцкі. Прыгожа й зь вялікім малітоўным настроем пяяў у поўным складзе хор Сьв. Еўфрасіньнеўскай царквы пад кіраўніцтвам рэгента Д. Верасава.

Перад апошнім цалаваньнем пропаведзь сказаў а. Е. Сурвіла, які распачаў яе словамі: „Трагічная й нечаканая сьмерць Толіка, як удар грому, паразіла ня толькі родных, але і ўсіх нас. Няма словаў, якімі можна было-б пацешыць бацькоў пры апошнім цалаваньні свайго дзіцяці. Але калі не пацеху, дык падтрыманьне заўсёды можна знайсьці ў Госпада Бога. А таму прымеце гэты цяжкі крыж і шукайце ў гэтым

вялікім няшчасьці падтрыманьня ў Бога". „Гасподзь даў і Гасподзь узяў!", – гаворыць са сьлязамі бацюшка...

Адпусьціцельная малітва... Апошняе цалаваньне... Сумнае, бясконца цяжкое – гэта суцэльны плач і рыданьне... Каля труны вянкі й букеты кветак – агульная любоў вялікай і дружнай беларускай сям'і... У гэтым падтрыманьне... Інакш, як перанесьці такое цяжкае гора? Труну зь целам, пакрытую амэрыканскім сьцягам, з царквы выносяць жаўнеры... Апошні шлях: „а може всі человецы пойдзем...". Вось і могільнік – наша апошняе прыстанішча. Сьвеціць сонца й сваімі праменьнямі быццам хоча сагрэць халодную магілу... Кароткая ліція. „Со духі праведных скончавшіхся, душу раба Тваего, Спасе, упакой, сахраняя во блаженной жізні, яже у Тебе, Человеколюбче... Єдіна чістая і непарочная Дзево... молі спасціся душі его... Вечная памяць...".

Жаўнер трубіць... Разьвітальны салют. Усе жаўнеры стаяць на зважай. Цішыня. Каманда й трохзалпны аружэйны разьвітальны салют. Здымаюць з труны сьцяг, і афіцэр уручае матцы, якая цалуе сьцяг, паліваючы буйнымі гарачымі сьлязьмі ў няўцешным горы. Над сьвежай магілай гаворыць настаяцель, каторы сваё разьвітаньне закончыў словамі: „На гэтым сьвеце ёсьць асобны род людзей, якія ўжо зь дзяцінства выдзяляюцца сваёй духовай красой. Гэтыя людзі праходзяць свой зямны шлях як цені й вельмі часта ў раньнім веку адыходзяць ад нас у вечнасьць, пакідаючы па сабе вялікі жаль, боль і смутак. Такіх людзей, як кажа прамудры Саламон, Гасподзь Бог паклікае прадчасна з гэтага сьвету, каб зямным злом не зацьмілася сэрца й душа іх. Магчыма, і Ты, мой быўшы прыслужнік, пеўчы й добры парафіянін, належыў да гэтых людзей, але мы людзі абмежаваныя й ня можам ведаць таямніцу Промыслу Бога Ўсявышняга, Каторы „ізбраў і прыняў" цябе, дарагі Анатолі, у такім маладым веку. А таму зь вялікім і нязгасным сумам, разьвітваючыся з Табою, так блізкім, дарагім і незабыўным, просім Госпада Бога ўпакоіць душу Тваю ў Царстве Нябесным, а амэрыканская зямля, сагрэтая гарачымі сьлязьмі родных і ўсіх нас, якая прыняла Цябе, няхай будзе лёгкім пухам!".

Пасьля быў жалобны абед, на які былі запрошаны ўсе прысутныя на паховінах.



# КАНСТАНТЫНОПАЛЬСКІ ПАТРЫЯРХАТ

Рэзыдэнцыяй Канстантынопальскага патрыярха ёсьць Канстантынопаль. Канстантынопаль – гэта горад, каторы быў першым адкрыта і ўрачыста ўпрыгожаны знамем Крыжа Госпадняга. У гісторыі хрысьціянскай Царквы Канстантынопаль ведамы як места некалькіх Усяленскіх събораў. У гэтым горадзе знаходзіцца слаўны на ўвесь сьвет сабор Сьв. Сафіі. Пры пабудове гэтага сабору працавала 10 000 працаўнікоў і кошт яго вынес 324 мільёны драхм. Імпэратар Юстыніян пры асьвячэньні яго ў 537 годзе патрыярхам Мінаю мог сказаць: „Я паканаў цябе, Саламон". Маліліся візантыйцы й іх госьці ў гэтым саборы 700 год. Тут і нашы продкі захапіліся сьвятасьцю й прыгожасьцю сьвятога праваслаўя й прынялі яго. У XII стагодзьдзі сабор Сьв. Сафіі быў так дашчэнтна, па-варварску абрабаваны крыжакамі, што туркам у 1453 годзе мала што дасталося. З XV стагодзьдзя да дваццатых гадоў цяперашняга стагодзьдзя сабор Сьв. Сафіі быў мячэцьцю, а потым стаў музэем візантыйскага мастацтва.

Заваяваньне Канстантынопалю туркамі было страшным ударам па ўсяму хрысьціянству. Пры заваяваньні сталіцы Візантыйскай імпэрыі зьнішчана беспаваротна шмат цудатворных ікон і сьвятых машчэй. Дзесяткі цэркваў былі зруйнаваны, а якія засталіся, дык больш слаўныя былі забраны пад мячэці. Будаваць цэрквы з купаламі было забаронена. І толькі ад нядаўна грэкі, пражываючыя ў Турэччыне, атрымалі права на гэта.

Рэзыдэнцыя Канстантынопальскіх патрыярхаў знаходзілася да 1453 году пры саборы Сьв. Сафіі, пасьля пры царкве Сьв. Апосталаў, і да 1603 году пры царкве „Усеблажэннай". Калі гэтыя сьвятыні былі забраны пад мячэці, патрыярху Рафаілу быў прызнаны жаночы манастыр з царквой Сьв. Вялікамучаніка Юрыя. Пазьней тут былі пабудаваны будынкі, у якіх Канстантынопальскія патрыярхі жывуць і цяпер. Тут у патрыяршай царкве знаходзіцца шмат цудатворных ікон і сьвятых машчэй. У гэтай-жа самай царкве знаходзіцца каля правага кліраса трон Сьвятога Іаана Златавуста, на каторым ад яго часоў васьсядала больш 200 патрыярхаў, а ў ліку іх такія як Сьвяты Прокл, Сьвятыя Флавіян, Ігкат, Фоцій, Гэнадзій Схолярый і цэлы сонм іншых дастойных і вялікіх сьвяціцеляў Усяленскай Праваслаўнай Царквы.

У пачатку VI стагодзьдзя Канстантынопальскі патрыярх быў названы Ўсяленскім. Гэты тытул за Канстантынопальскім патрыярхам зацьвердзіў VII Усяленскі Сабор. Сьвятая Праваслаўная Ўсяленская Саборная й Апостальская Царква лічыць Канстантынопальскага патрыярха **primus inter pares**.

Лазанскі трактат 1923 году гварантуе прабываньне патрыярха ў Канстантынопалі, але выезд яго за граніцу для візытацыі епархіяў, якія знаходзяцца па-за Турэччынай, забараняецца турэцкімі ўладамі. Духавенству, за выняткам патрыярха, забараняецца хадзіць па-за царквой у расе.

Сынод Усяленскага Патрыярхату складаецца з старшыні-патрыярха й 12 мітрапалітаў. Усяленскі Канстантынопальскі Патрыярхат мае каля 60 епархіяў: 5– у Турэччыне, 4– на Додэканэзе, 39– у Грэцыі, 10– на абтоках, 1 – у Аўстраліі, 1 – у Англіі й 1 – у Амэрыцы. У юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярха знаходзіцца таксама Аўтаномная Фінляндзкая Царква. Падпарадкавана патрыярху й Салунская мітраполія, недалёка якой знаходзіцца Афон, каторы таксама ёсьць пад апекай патрыярха.

У Турэччыне праваслаўных ёсьць каля 250 тысяч. Найбольш іх жыве ў Канстантынопалі, дзе знаходзіцца да 60 цэркваў. Патрыярхат мае Духоўную Багаслоўскую школу на абтоку Халкі на Мрамарным моры. Апрача гэтага, дзякуючы ахвярнасьці грэкаў, Патрыярхія ўтрымлівае іншыя школы й дапамаговыя арганізацыі. У сучасны мамэнт Усяленскім Канстантынопальскім патрыярхам зьяўляецца Сьвяцейшы Атэнагор. Патрыярхія выдае часапісы „Ортодоксія" і „Апостолос Андрэос".

З Канстантынопаля нашы продакі прынялі праваслаўную веру, а таму Візантыя зьяўляецца маткай нашай Беларускай Праваслаўнай Царквы, а не Масква.

## СЬВЯТЫЯ ВІЛЕНСКІЯ МУЧАНІКІ

На паняцьце бацькаўшчыны складаюцца дзьве рэчы: людзі й пэйзаж. Калі перакласьці гэтае азначэньне бацькаўшчыны на болей простую мову, дык атрымаецца, што бацькаўшчына – гэта, зразумела, перш за ўсё людзі, насельнікі гістарычна-канкрэтнай „прасторы", гаспадары таго „пэйзажу" зь зямлёю, лясамі, рэкамі, вазёрамі й небам. Так, і небам! З усім тым, што й творыць бацькаўшчыну, з усімі фарбамі, колерамі, адценьнямі, зь сьвятлом і цемрай, зь днямі й начамі.

Ува ўсім гэтым аднак, як бы ў цэнтры, стаяць людзі, народ, нацыя, што з другога боку і склалася адпаведна гэтаму пэйзажу, зьлілося зь ім такім чынам, як бы апынулася „дома", у сваёй хаце, інакш – на бацькаўшчыне. У гэтым пэйзажы фактычна й пачалося сьвядомае, гістарычнае жыцьцё нацыі – стварэньне бацькаўшчыны як цэлага: веры, рэлігіі, звычаяў, законаў, права, культуры й парадку. Усяго таго, што атрымала назоў дзяржавы, гаспадарства.

У часе небясьпекі звонку народ становіцца на абарону свайго „пэйзажу", свайго гаспадарства. І гэта ўсё роўна, якая небясьпека: чыста ваенная, культурная, рэлігійная, духовая. Бо-ж, калі-б хто захацеў перайначыць толькі слова ў тваёй малітве, у тваёй мове, толькі адну рыску ў тваім звычаі, у тваім „пэйзажы", як ты ужо адчуеш чужака! І тады, адчуўшы небясьпеку, народ, каб запабегчы ёй, бароніцца ўсімі даступнымі яму сродкамі. Гэтак паўстаюць гэроі, волаты духу, праведнікі нацыі, авеяныя лягэндамі. І мы сказалі-б: няма бацькаўшчыны, няма „пэйзажу" без лягэндаў, волатаў, праведнікоў, курганаў і ўсіх тых памятак нацыянальных, што твораць „канкрэтна-гістарычную прастору" нічым непадменнай катэгорыяй. Толькі адно гэта й чыніць бацькаўшчыну бацькаўшчынай, адзінай на сьвеце. Інакш ніхто-б па ёй не сумаваў, а тым болей змагаўся. І аднак як варта змагацца, калі ёсьць бацькаўшчына – людзі й пэйзаж!

Усімі гэтымі атрыбутамі багатая нашая Бацькаўшчына – Беларусь. Людзі яе й пэйзаж яе такія адметныя! Мы ніколі ня можам забыць іх! Дзе-б мы не былі, наш пэйзаж застанецца для нас тым адзіным „вакном", што ,,глядзіцца ў неба нашымі вачыма", нашай душой, як вобразна выказаў гэта паэт Масей Сяднёў.

Нашая Бацькаўшчына як бы дадзеная нам, прыгатаваная для нас звыш. Гэта толькі й месца, якое засталося для нас. Дарма, што на гэтае месца прэтэндавалі й не перастаюць прэтэндаваць нашыя суседзі, якім, відаць, прыйшоўся да спадобы наш „пэйзаж". Не зьмяншае значэньня Бацькаўшчыны й той факт, што яна за сваю багатую й цікавую гісторыю ня раз падпадала пад уладу чужака ды яшчэ й сёньня знаходзіцца пад ягонаю „апекаю". Наадварот, чым даражэй для нас наш „пэйзаж", тым болей зацята наш народ змагаецца за яго, бо ён ня хоча зыйсьці, саступіць з наканаванага яму месца.

У гэтым змаганьні за месца на зямлі наш народ (людзі) выявіў сябе несьмяротным. Як тое першабытнае каменьне, валуны, што ўрасьлі ў нашу зямлю, гэтак наш народ урос усім сваім бытам у свой „пэйзаж". Дарма, што яго ўсімі спосабамі гвалтам адрываюць, вядуць і вязуць зь зямлі ягоных прадзедаў, каб аслабіць і зьнішчыць яго. Ды не здаецца наш народ. Можа ня так голасна й крыклiва як іншыя, безь ніякае, на жаль, дапамогі збоку, вытрымлівае ён на працягу вякоў чужацкую навалу. Колькі імёнаў, колькі волатаў духу высунуў ён у гэтым змаганьні і ўпісаў на бачыны гісторыі, каторая з глыбінь мінуўшчыны даносіць да сучаснасьці й дух велічы, і трагізм суровых выпрабаваньняў!

Да такіх балонак гісторыі беларускага праваслаўнага народу належыць перыяд, калі ён знаходзіўся ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, а таксама калі ён пасьля Крэўскай (1386) і Люблінскай (1569) вуніі быў паняволены Польскай дзяржавай. На вялікі жаль, гэты доўгі пэрыяд, у якім Праваслаўная Царква захавала беларускі народ як нацыю, дзелячы зь ім долю й нядолю, яшчэ й цяпер астаецца далёка нявывучаным. Карыстаючыся гэтым, нашыя ворагі вельмі часта хвальшуюць гісторыю беларускага народу ды ілжыва й суб'ектыўна насьвятляюць яе са свайго пункту гледжаньня. Яскравым прыкладам гэтага ў галіне нашай праваслаўнай веры з боку палякаў зьяўляецца хвальш гісторыі Сьвятых Віленскіх Мучанікаў.

Пасьля Першае сусьветнае вайны Беларуская дзяржава, адноўленая Актам 25 сакавіка 1918 году, была паняволена й трактатам у Рызе (1921) падзелена паміж савецкай Расеяй і Польшчай. Урад павэрсальскай Польшчы не прызнаваў беларусаў за асобны народ і на акупаваных землях Заходняе Беларусі распачаў антыбеларускую палітыку ўва ўсіх галінах. Да Праваслаўнае Царквы, каторая была перашкодай палянізацыі беларускага народу, урад тасаваў тэрор і дыскрымінацыю.

Каб мець разьвязаныя рукі пры дыскрымінацыі й палянізацыі, адносіны дзяржавы да Праваслаўнае Царквы ня былі ўрэгуляваныя законам. Дня 16 лютага 1922 году ў гэтай справе былі выдадзеныя „Тымчасовыя прадпісаньні аб адносінах ураду да Праваслаўнае Царквы ў Польшчы". Але закону, які-б нармаваў адносіны дзяржавы да Праваслаўнае Царквы, згодна з вымаганьнямі арт. 115 Канстытуцыі з 17 сакавіка 1921 году, не было. Дзякуючы гэтаму, ад пачатку й да канца акупацыі Заходняе Беларусі (1939) польскі ўрад пры дапамозе паліцыйных ворганаў адбірае нашыя праваслаўныя цэрквы й перадае іх рыма-каталікам, зачыняе, а нават і разбурвае. Канфіскуе царкоўную й манастырскую зямлю ды ёю надзяляе польскіх вайсковых і цывільных асаднікаў. Усюды праваслаўных беларусаў абмяжоўвае ў правох і адначасна раіць прыняць вунію, якую распачалі прапагаваць польска-ватыканскія дзейнікі. Вунія, якая была й ёсьць прыладай чужацкае польскае палітыкі, ня мела посьпеху. Не памаглі й паліцыйна-вайсковыя сродкі: катаваньні на пастарунках і стражніцах КОПу, арышты, штрафы й вастрогі. Беларускі народ бароніцца й моцна трымаецца свае праваслаўнае веры, веры сваіх Сьвятых Віленскіх Мучанікаў Антона, Іаана й Аўстаха, каторыя ў XIV стагодзьдзі за гэты

драгацэнны Божы Дар, праваслаўную веру, аддалі сваё жыцьцё, і сваёй мучаніцкай сьмерцяй засьведчылі волю беларускага народу не здавацца.

Беручы прыклад са сваіх нацыянальна-духоўных апекуноў, беларускі народ не здаецца й моліцца да Сьвятых Віленскіх Мучанікаў Антона, Іаана й Аўстаха, праз заступніцтва якіх Гасподзь Бог пасылае сваю цудадзейную сілу, дзякуючы якой, слабыя фізычна становяцца моцнымі духам, якога ня могуць паканаць варожыя польска-вуніяцкія сілы. Бачучы гэта й ня маючы посьпеху ў сваёй вуніяцкай акцыі, польска-ватыканскія дзейнікі, каб здыскрымінаваць Праваслаўную Царкву ды ўнесьці сумніў у культ Сьвятых Віленскіх Мучанікаў, застасавалі бязбожны бальшавіцкі мэтад. Паляк В. Загорскі ў 1927 годзе ў часапісе „Źródła Mocy", піша артыкул пад тытулам „Лягэнда пра трох Віленскіх Мучанікаў"[1]. А праз год паляк К. Хадыніцкі піша артыкул „Гэнэза й разьвіцьцё лягэнды пра трох Віленскіх Мучанікаў"[2]. Як адзін, гэтак і другі, называючы праваслаўную веру „схізмай", суб'ектыўна пішуць, што Сьвятыя Віленскія Мучанікі – гэта лягэнда, створаная Масквой для русыфікацыі Беларусі. Паралельна з гэтым мусім зазначыць, што ў гэты самы час акупант Усходняе Беларусі, бязбожны бальшавік, блюзьнерыў над машчамі Сьвятых Віленскіх Мучанікаў у Маскве й цьвердзіў (і сягоньня цьвердзіць), што „Бога няма, рэлігія – опіюм для народу, Ісус Хрыстос – гэта лягэнда". Аднак, нягледзячы на гэта, людзі вераюць у Бога.

Другі міжнацыянальны зьезд вучоных у Оксфардзе (верасень 11–15, 1961), прысьвечаны вывучэньню Новага Запавету, сьцьвердзіў, што сучасны навуковы мэтад не аддаляе, а зьбліжае вучоных да цьверджаньня, што Ісус Хрыстос быў на зямлі й існаваў як гістарычная асоба. Жылі на зямлі й існавалі як гістарычныя асобы й Сьвятыя Віленскія Мучанікі, якіх кананізавала Сусьветная Праваслаўная Царква. Аб іх пішуць летапісы. Існаваньне іх прызнаюць расейскія, украінскія, а нават і польскія гісторыкі. Нават вуніяты прызналі іх сьвятымі. Ад іх мучаніцкай сьмерці мінула амаль 600 гадоў і ніхто, нават рыма-каталіцкі Захад, не аспрэчваў іхняга існаваньня.

Што тычыцца артыкулаў палякаў (В. Загорскага й К. Хадыніцкага), абаснаваных на тэндэнцыйна суб'ектыўных высноўках, дык яны не вытрымліваюць крытыкі й гучаць, далікатна кажучы, наіўна. Хіба-ж ня

[1] „Źródła Mocy", Warszawa, 1927, zesz. 2, ss. 68–72.
[2] „Ateneum Wileńskie", Wilno, 1928 , ss. 417–451.

можна лічыць прамаўляючым цьверджаньнем, што Сьвятых Віленскіх Мучанікаў ня было, абасноўваючыся на тым, што ў летапісах не згаджаюцца даты іхняе сьмерці, кананізацыі ды месца паховінаў. Ідучы такой дарогай, можна прыйсьці да выснаву, што ня было й Мелхісэдэка, мітрапаліта Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (1922), які гэтаксама прыняў вянок мучаніка за Хрыстовую Праваслаўную Царкву й за свой беларускі народ. Мітрапаліт Мелхісэдэк жыў і дзейнічаў у нашыя часы, але, нягледзячы на гэта, як піша С. К., „на балонах друку зьявілася шмат супярэчных фактаў і датаў з жыцьця й дзейнасьці мітрапаліта Мелхісэдэка; і гэта ня дзіўна: ён жыў і дзейнічаў у суровую пару бальшавіцкае экспансіі – унутранае й вонкавае; бальшавікі, каб зацерці сьляды сваіх злачынстваў, нішчылі ўсе дакументы"[3]. Тое самае было й з дакумантамі Сьвятых Віленскіх Мучанікаў. На працягу 600 гадоў іх зьнішчыў вораг і час.

Не зьяўляецца пераконваючым гэтаксама й другое цьверджаньне, быццам Сьвятых Віленскіх Мучанікаў не было зусім, абаснаванае толькі на тым, што аб іх успамінаюць расейскія летапісы й „неразгаданыя"„Kroniki Inflackie", а нічога не ўспамінае рыма-каталіцкі Захад. Як ведама, рыма-каталіцкі Захад з часоў крыжовых паходаў ды інквізыцыі паліў ня толькі кнігі й дакуманты аб іншых веравызнаньнях, але й людзей. Таму, калі й былі ўспаміны аб Сьвятых Віленскіх Мучаніках, дык яны сьведама былі зьнішчаны.

Рымскі папа, напрыклад, у 1276 годзе імкнуўся падпарадкаваць сваёй уладзе праваслаўныя манастыры на Афоне. Калі манастыры адмовіліся прызнаць уладу папы Рымскага, дык ён праслаў войска, якое разбурыла некалькі манастыроў – Зографскі, Івэрскі й Ватопэдскі. Падчас гэтае акцыі 26 зографскіх манахаў было спалена, ватопэдскія манахі былі павешаны, а івэрскія манахі былі ўтоплены ў моры. Манастырскае майно нішчылася й рабавалася. Паліліся ня толькі кнігі, але й рукапісы, цэнныя для Праваслаўнае Царквы. Адных толькі кніг з Афона, як цьвердзіць Сьцяпан Сьвятагорац, было зьнішчана й вывезена каля 400 вазоў (!). Апрача гэтага, трэба сказаць, што рыма-каталіцкі Захад у часох Сьвятых Віленскіх Мучанікаў быў асяродзьдзям беспрасьветнае цемры, у якую яго сьпіхнула схалястыка сярэднявечча. Аб культурным заняпадзе рыма-каталіцкага Захаду ў пэрыяд крыжовых паходаў і перад імі гаворыць прыхільны да яго

[3] „Царкоўны Сьветач", № 8, Саўт Рывэр, 1957, б. 12.

сьведак М. Коссак-Шчуцка ў яе творы „Krzyżowcy". Заходнія гісторыкі пары Сьвятых Віленскіх Мучанікаў ня мелі часу цікавіцца падзеямі Ўсходняе Эўропы, бо былі занятымі падлікамі „ведзьмаў", спаленых каталіцкімі манахамі. Вышэй сказанае й ёсьць той прычынай, чаму аб крыніцах адносна Сьвятых Віленскіх Мучанікаў у рыма-каталіцкім Захадзе ня можа быць і гутаркі.

Зразумелая рэч, артыкулы В. Загорскага й К. Хадыніцкага, засьлепленых польска-каталіцкім шавінізмам, не займелі ніякага ўплыву на культ Сьвятых Віленскіх Мучанікаў, які адносіцца да ***тайнаў нашае веры***. Наадварот, сярод беларускага народу яшчэ болей узмоцнілася пачуцьцё пашаны да сваіх нацыянальна-духовых апекуноў. І ён праз сваіх паслоў і сэнатараў у польскім сойме й сэнаце пачаў дамагацца звароту ў Вільню мошчаў Сьвятых Віленскіх Мучанікаў, якія падчас Першае сусьветнае вайны (1915) былі вывезеныя ў Маскву. Дамаганьні не асягнулі свае мэты.

Мошчы Сьвятых Віленскіх Мучанікаў не былі зьвернуты, хоць на падставе мірных дагавораў беларусы мелі права на гэта. Як адзін, гэтак і другі акупант лічыў нявыгадным для сябе рабіць гэта. Таму мошчы й надалей аставаліся ў антырэлігійным Маскоўскім музэі, дзе іх бачыў ведамы пісьменьнік-евангеліст і прапаведнік В. Марцінкоўскі, каторы ў кнізе „Запіскі веруючага" вось што піша: „Я сам бачыў мошчы Віленскіх Мучанікаў Антона, Іаана й Аўстаха. Яны былі выстаўленыя ў Маскве на Пятроўцы ў памяшчэньні Наркомздрава ў шклянай скрыні. Прад намі вобраз няпоўнага тленьня. ***Бадай што ўся скура цэлая***: яна – шэра-жоўтага колеру, быццам пэргамін, цесна ахінаючы косьці шкялету. ***Выразна відны сьляды мучэньняў, якім калісьці былі паддадзеныя гэтыя хрысьціяне***: вывіхнутыя ступені ног, у ваднаго з мучанікаў відна рана ад мяча супроць сэрца"[4].

***Нятленныя мошчы***[5] ***Сьвятых Віленскіх Мучанікаў сьведчаць аб сапраўднасьці іхняга быцьця й аб сапраўднасьці праваслаўя***. Гасподзь апякуецца й сьцеражэ ўсе косьці іх, і ані адна зь іх ня зьнішчыцца. І празь іх, як праз косьці прарока Елісея, падаюцца веруючым благадатныя дары Ўсемагутнага Бога. А таму няма нічога дзіўнага, што

---

[4] Из истории религиознаго движения в России 1917–1923 г.г., Прага, 1929, с. 60.

[5] Мошчамі ў Апостальскай Праваслаўнай Царкве называюцца ўсякія нятленныя астанкі ўгоднікаў Божых і мучанікаў за веру: косьці, галовы, валасы, рукі, ногі, а часам і цэлыя целы, праз каторыя Гасподзь Бог праслаўляецца поўнымі тайніцы цудатварэньнямі, праяўляючы сваю Боскую сілу.

калі мошчы Сьвятых Віленскіх Мучанікаў былі зьвернуты ў 1946 годзе з Масквы ў Вільню й пастаўлены ў пячэрнай царкве Сьвята-Духава манастыра, натоўпы веруючых (як праваслаўных, гэтак і каталікоў), прыходзяць да іх з малітваю да Бога, „дзіўнаму ва сьвятых Сваіх", і паводле свае веры атрымліваюць палёгку ў нясеньні цяжкага крыжа бязбожнае бальшавіцкае няволі.

Пасьля болей як 30-гадовага прабываньня ў Маскве, мошчы Сьвятых Віленскіх Мучанікаў былі забраныя зь бязбожнага музэю й перавезеныя на самалёце з Масквы ў Вільню. Веруючыя хрысьціяне глыбока перакананыя ў тым, што гэта адбылося паводле Волі Ўсявышняга Бога, Каторы праявіў гэтым Ягоную магутнасьць і сілу. Яшчэ ў Старым Запавеце праведнік Іоў зьвяртаў увагу людзей на тайніцы й шматлікія незразумелыя праявы Божыя, кажучы: „Бог дзіўна ... чыніць справы вялікія, для нас неасягальныя" (Іоў, 37, 5) Цьверджаньне людзей, што бальшавікі зрабілі гэта дзеля русыфікацыі беларусаў, наіўнае й ня вытрымлівае крытыкі дзеля таго, што бальшавікі маюць іншыя сродкі, якімі карыстаюцца, да масавага зьнішчэньня ўключна. На заканчэньне мы ня будзем прыгадваць тут усёй гісторыі трагічна-пакутлівага шляху Сьвятых Віленскіх Мучанікаў. Гэта й так кожнаму ведама. Прыгадаем толькі кароткім словам, за што Сьвятыя Віленскія Пакутнікі пайшлі на сьмерць, але не здаліся.

Антон, Іаан і Аўстах былі баярамі й служылі ў Альгерда (1345 –1347). За праваслаўную веру, якую яны прынялі, былі пасаджаныя ў турму. Як не ўгаворвалі іх зракчыся іхняе веры, яны трымаліся свайго. Турма іх не зламала. Каб узьдзеяць на іх ласкаю, іх выпускаюць з турмы з надзеяй, што ўсё-ж яны выракуцца, пабаяўшыся зноў трапіць у турму. Ды ня гэтакімі былі Антон, Іаан і Аўстах. Турма ня была для іх страшнаю. Тады іх зноў кідаюць у турму, ламаюць ногі, адрэзваюць насы, вушы, зьдзіраюць скуру з галавы... Ды не паддаюцца пакутнікі. Нарэшце, іх вешаюць на дубе. Так скончылі сваё зямное жыцьцё нашыя тры слаўныя прашчуры.

У чым значэньне для нас іхняга чыну? Аб чым сьведчыць для нас іхняя пакутлівая сьмерць? Паспрабуем адказаць на гэтыя пытаньні.

Паганства было таксама рэлігіяй нашых продкаў. З гэтае рэлігіі нашыя прашчуры шмат чаго пераянялі, узялі зь яе аснаўное – веру ў Вышэйшы Провід. І ў гэтым сэнсе мы не адмаўляем значэньня паганства ў фармаваньні духовага сьветапагляду нашага народу. Але хрысьціянства, праваслаўная вера ўзьнялі паганскую веру на прынцыпова вышэйшую й якасна адрозную ступень: *узвышэньне праз сьмерць да несьмяротнасьці.*

Антон, Іаан і Аўстах у хрысьціянства прыйшлі з паганства. Адракліся ад старога, каб пераняць новае. Якая-ж вялікая, надчалавечая патрэбна была сіла, якое-ж трэба было мець перакананьне, каб дакалаць такі чын! Тут-жа бо заложаны й трагізм: адрачыся дабраахвотна ад таго, што зьяўляецца часткай сябе самога, і прыняць новае ў імя нечага вышэйшага. Сапраўды, для гэтага патрэбныя былі нейкія падвойныя сілы. А калі прыняць пад увагу, што за тое новае, вышэйшае трэба яшчэ заплаціць і жыцьцём, дык у асобах Антона, Іаана й Аўстаха мы маем ужо звышнатуральную існасьць, сьведамую свайго абавязку і пакліканьня – *пакліканьня Боскага й гістарычна-нацыянальнага.*

Антон, Іаан і Аўстах перамаглі й сябе, а ня толькі ворага. Яны перамаглі ў першую чаргу сябе й выратаваліся, *бо яны ўмелі пакутаваць да канца.*

Пакута іхняя й сьмерць былі асьвечаныя Ўсявышнім. Яны вядуць нас і цяпер па нашым шляху, як вёў некалі старажытных ізраельцянаў іхны шлях – зь Егіпту да абяцанае зямлі. Вось, між іншага, значэньне й сэнс пакутаў нашых Сьвятых Антона, Іаана й Аўстаха.

Бо, нарэшце, што гэта такое сьмерць Віленскіх Пакутнікаў яшчэ? Гэта не звычайная сьмерць, запратаколеная й па-зямному зафіксаваная як толькі фізычная сьмерць! Не, гэта яркі зьніч, што сьвеціць нам нязгасна, як запарука праўдзівасьці нашае праваслаўнае веры й нашай несьмяротнасьці з нашай Усяленскай Праваслаўнай Царквой (не маскоўскай). Яны былі кананізаваныя як сьвятыя ў XIV стагодзьдзі, і мы штогоду 14 красавіка (па старому стылю) сьвяткуем Дзень Сьвятых Віленскіх Мучанікаў. Молім Бога, каб Ён дзеля малітваў іх збавіў нашую Бацькаўшчыну ад чужынцаў і збавіў усіх нас ад напасьцяў. Із году ў год беларускі народ сьвяткаваў і будзе сьвяткаваць 14 красавіка Дзень Сьвятых Віленскіх Мучанікаў. Гэта адносіцца да Тайнаў нашае сьвятое Веры, і гэтага ніхто ня зьменіць! Ні артыкулы палякаў, ні т. зв. „навуковы скрынінг" В. Пануцэвіча, які знаходзіцца на службе польска-вуніяцкіх чыньнікаў і ў беларускай мове блюзьніць са сьвятасьцяў Праваслаўнае Царквы з тым, каб зьнішчыць Яе. Амэрыканскі прапаведнік Варпен Кэндлер сказаў: „Той, хто ўносіць сумніў у нашу веру й хто імкнецца разьбіць яе, робіць шатанскую справу". Але дарэмны высілак, бо Ісус Хрыстос сказаў: „Я збудую Царкву Маю, і вароты пякельныя не перамогуць Яе" (Ев. Мацьв. 16, 18).



# БЕЛАРУСЫ А КАМУНІЗМ

Напамінак

У вольным сьвеце беларуская эміграцыя ўрачыста абходзіць Дзень 25 сакавіка, ушаноўвае памяць Слуцкіх паўстанцаў і штогод у Амэрыцы ці Канадзе ў суботу й нядзелю перад „лабор дэй" ладзіць зьезд беларусаў. З году ў год у гэтыя дні, кожны раз усё ў новых палітычных абставінах, але заўсёды, кожны раз, незалежна ад гэтых абставін, спрыяльных ці неспрыяльных, узвышаем наш голас у абароне нашай Бацькаўшчыны Беларусі. Выступаем на міжнароднай арэне зь вялікай ідэяй – ідэяй Вызваленьня зь вялікай літары. Ці-ж не сугучная гэта ідэя ўсяму чалавецтву?! Хоць яна й старая, ці-ж не зьяўляецца яна заўсёды новай?! Прынамсі, ці-ж не гарыць ёю, ці-ж ня прагне гэтага вызваленьня сёньня найменей паўсьвету, заціснутага ў лапах крывавага бальшавізму. А можа ўжо мы ачарсьцьвелі, і нашыя душы ня паліць болей сьвяты агонь вызваленьня? У кожным разе, наш голас, голас нас усіх, паняволеных бальшавізмам, – гэта сумленьне сьвету, гэта напамінак сьвету. Прынамсі, мусіць быць напамінкам!

Мінула ўжо 45 гадоў ад часу, калі нашая нацыянальная барацьба дасягнула была свайго найвышэйшага ідэалу – *дзяржаўнасьці*. 45 гадоў таму назад Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, абраная на Ўсебеларускім Кангрэсе ў Менску, вуснамі ўсяго беларускага народу абвясьціла 25 сакавіка 1918 году ўсяму сьвету аб утварэньні Беларускай Народнай Рэспублікі на тэрыторыі ў сваіх этнаграфічных межах. І якраз роўна 45 гадоў таму назад гэтая маладая, толькі што народжаная Беларуская дзяржава была брутальна зьнішчана бальшавізмам. Мы апэлявалі тады да ўсяго сьвету, знаёмілі яго з нашай трагэдыяй, прасілі сьвет прызнаць нашую дзяржаву, дапамагчы нам. Але гэты сьвет застаўся глухім да голасу беларускага народу. Беларускі народ застаўся адзін і, непадтрыманы нікім, ня змог абараніць свае дзяржаўнасьці.

Захад, хоць слаба й няўпэўнена, спрабаваў дапамагаць розным генэралам, гэтак званым „белым" у іхняй барацьбе супроць „чырвоных". Але Захад нічым не дапамог нацыянальным рухам паняволеных народаў. Захад, відавочна, хацеў рэстаўрацыі Расеі. І калі нашае цьверджаньне правільнае, больш непапулярнай палітыкі нельга было й прыдумаць у тыя часы. Малады бальшавізм, які вуснамі Леніна, калі ён толькі яшчэ імкнуўся да ўлады, абяцаў паняволеным Расеяй

народам права на самавызначэньне аж да аддзяленьня, адразу па прыходзе да ўлады, ашукаў гэныя народы.

Як ведама, бальшавізм заўсёды іграе на нацыянальных імкненьнях паняволеных народаў і глядзіць на нацыянальна-вызвольны рух, як на вялікую рухаючую сілу для асягненьня сваіх мэтаў. Я ня буду гаварыць тут аб гісторыі нашага вызвольна-нацыянальнага руху, хоць такая гісторыя магла-б быць вельмі карыснай лекцыяй. Скажу толькі, што ў тыя рэвалюцыйныя часы Захад не дацаніў значэньня ўзрыўной сілы нацыянальна-вызвольных рухаў так, як ацаніў бальшавізм. Той факт, што бальшавікі бачылі для сябе небясьпеку і ў беларускім нацыянальным руху, пацьвярджае, напрыклад, адзін з разгоншчыкаў Усебеларускага Кангрэсу бальшавік В. Кнорын, які зьдзіўляўся тэй шпаркасьці, зь якой нарастала антыбальшавіцкае змаганьне на Беларусі. „І як ня дзіўна, – пісаў ён, – беларускія нацыянал-дэмакраты й нацыянал-сацыялістыя першыя сабралі Ўстаноўчы Збор ... – Гэтаму тэмпу расейскія эсэры маглі толькі зайздросьціць, бо яны значна пазьней дайшлі да Омскай дыктатуры й Калчака"[1]. А нацыянал-камуніст Зьмітро Жылуновіч (Цішка Гартны), зьнішчаны пазьней бальшавікамі, пісаў аб гэтай шпаркасьці й імклівасьці беларускага руху гэтак: „На працягу ня больш месяцу вырасьлі буйныя арганізацыі ў Менску, Віцебску, Бабруйску й нават за межамі Беларусі: у Маскве, Саратаве, Пецярбурзе, у розных гарадох Сібіры і Ўкраіны ... Дэманстрацыі ў Менску й іншых гарадох засьведчылі нячувана вялікі рух нацыянальнай сьведамасьці працоўных масаў Беларусі"[2].

Колішні міністр беларускага МВД Л. Цанава, жадаючы падчыркнуць дапамогу расейскага пралетарыяту ў змаганьні зь беларускім нацыяналізмам, змушаны быў прызнаць вельмі сымпатычны факт, а менавіта, што „перамогу савецкай улады на Беларусі ў значнай меры абясьпечыла тая акалічнасьць, што тут праходзіў заходні фронт, на якім былі сканцэнтраваны масы работнікаў і сялянаў цэнтральных раёнаў Расеі, апранутых у жаўнерскія шынэлі"[3]. Або аналягічнае цьверджаньне таго самага В. Кнорына, шматгадовага сакратара ЦК КП(б)Б: „... Заснавальнікам і тварцом камуністычнай арганізацыі на Беларусі была старая

---

[1] В. Кнорын, Да гісторыі дыктатуры пралетарыяту ў БССР, „Полымя", №1, Менск, 1929, бб. 90–91.

[2] З. Жылуновіч, Люты-Кастрычнік у беларускім нацыянальным руху, „Беларусь", Менск, 1924, б. 185.

[3] Л. Цанава, Всенародная партизанская война против фашистских захватчиков, Минск, 1951, т. 2, сс. 725, 726, 732, 786.

бальшавіцкая гвардыя, закінутая на Беларусь вайной зь Ленінграду, Масквы, Іванава, ... ад расейскага бальшавізму й мясцовых жыдоў ідзе гісторыя камунізму на Беларусі"[4].

Прыведзеныя вытрымкі яскрава гавораць, наколькі небясьпечным для камуністаў быў і ёсьць нацыянальна-вызвольны рух паняволеных народаў, у тым ліку і беларускі нацыянальна-вызвольны рух. Баючыся гэтага руху, бальшавікі нават дамовіліся зь немцамі аб супольным непадтрыманьні гэтага руху. Так Рада БНР, зьвярнуўшыся да Нямеччыны з просьбай аб прызнаньні незалежнасьці абвешчанай Беларускай Народнай Рэспублікі, атрымала ад Нямеччыны такі адказ: „...Перашкодай да прызнаньня незалежнасьці Беларусі зьяўляецца Брэсцкая ўмова між Нямеччынай і РСФСР, якой Нямеччына абавязалася не падтрымоўваць новых дзяржаўных утварэньняў на тэрыторыі былой Расеі".

І яшчэ адзін выснаў з прызнаньня саміх камуністых: камуністычная ўлада на гэтак званых ускраінах Расеі, у тым ліку й на Беларусі, устанаўлівалася пры дапамозе не мясцовых, а расейскіх сілаў бальшавізму. Такім чынам, камунізм – зьява наносная. Бальшавіцкая ўлада экспартавалася ў неспакойныя нацыянальна раёны, у тым ліку і Беларусь, з Расеі.

З гэным экспартаваным камунізмам беларускі народ, як і іншыя паняволеныя народы, не прымірыўся, а бесьперапынна вёў зь ім змаганьне. Каб заспакоіць гэныя раёны, каб задаволіць хоць у нейкай меры нацыянальныя прэтэнзіі волялюбных народаў, каб зьняць з парадку дня пытаньне незалежнасьці, бальшавізм утварыў на тэрыторыі СССР гэтак званыя саюзныя рэспублікі, у тым ліку й славутую БССР, якая зьяўляецца сягоньня сябрам ААН як суверэнная й незалежная дзяржава. Бальшавікі хваляцца, што такім чынам яны разьвязалі раз і назаўсёды нацыянальнае пытаньне ў СССР. Але сьвет хіба ведае, што гэнай фікцыяй суверэннасьці бальшавіком не ўдалося зьняць з парадку дня пытаньне незалежнасьці прыгнечаных імі народаў. Гэныя ўступкі, калі бальшавізм, наагул, здольны на ўступкі, аказаліся недастатковымі. Паняволеныя народы, сярод іх і беларусы, не задаволіліся гэтымі ўступкамі й вялі ў мінулым, вядуць у сучасным і будуць весьці ў будучыні змаганьне з бальшавізмам за сваё вызваленьне. Пастановы Другога Ўсебеларускага Кангрэсу ў Менску (1944) яскрава сьведчаць аб тым. У гэтым

[4] В. Кнорын, Камуністычная партыя на Беларусі, „Беларусь", Менск, 1924, бб. 215, 219, 281, 294; яго-ж, Да гісторыі дыктатуры пралетарыяту ў БССР, Менск, 1929, № 1, б. 89; Кастрычнік на Беларусі. Улажыў С. Агурскі, Менск, 1927.

змаганьні з бальшавізмам беларускі народ склаў вялікія ахвяры. І па сёньняшні дзень, па гэтую хвіліну прадаўжае складаць непасільныя ахвяры. Шкада, што сьвет вельмі мала ведае пра гэтыя ахвяры. А сапраўды, шкада, бо-ж гэтыя ахвяры складаюцца ў імя, нарэшце, ня толькі нашай незалежнасьці, а ў імя вызваленьня й той часьці чалавецтва, якое падпала сягоньня пад аковы камунізму.

Вось чаму кожны раз, пры ўсялякай нагодзе мы ўзвышаем наш голас, мусім узвышаць, каб нас пачулі, каб нас зразумелі й пайшлі з намі разам на штурм бальшавізму тыя, каму дадзена болей і хто яшчэ свабодны сягоньня, але каму ўжо пагражае небясьпека камуністычнай тыраніі.

Асабліва мы ўзвышаем свой голас у гадавіну 25 сакавіка – гэтага сымбалю нашай дзяржаўнасьці й нашага штандару, за які праліта столькі крыві, столькі сьлёз, панесена столькі стратаў. Хаця нас і мала хто слухае, аднак мы хацелі-б лішні раз зьвярнуць увагу вольнага сьвету на адну вельмі важную акалічнасьць, а менавіта на тое, якое значэньне для справы барацьбы з бальшавізмам мае нацыянальна-вызвольны рух у гэтак званых каляніяльных краінах. Сягоньня, як і 45 гадоў таму назад, як, зрэшты, і заўсёды, бальшавізм, як ня трэба лепей, эксплятуе ў сваіх інтарэсах нацыянальна-вызвольны рух і ў Афрыцы, і ў Азіі, на Кубе. Так, як ён эксплятаваў калісьці такі рух у былой царскай Расеі. Ёсьць пэўныя падставы сьцьвярджаць, што вольны сьвет не разумее ў поўні гэтай праблемы й сягоньня, дзякуючы чаму ініцыятыва знаходзіцца ў руках бальшавікоў.

Найвышэйшы час вырваць гэтую ініцыятыву з рук бальшавікоў і нацыянальна-вызвольны рух каляніяльных народаў скарыстаць у сапраўды вызвольных мэтах, інакш бальшавізм вызваліць каляніяльныя народы так, як ён „вызваліў" паняволеныя народы былой царскай Расеі. Гэта адно. Другое, у лік каляніяльных народаў трэба ўключыць і каляніяльныя народы Савецкага Саюзу, у тым ліку й беларускі народ, які пакутуе пад гнётам камунізму больш, чым якія-небудзь народы Афрыкі.

Трэба ня даць магчымасьці бальшавізму выкарыстоўваць нацыянальны рух у якасьці траянскага каня, трэба ўзрыўную сілу нацыяналізму накіраваць у рэчышча барацьбы вольнага сьвету з бальшавізмам.



## ПРОТ. ІВАН КУШНЕР

У дваццатую гадавіну трагічнай сьмерці

Дня 5 ліпеня 1963 году мінула 20 гадоў ад трагічнай сьмерці а. прот. Івана Кушнера, каторы дня 5 ліпеня 1943 году быў забіты падчас выбуху міны, калі ехаў зь Менску ў мястэчка Ракаў. Да ахвяр, якія нёс беларускі народ у барацьбе за сваю вольнасьць і незалежнасьць, далучылася яшчэ адна вялікая ахвяра. Загінуў беларускі сьвятар-патрыёт, які аддана працаваў над адбудовай Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, каторая была зьнішчана бальшавіцкім тэрорам.

Айцец прот. Іван Кушнер нарадзіўся ў 1908 годзе ў мясцовасьці Лужкі, Глыбоцкай акругі. Пасля заканчэньня народнай школы ён паступіў у Віленскую духоўную сэмінарыю, якую скончыў у 1930 годзе. Пасьля рукапалажэньня ў сан сьвятара ў 1930 годзе не пайшоў на прыход, а паступіў на багаслоўскі факультэт пры Варшаўскім унівэрсытэце, які закончыў у 1934 годзе. У 1935 годзе а. Іван Кушнер абараніў магістэрскую працу й атрымаў ступень магістра багаслоўя. У сэмінарыі й на багаслоўскім факультэце а. Іван Кушнер быў заўсёды актыўны ў хоры, на сцэне ды ў гуртках беларускае самадзейнасьці й абстынэнцыі.

Падчас вышэйшых студыяў служыў у праваслаўным прыходзе ў Валоміне каля Варшавы. А пасьля заканчэньня багаслоўскага факультэту быў назначаны ў 1934 годзе настаяцелем прыходу Ятвецк на Беларусі.

У часе Другой сусьветнай вайны ён пакідае Ятвецк (у 1941 годзе) і пераяжджае ў Менск, дзе разам зь іншымі беларускімі сьвятарамі й нацыянальным актывам працуе над аднаўленьнем БАПЦ.

У Менску ён быў настаяцелям царквы на Вайсковых могілках, сябрам Мітрапалітальнае Ўправы Беларускае Праваслаўнае Царквы. Быў таксама сябрам Перадсаборнай Камісіі і ўдзельнікам Аўтакефальнага Сабору Беларускае Праваслаўнае Царквы ў 1942 годзе, на якім чытаў рэфэрат „Пытаньне аўтакефаліі на Беларусі", у каторым падаў гістарычны матар'ял аб Беларускай Праваслаўнай Царкве, калі яна існавала як аўтакефальная, самастойная Царква.

Цяпер, калі прайшло ўжо больш 20-ці гадоў пасьля Аўтакефальнага Сабору ў Менску (1942) і час прыцьміў у памяці падзеі востра адчутага й перажытага зьместу ды трагізму змаганьня за родную Царкву, за праяўленьне нацыянальнага „я", перад намі аднак устаюць незабыўныя постаці барацьбітоў, узарваных мінамі, павешаных, спаленых, расстраляных, утопленых, замучаных, якія для ідэі дзяржаўнае незалежнасьці

Беларусі аддалі самае найдаражэйшае – сваё жыцьцё. Да іх належыць і постаць а. прот. Івана Кушнера, які на 35-ым годзе свайго жыцьця загінуў ад міны, заложанай ворагамі Беларусі й беларускага народу.

Варожая рука зьнішчыла ў цьвеце год жыцьцё добрага сьвятара й шчырага патрыёта ды спрычыніла нязгасны жаль і сум матушцы, маленькай 5-гадовай дачцы Алене, радні, прыхаджанам, сябрам і супрацоўнікам.

Няхай гэты ўспамін у 20-ую гадавіну трагічнае сьмерці будзе вянком на ягоную магілу.

## ВАТЫКАНСКІ САБОР РЫМА-КАТАЛІЦКАЕ ЦАРКВЫ

(Папы: Іван XXIII і Павел VI)

Рымскі папа Іван XXIII, выбраны ў кастрычніку 1958 году, адразу пасьля абняцьця папскага пасаду абвесьціў, што будзе імкнуцца да паяднаньня хрысьціянскіх цэркваў. Прэса ўсяго хрысьціянскага сьвету аднагалосна адзначыла гэта як здарэньне гістарычнае вагі, якое расчыняе перад хрысьціянствам новыя гарызонты.

Пэўне-ж, падобнае абвешчаньне не зьяўляецца штодзённым здарэньнем, але ў практыцы Ватыкану гэта ня новае зьявішча. На працягу апошняга стагодзьдзя амаль усе папы пры кожнай нагодзе гаварылі ў тэй ці іншай форме аб сваім імкненьні ўстанавіць царкоўнае адзінства.

Гісторыя хрысьціянства ведае й захоўвае ня толькі імкненьні папаў апошняга стагодзьдзя да паяднаньня, але й факты паяднаньня ў выглядзе г. зв. царкоўных вуніяў, як Ліонскай (1274), Флёрэнцкай (1438 –1439) і Берасьцейскай (1596). Вось гэтыя вуніі практычна выясьняюць, як Ватыкан разумее гэтае паяднаньне ў дачыненьні да Праваслаўнае Царквы. Па сутнасьці Ватыкан імкнецца не да паяднаньня, а да падпарадкаваньня сабе Праваслаўнае Царквы. Шлях да падпарадкаваньня не апраўдаў сябе ў мінулым, не апраўдае сябе й на гэты раз, калі яго будуць трымацца Рымскія папы.

Канчатковы падзел Хрысьціянскае Царквы адбыўся ў 1054 годзе. Ад гэтага часу да сягоньняшняга дня Рыма-каталіцкая Царква прыняла шмат новых дагматаў, няведамых старажытнай Хрысьціянскай Царкве. Да такіх дагматаў, перадусім, адносіцца навука аб Рымскім папу як намесьніку Хрыста на зямлі, навука аб яго непаграшымасьці, навука аб яго першынстве ў Хрысьціянскай Царкве. Папа Леў XIII

у 1894 годзе ў энцыкліцы аб паяднаньні сам аб сабе казаў: „Мы займаем на зямлі месца Бога Ўсемагутнага”. Новаўведзеныя дагматы спрычыніліся да таго, што ад Рыма-каталіцкай Царквы аддзяліліся й арганізаваліся Пратэстанцкія Цэрквы, Англіканская Царква, Старакаталіцкая Царква.

Праваслаўная Царква пасьля падзелу (1054) нічога не дадала да сваіх дагматаў і гэтым захавала існіну Хрысьціянскае Царквы. Далей сьвятло Бажэсьцьвенай Ісьціны ўспрамянілася на Ўсходзе. Тут нарадзіўся Хрыстос. Тут Ён прыняў крыжовыя мукі дзеля збаўленьня людзтва. Тут зьявілася хрысьціянства й тут былі заснаваныя першыя хрысьціянскія цэрквы: Ерусалімская, а пасьля Антыяхійская, у каторай Сьвяты апостал Пётра быў епіскапам некалькі гадоў. Калі пяршынства Рымскага епіскапа абасноўваецца толькі на апостальскай пераемнасьці ад апостала Пётры, дык такое пяршынства належыць ня Рымскаму епіскапу, але Антыяхійскаму, дзеля таго, што апостал Пётра хаця й прыняў мучаніцкую сьмерць у Рыме, але спрэчным ёсьць, што ён быў епіскапам Рымскае Царквы.

Усходняя Царква заўсёды прызнавала пяршынства чэсьці „Рымскага епіскапа” сярод другіх епіскапаў, як епіскапа сталічнай катэдры. Але ніколі не прызнавала за ім вярхоўнае ўлады, якая ў Апостальскай Царкве належала й належыць Усяленскаму Сабору. У старадаўняй Царкве аўтарытэт Рымскага папы ня быў аўтарытэтам намесьніка Хрыста на зямлі зь вярхоўнай уладай Царквы. Вельмі часта было, што прадстаўнікі іншых Цэркваў карысталіся большым аўтарытэтам, чымся епіскап Рымскае Царквы. Да падзелу Царквы ў 1054 годзе паняцьце верхавенства, намесьніцтва й непаграшымасьці Рымскага папы былі няведамыя. Вось гэта стаяла й будзе стаяць на перашкодзе да паяднаньня. Але, нягледзячы на гэта, шмат хто спадзяваўся, што II Ватыканскі Сабор займецца справай паяднаньня ўсіх хрысьціянскіх цэркваў.

Пра характар Сабору, дзякуючы „засакрэчанасьці” Рымскае курыі, каторая кіруе ўсім як унутраным, так і вонкавым жыцьцём Рыма-каталіцкае Царквы, ня было дастатковых інфармацыяў. І гэта шмат каго здэзарыентавала адносна Сабору. Ёсьць даныя дадумвацца, што мэта, перад якой папа Іван XXIII меў паставіць Сабор, не была ведама нават усёй гіерархіі Рыма-каталіцкае Царквы. Зналі пра яе (мэту) толькі сябры Рымскае курыі да некаторыя гіерархі, злучаныя зь імі цясьнейшым кантактам. Гэтым і паясьняецца здэзарыентаванасьць шматлікіх адносна мэты й характару Сабору.

Цяпер ужо ня ёсьць сакрэтам, што II Ватыканскі Сабор быў скліканы, у першую чаргу, для ўнутранага ўпарадкаваньня Рыма-каталіцкае Царквы й прытарнаваньня яе да сучаснае эпохі, а ў другую чаргу, ад сяброў сабору вымагалася выказаць іх пагляды адносна „экумэнізму” хрысьціянскіх цэркваў і адносна таго, якое становішча мае заняць

Рыма-каталіцкая Царква ў гэтай справе. Цяпер ужо ня ёсьць сакрэтам таксама й тое, што II Ватыканскі Сабор ня думае быць „вунійным" і не зьяўляецца Ўсяленскім, бо на сабор запрошаны прадстаўнікі іншых Цэркваў не як дэлегаты з правам рашаючага голасу, а як „абсэрватары", роля якіх зводзіцца толькі да ролі сьведкаў.

II Ватыканскі Сабор Рыма-каталіцкае Царквы, скліканы папам Іванам XXIII, распачаўся 11 кастрычніка 1962 году. Як ведама, амаль уся першая сэсія сабору, якая дня 8 сьнежня 1962 году закончылася, пайшла на выяўленьне і ўдакладненьне тых мэтаў, дзеля якіх сабор скліканы, ды на замену складу камісіяў, каторых згары вызначыла Рымская курыя, якая падчас падрыхтоўкі сабору рабіла ўсё ад яе залежнае, каб надаць сабору пажаданы ёй (курыі) зьмест. Гэтая барацьба на першай сэсіі мела й такія эпізоды, як раздаваньне зь ініцыятывы сяго-таго з сяброў сабору перад катэдрай Сьвятога Пётры лістовак, мэтаю якіх было змабілізаваць большасьць сяброў сабору для прыняцьця пастаноў, яўна непажаданых Рымскай курыі, асабліва для яе кансэрватыўных кардыналаў і монсіньёраў.

На першую сэсію сабору Ўсяленская Праваслаўная Царква пастанавіла не пасылаць сваіх дэлегатаў у ролі „абсэрватараў". Маскоўская Патрыярхія, якая згадзілася з гэтай пастановай, пазьней паслала сваіх „абсэрватараў" і на першую сэсію сабору. Ёсьць падставы здагадвацца, што паміж Ватыканам і савецкім урадам на пачатку сабору была тайная дамоўленасьць, згодна зь якою Масква й паслала сваіх „абсэрватараў" з тым, каб яны дапільнавалі дамоўленасьць ды вялі прапаганду, што ў Савецкім Саюзе існуе свабода веравызнаньняў.

Распачаты сабор папа Іван XXIII не закончыў. Дня 3 чэрвеня 1963 году ён памёр на 81 годзе свайго жыцця. Адышоў у вечнасьць папа, які, бясспрэчна, займае не апошняе месца ня толькі ў гісторыі Рыма-каталіцкае Царквы, але і ў гісторыі ўсяго хрысьціянскага сьвету. Ён увайшоў у гісторыю ня толькі як папа, які склікаў сабор Рыма-каталіцкае Царквы, але й як папа, каторы ў жыцьцё і дзейнасьць пап увёў новы „стыль", чым зьдзівіў хрысьціянскі сьвет. З выбраньнем папы Івана XXIII на Рымскі пасад усё засталося ў сваёй важнасьці вонкі, але ён ня зьліўся з закасьцянелым рытуалам ватыканскіх сьцен і выйшаў вонкі сьцен Ватыкану. Вонкі ён захоўваўся і чуўся больш як епіскап епархіі „Рым", чымсьці Рыма-каталіцкі Ўсяленскі папа. Папа Іван XXIII – чалавек народу, ідзе ў народ і мае зь ім супольную мову. Ён наведвае багаслужэньні ў розных канцох места, у шпіталях, вастрогах. Ён гутарыць з садоўнікам ды зь іншымі спатканымі. Ён са сваім народам!

Зьдзівіў хрысьціянскі сьвет папа Іван XXIII ня толькі новым „стылем", але й сваёй прыхільнасьцяй да маскоўска-бальшавіцкай бязбожнай

улады. Дзякуючы гэтаму, у 45 гадавіну існаваньня бальшавіцкае ўлады, дня 25 кастрычніка 1962 году ў савецкім пасольстве ў Італіі на прыняцьці прысутнічае 6 кардыналаў і шмат духаўнікоў, якія захапляюцца савецкай ікрой ды гасьціннасьцю гаспадароў. Мала гэтага, папа Іван XXIII пасылае лісты Хрушчову з нагоды Новага Году, дня нараджэньня, а 7 сакавіка 1963 году прымае на аўдыенцыю рэдактара маскоўска-бальшавіцкае газэты „Известия" А. Аджубея з жонкаю Радай, дачкою Хрушчова. У выніку ўсяго гэтага італьянскія камуністыя ў выбарах асягнулі немалы посьпех.

Гэтыя чыста палітычныя хады папы Івана XXIII выклікалі ня толькі зьдзіўленьне ў хрысьціянскім сьвеце, але й абурэньне, бо гэтыя хрушчовы й аджубеі зьяўляюцца аднымі з тых, хто зруйнаваў крывавым тэрорам хрысьціянкія сьвятыні йператварыў іх у месцы зьдзеку над хрысьціянамі, зрабіўшы там славутыя канцлягеры. Хрушчоў і Аджубей – гэта адны з тых бальшавікоў, каторыя пазрывалі крыжы з хрысьціянскіх сьвятыняў і перабудавалі іх у антырэлігійныя музэі, кіно ды камсамольскія клюбы. Праграма камуністычнае партыі гаворыць: „Рэлігія – гэта опіюм для народу". Згодна з гэтым бальшавіцкая ўлада ад першых дзён сваёй перамогі ў Расеі распачала яўнае перасьледаваньне ўсякае рэлігіі, а праваслаўнае – у васаблівасьці. Гэтая акцыя прасьледаваньня працягваецца й цяпер. Хрушчоў заявіў Гэррымэну: „Я – атэіст і, стоячы на чале атэістычнага ўраду, ні я, ні мой урад, ня маем ніякага намеру мяняць сваіх адносінаў да рэлігіі й рэлігійных людзей".

Выбраны дня 21 чэрвеня 1963 году, новы папа, які прыняў імя Паўла VI, у сваёй прамове 22 чэрвеня гэтага самага году абвесьціў, што ён будзе прадоўжваць працу II Ватыканскага Сабору, скліканага ягоным папярэднікам. У дзень сваёй каранацыі (29 чэрвеня 1963 году) папа Павел VI заявіў, што „пратэстанты ды іншыя хрысьціянскія веравызнаньні павінны прызнаць навуку Рыма-каталіцкае Царквы пра „пяршынства" папы й яго „непамыльнасьць" у справе веры й маралі. А гэта й ёсьць каменем спатыканьня, які ляжыць на перашкодзе да аб'яднаньня.

Падчас сваёй „лібэральнай" палітыкі папа Іван XXIII у энцыкліцы „На зямлі мір" прагаласіў: „Няхай усе веруюць так, як хто можа й хоча". Некаторыя зь некаталіцкіх царкоўных праваднікоў спадзяваліся, што Ватыкан злагодзіць догму Рыма-каталіцкае Царквы ў прадмеце так званага пяршынства ды непамыльнасьці папы. Але, як бачым, дарэмныя надзеі. У імя „міру й любові" Ватыкан дапускае іншым веравызнаньням захаваць абрад, багаслужэбныя нацыянальныя мовы, а нават догмы, адно толькі вымагае, каб для „спасеньня" іншыя цэрквы прызналі „главенства папы" і ягоную „непагрэшнасьць". З такім настроем

дня 29 верасьня 1963 году распачалася другая сэсія Ватыканскага Сабору, на якой прысутнічаюць епіскапы Рыма-каталіцкае Царквы з усіх канцоў сьвету. Пустуе толькі адно крэсла – гэта крэсла папы Паўлы VI. Папа ня можа прысутнічаць, бо ён вышэй за сабор. Затым за працаю сабору ён назірае па тэлевізыі.

Хоць мы й ня маем сапраўдных і аўтарытэтных дадзеных пра бег Ватыканскага Сабору, але з тых вестак, якія падала рыма-каталіцкая прэса, становіцца ясным, што Рыма-каталіцкая Царква занята сваімі справамі. І толькі. А таму ня можа быць ніякіх ілюзіяў аб паяднаньні. Ня можа быць ілюзыяў і адносна таго, што Ватыканскі Сабор пры наладжваньні царкоўных справаў, як піша газэта „Беларус", „прыдзеліць у канцы належную ўвагу пільным ды балючым справам і патрэбам рэлігійнага жыцьця й беларусаў-каталікоў; бо як дагэтуль Ватыкан выказвае немалую ініцыятыву й шчодрасьць у тварэньні беларускага сьвятарства, а нават і гіерархіі, няіснуючае практычна сярод беларусоў формы веравызнаньня – „каталікоў" усходняга абраду, ды ніякае блізу рупнасьці не выяўляе ў галіне рэлігійнае апекі над беларусамі-каталікамі „заходнікамі", хоць іх тысячы ў краёх вольнага сьвету, мільёны на сваёй зямлі"[1]. Голас гукаючага ў пустыні!

Стагодзьдзямі Рыма-каталіцкая Царква маральна заўсёды падтрымлівала Польшчу й ветліва ўсьміхалася ў бок Расеі. А таму нездарма й папа Паўла VI сваю каранацыйную пропаведзь выгаласіў дня 30 чэрвеня 1963 году па-польску, а ў канцы дадаў яшчэ адзін сказ па-расейску. На жаль, не ўшанаваў папа ані беларускае, ані ўкраінскае мовы. Цікава зазначыў адзін з украінскіх каталіцкіх сьвятароў, што „хоч у Римі москалів як кіт наплакав, протэ там перед ними спини гнуть не тільки звичайні каноніки, а і кардинали. Нас же, украінців, у Ватикані лише і тільки толерують, а часом дехто з власть імущих і нарікае на нас за т.зв. україньску впертість та небажання влитись и „русское море".

Ня лепшыя адносіны Ватыкану й да беларусаў, а таму наіўным і зманлівым ёсьць цьверджаньне вуніятаў, што ў Рыме нашае „спасеньне". Пакуль беларусы праваслаўныя, дык для Ватыкану яны маюць значэньне. Падпарадкаваньне-ж сьмерці падобна. Па прыклад далёка існці ня трэба. Прыкладам могуць быць беларусы рыма-каталікі, якія ня маюць ні свайго Касьцёлу, ні сваіх парафіяў і туляюцца пасынкамі сярод палякаў. Што-ж тычыцца голасу й значэньня беларусаў рыма-каталікоў у Ватыкане, дык і гаварыць ня прыходзіцца, нягледзячы на тое, што іх „тысячы ў краёх вольнага сьвету, мільёны на сваёй зямлі". Там маюць голас і значэньне толькі палякі й расейцы.

---

[1] „Беларус", № 80, Нью Ёрк, 1963, лістапад, б. 2.

І трэба спадзявацца, што роля й значэньне расейцаў і далей будзе расьці, бо, як сказаў папа Паўла VI, запачаткаваную папай Іванам XXIII палітыку „адпружаньня" з Масквой і ён будзе прадоўжваць. А таму нездарма ён прыняў на разьвітальнай аўдыенцыі асобна прадстаўнікоў Маскоўскага патрыярха ды падчас каранацыі па-расейску сказаў: „Наша думка кіруецца таксама да ўсяго расейскага народу, на які мы клічам благаславеньне Ўсявышняга".

Перад пачаткам другое сэсіі Ватыканскага Сабору, у днях 26 – 29 верасьня 1963 году на востраве Радос адбылася канфэрэнцыя Праваслаўных Цэркваў. Канфэрэнцыя пастанавіла прадставіць права кожнай Царкве самой вырашаць пытаньне – пасылаць, ці не пасылаць сваіх абсэрватараў на другую сэсію Ватыканскага Сабору. Што тычыцца царкоўнага паяднаньня, тая-ж канфэрэнцыя пастанавіла, каб Канстантынопальскі патрыярх Атэнагор I выслаў ліст ад імя Ўсяленскае Праваслаўнае Царквы ў Ватыкан і запрапанаваў папе Паўлу VI прадыскутаваць гэтае пытаньне супольна, пад умовай, што дыскусія будзе вясьціся як „роўны з роўным". Магчыма, як адгалосак на гэта, падчас дыскусіі над „экумэнізмам" на другой сэсіі Сабору былі галасы аб тым, што неабходна ўпарадкаваць адносіны да Праваслаўнае Царквы як Царквы, якая мае такую самую апостальскую сукцэсію, як і Рыма-каталіцкая Царква. Апрача гэтага, падчас дыскусіі над „экумэнізмам", пераважаючай бальшынёй удзельнікі сабору сцьвердзілі, што спачатку трэба правесьці аднаўленьне ў Рыма-каталіцкай Царкве, а тады думаць пра зьбліжэньне зь іншымі хрысьціянскімі цэрквамі. Усё вышэй сказанае, бясспрэчна, уплынула на тое, што ў студзені 1964 году дайшло да першай, пасьля 500 гадоў, сустрэчы Ўсяленскага патрыярха Атэнагора I з папам Паўлам VI, нягледзячы на тое, што супроць гэтага былі Рымская курыя й Грэцкая Праваслаўная Царква. Паўстае пытаньне: ці гэтае спатканьне спрычыніцца да паяднаньня Праваслаўнае Царквы з Рымакаталіцкаю Царквою, ці не? На гэта адказваем: з аднаго боку, жыцьцё й наступ бязбожжа вымагае паяднаньня, з другога боку, гэта не магчыма да таго часу, пакуль Рымскі папа не зрачэцца дагмату верхаводзтва й непагрэшымасьці. Каб гэта сталася, патрэбным ёсьць аднаўленьне й прыбліжэньне да адзінае Царквы, якую заснаваў Ісус Хрыстос. Царквы, аб'яднанай духам любові і ўзаемнае пашаны. Або патрэбны цуд!



# ДВАЦЦАЦІПЯЦІГОДЗЬДЗЕ БЕЛАРУСКАГА АЎТАКЕФАЛЬНАГА ПРАВАСЛАЎНАГА САБОРУ: МЕНСК - 1942

Пачатак вайны гітлераўскай Нямеччыны з СССР (1941) выклікаў вялікую радасьць сярод беларускага народу. Гэтая радасьць была цесна зьвязана зь верай у адраджэньне Беларускай Дзяржавы пры дапамозе немцаў, якія ў сваёй адозве праклямавалі Беларусь жыцьцёвай прасторай беларускага народу. Найбольшым энтузіястам быў сьвятой памяці кс. В. Гадлеўскі, які прыбыў у сталіцу Беларусі Менск, заняў становішча школьнага інспэктара пры Генэральным Камісарыяце й верыў, што немцы дадуць усё, уключна й дзяржаўнасьць. Аб гэтым ён заўсёды гаварыў і верыў, што так станецца. На вялікі жаль, як і многія з нас, памыліўся й заплаціў сваім жыцьцём.

З прыбыцьцем у верасьні 1941 году ў Менск Генэральнага Камісара В. Кубэ пасьля некалькі дзён яго дзейнасьці для беларусаў стала зразумелым, што немцы на акупаваных прасторах Беларусі будуць рэалізаваць загадзя падрыхтаваную калёніяльную й экстэрмінацыйную палітыку. Аднак, нягледзячы на гэта, беларускі народ, змучаны й зьдзесяткаваны доўгагадовай няволяй, не скапітуляваў як фізычна, так і маральна. Пакладаючы свае надзеі на той пасьляваенны катаклізм, у якім паняволеныя народы, як кажа быўшы прэзыдэнт ЗША Гувэр, могуць бачыць магчымасьці свайго вызваленьня, беларускі народ узяўся за адбудову асноў свае дзяржаўнае незалежнасьці, выкарыстоўваючы тыя невялікія магчымасьці, якія давалі немцы.

У той час у беларускай нацыянальна-сьведамай грамадзкасьці не было другой плыні, якая-б трымалася іншае думкі. Несучы вялікія ахвяры, змагаючыся з польскай і бальшавіцка-расейскай дывэрсыяй, прыбыўшыя з эміграцыі беларускія нацыянальныя працаўнікі, разам з ацалеўшым на месцах беларускім нацыянальным актывам, прыступілі да арганізацыі Сьвятой Праваслаўнай Беларускай Царквы, сацыяльнае апекі (БНС), адміністрацыі, суду, школьніцтва й моладзі (СБМ). Папаўшы пад крыжовы агонь бальшавікоў, палякаў і немцаў, беларусы выказалі вялікі гэраізм ды нацыянальны ўздым у змаганьні за сваё нацыянальнае дзяржаўнае „я". Гэта свайго роду эпапея. Кароткая ў часе, але як-жа багатая яна падзеямі вялікага нацыянальнага й дзяржаўнага значэньня.

У першых месяцах нямецка-савецкай вайны, калі заіснавала была надзея на свабоду беларускага народу, праваслаўныя сьвятары (а. А. Коўш, а. І. Кушнер, а. М. Лапіцкі, а. Н. П.) і вернікі, вочы й сьведамасьць якіх ужо былі ачышчаны ад маскоўскага павуціньня, распачалі працу над аднаўленьнем Беларускае Праваслаўнае Царквы.

Нацыянальная Царква зьяўляецца магутным дзейнікам у жыцьці кожнага народу. Яна яднае ўсіх у адну сям'ю. Яна захоўвае веру ў Бога й хрысьціянскую мараль. Яна захоўвае родную мову – блізкую, зразумелую, матчыну мову верніка. А таму ў часе ваеннае завірухі й вайсковых падзеяў беларусы за сваю родную Царкву змагаліся, цярпелі й часта ў муках аддавалі душы свае (а. І. Аляхновіч, а. А. Коўш, а. І. Кушнер, а. А. Каліноўскі, а. К. Маеўскі, а. М. Леванчук, а. В. Малашка, а. А. Скабей ды іншыя).

Рух за адраджэньне роднай Царквы ў тых умовах ня мог быць рухам шырокіх царкоўна-грамадзкіх кантактаў ды спакойнай працы. Але нягледзячы на гэта, рух гэты быў глыбока абдуманай і далёка сягаючай дзейнасьцю нацыянальна-сьведамага духавенства й вернікаў, якія занялі становішча, што Праваслаўная Царква на Беларусі мусіць быць аўтакефальнай і незалежнай ад Масквы й Варшавы. Жаданьнем сьведамых беларускіх сьвятароў і вернікаў даўно было пазбыцца панаваньня ў Царкве чужое нацыянальнае гіерархіі й духавенства, якія праз Царкву на Беларусі праводзілі русыфікатарскую палітыку й імкнуліся праз праваслаўе накінуць беларусу разуменьне сябе як расейца. Пачалося змаганьне з гэтым анармальным зьявішчам у жыцьці беларускага народу.

У барацьбе й змаганьні, часта трагічнага зьместу[1], ішла праца, дзякуючы якой адбыўся ў 1942 годзе Ўсебеларускі Сабор Праваслаўнае Царквы ў Менску, які прыняў пастанову аб аднаўленьні аўтакефаліі нашае Царквы. У гэтым была насьпелая неабходнасьць, і на спатканьне ёй пайшоў Сабор БПЦ, у якім бралі ўдзел: архіепіскап Філафей, епіскап Апанас, епіскап Сьцяпан, 43 выбраных прадстаўнікоў духавенства, 65 выбраных прадстаўнікоў ад вернікаў, сябры Перадсаборнае Камісіі й госьці, назіральнікі ад іншых веравызнаньняў і рэдакцыі пэрыёдыку „Беларуская Газэта".

Сабор БПЦ распачаўся 30 жніўня й закончыўся 2 верасьня 1942 году. Ад гэтага часу Беларуская Аўтакефальная Царква ўзыходзіць на свой, Богам вызначаны, нацыянальны шлях. Гэту вялікую гістарычна-царкоўную падзею перажывала й радасна вітала ўсё сьведамае беларускае грамадзтва, незалежна ад розьніцы веравызнаньня й палітычных паглядаў. Перажытае тады хутка зацерлася ў наступаючым сплёце самога жыцьця, як і вострага адчутага зьместу й трагізму барацьбы.

Няўдачы на фронце, а таксама змаганьне беларускага народу за свае правы, змусілі нямецкую акупацыйную ўладу пайсьці на ўступкі й даць

---

[1] Гл.: І. Касяк, З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу, Нью Ёрк, 1956, бб. 80–116.

беларусам нацыянальна-беларускае кіраўніцтва ў форме Беларускае Цэнтральнае Рады (1943), якая правяла ў 1944 годзе мабілізацыю Беларускае Краёвае Абароны, а 27 чэрвеня (1944) склікала Другі Ўсебеларускі Кангрэс, які прыняў наступную рэзалюцыю:

„Другі Ўсебеларускі Кангрэс, сабраўшыся ў Менску праз чвэрць стагодзьдзя пасьля Першага Ўсебеларускага Кангрэсу і выслухаўшы даклады аб падзеях на Беларусі ў часе паміж абыдвума кангрэсамі, аднагалосна пастанавіў:

1. Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якая, маючы паўнамоцтвы Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 году, на сваім сходзе 25 сакавіка 1918 году ўрачыстай 3-й Устаўной Граматай вырашыла аб аканчальным разрыве Беларусі з бальшавіцкаю Масквою й расейскай дзяржавай ува ўсіх яе формах.
2. Пацьвердзіць, што беларускі народ ніколі не прызнаваў, не прызнае цяпер і ніколі не прызнае ў будучыні за форму сваёй беларускай дзяржаўнасьці, накінутую яму маскоўскімі захопнікамі, формы БССР.
3. Паведаміць усе ўрады й народы сьвету, што голас Масквы й СССР у беларускіх справах ня мае ніякай праўнай сілы, а ўсе, твораныя Масквою нібыта беларускія ўрады, ня маюць ніякіх праўных кампэтэнцыяў, бо не вызнаюцца беларускім народам.

   Таму ўсе ўмовы, ці аднабаковыя пастановы ўрадаў СССР, былой Польшчы й сучаснага гэтак званага эміграцыйнага ўраду Польшчы, якія датычаць тэрыторыі Беларусі й беларускага народу й якія былі зроблены раней або будуць зроблены ў будучыні, Другі Ўсебеларускі Кангрэс абвяшчае ня маючымі ніякай праўнай сілы. Як ня будуць мець сілы і ўсялякія іншыя магчымыя спробы падзелу Беларусі з боку іншых дзяржаваў і народаў.
4. Адзіным праўным прадстаўніком беларускага народу й ягонага краю зьяўляецца сягоньня Беларуская Цэнтральная Рада з прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім на чале".

Сабор БПЦ 1942 году ў Менску[2], а таксама Другі Ўсебеларускі Кангрэс у Менску ў 1944 годзе яшчэ раз сьцьвердзілі аб нашым беларускім прадрашэнстве.

Дзяржаўна-прадрашэнскую беларускую канцэпцыю Сабору БПЦ 1942 году й Другога Ўсебеларускага Кангрэсу 1944 году дацэньваюць і нашыя ворагі. А таму, у першую чаргу бальшавікі, а за імі палякі

---

[2] Гл.: Пастановы Сабору, „Царкоўны Сьветач", № 1 (6), Саўт Рывэр, 1955, бб. 9 – 11; „Царкоўны Сьветач", № 1 (8), Саўт Рывэр, 1957, бб. 6 – 8.

й расейцы-эмігранты гісторыю нашай вызвольнай барацьбы за часоў Другой сусьветнай вайны імкнуцца выкрывіць, зьняславіць ды зацерці. Нашы ворагі як заціралі імя наша на старонках гісторыі ў мінуўшчыне, так заціраюць і цяпер. У нішчэньні ўсяго, што беларускае, ворагі нашыя знаходзілі заўсёды супрацоўнікаў сярод людзей нашага народу. На вялікі жаль, знайшлі яны цяпер на эміграцыі сярод беларусаў тых, якія ім у гэтым памагаюць.

Быць пасьлядоўнымі й кансэквэнтнымі ў сваіх нацыянальна-вызвольных канцэпцыях могуць толькі патрыёты вялікія духам. На эміграцыі сярод беларусаў, так як і сярод іншых нацыяў, апрача патрыётаў нацыяналістаў, ёсьць і хамэльёны-слабадухі. Існаваць хамэльён-слабадух можа толькі пры чыёйсьці грашовай падтрымцы. За гэту грашовую падтрымку ў угоду ворагам сягоньня хамэльёны-слабадухі таксама сярод беларускага народу нэгуюць, пашквіляць, а нават прабавалі прыпісваць да калябарацыі зь немцамі нашу вызвольную беларускую барацьбу пад час Другой сусьветнай вайны, у якой самі бралі ўдзел (акцыя М. Абрамчыка, Ст. Станкевіча, В. Пануцэвіча й інш.). Правакацыя, шантаж, пашквіль не далі пажаданых для хамэльёнаў і іх „босаў" вынікаў. Чужая дывэрсыя хаця й разьбіла нас на эміграцыі, але не змагла сабе падпарадкаваць беларусаў незалежнікаў. У апошнія часы, каб ня быць прыладай у чужых руках, выйшлі з падпарадкаваньня Галоўнай Управе БАЗА, у якой гнезьдзіцца чужая дывэрсыя на чале з Ст. Станкевічам, аддзелы БАЗА ў Нью Ёрку й Стамфордзе. Сягоньня яны разам з намі сьвяткуюць Дзень 25 сакавіка, Дзень Беларускага Вэтэрана ды разам змагаюцца на сьвятовай арэне за вольнасьць і незалежнасьць Беларусі. Спадзяемся, што так зробяць і іншыя беларусы, незалежна ад розьніцы веравызнаньня й палітычнага пагляду, кіруючыся ідэяй: супольным фронтам – да супольнай мэты.

Нарэшце, адзначаючы 25-годзьдзе Сабору БАПЦ 1942 году ў Менску, мушу сьцьвердзіць, што мы змагаемся за аўтакефалію БПЦ і імкнемся да яе, але здаем сабе справу з павагі заданьня, якое ад нас вымагае паважнага падыходу й паважных ды веруючых у Бога людзей у епіскапскім сане, якія будуць працаваць на славу нашае БАПЦ і нашага беларускага народу. У чым дапамажы нам, Божа!



# БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ МАНАСТЫР У СУПРАСЬЛІ Й ЯГО „СУПРАСЬЛЬСКАЯ РУКАПІСЬ"

Доля беларускіх праваслаўных сьвятыняў, а таксама доля старажытных помнікаў – гэта доля нашага народу.

Беларускія праваслаўныя сьвятыні перабудоўваюць расейцы, даючы ім характар расейскай архітэктуры ў форме цыбулістых купалоў. Беларускія праваслаўныя сьвятыні забіраюць, разьбіраюць і нішчаць палякі. Беларускія праваслаўныя сьвятыні падчас акупацыі ў 1941–1944 гадох прафануюць і ўзрываюць немцы. Беларускія старажытныя помнікі пісьменнасьці рабуюць, вывозяць, прадаюць, нават нішчаць.

Зьнішчальная рука наезьніка не абмінула й беларускага праваслаўнага манастыра ў Супрасьлі, аб якім расейскі гісторык праф. В. Кудраўцаў у кнізе „Памятники церковной старины" пісаў у 1889 годзе: „История православной культуры тесно связана с прошлым таких примечательных духовных центров как Супрасль". Маленькі, правінцыяльны гарадок Супрасьль некалі быў важным цэнтрам рэлігійнага жыцьця, дзе „наука и благочестие всегда процветали к непоколебимой славе Божьей".

На вялікі жаль, Супрасьльскі манастыр сягоньня не існуе.

Благавешчанская манастырская царква ўзарвана. Манастырскія будынкі заняты пад школу трактарыстаў. Іаана-Багаслоўская царква пасьля доўгага змаганьня стала прыхадзкой царквой Супрасьля. І тольні культурна-царкоўныя, старажытныя помнікі Супрасьльскага манастыра, рабаваныя акупантамі, як цені, снуюцца па сьвеце ды абвінавачваюць тых, хто іх рабуе, вывозіць, прадае...

Нядаўна польская газэта ў Амэрыцы „Gwiazda Polarna" дня 24 жніўня 1968 году ў зацемцы „Kodeks z Supraśla wrócił do Polski" падала наступнае:

„Przed miesiącem dobiegła końca odyseja jednego z bezcennych skarbów kultury światowej, tysiącletniego Kodeksu z Supraśla, najstarszego świadectwa dotyczącego rozwoju języków słowiańskich. „Kodeks z Supraśla" – to zbiór tekstów liturgicznych, kazań i żywotów świętych. Sporządzono go w II połowie XI wieku w Bułgarii w języku starocerkiewnosłowiańskim, a odnaleziony on został w klasztorze Bazylianów w Supraślu w województwie białostockim (stąd jego nazwa) w roku 1923 przez prof. Bobrowskiego i zakupiony przez Bibliotekę Ordynacji Zamojskich. Zrabowany przed hitlerowców w czasie okupacji kodeks w nieznanych okolicznościach znałazł się w Stanach Zjednoczonych. Przedstawiciel pewnej amerykańskiej firmy pozostającej w kontakcie z polskimi centralami handlu zagranicznego nabył go w tajemniczych okolicznościach za sumę ponad 100 tys. dolarów i zastrzegając sobie

anonimowość ofiarował w darze Ambasadzie Polskiej w Waszyngtonie. Bezcenna przesyłka odbyła drogę do Polski na pokładzie m/s „Batory", w pancernym sejfie tego statku. Przewieziony w eskorcie milicyjnej do Warszawy złożony został w skarbcu Biblioteki Narodowe j".

Прыходзіцца ўдакладніць ды прыпомніць, што ня толькі гітлераўцы нішчылі, кралі ды вывозілі нашы помнікі старыны Супрасьля, але й палякі пры дапамозе вуніятаў.

Супрасьльскі манастыр быў заснаваны ў канцы XV стагодзьдзя. Фундатарам яго быў наваградзкі ваявода Аляксандар Хадкевіч[1]. Ён у 1498 годзе зь Кіева-Пячэрскай Лаўры (ёсьць прыпушчэньне, што з Афона) запрасіў манахаў, якія й заснавалі манастыр. Спачатку манахі абасналіся ў Гарадку, але пасьля перанясьліся ў Супрасьль, як месца больш адпаведнае для манастыра. У 1505 годзе, калі атрымалі грамату й благаславеньне на заснаваньне манастыра ад Канстантынопальскага патрыярха Якіма, прыступілі да пабудовы мураванай Сьвятой Благавешчанскай царквы, якую закончылі й асьвяцілі ў 1516 годзе.

Архітэктура Сьвятой Благавешчанскай царквы была беларуская. У ейнай аснове ляжыць паварот да даўно загубленай традыцыі XII стагодзьдзя, да візантыйскіх формаў, але ўжо ў зусім новым, творча перапрацаваным выглядзе. Чатыры вуглавыя вежы (байніцы), каменныя франтоны з амбразурамі, цагляныя нетынкаваныя сьцены – вось тыя рысы беларускага царкоўнага будаўніцтва, згодна зь якім была пабудавана Сьвятая Благавешчанская царква ў Супрасьльскім манастыры.

У сярэдзіне царква была расьпісана надзвычайнай фрэскавай жывапісьсю. У кнізе „Белоруссія и Литва" П. Н. Бацюшкаў піша:

„Относясь к первой половине шестнадцатого века, супрасльская роспись представляет собой образец лучшего периода православной иконописи. Свод купола занимает восьмиконечная звезда, в середине которой на голубом фоне, усеянном золотыми звездами, изображен благославляющий Спаситель с Евангелием в левой руке, а в оконечностях звезды помещены огненные херувимы. Под изображением следует ряд архангелов и серафимов, а под ними – орнаменты. Во втором ряду идут ветхозаветные цари и пророки, под ними – орнаменты и славянские надписи. Под куполом, в парусах, изображены эмблемы евангелистов: ангел, телец, лев и орел. В шестом ряду открыты три картины из жизни Спасителя, а в седьмом – из жизни Божией Матери и чудотворные иконы (около хор и под ними). В восьмом и девятом рядах – святые, чтимые Православной Церковью. Внутренние столбы храма также расписаны в четыре яруса".

---

[1] У XVI стагодзьдзі другі Хадкевіч заснаваў у Заблудаве, каля Беластоку друкарню, у якой у 1569 годзе было надрукавана Евангельле, а ў 1570 годзе – Псалтыр і Часаслоў.

Пара́ роскквіту манастыра прыпадае на XVI стагодзьдзе. Колькасьць манахаў даходзіла да ста душ. Устаў манастыра быў суровы. Манастырскі чын Сьвятога Васілія Вялікага захоўваўся ўва ўсёй яго паўнаце. Сярод манахаў былі схімнікі, а таксама й кніжныя людзі. А таму манастыр быў ня толькі асяродкам манашага жыцьця, але й асяродкам асьветы й культуры. Тут маляваліся іконы. Тут пісаліся кнігі й летапісы аб Беларусі. Тут знаходзіліся кнігасховішчы, дзе перахоўваліся „Супрасьльская рукапісь", якую газэта „Gwiazda Polarna" назвала „Кодэксам з Супрасьля", „Супрасьльская летапісь", рукапісныя Евангельлі, месячныя Мінеі й іншыя.

У XVI стагодзьдзі Супрасьльскі манастыр наведаў Канстантынопальскі патрыярх Ісрэмія, а таксама Сербскі патрыярх Гаўрыіл.

Пасьля Берасьцейскай вуніі 1596 году Супрасьльскі манастыр, як і бальшыня праваслаўнага народу й духавенства, выступіў супроць вуніі. Аднак сілы ў барацьбе за праваслаўную веру й беларускую народнасьць былі няроўныя. У 1601 годзе вуніяцкі мітрапаліт Іпацій Пацей запатрабаваў, каб манастыр прылучыўся да вуніі. Ігумен манастыра, архімандрыт Іларыён Масальскі разам з брацією адмовіўся падпарадкавацца мітрапаліту Іпацію Пацею, за што польскі кароль Сыгізмунд III асудзіў архімандрыта І. Масальскага, як бунтаўшчыка, на выгнаньне.

У 1609 годзе ў Супрасьльскім манастыры паявіўся новы настаяцель Нікадзім Шыбанскі, пры якім манастыр быў пераданы пад націскам польскага караля вуніятам. За часоў вуніі Супрасльскі манастыр прыйшоў да заняпаду. Мітрапаліт Пётра Магіла пісаў Касьяну Саковічу, былому рэктару Кіеўскай Акадэміі: „Паглядзі на слаўны ў Літве манастыр Супрасьльскі! Сягоньня да чаго ён даправаджаны?! Дзе тыя дрэўнія іконы, каторыя ўпрыгожаны былі сярэбранымі й пазалочанымі рызамі?! Замест іх пастаўлены палатняныя–італьянскія". Мала гэтага, каб не зналі ўнукі, „хто такія іх дзяды", вуніяты пашкодзілі фрэскавую жывапісь, замазаўшы белым тынкам лікі праваслаўных сьвятых.

Падчас вуніі дух іначаскага падвіжніцтва пачаў занепадаць. Колькасьць манахаў зьменшылася, і манастыр страціў сваё значэньне й свой уплыў на вернікаў.

У 1839 годзе Супрасьльскі манастыр спалучыўся з Праваслаўнай Царквой. Пасьля гэтага была пастроена другая мураваная Сьвятая Іаана-Багаслоўская царква (драўляная згарэла). Былі рэстаўраваны старыя фрэскі ў Благавешчанскай царкве. Прыбыло манахаў, і манастыр прыбраў узноў характар праваслаўнай сьвятыні.

Па сканчэньні Першай сусьветнай вайны дзяржаўныя ўлады Польшчы Супрасьльскі манастыр і яго майно сканфіскавалі й перадалі Рымакаталіцкаму Касьцёлу, нягледзячы на тое, што ён быў пабудаваны на сродкі праваслаўных фундатараў як праваслаўны манастыр.

У 1944 годзе, падчас Другое сусьветнае вайны, пры адступленьні гітлераўскія войскі ўзарвалі Сьвятую Благавешчанскую царкву. На месцы, дзе на працягу больш чымся 400 гадоў красаваўся архітэктурны помнік XV стагодзьдзя, асталіся адно разваліны. І толькі прыгожы альбом „Супрасьльскі Благавешчанскі Манастыр", выданы ў 1916 годзе выдаўніцтвам „Маяк", цяпер зьяўляецца адзіным дакумэнтальным сьвядоцтвам існаваньня Сьвятой Благавешчанскай царквы ў Супрасьльскім манастыры. Ад манастыра асталася Іаана-Багаслоўская царква, галоўныя вароты з высокай званіцай і манастырскія будынкі, якія заняты цяпер школай трактарыстаў.

Сьвятая Іаана-Багаслоўская царква стала парафіяльнай, але ў 1956 годзе польская адміністрацыйная ўлада зачыніла яе і ў 1957 годзе прыступіла да разборкі. Як бачым, паміж акупантамі Беларусі няма розьніцы. Гітлераўцы ўзарвалі Сьвятую Благавешчанскую царкву ў Супрасьльскім манастыры, а палякі зачынілі Сьвятую Іаана-Багаслоўскую царкву ды прыступілі да разборкі. У абароне царквы выступілі прыхаджане й гэтым змусілі затрымаць разборку ды ў 1957 годзе вярнуць царкву, у якой сягоньня людзі беларускія моляцца Богу.

Зь імем Супрасьльскага манастыра спалучана, як зазначана ўжо вышэй, „Супрасьльская рукапісь" – старажытны помнік царкоўна-славянскай мовы X–XI стагодзьдзяў. Гэтаму помніку прысьвечана багатая літаратура на розных мовах і ў беларускай літаратуры. Таксама ў украінскай, расейскай і чэскай ён ведамы пад імем „Супрасьльскай рукапісі". Няведама чаму, вышэй успомненая польская газэта назвала яе „Кодэксам з Супрасьля".

Супрасльская рукапісь да 1823 году знаходзілася ў кнігасховішчах Супрасльскага манастыра. У 1823 годзе вуніятамі яна была перадана каноніку Міхаілу Баброўскаму, прафэсару Віленскага ўнівэрсытэту. Пасьля М. Баброўскі невялікую частку „Супрасьльскай рукапісі" перадаў, а, магчыма, і прадаў ведамаму славісту В. Капітару, а другую, большую частку, пакінуў сабе.

Пасьля сьмерці М. Баброўскага, ягоная частка рукапісі трапіла ў рукі абшарніка Стрэльбіцкага, каторы падзяліў яе яшчэ раз на дзьве часткі й прадаў адну частку графу Замойскаму ў Варшаве, а другую праф. А. Бычкову ў Петраградзе.

Такім чынам, да Другой сусьветнай вайны „Супрасьльская рукапісь" знаходзілася ў трох месцах: 16 лістоў – у Бібліятэцы ім. Салтыкова-Шчэдрына ў Ленінградзе, 118 лістоў – у Бібліятэцы Ліцэя ў Любляне (Югаславія) і 151 ліст – у Бібліятэцы ім. Замойскіх у Варшаве.

Зьмест „Супрасльскай рукапісі"– гэта жыцьці сьвятых за месяц сакавік (няпоўнае), 20 слоў Сьв. Іаана Златавуста, слова Сьв. Епіфанія,

епіскапа Кіпрскага й слова Сьв. Канстантынопальскага патрыярха Фоцыя.

„Супрасьльская рукапісь"– ёсьць пераклад з грэцкай мовы. Зрабілі яго, магчыма, вучні Сьв. Кірылы й Сьв. Мяфодзія ў Баўгарыі. Прынесьлі яе ў Супрасьльскі манастыр манахі з Афона або манахі, якія мелі лучнасьць з Афонам.

У Супрасьльскім манастыры знаходзілася таксама „Супрасьльская летапісь", якая пісалася на Беларусі ў XV XVI стагодзьдзях. У ёй былі запісаны гістарычныя падзеі Беларусі і Ўкраіны, пачынаючы з IX стагодзьдзя.

Гісторыя Супрасьльскага манастыра й помнікі, спалучаныя зь яго імем, сьведчаць аб вялікім ня толькі царкоўна-рэлігійным, але й культурна-асьветным значэньні манастыра ў Супрасьлі.

На вялікі жаль, ён ужо як манастыр зьнішчаны. Зьнішчаны й яго старажытныя помнікі пісьменства, за выняткам толькі тых, якія прысабечаны палякамі, расейцамі, а нават сербамі, і якія павінны быць зьвернуты іх уласьніку – беларускаму народу, калі Беларусь стане вольнай і незалежнай дзяржавай. Характэрна, што аб павароце „Супрасльскай рукапісі" нават пісаў пляменьнік каноніка праф. М. Баброўскага, П. А. Баброўскі ў артыкуле „Судьба Супрасьльской Рукописи"[2]. Ён сьцьвярджае, што, калі-б не раптоўная сьмерць, дык ягоны дзядзька, канонік праф. М. Баброўскі вярнуў-бы „Супрасьльскую рукапісь" Супрасьльскаму манастыру.

## З ВУНІЯЦКІХ НЕРАТАЎ НА ВОЛЮ

Тры гады трывала цяжкая барацьба ў прыходзе Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы імя Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. З аднаго боку, праваслаўныя прыхаджане баранілі правоў кіраўніцтва прыходам праз выбіраную імі Царкоўную Раду, як і сваё права собскасьці на царкву, купленую прыхаджанамі. З другога боку, архіепіскап Васіль, каб прыхадзкую царкву ператварыць на свой катэдральны сабор, адлучыў ад царквы Царкоўную Раду, якая супрацiўлялася гэтаму. Вызначыў Царкоўную Раду са сваіх прыхільнікаў і, нарэшце, распачаў судовую справу, не зьвяртаючы ўвагі на тое, што каноны забараняюць духоўнікам, а тым болей епіскапам, судзіцца са сваімі вернікамі ў сьвецкіх судох. Не зьвяртаў уладыка ўвагі й на тое, што кожную нядзелю перад царквой і ў царкве сварыліся людзі, штурхаліся, выклікалі паліцыю

[2] Журнал Министерства Народного Просвещения за 1887, С.-Петербург, 1887, кн. X, сс. 268 – 311; кн. XI, сс. 79 – 102.

ды ў дзьвярох мянялі замкі. Адным словам, кампраміталі БАПЦ і імя беларуса. Асабліва бурнай была нядзеля, калі прыехалі людзі зь Нью Брансвіку, а разам зь імі й Васіль Кендыш для прыняцьця сану сьвятара.

Валтузьня перад замкнёнай царквой працягвалася болей 2 гадзін, пасьля чаго адны з болем у сэрцы пайшлі дамоў, а другія, на чале з архіепіскапам Васілём, увайшлі ў царкву, дзе й адбылася высьвята В. Кендыша ў сан сьвятара, не зьвяртаючы ўвагі на словы Сьвятога Евангельля, якія вучаць: „Калі ты прынясеш ахвяру тваю на ахвярнік і там прыпомніш, што брат твой мае штось проці цябе, пакінь там ахвяру перад ахвярнікам і пайдзі перш пагадзіся з братам, а тады прыйдзі й прынясі ахвяру тваю" (Ев. Мацьв. 5, 23 – 24).

На епархіяльным зьезьдзе ў Таронта, які ў знак пратэсту пакінулі прадстаўнікі Бруклінскага й Кліўлендскага прыходаў, архіепіскап Васіль накінуў царкве свой статут, паводле якога ўзяў пад сваё непасрэднае ўладаньне катэдральны сабор і бруклінскую прыхадзкую царкву. Гэты статут ён управамоцніў у сьвецкіх уладаў штату Нью Ёрк. На аснове гэтага статуту сьвецкі суд прызнаў архіепіскапу Васілю права на карыстаньне й адміністраваньне царквой, а Царкоўнай Радзе, адлучанай ад царквы архіепіскапам Васілём, суд прызнаў права легальнасьці.

Бачучы немагчымасьць далейшага прабываньня ў такой атмасфэры, Царкоўная Рада й прыхаджане ў ліку звыш 50 прадстаўнікоў ад сем'яў сабраліся на сход дня 10 лістапада 1968 году у Квінсе (Нью Ёрк) Пасьля даўжэйшых дыскусыяў Царкоўная Рада й прыхаджане Беларускай Праваслаўнай Царквы прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне (сьпіс прысутных далучаецца) пастанавілі:

1. Гэтым часам поўнасьцю парваць сувязь з архіепіскапам Васілём і сучаснай БАПЦ.
2. Для ўтрыманьня праваслаўнай веры й царкоўнага жыцьця ў прыходзе, згодна з традыцыямі й канонамі Праваслаўнае Царквы, прывезенымі зь Беларусі, пастанавілі часова ўвайсьці ў юрысдыкцыю архіепіскапа Якава, экзарха Канстантынопальскага патрыярха, як Царквы-Маткі для Праваслаўнае Царквы на Беларусі і ў вольным сьвеце.
3. Пастанавілі ў далейшым дзеіць у напрамку стварэньня Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы ў вольным сьвеце на кананічных асновах.
4. Пастанавілі неадкладна распачаць багаслужэньні ў прынагодным памяшчэньні, запрасіўшы на настаяцеля а. протад. Сьвятаслава Каўша.

5. Пастанавілі пабудаваць новую царкву для прыходу, разам з заляй і памяшчэньнямі для царкоўна-грамадзкіх патрэбаў, як і памешканьнем для сьвятара.

Сход выбраў будаўнічы камітэт і статутовую камісію.

Такім чынам, пераможна закончылася змаганьне праваслаўных беларусаў, якія выйшлі на верны праваслаўны беларускі шлях жыцьця й дзейнасьці, рашуча й канчаткова адкінулі намаганьні цёмных сілаў трымаць іх у сваіх нератах.

Апісанае вышэй здарэньне выглядае на звычайную справу: у прыходзе адбывалася барацьба за царкоўную маёмасьць, за выбіральнасьць Царкоўнае Рады прыхаджанамі й г. д. Аднак за гэтай фармальнай стараной крыецца сутнасьць зусім адменнага парадку. Праваслаўныя беларусы маюць пераканаHьне, што сучасная БАПЦ зьяўляецца творам ватыканскіх дзейнікаў, якія й сягоньня працуюць за кулісамі на яе шкоду.

Падзеі ў прыходзе Сьв. Кірылы Тураўскага не зьяўляюцца адасобненым здарэньнем у жыцьці БАПЦ. Працэс раскладу і ўпадку адбываецца паўсюдна й штодзённа ўва ўсёй сыстэме гэтае царквы. Штучна створаная й маючая выключна вуніяцкія непрадрашэнскія мэты, БАПЦ ня вытрымала экзамену часу. Гэта не да БАПЦ Сяргея Ахоценкі й епіскапа Васіля (Тамашчыка) адносяцца словы Госпада Ісуса Хрыста, Каторы казаў: „На камені веры збудую Царкву, якую не разбураць брамы пекла". Вера была каменем, на якім пабудаваў Сьвятую Царкву Хрыстос. Ня было веры ў БАПЦ крывіцкага выданьня, бо яна служыла й сваімі рэштками прадаўжае служыць непрадрашэнскай вуніяцкай справе. Тыя „малыя", што зь вераю прыйшлі ў яе, бо хацелі бачыць зьмест, які абяцаў назоў, адышлі або адыходзяць з расчараваньнем у сэрцы. Яны пабачылі вачыма й адчулі сэрцам, што епіскапы БАПЦ не зьмяніліся з Саўлаў у Паўлаў. Пострыг у манахі й перамена імені для гэтых епіскапаў асталіся простаю фармальнасьцю: яны не зракліся „жыцейскага ныне", а ўнесьлі яго як сымптом раскладу ў заплянаваную імі царкву. Архіепіскап гэтае царквы Васіль (Тамашчык), як стаўленік М. Абрамчыка, біскупа Ч. Сіповіча, Ст. Станкевіча, поўнасьцю падпарадкваецца дырэктывам іх, а яны ведамыя як непрадрашэнцы й прыхільнікі вуніі, а не БАПЦ.

За паўсьвету ад Нью Ёрку, у Адэлаідзе (Аўстралія) адбыліся падзеі, аналягічныя тым, што мелі месца ў прыходзе Сьв. Кірылы Тураўскага. І там беларускі прыход выйшаў зь юрысдыкцыі БАПЦ і часова знаходзіцца пад апекай архіепіскапа УАПЦ Сыльвестра. З часапісу „Праваслаўным

Шляхам"[1], які выдаецца ў Аўстраліі архімандрытам Мадэстам, даведваемся, што ў вышэй згаданым прыходзе ў Адэлаідзе заіснавалі інтрыгі, пасеяныя духавенствам і епіскапам БАПЦ, падобныя тым, якіх сьведкамі мы былі ў Брукліне. І там адбыўся падзел на „сваіх" і „чужых". Прычым, „чужых" выдалялі з прыходу, аблівалі балотам, правакавалі да падкіданьня камуністычнае літаратуры, з мэтаю ачарніць паасобных людзей у вачох аўстралійскае грамадзкасьці і ўладаў.

Бескарыснымі асталіся звароты парафіянаў царквы Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэлаідзе да галавы БАПЦ Сяргея Ахоценкі, бо ён, як чужынец, не зацікаўлены ў тым, каб ачысьціць атмасфэру ў БАПЦ ад вунійнай акцыі, пры якой яму, простаму, малапісьменнаму манаху ў епіскапскім сане, лягчэй лавіць рыбку ў мутнай вадзе. Апрача таго, так як і пры аднаўленьні БАПЦ у Канстанцы, адкінуўшы каноны й царкоўныя традыцыі, ён, пакінуўшы сваіх „авечак", заняты другімі „адшчапенцамі".

Вунійны часапіс „Божым Шляхам" піша: „Хаця нас тут і нямнога, але даўжэйшы час утрымлівалі ўладыку Сяргея... Але вось два гады таму дзеля няведамых прычынаў уладыка нас пакінуў і дзесьці цяпер пасе болей „культурныя авечкі"[2]. Раней ён грэў рукі на „крывіцкіх" закалотах у беларусаў, а цяпер грэе рукі каля вогнішча разладу ў Грэцкай Царкве ў Аўстраліі, распаленым ім і адшчапенцамі ад Грэцкай Царквы, якія стварылі „сынод аўтакефальнай грэцкай царквы" ў Аўстраліі, сябрам якога ёсьць і „галава" БАПЦ Сяргей Ахоценка. Сусьветны Канстантынопальскі патрыярх Атэнагор забараніў усім Праваслаўным Цэрквам служыць і мець духовую лучнасьць з гэтым новатворам і ягонымі ўдзельнікамі, а гэта значыць і з БАПЦ, на чале якой стаіць Сяргей Ахоценка.

Хаос у радох БАПЦ дайшоў да таго, што паводле карэспандэнта часапісу „Праваслаўным Шляхам" падчас хіратоніі Андрэя Крыта паміналі Маскоўскага патрыярха Аляксея. Падобнымі кур'ёзамі была абстаўлена хіратонія ў епіскапы БАПЦ і Мікалая Мацукевіча.

„Украінская Праваслаўная Інфармацыйная Служба" (Мэльбурн, Аўстралія), піша: „Хіратонія. З Адэлаіды (Аўстралія) паведамляюць: 10.3.1968 г., для Беларускае АПЦарквы ў Амэрыцы высьвечвалі Мікалая Мацукевіча ў епіскапы – Сяргей Ахоценка, Дзімітры, сербскі епіскап із Сыднэя, Данат Буртан із Мэльбурну й Васіль Тамашчык з амэрыканскае БАПЦ. Пры высьвячэньні ўсердна памінаглі Маскоўскага патрыярха Аляксея"[3].

---

[1] „Праваслаўным Шляхам", № 2 (12), Ст. Албанс, 1968.

[2] „Божым Шляхам", № 3 (108), Лондан, 1968, б. 19.

[3] „Украінская Праваслаўная Інфармацыйная Служба", № 28, Мэльбурн, 1968, с. 28.

Епіскапы, якія прымалі ўдзел у гэтых „хіратоніях", адлучаны ад адзінства зь Сьвятой Сусьветнай Праваслаўнай Царквою загадам Сусьветнага патрыярха Атэнагора[4].

Як бачым, вунійная й непрадрашэнская акцыя асягнула мэту. Сучасная груповая БАПЦ, адкінуўшы каноны – асноўныя законы, якімі мусяць кіравацца веруючыя ў Бога епіскапы, духавенства й народ, сталася царквой, якая ня мае нічога супольнага зь Сьвятой Сусьветнай Праваслаўнай Царквой й Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой Цамблака, Мелхісэдэка й 1942 году.

Беларуская праваслаўная грамадзкасьць працуе й будзе працаваць і імкнецца да аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы, і з Божаю дапамогаю асягне гэтую мэту, ня здрадзіўшы сваёй праваслаўнай веры й Праваслаўнае Царквы.

## ХІРАТОНІЯ а. СЬВЯТАСЛАВА КАЎША

9 лютага гэтага году ў царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкае ў Саўт Рывэры адбылося рукапалажэньне ў сьвяшчэньніцкі сан протадыякана Сьвятаслава Каўша.

Чын рукапалажэньня выканаў мітрапаліт Гэрманос Полізойдэс Гіераполійскі з даручэньня архіепіскапа Якаваса, экзарха Канстантынопальскага патрыярха для Паўночнае й Паўдзённае Амэрыкі. Рукапалажэньне а. Сьвятаслава Каўша было вынікам просьбы парафіянаў амэрыканска-беларускае парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку, адрэсаванае да Яго Высокапрэасьвяшчэнства архіепіскапа Якаваса 23 лістапада 1968 году ў выкананьне пастановы агульнага сходу сяброў вышэй успомненае парафіі.

Стомленыя судовым прасьледаваньнем свайго „архіпастыра" Васіля Тамашчыка, пазбаўленыя духоўнае апекі й выклятыя „сьмірэнным" Васілём, парафіяне Сьвята-Кірылаўскае парафіі былі змушаны шукаць духоўнае апекі ўва ўлоньні маткі праваслаўя – Канстантынопальскай Патрыярхіі. Нялёгка ім было парываць зь іменем Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Пераканаўшыся ў бязмэтнасьці шуканьня супольнае мовы з Васілём Тамашчыкам, беларусы Нью Ёрку зварочваліся да іншых гіерархаў БАПЦ за дапамогай, але такое не атрымалі.

Для іх стала відавочным, што БАПЦ канстанцкага выданьня – гэта толькі міраж, за якім хаваецца нацыянальная й рэлігійная пустэча. З болем у сэрцы яны пакідаюць плады іх шматгадовае працы: царкву,

[4] Пратакол № 787, 18 верасьня 1962 году, Царгорад.

могілкі, усю царкоўную маёмасьць, набытыя за іх, цяжкой працай зароблены, даляр. Пакідаючы ўсе матар'яльныя вартасьці „сьмірэннаму" Васілю, яны забралі з сабою найвялікшую рэлігійна-нацыянальную вартасьць – імя свайго апякуна Сьвятога Кірылы Тураўскага, бо гэтае імя вынесьлі з Бацькаўшчыны, і, як рэліквію, з піетызмам прынесьлі ў новы сьвет. З даверам да свайго душпастыра а. Сьвятаслава й пры падтрымцы іншага беларускага духавенства, а ў першую чаргу, протапрэсьвіцера Мікалая Лапіцкага, беларусы Нью Ёрку пачалі будаваць сваю парафію на новым фундаманце, ідучы да сапраўднае Беларускае Аўтакефаліі. Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага ўжо залегалізавана ў штатных уладаў і мае г. зв. „чартар", набыты пляц для будучае царквы й вядзецца падрыхтоўка да яе пабудовы. Парафіяне адгукнуліся на заклік Камітэту, кіруючыся прынцыпамі „рука даючага не зьбяднее". Зь вялікадушнага дазволу ўладыкі Андрэя Бажэсьцьвеныя літургіі адбываюцца да часу пабудовы ўласнае сьвятыні ўва ўкраінскай царкве на 139 вуліцы ў Джамэйка (Нью Ёрк).

Незабыўнае ўражаньне зрабіла першая Божая служба, адпраўленая саборна беларускім духавенствам Нью Ёрку й Нью Джэрзі ў наступным складзе: протапрэсьвіцер М. Лапіцкі, ігумен Язэп Строк, прот. Іаан Малаток, настаяцель Сьвятаслаў Коўш. Колькасьць наведваючых няўхільна расьце, а душы вернікаў поўняцца радасьцю й гараць агнём сьвечак перад іконамі Збавіцеля, Божае Маці ды ўсіх сьвятых. Няхай Бог Усемагутны благаславіць добры пачатак вянцом посьпеху!

## ЖЫЦЬЦЁВЫ ШЛЯХ а. СЬВЯТАСЛАВА КАЎША

Айцец Сьвятаслаў Коўш нарадзіўся 25 сьнежня 1916 году у Вільні ў сям'і сьвяшчэньніка. Ягоны бацька – ведамы ў свой час змагар за беларускую мову ў царкве й беларускі незалежнік а. Аляксандр Коўш, маці – Альжбета з дому Суравец, нястомная дапаможніца айца Аляксандра ў ягонай барацьбе. На яе плячох спачываў абавязак узгадаваньня дзяцей – Сьвятаслава й Зоі, калі польскія ўлады арыштоўвалі й трымалі ў астрозе на Лукішках або ў Вронках а. Аляксандра за ягоную беларускую незалежніцкую дзейнасьць. Сярэднюю асьвету айцец Сьвятаслаў атрымаў у Віленскай Беларускай Гімназіі, якую скончыў у 1934 годзе. Базыльянскія муры, у якіх памяшчалася Віленская Беларуская Гімназія й Сьвята-Тройцкі манастыр, які высіўся на гімназіяльным дварышчы на тым месцы, дзе памерлі Сьвятыя Віленскія Мучанікі, ды ўся Вільня зь сілуэтамі трох крыжоў над Віленкай і рэшткамі замку Гэдыміна над Вяльлёй, зрабілі незабыўны уплыў на а. Сьвятаслава.

Вышэйшую асьвету здабыў на юрыдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту Сьцяпана Баторага, куды паступіў адразу пасьля сканчэньня гімназіі. На працягу студэнцкіх гадоў а. Сьвятаслаў быў дзейным сябрам Беларускага Студэнцкага Саюзу гэтага ўнівэрсытэту й зьяўляўся сябрам рэдакцыйнае калегіі „Студэнцкае Трыбуны". У 1936 годзе ажаніўся зь Верай Мікалаеўнай Багаткевіч, дачкой псаломшчыка Ласіцкае парафіі ў Пастаўскім павеце.

28 ліпеня 1938 году а. Сьвятаслаў быў рукапалажаны ў сан дыякана ў Сьвята-Духаўскім манастыры ў Вільні, злажыўшы папярэдне экзамен па багаслоўскіх дысцыплінах. Ягоным першым прыходам было Засульле, Стаўпецкага павету, дзе яго й захапіла вайна: няпрошанае беларусамі „вызваленьне" Заходняе Беларусі бальшавікамі ў 1939 годзе й прыход немцаў у 1941 годзе.

У цяжкіх абставінах вайны ён ніколі не парываў лучнасьці зь беларускім народам і скарыстоўваў усякую нагоду, каб рабіць беларускую справу ў культурна-прасьветным і адміністрацыйным напрамку. Перад паўторным прыходам бальшавікоў адыйшоў на захад разам з антыбальшавіцкай масай, і ў самых цяжкіх абставінах бежанства трымаўся разам зь беларускай грамадой. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны, калі яшчэ не астыглі пажарышчы вайны, заснаваў беларускі лягер у Ватэнштэце каля Браўншвайгу ды аставаўся ягоным кіраўніком да выезду ў Амэрыку ў 1949 годзе, адначасна зьяўляючыся настаўнікам Беларускае Гімназіі ў гэтым лягеры. Пасьля прыезду ў Амэрыку абаснаваўся ў Саўт Рывэры, Нью Джэрзі. Тут а. Сьвятаслаў адразу ўліўся ў нацыянальна-грамадзкую працу мясцовае беларускае калёніі. Прымаў дзейны ўдзел у арганізацыі прыходу Сьв. Еўфрасіньні Полацкае й зьяўляецца адным зь сяброў-закладчыкаў гэтага прыходу, падпісаўшым ягоны легалізацыйны дакумант, г. зв. „чартар". Зарабляючы на жыцьцё фізычнай працай, знаходзіў час для таго, каб саслужыць айцу протапрэсьвіцеру Мікалаю Лапіцкаму як дыякан. У сваёй працы заўсёды меў падтрымку матушкі Веры Мікалаеўны. У 1962 годзе а. Сьвятаслаў з матушкай панесьлі цяжкую сямейную страту ў асобе іх старэйшага сына Анатоля, які трагічна загінуў у Нямеччыне, дзе адбываў вайсковы абавязак у амэрыканскай арміі. Іх малодшы сын Алег скончыў Райдэрс каледж у Трэнтане ў 1968 годзе. Ажаніўся ў 1969 годзе і ў дадзены момант працуе настаўнікам „гайскул" у Саўт Амбоі, Нью Джэрзі.

У іерэйскі сан а. Сьвятаслаў быў хіратанізаваны 9 лютага гэтага году у Саўтрывэрскай царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкае мітрапалітам Гэрманосам Полізойдэсам Гіераполійскім з даручэньня архіепіскапа Якаваса, экзарха Канстантынопальскага патрыярха для Паўночнае й Паўдзённае Амэрыкі.

# АМЭРЫКАНСКА-МАСКОЎСКАЯ „АЎТАКЕФАЛІЯ”

У днях ад 20 да 22 кастрычніка 1970 году расейска-амэрыканская праваслаўная мітраполія на чале зь мітрапалітам Ірынеем агаласіла г. зв. амэрыканскую аўтакефалію з благаслаўленьня Маскоўскай Патрыярхіі, якой кіруе сябра бязбожнай камуністычнай партыі В. Кураедаў, старшыня Савету ў справах рэлігіі пры Савеце Міністраў СССР. Як ён і камуністычная партыя кіруюць справамі Праваслаўнае Царквы ў СССР, ведае эміграцыя, якая ў выніку Другое сусьветнае вайны вырвалася з СССР і сягоньня жыве ў вольным сьвеце. Гэтая эміграцыя ўласнымі вачыма бачыла Галгофу ды чула стогны й плач Праваслаўнае Царквы, калі яе прасьледавалі й нішчылі згодна з дэкрэтам 1 травеня 1932 году. Паводле гэтага дэкрэту, каторым была аб'яўлена бязбожная пяцілетка, злачыннай бальшавіцкай рукой расстрэлена, замучана, зажыва спалена ці ўтоплена сотні епіскапаў, тысячы духоўных, мільёны ў Бога веруючых людзей. На гэтым месцы няма магчымасьці пералічыць іхнія імёны, а таму ўспомнім толькі замучаных дастойных гіерархаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы: мітрапаліт Мелхісэдэк – памёр на выгнаньні ў 1931 годзе, Іаан, епіскап Мазырскі – памёр у канцлягеры ў 1927 годзе, Мікалай, епіскап Слуцкі – памёр у вастрозе ў 1931 годзе й Філарэт, епіскап Бабруйскі – памёр гэтаксама ў вастрозе ў 1939 годзе.

Адначасна з гэтым бальшавіцкая ўлада толькі на Беларусі зачыніла болей чымся 2500 цэркваў і 23 манастыры. Частку іх зьнішчыла, а частку ператварыла ў камсамольскія клюбы, кіно, музэі й склады. Ведамы расейскі Салавецкі манастыр стаўся месцам зьдзеку й мучаніцтва над хрысьціянамі, калі савецкая ўлада ператварыла яго на канцлягер. Гэтыя прасьледаваньні Праваслаўнае Царквы ня спыняюцца й да сягоньняшняга дня.

Рэч ясная й для кожнага чэснага чалавека зразумелая, што камуністычная Масква дала праз сваю агентуру „аўтакефалію” ня з тою мэтаю, каб узмоцніць Праваслаўную Царкву ў Амэрыцы, але выключна й толькі для таго, каб здэмаралізаваць і зьнішчыць яе, так як гэта ўжо зрабіла яна і ў СССР. Розьніца тут у тым толькі, што ў Амэрыцы яна ня можа стасаваць крывавы тэрор, а толькі іншы спосаб, пайменна – маральны расклад знутры.

Як і трэба было спадзявацца, умешваньне Амэрыканска-Маскоўскай Патрыярхіі ў царкоўнае жыцьцё выклікала рэакцыю Сусьветнага Канстантынопальскага патрыярха Атэнагора. Дня 8 студзеня 1970 году Сьвяцейшы патрыярх Атэнагор выслаў пасланьне Маскоўскай Патрыярхіі, у каторым імкнецца пераканаць у шкадлівасьці паступаваньня

апошняй, ды спэцыяльна зварочвае ўвагу на парушэньне й ігнараваньне ў дадзеным выпадку Маскоўскай Патрыярхіяй праў і прывілеяў Усяленскага Канстантынопальскага патрыярха. Досыць доўгае пасланьне патрыярха Атэнагора канчаецца наступным засьцеражэньнем:

„Калі Сьвятая Расейская Царква, не зважаючы на нашу брацкую параду й пераконваньне, будзе прадаўжаць рэалізацыю намеру ў агалошаньні аўтакефаліі Расейскай Праваслаўнай Царквы ў Амэрыцы, дык наш Пасад не прызнае гэтага дзеяньня й ня ўпіша гэтае Царквы ў дыптыхэ Сьвятых Праваслаўных Аўтакефальных Цэркваў. Згодна з гэтым Мы-б агаласілі гэтую Царкву, якую Вы хочаце агаласіць Аўтакефальнай, як *некананічную*.

Апрача гэтага, Мы ўважаем, што маем абавязак паведаміць пра нашу пастанову нашых братоў у Хрысьце, патрыярхаў, архіепіскапаў і галавы Сьвятых Праваслаўных Аўтакефальных Цэркваў і кожнаму зь іх вышлем копію гэтага нашага патрыяршага пасланьня да ведама. Копію пасылаем і Высокапрэасьвяшчэньнейшаму Якаву, архіепіскапу Паўночнай і Паўдзённай Амэрыкі.

Мы накіроўваем гэту пастанову Сьвяцейшага Сыноду з надзеяй, што ад сягоньня ўсякая акцыя, якая магла-б парушыць супакой і мір у Царкве, будзе ўстрымана.

Ваш брат у Хрысьце Атэнагор Канстантынопальскі".

Пасланьне патрыярха Атэнагора не займела свайго ўплыву ў Маскве. Бязбожныя крамлёўскія валадары, якім падпарадкавана Маскоўская Патрыярхія, зьігнаравалі голас патрыярха Атэнагора й гэтым працягваюць сваю нікчэмную акцыю. Па-першае, падарвалі прэстыж Усяленскага патрыярха, а па-другое, падпарадкавалі сабе адну з найбольшых мітраполіяў і гэтым самым адчынілі шырока дзьверы яе цэркваў у Амэрыцы, Канадзе й Японіі для сваіх агентаў у расе.

На вялікі жаль, пасланьне патрыярха Атэнагора не займела ўплыву і ў Расейска-Амэрыканскай праваслаўнай мітраполіі, якую ачольвае мітрапаліт Ірыней, а галоўнымі „архітэктамі" амэрыканскай „аўтакефаліі" зьяўляюцца айцы прафэсары І. Маэндорф і А. Шмэман. Сьведама мінуўшы традыцыйны шлях захадаў пры атрыманьні статусу аўтакефаліі, які звычайна пачынаўся ад згоды Ўсяленскага патрыярха, яны і ўсе тыя, што зь імі ва ўгоду Маскве, атрымаўшы ад яе „Томас", агаласілі г. зв. аўтакефалію „Амэрыканскае Праваслаўнае Царквы.

У адкрытым лісьце, скіраваным да праваслаўных расейскіх людзей з прычыны „аўтакефаліі" Амэрыканскае мітраполіі, М. Баброў піша:

„Итак, порочный круг наконец сомкнулся. Многолетние блуждания, многократные колебания, клятвы в верности, обман (в предательстве, ложь, клевета и инсинуации) завершились естественным концом –

„духовной смертью", наглядным превращением американской митраполии в „церковный труп".

Паўстае пытаньне: чым кіравалася Расейска-Амэрыканская мітраполія, узыйшоўшы на гэты шлях?

Адказ можа быць толькі адзін: усім, чым хочаце, толькі не дабром Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы, якая, складаючыся з этнічна-нацыянальных цэркваў, яшчэ не дасьпела, каб стацца аўтакефальнай. Не дасьпела, каб стацца аўтакефальнай і сама Расейска-Амэрыканская мітраполія, зь якой ня толькі шмат вернікаў, але й цэлыя прыходы, каб ня быць „царкоўным трупам", адыйшлі ў Расейскую Зарубежную Царкву.

Мала гэтага. У свой час мітрапаліт Маскоўскай Патрыярхіі Серафім у часапісе стаўляе пад сумніў і самую тэрыторыю, на якую распасьціраецца г. зв. аўтакефалія. У артыкуле пад тытулам „Без канонов" ён кажа: „Все главы Автокефальных Церквей... не знают и самочинной Американской митрополии, претендующей на какую-то *странную автокефалию* (падкрэсьленьне маё–а. Л.) без национальных государственных границ, как это установлено всюду в православном мире"[1].

Значыцца, сама Маскоўская Патрыярхія, якая дала „Томас", зыгнаравала т. зв. „амэрыканскую аўтакефалію", а 43 прыходы на яе тэрыторыі падпарадкавала сваёй юрысдыкцыі. У гісторыі аўтакефальных Праваслаўных Цэркваў ня было яшчэ падобнага выпадку! Вышэйўспомнены мітрапаліт Серафім у тым-жа артыкуле „Без канонов" кажа: „Каноны и все Автокефальные Церкви не знают никаких Автокефальных Церквей, подчиненных той или другой Церкви-Матери".

Як бачым, Маці Царква на тэрыторыі новапаўсталай аўтакефальнай Царквы не падпарадкавала яе прыходаў сваёй юрысдыкцыі. Гэта ёсьць нешта новае, уведзенае агентурай бязбожна-камуністычнага ўраду СССР, для якога не існуе права як у міжнародных, гэтак і ў царкоўных суадносінах. У сваёй палітыцы ён кіруецца лёзунгам *„мэта апраўдвае сродкі"*. А іх мэта – гэта зьнішчэньне Царквы і, як сказаў у свой час Мікіта Хрушчоў, а цяпер пацьвярджаецца – яны імкнуцца „пахаваць" і Амэрыку, якая стаіць на перашкодзе, каб паняволіць Масквой вольны сьвет. Бязбожныя валадары Крамля змусілі й Маскоўскага патрыярха служыць гэтай мэце. Бо, як ведама, ад пачатку й да канца Патрыярхія гэтая знаходзіцца пад суровым кантролем атэістычнага камуністычнага ўраду СССР. Мітрапаліт Сяргей, Даглядчык Маскоўскага Патрыяршага Прэстолу, дня 16 ліпеня 1927 году, пасьля легалізацыі Царквы, выдаў першае пасланьне, у якім зусім ясна кажа: „Мы потребовали от заграничного духовенства

[1] Пратакол № 787, 18 верасьня 1962 году, Царгорад.

дать письменное обязательство в полной лояльности к Советскому Союзу во всей своей общественной деятельности"[2].

У 1935 годзе, калі адбывалася самае жорсткае прасьледваньне Царквы ў Савецкім Саюзе, вышэйуспомнены мітрапаліт Сяргей пісаў архіепіскапу Вэніяміну ў Амэрыку наступнае: „...чтобы паступающие в Ваше ведение клирики совершенно ясно и определенно знали, что всякий из них, позволяющий себе антисоветское выступление, немедленно должен лишится у Вас должности"[3]. Гэтая пастава, занятая мітрапалітам Сяргеем, знаходзіцца ў поўнай сузгоднасьці з тымі тайнымі дагаворамі, якія былі прынятымі тады на нарадах у Маскве. Напэўна, астаецца актуальнай і сягоньня, у часе ўсё яшчэ моднага й вельмі карыснага для бальшавікоў г. зв. суіснаваньня.

Служыць бальшавікам крамлёўскія сатрапы змусілі й Маскоўскага патрыярха Аляксея, які 21 сьнежня 1949 году служыў „благодарственный" малебен у Богаяўленскім Патрыяршым саборы з прычыны 70-леньця народзінаў Сталіна й перад прадстаўнікамі іншых краін гаварыў: „Сегодня наша страна празднует день рождения и семидесятилетие своего Вождя, И. В. Сталина... Мы, церковные люди, должны благодарить его особенно за его участливое отношение к нашим церковным нуждам; всякий церковный вопрос... он разрешает в благоприятном для Церкви смысле. Святая Церковь наша имеет в нем верного защитника"[4]. І якая-ж пэрфідыя!

Служыць сягоньня камуністычнаму ўраду СССР, а гэтым самым хвальшу, і мітрапаліт Нікадзім, які, разьяжджаючы па-за межамі Савецкае імпэрыі, прапаведуе аб свабодзе Царквы ў ёй і шчодраю рукою на права й лева раздае залатыя крыжы й панагіі кардыналам, монсіньёрам ды іншым „заслужаным". Пры ягоным удзеле была агалошана й „амэрыканская аўтакефалія", увайсьці ў якую заклікаюцца ўсе этнічна-нацыянальныя цэрквы ў Амэрыцы, каб гэтакім шляхам ліквідаваць усё тое духоўнае, што гэтак непакоіць крамлёўскіх валадароў.

Непакоіць бальшавікоў і Беларуская Праваслаўная Царква ў вольным сьвеце. Нездарма-ж да веруючых беларусаў, якія знаходзяцца за межамі свае бацькаўшчыны, на загад „магутных гэтага сьвету" пісаў у 1953 годзе свой зварот архіепіскап Піцірым. Сваім існаваньнем у вольным сьвеце Беларуская Праваслаўная Царква напамінае яшчэ раз, што беларускі народ не зрэзыгнаваў з далейшае барацьбы й змаганьня з мэтаю здабыцьця Богам дадзенае яму свабоды й поўнае дзяржаўнае

[2] Журнал Московской Патриархии, № 6, Москва, 1968, с. 18.
[3] Ibidem, с. 24.
[4] Журнал Московской Патриархии, № 1, Москва, 1950, с. 4.

незалежнасьці. Агалошаньне „амэрыканскае аўтакефаліі" з благаславеньня чырвонае Масквы зьяўляецца выразным зьдзекам бальшавікоў над Праваслаўнаю Царквою. І зьдзек гэты яны праводзяць пры дапамозе ілжывых пракаў, маючы на ўвазе поўную ліквідацыю этнічна-нацыянальных цэркваў.

Ілжывыя пракі былі, ёсьць і будуць. Перад імі перасьцерагае нас Ісус Хрыстос, кажучы: „Сьцеражэцеся ілжывых пракаў, якія прыходзяць да вас у авечай скуры, а ўнутры ёсьць ваўкі" (Ев. Мацьв. 7 – 15). Дык сьцеражэмся ілжывых пракаў, якія апрануліся сягоньня ў адзежу аўтакефаліі толькі па тое, каб нас зьнішчыць, гэтаксама, як яны нацыянальна зьнішчылі беларусаў старой эміграцыі, як і тых з новае, што ўліліся ў іх цэрквы.

## УСЯЛЕНСКІ ПАТРЫЯРХ АТЭНАГОР І

Сёлета, 6 ліпеня ў Істанбуле (Канстантынопалі) на 86-ым годзе свайго жыцьця ўпакоіўся ў Богу Сьвяцейшы Ўсяленскі патрыярх Атэнагор І.

У асобе Сьвяцейшага Ўсяленскага патрыярха Атэнагора І усе праваслаўныя мелі найбольш аўтарытэтнага духоўнага праведніка, які пасьлядоўна й сьмела бараніў Усяленскую Праваслаўную Царкву перад спробамі чырвонае Масквы й яе прыбочнікаў-самасьвятаў, што імкнуліся зьнішчыць Яе ўсяленскасьць, кананічнасьць і еднасьць.

У асобе Сьвяцейшага патрыярха Атэнагора І праваслаўныя страцілі духоўнага зьверхніка, які клапаціўся ня толькі пра даручаную яго духоўнай апецы Царкву, але й пра ўсё хрысьціянства, якое ў сучасны мамэнт перажывае духоўны крызіс. Працуючы над зьменшаньнем гэтага крызісу, Сьвяцейшы патрыярх Атэнагор І прарабіў немалую працу. Так 31 студзеня 1951 году, у 1500-ую гадавіну Халкедонскага Ўсяленскага Сабору (451), ён выдаў сваё славутае Патрыяршае пасланьне да ўсіх Аўтакефальных Праваслаўных Цэркваў.

Уважаючы за ненармальнае, што на працягу дванаццаці стагодзьдзяў (ад 787), калі адбыўся VII Усяленскі Сабор, не адбывалася больш ні Сабору Ўсяленскае Праваслаўнае Царквы, ні нарадаў прадстаўнікоў Памесных Праваслаўных Цэркваў, патрыярх склікаў Першую праваслаўную канфэрэнцыю, якая адбылася на абтоку Радос 24 – 29 верасьня 1961 году. Галоўным заданьнем канфэрэнцыі было: умацаваць духовае задзіночаньне Памесных Праваслаўных Цэркваў, аднавіць супрацоўніцтва між імі й зрабіць праэкт парадку заплянаванай Перадсаборнай канфэрэнцыі, г. зн. пачаць канкрэтныя захады ў справе скліканьня чарговага Ўсяленскага Сабору Праваслаўных Цэркваў.

Сьвятой памяці патрыярх Атэнагор I імкнуўся й да палепшаньня ўзаемаадносінаў паміж Усяленскаю Праваслаўнаю Царквою й Царквою Рыма-каталіцкаю, як і зь іншымі хрысьціянскімі Цэрквамі.

У гэтай справе ён у 1962 годзе навязаў кантакт з зьверхнікам Англіканскае Царквы архіепіскапам Кантэрбэрыйскім. 5 – 6 верасьня 1964 году спаткаўся на Аліўнай гары ў Ерусаліме з Рымскім папам Паўлам VI у форме „дыялёгу роўных з роўнымі". Пасьля, у 1967 годзе – у сваёй рэзыдэнцыі ў Канстантынопалі, а яшчэ пазьней (у тым-жа самым годзе) – у Рыме. Гэта былі першыя сустрэчы зьверхнікаў Усходняй і Заходняй Царквы пасьля падзелу ў 1054 годзе.

Неспадзяваная сьмерць найвышэйшага духоўнага зьверхніка Ўсяленскага Праваслаўя выклікала смутак ува ўсім хрысьціянскім сьвеце, а ў праваслаўных і вялікі боль. Але найбольшы смутак і боль сьмерць патрыярха Атэнагора I выклікала ў сэрцах праваслаўных беларусаў, бо ў асобе спачылага яны страцілі найлепшага духоўнага бацьку й апякуна, які рабіў усё, ад яго залежнае й яму магчымае, каб захаваць і ўзмоцніць тую частку Беларускае Праваслаўнае Царквы, якая знаходзіцца ў вольным сьвеце й мае лучнасьць з Канстантынопальскім патрыярхам. Як доказ гэтага, мы маем яго благаславенства на стварэньне Беларускага Епіскапату.

Даведаўшыся пра сьмерць Усяленскага патрыярха Атэнагора I, ад імя Беларускае Праваслаўнае Царквы на чужыне, якая знаходзіцца ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярха, а. протапрэсьвіцер М. Лапіцкі выслаў спачувальныя тэлеграмы Сьвяцейшаму Патрыяршаму Сабору ў Істанбуле і экзарху Ўсяленскага патрыярха ў Нью Ёрку архіепіскапу Якавасу, на што быў атрыманы адказ ад архіепіскапа Якаваса.

Сьвецкае імя Ўсяленскага патрыярха Атэнагора I было Арыстоклес Сьпіру. Нарадзіўся ён 25 сакавіка 1886 году ў сяле Васілікон у грэцкай правінцыі Эпірус, якая тады належала Турэччыне. Бацька ягоны быў лекарам і стараўся даць сыну найлепшую адукацыю. Але малады Арыстоклес яшчэ зь дзяцінства марыў прысьвяціць сябе Царкве. Багаслоўскую адукацыю ён атрымаў спачатку ў сэмінарыі, а потым у Духоўнай Акадэміі Канстантынопальскае Патрыярхіі на абтоку Халкі, каля Істанбулу. У 1910 годзе, пасьля сканчэньня духоўнае сэмінарыі, быў рукапаложаны ў дыякана. Пасьля аднаго году службы, ужо як архідыякан, працуе суперінтэндантам школаў у манастыры. У 1918 годзе малады Арыстоклес пастрыгаецца ў манахі й прымае імя Атэнагора, што значыць „той, што гаворыць у Атэнах". У 1919 – 1922 гадох а. Атэнагор выконвае абавязкі сакратара Сыноду Грэцкае (Эладскае) Царквы.

У 1922 годзе архімандрыт Атэнагор хіратанізаваны ў епіскапы й прызначаны на кіраўнічае становішча епархіі ў Корфу й Пахой. У 1930 годзе рукапалагаецца ў сан архіепіскапа й прызначаецца на архіепіскапскую катэдру Паўночнае й Паўднёвае Амэрыкі як экзарх Канстантынопальскага патрыярха.

11 лістапада 1948 году Сьвяцейшы Сынод Усяленскае Патрыярхіі ў Канстантынопалі выбраў яго на пасад патрыярха. Патрыяршая інтранізацыя адбылася 27 студзеня 1949 году.

Пахаваны блажэннай памяці патрыярх Атэнагор I на грэцкім праваслаўным могільніку каля Канстантынопаля (Істанбул) 11 ліпеня 1972 году.

## НОВЫ ЎСЯЛЕНСКІ ПАТРЫЯРХ ДЗІМІТРЫОС I

Пасьля сьмерці Ўсяленскага патрыярха сьв. пам. Атэнагора I пасад Усяленскага патрыярха нядоўга заставаўся незанятым, бо ўжо ў нядзелю 16 ліпеня, пасьля трох дзён нарадаў, Сьвяцейшы Сынод Канстантынопальскае Патрыярхіі выбраў новага патрыярха. Выбраны мітрапаліт Дзімітрыос, архіепіскап Імроса і Танедоса, невялікіх турэцкіх абтокаў ля ўваходу ў Дарданэлы. Ён – наймаладзейшы векам з усіх 15-цёх асобаў Патрыяршага Сыноду. Выбары, якімі кіраваў галава Патрыяршага Сыноду мітрапаліт Мелітон Халкедонскі, адбыліся ў царкве Сьв. Юрыя ў Канстантынопалі (Істанбуле). Інтранізацыя новага Ўсяленскага патрыярха Дзімітрыоса I адбылася 18 ліпеня ў той-жа самай царкве Сьв. Юрыя. Патрыярх Дзімітрыос I зьяўляецца 269-ым Усяленскім патрыярхам.

Яго Сьвяцейшасьць патрыярх Дзімітрыос I (Пападопулос) нарадзіўся ў 1914 годзе ў Канстантынопалі. Тэалёгічную асьвету атрымаў у ведамай акадэміі на абтоку Халкі, зь якой выходзяць выдатныя сьвятары й тэалёгі. Першае сьвятарскае пасьвячэньне ў дыяканы прыняў у 1937 годзе й на становішчы дыякана пачаў сваю пастырскую дзейнасьць. Пазьней быў вызначаны на прапаведніцкую працу ў Грэцыі, а ў 1942 годзе быў пасьвечаны ў іерэі й атрымаў парафію ў Грэцыі. У 1964 годзе хіратанізаваны на епіскапа, а 15 лютага 1972 году патрыярх Атэнагор I узьвёў епіскапа Дзімітрыоса ў сан архіепіскапа, мітрапаліта для абтокаў Імроса і Танедоса.

Цяперашні Ўсяленскі патрыярх валодае грэцкаю, турэцкаю й францускаю мовамі. У сваёй першай пропаведзі пасьля выбараў патрыярх Дзімітрыос I сказаў, што ён – „малы чалавек" і яго пужае высока становішча, на якое яго выбралі.

Акрамя таго, пры некалькіх нагодах ён падкрэсьліў, што ён – „пастыр, а не палітык".

## ВЫСЬВЯЧЭНЬНЕ ЦАРКВЫ Й БР-Г ЦЭНТРУ

Дня 30 ліпеня 1972 году адбылося высьвячэньне архірэйскім чынам беларускай праваслаўнай царквы ў імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкай і Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Саўт Рывэры, Нью Джэрзі.

З благаславеньня архіепіскапа Якаваса, экзарха Канстантынопальскай Патрыярхіі, высьвяціў царкву Сьв. Еўфрасіньні й Цэнтр епіскап Філатэос.

Божая служба ў новай царкве распачалася ў суботу 29 ліпеня а гадзіне 7-ай вечара ўсеначнай, якую служыў настаяцель а. протапрэсьвіцер Мікалай Лапіцкі ў саслужэньні а. архімандрыта Язэпа, а. Сьвятаслава Каўша й а. дыякана Алега Махнюка. У нядзелю 30 ліпеня, а гадзіне 8-ай раніцы а. архімандрыт Язэп адслужыў малебен з асьвячэньнем вады, пасьля якога з хрэсным ходам усе выйшлі спатыкаць епіскапа Філатэоса, які прыбыў зь Нью Ёрку.

Адразу па прыбыцьці епіскап Філатэос, у саслужэньні а. протапр. М. Лапіцкага, а. архімандрыта Язэпа, а. протапрэсьвіцера А.Сэлэпіна, а. Алега Мірановіча, а. С. Каўша, а. ігумена Юльяна, дыякана Л. Папас і дыякана А. Махнюка, пачынае чын высьвячэньня новай царквы.

Па заканчэньні хрэснага ходу навакол царквы й чыну высьвячэньня пачынаецца Бажэсьцьвенная літургія, падчас якой пропаведзь сказаў епіскап Філатэос, а. А. Мірановіч і ў канцы службы а. М. Лапіцкі. З благаславенства архіепіскапа Якаваса, падчас літургіі епіскап Філатэос узлажыў крыж з аздобамі на настаяцеля царквы а. М. Лапіцкага. С. Каўша ўзьвёў у сан протаіерэя, а а. дыякана А. Махнюка за выкананьне купала, іканастаса, іконы сьв. Еўфрасіньні, аналояў і іншых рэчаў – у сан протадыякана. Спадару В. Цярпіцкаму, старшыні будаўнічага камітэту, была ўручана ікона Божай Маці.

Службу ўпрыгожваў царкоўны хор, які пад кіраўніцтвам рэгента Д. Верасава выконваў творы найлепшых царкоўных кампазытараў.

Па заканчэньні літургіі пасьля прамовы й перарэзваньня стужкі праз сп. В. Цярпіцкага епіскап Філатэос асьвяціў Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтр, прамовіў да народу й благаславіў трапезу, якую прыгатавала сястрыцтва.

Абавязкі тостмайстра на абедзе выконваў інж. М. Бахар, які, прывітаўшы гасьцей, прачытаў ліст зь Белага Дому з Вашынгтону, а таксама ад губэрнатара штату Нью Джэрзі сп. В. Кэгіла. Пасьля гэтага прамаўлялі: епіскап Філатэос, кангрэсмэн Эдвард Дж. Паттэн, маёр гораду В. Кулік, прадстаўнік павету Г. Отлаўскі, старшыня БККА і інж. І. Касяк, а. А. Сэлэпіна, а. архімандрыт Язэп, а. А. Мірановіч, а. С. Коўш, сп. Я. Пітушка, сп. В. Цярпіцкі,

сп. А. Банкет, а. Л. Кубэрскі, сп. В. Пунтус і а. Мікалай Лапіцкі. Пасьля гэтага былі паданы асобы й арганізацыі, якія надаслалі прывітаньні, а менавіта: сэнатар сп. Кліфорд П. Кэйс, сэнатар сп. Гарысон А. Вілліамс мал., кангрэсмэн Флорэнц П. Дваер, кангрэсмэн Гэнры Гэлстоцкі, кангрэсмэн Пітэр В. Родіно малодшы, Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада ў Чыкага, Царкоўны Камітэт беларускай праваслаўнай царквы Сьв. Еўфрасіньні ў Таронта, Беларускі Выдавецкі Мастацкі Клюб „Пагоня", сп. др. М. Шчорс, сп. Р. Беразоўскі, пастар Я. Пятроўскі, рабін Язэп Маза, сп. М. Малішэўскі ды шмат іншых.

Усе прысутныя былі захоплены яшчэ небывалай урачыстасьцю, якая адбылася ў Саўт Рывэры. На гэтае сьвята чакалі доўгі час – ад 1950 да 1972 году. Зь першай Божай службы, якая адбылася ў Саўт Рывэры ў 1950 годзе, ужо пачалі будаваць царкву й цэнтр. Пачалі з крамы, а скончылі тым, што „на прыгожым, 3,5-акровым участку зямлі, красуюцца два манумэнтальныя будынкі – Царква й Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтр"[1].

Усё ў сьвеце, згодна слоў Сьвятога Евангельля, адбываецца паводле волі Бога, хаця й ня ўсё бывае зразумелым для розуму чалавека. У Старым Запавеце Госпадзь Бог праз прарока Майсея сказаў: „*Я для таго захаваў цябе, каб імя Маё праслаўлялася па ўсёй зямлі*" (Вых. 9, 16). Гэтыя словы Сьвятога Пісьма даюць падставу думаць, што й наш „ісход" з бацькаўшчыны ды збавеньне ад сьмерці падчас вайны былі кіраваны Промыслам Божым, каб праслаўлялася імя Яго ў новазбудаванай беларускай праваслаўнай царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Амэрыцы ў той час, калі на бацькаўшчыне сьвятыні зачыняюцца й нішчацца бязбожнай уладай. Словы Ісуса Хрыста „*Я збудую Царкву Маю, і вароты пякельныя не пераможуць яе*" (Ев. Мацьв. 16, 18), „*Бо Я не пакіну вас сіратамі*" (Ев. Ін. 14, 18), „*Я з вамі буду ўва ўсе дні да сканчэньня сьвету*" (Ев. Мацьв. 28, 20) у дзень высьвячэньня царквы зазьзялі ўва ўсёй сваёй сіле й магутнасьці ды напоўнілі сэрцы беларусаў вялікай радасьцю.

Кожная беларуская душа цешылася трыумфам Беларускага Дня як рэлігійнага, так і грамадзка-нацыянальнага. Адкрыўся новы Дом Божы, дзе пачуеш словы Яго: „*Пайдзіце да Мяне ўсе працуючыя й абцяжаныя і Я супакою вас*" (Ев. Мацьв. 11, 28). А гэтага супакою так патрабавала новая эміграцыя, якая пасьля Другой сусьветнай вайны досыць у вялікай колькасьці асялілася ў Саўт Рывэры на сталае жыхарства. Некаторыя спаткалі тут сваіх блізкіх родзічаў і суседзяў сярод старой беларускай эміграцыі, якая прыбыла ў Амэрыку яшчэ да Першай сусьветнай вайны (1914).

---

[1] „Беларуская Думка", №14, Саўт Рывэр, 1971–1972, б. 33.

На вялікі жаль, так сталася, што прыбыўшая нацыянальна-сьведамая новая беларуская эміграцыя не знайшла зразуменьня ў старой зрусыфікаванай беларускай эміграцыі й варожа настаўленай да беларускай нацыянальнай праблемы. Дзеці аднае Маткі – Беларусі не змаглі зразумець адзін аднаго, нягледзячы на супольную веру й супольную мову. Па волі Божай так сталася, што новая беларуская эміграцыя адчыніла яшчэ адну царкву Беларускую Праваслаўную Царкву Сьв. Еўфрасіньн Полацкай.

Арганізаваная царква для новай эміграцыі сталася супольным месцам малітвы да Бога, нацыянальным яднаньнем і кавалачкам старой Бацькаўшчыны, якую яна была змушана пакінуць, каб захаваць сваё жыцьцё і ўнікнуць масавага тэрору ад наступаючых арміяў бязбожнай улады савецкай Расеі. І сапраўды, пасьля новай акупацыі Беларусі ў 1944 годзе органы палітычнай паліцыі Савецкага Саюзу вынішчылі расстрэламі, турмамі, голадам і дэпартацыямі ў канцэнтрацыйныя лягеры звыш аднаго мільёна беларускага насельніцтва, якое яны ўважалі за патэнцыяльных ворагаў савецкай улады на Беларусі. А гэта былі звычайныя людзі, толькі рэлігійныя й нацыянальна сьведамыя беларусы, якія хацелі жыць вольнымі й незалежнымі ў сваёй дзяржаве.

Гісторыя пабудовы новай царквы й цэнтру, як гісторыя кожнай паважнай падзеі, ня пішацца з пэрспэктывы ейнага часу. Каб належна ацаніць і падсумаваць заслугі й ахвярнасьць парафіян, Царкоўных Камітэтаў, Будаўнічага Камітэту, сястрыцтва й настаяцеля, якія спрычыніліся да арганізацыі парафіі, росту яе ды пабудовы новай царквы й цэнтру, мусіць прайсьці пэўны пэрыяд часу. Аднак, не чакаючы на справядлівую ацэнку, ужо сягоньня можна сьмела выказваць вялікае прызнаньне ўсім тым, хто сваёй любоўю да Бога й Беларусі, ахвярнасьцю й працай выявілі сілу духу й зразуменьне сваіх хрысьціянскіх і нацыянальных абавязкаў у вольным сьвеце.

Слава й чэсьць усім ахвярадаўцам, цаглінка якіх ёсьць у гэтых Божых мурах!

Слава й чэсьць усім чэсным адданым будаўнікам, якія сваёй ахвярнай працай пабудавалі Царкву й Цэнтр!

Слава й чэсьць вам, верным Сынам і Дочкам, якія працуюць на славу Беларускай Праваслаўнай Царквы й Беларускага Народу!

Благадатная Сіла Божая, асьвячаючая новазбудаваную царкву, якая сваім дзеяньнем асьвяціла й сэрцы ўсіх удзельнікаў гэтай урачыстасьці!

Няхай заўсёды прабывае ў нас, каб мы праслаўлялі Яго й верна служылі Беларусі й яе Царкве!

# З ПЭРСПЭКТЫВЫ ЧАСУ

Падчас Другой сусьветнай вайны падзеі разгарнуліся так, што ў канцы Беларусь зноў была акупавана савецкай Расеяй. Каб захаваць сваё жыцьцё і ўнікнуць тэрору, многія беларусы пакінулі родную зямлю і пайшлі на эміграцыю з тым, каб вызвольную барацьбу працягваць далей. Пасяліўшыся ў вольным сьвеце, беларуская эміграцыя пачала арганізоўваць ня толькі свае культурна-грамадзкія арганізацыі.

Згодна слоў Сьвятога Пісьма ўсё на зямлі адбываецца паводле Волі Госпада Бога, хаця й ня ўсё бывае зразумелым для чалавека. У Старым Запавеце Госпад Бог праз прарока Майсея сказаў: „*Я для таго захаваў цябе, каб паказаць сілу Маю і каб Маё імя праслаўлялася па ўсёй зямлі*" (Вых. 9, 16). Гэтыя словы даюць падставу думаць, што і наш „ісход" з Бацькаўшчыны быў кіраваны Богам, каб праслаўлялася імя Яго ў вольным сьвеце, у нашых беларускіх праваслаўных цэрквах у той час, калі на Беларусі нашы сьвятыні зачыняюцца й нішчацца бязбожнай камуністычнай уладай савецкай Расеі.

Па волі Божай так сталася, што 25 гадоў таму назад, у параўнальна невялікім горадзе Саўт Рывэр, штату Нью Джэрзі, апынулася досыць ладная колькасьць новых беларускіх эмігрантаў. Тут яны спаткалі беларусаў старой эміграцыі зь Віленшчыны, Горадзеншчыны, Меншчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны й Палесься. На вялікі жаль, новая эміграцыя не знайшла зразуменьня ў старой эміграцыі. Дзеці аднэй маткі нашай, Бацькаўшчыны-Беларусі, не змаглі зразумець адзін аднаго, нягледзячы на супольную мову й супольную веру. Родны дзядзька ці цётка, а нават, родны брат ці сястра, па-першае, не маглі зразумець ідэю 25 Сакавіка 1918 году, а па-другое, прычыны, чаму новыя эмігранты пакінулі Беларусь і прыбылі ў Амэрыку. З прычыны гэтага новай эміграцыі прышлося арганізоўваць у Саўт Рывэры беларускую праваслаўную царкву імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкай і грамадзка-нацыянальныя арганізацыі. У той час эміграцыя іншых нацыянальнасьцяў знайшла тут ужо зарганізаваныя як свае цэрквы, так і нацыянальна-грамадзкія арганізацыі.

У красавіку 1950 году я прыбыў у Амэрыку. Знаючы, што прыдзецца арганізаваць беларускую праваслаўную царкву, пры дапамозе людзей я прывёз з Рэгэнсбурскай царквы імя Еўфрасіньні Полацкай зь Нямеччыны іконы й некаторыя багаслужбовыя кнігі, адно аблачэньне, а ўсё неабходнае для Божае службы меў сваё. Калі з маім прыездам перад нацыянальна-сьведамым беларускім актывам паўстала справа арганізацыі беларускай праваслаўнай царквы, дык, як піша былы старшыня Царкоўнага Камітэту сп. Ул. Брылеўскі, „*гэтая справа была вельмі цяжкай, нават, як у той час здавалася, не пад сілу*": „*Фактычна прышлося пачынаць зь нічога:*

*ня было ні цэнта грошай, ні памешканьня, дзе можна было-б адпраўляць багаслужбы. Лік парафіянаў у той час быў вельмі малы. У дадатку ўсе пагалоўна парафіяне былі людзьмі матар'яльна вельмі беднымі".*

Аднак ініцыятыўная група, якую ўзначальваў сп. Б. Плескачэўскі, склікала сход актыву, які пастанавіў зарганізаваць у Саўт Рывэры беларускую праваслаўную царкву імя Еўфрасіньні Полацкай пад духовай апекай і юрысдыкцыяй Сусьветнага Канстантынопальскага патрыярха, бо ўважаў, што гэта адзіны правільны шлях пры нашых абставінах. Тым больш, што згодна царкоўнай традыцыі Ўсяленскай Праваслаўнай Царквы, кожная нацыянальная група, якая ў выніку тых ці іншых падзеяў апынецца па-за межамі свае бацькаўшчыны, на тэрыторыі, дзе няма мясцовай аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, павінна падлягаць Канстантынопальскай Патрыярхіі. На вялікі жаль, гэтую сьвятую традыцыю тут, у Амэрыцы, парушылі, і мы бачым яе вынікі.

У кожнай нацыянальнай групе ёсьць некалькі юрысдыкцыяў, якія змагаюцца паміж сабой і прыносяць вялікую шкоду для Царквы й свайго народу. Гэтае няшчасьце не абмінула й нас, беларусаў. А як-бы іначай стаяла Праваслаўная Царква, калі-б усе нацыянальныя групы, захоўваючы сваю царкоўную апрычонасьць, знаходзіліся-б пад амафорам Канстантынопальскага Сусьветнага патрыярха.

На просьбу Царкоўнага Камітэту, а таксама й маю, у 1950 годзе архіепіскап Міхаіл, экзарх Канстантынопальскай Патрыярхіі на Паўночную й Паўдзённую Амэрыку зь сядзібай у Нью Ёрку, прыняў нас у сваю юрысдыкцыю. Пры гэтым ён казаў: *„... Я шчыра жадаю як найбольш дапамагчы вам маральна й духоўна, даючы вам свае ўслугі, адзінаю мэтаю якіх зьяўляецца духоўнае настаўленьне для збаўленьня вашых душаў"...*

Разумеючы цяжкое матар'яльнае становішча беларускае эміграцыі, архіепіскап Міхаіл прыняў беларусаў у сваю юрысдыкцыю без абавязку плаціць епархіяльныя падаткі. Ён асьведчыў нам: *„Ваша парафія ёсьць адзінай праваслаўнай парафіяй, якая мае прывілей быць поўнасьцю звольненай ад усіх фінансавых сьведчаньняў, патрэбных для ўтрыманьня архіепархіі"...*

Імя архіепіскапа Міхаіла, экзарха Канстантынопальскай Патрыярхіі ў Амэрыцы, увайшло ў гісторыю беларускай эміграцыі ня толькі як імя духоўнага апякуна, але й прыяцеля. Ягоныя архіпастырскія пасланьні да беларусаў астануцца з намі, як запаветы любові да Бацькаўшчыны, надзеі на будучыню й веру ў Бога. Ён гаварыў нам, што нашым *„... неадзоўным абавязкам ёсьць памятаць аб нашых дарагіх братох на Беларусі, каторыя жывуць у жудасных абставінах і вялікіх недастатках, і маліць Усемагутнага Бога аб апецы і пасланьні ім сілы, каб яны маглі захаваць веру ў Бога й быць дастойнымі сваёй нацыі".*

Дня 20 красавіка 1956 году ў Вялікодным пасланьні да ўсіх беларусаў ён гаворыць: „*...Мае дарагія прыяцелі й духоўныя дзеці, я гавару вам яшчэ раз зь нязломнай станоўкасьцю: не адчайвайцеся, не страцьце вашае хрысьціянскае веры й надзеі. Прыйдзе дзень, і ён ужо ідзе, калі Ваш край будзе вызвалены ад улады шатанскага бязбожнага камунізму*".

Дык сягоньня ўшануйма сьв. памяць архіепіскапа Міхаіла, а таксама нашых царкоўных працаўнікоў: Сьцяпана Прыдыбайлу, Яўхіма Талмачаўца, Грыгора Камянкова, Лідзію Каліноўскую-Даніловіч, Раісу Евец, Юрыя Мяжэвіча, Серафіма Стукаліча, Барыса Шчорса і ўсіх нашых прыхаджан, што адышлі ў вечнасьць.

Калі мы арганізоўвалі прыход, дык мо ня ўсе ўсьведамлялі значэньне свайго чыну, бо ён ня выклікаў надзвычайнага вонкавага эфэкту, бо мы пачалі багаслужбы ў мэтадысцкай царкве, а пасьля – у заарэндаванай залі. Мне прыходзілася чуць, калі заклікалася беларусаў прылучыцца да нашага прыходу: „*Нам надаела маліцца па гаражах у Нямеччыне, а вы й тут цяпер цягнеце нас ў залі, калі пад бокам ёсьць такая прыгожая праваслаўная царква*". Гэтыя людзі, хачу сказаць, не разумелі, што людзкія справы Госпад Ісус Хрыстос ацэньвае не паводле вонкавага эфэкту, а паводле выяўленых пачуцьцяў ды мэты.

Калі Марыя Магдалена абмыла ногі Вучыцеля, то ў гэтым было пачуцьцё адданасьці, любові й яе пакаяньня, і Збаўца сьвету Ісус Хрыстос сказаў: „*Яна зрабіла, што магла*". Так і мы, арганізатары беларускае праваслаўнае царквы імя Сьвятой Еўфрасіньні, зрабілі, што маглі, а Госпад Бог благаславіў нашыя сьвятыя намеры ды глыбокія пачуцьці любові да Бога, да сваёй Царквы й свайго народу.

Дзякуючы гэтаму, сягоньня, калі сьвяткуем юбілей 25-годзьдзя нашага прыходу, дык мы маем і вялікі вонкавы эфэкт – царкву, зямлю, парафіяльную залю, курган-помнік, могілкі й Рэлігійна-Адпачынковы Цэнтр „Бэлэр-Менск" у Глен Спэй (Нью Ёрк). Гэта, паводле нашага рэлігійнага разуменьня, цуд і ласка Божая. Дык не забывайма аб міласьці й ласцы Божай, якую Ён праявіў для нас, дзякуючы чаму ў Саўт Рывэры паўстала яшчэ адна Царква – Праваслаўная й Беларуская, якая аб'яднала пераважна ўсю новую беларускую эміграцыю тут. Гэта Царква для беларусаў сталася супольным месцам малітваў, нацыянальным яднаньнем, кавалачкам старой бацькаўшчыны, апраўданьнем і напамінам. Утрымлівае яе ня столькі матар'яльная ахвярнасьць, колькі нязгасная вера ў Бога й вера ў вызваленьне нашай Бацькаўшчыны, дзеля якога мы яе й пакінулі. Бяз гэтых якасьцяў нам, безумоўна, не ўдалося-б арганізаваць свайго рэлігійнага жыцьця ў новай краіне. Праца й ахвярнасьць усіх, а ініцыятыва адзінак, прывялі да жаданага выніку. І было-б несправядліва зьменшыць чыё-небудзь значэньне.

У першую чаргу, сталай працай і непасрэдным удзелам для ўзросту й разьвіцьця парафіі спрычыніліся старшыні й старасты Царкоўных Камітэтаў, на чале якіх стаялі: Уладзімер Брылеўскі, Хведар Высоцкі, Васіль Місюль, Сьцяпан Прыдыбайла, Юры Мяжэвіч, Аляксандар Банкет і Барыс Плескачэўскі. Таксама нельга абыйсьці сястрыцтва, якое ачольвалі: Сафія Шчорс, Надзя Занковіч, Кацярына Высоцкая, матушка Людміла Махнюк і цяпер Рэня Касьцюк. Таксама нельга абыйсьці й Раду дырэктароў, якая кіруе Рэлігійна-Адпачынковым Цэнтрам „Бэлэр-Менск" на чале з Грыгорам Арцюшэнкам.

Неадлучнай часьцінай нашага царкоўнага жыцьця ёсьць наш царкоўны хор, якім на пачатку кіраваў Аркадзь Евец, а пасьля яго рэзыгнацыі да сёньняшняга дня кіруе кампазытар Дзімітры Верасаў. Хор захоплівае нас сваім сьпевам у царкве, а таксама сваім сьпевам на залі.

Стараньнем Царкоўнага Камітэту ў 1951 годзе была заарэндаваная заля, якую працай усіх прыхаджан прыстасавалі да службы Божай.

У 1952 годзе быў куплены досьць вялікі пляц зямлі, на якім прыхаджане хацелі пабудаваць новую царкву. Але ў 1953 годзе надарылася нагода й купілі пад царкву будынак былой сынагогі, каторы на працягу трох месяцаў прыхаджане сваімі сіламі аднавілі й прыстасавалі да нашых багаслужбаў. Высьвячэньне царкоўнага будынку выканаў архіепіскап Міхаіл, экзарх Канстантынопальскай Патрыярхіі.

Ішоў час, прыход рос і пашыраўся, а таму Царкоўны Камітэт пачаў рабіць захады перад адміністрацыяй гораду Саўт Рывэр, каб прадалі кусок зямлі для пабудовы новай царквы й царкоўных дапаможных будынкаў.

У 1967 годзе адміністрацыя гораду Саўт Рывэр прыхільна палагодзіла нашу просьбу. Зямля была куплена. Адбыўся царкоўны сход, які выбраў Будаўнічы Камітэт на чале зь Віталіем Цярпіцкім. Будаўнічы Камітэт адразу прыступіў да пабудовы, і на працягу толькі чатырох гадоў мы пабудавалі царкву й царкоўную залю. Выдаткавалі каля $ 200.000, але ўвесь аб'ект, далічыўшы ганаровую працу Будаўнічага Камітэту й прыхаджанаў, сягоньня ацэньваецца ў $ 500.000.

Ад пачатку й да сягоньняшняга дня пры царкве існуе беларуская царкоўная школа, у якой дзеці навучаюцца рэлігіі й беларускай мове. Мэтай школы была й ёсьць барацьба за душы дзяцей, каб яны асталіся пры сваёй нацыі й сваёй Царкве. Цяжка перамагчы ўплывы асыміляцыі. Іх ня можам унікнуць. Але пры добрай волі бацькоў ды дапамозе царквы іх можам часткова ўстрымаць. Інакш нашы дзеці стануць чужымі і па мове, і па захаваньню, і па сваёй сьведамасьці. Яны будуць цурацца і Беларускай Царквы, і беларускай справы, і будуць пагарджаць сваімі бацькамі. А Беларусь і беларуская нацыя існуе па Волі Божай. І забывацца на гэта ня можам.

І на заканчэньне мушу сказаць, што прыход у Саўт Рывэры перарос межы прыходу ў звычайным сэнсе гэтага слова. Ён набыў шырэйшае значэньне ў беларускім жыцьці. Па-першае, тут адбываліся архірэйскія службы архіепіскапа Міхаіла, епіскапа Філётэоса й мітрапаліта Гэрманоса. Тут рукапалагалася беларускае духавенства: а. Якаў Кузьміцкі, а. Сьвятаслаў Коўш і а. дыякан Алег Махнюк. Тут архірэі адзначалі царкоўнымі ўзнагародамі духавенства й граматамі верных. Настаяцель Саўтрывэрскага прыходу чатыры разы чытаў малітву ў Кангрэсе ў Вашынгтоне й маліўся за Беларусь, Беларускі Народ і Амэрыку. Тут выдаецца „Царкоўны Сьветач" – рэлігійна-грамадзкі часапіс. Тут адбываюцца царкоўныя й грамадзкія зьезды. Дык у дзень юбілею 25-годзьдзя існаваньня нашага прыходу мы павінны цесна згуртавацца каля яго для далейшай адданай і ахвярнай працы на Славу Божую, на дабро беларускага народу й нашай прыбранай бацькаўшчыны Амэрыкі.

Няхай Божае благаславеньне будзе заўсёды над царквой Сьвятой Еўфрасіньні ў Саўт Рывэры!

## *From the Perspective of Time*


### *Summary*

In this work the author describes the very first nationally (i.e., ethnically) conscious Byelorussian immigrants in South River, N. J. after World War II.

Even though there were many Byelorussians in South River who came here before World War II, practically all of them were not conscious of their national Byelorussian roots. For that reason they did not organize their own Byelorussian Orthodox parish, or any Byelorussian cultural, political or civic organization, unlike other ethnic groups which did do that.

So, the new nationally conscious Byelorussian immigrants had to start literally from scratch. Due to their deep faith in God, love, and pride of their national Byelorussian roots, through hard work and with dedication, the new immigrants organized the Byelorussian Orthodox Parish of Ste. Euphrosynia.

The first liturgy was celebrated in a rented store. Then a synagogue was acquired and converted into a church building. The parish grew slowly but surely, until in 1972 the new beautiful Church Building was consecrated and the new Parish Center was dedicated. With its sister cultural, civic, educational and political Byelorussian-American organizations, the Byelorussian Orthodox Parish of Ste. Euphrosynia in South River has a much greater and wider influence and role in Byelorussian-American life, than a regular parish does.

## DZIAŁALNOŚĆ KOŁA TEOLOGÓW PRAWOSŁAWNYCH...

Działalność Koła Teologów Prawosławnych w roku akademickim 1932 – 1933 zaczęła się od pierwszych dni trymestru jesiennego i płynęła normalniej niż w latach ubiegłych. Kierował nią pod wysoką opieką J. E. Ks. Metropolity Dionizego, kierownika Studium Teologii Prawosławnej Uniwersytetu Warszawskiego Zarząd Koła obrany na walnym zebraniu członków 17 czerwca 1932 roku, w którego skład wchodzili: prezes Mikołaj Łapicki, w.-prez. Paladiusz Dubicki, sekretarz Arseniusz Worobiej i skarbnik Jerzy Hnatiuk. Głównym celem działalności Koła była praca naukowa, ponieważ Zarząd zdawał sobie sprawę z tego, jak wiele znaczy samodzielna praca dla rozwoju umysłowego studenta. Aby zorganizować tą pracę, odbyły się trzy zebrania organizacyjne:

1. 24 października 1932 roku;
2. 4 listopada 1932 roku;
3. 12 listopada 1932 roku.

Na pierwszym z tych zebrań wybrano kierowników poszczególnych sekcji, ułożono program działalności i przystąpiono do pracy.

Z inicjatywy Zarządu, pod wysokim przewodnictwem J. E. Ks. Metropolity Dionizego, w Sali Synodalnej dnia 4 grudnia 1932 roku odbyło się ogólne zebranie członków Sekcji Homiletycznej, na którym ułożono program prac tej sekcji na rok akademicki 1932 – 1933. Po tym ogólnym zebraniu natychmiast przystąpiono do wykonania ułożonego programu. Wobec tego staraniem Sekcji Homiletycznej w roku akademickim 1932 – 1933 wygłoszonych zostało przez studentów Studium Teologii Prawosławnej Uniwersytetu Warszawskiego 25 kazań w Cerkwi „Strastiej Hospodnich" i 2 kazania w Cerkwi na Woli (Warszawa). Po wygłoszeniu każdego kazania członkowie sekcji pod kierownictwem pana prof. Kułakowa prowadzili dyskusje w lokalu Państwowego Internatu dla Studentów Teologii Prawosławnej Uniwersytetu Warszawskiego, w których podkreślali dodatnie i ujemne strony danego kazania. Oprócz tego staraniem Sekcji Homiletycznej w Cerkwi „Strastiej Hospodnich" przez studentów IV kursu w dnie niedzielne była prowadzona egzegeza Pisma Świętego („Czasy Biblijne"). Drugie miejsce w intensywności pracy zajmuje Sekcja Abstynencka, staraniem której w roku akademickim 1932–1933 wydelegowano 15 osób na kurs przeciwalkoholowy, oraz wygłoszono 4 następujące odczyty:

1. 25. XI. 1932 r. – „Ruch abstynentów w Polsce i kursy przeciwalkoholowe" – ks. Jan Kusznier.
2. 9. XII. 1932 r. – „Chemiczny skład alkoholu i jego działanie na organizm ludzki" – ks. ijerod. M. Iljinski.

3. 27. I. 1933 r. – „Jak ja stałem się abstynentem" – kol. P. Dubicki.
4. „Prohibicja, a nasz stosunek do niej" – koł. L. Kowalewski.

Przewodniczącym na tych odczytach gromadzących licznych słuchaczy, był pan prof. W. Bidnow, który opiekował się tą pracą. Przy nieznacznej pomocy finansowej Zarządu Koła, Sekcja Abstynentów powiększyła swoją bibliotekę antyalkoholową i prowadziła intensywną pracę w zwalczaniu alkoholizmu. Praca Sekcji Naukowej była prowadzona przy pomocy dyskusji i odczytów na zebraniach członków Koła. Tak, dnia 18 listopada 1932 roku koł. Wołonsiewicz z kol. Tockim prowadzili dyskusję na temat „Filoque". 2 grudnia 1932 roku kol. Giryłowicz wygłosił odczyt „Sens życia według Franka" i 6 lutego 1933 roku kol. Majboroda „Komunizm a chrześcijaństwo" i 13 lutego1933 roku kol. Jakimiec – „Chrześcijaństwo a buddyzm".

Równocześnie staraniem Sekcji Wydawniczej przed egzaminami roku akademickim 1932 – 1933 został wydany skrypt pod tytułem: „Krótki wstęp do Nowego Testamentu" według książki prof. dr. F. Siekinberga, który to skrypt dzięki pomocy d-ra Z. Zagórowskiego, odbito na maszynie drukarskiej w Ministerstwie Wyznań Religijnych i Oświecenia Publicznego i „gratis" ofiarowano Zarządowi Koła. W drukarni zaś Synodalnej, za zgodą J. E. Ks. Metropolity Dionizego, wysokiego opiekuna Koła, odbito 300 deklaracji dla przyjęcia nowych członków Koła, 150 blankietów dla pożyczek i 150 list ofiar. Oprócz tego zebrano część materiałów dla wydania czasopisma „Put' Prawdy", na którego wydawnictwo Uniwersytet Warszawski, dzięki staraniom Zarządu Koła, udzielił subwencji w kwocie 386 zł. Wykonanie tej pracy z powodu braku czasu przekazano następnemu Zarządowi Koła na rok akademicki 1933 – 1934. Co się tyczy Sekcji Towarzyskiej, to ona z powodu kryzysu, jaki w czasach obecnych daje się odczuć wszędzie, ograniczyła się tylko tym, iż wzięła czynny udział w urządzeniu wokalno-muzycznego wieczorku 23 lutego 1933 roku. Rozszerzyć zaś swojej działalności nie mogła ona z powodu braku środków materialnych. Poza tym, za staraniem Zarządu Koła i Sekcji Towarzyskiej, za błogosławieństwem J. E. Ks. Metropolity Dionizego, wysokiego opiekuna naszego Koła, i dzięki Jego pomocy finansowej odbyła się pielgrzymka do Świątyni Poczajowskiej w dniach od 30 czerwca do 4 lipca 1933 roku, w której wzięło udział 38 studentów Studium Teologii Prawosławnej, przeważnie wychowanków Państwowego Prawosławnego Seminarium Duchownego w Wilnie, którzy po raz pierwszy w tej Skarbnicy duchowej zaczerpnęli sił do dalszej walki za Święte Ideały Nauki Chrystusowej. Nie zaniedbał też Zarząd Koła i pracy samopomocowej. Zgodnie z §8 swego Statutu, wyraziła się ona w wydawaniu zapomóg, wystawianiu zaświadczeń na uzyskanie pożyczek w Bratniej Pomocy SUW, a również w udzielaniu pożyczek z kasy Koła. W roku akademickim 1932–1933 udzielono 53 kol. pożyczek krótkoterminowych i jedną zapomogę bezzwrotną. Czyniąc to, Zarząd poczynił dużo starań w celu polepszenia stanu

finansowego Koła. Dnia 14 grudnia 1932 roku wysłano do Ministerstwa Wyznań Religijnych i Oświecenia Publicznego prośbę o udzielenie subwencji na cele samopomocowe i kulturalne. Ministerstwo przyznało ogólną sumę dla wszystkich organizacji SUW, z której dla naszego Koła wypadło na cele wydawnicze 386 zł.

Oprócz tego w swoim czasie wysłano do członków honorowych Koła prośbę o udzielenie pomocy pieniężnej dla Koła Teologów Prawosławnych. Nasza prośba nie została bezskuteczną: otrzymaliśmy od członków honorowych i innych osób, tytułem ofiar 256 zł. 68 gr. Równocześnie Zarząd starał się o możliwie skuteczniejsze ściąganie długów od tych kolegów, którzy już ukończyli studia. Dyżury Zarządu w kancelarii Koła odbywały się w poniedziałki, środy, czwartki i soboty od godz. 20 – 21. Oprócz tego kancelaria bywała czynna na prośbę każdego członka dla załatwienia spraw bardzo pilnych, nawet w godzinach nieurzędowych. W okresie swego urzędowania Zarząd Koła odbył 21 posiedzeń, wysłał 63 listy i otrzymał 35, a także prenumerował trzy czasopisma. Czynny też udział brał Zarząd Koła w ogólnym życiu akademickim, wysyłając swoich przedstawicieli na wszystkie obchody i uroczystości akademickie, jak:

1. Otwarcie roku akademickiego.
2. Zebranie ogólne Polskiego Związku Akademickiego Kół Naukowych.
3. Akademię Ligi Morskiej.
4. Jubileusz sakry biskupiej i działalności metropolitalnej J. E. Ks. Metropolity Dionizego, kierownika Studium Teologii Prawosławnej Uniwersytetu Warszawskiego i wysokiego opiekuna naszego Koła.

Kończąc te krótkie sprawozdanie, w imieniu wszystkich studentów członków Koła Zarząd składa serdeczne podziękowanie Jego Eminencji Ks. Metropolicie Dionizemu, wysokiemu opiekunowi naszego Koła, za ojcowską opiekę i pomoc, czy to w postaci rad i poparcia w poczynaniach działalności Zarządu, czy to w postaci pomocy materialnej.



## Ліставаньне з арх. Апанасам (Афанасіем)

Лісты да арх. Апанаса (Афанасія)

### № 1

[Копія]

Саўт Рывэр, 23 лютага 1962 г.

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

Шчыра дзякую за ліст і прывітаньне з Днём Ангела ды прашу прабачыць за так спозьнены адказ. Справы, абавязкі, хвароба, а таксама лень спрычыніліся да гэтага. Дык яшчэ раз прашу, прабачце!

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка! Многія ня вераць у тое, што Вы ачоліце Беларускую Праваслаўную Царкву на эміграцыі, але аднача сна з гэтым ёсьць шмат такіх, каторыя ня страцілі надзею й глядзяць на Вас як на беларускага архіпастыра, каторы пазьней ці раней ачоліць нашу Царкву. Да апошніх належу й я, і пішу гэты ліст, ня страціўшы надзеі, нягледзячы на зьмест апошняга Вашага ліста. Як бачу, справа ўпёрлася ў статут. Я прадбачыў гэта і ўдзелу ў апрацоўцы яго не прымаў, навучаны горкім дасьведчаньнем пры апрацоўцы нашага парафіяльнага статуту. Зрабіў гэта не дзеля капрызу, а дзеля таго, каб не нясьці маральнай адказнасьці перад Вамі за статут. З голасам сьвяшчэньніка ня лічацца і ўсё прымаюць бальшынёй галасоў, дзе адзін сьвяшчэньнік. Пры такім палажэньні я аставаўся-б у адзіночным ліку (так, як гэта было пры апрацоўцы нашага парафіяльнага статуту) і статут прыняўся-б такі самы, які надаслалі Вам, з той толькі розьніцай, што ў камісіі быў-бы а. М. Лапіцкі, на якога й падае маральная адказнасьць. Каб гэтага не было, я адышоў у бок. Як выглядае, сягоньня гэтай справай займаюцца а. дыяканы (маю на ўвазе а. д. Вялікага й а. д. Кузьміцкага) ды міране. Духавенства, якога ня так шмат, стаіць збоку.

У сувязі з гэтым у Манчэстэры (Англія) на сходзе зьвярнулі ўвагу на гэта зьявішча й выказалі пажаданьне, каб царкоўным жыцьцём займалася духавенства. На маю думку, Вы правідлова паступілі, што запрапанавалі прыняць статут. Я прыйшоў без статуту й пасьля шкадаваў. Але мне здаецца сама пастаноўка неправідловая. Вам трэба апрацаваць свой статут і праслаць яго, паставіўшы ясна справу: прымаеце яго – прыходжу, не прымаеце – шукайце іншага кандыдата. Вось, я-б стаўляў

праблему так, што да статуту. Што тычыцца арх. Філафея, дык ён і надалей няхай трымае свой тытул, а Вы ачоліваеце Беларускую Праваслаўную Царкву ў вольным сьвеце незалежна ад яго, маючы зь ім духоўную лучнасьць.

Беларусы, якія ў вольным сьвеце арганізовываюць сваю Царкву, а тым больш іх дзеці, дамоў ня вернуцца, нават калі прыдзе магчымасьць. Вось падстава, якая прамаўляіць за маю прапанову й якой даўно трымаюцца іншыя нацыянальнасьці: грэкі, сэрбы, расейцы, украінцы й іншыя.

Навасьцей у мяне асаблівых няма. Жыцьцё ідзе нармальна. Прыход патроху разьвіваецца і ўсё гэта, разам узятае, дадатна дзейнічае на нашу агульна-царкоўную справу сярод беларускага грамадзтва. Калі ў іншых мясцох былі няўвязкі й закалоты, дык у нас гэтага няма, за што толькі належа падзяка Госпаду Богу, каторы ніспасылае нам Яго міласьць і благаславеньне.

Па Божаму Промыслу ў прайшоўшым годзе беларускі прыход у Чыкага пакінуў самасьвятства й вярнуўся ў Праваслаўную Царкву. Каштавала мне шмат нэрваў, а беларусам у Чыкага нэрваў і нямала грошай, каб пазбыцца Фінькоўскага. У Чыкага, калі трэба было распачаць акцыю супроць Фінькоўскага, 3 нядзелі служыў я, пасьля 2 нядзелі – а. Віталій, а цяпер служа а. Міхаіл Мігай, каторы настала як-бы застацца ня хоча, але кажа: пабуду пакуль усё ўнармуецца. Быў адзін мамэнт, што ў Чыкага пагаджаўся ехаць (па словах Івана Іванавіча) а. А. Апанасэвіч, але я ўважаю, што туды можа ехаць другі сьвяшчэньнік толькі тады, калі адмовіцца а. М. Мігай. Справа ў тым, што ёсьць у пляне адчыніць прыходы ў Клівеляндзе, Пассэйку, а нават можа і ў Нью Ёрку, а таму нам духавенства патрэбна, і а. М. Мігая трэба ўтрымаць на прыходзе ў Чыкага.

У Клівелянд на просьбу Харытановіча й іншых, па маёй рэкамэндацыі, арх. Палладзій рукапалажыў у сан дыякана Я.Кузьміцкага з тым, калі сарганізуецца прыход, дык яго рукапалажыцца ў сьвяшчэньнікі. Як дыякан Я. Кузьміцкі вельмі добры, але на сьвяшчэньніка слабаваты. Калі-б быў мацнейшы, дык ужо адчынілі-б прыход, на які атрымалі чартар. Затрымліваецца справа й дзеля таго, што няма згоды. Як рукапалагалі ў дыяканы Я. Кузьміцкага, дык згодна просьбы з Клівелянду ён быў вельмі адпаведны, а цяпер ня могуць знайсьці супольнага згоднага супрацоўніцтва. Не апошнюю скрыпку грае сп. Харытановіч у гэтым. Калі-б была згода, нягледзячы на цяжкасьці прыход ужо быўбы адчынены.

У Пассэйку адчыніць прыход лягчэй. Думаю, што ў гэтым годзе, з а. А. Апанасэвічам альбо з а. Юльянам, які хоча пакінуць мітр. Леонція, мы там прыход адчынім. Калі-б жыў сьв. п. арх. Міхаіл, дык гэта было-б ужо зроблена. З арх. Якавам цяжэй, але час сваё зробіць. Няпроч прысьці да нас і а. Я. Кайко, але мне здаецца, для нас без беларускага архіпастыра, ён прынясе ня столькі карысьці, сколькі шкоды. Дзеля гэтага я ўстрымліваюся, нягледзячы на тое, што ён тэлефанічна некалькі раз парушаў гэту справу.

У 1961 г. я спатыкаўся зь епіскапам Мацьвеем і мітр. прот. У. Яськовым, якога цяпер узьвялі ў сан архімандрыта. Яны ня проч узглавіць нашу Царкву, але прошлыя грахі супроць нас, беларусаў, стаяць на перашкодзе. Нашы дзеячы вельмі пільнуюць нацыянальную чысьціню ў епіскапа, а ў саміх, калі паскрабсьці, дык таксама знойдзеш шмат пагрэшнасьці. Я асабіста гляджу, каб быў кананічны і рабіў цяпер нашу работу. Што тычыцца прошлага, дык гэта яго справа.

Вось так прадстаўляецца царкоўнае жыцьцё ў Амэрыцы. Што тычыцца іншых краін, дык там без перамен: у Канадзе працуіць а. Віталій, а ў Англіі – а. Мірановіч. Як абстаіць справа ў Аўстраліі, цяжка сказаць. Згодна апошняга ліста сп. С. Розмысла выходзіць, што яны сарганізавалі прыход, але ім перашкаджаюць яго зарэгістраваць крывічы на чале з а. Мадэстам Яцкевічам. Прасілі дапамогі ў змаганьні з а. М. Яцкевічам. Што мог, тое зрабіў, і як стаіць цяпер справа – нічога ня пішыць.

У маім асабістым жыцьці новага нічога няма. Пераваліла за 50-тку й гэта ўжо адчуваецца. Слабеем целам, але духам не падаем, дзеля таго магчыма, што Лёля з Жоржам заховываюцца някепска ды нас не чураюцца. А таксама магчыма й таму, што працуецца сярод сваіх людзей, на якіх у аснаўным накараць не магу. А таму й Вам, Уладыка, раджу ачоліць Беларускую Праваслаўную Царкву на эміграцыі на просьбу беларусаў і маю, а я тады да Вашай дыспазыцыі й дапамогі. На гэтым канчаю й прашу Вашых сьвятых малітваў. Матушка і ўся мая сям'я просяць Вашых малітваў, ды адначасна перасылаюць Вам свае прывітаньні.

З любоўю ☧Хрысьце
[а. М. Лапіцкі]



## № 2

[Копія]

Саўт Рывэр, 22 сьнежня 1962 г.

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

Васіль Тамашчык складаіць просьбу, каб яго прынялі ў духовую лучнасьць кананічаскія епіскапы на чале з арх. Якавам. Успомненыя епіскапы вельмі ліберальныя. Адзін зь іх, еп. Багдан (цяпер мітрапаліт-украінец), з В. Тамашчыкам разам служыў і цяпер вельмі яго бароніць. А таму и баюся, што яго могуць прыняць без паўторнай хіратоніі. Тады ў вачах беларусаў мітр. Панцялейман, Вы, арх. Апанас, ды іншыя, каторыя не прызнавалі яго за епіскапа (у тым ліку й я) будзем выглядаць лгунамі. Па прыбыцьці ў Амэрыку В. Тамашчык наведаў арх. Міхаіла й імкнуўся навязаць зь ім лучнасьць, але арх. Міхаіл ад гэтага адмовіўся, лічачы яго самасьвятам. Цяпер я ня маю такіх уплываў у Экзархаце й таму прашу Вас напісаць у гэтай справе арх. Якаву, указаць яму, хаця ён і пакідаіць Сяргея Ахоценка, але ён самасьвят і мусіць быць перарукапаложаны. Апрача гэтага мусіце ўказаць, што й кандыдат ён не ахці: быўшы атэіст і стаўленьнік вуніятаў. Справу лічыце пільнай і, не адкладывая ў дальні яшчык, старайцеся як найхутчэй палагодзіць.

Матар'ял аб В. Тамашчыку знойдзіце ў кнізе „З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу" І. Касяка (бал. 146–156). Апрача гэтага В. Тамашчыка рукапалажылі Платон, Сяргей і Вячаслаў (Лісіцкі), каторы пасьля сам рукапалагаўся паўторна міт. Леонціем і яго епіскапамі. Царкоўныя каноны забараняюць паўторную хіратонію, але міт. Леонці відаць меў падставу, калі перарукапалагаў Вячаслава. Відаць і сам Вячаслаў не лічыў сябе епіскапам, калі прасіў рукапалажыць яго. У гісторыі Праваслаўнай Царквы няма выпадку, дзе падчас хіратоніі ў епіскапы роль епіскапа выконываў не епіскап. Удзел Вячаслава ў хіратоніі Тамашчыка нарушыў гэту хіратонію і ён мусіць перарукапалажыцца. Вячаслаў ня мог даць В. Тамашчыку таго, чаго ён сам ня меў.

Сьв.[яшчэнны] Сынод Рус.[кай] Зар.[убежнай] Царквы дня 27 лютага 1950 году пастанавіў: „Прызнаць хіратонію В. Тамашчыка ў епіскапы незаконнай і недзяйствіцельнай".

В. Тамашчык – стаўленьнік вуніятаў, аграном і атэіст. Спачатку імкнуўся разьбіць нашы прыходы, якія знаходзіліся ў юрысдыкцыі Экзархату (магчыма па загаду вуніятаў), а цяпер хоча падпарадкаваць іх. У сваёй крывіцкай прэсе, дзе не апошнюю ролю гуляе В. Тамашчык, лаялі нас, што пайшлі да грэкаў і нават называлі іх татарамі („Бацькаўшчына", 16.01.1955 г.), ды арганізавалі паралельныя прыходы ў Таронта й недалёка Саўт Рывэра. Цяперака, дачуўшыся, што маюць адбыцца

хіратоніі сьвятароў і дыяканаў ў экзарха, імкнецца навязаць лучнасьць, магчыма для вунійнай работы ў нашым асяродзьдзі. Для нашых палітычных лідараў гэта абыякава, і мы мусім сваімі царкоўнымі ўплывамі не дапусьціць, каб В. Тамашчыка без паўторнага рукапалажэньня прынялі кананічныя епіскапы на чале з арх. Якавам.

На гэтым канчаю, жадаючы вясёлых Каляд і шчасьлівага Новага Году. Прывітаньне ад маёй матушкі й радзіны. Просім Вашых сьвятых малітваў.

Ваш паслушнік
[а. М. Лапіцкі]

## № 3

[Копія]

[Саўт Рывэр, травень 1963 г.]

Дарагі Ўладыка!

Некалькі месяцаў назад я пісаў Вам аб тым, што У. Тамашчык хоча аформіць свой кананічны бок. Сягоньня гэта справа стала рэальнай. Дня 1 травеня ён на імя арх. Якава пераслаў просьбу й залучыў свае дакуманты. Копію яго заявы залучаю пры гэтым лісьце й яшчэ раз прашу напісаць арх. Якаву ў гэтай справе. Гэта Ваш абавязак, як Блюсьціцеля Мітрапалітальнага Прастола Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Арх. Якаў і канфэрэнцыя праваслаўных кананічных епіскапаў ня ведае:

1. Яго прошласьці;
2. Кандыдатуру яго выставіла й аформіла крывіцкае ўгрупаваньне, якое складаецца ў сваёй бальшыні з р.-каталікоў, вуніятаў і бязбожнікаў. А таму ён ня можа лічыцца епіскапам Беларускай Царквы, бо крывіцкае ўгрупаваньне – не беларускі народ, а толькі ўгрупаваньне;
3. Праводзіў і ачолівае на эміграцыі гэту т. зв. Беларускую Аўтакефальную Царкву Сяргей Ахоценка, епіскап Украінскай Аўтакефальнай Царквы, каторы на гэта ня меў ніякага права, бо былі свае епіскапы, якія апекаваліся сваім народам. Умешываньне чужога епіскапа забараняецца канонамі: 35-м Апостальскім, 22-м Анціяхійскага Сабору (341) і 3-м Сардзікійскага Сабору (347). Згодна 35-му Апост. правілу С. Ахоценка, які ўмяшаўся ў нашы царкоўныя справы, бяз згоды нашых епіскапаў ды будзе ізвержэн ён і пастаўлены ад яго. Сяргей

Ахоценка, як відаць, не прызнае гэтых правіл, дзякуючы чаму разьбіў нашу Царкву, а цяпер разьбівае ў Аўстраліі Грэчаскую Царкву. Магчыма ён дзейнічае па загаду Ватыкану, перад якім у свой час рабіў стараньні аб сваім пераходзе ў склад Рыма-кат. Царквы. У сучасны мамэнт экзарх Канстантынопальскай Патрыярхіі мае зь ім у Аўстраліі шмат клопатаў з дня 27 лютага 1950 г.;

4. Пастанова Рус.[кай] Зар.[убежнай] Царквы на чале з Анастасіем: „Прызнаць, выкананую над У. Тамашчыкам хіратонію ў епіскапы, незаконнай і нядзейнай”. Добра было-бы, каб гэты ўвесь матар’ял, на падставе якога вынесена вышэйшая пастанова, Сьв. [яшчэнны] Сынод пераслаў арх. Якаву;
5. Вячаслаў (Лісіцкі), які браў удзел у хіратоніі У. Тамашчыка, пасьля сам перарукапалагаўся, а таму ён ня мог даць таго, чаго сам ня меў. Перарукапалажэньне выканалі епіскапы на чале зь мітр. Леонціем у Нью Ёрку.

Вось тыя пункты, дзеля якіх мы не прызнаём У. Тамашчыка епіскапам. Думаю, калі іх падаць арх. Якаву, дык і ён не прызнае У. Тамашчыка епіскапам, так як не прызнаў яго арх. Міхаіл. Дык зрабіце гэта, каб ня мець на сумленьні граху. Можаце падаць і маё прозьвішча, як чалавека кампетэнтнага ў гэтай справе, а таму, калі трэба, дык магу даць інфармацыі. Не зацягавайце зь пісьмом, бо „промедление” сьмерці падобна. На гэтым канчаю й прашу Вашых сьвятых малітваў.

[Ваш паслушнік
а. М. Лапіцкі]

## № 4

[Копія]

[Саўт Рывэр], 25 травеня 1963 г.

Прэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

Гэты ліст пішу па-беларуску з тым, каб Вы прывыкалі да нашай мовы. Я жыву надзеяй, што мы будзем з часам працаваць разам на беларускай царкоўнай ніве.

Ліст Ваш атрымаў і лічу сваім абавязкам зараз-жа адказаць на яго. Канфэрэнцыя кананічных епіскапаў у Амэрыцы адбылася дня 16 мая 1963 году. На гэтай канфэрэнцыі просьбу Тамашчыка яшчэ не разглядалі. Успаміналі толькі просьбу Грыгора (Агійчука), які рукапалажыў Фінькоўскага, але й яе адлажылі да наступнай канфэрэнцыі.

Вельмі будзе добра, што Вы напішаце арх. Якаву аб Тамашчыку. На маю думку, найлепш было-бы пераслаць Ваш матар'ял празь югаслаўскага эпіскапа Дыянісія, які вазводзіў у сан архімандрыта а. У. Яськова й які ўваходзіць у склад канфэрэнцыі кананічных эпіскапаў. Гэтым б'ецца двух зайцаў: па-першае, ён сам запазнаецца з матар'ялам, а падругое, лепш яму даручыць чымсьць мне, бо я й ад сябе магчыма змушаны буду пісаць у гэтай справе, калі запатрабуе арх. Якаў.

Тамашчык па прафэсіі аграном. Вышэйшую адукацыю ён атрымаў да II сусьветнай вайны ў Празе. Калі ён вярнуўся з Прагі на Беларусь, яга заарыштавалі [па абвінавачваньні] ў камунізьме й пасадзілі ў турму. Ці быў ён камуністам цяжка гэта сьцьвердзіць, дзеля таго, што вельмі часта беларусам-нацыяналістам прышывалі камунізм з тым, каб пасадзіць у турму. Да рэлігіі ён быў індыфэрэнтны й з Царквой аж да высьвячэньня нічога ня меў супольнага: не спавядаўся, не маліўся, і, як цьвердзяць, еў каўбасу і ў Вялікую Суботу.

Адзін зь епіскапаў, Вячаслаў (Лісіцкі), які браў удзел у хіратоніі Тамашчыка, сам пасьля перарукапалагаўся ў Амэрыцы ў юрысдыкцыі мітр. Леонція ў 1952 г. ці 1953 г. Вось ужо ў гэтым ёсьць нарушэньне канонаў. Калі ён быў кананічны, дык яго ня мелі права перарукапалагаць. Калі ён быў некананічны, дык ён ужо нарушыў хіратонію Тамашчыка, беручы ўдзел у яго хіратоніі і ў літургіі. Добра было-бы, каб Вы запатрабавалі матар'ял, на падставе якога перарукапалагалі Лісіцкага. Спадзяюся, што арх. Ірыней Вам яго перашле.

Я маю копіі пратаколаў Рус.[кай] Зар.[убежнай] Царквы, у якіх Тамашчыка хіратонія прызнана нядзейнай. Як адзін матар'ял, так і другі добра было-бы залучыць да Вашага рапарту. У Вашым рапарце Вы павінны саслацца й на арх. Філафея (Нарко), зь якім арх. Якаў у вельмі добрых суадносінах і які лічыцца Блюсьціцелем Мітр.[апалітальнага] Прастола Бел.[арускай] Прав. [аслаўнай] Царквы. У рапарце мусіце ўспомніць, што пры хіратоніі Тамашчыка нарэклі Віленскім. Катэдра гэта належыць да Вас. Тут таксама нарушэньне канонаў. Вось, здаецца ўсё, што я меў напісаць адносна Тамашчыка. Адначасна з гэтым прашу Вас, Уладыка, не даваць агласкі маім пісьмам. Найлепш было-бы, каб Вы вярнулі іх мне назад па прачытаньні.

За прывітаньні мы з матушкай шчыра дзякуем і просім Вашых сьвятых малітваў.

З любоўю ў Хрысьце
[а. М. Лапіцкі]

P.S.: Успомніце, што сьвяшчэньнікаў экзарх у Аўстраліі перарукапалагаіць.

## № 5

[Копія] [Саўт Рывэр, красавік-травень 1963 г.]

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

Спадзяваўся, што па прыезьдзе з Чыкага зараз-жа напішу ліст і паінфармую аб сваёй паездцы, але выканаць гэтага ня мог. У дарозе прастудзіўся й моцна захварэў. Праўда, у сілу неабходнасьці хворы мусіў адпраўляць паложаныя службы Страсной Сядміцы й Вялікадня, але гэта зацягвала хваробу, ад якой толькі цяпер трохі ачуняў.

З Чыкага я пакуль што нічога не атрымаў і ня ведаю, якія адгалоскі аб маёй місіі, а таксама не знаю, як там разгортываюцца падзеі далей. Царкоўны Камітэт за ўсякую цану хоча пазбыцца Фінькоўскага. Але ён упіраецца, і я ня ведаю, ці ім удасца зь ім справіцца? Адна толькі іх надзея на тое, што можа не дадуць яму візы, якая ўжо канчаецца. Але мне здаецца яму ў гэтым можа памагчы Грыгорый, які падтрымлівае яго, і іх надзея можа не апраўдацца. Фінькоўскі прапанаваў мне заняць яго месца, а ён выедзе з Чыкага. Але гэта словы, якім значэньня прыдаваць ня можна.

У Чыкага палажэньне Фінькоўскага ня важнае. Праўда ён мае сваіх прыхільнікаў, але й гэтыя прыхільнікі, калі бліжэй запазнаюцца зь ім, дык ад яго адходзяць. Прычына тая, што ня ўмее захоўвацца ня толькі як „архірэй", а нават як і сьвятар. Адно, што прыцягвае да яго людзей, гэта яго службы. Служыць ён, трэба прызнаць, някепска.

Царкоўны будынак у Чыкага маюць добры. Выглядае на сабор. У сярэдзіне абарудаваны слабавата, але зроблена шмат і выгляд някепскі. Для разьвіцьця парафіі ёсьць вялікія магчымасьці, адно толькі трэба выкараніць самасьвятства й паставіць адпаведнага духаўніка. Справа гэта нялёгкая й вымагае часу, які ёсьць найлепшым лекарам.

У Ракфордзе я спаткаў а. У. Яськова, а ў Чыкага – а. В. Вячорку. Як адзін, так і другі зрабілі на мяне добрае ўражаньне. Праўда, чужая душа – пацёмкі. Але, нягледзячы на гэта, каб яны ўключыліся ў нашу работу, была-б толькі карысьць. Даў сваю згоду ўключыцца ў работу й а. А. Апанасэвіч. Калі намечаны плян зрэалізуецца, мы будзем мець 4 прыходы ў Амэрыцы, і ў Канадзе, і ў Англіі. Ёсьць надзея, што калі будзе свой епіскапат, дык, магчыма, адчыняцца й яшчэ прыходы.

Сп. Ф. Высоцкі інфармаваў, што Вам высланы т. зв. статут. Я, навучаны горкім вопытам пры апрацоўцы парафіяльнага статута, у апрацоўцы статута, які выслалі Вам, удзелу не браў. Справа ў тым, што ўсё пры апрацоўцы й на сабраньні прымаецца бальшынёй галасоў, і я быў заўсёды адзін, як у камісіі пры апрацоўцы парафіяльнага статута, так і на

сабраньні, на якое прыбыў т. зв. беларускі актыў у колькасьці ня больш 30 асоб і прыняў статут такі, які адказываў іхняму зьместу, адкідаючы прынцыпы статуту, які быў прыняты Саборам БАПЦ у Менску ў 1942 годзе. На мой погляд, і на эміграцыі маіць быць захаваны статут, прыняты Саборам БАПЦ у Менску ў 1942 годзе. Гэта нас лучыць з Беларускай Праваслаўнай Царквой на Бацькаўшчыне, якую мы пакінулі й надзеімся вярнуцца, калі будзе знішчаны бальшавізм.

[З любоўю ў Хрысьце
а. М. Лапіцкі]

## № 6

[Копія]

[Саўт Рывэр], 8 кастрычніка 1963 г.

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

Толькі сягоньня сабраўся Вам напісаць пара слоў. Ніяк усё ня мог сесьці за машынку. Проста за лета разьляніўся, а мо й старасьць адаляває. Цяжка напісаць ліст, а тым больш паехаць у Нью Ёрк, а таму яшчэ й ня выканаў Вашага ўказаньня, як паступіць з амафорам, за што прашу прабачэньня. У далейшым пастараюся як найхутчэй завезьці амафор у Нью Ёрк, а там як хутка адашлюць Вам.

У нас адбыўся зьезд, на якім прынялі рэзалюцыю аб скліканьні Царкоўнага Зьезду, на якім мусім вырашыць нашы царкоўныя праблемы. Зьезд адбудзецца, я думаю, у 1964 годзе, бо я спадзяюся Вы вырашыце аканчальна справу ачоліваньне праз Вас нашай Царквы да гэтага Зьезду. Дзе Вы будзіце жыць – у Аўстраліі ці Амэрыцы, гэта ня будзе гуляць ролі. Беларусы ёсьць і там і тут, ды таксама і ў іншых краінах.

Справа Тамашчыка яшчэ ня вырашана. Калі яе вырашаць? Ня ведаю. Ён перажывае й мае шмат непрыемнасьцяў ад крывічоў, якія вельмі злыя на яго за гэту заяву. Адным словам Тамашчыку ўшчамілі хваста й ён ня ведае, як далей будзе. Мае жаль да мяне й ня ведае, як я захаваюся нават тады, калі ён аформіцца. Можа для дабра нашай Царквы й варта яго выцягнуць з балота, абсушыць, абагрэць, прыласкаць ды разам славіць Госпада Бога. Справа цяжкая, а таму цяжка яе й вырашыць. Падумайце й падскажыце як паступіць. У нас ёсьць тэндэнцыя й такая, каб арх. Афанасій ачоліў Царкву й прыняў Тамашчыка пасьля яго кананічнага афармленьня ў сваю юрысдыкцыю. Гэта аб'яднала-бы нас, праваслаўных беларусаў. Праўда, знойдуцца з боку крывічоў і та-

кія, каторыя з гэтым не пагодзяцца. Але такіх будзе ня шмат, не рахуючы вуніятаў, якія за ўсякую цану будуць перашкаджаць. Апрача гэтага ёсьць думка, каб прыцягнуць і еп. Мацьвея, які ня проч ачоліць нашу Царкву, але ня ведаю, ці ўвойдзе ў Яе, калі Яе будзе ачоліваць нехта іншы. Калі-б гэта сталася, мы-бы мелі вялікія магчымасьці для далейшай працы.

Пра арх. Філафея ні слуха, ні духа. У Амэрыцы яго, здаецца, няма, а з Гамбургу ён ня піша. Рабіў ён што-небудзь у справе Тамашчыка ці не? Ня ведаю. Вось, здаецца, усё, аб чым меўся Вам напісаць. Вы пісалі, што можаце прыслаць матар'ял для друку ў „Царкоўным Сьветачы", а таму ветліва прашу надаслаць яго. Можа маеце матар'ялы аб сучасным саборы Рыма-каталічаскай Царквы, дык таксама прашу прыслаць.

На гэтым канчаю й прашу Вашых сьвятых малітваў. Прыміце ад маей радзіны прывітаньні й не забывайце яе ў Вашых малітвах.

З любоўю ў Хрысьце
[а. М. Лапіцкі]

## № 7

[Копія]

[Саўт Рывэр, красавік 1967 г.]

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

У апошнім Вашым лісьце да Настаяцеляў Беларускіх Праваслаўных Прыходаў, Царкоўна-Прыхадзкіх Камітэтаў і ўсіх Праваслаўных Беларусаў, з дня 1 лютага 1966 г. Вы пішаце: „Сабор епіскапаў гэтае Царквы (г.н. РПЦЗ) зусім бэзінтэрэсоўна ў апошнія гады дапамог арганізаваць царкоўнае жыццё праваслаўным французам у Францыі, галандцам у Галяндыі, румынам і баўгарам на чужыне, пасьвячаючы ім епіскапаў з пасярод кандыдатаў, прадстаўленых імі самімі".

Жыцьцё аднак паказала другое. Бэзінтэрэсоўная дапамога для французаў аказалася трагічнай. На іх епіскапа Івана, а, магчыма, і на духавенства „наложено запрещеніе в священнослуженії". Для сьцверджаньня сказанага залучаю выразку з газ. „Новое Русское Слово" з дня 15 сакавіка 1967 году.

Калі-ж з французамі так паступілі, дык чаго-ж добрага можна спадзявацца беларусам, якія імкнуцца мець сваю незалежную Царкву? Гэта

і ёсьць прычынай, чаму мы не прынялі Вашу прапанову. З расейцамі на царкоўнай ніве не маглі знайсці супольнай мовы французы, тым больш ня знойдзем супольнай мовы мы, беларусы.

Пішу гэты ліст не з тым, каб некаму дакараць. Даўно хацеў напісаць Вам ліст, але ніяк ня мог сабрацца. У гэтым годзе ўзяў вакэйшэн і езьдзіў у Флярыду. Прабыў тры нядзелі й нічога не рабіў. Купаўся, загараў і гуляў з унукамі. Прыехаўшы да дому ў канцы лютага, трэба было напісаць малітву й падгатовіцца, каб добра прачытаць у Кангрэсе. Чытаў 15 сакавіка 1967 году. Падгатовіўся някепска. Кангрэсмэны хвалілі, ды пазней малітву й супольную зь імі фатаграфію падалі да прэсы. Займае ня мала часу школка й сэмінар для старэйшых дзяцей. Прыходзяць ахвотна, магчыма таму, што сэмінар будзе цягнуцца нядоўга й мэтай яго ёсьць запазнаць з аснаўнымі ісьцінамі нашай веры гімназыстаў ды падагатовіць да споведзі. А адначасна з гэтым засноўваю зь іх Саюз Беларускай Праваслаўнай Моладзі. Плюс да гэтага праца парафіяльная ды іншыя царкоўна-грамадзкія справы забіраюць таксама нямала часу. Вось дзеля гэтага й пішу рады ў гады, калі няма наглай патрэбы.

Царкоўнае жыцьцё наша стаіць на точцы замерзаньня. Кожная парафія жывець сваім хутарскім жыцьцём. Праўда, калі бяда, дык тады зразумела зварачываюцца да мяне за дапамогай. І тады адны хваляць, а другія абвінавачываюць. Так было й нядаўна, калі адмовілі а. В. Сагайдакоўскаму ў настаяцельстве, а на яго месца назначылі а. Я. Кузьміцкага. Прычына тая, што ён тры разы на гаду езьдзіў у Польшчу. Шкада, што так сталася. Добры сьвяшчэньнік, які цяпер гневаецца на мяне й працуе ў юрысдыкцыі мітр. Ірынея.

Што тычыцца Тамашчыка, дык там унёс я раздор. С. Ахоценка, здаецца, спаралiжаваны. Тамашчык на сваю руку хацеў хiратанiзаваць у епiскапы свайго стаўленьнiка пры дапамозе мiтр. Іларыёна. Я наведаў арх. Мсьцiслава i ён, вiдаць, напiсаў мiт. Іларыёну, каб ён ад гэтага адмовiўся, што ён i зрабiў. Супроць хiратонii быў бруклiнскi прыход i Крыга ў Клiвеляндзе. Гэтыя два прыходы хочаць стаць на кананiчную дарогу. Яны чакаюць на той час, калi мы займеем свайго епiскапа й адзелiмся ад грэкаў. Калi гэта станецца, мы маем спалучыцца. Цi гэта станецца, аднаму Госпаду Богу ведама? Былi надзеi на Вас, але да гэтага не дайшло й мы топчымся на месцы, нягледзячы на тое, што царкоўнае жыцьцё на беларускiм грунце ўкладалася на нашу карысьць. Нават Ракфорд выйшаў ад мiтр. Ірынея пад маiм уплывам i хацеў спалучыцца з намi. Як усё будзе ўкладацца ў далейшым ня ведаю? Не маючы апекi з боку кананiчнай Царквы, магчыма прымуць самасьвятства й тады будуць страчаны для Царквы назаўсёды.

[З любоўю ў Хрысьце
а. М. Лапiцкi]

## № 8

[Копія]

[Саўт Рывэр], 6 лістапада 1968 г.

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

Крывіцкі прыход ў Нью Ёрку падзяліўся на дзьве часткі. Пры Тамашчыку асталіся т. зв. палітыкі й каталікі. Другая частка, якая састаўляе значную большасьць, адышла й пачынае арганізоўваць новы прыход пры маёй дапамозе. Згодна дагаворанасьці настаяцелем мае быць а. протадыякан Сьвятаслаў Коўш, якога трэба рукапалажыць у сан іерэя. У сувязі з гэтым ветліва прашу напісаць арх. Якаву, экзарху Канстантынопальскай Патрыярхіі.

Айцец протадыякан С. Коўш, народжаны 7 студзеня 1917 г., закончыў Віленскую Беларускую Гімназію й паступіў на юрыдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Дня 28 ліпеня 1933 г. рукапаложаны арх. Панцялейманам, які замяшчаў арх. Феадосія, у сан дыякана.

Дня 30 лістапада 1949 (?) г. быў Вамі ўзведзены ў сан протадыякана. Час ідзе, я старэю. Таму пажадана мець і заступніка, якім мог-бы быць а. С. Коўш. Па алфавіту адышлі: сьв. п. а. А. Апанасевіч, сьв. п. а. І. Жарскі й сьв. п. а. У. Грыгаровіч, а таму трэба гатовіцца...

Мая парафія разьвіваецца. Купілі тры з палавінай акры зямлі й пачалі будаваць новую царкву й парафіяльныя будынкі. Царква будуецца ў беларускім стылі.

На гэтым канчаю й прашу Вашых сьвятых малітваў.

Ваш паслушнік
[а. М. Лапіцкі]

## № 9

[Копія]

[Саўт Рывэр], 6 сакавіка 1969 г.

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

І так, прыйшоў 1969 год, калі Вы можаце пайсьці на рэтаэр, пакінуўшы Расейскую Царкву. Згодна Вашага ліста да а. ігумена Язэпа, як відаць, [Вы] і гатовіліся да гэтага. Ня ведаю вашых плянаў, але хачу сказаць, што пастанова Царкоўнага Зьезду ў Клівеляндзе не адменена,

а таму ёсьць актуальная й сягоньня. Праўда ў нас зайшлі невялікія зьмены. З Польшчы прыехаў а. ігумен Язэп, як кандыдат на епіскапа. Мітрапаліт Варшаўскі Сьцяпан распачаў акцыю і ўжо прыходзіцца бараніцца. Я прадбачыў гэта й аформіў а. Язэпа ў еп. Мацьвея, які прыняў яго ў сваю юрысдыкцыю 15 лістапада 1968 г., а мітрапаліт Сьцяпан забараніў [яго] у сьвяшчэннаслужэньні 9 сьнежня 1969 г., калі а. Язэп ня быў яго клірыкам. Арх. Якаў ведае аб гэтым і нам дазволіў служыць, нягледзячы на тое, што мітр. Сьцяпан напісаў аб гэтым у Канстантынопаль. Што будзе далей, ня ведаю. Найлягчэй было-бы, калі-б Вы ачолілі нашу Царкву, выйшаўшы з юрысдыкцыі Рускай Зарубежнай Царквы й рукапалажылі а. ігумена Язэпа ва епіскапы. Тым больш, што ў нас справы разгортываюцца някепска. У Нью Ёрку бальшыня прыхаджан пакінула Тамашчыка й прылучылася да нас. У прайшоўшую нядзелю адбылася першая служба, якую ачоліваў я. Настаяцелем назначаны а. С. Коўш, якога з блага-славеньня Якава мітр. Гэрманас дня 9 лютага 1969 г. у нашай царкве рукапалажыў у сан іерэя. Службы распачаліся ў чужой царкве, але куплена зямля й маюць будаваць сваю беларускую царкву.

У Саўт Рывэры мы таксама пайшлі ўперад. Купілі каля 4 акраў зямлі й пачынаем будаваць свой Царкоўна-Грамадзкі Беларускі Цэнтр. Будуем новую царкву, сьцены якой ужо выведзеныя, але яшчэ непакрытыя. Затрымаў купал і захваціла зіма. Але ўжо ў сакавіку, а таму спадзяюся, што хутка, прыступім да работы, каб закончыць царкву й распачаць пабудову залі, якую будзем будаваць аддзельна ад царквы. Каб больш запазнаць Вас з нашай працай, тыдзень таму назад выслаў Вам часапіс „Царкоўны Сьветач".

У Лёндане (Англія) адчыніўся таксама наш прыход. Настаяцелем [там] ёсьць а. Павел Вялікі. Пара год таму назад на маю просьбу й пры дапамозе еп. Мацьвея [яго] рукапалажыў у сан іерэя экзарх Канстантынопальскай Патрыярхіі ў Англіі. Нядаўна атрымаў ліст ад а. Паўла, ліст, у якім ён піша, што прыход разгортываецца добра.

Вось так прадстаўляюцца нашыя царкоўныя справы на сягоньняшні дзень. Магчыма Вас дзівіць, нашто я Вам гэта пішу пасьля таго разыходжаньня, якое заіснавала падчас апошняга нашага спатканьня?

Жыцьцё – гэта ёсьць змаганьне, падчас якога бываюць памылкі й няўвязкі. Гэтыя памылкі й няўвязкі ёсьць у мяне, ёсьць і ў іншых. Але для дабра справы іх трэба забывацца й рабіць усё магчымае, каб у нас, на эміграцыі, была свая Кананічная Праваслаўная Беларуская Царква [неразбор.].

На гэтым канчаю, жадаючы ўсяго найлепшага й прашу Вашых сьвятых малітваў.

З любоўю ў Хрысьце
[а. М. Лапіцкі]

## № 10

[Копія]

[Саўт Рывэр], 12 красавіка 1970 г.

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

Сьвяточную картку, якая дае надзею, што будзем разам маліцца й працаваць для дабра нашае Беларускае Праваслаўнае Царквы й Беларускага Народу, атрымаў. Шчыра дзякую й ад шчырага сэрца жадаю, каб гэта сталася й то як найхутчэй, незалежна ад таго, калі кончыцца пабудова царквы й дому. Царкву з Божай дапамогі стараемся закончыць у гэтым годзе, а рэшту будынкаў пазьней. Ня хочацца залязаць у доўг. Не магу наракаць, справа пабудовы ідзе някепска. Калі так будзеісьці й далей, дык доўга не зацягнецца.

Айца архім. Язэпа не высьвячалі, і гэта справа пакуль што не актуальная. Па-першае, Канстантынопальскі патрыярх не даў яшчэ сваёй згоды, а па-другое, і мы прыгледзіліся й прышлі да выснаву, што ён як кандыдат слабы, каб ачоліваць Царкву.

Дня 27 красавіка 1970 г. я склікаў у Саўт Рывэры Царкоўны зьезд Канады й Амэрыкі, на якім яго нават ня выставілі як кандыдата на епіскапа, нягледзячы на тое, што ён падгатовіў усё, што мог, забываючыся, што не апошняю ролю гуляе ў царкоўным жыцьці духавенства, а сярод яго й я.

Цяпер ён назначаны настаяцелем ў Таронта, куды выехаў перад Новым Годам.

Заканчываючы свой ліст паведамляю, што я гутарыў з а. С. Каўшом, Іванам Іванавічам, сп. Ф. Высоцкім. Усе рады былі-бы, калі Вашы словы сталіся рэчаіснасьцю. А таму не адкладывайце гэта ў далёкі яшчык, бо адклад ня ідзе на лад. Напішыце мне й мы будзем падгатаўляць, як кажуць, „абшчэственнае мненіе", каб гэту гістарычную падзею ціха й спакойна зрэалізаваць у жыцьці. З грэкамі мы шмат хлопатаў ня будзем мець, асабліва цяпер, калі творыцца т. зв. Праваслаўная Аўтакефальная Царква ў Амэрыцы. На гэтым канчаю й прашу сьвятых малітваў.

З любоўю ў Хрысьце<br>
Ваш паслушнік<br>
[а. М. Лапіцкі]

## № 11

[Копія]

[Саўт Рывэр], 7 кастрычніка 1970 г.

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

Ліст Ваш атрымаў, за які шчыра дзякую. На яго я чакаў даўно. На вялікі жаль, зараз выслаць лісты ад кожнай парафіі я ня маю магчымасьці. Усё гэта зраблю, але пройдзе трохі часу: магчыма 3–4 нядзелі.

Скажу шчыра, я нічога не гатовіў, бо ня ведаў ці гэта патрэбна? Папершае, канкрэтна мы не дагаварыліся, а па-другое, расейская газэта „Новое Русское Слово" падавала інфармацыі, зь якіх можна было рабіць выснаў, што Вы й надалей астаецеся ў Рускай Зар. [убежнай] Царкве.

Калі расходзіцца аб Ваш выхад з Рус.[кай] Зар.[убежнай] Царквы, дык Вы маеце найлепшую падставу – пастанову 1946 г., згодна якой Вы ўвайшлі тымчасова ў вышэй успомненую Царкву. Па-другое, маеце просьбу ад беларусаў, якія ў Клівеляндзе прынялі рэзалюцыю, згодна якой пастанавілі прасіць Вас ачоліць Беларускую Праваслаўную Царкву ў вольным сьвеце. Нашу просьбу Вы ў свой час атрымалі, яна актуальна й на сягоньня.

Атрымаўшы Ваш ліст, я прыступаю да працы, веручы, што Вы выйдзеце нарэшце з Рус.[кай] Зар.[убежнай] Царквы й духоўна заапякуецеся беларусамі ў вольным сьвеце. Шкадаваць ня будзеце! На гэтым канчаю й прашу Вашых сьвятых малітваў. У пасланьні да беларусаў трэба ўспомніць той факт, што з Тырсгайма Вы пераехалі ў Рэгэнсбург і гэтым самым хацелі назаўсёды спалучыцца зь беларусамі, але Вас выжылі вунійныя чыньнікі, якія ўжо распачалі сваю працу сярод беларусаў (маю на ўвазе Вашу першую паездку, а не другую, калі мяне забаранілі й Вы ўжо былі ў РЗЦаркве).

Ваш паслушнік
[а. М. Лапіцкі]

## № 12

[Копія]

[Саўт Рывэр], 20 кастрычніка 1971 г.

Дарагі Ўладыка!

Атрымаў Вашы дакуманты й ліст і ня ведаю, што рабіць, бо калі Вы едзеце ў Аргэнтыну, дык няма патрэбы перасылаць іх Канстантынопальскаму патрыярху.

Дня 14 кастрычніка мы былі ў Экзархаце й дагаварыліся аб працэдуры Вашага пераходу. Сп. І. Касяк Вас ужо паінфармаваў і я ня буду паўтарацца, а скажу толькі адно, што няма ніякіх перашкод у Вашым афармленьні. Усё цяпер залежа ад Вас. Копіі ўсіх дакумантаў я маю, адно, няма Вашага ліста да Канстантынопальскага патрыярха. Праўда, я магу Вашы дакуманты пераслаць з маім рапартам, але мне здаецца было-бы салідней, калі быў-бы Ваш ліст. Усё мусіць быць пераслана праз Канстантынопальскі Экзархат у Амэрыцы. Так стаіць справа з Вашым афармленьнем на сягоньняшні дзень. Працягнецца яна прыблізна месяц. Гэты час Вы можаце пражываць у Аўстраліі, альбо пераехаць у Амэрыку.

Вы пішаце, што ў Вас няма грошай на пераезд. Гэта не праблема. На дарогу мы мусім выслаць Вам грошы. Праўда, мы будуемся й маем пазычкі як у Саўт Рывэры, так і ў Нью Ёрку, але дарогу Вашага пераезда мусім аплаціць і гэтым Вы не турбуйцеся.

На гэтым канчаю й прашу як найхутчэй павядоміць, што рабіць.

З любоўю ў Хрысьце
Ваш паслушнік
[а. М. Лапіцкі]

## № 13

[Копія]

[Саўт Рывэр], 11 студзеня 1971 г.

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

Атрымаў Ваш ліст, за які шчыра дзякую. Прачытаў яго два разы й прыйшоў да пераканаyньня, што Вы беларусаў трымаеце на ўсякі выпадак у рэзэрве. Магчыма, я памыляюся, але зь ліста вынікае: дадуць Вам тое, што Вы хочаце, Вы астанецеся й надалей у Расейскай Зарубежнай Царкве.

Што тычыцца Вашых „засакрэчаных" плянаў, дык аб іх ведае РЗ Царква. Па прыездзе з Аўстраліі ў Рп. Бенку (недалёка ад Саўт Рывэру) служыў арх. Нікан і на прыватнай гутарцы гаварыў аб іх. Тайнай можа быць толькі тое, што ведама аднаму чалавеку, калі-ж нешта ведама двум, дык гэту тайну, як кажуць, будуць і куры знаць. А таму РЗЦаркве ведама, што бурляць міране, але за іх плячамі стаіць арх. Афанасій. А таму, на маю думку, у РЗЦарквы, каб выйсьці з палажэньня, ёсьць дзьве магчымасьці. Адна, гэта даць арх. Афанасію тое, што ён хоча. Другая,

забараніць яго ў сьвяшчэннаслужэньні. Вось гэта мяне трывожыць і я магчыма ізноў астануся ў дурацкім палажэньні, дзякуючы таму, што не паслухаў некаторых людзей, якія казалі, што з гэтага нічога ня выйдзе, дзеля таго, што арх. Афанасій з РЗЦарквы ня выйдзе. Раней Вас за нос вадзіў арх. Філафей, калі ў яго [былі] непаладкі ў Вісбадэне, а цяпер тое самае робіць арх. Афанасій, калі і ў яго паўсталі пэўныя няўвязкі з РЗЦарквой. Давяраючы Вам, я з гэтым не пагадзіўся й [папрасіў] парафію, каб яна выслала Вам лісты з просьбай, каб Вы ачолілі Беларускую Праваслаўную Царкву. Прайшоў час, а справа наша стаіць на точцы замерзанія. Вы зразумела, скажаце, што ў гэтым вінаваты я, а я на гэта адказываю, што першы шаг з нашага боку зроблены й мы чакаем Вашага выхаду з РЗЦарквы. Калі гэтага Вы ня хочаце зрабіць, дык напрасна наша суета. Выбачайце, калі я памыляюся.

Даражэнькі Ўладыка! Не хістайцеся й ня бойцеся, палагодзьце прыхільна нашу просьбу, а Господзь Бог благаславіць Вашы сьвятыя пачынаньні. Ці-ж не з яго дапамогі мы ў Саўт Рывэры пабудавалі новую царкву, а таксама і ў Нью Ёрку ўзвялі сьцены й сягоньня крыюць страху?! Калі расходзіцца аб матар'яльны бок, таксама галадаць не будзеце. Запэўніваю Вас у гэтым.

Нарэшце, што да пытаньня як аформіцца? Гэту справу мы будзем афармляць праз наш Экзархат, а Вы ў Аўстраліі – праз Ваш. Тым больш, што ў Вас добрыя суадносіны з экзархам, а па-другое, ім ведамы Сяргей Ахоценка, якога работа ў Аўстраліі ёсьць шкоднай і для грэкаў. Пры гэтым мушу зазначыць, што калі Вас забароняць у сьвяшчэннаслужэньні, дык справа аслажніцца, а таму найлепш выйсьці з РЗЦарквы і, пасьля ачоліўшы БПЦаркву, Вы можаце рэалізаваць свае пляны. Мы не будзем мець нічога супроць, каб да Вас належаў прыход іншай нацыянальнасьці. Жыць Вы можаце на пачатку ў Аўстраліі, а пасьля, калі ўсё палагодзіце, пераедзеце ў Амэрыку. Гэта ўсё будзе залежыць ад Вас. Арх. Якава цяпер няма ў Нью Ёрку. Як толькі прыедзе, будзем зь ім гутарыць у гэтай справе. У асноўным яны ня маюць нічога супраць, каб мы мелі свайго епіскапа. Што тычыцца Канстантынопаля, дык там трэба дзейнічаць праз Фоціядзіса, зь якім, я думаю, у Вас добрыя суадносіны. Адрас яго падаю ніжэй. Здаецца, ён забыў славянскія мовы, а таму трэба пісаць магчыма па-ангельску.

За Калядныя пажаданьні я й матушка шчыра дзякуем ды адначасна жадаем Вам шчасьлівага Новага Году. Дай Божа, каб распачатая справа стала рэчаіснасьцю!

З любоўю ў Хрысьце
Ваш паслушнік
[а. М. Лапіцкі]

## № 14

[Копія]

[Саўт Рывэр], 17 травеня 1971 г.

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

Распачатая справа стаіць на пункце замерзаньня дзеля таго, што прыходы нашы выслалі Вам афіцыйныя лісты з просьбай, каб Вы выйшлі з Расейскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквы й ачолілі нас, а Вы да сягоньня не адказалі на іх. Якая прычына – я ня ведаю? Магчыма, не прыйшоў яшчэ час. Але гэта стаіць на перашкодзе й мы ніяк ня можам выйсьці, як кажуць, з зачараванага кола.

У Вашых лістах Вы пішаце, што Вас могуць забараніць у служэньні, калі Вы пры выхадзе не захаваеце належных фармальнасьцей. Тое самае адносіцца й да нас, духаўнікоў і нашых прыходаў. Мала гэтага, калі нас адпусьцяць, а мы ня будзем мець свайго епіскапа, дык адразу паўстане праблема: кудыісьці? Бо павароту назад ужо ня будзе.

Даражэнькі Ўладыка! Справа стаіць на месцы, а час не цярпіць. Мы ўжо амаль закончылі царкву й магчыма на Сьв. Пакрава будзем асьвячаць яе. У Нью Ёрку таксама падходзіць будова да канца. Хацелася-б, каб нашы беларускія цэрквы асьвяціў наш беларускі епіскап – гэта значыць, Вы. А гэта можа стацца тады, калі Вы выйдзеце з РЗЦарквы. За нас Вы ня бойцеся. Мы сваё палажэньне аформім без ніякіх труднасьцей, калі мы будзем мець свайго епіскапа.

Што тычыцца Вашай забароны. У свой час мелі судзіць арх. Філафея, але ён, як Вы казалі мне, заявіў, што яго можа судзіць толькі епіскапат Беларускай Праваслаўнай Царквы, які тымчасова знаходзіцца ў РЗЦаркве. На падставе гэтай заявы суд не адбыўся. На падставе гэтага-ж палажэньня й Вас ня маюць права забараняць.

Далей, што тычыцца месца прабываньне. Калі абставіны вымагаюць, дык Вы тымчасова можаце жыць і ў Аўстраліі, пакуль не атрымаеце пэнсыі. Цэркву асьвяцім тады, калі прыедзеце ў Амэрыку. Праўда, нам бы хацелася, каб Вы ўжо былі ў Амэрыцы. Мы купілі друкарню, у якой можам друкаваць ня толькі часапісы й кніжкі. Мы цяпер маем Рэлігійны Адпачынковы Цэнтр у Каскільскіх гарах. Трэба наладзіць летам службы, а няма каму служыць. Відаць прыйдзецца з а. С. Каўшом абслужываць, пакідаючы свае прыходы. А гэтага не хацелася-б рабіць. Рэлігійны Цэнтр належа да нашай царквы й а. С. Каўша. Друкарня належа да Беларускага Дапамаговага Камітэту й знаходзіцца ў Саўт Рывэры. Купіў у асноўным я, як старшыня ўспомненага камітэту. Заплацілі $ 3.000. Дзьве тысячы выплацілі, тысячу маем доўгу.

Крывічы падаюць у сваім часапісе, што Канстантынопальскі экзарх у Аўстраліі, прымае сьвяшчэннікаў грэкаў, якіх рукапалажыў Сяргей Ахоценка, у сушчым сане, т. е. не перарукапалагае. Спадзяюся, што гэта няпраўда. Можа ў Вас ёсьць магчымасьць выясьніць там на месцы праўду. Апрача гэтага можа ёсьць магчымасьць дастаць копію пратакола № 787 Яго Сьвяцейшаства Ўсяленскага патрыярха Афінагора. Пратакол № 1 тычыцца акцыі С. Ахоценкі сярод грэкаў у Аўстраліі. Я копію пратакола маю, але яна нікім не сьцьверджана. Мне хацелася-б мець фатаграфічную копію з арыгінала, альбо пасьведчаную экзархам Аўстраліі. Найлепш, каб яна была ў ангельскай мове й я надрукаваў яе ў „Царкоўным Сьветачы". У сувязі з тым, што некаторыя будуць мець пэўныя засьцярогі, дык хацелася-б мець гэты дакумант сьцьверджаны адпаведнымі подпісамі.

Заканчываючы гэты ліст яшчэ раз паўтараюся, чым хутчэй Вы прыйдзеце да нас, дык будзе лепей як для Вас, так і для нас. Прашу Вашых малітваў і жадаю ўсяго найлепшага. Спадзяюся, што ў Вас не пагоршыліся суадносіны з экзархам і Вы лёгка й хутка палагодзіце маю просьбу.

З любоўю ў Хрысьце
[а. М. Лапіцкі]

## № 15

[Копія]

[Саўт Рывэр], 17 чэрвеня 1971 г.

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

Пара дзён таму назад атрымаў Ваш ліст, а сягоньня а. Георгій Вакапулас, канцлер Канстантынопальскага Патрыярхату ў Амэрыцы тэлефанічна мяне павядоміў, што Канстантынопальскі патрыярх даў благаславеньне для беларусаў займець свайго беларускага епіскапа ў вольным сьвеце.

Як Вам ведама, дня 27 і 28 сакавіка 1970 г. у Саўт Рывэр адбыўся Царкоўны Зьезд, які склікаў я, як протапрэсьвіцер і Старшыня Царкоўнай Рады Беларускай Праваслаўнай Царквы ў вольным сьвеце. На гэтым Царкоўным Зьездзе быў прыняты зьмест лісту да Канстантынопальскага патрыярха, у якім прасілася „высвяціць епіскапа беларуса для кіраўніцтва беларускімі прыходамі й апекі над рэлігійным жыцьцём праваслаўных беларусаў, расьцярушаных у розных краінах вольнага сьвету сярод розных народаў". Прайшоў даўжэйшы час і, нарэшце, наша просьба палагоджана прыхільна.

Ліст да патрыярха надрукаваны ў „Царкоўным Сьветачы" за 1970 г. Сп. М.Зуй яго павінен мець. У свой час я на яго адрас выслаў пара штук.

Такім чынам, з Вашым пераходам мы ня будзем мець перашкод, каб Вы ачолілі нашы прыходы. А таму прыяжджайце, альбо прысылайце дакуманты выйшаўшы з Расейскай Зарубежнай Царквы й мы гэту справу аформім.

Дня 4 ліпеня ў нас адбудзецца адчыненьне Рэлігійнага Адпачынковага Цэнтру й адначасна сьвята вэтэранаў. Зьбярэцца шмат народу. Калі-б Вы прыбылі на гэты дзень і аб'явілі аб Вашай дэцызыі, дык гэта напраўды быў-бы сукцэс. На разе я трымаю ў тайне Ваш апошні ліст, а таксама згоду патрыярха, спадзяюся, што Вы прыміце канкрэтную пастанову й я як Вашу, так і патрыярха падам да ведама 4 ліпеня.

Даражэнькі Ўладыка! Не адкладывайце справы й як найхутчэй дайце адказ, альбо прыяжджайце самі. Справа на мазі!

З любоўю ў Хрысьце
[а. М. Лапіцкі]

## № 16

[Копія]

[Саўт Рывэр], 17 ліпеня 1971 г.

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

Прачытаўшы Ваш ліст да Івана Іванавіча, сеў за машынку й пішу гэты ліст, пакінуўшы работу каля хаты.

1. Грэкі намі апякуюцца ў сілу неабходнасьці, дзеля таго што мы ня маем свайго епіскапату. Яны пры наяўнасьці протапрэсьвіцера ня ўмешываюцца ў нашы ўнутраныя справы, а пры наяўнасьці епіскапа тым больш яны ня будуць умешывацца. Крывіцкі адлам у Нью Ёрку, дзе цяпер служыць а. С. Коўш, беспасярэдне афармляе свой прыход у Экзархаце, але Экзархат усю справу скіраваў да мяне. Яны цяпер выконваюць толькі функцыі епіскапа й то толькі на нашу просьбу. Калі-ж мы будзем мець свайго епіскапа, дык ён зусім ад іх незалежны будзе у сваёй дзейнасьці. Так прадстаўляецца наша царкоўная справа, калі расходзіцца аб жыцьці, фармальна-ж мы ад іх залежым, але гэтага мы не адчуваем. Калі прыйдзіце Вы, дык справу паставіце

так, як Вы захочаце. Тым больш, калі расходзіцца аб самастойнасьць Царквы, дык Вас усе беларусы падтрымаюць і Царква будзе самастойнай. Цяпер мы ня можам гэта зрабіць, бо ня маем епіскапа. Апрача гэтага у Вас ёсьць козыр ў руках: Вы – епіскап Беларускай Праваслаўнай Царквы, для якой былі й хіратанізаваны.

2. Што тычыцца сьвяшчэньніка, дык тады толькі ня маюць да яго прэтэнсыі пры пераходзе ў іншую юрысдыкцыю, калі ён мае адпускную грамату. Ігумен Ю. Троцкі быў прыняты у свой час да Канстантынопальскага Экзархату, але ня меў граматы адпускной і калі Сынод РЗЦарквы зложыў пратэст, дык арх. Міхаіл звольніў яго й ён пайшоў да мітр. Леонція, які прыняў яго без адпускной граматы. Архім. Язэп прадставіў грамату ад арх. Мацьвея. Так прадстаўляецца справа, што тычыцца сьвятарства. Што тычыцца Вас, дык Вы самі знаеце, што трэба зрабіць і мець на руках пры выхадзе з РЗЦарквы, каб пазьней ня меў да Вас прэтэнзіі Сынод РЗЦарквы. Наагул, справа суадносін епіскапаў РЗЦарквы й епіскапаў т. зв. аўтаномнай Беларускай мітраполіі ведама толькі Вам, а таму паступайце так, як уважаеце. Для нас, беларусаў, важна каб Вы вышлі з РЗЦарквы, а аб гэтым будзе сьведчыць Ваша пісьмовае заяўленьне, зложанае Сыноду РЗЦаркве. Што тычыцца Канстантынопльскай Патрыярхіі, дык яна хоча мець дадзеныя аб Вас, што Вы кананічны епіскап і не забаронены.

3. Памёр украінскі мітр. Іван Тэадаровіч і цяпер адбываюцца гутаркі арх. Якава з арх. Мсьціславам. Магчыма знойдуць выхад з палажэньня. Як відаць, ёсьць зацікаўленьне як з аднаго боку, так і з другога. Гэта таксама дае надзею што й мы будзем мець посьпех, калі будзем рабіць захады аб поўнай незалежнасьці на чале з сваім епіскапам.

Зразумейце, Уладыка, што без епіскапа мы гэтага зрабіць не можам, а разам з Вамі мы зробім так, як Вы хочаце, бо Ваша ўстаноўка адказвае й нам, калі ня будзе перарвана сувязь з Канстантынопальскай Патрыярхіяй.

Дарагі Ўладыка! Яшчэ раз паўтараюся, ня бойцеся й як найхутчэй ачольвайце нашу Царкву. Усё будзе добра. У Трэнтане просяць адчыніць прыход, але няма каго паслаць. Рвецца архім. Язэп, але няма кім яго замяніць ў Таронта.

Ваш паслушнік
[а. М. Лапіцкі]

## № 17

[Копія] [Саўт Рывэр], 28 верасня 1971 г.

Высокапрэасьвяшчэньнейшы Ўладыка!

Атрымаўшы Ваш апошні ліст наведаў грэкаў. Яшчэ раз парушыў справу Вашага пераходу й ачольваньня нашай Беларускай Царквы ў вольным сьвеце. Справа стаіць добра. Грэкам залежыць, каб Вы былі кананічным і незабароненым ў сьвяшчэннаслужэньні. Калі-б я меў ня толькі Вашу грамату, але й Ваша заяўленьне аб Вашым выхадзе з Рускай Зарубежнай Царквы ды жыцьцяпіс з копіяй дыплёма, дык магчыма, я-б ужо Вас і аформіў-бы. Праўда, пад варункам, што Вы прыедзеце самі й даконьчыце. Так прадстаўлялася справа, зь якой я цешыўся, але нядоўга. Наведаў Сынод РЗЦ і там пачуў, што Вам запрапанавалі Аргентыну й Вы далі (тэлеграма) сваю згоду. Чутка гэта мяне агарошыла, а нават прыбіла. Столькі меў клопатаў і ўсё выходзіць ляпнула. Адным словам, скампрамітаваўся як перад беларускімі прыходамі, якія мне паверылі й выслалі просьбы да Вас, а таксама й перад Экзархатам. Але гэта мяне не заламала і, памаліўшыся перад іконай Божае Мацеры там-жа ў царкве Сыноду з надзеяй, што гэта зроблена з Вашага боку з пэўнай мэтай, каб замкнуць [вусны] зусім Вашым ворагам, пішу ліст і прашу яшчэ раз ачоліць нашу Беларускую Праваслаўную Царкву на эміграцыі. Яшчэ раз паўтараю – шкадаваць ня будзеце. Вы будзеце мець спакой, пашану і ўсё неабходнае як для малітвы, так і для жыцьця. У Аргентыне будуць тыя самыя склокі, дразгі й непрыемнасьці, калі Вы туды паедзеце. Вы маеце бальшыню, але й меньшыня можа псаваць нэрвы.

Верыў і сягоньня веру Вам як епіскапу, як чалавеку й як беларусу, і спадзяюся, што Вы датрымаеце словы Вашага апошняга ліста й ачоліце нашу Царкву Беларускую, для якой Вас па Промыслу Божаму хіратанізавалі ў сан епіскапа.

Толькі што атрымаў ліст і просьбу да арх. Якава, каб ён прыняў пад яго апеку прыход у Сіднэі (Аўстралія). Паеду ў Нью Ёрк і буду старацца аформіць. Просьба падпісана: А. Нордман, В. Клуніцкі й А. Грыкке. У нас таксама адчыняецца новы прыход у Трэнтане.

З любоўю ў Хрысьце
Ваш паслушнік
[а. М. Лапіцкі]

## № 18

[Копія]

[Саўт Рывэр], 7 кастрычніка 1971 г.

Дарагі Ўладыка!

Пры сучаснай сытуацыі трэба быць, зразумела, Вам вельмі астарожным. А таму прысылайце тое толькі, што можаце прысланць з дакумантаў для афармленьня. Не забудзьце напісаць жыцьцярыс і прылучыць яго да дакумантаў. На пачатку тыдня, альбо ў канцы будзем з Іванам Іванавічам ў грэкаў і выясьнім усе пытаньні, парушаныя Вамі ў апошнім лісьце.

Зрабілі-б гэта ўжо, але хворы канцлер а. Г. Вакапулас, які ў курсе нашых спраў, і таму прыходзіцца чакаць на яго. Атрымаўшы Ваш ліст званілі да яго, [там] адказалі, што ён будзе на наступным тыдні й тады можна будзе зь ім парушыць гэтыя справы, якія я маю на парадку дня.

Нашы беларусы, калі прысылаюць мне якія-небудзь царкоўныя справы, дык вымагаюць ад мяне, каб я, як кажуць палякі, палагодзіў іх „пярунам". Калі-б гэта залежала ад мяне, дык, магчыма, я так і рабіў-бы, але, на вялікі жаль, усё залежа ад арх. Якава, а не ад мяне.

Беларусы з Аўстраліі прыслалі просьбу, каб ён узяў іх пад сваю апеку. Там ёсьць у Аўстраліі экзарх Канст. [антынопальскай] Патрыярхіі й наш ня хоча ўмешвацца ў іншыя Экзархаты. Другая рэч, калі мы будзем мець свайго епіскапа. Тады ўсе прыходы беларускія ў вольным сьвеце будуць падлягаць яму.

Калі трэба было аформіць прыход у Англіі й рукапалажыць а. А. Мірановіча, зьвярнуліся да сьв. п. арх. Міхаіла, дык ён таксама адмовіўся й [скіраваў] уплыў на экзарха ў Англіі, каб ён усё гэта аформіў.

У сувязі з тым, што сытуацыя трохі зьмянілася ў нашу карысьць, дык цяпер можа будзе інакай. Адно толькі, яны прыслалі просьбу не салідна аформіўшы. Падпісалі тры асобы – няведама хто й ад каго. Не далі ніякіх інфармацый. Усё гэта выглядае не салідна.

Дарагі Ўладыка! Яшчэ раз прашу прыслаць мне пратакол № 787 Канстантынопальскай Патрыярхіі з дня 18 верасьня 1962 году. Ён адносіцца да акцыі С. Ахоценкі ў Аўстраліі сярод грэкаў. Тут я не магу яго дастаць. У Экзархаце Аўстраліі ён напэўна ёсьць. Дастаньце копію ў грэцкай ці ангельскай мове, а мы пераложым. Гэты пратакол мне вельмі й вельмі патрэбен. За надасланы матар'ял папярэдне шчыра дзякую.

З любоўю ў Хрысьце
Ваш паслушнік
[а. М. Лапіцкі]

Лісты арх. Апанаса (Афанасія)

## № 1

[Арыгінал]

[Буэнас Айрэс], 1 студзеня 1960 г.

Паважаны а. Мікалай!

Пасылаю Вам і матушцы, а таксама ўсім Вашым парафіянам маё каляднае й навагодняе прывітаньне разам з найлепшымі пажаданьнямі. Дай Бог Вам здароўя й посьпеху ў асабіста-сямейным жыцьці й добрых вынікаў у царкоўна-пастырскай працы. Жадаю, каб 1960 г. быў для бел.[арускай] царкоўнай справы як найлепшым, і каб беларусы мелі свайго законнага епіскапа. Шмат пажаданьняў у гэтай справе не пішу, бо Вы ведаеце іх добра.

Заехаў (заляцеў) дадому добра й шчасьліва. 29 сьнежня быў ужо ў Буэнас Айрэсе. Тут пачаліся для мяне будні, пачалася суталака й архіерэйская чахарда. Адныя чакалі мяне, а другія цешыліся, што няма. Прыехаў і ўсе заціхлі. Зьявіўся кот і мышы пахаваліся. Сярод пісем тут знайшоў пісьмо ад Хмары, якое перасылаю да Вашага ведама. А ён камусь казаў у Таронта, што да яго Тамашчык пісаў. Значыць была хлусьня. Але паглядзіце Вы, у які спосаб і якім „штілем" піша гэты дабрадзей Хмара, прапануючы падпісаць яго пасланьне?!

Я думаю, што ён больш граматны, але зь яго пісаньня гэтага ня відаць, а сьведчыць аб малаграматнасьці. Наагул, уся яго прапанова падпісацца вельмі „некультурная", каб не сказаць больш. Зробіце Вы самі вывад із усяго гэтага. Як будзеце выдаваць царкоўны часапіс, то можаце скарыстаць яго пісьмо для артыкулу.

Перасылаю Вам пры гэтым пісьме артыкул з аўстралійскага беларускага часапісу аб нейкім Мадэсьце Яцкевічу. Ён быў тут у Буэнас Айрэсе, але займаўся ні то шыцьцем ботаў, ні то спэкуляцыяй. Добра я яшчэ ня ведаю. Хлёстка адчыталі яго ў гэтым артыкуле.

Вам абавязкова трэба выдаваць свой цар.[коўны] часапіс, каб правільна насьвятляць белар.[ускія] царкоўныя справы.

Ці паслалі Вы маю фотакартачку Сладкоўскім у Таронта?

Бывайце здаровы.
З любоўю
Арх. Афанасій

## № 2

[Арыгінал]

Буэнас Айрэс, 13 чэрвеня 1961 г.

Высокапаважаны а. Мікалай!

Ня мог я пісаць Вам, бо ня меў Вашае адрэсы. Але вось пасьля доўгіх шуканьняў сярод папераў знайшоў Ваш адрас. Гэта дало мне магчымасьць цяпер [на]пісаць Вам.

На імя сп. Высоцкага я выслаў свае заўвагі адносна Статута Бел.[арускай] Прав.[аслаўнай] Ц.[арквы] на чужыне. Я спадзяюся, што Вы ўжо пазнаёміліся зь іх зьместам. Калі аднак сп. Высоцкі яшчэ іх ня даў, дык вазьміце ў яго і ўважна прачытайце. Вы больш зразумееце мяне й мой пагляд як міране, багаслоўска й кананічна неадукаваныя. Тое, што я там выказаў, гэта толькі штрыхі, якія трэба распрацаваць. Свае папраўкі да статуту я чытаў Шостаку, нашаму багаслову й юрысту. Ён адобрыў. Мне вельмі цікава ведаць, як Вы адносіцеся да маіх паправак і якая Ваша думка адносна іх. Буду вельмі рады атрымаць ад Вас пісьмо ў гэтай справе.

Чым скончылася справа з Фінькоўскім у Чыкага? Я ведаю, што Вы туды езьдзілі. Гісторыя зь Фінькоўскім у Чыкага вельмі характэрыстычная й паказацельная. Як аднесьліся ў Чыкага беларусы да Фінькоўскага, могуць аднесьціся таксама й да асобы епіскапа лепшай маральнай вартасьці. Яго ня трэба было сьвяціць у епіскапы. Беларусам у Чыкага ня трэба было прымаць яго [ад] пачатку. Авантурнік наскочыў.

Як пажываеце? Як ідуць царкоўныя справы? Што чуваць ад Філафея? Мне ён ня піша, а я яму таксама.

Бывайце здаровы. Мае найлепшыя пажаданьні Вам і матушцы Вашай.

З пашанаю
Арх. Афанасій

## № 3

[Арыгінал]

Sante de Est Urugny, 18 сьнежня 1961 г.

Высокапаважаны а. протапрэсьвіцер!

Вітаю Вас з Днём Вашага Ангела й шлю найлепшыя пажаданьні.

Сп. Высоцкі прыслаў мне Статут БПЦ на чужыне. У залучаным пісьме

(копія) да гэтага статуту пішуць, што „Статут намі апрацаваны ды ўзгодненны з арх. Афанасіем". Але-ж гэта няпраўда. З маіх заўваг і паправак да Статуту ўзята вельмі мала, а рэшта зрабілі сваё – зрабілі „адсябяціну" і вельмі кепска. З гэтым статутам згадзіцца я не магу. Аб гэтым яны ведалі й не прыслалі мне яго да ведама, а разаслалі беларусам да зацьверджаньня. Аб гэтым я даведаўся зь пісьма старшыні Ц.[аркоўнага] Камітэту ў Лёндане, які зьвярнуўся да мяне ад імя вернікаў аб узглаўленьні Царквы на чужыне.

Як заўсёды, так і ў гэтым выпадку беларускія царкоўныя дзеячы не палічыліся з голасам епіскапа, з канонамі Праваслаўнай Царквы. Яны апрацавалі свой статут, які нельга прызнаць за кананічны. Я хацеў дапамагчы беларусам арганізавацца ў царкоўным жыцьці паводле канонаў, але яны адкінулі мае жаданьні й маю помач. Няхай цяпер вінавацяць сябе, але не епіскапаў, якія, па іх думцы, зьяўляюцца здраднікамі.

Беларусы ў ЗША павінны зразумець, што каптан, пашыты імі за ўзорам Амэрыканскай мітраполіі, не налазіць на беларуса ў іншых краінах. А галоўнае тое, што мой праект Статута апіраўся на Статут Беларускай Царквы з 1942 году, які яны адкінулі ў бок. Беларускае царкоўнае жыцьцё павінна рэгулявацца парадкамі й законамі, якія былі на Беларусі, а не ў ЗША.

Я прышлю Вам пазьней свой даклад аб Статуце, апрацаваным Белар.[ускім] Ц.[аркоўным] Камітэтам. Я буду прасіць вас разасланць мой даклад да ведама ўсіх беларусаў. Я хачу скінуць зь сябе ўсялякую адказнасьць і абвінавачваньне, якія могуць быць з боку дэмагогаў. На гэтым будзе закончана мая апошняя проба наладзіць бел.[арускае] царкоўнае жыцьцё на чужыне.

Са зьместам гэтага пісьма можна пазнаёміць сп. Высоцкага, калі знойдзеце патрэбным.

Я адпачываю ўжо другі тыдзень на беразе акіяну (Атлянтыцкага) у курортнай мясцовасьці. Набіраюся сіл і здароўя. Кепска ў мяне з горлам. Баюся страціць голас.

Бывайце здаровы. Найлепшыя пажаданьні Вашай матушцы. Прыемна мне будзе атрымаць ад Вас пісьмо.

З пашанаю
Арх. Афанасій

## № 4

[Арыгінал]

Буэнас Айрэс, 8 красавіка 1963 г.

Христос Воскресе!
Дарагі а. Мікалай!

Шчыра вітаю Вас і Вашу матушку з Вялікоднымі Сьвятамі й малітоўна жадаю Вам ад Бога здароўя і ўсяго найлепшага.

Я даляцеў благапалучна дамоў. Мая паства мяне чакала й вочы павыглядала ў вокны, чакаючы мяне. Усьцешыліся, як пабачылі мяне ізноў.

Адразу па прыезьдзе пачалася звычайная для мяне работа й аб Нью Ёрку я забыўся, як бы там і ня быў. Пяць месяцаў майго побыту ў Нью Ёрку засталося як ва сьне. Я спадзяюся, што вы чуецеся добра і ўсё у Вас ідзець добра.

Бывайце здаровы.

З пашанаю
Арх. Афанасій

P. S.: Шчырае пасхальнае прывітаньне а. Каўшу й яго жонцы, а таксама й Высоцкаму.

А. А.

## № 5

[Арыгінал]

Буэнас Айрэс, 19 чэрвеня 1963 г.

Дарагі а. Мікалай!

Шчыра шлю Вам і матушцы сваё прывітаньне й добрыя пажаданьні. З пісьма Высоцкага й прысланага ім прылажэньня даведываюся, што справа Тамашчыка пайшла ў ход і Высоцкі спадзяецца, што справа яго вырашыцца хутка й такім парадкам ён узглавіць беларусаў. Высоцкі склонны яго прызнаць. Ня ведаю як Вы. Як мы бачыліся з Вамі, то Вы мне казалі, што Тамашчыку падпарадкавацца ня будзеце.

Мяне цікавіць у гэтай справе скрытае вуніяцтва Тамашчыка. Да гэтага часу мы ўсе ведалі, што ўсю тамашчыцка-крывіцкую аўтакефалію зрабілі за іх рымскія папскія грошы, а Тамашчык быў іх агентам у епіскапскім сане. Так, здаецца, пісаў і Касяк у сваёй гісторыі БПЦ. У гэткім

сэнсе пісалася і ў „Сьветачы Беларусі". Ці-ж Тамашчык зрокся сваіх апекуноў з Ватыкану? Няўжо-ж будзе так, што беларусы пяройдуць на яго бок, а ён іх усіх прыпаднясе да падножжа Папскага прастолу? Гэта была-б вялікая трагэдыя. Якія Вашы думкі ў гэтым напрамку?

Арх. Філафей здаецца ўжо сядзіць у Сынодзе. Што ён там робіць і што кажа па поваду Вашага ліста да яго? Можа ён надумаецца стаць беларускім епіскапам? Было-б добра, каб ён гэта зрабіў. Я быў-бы ў Аўстраліі зь беларусамі, а ён – у Амэрыцы. Беларуская Царква была-б адроджана.

Зварочваюся да Вас з гэтым пісьмом і па другому поваду. Недзе я згубіў свой вялікі архіерэйскі амафор. Пісаў архідыякану Гэласію ў Сынадальны Дом, але там амафору майго не знайшлі. Ці не пакінуў я яго ў Вашай царкве? Калі ласка, пашукайце яго там і прышліце мне поштаю. Расходы на пасылцы вярну. Вельмі буду ўдзячны Вам за гэта. Аднак калі няма ў Вас, то паведамце мне аб гэтым. Вельмі прашу Вас і загадзя шчыра дзякую Вам. „Сьветач Беларусі" я атрымаў. Я магу прыслаць Вам артыкул да наступнага нумару, калі вы будзеце яго зноў друкаваць. Калі згаджаецеся, то напішэце мне аб Вашай згодзе.

З найлепшым пачуцьцём да Вас
Арх. Афанасій

## № 6

[Арыгінал]

[Буэнас Айрэс], 5 жнівеня 1963 г.

Дарагі ў Госпадзе а. протапрэсьвіцер!

Атрымаў Ваш ліст і шчыра дзякую за яго. Калі я пісаў да Вас свой запрос адносна амафору, то ня быў упэўнены, што ён можа быць у Вашай царкве, бо я сам старанна звычайна пакаваў свае рэчы й таму ня верыў, што я мог пакінуць яго ў Вас. Аднак, калі гэта сталася, то я наглядаю ў гэтым здарэньні некае прадзнаменьне: можа мне яшчэ прыдзецца служыць у Вашай царкве, а то, наагул, служыць для праваслаўных сваіх землякоў. Можа Вы наўмысля пакінулі мой амафор, а тады-бы гэта мела іншае значэньне. Магчыма, што будучы 1964 год будзе рашучым у гэтай справе. Апошнім часам я пачынаю хіліцца думкай да выхаду на пакой і тады будзем нешта рабіць канкрэтнае й рашучае у царкоўнай беларускай справе. Трэба яшчэ пацярпець троха: чакалі шмат, трэба пачакаць менш.

Арх. Філафею я напісаў, як Вы мяне прасілі. Паслаў яму нават заказное пісьмо, але, здаецца, што ён пераехаў нядаўна да новага будынку пабудаванае царквы, адраса якой я не ведаю. Са старога адраса можа яму пошта перашле на новы, бо нямецкая пошта акуратная. Можа Вы ўжо маеце ад уладыкі Філафея весткі у гэтай справе?

Я шкадую, што Аргентына далёка ад Нью Ёрка й каштуе 600 дал. Я-б прыехаў у Нью Ёрк, бо маю важныя справы й пагутарылі-б з Вамі аб нашых ц.[аркоўных] справах. Як-бы прыехаў у Сынод арх. Філафей, дык ён бы нешта замест мяне абгаварыў-бы. Шкада, што ён не прыехаў і, здаецца, ужо не прыедзе.

Амафору я яшчэ ад Вас не атрымаў, але атрымаю, калі Вы выслалі яго. Шчыра дзякую. Я мушу вярнуць Вам расходы па перасылцы, але колькі? З рэштаю па паштовых марках парахую.

Бывайце здаровы.

З пашанаю й любоўю
Ваш багамолец
Арх. Афанасій

## № 7

[Арыгінал]

Буэнас Айрэс, 26 аўгуста 1963 г.

Паважаны й дарагі ў Госпадзе а. Мікалай!

Я спадзяюся, што Вы атрымалі маё пісьмо на пачатку гэтага месяца. Я пісаў тады аб амафоры сваім. Але калі Вы яго не выслалі самі, дык перадайце архідыякану Геласію у Сынодзе. Ён вышле мне.

Архіепіскапу Філафею я пісаў аб Тамашчыку. Можа ўжо Вы атрымалі ад яго пісьмо? Як-жа выглядае справа Тамашчыка? Ці там ведаюць, што высьвячаў яго еп. Вячаслаў, якога сьвяцілі нанова ў мітраполіі? Як справа з Клівлендам? Як там быў перад Калядамі, дык нешта там было не ў парадку з Крытом. Яны быццам не пускалі яго да царквы.

Як здароўе архіепіскапа Палладзія? Калі ласка, напішэце мне аб гэтым. Палладзій – стары знаёмы, ключар Варшаўскага сабору й г. д. Бедны, каратае сваё жыцьцё ў нэндзы й хворы.

Прот. В. Сагайдакоўскі гневаецца на мяне за тое, што я напісаў яму, чаго ён путаецца з Тамашчыкам. Я указаў яму, што Ананій Сагайдакоўскі ўвёў ці памог увесьці ў беларускае царкоўнае асяродзьдзе Ахоценка Сяргея у 1948 годзе ў Канстанцы, а Віталі Сагайдакоўскі хоча акананічыць бязбожніка й спадвіжніка Ахоценкі. Сам В. Сагайдакоўскі крытываў і абураўся мітрапалітам Агіенкам, які ўсё-ж такі кананічны й вялікі дзеяч, а Тамашчык?

Як у Вас стаіць справа са „Светачам"? Калі-б Вы яго рэгулярна выдавалі, то можа дзе што й я-б Вам высылаў для друку, калі-б Вы захацелі.

Бывайце здаровы. З любоўю да Вас. Шчырае прывітаньне Вашай матушцы (пападзьдзі), як па-мойму, трэба называць нашых матушак.

З любоўю
Арх. Афанасій

## № 8

[Арыгінал]

[Буэнас Айрэс], 23 лютага 1964 г.

Дарагі а. Мікалай!

Вітаю Вас і матушку Вашу й шлю найлепшыя пажаданьні.

Ці мой амафор яшчэ ў Вас? Мяне вельмі цікавіць, як захоўваецца наш еп. Філафей. Ён заўсёды можа падвясьці. Калі ласка, напішыце мне, ці бачыце Вы яго. Я-б напісаў да яго, але ён усё роўна не адкажа. Як царкоўныя беларускія справы стаяць? Ці гутарылі аб іх зь Філафеем? Час ідзе й трэба рашаць.

Прадбачыцца Сабор пасьля Вялікадня для выбара мітрапаліта Заруб.[ежнай] Царквы. Каго выбіраць? Кандыдаты ёсьць, але не для мяне. Я няпэўны, што прыеду на гэты Сабор. Калі прыеду, дык ахвотней пагутарыць і нешта зрабіць у бел.[арускіх] цар.[коўных] справах.

Хацеў-бы атрымаць ад Вас пісьмо ў справах, якія пададзены вышэй.

З пашанаю да Вас
Арх. Афанасій

## № 9

[Арыгінал]

Буэнас Айрэс, 21/8 жніveня 1969 г.

Протапрэсьвіцеру М. Лапіцкаму,
Настаяцелю Св. Еўфрасінеўскай царквы ў Саўт Рывэры.

Паважаны а. Мікалай!

Вашае пісьмо з дня 6 сакавіка й пісьмо Ів. Ів. Касяка ў адной і той-жа справе я атрымаў у сваім часе, але не адказваў ні Вам і ні Івану Іванавічу, бо, праўду кажучы, не было чаго пісаць. Мая справа з пераходам на пэнсыю й ад'ездам да Аўстраліі ў гэтым годзе ня вырашана Сынодам і вырашыцца ня можа, хаця Аўстралійскі архіепіскап Сава просіць мяне й Сынод заняць яго катэдру ўжо у гэтым годзе, г. зн. 1969. Перапіска ў гэтай справе са мною й з Архіерэйскім Сынодам пачалася з самага пачатку гэтага году. Але для мяне яшчэ не прыйшоў час. Я рашыў адысьці на пакой, але каб мець права атрымаць пэнсыю, трэба мне пачакаць да будучага 1970 году. Я й чакаю. Я заняты цяпер думкаю, каб пабудаваць сваю хату з маленькаю царквою ў Аўстраліі, бо без сваёй хаты на пэнсыі я не пражыву належна. Вось знайшоўся адзін добры чалавек у адным з гарадоў Аўстраліі, які прапануе мне пабудаваць на сваім пляцы хату з царквою за 8.000 аўст. даляраў. Маёй помачы ён ня хоча й не патрабуе, але просіць, каб я пераехаў да яго жыць. Пажывем пабачым. Бог ведае, што 1970 год мне прынясе. Вось пры такіх абставінах мне не было аб чым Вам пісаць, бо Вы пыталіся, калі я маю адыйсьці на пэнсыю й прапанавалі заняцца беларускаю цар.[коўнаю] справаю.

Але бел. [аруская] царкоўная справа ў Саўт Рывэры Вамі ўжо вырашана – Вы маеце кандыдата на епіскапа й гэта беларусаў задаволіць. Я тут не патрэбны.

Вы пісалі мне пра вялікую кананічную памылку адносна а. Іосіфа. Вы пісалі, што Вы аформілі яго ў еп. Матэвуша як яго клірыка, таму лічыце, што забарона ў сьвяшчэннаслужэньні яго мітрапалітам Сьцяпанам Варшаўскім ня мае сілы. Дзе Вы такі канон чыталі? Калі такая практыка на эміграцыі практыкуецца сярод архіерэяў і сьвяшчэньнікаў, то гэта сьведчыць аб іх кананічнай невежасьці й злой волі. Такія прыёмы антыкананічныя. Вы можаце прачытаць аб гэтым у канонах: Апост. 33; IV Вселенскій соб. 13; Апостол. 12; VI Вселен. 17; Апост. 16;

Антіох. 3, Сард. 13, а так-жа й другія. Прачытайце гэтыя правілы й тлумачэньні іх еп. Нікодыма Мілоша Далмацінскага. Тады Вам панятна будзе ўся фальшывасьць Вашай аргумэнтацыі, аб якой Вы мне пісалі ў справе а. Строка. Як-бы Вы не падыходзілі да справы з хіратоніяй а. Строка, але кананічна яна будзе няправільнай, т.е. некананічная гэта хіратонія, хоць-бы яе санкцыянаваў сваёй уладаю архіеп. Якаў у Нью Ёрку.

[Айцец] Вялікі мне пісаў, бо ён пахаваў 12 сакавіка майго брата ў Лёндане. Але а. Вялікі знаходзіцца ў юрысдыкцыі еп. Матэвуша. Палучаецца поўны разгардзяш з духавенствам беларускіх прыходаў на чужыне, аб чым я ўжо пісаў Вам і ўсім беларусам у лютым 1966 году, з чым Вы не пагадзіліся. Беларускае духавенства знаходзіцца ў паляка й палянафіла Матэвуша, а Вы – у экумэніста грэка. Свайго кананічнага беларускага епіскапату Вы й іншыя за Вамі адкінулі, а прызналі горшых па пасловіцы: хоць горшэ, але іншэ. І што-ж я магу памагчы пры такой сытуацыі й пры такой настроенасьці? Пасудзіце самі. А пакуль што я жыву ў Аргентыне й ня ведаю як доўга тут пражыву. Мне тут някепска, а нават добра матар'яльна й пастырскі. Вельмі рады быў-бы Вас прыняць у сябе як добрага госьця. Палёт сюды й назад Вам каштуе толькі 450 даляраў, нават з Злучаных Штатаў кампаніей Аэролінэа Аргентіна яшчэ таней. Што для Вас, пры Вашым капітале 400 дал.? Затое пабачыце Буэнас Айрэс і мяне адведаеце. Ів.Ів. жонка з Польшы каштавала шмат разоў больш, а тут я яму сасватаю жонку чэсную й добрую. Вось разам зь ім Вы й прылятайце да мяне ў госьці. Пабачыце, як я жыву й як скубуць мяне глупцы й бальшавіцкія агэнты за маю кніжку аб Беларусі. Вы аказалі-б мне вялікую ўслугу, як-бы памаглі яе распрадаць. Я патрабую грошы на пакупку сабе хаты ў Аўстраліі, каб там жыць на старасьці. Бывайце здаровы. Прывітаньне Вашай матушцы.

З любоўю да Вас
Арх. Афанасій

P. S.: Маю шмат нумароў „Элпіса", што друкаваўся у Варшаве. Там фігуруе й Вашая фамілія. Маю таксама пару нумароў „Вестніка студентов богословов", там таксама фігуруеце Вы. Вам цікава было-б пагля- дзець гэта на старасьці, як і мне было.

Больш месяца хварэў – запаленьне лёгкіх. Выскачыў, як кажуць, а было кепска. Цяпер чуюся добра, але рэзультаты яшчэ сказваюцца. Захварэў на ап. Пятра й Паўла, а ўстаў з пасьцелі 10 ліпеня.

А. А.

## № 10

[Арыгінал]

[Буэнас Айрэс, 3 лістапада 1970 г.]

[Дарагі й паважаны а. Мікалай!]

На днях я атрымаў два экзэмпляры газэты „Беларускі Голас", выдаванай Хмарай у Таронта. Думаю, што гэтую газэту выслаў мне а. Язэп, настаяцель царквы ў Таронце. Ніхто майго адрасу ня ведаў, а газэту выслалі на адрас сабору наўмысьля, каб яе бачылі расейцы, якія яе атрымаюць. Так і было. Але мне гэта ўсё роўна, бо газэту перадалі.

Вось у № 185, жнівень 1970 году, на другой страніцы надрукаваны вялікі артыкул за падпісам некаега а. Алімпа, можа а. Язэпа. Але й гэта няважна, хто пісаў, але важна, што пісаў. У гэтым артыкуле ёсьць такія сказы:

1. „Вось-жа, просты шлях да ўтварэньня Беларускай Праваслаўнай епархіі – гэта просьба да патрыярха Ўсяленскага Афінагора аб хіратоніі яго епіскапа а. архімандрыта Язэпа, што было-б выявам прагненьняў усіх беларускіх праваслаўных асяродкаў у вольным сьвеце й чаму далі выяў прывітаньні амэрыканскіх, аўстралійскіх і ангельскіх прыходаў з нагоды 20-лецьця Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Таронце, дзе а. архім.[андрыт] настаяцельствуе".
2. „Еп. Афанасій Мартас з Расейскай Зарубежнай Царквы зноў пры дапамозе сваіх зарубежных спрыяцеляў робіць крокі, каб такі яго беларусы прынялі на свайго епіскапа".
3. „Што-ж, калі замерваецца прыйсьці ён з адкрытым сэрцам, як блудны сын, пакаяўшыся ў сваіх грахах, – ніхто ня будзе ўпякаць яму прошлыя віны перад Беларускім Народам і Ягонай Св. Праваслаўнай Царквой".
4. „Прадмовай ягонага павароту з блуднага шляху мае быць публічнае пакаяньне з гэтага. Апублікаваньне аб атрыманьні адпускной граматы з Расейскай Зарубежнай Царквы й просьба аб прыняцьці ў юрысдыкцыю экзарха Ўсяленскага патрыярха на Амэрыку арх. Якаваса".
5. „Тады толькі беларусы могуць прыняць да сябе як другога епіскапа, а не ўзглаўляючага нашу Царкву архіепіскапа".

Маючы гэтыя „ўмовы" на ўвазе, я рашыў запытацца Вас, што ўсё гэта азначае й як мне разглядаць гэтыя ўмовы, а таксама як Вы й Ваш Царкоўны Камітэт расцэньвае гэтыя газэтныя ўмовы. Я прашу Вас вельмі паведаміць мяне, бо, прызнаюся, што я моцна абескуражаны гэтым. Я хацеў-бы ведаць, ці бачыліся Вы з арх. Якавасам і ці гутарылі у прынцыповых справах арганізацыі Бел.[рускай] Царквы й адносна мяне.

Для мяне вельмі важна гэта ведаць. Можа варта было-бы напісаць да экзарха, пісьмо ў гэтай справе да патрыярха праз арх. Якаваса, але перш трэба зь ім пагаварыць. Я шкадую, што мы з Вамі не адведалі арх. Якаваса, як быў апошнім разам у Нью Ёрку і ў Вас. Чакаю Вашага пісьма.

Я жыву прыватна й нідзе не служу. Арх. Сава не дазволіў мне служыць у саборы, а другой царкві ўзамен не даў. Так вось я ўжо два месяцы не служу, але адведваю сабор і прычашчаюся ў алтары на палажэньні хворага. Пачакаю яшчэ трохі, але, магчыма, буду шукаць сабе памочнікаў, каб пачаць службы асобна. Добра было-б купіць домік і ўрыхтаваць у ім дамовую царкву.

Пэнсыі я не атрымоўваю ні ад епархіі, ні ад дзяржавы. Жыву на ласкавым хлебе ў добрых людзей. Пакуль мяне ня гоняць, а, наадварот, просяць жыць у іх. Маральна й духова мяне ўгнятае. Бог бачыць маё душэўнае перажываньне. Кара за нейкія грахі, якіх я ня ведаю, але скарэй іспытаньне маёй цярплівасьці.

Калі ўсе вымогі з газэты сапраўды мне прад'яўляюцца, дык справа гэта прыбірае вельмі паважнае значэньне.

Чакаю ад Вас весткі ў гэтай справе.

Шлю Вам і матушцы Вашай найлепшыя пажаданьні.

З любоўю
Арх. Афанасій

## № 11

[Арыгінал]

[Сіднэй, 29 сьнежня 1970 г.]

Дарагі й паважаны а. Мікалай!

Паздраўляю Вас і матушку са сьвятамі Р. Х. і шлю найлепшыя пажаданьні. Дай Бог Вам у Новым 1971 годзе добрае здароўе, посьпехаў у працы і ўсяго найлепшага.

Я атрымаў ад Царкоўных Камітэтаў запросіны на ўзглаўленьне беларускіх прыходаў. Мне прыслалі Вы, а. Коўш, а. Мірановіч і Таронта. Я яшчэ не пасылаў пісьма нікому зь іх, але зраблю гэта ў бліжэйшым часе. Справа знаходзіцца ў тым, што ў гэтых запросінах ставіцца мне нялёгкая да выкананьня ўмова, а менавіта, увайсьці ў малітвенную лучнасьць з Канстанцінопальскім патрыярхам. Але як гэта зрабіць мне, калі з Канстантынопалю не адказваюць. Мне думаецца, трэба, каб Вы напісалі да Канстантынопалю ў гэтай справе, вытлумачыўшы й паінфармаваўшы

дакладна, што за арганізацыя наша Беларуская Царква й беларускія прыходы на чужыне. Вас грэкі ведаюць, а мяне – не, таму й не адказваюць. З Зарубежнай Царквы я выйсьці магу, заявіўшы аб гэтым на падставе пастановы Сабору епіскапаў з 1946 году, што быў у Мюнхэне. Як у Сынодзе паглядзяць на маю заяву, ня ведаю, але мне думаецца, што яны нават будуць рады гэтаму, бо ведама, што Ніканы й Ка. даўно хочуць пазбавіцца мяне. Цяпер я яшчэ гэтай заявы не пасылаў і не бачу патрэбы дзеля таго, што я атрымоўваю з епархіяльнай касы у Аўстраліі 112 дал. у месяц (на ам. даляры прыблізна 130 дол.), кватэру й царкву для службы. Як я зрабіў-бы такую заяву, то ўсё гэта мне перасталі-б плаціць, не далі-б кватэры й царквы. Аставацца мне на свае сродкі жыць рызыкоўна, бо пэнсыі я ня маю. Аўстралійскую пэнсыю я атрымаю, як пражыву 10 гадоў тут, а 10 гадоў я тут не жыў. Мне трэба яшчэ з год тут пражыць, каб атрымаць пэнсыю. Вось у якім стане цяпер я знаходжуся. Сынод можа мяне фармальна куды-небудзь назначыць на епіскапства, але я з Аўстраліі нікуды не паеду. Мог-бы згадзіцца толькі да Амэрыкі ЗШ, але туды мяне не назначаць. Адным словам, пачакаем трохі. Пачынаецца новы год, можа ён нам нешта новае прынясе.

У Сіднэі я хачу арганізаваць парафію пад сваім амафорам. Гэтая справа праясьняецца і ўмацняецца магчымасьць. Я спадзяюся, што можа мне ўдасца адабраць ад Аўстралійскай епархіі прыход з царквою й прыхаджанамі на палавіну з беларусамі. З часам можа прылучыцца да мяне й другі прыход з беларусамі, а можа ўдасца арганізаваць і трэці, не канечна беларускі, але з расейцамі, якія да мяне маюць вялікі рэспэкт і ня хочуць падпарадкавацца епархіі Расейскай Зарубежнай Царквы. Але на гэта трэба час і выдзержка.

Вы мне казалі, як я быў у Нью Ёрку ў сьнежані 1969 году, што Вам нехта казаў у Ам.[эрыканскай] мітраполіі, што ў Аўстраліі 7 сьвяшчэньнікаў гатовы перайсьці да Амэр.[ыканскай] мітраполіі, бо так казаў а. Златкоўскі, адведваўшы ў верасьні 1969 году Сіднэй. Гэтыя самыя сьвяшчэньнікі ёсьць, я іх знаю й яны мяне знаюць. Яны могуць такое сьвінства зрабіць Епар. [хіяльнаму] архіерэю ў Аўстраліі. Мне-б яны не зрабілі, бо гэта нашыя бацюшкі, але другому на маём месцы яны гатовы зрабіць. Трэба падгатавацца й падгатаваць людзей. Гэтая падгатоўка пачалася. Ужо арганізавалася моцная арганізацыя пад назовам „Ассосыэйшэн оф ортодокс крышчэн оф Аўстраліа". Запісалася да гэтай арганізацыі ў Сіднэі амаль 200 асоб. Усе гэтыя людзі гарою стаяць за мяне. Быў мітынг агульны 18 кастрычніка й на гэтым сходзе было больш за 400 асоб, якія вынесьлі рэзалюцыю ў маю карысць. У маёй абароне стаяць таксама прыхаджане сабору, із-за якога йдзе спор з Епарх. [іяльным] упраўленьнем. Чакаюць рашэньня суда. Як суд прысудзіць не на карысьць епарх.[іяльнай] улады, дык сабор і ўсе прыхаджане астаюцца падпарадкаваныя мне.

Усё гэта маючы на ўвазе, я сяджу ціха ў Сіднэі, нідзе не выступаю й чакаю. Робяць усю справу сьвецкія асобы, беларусы й расейцы. Пажывем, пабачым. Пра гэта, што я Вам пішу, нікому не кажыце, бо Сынод можа пачаць акцыю процiў мяне, можа нават забараніць у сьвяшчэннаслужэньні. Я пішу Вам сакрэтна, давярыцельна.

Канкрэтна ў беларускай справе я прапаную Вам наступнае. Як Вы закончыце пабудову царквы й прыйдзе час, што трэба яе асьвячаць, напішыце мне, запрасіце мяне, і мы дагаворымся з Вамі, а Вы з Царк.[оўным] Камітэтам ды іншымі бел.[арускімі] камітэтамі, тады я прылячу да Нью Ёрку й будзе вялікае таржэство ў нас. Натуральна, я прылячу за месяц раней да асьвяшчэньня царквы, каб да гэтага часу ўпарадкаваць мне ўсе [справы] і з Зарубежнай Царквой і з Канст.[антынопальскай] Патрыярхіяй праз арх. Якава. Але гэта не можа быць раней Вялікадня 1971 году. Чым пазьней, тым для мяне лепш. А пакуль што трымайце гэту ідэю пры сабе.

Чакаю ад Вас пісьма ў гэтай справе. Хачу ведаць Вашу думку. Добра было-б прыцягнуць да нас і арх. Філафея. Я чуў, што вясною (па-амэрыканскі) мае адбыцца Сабор Епіскапаў Зарубежнай Царквы. На гэты Сабор прыедзе й Філафей, вось тады аб усім пагаварым зь ім. На саборы я не буду, бо я на пакоі, але к гэтаму часу сам прылячу у Нью Ёрк да Вас, а затрымаюся ў Івана Іванавіча, альбо Еўца. Вось такія мае пляны. Але чалавек предполагает, а Бог располагает. Будзем горача маліцца й прасіць Госпада дапамагчы нам.

Бывайце здаровы.

З любоўю да Вас
Арх. Афанасій

P. S.: З ц.[аркоўнаю] бел.[арускаю] справаю не сьпяшайцеся. Не сьпяшайцеся таксама з пабудоваю царквы...

## № 12

[Арыгінал]

Сіднэй, 24 студзеня 1971 г.

Паважаны а. Мікалай!

Атрымаўшы Вашае пісьмо й прачытаўшы яго паважна і ўважна, я затрымаўся на наступных Вашых сказах:

1. „Прачытаўшы два разы (маё пісьмо), я прыйшоў да перакананьня, што Вы беларусаў трымаеце на ўсякі выпадак у рэзэрве".
2. „Ваша апасеньне, што мяне забароняць у сьвяшчэннаслужэньні".
3. „Давяраючы Вам, я ўплынуў на парафіі, каб яны выслалі Вам лісты з просьбай....
4. „Прайшоў час, а справа наша стаіць на точцы замерзанія".
5. „Вы, зразумела, скажаце, што ў гэтым вінаваты я".

Усе, прыведзеныя вышэй, Вашыя аргумэнты мяне зьдзівілі пасля ўсяго мною шчыра напісанага Вам у папярэдніх пісьмах. Ніякага намеру я ня маю „трымаць беларусаў на ўсякі выпадак у рэзэрве". У гэтым Вы моцна памыляецеся. Ад Сыноду нічога я не чакаю. Мая служба ў Зарубежнай Царкве скончылася, а цяпер толькі зводзяцца канцы й падводзяцца ітогі. Я на пакоі ці ў стане спакою. Я мушу устраіваць сваё жыць – згодна са сваім цяперашнім станам. Служыць у царкве я мушу, бо без службы аставацца не магу. Далі мне часова служыць у аднэй царкве, я служу ў ёй рэдка. Але паважна думаю аб тым, каб мець сваю царкву.

Вы баіцеся, што Сынод забароніць мяне ў сьвяшчэннаслужэньні. А за што? Звольніўшы мяне зь епархіі, Сынод скампрамеціраваў сябе моцна ў Аргентыне й Парагваі. Сярод маёй паствы Аргентынскай. Ня лепш стаіць апінія аб Сынодзе сярод некалькіх соцень людзей і ў Аўстраліі. Падставы для забароны мяне няма й не знойдуць. Забараніць могуць толькі [тады], як перайшоў-бы ў другую юрысдыкцыю. Таму мая тактыка такая, каб давесьці Сынод да іх канчатковага беззаконія хоць-бы ў адносінах да мяне. Што бурляць міряне, гэта праўда, але вінаваціць мяне ў гэтым можа толькі той, хто страціў совесьць і, наагул, вобраз чалавека. Некаторыя члены Сынода да такога стану ўжо дайшлі, але не ўсе. У чэрвені мае быць Сабор Епіскапаў, які нешта скажа не ў іх карысьць.

Што парафіі прыслалі мне свае заявы з прапановаю, каб я іх узглавіў, мне трэба было ведаць, да каго я іду. Нічым я не падвёў гэтыя парафіі. Але-ж гэтыя парафіі выставілі мне цяжкую ўмову: падпарадкавацца Канстантынопальскаму патрыярху. Я пісаў Вам, што гэта не ад мяне залежыць. Тамашчык зварочваўся таксама, каб яго прынялі у Канстантынопалі, але не прынялі й адказу не далі. Зварочваліся з такою прапановаю да Канстантынопаля і ўкраінскіе епіскапы, таксама ім не адказалі. Вы хочаце паставіць і мяне ў такое самае палажэньне. Аўстралійскі экзарх ніякай сувязі „малітоўнае" па-за межамі Зарубежнай Царквы не хоча мець. Як Вы не дагаворыцеся з экзархам Якавасам у гэтай справе, то я нічога зрабіць не магу, жывучы ў Аўстраліі. Вы мусіце неадкладна выясьніць гэтую справу адносна мяне з арх. Якавасам. Трэба падгатаваць грунт, а аформіць лёгка, як падгатоўлена. Я магу абʼявіць аб сваім

выхадзе толькі тады, як буду мець кананічную абарону. Сваім выхадам п не магу павесіць сябе ў паветры. Так я разумею ўсю гэтую справу.

Як Вы не захочаце мяне, дык я не магу астацца без руля й вятрыл. Справа паважная. Айца Строка прынялі і ў забароне, ды й сан архімандрыта далі. А адносна мяне Вас нешта моцна трывожыць. Забарона больш усяго беспакоіла-бы мяне.

Ніякага абвінавачваньня Вам я не кідаю, як Вы пішаце аб гэтым у 5 пункце. Вы хочаце, каб я ўсё рабіў, а я ўскладаю на Вас гэтую работу. Натуральна, што як у Сынодзе даведаюцца, што я маю намер перайсьці ў чужую юрысдыкцыю, дык могуць мяне забараніць. Таму я й пісаў Вам захаваць нашу справу ў тайне, а як яна стане яўнай, то мы самі будзем вінаватыя ў гэтым.

Заўтра я еду ў Мельбурн – 700 міль. Там прабуду нядзелі дзьве-тры. Магчыма буду бачыцца з а. Мадэстам. Еду туды да сваіх старых прыяцеляў, якія просяць мяне ў госьці да сябе. Амаль усе беларусы.

Бывайце здаровы! Маліцеся аба мне, бо я ў цяжкім палажэньні.

Ваш багамолец
Арх. Афанасій

## № 13

[Арыгінал]

[Сіднэй, 10 чэрвеня 1971 г.]

Паважаныя а. Мікалай і Іван Іванавіч!

Выбачайце, што трохі затрымаўся з адказам на Вашыя пісьмы, якія атрымаў амаль адначасна: адно праз пошту, а другое праз М. Зуя. Шчыра дзякую за дакладную інфармацыю аб беларускім жыцьці ў Злучаных Штатах Амэрыкі. Мяне гэтае жыцьцё моцна цікавіць, бо-ж я – „плоть от плоті, кость от кості" беларус. Службовая кар'ера ці службовыя абавязкі не павінны нас разыходзіць. Калі я служыў у Рускай Зарубежнай Царкве, дык ад гэтага я не перастаў быць тым, чым быў ад нараджэньня. Але гэта справа іншая, і гэтае палажэньне ў Расейскай Царкве для мяне не пераменіцца. Мяне звольнілі на пакой, значыць Сыноду трэба было гэта й да гэтага ён прыгатаваўся даўно, шмат гадоў. Ёсьць беларуская прыказка: „Служы пану верне, а ён табе п....". Зрабілі са мною па прыказцы. Але ёсьць і другая прыказка: „Нет худа без дабра". Мне зрабілі крыўду, але паднялі мой аўтарытэт і нагадзілі самі сабе, бо

супроць Сыноду паўсталі сотні, якія іх баранілі, альбо былі абыякавыя. Мне папулярнасьць не патрэбна. Я хачу й шукаю пакою, бо гады йдуць такія, што мне трэба пакой.

У папярэдніх сваіх пісьмах я прапанаваў выясьніць нашыя ўзаемаадносіны з Усяленскай Патрыярхіяй пры маім узглаўленьні беларускіх прыходаў (натуральна не ў складзе Зарубежнай Царквы, із якой я афіцыяльна выйду пры першай нагодзе), а таксама ці згодзіцца экзарх Якавас на тое, каб я ўзначаліў гэтыя прыходы. Пры гэтым зьявілася-б патрэба даць аба мне інфармацыю, хто я й які я епіскап: кананічны ці самасьвят. Экзарх, атрымаўшы ад Вас інфармацыю й паведамленьне аб маей згодзе, павінен быў-бы выдаць некую паперку ў форме адказу на Вашу інфармацыю. Адказ экзарха для мяне меў-бы вельмі важнае значэньне. Вось у якім аспэкце я разглядаў і разглядаю гэтую справу.

Аднак, як відаць з ходу справы, для Вас заіснавалі пэўныя цяжкасьці гэтае важнае пытаньне выясьніць, хаця пакуль у парадку прынцыповай згоды ці адмовы. У такім выпадку я прапаную Вам другую форму гэтай справы для рэалізацыі. Не выясьняючы справы ў экзарха, я прыляцеў-бы ці параходам прыплыў-бы да Нью Ёрку. На месцы з Вамі й з прадстаўнікамі бел.[арускіх] прыходаў усе справы мы-бы абгутарылі, а тады зьвярнуліся-б сумесна й з канкрэтнай пастановай да экзарха, чакаючы ад яго адказу. Магчыма, што для гэтай справы можа патрэбна было-б мне адведаць усе беларускія прыходы, абгутарыць з кожным зь іх радай і настаяцелямі. Не абавязкова служыць у царкве, аднак нехта павінен быў-бы мяне вазіць на сваім аўтамабілі. Пасьля гэтага сабралі-б Царкоўны Сабор усіх прыходаў і на гэтым Саборы ўсё-б абгутарылі й пастанавілі. Вось такую прапанову я Вам пішу, а Вы абмяркуйце яе паважна й напішыце мне.

На пачатку верасьня гэтага году, як Вам ведама, зьбярэцца Сабор Епіскапаў Зарубежнай Царквы ў Канадзе. На гэтым Саборы я не буду, як заштатны архіерэй, але аба мне гутарка й пастанова некая будзе. Магчыма яны мяне будуць за што-небудзь судзіць, каб скампраметаваць мяне у вачох многіх тысячаў маіх абаронцаў у Аўстраліі, Аргентыне, Парагваі і ў Паўночнай Амэрыцы, але судзіць мяне няма за што, але скарэй усяго запрапануюць мне некую епархію, напр., у Марокка, дзе амаль што нікога з рускіх няма, альбо у Лёндане ў Англіі, дзе таксама асталіся толькі рожкі ды ножкі, альбо прыдумаюць нешта іншае. Ніякага назначэньня я не прыму й астаюся на пакоі. Мяне моцна трывожыць справа ў Аргентыне, дзе Леонцій распраўляецца з маёю быўшаю паствою аж сам моцна й паважна захварэў: дііабэт, сэрца й пячонка. Лечыцца. Там стварылася моцная група, шмат соцень людзей, якія назвалі сваю групу „Общество почитателей Архиепископа Афанасія".

Я жыву, як і жыў, прыватна. Пэнсыі ад дзяржавы не атрымліваю й не хлапатаў. Гэта я заўсёды магу зрабіць. У сродках я не нуждаюся. Хлеб і вугал маю. Служыць дазволілі мне ў парафіяльнай царкве, прыхаджане якой у большасьці беларусы й ня хочуць падпарадкавацца мясцовай епархіяльнай уладзе. І гэта справа цягнецца ўжо шмат гадоў. Епархіяльная ўлада гэта ведае й баіцца гэтага прыходу, лічыцца зь ім, ідзе на ўсялякія ўступкі. Як захацеў новы епархіальны архіерэй паслужыць у іх царкве, дык прыходзкі савет пастанавіў: згодзяцца, толькі каб ён служыў разам са мною, а без мяне яны не згаджаюцца. Думаю, што на гэтым і скончыцца справа, бо епархіяльны не захоча прыняць іх умовы. Але гэтая справа не так важная для нас.

Шчыра вітаю з набыцьцём друкарні й беларускага рэсорту ў лесе. Трэба выдаваць сваю газэту. У бліжэйшыя дні буду бачыцца з аўстралійскім экзархам Канст.[антынопальскага] патрыярха й спытаюся яго становішча ў справе да беларускіх самасьвятаў, аб якіх Вы мяне пыталіся. Я не дапускаю думкі, каб ён прымаў гэтых самасьвятаў без новага рукапалажэньня. Гэтыя самасьвяты для падняцьця свайго прэсціжу напісалі так. Я папрашу экзарха даць мне пісьмовае паведамленьне адносна бел. [арускіх] самасьвятаў, якое прышлю Вам.

Усяго найлепшага
Арх. Афанасій

**№ 14**

[Арыгінал]

Сіднэй, 24 чэрвеня 1971 г.

Паважаны а. протапрэсьвіцер!

Учора атрымаў Ваш ліст і сьпяшаюся адказаць на яго. Шчыра дзякую за запросіны. Ляцець да Вас у Саўт Рывэр, каб пасьпець на беларускі зьезд у Беларускім Цэнт.[ры], для мяне гэта за кароткі час, каб прыляцець. Да Амэрыкі мне трэба ляцець на даўжэйшы час, можа на некалькі месяцаў, таму трэба адпаведна й прыгатавацца. Мой пашпарт ужо даўно скончыўся й трэба прасіць выдаць мне новы, загранічны. Для гэтага трэба троха часу. Як мы з Вамі ўмовіліся перад маім адлётам з Нью Ёрку ў серпні прошлага году, што я да Вас прыбуду на асьвяшчэньне новай царквы, як будзе закончана пабудова. Я не ведаю, у якім стане цяпер ідзе пабудова.

Як я пісаў Вам, здаецца, што на Сабор Епіскапаў я не паеду ў Канаду ў верасьні гэтага году. Мне няма там што рабіць. Мне сталі праціўныя архіерэйскія ліцэмеры, каб глядзець ды й зь імі фальшыва цалавацца ці здаровацца. Па-другое, на свой кошт не магу рабіць далёкай падарожы. Жалаваньня не атрымліваю, каб на яго купляць сабе білеты. Сынод мне грошы ня вышле на дарогу, таму так і будзе. Аднак на Саборы будуць абсуждаць справы Аўстралійскай епархіі і ў тым чысьле й маю справу. Хваліць там мяне не будуць, але нешта пастановяць. Каб пазбавіцца мяне, то могуць прыдумаць віну альбо абвінаваціць мяне за тое, што у Аргентыне 85% маёй быўшай паствы гарою стаіць за мяне й бароніць мяне за несправядлівае атнашэньне да мяне Сыноду. У Буэнас Айрэсе бурляць і хочуць выйсьці із Зарубежнай Царквы. Не мая ў гэтым віна, але Леонція, які паставіў супроць сябе Аргентынскую паству за вынятკам яго падліз. Неспакойна ў Аўстраліі. І тут сотні людзей выступаюць супроць Сыноду ў маю абарону. Таму я хачу паглядзець, чым усе гэта скончыцца. Могуць учыніць нада мною Шэмякін суд. Аднак я пагляджу, які настрой будзе сярод некаторых епіскапаў бліжэй к Сабору. Якбы я выйшаў з іх складу да Сабору, дык моцна падвёў-бы й паставіў бы супроць сябе тых, якія выступаюць у абароне мяне супроць Сыноду. Я не магу іх здрадзіць. Ад Сабору Епіскапаў я не прыму ніякага новага назначэньня й астаюся ў стане спачынку. <u>У гэтым стане мне лепей і выгадней будзе зь імі развітацца</u>. А што Вы мне парадзіце? Я пішу да Вас шчыра й адчынена, нічога не ўтаіваючы. Аднак мая дэцызыя астаецца ў моцы адносна служэньня беларусам на чужыне. Я хачу быць да канца жыцьця са сваімі людзьмі. Прыватна счытайце мяне сваім, а афіцыяльна прыйдзе хутка час. З майго боку перашкоды няма для гэтага, аднак і не навязваюся сваёю пэрсонаю.

Вы паведамляеце мяне ў справе, што патрыярх дазволіў беларусам высьвяціць свайго епіскапа. Гэта адзін шаг уперад. Але паводле маёй думкі трэба Вам абавязкава выясьніць адносна мяне, а іменна: ці Канстанцінопальскі Патрыярхат згодзіцца на тое, каб я ўзначаліў беларускую Царкву на чужыне. Вам трэба было-бы мяне парэкамендаваць перш у пісьме да патрыярха, бо-ж ён не ведае, хто я такі. <u>Але да атрыманьня яго згоды адносна мяне, не можна гэта публікаваць ці адчынена гаварыць, каб не падвесьці мяне</u>, бо можа патрыярх не згодзіцца на маю кандыдатуру. Злыя людзі, даведаўшыся адносна мяне, могуць нешта напісаць кепскае да патрыярха. Так я думаю. Можа нічога кепскага ня будзе, але апасеньне ў мяне ёсьць. „Беражонага й Бог беражэ", – кажа пасловіца. Таму я прапаную Вам распачаць хлопаты перад патрыярхам адносна маёй кандыдатуры. Можа-б Вы даведаліся хутка й паведамілі мяне. Але на маю думку трэба мець з Патрыярхіі пісьмовую згоду, бо з дакумантам сьмялей бывае. Можаце пачакаць майго прыезду для гэтага.

За пару месяцаў да майго прыезду ў Нью Ёрк трэба запісаць мяне у Блю Крос ці ў другую мэдычную ўстанову, каб я мог у Амэрыцы лячыцца бясплатна ці па таннай цане. Бо я хварэю на расшырэньне вен на нагах і можа патрэбна будзе помач лекара. Як гэта зрабіць, калі ласка, даведайцеся самі, альбо перадайце маю просьбу Івану Іванавічу аб гэтым. Заплаціць грошы ў Блю Крос я магу сам.

Пры падарожжы з Сіднэю да Нью Ёрку я хачу накіравацца да Лёндану (Англія), бо там хачу адведаць магілу свайго двалюраднага брата. Яго жонка прыслала мне грошы на дарогу ўжо даўна. Яго жонка – англічанка й паехала ў Менск, каб адведаць родзіну свайго мужа. Брат памёр на Вялікдзень у 1968 годзе. Я думаю плыць параходам, калі гэта будзе таней.

Вось і ўсё, што я мог Вам напісаць. Бывайце здаровы. Прывітаньне Вашай матушцы.

З любоўю
Ваш багамолец
Арх. Афанасій

## № 15

[Арыгінал]

Сіднэй, 7 жніўня 1971 году

Паважаны Іван Іванавіч!

Ваш ліст з дня 15 ліпеня г.г. я даўно атрымаў, але чакаў ліста ад а. Мікалая, таму затрымаўся з адказам. Сягоньня субота, і пошта прынесла мне кароценькае пісьмо ад а. Мікалая, які перадае мне тыя самыя ўмовы, што й Вы: дакуманты, адпускную грамату й не забарону. Заканчвае а. Мікалай: „Вось аб гэтым даю Вам знаць і прашу як найскарэй вырашыць гэтую справу".

Як Вы бачыце, умовы мне „не до выконаня". Хто мне, епіскапу, дасьць адпускную грамату і ў якіх канонах аб гэтым сказана? Я ня ведаю й не чуваць было, каб якога-небудзь епіскапа прымалі да другой Царквы з адпускною граматаю. Уладыку Дзімітрыя Мітраполія прымала без адпускной граматы, архім. Іосіфа Строка прыняла без адпускной граматы й нават пасьля забароны. А ад мяне, епіскапа, які звычайна сам дае адпускныя граматы, трэбуецца адпускная грамата. Ад каго? Хто яе можа даць? Сынод? А ці Сынод прызнаецца за кананічную ўстанову Ўсяленскім патрыярхам і экзархам Якавам? Вы добра ведаеце, што адпускной граматы Сынод мне не выдасьць, а калі я зьвярнуся, дык нічога мне не адкажа, бо будуць там зьдзіўлены такім маім жаданьнем. Вось і ўсё, што я магу сказаць у гэтай справе.

Са мною Вы, а. Мікалай і беларусы ўвесь час гутарылі аб узглаўленьні Беларускай Царквы самастойнай, а цяпер выглядае, што ніякай Беларускай Царквы ня будзе, а нешта „неопределенное": епархія – не епархія, вікарыяцтва – не вікарыяцтва. Гэтае пытаньне астаецца нявырашаным і ня будзе вырашаным. Жаль і вельмі жаль.

Цяпер Вы самі бачыце й пераканаліся ў маёй праваце, калі я ўвесь час ужо год прасіў а. Мікалая й Вас выясьніць маю справу ў Патрыярхіі. Адцягвалі, пакуль у апошні час умовамі грэкаў не паставілі мяне ў немагчымае палажэньне: паставілі мне ўмовы, непрадбачаныя канонамі й не магчымыя для мяне. Калі я Вам гаварыў, дык так і думаў зрабіць, што заяўлю пісьмова ў Сынод Зарубежнай Царквы аб сваім выхадзе, як і прыходзіў да гэтай Царквы дабравольна. Што-б у Сынодзе зрабілі са мною пасьля гэтага, мне была-бы няважна. Цяпер астаецца для мяне такая мая заява аб выхадзе беспрадметнай, бо няма куды й да каго ісьці. Асновываць сваю юрысдыкцыю было-бы з майго боку аванцюрным паступкам, бо са сваёю юрысдыкцыяй я астаўся-б адзін. Да маёй юрысдыкцыі беларускія парафіі не прысталі-б, а рускія тым больш не пайшлі-б. Адным словам мая справа кончана. Цяпер не абвінавачвайце мяне, што я абмануў беларусаў, а сталася наадварот – мяне падвялі сваімі невыпалнімымі вымогамі.

З вялікім смуткам і расчараваньнем пішу аб гэтым Вам. Перадайце гэта а. Мікалаю й а. Каўшу. Стаўка на мяне аказалася не па маёй віне незрэалізаваная. Як-бы што ў Вас зьявілася новае й канкрэтнае, напішыце мне хутчэй. Бывайце здаровы!

З пашанаю да Вас<br>Архіепіскап Афанасій

P. S.: а. Мікалаю Лапіцкаму я напішу пазьней, бо сягоньня я моцна падэнэрваваны й не магу больш пісаць. Ды й новага я яму й не напішу, апроч паўтарэньня таго, што й Вам.

А. А.

## № 16

[Арыгінал]

Сіднэй, 20 жніўня 1971 году

Дарагі а. Мікалай!

Я затрымаўся з адказам на Вашае кароценькае апошняе пісьмо, бо паслаў адказ Івану Іванавічу. Я вельмі шкадую, што Вы не выясьнілі ў экзарха раней адносна мяне. Я прасіў Вас аб гэтым яшчэ ў мінулым годзе, бо прадбачваў зь яго боку магчымыя перашкоды.

Вы самі разумееце, што Сынод не дасьць мне адпускной граматы, як жадаюць ад мяне ў экзарха. Ды і ў практыцы не было такога палажэньня, каб епіскапу нехта выдаваў адпускную грамату. У канонах гэта не прадбачана.

Як мы з Вамі абгаварвалі шмат разоў нашу царкоўную бел.[арускую] справу, то я меў на ўвазе выхад з Зарубежнай без усялякай „адпускной граматы", а проста меў-бы паведаміць аб выхадзе й больш нічога. Гэта не трэба было-б рабіць епіскапу на пакоі, ці епіскапу, які не на чыннай служ-бе. Я цяпер – прыватная асоба, і да мяне не могуць мець прэтэнзыі. Адно толькі мяне агранічвае, што я не маю права служыць у цэрквах чужой епархіі без згоды епархіяльнага архіерэя. Вось так цяпер у мяне у Аўстраліі. Мне дазволілі служыць у парафіяльнай царкве ў прадмесьці Сіднэя Бэнкстаўне. Вось там я й служу час ад часу. Але гэты прыход мае клопаты з Епархіяльнай управай, а магчыма выйдзе із яе складу. Да бел.[арускай] юрысдыкцыі не захацелі, хоць шмат там беларусаў. Будучае пакажа.

Вы пішаце, каб некія дакуманты прадставіць, але не сказалі якія. Я-ж мушу ведаць, што паказваць і якія дакуманты для гэтага трэба.

Я вельмі моцна засмучаны абаротам справы, якую я не прадбачыў, але баяўся. Цяпер вырашайце Вы далей, як быць. Як што прыдумаеце, неадкладна мне напішыце.

У Аргентыне памёр неспадзявана арх. Леонцій і Сабор Епіскапаў можа запрапанаваць мне Аргентынскую епархію. Што я маю рабіць? Можа Вы мне нешта парадзіце ў гэтай справе й паможаце мне рашыць так, ці іначай? Час вельмі кароткі. Могуць мяне й засудзіць на гэтым Саборы на падставе ўсялякіх лжывых даносаў і ябед. Упаваю на міласьць Божую й пакроў Царыцы Нябеснай. Сьмерць арх. Леонція здарылася не на часе для мяне. Гэта мне прынясе новыя клопаты.

У сваім часе я прасіў Вас выясьніць, якое становішча мае займаць бел.[арускі] епіскап у іерархіі Экзархата й Патрыярхаце Канстантынопаля. Гэта вельмі важна. Мы з Вамі і ўсе беларусы гаварылі аб Бел.[арускай] Прав.[аслаўнай] Царкве на чужыне. Як-жа гэтая Царква можа існаваць, калі яе епіскап будзе толькі памочнікам у экзарха на апошнім месцы? У такім палажэньні находзіцца епіскап Мацьвей у Лондане, архіеп. Георгій – у Парыжы. У апошняга ёсьць назначаны патрыярхам мітрапаліт здаецца Фоцій. Гэта факт, які я праверыў і пацьверджаны. Учора я быў з візытаю ў тутэйшага грэцкага экзарха Іезекіля. Ён мне сказаў, што еп. Мацьвей Сямашка ў Лондане зьяўляецца „асыстэнтам" у архіепіскапа Афінагора Лонданскага. Між іншым, я спраўляўся ў яго ў справе прыняцьця ім грэцкіх сьвяшчэньнікаў, рукапаложаных Ахоценкам. Ён іх нанова пасьвячаў, толькі не хоча аглашаць, каб не пашкодзіць

прыняцьцю другіх такім-жа спосабам, т. е. не хоча публічна іх уніжаць. Прыкладаю Вам яго пісьмо ў гэтай справе на грэцкай мове. Няхай хто-небудзь перавядзе Вам для ведама. Крывічы лгуць. У іх тут нічога няма. Усё – ліпа раздутая.

Бывайце здаровы. Найлепшыя пажаданні Вам і Вашай матушцы.

Ваш багамолец
Арх. Афанасій

## № 17

[Арыгінал]

Сіднэй, 13 верасьня 1971 г.

Паважаны й дарагі а. Мікалай!

Нашы два апошнія пісьма разьмінуліся, таму мы не ведалі, што кожны з нас піша. Цяпер Вы ведаеце з майго пісьма аб тым, што я сказаў у ім, а з Вашага пісьма ведаю, што Вы сказалі. Гэтае апошняе Ваша пісьмо было больш бадзёрачае й пакладаючае больш надзеі як папярэдняе, выстаўляючае такія ўмовы, што нельга было іх выпаўніць. У гэтым-жа пісьме Вы зрабілі вялікія зьмены й паясьненьні, якія адчыняюць большыя магчымасьці. У сувязі з гэтым я, не дачакаўшыся ад Вас пісьма на маё, хоць спадзяваўся з дня на дзень і прасіў мне нешта напісаць, сягоньня высылаю Вам фотакопію маёй Стаўленьнічаскай граматы ў сан епіскапа Віцебскага. Калі Вам трэба гэтая грамата для прастаўленьня архіеп. Якаву, калі ласка, зрабіце гэта, але з прылажэньнем перакладу на ангельскую мову. Ці такая грамата задаволіць? Што датычыць майго дыяканства й іераманашаства, дык я не маю такой граматы, але маю дыплём з багаслоўскага факультэту ў Варшаве аб атрыманьні навуковага тытула магістра. У дыплёме гаворыцца аба мне як аб іераманаху (кс. законнік). Гэта сьвядэцтва аб тым, што я быў у 1930 годзе іераманахам. Маё манашаства пачалося разам з ул. Філафеем. Мы – браты па пострыгу. Тады-ж і пачынаецца наша сьвяшчэнства: ён троха раней; на тыдзень – у дыяканства, а ў іераманашаства, на год пазьней, я. Вось і ўсе дадзеныя аба мне.

Цяпер засядае Сабор Епіскапаў. Нешта вырашыць у маёй справе. Што-б не рашылі, мая служба ў Зарубежнай Царкве фактычна ўжо скончана. Мяне трывожыць, што могуць назначыць мяне ізноў у Аргентыну. Адтуль панапісывалі ўйму просьб, каб мяне назначылі. За мяне вядзецца барацьба з Сынодам маёй быўшай аргентынскай паствы з самага пачатку,

як я быў пераведзены да Аўстраліі. Там мяне любяць і хочуць, але варочацца мне ізноў цяжка, хоць я й люблю сваю паству ў Аргентыне. Аднак я дапёк Сыноду сваімі рапартамі з моцнай крытыкай іх дзейнасьці Сыноду адносна мяне. Свае рапарты я разсылаў у фотакопіях на ратaтары ўсім епіскапам Зарубежнай Царквы. Першы свой рапарт (на 68 стр.) паслаў 15 ліпеня гэтага году, а наступныя чатыры (меньшыя) вось перад самым Саборам. Членам Сыноду мае рапарты будуць горкім арэхам. Я, пасылаючы гэтыя рапарты, хацеў, каб яны мяне пакінулі ў пакоі й нікуды не назначалі, а потым каб мне бесперашкодна ад іх адыйсьці, каб Сынод мяне не ўтрымліваў, пераканаўшыся, што я ім – апасны элемэнт і непатрэбны. Можа [redacted] й памыляюся, але такая мая думка. Раней ці пазьней, а разьвязка будзе ў той ці іншай форме. З Сынодам у мяне ўсё кончана. Нікога зь іх бачыць не хачу. Гутарыць зь імі не буду. Ні на якія Саборы да іх больш не паеду. З фарысэямі й ліцэмерамі няма чаго гутарыць. Перамяніць мяне нельга. Адзін раз залілі сала за скуру й хопіць.

Гэты тыдзень будзе для мяне вырашаючым. Што архіерэі са мною зробяць? Арх. Філафею я пісаў нядаўна, каб ён не прымаў Германскай епархіі, бо зь ім зробяць як са мною. Я радзіў яму ў бліжайшы час выйсьці на нямецкую пэнсыю й жыць прыватна, каб разам мы маглі заняцца беларускаю царкоўнаю справаю. Ён мне адказаў: „Глядзі, каб не зрабіць памылкі". У чым памылка, я не ведаю. Але больш ён мне на гэту тэму, як і наагул, не пісаў.

Я рахую, што справа наша царкоўная вырашыцца ў далёкай будучыні. Апрача таго тут, у Сіднэі, ёсьць адна важная й сьпешная справа. Тут існуе невялічкі прыход, які настаяцеля ўжо два гады не мае. Абслугоўвае гэты прыход архім. Вэніямін з Харбіна, расеец. Прыход складаецца 80 % з беларусаў, але маласьведамых – усходнікаў і паляшукоў. Яны шануюць мяне, і я часта служу ў іх з дазволу епарх.[іяльнага] архіерэя. Але нядаўна яны задумалі падпарадкавацца Ірынею, бо Ірынея знае добра па Токіо архім. Вэніямін, які там жыў і служыў. Я не хацеў-бы, каб яны перайшлі да Ірынея, а хачу, каб прылучыліся да беларусаў. Тутэйшы экзарх Канст.[антынопальскага] патрыярха не хоча прымаць Расейскай Царквы прыходы й духавенства. Вось я прапаную Вам неадкладна пайсьці да экзарха й папрасіць яго прыняць гэты прыход беспасярэдне пад сваю апеку. Зрабіце гэта як найхутчэй. Як будзе добры рэзультат, дык тэлеграфуйце мне. Скарэй рабіце гэта. Я буду гаварыць аб гэтым з ц.[аркоўным] старастам (велікарос) і з архім. В. Яны хочуць выйсьці з Зарубежнай Царквы й Аўстралійскай епархіі.

Бывайце здаровы.
Ваш багамолец
Арх. Афанасій

## № 18

[Арыгінал]

[Сіднэй, 29 верасьня 1970 г.]

Дарагі ў Госпадзе а. Мікалай!

Вярнуўшыся з ЗША, дзе я адведваў пасьля Нью Ёрку й Саўт Рывэру, таксама Лос Анжэлас і Сан Францыска, з пачатку верасьня я жыву ў Сіднэі, кватэрую часова ў сабарнага царкоўнага старасты й дзеля таго, што лічуся ў стане спачынку, нідзе не служу ў царкве, бо архіепіскап Сава не пазваляе мне, а Сынод умывае рукі. Такім парадкам мой духоўны стан наагул неважны. На гэтым тыдні прылятае з чудатворнай іконай Б.М. арх. Нікан да Аўстраліі, мае сваім заданьнем мірыць прыхаджан катэдральнага сабору з так наз. епархіяй, але гэта яго місія з лаўравай веткай не зробіць вялікіх посьпехаў, можа нават ніякіх, але палажэньне пагоршыць. Прыхаджане сабору просяць назначыць мяне настаяцелем гэтага сабору, вылучыўшы яго са складу Аўстралійскай епархіі. Сынод на гэта жаданьне сабаран не згаджаецца. Таму цяпер ідзе вялікая пертрактацыя за й супроць. Я зьяўляюся сьведкам, але не пасыўным, а церпячым непакой і смутак, гледзячы на ўсё гэтае. Пакуль што Сынод паставіўся да мяне нэгатыўна: нічога мне не прапануе, нічога не дае й не выступіў у абароне мяне, каб даць мне магчымасьць служыць у саборы хаця як госьць. Без Божай службы мне доўга аставацца не пад сілу.

Паведаміўшы Вас аб гэтым, цяпер я хачу запытацца: ці зроблена Вамі й Царкоўным камітэтам што-небудзь у кірунку ці напрамку рэалізацыі нашай гутаркі з Вамі ў Саўт Рывэры? Мне гэта трэба ведаць, і таму я прашу Вас паведаміць мяне як найбарзьдзей. Я спадзяюся, што Сынод мяне куды-небудзь назначыць, а тады мне горш будзе зь імі развітацца. Цяпер я архіерэй у стане спачынку, заштатам і мне можна пачынаць служыць там, дзе я хачу. Пастанова Сабору Епіскапаў у травені 1946 году ў Мюнхэне ў справе права абслугоўваньня беларусаў беларускімі епіскапамі астаецца ў моцы. Маючы гэтую пастанову, я магу паведаміць Сынод і сказаць ім, што я служу беларусам і не майце да мяне прэтэнзыі. Пакуль я не атрымаў ад Вас канкрэтнай і афіцыяльнай прапановы ўзначаліць праваслаўныя беларускія прыходы, мне нельга без гэтага за што зачапіцца, каб паведаміць Сынод.

У гэтай справе мне думаецца варта было-бы зрабіць такі парадак:

1. Абгаварыць зь беларускімі сьвяшчэньнікамі (настаяцелямі парафій) і вынесьці пастанову ды запрасіць мяне ўзначаліць як архіепіскапа БПЦ на чужыне. Добра было-б, каб такую пастанову зрабілі царкоўныя камітэты пад кіраўніцтвам настаяцеляў сваіх. Свайго роду такая

форма была-б выбарамі й для мяне больш заахвочваючай. Я тады ведаў-бы, што беларускія прыходы хочуць мяне мець сваіх архіпастырам, а не адзін протапрэсьвіцер Лапіцкі ці Ів. Ів. Касяк.

2. Неадкладна абгаварыць гэтую справу з экзархам Якавасам і атрымаць ад патрыярха з Канстантынопаля пісьмо з пацьверджаньнем, што Канстантынопальская Патрыярхія згаджаецца на ўзглаўленьне мною беларускіх прыходаў і сьвяшчэньнікаў, якія лічацца цяпер у юрысдыкцыі гэтай Патрыярхіі. Мне думаецца, што нявbooарта парываць з Канстантынопальскай Патрыярхіяй зусім, але трэба мець ад гэтай Патрыярхіі поўную кананічную аўтаномію. На чужыне царкоўную беларускую справу й царкоўнае беларускае жыцьцё трэба тварыць у гэтым часе пад пакровам Канстантынопальскага патрыярха, але зазначаю, самастойна й без усялякага „вмешательства" ў беларускія справы грэкаў, бо іначай яны сягоньня зробяць адно, а праз які кароткі час, пад націскам Масквы, зробяць іначай. Таму трэба мець аўтаномію абсалютную. Беларускага экзархата ня трэба ствараць. Мне думаецца, што слова „экзархат" можа пашкодзіць у далейшым у сувязі з залежнасьцю экзархата ад Канстантынопаля. Адным словам, усе гэтыя рэчы выясьняйце й вырашайце.

Чакаю ад Вас пісьма як найхутчэй. Спадзяюся адказу на абыдва пункты падрабязна.

Бывайце здаровы. Прывітаньне Вашай матушцы. Мне сорамна, але забыўся, як імя сьвятое Вашай матушкі.

З пашанаю й любоўю
Арх. Афанасій

## № 19

[Арыгінал]

Сіднэй, 1 кастрычніка 1971 г.

Дарагі а. Мікалай і дарагі Іван Іванавіч!

Вашыя пісьмы я атрымаў: ад а. Мікалая вось цяпер, а ад Івана Іванавіча крыху некалькі дзён раней. Па зьместу Вашага пісьма адказваю наступнае.

1. Мяне назначыў ізноў Сабор Епіскапаў Зарубежнай Царквы ў Аргентыну без маёй просьбы й без майго ведама й без маёй згоды. Няпраўду Вам сказалі, што я тэлеграфічна даў сваю згоду, бо ні запроса праз тэлеграф мяне не было, ні майго адказа. Мне толькі прыслаў

мітрапаліт сваю тэлеграму з паведамленьнем аб гэтым, і толькі. На яго тэлеграму я не адказваў. Праз пару дзён той-жа мітрапаліт прыслаў мне пісьмо ад імя епіскапаў і паставіў мне пэўныя ўмовы, якія мяне абражаюць. Я буду пісаць мітрапаліту адказ на гэтыя яго ўмовы, як атрымаю указ аб назначэньні. Пазаўчора званіў да мяне арх. Філафей, чаму я й падышоў да тэлефону. Я думаў, што ён мне нешта скажа ў справе беларускай і яго гутаркі з арх. Якавам. Але ён пачаў нагаварваць мяне скарэй ехаць да Аргентыны. У адказ на яго словы я сказаў, што мітрапаліт прыслаў ад імя Сабору ўмовы, якія мяне абражаюць і што я буду пісаць мітрапаліту аб гэтым. Потым гаварыў са мною пасьля Філафея арх. Віталій у другой справе, а таксама пытаўся, як і калі я думаю ехаць да Аргентыны. Я адказаў яму таксама, што буду пісаць мітрапаліту й выясьняць адносна ўмоваў, якія ад мяне вымагаюць. Гутарка кончылася ні на чым. Я не казаў ні Філафею, ні Віталію, што я назначэньне безагаворачна прымаю. Гэтая справа яшчэ ня вырашана й могуць быць перамены. Так што без мяне мяне іzноў жанілі, як гэта было з назначэньнем да Аўстраліі.

2. Яшчэ ў верасьні мінулага году я прасіў Вас выясьніць як найскарэй справу ў арх. Якава адносна мяне. Нічога не зрабілі, аж да нядаўна. Сабор зблiжаўся й я прыпушчаў, што мяне куды-небудзь назначаць, бо ў Аўстраліі я – асоба непажаданая для Сыноду. Таму я моцна сьпяшаўся выясьніць справу з грэкамі.
3. Я ясна пісаў Вам ужо, што Сынод мне адпускной граматы ня выдасьць і яна мне не патрэбная. Для грэкаў адпускная грамата таксама не патрэбная, бо-ж яны не прызнаюць кананічнасьць Сыноду Зарубежнай Царквы. Вы, а. Мікалай, ізноў мне пішаце, што калі-б Вы мелі маю грамату, дык Вы маглі-б палагодзіць справу. Я паўтараю, што я не буду прасіць адпускной граматы й Сынод мне не выдасьць. Вы згадзіліся ў папярэднім пісьме з гэтым і адказалі мне, што яна не патрэбная, а цяпер ізноў пра яе ўспамінаеце й яе жадаеце. Я Вам пісаў, што як я буду мець некае абяцаньне ці гарантыю, што я буду прыняты грэкамі, я напішу ў Сынод, што я ўзглаўляю беларускія прыходы паводле нашай умовы з 1946 году й пераходжу ў юрысдыкцыю грэкаў. Магчыма, што Сынод мог-бы са мною не згадзіцца й нават забараніць у сьвяшчэннаслужэньні. Што-ж тады са мною будзе? Я думаю, што будучы прынятым у юрысдыкцыю грэкаў, забарона Сыноду не мела-бы сілы для мяне й для Ўсяленскай Патрыярхіі. З Вашага пісьма аднак так не выглядае. Вы лічыцеся з забаронаю мяне ў сьвяшчэннаслужэньні Сынодам. Ніякай кампраміатацыі няма. Вышаў тупік із-за немагчымага трэбаваньня ад мяне: адпускной граматы і ўмовы не забароны. Ці-ж ад мяне залежыць

забарона? Вы можаце вытлумачыць гэтую справу ў канцэлярыі Экзархата. Я Вас не падвёў і не падводзіў. Вінаватыя вымогі ад мяне, якія я не магу выпаўніць: мець згоду Сыноду на мой уход з Зарубежнай Царквы. Я магу выходзіць толькі з заяваю сваёю і больш нічым. Так мне й прапанаваў у верасьні мінулага году Іван Іванавіч у праэкце майго пасланьня да беларусаў. Так што не мая віна, што справа зьлажылася немагчыма для мяне. Калі хочаце, я беларускім прыходам вытлумачу маё палажэньне, якім яно ёсьць.

У далейшай справе я вышлю Вам фотакопію дыплёму і ўказу Сыноду з 1946 году аб маім праве ўзначальваць беларускія прыходы.

Сьпяшаюся аддаць на пошту гэтае пісьмо, але ў справе пэўнай небясьпекі прашу датрымаць зьмест гэтага пісьма між намі, каб у Сынодзе не даведаліся й сапраўды не налажылі на мяне інтэрдыкт.

Бывайце здаровы. Я мушу быць у Нью Ёрку й з Вамі паедзем да арх. Якава выясьняць усе справы. Калі я буду ў Нью Ёрку, не ведаю, але раней, як у канцы лістапада гэтага году.

З любоўю
Ваш багамолец
Арх. Афанасій

P. S.: Не гаварыце з арх. Філафеем!
За памылкі выбачайце, бо не праверыў пісьмо.

## № 20

[Арыгінал]

Сіднэй, 15 кастрычніка 1971 г.

Паважаны а. Мікалай!

Перасылаю далучаныя пры гэтым наступныя паперы:

1. „Куррыкулюм вітэ" арх. Афанасія на ангельскай мове;
2. Дыплём магістра багасловія іераманаха Афанасія;
3. Пасьведчаньне дзеканату гуманістычнага факультэту Варшаўскага ўнівэрсытэту іераманаху Афанасію аб атрыманай ім пэдагагічнай эдукацыі;
4. Указ Арх. Сыноду епіскапу Афанасію ў справе аб'яднаньня з Зарубежнай Царквой у 1946 годзе;
5. Перавод на ангельскую мову вышэйназванага ўказу Сыноду.

Я страціў надзею на палагоджаньне гэтай справы, аднак перасылаю Вам для даручэньня ў Экзархаце арх. Якава. Я знаходжуся ў такім стане, што здаецца змушаны буду адправіцца да Аргентыны, але праз Нью Ёрк. Фармальна мне прыслалі з Сыноду указ о „возвращении" мне Аргентынскай катэдры, як я пісаў, з умовамі, якія даюць мне моцную падставу заўсёды ізноў перайсьці у стан спачынку. Як-бы не амаль ўся мая аргентынская паства не стаяла гарою за мяне й не настаівала на маім павароце, я-б не рыпаўся зь месца. Пачуваю перад аргентынскаю паствою абавязак вярнуцца да іх на некатары час. Мая беларуская справа астаецца ня вырашанай канчаткова па прычыне прадстаўленых мне ўмоваў у Экзархаце.

Вялікаю перашкодаю зьяўляюцца для мяне фінансы: няма грошай на білет у суме 1000 дал. Як Сынод іх мне не дасьць, дык я буду сядзець у Сіднэі. Аргентынская епархія гэтую суму не вышле, бо не зьбярэ. Аднак хачу быць у Нью Ёрку й таму накірую ў Нью Ёрк. Хачу плыць параходам, калі не будзе шмат даражэй.

У Адэлаідзе (Аўстралія) памёр Сяргей Ахоценка. Грэкі зрабілі яму патрыяршыя паховіны. Вы хіба ведаеце, што ён пасьвяціў сьвяшчэньнікаў для тых грэкаў у Аўстраліі, якія адкалоліся ад экзарха тутэйшага. Далучаю Вам выразкі з двух сіднэйскіх газэтаў аб яго паховінах. Учора перадавалі па радыё ББСІ аб яго паховінах. Заслужыў Ахоценка не так, як Тамашчык, сабе сьмерць. На паховіны прылятаў Мікалай, епіскапаўтакефаліст з Таронта, якога дваюрадная сястра ці брат тут, у Сіднэі, жыве, але не стаіць за яго. З двумя грэкамі служыў гэты Мікалай, якога залічылі да ўкраінцаў.

Прасімый Вамі цыркуляр патрыярха адносна Ахоценкі калі атрымаю, дык вышлю Вам. Я званіў да экзарха прыслаць мне гэты цыркуляр.

Дык бывайце здаровы. Жадаю ўсяго найлепшага.

Арх. Афанасій

## № 21

[Арыгінал]

Сіднэй, 21 кастрычніка 1971 г.

Дарагі а. Мікалай!

Далучаю да гэтага пісьма Патрыяршы ўказ з 1962 году адносна Сяргея Ахоценкі, які Вы прасілі мяне дастаць Вам. Я думаю, што Вы найдзеце грэка, які пераклумачыць з грэцкай мовы на ангельскую. Варта было-б цяпер пра Ахоценку напісаць нешта не панігірык яму, але

ахарактарызаваць як вархола й раскольніка сярод беларусаў. Грэкі дурныя зрабілі яму вялікія паховіны, але на паховінах былі грэкі-раскольнікі, украінцы аўтакефалістыя й аўстралійцы ратазеі. Нават у тэлевізары паказвалі гэтую цэрэмонію. Паховіны былі пышныя, патрыяршыя, хоць і не па заслугам. Зато душу яго забралі цёмныя дэманы, як душу евангельскага багача.

Як я Вам пісаў у папярэднім пісьме, што я, здаецца, змушаны буду адправіцца ў Буэнас Айрэс, бо там 90 % мае быўшай паствы чакае мяне ў Буэнас Айрэсе. 3-га кастрычніка ў цэрквах служылі малебны на вестку аб тым, што я назначаны назад у Аргентыну. Прыхаджане паздраўлялі адзін другога славамі „Христос Воскресе!", цалавіліся й многія плакалі ад радасьці, што я назначаны. Цяпер мяне заваліваюць пісьмамі з просьбаю скарэй прыехаць у Буэнас Айрэс, бо баяцца, што Сынод перадумае й адменіць маё назначэньне. Вось гэтыя матывы прынуждаюць мяне туды паехаць.

Як я Вам пісаў, мітрапаліт нібы ад імя Сабору Епіскапаў выставіў мне ўмовы ў форме „советов и пожеланий", якія я маю правесьці ў Аргентыне. Я запратэставаў супроць гэтых умоваў, напісаўшы да ўсіх архіерэяў, што невіданая рэч – назначаць архіерэя й ставіць яму ўмовы, ды яшчэ мне, які стварыў Аргентынскую епархію й пабудаваў катэдральны сабор у Архіерэйскім падвор'і. Я папярэдзіў мітрапаліта й епіскапаў, што ніякія ўмовы па канонам мяне не абавязваюць. Таму пачнецца ў мяне канфлікт з Сынодам. Гэта будзе падставаю мне адмовіцца ад епархіі й перайсьці ўжо самому на пакой. Мне здаецца, што ўсё гэта станецца ў працягу аднаго года, але магчыма скарэй. Усё залежыць, як будзе рэагаваць на мае ўмовы Сынод. Так што ад беларускай справы я не адмаўляюся, але не сьпяшайцеся, а паволі выясьніце маю справу.

Той прыход з царквою, што пісалі Вам выясьніць у экзарха магчымасьць прыняцьця іх у сям'ю беларускіх прыходаў юрысдыкцыі Ўсяленскага патрыярха, прыняты мітрапалітам Ірынеем Амэрыканскім пад пратэктарат з магчымасьцю прадаставіць прыходам у Аўстраліі аўтаномію, што вельмі падкупляе тутэйшых беларусаў і расейцаў, якія незадаволены з палітыкі Сыноду й мясцовай епархіяльнай улады. Гэта ўсё былі тыя, якія прасілі мяне іх узглавіць як незалежную Аўстралійскую Царкву. Шкада, што яны падпарадкаваліся Амэрыканскай мітраполіі, але ў гэтага прыходу ня было выхада: капітуляцыя альбо тое, што яны зрабілі. Настаяцеля іх прыходу, архім. Вэніяміна, епархіяльная ўлада аб'явіла „лишенным священнаго сану", але мітрапаліт Ірыней сказаў на гэта: „Гоните их вон и не обращайте внимания. Я Вас принял и все". Цяпер пачынаецца барацьба епархіяльнай улады з гэтым прыходам. Але епарх.[іяльная] улада нічога не зробіць, бо прыход складаецца 80%

зь беларусаў і быў да 1956 году ў юрысдыкцыі а. П. Златкоўскага па лініі арх. Савы й Мацьвея ў Лёндане. Вам гэтыя тры падпісалі просьбу ў парадку разведкі, бо я папярэджваў іх, што экзарх Якаў не захоча прымаць гэты прыход без згоды Аўстралійскага экзарха Іезекіля. Жаль, што арх. Якаў не напісаў у гэтай справе да Іезэкіля. Як-бы арх. Якаў у прынцыпе даў сваю згоду прыняць гэты прыход як беларускі, дык Вам прыслалі-б 200 і больш падпісаў пад прашэньнем. Шкада, што грэкі робяць перашкоды там, дзе трэба памагчы.

Бывайце здаровы.
Ваш багамолец
Арх. Афанасій

## № 22

[Арыгінал]

Сіднэй-Гомбуш, 29 кастрычніка 1971 г.

Паважаны Іван Іванавіч!

Вашае пісьмо я атрымаў і вось сьпяшаюся адказаць на яго. Вельмі важныя справы Вы мне паведамілі адносна прыняцьця ў юрысдыкцыю Ўсяленскай Патрыярхіі. Патрэбныя дакуманты я пераслаў ужо а. Мікалаю й ён іх атрымаў. Я думаю, што ў парадку прэдварыцельнага дакладнага й фармальнага выясьненьня й прынцыповай згоды Патрыярхіі трэба мае паперы пераслаць праз Экзархат да Патрыярхіі з пісьмом а. Мікалая. Калі з Канстантынопаля адкажуць, што справа стаіць добра й што яна будзе аформлена ў патрэбным для мяне сэнсе, тады я магу прадставіць фармальна сваю заяву. Я асьцерагаюся зрабіць некую памылку. Вы гутарылі ў Экзархаце, але Экзархат не дэцыдуе справы, а Сынод у Патрыярхіі. А што будзе, як маю ўсю справу дзеля нейкай прычыны адкінуць альбо запросяць Зарубежны Сынод адносна мяне? Можа стацца не толькі канфуз для мяне, але й пасыплюцца кары ад Сыноду. На пасланую дакумэнтацыю з Патрыярхіі павінны нешта адказаць экзарху: так ці іначай. Так, я думаю, будзе безапасьней і вярней.

Пасылаю для Вашага ведама ўрывак з пісьма з Лёндану адносна Крыта. Вам трэба ведаць для справы. Між іншым, а. Кендыш размаўляў з Белямуком у справе злучэньня ў выпадку, як-бы я ўзначаліў. Белямук мяне пытаўся, як я заглядаюся на гэтую справу. Я адказаў Белямуку, што справа аб'яднаньня з аўтакефалістымі залежыць ад добрай волі зацікаўленых

старон [і] пры саблюдзеньні кананічных і дагматычных правіл Праваслаўнай Царквы. Кажучы так, я даў зразумець, што іх трэба перасьвячаць нанова. Справа іншая, як практычна гэта зьдзейсьніць. Тутэйшы грэцкі экзарх грэкаў, пасьвячаных у сан сьвяшчэньнікаў Ахоценкам, нанова перасьвячае на буднішнай службе без прысутнасьці людзей, нібы тайна, каб іх не сароміць моцна, як мне ён вытлумачыў. Такая самая працэдура магчыма і ў нас у адносінах да крывіцкіх аўтакефалістых. Але ці згодзяцца яны на гэта?

А. Мікалаю я паслаў выразкі з ангельскай аўстралійскай газэты: кароткае паведамленьне аб паховінах Ахоценкі ў Адэлаідзе. Можа Вы ўжо чыталі, будучы ў а. Мікалая. Яму зрабілі грэкі-раскольнікі „патрыяршыя" паховіны. Сабралася да 500 [асобаў] публікі. Быў там і Мікалай з Таронта, крывіцкі епіскап. Адным словам была помпа.

Мой ад'езд з Сіднэю не скора будзе, бо я ня маю візы, [пра] якую хлапачу. Я ўзяў новы пашпарт і таму трэба мець на ім пэрманэнтную візу ў ЗША, а таксама ў Аргентыну, якую я ўжо страціў. Да канца гэтага году, прынамсі да палавіны сьнежаня, з Аўстраліі я не выеду. Да Аргентыны я мушу паехаць, каб задаволіць там маю былую паству, якая два гады бараніла мяне й трэбавала ад Сыноду даць мне епархію, а на вестку, што мяне пастанавалі вярнуць на аргентынскую катэдру ў Буэнас Айрэсе, у цэрквах служылі малебны й людзі ад радасьці, што мяне варочаюць у Аргентыну, віталі адзін другога словамі „Христос Воскресе" і цалаваліся. Так мне напісалі многія з Буэнас Айрэса. Але Сынод паставіў мне некаторыя ўмовы для выкананьня ў Аргентыне, якія я не буду выконваць, і паставіў мне на від маю кнігу „Беларусь", як маю віну перад рускімі за яе беларускасьць, з забаронаю яе прадаваць сярод рускіх. Вось гэтыя ўмовы ставяць мяне ў палажэньне, што я змушаны буду прасіць Сынод звольніць мяне з Аргентынскай епархіі. Мая аргентынская паства абурана ўмовамі Сыноду, а для мяне гэта лягчэй будзе пераканаць, што я змушаны „уйти на покой".

Бывайце здаровы.
З пашанаю
Арх. Афанасій

P. S.: Падзяліцеся са зьместам гэтага пісьма з а. Мікалаем.

На адвароце прыведзены словы з пісьма з Лёндана (Англіі) ад асобы, добра абазнанай зь беларускімі справамі. Можа Вам гэтая спраўка патрэбная будзе для друку й варта надрукаваць.

А. А.

Выдзержка із пісьма із Лёндана ад 15.10.1971 г.

„ ... А теперь продолжение Белорусской (автокефальной) кувырколлегии уже в Лондоне. Приехал сюда в середине сентября некий архиепископ Андрей Крыт, бывший здесь же долгое время священником (святаром) в Брадфорде. Без образования, человек совсем убогий духовно и телесно. Вид в высшей степени невзрачный. Бродил недели две по Англии и теперь, вернувшись в Америку (Клевелянд), рассказывает всякие небылицы о встречах со мной и архиепископом Афинагором и о том, что мы оба помогаем ему утвердить свою каноническую позицию в Америке. На самом деле ни у арх. Афинагора, ни у меня он не был.

Старался получить для служения греческую церковь в Кембридже, но в последнюю минуту греческий священник, увидев самого Крыта, сообразил, что „православіи сего убогого персонажа подозрительно". Телефонировал в Лондон и тут ему сказали, чтобы он немедленно прогнал Крыта со всеми его „верующими", которых собрали разные униатствующие белоруссы (человек 30 – 40). Вся эта компания ориентируется на лювенских униатов, хотя формально остается в православии.

„Епископ" Николай Мацукевич сидит в Канаде, но делать ему там нечего. Он, Крыт и Охотенко составляли трехчленный „синод" Белорусской автокефальной „царквы". Крыт – „секретарь" Синода. Все это было бы достойно одного только смеха, если бы они не смущали верующих людей, и притом простых. Ни один из этих „архиереев" ничего ни в вере, ни даже в совершении богослужений не понимает, но тем не менее приняли разные титулы обязательно с добавлением „Всея Белоруссии", или по меньшей мере – „Полночной Белоруссии", и кто то их слушает. Все счастье, что количество их последователей минимальное. Так как из состава „синода" выбыл Охотенко, Крыт и Мацукевич скоро найдут третьего себе в „синод".

Атрымана 2 лістапада 1971 г.

## № 23

[Арыгінал]

[Сіднэй], 3 лістапада 1971 г.

Дарагі а. Мікалай!

У сувязі з Вашым пісьмом да мяне ад 20. X. с. г., у каторым, між іншага, пішаце, што ня ведаеце, што рабіць з маімі дакумантамі, атрыманымі ад мяне. Я Вам прапаную й раджу перасдаць усё гэта праз экзарха патрыярху ў Канстанцінопаль з Вашым [неразб.] запросам: ці будзе

прынцыповая згода Патрыярхіі на маю кандыдатуру без усялякіх асаблівых вымаганьняў, вродзе: адпускной граматы ці забарона мяне Сынодам? Я баюся пасылаць свой рапарт, бо ня ведаю, як аднясецца да мяне Патрыярхія. Каб не палучылася так, як з Тамашчыкам у сваім часе. Апрача таго з Патрыярхіі могуць нешта напісаць ці запрасіць Сынод.

Вось гэтыя асьцярожнасьці зьяўляюцца зусім лёгічнымі й слушнымі, і да іх Вам ня трэба прыдзірацца... Я напісаў Івану Іванавічу аб гэтым ужо. Магчыма, што да Аргентыны я палячу, але не надоўга, бо Сынод паставіў мне ўмовы, якія я ня буду выконваць, а гэта значыць новая супроць мяне пастанова-ўвальненьне на пакой. Гэта мне й трэба. Пункты ўмоваў я вышлю Вам да ведама ў наступным пісьме.

Беламук ізноў напісаў да мяне ў справе аб'яднаньня з Крытом і Мікалаем. Ён на іх баку і ўсё хоча даведацца, ці я прызнаю гэтых асобаў за епіскапаў. Я яму адказаў у папярэднім пісьме, што аб'яднаньне можа наступіць на падставе дагматычных і кананічных асноваў. Ён гэта не зразумеў і хоча даведацца ад мяне, што гэта значыць. Я ня буду больш пісаць яму.

Бывайце здаровы. Прывітаньне матушцы.

З пашанаю
Ваш багамолец
Арх. Афанасій

P. S.: Сьпяшаюся пісаць, бо іду ў горад.

**№ 24**

[Арыгінал]

Сіднэй, 7 лістапада 1971 г.

Паважаныя а. Мікалай і Іван Іванавіч!

У сувязі з Вашымі пісьмамі (а. Мікалая – 20.X, а Ів. Ів. 25.X) хачу падзяліцца сваімі думкамі адносна нашай справы. Калі Вы пераслалі справу адносна мяне, то гэта вельмі важна, каб мне ведаць прынцыповае становішча патрыярха да нашай бел.[арускай] царкоўнай справы й да нашай бел.[арускай] іерархіі наагул. Трэба нам дабіцца таго, каб нас не трактавалі ў Усяленскай Патрыярхіі на тым самым узроўні, як украінскіх епіскапаў-палікарпаўцаў ці тэадаровіцаў. Як Патрыярхія згодзіцца мяне прызнаць за кананічнага епіскапа Беларускай Царквы, дык гэта вельмі важна. Прызнаўшы гэта, лягчэй вырашыць справу. Нам вельмі важна ведаць і атрымаць нейкую гарантыю на паперы, што беларускі

эпіскап Усяленскага патрыярха юрысдыкцыі будзе мець некую аўтаномію ў адміністрацыйных і наагул беларускіх справах. Было-бы вельмі цяжка, маглі-б быць камплікацыі, каб беларускі епіскап лічыўся асыстэнтам гэтага епіскапа, як вікарны епіскап у свайго правячага. Ці гэта магчыма выясьніць якім-небудзь спосабам ці ніяк нельга. Гутарыць можна, але гутаркі нічога не даюць. Важна было-б мець аўтанамічнае палажэньне у царкоўных бел.[арускіх] справах. Вы думаеце, што беларускі епіскап ці архіепіскап будзе мець права самастойна прымаць духоўных асобаў з другіх юрысдыкцыяў і пасьвячаць новых у сан духоўных асобаў. Гэты пункт вельмі важны, бо як на ўсё гэтае трэба пытацца згоды экзарха, дык надта будзе агранічываць дзейнасьць бел.[арускага] епіскапа. Мне здаецца, што ўсе гэтыя пытаньні трэба выясьніць адразу. Лепей было-б прасіць экзарха пісьмова, каб ён са свайго боку вырашыў гэтую справу ў Патрыярхіі.

Вас беспакоіць тое, што я маю паехаць у Аргентыну, куды мяне Сабор Епіскапаў прызначыў. Вас гэта справа не павінна трывожыць. Вярнуўшы мне Аргентынскую катэдру, Сабор паставіў мне наступныя ўмовы:

1. „Признать все распоряжения по епархии архиеп. Леонтия не подлежащими отмене".
2. „Чтобы с Вашей стороны было всегда проявляемо внимание к проявлениям русского патриотизма и к добрым начинаниям русских патриотических и национальных организаций".
3. „Приложите все попечение к изжитию враждебных отношений между двумя главными группами русской эмиграции в Буэнос Айресе".
4. „В прошлом были неоднократные случаи, когда посланные по существующему порядку Вам на отзывы жалобы и донесения оставались без всякого ответа с Вашей стороны. Собор указывает Вам следовать установленному порядку" (гэты пункт аснованы на нейкай ябедзе й зьяўляецца лжывым абвінавачваньнем мяне",
5. „Запрещается распространение книги „Беларусь" как антирусской и против России в прошлом.
6. „За неисполнение представленных условий уполномачивается Архіерейскій Синод уволить Архиепіскопа Афанасия на покой".

Вось такія ўмовы мне пастаўлены. За вельмі кароткі час будзе да мяне прыдзірка, бо ўжо ў Буэнас Айрэсе з даручэньня кагось із Сыноду пачалася супроць мяне кампанія пару чалавекамі. Так што тая песьня ў Зарубежнай Царкве сьпета й мне няма чаго там рабіць. Для Сыноду я апасны архіерей цяпер. Там новыя архіерэі. Мяне моцна зьдзівіў арх. Філафей, які падпісаў супроць мяне ўсе пратаколы й пастановы, і яшчэ тэлефанаваў да мяне у Сіднэй, угаварываючы мяне не адмаўляцца ад

Аргентыны. Яго купілі тытулам Берлінскім і Германскім. Ён прадаў сваё беларускае першародства – Местаблюсьціцельства мітрапаліта Менскага і Ўсей Беларусі за нейкую фіктыўную епархію Берлінскую й Германскую. Мяне гэта страшна не толькі зьдзівіла, але й моцна ўдарыла, як гром зь яснага неба. І гэта тым больш, калі мы зь ім даўней шмат гутарылі на гэтую тэму, бо я пераконваў яго, каб не прымаў ніякіх тытулаў другіх, але сьвята захоўваў свой беларускі царкоўны тытул. Я пісаў да яго у ліпені г.г., папярэджваючы яго, што цяпер мяне, а хутка й яго выкінуць на пакой. Але ён рашыў папрабаваць зрабіць сабе кар'еру ў Зарубежнай Царкве. Бог зь ім. Я напісаў яму 2 лістапада вялікае пісьмо па-беларуску й напісаў яму ўсю праўду ў гэтай справе й адносна яго. Ня думаю, што ён мне адкажа.

Варочаючыся да маёй справы з Аргентынай, я хачу сказаць, што мяне кліча туды мой абавязак перад людзьмі, а іх 85 % маёй былой паствы ў Аргентыне, якія баранілі мяне перад Сынодам, пасылаючы свае просьбы вярнуць мяне й свае пратэсты супроць несправядлівага трактаваньня мяне Сынодом. Гэтыя людзі, як даведаліся, што Сабор пастанавіў вярнуць мяне ў Аргентыну, дык служылі ў цэрквах малебны й ад радасьці віталі адзін другога па-вялікоднаму „Хрыстос Воскресе" і цалаваліся, паздраўляючы адзін другога, што мяне ўгледзяць скора. Вось, маючы гэта на ўвазе, не магу здрадзіць іх і не паехаць да іх. Іншая справа, як доўга там затрымаюся, але, як бачыце з умоваў, нядоўга.

Я ні малейшай думкі не меў і не маю, каб узглаўляць беларускія прыходы, астаючыся ў Зарубежнай Царкве. Гэтага я не хачу. Але мне трэба шукаць повада й асновы, каб з чэсьцю выйсьці з гэтай юрысдыкцыі й каб не забаранілі мяне ў сьвяшчэннаслужэньні, а то сану могуць пазбавіць. Ад цяперашняга Сыноду ўсяго можна чакаць. Двух заслужаных сьвяшчэннаслужыцеляў у Сіднэі мітраф. прот. Ф. Міхалюка й архім. Вэніяміна, за пераход у другую юрысдыкцыю на падставе выданай мною кананічнай адпускной граматы, лішылі сану. Яны служаць, але маральна цяжка перажываюць. Таму я не хацеў-бы, каб са мною так паступіў Сынод. Мне трэба альбо самому прасіцца на пакой, альбо чакаць, каб мяне звольнілі на пакой. Мы прапусьцілі добры мамэнт, як я быў на пакоі. Тады мне было лягчэй выйсьці з зарубежнай юрысдыкцыі.

Здаецца я напісаў Вам усе свае думкі. Маючы й прашу Вас прыняць пад увагу гэта, каб не падвесьці мяне пад абух, таму не публікуйце й не разглашайце адносна мяне й нашай ідэі ўзглаўленьня бел.[арускіх] прыходах. Не ведаю, але тут бел.[арусаў] ведаюць. Бо як у Сынодзе даведаюцца, могуць мяне запраціць у сьвяшчэннаслужэньні, а пасьля гэтага нельга будзе мне ўжо весьці справу з патрыярхам і бел.[арускімі] прыходамі. Вось трэба гэта прадбачыць і быць асьцярожнымі. Тое, што мая кандыдатура можа быць агалошана, як Вы пішаце, калі-б Патрыярхія

згадзілася на маю кандыдатуру, дык трэба у гэтай справе мець на ўвазе вышэйнапісанае. Лепш Вы паведаміце мяне аб прыняцьці, а тады супольнымі сіламі з Вамі і іншымі бел.[арускімі] царкоўнымі дзеячамі вырашым як і што рабіць. Я мушу перш быць падгатаваны. Цяпержа я не асабліва давяраю Патрыярхіі адносна мяне ў добрым напрамку. Трэба чакаць на ўсё. Пасьпяшыш – людзей насьмяшыш. Не хацеў-бы сьмяшыць я.

Ваш багамолец
Арх. Афанасій

## № 25

[Арыгінал]

Сіднэй, 26 студзеня 1972 г.

Паважаныя а. Мікалай і Іван Іванавіч!

Пішу гэтае пісьмо для Вас абаіх, бо не хачу паўтарацца кожнаму із Вас. Івана Іванавіча пісьмо з дня 16 сьнежня 1971 году я атрымаў разам з далучаным фотастатам пісьма з Экзархату Канстантынопальскага ў Нью Ёрку. Затрымаўся я з адказам дзеля розных прычынаў. У сувязі з гэтым пісьмом Івана Іванавіча прыходзіў да мяне Зуй з даручэньня яго й пытаўся ў мяне, што я маю рабіць і чаму не пасылаю сваю заяву й патрэбныя яшчэ дакументы. Я вытлумачыў Зую маё становішча. Я не ведаю, што ён адказаў, але напэўна пераіначыў нешта й перадаў Івану Іванавічу па-свойму.

Мяне моцна зьдзівіла ў пісьме з Экзархату ўмова да прашэньня: „анкондышіонэллы". З гэтага выглядае, што Сынод Патрыярхіі ў Канстантынопалі будзе разглядаць маю просьбу без усялякіх прызначэньняў, а калі маю заяву прыме, дык няведама, што будзе далей. Я маю на думцы толькі ўзглаўляць беларускія прыходы ў вольным сьвеце, але з пастаўленай умовы (анкондышіонэллы) так не выглядае. Можа трэба дапушчаць, што Патрыяршы Сынод ці патрыярх мне й не дасьць права ўзглаўляць бел.[арускія] прыходы, прыняўшы пад увагу некія пратэсты, вродзе крывічоў ці Хмары. У такім выпадку я астаўся-б без усялякага прыдзелу, нібы міністрам без партфэлю, а можа й горш. Усё гэта мяне трывожыць і не ўнушае даверу ў поспех Вашай і маёй добрай ініцыятывы й нашага імкненьня. Я мог-бы тады выйграць, як Заблоцкі на мыле, адарваўся-бы ад неба й зямлі не дастаў-бы, а проста павіс-бы ў паветры.

Маючы гэта на ўвазе, трэба дамагацца адкінуць умову „анкондышіонэллы" і з ясным і точным указаньнем для ўзглаўленьня беларускіх парафій на чужыне. Такая фармаліроўка была-бы больш пэўнай і нават больш надзейнай, хаця й гэта не ёсьць 100 % гарантыя, але ўсе-ж такі нешта канкрэтнае.

Трэба пры гэтым мець на ўвазе, што архіепіскап Філафей праціў мяне, каб я ўзглаўляў беларускія прыходы. Ён Вам і мне гэтага не сказаў, бо ён не скажа, але мне ў пісьме зрабіў агаворку „смотри, не сделай ошибки", як я пісаў яму на пачатку 1971 году ў гэтай справе. На другое-ж пісьмо у гэтай справе, пасланае мною яму на пачатку лістапада, напісанае мною па-беларуску, не адказаў наагул і з Калядамі не паздравіў, а маё пісьмо да яго было ветлівае й прыяцельскае. Хапіла ў яго сьвінства мне, старому свайму другу, не адказаць. Мяне яго маўчаньне моцна зьдзівіла, а нават і заскочыла. Я хацеў і думаў мець з ім цесны кантакт, бо-ж ён быў Местаблюсьціцелем Мітрапалічага Прастолу Бел.[арускай] Царквы. Як відаць з усяго, ён не згаджаецца са мною й не дае свайго „благаславенства". Падчас Сабору Епіскапаў ён нашоў уместным угаварваць праз тэлефон мяне ехаць назад у Аргентыну, добра ведаючы з папярэдняга майго пісьма аб маей перапісцы з Вамі й маей згодзе узглавіць беларускія прыходы. Вось гэта точка гледжаньня арх. Філафея, які фактычна перастаў мне пісаць і парваў са мною дыпляматычныя сувязі. Больш да яго я не буду пісаць, бо ягоная точка мне ведама, бо ён не прыхіляецца, каб я ўзглаўляў бел.[арускія] прыходы. Але можна й без яго дзейнічаць, затое ён можа нешта напісаць ці ўжо напісаў экзарху арх. Якавасу.

Указ аб увальненьні мяне на пакой прылучаю ў фотакопіях на расейскай мове і ў ангельскай перавод. Але я ўжо не на пакоі, а назначны на кафедру Аргентынскай епархіі. Утаіць гэта нельга, бо быў-бы абманам. У сваёй заяве я мусіў-бы сказаць, што я зьяўляюся Епархіяльным Аргентынскай епархіі. Не думаю, каб гэта было-бы на карысьць нашай справе. Магчыма, што мяне адкінулі-б і не прынялі-б без згоды Сыноду Зар.[рубежнай] Царквы. Вось тады была-б для мяне катастрофа. Усе гэтыя перасьцярогі трэба мець на ўвазе й не ігнараваць імі.

Вы маеце маё пісьмо з 17 лістапада 1971 году. Прачытайце яго ўважна, бо я раз'ясьніў у ім сваё палажэньне й свае пляны на недалёкае будучае па прыезьдзе ў Буэнас Айрэс. Таму й цяпер я трымаюся гэтага пункту гледжаньня. Мне трэба дачакацца, каб мяне ізноў звольнілі на пакой, а тады я ўжо буду вольны з развязанымі рукамі й магу зрабіць так, як я пісаў Вам раней. Аднак мяне моцна трывожыць такая ўстаноўка экзарха Якава, які, як відаць з яго вымогаў ад мяне прадставіць яму розныя дакумэнты, моцна лічыцца з Сынодам Зарубежнай Царквы й прыдае значэньне пастановам гэтага Сыноду адносна мяне. Калі

Сынод, напрыклад, забараніў мяне ў сьвяшчэннаслужэньні за пераход у другую юрысдыкцыю, дык гэта можа быць прызнана і ў Патрыярхіі ў Канстантынопалі. Даўней гэтага не была. Евлогія ў Парыжы прымалі ў Канстантынопалі без усялякіх умоваў, і нават забароненага Маскоўскай Патрыярхіяй. Таксама было й з арх. Георгіем цяпер.

Усё гэта прымушае мяне ўстрымацца ад падачы сваёй заявы й адлажыць гэта да выясьненьня майго палажэньня на найбліжэйшы час пасьля майго павароту ці прыезду ў Буэнас Айрэс. Не думайце, што ■ туды рвуся ці вельмі хачу. Не, але я змушаны абставінамі й прэсіяй Сыноду. Там мяне дабро не чакае. 85% аргентынскай паствы гарою стаіць за мяне, але Сынод проціў мяне й мае пастаўленыя мне ўмовы з трэбаваньнем, каб я іх выканаў, а іх не буду выконваць, там і не выканаю. Апрача таго бальшавіцкія й іншыя агенты вядуць проціў мяне шалёную агітацыю. Сынод прымае агітацыю пад увагу, як прыняў яе ў Аўстраліі.

Грэкі мне не прыслалі другога экземпляру пастановы Патрыяршага Сыноду з 18 верасьня 1962 году (№ 787). Я тэлефанаваў у канцэлярыю тутэйшага архіепіскапа Іезэкіля некалькі разоў і прасіў мне выслаць, але дагэтуль не выслалі. Можа Вы самі зьвярніцеся да іх. Вось адрас архіепіскапа Іезэкіля: Archbishop Ezekiel, 242 Clevelend St. Redfern (Sydney) NSW 2016 (Australia).

Бывайце здаровы. Па дарозе ў Аргентыну можа загляну ў Нью Ёрк. Яшчэ пляну сваёй падарожы не зрабіў. У палавіне лютага магчыма буду адпраўляцца адсюль. Шчыра жадаю Вам усяго найлепшага.

Ваш багамолец
Арх. Афанасій

## № 26

[Арыгінал]

[Сіднэй], 3 верасьня 1974 г.

Дарагі а. Мікалай!

Зараз атрымаў вашае пісьмо й адказваю на яго. Шчыра дзякую, што прыпамінаеце мне аб тым, што трэба чакаць ад мяне й Сабору епіскапаў.

Бог ведае, як будзе. У такіх важных справах як нашы, рашэньне залежыць ад вышэйшай сілы – ад Бога. Ні я, ні Вы й ніхто ня вырашыць нашага пытаньня. Будзем шчыра прасіць Бога. Я пішу аб тым так таму, што, здаецца, Сабор епіскапаў мяне ня будзе чапаць. Хіба Бог ім паложыць на вум мяне зачапіць. Я ня ведаю, што вырашаць адносна Аўстралійскай епархіі. Каб не зачапіліся ізноў за маю асобу для Аўстраліі.

Я хварэў у канцы жнівеня й ляжаў, цэлую нядзелю з высокаю тэмператураю. Цяпер папраўляюся, але йдзе паволі. На Царкоўны Сабор я не прыеду, але калі пазволіць здароўе, дык толькі прылячу на Арх. [ірэйскі] Сабор, прыблізна 23 верасьня. Ня маю ахвоты спатыкацца з немілымі ліцэмерамі на Саборы.

Бывайце здаровы.<br>
З любоўю<br>
Арх. Афанасій

## № 27

[Арыгінал]

[Сіднэй], 4 кастрычніка 1974 г.

Дарагі а. Мікалай!

Сабор архіерэяў скончыўся. Я там ня быў і мяне не чапалі. Цяпер нашыя пляны перамешаны й спутаны. Мне астаецца нешта рашаць самому. К гэтай думцы я скланяюся. Справа часу й абставін. Хату для духавенства пры царкве трэба будаваць, калі ёсьць магчымасьць, ахвота й грошы.

На Сабор я не лятаў, бо пачуваўся няважна. У канцы жнівеня паўтары нядзелі я быў у пасьцелі з высокаю тэмператураю – бранхіт. Антыбіётыкі мяне моцна аслабілі.

Бывайце здаровыя. Прывітаньне Вашай матушцы й Івану Іванавічу.

Ваш з любоўю<br>
Арх. Афанасій



# Ліставаньне арх. Апанаса (Афанасія) зь беларускімі царкоўнымі інстытуцыямі на эміграцыі

## № 1

[Арыгінал]

Грынсбург, Огайо, дня 25 студзеня 1966 г.

Прэзідыуму Царкоўнага Зьезду беларускіх праваслаўных прыходаў Паўночнае Амэрыкі ў Саўт Рывэр.

У сувязі з пастановаю Царкоўнага Беларускага Зьезду з дня 25 сьнежня 1964 году ў складзе прадстаўнікоў беларускіх прыходаў з Чыкага, Таронта, Саўт Рывэра й Кліўлянда на чале зь іх настаяцелямі, якія зьвярнуліся да мяне з просьбаю ўзглавіць іх, гэтым паведамляю Вас, што:

1. Да гэтага часу я лічыў сябе й лічу епіскапам Беларускае Праваслаўнае Царквы й ніколі не пераставаў быць такім. Мая сучасная прыналежнасць да Расейскае Праваслаўнае Царквы за граніцай ні ў якой меры мяне не агранічвала й не перашкаджала мне ў маёй архіпастырскай апецы над праваслаўнымі беларусамі, бо-ж у сваім часе, калі епіскапат Беларускай Праваслаўнай Царквы ўваходзіў у маліцьвенную лучнасць з Расейскай Праваслаўнай Царквою за граніцай, Сабор епіскапаў гэтае Царквы, які адбыўся ў травені (1946 г.), зацьвердзіў вымогі беларускага епіскапату, што ён у сваёй архіпастырскай беларускай дзейнасьці зьяўляецца абсалютна самастойным і незалежным ні ад Сыноду, ні ад Сабору Расейскае Праваслаўнае Царквы за граніцай. Будучы ў Нямеччыне, у часе 1945–1946 г.г. я арганізаваў беларускі праваслаўны прыход у Рэгэнсбургу, асьвяціў новазбудаваную там царкву, выконваў пастырскія абавязкі й быў законавучыцелем у беларускай гімназіі. Акром таго наведваў беларускія асяродкі ў Зальгаў (Француская зона) і Марбург (Амэрыканская зона). Падчас майго епіскапства ў Гамбургу да маёй юрысдыкцыі належалі беларускія праваслаўныя прыходы ў Ватэнштэце, Гановэры й Госьляры да апошняга часу іх існаваньня, г. зн. да 1950 г.
2. Пасьля таго, як беларусы зь Нямеччыны выэмігравалі ў розныя краіны Заходняга Сьвету, цяжка было стварыць нейкую адзіную царкоўную юрысдыкцыю. Сам я ў 1950 г. эміграваў у Аўстралію, дзе

й меў кантакт з беларусамі, адпраўляючы для іх службы Божыя. Мая спроба арганізаваць там у той час беларускія праваслаўныя прыходы з пэўных прычынаў практычнага значэньня ня мела. Апынуўшыся пазьней у Аргентыне, я таксама прабаваў там заапекавацца беларусамі, згуртаванымі ў аднэй царкве Буэнас Айрэса, настаяцель якое належаў да Расейскае Амэрыканскае Мітраполіі. На жаль, настаяцель гэтае царквы мне перашкодзіў у гэтым. Далейшыя спробы ў гэтым напрамку былі бязмэтныя, бо там фактычна ўжо ня было сьведамых беларусаў, якія выэміґравалі ў Паўночную Амэрыку. Падчас сваіх кароткіх візытаў у ЗША, я таксама стараўся навязаць цесны кантакт зь беларусамі й на просьбу іх прыходзкіх настаяцеляў і царкоўных камітэтаў адпраўляў службы Божыя ў Саўт Рывэры й Таронта. Усе гэтыя факты сьведчаць аб тым, што мой кантакт зь беларусамі ўвесь час не парываўся, хоць шмат якія прычыны не пазвалялі мне фармальна ўзначаліць беларускія праваслаўныя прыходы ў Паўночнай Амэрыцы.

3. Маючы на ўвазе імкненьні беларускага духавенства й вернікаў мець свайго беларускага епіскапа, каб пры ягонай дапамозе пабудаваць царкоўнае жыцьцё на падставах кананічных, я апрацаваў праект Статуту для Беларускае Праваслаўнае Царквы на Чужыне ды запрапанаваў прыняць яго за падставу пры арганізацыі царкоўнага жыцьця. З пастановы вышэйуспомненага Царкоўнага Зьезду відаць, што статут гэты быў Царкоўным Зьездам прыняты аднагалосна. Таму зварот да мяне Прэзідыуму Царкоўнага Зьезду з просьбаю ўзначаліць беларускія праваслаўныя прыходу ў Паўночнай Амэрыцы я вітаю і, за прыкладам існаваўшай ўжо ў Нямеччыне маёй кананічнай апекі над беларусамі, прымаю.

Аднак практычнае ажыцьцяўленьне пастановы аб арганізацыі Беларускай Праваслаўнай Царквы на Чужыне вымагае даўжэйшага часу. Мая згода на ўзначаленьне беларускіх праваслаўных прыходаў можа быць пераходнай ступеняй, якая пры дапамозе Ўсявышняга створыць цьвёрдыя кананічныя й жыцьцёвыя падставы для далейшага існаваньня й разьвіцьця Беларускай Праваслаўнай Царквы на Чужыне.

Архіепіскап Афанасій

Копіі высылаюцца беларускім прыходам ў Саўт Рывэр, Таронта й Чыкага.

## № 2

[Арыгінал]

Грынсбург, Огайо, дня 1 лютага 1966 г.

Настаяцелям беларускіх праваслаўных прыходаў, царкоўна-прыхадзкім камітэтам і ўсім праваслаўным беларусам на чужыне.

Даведаўшыся аб тым, што мая згода ўзначаліць беларускія праваслаўныя прыходы ў Амэрыцы, выражаная ў маім пісьме з дня 25 студзеня 1966 г. на імя Прэзідыуму царкоўна-беларускага зьезду, некаторымі беларускімі царкоўнымі дзеячамі не прынята з прычыны прыналежнасьці маёй да Расейскай Праваcл.[аўнай] Царквы за граніцай, лічу сваім абавязкам дадаць да майго папярэдняга пісьма наступнае:

1. Матывы, якімі кіраваліся, адкідаючы маю згоду, зьяўляюцца чыста палітычнымі, бо з царкоўна-кананічнага пункту гледжаньня для ўзначальваньня мною беларускіх прыходаў няма ніякае перашкоды. Калі кіравацца ў гэтай справе палітычнымі матывамі, дык трэба мець на ўвазе той факт, што па-за межамі нашае бацькаўшчыны нельга стварыць сваё дзяржаўнае беларускае жыцьцё. Сягоньняшняя рэальнасьць сьведчыць, што амаль усе беларусы ўжо прынялі чужыя грамадзянствы тых дзяржаў, дзе яны асяліліся й гэтым, фактычна, парвалі сваю прыродную грамадзянскую прыналежнасьць да Беларусі як дзяржаўнага арганізму. А дзеці іх, вырасшыя на чужыне, ужо слаба або зусім ня знаюць беларускую мову, у чым я пераканаўся на дзіцячай ялінцы, ладжанай у Саўт Рывэры 16 студзеня г.г. Дзеля гэтых прычынаў, разважаючы аб беларускай справе, я прыйшоў да цьвёрдага перакананьня, што для ўратаваньня беларусаў ад поўнае дэнацыяналізацыі трэба гуртаваць іх пры сваёй Беларускай Праваслаўнай Царкве. А паводле праваслаўнай навукі без кананічнага епіскапа няма й быць ня можа Царквы. Да гэтага часу беларуская эміграцыя свайго епіскапа ня мае, а чужыя па нацыянальнасьці епіскапы, якія ўзначальваюць цяпер беларускае духавенства, стварыць Беларускую Праваслаўную Царкву не патрапяць. Практыка паказала, што чужы епіскап, ачольваючы беларускія прыходы фармальна, не цікавіцца беларускім царкоўна-нацыянальным жыцьцём. Ня можа стварыць кананічную Беларускую Праваслаўную Царкву некананічны епіскап-сектант, які ўводзіць толькі закалот у царкоўным жыцьці ды накіроўвае яго на шлях, аддаляючы вернікаў ад чыстага Праваславія, і гэтым губіць беларускія душы. Я, як кананічны беларускі епіскап, шчыра хацеў дапамагчы беларусам стварыць Беларускую Праваслаўную Царкву на Чужыне й арганізаваць царкоўнае праваслаўнае жыцьцё паводле

сьв. канонаў. Мая сучасная прыналежнасць да РПЦЗ абсалютна ні ў якой меры не перашкаджае й перашкодзіць ня можа ў гэтай справе. Да гэтага часу ніводзін епіскап ці Сынод РПЦЗ не мяшаўся і ўмешвацца ня мог у беларускія царкоўныя ці, нават, нацыянальныя справы. Сабор епіскапаў гэтае Царквы зусім безінтэрэсоўна ў апошнія гады дапамог арганізаваць царкоўнае жыцьцё праваслаўным французам у Францыі, галандцам – у Галандыі, румынам і баўгарам – на чужыне, пасьвячаючы ім епіскапаў с пасярод кандыдатаў, прадстаўленых імі самымі. Так, напрыклад, для французаў пасьвячоны епіскап Іван (Джон), для галандцаў – епіскап Якаў, для румынаў – епіскап Феафіл, для баўгараў – епіскап Кірыл. Усе гэтыя епіскапы, атрымаўшы рукапалажэньне ў РПЦЗ і ўваходзячы ў яе Сынод, кіруюць сваімі прыходамі зусім самастойна й без перашкоды з боку Архіерэйскага Сыноду РПЦЗ. У складзе гэтай Царквы знаходзяцца прыходы праваслаўных немцаў у Нямеччыне, грэкаўстарастыльнікаў – у ЗША, і апошнім часам прыняты малабарскія хрысьціяне ў Паўдзённай Індыі, для якіх ужо пастаноўлена пасьвяціць епіскапа. Гэныя нацыянальныя групы не баяцца расейскага ўплыву, шкоднага для іх нацыянальных інтарэсаў, бо ведаюць што яго няма. Беручы ўсе гэтыя факты пад ўвагу й не бачачы ніякай небясьпекі ні для самога сябе, ні для беларусаў з боку РПЦЗ, я ў поўнай сьвядомасьці даваў сваю згоду на ўзначаленьне беларускіх праваслаўных прыходаў, застаючыся пакуль што ў складзе РПЦЗ.

2. Акром таго, я ня бачу падставы зараз выходзіць са складу гэтае Царквы з наступных прычынаў:

   а) беларусы не стварылі яшчэ дасюль беларускага царкоўна-праваслаўнага цэнтру для свайго архіепіскапа;

   б) не стварылі адпаведных умоваў для яго існаваньня;

   в) няма духавенства, якое ён-бы ўзначаліў і зь якім мог-бы працаваць на царкоўна-беларускай ніве, бо ўсе сучасныя настаяцелі белар.[ускіх] правасл.[аўных] прыходаў належаць да юрысдыкцыі чужога епіскапа, зь якое яны самавольна, без ягонае згоды выйсьці ня могуць. Знаходзіцца-ж ім адначасова пад уладаю двух розных епіскапаў немагчыма.

3. Вышэйпаданыя прычыны зьяўляюцца для мяне кардынальна важнымі й перашкаджаюць мне цяпер здаволіць вымаганьні, стаўленыя мне некаторымі беларускімі царкоўнымі дзеячамі.

4. Для таго, каб перамагчы ўсе гэтыя цяжкасьці, патрэбны даўжэйшы час і вялікі высілак, а гэта магчыма было-б зрабіць паступова, як я думаю, выказваючы сваю згоду ў сваім папярэднім пісьме.

5. Аднак, калі беларусы трымаюцца сваіх вымогаў, дык я дазволю сабе выставіць наступныя пункты для іх рэалізацыі:
   а) стварыць царкоўны праваслаўны цэнтр у форме катэдральнага сабору ці катэдральнае царквы;
   б) стварыць сталую рэзідэнцыю для архіепіскапа;
   в) мець сталае матар'яльнае забясьпечаньне для архіепіскапа й катэдральнага духавенства, без якога ён ня можа з посьпехам ажыцьцяўляць свае архіпастырскія функцыі;
   г) увесьці ў жыцьцё царкоўна-прыхадзкі статут, які быў прыняты на царкоўным зьездзе ў Кліўлендзе, а які да гэтага часу ні адным прыходам не выконваецца.
   д) прыняць усе пастулаты, выстаўленыя мною ў праэкце Статуту для Белар.[ускай] Правасл.[аўнай] Царквы на Чужыне, якія ў сваім часе мною былі перасланы а. М. Лапіцкаму, а якія на зьездзе не разглядаліся;
   е) вырашыць свабодны пераход духавенства ў юрысдыкцыю кананічнага беларускага епіскапа, бо-ж да гэтага часу ўсе сьвяшчэньнікі належаць да чужое юрысдыкцыі.
6. Згодна кананічнаму праву ня толькі духавенства, але і ўсе царкоўныя старасты, царкоўныя камітэты ды ўсе царкоўныя арганізацыі належаць да юрысдыкцыі свайго архіепіскапа, яму падпарадкуюцца ды ім зацьверджваюцца ў сваіх функцыях.
7. Вышэйшы кантроль і нагляд над фінансамі й гаспадарчым жыцьцём прыходаў, паводле тых-жа кананаў, належыць да архіепіскапа й згодна з гэтым павінна быць уложана ўсё царкоўнае жыцьцё Бел.[арускай] Прав.[аслаўнай] Царквы.

   Беларускі праваслаўны епіскап павінен мець непахісны аўтарытэт ня толькі сярод падпарадкаванага яму духавенства, але і ўсіх вернікаў. Падтрыманьне гэтага аўтарытэту зьяўляецца абавязкам усіх вышазначаных царкоўна-прыхадзкіх органаў.

Толькі выкананьне ўсіх гэтых пунктаў дасьць мне магчымасьць канчаткова й пазытыўна вырашыць стаўленыя мне ў сучасны мамэнт вымогі.

Архіепіскап Афанасій



## Ліставаньне з Р. Астроўскім

Лісты да Р. Астроўскага

### № 1

[Копія] [Саўт Рывэр], 18 лютага 1965 г.

Высокапаважаны сп. Прэзыдэнт!

Перасылаю Вам не копію, а ліст Весялкоўскага й адначасна прашу не рабіць ніякіх выясьненьняў пакуль ён не адкажа на мой ліст. Ліст яму я ўжо напісаў і вышлю, калі Вы акцэптуеце маю прапанову Весялкоўскаму. Я яму пішу: „Адносна Вашых прэтэнзыяў да Астроўскіх, найлепш было-бы, каб Вы з сябрамі ХАБР беспасрэдна напісалі сп. прэзыдэнту Р. Астроўскаму. Калі-ж гэтага не захочаце рабіць, дык я Ваш ліст, з Вашага дазволу, перашлю сп. прэз. праф. Р. Астроўскаму, каб ён запазнаўся са зьместам яго й зрабіў так, як будзе ўважаць патрэбным. На гэтым мая роль сьвятара-пасрэдніка й кончыцца. Прашу не адкладываць і зараз-жа дайце адказ на гэту маю прапанову”. Вось такі адказ я хачу даць Весялкоўскаму. Ня ведаю, які погляд Ваш, а таму прашу напісаць пара слоў, каб я ведаў, высылаць Весялкоўскаму ліст з такой прапановай ці не?

Арх. Афанасій пакуль што нічога не адказаў на наш ліст. Чакаю яго прыезду ў Амэрыку. Спаткаемся й аканчальна вырашым: ачоліць ён нашу Царкву ці не? У сваім пасланьні мітр. Філарэт закінуў каменьчык не столькі ў агарод арх. Афанасія, сколькі ў агарод мітр. Леонція, які таксама нэгатыўна стаўляецца да гэтай справы.

Парафіяльны сход, які адбыўся 31 студзеня 1965 г., прайшоў нядрэнна. Як і папярэднія гады, з 254 сяброў прысутнічала на сходзе каля 35 сяброў, каторыя й выбралі Парафіяльны Камітэт на чале з сп. Ф. Высоцкім. Усё на сходзе адбылося й цяпер кіруецца паводле нашага старога парафіяльнага статуту, у які ўнясьлі невялікую папраўку – далі права голасу настаяцелю. Над статутам арх. Афанасія не дыскутавалі і ня ўводзілі ў жыцьцё дзеля таго, што ён не адказаў на наш ліст, а таму ня ведаем, якую ў канцы-канцоў ён займе пазіцыю? Калі ён прыйдзе, дык яго статут увядзецца ў жыцьцё, магчыма зь невялікімі папраўкамі, на якія ён пагодзіцца. Тут мушу зазначыць, што людзі, якія прыходзяць на парафіяльны сход, гэта нацыянальна-сьведамы беларускі актыў, які жадае толькі дабра як для нашай парафіі, так і для мяне асабіста. Гэтыя людзі, калі прыйдзе арх. Афанасій, таксама будуць кіравацца дабром Царквы й ня будуць варожа стаўляцца да арх. Афанасія й яго статуту. На гэтых людзей і Вы маеце уплыў, а таму Ваша слова таксама ў гэтай

справе будзе мець вялікае значэньне. Можа некаторыя зь іх і не ў парадку што да рэлігійнай практыкі, але зла для Царквы Беларускай яны не жадаюць. У гэтым я пераканаўся, калі спаткаўся на царкоўнай ніве зь імі. Ліст Весялкоўскага затрымайце ў Вас і пасьля, калі ўсё кончыцца, укіньце ў гарбіч. Прывітаньне для Вас і Вашай радзіны ад матушкі й маёй сям'і.

З любоўю ў Хрысьце
[а. М. Лапіцкі]

Лісты да а. М. Лапіцкага

**№ 1**

[Арыгінал]

[1965 г.]

а. Настаяцелю й прыходзкаму камітэту ў Саўт-Рывэры

Высокапаважаныя сябры!

Я толькі што прачытаў адказ архіепіскапа Афанасія на пастанову нашага Царкоўнага Зьезду, які адбыўся 25 сьнежня 1964 г. і меў нагоду ўсебакова абгаварыць парушаныя там справы асабіста з уладыкаю.

Прымаючы пад увагу, што ў сваім адказе, як Вы гэта пабачыце, архіепіскап Афанасій дае сваю згоду ачоліць нашыя беларускія праваслаўныя прыходы, але не падае даты, калі гэта можа наступіць, я пастараўся выясьніць гэтую справу. Пасьля ўсебаковага разгляду вытваранай ў нас сітуацыі я пераканаўся, што запрапанаваная ўладыкам Афанасіем форма ўзначаленьня нашых прыходаў зьяўляецца адзінай магчымай і зусім рэальнай ды для нашых прыходаў вельмі адпаведнай.

Справа ў тым, што арганізацыя Беларускай Праваслаўнай Царквы на Чужыне, як гэта слушна зазначана ўладыкам, вымагае даўжэйшага часу. Ён згаджаецца ўзначаліць ці ўзглавіць нашыя праваслаўныя прыходы ўжо адразу, цяпер, кіруючы імі часова пакуль што з Аргентыны ды час ад часу візытуючы іх на мясцох падчас свайго побыту ў Паўночнай Амэрыцы. Такая форма зьяўляецца адзінай магчымай з наступных прычынаў:

1. Мы дасюль ня маем прыгатаванага для ўладыкі катэдральнага сабору й памяшчэньня для епіскапа а так-жа епархіяльнай канцэлярыі.

2. Да гэтага часу ніхто з нас ня выясьніў адносінаў да гэтае справы з боку экзарха Канстантынапольскага патрыярха й таму гэта пасьля ачоленьня нашых прыходаў зробіць сам уладыка Афанасій.
3. Знаходзячыся ў Аргентыне часова надалей, уладыка Афанасій матар'яльна больш-менш забясьпечаны й таму для нашых прыходаў абцяжаньні прыходзкіх бюджэтаў будзе значна меншым. Нам прыдзецца аплаціць уладыку толькі кошты падарожы для візытацыі нашых прыходаў, што значна меней вынясе чымсь поўнае забясьпечаньне яго існаваньня ў Паўночнай Амэрыцы. Для нас гэта мае немалое значэньне, бо некатарыя нашыя прыходы яшчэ маюць даўгі за набытую царкоўную маёмасьць.
4. Пры існаваньні пастановы Сабору Расейскай Праваслаўнай Царквы за граніцай аб поўнай самастойнасьці беларускіх епіскапаў ў іх архіпастырскай дзейнасьці, ня можа нам служыць перашкодай часовая прыналежнасьць арх. Афанасія да Расейскае Царквы. Калі мы можам падпарадкавацца грэцкаму епіскапу, дык што-ж можа стаяць на перашкодзе падпарадкавацца свайму беларускаму епіскапу? Усякая дэмагогія розных бальшавіцкіх ды крывіцкіх агентаў у гэтай справе нас не павінна абходзіць. Тым болей, што шмат беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў цяпер, напрыклад, працуе ў характары вучыцелёў расейскае мовы ў амэрыканскіх ун-тах, але іх ніхто не абвінавачвае ў нейкай здрадзе беларускай справе.
5. Знаходзячыся гэтых пару гадоў яшчэ ў Аргентыне, уладыка Афанасій набудзе там эмэрытальныя правы, якія яму дадуць матар'яльнае невялічкае забясьпечаньне, а гэта з свайго боку на будучыню будзе таксама палёгкай для нашых бюджэтаў.

У сувязі з усім вышэйсказаным, я ўважаю, што мы павінны прасіць уладыку ачоліць нашыя прыходы на тых варунках, якія ім нам запрапанаваны.

З шчыраю пашанаю
Ваш Р. Астроўскі
сябра Чыкагоўскага царкоўнага прыходу

П. С.: Толькі што даведаўся з газэтаў, што Канстантынопальскі патрыярх зрокся ад узначальваньня Заходне-Эўрапэйскага Расейскага Экзархату (Парыж) і передаў яго Маскоўскаму патрыярху. Такая небясьпека можа паграглжаць і нам, знаходзячымся ў грэцкай юрысдыкцыі.

## № 2

[Арыгінал]

Массільлён, 5 лютага 1965 г.

Высокапаважаны а. Мікалай!

Гасп. Высоцкі пісаў мне, што Вы атрымалі нейкі пашквіль на мяне ад Весялкоўскага з Лёндану. Хачу Вас папярэдзіць, што Весялкоўскага завербавала савецкая агентура й Галоўная Ўправа ХАБР гэта здэмаскавала. Нічога дзіўнага, што ён цяпер вядзе дэструкцыйную працу. Старшынёю Царкоўнага К-ту ў Лёндане ёсьць протадыякан а. Павел Вялікі, дык у справах царкоўных трэба кантакт трымаць зь ім.

Прышлеце, калі ласка, копію пісьма Весялкоўскага, каб я мог пераслаць яе сакратару ХАБР, які напэўна захоча ў „Аб'еднаньні" падаць фактычны стан рэчаў.

Ці Вы атрымалі што-небудзь ад арх. Афанасія, як адказ на перасланыя яму пастановы Кліўлендзкага зьезду? Я баюся, што арх. Афанасій будзе чакаць таго мамэнту пакуль яго ня „уйдут" з Зарубежнай Расейскай Царквы, бо-ж у сваім навагоднім пасланьні мітрапаліт Філарэт зусім выразна закінуў каменьчык у агарод арх. Афанасія ў справе Іана Кранштадскага.

Час аднак пакажа, бо-ж арх. Афанасій у канцы канцоў павінен будзе заняць нейкую азначаную пазіцыю. Як-жа прайшоў Ваш агульнапрыходзкі сход? Ці ён не перакрэсьліў усё тое, што зроблена было ў Кліўлендзе?

З шчыраю пашанаю

Ваш Р. Астроўскі

## № 3

[Арыгінал]

Массільлён, 22 лютага 1965 г.

Высокапаважаны а. Мікалай!

Шчыра дзякую за пісьмо. Я зусім згаджаюся з тэкстам пісьма, якое Вы прыгатавалі да Весялкоўскага.

Што датычыць арх. Афанасія, дык і я не атрымаў ад яго адказу на маё апошняе пісьмо, якое я выслаў пасьля зьезду. Шкада было-б, калі-б ён нас падвёў. Я крыху яго цяпер не разумею: ці ён быў няшчыры, калі нам казаў што зусім сур'ёзна думае ачоліць нашую Царкву, ці нешта другое цяпер утрымлівае надалей у Аргентыне.

Тое, што вашае прыходзкае сабраньне пакінула надалей старшынёю не настаяцеля (тым болей пры Вашай на гэта згодзе) ня мае значэньня, бо я пераканаsuccessful, што арх. Афанасій таксама ня будзе да гэтага прыдаваць асаблівага значэньня.

Цяпер для нас найважнейшае, каб ён парваў з Расейскаю Зарубежнай Царквой ды згадзіўся ачоліць Беларускую Прав.[аслаўную] Царкву на Чужыне.

З шчыраю пашанаю й прывітаньнем для Вашае матушкі.

Застаюся Ваш
Р. Астроўскі

## № 4

[Арыгінал]

Массільлён, 31 сакавіка 1965 г.

Высокапаважаны а. Мікалай!

Шчыра Вам дзякую за прысланае пісьмо Весялкоўскага, якое пры гэтым Вам варочаю.

Не вязе нам з нашымі епіскапамі. Арх. Афанасій маўчыць, хоць павінен разумець, што гэтым ён нас усіх ставіць у вельмі прыкрае палажэньне.

Я яму на днях напісаў другое пісьмо, просячы даць той ці іншы адказ, бо-ж мяне пытаюцца й з Аўстраліі й з Англіі, калі ўрэшце наступіць ачоленьне нашае Беларускае Царквы адпаведным епіскапатам. Трэба яго бамбардаваць, дык можа захоча некаму нешта адказаць. Пабачым.

Перасылаючы пры нагодзе прывітаньне Вашай матушцы, застаюся з шчыраю пашанаю.

Ваш Р. Астроўскі

## № 5

[Арыгінал]

Массільлён, 17 красавіка 1965 г.

Яго Міласьці а. протапрэсьвіцеру М. Лапіцкаму ў Саўт Рывэр.
Высокапаважаны а. Мікалай!

Зьмест пісьмаў Ю. Весялкоўскага да Вас я падаў да ведама Галоўнае Ўправы ХАБР у Лёндане, якая па сутнасьці й зарэагавала на іх сваім афіцыяльным асьведчаньнем, фотакопію якога пры гэтым Вам перасылаю.

Гэтае асьведчаньне, як бачыце, ня толькі выясьняе справу дому, але адначасна й дэмаскуе заведама-сьвядомую хлусьню аўтара гэтых пісьмаў. Кажу „заведама сьвядомую хлусьню", бо-ж падчас трансакцыі з домам пры Катнар Роад № 57 у сьнежні 1954 г. сакратаром Галоўнае Ўправы ХАБР быў ніхто іншы, як той-жа Ю. Весялкоўскі, які па сёньняшні дзень мае пратакольную кнігу Галоўнае Ўправы, дзе гэтая справа была зафіксавана. Тут, дарэчы, трэба сказаць, што, перадаючы канцылярыю новаму сакратару А. Вараве, Ю. Весялкоўскі сьвядома затаіў пратакольную кнігу й дагэтуль не перадаў яе Галоўнай Управе.

Зразумелая рэч, што тут зусім ня ходзіць аб нейкі дом, бо-ж ад часу калі ён перайшоў на маю ўласнасьць, г. зн. да 1954 г., ніколі, нікім гэтая справа не парушалася. Тут мы маем дачыненьне, фактычна, і не з Весялкоўскім, а з тымі, каму гэты дом апошнім часам пры дапамозе Весялкоўскіх служыў дасканальным пунктам для кантактаў і спатканьняў. Для мяне не падлягае сумніву, што за плячамі Весялкоўскага стаяць савецкія агенты, якія, відаць, балюча адчулі утрату „явачнага пункту" ці на іхнім жаргоне – „дубка".

Мы памятаем яшчэ паранаўнальна сьвежы факт, калі генэральны сакратар раўналежнай ХАБР крывіцкай арганізацыі ЗБВБ Курага-Скрага таксама прыкідваўся нявіннаю авечкаю ды праводзіў нават быццам антыкамуністычную акцыю, а пасьля... раптам апынуўся ў БССР і пачаў выпісваць розныя пашквілі на сваіх нядаўных сяброў і знаёмых.

Не падлягае ніякаму сумніву, што выяжджаючы з Лёндану, Курага-Скрага па сабе пустога месца не пакінуў. Яго падмяніў ягоны-ж прыяцель, які таксама хітра маскуецца, як маскаваўся й Курага-Скрага, а розныя сьвядомыя й наіўныя падпявалы танцуюць пад ягоную дудку, выконваючы ўсе ягоныя загады.

Бальшавікі маюць амаль 50-гадовае дасьведчаньне ў сваёй падрыўной дзейнасьці й таму яны маюць для кожнае мэты па некалькі сваіх агентаў, каб на той выпадак, калі „засыплецца" адзін, ягонае месца заняў другі. Вельмі рэдка здараецца, каб бальшавікі страцілі камплетна кантакт з тэю ці іншаю эміграцыйнаю арганізацыяй. Але гэта, відаць, сталася ў Лёндане з ХАБР, які адным замахам пазбыўся ня толькі савецкіх агентаў, але й іх падбрэхічаў ды інфарматараў.

Канадзе, напрыклад, выкінуўшы Хмару з усіх арганізацыяў, не ўдалося пазбыцца ягоных інфарматараў, якія вельмі дакладна й хутка паведамляюць яго аб усякіх здарэньняў сярод беларускіх эмігрантаў. Гэта павінна нам служыць перасьцярогаю на будучыню, што паўмеры ў такіх выпадках бязмэтныя, бо-ж заразу трэба вырываць з карэньнем, як гэта зрабіла Галоўная Ўправа ХАБР.

Між іншым, як дагэтуль, дык толькі Лёнданскае „Аб'яднаньне" вядзе пасьлядоўна сваю антыкамуністычную лінію, расшыфроўваючы й дакументальна дэмаскуючы дзейнасьць розных „хмараў", хоць ад Лёндана Таронта значна далей, чымсь ад Нью Ёрка. Нічога таму дзіўнага, што бальшавікам так залежыць на чарненьні тых, хто дэмаскуе іхных агентаў ды адрэзаў кантакты з так важнай для іх арганізацыяй.

Ну, але ў гэтым няма нічога новага й таму будзем мець надзею, што „калі Бог ня выдасьць, дык сьвіньня ня зьесьць".

З шчыраю пашанаю
Ваш Р. Астроўскі

## Ліставаньне зь Ю. Віцьбічам

Лісты да а. М. Лапіцкага

### № 1

[Арыгінал]

Саўт Рывэр, 3 жніўня 1962 г.

Глыбокапаважаны айцец Мікалай!

Даруйце, але гэтак ужо павялося, што я часам дасылаю Вам копіі тых маіх лістоў, якія цалкам або часткова датычуць нашых веравызнавальных ці царкоўных справаў. Магчыма гэтае тлумачыцца тым, што ўсё-ж я – колішні рэфэрэнт па рэлігійных справах Беларускага (крывіцкага) Цэнтральнага Дапамаговага Камітэту, рэдактар час.[апісу] „Зьвіняць званы Сьвятое Сафіі", пілігрым да Тырсгайму. І г.д., і г.д. Вось таму й дасылаю Вам на разе копію майго ліста да спадара Часлава Будзькі.

Мне здаецца што сп.сп. Будзька, Хмара, Пануцэвіч ды іншыя працягваюць сёньня ў сваёй дзейнасьці традыцыі міхэльсдорфскіх сьцягатаптальнікаў. Між іншым, як на мой погляд, дык да гэтых сьцягатаптальнікаў належуць ня толькі „малые з сіх", а ўласьне Запольскі з Алехнікам, але й Кушаль з Ворсай. Апошнія наўмысьля справакавалі першых, калі не на таптаньне (гэта перабольшаная хлусьня), дык, ва ўсякім разе, на зьнявагу сьцяга. Таму й далейшы дэманстрацыйны пацалунак сп. Кушалем гэтага сьцягу зьяўляецца нічым іншым, як пацалункам [Юды] Іскарыёта. Аднак гэта адхіленьне ў бок.

Мой ліст да сп.Часлава Будзькі выходзіць за межы вузка-прыватнага ліставаньня. Вельмі магчыма, што неўзабаве зьявіцца ў друку мой артыкул, прысьвечаны згаданым у лісьце да яго пытаньням. У гэтым артыкуле (дый ня толькі ў ім) я парушаю пытаньне аб арганізацыі на чужыне адмысловага камітэту па абароне нашых сьвятыняў, зь якіх глумяцца ня толькі там, але й тут. Мне здаецца, што за свой сталы зьдзек над усім сьвятым для беларусаў „будзькі" заслугоўваюць і Ленінскае прэміі й вялікае падзякі з боку завяртанскае газэты „Голас Радзімы".

Шчыра зычу ўсяго найлепшага.

З пашанай да Вас
Юрка Віцьбіч

П.С.: Няёмка пра гэтае пісаць у „П.С.", патрэбны адмысловы ліст, але зразумейце й даруйце. Учора я прысьніў свайго добрага бацьку. Дарагі айцец Мікалай, вельмі прашу Вас у часе малітвы згадаць сьв. пам. протаіерэя Аляксандра, як і хворых Еўдакію й Ганну. Пэўне-ж я не застануся вінаватым.

Яшчэ раз усяго добрага
Юрка Віцьбіч

## № 2

[Арыгінал]

Саўт Рывэр, 26 кастрычніка 1967 г.

Глыбокапаважаны айцец Мікалай!

Заўчора дастаў зь Нью Ёрку фотаадбіткі з расейскіх газэтаў у Аргентыне, у якіх цкуецца архіепіскап Апанас за ягоную вядомую кніжку „Беларусь". Сьвядома ўжываю тут тэрмін „цкуецца", а ня крытыкуецца, бо аж зашмат лаянкі ў прысьвечаных яму артыкулах.

Шчыра кажучы, ня ведаю для каго арх. Апанас прызначыў гэтую сваю даволі блытаную кніжку. Ні беларусаў, ні расейцаў яна не ў стане задаволіць.Пэўне ён не прыпушчаў, што пасьля ейнага зьяўленьня зможа апынуцца па-за Расейскай Зарубежнай Царквой. Сумняваюся таксама ў тым, што зь ейнай дапамогай ён меркаваў атрымаць рэгабілітаваньне ад усіх беларусаў, як колішні здрайца беларускае нацыянальнае справы. І можа варта цяпер „Юрию Стукаличу" узяць, наўсуперак свайму жаданьню, ягоную кніжку пад абарону, каб расейцы, якія здаўна

й дагэтуль ставяцца да мяне з асаблівым „замілаваньнем", зь яшчэ большай упартасьцю ўзяліся-б за выдаленьне ейнага аўтара са свайго асяродзьдзя.

А далей што? Кніжка архіепіскапа Апанаса „Беларусь", нават з адпаведнымі й вельмі істотнымі папраўкамі, на якія аўтар ніколі ня згодзіцца, спазьнілася на 20 з гакам год.

Шчыра зычу ўсяго найлепшага.

З пашанай да Вас
Юрка Віцьбіч

## Ліставаньне з В. Войтанкам

Лісты да а. М. Лапіцкага

### № 1

[Арыгінал]

[Пассэйк], 19 сьн.[ежня] 1966 г.

Вельмі паважаны Ойча!

Найлепшыя навагоднія й сьвяточныя пажаданьні. Карыстаючыся з гэтай сьвяточнай нагоды, хачу паразумецца ў справе агульна-беларускай і праваслаўнай.

У мяне даўно ўжо маецца думка аб'яднаньня нас, праваслаўных беларусаў розных царкоўных юрысдыкцыяў, у некую Раду ці каардынацыйны асяродак, які дапамог-бы нам супольна дзеяць у тых галінах рэлігійнага й царкоўнага жыцьця, дзе прыналежнасьць да розных епіскапаў мае малое значэньне.

Прыкладам, у друку царкоўных кнігаў, місыйных лістоў, можа рэлігійна-грамадзкага часапісу, каляндара. У раскладзе летняга абслугоўваньня „Бэлэр-Менску", каб не было „канкурэнцыі", ці, наадварот, запушчаньне гэтага важнага беларускага гурту людзей праз праваслаўнае духавенства. Вы ня можаце прыяжджаць туды кожнае нядзелі дзеля канешнасьці багаслужбаў у Вашай царкве. Але можаце адпусьціць пару нядзеляў. Тое самае можа зрабіць кожны іншы беларускі сьвятар. Адпаведна разложанае, можаце разам мець багаслужбу ў „Бэлэр-Менску" кожную нядзелю праз усё лета. Гэта ня ёсьць шмат для Царквы й веры, але можа быць шмат для кагосьць зь беларусаў, хто ня быў у царкве ўжо колькі дзесяткаў гадоў.

Падобна ў змаганьні з рэлігійнай абыякавасьцю нашых людзей. Супольна мы можам зрабіць шмат. Ваюючы з сабою, нашыя сьвятары толькі далей разганяюць людзей ад Царквы.

Калі вы можаце вітацца з ксяндзом і рабінам, дык чаму нельга быць судзьямі [і] суседзямі Вашаму суродзічу – беларусу-сьвятару іншай юрысдыкцыі?!

Да гэтуль мы стараліся пераканаць адзін аднаго ў тым, хто кананічны, а хто не. Што гэта дало нам праз 15 гадоў? Хто каго пераканаў? А сварка йдзе са стратаю парафіянаў у Вас і ў нас на карысьць таму трэцяму ворагу беларусаў ці, нат, ворагу веры наагул.

Я ўпэўнены, што знойдзеце сярод вашых колішніх парафіянаў кагось, хто ўжо ходзіць да баптыстаў, ці сьведкаў Яговы. Не, іх няшмат, але й гэтага шкода для праваслаўнай веры й для беларускага народу, таму што яны адышлі ў чужую стыхію.

Мне ўдалося здабыць згоду ўладыкі Васіля й епархіяльнай управы на праводжаньне працы над такім праваслаўным беларускім паразуменьнем. Мая думка адкрытая для ўсякіх перагавораў і дагавораў. Трэба толькі адкінуць сварку аб кананічнасьці вас, нас ці іх. Ані будзем сварыцца, хто мае закон і права БНР, БЦР, БВР, ці іншая [„]бэ["] і рэшта. Мы маем дзьве пэўныя рэчы як асновы гутаркі й згоды: беларускасьць кожнага з нас ды праваслаўная хрысьціянская вера. Тое, што можна зрабіць на гэтых асновах, трэба зрабіць. Гэта мой погляд, а які Ваш, Ойча?

Як гэта зрабіць тэхнічна? Зь кім і хто мае вясьці гутарку й дагавор? Які укладаць статут, арганізацыю, ці толькі часовае прадстаўніцтва? Ці маем сюды запрашаць людзей з Амэрыканскай мітраполіі, дзе маецца шмат старых і новых беларусаў? Маем запрасіць з Зарубежнай Царквы ўладыкаў Апанаса й Філафея?

Гэтыя пытаньні й справы патрабуюць абгаворваньня й разважаньня. Але яны могуць быць разважаныя й палагоджаныя, калі наагул будзем хацець гаварыць і тварыць супольны праваслаўны беларускі „фронт".

Мы маглі-б гэта рабіць даўно. Але тады мы яшчэ ня мелі гадоў практыкі й сваркі, якая нам нічога не дала, а толькі страту часу, атлясу, здароўя і нэрваў. Замест выбеліць нашыя грэшныя душы, яна выбеліла нашыя галовы.

Вашае слова ў рэлігійных і царкоўных справах было заўсёды паважанае так-жа Вашымі праціўнікамі. Так-жа і ў гэтым яно важнае. Калі ўважаеце, што нам варта гаварыць ў новай плошчы праваслаўнага беларускага супрацоўніцтва, калі ласка, падавайце месца, час і людзей, ці, наадварот, пачынайма ад людзей, і будзем гаварыць, прынамсі, [каб] абмяняцца думкамі.

Мая ініцыятыва толькі „плошчы", а ўсё іншае будзе добра, калі гэта будзе Вашае, як асобы знаючай закон і людзей.

Памажэце зрабіць добрую беларускую й праваслаўную справу, хаця можа й ня верыце ў яе паводжаньне. Хай жыцьцё паказвае, але ня нашае ацяганьне.

Ваш В. Войтанка

## № 2

[Арыгінал]

Пассэйк, 16 верасьня 1969 г.

Высокапрэпадобны а. Мікалай!

Да мяне зьвярнулася некалькі беларускіх сем'яў у Трэнтане з просьбаю заснаваньня ў іх парафіі праваслаўнай і беларускай.

Па лініі Брацтва я зьвярнуўся да ЯВП уладыкі Васіля й гэтым зьвяртаюся да Вас, як можа ня ўрадавага, але праз нас разуметага, галаву Беларускай Царквы ў юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярха. Калі ласка, знайдзеце сьвятара, які мог-бы правесьці ўладжаньне прыходу-парафіі.

Тыя, зь кім мне прышлося гаварыць ў гэтай справе, абяцалі мець невялікія на пачатак, але ахвотныя грошы на аплачваньне сьвятару. Так-жа ёсьць ў іх думка набыцьця царкоўнага будынку ці пабудовы, калі ня будзе адпаведнага, гатовага.

Мая просьба – прыслаць мне прозьвішча й адрас, пажаданага Вамі на гэтае становішча, сьвятара. Мне ён патрэбны, каб прадставіць людзям да выбару, каго яны жадаюць і ў якой жадаюць быць юрысдыкцыі. Без гатовага й ахвотнага сьвятара, толькі на абяцанках, што сьвятар будзе, на жаль, не магу ўцягваць людзей ў гэтае Божае, але так-жа й жыцьцёва людзкае пачынаньне.

Налічваецца там ўжо цяпер 87 душ – праваслаўных, беларускіх, расківаных па ўкраінскай, зарубежнай, мітрапалітальнай юрысдыкцыях. Ды шмат якія нікуды не належаць, а моляцца дзе пападзе, так-жа ў польскай [каталіцкай царкве] і ў баптыстых, што бліжэй іх жыльля. Таму Брацтва вельмі гэтым палажэньнем узрушанае й жадае хутчэй наладзіць свой беларускі прыход праваслаўны, са сваім беларускім сьвятаром.

Прашу Вашых малітваў.

У Хрысьце Ісусе
а. Віктар Войтанка,
апякун БПЖБ-тва

## Ліставаньне з а. П. Вялікім

Лісты да а. П. Вялікага

### № 1

[Копія]

Саўт Рывэр, 12 студзеня 1961 г.

Дарагі а. протадыякан!

Згодна дагаворанасьці на зьездзе ў Чыкага з сп. М. Кухарчыкам пішу Вам гэты ліст з тым, каб паінфармаваць Вас аб варунках, зь якімі Вы спаткаецеся, калі пераедзіце ў Канаду ці Амэрыку. Варункі гэтыя для духаўніка, які працуе сярод беларусаў, вельмі цяжкія, але пачэсныя. Цяжкія, па-першае, тым, што народ наш расьсеяны й адначасна ў сваёй масе нацыянальна нясьведамы. Па-другое, калі Вы прыбудзіце ў Амэрыку, Вы мусіце арганізовываць прыход і адначасна працаваць на фабрыцы. Магчымасьць арганізаваць беларускі прыход ёсьць у Пассэйку, Нью Ёрку й нават Трэнтане. Я арганізаваў прыход ў Саўт Рывэры. Ёсьць арганізаваны прыход ў Чыкага, і па нашай лініі там даездам з Канады служыць а. М. Мігай. Праца цяжкая дзеля таго, што перашкаджае Фінькоўскі, якога адстранілі ад прыхода. Крывічы маюць прыходы ў Нью Ёрку, Кліведяндзе й фікцыйны ў Нью Брансвіку.

Матар'яльны бок на пачатку вельмі слабы. Я працаваў 8 год на фабрыцы, каб утрымаць сябе й радзіну. Цяпер не працую й маю 170 дал. у месяц плюс трэбы. Матушка яшчэ працуе, але магла-б і не працаваць. На кусок хлеба хватаіць, бо дзеці кончылі калэдж і таксама не забываюць пра бацькоў. Праўда, калі ёсьць лішні грош, высылаем пачкі ў Польшчу й на Беларусь. Вось так прадстаўляюцца варункі, якіх пужацца ня трэба, бо ўсюды ёсьць добрыя людзі й апека Ўсявышняга Бога. Тут Вы знойдзіце працу, кватэру й падтрыманьне сярод сьведамых беларусаў. Спаткаецеся з прыемнымі й непрыемнымі зьявішчамі, якія заўсёды бываюць у жыцьці й працы кожнага чалавека, а тым больш духоўніка. Я з свайго боку абяцаю дапамогу ўва ўсім тым, што ёсьць у маёй магчымасьці. Праўда магчымасьці гэтыя ў мяне невялікія, але пры пераезьдзе, пры рукапалажэньні ў сан іерэя й пры арганізацыі прыходу, што ад мяне залежыць, ува ўсім дапамагу.

З любоўю ў Хрысьце

[а. М. Лапіцкі]

## № 2

[Копія] [Саўт Рывэр, 1969 г.]

Дарагі а. Павел!

Дзякую за ліст, які з задаволеньнем прачытаў. Рад, што Вы справіліся з цяжкім заданьнем і арганізавалі прыход і гэтым апраўдалі маю просьбу, каб Вас еп. Мацьвей рукапалажыў у сан іерэя. Цяжкасьці ў прыходзе заўсёды ёсьць, а тым больш пры арганізацыі, але на гэта не зварачывайце ўвагі й рабіце сьвятую справу, а Гасподзь Бог ды добрыя людзі заўсёды будуць Вам дапамагаць.

На вуніятаў не зварачывайце ўвагі й рабіце сваю праваслаўную й беларускую справу незалежна ад таго, падабаецца ім гэта ці не. Што тычыцца праваслаўных, якія стаяць з боку, дык час сваё зробіць і яны прыдуць. Так было ў мяне, так будзе і ў Вас.

На маю думку Вам трэба было-бы адчыніць прыход ў імя Сьв. Прэп. Афанасія Брэсцкага. У Вас вунійны цэнтр праслаўляе Язафата Кунцэвіча, якога забілі беларусы, а Вы праслаўлялі-бы Сьв. Афанасія, якога за праваслаўную веру й беларускую народнасьць замучылі палякі й вуніяты. Вуніяты паставяцца варожа, але на гэта ня трэба зьвяртаць увагі, так як і яны не зьвяртаюць увагі як мы ставімся да Кунцэвіча. Гэта адно. Другое, на эміграцыі ўжо ёсьць два прыходы імя Сьв. Еўфрасіньні – Саўт Рывэр і Таронта. Калі гэтага ня можна зьмяніць, ну дык хай астаецца так, як ужо пастаноўлена.

У мяне ёсьць ня толькі трапар і кандак Сьв. Еўфрасіньні, але цэлая служба з акафістам. Трапар і кандак дасылаю пры гэтым лісьце, а іконку вышлю аддзельна разам з „Царкоўным Сьветачам". Назоў нашай царквы выпісаны на вярху гэтай бланкі. Раней мы пісалі трохі іначай, але цяпер ужываем гэты назоў. На пячатцы царкоўнай астаўся стары назоў дзеля таго, што на гэты назоў выданы „чартар". Як зьменім назоў у чартары, дык тады зьменім і пячатку. Узор цяперашняй пячаткі падаю на адваротнай бачынцы.

У „Вялікім Зборніку" (часьць першая) ёсьць обшчая служба „Прэпадобнай". Гэтым і карыстайцеся пры службах Сьв. Еўфрасіньні. Тамжа ёсьць служба й „Прэпадобнаму". Калі ня маеце гэтай кнігі і ў Англіі ня можыце дастаць, дык я куплю тут і перашлю Вам. Каштуе яна $ 10.00. Прэп.[адобнаму] Афанасію маю таксама акафіст.

У мяне справы разгортываюцца добра. Атрымаеце „Царкоўны Сьветач" і там запазнаецеся, як ідуць справы. Ад Тамашчыка адцягнулі прыход і ў гэту нядзелю была першая служба. Ачоліваў яе я, а настаяцелем назначаны а. С. Коўш, які нядаўна быў высьвечаны ў сан іерэя.

Маем кандыдата ў епіскапы, але справа зь хіратоніяй зацягнецца трохі. Ворагі ставяць перашкоды. Памагае мне трохі еп. Мацьвей, за што яму я вельмі ўдзячны.

Календароў я ўжо ня маю. Напісаў у Чыкага, каб яны Вам выслалі, бо там здаецца ёсьць лішнія.

На Вялікдзень маю выдаць „Царкоўны Сьветач". Прышліце для хронікі матар'ял з царкоўнага й грамадзкага жыцьця ды пару фатаграфіяў з царкоўнага жыцьця. Зрабіце гэта як найхутчэй.

Жадаючы ўсяго найлепшага на гэтым канчаю. Пішыце.

З любоўю ў Хрысьце
[а. М. Лапіцкі]

## № 3

[Копія]

[Саўт Рывэр], 11 сьнежня 1972 г.

Дарагі а. Павел!

У Таронта (Канада) а. архім. Язэп аб'явіў, што пакідае прыход і служа толькі да 1 студзеня 1973 [году]. Замяніць тут [яго] няма кім і таму зварочываюся да Вас з просьбай: ці не маглі-бы Вы пераехаць ў Канаду й абняць гэты прыход. Вы былі ў Таронта й ведаеце, як выглядае царква й што прадстаўляе прыход.

Што тычыцца а. архім. Язэпа, Вы бачылі як ён заховываўся й прыход ня быў ім задаволены. Асабліва пасьля таго, як ён пайшоў на сьвята да крывічоў і там разам сядзеў зь іх „гіерархіяй".

У Саўт Рывэры ўсё ў парадку. Будынкі закончылі, асьвяцілі й службы ўжо адбываюцца ў новай царкве. Адно толькі я захварэў, але папраўляюся й хутка буду служыць.

Калі па тэй ці іншай прычыне Вы не зможыце пераехаць, дык там мне ўладыка Мацьвей пісаў, што ён гатовіць нейкага беларуса Мароза. Можа ён-бы хацеў пераехаць? Гэта я пішу на выпадак, калі не зможаце пераехаць Вы. Беларусы з Таронта, а таксама й я ўсім сэрцам, усёю душою хочам, каб пераехалі Вы й абнялі гэты прыход ва славу Божую й ва славу Беларускаму Народу.

Прывітаньне матушцы і ўсёй Вашай радзіне.

З любоўю ў Хрысьце
Ваш [а. М. Лапіцкі]

Лісты да а. М. Лапіцкага

## № 1

[Арыгінал]

Лёндан, 28 лютага 1969 г.

Дарагі й паважаны а. мітр. прот. Мікалай!

У сувязі з арганізаваньнем нашага беларускага прыходу ў Лёндане ў нас паўсталі пытаньні як і ў імя якога сьв. [ятога] назваць наш прыход. На апошнім нашым зьездзе было прынята назваць прыход у імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Вось, як Вам ведама, у кніжках служэбных няма ані трапара, ані кандака й другіх малітваў расейцы для беларусаў ня думаюць друкаваць. Вось, я маю да Вас і просьбу ў гэтым напрамку. Прашу Вас прыслаць нам усё, што ёсьць патрэбнае для службы Сьв. Еўфрасіньні, а можа маеце штось і нотнае для сьпеву. Далей, прашу гэта ікону, бо многім няведама як Сьв. Еўфрасіньня выглядае, і напішыце, як Вы пішаце па-ангельску, каб мы таксама пісалі й каб не было разыходу ў пісаньні па-ангельску. Далей, гэта форма пячаці, каб мы маглі на ўзор вашае зрабіць сваю ў Англіі. Вось, амаль два гады мне каштавала працы, каб сабраць сваіх людзей і залажыць беларускі праваслаўны прыход. Праўда, зьбіраліся й перад гэтым, але ў меншай колькасьці.

У сучаснасьці зьбіраецца больш людзей і мы ўжо выбралі Царкоўны Камітэт, Сястрыцтва й траст. Дзякаваць Богу, мілая атмасфэра пануе да гэтага часу й спадзяюся, што й надалей так будзе. Праўда, ёсьць яшчэ многа такіх, аддалёных ад царквы, якія баяцца прылажыць сваю працу, і такія дзеячы-актывістыя, якія не жадаюць, каб хтось імі ўпраўляў. Такіх тут ёсьць шэсьць чалавек зь нашага боку [ды] вуніяцкае духавенства й іхнія паплечнікі як Лашук, Навара й другія бунтаўшчыкі супраць нашага прыходу.

Мы з кожным разам становімся мацней і лепей у дзейнасьці нашага прыходу. Яны, [прыхаджане], ня слухаюць агітатараў.

Вось, калі Вы можаце, дык дапаможаце ў гэным, што я Вас прасіў. Я ведаю, што ў Вас таксама многа працы, але Вы ўжо зарганізаваныя й я чуў, што Вы скора пабудуеце сваю царкву. Гэта вельмі добра й няхай Вам Бог дапаможа ў Вашых стараньнях. Таксама чуў, што маеце кандыдата на епіскапа. Гэта таксама будзе вельмі добра мець свайго кананічнага епіскапа. Праўда, можа будуць і цяжкасьці, але Бог дапаможа нам і ў гэтым.

Прашу прыслаць вышэйуспомненае ў просьбе як найхутчэй. Калі маеце календары й „Царкоўны Сьветач", міласьці просім. Думаю, што ўжо й так многа напісаў [усялякіх просьбаў] аб помачы.

З любоўю да Вас
Ваш сабрат у Хрысьце
Сьвяшчэньнік Павел Вялікі

## № 2

[Арыгінал]

[Лёндан], 11 травеня 1969 г.

Хрыстос уваскрос!
Дарагі а. прот. Мікалай!

Дзякую за ліст, які, сапраўды, падняў мяне духова. Адносна пакананьня цяжкасьцяў пры арганізаваньні прыходу, дык яны ў поўнасьці яшчэ непакананыя:

1. Яшчэ ня маем свайго сталага месца царквы.
2. Няма сталага месца, дзе-б мы маглі-б зьбірацца на ўсялякія сходкі й г. д.

Справа рэгістрацыі прыходу ўжо ў дарозе – адвакат робіць. Калі аформіцца рэгістрацыя, то мы зможам лепей дзейнічаць: напрыклад, афіцыяльная зборка грошай на пакупку дому й т. п. Усё ідзе добра (хаця й паволі, але чэсна), дзякуючы еп. Мацьвею, які дапамагае мне ў многім. Але некаторыя нашы людзі сьляпыя й ня хочуць гэтага чуць і бачыць. Вось, каб яны бачылі, дык справа хутчэй была-б аформлена.

Праўда, вуніяты аселіся тут моцна, [бо] ім дапамагае Ватыкан і месныя каталікі. Яны маюць зарганізаваны свой асяродак, маюць некалькі дамоў і т.п. Прыхаджанаў яны ня маюць, толькі, пару паплечнікаў, якія трымаюцца іх. Вуніяты стараюцца нас пасварыць і разагнаць, каб мы нічога не зрабілі. Але мы зробім, бо ёсьць людзі, якія ацэньваюць маю працу ў рэлігійна-нацыянальным жыцьці. Вуніяты самі па сабе можа былі-б і нястолькі шкадлівыя, каб не нашы людзі самі. Яны, падтрымоўваючы [вуніятаў], даюць ім большае поле да папісу. Мы на іх увагі не зьвяртаем, а ім гэта найгорай баліць, што мы робім усё самі, без іхняй дапамогі. Яны ведаюць, што ў нас агульная атмасфэра спакойная, з брацкай любоўю, як у адной добрай Божай сям'і.

На адным зьездзе мы выбралі назоў прыходу – Сьв. апосталаў Пятра й Паўла. Але ўладыка Мацьвей пачаў казаць, чаму ня выбралі назоў у імя сьвятых зь Беларусі, што болей адпавядала-б справе і ў нацыянальным кірунку. Дзеля гэтага на другім зьездзе выбралі назоў прыходу Сьв. Еўфрасіньні. Калі зможаце, прышліце цэлую службу з акафістам Сьв. Еўфрасіньні й Прэпадобнаму Афанасію.

„Царкоўны Сьветач" палучыў, за што шчыра дзякую.

„Вялікі Зборнік" я маю чэшскага выданьня. Цешыць мяне моцна, што ў Вас усё ідзе добра. [...].

Адносна матар'ялу ў „Царкоўны Сьветач" да Вялікадню, то я не мог нічога зрабіць. Вельмі быў заняты й да гэтага не падшыкованы. Спадзяюся зрабіць пару здымкаў. Гэта будзе на ўгодках Другога Кангрэсу

й на фэсьце Пятра й Паўла, які адбудзецца ў ліпені 1969 году. На ім будзе служыць арх. Афінагор, еп. Мацьвей і другое духавенства. Таксама будзе прысутнічаць духавенства ангельскае. Тады будзе больш матар'ялу.

Выбачайце, што пішу так позна. Зьбіраўся пісаць некалькі разоў і ўсё былі нейкія перашкоды. Усё самому трэба зрабіць, пачаўшы ад паведамленьняў грамадзкіх і царкоўных. А я-ж сам хаджу да працы, дык вельмі мала часу, асабліва ў гэтым годзе. Перад Вялікаднем, дзе найбольш працы, мая матушка захварэла й яшчэ хварэе.

7 красавіка 1969 году памёр адзін з маіх прыхаджанаў, а ён быў сваяком еп. Афанасія. Таксама трэба было дапамагчы ўдаве. Хараніў яго я 14 красавіка 1969 году. Пасьля другія справы. І так з дня на дзень. А час ляціць скора. Вы самі ведаеце як ёсьць, калі аднаму трэба глядзець за кожнай справай.

Дарагі а. прот. Мікалай, маю яшчэ просьбу, якая датычыць іерэйскага наперстнага крыжа. Можа ў Вас часам ёсьць запасовы? А можа ў вас у ЗША лягчэй знайсьці, каб мець выгляд праваслаўны? Бо тут крыжа няма. Іконку Сьв. Еўфрасіньні, што Вы прыслалі, магла-бы быць, каб была каляровая й большая.

Вітаю Вас і Вашу сямейку й жадаю Вам усяго найлепшага.

З любоўю ў Хрысьце
Сьвяшчэньнік Павел Вялікі

**№ 3**

[Арыгінал]

[Лёндан], 5 кастрычніка 1971 г.

Дарагі а. прот. Мікалай!

Прайшло ўжо спора часу ад нашай візыты ў Вас. Прабачце мне, што я так доўга не пісаў, але было многа ўсялякіх повадаў як дамашніх, так і другіх.

Мы шчыра дзякуем Вам і матушцы за так мілае гасьцепрыімства, якое Вы аказалі для нас. Гэта, сапраўды, была вялікая радасьць для нас сустрэць сваіх беларускіх змагароў за сваю веру й Бацькаўшчыну. Мы духова сталі мацнейшыя. Праўда, гэта быў вельмі кароткі час і мы не маглі абгаварыць усіх спраў рэлігійных і нацыянальных, але шчыра дзякуем за ўсё, што было.

Дарагі а. Мікалай, я хачу паведаміць Вас аб некаторых праблемах адносна нашага разьвіцьця ў Англіі.

Мы, праўдападобна, маем магчымасьць у Лёндане дастаць царкву. Тады наша рэлігійна-грамадзкае жыцьцё наладзілася-б хутчэй і лепей ня толькі ў Лёндане, але і ў Англіі наагул. Я прашу дапамогі [ў Вас] альбо ў вашага Кангрэсавага Камітэту (як будзе лепей).

У нас зьяўляюцца праблемы ў большай частцы Вам ведамыя. Мая просьба дапамагчы разьвязаць іх і парадзіць у гэтай справе.

Як Вам ведама, у Англіі ёсьць еп. Мацьвей, які афіцыяльна ачольвае Праваслаўную Царкву з Польшчы й зрачыся гэтага ня хоча. Усім гэта добра ведама, але многім нашым людзям такі стан рэчаў не падабаецца, што тармазіць нашаму разьвіцьцю ў рэлігійным напрамку. Арх. Афінагор упаважніў еп. Мацьвея ўпраўляць таксама й беларусамі й другімі славянамі, якія падлягаюць да грэкаў. І мы мусім у многіх рэчах зьвяртацца да еп. Мацьвея, бо яго ўпаўнаважыў арх. Афінагор.

Я думаю (а можа памыляюся), што еп. Мацьвей лічыць нас неафіцыяльна за свой польскі прыход. Можа гэта няпраўда, але вычуваецца ягоная думка. Нашай абавай ёсьць тое, што калі нам надарыцца магчымасьць набыць царкву, дык ён можа мець прэтэнзіі ці ўплыў, бо ён зьяўляецца епіскапам і мы (ня хочучы) павінны яму падлягаць, хаця многія лічаць, што мы падлягаем беспасярэдне грэкам. Мы ня маем нічога супраць яго ў маліцьвенных суадносінах. Што праўда, ён спецыяльна нічога й не мяшае, бо пакуль няма чаму мяшаць. Але сытуацыя зьменіцца, калі мы штось здабудзем.

Мая просьба да Вас наступная. Калі па Вашаму разгляду было-б гэта магчыма, а можа лепей было-б, каб Вы зрабілі гэта праз Кангрэсавы Камітэт, не ўспамінаючы майго прозьвішча. Напішыце да арх. Афінагора, каб ён нас афіцыяльна ўключыў беспасярэдне пад сваю апеку. Тады многім можна будзе сьмела казаць, што наш прыход поўнасьцю падлягае грэкам, а я мог-бы быць як адміністратарам нашай царквы на Англію. Вось тады мы змаглі-б спыніць дзейнасьць вуніяцкую й крытаўскую, які ўмаўляў некаторых, што ён кананічны. Толькі, барані Божа, не падумайце, што я праз гэта хачу здабыць нейкае падвышэньне. Не. Я хачу толькі й выключна дабра для нашай агульнай рэлігійна-грамадзкай справы й думаю, што так і Вы гэта разумееце.

Апісаць зьбольшага адносіны палякаў да праваслаўных і што яны рабілі няма сэнсу. Усё яно засталося глыбока ў памяці нашых людзей. Таму яны не жадаюць падлягаць назову польскаму. Многія беларусы з Англіі зьвяртаюцца да Вас, каб Кангрэсавы Камітэт дапамог у гэтай справе й т. д. Як паводле Вашай думкі гэта справа можа быць зроблена? Ці пакінуць усё так, як яно пакуль ёсьць цяпер?

Дарагі а. Мікалай, калі будзеце што пісаць да арх. Афінагора дык прашу не ўспамінайце, што гэта я прашу, а тое, што просяць людзі з Англіі.

Калі будзеце штось пісаць, паведамце, калі ласка. Усё, што я Вам напісаў, няхай будзе толькі паміж намі, бо гэта прыватны зварот і просьба да Вас.

Яшчэ раз шчыра дзякуем за ўсё й за рэчы, якія Вы мне падарылі.

Я чуў, што ў Вас недалёка ёсьць манастыр, у якім знаходзіцца ігумен Генадзі Еўкаловіч. Ён, праўдападобна, мае намер адысьці ад расейцаў і Вы маглі-бы зь ім скантактавацца. Можа ён і быў-бы добрым кандыдатам у епіскапы. Каб мог ачоліць нашу Царкву на эміграцыі. Ніжэй падам ягоны адрас.

Жадаем Вам і Вашай дамашняй царкве ўсяго найлепшага.

З любоўю да Вас у Хрысьце
Сьвяшч.[эньнік] П. Вялікі

## Ліставаньне з Дз. Касмовічам

Лісты да Дз. Касмовіча

### № 1

[Копія]

[Саўт Рывэр], 5 студзеня 1965 г.

Паважаны спадар Дз. Касмовіч!

Пры гэтым лісьце дасылаем Вам пастановы Зьезду й копію ліста да арх. Афанасія. Адначасна пры гэтым інфармуем, што Зьезд быў беларусаў ЗША й Канады. Пажаданым ёсьць, каб падобны зьезд адбыўся ў Нямеччыне й каб беларусы таксама прынялі пастановы ў гэтай справе ды даслалі нам або непасрэдна арх. Афанасію, перасылаючы нам копію.

З пашанай да Вас
Протапр. М. Лапіцкі

### № 2

[Копія]

[Саўт Рывэр], 5 лютага 1969 [г.]

Паважаны сп. Касмовіч!

Учора я атрымаў ліст ад епіскапа Мацьвея з Англіі. У гэтым лісьце ён прапануе, каб мы падыскалі кандыдата й ён дапаможыць рукапалажыць яго ў сан сьвяшчэньніка, які-б абслугоўваў беларусаў ў Нямеччыне.

Зразумела, рукапалажыць ён можа сам, але каб не было лішняй гутаркі на яго просьбу рукапалажэньне выканаў-бы экзарх Канстантынопальскай Патрыярхіі ў Англіі.

Пішу Вам, каб Вы самі падумалі над гэтым і далі сваю прапанову. Кандыдата з падгатоўкай апрача Вас зразумела знайсьці цяжка. Сягоньня беларусаў абслуговывае арх. Філафей, але Руская Зарубежная Царква нас, беларусаў, не прызнае як нацыю й гэтай апекі хацелася-б пазбавіцца.

Як ён піша, немцы напэўна дадуць 500 марак „пасобія" і 200 марак на разьезды ў месяц.

Калі гэта можа быць рэальнасьцю, дык спаслаўшыся на мяне, спалучыцеся самі беспасрэдна зь еп. Мацьвеем. З свайго боку я заўсёды падтрымаю гэту справу, калі падтрымка гэта будзе патрэбна. Адрас еп. Мацьвея залучаю ніжэй.

З любоўю ў Хрысце
[Протапр. М. Лапіцкі]

Лісты да а. М. Лапіцкага

## № 1

[Арыгінал]

Штутгарт, 28 сьнежня 1969 г.

Высокапаважаны а. Мікалай!

Шчыра вітаю Вас і ўсіх Вашых з Калядными Сьвятамі й Новым Годам. Жадаю Вам і ўсёй Вашай сям'і шмат здароўя і ўсяго найлепшага. Жадаю Вам шмат посьпехаў у Вашай царкоўна-грамадзкай працы.

Дзякую за паведамленьне аб прапанове ўладыкі Мацьвея дапамагчы арганізаваць беларускую парафію ў Нямеччыне. Каб гэта было рэальна, дык мы-бы даўно з дапамогаю Усяленскага патрыярха гэта зрабілі. На жаль, цяпер арганізаваць беларускае царкоўнае жыцьцё ў Нямеччыне ня ёсьць лёгка й амаль немагчыма.

Свайго часу, яшчэ ў 1957 годзе, гэта была лёгка зрабіць. У гэтым кірунку я рабіў вялікія захады. Ад адпаведных царкоўных і дзяржаўных чыньнікаў я атрымаў зразуменьне, падтрыманьне й згоду даць для беларускага праваслаўнага епіскапа сабор у Штутгарце й матар'яльную дапамогу. Навязаў лучнасьць з уладыкам Філафеем. Ён некалькі разоў быў тут. Але, на жаль, нашы епіскапы ня выкарысталі гэтай магчымасьці

й дзеля гэтага ў „Барацьбе" № 6–7 (22–33) за 1957 г. на гэту тэму быў зьмешчаны артыкул пад назовам „Сумныя вынікі".

Цяперачы нашыя суродзічы пераважна ўсе старыя й раскіданыя па ўсёй Нямеччыне. Вельмі цяжка правесці іх аб'яднаньне ў адну праваслаўную беларускую абшчыну. Пішу Вам так, як гэта тут выглядае.

Яшчэ раз дзякую Вам за турботы.

У Англіі я падтрымоўваю а. Паўла Вялікага, якога рукапалажыў Канстанцінопальскі патрыярх праз свайго экзарха, а належыць да епіскапа Мацьвея. Гэта малады, у параўнаньні, сьвятар каля 43 гадоў. Я быў у прошлым годзе ў Лёндане й гутарыў зь ім. Яму нялёгка там, бо належыць да еп. Мацьвея й дзеля гэтага крывічы гэта выкарыстоўваюць, каб ад яго адбіць вернікаў. Апрача таго там моцнае вуніяцкае гняздо. Я яго грамадзка-царкоўна падтрымаў і падтрымоўваю. Ён хоць належыць да еп. Мацьвея, праводзіць царкоўна-нацыянальную працу й супрацьставіцца вуніятам, якія ў Лёндане маюць свой цэнтр зь Сіповічам на чале. У апошнім нумары „Барацьбы", якую я выслаў на адрас г-ра Б. Шчорса, пішацца аб дзейнасьці гэтага маладога сьвятара, якога я лічу трэба падтрымаць.

Як выглядае справа царкоўнага беларускага кіраўніцтва, хіратонія епіскапа, аб чым апошне гаварылася й г.д.? Мяне гэта цікавіць.

Дзякую за падтрымку ў грамадзкай справе. Раблю ўсё, што магу, але, на жаль, БЦР ёсьць замарожаная й гэта ёсьць вялікай перашкодай у працы. Неабходна хоць у найважнейшых, каардынацыйных і рэпрэзэнтацыйных пытаньнях ўзнавіць дзейнасьць БЦР.

Шчыра Вас вітаю
З пашанаю Д. Касмовіч

## Ліставаньне зь І. Касяком

Лісты да а. М. Лапіцкага

### № 1

[Арыгінал]

Бруклін, 1 студзеня 1961 г.

Прэблагі Отчэ!

Дзякую за прысланы апошні „Сьветач". Належыць разаслаць яго як найшырэй сярод беларусаў, па бібліятэках, іншанацыянальных арганізацыях, газэтах беларускіх і іншанацыянальных. Адрасы мае сп. Сенька,

якому я даваў для рассылкі матар'ялаў Кангрэсавага Камітэту. Калі ня зможаш дастаць патрэбнай колькасьці адрасоў, то я змагу перапісаць для цябе, але гэта забярэ ладне часу. Асабліва належыць абслужыць украінскі сэктар, бо-ж гэта яны так „дапамагаюць" малодшым братом-беларусом і трэба, каб украінская грамада ведала й аб поглядах беларусаў адносна такой „дапамогі". Пашлі ў украінскія газэты: „Народную Волю", „Свабоду", „Прамэтэй", вуніяцкую газэту ў Філядэльфіі, „Украінскія Вісті" у Ульме (Нямеччыне) і інш. Адрасы мае сп. Сенька.

Дай сп. Сеньку для пашырэньня сярод „крывічоў" часапіс і адозву.

Для мяне прышлі нейкіх 10 экз. часапісу й з 80 экз. адозвы, якія будуць патрэбныя пры арганізацыі беларускага праваслаўнага прыходу тут, у мітрапалітальнай акрузе Нью Ёрку.

Канечне трэба перахажыць на ангельскую мову адозву й адбіць акуратна на ратагары з 50 экз. для рассылкі па пратэстанцкіх і каталіцкіх цэнтральных установах і часапісах, а перадусім, у Ватыкан, арганізацыі Хрысьціянскіх Цэркваў у Амэрыцы з а. Блэкам на чале ды інш. Добра будзе далучаць і беларускі тэкст адозвы да ангельскага, для папулярызацыі беларускае мовы, як асобнай ад расейскай.

Словам, належыць прылажыць стараньняў для як найшырэйшага выкарыстаньня гэтых матар'ялаў.

Сп. Кухарчык паступіў няправільна, зьмяшчаючы маё прозьвішча пад пратаколам, апублікаваным у „Барацьбе", ня даўшы магчымасьці мне прачытаць гэтага пратаколу й ня маючы майго подпісу пад ім, бо-ж я яго не падпісваў. Відаць, ён уважаў, што самой прысутнасьці на зьезьдзе хапіла для скарыстаньня пазьней ім самым прозьвішча прысутнага для замяшчэньня пад пратаколам. Прыпушчаю, што й сп. Пунтус не чытаў і не падпісваў апублікаванага пратаколу. Звычайна так ня робіцца. Але ад нашае грамады цяжка дамагацца агульна прынятых формаў пры палагоджваньні больш скамплікаваных спраў агульнага характару, бо-ж яна ня мела магчымасьці расьці й засвойваць гэтыя формы ў належным асяродзьдзі, а добра, што захоўвае шчыры нацыянальны беларускі характар. Таксама цяжка вымагаць ад асоб, якія былі сакратарамі зьезду, каб яны стэнаграфічна дакладна перадалі прабег зьезду. Яны-ж ня маюць такой падрыхтоўкі. Тут трэба было-б толькі ўзгадніць тэкст пратаколу перад апублікаваньнем, каб згладзіць гострыя куты ды належна ўняць асноўныя пытаньні.

Я не прыпушчаю, каб сп. Кухарчык хацеў штосьь падаць адбежна ад пратакольных запісаў, ці фактычнага прабегу зьезду. Маю ўражаньне, што ён збыт літаральна трымаўся тэксту запісаў чарнавіка пратаколу й таму апублікаваны пратакол мае ладне недахопаў, вынікаючых з хібаў запісаў.

Адносна апісаньня выступленьня сп. Манькова, аб якім ты пішаш, то, наколькі мне служыць памяць, апублікаваны пратакол падае дакладна словы сп. Манькова. Я памятаю гэтую недакладнасьць выражэньня на зьездзе й тады прыпушчаў, што хтось з духаўнікоў забярэ голас па гэтай справе. Сп. Сенька, які быў сакратаром зьезду, зможа даць свае ўражаньні адносна гэтага выражэньня. Пратакольныя чарнавікі знаходзяцца ў сп. Кухарчыка й ён зможа прыслаць фотастат з запісу гэтага месца, калі цябе гэта так цікавіць.

Наагул, у нашае грамады так шмат недакладнасьцяў, што каб іх праставаць, то на гэта пайшоў-бы ўвесь вольны час. А які сэнс?

З пашанай
І. Касяк

## № 2

[Арыгінал]

[Нью Ёрк], 27 лютага 1962 г.

Паважанаму айцу протапрэсьвіцеру М. Лапіцкаму
Саўт Рывэр, Н. Дж.

На нарадзе 25 лютага ў Саўт Рывэры пастаноўлена сьвяткаваць сёлетні юбілей незалежнасьці БНР у Нью Ёрку. На прамоўцу запрашаецца сп. Р. Астроўскі, пакрыцьцё коштаў падарожжа якому зьбірае сп. А. Занкавіч.

Найгорш прадстаўляецца справа з мастацкай часткай. Спадары А. Евец і Барысавец, якіх я наведаў тады-ж, адмовіліся падрыхтоўваць мастацкую частку. Можа будзе магчыма Табе асабіста палагодзіць гэту справу якнебудзь. Можа сп. Верасаў згадзіўся-б з царкоўным хорам, што было-б яму вельмі лёгка выканаць. Ён-жа калісь выступаў на нашых акадэміях. Нацыянальныя гімны (амэрыканскі й беларускі) ды некалькі нацыянальных беларускіх песьняў, ведамых з ранейшых выступленьняў, цалкам задаволяць патрэбу. Будзь ласкаў і прылажы руку да гэтай справы, паразумеўшыся са спадарамі Б. Шчорсам і М. Сенькам, бо пахне правалам.

Пастаноўлена прасіць Цябе адслужыць малебен і сказаць адпаведнае слова ў царкве ў Саўт Рывэры. Малітву на пачатку акадэміі таксама прыпадае сказаць настаяцелю царквы ў Саўт Рывэры.

Для арыентацыі залучаецца копія ліста да губарнатара штату Нью Ёрк па справе праклямацыі Беларускага Дня Незалежнасьці. Пажадана, каб ад Галоўнай Управы ЗБ-АДКамітэту былі зробленыя адпаведныя захады перад губарнатарам штату Нью Джэрсі па тэй-жа справе. Добра было-б зрабіць падобныя захады й перад мэрам Саўт Рывэру, ды каб ён вывесіў беларускі нацыянальны сьцяг на ратушы побач амэрыканскага ў дзень 25 сакавіка. У Пассэйку ўжо некалькі разоў беларускі сьцяг разьвяваўся на ратушы.

З пашанай
І. Касяк

Залучнік № 1.

П.С.: Можа залучыш да ліста губарнатару па справе праклямацыі леташні кангрэсавы рэкорд на Дзень Беларускай Незалежнасьці, які можна дастаць у сп. Сенькі.

## № 3

[Арыгінал}

Бруклін, 8 траўня 1962 г.

Прэблагі Отчэ!

У адказ на твой ліст перадусім дзякую за параду расслаць фатаграфіі. Аднак я зь яе не скарыстаю. Пытаньні трэба вырашаць у корані, а не пэрыфэрыйна. Належыць выкінуць усаджанага табой русацяпа, а даць беларуса, які абслугоўваў-бы справу з розных бакоў.

Пішаш аб пацяшаючым тваім першым служэньні ў Пассэйку й аб грашох, аднак абмінаеш справу арганізацыйных захадаў аб трываласьці прыходу. Не ўспамінаеш стварэньня Царкоўнага Камітэту, ані захадаў аб пастаянным сьвятару, што маглі-б забясьпечыць і самі пассэйкаўцы, калі-б іх заахвочваць да ініцыятывы. Асабістымі захадамі ня шмат можна зрабіць і трэба, каб іншыя працавалі, а не спадзяваліся толькі на цябе.

У Нью Ёрку няма нашых царкоўных людзей, якія хацелі-б узяцца за арганізацыйную працу каля мясцовага прыходу. Саўчыцавы (за выняткам сям'і Пётры Даніловіча) выехалі насталa ў штат Майн.

Належыла-б табе высьвятліць справу тактыкі грэкаў да нас у арх. Палладзія, які можа быць у курсе справы, або ў настаяцеля грэцкага сабору, калі ён захоча шчыра пагутарыць. Непасрэдныя гутаркі з а. Цімафеем нічога не даюць. Зараз у мяне цяжкавата з вольным часам,

ты-ж чапляешся за мяне, каб ісьці з табой разам. У пачатку ліпеня я буду мець 2 тыдні водпуску, тады можна будзе абхадзіць патрэбныя ўстановы. Калі маеш іншага перакладчыка, то я магу на любы дзень і зараз дамовіцца аб візыце для цябе з а. Цімафеем.

З Саўт Рывэру не здабыліся сабраць дэлегацыю ў 6 чалавек на Парад Лёяльнасьці, удзел у якім мы задэкляравалі й аб чым было выдрукавана ў праграме параду. Там былі пададзены арганізацыі: Бел.[арускі] Кангр.[эсавы] Камітэт Амэр.[ыкі], Задз.[іночаны] Бел-Амэр.[ыканскі] Дапам.[аговы] Камітэт і Арганіз.[ацыя] Бел-Амэр.[ыканскай] Моладзі. Ніхто не зьявіўся, хаця аб гэтым шмат наперад я паведамляў і прасіў аб падрыхтоўцы. Дэманструем сваё шарлатанства, і то ўжо другі год.

Мне не здаровіцца, нэрвы расшаталіся, узмоцнілася дэкампэнсацыя сэрца. Патрэбен супакой і ўніканьне ўсякіх ірытацыяў. У бліжэйшым часе прыдзецца адмовіцца ад усякіх грамадзкіх нагрузак.

З пашанай
І. Касяк

## № 4

[Арыгінал]

[Нью Ёрк], 12 жніўня 1962 г.

Паважанаму айцу протапрэсьв. М. Лапіцкаму ў Саўт Рывэры

Зьезд беларусоў Амэрыкі й Канады ў Кліўлендзе будзе належна выкарыстаны для царкоўнай справы, калі апроч сьвецкіх пытаньняў там будзе парушана з агульнага пункту гледжаньня й арганізацыйнае царкоўнае пытаньне, датычучае ўсю нашу эміграцыю. Пайменна, справа епіскапату для нашай Царквы, як і справа арганізацыі далейшых прыходаў.

Было-б вельмі пажадана, каб у панядзелак, дня 3 верасьня, там-жа, у Кліўлендзе, адбылася хаця-б вузкая нарада, зложаная з духавенства, прадстаўнікоў царкоўных камітэтаў і прадстаўнікоў ад паасобных сьвецкіх арганізацыяў. Сп. Р. Астроўскі, прыпушчальна, прымае таксама ўдзел. Нараду належала-б склікаць на раньнюю гадзіну дня, прымаючы пад увагу неабходнасьць хуткага выезду ўдзельнікаў.

Ці такую нараду лепш склікаць зараз адгэтуль, ці ўжо там на месцы, у форме абмену думкамі, гэта справа Вашае кампэтэнцыі. Аднак сама нарада можа даць толькі карысьць, і таму вельмі пажадана, каб яна адбылася.

З глыбокай пашанай
І. Касяк

## № 5

[Арыгінал]

[Нью Ёрк], 30 студзеня 1963 г.

Прот. М. Лапіцкаму ў Саўт Рывэры
Паважаны а. протаіерэй!

У адказ на ліст з дня 28 студзеня б. г. гэтым даводзіцца да Вашага ведама наступнае:

1. Малітвы ў Палаце й Сэнаце ў Вашынгтоне ніколі не выпадаюць у той самы дзень і не чытаюцца тым самым духаўнікам. Таму мы панаўляем ранейшую прапанову аб прачытаньні сёлета малітвы Вамі ў Палаце. У Сэнаце малітву прачытае духаўнік другой стараны. Просьба як найхутчэй паведаміць нас аб Вашым вырашэньні гэтай справы, дзеля пільнай неабходнасьці палагоджваньня захадаў у гэтай справе перад афіцыйнымі дзейнікамі.
2. Малітвы на акадэміі могуць быць прачытаныя толькі двумя старанамі, напр.: аднэй стараной – на пачатку, а другой – на канцы акадэміі. Нельга дапусьціць да супрэмацыі аднэй стараны праз адчытаньне толькі ей малітвы. Просьба паведаміць аб Вашым вырашэньні гэтай справы. Калі ня дойдзе да ўзгадненьня адчытаньня малітваў на акадэміі двумя старанамі, то прыдзецца абмежавацца да рэлігійнага гымну, ці малітвы ў выкананьні хору.

З пашанай
І. Касяк

## № 6

[Арыгінал]

[Нью Ёрк], 4 лютага 1963 г.

Паважанаму а. М. Лапіцкаму ў Саўт Рывэры

Справа: Ваш ліст з дня 1 лютага 1963 г. у справе 25 Сакавіка.

Прынцыповая ўстаноўка, прынятая на каардынацыйнай нарадзе адносна раўнараднага трактаваньня абоіх старон (БККА й БАЗА) пры ладжаньні сёлета супольнага сьвяткаваньня 25 Сакавіка ў Нью Ёрку, зьяўляецца адзінай магчымай.

Удзел царкоўных арганізацыяў ад абоіх старон (праваслаўных, каталіцкіх, ці іншых, выбар якіх пакідаецца кожнай старане), пастаноўлена

таксама трактаваць раўнарадна. Кожны з бакоў мае адчытаць малітву ў Вашынгтоне: адзін бок – у Палаце, а другі – у Сэнаце. Кожны з бакоў мае адчытаць малітву на салі акадэміі, то тады малітву, ці рэлігійны гымн выканае хор, адхіляючы, такім чынам, супрэмацыю якойсь стараны.

Арганізацыйны бок адчытаньня малітвы ў Вашынгтоне кожная старана палагоджвае сама. Нам трэба будзе зьвярнуцца ад сьвяткавальнага аддзелу ў Саўт Рывэры, ці ад мясцовага аддзелу БККА (месца пражываньня прапанаванага для малітвы духаўніка) да мясцовага кангрэсмэна з просьбай, каб ён згадзіўся быць спонсарам гэтай справы ў Кангрэсе й правёў яе. Іншы шлях у гэтай справе – зьвярнуцца да іншага, знанага нам кангрэсмэна з просьбай, каб ён сам зьвярнуўся да кангрэсмэна акругі, дзе пражывае прапанаваны духаўнік, каб гэты мясцовы кагрэсмэн прыняў спонсарства малітвы ад дадзенага духаўніка.

Выступленьне з малітвай у Кангрэсе мае вялікае значэньне й мы не павінны ад гэтага адмаўляцца.

Другая старана палагоджвае свой удзел адносна малітвы ў Сэнаце цалкам незалежна. Ані даты малітваў не супадуць, ані месцы, бо Палата й Сэнат знаходзяцца ў розных будынках.

Калі царкоўныя камітэты ня возьмуць на сябе выдаткаў, зьвязаных з малітвамі ў Вашынгтоне, то прыдзецца іх пакрыць з агульных сьвяткавальных фондаў.

На заканчэньне зьвяртаецца ўвага, што час для палагоджваньня гэтай справы кароткі й вымагае неадкладных захадаў.

З пашанай

І. Касяк

## № 7

[Арыгінал]

Бруклін, 20 студзеня 1965 г.

Паважаны Отчэ!

У адказ на твой апошні ліст паведамляю, што адпаведнага ўзору для мэмарандуму па рэлігійнай справе ў мяне няма. Матар'ялы для такога мэмарандуму, для ранейшага пэрыяду часу, можна выбраць з „З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу", як і з „Царкоўнага Сьветача". Аб бягучым уціску рэлігійнага жыцьця савецкімі ўладамі на Беларусі падаваліся матар'ялы ў мэмарандумах агульнага характару, высыланых БККА кангрэсмэнам кожнага году. Экзэмпляры іх хіба мае сп. Сенька.

Аб прасьледваньні рэлігіі на Беларусі ў апошнія часы, як і аб сучасным стане Праваслаўнай Царквы, можна выбраць матар'ялы нават з савецкіх публікацыяў: газэта „Зьвязда", часапіс Маскоўскай Патрыярхіі, падаючы дадзеныя ў рэлігійным насьвятленьні.

Па прыезьдзе арх. Апанаса ў бліжэйшым часе зь ім належыла-б зрабіць спатканьне для абмену поглядамі вузкага грамадзкага актыву, якіх 7 – 8 асоб, зрабіўшы у каго-небудзь гарбату, ці вячэру. Калі ня знойдзецца адпаведнага месца ў Саўт Рывэры, то спадзяюся, што сп. А. Плескачэўскі згодзіцца зрабіць такое прыняцьце ў сябе. Можа запрасіць наступных асоб: Ты, дыяк. Коўш, ад Царкоўнага Камітэту – Сенька, Цярпіцкі, ад БККА – я, А. Плескачэўскі, Б. Шчорс. Дай твой погляд адносна гэтага.

Калі арх. Апанас дэфінітыўна згодзіцца ачоліць нашу Царкву, то яму належыць арганізаваць агульна-прыходзкае спатканьне з агульным сталом, можа мастацкай часткай рэлігійных сьпеваў і нацыянальных мэлёдыяў і г.п. Зрэшты, табе лепш відаць, як належыць выявіць прыхільнасьць у такім выпадку.

З пашанай

І. Касяк

## № 8

[Арыгінал]

Бруклін, 21 кастрыч.[ніка] 1965 г.

Прэблагі Отчэ!

Пры гэтым перасылаю 4 адбіткі прэлімінарнага пляну парцэлі, якую мы мерылі ў мінулую нядзелю. Напішы нумар дому гэтай парцэлі ў правым кутку зьнізу ў адпаведным месцы, бо я забыўся запісаць яго. Прыпушчаю, што гэты плянік паможа высьветліць у гарадзкой управе магчымасьць пабудовы царквы пры існуючых там зонных пастановах.

Сп. Сенька ведае суседа гэтай парцэлі. Хіба ад гэтага суседа можна даведацца аб тым, хто зьяўляецца собсьнікам, спадкаемцам ці пленіпатэнтам па ліквідацыі гэтага спадку. Належыць яго адшукаць і ўвайсьці зь ім непасрэдна ў зносіны адносна торгу і, эвэнтуальна, куплі гэтай нерухомасьці. Гэта дасьць магчымасьць абмінуць пасярэднікаў-брокэраў і заашчадзіць некалькі тысяч даляраў. Калі табе асабіста нельга гэтым

заняцца, то націсьні на камітэт, каб ён неадкладна приступіў да гэтай справы, калі парцэля адпавядае патрэбам прыходу й калі бальшыня прыхаджанаў захочыць яе купіць. Нельга задоўга цягнуць, бо можа нехта перакупіць, а надыйшоўшая зіма можа пашкодзіць будынак, які без належнага дагляду хутка прыдзе ў стан нягоднасьці. Цяпер гэты будынак у добрым стане, належыць толькі спраўдзіць аграваньне, сьвятло, газ, вадаправоды, каналізацыю. Зрэшты, усе вы там ужо добрыя спэцыялістыя па гэтых бытавых пытаньнях.

Жадаю найлепшых посьпехаў.

З пашанай
І. Касяк

## № 9

[Арыгінал]

Бруклін, 11 кастр.[ычніка] 1966 г.

Прэблагі Отчэ!

Прыходы Брукліну й Кліўленду выслалі пратэсты супроць высьвячэньня Мацукевіча на рукі арх. Іларыёна ў Канаду. Было-б добра, каб і ты, а таксама духаўнікі нашых цэркваў з Чыкага й Таронта таксама выслалі на рукі арх. Іларыёна свае пратэсты з выясьненьнямі. На пастрыжэньні ў манахі прысутнымі былі 75 % каталікоў, а 25 % праваслаўных толку арх. Васіля. Зразумела, што высьвячаюць Тамашчыкі-Рагозы кандыдата на ролю Кунцэвіча. Аб высланьні лістоў прасіў сп. В. Юрцэвіч.

Як відаць, развага бярэ гару над гарачнасьцяй. Сп. Юрцэвіч уважае, што нам трэба праводзіць падрыхтоўку для зьліцьця епархіяў і стварэньня Беларускай Аўтакефальнай Царквы на парытэтных асновах. Найлепш, высьвячаць абоіх епіскапаў: арх. Строка й а. Крыта адначасна, каб унікнуць крыватолкаў і рознагалосьсяў, на чым будуць жыраваць вуніятствуючыя. Дзеля гэтага яны будуць чакаць прыезду нашага кандыдата, каб адначасна рабіць супольныя захады.

Учора еп. Васіль паведаміў, што прыдзецца адлажыць рукапалажэньне Мацукевіча, бо арх. Іларыён паведаміў, што ён нездаровы й ня зможа адбыць падарожжа ў 1000 міль дзеля гэтай мэты. Такім чынам, вызначаны раней тэрмін 30 кастрычніка б. г., як відаць, перасоўваецца на пазьней. Належыць скарыстаць гэты час і выслаць хутчэй пратэсты ад нашага духавенства супроць вуніяцкага падлогу.

З пашанай
І. Касяк

## № 10

[Арыгінал]

[Бруклін], 24 студзеня 1967 г.

Паважанаму айцу протапрэсьвіцеру М. Лапіцкаму
Саўт Рывэр, Н.Дж.

Вельмі просім Вас зрабіць неабходныя захады перад губарнатарам Вашага штату й мэрам Вашага гораду аб выданьні імі праклямацыі, абвяшчаючай дзень 25 сакавіка 1967 г. „Беларускім Днём Незалежнасьці". Да гэтых захадаў належыць залучыць стараньні аб вывешаньні ў дзень 25 сакавіка 1967 г. на ратушы гораду беларускага нацыянальнага сьцягу.

Для Вашае ветлівае ўвагі залучаецца копія ліста да губарнатара штату Нью Ёрк па цікавячай справе. Адначасна просім Вас зрабіць, па магчымасьці неадкладна, захады аб чытаньні малітвы ў Палаце Рэпрэзэнтантаў у Вашынгтоне. Гэтыя захады належыць рабіць праз мясцовага кангрэсмэна й непасрэдным лістом да капэляна Палаты.

З пашанай
І. Касяк

## № 11

[Арыгінал]

[Бруклін], 2 жніўня 1967 г.

Яго Міласьці
Паважанаму айцу протапрэсьвіцеру М. Лапіцкаму

Саўт Рывэр, Н.Дж.

Вельмі просім Вас прыняць удзел у зьездзе беларусоў Амэрыкі й Канады ў 1967 г., адправіць багаслужэньне й выступіць з дакладам на паседжаньні зьезду. Пажаданая тэма дакладу: 50 год прасьледу Беларускай Праваслаўнай Царквы, як і іншых рэлігіяў на Беларусі, уладамі савецкай Расеі.

Паседжаньне пасьвечанае 50-годзьдзю акупацыі Беларусі савецкай Расеяй.

Зьезд адбудзецца ў нядзелю 3 верасьня ў рэсорце „Бэлэр-Менск", Глен Спэй. Парадак дня:

10:00 г. ран. – Багаслужэньне.
12:00 г. дня – Паседжаньне зьезду.

3:00 г. дня – Супольны палудзень.

6:00 г. веч. – Канцэрт хору „Каліна".

Ветліва просім Вас, па магчымасьці, у бліжэйшым часе паведаміць аб Вашым вырашэньні.

З глыбокай пашанай
І. Касяк

## № 12

[Арыгінал]

Бруклін, 7 жніўня 1967 г.

Прэблагі Отчэ!

Ліст з дня 4 жніўня я атрымаў, але мой ліст з дня 2 жніўня (па справе зьезду) яшчэ не дайшоў да цябе. Калі не атрымаеш, то хутка паведамі.

Зьезд склікаюць: БККА Амэрыкі, БА Аб'яднаньне (гр. Мерляка) і Бел.[арускае] Нац.[ыянальнае] Аб'яднаньне ў Канадзе.

Калі ня бачыш лепшым склікаць адумысловы сход па справе 25-годзьдзя Ўсебеларускага Праваслаўнага Аўтакефальнага Сабору ў Менску аб іншай даце, то можна адзначыць яго й на гэтым зьездзе малебнам, адпаведным словам, а таксама і ў дакладзе на паседжаньні.

Гр. Мерляк паведаміў мяне, што ўправа „Бэлэру" пастанавіла не даваць бясплатнага памешканьня духаўнікам, прыяжджаючым туды для багаслужэньняў. Хто ўнёс такую прапанову й чаму, я ня ведаю й магу толькі прыпушчаць. Навядзі спраўкі аб гэтым у Саўт Рывэры, аднак прымі да ведама гэту пастанову.

Вельмі добра, што палагодзілі фінансавы бок справы для ігумэна. А. Крыт і іг. Строк табе ведамыя лепш, чым каму-небудзь іншаму як з пункту гледжаньня іх асьветнай, так практычнай падрыхтоўкі ды асабістых якасьцяў для намечаных становішчаў. Трэба спадзявацца, што табе прыдзецца гуляць важнейшую ролю ў дзейнасьці аб'яднанай Царквы й нашай епархіі, чаго хіба й сам іг. Строк будзе жадаць, а а. Крыт будзе пагаджацца. Трэба будзе стварыць Мітрапалітальную Ўправу для Месцаблюсьціцеля Мітрапалітальнага Пасаду, а сюды ты павінен увайсьці.

Абодва кандыдаты маюць свае дадатнія староны: яны стойкія ў праваслаўі, моцныя антывуніяты, антыпалянафілы й будуць весьці беларускую самастойную лінію ў царкоўных справах. Для абслугоўваньня нутраных спраў царкоўнага жыцьця яны будуць добрымі. А гэта старана

для нашае царквы зараз самая важная. Для вонкавых сувязяў трэба будзе, каб больш падрыхтаваныя духаўнікі ды сьвецкія асобы, калі патрэбна, дапамагалі.

Адышоўшы ад палянафільска-ватыканскай групы, а. Крыт дапаможа нанесьці ёй такі моцны ўдар, які зьвядзе яе да жменькі традыцыйных і адвечных палянафільска-ватыканскіх блуднікаў. Адначасна а. Крыт дапаможа сарганізаваць задзіночаную БПА Царкву, як наймацнейшую астою масавага беларускага рэлігійнага й грамадзкага жыцьця.

Як толькі іг. Строк будзе ў дарозе сюды, трэба будзе неадкладна наведаць грэцкага экзарха па нашых царкоўных справах. Лейцы ў тваіх руках, і кіруй як найлепш для справы.

Справа выданьня кнігі гр. Паляготкі вельмі важная. Я маю арыгінальную копію [успамінаў] гр. Паляготкі, якую атрымаў ад сп. Сабалеўскага, чым магу служыць для выдавецтва. Прадмова ад аўтара ў кнізе маецца. Можна дадаць толькі прадмову фармальнага характару ад выдавецтва. Кніга сваім зьместам такая вымоўная, выясьненьні ў прадмове непатрэбныя й будуць станавіць толькі таўталогію. Выправіць у кнізе трэба толькі мову, якая мае ладне русыцызмаў, але нічога ў зьмесьце.

Кнігу належыць выдаць пад аўтэнтычным прозьвішчам аўтара, а не пад псэўдонімам, як гэта праектавалася за жыцьця гр. Паляготкі.

Паколькі сп. Высоцкі ўжо зьвярнуўся да сп. Даніловіча за прадмовай і пераглядам матар'ялу, то мне самому са стараны не выпадае ўмешвацца ў гэту справу. Выдаўцом, хіба будзе Царкоўны камітэт Саўт Рывэру. Калі так, то па атрыманьні матар'ялу й прапаноў ад сп. Даніловіча можа будзе магчымым мне запазнацца з гэтымі матар'яламі й тады ўтрасьці пытаньні спрэчнага парадку па даручэньні выдавецтва.

З пашанай
І. Касяк

## № 13

[Арыгінал]

[Бруклін], 30 сьнежня 1967 г.

Прэблагі Отчэ!

Я наведаў на днях а. Кастэцкага й гутарыў зь ім адносна афармленьня аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы. Ён сказаў, што гэта справа поўнасьцю магчымая й радзіў па гэтаму пытаньню наведаць арх. Якава, галаву Грэцкай Царквы. Ён таксама радзіў наведаць па

гэтай справе іхняга нававысьвячанага еп. Андрэя (здаецца Кундак). Я гутарыў і адносна пастаўленьня а. Кастэцкага на епіскапа для нас. Ён казаў, што зараз вельмі хворы й таму нічога ня можа ў гэтай справе сказаць. Сапраўды, ён прыняў мяне ў ложку й выглядаў зусім хворым і ветхім.

Адрасы й тэлефоны вышэйуспомненых духаўнікоў падаю ніжэй. Яны жывуць недалёка ад мяне й там-жа маюць царкву, якую купілі ад грэкаў. Было-б пажадана, каб ты скамунікаваўся зь імі па цікавячых справах.

А. Грынкевіч прыслаў мне ліст з Філядэльфіі. Паведамляе, што яго ўзнагародзілі мітрай. Ён мае стары антымінс, пасьвечаны еп. Кірылам Тураўскім. Гэты антымінс ён атрымаў ад а. Бруякіна, а той, у сваю чаргу, атрымаў зь менскага музэю. А. Грынкевіч прапануе беларусам купіць гэты антымінс і просіць паведаміць цябе па гэтай справе. Адначасна ён упікае, што сваякі з нашага боку адхінуліся ад яго й нічым не памагаюць яму ў бядзе.

З пашанай
І. Касяк

## № 14

[Арыгінал]

Нью Ёрк, 16 жніўня 1969 г.

Прэблагі Отчэ!

Належыла-б у недалёкай будучыні склікаць праваслаўны царкоўны зьезд прадстаўнікоў ад існуючых прыходаў і абшчынаў, на патрэбу якога націскае й Ньюёрскі прыход. Склікаць зьезд можаш толькі ты, як Старшыня Міжпрыхадзкой Царкоўнай Рады. Ньюёрскі прыход прызнае гэту Раду, уважаючы, што й яму належыцца там месца, аднолькавае зь іншымі належучымі туды прыходамі. Ньюёрскі прыход прыме ўдзел у зьездзе на правох роўных зь іншымі прыходамі. Так мяне інфармаваў гр. К. Мерляк.

Трэба было-б выбраць дату зьезду, месца зьезду, апрацаваць праграму зьезду й разаслаць запросіны на зьезд, падаючы ключ удзелу ў зьездзе.

Разважаючы гэту справу з гр. Мерляком, я прапанаваў на месца зьезду горад Кліўленд, як роўнааддалены ад далёкіх прыходаў. На дату зьезду я прапанаваў суботу (канца тыдня) Удзячнасьці, 29 лістапада 1969 г., або суботу (канца тыдня) каталіцкіх Калядаў, 27 сьнежня б.г. Гр. Мерляк уважае, што сьнежань задалёка, а на кожны іншы, ранейшы, тэрмін яны пагодзяцца. Месца зьезду яны заакцэптуюць кожнае.

У праграму зьезду, між іншым, просіцца ўключыць наступнае:

1. Прыняць у склад Праваслаўнай Міжпрыхадзкой Царкоўнай Рады беларускі праваслаўны прыход у Нью Ёрку з настаяцелем а. Каўшом.
2. Інфармацыя аб дзейнасьці паасобных прыходаў і аб захадах адносна епіскапа для беларускіх прыходаў.
3.Ператварэньне Праваслаўнай Міжпрыхадзкой Царкоўнай Рады ў Беларускую Праваслаўную Епархіяльную Ўправу.
4. Стварэньне Епархіяльнага фонду пры Бел.[арускай] Прав.[аслаўнай] Епархіяльнай Управе.
5. Апрацаваньне рэгуляміну Епархіяльнай Управы й Епархіяльнага фонду.
6. Высланьне ад зьезду шырака ўматываванага ліста да Канстантынопальскага патрыярха праз Грэцкую епархію з просьбай аб высьвячэньні ігумэна Язэпа Строка ў Амэрыцы на епіскапа для беларускіх праваслаўных прыходаў.
7. Калі-б справа палагоджаньня высьвячэньня беларускага епіскапа напатыкала на далейшую зацяжку ў часе й іншыя труднасьці, то даручыць Бел.[арускай] Прав.[аслаўнай] Епархіяльнай Управе палагоджваць гэту справу, прымаючы адпаведныя альтэрнатывы ў належным часе, не парушаючы прынцыповага сучаснага стану беларускіх праваслаўных прыходаў.
8. Вольныя прапановы.

Гэту праграму зьезду я накінуў сам, не радзячыся нікога.

З пашанай
І. Касяк

## Ліставаньне з а. А. Крытом

Ліст да а. А. Крыта

[Копія]

[Саўт Рывэр], 4 жніўня 1967 г.

Паважаны а. Аляксандар!

Ваш калега а. І. Строк прыслаў сп. Б. Шчорсу ліст, у каторым піша, што яго выклікалі ў Амэрыканскую Амбасаду й сказалі, каб прадставіў білет і аплаціў візу. Грошы на аплату візы мы выслалі беспасярэдне

ў Амбасаду, а білет на самалёт Польска-Амэрыканская Кампанія выслала а. І. Строку. У лісьце ён піша, што абавязкава прыедзе. Сколькі займе часу – ня ведаю, але спадзяюся, што прыедзе хутка. Навасьцей асаблівых няма. Епіскапу Мацьвею не пісаў, спадзяючыся на хуткі прыезд а. І. Строка. Як прыедзе, будзем разам абмяркоўваць: трэба пісаць ці не?

Пры гутарцы некаторыя асобы, як напрыклад, сп. Л. Галяк, гавораць, што ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве не патрэбна трымацца канонаў. Сам ён ні да якай Царквы не належыць, а гэту ерась прапагуе. Такіх, мне здаецца, па Вашым баку шмат. А таму супроць гэтага зла трэба павясьці рашучую акцыю, бо там дзе няма канонаў, там няма й Праваслаўнай Царквы.

Каноны – гэта аснаўныя законы, якімі мусяць кіравацца епіскапы, духавенства, манахі й вернікі. Без канонаў ня можа існаваць Царква: без іх зьнікне царкоўнае адзінства, дысцыпліна й запануе хаос. Адмаўленьне канонаў вядзе да расколу, гэрэзыяў і сэктаў. Гэта тое, што патрэбна ворагам БАПЦ, а не яе сапраўдным абаронцам. Пішу гэта Вам з тым, каб Вы ў гэтай справе напісалі артыкул, які цяпер ёсьць неабходным і своечасовым.

Я маю часапіс „Голас Царквы" наступныя нумары: 2, 3, 4, 5 і 6. Калі ёсьць у Вас магчымасьць, дык надашліце мне нумары, якіх я ня маю, ды пры гэтым напішыце, якія надаслаць Вам нумары часапісу „Царкоўны Сьветач".

Жадаючы ўсяго найлепшага на гэтым канчаю.

З любоўю ў Хрысьце
[а. М. Лапіцкі]

Лісты да а. М. Лапіцкага

**№ 1**

[Арыгінал]

Кліўленд, 20 ліпеня 1961 г.

Высокапрэпадобны Ойчэ!

Магчыма Вас зьдзівіць, што пішу да Вас гэтых некалькі слоў, але для агулу беларускага рэлігійнага жыцьця й нашых сьвятарскіх абавязкаў гэта я змушаны чыніць. Перадусім, у нас павінен быць супольны фронт змаганьня з вунійнай акцыяю, якая, як злыдзень, сіліцца ўносіць разлад сярод праваслаўных беларусаў на выгнаньні, каб, разьяднаўшы іх, лепей было лавіць аблудныя душы ў мутнай вадзе. Дзеяньні іхнія не

абмяжоўваюцца толькі ў Англіі, дзе яны сканцэнтравалі ўсе свае езуіцкія сілы, але сягаюць і ў Амэрыку праз паездкі Сіповіча й іншых падобных, ды пакідаючы ватыканскія дырэктывы для далейшага дзеяньня сваім прыхільнікам (як Пануцэвічам і іншым) выдаваць розныя пашквілі й перакручваць гістарычныя факты.

Як ведама, Вы ў „Царкоўным Сьветачы" час ад часу давалі ім належныя адказы. З нашага боку было толькі пару артыкулаў маіх у „Бюлетэні" ды пару брашураў у Аўстраліі. Належала-б аднак выказаць ім усю праўду, каб ня быць задоўжанымі перад гісторыяй.

Другою ня менш важнаю справаю будзе наступная: у Кліўлендзе цяпер госьціць з Ракфорду сп. Валюкевіч, псаломшчык прот. Яськова, які паведаміў, што нібы прот. Яськоў выстаўлены кандыдатам на епіскапа. Мне здаецца, што для Вас прот. Яськоў ня менш ведамы як мне, можа толькі з тою розьніцаю, што Вы ведаеце яго як добрага сьвятара з бацькаўшчыны, а я з часоў эміграцыйнага жыцьця ў Англіі, дзе ён заўсёды трымаўся й супрацоўнічаў з палякамі, а аб беларусах не сароміўся адзывацца самымі бруднымі словамі. Агульны выснаў аб ім беларусаў у Англіі быў наступны: „у душы – зацяты расеец, а для матар'яльнае карысьці–паляк", зь якімі не сароміўся нават начамі сядзець ў іхніх карчмах. Пішу гэта не як ягоны вораг, не з гледжаньня падзелу партыйнага, бо сапраўднасьць гэтага можа сьцьвердзіць а. Міравовіч і іншыя апазыцыянеры да нашага групаваньня. Сп. Гуцька, які цяпер у Канадзе, як былы прыхаджанін ягоны на бацькаўшчыне яшчэ больш аб гэтым можа сказаць. Як мне пішуць з Англіі, што будучы еп.[іскапам], Яскоў будзе большым шкоднікам у беларускім рэлігійным жыцьці, як сучасны „епіскап" Фіth Фінькоўскі. Быццам-бы й епіскап Мацьвей у Лёндане, гэтаксама супроць ягонае хіратоніі.

Я вельмі прашу прабачэньня, што пішу Вам падобныя справы, але веру, што чыню гэта зусім сьведама, бо паміж намі, як беларусамі, не павінна быць таямніцы ў падобных справах, бо яны датыкаюцца й моцна зьвязаны ня толькі з рэлігійнымі, але й агульна-грамадзкімі справамі. З свайго боку я вельмі задаволены быў-бы, каб нашы духовыя кадры павялічваліся, не беручы пад ўвагу розныя ўгрупаваньні, але каб гэта было на карысьць для нашага шматпакутнага народу.

Я вельмі буду ўдзячны, калі атрымаю адказ на гэтыя мае словы, а гэтаксама ветліва прашу высылаць на сучасны мой адрас часапіс „Беларускі Сьветач".

Прашу прыняць найшчырэйшыя прывітаньні, прывітаць сямейку й супольных знаёмых.

З любоўю ў Хрысьце Ісусе
Прот. А. Крыт

## № 2

[Арыгінал]

Кліўленд, 22 жніўня 1967 г.

Вельмі паважаны й дастойны а. протапрэсьвіцер!

Ліст Ваш я атрымаў. За памяць шчыра дзякую. Вельмі цешуся з пададзеных Вамі вестак, што справа прыезду а. архім. Строка знаходзіцца на добрай дарозе. Для нас, гэтак бедных духоўнікамі, гэта асабліва важна ў сучасны мамэнт.

Вельмі сумнае зьявішча, што ў нас вельмі шмат гэткіх вернікаў, а асабліва інтэлігэнцыі, каторыя ня толькі лічаць непатрэбнымі царкоўныя правілы й каноны Ўсяленскай Царквы, але, наагул, лічаць, што Царква для іх непатрэбна. Аб гэтым, безумоўна, трэба пісаць, і то пісаць шмат, бо ў нашым царкоўным жыцьці трэба распачынаць амаль ўсё ад пачатку. Але, на жаль, у сучаснасьці, пры нашай агульнай дэзарыентацыі й несубардынацыі, мы ня маем сталага пэрыядычнага часапісу, дзе маглі-б быць зьмешчаны артыкулы, узгадаваўчыя ды насьвятляючыя найважнейшыя сучасныя праблемы рэлігійнага жыцьця, і то ня толькі ў абсягу эміграцыйнага беларускага жыцьця, але й сусьветнага значэньня.

Сягоньня-ж разам высылаю Вам і 12 нумараў часапісу „Голас Царквы". У будучыні пастараюся расшукаць іншыя нехапаючыя нумары, бо пад рукою не мог знайсьці.

Адначасна прашу, вышліце мне нумары [часапісу] „Царкоўны Сьветач". У маёй бібліятэцы захаваліся толькі наступныя нумары: № 1 за чэрвень і ліпень 1951 г. (ратататарнага выданьня), № 1 – 2 (12) за 1962 год (друкам), № 3 – 4 (13) за 1963 год, № 4 5 (14 – 15) за 1964 год.

Прашу прыняць найшчырэйшыя прывітаньні з пажаданьнем здароўя і посьпеху ў працы.

З любоўю ў Хрысьце Ісусе
Прот. А. Крыт

## Ліставаньне з М. Сяднёвым

Лісты да М. Сяднёва

## № 1

[Копія]

[Саўт Рывэр], 27 студзеня 1970 г.

Дарагі сп. Сяднёў!

Атрымаў Ваш ліст і бачу, што першы блін комам. Справа ў тым, што мне не хацелася ехаць у каносу, а таксама зварочывацца за дапамогай на месцы. Сам я меў першы раз дачыненьне зь лентай і, паскупіўшыся,

нагаварыў свае слова на ўжыванай ленце. Зьмест і мова – таксама выключна мая апрацоўка. Прачытаў сп. Віцьбічу свае словы пасьля таго, калі нагаварыў і адаслаў Вам ленту. Выслухаўшы, ён сказаў: „Слова някепскае, але трэба было-бы зрабіць моўныя папраўкі". Няпроч гэта зрабіць быў і ён, але я адказаў, што ўжо позна, а, магчыма, і не патрэбна дзеля таго, што ён высланы сп. М. Сяднёву, які мае права рабіць папраўкі ды дэцыдаваць (надаваць яго ці не).

Я рад, што слова было нададзена, але не таму, што атрымаю ганарар, а таму, што праца была не на марна. Чэка на $ 50.00 я яшчэ не атрымаў.

Вашы заказы я гатоў прыняць. На вялікія сьвяты я магу даслаць свае казаньні, магу напісаць і некалькі рэлігійных скрыптаў. Адно, з мовай цяжкавата ды з тэматыкай. Цяпер перад намі Вялікдзень, а таксама немалое сьвята й Вербніца. Кончу калядаваць, пастараюся напісаць на гэтыя сьвяты казаньні. На Тройцу ў прошлым годзе я напісаў слова й яно надрукавана ў „Царкоўным Сьветачы" за 1969 год. Я з малымі папраўкамі ўжо магу нагаварыць на ленту й пераслаць Вам, а Вы, калі падойдзе, на Тройцу пусьціце яго на сьвет.

Цяпер, што да службы. У 30 хвілін можна ўлажыць Вячэрню. Песнапеньні Вячэрні вельмі прыгожыя. Праз пару тыдняў мы возьмем гэту службу на ленту й перашлём Вам. Прыдзецца таксама апаратурай карыстацца прыватнай. Магчыма, на ленту возьмем малебен і паніхіду. Малебен можна надаць на 25 сакавіка, а паніхіду на Слуцкае Паўстаньне, калі гэтым дням прысьвечваецца аўдыцыя.

Віцьбіч часта мне звоніць. Раней ён, на маю думку, хістаўся, да якой належаць царквы, але нядаўна аформіўся ў нашым прыходзе. Каштавала яму гэта $ 149.00 (залеглыя складкі). Званю й я яму часам, каб тоесёе даведацца аб крывічах. Мае высьці „Беларуская Думка". Магчыма будзе надрукаваны маё „Каляднае Слова". Арх. Антонія выкінем. Сп. Кавыль у гутарцы гаварыў, што сп. Сяднёў ня піша й ён ня ведае, чы яго верш нададзены?

Праца пры пабудове прыастаноўлена, але з надыходам вясны прыступім да заканчэньня як царквы, так і залі.

Жадаючы ўсяго найлепшага, на гэтым канчаю. Прывітаньне для радзін ад матушкі й Касоўскіх.

З любоўю ў Хрысьце
Ваш [а. М. Лапіцкі]

Лісты да а. М. Лапіцкага

## № 1

[Арыгінал]

[першая палова 60-х гадоў]

Дарагія а. Мікалай і матушка!

Пішам да Вас ужо з хаты, пасьля доўгачаканага й вельмі прыемнага падарожжа нашага. Дазвольце, калі ласка, адразу-ж на гэтым месцы выказаць Вам, а. Нікалай і паважаная матушка, нашае як найбольшае дзякуй за ўсё тое, што вы зрабілі для нас, каб нашае прабываньне ў Саўт Рывэры было сапраўды прыгожым. Вашы чулыя, далікатныя адносіны да нас запалі ў сэрца, і Вы на гэтулькі падкупілі нас сваёй добразычлівасьцяй, што нам нават не хацелася выяжджаць ад Вас. І цяпер, калі мы ўжо прыехалі да хаты, Вас як-бы не стае для нас.

У „Менску" было таксама няблага. Лягер добры, адпачыць можна добра. Месца прыгожае. Шмат з кім пабачыліся. У гутарках згадвалася колькі раз і Ваша імя, як уладаючага ў Саўт Рывэры. Усе шкадуюць, што Вы не прыехалі з Тамашчыкам на высьвячэньнне.... І яшчэ я спасьцярог адну рэч: ахаладжэньне да Абрамчыка. Наагул, як мне здаецца, у нашым грамадзтве можна назіраць тэндэнцыю „прымірэньня", паразуменьня ці што. Толькі, безумоўна, у такім разе паўстае пытаньне: паразуменьне коштам чаго?

Страціў недзе адрас Касоўскіх, а трэба чыркнуць ім пару словаў. Думаю зрабіць гэтак: напішу да іх, пісьмо ўкладу ў канвэрт, прыляплю марку, дашлю гэта Вам, а Вы ўжо заадрасуеце й адашлеце поштай, указаўшы й мой зваротны адрас.

Вось гэта і ўсё тымчасам. Прывітаньне Жоржу.

Яшчэ раз дзякуем Вам за гасьціннасьць, зь якой Вы нас прынялі.

Ваш Сяднёў

P. S.: Як мы ні хадзілі па Саўт Рывэру, а ўсіх не абышлі. Таму можа хто й пакрыўдзіцца на нас. Пры нагодзе, а. Нікалай, калі ласка, растлумачце „незадаволеным"...

## № 2

[Арыгінал]

4 лістапада 1962 г.

Дарагія айцец і матушка!

Шчыра дзякуем за ліст, вельмі прыемна было атрымаць вестачку ад Вас. Тым больш, што доўга нічога не чуваць было ад Вас. Я думаў, што Вы ўжо забыліся на нас зусім, купаючыся ў моры ды падрыхтоўваючы

календары з „Царкоўнымі Сьветачамі". Аж усё-ткі, дзякаваць Богу, знайшлі часу й для нас.

Радасна чуць, што ўсё ў Вас там у парадку. У нас таксама тымчасам той самы, ранейшы стан рэчаў. Дзеці пакрысе падрастаюць і адпаведна гэтаму ўскладняецца й само жыцьцё. На гэтым месцы яны шлюць Вам сваё найлепшае прывітаньне й пажаданьне ўсяго найлепшага. Ваш ліст яны слухалі зь вялікай пільнасьцю, як ліст ад знаёмага бацюшкі й як ліст з іхнай радзімы. З здароўем таксама сяк-так. Тымчасам нядрэнна, праўда, у жонкі завялося каменьне ў пузыры, чуецца нядрэнна й працуе, але, мусіць, трэба будзе зрабіць апэрацыю. Меліся прыехаць у Саўт-Рывэр летам, але якраз улетку унівэрсытэт запрасіў мяне выкладаць мову ў унівэрсытэце (пазычылі ў Аір Форсе) і мы, такім чынам, зьездзілі толькі на возера Мічыган на тры дні, каштуе дарага. Так і скончыліся мае вакацыі.

Шкада Каліноўскай, шкада й Антона. Але чаму быць, таму не мінаваць. Нічога не зробіш. „Ніхто з граніц сваіх ня выйдзе жыцьця, законам напісаных", як пісаў калісьці Колас.

Прыемна чуць, што Вашая парафіяльная школка разрастаецца. Надзвычайна добра. Царква й школа – гэта, бадай, адзіны слуп беларускасьці ў Саўт Рывэры, што там не гавары. Разумеецца, царква й школа – гэта сам той народ, які там жыве, на чале з сваім бацюшкам.

З маімі рэчамі, якія я Вам дасылаю для друку, канешне, Вы можаце абыходзіцца так, як Вам хочацца. Друкаваць, не друкаваць, выпраўляць, дадаваць, выкідваць і г.д. Тое-ж самае й з маім рэфэратам да 25 Сакавіка.

Што тычыцца каляднай п'ескі, дальбог, айцец Мікалай, ня маю цяпер часу: вучуся-ж яшчэ й сам, хай яно спрэхне. Узяў цяпер старасла-вянскую мову й псыхалёгію, пхнуся, хоць з гэтага нічога й ня выйдзе: застары ўжо. Хопіць аднаго „с" для грэдуэйт студэнт, каб выгнаць. Але я абяцаю ўсё-ж напісаць такую п'еску, калі буду жыў і здароў, добрую такую, каб на вякі. Тым-жа часам закінуў і свайго Корзюка, якога ўжо напісана досыць-такі ладна. Ня гневайцеся, калі ласка.

Я ня ведаю цяпер тых цытатаў з Жылуновіча, Цанавы й Кнорына, копіі гэтага рэфэрату ў мяне няма. Але я думаю, што гэта будзе прыблізна, а то й дакладна так: Л. Цанава: „Всенародная партизанская война против фашистских захватчиков", Менск, 1951 г., том 2, бач. 786, 726, 725, 732; З. Жылуновіч: „Люты-кастрычнік у беларускім нацыянальным руху". Зборнік „Беларусь", Менск, 1924 г., бач. 185; В. Кнорын: „1917 год в Белоруссии и на Западном фронте", Минск, 1925 год, стр. 3, або В. Кнорын: „Да гісторыі дыктатуры пралетарыяту ў БССР", „Полымя", Менск, 1929 г., нумар І, бач. 90–91, або В. Кнорын: „Камуністычная

партыя на Беларусі". Зборнік „Беларусь", Менск, 1924 г., бач. 219. Выбірайце любую крыніцу!

Вось і ўсё тымчасам.

Прывітаньне ад усіх нас матушцы, Лёлі, Жоржу, Лявону, улучна з Вамі, безумоўна. Пішэце нам, мы будзем вельмі рады атрымаць ад Вас хаця пару слоў.

З пашанай да Вас
Ваш Масей

Ці ня прыслалі-б Вы мне адрас Завістовіча?

P. S.: Ёсьць у мяне з дзесятак новых недрукаваных вершаў, але на жаль, усе яны такія, што Вы іх у „Сьветачы" не надрукуеце.

М. С.

## № 3

[Арыгінал]

7 сьнежня 1969 г.

Дарагі айцец Мікалай!

Належыўся-б вялікі й прыгожы ўступ, – колькі-ж часу прагасьцявалі ў Вас, колькі засталося добрых успамінаў ад нашага побыту ў Саўт Рывэры, колькі сустрэчаў, гутарак, што мусіла-б быць напісаная не адна ода, не адзін мадрыгал, але давядзецца пачаць без усяго гэтага, пачаць прама з просьбы. На носе Сьвятыя Каляды й трэба, айцец Мікалай, каб Вы прамовілі да ўсяго беларускага праваслаўнага народу праз радыё „Свабода". Гэта было-б проста гістарычнае патрыяршае пасланьне. Мы ўсе тут спадзяемся, што Вы нам дапаможаце ў гэтым. Гэта мусіла-б быць ня то, што нейкае казаньне, а хутчэй, слова. Спакойнае, ціхае слова, чалавечае слова, слова любві да чалавека. Кароткае. Не абавязкава доўгае. Зусім не. І спакойна начытанае. Вы маглі-б, айцец Мікалай, начытаць яго і ў студыі ў Нью Ёрку, там умовы лепшыя (я напісаў-бы Запрудніку й ён прыняў-бы Вас там добра). Калі-б не захацелі Вы ехаць у Нью Ёрк, Вы маглі-б начытаць гэта і ў зяця свайго. Здаецца, ён гэтую ўсю музыку мае?! Бацюшка атрымаў-бы радыё і ўзнагароду. Калі-ж бы, крый Божа, бацюшка ўздумаў адмаўляцца, дык на яго загневалася-б уся Беларусь Праваслаўная, гэта значыць уся Беларусь. Вось гэткая, ня толькі мая асабістая, а і ўсебеларуская, просьба да Вас, айцец Мікалай. Чакаючы істужкі з тэкстам ад Вас, застаюся адданы Вам.

Ваш Масей

А матушку й забыў уставіць наверсе, у звароце. Во будзе мне, грэшнаму. Добры дзень, матушка, найлепшыя нашыя прывітаньні прымеце ад нас усіх. Як прыедзем яшчэ, дык пэўна-ж пасадзіце нас, як заўсёды, за стол і накорміце.

П.С.: Істужку, айцец Мікалай, калі ласка, паветранай поштай. Выдаткі будуць аплачаныя. А можа калі-небудзь прыслалі-б нам усю службу Калядную, ці якую. Мы пушчалі-б яе кожную нядзелю замест той, якая круціцца бясконца вось ужо колькі год, невядома кім і дзе накручаная. Прывітаньні Ігару, Тасі, Цярпіцкім, Палюховічу, усім добрым людзям, у тым ліку Сіцько, айцу Сьвятаславу, Івану Іванавічу.

М. С.

## Ліставаньне з кс. Ф. Чарняўскім

Лісты да кс. Ф. Чарняўскага

### № 1

[Копія]

[Саўт Рывэр, 6 травеня 1971 г.]

Усечасны Ойча!

Дзякую за ліст і рэлігійную літаратуру, ды адначасна паведамляю, што друкарню мы купілі, але яшчэ не ўрухомілі. Спадзяюся, што неўзабаве гэта зробім і тады ахвотна выканаем Ваш заказ.

Што тычыцца пісоўні, дык наш друкар будзе друкаваць так, як Вы будзіце хацець. Аплата за друк, таксама не будзе стаяць на перашкодзе. Праўда, мяне зьдзівіла тое, што сп. Я. Пятроўскі Вам лічыў $ 7.00, а нам апошні нумар [часапіса] „Царкоўны Сьветач" палічыў $ 8.00 і на мой ліст адказаў, што так лічыць усім.

Жадаючы ўсяго найлепшага, на гэтым канчаю.

З любоўю ў Хрысьце

[а. М. Лапіцкі]

### № 2

[Копія]

[Саўт Рывэр], 14 чэрвеня 1971 г.

Усечасны Отчэ!

Па-першае, выбачайце, што так позна адказваю на Ваш ліст, а па-другое, не гневайцеся на нас за тое, што мы не зможам, так як і паінфармаваў Вас сп. А. Даніловіч, надрукаваць часапіс „Сяўбіт" у вызначаны Вамі час. Спадзяюся, што друкарня пачне сваю працу у другой палове ліпеня.

Так што часапіс мог-бы быць надрукаваны першым прыблізна ў канцы ліпеня, альбо нават і ў канцы жніўня, бо могуць быць непрадбачаныя рэчы. Калі гэтыя тэрміны Вас задавальняюць, дык высылайце матар'ял сп. А. Даніловічу.

Падчас вэкэйшыну, калі будзіце ў нашых краях, ветліва прашу наведаць мяне. Хочацца запазнацца ды навязаць бліжэйшы кантакт.

З любоўю ў Хрысьце
[а. М. Лапіцкі]

Лісты да а. М. Лапіцкага

**№ 1**

[Арыгінал]

[Fort Edward], 28 krasavika 1971 h.

Usiočesny Vojča!

Pisaū mnie Rev. Jan Piatroūski, [što] Vy adkupili ad jaho drukarniu. Peūna viedajecie, što moj „Siaūbit" drukavaūsia ū jaho. Chaču i z Vami dahavarycca i dalej drukavać u toj-ža drukarni. Što da pisoūni. Sami viedajecie, što ū biełarusaū kožny vydaviec maje svaju pisoūniu. Viedama, što i pravapisy nieadzinakavyja. Ale, dumaju, što Vaš drukar budzie tak drukavać, jak vydaviec budzie chacieć.

Pieršuju karektu ū maim „Siaūbicie" rabiū Rev. J. Piatroūski. Paśla prysyłaū mnie, ja čytaū dva razy dy adsyłaū da drukavannia.

Što da płaty. Zvyčajna paśla karekty ūkładaū ček. Vysyłajučy materjał, razam vysyłaū i klišu. Klišy ū „Siaūbicie" zastavalisia ū drukarni, bo jany zvyčajna paūtarajucca.

Što da cany. Voś pasyłaju apošni Rev. Jana Piatroūskaha.

Vysyłaju Vam „Pravapis", katory ja pierafatagrafavaū dy apošni numar (nr 81) „Siaūbita".

Z pašanaju da Vas
Ajciec Francis Cherniawski

**№ 2**

[Арыгінал]

[Fort Edward], 10 travienia 1971 h.

Usiočesny Ojča!

List ad Vas atrymaū. Dziakuju za zhodu drukavannia „Siaūbita". „Siaūbit" jak dvumiesiačnik byū pryhataūlany kryhu ūpierad. Ja nia lubiū z im paźnicca.

Spadar Jan Piatroŭski mieŭ umovu ŭžo niekalki hadoŭ, dyk na apošni nie chacieŭ zmianiać. Mahčyma ŭžo ŭsie drukarni padaraželi dyk i ja dapłaču. Nastupny numar „Siaŭbita" – lipień-žnivień. Chaceŭ-by mieć hatovy ŭ pačatku lipienia. Pa pieršaj niadzieli lipienia ja maju 3 tydni vakejšen. Pierad vakacyjami paviedamlu praz „Siaŭbit", dzie ja maju dla biełarusaŭ mieć bahasłužby.

Padajcie adras drukara. Ci jon usim budzie zajmacca? Ci moža tolki jak płatny praz Vas rabotnik?

Z pašanaju da Vas
Vaš u Chryście
a. Francis Cherniawski

## № 3

[Арыгінал]

[Fort Edward], 24 travienia 1971 h.

Rev. prot. N. Łapicki!

Pisaŭ da Vašaha drukara, ale ŭžo prachodzić miesiac, a adkazu nia maju. Užo čas da druku „Siaŭbita".

Kamu maju vysłać materjał?

Z pašanaju
a. Francis

## № 4

[Арыгінал]

[Fort Edward], 16 červienia 1971 h.

Usiočesny Ojča!

List ad Vas z 14. 6. 1971 h. [atrymaŭ]. Ščyra dziakuju.

Ab trudnaściach pisaŭ i sp. A. Danilovič. Dvumiesiačnik nia jošć štodziennikam. Kali i krychu paźniej vyjdzie, to nia dumaju, kab chto rabiŭ niejki vyhavar.

Ja vakacyi maju 3 tydni, pačynajučy ad 4-ha lipienia. Mahčyma 7 – 8 lipienia zahlanu ŭ South River. U hetych vakacyjach ja maju adnu niadzielu volnuju.

Ci ŭ „Miensku" ŭ niadzielu 11-ha robicie niejki zjezd? Ci było-b miejsca na maju słužbu kała 12-aj hadziny?

U hetym hodzie chaču słužyć pa-biełarusku. Pakulsto nikoha nie zaprašaū. Moža nahavaru maich dalokich kreūnych, katoryja žyvuć u Beacon, Wallkill u Popiel, P.O.B. 106, New York Staite.

Z lubouju ū Chrystusie
a. Fr. Cherniawski

## № 5

[Арыгінал]

[Fort Edward], 18 červienia 1971 h.

Usiočesny ojča Rt. Rev. protaprezbiter Nikałaj Łapicki!

List ad Vas, pisany 17. 06. 1971 h., atrymaū. Ščyra dziakuju za jaho i dazvoł adsłužyć katalickuju bahasłužbu. Kali laska, pamiaścicie ū prahramie. Aprača prahramy ja niekatorych katalikoū paviedamlu listoūna. Značyć 11-ha lipienia a hadzinie 11-aj u Biełaruskim „Miensku", pa-biełarusku adsłuža bahasłužbu Rev. Francis Cherniaūski.

Mahčyma spatkajemsia 4-ha lipienia, ale pa abiedzie. Mahu raspačać vakacyju paśla bahasłužby 4-ha lipienia pa 12-aj hadzinie. Pa darozie zatrymacca na abied u kuzynki Popiel Wallkill dy kala hadziny 4-aj padjechać u „Miensk".

Z luboūju ū Chryście
Rev. Francis Cherniaūski

## № 6

[Арыгінал]

[Fort Edward], 10 lutaha 1971 h.

Vaša preaśviaščenstva!

List ad Vas i adnu adbitku „Siaūbita" atrymaū. Vielmi dziakuju. Nastupnyja dva numary užo blizu hatovyja. Mahčyma [materjał] na maj-červień pryšlu da Vas. Jašče ūsiaho nie pračytaū. Druk padabajecca lepiej ad fatagrafavannia.

Prašu prysłać rachunak, a vyšlu Vam ček.

Z pašanaju i padziakaj
a. Francis

## № 7

[Арыгінал]

[Fort Edward], 2 červienia 1972 h.

Vašaje preaśviaščenstva!

Ja, jak kožnaha hodu, maju 3-tydniovyja vakacyi. 9-ha, paśla słužby, vyjaždžaju da rodnych, katoryja žyvuć bližej „Miensku". Budu mieć volnyja 2 niadzieli (16.7. i 23.7.). Ci ŭ adny z ich zmoh-by adsłužyć u vašaj carkvie?

Z pašanaju
a. Francis

# Ліставаньне з царкоўным актывам у Аўстраліі

Лісты М. Зуя й С. Розмысла

## № 1

[Арыгінал]

Dandenong, 25 жніўня 1964 г.

Вельміпаважаны а. Мікалаю!

У нядзелю 16. 8. 1964 г. адбыўся прыхадзкі сход, які афіцыйна зацьвердзіў стварэньне прыходу БПЦ у Мэльборне пад сьвятой беларускай Сьв. Еўфрасіньняй Полацкай. Выбраны Царкоўны Камітэт. Але паколькі а. Мадэст яшчэ ня поўнасьцю аправіўся ад хваробы й апэрацыі, быў выбраны старшыня Камітэту, каб не абцяжваць а. Мадэста. На старшыню выбраны сын Мадэста – Юры Яцкевіч.

Царкоўны Камітэт зьбярэцца ў наступную нядзелю, каб падзяліць функцыі й выдзеліць Статутовую Камісыю, якая займецца апрацоўкай парафіяльнага статуту. Маем браць за аснову Статут, прыняты на Саборы ў Менску ў 1942 годзе, але застасоўваючыся да мясцовых умоваў. У гэтай справе прыязджаў да мяне Ю. Яцкевіч і прасіў, каб я папрасіў Вас, а. Мікалаю, каб вы прыслалі копію вашага статуту. Каб нашая Статутовая Камісыя не зрабіла вялікіх разыходжаньняў, якія мусілі-бы пасьля спрастоўваць. Але Ю. Яцкевіч ня хоча, каб гэта знаў а. Мадэст. Не таму, што ён супроць гэтага, але таму, што гэта магло-бы на яго падзейнічаць маральна. Можа набраць у галаву, што ён яшчэ хворы, стары й няздольны й г. д. І можа падупасьці на духу. Але, сапраўды, на яго

гады яшчэ досыць моцны й здольны да кіраваньня. Але ён нам галоўнае патрэбны да адпраўленьня багаслужэньняў. Таму яго трэба ашчаджаць.

У часе сходу я адчытаў вытрымку з Вашага ліста аб тым, што арх. Афанасій даў згоду ачоліць БПЦ. Гэта навіна была прынята з радасьцю прысутнымі.

Ведама, што цяжкасьці будуць і то галоўна матар'яльныя, бо трэба стварыць умовы, каб годна ўтрымаць галаву Царквы. Я думаю ў вас ужо пплянуецца, як усе пытаньні развязаць, і я прасіў-бы Вас, а. Мікалаю, паінфармаваць нас, бо наш прыход мусіць прыгатаўляцца да гэтага абавязку. Мы сьведамыя гэтага й гатовыя ўзяць на сябе частку цяжкасьцяў, хаця на першых нашых шагох цяжкавата зрабіць усё, што ў старэйшых прыходах ужо зроблена даўно.

Але пры Божай дапамозе ўсё зрабіць можна. Адно, каб арх. Афанасій не пачаў гуляць з намі й вадзіць за нос. Тады ўсе надзеі адляцяць беспаваротна.

Заўсёды Ваш
Розмысл

## № 2

[Арыгінал]

Fairfield, 20 чэрвеня 1970 г.

Глыбокапаважаны айцец Мікалай!

Пару дзён таму гутарыў з арх. Апанасам. Канкрэтнае вырашэньне справы яго павароту да беларусаў адлажылі на два тыдні пазьней, г.зн. за тыдзень ад сягоньня маю зноў спаткацца зь ім.

Адна рэч, чаго ён баіцца, калі вернецца да беларусаў, што на старасьць астанецца без куска хлеба й кутка, каб схавацца ад непагоды. Калі я сказаў яму, што „беларусы вас просяць, з радасьцяй прымуць і будуць паважаць", ён адказаў мне: „Спадар Зуй, як доўга гэта будзе? Праз пару месяцаў скажуць, што ён такі-гэткі. А што мне тады рабіць? Каб я меў пэнсыю, тады была-б другая справа. Неяк-бы пражыў, а так баюся". Я сказаў яму, што пагутару ў гэтай справе, а ён сказаў, што за два тыдні будзе ведаць, што вырашыць мітрапаліт адносна яго, і тады зноў спаткаемся й канчаткова абгутарым гэту справу.

У працягу гэтых пару тыдняў буду бачыцца зь іншымі беларусамі. Ці мы здолеем утрымаць яго, калі не атрымаем ад Вас запэўненьня,

што поўнасьцю забяспечыце яго пражыцьцё й кватэрай, забраўшы яго ў ЗША? Як спаткаюся з арх. Апанасам наступны раз, тады будзе ясна. Ці варта будзе паклікаць архімандрыта Мадэста?! Зь ім я цяпер у добрых адносінах і часта лістоўна радзімся.

Шчыра дзякуем Вам за абяцаную дапамогу на высылку беларускага дэлегата на міжнародную канфэрэнцыю ў Японію. Падгатаўляемся, а ці зьбяром належную суму грошай надзея слабая.

Мне было-б добра ведаць, якія ўмовы жыцьця й працы атрымае арх. Апанас, калі-б пераехаў да Вас. Ён цяпер знаходзіцца ў разгубленым палажэньні. Я думаю, што гэта будзе яго апошні шанс, каб направіць тую вялікую памылку, якую ён зрабіў дваццаць год таму.

Шчырыя прывітаньні для Вас і Вашай сямейкі ад мяне й Алехніка.

З глыбокай пашанай
М. Зуй

## Ліставаньне з царкоўным актывам у Кліўлендзе

Лісты да А. Сацэвіча, Л. Харытановіча, Я. Шымчыка

### № 1

[Копія]

Саўт Рывэр, 7 лістапада 1961 г.

Царкоўнаму Камітэту ў Кліведяндзе

На просьбу ініцыятыўнай групы я зрабіў захады аб рукапалажэньні Якава Кузьміцкага ў дыяканы з тым, што ён і Вы прыступіце да арганізацыі беларускага праваслаўнага прыходу ў Кліведяндзе. Прайшло амаль паўгоду і ў гэтай так важнай справе зроблена вельмі мала. Мала гаварыць, нада рабіць. Працай і верай пераможаце ўсе цяжкасьці. Хай гэты прыход будзе маленькі, але ён аб'яднае Вас і Вы будзеце існаваць як кожная нацыя. Апрача вышэйсказанага, арганізацыя Царквы – гэта сьвятая й Богу ўгодная справа. А таму майце бадзёрасьць духа й аддасьць гэтай справе, ды прыступайце да інтэнсыўнай працы. Вы не адны. З Вамі Ўсемагутны Бог, Каторы па Вашай веры, любові й малітве пашле Яго дапамогу й благаслаўленьне на Вашую цяжкую, але пачэсную й сьвятую справу. Але наша народная прыказка кажа: „На Бога надзейся,

і сам не плашай". А таму няхай кожны з Вас унясе ў царкоўную касу па 100 дол. На царкоўныя расходы. Мы гэта выканалі ў 1951 годзе, тады калі былі беднымі. Сягоньня гэты абавязак выканаць лягчэй. Трэба толькі мець веру ў Бога й любоў да Сьв. Царквы.

Працуйце ня толькі для цела, але й для душы. Сколькі-бы чалавек ні прыдбаў-бы тут, на зямлі, багацтва, нічога з сабой на той сьвет ня возьме. Зь ім пойдуць яго ўчынкі як добрыя, так і благія. Да такіх добрых учынкаў належыць і ахвяра на сваю Беларускую Царкву. Гэта адно. Другое, падайце просьбу аб чартары, падгатаўляйце памешканьне для багаслужэньня. Мы пачыналі ў шторы, а Вы распачніце там, дзе маеце магчымасьць. Калі аформіце вышэйсказанае, я, маючы грунт для адкрыцьця прыходу, зраблю захады аб рукапалажэньні а. дыякана Я. Кузьміцкага ў сан іерэя.

Парушаныя справы цяжкія, але магчымыя. Мы разам распачалі й мусім іх зрэалізаваць.

З любоўю ў Хрысьце
Прот. М. Лапіцкі

## № 2

[Копія]

Саўт Рывэр, 17 кастрычніка 1962 г.

Паважаны сп. Шымчык!

Выбачайце, што так позна адказываю на Ваш ліст. Па-першае, я быў заняты, а па-другое, парушаная Вамі справа далікатная й цяжкая.

Для мяне адзінакава важна як чысьціня царкоўная, так і нацыянальная. Гэта хачу мець ня толькі я, але й людзі, якія належаць да Кананічнай Беларускай Праваслаўнай Царквы, каторыя зьяўляюцца ня горшымі нацыяналістымі й патрыётамі ад тых, якія не належаць да Беларускай Праваслаўнай Царквы, альбо тых, якія належаць ды ня маюць лучнасьці з Усяленскай Праваслаўнай Царквою, дзеля чаго яны й не зьяўляюцца праваслаўнымі. А таму адрывацца ад Праваслаўнай Царквы, траціць гэты Дар Божы, які мы ўнасьледавалі ад сваіх бацькоў толькі для таго, каб спалучыцца з Васілём, які ёсьць добры патрыёт, а ня ёсьць добры праваслаўны, для нас не магчыма. Што тычыцца царкоўнага спалучэньня, дык яно можа адбыцца толькі тады, калі Васіль станецца праваслаўным епіскапам і навяжыць лучнасьць з Праваслаўнай Царквой.

Некалькі год таму назад, дацэніваючы адзінства, я наведаў Васіля й выясьніў гэту справу, але адчуў, што для яго гэта справа ня існуе. На маю думку, гэта справа ня існуе для яго й цяпер. Калі-б яна існавала, дык ён знайшоў-бы дарогу беспасрэдна, так як я знайшоў да яго.

У Вашых лістах вы пішаце, каб я ехаў да сп. Белямука, а цяпер да Васіля. Як да першага я не паехаў, так не паеду й да другога. Гэта не мой капрыс, а такое палажэньне ды неправідловая пастаноўка справы. Што нас дзеліць? Некананічасьць Васіля. А таму, каб спалучыцца, ён мусіць стаць на кананічны шлях. Калі ён гэтага ня можа зрабіць, а хоча, няхай прыдзе да мяне й я яму памагу. Пасьля чаго й будзе паеднаньне.

Вось у гэтай платформе трэба й Вам стаўляць справу пры гутарцы й ліставаньні.

З любоўю ў Хрысьце
Прот. М. Лапіцкі

## № 3

[Копія]

[Саўт Рывэр, 1963 ?]

Паважаны сп. Сацэвіч!

Ліст Ваш атрымаў. Шчыра дзякую за ліст і за запросіны, зь якіх магчыма й не скарыстаю, бо яшчэ ня ведаю прыеду я ў Клівелянд ці не? Адносна пеўчых таксама ня знаю, хто паедзе й таму на наш хор, у цэлым, не разлічывайце. Мне часам удаецца намовіць хор і вернікаў паехаць на службу ў іншае месца, але тады толькі раблю гэта, калі ў гэтым месцы ёсьць Беларуская Праваслаўная Царква. Спадзяваўся, што мы і ў Клівеляндзе яе займеем, але, на вялікі жаль, памыліўся.

З Чыкага да Клівелянда бліжэй, а таму прасіце а. М. Мігая й хор з Чыкага. Запрасіце таксама а. В. Сагайдакоўскага з Таронта й а. А. Апанасевіча, і а. І. Малатка. Што тычыцца мяне, дык я можа й прыеду на зьезд, але як старшыня Галоўнае Ўправы Бел.[аруска]-Амэр.[ыканскага] Дапамаговага Камітэта, а таму не бяру на сябе адказнасьці, што да арганізацыі Божае службы. У Клівеляндзе я служыў пара разоў і цяпер, дадаўшы рэвізыі адносін да мяне беларускага актыву ў Клівеляндзе, мне ня толькі ня хочацца служыць, але нават ехаць на зьезд.

З любоўю ў Хрысьце
[а. прот. М. Лапіцкі]

## № 4

[Копія] [Саўт Рывэр], 12 сьнежня 1963 г.

Паважаны сп. Шымчык!

Ад нашага зьезду прайшло амаль тры месяцы. Выяжджаючы з Саўт Рывэра, Вы абяцалі мне прыслаць матар'ял. Але, на вялікі жаль, апрача безыменнай лістоўкі, якую надаслалі Вы, ды „Уздыму", я больш нічога не атрымаў. Безыменная лістоўка ды „Уздым", у якім няма ані аднаго імя й прозьвішча, апрача адраса М. Кабяка (а таму й ён безыменны), нічога й не гавораць аб тым, што сярод крывіцкага ўгрупаваньня ёсьць людзі, якія маюць сілу супрацьставіцца крывіцка-вунійным дзейнікам, ды хочуць аб'еднаньня на ніве царкоўна-беларускай і грамадзка-беларускай. Калі расходзіцца аб царкоўнае паяднаньня, дык я маю копію ліста т. з. Епархіяльнай Управы БАПЦ да Кангрэсовага Камітэту, на якім фігуруе, на жаль, подпіс арх. Васіля. Ліст змайстраваны, відаць, крывіцка-вунійнымі дзейнікамі. А таму ён не тактоўны, не царкоўны, а нават хамаваты. Копію гэтага ліста Вам дасьць а. дыякан Я. Кузьміцкі. Вунійныя дзейнікі за ўсякую цану імкнуцца не дапусьціць да паяднаньня, асабліва царкоўнага. І гэтага яны дасягнулі праз вышэйуспомнены ліст. Што прадстаўляе па свайму зьместу т. з. БАПЦ на чале з Сяргеем Ахоценкам, каторай, згодна лісту, хочаць, каб мы падпарадкаваліся, дадзём у гэтым голас архімандрыту тэй-жа царквы а. Мадэсту. Ён выдаў адозву, якую таксама Вам даручыць а. Я. Кузьміцкі.

Што тычыцца мяне, я ніколі не выступаў супроць Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Наадварот, бараню яе й змагаюся за яе. Я выступаю супроць прахадзімцаў, якія прыкрыліся шыльдам нашай Аўтакефальнай Беларускай Праваслаўнай Царквы з тым толькі, каб дыскваліфікаваць Яе й разбураць Яе. І толькі цяпер аб гэтых прахадзімцах загаварыў а. Мадэст Яцкевіч, а аб а. Мадэсту, як прахадзімцу, загаварыў „Уздым", які ў гэтым месцы ўпадобіўся берлінскаму бальшавіцкаму лістку „За вяртаньне на бацькаўшчыну" і лягнуў „архімандрыта" па ўсім правілам. Таго „архімандрыта", які згодна часапісу „Голас Царквы" ды газ.[эты] „Бацькаўшчына" быў дастойнейшы архімандрыт БАПЦ Тамашчыка. Як мяне інфармавалі, ён быў першым кандыдатам і найлепшым для высьвяты ў сан епіскапа БАПЦ Тамашчыка. Калі паскрабсьці кожнага духаўніка БАПЦ Тамашчыка, дык у кожнага знойдзем нешта супольнае з а. Мадэстам, але нічога ў іх ня знойдзеш супольнага

зь Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой, якая была адноўлена Аўтакефальным Саборам у Менску ў 1942 годзе. Яны стаялі далёка ад Царквы, ня мелі голасу ў Ёй як людзі не царкоўныя й займаліся [іншымі] справамі. Як паказаў прыклад у Чыкага, у вольным сьвеце на эміграцыі БАПЦ кожны можа прыняць, але гэтага мала. Трэба мець зьмест, а ён будзе тады толькі, калі мы ўсе разам будзем [мець непадважальную] ісьціну. Зразумеў, відаць, гэта арх. Васіль і дзеля гэтага злажыў арх. Якаву, экзарху Канстантынопальскай Патрыярхіі просьбу, каб ён дапамог яму аформіцца кананічна. Калі-б гэта сталася-б, дык у нас не было-б вялікай праблемы для паяднаньня. На вялікі жаль, Тамашчык пад націскам вунійных дзейнікаў, крывіцкага угрупаваньня, якія саставілі й далі яму падпісаць ліст, ідзе на папятную. Праўда, Тамашчык на ліцьце напісаў „чытаў" і гэтым як бы пакінуў адчыненыя дзьверы да паяднаньня. Але ў мяне слабая надзея на гэта дзеля таго, што ён рукапалажыў, альбо будзе рукапалагаць сп. Мартыновіча з Чыкага па рэкамэндацыі Асіпчыка, якога абяцаў не рукапалагаць, як чалавека зусім падгатаванага да духоўнага сану. Я з свайго боку ўстрымліваў рукапалажэньне а. дыякана Я. Кузьміцкага, які ў некалькі раз вышэй стаіць Мартыновіча, як кандыдат у духоўны сан. Робіць Тамашчык гэта з тым, каб разьбіць наш прыход. Але дарэмны высілак крывіцка-вуніяцкіх дзейнікаў! У Чыкага ўжо пераехаў і служыць а. А. Міpановіч. Там і парафіяльнае жыцьцё ўвайшло ў нармальную калею.

Крывіцкае ўгрупаваньне мае шыльд БАПЦ і гэтым афішуецца, але яно забываецца, што гэты шыльд мае Чыкага, зь якім мы спалучыліся. Праўда, гэты шыльд, ідучы дарогай крывічоў, можа прыняць Саўт Рывэр, Клівелянд, Таронта й г. д.

Пішу Вам гэты ліст з тым, каб паінфармаваць, як стаіць справа з царкоўным аб'яднаньнем, ды запытаць, можа ў Вас ёсьць штось пацяшаючае ў гэтай справе. Пад аб'яднаньнем я разумею не падпарадкаваньне й не прылучэньне, а паяднаньне, што, на вялікі жаль, адкідае крывіцкае ўгрупаваньне, ды гэтым самым лье вадзічку на вунійны млынок. Па гэтаму пытаньню прыдзецца даць інфармацыю для беларускай грамадзкасьці ў „Царкоўным Сьветачы" ці аддзельна.

Жадаючы ўсяго найлепшага й на гэтым канчаю. Прывітаньне для Вашай жонкі.

З любоўю ў Хрысьце
[а. прот. М. Лапіцкі]

## № 5

[Копія] Саўт Рывэр, 29 сьнежня 1963 г.

Паважаны сп. Харытановіч!

Хацеў выслаць сьвяточную картку, але гэтага было-б мала, а таму сеў за машынку й пішу гэты ліст.

Па-першае, прашу прабачыць, што так доўга не адказываў на Ваш ліст. Напраўды, ня маю часу.

Па-другое, дзякую за сьвяточнае прывітаньне й фатаграфіі з хрысьцін, ды ад шчырага сэрца вітаю Вас з надыходзячымі Калядамі.

Абіды да Вас ня чую ніякай. Наадварот, маю любоў, што сьцвердзіў сваім прыездам у Клівелянд, каб хрысьціць вашу дачушку. Мог-бы абіжацца на Вас толькі за тое, што Вы занядбалі грамадзка-царкоўную працу. Але прычыны выясьненыя ў Вашым лісьце, а таму няма падстаў і за гэта гневацца, нягледзячы на тое, што выкарысталі гэта крывічы і ў свой кагал уцягнулі сп. Шымчыка й сп. Сацэвіча. Ствараючы супольны Школьны Камітэт, сп. Шымчык і сп. Сацэвіч мусілі-б паставіць пытаньне так, каб гэтыя супольныя камітэты й супольныя беларускія школкі былі ўсюды арганізаваны. Тады-б гэту ідэю й асягненьні ў гэтым належалася-б прывітаць і падтрымліваць. Але ў сп. Сацэвіча й сп. Шымчыка не хваціла маральнай сілы, каб гэта пытаньне паставіць так, як вымагае справа. Яны ў Клівеляндзе стараюцца вясьці „самастойную" палітыку й гэтым ліюць, сьведама ці нясьведама, вадзічку на крывіцка-вуніяцкі млынок ды шкодзяць нам. Калі-б яны ўзгаднялі-б сваю дзейнасьць з Кангрэсавым Камітэтам, дык ня было-б выламліваньня з агульнай лініі й мы скарэй-бы асягнулі пяднаньне ўва ўсіх галінах. Як-жа стаіць сягоньня школьнае пытаньне згодна сп. Шымчыка й сп. Сацэвіча? А яно стаіць так. Там, дзе (маю на ўвазе Клівелянд) нашы дзеці будуць хадзіць у крывіцкую царкву (ці т. з. Народны Дом) і рэлігію будзе выкладаць іх сьвятар, крывіцкі бок ахвотна яднаецца. Але там, дзе ролі мяняюцца (маю на ўвазе Саўт Рывэр), крывічы ад гэтага адмаўляюцца. А таму гэткая пастаноўка ёсьць ні што іншае як падпарадкаваньне. Я спадзяюся, што сп. Шымчык і сп. Сацэвіч з часам зразумеюць сваю памылку. А сп. Харытановіч зробіць усё, што магчыма, каб гэту памылку паправіць.

Што тычыцца царкоўнага паяднаньня, дык яму паложаны канец тымі самымі „крывічамі", якія хочуць, каб мы прылучыліся да іх т. зв. БАПЦ на чале зь Сяргеем Ахоценкам. Аб гэтым яны пішуць у сваім лісьце да нашага Кангрэсавага Камітэту. Копію я пераслаў а. Я. Кузьміцкаму. А што прадстаўляе БАПЦ з Ахоценкам і Тамашчыкам, аб гэтым піша а. Мадэст у сваёй адозве. Копію таксама мае а. Я. Кузьміцкі.

Тамашчык, як ведама, злажыў заяву, каб яму памог аформіцца наш экзарх. Нарэшце ён зразумеў, што каб быць праваслаўным епіскапам, а таксама й сьвяшчэньнікам, трэба мець кананічнае рукапалажэньне ды лучнасьць з Усяленскай Царквой. З гэтага я бачу, што царкоўна ён узрос, але на перашкодзе яму стаяць крывіцка-вуніяцкія завадзілы, якія за ўсякую ману будуць імкнуцца, каб у нас, праваслаўных, не дайшло да паяднаньня. Часткова яны ўжо гэта асягнулі праз ліст да Кангрэсавага Камітэту, а таксама праз вызначэньне кандыдатам на епіскапа Крыта.

Аформіцца Тамашчык кананічна ці не? Скарэй усяго не. Вінаваты ў гэтым не а. Лапіцкі, а сам Тамашчык, які й далей прыслухоўваецца да крывіцка-вуніяцкага „чала”.

У Царкве няма нічога тайнага, дзеля таго, што так вучаць Апостальскія Правілы. А таму й Тамашчыку трэба не тайна й не скрыта падаваць заяву, а адкрыта – як перад сваімі, так і нашымі вернікамі. Кіравацца не гордасьцю, а любоўю. Далей, ён мусіў-бы ачысьціцца ад усяго таго, што нас дзеліць. А дзеліць нас не слова „аўтакефалія”, якое ёсьць у назове яго Царквы й якім спекулююць крывіцка-вуніяцкія дзяльцы ды прахадзімцы, якімі кішыць гэта царква, а некананічнасьць.

Возьмем, да прыкладу, хоць-бы а. Мадэста, якога па ўсім правілам іскуства берлінскага лістка „За вяртаньне на Бацькаўшчыну” лягнуў „Уздым”. А чаму да гэтага часу маўчалі Крыт і Кабяк, ды ўсе тыя, што каля БАПЦ групуюцца? Пакуль ён не выступіў супроць С. Ахоценкі, дык ён быў адным із стаўпоў іх царквы згодна „Голасу Царквы” і „Бацькаўшчыны” ды быў кандыдатам на епіскапа, так як сягоньня Крыт, што зьяўляецца вялікай ironiяй.

Я нічога ня маю супраць Крыта як чалавека, як беларуса, але як кандыдат на епіскапа ён зусім не адказвае. Яшчэ раз паўтаруся, якая вялікая іронія й зьдзек над БАПЦ?! Мацукевіч з Канады адмовіўся, бо ён, відаць пад кіраўніцтвам міт. Іларыёна Агіенкі ў Квэбэку, запазнаўся, хто можа быць епіскапам згодна Сьвятой Праваслаўнай Царквы. Крыт-жа, як чуваць, пхаецца сам. Зразумела, з такімі епіскапамі нам не па дарозе.

Гэткім чынам крывіцка-вуніяцкае чало яшчэ на 15 год ўмела адпіхае царкоўнае паяднаньне. Ім на гэтым залежыць. Тамашчык не павінен-бы гэтага рабіць, бо ён злажыў заяву з просьбай аб кананічнае афармленьне. Згодна з ходам справы ён ня толькі рукапалагаць, але й служыць ня мае права. Да высьненьня справы. Ён гэтага не тры-

маецца, а таму й справа яго, магчыма, прыме зусім іншы абарот, чымсь ён спадзяваўся.

Пры паяднаньні Тамашчыка яшчэ мы можам цярпець, але ніколі Ахоценкі, Крыта ды ім падобных. Напрасныя думкі й спадзяваньні крывічоў, якія сьпяшаюцца высьвячаць неадпаведных епіскапаў і без духоўнай, ня толькі вышэйшай, але й сярэдняй адукацыі. Ад кандыдата на епіскапа вымагаецца, каб ён закончыў ня толькі духоўную сэмінарыю, але й Духоўную акадэмію. Як аднаго, гэтак і другога ня мае Крыт. Калі высьвячалі Тамашчыка, дык ён меў вышэйшую сьвецкую адукацыю, і то ўкраінскія епіскапы пастараліся даць яму дыплём іх Духоўнай акадэміі. Як тут з Крытом залатаюць гэту дзірку, ня ведаю. Такім чынам, аб паяднаньні ня можа быць і рэчы.

Зьезд царкоўны адбудзецца тады, калі трохі ўпарадкуем царкоўнае жыцьцё й знойдзем епіскапа. Я яшчэ не трачу надзеі й спадзяюся, што ў 1964 годзе да нас прыдзе арх. Апанас. Але перад гэтым неабходна арганізаваць прыходы ў Клівеляндзе, Пассэйк і спрабаваць адваяваць Ракфорд. Чыкага ўжо мае добрага настаяцеля й там ўжо Тамашчык носа не ўткне. Усё можна зрабіць, але няма сьвятароў. А таму трэба рукапалагаць а. Я. Кузьміцкага. Як гэта станецца, тады Вам будзе лягчэй змагацца з крывіцка-вуніяцкай акцыяй. Хочаце вярнуцца да кананічнасьці – калі ласка: бярыце кананічнага сьвяшчэньніка й молімся разам. А царкву можам назваць як хочам. Нічога няма супроць, каб у назове было слова „аўтакефальная”. Хаця падставаў на гэта няма дзеля таго, што царква арганізавана для тых беларусаў, якія жывуць і будуць жыць у Клівеляндзе. Аўтакефалія можа быць толькі на Беларусі. Але што зробіш?! Людзі не разумеюць і на гэтым спекулююць крывіцка-вунійныя чыньнікі.

Я асабіста на ніякія кампрамісы з крывічамі не пайду. Я адкідаю некананічнасьць, непрадрашэнства, прахадзімства й стаю на платформе 25 Сакавіка й Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. Гатоўлю матар'ял для „Царкоўнага Сьветача”, а таму сьпяшаюся й раблю шмат памылак, друкуючы гэты ліст. Магчыма зьмяшчу адно фота з Вашых хрысьцін. Праўда, пакуль што цяжкавата з грашыма.

На гэтым канчаю, жадаючы Вам, Вашай жонцы й Зіне ўсяго найлепшага.

Прот. М. Лапіцкі

## № 6

[Копія]

[Саўт Рывэр], 23 студзеня 1964 г.

Паважаны сп. Шымчык!

Дзякую за ліст і ахвяру на Дапамогавы Камітэт. У Клівелянд я выслаў некалька лістоў, але ахвяру атрымаў толькі ад Вас, за што яшчэ раз дзякую. Спадзяюся, што з часам прышлюць і іншыя. Праўда, надзея можа й не апраўдацца.

На Вас я не гневаюся за мой подпіс на рэзалюцыі й за тое, што мяне лягнулі ў „Уздыме". Вы хацелі мець рэзалюцыю й я Вам прыслаў, сцьвердзіўшы яе сваім подпісам, з тым, каб яна мела значэньне. Сп. Сенька пасьля зьезду даў мне рэзалюцыю бяз подпісу прэзідыума зьезду. Над рэзалюцыяй не было ніякай подпісі, а таму я падпісаў „за згоднасьць – прот. М. Лапіцкі". Дзякуючы гэтаму й атрымалася маленькая неўвязка. Бо рэзалюцыю Вы маглі выдаць за маёй подпісяй, альбо за подпісяй сп. Касяка й сп. Сенькі. Разам спалучаць подпісяй Вы ня мелі права. Кангрэсавы Камітэт мне нічога не пісаў, але выглядала, што я ўмяшаўся ў іх кампетэнцыю. Але часам памылкі бываюць у таго, хто робіць. Я таму за гэта не абіжаюся. Не абіжаюся, што лягнулі ў „Уздыме". Крывічам я – костка ў горле. Калі-б не было рэзалюцыі, дык другое нешта-б плявузгалі. Уступаць у дыскусыю з „Уздымам" я ня маю намеру. Мае высьці „Царкоўны Сьветач". Сп. Ф. Высоцкі, старшыня Царкоўнага Камітэту, напісаў два артыкулы. Адзін аб царкоўным паяднаньні, а другі – адказ „Уздыму". Я супроць іх друку, але ён падпісывае сваімі ініцыяламі й настойвае іх друкаваць так, як напісаны. Бяз зьменаў, што мне не падабаецца, але мушу ўступіць, бо кожны мае на гэта права. Вам, калі хочаце мець хоць маленькі кантроль лістоў ды вясьці працу, каб разваліць крывіцкую бочку, пісаць адказ пакуль што нявартa. Па-другое, „Уздым" і не заслугоўвае на гэта сваім зьместам. Што тычыцца мяне, хай пішаць што хочаць, я ім адказываць ня буду. З асіпчыкамі дыскутаваць для мяне занізка й непатрэбна. „Уздым" сваім зьместам нічым не розьніцца ад Асіпчыкавай ілжывай і пашквільнай макулатуры ды друкуе яго артыкул. А таму яго трэба абходзіць, як брудную лужу, дзе могуць купацца толькі сьвіньні.

Мне не падабаецца, што сп. Сацэвіч, будучы сябрам Кангрэсавага Камітэту, без узгадненьня ўвайшоў у т. з. Бацькаўскі Камітэт у Клівелянддзе (які па свайму зьместу крывіцкі) і спрычыніўся, што нашы дзеці пайшлі пад крывіцка-вуніяцкае крыло. Такая праблема, як школа і ўзгадаваньне, мусіць палагоджывацца сябрам Кангрэсавага Камітэту з пункту

гледзішча агульна-беларускага, а не з пункту гледзішча клівеляндзкага хутара. Я вітаў-бы такі пачын, калі-б нашы дзеці пайшлі ў крывіцкую школу, а крывіцкія (як, напрыклад, у Саўт Рывэр) пайшлі ў нашы. Але, на вялікі жаль, яны на гэта не ідуць. Нашых ахвотна прымаюць, тым больш, што мы самі іх туды ўпіхаем, а сваіх да нас не пускаюць. Вось трэба й спрычыняцца, што крывічы ня хочаць паяднаньня. Нічога не паможа, нават шыльд сп-ва Каханоўскіх, да якіх я асабіста маю пашану й рэспэкт.

Дзень 25 Сакавіка будзем сьвяткаваць разам. На пачатку выглядала, што не дагаворымся. Ст. Станкевіч пачаў муціць і не хацеў прызнаць пазшлагодняй платформы супольнага сьвяткаваньня. Яму яна ня выгадна, бо ён працуе ў непрэдрашэнскім расейскім камітэце. Такія людзі ня маюць права браць удзелу ў нашым супольным сьвяткаваньні. Яны могуць толькі прысутнічаць. Ст. Станкевіч хацеў выступіць з прамовай, на што мы не пагадзіліся. У нядзелю 19 студзеня 1964 г. было другое спатканьне, на якім Ст. Станкевіч не прысутнічаў і крывічы пасьля гарачай дыскусыі пагадзіліся прыняць пашлагоднюю платформу. Ня ведаю, як у далейшым захаваецца старшыня БАЗы Ст. Станкевіч.

У царкоўнай галіне на паяднаньне я не спадзяваюся, тым больш, што ў хуткім часе будзе Крыт высьвечаны ў епіскапы. Гэта не што іншае, як іронія й зьдзек над БАПЦарквой. Да Крыта, як да чалавека й беларуса, я нічога не маю, але як кандыдат на епіскапа ён не адпаведны, і нам зь імі не па дарозе. Згодна традыцыі епіскап мусіць мець вышэйшую духоўную адукацыю, а Крыт і сярэдняй ня мае. Тамашчык кончыў аграномію і ўкраінскія епіскапы забясьпечылі яго дыплёмам іх Духоўнай акадэміі ў Мюнхэне. Як залатаюць у Крыта гэту дзірку – ня ведаю.

Я вяду сваю працу й калі прыбудзе яшчэ пару прыходаў, дык пастараюся ў Экзархаце Канстантынопальскай Патрыярхіі аформіць нашу Царкву пад назовам Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква на Чужыне. Адносна арх. Апанаса канкрэтнага пакуль што не магу напісаць нічога. Справа вырашыцца, мне здаецца, хутка й тады я падам да агульнага ведама.

У Вініпэгу я напісаў Навіцкаму й напішу Гуцько з Вурдз, калі атрымаю адказ ад Навіцкага. Каб не паўтарацца, залучаю Вам копію ліста да Навіцкага, якую прашу вярнуць мне назад.

З любоўю ў Хрысьце
[а. прот. М. Лапіцкі]

## № 7

[Копія]

[Саўт Рывэр], 5 сакавіка 1968 г.

Паважаны сп. Харытановіч!

Ваша ацэнка заўсёды была правідловай адносна крывіцкага ўгрупаваньня ў Клівеляндзе ў цэласьці й кожнага зь іх, у аддзельнасьці. А таму й сяголньня пішу Вам, каб даведацца пра падзеі ў Клівеляндзе й адносіны Клівелянда да Тамашчыка й Абрамчыка. Як інфармуюць мяне з Брукліну тыя, якія ваююць з Тамашчыкам, Крыт нібы назначаны на Амэрыку, а якія яго суадносіны з Тамашчыкам дакладна нічога не кажаць, апрача сп. В. Юрцэвіча, які гавора, што нібы Крыт мае дабіць Тамашчыка. Будуць яны дабіваць адзін другога ці не? Ня ведаю, але цяпер Тамашчык, відаць па загаду вуніятаў, кампрамітуе імя праваслаўнага беларускага епіскапа, якім ніколі ня быў і не ёсьць, як сваім судом з парафіянамі, так і высьвятай Кендыша. Тут я маю на ўвазе не самаго сп. В. Кендыша, [але] тую валтузьню, а нават бойку, каб адчыніць царкву, у якой адбылася высьвята.

Што добрага ў Вас? Як здароўе й як гадуюцца дачушкі, якіх я хрысьціў? У восені прошлага году быў у Клівеляндзе, хацеў заглянуць да Вас, але не выйшла. З кампаніяй не хацеў парушаць Ваш спакой, а аднаму не было транспарту, ды й часу.

У Саўт Рывэры ўсё ідзе па старому. Маем перад сабой шмат работы. Купілі зямлю й будзем будаваць новую царкву, залю й дом для настаяцеля. Цяжка з грашыма, але спадзяёмся на Бога й людзей добрай волі.

З любоўю ў Хрысьце
[а. прот. М. Лапіцкі]

Ліст да а. Лапіцкага

[Арыгінал]

[Кліўленд], 14 верасьня 1962 г.

Very Rev. N. Lapitzki
190 Turnpike Road
South River, N.J.

Яго Міласьці прот. Лапіцкаму

Я папярэдне высылаў Вам копію ліста, заадрасаванага прэзыдэнту БЦР праф. Астроўскаму, у справе маёй лучнасьці з еп. Васілём. Я ласкава

прашу Вас, прагледзьце ўсё гэта дакладна ды пастарайцеся падаць свае погляды ў гэтай справе для прэзыдэнта і, як магчыма, [прыслаць] мне копію, або зрабіце так, як Вы будзеце ўважаць.

Паводле атрыманых лістоў ад Васіля ды ў папярэдніх гутарках з тутэйшым сьвятаром выглядае, што еп. Васіль намераны зусім парваць з Абрамчыкавай вуніяцкай фікцыяй. Я вельмі прашу Вас, а. Лапіцкі, не адкіньце гэтай справы, а пастарайцеся ціха давесьці да самых перагавораў, калі ён згаджаецца ўпоўнасьці й на перавысьвячэньне, і на прыняцьцё палітычных пунктаў галоўных. Дык я думаю, што нам няма чаго шукаць у полі ветру, усё-ж мусім прызнаць, што еп. Васіль ёсьць беларус, нацыяналіст і праваслаўны, ды на працягу ўсяго гэтага часу трымаў сябе вельмі дысцыплініравана. На маю думку, ды не адзін, як я, думаюць, а ад даўжэйшага часу выказваюцца людзі і ў Чыкага, Канадзе, беларусы з Аўстраліі, Англіі й Нямеччыны, што лепей-жа палажыцца ў рэлігійных справах і ў нацыянальных на еп. Васіля, чым на епіскапаў Філафея, Апанаса ці Мацьвея, бо гэтыя людзі ніколі не стануць у абароне ўсіх праў беларускага народу.

Калі-б нам удалося ўсё аформіць зь еп. Васілём, паставіць яго на правільны шлях як у рэлігіі, так і ў палітычным кірунку, а ўсё выглядае, што мы зможам гэта зрабіць, у такім разе мы ўпоўнасьці разьбілі-б Абрамчыкаў вуніяцкі млын, які быў прызначаны перамельваць праваслаўных беларусаў іхнімі-ж рукамі. Пры еп. Васілю трымаецца большасьць і палітычных арганізацыяў, і моладзі. Таму ў гэтым трэба, каб быў чынны й прэзыдэнт Астроўскі ды інжынер Касяк. Безумоўна, што пры гэтым трэба захаваць сакрэтнасьць, бо, як зазначае епіскап, „чай патом пеняцца". Гэта ўпоўнасьцю датычыцца Абрамчыкавых вуніятаў.

Было-б пажаданым, каб вы зараз навязалі лучнасьць з еп. Васілём. Вам там усё гэта на месцы. Я спадзяюся, што Вы хутка мяне паінфармуеце ў гэтай справе.

Жадаю Вам усяго найлепшага.

З пашанай да Вас

Я. Шымчык



## Ліставаньне з царкоўным актывам у Пассэйку

Лісты да Мая [Э. Ясюка]

### № 1

[Копія]

[Саўт Рывэр], 17 красавіка 1962 г.

Ініцыятыўнай групе па арганізацыі прыходу ў Пассэйку неабходна зараз-жа зрабіць наступнае:

1. Зладзіць заяву аб чартар. Пасылаю ў ангельскай мове копію заявы з Саўт Рывэру. Перадрукуйце яе, перамяніўшы назовы й прозьвішчы і, сьцьвердзіўшы ўласнаручнасьць подпісаў у сп. Сільскага ці Хрыстановіча, вышліце ў стэйт.
2. З грэкамі дагаварыцеся адносна служб у іх царкве. Гэта можа зрабіце перш, чымсьць выслаць заяву аб чартар. Вазьміце ў арэнду.
3. Пацікаўцеся царквой, дзе служыў а. П. Каханік, пакуль пабудаваў новую. Сп. Вішнеўскі казаў, што яе можна дастаць за дзесяць тысяч. Я не веру гэтаму, але пацікавіцца трэба. Сп. С. Жамойда знае, дзе гэта царква. Прайдзіце й паглядзіце. Калі спадабаецца, тэлефанічна зьвяжыцеся з а. П. Каханікам і ён дасьць Вам інфармацыі.
4. З сабраных грошай прышліце мне $ 8.00 і я Вам у Нью Ёрку куплю кнігу „Вялікі Зборнік", які мусіце мець, каб адпраўляць службу. Я думаў, што ён каштуе $ 5.00, прагледзіў каталог і там напісана $ 8.00.
5. Мусіце вырашыць справу з настаяцелям. Калі а. А. Апанасевіч адмовіцца служыць у гэту нядзелю й на Вялікдзень, дык мне хацелася-б, каб Вы настала запрасілі а. І. Малатка. Тым больш, што ён даў мне згоду служыць два разы ў месяц. Мне хочацца, каб а. А. Апанасевіч заняў месца ў Чыкага. Тады-б прыходы былі-б абстаўлены добрымі сьвятарамі. Айцец І. Малаток з Гэмштэт нікуды ня хоча ехаць, купіўшы дом. Айцец А. Апанасевіч піша, што яго фабрыка выяжджае з Нью Ёрку і ён, разабраўшыся зь ёй, можа выехаць на прыход. Праўда, зрабіць ён гэта толькі можа ўвосені.
6. Мусіце прыняць пастанову, згодна якой забараняецца ў залі пад царквой піць напіткі з алкаголем. Калі гэта не зробіце, разложыцца прыход, нават, калі яго сарганізуеце. Статут нашай царквы ў Саўт Рывэры, таксама забараняе на тэрэне царкоўным піць алкаголь. Выняткі могуць быць з дазволу настаяцеля й камітэту.

7. Заяву на чартар мусяць падпісаць сп. сп. Э. Ясюк, А. Шудзейка, С. Жамойда, М. Падлезнік, Іван Дашкевіч, М. Маслоўскі й мой брат, або Сяргей з Францыі. Сп. У. Дутку не ўцягавайце, бо будзеце толькі сварыцца. Час не прыйшоў яшчэ на паяднаньне, за якое ратуе сп. Дутка. Ён ужо спрачаўся са мной у Івана Дашкевіча, даводзячы, што спачатку трэба купіць будынак, а тады запрасіць не а. Апанасевіча й не а. Малатка, а такога, якога захочам, сьвятара. Што ён хоча асягнуць, ідучы гэткай дарогай, ня ведаю. Па-першае, Царква, згодна катэхізісу – гэта не будынак, а вернікі, духавенства й епіскапы. Вось такую я й хачу дапамагчы Вам арганізаваць Царкву. Калі-ж ісьці дарогай сп. У. Дуткі, дык сабраўшы грошы, у што я ня веру, паўстане пытаньне: на каго прызнаваць будынак. Усюды будынкі прызнаюцца на царкву, дзе ёсьць юрысдыкцыя, сьвятар і вернікі, ды адбываецца служба. У Чыкага зрабілі іначай і мусяць папраўляць. Прыватны будынак ня можа называцца і ўтрымлівацца Царквой. Ён можа толькі арандавацца, за што ўласьнікі мусяць плаціць падаткі, якія ня плоціць Царква.

Майму лісту не давай агласкі. Пішу гэта толькі да Цябе. Хаця на Цябе брэшаць, але ня будзь Мая ў Пассэйку, дык напэўна ўжо нічога не было-б там беларускага. Сягоньня гэта па тэлефону пацьвердзіў сп. Вайцяхоўскі. Я буду Табе памагаць, але мне мусіш варочаць расходы майго падарожжа. Я быў у Нью Ёрку па Вашай справе й 2 разы ў Пассэйку. Я выдаў $ 7.00, якія мусіш мне вярнуць з сабраных грошай. Не дзівіся гэтаму, бо я атрымліваю жабрачыя грошы й на кожнай справе дакладываць цяжка. Зразумела, я на пакупку царкоўнага будынку таксама нешта ахвярую. Барыс казаў таксама, што ахвяруе. Жадаючы посьпеху у далейшай працы, на гэтым канчаю.

З любоўю у Хрысьце
[а. прот. М. Лапіцкі]

## № 2

[Копія]

Саўт Рывэр, 8 жніўня 1962 г.

Даражэнькі Май!

Падчас нашага апошняга спатканьня Ты запрасіў мяне на 25 жніўня ў Пассэйк. Усё рабілася на хаду й я не застанавіўся над тым, што гэта дата прыпадае на суботу, калі ў мяне ёсьць служба. А таму адлучацца

мне ў гэты дзень, без падставы, не выпадае. Падставай для мяне зьяўляецца служба Божая ў Пассэйку. А таму мусіць быць адслужана ў суботу 25 жніўня Вячэрня з малебнам, а ў нядзелю 26 чэрвеня – літургія.

У сувязі з тым, што я магу служыць толькі ў суботу, Вы мусіце запрасіць а. А. Апанасевіча, а нават і а. І. Малатка, з тым, каб а. А. Апанасевіч астаўся на нядзелю й адслужыў літургію. А таму зараз-жа дагаварыцеся з грэкамі адносна царквы, а таксама з а. А. Апанасевічам адносна службы. Справу гэту не адкладывайце ў дальні яшчык, дзеля таго, што а. А. Апанасевіча можа запрасіць іншая царква.

Падобная пастаноўка прынясе карысьць для царкоўнае справы, а таксама падыме прэсьціж сьвяткаваньня. Вячэрню назначце на 6 гадз. вечара, а літургію – на 10 гадз. раніцы. Зразумела, пасьля таго, як дагаворыцеся з грэкамі й а. А. Апанасевічам.

Для мяне прышліце афіцыяльнае пісьмо як аб службе, так і аб сьвяткаваньні. Гэтага вымагае справа й этыка, на якой Май разумеецца. Калі гэта ня будзе зроблена, я не змагу прыехаць, хаця маё сэрца заўсёды з Маем. Прывітаньне ад матушкі.

З любоўю ў Хрысьце
[а. прот. М. Лапіцкі]

P. S.: Прышліце мне копію ліста, які выслалі арх. Якаву.

## № 3

[Копія]

[Саўт Рывэр], 12 кастрычніка 1963 г.

Даражэнькі Май!

Ліст Ваш атрымаў і зараз-жа даю Вам адказ. Калі-б Ваш прыход пераключыўся да нас, дык я сам мог-бы прыехаць на які месяц да Вас і служыць, пакуль не знайшлі-б настаяцеля. Зразумела, Вы мусілі-б аплаціць дарогу да Вас і назад, ды даць кватэру і ўтрыманьне.

Пазьней ці раней еп. Мацьвей адойдзе й Вы будзеце змушаны шукаць выхаду з палажэньня. Цяпер, магчыма, самы найлепшы мамэнт для беларуса вырашыць гэту справу й адваяваць прыход. Ведаю, што зрабіць гэта цяжка, але з дапамогай Бога магчыма.

Калі я там цяпер не падыходжу як беларус, нацыяналіст (каб не дражніць індыкоў, маю на ўвазе расейцаў і ўкраінцаў), дык трэбаісьці дарогай,

намечанай Вамі. Праўда, ня веру ў вялікія посьпехі, але можа што й выйдзе. А таму пішыце спачатку а. Л. Стаднікаву й а. А. Апанасевічу. Адрасы іх падаю ніжэй. Канчаючы свой ліст, мушу зазначыць, што я магу толькі прыехаць і служыць пакуль выясьніцца справа, дзеля таго, што я Саўт Рывэр пакідаць ня маю намеру.

Жадаючы ўсяго найлепшага, на гэтым канчаю. Прывітаньне ўсім беларусам.

З любоўю ў Хрысьце
[а. прот. М. Лапіцкі]

## № 4

[Копія]
[Да М. Сяднёва] [Саўт Рывэр, 60-ыя гады]

Даражэнькія Мае...!

Лянюся пісаць, але сягоньня найшла ахвота, а таму сеў і лісты пішу. Пераважна адказываю на лісты зь вялікім спазьненьнем. Ня помню, чый быў апошні ліст, Ваш ці мой да Вас? Але гэта няважна, і я хачу скрэсьліць пара слоў, не з тым, каб перапужаць Майсея Іларыёнавіча, але каб запытаць як здароўе, як жывецца, як растуць дзеткі, якія весткі з Плісы й што добрага ў Вас? Адначасна з гэтым дзякую за дапамогу папярэднюю ды прашу, калі што маеце з паэзыі ці прозы, дык прышліце. Верш будзе надрукаваны.

Заказы ёсьць, але не асьмеліваюся імі абцяжываць. Так, напрыклад, Вітаўт Кіпель у прыватнай гутарцы прасіў мяне выказацца адносна часапісу моладзі (№ 17). Я пералістаў гэты часапіс і ўбачыў, што ён чысьцюсенькай вады крывіцкі часапіс. Адна толькі розніца, што ў рэдакцыйнай калегіі фігуруюць людзі як-бы нашага ўгрупаваньня ды на абложцы змешчана іх арганізацыя, за што яны мусяць плаціць 100 дол. Рэшта ўсё крывіцкае. Аб гэтым напісаў В. Кіпелю ды прасіў, калі часапіс і надалей будзе сьмярдзець антосяўшчынай і янкаўшчынай, каб мне яго не прысылалі, бо я не пераношу ашуканства й старыны. Хочацца мець часапіс моладзі такім, ад якога веяла-б новым і праўдзівым. Хацелася-б, каб у ім друкаваліся ды прабавалі свае сілы прадстаўнікі моладзі, а не „чало" крывіцкага ўгрупаваньня, бо іначай трэба мяняць і назоў часапіса: часапіс старых для маладых. Кожны часапіс мае сваю мэту. Мне здаецца,

мэтай часапісу моладзі ёсьць прыцягнуць да пісаньня моладзь. Праўда, гэта быў прыватны ліст і, магчыма, ён ня будзе мець разгалосу, але калі і далей будзе часапіс моладзі такім, дык я змушаны буду зрабіць аб гэтым зацемку ў „Царкоўным Сьветачы". Тут патрэбна мне дапамога.

Далей, хацелася-б мець малітву праваслаўнага паэта, а не Кушаліхі, якая й сама ня ведае, хто яна такая. Маю намер аб'явіць конкурс, але перад тым, як зрабіць гэта, хачу мець Вашы заўвагі ў гэтай справе, а таксама інфармацыю: прымуць паэты ўдзел у конкурсе, ці не? Калі паэты ў Блюмінгтоне прымуць удзел, дык ужо можна аб'яўляць конкурс.

У Саўт Рывэры жыцьцё ідзе старой каляёй. Родзяцца, жэняцца й паміраюць. Родзяцца нават і па двое. Такое шчасьце спаткала сп. Бахара й яго жонку Любу з дому Ўрыўскіх. Радзіўся хлопчык і дзяўчынка. Дзеці чуюцца добра, а матка па недагляду дохтара амаль не ўмерла, але, дзякаваць Богу, паправілася й хутка будзем хрысьціць народжаных. Апошняе вясельле было нядаўна. Добрая была пара, добрае было й вясельле. Госьці былі запрошаны не па партыйнай кніжцы, а па прыяцельскім сувязям. Сваёй прысутнасьцяй пераважаў Менск, на чале з Качанскімі, Кіпелем, Стаськевічам, Верачкай, Віёлкай і г. д. Наступнай парой, калі не растроіцца, будзе Міжэвіч Г. (малодшы й яго ізбраная), якую ня ведаю, бо не належа да нашай парафіі. Памёрлі сьв. п. Л. Каліноўская, Е. Талмачэвец і Г. Хмура. Каліноўская й Хмура – з рака. У нас усё ў парадку. Лёля пайшла на работу, а мы з матушкай няньчым унука, які надакучае, а таксама й цешыць. Жорж пакуль што ня жэніцца. Працуе цяпер недалёка ад Чыкага. Добрай пагодай з унукам ездзім на мора й карыстаемся дабрадзействамі прыроды, якую стварыў Усемагутны Бог.

Цалуем Вас усіх: Бацюшка, Матушка, Лёля, Лявон і Аляксандр.

З любоўю ў Хрысьце
Ваш [а. прот. М. Лапіцкі]

## № 5

[Копія]

[Саўт Рывэр], 23 лютага 1965 г.

Даражэнькі Май!

Навін асаблівых няма, але мушу напісаць пара слоў. У прайшоўшую нядзелю 21 лютага 1965 г. адбылося паседжаньне рэдакцыйнай калегіі часапісу „Беларуская Думка". На гэтым паседжаньні папрасілі мяне, каб

я напісаў Вам пару слоў з просьбай, каб Вы прыслалі што-небудзь да друку ў часапіс. Роля мая, як сьвятара, была, ёсьць і будзе: маліцца, вучыць, дзякаваць, прасіць. Дзеля гэтага, выконываючы сваю роль, а таксама просьбу рэдакцыйнай калегіі (да якой належу й я) ветліва прашу Вас не адмовіць і прысласць што-небудзь для друку. Часапіс выйдзе хутка, калі адбяром найлепшы матар'ял. Грошы на друк ужо маем. Просьбу маю, у аснаўным, хоць часткова выконываюць. Гэтымі днямі спавядаў матушку Віцьбіч. Пры гэтай аказыі перакінуўся пара словамі з сп. Стукалічам, які, між іншым, сказаў: „Я ў даўгу перад а. Мікалаем, але я помню й штонебудзь прышлю для „Царкоўнага Сьветача". Спадзяюся, што і ў даным выпадку й Вамі мая просьба будзе палагоджана пазытыўна.

Матушка Віцьбіч мае ўжо 88 год. Два разы ў год я яе спавядаю на кватэры й прычашчаю Сьв. Таінств. Чуецца яна някепска, але ня можа хадзіць. Праўда, па хаце соўваецца, але прыйсьці ў царкву й стаяць падчас службы ёй цяжка. Сын яе трымаецца, але нядаўна быў у шпіталі. Меў вельмі вялікае кравяное цісьненьне. Цяпер пахудзеў, цісьненьне абніжылася й чуецца някепска. Працуе на старым месцы. Нявестка таксама чуецца някепска.

Калі расходзіцца аб Саўт Рывэр, дык нічога не зьмянілася. Адно павырасталі амэрыканцы беларускага паходжаньня, асабліва сп. Завістовіч. Не адстаюць і дзяўчаты: Сіцько, Занкавіч, Шчорс, Баранцова й г. д. Вырас і наш Аляксандр, які прыйшоў да дзеда, сеў на калені й перашкаджае друкаваць, гледзячы на дагавор, што я сьпярва буду друкаваць, а пасьля ён.

Цяпер гатовімся да сьвяткаваньня 25 Сакавіка. Адбываюцца сьпеў і нарады. Маем два хары – жаночы, пад кіраўніцтвам сп. К. Барысаўца й мужчынскі, пад кіраўніцтвам сп. Ю.Рымко. Сп. Д. Верасаў кіруе царкоўным хорам і да акадэміі ня мае магчымасьці, каб выступіць змешаным хорам. Сьвяткаваць будзем і ў гэтым годзе разам з крывіцкім адламам. Крывіцкае непрадрашэнскае вуніяцкае „чало" з Ст. Станкевічам сьвяткуе аддзельна. Сьвяткаваньне адбудзецца ў адзін дзень. Дзякуючы гэтаму, Тамашчык знаходзіцца ў пікавым палажэньні й пакуль што няведама, куды ён пойдзе.

У прошлым годзе брат Ларысы Генюш пісаў нам, што яна вярнулася з Сібіры й дажывае свае апошнія дні ў Зэльве, хварэючы на страшную хваробу рак. Магчыма, ужо й памёрла, але мы аб гэтым яшчэ нічога ня ведаем. У нас усё, дзякаваць Богу, добра. Наракаць ні нашто не можам. Чакаем вясны, якая ўжо не за гарамі, а там і лета.

Што добрага ў Вас? Можа маеце якія весткі з Бацькаўшчыны? Як гадуюцца дзеткі? Я перад Валодзем не ўпарадку. Абяцаў сьціхар і не прыслаў. Цяпер мог-бы выканаць сваё абяцаньне, але, магчыма, яму ўжо ня трэба, ды й рост ня ведаю які?

Ёсьць чуткі, што бальшавікі выдалі кнігу досьць абшырную аб беларускай эміграцыі. Як чуваць, усіх прадставілі праступнікамі, калябарантамі й г.д. Кнігу гэту, кажуць, мае Ст. Станкевіч. Прывітаньне ад маіх дамачадцаў.

З любоўю ў Хрысьце
Ваш [а. прот. М. Лапіцкі]

## Ліставаньне з царкоўным актывам у Ракфордзе

Лісты да П. Ракуця, М. Вайтовіча, а. Л. Стаднікава

### № 1

[Копія]

[Саўт Рывэр, 60-я гады]

Дарагі сп. Ракуць!

Шчыра дзякую за ліст. Як я бачу, справа яшчэ не страчаная і ў мяне ёсьць маленькая надзея, што мы можам яшчэ мець і прыход у Ракфордзе. Някепска, што ў Вас служыць а. В. Вячорка. Я яго ведаю й разам зь ім служыў у Чыкага ў беларускай царкве. Ён – беларус. Да яго трэба ўмела падыйсьці й ён можа адыграць пэўную ролю ў беларусізацыі Вашага прыходу. Праўда, яго могуць выкарыстаць і расейцы, калі мы будзем сядзець злажыўшы рукі. На а. В. Вячорку трэба ўплываць праз беларусаў у Чыкага. Дочкі а. В. Вячоркі хадзілі раней у беларускую царкву. Ня ведаю, куды яны ходзяць цяпер. Магчыма, у расейскую, леонцееўскую, бо бацька, як Вам ведама, служыў апошні час у гэтай юрысдыкцыі.

Калі я быў у Ракфордзе, дык я й Вы сабраліся ў Касаўца й трохі пагутарылі. Някепска было-бы, каб тыя самыя людзі й цяпер дзе-кольвек сабраліся й запрасілі а. В. Вячорку. Пасядзелі, пагутарылі, зразумела, пры чарцы, успомнілі Палесьсе, Бацькаўшчыну, але на першым такім сяброўскім спатканьню ня трэба чапаць справы беларусізацыі прыходу

Вашага. Гэту справу можна будзе зачапіць, калі да гэтага падгатовіцца адпаведны грунт. Падгатаўляць гэты грунт трэба праз беларусаў у Чыкага й а. Ф. Бялецкага, якому я напішу, альбо наведаю, калі буду ў Чыкага. Магчыма, у канцы гэтага месяца я буду ў Чыкага й можа наведаю Ракфорд. На спатканьні з а. В. Вячоркам мусіць быць невялікая колькасьць людзей і ўсе яны мусяць быць нашы. Спатканьне гэта адно, два, можыць збліжыць Вас зь ім і ён будзе рабіць тое, што мы яго будзем прасіць.

Што тычыцца духаўніка з Аўстрыі, дык добра, што Вы нікому аб гэтым не гаварылі. Я забыўся Вам аб гэтым напісаць. Гэта справа будучага. Магчыма, калі ён згодзіцца прыехаць, дык я праваджу яго сам. А там будзе відаць, дзе патрэбны й туды яго пашлём. Калі-б ён быў, як Вы зварочываліся, каб Вам даць сьвятара-беларуса, дык, магчыма, прыход ужо быў-бы наш. Тое, што я пішу Вам, трымайце ў тайне й толькі тым можаце даць прачытаць мой ліст, хто разам з Вамі й са мной. Такіх, на вялікі жаль, у Вас мала ёсьць, ды й тыя, якія ёсьць, не заўсёды на месцы. А таму глядзіце й падбірайце самі для нашай работы людзей, якія, калі Богу будзе ўгодна, прарабяць працу для дабра нашай Беларускай Праваслаўнай Царквы й нашага Беларускага Народу. Зразумела, справа цяжкая, але не зражайцеся. З дапамогай Госпада Бога можам асягнуць яе. На гэтым канчаю, жадаючы ўсяго найлепшага. Пішыце.

З любоўю ў Хрысьце
[а. прот. М. Лапіцкі]

## № 2

[Копія]

[Саўт Рывэр], 1 лістапада 1963 г.

Паважаныя сп. Ракуць і сп. Вайтовіч!

На Вашы два лісты прапаную Вам зрэалізаваць наступнае: у Англіі ёсьць добры беларус, протадыякан а. Павел Вялікі. У сан дыякана яго рукапалагаў епіскап Мацьвей. Ён і цяпер мае зь ім лучнасьць. Я зь ім у кантакце й час ад часу пішам адзін другому. У свой час ён хацеў пераехаць у Канаду ці Амэрыку, але гэту справу мне было цяжка зрэалізаваць, ды й жонка яго не вельмі хацела ехаць на няведамае палажэньне і ў нязнаны край. У сувязі з гэтым Вы напішыце прашэньне да арх. Мацьвея, каб ён рукапалажыў протадыякана Паўла Вялікага ў сан сьвяшчэньніка й назначыў да Вас настаяцелям. Пры прашэньні залучыце

выразкі газэт і зазначце, што нават калі й апраўдаецца Ваш настаяцель, дык яму ня месца ў Вас. Гэты плян можаце рабіць адкрыта. Адно толькі, не кажыце, што я падаў такі плян. Праўда, Яськоў можа саабразіць, што гэта ад мяне паходзіць і будзе перашкаджаць, ліючы балота на мяне, Вас і а. Паўла Вялікага. А таму ўзважце гэта й рабіце так, як будзе лепей. У прашэньні зазначце, што а. П. Вялікі – Ваш зямляк і Вы хочаце мець яго Вашым настаяцелем. Калі гэта Вы будзіце рэалізоўваць, дык адразу напішыце мне, каб я мог напісаць а. П. Вялікаму ды прасіць яго з матушкай, каб пераехалі ў Амэрыку. Праўда, ён слабейшы за цяперашняга, але моцны беларус, зь якім пры дапамозе Вашай, магчыма, спалучымся.

На гэтым канчаю, жадаючы Вам усяго найлепшага. Адрас а. П. Вялікага падаю ўнізе. Мяне цікавіць, што кажа й што думае рабіць Яськоў? Аб гэтым напішыце мне пару слоў.

З любоўю ў Хрысьце
[а. прот. М. Лапіцкі]

## № 3

[Копія]

[Саўт Рывэр], 27 сьнежня 1963 г.

Дарагі а. Леанід!

Хацеў выслаць сьвяточную картку, але гэтага-б было замала, а таму пішу ліст. Па-першае, вітаю з Калядамі й Новым Годам і ад шчырага сэрца жадаю ўсяго найлепшага. Другое, што ляжыць мне на сэрцы, гэта прыход у Ракфорд, каля Чыкага. Прыход гэты ў бальшыні складаецца зь беларусаў. Ёсьць там трохі ўкраінцаў і пара расейцаў (зрусафікаваныя беларусы). Яны пабудавалі новую царкву й да гэтага часу належалі да юрысдыкцыі еп. Мацьвея зь Вільні, каторы цяпер жыве ў Англіі. Але апекай гэтай яны ўжо пацешыліся, дзякуючы няўдачнікам сьвятарам. Апошнім быў а. Яськоў, які мае судовую справу (не з прыходам, а прыватную), дзякуючы якой мусіў пакінуць Ракфорд і пераехаць на прыход у Мільвокі. Цяпер гэты прыход вольны й яго часова абслужывае ўкраінскі сьвятар, які намаўляе іх увайсьці ў украінскую, альбо Тамашчыка царкву. Быўшыя мае прыхаджане па лагеру ў Нямеччыне ведаюць, што прадстаўляе вуніяцка-крывіцкая царква Тамашчыка, а таму ня хочаць мець зь ёй нічога супольнага й шукаюць сьвяшчэньніка беларуса, які згадзіўся-б прыняць іх прыход з тым, каб пазьней належаць да юрысдыкцыі экзарха Канстантынопальскага патрыярха. У гэтай справе яны

пісалі да мяне й прасілі парадзіць сьвяшчэньніка беларуса, да каторага яны-б маглі зьвярнуцца з прапановай заняць іх прыход. Я для Ракфорда так, як раней для Чыкага, падаў Вас як сьвяшчэньніка беларуса, каторы не проч уключыцца ў нашае беларуска-царкоўнае жыцьцё, згодна слоў сп. праф. Б.Кіта й слоў сп. У. Брылеўскага, пасьля гутаркі з Вамі ў Лос Анжэлас. Як мне інфармуюць з Ракфорда, яны пісалі да Вас, але Вы ім не адказалі на ліст. У сувязі з гэтым яшчэ раз непакою Вас і ветліва прашу напісаць мне пара слоў у гэтай справе. Магчыма, Вы назаўсёды аселі ў Лос Анжэлас і мы напрасна Вас турбуем.

Што тычыцца Ракфорда, прыход зарганізаваны. Старшыня й сакратар Камітэту – беларусы. Царква новая. Каля царквы вялікі кусок зямлі, дзе маюць намер пабудаваць дом для сьвяшчэньніка. Ёсьць а. дыякан, які кіруе хорам і часам служа. Можа служыць заўсёды, калі настаяцель хацеў-бы. Аб матар'яльным забесьпячэньні настаяцеля Царкоўны Камітэт Вас паінфармуе, калі Вас цікавіць, ды адначасна Вы й самі можаце гэта пытаньне паставіць так, як Вы-бы хацелі. Справа гэта адчыненая й яе можа стаўляць як адзін бок, так і другі. Таксама й справу пераезда. Пад гэтым разумею пакрыцьцё коштаў пераезду. Ракфорд – гэта горад, у якім жыве каля ста тысяч людзей. Мне ён падабаецца. Быў я там некалькі разоў. Асабліва прыгожыя яго акраіны. Ад Ракфорда да Чыкага, дзе ёсьць наш прыход, сто майлаў. Нядаўна ў Чыкага з Англіі прыехаў а. А. Мірановіч, які заняў месца настаяцеля ў беларускай царкве Сьв. Юрага. Як ён, так і вернікі задаволеныя. Вось, здаецца, усё тое, што хацеў напісаць, а таму на гэтым канчаю, жадаючы ўсяга найлепшага Вам і Вашай радзіне. Чакаю хуткага адказу.

З любоўю ў Хрысьце
[а. М. Лапіцкі]

## № 4

[Копія]

[Саўт Рывэр], 27 студзеня 1964 г.

Дарагі сп. Ракуць!

Выбачце, што так доўга не адказываў на Ваш ліст. Перад тым, як адказаць Вам, мусіў сьпісацца з а. Міхаілам Мігаем. Сягоньня атрымаў ад яго ліст і ён піша, што паедзе ў Ракфорд. У сувязі з гэтым трэба змагацца за беларускі кананічны прыход. Беларусаў бальшыня, а таму, калі прыедзе а. М. Мігай, дык гэту справу трэба паставіць рабром. Для дапамогі магу

прыехаць і я, калі гэтага вымагае справа. Для мяне найлепш прыехаць зараз-жа пасьля Грамніц, т. е. пасьля 15 студзеня 1964 году. Дарогу мусіў-бы аплаціць Ракфорд, туды й назад. Калі расейцы і ўкраінцы будуць супроць, дык трэба дзяліцца. Гэта для прыхода вельмі цяжкая справа, але гэткія падзелы бываюць, калі вымагае жыцьцё. Мне здаецца ў Вас пазьней ці раней да гэтага дойдзе. А таму трэба не адкладываць гэтай справы. Перад арх. Якавам я Вам дапамагу аформіць прыход. У апошнім лісьце Вы ня пішаце, як стаіць справа з тым, каму Вы будзеце падлягаць у далейшым: еп. Мацьвею, украінцам, Тамашчыку ці арх. Якаву, якому падлягаю я й мой прыход. Чым кончыўся суд Яськова?

З любоўю ў Хрысьце
[а. прот. М. Лапіцкі]

## № 5

[Копія]

[Саўт Рывэр], 9 сьнежня 1964 г.

Дарагі сп. Ракуць!

Пару тыдняў быў у шпіталі. Меў апэрацыю. Усё прайшло, дзякаваць Богу, добра. Праўда, яшчэ не дамагаю, але ўсё памаленьку прыходзіць да нармальнага стану.

Прыехаўшы да хаты застаў Ваш ліст, за які шчыра дзякую. Як бачу зь ліста, у Вас, ды і ўсіх, магчыма, беларусаў у Ракфордзе, зьмяніўся настрой што да Тамашчыка. Тамашчык умее гаварыць і пры гэтым ведае, дзе што трэба сказаць. А таму няма нічога дзіўнага, што ён зрабіў нядрэннае ўражаньне на ўсіх Вас. На дадатак і выглядае ён вонкава някепска. Але гэтага мала. Каб быць праваслаўным епіскапам, дык трэба ня толькі насіць бараду, епіскапскую манцію, посах ды называць сябе епіскапам, але трэба ім быць. Епіскап Праваслаўнай Царквы мусіць быць кананічным, а гэтай кананічнасьці Тамашчык ня мае й ён просіць нашага экзарха арх. Якава, каб ён яму памог аформіцца кананічна. Калі гэта станецца, тады ўсе мы будзем прызнаваць яго епіскапам. Бяз гэтага ён ня ёсьць епіскапам Праваслаўнай Царквы, хаця й называе сябе ім. Гэта ёсьць закон Праваслаўнай Царквы й яго нарушаць ня можна. Калі хто нарушыў закон Царквы, дык той называецца гэрэтыкам і яго адлучаюць ад Сьв. Усяленскай Праваслаўнай Царквы, а гэта ёсьць самае страшнае, за што трэба будзе адказываць, калі ня тут – на зямлі, дык там – на небе, перад Богам. Для чалавека, які ня верыць у Бога, дык яму гэта абыякава,

але для мяне, веруючага ў Бога, гэта важная рэч, а таму я нічога супольнага ня маю з некананічнымі епіскапамі як Тамашчык і Фінькоўскі. Закон Царквы мусіць заховываць ня толькі епіскап, сьвяшчэньнік, але й кожны веруючы чалавек. З такіх людзей вось і ёсьць арганізаваныя беларускія прыходы ў Саўт Рывэры, Чыкага, Таронта ды і ў іншых мясцох. Мне асабіста хацелася-б, каб такі кананічны беларускі прыход быў і ў Ракфордзе, дзе шмат ёсьць маіх быўшых прыхаджан па лагеру ў Нямеччыне. На вялікі жаль, мне гэта не ўдаецца. Крывіцка-вунійныя чыньнік, зь якімі ў супалцы знаходзіцца Тамашчык, перашкаджаюць ў гэтым.

Дня 25 – 26-га 1964 г., у Клівеляндзе адбудзецца царкоўны зьезд, на які добра было-бы, каб хто-небудзь прыехаў з Ракфорда: Вы, Вайтовіч ці хто іншы. Запросіны Вам перасылаю пры гэтым лісьце. З Чыкага таксама будуць на зьездзе. Каб Вы былі ў курсе справы, залучаю маленькую інфармацыю, чаму мы робім зьезд. Калі арх. Апанас прыдзе да нас, дык мы будзем мець свайго кананічнага беларускага епіскапа, які ачоліць нашу Царкву. Арх. Апанас быў епіскапам на Бацькаўшчыне й браў удзел на Саборы Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы ў Менску ў 1942 годзе. Майце гэта на ўвазе й пакуль што старайцеся, каб Ваш прыход не падпарадкаваўся Тамашчыку. Пазьней будзе відаць, што рабіць.

З Вашых лістоў я бачу, што Вы  чалавек граматны, а таму разам зь беларускімі каляндарамі пасылаю Вам кнігу пра гісторыю нашай царквы. Чытайце яе й там знойдзеце ўсё. Калі цікавіцеся Тамашчыкам, дык чытайце ад старонкі 145 да 156. Кнігу шлю Вам як калядны падарунак, а каляндары, калі можна, прадайце па 50 цэнтаў, што й мы плацілі друкарні. Хутка выйдзе „Царкоўны Сьветач". У ім пададзены ўсе асобы, якія прыслалі ахвяры на Беларускі Дапамаговы Камітэт. Апрача гэтага хутка вышлю на Ваш адрас усім квітанцыі.

З любоўю ў Хрысьце
[а. прот. М. Лапіцкі]

## № 6

[Копія]

[Саўт Рывэр, студзень 1965 г.]

Дарагія Браты ў Хрысьце!

Упарадкаваць прыход вельмі цяжка. На ўсё трэба час і добрая воля людзей, гэта значыць, добрая воля духавенства й прыхаджан. Пры наяўнасьці гэтага й Бог пашле Яго благаславеньне й дапамогу.

Да гэтага часу Вашым прыходам кіравалі розныя юрысдыкцыі й сьвятары розных нацыянальнасьцяў. Цяпер Вы, беларусы, маеце поўнае права на гэта самае, што мелі іншыя.

Як гэта зрабіць? Першае, Вы мусіце афіцыйна запрасіць а. Алега Міhановіча з Чыкага, каб ён адслужыў у Вас Божую службу, а пасьля зрабіць зь ім нараду Царкоўнага Камітэту й парафіян, ды разам абгаварыць усе пытаньні, якія стаўляе на парадак дня Ваша царкоўнае жыцьцё, а таксама мае наступныя прапановы:

1. Ці Вы згодны ўвайсьці ў юрысдыкцыю арх. Якава, экзарха Канстантынопальскай Патрыярхіі й прылучыцца да нашых кананічаскіх беларускіх парафіяў, адміністратарам якіх на сягоньняшні дзень зьяўляюся я. Пры гэтым зазначаю, у нашых цэрквах няма ніякай палітыкі, а таксама антаганізма да іншых нацыянальнасьцяў. Усе карыстаюцца адзінакавымі правамі й поўнай талеранцыяй. Служым мы на царкоўна-славянскай мове, а ў пропаведзі карыстаемся беларускай і часам ангельскай мовай. Зразумела, мы молімся за сваю Бацькаўшчыну-Беларусь, дзе жывуць беларусы, украінцы, расейцы й іншыя.
2. Усе сьвяшчэньнікі беларусы ў сягоньняшні дзень маюць парафіі й працуюць у тых ці іншых парафіях. Ёсьць пара, якія не пайшлі на прыходы і, працуючы ў іншых галінах, у нядзелі служаць там, куды іх за-просяць. Сярод іх ды іншых кандыдатаў я мушу падыскаць сьвяшчэньніка, які-бы мог заняць месца настаяцеля ў Ракфордзе. Дзеля гэтага мусіце паінфармаваць мяне аб матар'яльных варунках, якія можаце даць свайму настаяцелю.

Вось гэта два пытаньні, ад вырашэньня якіх залежыць, магу я памагчы ці не? Прапановы мае мусіце адкрыта й шчыра ў прысутнасьці а. Алега Міrановіча вырашыць: прымаюцца яны ці не? Калі бальшыня галасоў будзе за мае прапановы, дык я разам з а. Алегам Мірановічам з Чыкага й а. Якавам Кузьміцкім наладзім службы й адначасна разам з Вамі будзем падысківаць настаяцеля для прыхода ў Ракфорд. Службы наладзім зараз-жа пасьля прыняцьця маіх прапаноў. Спадзяюся таксама, што дапаможа нам і а. М. Мігай, які ў свой час дапамагаў у Чыкага, пакуль не прыбыў з Англіі а. А.Мірановіч, запрошаны Царкоўным Камітэтам на маю прапанову. Сягоньня ў Чыкага ціш, гладзь і Бож'я благадаць, з чаго цешацца людзі й я асабіста, што не памыліўся. Праўда, я ведаў каго прапаную. Айцец Алег Мірановіч, малады, энэргічны й чалавек з вопытам. Дык навяжыце зь ім цеснае супрацоўніцтва, а я заўсёды буду з Вамі.

На гэтым канчаю, жадаючы ўсяго найлепшага.

З любоўю ў Хрысьце
Ваш прот. М. Лапіцкі

## № 7

[Копія]

[Саўт Рывэр, студзень–люты 1965 г.]

Паважаны сп. Вайтовіч!

Вельмі цешуся, што Вы нарэшце спаткаліся з а. А. Мірановічам, настаяцелем беларускай царквы ў Чыкага. Спадзяюся, што гэта спатканьне дасьць карысьць як для Вашай Царквы, так і для нашай беларускай справы, калі Вы станеце на царкоўны грунт, на якім стаіць Чыкага, Саўт Рывэр і Таронта, грунт праваслаўны, беларускі й кананічны. Запазнайцеся бліжэй з а. А.Мірановічам і жыцьцём парафіі ў Чыкага, і Вы ўбачыце той парадак і тую пладатворную працу для карысьці Царквы й для дабра нашага народу. І, наадварот, калі напішаце ў Нью Ёрк, да Вашых знаёмых, і пацікавіцеся пра жыцьцё парафіі, дзе служыць Тамашчык, дык даведаецеся, што ён дайшоў да таго, што на службу паклікаў паліцыю, каб ахраняла яго й наводзіла парадак. Пачытайце крывіцкую прэсу, а таксама хмараўскаю газэту аб т. з. Епархіяльным Зьездзе ў Таронта і Вы ўбачыце той балаган, да якога давёў Тамашчык. Дзівіцца тут не прыходзіцца, вуніяты робяць сваю работу, у якой памагае й Тамашчык тым, што кампрамітуе й разбурае Праваслаўную Царкву, адкідаючы хрысьціянскую этыку й праваслаўныя каноны. У царкве, дзе няма канонаў, там няма й парадку. Там хаос, балаган і сваркі, якія даводзяць да таго, што паліцыя мусіць прысутнічаць на службе, пакліканая Тамашчыкам. А таму не зьвязывайцеся з Тамашчыкам, які й сам не знае кананічны ён ці не, а трымайцеся а. А. Мірановіча. Сьвяшчэньніка мы Вам нойдзем. Нават сягоньня мы з а. А. Мірановічам абслужым Ваш прыход супольнымі сіламі й адначасна падышчым для Вас адпаведнага сьвяшчэньніка, калі Вы станеце на наш царкоўна-беларускі шлях. Сваім парафіянам небеларусам скажыце: кіравалі сьвятары, расейцы, украінцы, а цяпер прыйшла чарга й на беларусаў, якія, магчыма, навядуць парадак. Падумайце аб гэтым і вазьміцеся за работу, а я таксама, чым магу, дапамагу.

На гэтым канчаю, жадаючы ўсяго найлепшага Вам і ўсім маім знаёмым у Ракфордзе.

Ад 5 лютага да 20 лютага маю вакэйшэн і паеду на пара нядзель у Фларыду. Спаткаюся таксама й з сп. Волахамі, хаця маю запрашэньне ад доктара А. Багдановіча, які цяпер жыве ў Фларыдзе.

З любоўю ў Хрысьце

[а. прот. М. Лапіцкі]

## Ліставаньне з царкоўным актывам у Таронта й Вініпэгу

Лісты да а. В. Сагайдакоўскага, К. Навіцкага, Царкоўнага камітэту парафіі Сьв. Еўфрасіньні у Таронта

### № 1

[Копія]

[Саўт Рывэр], 24 травеня 1963 г.

Дарагі а. Віталій!

Ліст твой атрымаў. Шчыра дзякую й перапрашаю, што позна адказываю. Шкада, што мы не спаткаліся. Калі ты званіў, матушка была ў дачкі, а я ў гэты час быў у Чыкага. Прышлося адведаць Клівелянд (дзе 28 красавіка служыў), Чыкага й Ракфорд. Вось гэта й было прычынай, што ніхто не адказываў на тэлефон. Ясна, не дагаварыліся наперад, а таму й не спаткаліся.

Што тычыцца „Царкоўнага Сьветача", я ў свой час пісаў Царкоўнаму Камітэту, але, як бачу, гэта не займела ніякага выніку. А таму пісаць другі раз – гэта толькі трата часу. Тым больш, што за каляндар таксама не разлічыліся. Магчыма, узноў нехта прад'явіў свае прэтэнзыі. „Царкоўны Сьветач" выйшаў. Заплаціў я за яго частку сваімі грашмі й цяпер рассылаю па ўсяму вольнаму сьвету, спадзеючыся, што нехта дацэніць гэту працу ды дапаможа яе й далей прадаўжаць. Выслаў 50 шт. і на твой адрас. Ня хочуць купляць – раздавай дарма. Калі-ж вуніяты ўплынуць, што й дарма не захочуць браць, дык тады вярні назад.

Што тычыцца Тамашчыка, дык гэта добра, што ён, нарэшце, хоча аформіцца кананічна. Адно толькі робіць непрыемнае ўражаньне, што ён пры гэтым падпіраецца імем кананічнага духаўніка-ўкраінца (які не ў курсе ўсіх спраў беларускіх) і адначасна маніць, пішучы ў заяве: „Як перад, так і ў часе хіратоніі я быў поўнасьцю перакананы, што архіерэйскія дастоінствы маіх сьвяціцеляў былі абсалютна беззаганнымі...". Гэта ёсьць няпраўда. Перад хіратоніяй Тамашчыка я прыпадкова спаткаўся зь ім у Мюнхэне пры канцэлярыі Сьв. Сыноду Рус.[кай] Зар.[убежнай] Цар.[квы] і гутарыў зь ім каля 4-х гадзін. Парушаў і кананічны бок успомненых епіскапаў, але для Тамашчыка й яго „крывіцкага" ўгрупаваньня гэта пытаньне не існавала, бо ім трэба было для палітычнай і вуніяцкай акцыі манція й тытул праваслаўнага епіскапа, а атрымаць гэта яны маглі толькі ад успомненых епіскапаў. Другія епіскапы на гэта не пайшлі-б. Прыклад, міт. Аляксандр Палескі, які адмовіўся ад ачольваньня гэтае акцыі. Пасля гэтага акцыю ачоліў Ахоценка.

Далей, ён таксама маўчыць, што Вячаслава (Лісіцкага) перарукапалагалі пасьля таго, як ён браў удзел у хіратоніі Тамашчыка. Калі ён быў кананічны, дык яго ня мелі права перарукапалагаць. Калі-ж ён ня быў епіскапам і браў удзел у хіратоніі Тамашчыка, дык гэтым самым ён парушыў хіратонію й літургію, падчас якой літургісаў (Лісіцкі) як епіскап. І, нарэшце, на падставе матар'ялу, які даў Сабор Епіскапаў Беларускай Праваслаўнай Царквы, Рус.[кая] Зар.[убежная] Цар.[ква] прызнала хіратонію Тамашчыка нядзейнай. Пры гэтым мушу зазначыць, што ў Аўстраліі Ахоценка для грэкаў рукапалажыў пара сьвятароў, якіх экзарх Канст.[антынопальскай] Патрыярхіі перарукапалагае, калі яны ўліваюцца ў яго юрысдыкцыю.

Усё гэта ўтойваецца, і грэх лажыцца на тваю душу, дзеля чаго я не хацеў, каб ты асабіста прадстаўляў гэту справу. Я хацеў, каб Тамашчык сам, без тваёй дапамогі, афармляўся, і тады, што-б ён не напісаў, дык за ўсё адказываў ён сам. У сваім лісце ты пішаш, што „гэта не азначае, што я да яго буду належаць". А што рабіць нам, грэшным? Вось такія мае заўвагі, што тычыцца афармленьня Тамашчыка. Праўда, каб я быў дома, магчыма, было-б іначай. Парадзіліся-б і, магчыма, нашлі-б іншы выхад. Але магло-б стацца й так, як сталася, бо ён, магчыма, не пагадзіўся-б афармляцца без тваёй дапамогі. На ўсё, відаць, Гасподня Воля, і я спадзяюся, што ўсё будзе добра.

Навасьцей у мяне няма й я на гэтым канчаю, жадаючы табе й Тваёй радзіне ўсяго найлепшага. Ці атрымаў кнігу, якую я таксама выслаў?

З любоўю ў Хрысьце
[а. М. Лапіцкі]

## № 2

[Копія]

[Саўт Рывэр], 8 кастрычніка 1963 г.

Дарагі а. Віталій!

Нашы лісты разьмінуліся й таму пішу другі, каб адказаць на тыя пытаньні, якія парушаеш. Але перад тым, як адказаць на пытаньні, яшчэ раз хачу прыпомніць аб дзесяцігодзьдзі асвячэньня нашае царквы, якое мы сьвяткуем 20 кастрычніка, ды просім Цябе з матушкай, Царкоўны Камітэт і прыхаджан парафіі прыбыць у Саўт Рывэр і прыняць удзел у сьвяткаваньні.

Што тычыцца а. Вакапуласа, дык ён мне ніколі нічога не палагодзіў, хаця заўсёды абяцаў. Ня ведаю, якая прычына. Праўда, апошні раз я праз яго прасіў арх. Якава прыняць удзел у нашым сьвяткаваньні й атрымаў за подпісам арх. Якава ліст, што ён ня можа прыбыць сам, але калі мы хочам, можа прысладь іншага епіскапа. Зразумела, іншага мы не запрашалі й сьвяткаваць будзем без епіскапа.

У мяне ёсьць іншы чалавек, праз якога я палагоджваю свае справы. Але яму нада пісаць, бо як прыходзім у канцэлярыю, дык не выпадае мінаць а. Вакапуласа й ісьці да іншага, які мае іншую галіну працы. Тым больш і а. Вакапулас сам, як убачыць, выходзіць на спатканьне й гэтым самым не дапускае мяне да майго прыяцеля. Абыходзіць яго не хачу, маючы на ўвазе, што ён можа памагчы й можа зашкодзіць. Мне зь імі трэба жыць у згодзе, і таму мушу быць карэктным. Прычын да гэтага шмат. Беручы пад увагу вышэй сказанае, мне здаецца, наша супольнае наведваньне нічога не дасьць карыснага. Апрача гэтага мне-бы не хацелася-б увязывацца ў справу кананічнага афармленьня т. з. „епіскапаў”. Сам бачыш, як гэтай справай цікавяцца й як яе палагоджваюць. Магчыма ў гэтым ёсьць віна й епіскапаў, якія хочуць аформіцца кананічна і ў той самы час прызнаюць сябе кананічнымі. Па гэтаму пытаньню можна было-б шмат пісаць, але спадзяюся, што хутка спаткаемся й тады пагутарым. Зазначаю, што для цябе гатоў зрабіць усё, што ў маіх магчымасьцях. Нават ратаваць за Тамашчыка, хаця, магчыма, ён на гэта й не заслугоўвае.

Зьезд трэба належна падгатовіць, а таму ў гэтым годзе яго, на маю думку, цяжка склікаць. Іначай мы сабяромся, пасварымся й разойдземся. Крывіцкае духавенства я запрашу толькі тады ў сваю царкву, калі яно кананічна аформіцца. Аб тым, каб падчас нашага сьвяткаваньня рабіць нейкія камбінацыі, альбо экспэрыменты ня можа быць і рэчы. Мы хочам у гэты дзень ціха, спакойна памаліцца Госпаду Богу, падзякаваць за Яго міласьць ды на далейшую працу іспрасіць благаславеньня. Рэшта з часам само прыложыцца. Адно толькі ня трэба сьпяшацца.

Ці служыў у Піцбургу міт. І. Тэадаровіч? Ня ведаю. Езьдзіў у Нью Ёрк, але не застаў арх. Ірынея. Не застаў і а. С. Няпрэля. Прышлося пабываць у гасьцях у а. С. Гаюка, але ад яго нічога не даведаўся. Мне здаецца ў курсе гэтай справы арх. Багдан або а. І. Ткачук, сакратар арх. Палладзія. Напішы яму й ён выясьніць гэту справу.

Ці атрымаў Тамашчык слова ня ведаю? Пытаўся лістом у Пунтуса, але ён не адказаў. Прывязі нам матар'ял для друку ў „Царкоўны Сьветач” ды які-небудзь даляр на пакрыцьцё друку.

[З любоўю ў Хрысьце
Прот. М. Лапіцкі]

## № 3

[Копія]

[Саўт Рывэр], 23 студзеня 1964 г.

Паважаны сп. Навіцкі!

Ёсьць некалькі месц, дзе можна арганізаваць беларускія праваслаўныя кананічныя прыходы. Наколькі я арыентуюся, да такіх месц належыць і Вініпэг. Але бяда наша ў тым, што няма сьвятароў. На маю думку, Вы – добры кандыдат на сьвятара, а таму прапаную Вам прыняць сьвятарскі сан (калі няма царкоўных перашкод), цяжкі, але пачэсны, ды распачаць арганізацыю прыхода ў Вініпэгу. Сп. У. Гуцька й сп. І. Бурдзь будуць добрымі памочнікамі Вам. Да іх я напішу, калі атрымаю ад Вас пазытыўны адказ.

Рукапалажэньне Ваша адбылося-бы ў арх. Якава, экзарха Канстантынопальскай Патрыярхіі. Гэту справу палагоджу я, але кошты, зьвязаныя з гэтым, мае пакрыць Вініпэг. Як найхутчэй дайце адказ, каб не траціць часу й зараз-жа прыступіць да рэалізацыі маёй прапановы.

На гэтым канчаю, жадаючы Вам і Вашай радзіне ўсяго найлепшага.

З любоўю ў Хрысьце
Прот. М. Лапіцкі

## № 4

[Копія]

[Саўт Рывэр], 29 кастрычніка 1970 г.

Айцу Настаяцелю й Царкоўнаму Камітэту Беларускай Праваслаўнай Сьв. Еўфрасінеўскай Царквы ў Таронта

У адказ на Ваш ліст з дня 20 кастрычніка 1970 г. паведамляю, што арх. Апанас у сучасны мамэнт знаходзіцца ў складзе епіскапаў Расейскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквы, зь якой ён пагаджаецца выйсьці, калі ўсе нашы прыходы, якія цяпер падпарадкаваюцца арх. Якаву, экзарху Канстантынопальскай Патрыярхіі, пажадаюць гэтага і ў далейшым будуць падлягаць яму, як епіскапу Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Вольным Сьвеце.

У 1945 – 1946 г.г. арх. Апанас, калі сарганізаваўся беларускі лагер у Рэгэнсбургу (Амерыканская зона) пераехаў у лагер, каб быць разам

зь беларусамі й працаваць разам для дабра Беларускай Праваслаўнай Царквы й Беларускага Народу, але тут ён спаткаўся з вунійнымі й бязбожнымі дзейнікамі, якія паставілі яго ў такое палажэньне, што ён змушаны быў пакінуць лагер і пасьля разам з іншымі ўліўся ў РЗПЦаркву. Віна ў гэтым ляжыць на беларускім праваслаўным грамадзтве, якое не заапекавалася епіскапам, а таксама й на арх. Апанасу, які хутка заламаўся й хутка выехаў. А гэтага толькі й чакалі вуніяты й бязбожнікі, якія падзялілі нас і сягоньня пажынаюць плады.

Арх. Апанас можа выйсьці з РЗПЦарквы толькі тады, калі мы будзем яго прасіць. Дай Божа, каб гэта сталася як найхутчэй! Пры яго дапамозе мы зможам аднавіць свой Беларускі Епіскапат. Дацэньваючы гэта, нашы прыходы (Нью Ёрк, Чыкага й Саўт Рывэр) пастанавілі прасіць арх. Апанаса й гэтымі днямі высланы лісты яму з просьбай. Хацелася-б, каб і прыход у Таронта прыхільна палагодзіў гэту справу, прадыскутаваўшы яе яшчэ раз.

Я не хачу ўваходзіць у дыскусыю адносна Вашай пастановы, а толькі, упадабляючыся Вам, зварачываюся з запытаньнем: дзе знаходзіцца кананічны Епіскапат Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Вольным Сьвеце, да якога мог-бы быць прыняты арх. Апанас, калі на гэта пагадзілася-б парафія ў Таронта? Калі-б такі быў, дык епіскапы самі без нашага ўдзелу вырашылі-б гэту справу. На вялікі жаль, яго няма й я, як старшыня ЦРБП Царквы, а таксама й протапрэсьвіцер, шукаю дарогі, каб яго аднавіць.

З любоўю ў Хрысьце
Протапр. М. Лапіцкі

Лісты Р. Беразоўскага, М. Кухарчыка

**№ 1**

[Арыгінал]

Таронта, 24 сьнежня 1956 г.

Вашае В. Благаславенства, а. протапрэсьвіцер!

Шчыра дзякую за ліст з дня 18 гэтага месяца. Адначасна з жалем паведамляю, што залучыць пасланьне экзарха Міхаіла й зьмясьціць у бягучым нумары „Б. [еларускага] Г.[ оласу]" ёсьць тэхнічна немагчымым, таму што набор ужо зданы да друку. Наступны нумар выйдзе з датай 1 лютага 1957 г. і калі Вы ўважаеце, што не будзе апозьненым, дык мы яго замесьцім.

Закіды адносна паправак і скарачэньняў тэксту ў мінулым у ніякім выпадку не абцяжваюць сп. Хмары. Адміністратары друкарні, зь якой мы карыстаем, катэгарычна зажадалі апусьціць пэўныя ўступы або забраць набор. Для ратаваньня газэты нам прышлося пагадзіцца. Трэба ведаць, што друкарня знаходзіцца ў вуніяцкіх руках і ўсякі антыкаталіцкі матар'ял адкідаецца імі.

Пераходзячы да справы нашай царквы жадаю сказаць, што стаім перад цяжкай праблемай. Калі ў найбліжэйшы час не атрымаем свайго настаяцеля, трэба паважна лічыцца зь ліквідацыяй царквы, а гэтым самым і спыненьнем актыўнасьці на грамадзкім адрэзку. Гэтага моманту найбольш і чакаюць крывічы. Нашай адзінай надзеяй ёсьць прыезд а. арх. Фінькоўскага. Мы ўпорна дабіваемся й будзем дабівацца зьвярнуць яму візу. Калі нашыя намаганьні акажуцца аканчацельна безрэзультатнымі, прыдзецца пагадзіцца з фактам і замерці пасьля столькі гадоў афярнай працы. Мы чуем жаль да экзарха й да Вас, а. протапрэсьвіцер, за халодны падыход да так жывотнай справы. Заўвагі, што экзарх нядобрага мненьня адносна а. архімандрыта, зьяўляюцца жалю годныя. На маю думку, намесьнік Усяленскага Патрыярхату павінен падыйсьці да справы з сэрцам Хрыста, а не бізнэсмэна. Калі мы просім, яго як свайго духовага праваднікa, аказаць дапамогу, нават і з апозьненьнем, дык памылкі павінны быць выбачанымі й дапамога аказаная. Якое-ж пачуцьцё таіцца ў нашых змучаных сэрцах, калі памінаецца імя экзарха падчас службаў Божых?! Мы ставім пытаньне проста: ці ёсьць патрэбай гэта на будучыню?

Справу быўшых архіерэяў БАЦ разглядаем як вонкавую для нас. Не бяром ніякай спаўадказнасьці й астанёмся пасыўнымі да поўнага выясьненьня іх становішча. Вяртаючыся да справы а. Фінькоўскага, жадаў-бы сказаць, што яго прыезд у Канаду рашуча ўплыве на далейшы развой царквы й будзе гробам Тамашчыкавай групоўцы раз назаўсягды ў Таронта.

Думаю, што вышэй сказанае павінна нас злучыць як ніколі, каб асягнуць супольную мэту. У сувязі з гэтым яшчэ раз зьвяртаюся з гарачай просьбай дапамагчы нам. Мы асягнем галоўнае – ліквідацыю зародкаў вуніяцтва сярод беларускай эміграцыі.

З любоўю да Вас
М. Кухарчык

P. S.: а. Беляй адмовіўся з прычын слабога здароўя й веку.

## № 2

[Арыгінал]

Таронта, 15 сьнежня 1964 г.

Высокадастойны а. Мікалай!

Аб тым, што Вы мелі аперацыю, я даведаўся ад сп. Стрэта, з каторым бачыўся ў Баффала. Добра, што ўсё праходзіць нармальна, за што дзякаваць Богу.

У справе царкоўнага зьезду, які мае адбыцца ў Кліўлендзе, я даведаўся з Вашага ліста. Было-б вельмі добра, ды паможа нам Бог, каб уладыка Афанасій вярнуўся да нас і ачоліў Беларускую Праваслаўную Царкву. Але ня хочацца верыць, што гэта будзе. Апошні раз, калі я спаткаўся із уладыкам Афанасам у нашага настаяцеля а. Віталія ў дому, то пры гутарцы я ацаніў, што яго варункі, напэўна, не пад сілу будуць нашым прыходам. А па-другое, для яго Справа Беларуская – гэта чужая справа.

З-за некаторых абставін на месцы я не змагу быць у дэлегацыі нашай парафіі на зьезд. Аб чым пісаць багата ня буду, бо гэта будзе без карысьці, а, магчыма, толькі шкодным. І калі будуць якія-небудзь інфармацыі аб маіх поглядах, то не ўсё бярыце за цэлае.

Зь першага дня, калі мы зарганізавалі нашую царкву й да сёньня, я ёю радаваўся й гардзіўся, гарджуся й адначасна шмат перажываў і перажываю цяпер. Але стараюся па магчымасьці прымірыцца, разумеючы, што „кожнаму свая кашуля бліжэй да цела".

Дык памажы вам Бог, на зьездзе.

Прывітаньне матушцы ад мяне, маёй жонкі й нашых дзетак.

Застаюся з пашанаю да Вас
Р. Беразоўскі

## Ліставаньне
## з царкоўным актывам у Чыкага

Лісты да а. В. Вячоркі, М. Латушкіна, а. А. Мірановіча, В. Пунтуса

## № 1

[Копія]

Саўт Рывэр, 9 красавіка 1962 г.

Дарагі а. Васіль!

У свой час у Вас было як-бы жаданьне служыць сярод беларусаў. У сувязі з гэтым пішу Вам гэты ліст. У Чыкага беларусы арганізавалі прыход у юрысдыкцыі экзарха Канстантынопальскай Патрыярхіі. Абслужываў гэты прыход а. Міхаіл Мігай з Канады. Цяпер ён хоча вярнуцца

ў Канаду й прыход астаецца без настаяцеля. Прыход мае прыгожую царкву, добры хор. Сьвяшчэньніку плацілі 30 дол., а цяпер 40-у нядзелю плюс трэбы й невялікая кватэрка. З часам кватэра будзе большая, бо маюць дом, але ён яшчэ заняты.

Калі-б Вы хацелі перайсьці да нас і заняць гэты прыход, на што мы, беларусы, спадзяемся, прашу павядоміць мяне й мы разам зрэалізуем гэту справу.

Жадаючы ўсяго найлепшага, на гэтым канчаю й адначасна прашу як найхутчэй адказаць мне па гэтаму пытаньню.

З любоўю ў Хрысьце
[Прот. М. Лапіцкі]

**№ 2**

[Копія]

[Саўт Рывэр], 26 сьнежня 1963 г.

Дарагі а. Алег!

Вельмі рад, што словы мае апраўдаліся. Як Вы, так і Чыкага на сягоньняшні дзень задаволена. Спадзяюся, што так будзе й далей. Вуніятаў трымайцеся воддаль, а з сваімі навязывайце як найцясьнейшую сувязь ды супрацоўніцтва як на ніве царкоўнай, так і грамадзкай. Зразумела, „мядовы" месяц кончыцца, нармальнае жыцьцё ўвойдзе ў сваю калею. Будуць радасьці й будуць скорбі, але скарбямі ня трэба праймацца, бо яны пасылаюцца нам Богам для нашага іспытаньня. А таму, калі будуць і скорбі, не прымайцеся імі, працуйце з надзеяй на дапамогу Госпада Бога й людзей добрай волі і ўсё будзе добра.

Даражэнькі а. Алег! Дзякуючы Вашаму прыезду ў Чыкага, спала шмат праблемаў з маёй галавы. За Чыкага я спакойны. Цяпер мусім агульнымі сіламі адваяваць Ракфорд. Я нядаўна атрымаў ліст і там справа стаіць кепска. Айцец Яськоў выехаў у Мільвокі і ўкраінскі сьвятар намаўляе іх, каб яны прылучыліся даўкраінцаў або Тамашчыка. Я напісаў ім ліст, каб не паўтарацца, копію яго перасылаю Вам. Копію гэту прачытайце й пасьля адашліце назад. Званіў дня 24 сьнежня 1963 г. сп. Пунтусу ў гэтай справе. Ён абяцаў паехаць туды й пагаварыць зь беларусамі ды з а. В. Вячоркам, калі ён ужо ёсьць у Чыкага. Лістоўна-ж зварачываюся да Вас з просьбай, прылажыце ўсе стараньні разам з сп. Пунтусам, каб прыход прылучыўся да нас. Копію залучаную дайце пачытаць і сп. Пунтусу.

У Ракфордзе ёсьць шмат маіх прыяцеляў і прыхільнікаў, але сярод іх ёсьць і такія, якім падабаецца Тамашчык, бо там у назове царквы ёсьць слова „аўтакефалія". Калі там паўстане гэта пытаньне й слова „аўтакефалія" будзе мець значэньне, дык ім трэба адказаць, што мы таксама маем гэта слова, бо Чыкага прыняло яго, а а. М. Лапіцкі далучыўся да Чыкага. Праўда, гэта слова можа й адпугнуць людзей дзеля таго, што там ёсьць шмат і такіх, якія супроць аўтакефаліі як украінскай, так і беларускай. А таму гэта трэба там на месцы вычуць і ўжыць гэты козыр, ці іначай сказаць, ход, калі ён прынясець карысьць. Гэта хай будзе паміж Вамі й мной. Бо калі гаварыць аб гэтым, дык яно можа прынясьці карысьці й шкоды. Да кожнай справы людзей трэба падгатовіць і тады гаварыць. Адным словам, самі там на месцы рабіце ўсё што магчыма, каб прыход прылучыўся да нас. Запытайце, ці а. Яськоў мае там голас. Калі так, дык няхай яму напішыць сп. Пунтус і папросіць, каб і ён дапамог у гэтай справе.

Пасылаю Вам копію пасланьня арх. Якава ў беларускай мове. Прачытайце яго на першы дзень Каляд. У мяне нічога новага. Усё ідзе па старому. Хутка буду ў арх. Якава ў справе рукапалажэньня а. дыякана Я. Кузьміцкага ў сан сьвяшчэньніка.

На гэтым канчаю, жадаючы ўсяга найлепшага. Як найхутчэй наведайце Ракфорд, а таксама перавозьце матушку з дачушкай. У Ракфордзе, у першую чаргу, правядзіце гутарку з сп. П. Ракуцем і М. Вайтовічам. Адрас сп. П. Ракуця падаю ўнізе, а адрас сп. М. Вайтовіча сп. Пунтус знае. Яшчэ раз паўтараюся, не адкладывайце Ракфордскай справы, бо „промедление" сьмерці падобна.

З любоўю ў Хрысьце
[Прот. М. Лапіцкі]

## № 3

[Копія]

[Саўт Рывэр], 27 студзеня 1964 г.

Паважаны сп. Латушкін!

Ліст Ваш атрымаў. Каляндары вышлю. Выслаў-бы ўжо, але не атрымаў з друкарні, якая канчае друкаваць. Плата – хто што дасьць, абы толькі яны не ляжалі, а віселі на сьцяне ў доме кожнага беларуса.

Што ў Вас добрага? Задаволены са сьвятара ці не, і як ідзе жыцьцё прыхода? Айцец А. Мірановіч напісаў мне пара лістоў. Яму прыход

і прыхаджане ў Чыкага падабаюцца. Ня ведаю, як будзе далей? Зразумела, гэта ў далейшым будзе залежыць як ад яго, так і прыхаджан. Добра было-бы, каб Вы з Чыкага прыслалі для друку ў „Царкоўным Сьветачы" аб прыезьдзе, спатканьні й г. д., ды залучылі якую-небудзь фатаграфію. Мне залежыць на часе, а таму не адкладвайце з матар'яламі ды з адказам на пастаўленыя мной вышэй пытаньні, за што буду вельмі Вам удзячны. Наагул, хацеў-бы мець ізноў з Вамі цясьнейшую пісьмовую лучнасьць.

На гэтым канчаю. Прывітаньне бацькам і ўсёй Вашай радзіне.

З любоўю ў Хрысьце
[Прот. М. Лапіцкі]

**№ 4**

[Копія]

[Саўт Рывэр], 20 лютага 1964 г.

Дарагі а. Алег!

Дня 15 лютага 1964 г., з благаслаўленьня арх. Якава, на маю просьбу ў нашай царкве мітр. Германос рукапалажыў у сан іерэя а. дыякана Кузьміцкага, які пачне служыць у Клівелянддзе. Гэта было адказам для крывічоў на іх рукапалажэньне Мартыновіча ў Чыкага.

Праўда, а. Я. Кузьміцкі ў некалькі раз стаіць вышэй Мартыновіча. Ён добра знае ўстаў, добра служа й добра выконвае абавязкі псаломшчыка. Адно бяда, што стараваты й ня зможа навярстаць таго, чаго яму магчыма не хватае, – прапаведніцтва. Магчыма, і ў гэтым дапаможа яму Гасподзь Бог.

Даражэнькі а. Алег! Тыя рэчы, якія я Вам пазычаў і якія неабходныя для службы, ветліва прашу беспасрэдна выслаць а. Я. Кузьміцкаму ў Клівелянд, а мне прыслаць сьпісак высланых рэчаў. У Клівелянддзе сягоньня ўсё патрэбна, за выняткам аблачэньня.

Што новага ў Вас, як наладзілі асабістае жыцьцё й як працуецца? З Чыкага я меў пара кароценькіх лістоў ад сп. Латушкіна, і адзін ліст ад сп. Пунтуса, які ляніцца пісаць, але калі напіша, дык цікава чытаць. Як адзін, так і другі піша, што Чыкага задаволена сваім настаяцелем, што мяне цешыць.

Апошнія часы пачынае падкачываць маё здароўе. Мушу ісьці ў шпіталь і зрабіць апэрацыю. Палажыўся ўжо-бы, але калі доктар-хірург дазволіць, дык зраблю гэта пасьля 26 сакавіка. Бо 26 сакавіка г.г. мушу

чытаць малітву ў Палаце Рэпрэзэнтантаў у Вашынгтоне, у чэсьць 25 Сакавіка.

Прывітанне ад усіх нас радзіне.

З любоўю ў Хрысьце
[Прот. М. Лапіцкі]

## № 5

[Копія]

[Саўт Рывэр], 24 жніўня 1967 г.

Дарагі а. Алег!

У гэтым годзе прыпадае Дваццаціпяцігодзьдзе Беларускага Аўтакефальнага Праваслаўнага Сабору (Менск, 1942).

25 год таму назад адбылася падзея, важная, як у царкоўным жыцьці, так і нацыянальна-дзяржаўным. Падчас Зьезду беларусаў Амэрыкі й Канады будзем абходзіць і 25-годзьдзе Сабору.

Дзеля гэтага ветліва прашу прыбыць на зьезд і прыняць удзел у службе Божай, а таксама і ў нарадах зьезду.

Апрача гэтага, хацелася-б спаткацца й абгаварыць тыя пытаньні, якія стаўляе на парадак дня царкоўнае жыцьцё.

Спадзяюся, што хутка ўбачымся й на гэтым канчаю.

З любоўю ў Хрысьце
[Прот. М. Лапіцкі]

## № 6

[Копія]

[Саўт Рывэр], 23 студзеня 1969 г.

Дарагі сп. Пунтус!

Хаця ня маю часу, але справы неадкладныя й мушу пісаць да Вас. Калі быў я ў Чыкага, гутарыў з а. Алегам і прасіў яго, каб ён у гэтым годзе прачытаў малітву ў Кангрэсе ці ў Сэнаце. Ён быў не супроць гэтага. Гэту справу трэба ўжо афармляць праз кангрэсмэна, альбо сэнатара свайго дыстрыкту, залежна ад таго, дзе будзеце чытаць: у Кангрэсе ці Сэнаце. Калі-б гэта ўдалося ўрэчаісьніць, дык з Чыкага пад'ехаў а. Алег,

а з Саўт Рывэру – прадстаўнікі арганізацыяў. Пажаданым ёсьць, каб Вы маглі атрымаць месца ў Сэнаце. Малітву трэба пісаць самаму сьвятару. Дзень прасіць найбліжэйшы да 25 сакавіка. Вось гэта адна справа.

Другая, гэта выданьне часапісу „Царкоўны Сьветач". Выдаецца ўжо раз у год. Выдаецца ён Саўт Рывэрам, а матар'ял апрацовываю я. Таму хроніка пераважна саўтрывэрская. Апошні нумар, высланы на адрас а. Алега, мае артыкульчык і пра высьвячэньне іканастасу ў Чыкага. Напісаў я і зьмясьціў фатаграфію, што дала Ваша жонка. Пісаў ужо дома, ды мусіў зьняць матар'ял, які ўжо быў набраны да друку, каб мець месца. Пісаў, як кажуць, на калене. Калі-б нехта пісаў з Чыкага, дык магчыма былі-бы ўтледжаны й іншыя варыянты. Калі падтрымаюць Чыкага й Канада матар'яльна й хронікай зь беларускага царкоўнага й грамадзкага жыцьця, дык я перайду на 16 старонак і буду выдаваць 4 разы ў год. У нас няма сваёй газэты, дык гэтай дарогай мы хоць трохі выяўлялі свой твар.

Ад Чыкага я шмат не патрабую. Дайце хроніку й хаця 150 д. Наш Саўт Рывэр дае й дасьць 300 д. Ці гэтыя грошы сабярыце ці адпусьціце ад царквы – гэта Ваша справа. У нас 300 даляраў – царква, а рэшту сабіраем пры прадажы.

Калі я быў у Чыкага, гэту справу парушаў сп. Латушкін, але я ня маю яго адраса й пішу толькі Вам. Калі-б Вы й сп. М. Латушкін заняліся гэтай справай, дык часапіс выходзіў-бы, не раз, а 4 разы ў год. Спадзяюся на Вашу дапамогу.

Трэцяе. Дня 4 сьнежня 1968 г. прыехаў а. ігумен Язэп Строк з Польшчы на маё запрашэньне ў Амэрыку з тым, каб астацца тут настала й працаваць на нашай царкоўнай і грамадзкай ніве. З Польшчы яго не пускалі царкоўныя ўлады. Справа цягнулася 2 гады. За гэты час, да выезда яго з Польшчы, ён быў прыняты ў юрысдыкцыю епіскапа Мацьвея ў Англіі дня 15 лістапада 1968 г. Праробленa гэта для таго, каб ня мела сілы забарона Варшаўскага мітр. Сьцяпана. Я прадбачыў гэта і, як кажуць, заляцеў наперад. Выяжджаючы з Польшчы а. ігумен Язэп быў ужо ў юрысдыкцыі епіскапа Мацьвея, і Варшаўскі мітр. Сьцяпан ня мае права яго забараніць у сьвяшчэннаслужэньні, а калі зрабіў гэта, ці яшчэ зробіць, дык гэта, згодна канонам, ня мае сілы.

Пішу аб гэтым таму, што арх. Апанас пачаў супроць а. ігумена Язэпа акцыю, уцягнуўшы ў яе й сп. прэзыдэнта Р. Астроўскага, які ў гэтай справе напісаў ліст у Саўт Рывэр сп. А. Еўцу, а таксама, магчыма, каму-небудзь і ў Чыкага. Арх. Апанас сам цягнуў а. Язэпа ў Аргентыну, але ён да яго не паехаў. Айцец ігумен Язэп прабыў у нас больш месяца. Прыход наш палюбіў яго вельмі, рад бачыць яго ў сане епіскапа. Добра было-бы, каб і Чыкага запрасіла яго да сябе ды запазналася. Праўда, мала запрасіць, але трэба аплаціць і білет туды й назад.

Дня 9 лютага будзем рукапалагаць а. С. Каўша ў сан сьвяшчэньніка. Рукапалажэньне адбудзецца ў нашай царкве. Будзе рукапалагаць мітр. Германос, заступнік арх. Якава. Прыяжджайце на рукапалажэньне. Больш навасьцей асаблівых няма. Хаджу са Сьв. Вадой і пачынаем гатовіцца да 25 Сакавіка. У палове лютага, магчыма, паеду да сп. Волаха ў Фларыду на пара тыдняў.

Мне сп. Р. Астроўскі нічога не пісаў у справе а. ігумена. Калі Вам пісаў, дык напішыце яму й залучыце копіі дакумантаў, якія перасылаю Вам пры гэтым лісьце.

Жадаючы ўсяго найлепшага, на гэтым канчаю. Прывітаньне для Вас, Вашай жанкі й дзяцей ад мяне й матушкі.

З любоўю ў Хрысьце
[Прот. М. Лапіцкі]

## № 7

[Копія]

[Саўт Рывэр], 19 кастрычніка 1970 г.

Дарагі а. Алег!

Згодна нашай дамоўленасьці пасылаю Вам копію ліста арх. Апанаса. Арх. Апанас чэсны й адкрыты чалавек, а таму й першая частка ліста яго мне-бы не хацелася, каб была ведама, апрача Вас, каму-небудзь іншаму. Другую частку, акрэсьленую чырвоным карандашом, калі трэба, можаце зачытаць Царкоўнаму Камітэту.

Адначасна з гэтым паведамляю, што а. Якаў Кузьміцкі вельмі хворы. Пасьля цяжкой апэрацыі дажывае апошнія дні. Аб гэтым павядоміла мяне яго матушка й прасіла маліцца й падгатаўляцца да паграбенія. А таму ветліва прашу не адмовіцца й прыняць удзел у паховінах, калі гэта станецца. Доктар сказаў, што найбольш можа працягнуць 2 месяцы й найменш 3 нядзелі. Ідзе ўжо 3-яя нядзеля. З кожным днём слабее й матушка думае, што двух месяцаў ён не працягне. Кошты падарожжа на паховіны мусіць аплаціць Ваш прыход.

На гэтым канчаю. Прывітаньні ад мяне й маёй матушкі Вам і Вашай матушцы з дачкой.

З любоўю ў Хрысьце
[Прот. М. Лапіцкі]

Лісты ад а. А. Мірановіча, В. Пунтуса

## № 1

[Арыгінал]

[Чыкага], 10 лютага 1961 г.

Ваша Высокапрэпадобіе, дарагі й шматпаважаны а. Мікалай!

У кароткіх словах дазвольце падзякаваць за прысланы Вамі журнал „Царкоўны Сьветач" і Беларускі праваслаўны каляндар. Цешуся Вашай працай на ніве царкоўнай, а таксама для агульнай справы беларускай. Асабіста не прыходзілася сустракацца з Вамі раней, але чуць пра Вашу дзейнасьць прыходзілася. Толькі зьезд беларусаў Амэрыкі й Канады даў магчымасьць пачуць Ваш голас у царкве й праслухаць даклад на зьездзе, што дало магчымасьць бліжэй пазнаёміцца асабіста.

Рэфэрат, прачытаны Вамі, закрануў шмат вельмі балючых пытаньняў, аб якіх я хачу падзяліцца з Вамі. [Сярод іх] – Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква як фактар, цэласьць Яе, праўдзівасьць і кананічнасьць. На колькі я зразумеў Вас на зьездзе і ў асабістых размовах з Вамі, настолькі пацвярджае даклад Ваш, апублікаваны ў журнале „Царкоўны Сьветач", дзе сказана: „Перад намі стаіць сягоньня заданьне знайсьці паважанага й аўтарытэтнага кандыдата, які-б ачоліў нашу Беларускую Праваслаўную Царкву й быў-бы адпаведны свайму высокаму архіпастырскаму служэньню". Толькі злучэньне ўсіх нашых беларускіх прыходаў як Саўт Рывэр, Таронта, Чыкага, Ракфорд і др. у адну БАПЦаркву падняло-б Яе на адпаведную вышыню наагул, і беларускую нацыянальную справу, у часнасьці.

Адзін із такіх кандыдатаў, як я яшчэ гаварыў з Вамі ў Таронта, быў-бы настаяцель царквы ў Ракфорд, протапрэсьвіцер а. Яськоў, чалавек з высокай адукацыяй, умеючы сябе трымаць на высаце свайго сану й належачы да грэцкай юрысдыкцыі. Я зь ім асабіста на гэтую тэму не гаварыў, але, кранаючы некаторыя царкоўныя пытаньні, вычуў, што ён не супроць, але па лініі кананічнай і пры падтрымцы асабіста Вашай і ўсіх беларускіх прыходаў. Матар'яльна ён абяспечан у Ракфордзе $ 200 на месяц.

Што касаецца Чыкага, аднаго із моцных беларускіх прыходаў, то ўвесь актыў і прыхаджане стаяць толькі за Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, галавою каго прызнаюць вышэй пералічаныя беларускія прыходы, у тым ліку й Ваша Высокапрэпадобіе.

На гэтым будзьце здаровы. Астаюся з пашанаю й дапамогай.

Ваш В. Пунтус

**№ 2**

[Арыгінал]

Чыкага, 16 верасьня 1966 г.

Яго Высокапрэпадобію протапрэсьвіцеру а. М. Лапіцкаму

Прабачце, што ня змог раней адказаць на Ваш ліст, а таксама не прыбыў на сустрэчу беларусаў Амэрыкі й Канады. Ліст а. Івана Валюковіча адсылаю й адначасна спаўчуваю, што не змагу яму дапамагчы.

Што да а. В. Вячоркі: я асабіста падзейнічаць на яго не магу. Мне здаецца, што трудна з крывога простага зрабіць. Лягчэй беларуса зрабіць расейцам, як расейца – беларусам. У жыцьцё Ракфордскай парафіі мы ня маем ніякага права мяшацца. Прыказка кажа: „Ня суньця з сваім уставам у чужы манастыр". Ізноў, каб Ракфордская парафія не жадала а. В. Вячорку, даўным даўно падзякавала-б яму за службу. А яны дзяржаць яго амаль 6 месяцаў.

Кажучы шчыра, я гаварыў з г-м В. Пунтусам і іншымі актыўнымі сябрамі нашай парафіі й ніхто ня даў згоды рабіць парадак у чужой парафіі.

На маю думку, адно зь лепшага, калі Вы напішаце да а. В. Вячоркі ды пры магчымасьці самі наведаеце парафію ў Ракфорд і залагодзіце ўсе балючыя справы (аб якіх звяртаюцца да Вас асабіста) раз і назаўсёды. Аб нашай дыскусыі з г-м В. Пунтусам, спадзяюся, што г-р В. Пунтус Вас ужо павядоміў або павядоміць у гэтых днях, здаецца, тэлефанічна.

На 1967 год нам календароў не прысылайце. Старшыня Цар.[коўнай] Рады замовіў у „fiuniral". Гэта сьведчыць, што мы ўжо будзем мець свае.

З любоўю ў Хрысьце
а. А. Мірановіч

## Ліставаньне з арх. Міхаілам

Лісты да а. М. Лапіцкага

**№ 1**

[Арыгінал]

[New York], 29 December 1950

Byelorussian Greek Orthodox Community
South River, New Jersey

Reverend Father and
Mr President:

In answer to your letters of 29 October 1950, and of 12 November 1950, I have much pleasure in informing you that the Greek Archdiocese of North

& South America accepts under its jurisdiction your community, your new church and your priest Nicholas Lapitzky.

I wish you with the whole of my heart every success in your community affairs. I invoke upon all of you, the priest of the church, the board of trustees, and all of the members of your Byelorussian Greek Orthodox Community, all the blessings of Almighty God.

May our Lord Jesus Christ bestow upon all of you the spirit of Christian love and mutual understanding to the benefit of your community and the glory of the Greek Orthodox Church in this great and blessed country.

Yours very sincerely
in our Lord Jesus Christ,
Archbishop Michael

**№ 2**

[Арыгінал]

[New York], 6 April 1955

The Very Reverend Father Nicholas Lapitzki
117 Market Street
Passaic, New Jersey

My Dear Father Nicholas:

I thank you very much for your letter of April 4th, and the information you gave me as regards Bishop Basil Tamashchik.

I know something about him already and I want to assure you that I am not going to have any relation with him.

As regards the Archimandrite Vladimir Finkovsky, I am writing at once to His Holiness and Ecumenical Patriarch, giving him your information and asking him to send the necessary advice to the Archbishop of Thyateira in London.

With my best wishes for a happy and blessed Easter for you, your family, and all of your parishioners, I remain,

Yours very sincerely,

Michael
Archbishop of the Greek Orthodox
Church in North and South America

## № 3

[Арыгінал]

[New York], 13 December 1955

Very Reverend Nicholas Lapitzki
117 Market Street
Passaic, New Jersey

My Dear Father Nicholas:

I thank you for very much for your letter of December 7th, as well as for the report of Mr. Emmanuel Yasiuk.

I hasten to answer you that Archbishop Basilios Tamashchik does not belong to the jurisdiction of the Greek Archdiocese of North and South America.

Further I should like to add that we do not know anything as regards him and his personal status.

I will make some inquiries however to see what the connection is of this man with Bishop Bogdan who of course is under my jurisdiction, though from the administrative point of view, he has no dependence whatever on the Greek Archdiocese of North and South America.

My best wishes for a happy Christmas to all of my beloved members of your community.

Yours sincerely in our Lord,

Michael
Archbishop of the Greek Orthodox
Church in North and South America



Гісторыя айца Мікалая Лапіцкага не пачалася ў 1907 годзе й ня скончылася жніўнем 1976. Ейныя карані — на землях Вялікага Княства Літоўскага, ейны працяг — на абшарах Злучаных Штатаў: ад Каліфорніі — на захадзе, да Нью Джэрзі — на ўсходзе краіны, дзе жывуць сёньня дзеці, унукі, праўнукі чалавека, якога доктар Вітаўт Кіпель назваў адным з найвыбітнейшых царкоўных і грамадзкіх дзеячоў беларускае эміграцыі. Успаміны — тая *жывая гісторыя*, што трывае ў памяці нашчадкаў — настолькі-ж каштоўныя для нас, як і архіўныя дакументы, навуковыя досьледы, манускрыпты. З адным толькі адрозьненьнем, што незанатаваныя своечасова яны неадменна зьнікнуць, схаваюцца за смугою часу.

Пэўна, усьведамленьнем гэтага забавязана сваёй папулярнасьцю ў ЗША так званая *Oral History*, вусная гісторыя — адначасна й найстарэйшы мэтад гістарычнага досьледу, і параўнальна малады, 1940 гг. — часу, калі быў вынайдзены магнітафон. Безьліч інстытутаў, унівэрсытэтаў, музэяў, прафэсыйных і грамадзкіх арганізацый ня толькі сыстэматычна й мэтанакіравана запісваюць відэа- і аўдыа- ўспаміны, але [illegible] ствараюць адмысловыя месцы, куды можа зайсьці любы чалавек з натоўпу й з дапамогаю прафэсыяналаў запісаць свой успамін, узбагаціўшы тым самым нашую агульную гісторыю на яшчэ адзін лёс, поўны цёплых жывых фарбаў і сапраўднага паху.

Рыхтуючы да друку працы а. Мікалая Лапіцкага, укладальнік кнігі ў росшуках зьвестак пра жыцьцё аўтара сустракаўся зь дзецьмі і ўнукамі сьвятара, уключаў магнітафон і запісваў галасы: Лёлі Касоўскай, дачкі; Жоржа Лапіцкага, сына; Алекса Касоўскага, унука; Ніка Лапіцкага, унука; Ніка Касоўскага, унука; Стывена Лапіцкага, унука.

Шапаціць магнітафонная стужка, лічыльнік фіксуе ейныя дзюймы-сантымэтры, галасы адлічваюць дзесяцігодзьдзі…

**Лёля Касоўская разважае-прпамінае:**

„Быў час, калі для мяне Тата, Мама й Жорж былі адно — наша сям'я. Потым мы з Жоржам акрэплі, атрымалі асьвету, стварылі свае сем'і. У маёй памяці побач бацькі заўсёды маці — мы яе звалі „матулька". Так клікалі яе ўсе, ня толькі ўласныя дзеці. Яны былі бацькамі ад Бога, я заўсёды вычувала блізкасьць да іх. Зь імі было спакойна і ўтульна — нават падчас вайны, калі зямля й неба, здавалася, былі супраць людзей.

Мае дзеці, сыны Алекс і Нікалас, былі першымі ўнукамі ў нашай сям'і, і з цудоўных бацькоў тата з мамаю вырабіліся на надзвычайных дзядулю з бабуляю. Мы жылі блізу адзін ад аднаго, часта сустракаліся. Бацька браў Алекса, старэйшага, на рукі й было бачна, наколькі ён ганарыцца ім. А сёньня таму маленькаму Алексу — 41 год, ён жанаты й сам

ужо мае дзяцей: сына Джэйка, якому сем гадкоў, і дачку Алену, названую ў мой гонар.

Нашая сям'я была-б большай, каб не вайна. Бацькава сястра Ксенія, адзіная, акрамя яго самога, каму малазаможныя бацькі здолелі даць адукацыю, трапіла ў Вялейскую турму за беларускую дзейнасьць і памерла там.

А каб вам уявіць багацьце сям'і скажу, што самым чаканым пачастункам былі смаленскія баранкі, якія нам дзед прывозіў з Грэлікаў. Але як ён вяртаўся дадому, наш бацька заўсёды даваў яму з сабою бульбы, пшаніцы, яшчэ нечага бо мы лічыліся троху багацейшымі.

Матуля, Валянціна Трафімюк, нарадзілася ў маёнтку недалёка ад Беластоку й належала да зусім іншай сям'і, багатай. Пад час Першай сусьветнай вайны яны ўцяклі ў Расею, былі там працяглы час, а па вяртаньні Цімафей і Марыя, матчыны бацькі, заснавалі сваю фарму, даволі прыбытковую. Жыцьцё на той фарме разам з сястрою й трыма братамі належалі да шчасьлівых матчыных успамінаў.

Цімафей, Марыя й адзін з сыноў, Валодзя, былі пазьней забітыя чырвонаармейцамі.

Бацькі пазнаёміліся троху дзіўна, як на сёньня, але тады падобнае было завядзёнкаю. Тата студыяваў у Варшаве, вучыўся на сьвятара. І вось надыходзіў час, калі ён мусіў вызначыцца: або ажаніцца, або застацца цэлебатнікам на ўсё жыцьцё. Яму багата тады сваталі варшавянак, але нехта расказаў пра маці. Тата прыехаў у маёнтак, паглядзець, значыць, і яны адразу спадабаліся адзін аднаму й заручыліся. Бацька зьехаў назад, заканчваць навуку, а маці засталася ў маёнтку, дзе пазьней я й нарадзілася.

Як тату высьвяцілі, яго накіравалі служыць у Ашмяну. Памятаю, што ў тым невялікім мястэчку на той час было некалькі чалавек, што ўсьведамлялі сябе беларусамі. Не палякамі, не расейцамі, а менавіта беларусамі. І бацька далучыўся да той беларускай дзейнасьці, якая з часам стала рухам.

Сваякі з матчынай сям'і не падзялялі татавых беларускіх настрояў. Дзед нават зьдзекваўся з мовы. Так што вакол мамы (між іншага, кузынкі Ларысы Геніюш) была небеларуская атмасфэра. Але як толькі яна выйшла замуж, яна адразу стала на татаў бок, успрыняла ягоныя ідэі, мову як сваё спрадвечнае. З-пад вянца яна выйшла гаворачы па-беларуску й больш ніколі таму ня здрадзіла. Яна была шчыраю беларускаю.

Увесь час першае бацькавае працы маці жыла не зь ім, не ў парафіі, а ў маёнтку з бацькамі, і далучылася да яго толькі ў наступнай парафіі, Сьцяфанапалі, каля Дзісны, дзе яны жылі й працавалі аж да пачатку Другой сусьветнай вайны. Напэўна, гэта была клясычная парафія таго

часу. Бацькі мелі сваю гаспадарку, непадалёк ад якой стаяла царква – дзьверы ў дзьверы з хатаю.

Бацька казаў пропаведзі па-беларуску. Час ад часу польскія ўлады загадвалі служыць па-польску, але ён заўсёды адмаўляўся. Таксама ён выкладаў Закон Божы ў школах, і з таго сям'я жыла разам з прыбыткам ад гаспадаркі ды з таго, што парафіяне прыносілі ў аддзяку.

У нас быў вялізны дом, куды прыходзілі людзі, багата людзей, ня толькі да бацькі па справах, але й да матулі. Яна была надзвычайным кухарам, і на царкоўныя сьвяты за стол сядалі бацькі, госьці, сьвяцілі ежу, радаваліся адзін аднаму... А як пачалася вайна 1939 году – прыйшоў канец нашаму дому.

Расейцы занялі вёску й адразу зачынілі царкву. Пачалі забіраць з хатаў усё, што ім спадабаецца. Проста прыходзілі й забіралі, напрыклад, кароў. Памятаю, як прыйшла аднойчы камісарша ці хто, дык у яе ня было вяроўкі, каб карове навязаць. То яна зайшла ў хату і ў маці спытала, а маці не дала, кажа: „Ты па маю карову прыйшла ды яшчэ вяроўку хочаш? Ідзі ды знайдзі сабе сваю!".

Нэрвовы быў час. Да ўсяго дадаваліся чуткі, што нас неўзабаве павязуць у Сібір. Мо й павезьлі-б, але сытуацыя зьмянілася: немцы наступалі. Я памятаю, як мы ўсе стаялі каля нашага старога дому, на гары, і глядзелі, як немцы ўваходзілі ў вёску: добра апранутыя, элегантныя, на матацыклах. У нашую вёску ўваходзілі новыя акупанты.

Натуральна, царкву адразу адчынілі й бацька зноў пачаў казаць пропаведзі па-беларуску. Але парафіянаў паменшала. Значная частка іх апынулася ў нямецкім палоне. Тады тата зарганізаваў пошукі палонных, і сам выпраўляўся ў Менск шукаць – лічыў гэта сьвятарскім абавязкам. У Менску яго закруцілі арганізацыйныя справы аднаўленьня Беларускай Аўтакефальнай Царквы, і ён застаўся там, пакінуўшы нас з маці ў доме на гары. Так яны падзяліліся: кабета апекавалася сямейным домам і гаспадаркаю, а мужчына – домам Божым.

Бацька як толькі мог часта езьдзіў да нас зь Менску, адведваў мяне, маці з толькі народжаным Жоржыкам. Аднойчы ягоную машыну спынілі ў лесе партызаны. Хацелі, відаць, забіць, але тата растлумачыў хто ён, чым займаецца – і іх адпусьцілі. А вось немцы арыштавалі: нехта расказаў, што тата маліўся за забітага партызана. Не дапамаглі тлумачэньні, што сьвятар мае маліцца за любога, хто-б той ні быў. Тату пасадзілі ў турму. Мама тады пакінула нас на дагляд суседзяў, узяла каня й паехала па тату. Тады арыштаваных немцы часта перакідвалі з адной турмы ў другую, і маці паўсюль ехала сьледам, ад турмы да турмы. Аднойчы ёй сказалі, што немцы ўсіх арыштаваных расстралялі, пакідалі ў адну агульную вялікую магілу й што сярод забітых быў сьвятар. Маці знайшла тую магілу й пачала раскапваць, каб пераканацца, што тата

ляжыць там. Але раптам пачала губляць прытомнасьць і мусіла спыніцца, каб самой не ўваліцца ў магілу. Яна вярнулася дадому й сказала, што бацькі сярод забітых няма, што ён жывы.

I так здарылася! Бацька быў жывы, немцы яго выпусьцілі акурат напярэдадні сьвята Сьвятых Пятра й Паўла — вялікага дня нашай парафіі, бо яна была названая імем гэтых сьвятых. Па парафіі прайшла імгненна погаласка, што айцец вярнуўся. Набралася паўнюсёнькая царква, і дзякавалі адначасна й Сьвятым Пятру й Паўлу і маліліся за вяртаньне айца. Было такое дзіўнае яднаньне ўсіх...

Тата вярнуўся ў Менск працаваць, а маці пачала рэгулярна езьдзіць да яго, прывозячу яму масла, малака, вэндліны, бо тата ніколі не гатаваў сабе. Але такія падарожжы былі даволі небясьпечныя, у першую чаргу з-за партызанаў, і было вырашана ўсім таксама пераехаць у горад.

У Менску тата працаваў у Самапомачы. Часта здаралася, што габрэі пакідалі на прыступках Камітэту сваіх дзяцей у спадзяваньні, што тут ім дадуць прытулак і тым захаваюць іхнае жыцьцё. I сапраўды, нямала жыцьцяў было выратавана.

Мае ўспаміны пра Менск пункцірныя. Вось памятаю пахаваньне забітага айца Іаана Кушнера. Ня ведаю, чаму маці вырашыла ўзяць нас на паховіны, але добра памятаю, як тады пачала думаць пра сьмерць як нешта датычнае й мяне, нашай сям'і.

Жылі мы спачатку каля Кацярынінскай царквы на Нямізе, потым пераехалі да Чыгуначнай царквы. Гэтыя мясьціны бамбілі, здавалася, штодзень, але па нейкім часе мы ўсе нібыта прызвычаіліся, мала зварачвалі ўвагі і, дзякуй Богу, неяк абыходзілася.

У наш дом часта прыходзілі незнаёмыя людзі, затрымліваліся на кароткі ці даўжэйшы тэрмін, але бацькі не тлумачылі, што да чаго. Толькі нашмат пазьней маці сказала, што то габрэі хаваліся ў нас.

Прыходзілі да нас людзі й не хаваючыся. Часта сядзеў за нашым сталом Іван Іванавіч Касяк. Прыяжджаў зь вёскі айцец Нікіфар Пыск, у якога заўсёды былі, як мне здавался, праблемы ў парафіі. Ён прывозіў з сабою нейкія вельмі важныя дакуманты, якія дазваляў пакінуць толькі на матчын дагляд.

Памятаю адзначэньне ў нашай царкве нейкага сьвята, калі прыехалі Прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі й Анатоль Плескачэўскі (той падаўся нават больш важным за прэзыдэнта). Астроўскага атачала вялікая колькасьць целаахоўнікаў.

Жыцьцё працягвалася. Маці любіла тэатар і глядзела ці ня ўсе прэм'еры. Але хадзіла адна, бо тата лічыў, што сьвятару не выпадае часта бываць у тэатры. Я брала актыўны ўдзел у царкоўным жыцьці, зьбірала грошы на дабрачыннасьць, здаецца, на пабудову царквы ў Козыраве. Для мяне Менск стаўся адною вялікаю прыгодаю.

Толькі з новым паваротам у вайне жыцьцю ў Менску надышоў канец: расейская армія наступала. Нашая сям'я не хацела ізноў апынуцца пад іхнаю ўладаю, а таму мы селі на цягнік і выехалі ў Вільню. Гэта сталася толькі пачаткам нашых пераездаў. Наступным горадам была Прага, дзе мы спыніліся ў матчынай кузынкі Ларысы Геніюш і жылі ў доме, які належаў Пётру Крэчэўскаму. Адтуль мы пераехалі ў Францэсбад, дзе знаходзілася беларуская епархія, адкуль скіраваліся ў Тырсгайм. Пераезды даваліся няпроста, але самым жахлівым успамінам таго часу для мяне ёсьць звычайная нямецкая школа. Тата заўсёды вычуваў вялікую павагу да адукацыі, навучаньня. Ён казаў, што аднойчы набытыя веды будуць заўсёды з табою, іх нельга згубіць. Даць адукацыю сваім дзецям было для яго вельмі важным. І як толькі ў Нямеччыне ў маіх бацькоў зьявілася магчымасьць аддаць мяне ў нямецкую школу, яны адразу аддалі. Там было для дзіцяці сапраўднае пекла: сярод непрыязных да цябе нямецкіх дзяцей, бяз веданьня мовы.

Тата быў вельмі актыўным: распачаў будоўлю царквы („ягоная" царква ў Рэгэнсбургу была першай для беларускіх ДП), заняўся арганізацыяй школы. Ён багата езьдзіў, маці езьдзіла зь ім – больш па справах гандлёвых. Я заставалася адна або пад наглядам Іны Рытар-Кахаоўскай.

Праз нейкі час амэрыканскія акупацыйныя ўлады загадалі нам пераехаць у Міхэльсдорф. Гэта месца было як маленькая Беларусь пасярод Нямеччыны. Мы мелі сваю ўправу, сваю паліцыю, школу, тэатар. Усё было па-беларуску. Была й царква, і тата там правіў службы. Дзе-б ні быў тата, ён заўсёды быў у царкве, а калі царквы ня было – ён будаваў. Калі ня мог будаваць, карыстаў пад службы самыя розныя будынкі – гаражы, склепы, і паўсюль гучала імя Божае. Яго *motto* было: „Дзе двох – там царква".

Апошнім пунктам нашага падарожжа сталіся Злучаныя Штаты. Да сёньня памятаю тое ўражаньне ад Статуі Свабоды: радасьці, надзеі, шчасьця... Мо будзе гучаць звыкла й шаблённа, але гэта зямля шанцу, магчымасьці, калі ад чалавека патрабуецца адно – воля і ўпартасьць. Я тое вычула на сабе, калі ўсяго праз некалькі гадоў па прыезду, калі закончыла каледж й працавала загадчыкам бібліятэкі Bristol Myers Squibb Pharmaceuticals, падпісвала мнагамільённы кантракт у кабінэце з вокнамі на Статую Свабоды. Не адна я – ўся нашая сям'я стала на ногі, здабылі адукацыю, атрымалі добрыя працы, наладзілі такое жыцьцё, пра якое ў той час нават і не марылася. Толькі ў Амэрыцы!

Але да гэтага было яшчэ няблізка.

Тымчасам у Нью Ёрку нас спаткаў Эмануіл Ясюк і прывёз у Пасэйк, гарадок у суседнім штаце Нью Джэрзі. Бацькі знайшлі працу: маці ўладкавалася на ткацкую фабрыку, а тата працаваў на заводзе па вырабу тэлевізараў. Там знайшлі сабе кавалак хлеба багата нашых. Грошай ня было, і сям'я Мілевічаў запрапанавала на час пасяліцца ў іх. Беларусы дапамагалі адзін аднаму.

Тата працаваў пяць дзён, а ў суботу ехаў цягнікам у Саўт Рывэр, адзін зь беларускіх цэнтраў, каб адслужыць вячэрню, а пазьней і нядзельную службу, і позьнім вечарам вяртаўся да нас, каб у панядзелак зноў ісьці на завод. Калі-ж мы набылі машыну і я атрымала правы, вазіла бацьку й сама заставалася ў горадку, бо там заўсёды нешта адбывалася цікавае, ішло беларускае жыцьцё. Пазьней атрымалі правы й тата з мамаю, езьдзілі ўжо самі. А калі тата распачаў будаўніцтва царквы, мы ўсё больш і больш часу праводзілі ў Саўт Рывэры. І так атрымалася, што царква паўстала ў мястэчку, дзе жыло няшмат беларусаў, а паўстаўшы, пачала вабіць да сябе новых эмігрантаў або жыхароў іншых месцаў. Гэткім чынам царква сталася цэнтрам жыцьця – духовага й фізычнага ў нашым горадзе, чым бацька вельмі ганарыўся. Ён лічыў, што царква, сьвятыня стварае грамаду, і ён меў рацыю. Мы прыехалі туды ў 1950 годзе, і празь 53 гады гэта па-ранейшаму беларускі цэнтар!

Тата быў, што называецца, адпаведны чалавек у адпаведным месцы: энэргічны, зацікаўлены, з вопытам будоўлі цэркваў у Менску й Нямеччыне. Гэта было ягоным жыцьцём, сэнсам, мэтаю й шляхам адначасна. Тата быў тае думкі, што й адна асоба можа нешта зрабіць.

Каб зразумець тату, трэба ведаць дзьве рэчы пра яго. Першае, ён быў беларусам, заўсёды й паўсюль. Другое, для яго, сьвятара, было немагчымым ісьці ў Расейскую Праваслаўную Царкву. Таму калі нашыя гіерархі кінулі БАПЦ, бацька застаўся. Але самотнае становішча бацькі ўзмацнялася яшчэ расколам беларускага грамадзтва на крывічоў і зарубежнікаў, на БЦР і БНР. Тата ня мог пайсьці ў цэрквы крывічоў, бо хоць і не адмаўляў ім у беларускасьці, лічыў іх неканонічнымі. Такая была ягоная пазыцыя.

У гэткай сытуацыі яму заставаўся адзін шлях – да грэкаў. У грэцкай епархіі быў на той час архіепіскап Міхаіл, што некалі вучыўся, дарэчы, разам з Філафеем, і трохі ведаў пра беларускія справы. Ён з радасьцю прыняў тату да сябе. Так усё й пачалося ў Саўт Рывэры.

Нашая першая царква была ў памешканьні набытай у горада старой сынагогі. Але тату тое не задавальняла. Ён пачаў заводзіць знаёмствы, кантакты, вынікам чаго ўрад гораду прадаў нам зямлю пад царкву у добрым месцы й даволі танна. Быў зарганізаваны Камітэт пабудовы царквы, узначаліў які Віталь Цярпіцкі.

Грошай на будаўніцтва ня было. Тады тата зьвярнуўся да парафіянаў з заклікам ахвяраваць па тысячы даляраў. Гэта й сёньня немалыя грошы, а тады, на пачатку сямідзесятых, для людзей, што працуюць на фабрыках і якім няма адкуль чакаць спадчыны, было вельмі й вельмі шмат.

У бацькі былі знаёмыя – браты Кавалёвы, будаўнікі. Яны вельмі-ж любілі тату, і тата да іх надта добра ставіўся. Дачуўшыся, што беларусы

задумалі будаваць сваю царкву, яны прыйшлі да таты й прапанавалі задарма збудаваць яе, а з аплаты прасілі толькі вяртаць ім грошы за дарогу, бо жылі яны няблізка.

Ня ўсё ішло роўненька, ведаеце, як у хаце, дзе некалькі гаспадароў. Нехта нечым незадаволены, хтосьці пакрыўджаны. Тады бацька выступаў у ролі міратворцы. Не заўсёды ўдала: аднойчы нечым раззлаваныя й пакрыўджаныя саўтрывэрцамі браты Кавалёвы кінулі працу й больш да яе не вярнуліся. З нашай сям'ёю-ж яны засталіся ў добрых стасунках: вельмі любілі бацьку.

Штораніцы за сьняданкам тата з мамаю гаварылі пра будоўлю, а потым ішлі да царквы, размаўлялі з будаўнікамі, парафіянамі, якія свае вакацыі, увесь вольны ад фабрыкі час прысьвячалі ўзьвядзеньню царквы. Гэта быў фантастычны энтузіязм, вялікая ахвярнасьць.

Адначасна з царквою распачалася будоўля Беларуска-Амэрыканскага Цэнтру – важнага для беларускага грамадзтва як месца, дзе-б зьбіраліся людзі й які-б дапамагаў беларусам у ЗША прапагандаваць сваю ідэю, свае пагляды й мэты.

Дзень заканчэньня будоўлі царквы быў найшчасьлівейшым днём у жыцьці маіх бацькоў. Яны вычувалі, што дасягнулі нечага, стварылі нешта надзвычай істотнае.

Я заўсёды верыла, што асоба, адзін адзінюткі чалавек здольны зьмяніць штосьці ў гісторыі народу, у палітыцы. І на маю думку, такім чалавекам для Саўт Рывэру стаўся мой бацька. Каб ня ён, магчыма, была-б царква й дом, але былі-б іншыя, не такія. Той цэнтар, што стварыў тата, ён унікальны для беларускай Амэрыкі.

Прайшло нямала часу ад дня ягонай сьмерці, але й па-сёньня ў Саўт Рывэры для ўсіх я – дачка айца Лапіцкага, які збудаваў царкву. Дасюль да мяне падыходзяць людзі й згадваюць, якім ён быў чалавекам. І штораз я вычуваю гонар, што я – дачка бацькі й сваёй маці.

30 ліпеня 1972 году царква была высьвечана епіскапам Філатэосам з грэцкай праваслаўнай епархіі, высьвечаны Цэнтр і блаславёны абед на 300 чалавек. У той дзень у царкву сабраліся ўсе – беларусы Саўт Рывэру, парафіяне зь іншых гарадкоў, беларусы, што не належалі да нашае царквы наагул. Гэта было сьвята эмігрантаў, якія прыехалі ў краіну нішчымнымі, бяспраўнымі й асягнулі нечага, дзякуючы сваім рукам, свайму розуму, настойлівасьці й веры. Яны, як і ўсе, хадзілі на працу, цяжка працавалі, ашчаджаючы капейчыну на адукацыю для дзяцей, на сваю старасьць, але пабачылі, што здольныя на нешта большае – на стварэньне Божага дому для сябе й сваіх нашчадкаў.

Кожны раз, згадваючы той дзень, я плачу. Плачу й цяпер. Я стаяла каля царквы й не магла даць веры. Той летні дзень 1972 году быў

сьвятам і перамогаю беларусаў і асабістым сьвятам нашае сям'і – шча-сьлівага бацькі, прыгожай маладой маці.

У лістападзе таго самага году бацька меў інсульт. Гэта здарылася ў нядзелю, тата з цяжкасьцю гаварыў, цяжка рухаўся, але ўсё-ж сеў у машыну, каб ехаць у царкву служыць. У царкве ён ня змог ужо гаварыць зусім, і маці павезла яго дамоў, дзе выклікалі лекараў, якія й забралі тату ў шпіталь. Тата страціў мову, і гэта было так страшна: чалавек, які без паперы чытаў казаньні, ня мог слова вымавіць.

Пакрысе мова пачала вяртацца, і тата паўтараў: Я пабудаваў царкву й дом, то ня страшна... ня страшна...

Ён вярнуўся дамоў на Каляды й служыў яшчэ чатыры гады, чатыры шчасьлівыя гады. За гэты час мы дапамаглі разбудаваць „Бэлэр-Менск", месца ў гарах, дзе-б усе беларусы, незалежна ад сваёй партыйна-грамадзкай прыналежнасьці, маглі-б адпачываць, хадзіць у грыбы, вудзіць рыбу. Гэта месца належала ўсім беларусам, і тата думаў пра „Бэлэр-Менск" як частку пакінутай Беларусі. У „Бэлэр-Менску" тата распачаў уладкаваньне невялічкай капліцы – месца, дзе-б ён ці іншы сьвятар мог-бы служыць у нядзелі. Пад гэтую мэту ён прыгледзіў будынак як раз пасярэдзіне нашага „Менску".

Царква была прысьвечана Смаленскай Адыгітрыі. У дзень ейнага сьвята сабраліся ўсе мы: усё сям'я, я з мужам, дзецьмі... Мы сядзелі разам. Тата казаў, як багата зроблена, але яшчэ болей наперадзе. Я слухала яго й думала, наколькі мы сталі блізкія, як я вычуваю яго, ведаю, што ён скажа, што ён думае. А тата казаў далей пра пляны, узьняўшы рукі, вымавіў „Многая лета", уздыхнуў і пасунуўся на мяне.

Я цьмяна памятаю, што адбывалася далей. Здаецца, я крычала па дапамогу, клікала Віталя Цярпіцкага, які быў абазнаны ў рэанімацыйнае дапамозе. Я не магла спыніцца, крык быццам сам па сабе іrваўся зь мяне. Змагла суняць сябе толькі згадаўшы, што каля мяне мае малыя дзеці. Пакуль прыехалі лекары, мінула каля 25 хвілінаў – далёка ад гораду быў наш „Менск". Тата быў мёртвы, а я крычэла дактарам, што ён жывы, што яго трэба везьці ў шпіталь, што яго яшчэ магчыма выратаваць...

Трэба было рыхтаваць паховіны... Я званіла Івану Касяку, сябру нашай сям'і, айцу Сьвятаславу Каўшу з просьбаю напісаць нэкралёг. Я званіла ўсім, каго ведала. Я званіла кожнаму сьвятару, якога ведала. Прыпамінаю таксама, што ў тым часе патэлефанавала Вольга Фёдараўна Качанская ды папрасіла, каб тата пахаваў Сэляха-Качанскага. Іронія лёсу...

Потым была падрыхтоўка да пахаваньня. Выбар месца на могілках, труны... Ён хацеў труну зь беларускай бярозы. Мы шукалі й знайшлі нешта падобнае. Рабілі ўсё, каб выканаць ягоныя жаданьні. Пачалі прывозіць кветкі, 50 – 60 вянкоў. Прыходзілі людзі – *крывічы, зарубежнікі* – усе разам.

Нам шмат хто дапамагаў. Айцец Алег Мірановіч з Чыкага, айцец Сьвятаслаў Коўш... Усіх не згадаць. Казалі прыгожыя словы пра яго, успаміналі...

Таты больш ня было.

Мама засталася адна. Усю сваю энэргію, сум, адзіноту яна скіравала на ўпрыгожваньне царквы, давядзеньня яе да ладу. За свае ўласныя грошы яна напачатку замовіла ікону Сьв. Мікалая – ў татаву памяць, пазьней замовіла яшчэ дзьве. Сястрыцтва нашае наагул вельмі ўважліва ставілася да царкоўных іконаў: іх нямала і ўсе вельмі прыгожыя.

Мама была надзвычай актыўнаю – і ў сястрыцтве, і ў хоры. Адсьвяткавала сваё 80-годзьдзе. А ў 1996 годзе таксама, як тата, мела інсульт, у выніку якога не магла болей хадзіць. Яна мусіла мець пастаянны кантроль лекараў, і пераехала ў адмысловы дом. Надзя Запруднік наведвала яе. Перад сьмерцю мама папрасіла зрабіць надпіс на ейным надмагільным помніку – „Протапрэсьвіцерша". Гэта было вельмі істотным для яе. Яна памерла ў 2000 годзе, маючы 91 год.

Бацькі сышлі. Яны пакінулі па сабе ня толькі беларускі цэнтр, царкву. Яны яшчэ стварылі нашую сям'ю, якая расьце й мацнее. Пры жыцьці яны былі тою сьцяной, якая ахоўвала нас, абараняла. Па сьмерці сваёй яны сталіся цэнтрам, вакол якога мы гуртуемся. Дзякуючы ім я закончыла два ўнівэрсытэты – вучылася на хіміка й на бібліятэкара, выгадавала дваіх дзяцей. Брат Жорж здабыў адукацыю. І калі мы цяпер зьбіраемся разам, мы заўсёды ўспамінаем нашых бацькоў з удзячнасьцю й шануем іхную памяць і тыя тры галоўныя бацькоўскія сьвятыні: Бога, Беларусь, сям'ю. І гэтая кніга – наш абавязак як дзяцей".

**Жорж Лапіцкі, сын:**

„Мне 67 гадоў. Я прыйшоў на сьвет у шпіталі, калі не памыляюся, у горадзе Дзісна, на Беларусі. Першыя ўспаміны дзяцінства – царква, каля якой мы жылі, каровы, конь, куры, козы, сабака. Зусім блізенька рэчка, дзе часта сядзелі з вудамі. Паходы на кірмаш: мы хадзілі гандляваць, калі патрэбныя былі грошы.

Памятаю нямецкіх жаўнераў, але больш за іх – людзей, што ўцякалі ад іх, таксама, відаць, жаўнераў. Яны падыходзілі пад нашыя вокны й прасілі паесьці, і маці тады давала ім сыру й хлеба, а калі яны прасілі прытулку на ноч, хавала іх у пуню каля дарогі.

Што дзіця памятае з вайны? Машыну, на якой езьдзіў тата, – яна рухалася парам, і, каб ехала, трэба было падкідаць чугуркі ў агонь. Памятаю кватэру ў Менску ў цэнтры гораду, як хаваліся ў бамбасховішчах . Калёны габрэяў.

Калі немцы адыходзілі, бацька вырашыў, што нам трэба ехаць таксама. Ён даведаўся пра цягнік на Вільню, не пасажырскі, натуральна.

Мы сабралі рэчы й з самага раньня рушылі на вакзал. Там было процьма людзей.

У дарозе цягнік некалькі разоў спыняўся: шукалі міны. Але дабраліся спакойна. Толькі ў Варшаве нам затрымацца не дазволілі: горад і без таго быў перапоўнены ўцекачамі. І мы мусілі перасядаць на іншы цягнік, гэтым разам у Прагу, дзе ў маці былі сваякі. Толькі і ў Празе пражылі які месяц, як горад таксама запоўніўся падобнымі да нас, і ўжо тамтэйшыя ўлады прымусілі ехаць далей. Гэтак мы апынуліся ў Нямеччыне, у Францэсбадзе. Там мы жылі ў гатэлі, які немцы аддалі пад беларускія справы, пад царкву, адтуль я пайшоў у нямецкую школу. Спакойна ня было. Памятаю, я пазнаёміўся ў гатэлі з сынам сьвятара Балая, хлапцом гадоў 15. Аднойчы ён пайшоў у кіно, і як раз горад пачалі бамбіць. Усе беглі, хлопец пабег таксама, але пабачыў ровэр каля дарогі, узяў яго й на ім даехаў дамоў. Дык нямецкая жандармэрыя адшукала яго, арыштавала й расстраляла.

Бамбаваньне працягвалася аж пакуль амэрыканскія войскі не ўвайшлі ў горад. Яны былі там цягам колькі тыдняў. Неяк пайшла пагалоска, што амэрыканцы частку Нямеччыны аддадуць камуністам. Перапалоханыя ўцекачы праўдамі й няпраўдамі перабіраліся ў амэрыканскую зону. Мы затрымаліся, а межы тым часам паміж зонамі зачыняліся ўсё шчыльней і шчыльней. Нарэшце тата знайшоў немца-фармара, які пагрузіў нашыя рэчы на воз, пакінуўшы большую частку ў гатэлі. Такі перабраліся да амэрыканцаў. Па дарозе нас спынілі чэхаславацкія жаўнеры, але толькі пакорпаліся ў пакунках, пабраўшы сабе найбольш каштоўнае. Нас не чапалі.

Цягам некалькіх тыдняў хадзілі мы ад адной фармы да другой у пошуках хлеба й прытулку. Часам нямецкія гаспадары пускалі нас на ноч, часьцей не, а зрэдку нават гналі. Нарэшце мы апынуліся ў Тырсгайме, адкуль бацька кожны тыдзень выбіраўся ў Рэгэнсбург, а потым у Міхэльсдорфе служыць службу. Неўзабаве мы пераехалі туды ўсе. Але й там не затрымаліся — наперадзе нас чакаў пераезд у іншы лягер, Бакнанг, дзе мусілі прайсьці мэдычнае асьведчаньне, а потым і палітычныя праверкі, каб урэшце атрымаць дазвол выехаць у ЗША.

12 ці 13 дзён морам і нас сустракала Статуя Свабоды. Яна — тое першае, што кідалася ў вочы. Ды іншае мора — мора аўтамабіляў. Ніколі раней такога ня бачыў. Думаў, што нейкая ўрачыстасьць, мо парад, але-ж не — звычайнае побытавае жыцьцё.

Пасяліўшыся ў Пасэйку тата, мама, сястра, разам зь беларускаю сям'ёю, што прытуліла нас на час, хадзілі на закупы да габрэя. Мовы ня ведалі, вядома, але неяк камунікаваліся. Вось ён і запрапанаваў мне дапамагаць яму. Гэта была мая першая амэрыканская праца — прыборка ў ягонай краме кожную суботу. Плаціў даляр за 4 або 5 гадзінаў працы. Я да сёньня маю той мой першы зароблены даляр.

З часам бацька з маці ўладкаваліся на працу, і мы пераехалі жыць у іншы дом — з 4 пакоямі, але без ванны або душу, толькі з халоднаю вадою на кухні. Мы грэліся вуглем, награвалі ваду, вылівалі яе ў металёвую ванну й гэтак мыліся.

Я пачаў хадзіць у школу, зьявіліся сябры, запісаўся ў хлапечы клюб, куды хадзіў займацца плаваньнем. Мы яшчэ жылі ў той самай кватэры, як я скончыў школу. Бацькі як раз заашчадзілі дастаткова грошай, каб набыць дом і выправіць мяне вучыцца ў каледж.

Я запісаўся у Нью Ёркаўскі ўнівэрсытэт, жыў у інтэрнаце, а скончыўшы, атрымаў працу ў кампаніі M.W.Kellogg інжынерам на будоўлях. Наступныя 14 гадоў я працаваў ва ўсіх штатах Амэрыкі й 5 гадоў у Турэччыне, а па вяртаньні пасяліўся у Нью Джэрзі, дзе распачаў свой уласны бізнэс. Вёў яго 13 гадоў, а пасьля вярнуўся ў M.W.Kellogg. Працаваў у Вэнэсуэлі 5 гадоў і зноў вярнуўся у сваё Нью Джэрзі.

У мяне ёсьць два сыны, бацькоўская гордасьць: Стывен, выпускнік Бостанскага Паўночнаўсходняга ўнівэрсытэту (у галіне геалёгіі) і Нікалас, які атрымаў ступень інжэнерыі ад Рэнсэлларскага Палітэхнічнага ўнівэрсытэту. Гэта — працяг нашае беларускае сям'і й будучыня Амэрыкі".

**Нік Касоўскі, унук:**

„Першае, што згадваецца, як думаю пра дзеда, гэта ягоная сіла ўнутраная. Гэта быў чалавек, што мог прамаўляць да каралёў, імпэратараў, да кангрэсаў і знаходзіць патрэбныя словы. Гэты чалавек вёў за сабою ня толькі сям'ю, але царкву й парафію. Ён быў ня толькі слугою Бога, але й філёзафам.

Зь дзедам я заўсёды пачуваў сябе абароненым. Ён любіў браць мяне на рэчку вудзіць рыбу, і рабіў з гэтага вясёлыя спаборніцтвы: хто далей закіне або хто болей налавіць. Ён вучыў мяне, як абіраць рыбу і як гатаваць яе. І калі з рыбалкі мы ехалі дадому, я ведаў, што мяне чакае самы смачны абед у сьвеце!

Другі момант — ягоныя прамовы на Пасху. Ён увесь мяняўся, ён быў поўны спагады, дабрыні й высокай узьнёсласьці адначасна. Традыцыйныя звычайныя словы службы мянялі сэнс і вагу. Я іх адчуваў фізычна, іхны цяжар і значнасьць. Я толькі дзіву даваўся, як ён, у сваім зьнямоглым пасьля хваробы фізычным стане, мог узьнімацца а чацьвёртай раніцы, служыць дзень і назаўтра быць у такім узьнеслым духоўным стане.

Калі я ўяўляю сабе дзеда там, на Бацькаўшчыне, бачу карціну, нечым падобную на Сібір: у сьнезе, шараю гадзінаю, вые вецер, і мой дзед, адзін, які змагаецца за сваю сям'ю, за яе выжываньне. І ён ня толькі выжыў, ён перамог!

Дзед пераплыў акіян не на адпачынковым параплаве. Гэта было падарожжа роспачы й надзеі, надзеі на лепшыя часы, на жыцьцё. І я блаславёны насіць ягонае імя.

Жыцьцё дзеда, разуменьне ім годнасьці, павага да працы маюць праця̆г у наступных пакаленьнях, у маіх сынах—Коўле й Броды, у справах, якія я дзялю з маёю жонкаю Марыяй. Я-б хацеў, каб у маіх дзецях была тая дзедава прага да сапраўднага, нявыдуманага жыцьця, уменьне рызыкаваць, як рызыкаваў дзед, прыехаўшы ў гэтую краіну. Каб ягоныя ўнукі былі вартыя ахвярнасьці продкаў".

**Нік Лапіцкі, унук:**

„Мне было толькі чатыры гады, калі мой дзед памёр. Таму мае ўспаміны пра яго невялікія, але мне багата пра яго распавядаў бацька. Цяпер мне 31 год. Па-сёньня сустракаю на сваім шляху людзей, хто мне расказвае гісторыі пра дзеда й кажа добрыя словы.

Вось нядаўні выпадак, зьвязаны з адным маім будаўнічым праектам у гардзкой управе Саўт Рывэру. Па справах я меў спатканьне з інспэктарам, хто працуе на гэтай дзялянцы 35 – 40 гадоў. Пачуўшы маё імя, ён пацікавіўся, ці ня маю я якога дачыненьня да айца Лапіцкага. І калі я назваўся ўнукам, інспэктар пачаў мне казаць, які́м чалавекам быў а. Мікалай Лапіцкі, чалавекам зь вялікай літары, чалавекам, якіх сёньня ўжо няма. І ён расказваў мне пра майго ўласнага дзеда, і той выяўляўся казачным асілкам або славутым каўбоем – кшталту тых, якіх граў у кіно легендарны Джон Уэйн. Пачуць такое ад незнаёмца выпадае ня кожнаму.

Другі выпадак здарыўся пасьля аднаго паседжаньня, на якім я меў прэзэнтацыю. Пасьля заканчэньня накіраваўся да выхаду, як мяне перапыніў адзін з сямі дырэктароў. Ён адклікаў мяне ўбок і таксама пацікавіўся сваяцтвам з сьвятаром Лапіцкім. А пачуўшы станоўчы адказ, пачаў расказваць пра майго дзеда й свайго вялікага сябра.

Я заўсёды ведаў, што мой дзед быў добрым чалавекам, але падобныя сустрэчы, наблізілі мяне да маіх продкаў далі мне адчуць мае карані – хто я, адкуль прыйшоў. Я зразумеў, што паходжу не абы-адкуль. І калі ў мяне складаныя часы, непрыемнасьці, я згадваю дзедава жыцьцё, тыя складанасьці, празь якія ён мусіў прайсьці й правесьці сваю сям'ю. Я – унук свайго дзеда, і здольны быць вартым яго!"

**Алекс Касоўскі, унук:**

„Матэматыка жыцьця: дзед памёр, калі мне было 13 гадоў. Сёньня мне 41.

Што я памятаю пра яго? Вуджэньне рыбы – гэта быў наш зь ім час, дзеда і ўнукаў. Ён мог быць суворым зь іншымі, але з намі бавіўся, як роўны.

Часам мы, унукі, заставаліся на ноч у дзедавай хаце. Тады на стол ставіўся боршч, кілбасы, а пасьля разам глядзелі тэлевізар. Дзед быў галоўным у царкве, а ў хаце гаспадарыла бабуля.

У царкве я быў прыслужнікам, меў свае даручэньні, абавязкі. І заўсёды вычуваў гордасьць, што мой дзед – сьвятар, а я – ягоны ўнук.

Шкада, што ён адышоў у такім веку, шкада, што я мала меў часу лепей пазнаць яго. Я-б хацеў паказаць яму, якім я вырас, пазнаёміць з сваёю жонкаю, дзецьмі – ягонымі праўнукамі, ягоным працягам".

**Стывэн Лапіцкі, унук:**

„Мой дзядуля як пры жыцьці, так і пасьля сьмерці меў незвычайны станоўчы ўплыў на людзей. Я неаднойчы сустракаў шмат асобаў, якія добра яго ведалі: адны – яшчэ зь Беларусі, іншыя – ужо пазьней, у ЗША. Многія зь іх – гэта яго парафіяне, прыяцелі й проста добрыя знаёмыя з парафіі Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры (Нью Джэрзі). Прайшло ўжо амаль 30 год пасьля яго сьмерці, але й сёньня пра дзядулю згадваюць як пра незвычайнага чалавека.

Я й сам разумею, што мой дзядуля якраз і быў такім, незвычайным чалавекам – з душою, адкрытай для людзей. Быў ён, як мне казалі, таксама добрым сябрам і адказнай асобай. Сёньня, калі згадваю пра гэта, ганаруся, што я – унук а. Мікалая Лапіцкага.

Памятаю тыя, такія дарагія мне сёньня, хвіліны, якія праводзіў з дзядулем і бабуляй, калі разам езьдзілі на пляж ці лавілі рыбу. Час, праведзены ў іх атачэньні, быў нечым незвычайным. Я заўсёды меў нейкае асаблівае пачуцьцё ўнутранай цеплыні, калі сядзеў у дзядулі на каленях. Ён бавіўся са мною, а я адчуваў яго цеплыню й любоў да мяне як унука.

Ведаю, што ён, сапраўды, быў чалавекам зь вялікай літары. І ня толькі таму, што так мне пра яго гаварылі. Яго дасягненьні ў жыцьці гавораць самі за сябе: сьвятар, грмадзка-культурны дзеяч, муж, бацька, дзядуля, сябра-дарадчык...

Мая бабуля Валянціна й дзядуля Мікалай стварылі той фундамант-аснову, на якім трымаецца сёньняшні дзень і будучыня роду Лапіцкіх. Яны мелі незвычайную адвагу, каб у гады вайны зь дзецьмі пусьціцца ў далёкі сьвет: прайсьці нялёгкі шлях ад роднай Беларусі да Амэрыкі, дзе яны распачалі яшчэ адзін, ці не найважнейшы перыяд свайго жыцьця.

Пасьля пераезду ў ЗША і сталым пасяленьні ў Саўт Рывэры дзядуля Мікалай прадоўжыў сваю душпастырскую дзейнасьць. Ды й ці магло быць іначай ?! Ён жыў тым, што рабіў і што казаў на пропаведзях сваім парафіянам, праз усё сваё жыцьцё самаахвярна служачы ідэі аўтакефаліі

БПЦ. Гэтая адданасьць беларускай справе, самаахвярнасьць і працавітасьць дзеда ў многім спрычыніліся да таго, што ў Саўт Рывэры была пабудавана беларуская праваслаўная царква Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай. Магчымасьць рэалізацыі мары мець сваю беларускую праваслаўную царкву з грамадзка-рэлігійным цэнтрам тут, на эміграцыі, трэба зьвязваць зь вялікім высілкам дзядулі й парафіянаў. Таму мара й сталася рэчаіснасьцю. Факт гэты гаворыць мне пра многае. Але ў першую чаргу, пра характар майго дзядулі, яго здаровую амбіцыю, вытрываласьць ды мэтанакіраванасьць у дасягненьні пастаўленай мэты.

Ён змагаўся з рознымі цяжкасьцямі на Беларусі, а потым і ў Заходняй Эўропе. Досьвед гэтага змаганьня дапамог перамагчы паўсталыя праблемы й тут, у ЗША. Дзядуля клапаціўся пра ўсіх і ўсё. Ён заўсёды цешыўся, калі мог чым-кольвек дапамагчы людзям.

Сёньня з вышыні гадоў бачу шмат рысаў яго характару ў паводзінах і характары майго бацькі, цёткі Лёлі ды й ва ўсёй сям'і Лапіцкіх-Касоўскіх. Адна з гэтых рысаў – любоў і павага да сям'і, якую дзед бэз рэшты аддаваў сваім родным. Яе лёгка заўважыць у яго дзецях і ўнуках. Можа таму й я ў атачэньні сваіх крэўных найлепш адчуваю, што якраз сям'я – гэта тое, найважнейшае ў жыцьці.

Калі гляджу на нашую сям'ю Лапіцкіх, сэрца перапаўняе гонар за дзядулю й бабулю ды пачуцьцё глыбокай ім удзячнасьці. Іх дзеці (мой бацька й яго сястра) – цудоўныя людзі, якіх асабліва люблю. Яны шмат чаго дасягнулі ў жыцьці і ў многім сябе рэалізавалі. Прычым, у розных галінах. Пры ўсім гэтым яны цалкам аддавалі сябе сваім сем'ям. Іх дзеці цяжкай працай і напорыстасьцю таксама шмат дасягнулі, сталіся добрымі людзьмі, з пачуцьцём годнасьці.

Усе нашыя дасягненьні зьвязаныя зь дзедам, зь яго мэтанакіраванасьцю ў жыцьці й незвычайнай працавітасьцю. Жыцьцё й дзейнасьць дзядулі служылі й будуць прыкладам для кожнага з нас. Ён паказаў і навучыў, як працаваць, як быць людзьмі амбітнымі, шанаваць пачуцьцё ўласнай годнасьці ў сабе і ў іншых. Паказаў нам таксама як быць сябрам, асобаю, якая дапамагае іншым і тым, хто робіць пазытыўныя зьмены ў сваім жыцьці.

Яго прысутнасьць са мною штодзённа. Як быццам ён побач і глядзіць на мяне. Нешта падобнае адчуваю кожны раз, калі прыяжджаю ў Саўт Рывэр і ўваходжу ў царкву Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай. Ведаю, што ён там прысутнічае. Дае мне гэта пачуцьцё цеплыні й бяспекі. Таму заўсёды тут адчуваю сябе як дома. Ніколі дзядулі не забуду й буду любіць яго да канца маіх дзён. Нават і сёньня, калі жыву ў іншым месцы, легенда яго жыцьця са мною. І так будзе заўсёды".

РАЗЬДЗЕЛ VI

# УСПАМІНЫ Й РЭФЛЕКСІІ ПРА а. МІКАЛАЯ ЛАПІЦКАГА



# MEMORIES AND REFLECTIONS ABOUT REV. NICHOLAS LAPITZKI

CHAPTER VI



Антон Шукелойць
(Нью Ёрк, ЗША)

# Пачатак сьвятарства: а. Мікалай у Ашмяне

Успамінаючы бытнасьць а. Мікалая ў Ашмяне на пасадзе настаяцеля праваслаўнага прыходу й прэфэкта праваслаўнай веры ў ашмянскай польскай гімназіі, згадаць трэба лічэбны стан праваслаўных і каталікоў у Ашмяншчыне за часоў Заходняй Беларусі міжваеннай пары.

Вось-жа, калі ехаць па галоўнай дарозе зь Менску ў Вільню, дык прыблізна наступным чынам будзе мяняцца беларускае жыхарства за веравызнаньнем праваслаўных і каталікоў. Насамаперш, Маладэчна – гэта, у асноўным, праваслаўнае жыхарства. Маленькі каталіцкі касьцёл існаваў тут магчыма яшчэ з часоў Уніі. Праўда, палякі пазьней пабудавалі вялікі прыгожы касьцёл дзеля польскага войска, якое тут стацыянавала. Далей – Смаргонь. Тут таксама ў сваёй бальшыні жыло беларускае праваслаўнае насельніцтва. Каталіцкая сьвятыня, якая там была, – гэта перароблены кальвінскі збор. Яна, дарэчы, захавалася да сёньняшняга дня. Каталіцкага касьцёлу як такога не было. І толькі пачынаючы ад Смаргоні мяняецца веравызнаньне беларускага насельніцтва.

Так вось, у Жупранах маем толькі каталіцкі касьцёл. Далей ідзе Ашмяна. Там таксама каталіцкі касьцёл. Калісьці было нават некалькі. Толькі за часоў царскай акупацыі збудавалі праваслаўную царкву ў расейскім стылі. А далей – Меднікі, Рукойнікі... І так аж да Вільні маем вялікую выспу беларускага каталіцкага насельніцтва.

Ашмяна ў часы міжваеннай Польшчы была месцам ссылкі беларускіх дзеячоў, якіх польскія ўлады ня мелі магчымасьцяў пасадзіць у турму або саслаць у канцэнтрацыйны лягер з увагі на адсутнасьць адпаведных пастаноў у польскім канстытуцыйным праве. Вось-жа, якраз тут адбывалі ссылку беларускія дзеячы праваслаўнай веры. Адным з такіх выдатных беларусаў быў дырэктар Наваградзкай беларускай гімназіі Ціхановіч, якога пасьля закрыцьця гімназіі выслалі сюды на пасаду звычайнага настаўніка ў пачатковую школу. Тут ён і памёр.

Недзе ў 1933 ці 1934 годзе сюды прыехаў малады сьвятар а. Мікалай Лапіцкі. Ён, бадай што, адразу зьвярнуў на сябе ўвагу мясцовага насельніцтва сваім выглядам, падобным да тутэйшых каталіцкіх сьвятароў. Бытнасьць а. М. Лапіцкага ў Ашмяне – гэта той час, калі я быў вучнем старэйшай клясы ў мясцовай польскай гімназіі.

Частку тэрыторыі ў цэнтры гораду, на якой была пабудаваная царква, гарадзкія ўлады забралі пад харчовы рынак. Якраз праз яго часьцяком праходзіў а. Мікалай.

Асаблівую павагу беларусаў Ашмяны, і праваслаўных і каталікоў, а. М. Лапіцкі здабыў на паховінах аднаго зь беларускіх дзеячоў – работніка тутэйшага бровару. Ён сказаў тады прыгожую прамову ў беларускай мове.

У Ашмяне жыло прыблізна каля дзесяці праваслаўных сем'яў. Гэта была пераважна інтэлігенцыя: невялікая колькасьць праваслаўных настаўнікаў, якія працавалі ў школе й гімназіі, ды чыноўнікі з царскай Расеі, што засталіся тут працаваць у гарадзкой управе й на пошце. Сярод праваслаўных Ашмяны трэба згадаць некалькі заможных асобаў. Адной зь іх быў Стругач, уласьнік бровараў у Ашмяне і ў Лідзе. Сам ён габрэй, жонка – праваслаўная грузінка. Другой заможнай асобай у парафіі была пані Дабрынская. Дабрынскія, па-польску Dobrzyńscy, мелі вялікі маёнтак, а таксама шыкоўны дом у Ашмяне. Тут у польскай гімназіі, між іншым, вучылася іх дачка. Айцец М. Лапіцкі скарыстаў са знаёмства з гэтымі людзьмі й адбудаваў даволі зьнішчаную праваслаўную каплічку. На браме пры ўваходзе ў сквэрык, у якім знаходзілася царква, перад іконай запалілася электрычная лямпачка. Да гэтага электрычнасьці не было і ў царкве.

Не магу не прыгадаць яшчэ аднаго цікавага факту з рэлігійнага жыцьця ў Ашмяне. Вось-жа, бацькі вучняў беларусаў каталіцкага веравызнаньня загадалі сваім дзецям падтрымаць прэфэкта праваслаўнай веры з гімназіі й яны сыстэматычна наведвалі нядзеляшнія службы ў царкве. Трэба памятаць, што ў тыя часы такія рэчы каталікам былі сурова забароненыя. Дык вось, пасьля імшы ў каталіцкім касьцёле, якая зазвычай пачыналася а 9-й гадзіне ў нядзелю, група вучняў заўсёды ішла ў царкву, каб паслухаць а. Мікалая Лапіцкага й яго пропаведзі ў беларускай мове.

На вялікі жаль, сьвятар-патрыёт доўга не затрымаўся ў Ашмяне. Ягоная ахвярная царкоўная дзейнасьць не спадабалася польскім адміністрацыйным уладам. У выніку былі зробленыя захады й а. Мікалая Лапіцкага неўзабаве з Ашмяны накіравалі ў іншае месца. На разьвітаньне грамадка вучняў адведала сьвятара ў яго хаце, а потым з кветкамі праводзіла на аўтобусны прыпынак, які знаходзіўся перад праваслаўнай царквой.

Трэба адзначыць, што найлепшае ўражаньне а. Мікалай пакінуў ня толькі ў праваслаўных беларусаў, але таксама і ў каталікоў.

Праз колькі год пачалася Другая сусьветная вайна. І вось, у 1941 годзе мне ізноў давялося спаткацца з а. М. Лапіцкім у Менску. Тады ён служыў настаяцелем праваслаўнай царквы, што знаходзілася недалёка ад чыгуначнай станцыі. Як сёньня памятаю, гэта была маленькая драўляная царкоўка, якой, на жаль, ужо не існуе. У Менску а. М. Лапіцкі быў

адным зь ініцыятараў таго Праваслаўнага Сабору Беларускай Царквы, які ў 1942 годзе аднавіў Аўтакефалію. Гэты чын беларусаў у гады нямецкай акупацыі лічу найвышэйшым узьлётам нашай незалежніцкай думкі.



Рагнеда Аляхновіч
(Менск, Беларусь)

## Служылі Богу й Беларусі

Айца Мікалая Лапіцкага, майго роднага дзядзьку, брата маёй мамы Ксеніі Лапіцкай-Грышкевіч, я памятаю зь лета 1939 году. Было мне тады 8 гадоў. Жылі мы ў Вільні: я скончыла дзьве клясы пачатковай школы, мама вучылася на агранамічным факультэце Віленскага унівэрсытэта. І вось, на летнія вакацыі 1939 году мама прывезла мяне да дзядзькі Мікалая й цётачкі Валі. Як называлася мясцовасьць, не памятаю, але была гэта, мусіць, Дзісеншчына, бо айцец Мікалай часам па справах езьдзіў у Дзісну.

Жыла сям'я Лапіцкіх у вялікім, драўляным, прыземістым доме: айцец Мікалай, матушка Валянціна, іх дзеткі Лёля й Жоржык. Былі ў іх служанка й парабак, імёны якіх я не памятаю. Дом стаяў недалёка ад вельмі прыгожай, хоць і невялікай, царквы – драўлянай, што мяне вельмі зьдзівіла, бо ў Вільні цэрквы мураваныя ды з цаглянай агароджай.

Айцец Мікалай мне запомніўся як чалавек спакойны, задумлівы й надзвычай добры. Ён заўсёды быў вельмі заняты, і найчасьцей мы яго бачылі толькі за сталом, падчас абеду ці вячэры. Часта да яго па дапамогу ці параду прыходзілі й прыязджалі сяляне. Але якім гонарам поўніліся нашыя сэрцы, калі мы прыходзілі маліцца ў царкву, а служыў абедню а. Мікалай, апрануты ў шыкоўную бліскучую рызу. Пасьля службы людзі падыходзілі да яго з павагай цалаваць Сьвяты Крыж...

Нас, дзяцей, ён ня песьціў, не гарэзаваў з намі, але ўважліва слухаў пра нашыя справы, зрэдку вадзіў на рэчку. Аднойчы ён узяў нас зь Лёляй у кааператыўную краму, якую ён трымаў разам з сялянамі. Чаго там толькі не было: цукеркі, пернікі, селядцы, косы зь сярпамі... Памятаю, што з крамнікам размова вялася па-беларуску.

Дом і гаспадарку вяла матушка Валянціна. Мне найбольш запомнілася, як яна расчэсвала, заплятала і ўкладвала вакол галавы каронай свае раскошныя залацістыя валасы. Яна не рабіла розьніцы паміж Лёляй, Жоржыкам і мною. Памятаю, як яна шыла нам зь Лёляй сукенкі: да адной прышые рукавы й да другой, да адной прыфастрыгуе каўнерык і да другой. І мерыла тыя сукеначкі на нас адначасова. Раніцай мы зь Лёляй, памытыя й прычасаныя, павінны былі садзіцца разам з дарослымі

за сьнеданьне. А маленькі Жоржык прачынаўся, уставаў у сваім ложачку й клікаў: „Мама, дай какавы!" Яго апраналі й кармілі асобна. Аднойчы ў двары я пабачыла жарабятка і, ведама-ж, захацела яго пагладзіць. А яно так мяне ўбрыкнула, што я ўпала й самлела. Некалькі дзён цётачка Валя мяне вельмі старанна лекавала й даглядала.

1 верасьня 1939 году пачалася Другая сусьветная вайна, але ў нас было спакойна. Праз нейкі час прыехала мая мама. Сталі гаварыць, што хутка прыйдуць саветы. Прыход „вызваліцеляў" а. Мікалай сустрэў стрымана й спакойна. А матушка Валянціна вельмі хвалявалася й перажывала за яго й за сваіх родных.

Наступная наша сустрэча з а. Мікалаем адбылася зімою 1940 году ў маёнтку Дубляны пад Львовам, дзе разьмяшчаўся агранамічны факультэт Львоўскай Палітэхнікі. Калі бальшавікі арыштавалі майго бацьку, мы з мамай пераехалі туды, каб быць далей ад Вільні й каб яна магла закончыць вучобу. У той-жа Палітэхніцы тады вучыліся мае дваюрадныя дзядзькі – Іван, Кастусь і Лявон. Вось-жа, да іх і да мамы прыехаў на некалькі дзён а. Мікалай. Мне было неяк дзіўна бачыць яго не ў расе, а ў кароткім кажушку, галіфэ й ботах. Але, як я зразумела з размоваў дарослых, ён заставаўся сьвяшчэньнікам. А наведаўся а. Мікалай да нас, каб разгледзецца, куды можна пераехаць зь Дзісеншчыны.

Падчас акупацыі Беларусі немцамі мы з мамай жылі ў Вялейцы, а. Мікалай з сям'ёю – ў Менску. Ён быў настаяцелем у Чыгуначнай царкве, каля цяперашняй плошчы Мясьнікова. Пасьля вайны царкву зьнесьлі, а на гэтым месцы збудавалі яшчэ адно крыло Дому ўрада. Мне расказваў Янка Брыль, які ў вайну быў вымушаны пайсьці ў партызаны, як адзін партызанскі разьведчык, прыйшоўшы ў Менск, забег у гэтую царкву схавацца ад немцаў. Стараста, які тушыў пасьля службы лампады й сьвечкі, зрабіў выгляд, што яго не заўважыў. Царкву не зачынялі да позьняй ночы, каб партызан змог з царкоўнага будынку выйсьці й накіравацца ў лес.

У час вайны а. Мікалай дапамагаў нам з мамай грашыма й прадуктамі. Аднойчы прывёз на машыне некалькі мяхоў збожжа.

Апошні раз я бачыла а. Мікалая і ўсю яго сям'ю летам 1944 году ў Вільні, калі яны ад'яжджалі на Захад. Мы з мамай таксама сабраліся ў дарогу, але даехалі толькі да Вільні, бо я цяжка захварэла. З гэтай прычыны яна не адважвалася на далейшае падарожжа. І вось мы ўсе – айцец Мікалай, матушка Валянціна, Лёля, Жоржык, мама і я – стаялі вакол валізаў на Віленскім вакзале. Мама плакала, а айцец Мікалай угаворваў яе ехаць далей. Але яна адмовілася...

Калі ў Вялейку вярнуліся саветы, маму арыштавалі. У лютым 1945 году яна памерла ў Вялейскай турме. А калі-б паслухалася роднага брата, то, магчыма, і наш лёс склаўся-б інакш. Але на ўсё Божая воля.



Вітаўт Кіпель
(Нью Ёрк, ЗША)

## Знаёмства й супрацоўніцтва з а. І. Кушнерам і а. М. Лапіцкім

### Беларусь

Упершыню са сьвятаром, як з прадстаўніком рэлігійнай дзялянкі, я сустрэўся сам-насам ды нават размаўляў у Менску ў часе Другой сусьветнай вайны. Было гэта ў 1942 годзе. Да таго часу я, прызнацца, сьвятароў бачыў здалёк ды найчасьцей у кінафільмах. Дзівіцца гэткаму стану рэчаў не выпадае: рэлігія ў былым Савецкім Саюзе была схаваная ад моладзі, аддзеленая ўжо ў мае дзіцячыя гады, асабліва ў гарадох. А ■ –1927 году нараджэньня. Адбылося першае знаёмства такім чынам.

Пад восень 1942 году я нешта раскопваў на пагарэлішчы нашага былога дому на Горным завулку, які месьціўся непадалёк ад Вайсковых могілак. У пэўным мамэнце пачуў крокі – нехта набліжаўся ў маім кірунку. Я павярнуў галаву і ўбачыў, што да мяне ідзе сьвятар. Шчыра прызнаюся, гэтага слова я тады, напэўна, ня ведаў. Таму падумаў: „поп". Заўважыў я таксама, што пасярод вуліцы стаіць жанчына, відаць яго жонка. Яна на пагарэлішча не пайшла. Сьвятар прывітаўся зычлівым беларускім „добры дзень" ды спытаў ці ўсе выйшлі жывыя з гэтага дому ў часе пажару. Я адказаў, што, на колькі чуў, ніхто тут не згарэў. Але дакладна ня ведаў, бо нас у часе пажару ў Менску не было. „Гэтае пагарэлішча – былы дом майго дзеда",– растлумачыў я. Сьвятар, вельмі прыветлівы, прадставіўся. Назваў сваё прозьвішча й імя – а. Іаан Кушнер, настаяцель прыходу на Вайсковых могілках. Відавочна, і словы „настаяцель" і „прыход" былі для мяне новымі. Але я рабіў выгляд, што мне яны зразумелыя. Далей а. І. Кушнер сказаў, што ён арганізоўвае ў царкве на могілках маладзёвы хор, ды што можа я далучуся да хору. Ён прасіў таксама, фактычна заклікаў, калі я праваслаўны, прыходзіць у царкву. Мушу сказаць, што гэты сьвятар мне нечым адразу спадабаўся. Найперш таму, што ён гаварыў па-беларуску, хоць з налётам ня менскага вымаўленьня. Да таго-ж, ягоная манера звароту, прыемны тэмбр голасу, ды найважнейшае – цёплы, уважлівы падыход да незнаёмца, нейкага менскага „пацана", настроілі мяне вельмі прыхільна да а. І. Кушнера. І тым ня менш, я адмовіўся ад ягонае прапановы далучыцца да маладзёвага хору, а пра наведваньне багаслужбаў сказаў: „паглядзім".

Адносна царквы, дык гэта было незнаёмае пачуцьцё. Для хору я проста ня меў часу: быў заняты ў школе, займаўся з рэпетытарам. Былі таксама цьвёрдыя абавязкі бываць на рынку: тое-сёе купіць-прадаць,

каб мецъ на стол. З таго часу з а. Іаанам Кушнерам адносіны былі наладжаныя. Ён жыў на Кладбішчанскай вуліцы й часта, ідучы ў царкву, праходзіў праз Горны завулак. Менавіта тут я найчасьцей зь ім сустракаўся. Ён часта спыняўся, каб пагутарыць, распытаць пра Менск. Сустракаўся я зь ім і ў горадзе, на розных імпрэзах, дзе бралі ўдзел школьнікі. Прыкладам, на дажынкі альбо ў Калядныя сьвяты. На адной з такіх гарадзкіх імпрэзаў мой сябра паказаў мне й айца Мікалая Лапіцкага.

Трэба сказаць, што ў Менску гэтыя два сьвятары былі ведамыя як актыўныя арганізатары беларускага рэлігійна-культурніцкага жыцьця й як блізкія сябры. На вялікі жаль, а. І. Кушнера хутка ня стала. Улетку 1943 году па дарозе ў Ракаў ён быў забіты пры выбуху міны. Ягоныя паховіны выліліся ў вялізарную маніфэстацыю пашаны й прыязьні да гэтага сьвятара, беларускага арганізатара, блізкага чалавека ў раёнах Камароўкі ды Залатой горкі. Бо ён прыйшоў у цяжкія часы ліхалецьця й дапамагаў людзям. Менчукі хутка ацанілі ягоную дзейнасьць і былі ўсе паказьнікі на тое, што прыход на Вайсковых могілках станецца моцным беларускім рэлігійным асяродкам. Насельніцтва таксама ведала, што айцец Іаан дапамагаў і яўрэям, найчасьцей „гамбургскім", якіх было досыць шмат на дзённых работах у раёне Камароўкі.

Бываючы цяпер у Менску, я заўсёды стараюся адведаць ягоную магілку. Невялічкі квадрацік з граніту паказвае на месца паховінаў айца Іаана Кушнера. Ён якраз паблізу помніка ахвярам землятрусу ў Арменіі, што з правага боку царквы на Вайсковых могілках.

Выдам і сямейны сакрэт. Магілка маёй бабкі Марфы Ваўчок-Зубкоўскай у пару мэтрах ад гэтых двух помнікаў. Над ейным помнікам-плітой – Еўфрасіньнеўскі крыж.

Вось-жа, пасьля забойства а І. Кушнера менчукам, удзельнікам грамадзкага руху, школьнікам было ведама, што другі сьвятар, які заўсёды бывае на маладзёвых імпрэзах, заходзіць у прагімназію, бывае з СБМ-аўскай моладзьдзю – гэта а. Мікалай Лапіцкі. Ён арганізоўваў беларускае грамадзкае й рэлігійнае жыцьцё на Козыраве. Сярод моладзі гэтыя два сьвятары пакінулі глыбокі сьлед. У менскае маладзёвае асяродзьдзе яны прынесьлі пачуцьцё рэлігіі й нацыянальнае сьведамасьці.

### Нямеччына

Сустрэчы з а. Мікалаем Лапіцкім „зблізку" ад тых менскіх сустрэчаў „здалёку" аддзяляе пара гадоў. Айца М. Лапіцкага мне давялося сустрэць пад канец 1945 году ў горадзе Рэгенсбургу. Адбылося гэта ў сядзібе Беларускага Нацыянальнага Камітэту на Маршальштрассэ. Мы, дзесятак маладых людзей, восеньню жылі пры камітэце. Ноччу там

дазвалялася спаць. Днём некаторыя з нас хадзілі па гораду, іншыя вучыліся ў украінскай гімназіі. У сьнежні, калі пачаліся заняткі ў новазарганізаванай беларускай гімназіі, з памяшканьнямі справа была ўпарадкавана. Усе мы атрымалі ці пакой, ці кватэры на селішчы.

Аднойчы мяне прыпыніў на сходах у камітэт спадар Міхась Міцкевіч (ён вёў усе дзённыя справы ў камітэце) і папрасіў, каб я зайшоў зь беларускім сьвятаром да нямецкага „пфарэра"-сьвятара ды сказаў-бы таму „пфарэру", што ў будынку камітэту пачнуцца багаслужбы. Потым спадар Міцкевіч узяў мяне пад локаць ды падштурхнуў у дзьверы да старшыні камітэту спадара Аляксандра Русака. У тым пакоі я сустрэўся з а. М. Лапіцкім. Тады-ж і сказаў, што бачыў яго ня раз у Менску. Аднак мая спасылка на менскі кантакт ніякага ўражаньня на айца не зрабіла. Вядома, што такіх як я, а. Мікалай бачыў сотні, калі не тысячы. Праўда, калі мы залагодзілі справу ў нямецкага сьвятара, то а. М. Лапіцкі сказаў, што я яму яшчэ буду патрэбны й што ён ведае майго бацьку. Вось гэтак наладзіўся-адбыўся мой першы кантакт з а. Мікалаем, кантакт, які пазьней перайшоў у супрацоўніцтва.

Памятаю, як на адной з багаслужбаў у Беларускім Нацыянальным Камітэце ў Рэгэнсбургу служыў а. М. Лапіцкі, а хорам кіраваў Мікола Равенскі. Якраз тады а. Мікалай абвесьціў, што пастаноўлена пабудаваць беларускую царкву імя Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай на селішчы Ганггофэр-Зідлюнг. Вестка наэлектрызавала грамадзтва: усе заўзята ўзяліся за працу, і на працягу двух-трох месяцаў у горадзе Рэгэнсбургу была пабудавана царква Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай. Наколькі ведама, яна сталася першай беларускай царкоўнай пабудовай ў паваеннай Нямеччыне. Гэтым дасягненьнем цешыліся й беларусы, і спрыяльныя нам украінцы, і шмат балтаў.

Непасрэднага ўдзелу ў пабудове царквы я не прымаў. Але паколькі быў адным з кіраўнікоў скаўтаў, дык для нас таксама хапала працы. Мы вельмі часта хадзілі з скарбонкамі, зьбіралі ахвяраваньні на пабудову царквы, і ня толькі сярод беларусаў. Нам часта прыходзілася дапамагаць у розных падсобных працах.

Адначасна а. М. Лапіцкі быў выкладчыкам рэлігіі ў гімназіі. У 6-й клясе гімназіі так падабралася, што амаль усе вучні былі з былое Ўсходняе Беларусі, а таму ніякае рэлігіі перад вучобай у Беларускай гімназіі ня ведалі. Айцу Мікалаю прыйшлося быць вельмі пэдагагічным, каб даць тым вучням хоць пачаткі рэлігійных ведаў. Найчасьцей ён спалучаў рэлігійную тэматыку зь гістарычнай. У выніку выходзіла вельмі цікава й даступна. Якраз у 6-й клясе а. М. Лапіцкі пачаў сэрыю лекцыяў пад назваю „Рэлігія й пагляды навукоўцаў". Упершыню вучні даведваліся пра беларускіх сьвятых, а жыцьцяпісу Еўфрасіньні Полацкай было адведзена нават некалькі лекцыяў.

Больш кантактаў з а. М. Лапіцкім я меў па лініі працы ў скаўтынгу. Як кіраўніку скаўтаў у Міхэльсдорфе, мне даводзілася часьцяком бываць у Рэгэнсбургу ды браць удзел у падрыхтоўцы розных скаўцкіх спаборніцтваў, джэмбары, курсаў кіраўнікоў. Часта там была патрэбная прысутнасьць духаўнікоў, і а. М. Лапіцкі заўсёды гэты абавязак выконваў.

У часе ягонага пабыту ў Міхэльсдорфе, неаднаразова – фактычна шмат-шмат разоў – мне даводзілася езьдзіць зь ім у турмы, наведваць зьняволеных, сярод якіх было ці мала беларусаў, засуджаных па крымінальных справах. Гэтак а. М. Лапіцкі адведваў зьняволеных у турмах Штраўбінгу, Пассаў, Рэгэнсбургу, Мюнхэну, Касэлю. Справы некаторых вязьняў, дзякуючы інтэрвэнцыям а. Мікалая, былі перагледжаныя.

У адным з гэткіх падарожжаў з а. М. Лапіцкім я сказаў, што выяжджаю хутка ў Бэльгію на каталіцкі ўнівэрсытэт, бо там беларусы маюць некалькі стыпэндыяў. Айцец Мікалай адказаў мне прыблізна гэтак: „Для нас вучыцца – асноўнае. А калі даюць стыпэндыі, дык безь ніякага сумніву з гэтага трэба карыстаць". У 1949 годзе я выехаў на студыі ў Бэльгію.

ЗША

У другой палове 50-х гадоў я з Бэльгіі прыехаў у ЗША, дзе напрыканцы 1955 году зноў сустрэўся з айцом Мікалаем Лапіцкім. У той час а. Мікалай зь сям'ёй жыў у горадзе Пассэйку, у штаце Нью Джэрзі, усяго два-тры кварталы ад месца, дзе пражывалі мае бацькі. У Пассэйку я апынуўся ў групе актыўных беларусаў: спадар Эмануіл Ясюк, мае бацькі, спадарства Жамойды, сям'я Лапіцкіх і колькі іншых. Спадар Аляксандр Русак жыў у горадзе Гарфілд, пару кварталаў ад Пассэйку. Гэтыя беларусы часта зьбіраліся, дыскутавалі беларускія „справы-праблемы".

Зь першых-жа гутарак-бяседаў з тымі „пассэйкаўскімі" беларусамі я спасьцярог, што а. М. Лапіцкі ў Пассэйку толькі дапамагае, а цалкам ён аддадзены справе арганізацыі й разбудове прыходу Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры, куды ён штотыдня даяжджаў. У тым часе я досыць блізка пазнаў і сям'ю а. Мікалая.

Але ў мяне і ў маёй, тады яшчэ блізкае сяброўкі-нарачонае, Зоры была асабістая справа да а. М. Лапіцкага. Мы вырашылі, каб ён нас вянчаў. Абое мы былі перакананымі аўтакефалістамі, абое ведалі добры дзесятак гадоў а. Мікалая, ягоную адданасьць беларускасьці, жаданьне беларусізацыі й незалежнасьці Беларускае Праваслаўнае Царквы. У нашых паглядах а. М. Лапіцкі быў найперш нацыянальным дзеячам. У блізкіх дачыненьнях з сьвятаром знаходзіліся й нашыя сем'і. Таму браць шлюб мы вырашылі ў а. М. Лапіцкага. Айцец Мікалай вянчаў нас

25 лютага 1956 году. У сваёй далейшай грамадзкай дзейнасьці мне неаднаразова даводзілася мець справу з а. М. Лапіцкім, але больш эпізадычнага характару, а не сталага, штодзённага. Пра колькі такіх кантактаў-эпізодаў я й згадаю.

Пачатак 1959 году. У ЗША на запрасіны былых студэнтаў Лювэнскага Каталіцкага Ўнівэрсытэту ў Бэльгіі гасьцюе іхны былы апякун пэр Робэрт Ван Каўвэлярт. Пэр Робэрт – асоба ўплывовая ў Бэльгіі, вельмі паважаная былымі лювэнцамі, знаная ў беларускім грамадзтве. Не сакрэт было таксама, што пэр Робэрт вуніяцкага веравызнаньня, перакананы й дысцыплінаваны сьвятар каталіцкага крыла Хрысьціянскае Царквы. Аднойчы ў гутарцы пэр Робэрт выказаў жаданьне пабыць і ў царкве Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры. Здавалася, далікатная справа. Але калі я пра гэта сказаў а. Мікалаю, дык той адразу даў такі адказ: „Я пэра Робэрта запрашаю ў алтар на маё служэньне. Для мяне тая асоба, якая робіць дабро, дапамагае беларусам – госьць, а для сьвятара – госьць у алтары". Вось гэтак айцец Робэрт Ван Каўвэлярт і стаўся госьцем у беларускім прыходзе Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай. Выдатнае сьведчаньне і ў адрас а. Мікалая Лапіцкага – беларускасьці адчыняецца дарога.

Наагул, арганізацыі царквы Сьвятое Еўфрасіньні Полацкае ў Саўт Рывэры я прысьвяціў ці мала старонак у сваёй кнізе „Беларусы ў ЗША" (Менск, 1993). Гэтаксама на аснове гутарак з а. Мікалаем Лапіцкім ды ягонай дакумэнтацыі я прааналізаваў і ў англамоўнай кнізе „Belarusans in USA" (New York – London, 1999) стараньні а. Мікалая па стварэньню Беларускае Аўтакефальнае Царквы з дапамогай ды ва ўлоньні Сусьветнага Канстантынопальскага Патрыярхату. На гэтым шляху ён шукаў і бачыў магчымасьці да ўнезалежненьня беларускага праваслаўя ад расейскага. Дадзеныя з тых манаграфіяў увайшлі ў шмат якія энцыклапэдыі й падручнікі. І я таксама задаволены, што падаў амэрыканскаму грамадзтву факт – да зьдзяйсьненьня Аўтакафеліі Беларускай Праваслаўнай Царквы беларускае грамадзтва ідзе рознымі шляхамі.

Аднак ёсьць яшчэ аспэкты, на якія а. М. Лапіцкі зьвяртаў вялікую ўвагу. Гэта – выхаваньне беларускасьці ў маладога пакаленьня. Айцец М. Лапіцкі шмат энэргіі аддаваў беларускай парафіяльнай школе ў ЗША. Памятаю напрыканцы 50-х – пачатку 60-х гадоў ён перавыдаў падручнік „Лемантар" Апалёніі Радкевіч-Савёнак. Дарэчы, а. Мікалай вельмі паважаў спадарыню А. Савёнак ды быў зь ёй у блізкіх працоўных дачыненьнях ад часоў Рэгэнсбургу, калі яна апрацоўвала першае выданьне лемантара. Перавыдаў таксама чытанку К. Езавітава „Беларуская школа". У тым самым часе а. М. Лапіцкі зьбіраў дзесяткамі падручнікі для суботняй школы, якія выдаваў сп. Юрка Станкевіч. Айцец Мікалай выдаў таксама свой падручнік з рэлігіі для школьнага ўжытку ды перавыдаваў

шмат школьных канспэктаў, якімі карысталіся ў іншых беларускіх суботніх школах.

Калі беларускае грамадзтва набыло маёмасьць – адпачынкавы цэнтр „Бэлэр-Менск", ды там распачалі дзейнасьць беларускія летнія лягеры, а. М. Лапіцкі быў частым госьцем, апекуном ды настаўнікам рэлігіі. Ведаючы, што я актыўна працую ў амэрыканскім скаўтынгу (я каля дзесятка гадоў быў у амэрыканскім скаўтынгу на розных пасадах, улучна гадоў пяць скаўтмайстрам) а. Мікалай папрасіў мяне арганізаваць пры царкве Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай скаўцкую адзінку амэрыканскага скаўтынгу, што й было зроблена (сьцяг 225, рэгіянальнае рады Эдысон). На жаль, з-за малое зацікаўленасьці шырэйшага грамадзтва, што абсалютна неабходнае ў амэрыканскім скаўтынгу, адзінка праіснавала нядоўга.

Айцец Мікалай Лапіцкі часам заходзіў і ў Ньюёрскую Публічную Бібліятэку, знаёміўся зь беларускім друкам, рэлігійнай літаратурай. Казаў мне, што робіць стараньні атрымаць копію сваёй тэзы з Варшавы ды плянуе да яе дадаткі. Памятаю, як ён тады казаў: „Новыя дасьледаваньні шмат дадаюць да беларускага пункту гледжаньня".

Мая апошняя „фаза" супрацоўніцтва з а. Мікалаем была ў часе адзначэньня 200-годзьдзя ЗША. На гэтую пару прыпадае якраз правядзеньне Першага Беларускага Фэстывалю. Неабходна тут прыпомніць тагачасную атмасфэру.

Рыхтавацца да адзначэньня 200-годзьдзя (1776 – 1976) Амэрыка пачала рана, напрыканцы 60-х гадоў. У краіне ствараліся розныя юбілейныя камітэты, камісіі, актыўна вялася рэкляма юбілею ў школах, друку, тэлебачаньні, радыё. Беларускае грамадзтва, як-бы асмозам было ўцягнутае ў гэтую падрыхтоўку. Арганізацыя моладзі (Ю. Азарка, Н. Запруднік, А. Кіпель, сёстры Сільвановіч, Ю. Кіпель, В. Запруднік і інш.) ды вакальна-танцавальная група „Васілёк" даведаліся, што ў Нью Джэрзі будуць адбывацца юбілейныя фэстывалі. Выказаная была думка, каб і беларусам далучыцца да тых сьвяткаваньняў. Моладзь зьвярнулася да мяне. Я прыслухаўся, паехаў на нейкую арганізацыйную штатавую зборку, пасьля якое прадставіў справу актыву. Было пастаноўлена ў фэстывальныя ўрачыстасьці ўлучыцца. Мяне абралі старшынёй фэстывальнага камітэту. Будучы ўцягнутым і ў штатную арганізацыю, я здаваў сабе справу, што ўдзел у фэстывалі азначаў патрэбу сабраць на фэстываль мінімум (!) тры тысячы гледачоў. Тры тысячы гледачоў для нашага грамадзтва – ня так ужо й проста! Тым ня менш, і я і мае бліжэйшыя сябрысупрацоўнікі (ясна, найперш Зора, Юрка Азарка, д-р Ала Рамана, д-р Ян Запруднік, сям'я, спадар Антон Шукелойць) уважалі, што для прапаганды імя „Беларусь" удзельнічаць у фэстывалі трэба. Ды я й сам гэта добра разумеў, але ведаў і тое, што сярод беларусаў гэтулькі сварак і злосьці. Таму любая масавая імпрэза можа ня ўдасца. Каб пазьбегнуць розных

непаразуменьняў ды забясьпечыцца падтрымкай усяго грамадзтва, я вырашыў пагутарыць з прадстаўнікамі рэлігійных інстытуцыяў: зь епіскапамі БАПЦ і з а. Мікалаем Лапіцкім.

Мая гутарка з айцом адбылася ў яго ў хаце. Я паінфармаваў а. Мікалая пра імпрэзу, яе важнасьць для прапагаваньня імя „Беларусь", пра гатоўнасьць грамадзтва да гэткага выступу – супольнага выступу беларусаў. Сказаў яму таксама, што гэткую думку падтрымоўваюць і мастацкія калектывы й дзесяткі беларускіх арганізацыяў. Тады-ж я папрасіў а. М. Лапіцкага, каб і саўтрывэрская царква й грамада падтрымалі гэты беларускі пачын. Безь ніякіх засьцярогаў а. Мікалай пагадзіўся на гэткую справу. Больш таго, ён сказаў, што будзе абвяшчаць пра фэстываль у царкве. Для арганізацыі Першага Беларускага Фэстывалю гэта было вялікай падтрымкай. У выніку, як кажуць, факт дакананы – на фэстывалі было сабрана некалькі тысячаў гледачоў. Патрэбная квота была перакрочаная!

На заканчэньне паўтару ды разаўю сказанае раней у кнізе „Беларусы ў ЗША": „Нечаканая сьмерць айца Мікалая Лапіцкага ў жніўні 1976 году сталася вялікім ударам для грамады". Беларускае грамадзтва згубіла выдатнага нацыянальнага дзеяча, а на рэлігійнай ніве засталася незакончанай яго ініцыятыва па афармленьню Беларускае Аўтакефаліі ва ўлоньні Ўсяленскага Канстантынопальскага Патрыярхату.

Айцец Мікалай Лапіцкі служыў Усявышняму для дабра беларускага народу й цьвёрда трымаўся законаў тае плыні хрысьціянства, да якое прыйшоў праз пакліканьне.



Надзя Запруднік
(Нью Джэрзі, ЗША)

## Успамін пра а. Мікалая Лапіцкага

Айцец Мікалай Лапіцкі адыграў вельмі важную ролю ў жыцьці нашай сям'і – гэта значыць сям'і майго брата Міхаля Рагалевіча. Міхаль са сваёй жонкай Яфіміяй і сямёра дзяцьмі, якіх я памагала даглядаць, апынуўся ў 1944 годзе ў Нямеччыне. Там у горадзе Бакнангу, у лягеры для гэтак званых „перамешчаных асобаў" – уцекачоў ад бальшавізму, мы пазнаёміліся з а. Мікалаем. Ягоная сям'я разам зь іншымі беларускімі сем'ямі была перавезеная ў 1948 годзе ў Бакнанг з такога-ж лягеру ў Міхэльсдорфе.

Калі я вярнулася са Швайнфурту з вучылішча, то застала грамадзкакультурнае й рэлігійнае жыцьцё ў Бакнангу больш актыўным і разнастайным. Адбываліся шлюбы, хрэсьбіны, актыўна праходзіла дзейнасьць скаўтынгу, да якога я належала. Адпраўляліся рэгулярныя багаслужбы, якія служыў а. Мікалай Лапіцкі. Я сьпявала ў царкоўным хоры.

У 1950 годзе, калі настаў час эміграваць зь Нямеччыны далей, а. Мікалай дапамог нам выехаць у Злучаныя Штаты. Ён меў добрыя сувязі з Сусьветнай Радай Цэркваў, міжнароднай арганізацыяй дапамогі, па праграме якой наша 10-асабовая сям'я й прыехала ў верасьні 1950 году ў Амэрыку, у штат Пэнсыльванія. Мы былі за гэта вельмі ўдзячныя і арганізацыі, і а. Мікалаю.

Нас прыняў да сябе фармэр, на гаспадарцы якога мы працавалі. Тут ва ўмовах адлучанасьці ад сваіх людзей і перазімавалі. У сакавіку 1951 году я прыехала ў горад Саўт Рывэр, які знаходзіўся ў суседнім штаце Нью Джэрзі. Там жыло шмат беларусаў і было поўна моладзі. Братава сям'я ўжо магла абыходзіцца й без майго ўдзелу ў доглядзе дзяцей. У травені 1951 году я перабралася жыць у Саўт Рывэр. Пагатоў, што там апынуліся й некаторыя з маіх сяброўак зь лягеру ў Нямеччыне.

У Саўт Рывэры тады ўжо было наладжана царкоўнае жыцьцё. Служыў знаёмы ўжо мне а. Мікалай Лапіцкі. Жыў ён зь сям'ёй, праўда, не ў Саўт Рывэры, а ў горадзе Пасэйку. Адтуль ён рэгулярна даяжджаў у Саўт Рывэр аўтобусам (хвілін 40 язды). А пазьней, калі нашыя людзі разжыліся на свае аўтамабілі, а. Мікалая прывозіў хто-небудзь з саўтрывэрцаў. Калі трэба было, ён начаваў у Саўт Рывэры ў каго-небудзь з прыхаджанаў.

Айцец Мікалай быў ня толькі глыбока рэлігійным чалавекам, але й выпрабаваным беларускім патрыётам, а таксама энэргічным арганізатарам. Якасьці гэтыя адлюстроўваліся ў ягоных пропаведзях, якія сьвятар прамаўляў вельмі пачуцьцёва, прыгожай беларускай мовай. Да людзей ён ставіўся прыветліва, але й часам заэмацыянальна. Здаралася, што а. Мікалай каму-небудзь згарача мог сказаць штосьці балючае. Але і ў такіх выпадках ён заўсёды знаходзіў спосаб палагодзіць адносіны.

Вялікай падмогай а. Мікалаю была яго матушка Валянціна, жанчына моцнага характару, энэргічная й валявая. Памятаю, калі ў 1952 годзе я была на першай ўсяночнай багаслужбе й стаяла нейк у адзіноце, ня бачачы каля сябе нікога са знаёмых, матушка падыйшла да мяне й сказала: „Што-ж ты стаіш тут адна, як чужая?". Ад гэтага мне стала цяплей на сэрцы, бо я адчула, што й мяне тут лічаць за сваю.

Багаслужбы адбываліся спачатку ў доме, які прыходзілася наймаць. Але ўсім хацелася мець свой царкоўны будынак. Таму ўжо ад самага пачатку з блаславеньня а. Мікалая парафіяне пачалі зьбіраць грошы на куплю або пабудову свае ўласнае сьвятыні, а таксама на закуп зямлі пад могільнік. Напрыканцы амаль кожнага тыдня вернікі малымі групамі па два-тры чалавекі хадзілі па хатах да сваіх прыхаджанаў і да чужых людзей і, гэткім чынам, зьбіралі грашовыя ахвяраваньні на сваю царкву. У калядны й велікодны час зборам грошай займаліся калядоўшчыкі

й валачобнікі. Гэтак памалу мы здабыліся на свой царкоўны будынак, у якім некалі мясьцілася сынагога. Як і той першы, наняты царкоўны будынак, гэтак і яна знаходзілася на Ўайттэд Авэню ў Саўт Рывэры.

Неўзабаве парафія купіла таксама дзялянку зямлі на адным з ўзгоркаў гораду. Першапачаткова там і думалі будаваць царкву. Адбылося і ўрачыстае пасьвячэньне. Людная працэсія з а. Мікалаем на чале, з крыжам і харугвамі прайшла вуліцамі гораду да месца пасьвяты. Але царквы там не пабудавалі, бо ў міжчасе памёр нехта з парафіянаў і пастанавілі яго пахаваць на нованабытай дзялянцы. Гэткім чынам яна ператварылася ў могільнік. А тымчасам багаслужбы пачалі служыць у набытым гатовым будынку – ранейшай сынагозе на тэй-жа Ўайттэд Авэню, аднэй з галоўных саўтрывэрскіх вуліцаў.

Царкоўнае й грамадзкае жыцьцё тымі гадамі было вельмі актыўнае. Адбывалася ці мала розных сьвяткаваньняў і ўрачыстасьцяў: хрэсьбіны, вясельлі, пахаваньні, маёўкі, пікнікі, спартовыя гульні. Адразу-ж наша грамада далучылася да некаторых агульнагарадзкіх імпрэзаў. Гэтак, прыкладам, ужо ў 1952 годзе ў канцы травеня падчас сьвяткаваньня Дня Палеглых Жаўнераў (Memorial Day) наша група брала ўдзел у гарадзкім парадзе. Некаторыя з нас былі ў беларускіх нацыянальных строях.

Так склалася, што наш шлюб з Аўгенам Кудасавым быў першым шлюбам, які даў а. Мікалай у сваёй саўтрывэрскай парафіі. Як добра памятаю, гэта было ў ліпені 1952 году. Царква тады яшчэ мясьцілася ў нанятым будынку.

Як і ў Бакнангу, я сьпявала ў царкоўным хоры. Хорам кіраваў спачатку спадар Аркадзь Евец. Быў таксама сьвецкі хор пад кіраўніцтвам Вячаслава Качанскага. Пасьля А. Еўца кіраўніцтва хорам пераняў кампазытар Дзімітры Верасаў. Пры царкве была таксама суботняя школка для дзяцей, у якой а. Мікалай вучыў рэлігіі. Апрача рэлігіі дзеці навучаліся беларускай мовы, песьняў ды беларускіх народных танцаў.

Гады, калі нашу парафію ачольваў а. Мікалай, былі пэрыядам актыўнага рэлігійнага жыцьця й ахвярнай грамадзка-культурнай дзейнасьці. Да ўсяго даходзіла акцыя пашырэньня беларускасьці сярод амэрыканцаў, асабліва перад амэрыканскімі мясцовымі, штатавымі й фэдэральнымі ўладамі. У сталіцу штату Трэнтан і ў Вашынгтон з розных нагодаў езьдзілі нашыя дэлегацыі, каб сказаць слова пра Беларусь й ейнае змаганьне за свае правы. Частым удзельнікам такіх дэлегацыяў быў а. Мікалай. Пасьля сьмерці а. Мікалая Лапіцкага жыцьцё парафіі было ды й застаецца ў вялікай меры вынікам ягонай самаахвярнай працы на карысьць беларускага праваслаўя і беларускай нацыянальнай справы.



Янка Запруднік
(Нью Джэрзі, ЗША)

## Айцец Мікалай – празорлівы будаўнік

З айцом Мікалаем Лапіцкім маё знаёмства пачалося ў Міхэльсдорфе ў 1946 годзе, калі быў вучнем Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Ён выкладаў у нас рэлігію. Прызнацца, памяць не захавала амаль нічога з тых выкладаў, але матуральнае пасьведчаньне кажа, што экзамен з рэлігіі быў здадзены, ацэнка пастаўленая. На здымку нашага выпуску, які адбыўся ў красавіку 1947 году, а. Мікалай сядзіць пасярэдзіне ў першым радзе. Пазьнейшымі гадамі, ужо ў Злучаных Штатах, даводзілася сустракацца зь ім пры розных нагодах, заўсёды ў прыязных дачыненьнях, быць час ад часу на ягоных багаслужбах, слухаць палымяныя пропаведзі.

Па прыезьдзе ў 1950 годзе ў Злучаныя Штаты ён адразу ўзяўся за арганізацыю царкоўнага прыходу ў Саўт Рывэры. Пасьля нямецкіх лягероў умовы жыцьця на новым месцы радыкальна зьмяніліся. У Нямеччыне была лягерная цесната. На зьмену ёй прыйшла раскіданасьць. Патрэбен быў асяродак, вакол якога гуртаваліся-б людзі. Калі ў Нямеччыне яны жылі ў лягерох адзін каля аднаго і грамадзкае жыцьцё значна аблягчалася, нават стымулявалася гэтай лягернай базай, дык па пераезьдзе за акіян тэрытарыяльная база зьмянілася. Зразумела, на новым месцы людзі стараліся сяліцца бліжэй адзін да аднаго, але абставіны былі ўжо зусім іншыя. Шмат каму давялося жыць наводдалі. Патрэбен быў свой цэнтар, куды зыходзілася-б ці зьяжджалася-б як мага большая колькасьць суродзічаў. Гэткім цэнтрам сталася свая царква. У нармальных, неэміграцыйных умовах шмат якія грамадзкія патрэбы задавальняюцца па-за царквой. Але эмігранты такіх магчымасьцяў найчасьцей ня маюць. Для іх царква з прыналежнымі да яе плошчамі – гэта й месца рэлігійных абрадаў, і месца праводжаньня самых розных грамадзка-культурных ды грамадзка-палітычных мерапрыемстваў. Айцец Мікалай выдатна бачыў гэтую ўзаемасувязь. Прайшоўшы частку свайго жыцьцёвага шляху на Бацькаўшчыне ў абароне праваслаўнае веры й беларушчыны ад польскага наступу, ён добра разумеў ролю царквы ў перахоўваньні народных традыцыяў і нацыянальнае саматоеснасьці. Пры палітычных разыходжаньнях, слабой нацыянальнай сьведамасьці некаторых суродзічаў, адукацыйнай рознасьці ды іншых разьяднальніках згуртаванасьць вакол царквы сталася натуральнай разьвязкай. Гэта было відавочным яшчэ ў Нямеччыне. Гэтак вось і на новым месцы пасяленьня, у Амэрыцы, пад наглядам а. Мікалая й пры ягоных намаганьнях была адразу закладзеная аснова, а з часам разбудавалася салідная рэлігійна-матар'яльная база, што трывае й да сёньняшняга дня як помнік вернасьці традыцыям і стваральнаму духу нашых суродзічаў.

Вялікую справу зрабіў а. Мікалай таксама й тым, што заміж таго, каб ісьці сьлядамі гіерархаў, якія ўліліся ў Расейскую Зарубежную Царкву, паспрыяў далучэньню свайго ды іншых беларускіх праваслаўных прыходаў да юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярхату. Гэтым актам фактычна захавалася ідэя беларускай царкоўнай аўтакефаліі, асновы якое былі замацаваныя на Бацькаўшчыне з удзелам а. Мікалая.

Актыўны ў беларускім рэлігійным і грамадзкім жыцьці праз усе свае гады, а. Мікалай заслугоўвае на пашану й павучальную памяць. У ягонай асобе мы маем выдатную гістарычную постаць, самаахвярнага будаўніка царкоўнага й грамадзкага жыцьця. Роля а. Мікалая ў эміграцыйным пэрыядзе становіцца асабліва выразнай у рэтраспэкцыі. Калі азірнешся на апошняе 60-годзьдзе, дык бачыш, што царква як інстытуцыя аказалася самай устойлівай асновай беларускага жыцьця на эміграцыі. Цэрквы сталіся ня толькі месцам малітвы. Пры царкоўных сьвятынях адбываецца бальшыня нашых сацыяльных, культурных і палітычных падзеяў. Ува ўмовах эміграцыйнага быту царква, у дадатак да свае традыцыйнае функцыі духовага апякунства, набыла важную ролю культыватара грамадзкіх навыкаў. Наведваньне царквы вернікамі дзеля чыста індывідуальных духовых патрэбаў прызвычаіла іх і да ўдзелу ў розных грамадзкіх мерапрыёмствах, якія ў моц фізычнага імпэратыву адбываюцца пры царкоўных будынках. Гэта – мастацкія выставы, фэстывалі, пікнікі, даклады, сустрэчы з дэлегацыямі, з палітыкамі. Такое спалучэньне духова-індывідуальнага элемэнту са сьвецка-грамадзкім, бадай, зусім натуральнае. Бо-ж Царква паводле свайго азначэньня – гэта людзі, грамада, грамадзтва. Мовазнаўцы спрачаюцца, якая этымалёгія слова „царква" ў славянскіх мовах. Але калі йсьці ў пачаткі хрысьціянства, да габрэйскай і грэцкай моўных крыніц, дык бачым, што старагабрэйскае слова „кагал" (што значыць дзеці Ізраеля як рэлігійная грамада) грэкі пераклалі словам „эклезія" (сход людзей, грамада) і ўжылі гэтае слова ў сэньсе „царква" ў перакладзе Новага Запавету (Евангельля, Дабравесьця). Значыцца, царква – ня толькі сьвятыня, але й людзі, грамада зь ейнымі духовымі й сьвецкімі патрэбамі.

Саўтрывэрскі асяродак, які разбудаваўся дзякуючы ў вялікай меры намаганьням а. Мікалая, выдатны прыклад цеснае ўзаемасувязі рэлігійнага й сьвецкага жыцьця беларускае грамады ў дыяспары. Пасьля дзесяцігодзьдзяў ідэалягічных спрэчак і ўзаемных абвінавачваньняў у беларускім эміграцкім асяродзьдзі а. Мікалай паўстае перад нашчадкамі, як будаўнік царкоўнага й грамадзкага фундаманту, як празорлівы рэлігійны лідар і духовы апякун сваіх вернікаў, як беларус-патрыёт, а таксама як прыклад для будучых сьвятароў, хрысьціянскі абавязак якіх служыць сваім бліжнім, а значыць сваім суродзічам, свайму народу.



Яніна Каханоўская
(Нью Ёрк, ЗША)

# Мае ўспаміны пра а. Мікалая Лапіцкага

Час ідзе, а можа якраз час стаіць, а праходзім мы. Успамінаецца шэраг гадоў, праведзеных на выгнаньні. Паміж іх зырка ўстае ў памяці 1947 год, які мы пражылі ў лягеры ў Міхэльсдорфе. Гэта было разьбітае амэрыканцамі нямецкае вайсковае лётнішча, з пабудаванымі для пілотаў баракамі. Вось у гэтыя баракі нас перавезла з Рэгэнсбургу УНРРА, пакараўшы за палітыканства: беларусы не пусьцілі адправіць службу ўладыку Саву, які займаўся наварачваньнем беларусаў у праваслаўных палякаў.

Добра памятаю тыя першыя паваенныя гады. Шмат беларускай моладзі, вызваленай амэрыканцамі, вярнулася ад баўэраў, куды іх прымусова вывезьлі з бацькаўшчыны на працу. Яны былі моцна пакрыўджаныя й стараліся адпомсьціць сваім гаспадаром, групаваліся ў банды, рабавалі, некаторыя нават забівалі. Іх арыштоўвалі, садзілі ў вязьніцы. І там яны былі бездапаможныя: ня мелі ні сьвятара, ні знаёмых, ні ежы, а кармілі тады вельмі дрэнна. Але найбольш не хапала курыва.

Вось жа а. Мікалай вырашыў гэтымі людзьмі заапекавацца. А паколькі я належала да жаночай дапамаговай арганізацыі, папрасіў мяне зьбіраць сярод жыхароў лягеру хлеб (сушыць сухары), цыгарэты й дапамагчы яму развозіць усё гэта ў вязьніцы для перадачы праваслаўным беларусам.

Мы гэтых людзей часта й ня ведалі асабіста. Раз спаткалі ў вязьніцы сына праф. Тэпіна зь Менскага ўнівэрсытэту, які зьмяніў прозьвішча на Астравумава. Яму было 20–24 год і ён абвінавачваўся ў рабунковым нападзе на баўэра. Яго потым звольнілі, але ён рана памёр.

Гэткія нашыя падарожжы з а. М. Лапіцкім не былі лёгкімі. Адзіны транспарт, што мелі, быў грузавік з вуглём, які завозіў паліва для лягернай кухні. Шафёр згадзіўся на просьбу а. Мікалая пасьля разгрузкі машыны завезьці нас у вязьніцу. Я, на жаль, не памятаю назоваў вязьніцаў, якія мы наведвалі. Я ня ведала нямецкай мовы, але мы рабілі несамавітае ўражаньне на турэмную адміністрацыю. Вугольны пыл моцна асядаў на нашых тварах і вопратцы, а памыцца мы ня мелі часу – шафёр сьпяшаўся дахаты. І калі мы глядзелі на сябе, то міжволі сьмяяліся: выглядалі мы зусім чорнымі, блішчэлі толькі вочы й зубы.

Айцец Мікалай распытваў зьняволеных, даваў парады, маральную падтрымку. Пры ім заўсёды была малая валізачка з патрэбнымі царкоўнымі рэчамі. Некаторыя вязьні мовы нямецкай ня ведалі й а. Мікалай быў для іх пасланцом Раю, інакш кажучы Неба, якому яны маглі пажаліцца, а хлебныя сухары падтрымлівалі малады ды згаладалы арганізм.

Пішу гэтыя радкі й прысьвячаю іх сьветлай памяці сьціплага чалавека зь вялікай літары, добрага сьвятара-патрыёта, які нёс дапамогу абяздоленым людзям на выгнаньні.



Віталь Цярпіцкі
(Саўт Рывэр, ЗША)

## Жменька ўспамінаў пра а. Мікалая Лапіцкага

Заключная фаза Другой сусьветнай вайны й пагроза чарговай акупацыі Беларусі савецкай Расеяй змусілі тысячы беларусаў пакінуць бацькаўшчыну й шукаць ратунку ў краінах малаведамага Захаду. Не абмінуў гэты лёс і мяне, курсанта Беларускай Афіцэрскай Школы зь Менску.

У завірусе ваенных падзеяў давялося „зьведаць" шэраг эўрапейскіх краінаў, пабываць у францускіх партызанаў, у амэрыканскім палоне ў Францыі, працаваць на вайсковых могілках, каб, нарэшце, даплыўшы да берагоў Паўдзённай Італіі, стаць жаўнерам 2-га польскага корпусу генэрала Ўл. Андэрса, што ўваходзіў у 8-ю Брытыйскую армію.

Пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны, а дакладней у 1946 годзе я пераехаў у Англію, дзе праз нейкі час заставаўся ў вайсковай рэзэрве збройных сілаў Яе Вялікасьці Каралевы Елізаветы II.

Тут, у Ангельшчыне, неўзабаве паўстала адна зь першых беларускіх арганізацыяў – Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ), у склад якой увайшлі былыя беларусы-жаўнеры з 2-га корпусу генэрала Ўл. Андэрса, а таксама тыя, хто пазьней перабраўся сюды зь лягероў ДП у Нямеччыне.

Першапачаткова грамадзка-палітычнае жыцьцё беларускай эміграцыі ў Ангельшчыне разьвівалася памысна. Аднак прыезд беларусаў зь Нямеччыны зьмяніў сытуацыю на горшае, бо прынёс з сабою, запачаткаваныя яшчэ ў лягерох ДП, падзелы й закалоты. Усё гэта ў далейшым прывяло да змарнаваньня столькі энэргіі й часу на тое, каб спыніць чужацкую інтэрвэнцыю агентаў з усходу й захаду.

Ці не тады, у Англіі, я ўпершыню пачуў пра а. Мікалая Лапіцкага й яго рашучы пратэст супраць пераходу беларускага епіскапату зь мітрапалітам Панцялейманам на чале ў Расейскую Зарубежную Царкву. Наколькі ведаю, за гэты супраціў а. Мікалай на пэўны час быў забаронены ў правох да багаслужбаў, але па інтэрвэнцыі вернікаў забарону хутка зьнялі. На эміграцыі а. М. Лапіцкі не далучыўся да г. зв. крывіцкай „аўтакефаліі", слупна матывуючы сваё рашэньне тым, што пры такой аўтакефаліі беларусы ня будуць мець кананічнай царквы. Ён падкрэсьліваў, што нам, беларусам, у эміграцыі трэба захаваць чысьціню

праваслаўнай веры й падпарадкавацца пастановам Усебеларускага Царкоўнага Сабору, які адбыўся ў верасьні 1942 году ў Менску.

Жывучы ў Англіі, я меў сталы кантакт з былымі калегамі зь Беларускай Афіцэрскай Школы, а таксама з колішнімі сябрамі зь Нясьвіжскай настаўніцкай сэмінарыі. Найбольш іх было з Паўночнай Амэрыкі, дзе беларусы распачалі актыўную дзейнасьць у справе зарганізаваньня беларускіх праваслаўных парафіяў.

Ад свайго сябра Яўгена Кудасава з ЗША я даведаўся, што якраз вось гэты, легендарны а. Мікалай Лапіцкі зь сям'ёй асталяваўся ў Пассэйку, у штаце Нью Джэрзі й працуе з матушкай Валянцінай на фабрыцы. Яўген пісаў, што а. Мікалай плянуе ў мястэчку Саўт Рывэр зарганізаваць першую беларускую кананічную парафію ў юрысдыкцыі Сусьветнага Канстантынопальскага Патрыярхату, бо там пасялілася ладная колькасьць беларусаў-эмігрантаў. Гэта ў многім і вызначыла мой далейшы лёс ды падштурхнула да рашэньня выехаць у ЗША.

Напрыканцы лістапада 1951 году я з жонкай Жэняй прыехаў у Саўт Рывэр. Тут ужо існавала першая беларуская царква, якая мясьцілася ў невялічкай зальцы. Царква была ўпрыгожана іконамі й царкоўнымі рэчамі, якія а. М. Лапіцкі прывёз зь Нямеччыны. Вось тут упершыню я й пазнаёміўся з а. Мікалаем, пра якога шмат чуў і чытаў. Зь першай сустрэчы завязалася ў нас цёплая прыязьнь, а зь ёй і безьліч плянаў на будучыню. Мая жонка спаткала ў царкве шмат сваіх знаёмых зь лягеру Ватэнштэт у Нямеччыне, уключна зь яго былым камэндантам сп. Сьвятаслававам Каўшом. Царкоўны стараста Хведар Высоцкі, чалавек па характару дынамічны й напорысты, уцягнуў мяне ў арганізацыйны камітэт, які меў заняцца справамі пабудовы новай царквы й залі.

У верасьні 1952 году, дзякуючы ахвярнасьці парфіянаў, за 2100 даляраў удалося набыць пляц на ўзгорку Гілсайд Авэню. Пляц быў урачыста асьвечаны а. Мікалаем у асысьце ігумена Юльяна (Троцкага). На гэтым пляцы быў закладзены могільнік, фактычна першы беларускі могільнік на эміграцыі. Дарэчы, на могільніку пахаваныя а. протапр. М. Лапіцкі, праф. Р. Астроўскі, Я. Кіпель, І Касяк, А. Русак, Ю. Віцьбіч, Э. Ясюк, У. Брылеўскі й дзесяткі іншых беларускіх палітычных і культурных дзеячаў.

Улетку 1953 году надарылася аказія купіць вакантную сынагогу. Будынак быў вялікі й яго хутка дастасавалі да патрэбаў царквы. Урачыстае высьвячэньне адбылося 14 кастрычніка 1953 году ў дзень сьвята Пакровы Сьвятой Багародзіцы. Высьвячаў царкву архіепіскап Міхаіл, экзарх Сусьветнага Канстантынопальскага Патрыярхату на Паўночную й Паўдзённую Амэрыку.

На просьбу царкоўнага камітэту 5 чэрвеня 1954 году ў дзень Сьв. Еўфрасіньні Полацкай архіепіскап Міхаіл узьвёў а. Мікалая Лапіцкага ў сан протапрэсьвіцера БПЦ з правам нашэньня мітры. Тады якраз споўнілася 20 год яго сьвяшчэннаслужэньня.

Жыцьцё парафіі ў Саўт Рывэры разьвівалася памысна, але нам не хапала грамадзкага цэнтру. Нарэшце ў 1968 годзе надарылася магчымасьць набыць зямлю.

Прыпамінаецца адна з апошніх імпрэзаў у будынку старой царквы. У красавіку 1971 году ў гасьціны да мяне прыехала мама з маёй малодшай сястрой Тасяй. Жывуць яны ў горадзе Бяроза, недалёка ведамага лягеру „Бяроза Картузкая". Праз амаль трыццаць гадоў мы зноў сустрэліся, бо зь сям'ёй я разьвітаўся ў чэрвені 1944 году, перад ад'ездам у Беларускую Афіцэрскую Школу ў Менск. Тут, у Саўт Рывэры, адзначылі 80-годзьдзе маёй мамы. Між іншым, прысутнічаў у нас на абедзе і Іван Касяк, які, сеўшы каля мамы, пачаў плакаць. Мабыць мая мама была падобная да яго мамы. Перад ад'ездам мама й Тася наведалі нашу (старую) царкву, бо новая царква яшчэ не была закончана. Айцец Мікалай у канцы службы сказаў палкую пропаведзь, у якой пахваліў маму за тое, што ўзгадавала сына шчырым беларусам і добрым хрысьціянінам, які ўзначальвае Камітэт па пабудове Новае Беларускае Царквы й Грамадзка-Рэлігійнага Цэнтру.

З Божай дапамогай распачалі мы пабудову новай царквы й грамадзкага цэнтру, а 20 траўня 1972 году праўлялі іх урачыстае адкрыцьцё. У канцы літургіі з благаславенства архіепіскапа Якаваса, экзарха Канстантынопальскага Патрыярхату, епіскап Філатэос узлажыў на настаяцеля царквы а. протапр. Мікалая Лапіцкага крыж з аздобамі. Мне, як старшыні будаўнічага камітэту, была ўручана ікона Божай Мацеры. Нарэшце нашыя мары споўніліся.

Гэтую царкву й цэнтар лічу своеасаблівым помнікам Богу за тое, што ён захаваў нам жыцьцё падчас Другой сусьветнай вайны.

Прэстыж і павага да а. протапр. М. Лапіцкага яшчэ больш узрасталі. Нам зайздросьцілі былыя сьвятары зь Беларусі. Царкоўны камітэт разам а. Мікалаем не абмяжоўваўся толькі дзейнасьцю ў парафіі. Мы выдавалі часапіс „Царкоўны Сьветач", які заклікаў праваслаўных беларусаў на чужыне будаваць беларускія кананічныя парафіі пад юрысдыкцыяй Сусьветнага Канстантынопальскага Патрыярхату. За нашым прыкладам і пры актыўнай падтрымцы а. М. Лапіцкага паўсталі парафіі ў Таронта (Канада), у Чыкага, Нью Ёрку і ў Англіі.

Езьдзіў а. Мікалай і ў Ракфорд, недалёка Чыкага, дзе запачаткаваў беларускую парафію. Каля Ракфорду пасялілася шмат беларусаў-эмігрантаў, зь якімі а. Мікалай быў зьвязаны яшчэ з часоў лягероў ДП у Нямеччыне. Але, на вялікі жаль, не было настала сьвятара, каб парафію утрымаць. Гэта была адна з найбольш вострых праблемаў нашага царкоўнага жыцьця на эміграцыі. Трэба сказаць, што а. Мікалай атрымоўваў шмат лістоў з розных беларускіх асяродкаў і пераважна з просьбамі прыслаць нагвалт беларускага сьвятара, каб заснаваць парафію. Але дзе яго, сьвятара, можна было ўзяць?!

Часьцяком а. Мікалай з матушкай Валянцінай заяжджалі да мяне, каб абмеркаваць становішча існуючых беларускіх парафіяў. Вельмі актыўным і дапамаговым у гэтых справах быў г. зв. Іван Іванавіч. Так у асяродзьдзі саўтрывэрацаў называлі Івана Касяка, выбітнага беларускага грамадзка-культурнага й царкоўнага дзеяча.

Трэба адцеміць, што й а. М. Лапіцкі, і І. Касяк добра разумелі патрэбу аб'яднаньня усіх беларускіх праваслаўных парафіяў на эміграцыі пад юрысдыкцыяй Сусьветнага Канстантынопальскага Патрыярхату. Я перакананы, што яны змаглі-б дапамагчы архіепіскапу Васілю й сьвятарам БАПЦ стаць на кананічны шлях царкоўнага жыцьця ў эміграцыі. Тым больш, пэўныя захады ў гэтым кірунку рабіліся. Аднак гіерархія БАПЦ, відаць, ставіла й свае вымогі, што не дазволіла ажыцьцявіць ідэю царкоўна-кананічнай еднасьці беларускай эміграцыі ў вольным сьвеце.

Колькі жыву, не забуду таго трагічнага дня ў Беларускім Рэлігійна-Адпачынкавым Цэнтры „Бэлэр-Менск", штат Нью Ёрк. 8 ліпеня 1976 году, на храмавае сьвята ў дзень Смаленскае Божае Маці ў капліцы Цэнтру, запоўненай людзьмі, а. Мікалай адслужыў літургію. Добра сьпяваў хор, нягледзячы на тое, што харысты былі з розных парафіяў. Падчас літургіі а. Мікалай падаўся мне крыху бледным і трохі пакашліваў. Пасьля літургіі быў зладжаны супольны банкет. Напрыканцы да прысутных прамовіў а. Мікалай. Пасьля сеў на крэсла і тут-жа асунуўся на падлогу. Адразу пачуўся моцны голас дачкі сьвятара Лёлі: „Цярпіцкі, хутчэй...". Я пачаў рабіць „штучнае дыханьне"... Потым прыехаў амбулянс і а. Мікалая адвезьлі ў шпіталь, аднак уратаваць сьвятара не ўдалося.

Глянуўшы зь пэрспэктывы часу на жыцьцё й дзейнасьць а. Мікалая Лапіцкага, гэтага Божага Пастыра, трэба зазначыць, што было яно да апошніх хвілін прысьвечана Ўсявышняму, беларускаму праваслаўю й роднаму беларускаму народу.



Алег Махнюк
(Саўт Рывэр, ЗША)

**Ад Ватэнштэту да Саўт Рывэру**

У першыя паваенныя месяцы тысячы бежанцаў з Усходняй Эўропы, як тыя мурашы з разбуранага муравейніку, шукалі ў Нямеччыне сваіх родных, сваякоў ці проста знаёмых. У гэтай мітусьні большасьць зь іх пачала групавацца паводле нацыянальнай прыналежнасьці й часова асталёўвацца ў лягерох, якія ў тым часе зарганізавалі ангельскія й амэрыканскія акупацыйныя ўлады. У адзін з такіх лягероў, Ватэнштэт, што знаходзіўся ў ангельскай акупацыйнай зоне, з трыма даўнімі сябрамі трапіў і я. Гэта была вялікая радасьць – пачуць родную мову й сустрэць у чужыне сваіх землякоў. Людзей featureнага веку, з рознымі прафэсыямі, адукацыямі, сямейных зь дзецьмі featureнага ўзросту, дзяўчат

й сустрэць у чужыне сваіх землякоў. Людзей螺рознага веку, з рознымі прафэсыямі, адукацыямі, сямейных зь дзецьмі рознага ўзросту, дзяўчат і юнакоў яднала дарагое кожнаму слова – Беларусь.

Неўзабаве ў Ватэнштэце пачалося актыўнае грамадзка-нацыянальнае й рэлігійнае жыцьцё. У лягеры зарганізавалі друкарню. Друкарскай машынай быў ратататар, на якім сябра Міхась Сенька цярпліва й акуратна выконваў усе патрэбныя заказы: друкаваў месячны часапіс, абвесткі, сьвяточныя паштоўкі, бюлетэні й г. д. На матрыцах ён заўсёды пакідаў месца й для мяне, каб упрыгожыў вокладкі малюнкамі, віньеткамі ды ўсім тым, што згадвала-б пра Беларусь. Бадай адразу адкрылася пачатковая школа, а за ёй неўзабаве й гімназія. Зарганізаваліся спартовая й тэатральная групы, а таксама скаўтынг для хлапцоў і дзяўчат.

У хуткім часе адкрылася праваслаўная царква. Як памятаю, багаслужбы адпраўлялі ў ёй тры сьвятары, улучна з а. Аўгенам Сурвілам, таленавітым чалавекам і аўтарытэтным духоўнікам. У царкве хапала дасведчаных пеўчых, але а. А. Сурвіла заангажаваў да царкоўнага хору яшчэ й багата моладзі. Ладзіў ён царкоўныя сьпеўкі, вучыў беларускіх калядак і ў выніку зарганізаваў добрую групу сьпевакоў. Гэтая група ў калядныя сьвяты адведвала шпіталі й дамы-прытулкі, дзе часьцяком можна было пачуць беларускую, украінскую ці расейскую мовы. Такія сустрэчы давалі людзям магчымасьць адчуць сьвяточны настрой і на чужыне шанаваць рэлігійныя традыцыі.

Вось-жа, ад а. А. Сурвілы я пачуў, што ў амэрыканскай зоне Нямеччыны знаходзіцца а. Мікалай Лапіцкі, яго сябра з часоў вучобы на багаслоўскім факультэце Варшаўскага ўнівэрсытэту.

У беларускім лягеры Ватэнштэт жыцьцё было сьціплае, але наскрозь прасякнутае адукацыйным запалам. Кожны, хто хацеў, меў магчымасьць выбраць сабе дарогу ў будучыню. Вельмі трапна пра Ватэнштэт сказаў у паэтычных радках паэт Хведар Ільляшэвіч, якога ўсе ў лягеры з любасьцю называлі „дзядзькам Федзем":

Драўляныя баракі,
Фабрычных трубаў рад.
Заплача тут усякі,
Тут кожны табе брат.

Праходзяць дні выгнаньня,
Трывогаў і надзей,
Ўспамінаў і каханьня,
І месячных начэй.

Куды-б нас лёс ні кінуў
Ў чужы, далёкі сьвет
Мы ўспомнім пра чужыну,
Пра лягер Ватэнштэт.

У сьнежні 1950 году лёс кінуў мяне ў ЗША. Меўся я затрымацца ў Брукліне, але сябра Міхась Сенька з дружбакамі проста з параходу забраў мяне ў Саўт Рывэр. Прывезьлі сюды й мой халасьцяцкі багаж: скрынку з рататарам, частку скаўцкага архіву ды скаўцкі капялюш. Закватараваў я ў Міхася на 24 Гэрман Стрыт. А наперадзе зноў чакала дарога.

25 ліпеня 1952 году, яшчэ не зусім заакліматызаванага ў новай краіне, мяне на два гады паклікалі ў амэрыканскае войска. Пасьля колькі тыдняў падрыхтоўкі паслалі на Далёкі Ўсход – у Карэю. Пра жыцьцё-быцьцё ў Саўт Рывэры інфармаваў мяне сябра Міхась. Зь яго лістоў я даведаўся, што парафія купіла адпаведны для царквы будынак. Каб не страціць парафіяльнага сяброўства, я рэгулярна перасылаў грашо-выя складкі. Урэшце, 27 травеня 1954 году, у званьні капрала дачакаўся ганаровага звальненьня з войска. Вярнуўся ў Саўт Рывэр да сябра Міхася.

За маю адсутнасьць у кватэры няшмат зьмянілася. Кінулася ў вочы адно: у свабодных кутках папкі-стосы з пратаколамі, перапіскай, хронікай ды іншымі дакумантамі зрабіліся вышэйшымі. Зрэшты, нічога дзіўнага ў гэтым не было, бо на кожным сходзе на сакратара выбіралі Міхася Сеньку. Таму нават і кватэра, дзе мы жылі, мела назоў – „Галоўная Кватэра".

У 1952 годзе, пры актыўных захадах а. Мікалая Лапіцкага, была куплена зямля пад могілкі пры Гілсайд Авэню. У наступным годзе там прыйшлося шмат папрацаваць, каб выраўняць паверхню купленай зямлі й пасадзіць дэкаратыўныя кусты й дрэвы. Першую браму на могілках я зрабіў з дрэва. З часам паўстала там мураваная агароджа з металёвай брамай. На шчасьце, у першыя гады на могілках панаваў спакой. Ніхто не паміраў – ня было часу. Людзі працавалі, куплялі дамы, аўтамабілі, ладзілі навасельлі, жаніліся, хрысьцілі дзяцей ды спраўлялі розныя сьвяты...

Пасьля стольկіх клопатаў і праблем, зьвязаных са стабілізацыяй парафіяльнага жыцьця, і для нашага настаяцеля а. Мікалая Лапіцкага прыйшоў час на радасныя падзеі. Ён пераехаў у свой дом у Саўт Рывэры. Дачка Алена й сын Жорж здабылі вышэйшую адукацыю. А потым дайшла чарга й да вясельляў – спачатку Алены, а потым і Жоржа. У гэтых імпрэзах браў удзел і я з жонкай Людмілай. На адным з гэтых вясельляў быў нават сватам. Да матушкі Валянціны з Польшчы прыяжджаў у госьці яе брат, і мы за сталом адсьвяткавалі гэтую радасную падзею.

Жыцьцё ў парафіі тым часам набірала дынамікі, на якую істотна паўплывала справа новай царквы й выбары Будаўнічага Камітэту. На адным з паседжаньняў яго сябры пастанавілі пабудаваць царкву й залю, укласьці дабраахвотна ў гэтую справу па 1.000 даляраў і працаваць на будове задарма. Гэтую пастанову перадалі а. Мікалаю, які на адной з багаслужбаў пазнаёміў зь ёй парафіянаў і на заканчэньне сказаў: „Пабачыўшы прозвішчы людзей у самай сіле свайго веку, якія бяруцца за работу, далучаюся да іх і я: укладаю на гэтую справу 1.000 даляраў".

Я са свайго боку таксама задэкляраваў такую-ж суму грошай. Адначасна сказаў, што бескаштоўна зраблю іканастас і купал з матар'ялу, які закупіць парафія.

Неўзабаве пачалі падаваць праекты царквы. З прапанаваных выбралі мой праект і на яго падставе архітэктар зрабіў канчатковы рабочы плян. Дазвол на будаўніцтва далі й гарадзкія ўлады. На чарговым паседжаньні Будаўнічага Камітэту адбыўся падзел функцыяў і ўсе яго сябры дружна ўзяліся за працу, а я пачаў працаваць над праектам іканастасу.

Трэба прызнаць, што не ўсё адбывалася ў аднадумстве. Былі сярод парафіян і такія, хто гаварыў, што „хутчэй у царкоўнага старасты (Хведара Высоцкага) на лысіне вырастуць валасы, чым вы збудуеце царкву". Іншыя зь іроніяй заўважалі, што пачынаць будову царквы трэба „з фундаманту, а ня з купалу...". Такія размовы не спрыялі будаўніцтву. Больш таго, яны стрымлівалі асобных парафіянаў ахвяроўваць на царкву вызначаную суму грошай. Але й тут дапамагалі аўтарытэт і важкае слова настаяцеля нашай парафіі.

Тымчасам прыйшла пара й на фундаманты. Памятаю, як падчас высьвячэньня вуглавога каменя а. Мікалай пераскокваў праз выкапаныя равы як малады. Выглядаў ён пры гэтым упэўненым і задаволеным. З а. Мікалаем я найчасьцей сустракаўся ў часе працы над іканастасам. Прасіў у яго парады й абмяркоўваў дэталі праекту, каб зрабіць усё шыкоўна й дакладна. Ён часта прыходзіў, каб праверыць і проста паглядзець, як рухаецца справа зь іканастасам. Заўсёды знаходзіў добрыя словы падзякі за маю працу. Аднойчы ён прызнаўся, што думкі пра будову царквы не даюць яму спакою і ўначы.

Неяк неўпрыкмет прыйшоў час і на маё жанімства. Спрычыніліся да гэтага абставіны й беларуская дзяўчына Людміла Каліноўская. Была яна сяброўкай дачкі а. Мікалая, вучылася з Аленай разам у школе ў Пасэйку (Нью Джэрзі). Неяк да нас дайшла вестка, што прыяжджае мама Людмілы, каб адведаць дачку й паглядзець, што тут робіцца. Мы зь сябрам Міхасём занепакоіліся: як і чым яе прыняць-пачаставаць. Вырашылі засмажыць качку ў садавіне. Мама Ліда хутка зразумела прычыну гэткай нашай гасьціннасьці й таму адчувала сябе свабодна й жартаўліва. Думаю, што наш пачастунак зрабіў на яе добрае ўражаньне. У хуткім часе я зь Людай паехаў да мамы Ліды, каб пазнаёміцца зь яе сям'ёй і атрымаць благаславеньне на шлюб. Калі вярнуліся ў Саўт Рывэр, то найперш сустрэліся з настаяцелем нашай парафіі. Айцец Мікалай яшчэ зь Беларусі добра ведаў бацьку Людмілы, іерэя Антона Каліноўскага, памятаў таксама пра яго пакутніцкую сьмерць. На сустрэчы вызначылі дату нашага вясельля, якое адбылося 24 кастрычніка 1954 году.

Наша знаёмства з а. Мікалаем разьвівалася й набірала моцы. Ён нас вянчаў, хрысьціў нашых дачок Нонну й Алісу, хаваў нашага хлопчыка-немаўля Антона й маму Ліду. Не без уплыву а. Мікалая я пастанавіў

прыняць духоўны сан і рукапалажыцца ў дыяканы. Памятаю, як ён казаў, што на выбраным мною шляху разам з добрым будзе й шмат прыкрага.

З прыемнасьцю ўспамінаю як аднаго разу разам з а. Мікалаем завітаў да нас епіскап Апанас. Мы зь Людмілай пазнаёміліся зь ім яшчэ ў Нямеччыне, і таму гэтая сустрэча была цёплай і прыемнай. Епіскап Апанас пахваліў мой голас і сказаў, што я маю „аксамітны" барытон. Дарэчы, на пляне сулеі засталіся заўвагі, напісаныя яго рукою.

Наша парафія й беларуская праваслаўная парафія ў Рычманд Гіл (Нью Ёрк) мелі ад пэўнага часу ў мясцовасьці Глен Спэй, што ў Кэтскільскіх гарах, супольны Рэлігійна-Адпачынкавы Цэнтар „Бэлэр-Менск". Знайшлі адпаведны будынак, зь якога зрабілі капліцу. Паставілі там сьціплы іканастас і зьмясцілі іконы. Адну зь іх, Адыгітрыю Смаленскае Божае Маці, напісала Людміла. На маю долю выпала напісаць двух ангелаў на бакавых дзвярах ды ікону Іаана Хрысьціцеля. Багаслужбы ў цэнтры „Бэлэр-Менск" адбываліся толькі ўлетку. Звычайна сьвятары прыяжджалі на багаслужбы так, як каму адпавядаў час.

У мяне заўсёды была патрэба сустрэцца з а. Мікалаем, пра нешта запытаць ці проста параіцца. Аднаго разу я зайшоў да яго й заўважыў, што настаяцель прыводзіць у парадак кнігі й папкі. На адкрытым месцы ляжала Евангельле, якое ён мне часта пазычаў. Айцец Мікалай узяў у рукі Евангельле й сказаў: „Зьбіраюся. Вось гэта паложыш са мною". Зразумела, зь ягоных рук я ўзяў Евангельле, пацалаваў і палажыў там, дзе ляжала.

З тае сустрэчы-размовы прайшло два гады. На дзень сьвяткаваньня Смаленскае Божае Маці была зарганізавана паездка ў цэнтар „Бэлэр-Менск". Увечары, з удзелам а. протапр. М. Лапіцкага, а. архім. Язэпа (Строка) й дыякана А. Махнюка, была адслужана вячэрня. Прысутнічала шмат людзей. Пасьля багаслужбаў усе пачалі зьбірацца ў залю на вечарыну. Якраз днямі зь Беларусі прыехаў у гасьціны мой брат. З гэтай аказіі быў падрыхтаваны сьвяточны стол, за якім селі а. Мікалай з матушкай Валянцінай, я зь Людай, Алена Касоўская з мужам, мой брат і Эмануіл Ясюк. Быў прыемны й вясёлы вечар. Грала музыка, шмат хто танцаваў.

Наступнага дня, 8 жніўня 1976 году, а 10-й гадзіне пачалася літургія. Потым быў малебен да Прэсьвятой Божай Маці Адыгітрыі й крэсны ход. Пасьля багаслужбаў грамада пачала зьбірацца ў залю на абед. Перад благаслаўленьнем а. Мікалай устаў, каб прамовіць да прысутных. Праз некалькі хвілін яго прамова абарвалася на паўслове й а. Мікалай асунуўся на крэсла. Спадар Віталь Цярпіцкі прабаваў рабіць „штучнае дыханьне". Празь некаторы час прыехаў і амбуланс. Аднак уратаваць а. Мікалая не ўдалося. Сваімі недастойнымі рукамі я закрыў яму вочы. Тут-жа пры памерлым сядзелі матушка Валянціна й дачка Алена. Мы з а. архім. Язэпам па чарзе чыталі малітвы.

Перад тым, як перавезьці а. Мікалая ў царкву, а. архім. Язэп, ігумен Юльян і я ўсклалі на яго царкоўнае аблачэньне. На твары сьвятара ляжаў супакой і як-бы нейкае задавальненьне. Ён ведаў, што ідзе на сустрэчу з Богам падрыхтаваны й нібы казаў: „Хрысьціянскага скону жыцьця нашага, бязбольнага, бездакорнага, спакойнага й добрага апраўданьня на страшным судзе просім". Аблачоны ў любімую чырвоную рызу з залатым арнамэнтам, з падарожным Евангельлем ён стаў перад абліччам Бога.

Айцец Мікалай Лапіцкі праз усё сваё жыцьцё браў чынны ўдзел у беларускіх рэлігійных і грамадзкіх справах. І на Бацькаўшчыне, і ў Амэрыцы ён нястомна працаваў на карысьць Беларускай Праваслаўнай Царквы і яе аўтакефаліі.



Іван Касяк
(Чыкага, ЗША)

## Протапрэсьвіцер Мікалай Лапіцкі

Протапрэсьвіцер Мікалай Лапіцкі быў выдатным рэлігійным і нацыянальным дзеячом беларускага народу. Ён жыў і працаваў у складаных абставінах пад чужой уладай на Беларусі: польскай, савецка-бальшавіцкай, нямецкай і на эміграцыі, у Нямеччыне і ў ЗШПАмэрыкі. Пуцяводнымі зоркамі для яго былі служба Богу, Беларускай Праваслаўнай Царкве й беларускаму народу, што прыдавала ягонаму жыцьцю поўнавартасны зьмест і на многа перавышала вялікія жыцьцёвыя цяжкасьці, якія яму прыходзілася пастаянна перамагаць.

Жыцьцёвы шлях, пройдзены а. Мікалаем, гэта цярністая дарога працаўніка, барацьбіта, арганізатара й кіраўніка ў беларускім праваслаўным і нацыянальным жыцьці, які можа служыць добрым прыкладам для будучых пакаленьняў змагароў за рэлігійную й нацыянальную волю Беларусі.

Протапрэсьвіцер Лапіцкі нарадзіўся дня 13 сьнежня 1907 году ў вёсцы Грэлікі, Вялейскага павету, Віленскай акругі. Яго бацькі, Сьцяпан і Домна, былі заможнымі, рэлігійнымі сялянамі, якія далі сваім дзецям моцныя традыцыйныя погляды на жыцьцё.

Пасьля двух гадоў навукі ў пачатковай школе ў мястэчку Іжа й двух гадоў навукі ў расейскай гімназіі ў горадзе Вялейцы, ён паступіў у праваслаўную духоўную сэмінарыю ў Вільні, якую закончыў у 1930 годзе. Наступна ён паступіў на праваслаўны багаслоўскі факультэт Варшаўскага ўнівэрсытэту, які закончыў у 1934 годзе. Ужо на першым курсе ён

быў выбраны галасамі беларускіх і ўкраінскіх студэнтаў старшынёй Аб'яднаньня студэнтаў праваслаўнага багаслоўя гэтага ўнівэрсытэту, перамагаючы расейскага кандыдата.

У 1932 годзе ажаніўся з Валянцінай Трафімюк, паходзячай з Беласточчыны. Дня 7 ліпеня 1934 году быў рукапаложаны ў сан дыякана, а 29 ліпеня – у сан сьвятара. У наступным годзе ён абараніў магістэрскую працу на тэму: „Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы" і атрымаў навуковую ступень магістра багаслоўя.[...].

Малады сьвятар быў прызначаны на першы прыход у 1934 годзе ў паветавае места Ашмяну, каля Вільні. Тут ён адразу паказаў сябе моцным беларусам у царкве, у прыхадзкім жыцьці навонкі. Гэта рабіла моцнае ўражаньне на беларусаў. У ягоную царкву пачалі прыходзіць ня толькі праваслаўныя, але беларусы рыма-каталікі, на якіх рабілі моцнае нацыянальна-ўзгадаваўчае ўражаньне беларускія пропаведзі, беларуская мова й беларускі нацыянальны падыход да людзей і жыцьцёвых справаў.

Трэба прыпушчаць, што гэта выклікала моцнае незадаваленьне у мясцовых польскіх уладаў, бо вельмі хутка а. Мікалай быў пераведзены на іншы прыход у глухую вёску Сьцяфанпольле, Дзісьненскага павету. Тут ён таксама адразу здабыў вялікую пашану ад прыхаджанаў і духавенства, а як законавучыцель меў добры послух ад вучняў у школах. Польскія сьвецкія й расейскія духоўныя ўлады ўвесь час уважалі за патрэбнае трымаць у вясковай глушы беларускага сьвятара з вышэйшай багаслоўскай асьветай, хаця ў тыя часы такіх сьвятароў было вельмі мала.

Пасьля акупацыі Заходняй Беларусі савецкай Расеяй 17 верасьня 1939 году а. Мікалай заставаўся на сваім прыходзе. Калі ў чэрвені 1941 году пад напорам нямецкіх войскаў савецкія ўлады адступілі на ўсход, то былі знойдзеныя сьпіскі ахвяраў чароднай дэпартацыі насельніцтва ў канцлягеры Сібіру, у якіх фігураваў і а. Мікалай са сваёй сям'ёй.

На пачатку жніўня 1941 году, па просьбе сваіх прыхаджанаў, а. Мікалай паехаў разам зь імі абозам у Менск да цэнтральных уладаў, каб адшукаць прыхаджанаў-навабранцаў у савецкую армію, якія маглі быць у палоне ў немцаў. У Менску ён наведаў старшыню Менскай акругі, праф. Радаслава Астроўскага, ад якога атрымаў патрэбныя інфармацыі па шуканьні ваеннапалонных беларусаў. Астроўскі запрасіў а. Мікалая пераехаць у Менск для працы пры адбудове Беларускай Праваслаўнай Царквы, зьнішчанай поўнасьцю бязбожнай бальшавіцкай уладай.

У хуткім часе а. Мікалай прыехаў у Менск для працы на царкоўнай ніве. Старшыня Астроўскі прадставіў яго ў Генэральным Камісарыяце

Беларусі, дзе за подпісам Генэральнага Камісара Вільгельма Кубэ было выдадзена а. Мікалаю пасьведчаньне, упаўнаважваючае яго для дзейнасьці па адбудове Беларускай Праваслаўнай Царквы на Беларусі.

Па прыбыцьці ў Менск епіскапа Венэдыкта (Бабкоўскага) старшыня Астроўскі прадставіў яго й рэкамэндаваў мітрапаліта Панцялеймана Генэральнаму Камісару Беларусі як кіраўніка для Беларускай Праваслаўнай Царквы, што й было сьцьверджана адпаведным пісьмовым упаўнаважаньнем В. Кубэ. Айцец Мікалай быў прыдзелены для службы ў Кацярынінскай (жоўтай) царкве.

Для палагоджаньня патрэб Сьцяфанпольскага прыходу а. Мікалай паехаў туды самаходам. У гэтым часе па лясох Беларусі ўжо хадзілі збройныя савецкія партызаны, перакінутыя з Расеі на парашутах, якіх людзі зрэдку бачылі. На дарозе каля Вялейкі шофэр сьцьвердзіў, што дзераўлянага паліва ня хопіць для газа-гэнэратара да канца дарогі. Тады яны паехалі за „чуркамі" ў лес каля вёскі Мамаі й пачалі іх набіраць. Трох маладых савецкіх партызанаў акружылі іх з аўтаматамі й абшукалі. Ад а. Мікалая яны забралі ўпаўнаважаньне на нямецкай мове за подпісам Генэральнага Камісара Кубэ. Старшы партызан доўга аглядаў гэту паперу, але, прыпушчальна, ня мог яе прачытаць і забраў з сабой. Затрыманых партызаны выпусьцілі, сказаўшы, каб нікому не гаварылі аб гэтым здарэньні, бо іх людзі ёсьць усюды й іх усюды знойдуць.

Прыехаўшы на прыход у Сьцяфанпольле а. Мікалай на другі дзень паехаў у горад Дзісну, каб даведацца аб стане арганізаванага мясцовага беларускага жыцьця. Прыхаджане паведамілі яго, што мясцовыя палякі ўсюды забралі ў свае рукі адміністрацыю й паліцыю пад нямецкім кіраўніцтвам ды мардавалі беларусаў актывістых. Айцец Мікалай зайшоў да Лупчонка, ведамага яму беларуса, каманданта мясцовай паліцыі. Прывітаўшыся гэты камандант адразу сказаў, што мае загад арыштаваць а. Мікалая й даставіць яго ў нямецкую жандармэрыю, як абвінавачанага ў супрацоўніцтве з бальшавікамі. Шчасьцем для арыштаванага было, што камандант даў канваіраў беларускіх паліцэйскіх. Калі яны вялі арыштаванага берагам ракі Дзісны, то там ужо ляжаў застрэлены польскімі паліцэйскімі ведамы беларускі дзеяч Кузьма Крук, нібы таму, што ён уцякаў ад паліцэйскіх.

Зь Дзісны а. Мікалая перавезьлі ў горад Глыбокае й перадалі ў СД (нямецкая палітычная паліцыя). Паведамленая матушка Валянціна ўвесь час ехала возам за арыштаваным сьвятаром, каб дапамагаць яму ў патрэбе, а перад усім запабегчы забойству.

СД правяло сьледства, дапытываючы а. Мікалая, пасылала сваіх службоўцаў у вёску Грэлікі, дзе жылі бацька й родныя арыштаванага, сьцьвердзіла беспадстаўнасьць абвінавачаньня й пасьля чатырох тыдняў увязьненьня выпусьціла а. Мікалая на волю.



5



6

[5] Перад іканастасам у Рэгэнсбурскай царкве.

[6] Вернікі новазбудаванай беларускай царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай пасьля багаслужэньня (Рэгэнсбург, 1946).

PFARRER
RECHTGLÄUBIGEN KIRCHE

НАСТАЯЦЕЛЬ
ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

Дня 8/IV 1947 г.
№ 15

An die
Militärregierung
in Regensburg.

Gesuch.

Betr.: Veröffentlichung der religiösen Zeitschrift „Es klingen die Glocken der Heiligen Sophie" im Vervielfältigungssystem.

Hiermit bitte ich höflichst um die Genehmigung, die Osternummer der religiösen Zeitschrift „Es klingen die Glocken der Heiligen Sophie" (Nr. 8), wie oben angegeben, herausbringen zu dürfen.



7

---

[7] Ліст-заява а. М. Лапіцкага да вайсковых уладаў з просьбай даць дазвол на выданьне 8-га нумара часапісу „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі" (Рэгенсбург, 8 красавіка 1947 г.).



8



9

[8] Айцец М. Лапіцкі пасьля багаслужэньня ў гутарцы з амэрыканскімі вайскоўцамі ў лягеры ДП (Рэгэнсбург, 1946 г.).

[9] Новазбудаваная беларуская царква Сьв. Еўфрасіньні ў Рэгэнсбургу (Нямеччына, 1946 г.). Стаяць (ад правага боку): Ю. Дашкевіч, а. М. Лапіцкі, Д. Заруцкі, Т. Шыбут, М. Ігнатовіч і інш.



10



11



12

[10] У часе паховінаў Колі Лецяга зь беларускага лягеру ДП у Рэгэнсбургу (Нямеччына, 23 ліпеня 1946 г.).

[11–12] Перад выездам у ЗША.

## Парафія ў Саўт Рывэры (1950–1976)

TELEPHONE: TRAFALGAR 9-2060 / 2061 CABLE: ARCHGREEK, NEW YORK



GREEK ARCHDIOCESE OF NORTH AND SOUTH AMERICA
ΕΛΛΗΝΙΚΗ ΑΡΧΙΕΠΙΣΚΟΠΗ ΑΜΕΡΙΚΗΣ ΒΟΡΕΙΟΥ ΚΑΙ ΝΟΤΙΟΥ
10 EAST 79TH STREET
NEW YORK 21, N. Y. December 29, 1950

Byelorussian Greek Orthodox Community
South River, N.J.

Reverend Father and
Mr. President !

In answer to your letters of October 29, 1950 and November 12, 1950, I have much pleasure in informing you that the Greek Archdiocese of North & South America accepts under its jurisdiction your community, your new Church and your priest Nicholas Lapitzky.

I wish you with the whole of my heart every success in your community affairs. I invoke upon all of you, the Priest of the Church, the Board of Trustees and all the members of your Byelorussian Greek Orthodox Community, all the blessings of the Almighty God.

May our Lord Jesus Christ bestow upon all of you the spirit of Christian love and mutual understanding to the benefit of your Community and the glory of the Greek Orthodox Church in this great and blessed country.

Yours very sincerely
in our Lord Jesus Christ,

+Archbishop Michael

Archbishop Michael

Ml/ae

[1]

---

[1] Ліст арх. Міхаіла, экзарха Канстантынопальскага Патрыярхату на Амэрыку ад 29 сьнежня 1950 г. з паведамленьнем аб прыняцьці беларускай парафіі ў Саўт Рывэры ў юрысдыкцыю Канстантынопаля.



2



3

[2] Першая царкоўная ўправа новазарганізаванага беларускага прыходу Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры. Сядзяць (ад правага боку): У. Брылеўскі, а. М. Лапіцкі, Хв. Высоцкі; стаяць (ад правага боку): В. Літаровіч, М. Сенька, дыякан С. Коўш, Р. Завістовіч (Нью Джэрзі, 1950 г.).

[3] Прэзыдэнт БЦР Р. Астроўскі з а. М. Лапіцкім на аўдыенцыі ў арх. Міхаіла, экзарха Канстантынопальскага Патрыярхату на Амэрыку (Нью Ёрк, 26 лістапада 1957 г.).



4



5

[4] Урачыстасьць высьвячэньня беларускай праваслаўнай царквы Сьв. Еўфрасіньні на Уайтгэд авеню ў Саўт Рывэры (Нью Джэрзі, 1950 г.). На прыступках царквы арх. Міхаіл з настаяцелем а. М. Лапіцкім і беларускімі вернікамі.

[5] Урачыстасьць высьвячэньня зямельнага ўчастку пад беларускія могілкі ў Саўт Рывэры (Нью Джэрзі, 1951 г.).

TELEPHONE:
TRAFALGAR 9-2060, 2061



CABLE ADDRESS:
ARCHGREEK, NEW YORK

GREEK ARCHDIOCESE OF NORTH AND SOUTH AMERICA
ΕΛΛΗΝΙΚΗ ΑΡΧΙΕΠΙΣΚΟΠΗ ΑΜΕΡΙΚΗΣ ΒΟΡΕΙΟΥ ΚΑΙ ΝΟΤΙΟΥ
10 EAST 79TH STREET
NEW YORK 21, N. Y.

December 28,1954

Very Rev. Nikolai Lapitski
Passaic,N.J.

Dear Father Lapitski

I thank you very much for your kindness in sending me your wishes. I should like to reciprocate from the bottom of my heart and to wish you a blessed Christmas and a New Year full of prosperity, both material and spiritual.

Yours sincerely
in Jesus Christ our Lord
Archbishop Michael
Archbishop Michael

AM:zs

6

[6] Ліст арх. Міхаіла да а. М. Лапіцкага ад 28 сьнежня 1954 г.



7



8

[7] Шлюб беларусаў – Зоры Савёнак зь Вітаўтам Кіпелем (Пассэйк, 1956 г.).
[8] Айцец М. Лапіцкі з дачкой Лёляй (Аленай) у час яе шлюбу (Саўт Рывэр, 1960 г.).

EDWARD J. PATTEN
19TH DISTRICT, NEW JERSEY

COMMITTEE:
APPROPRIATIONS

SUBCOMMITTEE:
MILITARY CONSTRUCTION

**Congress of the United States**
**House of Representatives**
**Washington, D.C. 20515**

WASHINGTON OFFICE:
1725 LONGWORTH HOUSE OFFICE BUILDING
225-6301

OLGA JAMISON BROWN
EXECUTIVE SECRETARY

STEPHEN G. CALLAS
LEGISLATIVE ASSISTANT

PERTH AMBOY OFFICE:
ROOM 513, NATIONAL BANK BUILDING
VALLEY 6-4610

NEW BRUNSWICK OFFICE:
ROOM 201, U.S. POST OFFICE BUILDING

Feb. 9, 1967

Rt. Rev. Protopresbyter
Nikolaj Lapitzki
White Ruthenian Greek-Orth. Church
137 Whitehead Ave.
South River, New Jersey

Dear Reverend:

I am happy to inform you that the Chaplain of the House of Representatives, Rev. Edward Gardiner Latch, has authorized you to deliver the House prayer on Wednesday, March 15, 1967.

Will you please visit my office at 11:15 a.m., which is located at 1725 Longworth House Office Building? If you can be here at that time, I would appreciate it, because I would like to speak with you. Shortly thereafter, we plan to visit the office of the House Speaker for a photograph including you, the Speaker, the House Chaplain, and I. The prayer is usually delivered at 12 noon, but Rev. Latch would like to confer with you about 11:45 a.m. regarding details.

I was informed today that the House may be in Easter recess on March 24, 25, 26, 27 and March 28th, therefore the prayer cannot be delivered by you during that period.

Needless to say, I am thrilled that you will deliver the prayer. The prayer sent to me by Secretary Michael Sienko is beautiful and touching and will make a fine impression.

Kind personal regards.

Cordially yours,

Edward J. Patten

Edward J. Patten

cc: Mr. Michael Sienko, Secretary,
White Ruthenian Congress Comm. of America

P.S. Rev. Latch has directed that the prayer not exceed 125 words.

9

---

[9] Ліст амэрыканскіх уладаў ад 9 лютага 1967 г. да а. М. Лапіцкага ў справе прачытаньня ім малітвы ў Кангрэсе ЗША на сакавіковыя ўгодкі.

**U. S. House of Representatives**

WASHINGTON, D. C.

*This certificate is in recognition of the fact that on*
March 15, *1967* *the prayer at the opening of*
*the session of the House of Representatives was offered by:*
The Right Reverend Nikolaj Lapitzki

*Attest:* — *Speaker.*

*Attest:* — *Clerk of the House.*

*Attest:* — *Chaplain.*

[10]

---

[10] Запрашэньне на імя а. М. Лапіцкага ў справе прачытаньня ім малітвы ў Кангрэсе ЗША 15 сакавіка 1967 г.

Высокапаважаны а. Мікалай!
Дазвольце прынесьці Вам ад уся-
го нашага сэрца шчырую падзяку
за малітвы, узьнесеныя да Госпа-
да Бога нашага аб упакаеньні
душы дарагога нам мужа, бацькі
й дзеда й за Вашыя ўзру-
шальныя прамовы, прысьве-
чаныя яго сьветлай памяці.

З пашанай

8.14-1969. М. Кіпель з сям'ёй

11

[11] Ліст сп. М. Кіпель з падзякаю а. М. Лапіцкаму за паніхідную службу па яе мужу, сьв. пам. Я. Кіпелю.

21.12.69г.,

Саўт Рывер.

Глыбокапаважаны Айцец Мікалай!

Дасылаю адначасна ў "Царкоўны Сьветач", паводля Вашае ветлівае прапановы, просьбы Марыі Васільеўны, а таксама свайго шчырага жаданьня, нэкралёг "У кіпеньні, у гарэньні, у змаганьні", прысьвечаны сьвятое памяці Яўхіма Яўсеявіча Кіпеля. У параўнаньні з маім жа надрукаваным у "Новом Русском Слове" ад 6.8.69г., ён ня толькі перакладзены, але пашыраны й сям-там удакладнены.

Цешуся з магчымасьці адзначыць такім чынам памяць сьв.пам. Яўхіма Кіпеля, да якога ставіўся заўсёды зь вялікай пашанай.

Шчыра зычу Вам усяго найлепшага

Прашу, калі ласка, паведаміць па тэлефону аб атрыманьні

З пашанай да Вас

Ваш Юрка Віцьбіч.

12

[12] Ліст Ю. Віцьбіча да а. М. Лапіцкага ад 21 сьнежня 1969 г. у справе публікацыі нэкралёгу, прысьвечанага сьв. пам. Я. Кіпеля.



13



14



15

[13] Айцец М. Лапіцкі з матушкай Валянцінай у таварыстве а. архім. Я. Строка, дыякана А. Махнюка з матушкай Людмілай (Саўт Рывэр, 60-я гады XX ст.).

[14] Настаяцель а. М. Лапіцкі ў часе багаслужбы (Саўт Рывэр, 60-я гады XX ст.).

[15] Матушка Валянціна ў беларускім нацыянальным строі (Саўт Рывэр, 70-я гады XX ст.).




GREEK ORTHODOX ARCHDIOCESE OF NORTH AND SOUTH AMERICA
ΕΛΛΗΝΙΚΗ ΟΡΘΟΔΟΞΟΣ ΑΡΧΙΕΠΙΣΚΟΠΗ ΒΟΡΕΙΟΥ Κ. ΝΟΤΙΟΥ ΑΜΕΡΙΚΗΣ

CERTIFICATE OF ELEVATION

Desiring to bestow ecclesiastical honors and recognition upon our beloved spiritual son, the Reverend Father Nikolaj Lapitski, a Byelorussian Priest of the Greek Orthodox Archdiocese of North and South America, of good and moral character, deporting himself in the realm of holiness, responsibly discharging his sacerdotal duties with diligence and missionary zeal, we issue this Archieratical Certificate of Elevation to officially state and confirm that upon our own directive, our Auxiliary Bishop, the Right Reverend PHILOTHEOS, Titular Bishop of Meloa, elevated the Reverend Father Nikolaj Lapitski to the office of PROTOPRESBYTER during the Divine Hierarchial Liturgy celebrated at the holy Church of Saint Euprosynia in South River, New Jersey, on Sunday, July 30, 1972.

We, therefore, state that the REVEREND FATHER NIKOLAJ LAPITSKI shall now and hereafter forever be known, acknowledged, and recognized as holding the priestly office of PROTOPRESBYTER OF THE GREEK ORTHODOX ARCHDIOCESE OF NORTH AND SOUTH AMERICA, and that he has the authority to vest himself with the sacerdotal appointments prescribed to this office by the rubrics of the Church and with the consent of his Bishop.

This document is signed, sealed, and issued on Sunday, the thirtieth day of the month of July, in the year of our blessed Lord one thousand, nine hundred and seventy-two.

† Archbishop Iakovos

I A K O V O S
Archbishop of the Greek Orthodox Church
in North and South America

AI/mg

10 EAST 79th STREET NEW YORK N.Y. 10021 • TEL (212) 628-2500 • CABLE ARCHGREEK NEW YORK

16

[16] Ліст-распараджэньне арх. Якаваса, экзарха Канстантынопальскага Патрыярха ў Амэрыцы ад 30 ліпеня 1972 г. у справе намінацыі а. М. Лапіцкага на протапрасьвіцера.



17



18

[17] Асьвячэньне епіскапам Філатэосам новазбудаванай беларускай праваслаўнай царквы Сьв. Еўфрасіньні ў Саўт Рывэры (Нью Джэрзі, 1972 г.).

[18] Айцец М. Лапіцкі на паседжаньні царкоўнай управы ў Саўт Рывэры (другая палова 60-х гадоў XX ст.).



19



20

[19] Беларускі парафіяльны хор у Саўт Рывэры (60-я гады XX ст.).
[20] Беларускі сьвецкі хор у Саўт Рывэры (70-я гады XX ст.).



21



22

[21] Айцец М. Лапіцкі на спатканьні з кангрэсмэнамі пасьля прачытаньня малітвы ў Кангрэсе ЗША (Вашынгтон, сакавік 1971 г.).

[22] Візыта беларускай дэлегацыі ў губэрнатара штату Нью Джэрзі Брэндана Т. Бырнэ падчас сьвяткаваньня Беларускага Дня Незалежнасьці. Сядзяць (ад правага боку): а. М. Лапіцкі, губэрнатар Б. Бырнэ, матушка Валянціна; стаяць (ад правага боку): працаўнік адміністрацыі Дж. Фраўд, В. Мяжэвіч, Н. Яцэвіч, Г. Арцюшэнка, Ж. Занковіч, М. Вайцяхоўскі, Ж. Арцюшэнка (Нью Джэрзі, 25 сакавіка 1973 г.).



23

[23] Айцец М. Лапіцкі ў сьвяточным аблачэньні протапрэсьвіцера беларускай праваслаўнай царквы ў ЗША (Саўт Рывэр, 1975 г.).



24



25



26

[24] Айцец М. Лапіцкі зь сябрамі Царкоўнай Рады й Будаўнічага Камітэту пры новазбудаванай беларускай праваслаўнай царкве Сьв. Еўфрасіньні ў Саўт Рывэры. Стаяць (ад права): А. Банкет – старшыня Царкоўнай Рады, Б. Плескачэўскі, Б. Шчорс, І. Цупрык, М. Сіцько, а. М. Лапіцкі, д. Л. Махнюк, В. Цярпіцкі – старшыня Будаўнічага Камітэту, М. Манцівода, Л. Літаровіч, М. Касьцюк; у другім радзе: А. Кудасаў, Л. Высоцкі, С. Наўмчык, А. Занковіч, А. Гурын, Н. Мядзейка, У. Валатковіч; у трэцім радзе: М. Сенька, С. Касьцюк, М. Палюховіч, Ю. Наўмчык, Г. Арцюшэнка, М. Бахар (Нью Джэрзі, 1975 г.).

[25] Беларускае парафіяльнае сястрыцтва ў Саўт Рывэры. Стаяць у першым радзе (зьлева на права): Н. Занковіч, Н. Кудасава, а. М. Лапіцкі, Л. Махнюк (старшыня), Л. Літаровіч; у другім радзе: К. Гайшун, С. Арцюшэнка, Т. Гэтман, М. Гурын (Нью Джэрзі, 70-я гады XX ст.).

[26] Айцец М. Лапіцкі пры галоўным фасадзе беларускай праваслаўнай царквы Сьв. Еўфрасіньні ў Саўт Рывэры (Нью Джэрзі, 70-я гады XX ст.).



27

[27] Візыта ў прэзыдэнта БЦР Р. Астроўскага ў Бэнтон Гарбор (Мічыган, 5 ліпеня 1976 г.). Стаяць (ад правага боку): а. М. Лапіцкі, В. Цярпіцкі, Р. Астроўскі, І. Касяк, Н. Мядзейка.

## У сямейным коле (1950–1976): пралог – не эпілог



1



2

[1] З унукам-першынцом Нікам Касоўскім (Саўт Рывэр, 60-я гады XX ст.).

[2] Магіла а. М. Лапіцкага й матушкі Валянціны на беларускіх могілках у Саўт Рывэры (Нью Джэрзі, 2005 г.).



3



4

[3] Лёля й Лявон Касоўскія з сынамі Алексам і Нікам (Нью Джэрзі, 2001 г.).
[4] Жорж Лапіцкі з сынамі Стывэнам, Нікам і нявесткай Ларысай (Нью Джэрзі, 2001 г.).

**А.**

[Арыгінал]

## Ліста прысутных на Нарадзе Праваслаўнае Беларускае Гіерархіі, Духавенства й Вернікаў у Рэгэнсбургу 5 траўня 1946 году

| Прозьвішча, Імя | Скуль (Адрас) | Подпісы |
|---|---|---|
| 1. Валюшка Анатоль | Weiden (Opt.), літоўскі лагер | –"– |
| 2. Валюшка Антон | Weiden (Opt.), polski łagier | –"– |
| 3. Сільвановіч Мікола | Hallen (Würt.), polski łagier | –"– |
| 4. Ігнатовіч Міхаіл | Regensburg | –"– |
| 5. Стаднікава Лідзія | Меллінген | –"– |
| 6. Прот. Стаднікаў Леанід | Меллінген | –"– |
| 7. Кіпель Яўхім | Гарміш-Партэнкірхэн | –"– |
| 8. Некрашэвіч [Ганна] | Рэбдорф | –"– |
| 9. Сяднёў М.[айсей] | Рэгэнсбург | –"– |
| 10. Сядура Ул.[адзімер] | Кольгруб | –"– |
| 11. Bulasevic* Irena | Regensburg | –"– |
| 12. Тамашчык У.[ладзімер] | München | –"– |
| 13. Трысмакоў [Парфіры] | Regensburg | –"– |
| 14. Куліковіч М.[ікалай] | Рэгэнсбург | –"– |
| 15. Клінцэвіч Д.[аніла] | Рэгэнсбург | –"– |
| 16. Крэсла Якаў | Рэгэнсбург | –"– |
| 17. Pielasa Uładzimier | Рэгэнсбург | –"– |
| 18. Sitkouski Kastuś | Wattenstedt | –"– |
| 19. Sieńko Uł.[adzimir] | Nürnberg | –"– |
| 20. Sieńko Michaś | Wattenstedt | –"– |
| 21. Bielamuk M.[ichaś] | Koburg | –"– |
| 22. Шчорс Ігар | Regensburg | –"– |
| 23. Шчорс Васіль | Regensburg | –"– |
| 24. Кіркевіч Яўген | Regensburg | –"– |
| 25. Асіпчык Аляксандр | [?] | –"– |
| 26. Падгайскі Аўген | Мюнхэн | –"– |
| 27. Русак Уладзімір | Вальдсээ | –"– |

| | | |
|---|---|---|
| 28. Жукоўская Раіса | Wattenstedt | –"– |
| 29. Протас Ал. | kr. Dillingen | –"– |
| 30. Стома Ніна | Дынкенсбюль | –"– |
| 31. Юр. Віцьбіч | Рэгэнсбург | –"– |
| 32. Кабяк [а?] [Аўген ?] | Dillingen | –"– |
| 33. Стома В. [асіль] | Dinkelsb ll | –"– |
| 34. Ст. Блоцкій | [нечытэльна] | –"– |
| 35. Парэцкі М. [іхал] | Weiden | –"– |
| 36. Харытончык | Рэгэнсбург | –"– |
| 37. [Подпіс нечытальны] | Frissen | –"– |
| 38. J. Pastuszka | Regensburg | –"– |
| 39. Грэбень М.[ікола] | Рэгэнсбург | –"– |
| 40. Калодка [Аляксандр] | Мюнхэн | –"– |
| 41. L.Kalinowska | Windischbergerdorf | –"– |
| 42. Шестакова Л.[арыса] | Thiersheim | –"– |
| 43. Трус [Ігнат ?] | [непададзена] | –"– |
| 44. Запольскі [Міхал] | [непададзена] | –"– |
| 45. Садоўскі | Regensburg | –"– |
| 46. Даніловіч | Рэгэнсбург | –"– |
| 47. [Гарошка ?] [Мікола ?] | [нечытэльна] | –"– |
| 48. Шыбут [Фёдар] | Рэгэнсбург | –"– |
| 49. Манькоў Палікарп | Regensburg | –"– |
| 50. Смаль А. [ляксандр] | Eichstädt | –"– |
| 51. [Галожын Герасім?] | Рэгэнсбург | –"– |
| 52. Хведар Ільляшэвіч | [нечытэльна] | –"– |
| 53. Прозвішча нечытэльна | Рэгэнсбург | –"– |
| 54. Розмысл [Сяргей] | Marburg | –"– |
| 55. Прот. М. Лапіцкі | Тірсгайм | –"– |
| 56. Касяк [Іван] | Тірсгайм | –"– |
| 57. Жарскі [Іван], [сьвятар] | [нечытэльна] | –"– |
| 58. Др Шчорс [Мікола] | [непададзена] | –"– |
| 59. Др Войтанка [Віктар] | [непададзена] | –"– |
| 60. Кендыш [Васіль] | [непададзена] | –"– |
| 61. Родзька | [непададзена] | –"– |
| 62. Арх. Філафей | [непададзена] | –"– |
| 63. Еп. Афанасій | [непададзена] | –"– |

**Б.**

[Арыгінал]

**Пастанова**
**Праваслаўнага Беларускага Зьезду**
**ў Рэгэнсбургу дня 5. 5. 1946 г.**

Мы, праваслаўныя беларусы, прадстаўнікі ўсёй беларускай эміграцыі з Заходняй Нямеччыны на агульным Праваслаўным Зьезьдзе з дня 5 травеня 1946 году просім наш Беларускі Епіскапат, які знаходзіцца на эміграцыі ў Тырсгайме (Баварыя), каб наш Беларускі Епіскапат захаваў усю тую поўню арганізацыйнай сваёй самастойнасьці, ня ўліваючыся ані ў якой форме ў „Расейскую Зарубежную Царкву", якая поўнасьцю нэгуе нашы імкненьні да беларускай нацыянальнай самастойнасьці, просім, захоўваючы чыстым дагматычна-кананічны бок нашай Праваслаўнай Беларускай Царквы, увайсьці ў маліцьвеннае абшчэньне зь іншымі самастойнымі Цэрквамі як адміністрацыйная адзінка.

Прэзыдыум Зьезду:
сакратар Ф. Шыбут
прот. М. Лапіцкі
[подпіс нечытэльны]
В. Войтанка
В. Кендыш

**В.**

[Арыгінал]

**Пратакол**
**Беларускага Праваслаўнага Зьезду ў Рэгэнсбургу**
**дня 5 траўня 1946 г. (эміграцыя ў Нямеччыне)**

Адчыніў зьезд прот. М. Лапіцкі. Прывітаў на зьезьдзе архіепіскапа й епіскапа Філафея й Афанасія як прадстаўнікоў Беларускага Епіскапату ў Нямеччыне, сьвяшчэньнікаў у ліку 4 асобаў і дэлегатаў зьезду з усяе Нямеччыны ў ліку 62 чал.[авек]. Запрапанаваў выбраць старшыню зьезду. Праз апладысмэнты быў выбраны др М. Шчорс, які запрасіў у прэзыдыум зьезду арх. Філафея й епіск. Афанасія, якія адмаўляліся тлумачачыся тым, што яны тут толькі ў характары гасьцёў.

Тады старшыня зьезду Шчорс запрасіў іх як ганаровых гасьцей у прэзыдыум зьезду. Наступна старшыня запрасіў а. прот. Лапіцкага, а ад прадстаўнікоў амерыканскай зоны – сп. В. Кендыша, англійскай зоны – сп. Ільляшэвіча й францускай зоны – сп. Родзьку, на сакратара зьезду – сп. Ф. Шыбута. Пасьля гэтага быў прыняты наступны парадак дня:

1. Прывітаньні.
2. Рэфэрат „Шляхі падзелу й шляхі спалучэньня хрысьціянства – чыт. прот. Лапіцкім.
3. Рэфэрат „Праваслаўе на Беларусі (Гістарычны нарыс Праваслаўнай Бел.[арускай] Царквы) – сп. Шыбут.
4. Інфармацыі зь мейсцаў (з 3-х зонаў і рэдакцыі часапісу „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі") аб царкоўным жыцьці.
5. Бягучыя справы:
   а) арганізацыя рэлігійнага жыцьця на чужыне;
   б) Праваслаўнае Беларускае Аб'еднаньне;
   в) Адозва да беларусаў на чужыне;
   г) Ліст да Прэзыдэнта ЗШПА Трумэна.

Віталі зьезд прадстаўнікі ад беларусаў каталікоў у Рэгэнсбургу сп. сп. Кушаль, Савёнак і Кісель. Сп. Кушаль, вітаючы зьезд, жадаў добрай працы й выказаў думку талеранцыйнага сужыцьця беларускага народу незалежна ад веравызнаньня. Даводзіў сугучнасьць жыцьця бел.[арусаў] каталікоў зь белар.[усамі] праваслаўнымі й выразіў надзею, што незалежна ад веравызнаньня беларусы павінны ўтварыць адну суцэльную масу.

Ад імені зарганізаваных беларусаў вітаў зьезд старшыня Акруговага К-ту ў Рэгэнсбургу сп. Кендыш.

Старшыня зьезду падзякаваў за прывітаньні й пажаданьні, пасьля чаго былі выслуханы рэфэраты паводле парадку дня (зьмест рэфэрат.[аў] далучаецца да пратаколу). Па адчытаньні рэфэратаў быў агалошаны 10-ці мінутовы перапынак.

Пасьля перапынку зьезд працягваў далей сваю працу. Забраў голас арх. Філафей, які ад свайго й ад імя прысутнага епіск. Афанасія заявіў, што яны зьяўляюцца прадстаўнікамі Сабору Епіскапаў Беларускай Праваслаўнай Царквы. Характар зьезду быў для іх незразумелы згодна запросінам. Паводле зьместу запросін епіскапы прысутнічаць не маглі на зьезьдзе. Зьезд можа ўтварыць Епіскапат, а толькі

таму, што гэты зьезд ёсьць беларусаў праваслаўных. Мы прысутнічаем тут як ганаровыя госьці і ўдзелу ў працы зьезду ўзяць ня можам. З паводу кананічных формаў мы маем пэўныя агранічэньні. Мы паедзем на край сьвету, там, дзе будуць праваслаўныя вернікі беларусы.

У адказ арх. Філафею даваў тлумачэньні прот. Лапіцкі, які перапрасіў епіскапаў за зьмест запросінаў і прасіў прыняць удзел у зьезьдзе.

Інфармацыі зь месцаў

Ад беларусаў з Францускай зоны прамаўляў др Войтанка. Ён сказаў, што духоўнае жыцьцё слаба арганізавана, нягледзячы, што мясцовыя ўлады ідуць вельмі на спатканьне сьвяшчэньнікам пры выкананьні рэлігійных патрэбаў вернікаў.

Ад беларусаў прав[аслаўных] Ангельскай зоны зложыў справаздачу сп. Ільляшэвіч. Ён сказаў, што духоўнае жыцьцё наладжана вельмі добра. Два разы прыяжджаў арх. Філафей. Сьвяшчэньнікі прымаюць чынны ўдзел у рэлігійным і грамадзкім жыцьці. Сьвяшч. Жарскі паінфармаваў зьезд аб рэлігійным жыцьці прав[аслаўных] беларусаў у Вайдэне, дзе яно добра зарганізавана дзякуючы вернікам.

Справаздачу ад рэдакцыі часапісу „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі" зложыў рэд. Стукаліч, які выказаў, што ёсьць ціск збоку Бел[арускай] Прав[аслаўнай] Іерархіі й што рэдакцыя ня можа падзяліць поглядаў Епіскапату, бо зьяўляецца органам грамадзка-рэлігійным і адлюстроўвае погляды шырэйшага грамадства й вернікаў. Апрача гэтага рэдакцыя мае ціск і з боку пашчагульных суполак, якія хацелі-б, каб зьвінеў звон Янкаўскі ці Антосеўскі, а не Сьвят[ой] Сафіі. Але рэдакцыя цьвёрда стаіць на сваім шляху й дае рашучы адпор усякім ціскам. Парушыў, між іншым, абражаючы тон „Беларускіх Навінаў" у Парыжы ў дачыненьні да праваслаўных беларусаў. Прот. М. Лапіцкі зложыў справаздачу аб Белар[ускім] Прав[аслаўным] Прыходзе ў Рэгэнсбургу, аб пабудове Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Рэгэнсбургу й шчырую падзяку вернікам ахвярадаўцам і прычыніўшымся ў значным стопню да пабудовы. Выразіў шчырую падзяку рэдакцыі „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі" і заклікаў далей шчыра й аддана працаваць на карысьць Беларускага Народу.

Сп. Родзька выказваецца аб рэлігійнасьці беларускага народу, аб шчырых суадносінах вернікаў з духоўнымі асобамі й ад імя ўсіх беларусаў прапануе ўтварыць рэлігійную арганізацыю, якая дапаможа

зарганізаваць рэлігійнае жыцьцё беларусаў праваслаўных на эміграцыі. Арганізацыя мусіць насіць назоў Беларускага Праваслаўнага Аб'еднаньня. Інж. Тамашчык прапануе назваць Беларускае Хрысьціянскае Аб'еднаньне, пасьля чаго разгарнулася шырокая дыскусыя, у якой выявілася, што бальшыня дэлегатаў супроць такой прапановы. І прапанова была пастаўлена на галасаваньне, у выніку якога за прапазыцыяй інж. Тамашчыка гадасавала двух, а за назоў Беларускае Праваслаўнае Аб'еднаньне – аднагалосна, пры адным устрымаўшымся. Такім чынам, арганізацыя называецца Беларускае Праваслаўнае Аб'еднаньне.

Сп. Асіпчык зачытаў праект Статуту БПА. Статут у асноўным быў зьездам прыняты, толькі былі высказваньні й дапаўненьні некаторых пунктаў. А дзеля гэтага зьезд даручыў Ураду БПА апрацаваць і на наступным зьезьдзе падаць дапоўненьні – для зацьверджаньня. Пасьля гэтага прыступлена да – выбараў Ураду Беларускага Праваслаўнага Аб'еднаньня.

Разгарнулася шырокая дыскусія ў сувязі з падачай кандыдатаў – арх. Філафея й епіск. Афанасія, якія пакуль што адмовіліся прыняць кандыдатуры. У выніку дыскусіі выявілася, што Епіскапат Бел.[арускай] Праваслаўнай Царквы мае замеры далучыцца да Зарубежнай Расейскай Царквы, якая пасягае на нашу незалежнасьць. Пастанову зьезд прыняў аднагалосна й прасіў сваіх беларускіх архіепіскапаў Філафея й Афанасія не далучаць Бел.[арускую] Прав.[аслаўную] Царкву да Зарубежнай Расейскай, а застацца незалежнымі з сваім народам. Тым болей, што Бел.[аруская] Прав.[аслаўная] Царква ўжо стаіць на глыбокім шляху да Аўтакефальнай Беларускай Праваслаўнай Царквы. Еп. Афанасій уносіць прапанову аб стварэньні беларускіх прыходаў і ўтварэньні Беларускае Нацыянальнае Царквы. Прыступлена да выбараў Ураду БПА. У выніку дыскусыі зьезд пастанавіў ініцыятыўную групу зьезду ў складзе прот. Лапіцкага, сп. сп. Стукаліча, інж. Ігнатовіча, Шыбута, Касяка, Арсеньевай, Асіпчыка, М. Сяднёва уважаць як Тымчасовы Ўрад Беларускага Праваслаўнага Аб'еднаньня да скліканьня наступнага зьезду й выбраньня пастаяннага Ўраду.

Старшыня Ўраду др М. Шчорс уносіць прапанову, каб выбраны такім чынам Урад БПА заняўся канчатковай распрацоўкай Статуту. Зьезд прапанову прыняў аднагалосна. Пасьля старшыня сходу зачытаў зьмест ліста да Прэзыдэнта ЗШПА сп. Трумана (зьмест далучаецца да пратаколу). Праз апладысмэнты ліст быў прыняты [нечытэльна].

У бягучых справах была парушана справа дапамогі беларускім студэнтам. Зьезд выразіў пажаданьне даручыць гэту справу Дапамаговаму Беларускаму К-ту.

На гэтым зьезд быў закончаны.

Старшыня зьезду Шчорс [подпіс]
Сакратар Шыбут [подпіс]
Сябры Прэзыдыуму

Г.

[Копія]

## Ліст да Прэзыдэнта ЗШПА Г. Трумэна

May 1946
Convention of the Orthodox
Whiteruthenians in Regensburg, Germany

To: His Excellency,
The President of the United States of America
Mr. Harry Truman
In Washington

Through: US Army Channels

Your Excellency,

The Orthodox Whiteruthenians who have come to Regensburg from all over the America, British and French occupational zones of Germany for a religious convention on the 5 th Of May 1946, areurged by the sincere desire to express their deeply felt gratitude to your Excellency and to the American Nation for all help and assistance given us in this foreign country. It is our deep conviction that our life here will also in future be in full accordance with the immortal and eternally great principles of freedom, democracy and justic the principles which rule the United States and for which we so immensely admire your country, where hundreds of thousands of our fellow countryman and followers religion have found a second home already in old times.

From all our heart we wish your Excellency and the great American Nation succes and happiness in your work for the benefit of all humanity.

May God help and guide you.

## Камэнтары • Commentaries

У падрыхтаваны том творчай спадчыны а. М. Лапіцкага ўвайшлі творы, якія былі апублікаваны ў 1946 – 1975 гадох у беларускіх эміграцыйных пэрыёдыках: „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі" (Рэгэнсбург, 1946; Міхэльсдорф, 1947); „Царкоўны Сьветач" (Саўт Рывэр, 1951 – 1973); „Беларускае Слова" (Саўт Рывэр, 1955 – 1957); „Беларуская Думка" (Саўт Рывэр – Нью Ёрк, 1964; 1967 –1968); „Памятная Кніга: 1950 –1975" (Саўт Рывэр, 1975). Зь іншамоўных публікацый у выданьне ўлучаны артыкул а. М. Лапіцкага ў польскай мове з часоў яго вучобы на багаслоўскім факультэце Варшаўскага ўнівэрсытэту („Путь Правды", Варшава, 1934). Зьмешчана ў кнізе таксама й магістэрская праца сьвятара „Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы", якая была напісана ў 1934 – 1935 гадох, але асобным выданьнем выйшла толькі ў 1978 годзе ў Нью Ёрку. Дасьледаваньне пераклаў з польскай мовы й падрыхтаваў да друку а. С. Коўш на падставе копіі з арыгіналу, што захоўваўся ў архіве Варшаўскага ўнівэрсытэту.

У дадзеным выданьні зьмешчаны публікацыі а. М. Лапіцкага, якія былі падпісаны яго ўласным прозьвішчам і крыптанімамі (напрыклад, М. Л.). У кнігу ўвайшлі таксама публіцыстычныя артыкулы, надрукаваныя а. М. Лапіцкім пад псэўданімамі (Аўтакефаліст, Фёдар (Ф – дар) Банадысяў, М. Віленскі, Вокс, Духоўнік, Сьвятар). Невялікую групу твораў сьвятара склалі публікацыі, якія былі надрукаваны бяз подпісу. Іх аўтарства ўстаноўлена паводле інфармацыі родных а. М. Лапіцкага й матар'ялаў, якія захаваліся ў прыватным архіве сьвятара.

Значнае месца ў выданьні адведзена карэспандэнцыі а. М. Лапіцкага зь беларускім царкоўна-рэлігійным актывам у ЗША, Канадзе, Заходняй Эўропе й Аўстраліі ды ўспамінам родных і сучасьнікаў пра яго жыцьцё й царкоўна-грамадзкую дзейнасьць.

Тэксты твораў а. М. Лапіцкага, эпісталярыі, рэфлексіі-ўспаміны друкуюцца паводле правапіснага варыянту беларускае мовы, які ўжываецца ў выданьнях беларускай дыяспары ў Паўночнай Амэрыцы. Выключэньне склалі словы, зьвязаныя з царкоўнай тэрміналёгіяй, як напрыклад: епіскап (архіепіскап), епархія (епіскапія), протадыякан, протаіерэй, мітрафорны протаіерэй, протапрэсьвіцер і г. д.

Па сваёй будове кніга складаецца зь сямі разьдзелаў і дадаткаў. У кожным зь іх матар'ял пададзены паводле храналягічнага прынцыпу. Выданьне мае інфармацыйна-даведачны апарат – камэнтары, сьпіс скаротаў, бібліяграфію й іменны паказьнік.

## Разьдзел I • Chapter I

## Малітвы й казаньні • Prayers and Sermons

**Малітва**

с. 3

Друкуецца паводле матар'ялаў з прыватнага архіва а. М. Лапіцкага. Тэкст малітвы быў прачытаны сьвятаром 25 сакавіка 1962 году на ўрачыстай акадэміі, прысьвечанай 54-м угодкам абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі (1918).

***„Яко видести очи мои спасение Твое"***

с. 4

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", № 1, Рэгэнсбург, 1946.

У апублікаваным тэксьце рэдакцыя часапісу зьмясьціла наступную ўвагу: „Казаньне на Стрэчаньне Госпада Ісуса Хрыста, сказанае ў Беларускай Праваслаўнай Царкве ў Рэгэнсбургу протаіерэем Мікалаем Лапіцкім".

*Стрэчаньне* – гадавое рэлігійнае сьвята ў хрысьціян. Прыпадае па новаму стылю ў каталікоў – на 2 лютага, у праваслаўных вернікаў – на 15 лютага. У беларусаў вядомае яшчэ як Грамніцы.

**Хрыстос Уваскрос!**

с. 6

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", № 8, Міхэльсдорф, 1947. Подпіс – *Протаіерэй М. Лапіцкі.*

*Разьбіты ўшчэнт званы Сьвятой Сафіі...* – цытата з публікацыі Юркі Віцьбіча (гл.: „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", № 1, Рэгэнсбург, 1946).

*Часапіс „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі"* – рэлігійна-грамадзкі часапіс праваслаўных беларусаў. Выходзіў ад лютага 1946 да красавіка 1947 году ў Нямеччыне. Першыя чатыры нумары (№ 1–4) выйшлі ў Рэгэнсбургу, астатнія (№ 5–8) – у Міхэльсдорфе. Рэдагавалі часапіс Ю. Віцьбіч і а. М. Лапіцкі.

**Вера, надзея, любоў**

с. 7

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", №8, Міхэльсдорф, 1947. Подпіс – *Духоўнік.*

**Хрыстос уваскрос, дарагая наша Радзіма!**

с.10

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", № 8, Міхэльсдорф, 1947. Тэкст бяз подпісу.

**Належна скарыстайма час**

с.11

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", № 2, Саўт Рывэр, 1951/1952 . Подпіс – *Духоўнік.*

**Хрыстос Уваскрос!**

с.13

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", № 2 (3), Саўт Рывэр, 1952. Подпіс – *Прот. М. Лапіцкі.*

**З сьвятам 25-га сакавіка**

с.15

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Беларускае Слова", № 3 (24), Саўт Рывэр, 1955. Подпіс – *Протапрэсьвіцер М. Лапіцкі.*

*Прэпадобная Еўфрасіньня* (Ефрасіньня) *Полацкая* (каля 1101 – 23 або 25.05.1167 ці 1173) – полацкая князёўна (у сьвецкім жыцьці Прадслава), беларуская сьвятая, асьветніца, патронка Беларусі.

*Сьвятыя Віленскія Мучанікі Антон, Іаан, Аўстах* – беларускія сьвятыя Антон, Іаан і Аўстах (да хрышчэньня Кумец, Няжыла, Круглец). Загінулі пакутніцкай сьмерцю ў 1347 годзе за пераход зь язычніцтва ў хрысьціянства. У праваслаўнай гістарычнай літаратуры ўжываюцца таксама наступныя варыянты іх іменаў: Антоній, Іаан, Яўстах (Яўстафій, Астап).

*Прэпадобны Мучанік Афанасій Брэсцкі* (Афанасій Філіповіч; каля 1595 –1648) – палітычны й царкоўны дзеяч, пісьменьнік-палеміст. У 1648 годзе абвінавачаны ў спрыяньні казакам Б. Хмяльніцкага. Пасьля катаваньняў і зьдзекаў расстраляны. Сьвяты Беларускай Праваслаўнай Царквы.

**Вербніца**

с. 17

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Беларускае Слова", № 4 (25), Саўт Рывэр, 1955. Подпіс – *Протапрэсьвіцер М. Лапіцкі.*

**Хрыстос Уваскрос!**

с. 19

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Беларускае Слова", № 2 (34), Саўт Рывэр, 1957. Подпіс – *Протапрэсьвіцер М. Лапіцкі.*

**Калядная Ноч**

с. 20

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Беларускае Слова", № 5 (37), Саўт Рывэр, 1957. Подпіс – *Протапрэсьвіцер М. Лапіцкі.*

*Платон* (428 ці 427 да н. э. – 348 ці 347 да н.э.) – старажытнагрэцкі філёзаф, вучань Сакрата.

**Дні праходзяць, дні лятуць...**

с. 23

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (8), Саўт Рывэр, 1957. Подпіс – *Прот. М. Лапіцкі.*

**Нядзеля Міраносіц**

На Дзень Маткі

с. 25

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (16), Саўт Рывэр, 1967. Подпіс – *Сьвятар.*

**Дзейнасьць Сьвятога Духа**

с. 28

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", № 1 (18), Саўт Рывэр, 1969. Подпіс – *Протапр. М. Лапіцкі.*

*Рыгор Багаслоў* (каля 330 – каля 390) – праваслаўны прапаведнік, аўтар тэалягічных твораў пра абгрунтаваньне хрысьціянскага догмату Сьвятой Тройцы.

*Пліні (Плініюс) Малодшы* (61 ці 62 – каля 114) – старажытнарымскі гісторык і пісьменьнік.

*Траян* (53 – 117) – рымскі імпэратар, вайсковец і адміністратар.

*Карнэлі Тацыт* (каля 55 – каля 120) – старажытнарымскі гісторык і пісьменьнік.

*Іаан Златавусны* (Ioannes Chrysostomos; 341 – 407) – патрыярх Канстантынопальскі, ідэоляг Усходне-хрысьціянскай Царквы, прапаведнік. У гістарычнай літаратуры сустракаем таксама мадыфікацыю яго імя – Іаан Златавуст.

*Мітрапаліт Палескі й Пінскі Аляксандр* (у сьвецкім жыцьці Николай Иноземцев; 1887–1948) – прыхільнік аўтакефаліі Ўкраінскай і Беларускай Праваслаўных Цэркваў. З 1922 году – епіскап Люблінскі. У 1922 – 1944 гадох – епіскап Палескі й Пінскі. Зь лета 1944 году – на эміграцыі (у Нямеччыне). Пасьля пераходу ў лютым 1946 году епіскапату БАПЦ у РЗПЦ беларускія палітычныя колы, зьвязаныя з М. Абрамчыкам, імкнуліся заангажаваць мітрапаліта Аляксандра ў аднаўленьне БАПЦ на эміграцыі. Памёр ў лютым 1948 году ў Мюнхэне пры нявысьветленых абставінах.

**У імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа**
с. 31

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", № 1 (19), Саўт Рывэр, 1970. Подпіс – *Протапр. М. Лапіцкі.*

*Уладыка Антоні* (Антоній), *архіепіскап Менскі й Беларускі* (у сьвецкім жыцьці Анатолий Мельников; 1924 – 1986) – царкоўны дзеяч і гісторык Праваслаўнай Царквы на Беларусі. У 1964 – 1965 гадох – епіскап Белгарад-Дняістроўскі. З травеня 1965 году – на Беларусі: спачатку ў годнасьці епіскапа (травень, 1965) і архіепіскапа (кастрычнік, 1965), пазьней – мітрапаліт Менскі й Беларускі (1975 – 1977). У 1978 – 1986 гадох – мітрапаліт Ленінградзкі й Наўгародзкі. Дасьледаваў гісторыю Жыровіцкага Ўсьпенскага манастыра.

**З нараджэньнем Хрыста!**
с. 35

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (20), Саўт Рывэр, 1971. Подпіс - *Протапрэсьвіцер М. Лапіцкі.*

## Разьдзел II • Chapter II
## Дасьледаваньні • Academic Works

**Як паўстала царкоўная вунія на Беларусі**
с. 39

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Путь Правды" („Put' Pravdy"), № 2, Варшава, 1934. Подпіс – *Мікалай Лапіцкі.*

*Міндоўг*, Мендог (1195 ? – 1263) – заснавальнік і вялікі князь ВКЛ.

*Альгерд* (1296 – 1377) – вялікі князь ВКЛ, князь крэўскі й віцебскі; сын Гэдыміна.

*Вітаўт* ( 1350 – 1430) – вялікі князь ВКЛ (1392 – 1430), узначальваў беларуска-літоўскія войскі ў часе Грунвальдзкай бітвы (1410).

*Ягайла* (Якаў, Якуб, Уладыслаў II; каля 1348 – 1434) – вялікі князь ВКЛ (1377 – 1392), польскі кароль (1386 – 1434); сын Альгерда.

*Гэдымін*, Гедзімін (каля 1275 – 1341) – вялікі князь ВКЛ.

*Мітрапаліт Макар* (Макарий Булгаков; 1816 – 1882) – расейскі царкоўны гісторык і багаслоў, прафэсар Духоўнай Акадэміі ў Пецярбургу. З 1879 – мітрапаліт Маскоўскі. Аўтар шматтомнай працы „История Русской Церкви" (1846 – 1883, т. 1 – 13).

*Войшэлк*, Войшалк (1223 –1268) – князь наваградзкі (1254, 1258 – 1263), вялікі князь ВКЛ (1263 – 1267); сын Міндоўга.

*Cujus regio, ejus religio* – чыя ўлада (тэрыторыя), таго й рэлігія (лац.)

*Жыгімонт Аўгуст* (Жыгімонт II Аўгуст 1520 – 1572) – вялікі князь ВКЛ і кароль польскі (1548 – 1572). У ВКЛ – Жыгімонт III Аўгуст; сын Жыгімонта I Старога й Боны Сфорцы.

*Ф. Скарына* (Францішак Скарына; каля 1490 – каля 1551) – беларускі й эўрапейскі гуманіст, мысьліцель, асьветнік, вучоны, усходнеславянскі першадрукар, культурны дзеяч эпохі Адраджэньня, доктар мэдыцыны Падуанскага ўнівэрсытэту.

*М. Каяловіч* (Мікалай Каяловіч; 1828 – 1891) – расейскі й беларускі гісторык, адзін зь ідэолягаў „западно-руссизма".

*М. Пакроўскі* (Михаил Покровский; 1868 – 1932) – расейскі гісторык.

*Анісіф(о)р Дзевачка* (сьвецкае імя Пятровіч-Дзевачка; ? – 1594) – мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і Ўсяе Русі. У 1589 годзе пазбаўлены сану Канстантынопальскім Патрыярхам за дваяжонства.

*Мітрапаліт Рагоза* (Міхаіл Рагоза; каля 1540 – 1599) – праваслаўны, а пазьней вуніяцкі рэлігійны дзеяч Рэчы Паспалітай.

*Гарадзельскі сойм* – сойм паслоў ВКЛ і Польшчы ў замку Гародле, дзе быў заключаны саюз Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай (Гарадзельская вунія 1413 году).

*Праф. С. Голубеў* (Степан Голубев; 1849 – 1920) – гісторык, дасьледчык гісторыі праваслаўя на Ўкраіне. У дасьледчыцкай працы шмат увагі аддаў жыцьцю мітрапаліта Пятра Магілы й яго дзейнасьці.

*Клімент VIII* (Pierre Roger, каля 1291 – 1352) – папа Рымскі.

**Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы**

с. 45

Друкуецца паводле публікацыі „Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы", Нью Ёрк, 1978. Пераклаў з польскай мовы, падрыхтаваў да друку а. Сьвятаслаў Коўш. Арыгінал магістэрскай працы а. Мікалая Лапіцкага не захаваўся ў архіве Варшаўскага ўнівэрсытэту.

*А. Лявіцкі* (Анатоль Лявіцкі; 1841 – 1899) – гісторык, прафэсар Ягелёнскага ўнівэрсытэту. Дасьледаваў гісторыю раньняга сярэднявечча ў Польшчы.

*Я. Фіялэк* (ks. Jan Fijałek; 1864 – 1936) – каталіцкі ксёндз, гісторык. Дасьледаваў гісторыю Касьцёла ў сярэднявеччы.

*А. Прахаска* (Antoni Prochaska; 1852 – 1930) – польскі гісторык, архівіст. Дасьледаваў пэрыяды княжаньня вялікіх князёў літоўскіх Ягайлы й Вітаўта.

*А. Галэцкі* (Oskar Halecki; 1891 – 1973) – польскі гісторык, прафэсар Варшаўскага ўнівэрсытэту. Дасьледчык гісторыі сярэднявечнай Польшчы і Ўсходняй Эўропы.

*М. Грушэўскі* (Міхайло Грушэвський; 1866 –1934) – украінскі гісторык, прафэсар Львоўскага ўнівэрсытэту (1894 – 1910). Запачаткаваў у сваіх дасьледаваньнях адметнасьць украінскай гістарыяграфіі ад польскай.

*А. Латоцкі* (Олександр Лотоцький; 1870 –1939) – украінскі гісторык, дасьледчык гісторыі Праваслаўнай Царквы.

*В. Бідноў* (Василь Біднов; 1870 –1935) – украінскі гісторык, прафэсар гісторыі Царквы на багаслоўскім факультэце Варшаўскага ўнівэрсытэту. Дасьледаваў гісторыю Праваслаўнай Царквы на Ўкраіне, у Польшчы й на Беларусі.

*І. Чыстовіч* (Иларион Чистович; 1828 – 1893) – расейскі праваслаўны гісторык і багаслоў. Дасьледаваў гісторыю Праваслаўнай Царквы на Беларусі.

*К. Хадыніцкі* (Kazimierz Chodynicki; 1890 – 1942) – польскі гісторык. Дасьледаваў сярэднявечную гісторыю Ўсходняй Эўропы.

*І. Малышэўскі* (Іван Малишевський; 1828 – 1897) – украінскі гісторык, прафэсар Кіеўскай Духоўнай Акадэміі. Аўтар прац зь гісторыі Ўкраінскай і Беларускай Цэркваў.

*Пётр Дусбурскі* (Пётр Дусбург) – нямецкі храніст першай паловы XIV ст., сьвятар крыжацкага ордэна, аўтар „Хронікі Прускай зямлі", у якой падаў шмат зьвестак зь гісторыі ВКЛ.

*М. Любаўскі* (Мацей Любаўскі; 1860– 1936) – гісторык, прафэсар Маскоўскага ўнівэрсытэту. Дасьледаваў гісторыю Літоўска-Рускай дзяржавы.

*domini praepotentes, potiores* – вяльможы ўсеўладныя, упрывілеяваныя (лац.).

*А. Сакалоўскі* (August Sokołowski; 1846 – 1921) – польскі гісторык.

*Л. Калянкоўскі* (Ludwik Kolankowski; 1882 –1956) – польскі гісторык. Дасьледаваў гісторыю Ўсходняй Эўропы й Польшчы ў XV – XVI стст., а таксама гісторыю ВКЛ.

*Съкіргайла* (у хросьце Іван; каля 1354 –1394) – князь полацкі, трокскі й кіеўскі; другі сын Альгерда.

*Бітва пад Грунвальдам* (Грунвальдзкая бітва, 1410) – вырашальная бітва паміж літоўска-польскім войскам, ачоленым вялікім князем літоўскім Вітаўтам і польскім каралём Ягайлам і Тэўтонскім ордэнам на чале зь вялікім магістрам Ульрыхам фон Юнгінгенам, якая адбылася 15 ліпеня 1410 каля мясцовасьці Грунвальд.

*Съвідрыгайла* (у праваслаўі Леў, у каталіцтве Баляслаў; каля 1370 –1452) – вялікі князь ВКЛ (1430 – 1432).

*Гальшанскія, Гаштольды, Радзівілы* – найбольш славутыя княжацка-магнацкія роды ВКЛ і Рэчы Паспалітай.

*А. Брукнер* (Aleksander Brükner; 1856 – 1939) – польскі гісторык, філёляг, славіст і культуроляг.

*Ягелёны* – дынастыя князёў літоўскіх і польскіх каралёў, якая панавала ў ВКЛ (1377 – 1401, 1440 –1572), у Польшчы (1386 –1572), у Мадзяршчыне (1440 – 1444, 1490 – 1526) і ў Чэхіі (1471 –1526).

*Казімер Ягелёньчык* – маецца на ўвазе Казімер VI (1427 – 1492) – вялікі князь літоўскі (1440), польскі кароль (1447); сын Уладыслава Ягайлы.

*Аляксандр Ягелёньчык* (1461 –1506) – вялікі князь ВКЛ (1492), поль скі кароль (1501).

*Андрэй, гэрбу Ястраб* (Васіла, Андрэй Поляк; ? – 1398) – першы каталіцкі біскуп ВКЛ (1388 – 1398).

*В. Чэрмак* (Wiktor Czermak; 1863 –1913) – польскі гісторык, прафэсар Ягелёньскага ўнівэрсытэту, дасьледчык гісторыі Польшчы XVII стагодзьдзя.

*Мітрапаліт Максім* (1283 –1305) – мітрапаліт Кіеўска-Ўладзімерскі. Паводле паходжаньня грэк. Перанёс катэдру мітрапаліта зь Кіева ва Ўладзімер на Клязьме.

*Андронік Старэйшы* (Андронік II Старэйшы, Палеоляг; 1260 – 1332) – візантыйскі імпэратар (1282 – 1328).

*Феафан, мітрапаліт Літоўскі* (Феафан III; 1608 – 1664) – патрыярх Ерусалімскі.

*Раман* (? – 1362) – праваслаўны дзеяч ВКЛ, мітрапаліт Літоўска-Наваградзкі (1354 – 1362).

*Аляксей* (паміж 1292 і 1298 – 1378) – мітрапаліт Кіеўскі і Ўсяе Русі. Выступаў супраць намаганьняў князёў ВКЛ стварыць асобную мітраполію ў Кіеве.

*Кіпрыян, мітрапаліт* (каля 1330 –1406) – праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ, пісьменьнік і перакладчык.

*Грыгор Цамблак* (сьвецкае імя Гаўрыіл; каля 1364 –1419 ці 1420 ?) – праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ, мітрапаліт Кіеўскі (1415 –1419/1420), пісьменьнік.

*Сяргей Раданежскі* (Сергий Радонежский; сьвецкае імя Варфоломей Кирилович; ? – 1391) – расейскі царкоўны дзеяч, заснавальнік Траецка-Сергіеўскага манастыра пад Масквой.

*Дзімітры Іванавіч (Данскі);* 1350 –1389) – вялікі князь маскоўскі. У бітве на Куліковым полі перамог войскі Мамая, ваеначальніка з Залатой Арды (15.07.1380).

*Стары Ян Палеоляг* – верагодна размова ідзе пра Яна V Палеоляга (1332 – 1391), візантыйскага імпэратара.

*Ян VI Палеоляг* – маецца на ўвазе Ян VIII Палеоляг (1392 – 1448), візантыйскі імпэратар (з 1425).

*Мамай* – ваеначальнік мангола-татарскіх войскаў Залатой Арды, разьбіты вялікім князем маскоўскім Дзімітрыем Іванавічам (15.7.1380).

*Фоцій* (? – 1431) – мітрапаліт Кіеўскай мітраполіі (1408 – 1431). Паводле паходжаньня грэк зь Пелапанесу.

*А. Яцімірскі* (Александр Яцимирский; 1873 –1925) – філёляг-славіст. Цікавіўся славянска-румынскімі культурнымі сувязямі. Аўтар манаграфіі „Григорий Цамблак" (1904).

*Nolens volens* – хочучы ня хочучы (лац.).

*Марцін V* (Oddone Colonna; 1368 –1431) – папа Рымскі (1417 – 1431).

*М. Карамзін* (Николай Карамзин; 1766 – 1826) – расейскі гісторык, пісьменьнік і публіцыст, аўтар „Истории государства Российского" (1816 – 1829, т. 1 – 12).

*Пій II* (Silvio Piccolomini; 1405 – 1464) – папа Рымскі (з 1458), гуманіст, гісторык, паэт.

*Аўген IV* (Gabriel Condulmer; 1383 – 1447) – папа Рымскі (з 1431).

*Васіль Сьляпы* – маецца на ўвазе Васіль II Васільевіч Сьляпы (1415 – 1462), вялікі князь маскоўскі (1425 –1462).

*Шэмяка* – размова ідзе пра Дзімітрыя Шэмяку (1420 –1453) – князя галіцкага, які змагаўся зь вялікім князем маскоўскім Васілём II Васільевічам, перамог яго й асьляпіў. Ад прозьвішча князя Дз. Шэмякі ўтварыўся ў расейскай мове фразеалагізм „шемякин суд", што азначае суд несправядлівы.

*У. Салаўёў* (Владимир Соловьёв; 1853 –1900) – расейскі рэлігійны філёзаф і пісьменьнік.

*Васіль Вялікі, Яфрэм Сірын, Іаан Леставянічнік, Фёдар Студзіт, Іаан Дамаскін* – айцы Царквы, выбітныя багасловы старажытнасьці.

*Аўраам* (Аўрамій) Смаленскі (сярэдзіна XII ст. – 1224) – рэлігійны й грамадзкі дзеяч, мастак.

*Кірыла Тураўскі* (каля 1113 – каля 1182 ці пасьля 1190) – старажытнабеларускі і ўсходнеславянскі царкоўны дзеяч, багаслоў і пісьменьнік.

*Браты Кірыл* (каля 827 – 860) і *Мяфодзій* (815 – 885) – славянскія асьветнікі, прапаведнікі хрысьціянства.

**Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква**
с. 153

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", № 2 (3), Саўт Рывэр, 1951/1952; працяг: № 1(4), 1953; № 1(5), 1954; заканчэньне: №1 (6), 1955. Подпіс – *М.Л.*

*Кс. В. Гадлеўскі* (Вінцэнт Гадлеўскі; 1888 –1942) – каталіцкі сьвятар, беларускі палітычны й грамадзкі дзеяч, выдавец і публіцыст. Расстраляны немцамі 24 сьнежня 1942 году ў мясцовасьці Трасьцянец пад Менскам.

*Кс. Гарошка* (а. Леў Гарошка; 1911 – 1977) – уніяцкі сьвятар, марыянін, беларускі царкоўны, грамадзкі й культурны дзеяч. Рэдактар і выдавец рэлігійнага часапісу „Божым Шляхам" (1947–1958). Дасьледваў гісторыю хрысьціянства на Беларусі.

*Абрамчык* (Мікола Абрамчык; 1902 – 1970) – беларускі палітычны й грамадзкі дзеяч. З 1924 году – на эміграцыі (Чэхаславакія, Францыя, Нямеччына). Пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны імкнуўся падпарадкаваць беларускі эміграцыйны рух. Старшыня Рады БНР (1947 – 1970).

*„Раніца”* – беларуская тыднёвая газэта. Выходзіла ў Бэрліне (сьнежань 1939 – сакавік 1945). Рэдактары: В. Тумаш, А. Шкутка, М. Шкялёнак, Ст. Грынкевіч, М. Абрамчык, Ст. Станкевіч. Газэта прапагандавала беларуска-нямецкае супрацоўніцтва, асьвятляла палітычныя падзеі ў сьвеце й на Беларусі. Друкавала матар'ялы па гісторыі Беларусі й літаратурныя творы.

*Д. Дарашэнка* (Дмитро Дорошенко; 1882 – 1951) – украінскі гісторык і публіцыст, дзяржаўны й грамадзкі дзеяч. Цікавіўся беларускім адраджэнскім рухам. Прысьвяціў гэтаму пытаньню шэраг публікацый.

*Сагайдачны* (Петро Сагайдачний; ? – 1622) – украінскі гэтман, палітычны й культурны дзеяч.

*І. Барэцкі* (Іван Барэцкі; другая палова XVI –1631) – мітрапаліт Кіеўскі й Галіцкі (1620 –1631). У сваёй царкоўнай дзейнасьці імкнуўся да адраджэньня Праваслаўнай Царквы. Пашыраў асьвету, закладаў школы й друкарні. Высьвята І. Барэцкага на мітрапаліта не была прызнана польскім каралём Сыгізмундам ІІ.

*Архіепіскап Міхаіл* (27. 5. 1892 – 13.7.1958) – экзарх Канстантынопальскага Патрыярхату для Паўночнае й Паўдзённае Амэрыкі й Канады (з кастрычніка 1949). Спрыяў арганізацыі беларускага царкоўнага жыцьця ў ЗША, у прыватнасьці беларускай парафіі Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры (Нью Джэрзі).

*БЦР* (Беларуская Цэнтральная Рада) – утворана 21.10 1943 году па загаду генэральнага камісара Беларусі Курта фон Готберга як інстытуцыя беларускай адміністрацыі на акупаванай нямецкімі войскамі тэрыторыі Беларусі. Прэзыдэнтам БЦР быў вызначаны Р. Астроўскі. Складалася з 14 адміністрацыйных аддзелаў (прамысловасьці, сацыяльнага забесьпячэньня, культуры й г.д.). Легітымнасьць БЦР, як прадстаўніка беларускага народу, пацьвердзіў ІІ Усебеларускі Кангрэс (1944). Зь лета 1944 праводзіла сваю дзейнасьць на эміграцыі (у Заходняй Эўропе, Паўночнай Амэрыцы й Аўстраліі). Канкуравала з БНР.

*Мітрапаліт Мелхісэдэк* (сьвецкае імя Міхаіл Паеўскі; 1878 –1931) – мітрапаліт Менскі й Беларускі, беларускі царкоўны й грамадзкі дзеяч, адзін зь ініцыятараў аднаўленьня аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы (Менск, 1922). Рэпрэсаваны савецкім уладамі.

*Язэп Найдзюк* (1909–1984) – беларускі грамадзкі й культурны дзеяч. Удзельнік беларускага нацыянальна-незалежніцкага руху ў Заходняй Беларусі (1921–1939). У гады Другой сусьветнай вайны працаваў у беларускай адміністрацыі ў Менску. Дасьледваў гісторыю Беларусі, займаўся выдавецкай дзейнасьцю.

*Мгр. А. М.* – крыптанім арх. Апанаса (Антона Мартаса).

*В. Ачапоўскі* (Васіль Ачапоўскі; 1880 ? – пасьля 1930) – беларускі царкоўны й грамадзкі дзеяч. Актыўна ўдзельнічаў у аднаўленьні БАПЦ (Менск, 1922; 1927).

*С. Кульчыцкі* (Стафан (Сьцяпан) Кульчыцкі; 1879–1937) – беларускі царкоўны й грамадзкі дзеяч, протаіерэй. Сябра Рады БНР. Адзін зь ініцыятараў аднаўленьні БАПЦ (Менск 1922; 1927).

*А. Кіркевіч* (Антоні(й) Кіркевіч; 1871–1937) – беларускі царкоўны дзеяч. Актыўна ўдзельнічаў у аднаўленьні БАПЦ (Менск, 1922; 1927). Сям'я Кіркевічаў (матушка, дзьве дачкі – Ірэна й Гэлена, сын Аўген) выехалі на эміграцыю. Дапамагалі ў будове царквы Сьв. Еўфрасіньні ў Рэгэнсбургу. Сын Аўген быў актыўным вернікам у парафіі Сьв. Еўфрасіньні ў Саўт Рывэры.

*Касьцючэнка* – сьвятар Менскай епархіі, удзельнік аднаўленьня БАПЦ (Менск, 1927).

*Д. Паўскі* (Дзімітры Паўскі; 1874–1937) – протаіерэй Менскай епархіі, беларускі царкоўны й грамадзкі дзеяч, удзельнік зьезду прадстаўнікоў праваслаўнай гіерархіі, духавенства й вернікаў Менскай епархіі (Менск, 10.7.1927). Прыхільнік аднаўленьня аўтакефаліі БПЦ. Рэпрэсаваны савецкімі ўладамі. Расстраляны.

*М. Навіцкі* (Міхаіл Навіцкі; 2-я палова XIX ст. – пасьля 1930) – протаіерэй Менскай епархіі, беларускі царкоўны й грамадзкі дзеяч. Прыхільнік аднаўленьня аўтакефаліі БПЦ. Браў удзел у зьезьдзе прадстаўнікоў праваслаўнай гіерархіі, духавенства й вернікаў Менскай епархіі (Менск, 10.7.1927). Рэпрэсаваны савецкімі ўладамі.

*А. Пігулеўскі* (Антоні (й) Пігулеўскі) – псаломшчык Менскай епархіі, беларускі царкоўны дзеяч. Удзельнік зьезду прадстаўнікоў праваслаўнай гіерархіі, духавенства й вернікаў Менскай епархіі (Менск, 10.7.1927). Прыхільнік аднаўленьня аўтакефаліі БПЦ. Рэпрэсаваны савецкімі ўладамі.

*Мікалай* (Шэмеціла; 1877 – 1933) – епіскап Слуцкі, беларускі царкоўны дзеяч. Удзельнік зьезду прадстаўнікоў праваслаўнай гіерархіі, духавенства й вернікаў Менскай епархіі (Менск, 10.7.1927). Прыхільнік аднаўленьня аўтакефаліі БПЦ. Рэпрэсаваны савецкімі ўладамі.

*Іаан* (Пашын; 1883 – пасьля 1932) – епіскап Мозырскі, беларускі царкоўны дзеяч. Удзельнік зьезду прадстаўнікоў праваслаўнай гіерархіі, духавенства й вернікаў Менскай епархіі (Менск, 10.7.1927). Прыхільнік аднаўленьня аўтакефаліі БПЦ. Рэпрэсаваны савецкімі ўладамі.

*Філарэт* (сьвецкае імя Феадосі Раменскі; 1880 – 1937) – епіскап Бабруйскі, беларускі царкоўны й грамадзкі дзеяч. Прыхільнік аднаўленьня аўтакефаліі БПЦ. Адзін зь ініцыятараў і арганізатараў зьезду прадстаўнікоў праваслаўнай гіерархіі, духавенства й вернікаў Менскай епархіі (Менск, 10.7.1927). Рэпрэсаваны савецкімі ўладамі. Расстраляны.

*Патрыярх Ціхан* (сьвецкае імя Василий Белавин; 1865 – 1925) – патрыярх Маскоўскі і Ўсяе Русі (зь лістапада 1917). Востра крытыкаваў бальшавіцкую ўладу, за што неаднаразова арыштоўваўся. Кананізаваны Расейскай Праваслаўнай Царквой (1989).

*В. Ластоўскі* (Вацлаў Ластоўскі; 1883 – 1938) – беларускі грамадзка-палітычны й культурны дзеяч, гісторык, мовазнавец, бібліяфіл. Рэпрэсаваны савецкімі ўладамі. Расстраляны.

*Ст. Мацкевіч-Цат* (Stanisław Mackiewicz; 1896 – 1966) – польскі грамадзкі й культурны дзеяч, пісьменьнік і публіцыст. У 1939 – 1956 гадох на эміграцыі. Супрацоўнік парыскай „Культуры”.

*„Праваслаўная Беларусь”* – беларускі царкоўна-грамадзкі й палітычны часапіс. Выдаваўся як орган Беларускага Дэмакратычнага Праваслаўнага Аб’яднаньня ад кастрычніка 1927 году ў Вільні. Рэдактар двутыднёвіка – протаіерэй Лука Голад. Выданьне выходзіла нерэгулярна. Выступала за паглыбленьне нацыянальнай самасьвядомасьці беларусаў, падкрэсьлівала патрэбу выкарыстаньня беларускай мовы ў царкве й школе, у грамадзка-палітычным і культурным жыцьці. Рэдакцыя часапісу процістаўлялася старонькам мітрапаліта й яго друкаванаму органу „Народная Ніва”.

*„Съветач Беларусі”* – друкаваны орган Беларускага Цэнтральнага Праваслаўнага Камітэту (БЦПК). Выдаваўся ў Вільні нерэгулярна (1930 – 1933, 1936). Выданьне ў розны час рэдагавалі: З. Зімавец, У. Більдзюкевіч, В. Смаленскі, Я. Бурак. Часапіс асьвятляў дзейнасьць БЦПК, выступаў за беларусізацыю Праваслаўнай Царквы ў Заходняй Беларусі.

*Прот. А. Коўш* (Аляксандр Коўш; 1890 – 1943 ?) – протаіерэй, беларускі царкоўны й грамадзка-культурны дзеяч, публіцыст, рэдактар і выдавец. У міжваенным дваццацігодзьдзі выступаў за беларусізацыю Праваслаўнай Царквы ў Заходняй Беларусі.

*Кола праваслаўных тэалёгаў* – студэнцкі гурток на багаслоўскім факультэце Варшаўскага ўнівэрсытэту (1925 – 1939). У дзейнасьці гуртка актыўны удзел бралі беларусы, украінцы й расейцы. У 1932 – 1933 гадох яго кіраўніком быў студэнт-беларус М. Лапіцкі. Гурток выдаваў свой часапіс „Путь Правды".

*Часапіс „Путь Правды"* – друкаваны орган „Кола праваслаўных тэалёгаў", студэнцкага гуртка, які існаваў на багаслоўскім факультэце Варшаўскага ўнівэрсытэту ў 1925 – 1939 гадох. Выдаваўся ў беларускай, украінскай, польскай і расейскай мовах (Варшава, 1930; 1934).

*Мгр. С. Паўловіч* (Сяргей Паўловіч; 1875 – 1940) – беларускі царкоўны й грамадзка-культурны дзеяч, педагог, пісьменьнік. У міжваеннае дваццацігодзьдзе перасьледаваўся польскімі ўладамі і быў неаднаразова арыштаваны. Аўтар школьных царкоўных падручнікаў і дапаможнікаў.

*Костка-Бэрнацкі* (Władysław Kostek-Biernacki; 1884 – 1957) – палкоўнік, польскі палітычны дзеяч. У 1932 – 1939 гадох – ваявода палескі. Праводзіў жорсткую палітыку ў адносінах да беларускага і ўкраінскага мясцовага насельніцтва.

*Бацянскі* (Ludwik Bociański; 1892 – 1970) – палкоўнік польскага войска, ваявода віленскі (1935 – 1939). У міжваеннае дваццацігодзьдзе быў прыхільнікам жорсткага палітычнага курсу ў адносінах да нацыянальных меншасьцяў, пераважна да беларусаў і ўкраінцаў.

*Архім. Піліп Марозаў* (сьвецкае імя Павел Марозаў; 1890 – 1944 ?) – удзельнік беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі, прыхільнік беларусізацыі Праваслаўнай Царквы ў Заходняй Беларусі ў міжваеннае дваццацігодзьдзе.

*Епіскап Мацьвей* (сьвецкае імя Канстанцін Сямашка; 1894 – 1985) – праваслаўны епіскап Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. У 1938 – 1939 – епіскап Браслаўскі, дапамаговы епіскап Віленскай епархіі. Прыхільнік паланізацыі Праваслаўнай Царквы ў Польшчы. У гады Другой сусьветнай вайны і ў пасьляваенны час праваслаўны капелан Польскіх Збройных Сілаў на Захадзе. Узначальваў Польскую Праваслаўную Царкву за мяжой.

*Молатаў* (Вячеслав Молотов, сапр. Вячеслав Скрябин; 1890 – 1986) – савецкі дзяржаўны й палітычны дзеяч.

*Рыбэнтроп* (Joachim Ribbentrop; 1883 – 1946) – нямецкі дзяржаўны й палітычны дзеяч.

*Арх. Сава* (сьвецкае імя Георгий Саветов; (1898 –1951) – праваслаўны архіепіскап; афіцэр Расейскай (белай) Дабраахвотніцкай Арміі. З 1926 году ў Польшчы. У 1932 – 1937 – епіскап Люблінскі (вікарый Варшаўска-Холмскай епархіі); у 1937 – 1939 – епіскап Гродзенскі. У гады Другой сусьветнай вайны узначальваў праваслаўнае душпастырства ў II корпусе генэрала Ул. Андэрса. У пасьляваенны час – на эміграцыі, дзе атрымаў годнасьць архіепіскапа. Служыў у структурах Польскай Праваслаўнай Царквы за мяжой.

*Арх. Феадосі* (сьвецкае імя Николай Феодосьев; 1864 –1943) – праваслаўны архіепіскап. У 1903 – 1905 гадох – дапамаговы епіскап ў Ноўгарадзе; у 1908 – 1921 – епіскап Смаленскі (з 1918 – архіепіскап); у 1921 – 1923 – епіскап Адэскі. У міжваеннае дваццацігодзьдзе – архіепіскап Віленскі й Лідзкі (1923 – 1940).

*Мітрапаліт Сяргей* (сьвецкае імя Дмитрий Воскресенский; 1897 – 1944) – расейскі царкоўны дзеяч. З 1933 – епіскап Каломенскі. Напрыканцы 1940 году прызначаны мітрапалітам Віленскім і Літоўскім, экзархам Маскоўскай Патрыярхіі на Латвію й Эстонію.

*Елеферы* (Элеферы; сьвецкае імя Богоявленский; ? – 1940) – праваслаўны гіерарх, епіскап Ковенскі (1913 –1914), архіепіскап Віленскі, мітрапаліт (1921 – 1922). Звольнены польскімі ўладамі за варожыя адносіны да аўтакефаліі Праваслаўнай Царквы ў Польшчы й за прыхільнасьць да Маскоўскай Патрыярхіі.

*Арх. Панцялейман* (сьвецкае імя Павел Ражноўскі; 1867 – 1950) – мітрапаліт Менскі і Ўсяе Беларусі (1942). Узначальваў епіскапат СБАПЦ. На працягу сваёй сьвятарскай дзейнасьці выступаў супраць ідэі аўтакефаліі паасобных нацыянальных цэркваў. Зь лета 1944 – у Нямеччыне. Адзін зь ініцыятараў і гарачых прыхільнікаў пераходу епіскапату СБАПЦ у Расейскую Зарубежную Праваслаўную Царкву (студзень – люты 1946).

*Мітр. Мікалай* (Борис Ярушевич; 1892 – 1961) – расейскі царкоўны дзеяч, мітрапаліт, гіерарх Маскоўскай Патрыярхіі. Браў удзел у вядомым спатканьні гіерархаў Расейскай Праваслаўнай Царквы зь І. Сталінам і В. Молатавым.

*Арх. Венэдыкт* (сьвецкае імя Васіль Бабкоўскі; 1876 – 1951) – архіепіскап Гарадзенскі й Беластоцкі СБАПЦ (з красавіка 1942). Зь лета 1944 – на эміграцыі ў Заходняй Нямеччыне. У студзені – лютым 1946 году зь епіскапатам СБАПЦ далучыўся да РЗПЦ. Кіраваў епархіяй РЗПЦ у Нямеччыне.

*а. Іван Кушнер* (Іаан Кушнер; 1908 – 1943) – праваслаўны сьвятар, беларускі царкоўны й грамадзкі дзеяч. Адзін з арганізатараў і ўдзельнікаў Усебеларускага Царкоўнага Сабору ў Менску (30.8.–2.9.1942). Прыхільнік аўтакефаліі БПЦ.

*а. Н. П.* – за крыптанімам а. М. Лапіцкі схаваў імя й прозьвішча а. Нікіфара Пыска, зь якім браў удзел ва Ўсебеларускім Царкоўным Саборы ў Менску (30.8.–2.9.1942).

*Р. Астроўскі* (Радаслаў Астроўскі; 1887 – 1976) – беларускі палітычны й грамадзкі дзеяч, прэзыдэнт БЦР. Быў нязьменным прыхільнікам ідэі аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы на кананічных асновах.

*Арх. Філафей* (сьвецкае імя Уладзімер Нарко; 1905 – 1986) – епіскап Магілёўскі й Мсьціслаўскі (1942), архіепіскап СБАПЦ, беларускі царкоўны дзеяч. Адзін з арганізатараў і ўдзельнікаў Усебеларускага Царкоўнага Сабору (Менск, 30. 8. – 2. 9.1942). Зь лета 1944 году – на эміграцыі. У студзені – лютым 1946 году зь епіскапатам СБАПЦ далучыўся да РЗПЦ. Служыў вікарыем епархіі РЗПЦ у Нямеччыне.

*Арх. Афанасій* (архіепіскап Апанас, сьвецкае імя Антон Март(а)с; 1904 – 1983) – епіскап Віцебскі й Полацкі (1942), беларускі царкоўны й культурны дзеяч. Зь лета 1944 году – на эміграцыі ў Нямеччыне. Выступаў супраць пераходу епіскапату СБАПЦ у РЗПЦ, але ня выйшаў зь яго складу. Сынодамі РЗПЦ быў вызначаны архіепіскапам ў Аргентыну й Аўстралію. Дасьледаваў гісторыю Беларускай Праваслаўнай Царквы.

*Арх. Сьцяпан* (сьвецкае імя Сямён Сеўба; 1872 –1965) – епіскап Бранскі й Смаленскі СБАПЦ (1943). Зь лета 1944 – на эміграцыі. У студзені – лютым 1946 году зь епіскапатам СБАПЦ перайшоў у РЗПЦ, дзе атрымаў годнасьць і пасаду епіскапа Венскага й Зальсбурскага.

**Вунія й змаганьне за чысьціню праваслаўя**

с. 179

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 – 2 (12), Саўт Рывэр 1962; № 3 – 4 (13), 1963; № 4 – 5 (14 –15), 1964; №1 (16), 1967; №1 (17), 1968; №1 (18), 1969; №1 (19), 1970; №1 (20), 1971. Подпісы – *Ф – дар Банадысяў, Ф. Банадысяў.*

У артыкуле шырока выкарыстаны паасобныя фрагмэнты з магістэрскай працы а. М. Лапіцкага „Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы". Гэта акалічнасьць дазволіла расшыфраваць псэўданім і выявіць сапраўднага аўтара публікацыі.

У нумары №1(16) рэдакцыя зьмясьціла наступную ўвагу: „Папраўка. У папярэднім нумары „Царкоўнага Сьветача" [№ 3 – 4 (13)] у артыкуле „Вунія й змаганьне за чысьціню праваслаўя" з прычыны карэктарскага недагляду ўкраліся памылкі: на бал. 22 напісана: „А. Зізані ўдзельнічаў у Кіяве...", а павінна быць: Л. Зізані ўдзельнічаў...; напісана: „А. Зізані напачатку быў настаўнікам...", а трэба: „С. Зізані напачатку быў настаўнікам".

*Юстын Філёзаф* (каля 100 – каля 165) – старажытны філёзаф, апалагет раньняга хрысьціянства, сьвяты, пакутнік.

*Клімент Александрыйскі* (Titus Flavius, Clemens; каля 150 – перад 215) – айцец Царквы, філёзаф, апалагет.

*Мікалай Радзівіл Чорны* (1515 – 1565) – дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Канцлер літоўскі (з 1550). У сярэдзіне 1550-х гадоў з каталіцызма перайшоў у кальвінізм. Выступаў супраць вуніі ВКЛ з Рэччу Паспалітай.

*Леў Сапега* (1557 – 1633) – дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Канцлер ВКЛ (з 1589), гэтман ВКЛ (з 1625).

*Пётр Скарга* (сапр. Павенскі; люты 1536 – 1612) – царкоўны й палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, прапаведнік, езуіт. Выступаў супраць рэфармацыі й рэлігійнай талеранцыі. Ініцыятар і ідэоляг Брэсцкай вуніі 1596 году. Рэктар Віленскай акадэміі (1579 – 1584).

*В. Пратасевіч* (сапр. Валер'ян Пратасевіч-Шышкоўскі; каля 1509 – 1579) – дзяржаўны й рэлігійны дзеяч ВКЛ. Выступаў за аб'яднаньне ВКЛ з Рэччу Паспалітай выключна на фэдэрацыйных прынцыпах. Адзін зь ініцыятараў адкрыцьця Віленскага езуіцкага калегіума (1570).

*Іпацій Пацей* (сьвецкае імя Адам Львовіч; 1541 – 1613) – беларускі царкоўны й дзяржаўны дзеяч. У 1599 – 1613 гадох – вуніяцкі мітрапаліт Кіеўскі і Ўсяе Русі. Адзін з галоўных ініцыятараў Брэсцкай вуніі 1596 году. Аўтар палемічных твораў на старабеларускай і польскай мовах.

*В. Руцкі* (Іосіф Вільямін Руцкі, сьвецкае імя Іван Феліксавіч; 1573 ці 1574 – 1673) – вуніяцкі царкоўны дзеяч ВКЛ, беларускі пісьменьнік. Адзін зь ініцыятараў стварэньня асобнай літоўска-беларускай вуніяцкай патрыярхіі.

*Марахоўскі* (Ільля Марахоўскі, сьвецкае імя Іpaxім Стафанавіч; каля 1576 – 1631) – палітычны й царкоўны дзеяч (вуніят), пісьменьнік-палеміст.

*Кунцэвіч* (Язафат, Ясафат, Іясафат Кунцэвіч; 1580 – 1623) – вуніяцкі царкоўны дзеяч. Адзін са стваральнікаў ордэну базыльянаў. Пашыраў вунію сярод праваслаўных, ужываючы таксама й адмоўныя сродкі. Аўтар палемічных твораў на старабеларускай і польскай мовах.

*Сыгізмунд III* (Zygmunt III Waza; 1566 – 1632) – кароль польскі й вялікі князь ВКЛ (1587 – 1632), кароль Швэцыі (1592 – 1599), ультракаталік. Змагаўся з рэфармацыяй.

*Шчасны – Жэброўскі* (Feliks Żebrowski-Szczęsny; ? – 1613) – ксёндз, аўтар праезуіцкіх палемічных твораў.

*Хрыстафор Філялет* ( першая палова XVI ст. – пачатак XVII ст.) – псэўданім беларускага і ўкраінскага пісьменьніка-палеміста. Выступаў супраць Брэсцкай вуніі (1596). Дасьледчыкі прыпісваюць гэты псэўданім валынскаму шляхціцу-пратэстанту Марціну Бранеўскаму.

*Уладыслаў VI* (Władysław VI Waza; 1595 – 1648) – польскі кароль, сын Сыгізмунда II Вазы.

*Пётр Магіла* (1597 – 1647) – праваслаўны царкоўны й культурны дзеяч Рэчы Паспалітай. Аднавіў Кіеўскую мітраполію з рэзыдэнцыяй у Кіеве. Мітрапаліт Кіеўскі й Галіцкі (1632 – 1647). Бараніў інтарэсы праваслаўнай гіерархіі й шляхта на Ўкраіне й Беларусі. Выступаў супраць Брэсцкай царкоўнай вуніі (1596). Спрыяў пашырэньню асьветы й друкарства.

*Пахом Война-Аранскі* (? – 1653) – царкоўны дзеяч, базыльянін, архімандрыт Жыдычынскі. У 1636 – 1652 гадох – генэрал закону, вуніяцкі епіскап Пінскі (1637).

*Аляксандр Пузына* (у манастве – Апанас; ? – 1650) – царкоўны дзеяч, спачатку – вуніят, пазьней – праваслаўны епіскап Луцкі й Астрожскі.

*Ерымея Тысарэўскі* (сьвецкае імя Яўстафій; ? – 1641) – украінскі царкоўны дзеяч, епіскап Львоўскі (з 1607), экзарх Канстантынопальскага Патрыярхату.

*М. Сматрыцкі* (Мялеці Сматрыцкі, сьвецкае імя Максім Герасімовіч; 1577 – 1665) – грамадзка-палітычны й царкоўны дзеяч, беларускі і ўкраінскі пісьменьнік-палеміст.

*Мітрапаліт Сямашка* (Іосіф Сямашка; 1799 – 1868) – царкоўны дзеяч, вуніяцкі епіскап Літоўскі (1833 –1838). Перайшоў у праваслаўе. Ад 1840 году – праваслаўны епіскап Віленскі. Кіраваў акцыяй ліквідацыі вуніі на Беларусі.

*У. Завітневіч* ( Уладзімер Завітневіч; 1853 – 1927) – беларускі гісторык, археолаг. Доктар царкоўнай гісторыі (1897).

*З. Капысьцінскі* (Захарый Капысьцянскі; ? – 1627) – украінскі пісьменьнік-палеміст, грамадзка-культурны й царкоўны дзеяч. Архімандрыт Кіева-Пячэрскай Лаўры (з 1624). Выступаў супраць Брэсцкай вуніі (1596).

*Лаўрын Зізаній* (сапр. Тустаноўскі; паміж 1550 і 1560 – каля 1634) – беларускі царкоўны дзеяч, педагог, пісьменьнік і перакладчык. Брат С. Зізанія.

*Сьцяпан* Зізаній (сапр. Тустаноўскі; каля 1570 – ?) – беларускі царкоўны дзеяч, педагог і пісьменьнік. Брат Л. Зізанія.

*Сыльвестр Косаў* (канец XVI ст. – 1657) – праваслаўны царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай, пісьменьнік-палеміст.

*Арх. Антон С(е)лява* (сьвецкае імя Афанасій; 1583 – 1655) – вуніяцкі царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай.

*Багдан Хмяльніцкі* (каля 1595 – 1657) – гэтман Запарожскага войска, заснавальнік Казацка-гэтманскай дзяржавы (1648 – 1782).

*Януш Радзівіл* (1612 – 1655) – дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Гэтман польны (з 1646), гэтман вялікі (з 1654). Выступаў супраць польскіх уплываў у ВКЛ. Праціўнік Каталіцкай Царквы й інквізіцыі.

*Мірскі* – маецца на ўвазе Грыгоры Мірскі (? – 1661) – палкоўнік, першы стражнік літоўскі (з 1635). Удзельнік войнаў з туркамі, расейцамі, а таксама бітваў з казакамі.

*Валовіч* (Аўстафій Валовіч; каля 1529 – 1587) – дзяржаўны дзеяч ВКЛ, праціўнік аб'яднаньня ВКЛ з Рэччу Паспалітай. Адзін з арганізатараў падрыхтоўкі Статута ВКЛ.

*Ян Казімір* (1609 – 1672) – кароль польскі (1648 – 1668). Паходзіў з швэдзкай дынастыі Вазаў. Ваяваў з казакамі й Масквой.

*Аляксей Міхайлавіч* (1629 – 1676) – расейскі цар, сын цара Міхаіла Фёдаравіча.

*Іван Грозны* (Іван IV Васільевіч Грозны; 1530 – 1584) – вялікі князь Усяе Русі (з 1533), першы расейскі цар (з 1547).

*Перамір у Андрусаве* – Андросаўскае перамір'е (1667), якім закончылася вайна Расеі з Рэччу Паспалітай.

*Сымон Сітнякевіч* (Сімяон Полацкі, сьвецкае імя Самуіл Пятроўскі-Сітніяновіч; 1629 – 1680) – беларускі рэлігійны й грамадзкі дзеяч, педагог, паэт, драматург, перакладчык. Прыхільнік ідэі ўз'яднаньня хрысьціян пад духоўным апякунствам Рымскага папы й пад дзяржаўным патранатам маскоўскага цара.

*Леў Кішка* (1668 – 1728) – вуніяцкі царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай, рэлігійны пісьменьнік і перакладчык. У 1714 – 1728 – мітрапаліт Кіеўскі й Галіцкі.

*Урбан VIII* (Mateo Barberini; 1568 – 1644) – папа Рымскі (з 1623). Акрэсьліў прынцыпы кананізацыйнага працэсу (1634) і барацьбы зь ерасьсю. У часе яго пантыфікату адбыўся працэс Галілея (1633).

*Аўгуст II* (1670 – 1733) – польскі кароль з дынастыі Веттынаў (1697 – 1706).

*Солтык* (Kajetan Ignacy Sołtyk; 1715 – 1788) – польскі рэлігійны й грамадзкі дзеяч, канонік гнезьненьскі й кракаўскі. Праціўнік польскага караля Станіслава Аўгуста й рэформаў.

*Епіскап Белазор* (Маркіян Белазор; 1629 – 1707) – базыльянін, епіскап Пінскі (1667 – 1697). У 1697 – 1707 гадох – архіепіскап Полацкі.

*Князь Сьвятаполк Чэтвертыньскі* – маецца на ўвазе Стафан Сыльвестр Сьвятаполк-Чэтвертыньскі (? – 1727) – праваслаўны епіскап Беларускі.

*Юры (Рыгор) Каніскі* (1717 – 1795) – беларускі і ўкраінскі царкоўны й грамадзкі дзеяч, пісьменьнік. Настойліва й пасьлядоўна бараніў інтарэсы праваслаўнага духавенства й вернікаў. Ініцыятар адкрыцьця Магілёўскай духоўнай сэмінарыі.

*Феафан Пракаповіч* (1681 – 1736) – расейскі царкоўны дзеяч і пісьменьнік.

*Кацярына II* (сапр. Сафія-Фрэдэрыка-Аўгуста; 1729 – 1796) – расейская імператрыца (з 1762). Спрычынілася да трох падзелаў Рэчы Паспалітай.

## Разьдзел III • Chapter III
## Публіцыстыка • Articles

**Паломніцтва студэнтаў багаслоўскага факультэту Варшаўскага ўнівэрсытэту ў Сьвятую Ўсьпенскую Пачаеўскую Лаўру.**

с. 209

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Путь Правды", № 2, Варшава, 1934. Подпіс – *Мікалай Лапіцкі.*

*Прэпадобны Іоў* (? – 1651) – настаяцель Дубенскага манастыра. Каля 1608 году ў сувязі зь перасьледам з боку каталікоў і вуніятаў перасяліўся ў Пачаеўскі манастыр. Памёр у 1651 годзе. Яго мошчы знайшлі нятленнымі ў 1698 годзе.

*Архіепіскап Антоній* (сьвецкае імя Алексей Храпавицкий; 1864 – 1936) – праваслаўны мітрапаліт, расейскі царкоўны й грамадзкі дзеяч. З 1918 – мітрапаліт у Кіеве. Востра выступаў супраць украінскага нацыянальнага руху.

**За Беларускую Царкву**

с. 213

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", № 1, Саўт Рывэр, 1951. Тэкст бяз подпісу.

Публікацыя – перадавы артыкул, у якім а. М. Лапіцкі акрэсьліў галоўныя мэты выданьня часапісу й яго магістральны кірунак.

*Часапіс „Царкоўны Сьветач"* – беларускі царкоўна-грамадзкі часапіс, друкаваны орган Беларускага Праваслаўнага Царкоўнага Камітэту ў Амэрыцы. Выдаваўся ў 1951 – 1988 у Саўт Рывэры (Нью Джэрзі). Часапіс рэдагавалі а. М. Лапіцкі (1951 – 1976), а. С. Коўш (1976 – 1987) і а. М. Брынкевіч (1988). Выданьне асьвятляла царкоўнае жыцьцё беларускіх праваслаўных парафій у юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярхату. Друкавала сьвяточныя архіпастырскія пасланьні й звароты. Публікавала матар'ялы зь гісторыі хрысьціянства на Беларусі, інфармавала пра падзеі ў царкоўным і грамадзка-культурным жыцьці беларускай дыяспары ў Паўночнай Амэрыцы і ў сьвеце. Часапіс меў дзьве сталыя рубрыкі (царкоўная хроніка, зь беларускага жыцьця). Зьмяшчаў літаратурныя творы класікаў беларускай літаратуры й пісьменьнікаў-эмігрантаў. Меў свой выдавецкі фонд. Друкаваў сьпісы ахвярадаўцаў на пабудову царквы імя Св. Еўфрасіньні Полацкай і Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру, а таксама фінансавыя справаздачы.

**Сьвятая Еўфрасіньня Полацкая**

с. 214

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1, Саўт Рывэр, 1951. Подпіс – *Прот. Мікалай Лапіцкі.*

*Князь Сьвятаслаў-Юры* – князь полацкі, сын Усяслава Брачыслававіча, бацька князёўны Прадславы (у манаскім жыцьці Еўфрасіньні Полацкай).

*Усяслаў Чарадзей* (Усяслаў Брачыслававіч; ? – 1101) – князь полацкі (1044 – 1101).

**Memorial Day**

с. 216

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1, Саўт Рывэр, 1951. Подпіс – *Духоўнік.*

*Memorial Day* – Дзень Памяці. Сьвята пачало адзначацца 30 травеня як Дзень Памяці жаўнераў, палеглых у Грамадзянскую вайну паміж штатамі (1861 – 1865). Паступова трансфармавалася ў сьвята ўшанаваньня памяці ўсіх палеглых за краіну. Ад 1971 году – амэрыканскае нацыянальнае сьвята, якое адзначаецца ў апошні панядзелак травеня. У гэты дзень адбываюцца спэцыяльныя багаслужбы, парады, фэстывалі, а месцы пахаваньня жаўнераў на ўсіх могілках упрыгожваюцца маленькімі нацыянальнымі сьцяжкамі. Беларуская грамада прымае дзейны ўдзел у адзначэньні сьвята.

*Беларускі Армейскі Корпус* – магчыма маецца на ўвазе Беларускі Корпус Самаахвоы (БКС), які пачаў ствараца летам 1942 году Беларускай Народнай Самапомаччу. Па сваёй структуры БКС меркаваўся складацца з трох дывізій. Удалося стварыць 20 батальёнаў. Вясною 1943 году БКС быў расфарміраваны нямецкімі акупацыйнымі ўладамі.

*Слуцкія паўстанцы* – кіраўнікі і ўдзельнікі Слуцкага фронту БНР (лістапад 1920 – сакавік 1921). Зь ліку паўстанцаў былі створаны Першы Беларускі Слуцкі Полк і Другі Беларускі Грозаўскі Полк, якія ўвайшлі ў склад Першай Беларускай Слуцкай Дывізіі. Пасьля зацятых баёў з 16-й бальшавіцкай арміяй 28 сьнежня Слуцкая Дывізія вымушана была перайсьці на польскую тэрыторыю, дзе была расфарміравана польскімі ўладамі.

*Вяліжскія паўстанцы* – удзельнікі аднаго зь першых стыхійных антыбальшавіцкіх паўстаньняў на Беларусі (верасень – лістапад 1918). Паўстаньне ахапіла Вяліжскі павет Віцебскай губэрні, а таксама большую частку Бельскага й Парэцкага паветаў Смаленскай губэрні. Было падаўлена бальшавіцкімі ўладамі.

*Картуская Бяроза* – мясцовасьць на Беларусі (Палесьсе) над ракой Ясельдай, дзе ў 1934 –1939 гадох існаваў канцэнтрацыйны лягер, створаны польскімі ўладамі пасьля забойства міністра Б. Перацкага. Быў прызначаны для асобаў, якія пагражалі публічнаму парадку. У рэальнасьці галоўнымі вязьнямі ў лягеры былі камуністы, а таксама беларускія і ўкраінскія нацыянальныя актывісты.

*Лукішскія муры* – маецца на ўвазе турма на Лукішках у Вільні, праз якую прайшло не адно пакаленьне дзеячаў і ўдзельнікаў беларускага нацыянальнага руху.

*Сьвяты Крыж* – размова, відаць, ідзе пра сумнавядомую турму ў Вронках (Wronki), недалёка мясцовасьці Крыж (паміж Познаньню й Шчэцінам). Там быў зьняволены заходнебеларускі царкоўны дзеяч а. А. Коўш.

*Бітвы пад Нарвікам, Тобрукам, Монтэ Касіна* – бітвы аліянцкіх войскаў супраць збройных сілаў нацыскай Нямеччыны ў гады Другой сусьветнай вайны (1939–1945), у якіх бралі ўдзел беларусы.

**Аб згодзе рэлігійнай**
с. 218

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", № 2 (3), Саўт Рывэр, 1952. Тэкст бяз подпісу.

*Язэп Каранеўскі* – псэўданім Ст. Станкевіча, рэдактара газэты „Бацькаўшчына".

*„Бацькаўшчына"* – беларуская эміграцыйная газэта. Выдавалася ў Мюнхэне (1947 – 1966). Зьмяшчала матар'ялы, прысьвечаныя грамадзка-палітычнаму, культурнаму й літаратурнаму жыцьцю. Ад сакавіка 1962 году друкавала штомесячны дадатак для дзяцей „Каласкі". Пры газэце існавала выдавецтва, якое выпускала беларускую літаратуру.

*Кардынал Тысэран* (Eugene Tisserant; 1884 – 1972) – каталіцкі рэлігійны дзеяч, кардынал (з 1931). У 1936 – 1959 гадох – прэфэкт кангрэгацыі для Ўсходніх Цэркваў. Сябра Францускай Акадэміі, навуковец-арыенталіст. Высьвяціў Беларускі Студэнцкі Дом у Лювэне.

*Айцец Робэрт ван Каўвэлярт* (1906 – 1986) – манах-бэнэдыктынец, рэлігійны й грамадзка-культурны дзеяч беларускай дыяспары ў Бэльгіі. Сакратар Дапамаговага Камітэту беларускіх студэнтаў (1949). Ад пачатку 50-х гадоў – адміністратар беларускіх студэнтаў у Лювэнскім унівэрсытэце. Спрыяў арганізацыі ў Лювэне прыходу БАПЦ.

*Тамашчык* (архіепіскап Васіль, сьвецкае імя Ўладзімер Тамашчык; 1900 – 1970) – беларускі рэлігійны й грамадзкі дзеяч. З 1944 – на эміграцыі. Епіскап БАПЦ (з 1949). У 1951 годзе абраны адміністратарам БАПЦ у ЗША, Канадзе й Заходняй Эўропе. З 2-й паловы – у ЗША, дзе зарганізаваў царкоўна-рэлігійны й адміністрацыйны цэнтр епіскапату БАПЦ у Паўночнай Амэрыцы. Сябра Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Чытаў малітвы ў Кангрэсе ЗША ў сувязі з угодкамі абвяшчэньня БНР.

**У імя праўды**

с. 220

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (4), Саўт Рывэр, 1953. Подпіс – *Протаіерэй Мікалай Лапіцкі.*

Да публікацыі а. М. Лапіцкага рэдакцыя далучыла наступныя ўвагі:

Ад рэдакцыі:

Да выясьненьня а. прот. Лапіцкага нам няма чаго дадаць: яно гаворыць само за сябе. З свайго боку паясьняем, што часапіс „Царкоўны Сьветач" зьяўляецца грамадзка-рэлігійным выданьнем, у якім а. Лапіцкі карыстаецца роўным зь іншымі сябрамі рэдакцыйнае калегіі голасам. Беларускі Праваслаўны Царкоўны Камітэт у Амэрыцы й ягоны афіцыйны часапіс „Царкоўны Сьветач" змагаюцца за выразную мэту – аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы на здаровых кананічных пачатках. Гэта – мэта, да якое мы імкнемся й якую, верым, разам з высілкам усяго беларускага народу асягнем.

Нам абыякава, што пра нас думаюць людзі тыпу сп. Аўтакефалістага ды тыя, што зь ім. Іх пісаньне гаворыць за іх саміх: гэта людзі прыпадковыя ў царкоўным агародзе, людзі, якія прабуюць царкву падпарадкаваць выразным палітыканскім мэтам. Але Сьвятая Праваслаўная Хрыстовая Царква за дзьве тысячы год яе існаваньня спазнала шмат спакусаў ды супрацьставілася ім. Дарэмна трудзяцца людзі тыпу сп. Аўтакефалістага: хлусьня пра барацьбітоў за Беларускую Праваслаўную Аўтакефальную Царкву ляжа ганьбай на творцаў гэтае хлусьні. Мы-ж паўторым за псальмапеўцам Давідам: „Загарадзі вусны гаворачых няпраўду".

*Газэта „Беларус"* – газэта беларускай дыяспары. Выдаецца ў Нью Ёрку з 1950 году як друкаваны орган Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Асьвятляе жыцьцё беларускай дыяспары ў сьвеце, публікуе матар'ялы зь гісторыі і культуры Беларусі, творы беларускай літаратуры. Рэдактары выданьня: Я. Запруднік (1980 –1991), З. Кіпель (1991), Л. Юрэвіч (1999), М. Клакоцкі (з 2001).

*Беларускі Праваслаўны Царкоўны Камітэт у Амэрыцы* – беларуская царкоўная арганізацыя, пакліканая 23 лістапада 1950 г. на зьезьдзе праваслаўных беларусаў у Саўт Рывэры.

*Уладзімер Брылеўскі* (1917 –2002) – беларускі грамадзка-культурны й царкоўны дзеяч, публіцыст. Абраны старшынёй Беларускага Праваслаўнага Царкоўнага Камітэту ў Амэрыцы (лістапад 1950). Садзейнічаў арганізацыі беларускіх праваслаўных парафій у юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярхату. Супрацоўнічаў з парыскай „Культурай".

*Сьвятаслаў Коўш* (1916 – 1997) – беларускі грамадзкі й царкоўны дзеяч, рэдактар, выдавец і публіцыст. Сын беларускага царкоўнага дзеяча а. А. Каўша. Скончыў Віленскую Беларускую Гімназію й факультэт права на ўнівэрсытэце Стафана Баторага ў Вільні. Рукапаложаны ў сан дыякана (28.7.1938). У гады Другой сусьветнай вайны зьвязаны зь беларускімі грамадзкімі арганізацыямі. З 1944 – у эміграцыі. Камандант беларускага лягера ДП у Ватэнштэце. У 1949 годзе выехаў у ЗША. Служыў настаяцелем беларускага прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гілл (Нью Ёрк, 1969 –1977) і ў прыходзе Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры (Нью Джэрзі, 1977 – 1986). Сябра Епархіяльнай Рады Беларускай Праваслаўнай Царквы Паўночнай Амэрыкі й Канады (з 1970). Пасьля 1976 году – рэдактар часапіса „Царкоўны Сьветач". Адміністратар беларускіх праваслаўных прыходаў ЗША й Канады ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярхату (1977), протапрэсьвіцер.

*Аўтакефалісты* – мяркуецца, што цытаваную а. М. Лапіцкім публікацыю такім псэўданімам падпісаў архіепіскап Васіль (?).

*епіскап Вячаслаў* – маецца на ўвазе еп. Вячаслаў (Лісіцкі), адзін зь гіерархаў УАПЦ (Сабораправўнай) на Захадзе. Паўторна хіратанізаваны ў Сьвята-Пакроўскім саборы ў Нью Ёрку (1951).

*Беларуская Гімназія імя Янкі Купалы* – беларуская навучальная ўстанова, арганізаваная ў паваеннай Нямеччыне: Рэгэнсбург (1945 – 1946), Міхэльсдорф (1946 – 1948), Віндышбэргэрдорф (1948 – 1949), Розэнгайм (1949 – 1950). Дырэктар гімназіі – Аляксандр Орса. Адпавядала нямецкай асьветнай сыстэме (8-клясавая школа тыпу рэальнай гімназіі з навучаньнем лаціны). Пасьля разьдзелу беларускага лягеру ДП ў Міхэльсдорфе („крывічы" выехалі ў Віндышбэргэрдорф, а „зарубежнікі" засталіся ў Міхэльсдорфе). Тая частка вучняў і настаўнікаў, што засталіся ў Міхэльсдорфе, таксама называліся Беларуская Гімназія імя Янкі Купалы. Дырэктарам гэтае гімназіі быў а. М. Лапіцкі.

*Др Грынкевіч Ст.* (Станіслаў Грынкевіч; 1912 – 1966) – беларускі грамадзка-палітычны дзеяч у ЗША, др мэдыцыны. Скончыў унівэрсытэт у Бэрліне.

*Савёнак* (Лявон Савёнак; 1897 – 1974) – беларускі грамадзкі й культурны дзеяч, пісьменьнік, журналіст, публіцыст. Муж Апалёніі Радкевіч, бацька Зоры Кіпель. У 30-я гады абвінавачаны ў „нацдэмаўшчыне" звольнены з працы, арыштаваны й высланы за межы Беларусі (Сібір, Комі АССР). Вярнуўся на Беларусь у 1939 годзе. У гады Другой сусьветнай вайны працаваў у рэдакцыі „Беларуская Газэта" (Менск, 1941 – 1944). З 1944 – на эміграцыі (Нямеччына). Л. Савёнак, Ст. Грынкевіч былі інтэрнаваныя амэрыканцамі ў 1945 – 1946 гадох. Яны вытлумачылі, што былі народжанымі не ў СССР і іх выпусьцілі. Айцец М. Лапіцкі актыўна дапамагаў вызваленьню таксама й іншых беларусаў зь лягероў для інтэрнаваных асобаў. Л. Савёнак браў чынны ўдзел у Радзе БНР і ў арганізацыі БАПЦ (Канстанц, 1948). Працаваў дырэктарам беларускай гімназіі у лягеры ДП у Остэргофэне. Супрацоўнік рэдакцыі газэты „Бацькаўшчына". З 1950 – у ЗША. Адзін зь ініцыятараў стварэньня Камітэту Незалежнай Беларусі, сябра Цэнтральнага Камітэту Аб'яднаньня Беларускіх Нацыянал-Дэмакратаў.

*Віцьбіч* (інш. псэўд. Стукаліч, Крыжаніч; сапр. Серафім Шчарбакоў; 1905 – 1975) – беларускі грамадзкі й культурны дзеяч, пісьменьнік. У гады Другой сусьветнай вайны браў удзел у беларускім грамадзкім жыцьці. Зь лета 1944 – на эміграцыі. Адзін зь ініцыятараў стварэньня літаратурнага аб'еднаньня „Шыпшына" (Нямеччына, 1945 –1947). Сумесна з а. М. Лапіцкім рэдагаваў і выдаваў беларускі царкоўны часапіс „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі" (Нямеччына, 1946 – 1947). Напачатку 50-х гадоў выехаў у ЗША. Супрацоўнічаў зь беларускім грамадзка-культурнымі й навуковымі арганізацыямі. Публікаваў свае літаратурныя творы на старонках беларускіх эміграцыйных выданьняў.

*Беларускі (Крывіцкі) Цэнтральны Дапамаговы Камітэт* – арганізацыя, утвораная ў 1946 годзе на зьезьдзе прадстаўнікоў ад беларусаў Амэрыканскай, Ангельскай і Французскай акупацыйных зонаў Нямеччыны.

*арх. Сяргей* (сьвецкае імя Ягор Ахатэнка; 1890–1971) – украінскі й беларускі царкоўны дзеяч, епіскап УАПЦ. Першагіерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. На Першым Саборы (Канстанц, 1948) абраны ў склад Часовага кіраўніцтва й Кансісторыі БАПЦ. У 1950 годзе пераехаў у Аўстралію, дзе спрычыніўся да канфлікту ў Грэцкай Царкве ў Аўстраліі й Новай Зеландыі. У апошнія гады жыцьці не прымаў актыўнай дзейнасьці ў структурах БАПЦ.

*епіскап Платон* (сьвецкае імя  Артемюк) – украінскі царкоўны дзеяч, адзін зь гіерархаў УАПЦ (Саборапраўнай) на Захадзе. Спрыяў фармаваньню кадрава-адміністрацыйных структур БАПЦ у Заходняй Нямеччыне.

*Мітр. Леонцій* (сьвецкае імя Туркевіч; ? – 1965) – расейскі царкоўны дзеяч, гіерарх Амэрыканскай мітраполіі. Прыхільнік аўтакефальнага статуту Амэрыканскай мітраполіі ў ЗША.

*Мітр. Анастасій* (сьвецкае імя Грибановский; 1874 – 1965) – расейскі царкоўны дзеяч, гіерарах РПЗЦ. Актыўна падтрымоўваў пераход епіскапату БАПЦ у расейскае зарубежніцтва.

*БАПЦ* – Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква беларусаў-эмігрантаў, заснаваная 4 –5.6.1948 году на Першым Саборы БАПЦ ў Канстанцы (Заходняя Нямеччына) пры дапамозе гіерархіі ЎАПЦ. Было заяўлена, што якраз гэтая структура – ёсьць працяг БАПЦ, абвешчанай у 1942 годзе ў Менску й зьліквідаванай Беларускім Епіскапатам праз уваход у Расейскую Зарубежную Царкву ў лютым 1946 году. У склад кіраўніцтва й кансісторыі БАПЦ увайшлі еп. Сяргей (сьвецкае імя Ягор Ахатэнка), 5 сьвятароў і некалькі вернікаў. Пачаткова мела беларускія праваслаўныя парафіі ў Заходняй Эўропе (Нямеччына, Бэльгія, Вялікабрытанія), Аўстраліі (Адэлаіда, Мэльбурн) і ў Паўночнай Амэрыцы. Сёньня праваслаўныя парафіі БАПЦ у асноўным функцыянуюць у ЗША й Канадзе. Гіерархія БАПЦ: арх. Сергій (сьвецкае імя Ягор Ахатэнка; 1890 – 1971), арх. Васіль (сьвецкае імя Ўладзімер Тамашчык; 1900 – 1970), мітрапаліт Андрэй (сьвецкае імя Аляксандр Крыт; 1901 – 1983), архіепіскап Мікалай (сьвецкае імя Міхаіл Мацукевіч; 1917 – 2002), епіскап Аляксандр (сьвецкае імя Салагуб; нар. 1962), епіскап Васіль (сьвецкае імя Віктар Касьцюк; нар. 1971). Адміністрацыйна незалежная ад іншых цэркваў.

*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў ЗША* – заснаванае 31 ліпені 1949 году ў Манхатане (Нью Ёрк) на сходзе беларускага актыву (Я. Станкевіч, М. Гарошка, П. Кажура, Я. Ніхаёнак, М. Дарашэвіч і інш).

*Куліковіч Натальля* (1929 – 1967) – абсальвэнтка Беларускай Гімназіі (другі выпуск), адна зь лепшых яе выпускніц. Пазьней выкладала ў гімназіі ангельскую мову (Віндышбэргэрдорф, 1948 –1949). На пачатку 1950-х выехала настала ў ЗША. Дачка кампазытара М. Шчаглова-Куліковіча.

*Васіль Русак* (1923 – 2000) – грамадзка-культурны дзеяч беларускай дыяспары ў ЗША. Адзін зь вядучых кіраўнікоў БАПЦ. Дзеяч беларускага студэнцкага руху ў ЗША.

*Варонка* (Язэп Варонка; 1891–1952) – беларускі палітычны й дзяржаўны дзеяч, журналіст, публіцыст і выдавец. Старшыня Народнага Сакратарыяту Беларусі (люты – ліпень 1918). Адзін зь ініцыятараў абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). З 1923 – у ЗША, дзе ўзначальваў Беларуска-Амэрыканскую Нацыянальную Асацыяцыю. Выдаваў газэту „Белорусская Трибуна". Пачынальнік беларускага палітычнага руху ў ЗША.

**З выдавецтва**
с. 226

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (7), Саўт Рывэр, 1956. Тэкст бяз подпісу.

Інфармацыя пра выхад кнігі І. Касяка „З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу".

**Адкрыты ліст да беларускай грамадзкасьці айца Мікалая Лапіцкага, протапрэсьвіцера Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Кананічнай Царквы**
с. 227

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Беларускае Слова", № 2 (31), Саўт Рывэр, 1956.

*а. Сіповіч* (Часлаў Сіповіч; 1914 – 1981) – тытулярны біскуп марыямітанскі, марыянін, беларускі рэлігійны й культурны дзеяч, гісторык, культуроляг, перакладчык. Рэктар Беларускай Каталіцкай Місіі ўсходняга абраду ў Вялікабрытаніі (з 1947). Удзельнік II Ватыканскага сабору (1962 – 1965). Генэрал ордэна айцоў-марыянаў (1963 – 1969). Апостальскі візытатар беларусаў-каталікоў у эміграцыі. Браў удзел у грамадзка-культурным і рэлігійным жыцьці беларускай дыяспары. Ініцыятар і заснавальнік Беларускага дому айцоў-марыянаў у Лёндане.

Браў удзел у арганізацыі Беларускай школы Сьв. Кірылы Тураўскага й інтэрнату пры Лёнданскім доме айцоў-марыянаў (1961). Сябра Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі. Заснавальнік Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны й Музэя пры ёй (травень 1971). Супрацоўнічаў зь беларускім друкам на эміграцыі.

*Баболя* (Андрэй Баболя; 1591 – 1657) – беларускі каталіцкі сьвяты, пакутнік, рэлігійны дзеяч, місіянер-прапаведнік. Прыхільнік ідэі Брэсцкай вуніі 1596. Закатаваны атрадам казакоў у часе вайны Рэчы Паспалітай з Расеяй.

*Сьвяты Казімеж* (1458 – 1484) – другі сын Казімера Ягелёньчыка. Прысьвяціў жыцьцё дабрачыннасьці й рэлігійнай практыцы. Культ Сьвятога Казімежа (Казімера) дазволены ў Польшчы ад 1521 году. Кананізаваны Сыгізмундам III (1602). Патрон Літвы й Кароны.

*Айцец Маскалік* (а. Міхась Маскалік; 1903 – 1965) – каталіцкі сьвятар усходняга абраду, беларускі рэлігійны й грамадзка-культурны дзеяч. Праводзіў душпастырскую дзейнасьць у Заходняй Нямеччыне. У першыя паваенныя гады заініцыяваў і кіраваў Беларускай Харытатыўнай Службай для беларускіх і ўкраінскіх уцекачоў зь лягераў ДП.

*а. Іаан Тарасэвіч* (1892 – 1978) – каталіцкі сьвятар усходняга абраду, манах-бэнэдыктынец, рэлігійны й культурна-грамадзкі дзеяч. Доктар багаслоўя й філязофіі, пісьменьнік, выдавец, публіцыст.

*Першы й Другі Кангрэсы* – маюцца на ўвазе Першы Ўсебеларускі Кангрэс (Менск, сьнежань 1917) і Другі Ўсебеларускі Кангрэс (Менск, чэрвень 1944) як вызначальныя вехі на шляху да незалежнасьці й самастойнай Беларускай дзяржавы.

*Ю. Сабалеўскі* (Юры Сабалеўскі; 1889 – 1957) – беларускі грамадзка-палітычны дзеяч. Зь лета 1944 – на эміграцыі (Нямеччына, ЗША). Браў удзел у выданні газэты „Беларускае Слова" (Заходняя Нямеччына, 1948 – 1949). Сябра Камітэта Незалежнай Беларусі ў Нью Ёрку (кастрычнік 1950). Адзін зь ініцыятараў (сумесна з Л. Савёнкам, А. Каханоўскім, А. Русаком і інш.) ідэі стварэньня Беларускага Нацыянальнага Камітэту Паўночнай Амэрыкі для каардынацыі дзейнасьці беларускіх арганізацый. Ажыцьцявіць яе аднак не ўдалося. Сябра БЦР і Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі.

*Л. Рыдлеўскі* (Лявон Рыдлеўскі; 1903 – 1953) – беларускі грамадзкі дзеяч. З другой паловы 40-х гадоў на эміграцыі. Браў удзел у арганізацыі Аб'яднаньня Беларускіх Работнікаў пры Францускім Хрысьціянскім Сындыкаце. Рэдактар і выдавец „Беларускіх Навінаў"– газэты-дадатку да францускага выданьня „Syndicalisme" (Парыж, 1945 – 1947). Адзін з арганізатараў сектару Рады БНР у Францыі.

*Гус* (Jan Gus; 1369 – 1415) – чэскі мысьліцель, дзеяч Рэфармацыі. Прафэсар і рэктар Праскага ўнівэрсытэту (1402 – 1403; 1409). Выступаў за нацыянальнае вызваленьне чэскага народу.

**Крывіцкая мараль**
с. 237

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Беларускае Слова", № 3 (35), Саўт Рывэр, 1957. Подпіс – *Протапрэсьвіцер М Лапіцкі.*

*Б. Рагуля* (Барыс Рагуля; 1920 – 2005) – беларускі вайсковы дзеяч. У гады нямецкай акупацыі Беларусі працаваў у беларускай адміністрацыі ў Наваградку. Кіраўнік БНС і акруговы інспэктар СБМ на Наваградзкую акругу. Зарганізаваў і ўзначаліў Наваградзкі конны швадрон. Зь лета 1944 – на выгнаньні. Вучыўся ў Лювэнскім каталіцкім унівэрсытэце. У сьнежні 1955 году пераехаў настала ў Канаду. Займаўся лекарскай практыкай. Сябра Згуртаваньня Беларусаў Канады. У 1971 – 1989 – старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады. Сябра Рады БНР.

**Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква й яе гістарычныя даты XX стагодзьдзя (1922 і 1942 г.)**

с. 240

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (8), Саўт Рывэр, 1957. Подпіс – *Прот. М. Лапіцкі.*

**Добры Пастыр**
с. 246

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (9), Саўт Рывэр, 1958. Тэкст бяз подпісу.

*Архіепіскап Атэнагор* – Атэнагор I (сьвецкае імя Арыстоклес Спіру; 1886 – 1972) – Усяленскі патрыярх. Прыхільнік палепшаньня ўзаемаадносінаў паміж Усяленскай Праваслаўнай Царквой і Рыма-каталіцкім Касьцёлам.

**350-гадовы юбілей кн. Канстантына Канстантынавіча Астрожскага**

с. 249

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (9), Саўт Рывэр, 1958. Подпіс – *Протапрэсьвіцер М. Лапіцкі.*

**Яшчэ аб крывіцкай маралі**

с. 253

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Беларускае Слова", №1 (38), Саўт Рывэр, 1958. Подпіс – *Прот. М. Лапіцкі.*

*„Беларускі Эмігрант"* – беларускі штомесячны часапіс. Выходзіў у 1948 – 1954 гадох спачатку ў Ашаве, а пазней – у Таронта (Канада). Рэдактар выданьня – К. Акула.

*а. Ф. Чарняўскі* (кс. Францішак Чарняўскі; 1893 – 1979) – каталіцкі сьвятар, беларускі рэлігійны й культурна-грамадзкі дзеяч, рэдактар і выдавец. У міжваеннае дваццацігодзьдзе ў Заходняй Беларусі зьвярнаўся да вернікаў з казаньнямі ў беларускай мове. У 1929 годзе накіраваны місіянерам у Францыю, дзе вёў душпастырскую дзейнасьць сярод беларускіх і польскіх вуглякопаў. У кастрычніку 1953 пераехаў у Бэльгію. Рэдактар-выдавец бюлетэня „Божае Слова". У красавіку 1957 году пераехаў у ЗША. Працаваў на пасадзе вікарыя ў шэрагу амэрыканскіх каталіцкіх парафіяў. Выдаваў беларускі рэлігійны часапіс „Сяўбіт". На сакавіковыя ўгодкі абвяшчэньня БНР выступаў з малітвамі ў Кангрэсе ЗША.

*Я. Э. Баляслаў Слосканс* (Boleslavs Sloskans; 1893 – 1981) – каталіцкі сьвятар, біскуп цылійскі, рэлігійны й грамадзкі дзеяч беларускай дыяспары. Латыш па нацыянальнасьці. Апостальскі візытатар для беларусаў-каталікоў у Заходняй Эўропе (з 1952).

*Беларуская Каталіцкая Місія* – дзейнічала ад другой паловы 40-х гадоў у Францыі, Вялікабрытаніі, Бэльгіі й Нямеччыне.

*а. Аляксандр Крыт* (у рэлігійным жыцьці мітрапаліт Андрэй; 1901 – 1983) – іерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, адноўленай у 1948 годзе ў Канстанцы. Рукапаложаны ў сан епіскапа ў Аўстраліі (15.2.1968). У 1971 – 1983 гадох – першагіерарх БАПЦ.

*„Беларускі Голас"* – беларускі незалежніцкі часапіс у Канадзе. Выходзіў у 1952 – 1992 гадох (Таронта). Рэдактар выданьня – С. Хмара.

*а. Я. Рэшэць* (Язэп Рэш(э)ць; 1890 – 1958) – каталіцкі сьвятар, манахбэнэдыктынец, беларускі рэлійны й культурна-асьветніцкі дзеяч, вучоны, педагог, пісьменьнік. Адзін з выбітных тэолягаў у гісторыі беларускага хрысьціянскага руху XX стагодзьдзя.

*М. Куліковіч* (Мікола Шчаглоў-Куліковіч; 1896 – 1969) – беларускі культурна-грамадзкі дзеяч, кампазытар і музыколяг. Дасьледчык беларускай царкоўнай і сьвецкай музыкі.

*В. Войтанка* (Віктар Войт(а)нка; 1912 – 1972) – рэлігійны й культурна-грамадзкі дзеяч беларускага замежжа. Сьвятар БАПЦ (з чэрвеня 1969).

*Ф. Шыбут* (Фёдар, Хведар Шыбут; 1901 – 1990) – беларускі царкоўны й грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў Дунайчыцах, каля Баранавічаў. У 1942 – 1944 – інспэктар школ у Баранавічах. З 1944 году – на эміграцыі. Браў удзел у Зьезьдзе праваслаўных беларусаў у Рэгэнсбургу ў травені 1946 году. Напачатку 50-х гадоў выехаў у ЗША.

*В. Кендыш* (Васіль Кендыш; 1908 – 2003) – протапрэсьвіцер БАПЦ, беларускі царкоўны й грамадзка-культурны дзеяч на эміграцыі.

*Кс. П. Татарыновіч* (кс. Пётр Татарыновіч; 1896 – 1978) – каталіцкі сьвятар, папскі прэлат, доктар тэалёгіі. Беларускі рэлігійны й культурна-асьветны дзеяч, пісьменьнік, публіцыст і перакладчык. Рэдактар-выдавец беларускага каталіцкага часапісу „Źnič" (Рым, 1950 – 1975). Ініцыятар і пачынальнік беларусізацыі літургіі. Рэдактар беларускай сэкцыі радыё Ватыкану.

*А. Адамовіч* (Антон Адамовіч; 1909 – 1998) – беларускі грамадзкі й культурны дзеяч, літаратуразнавец, публіцыст.

*Ф. Кушаль* (Францішак Кушаль; 1895 – 1968) – беларускі вайсковы дзеяч. Сябра Беларускай Вайсковай Камісіі (1919 – 1920). У гады Другой сусьветнай вайны зьвязаны зь беларускімі вайсковымі фармацыямі (Беларуская Самаахова, Беларуская Краёвая Абарона). Сябра БЦР (са студзеня 1944). Ад лета 1944 – на эміграцыі. Пасьля прыезду ў ЗША кіраваў Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем (1952 – 1954). Сябра Рады БНР.

*В. Пануцэвіч* (сапр. Вацлаў Папуцэвіч; 1910 – 1991) – грамадзкі й культурны дзеяч, гісторык, публіцыст, рэдактар, выдавец.

*Я. Станкевіч* (Ян Станкевіч; 1891 – 1976) – грамадзка-палітычны й культурны дзеяч, мовазнавец, перкладчык.

*Ст. Станкевіч* (Станіслаў Станкевіч; 1907 – 1980) – беларускі грамадзка-палітычны й культурны дзеяч, філёляг-славіст, літаратурны крытык, публіцыст. Даўгагадовы рэдактар газэт „Бацькаўшчына" і „Беларус".

*Піус XII* (Eugenio Pocelli; 1876 – 1958) – папа Рымскі (з 1939).

**„Сьцеражыцеся ілжэпрарокаў, каторыя прыходзяць да вас у авечай адзежы, а ў сярэдзіне ёсьць ваўкамі хіжымі" (Мф. 7, 15)**
с. 258

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (10), Саўт Рывэр, 1960. Подпіс – *Вокс*.

*„Зьніч"* („Źnič") – беларускі каталіцкі часапіс. Выходзіў у 1950 – 1975 гадох у Рыме. Друкаваўся лацінкай. Рэдактар-выдавец – ксёндз Пётр Татарыновіч. Выйшла 120 нумароў. Часапіс ставіў за мэту „ўсё здабытае папярэдняй каталіцка-беларускай прэсай перахаваць ідэйна, каб не расьцярушылася ды не загасла ў чужасьвеце...".

*„Беларуская Царква"* – рэлігійна-гістарычны часапіс. Выдаваўся ратарным спосабам у 1956 – 1965 гадох у Чыкага. У выданьні адначасна зь кірыліцай ужывалася беларуская лацінка. Рэдактар і выдавец – Вацлаў Па(н)уцэвіч. Выйшла 29 нумароў. Заснавальнік выданьня – Беларускі культурна-рэлігійны цэнтр, які з другой паловы 50-х гадоў аб'ядноўваў беларусаў каталіцкага веравызнаньня вакол царквы Хрыста Спаса (Збаўцы). Мэту выданьня часапісу рэдакцыя бачыла ў ідэі незалежнасьці беларускай дзяржавы й стварэньні Праваслаўна-Каталіцкай Царквы пад юрысдыкцыяй папы Рымскага.

*Ян XXIII* (Angelo Giuseppe Roncali; 1881 – 1963) – папа Рымскі (ад 1958).

*Авіньён* (Avignon) – горад у Францыі, на левым беразе ракі Роны. У 1309 – 1377 гадох служыў рэзыдэнцыяй для папаў рымскіх, якія хаваліся тут ад улады рымскіх баронаў.

*Марцін Лютэр* (1483 – 1546) – заснавальнік і ідэоляг лютэранства, пратэстанцкі прапаведнік.

*Ігнат Лайёла* (Jnigo Lopez de Recalde de Loyola; 1491 – 1556) – заснавальнік ордэна езуітаў.

*Папа Пій X* (Giuseppe Sarto; 1835 – 1914) – папа Рымскі (ад 1903), вялікі рэфарматар, сьвяты. Кананізаваны ў 1954 годзе.

**Сучаснае становішча Беларускай Праваслаўнай Царквы ў вольным сьвеце...**

с. 263

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (10), Саўт Рывэр, 1960.

Фрагмэнт з дакладу а. протапрэсьвіцера Мікалая Лапіцкага „Сучаснае становішча Беларускай Праваслаўнай Царквы ў вольным сьвеце й патрэбныя мерапрыемствы для ўзьняцьця царкоўнага жыцьця. Прачытаны на Зьезьдзе беларусаў ЗША й Канады ў Таронта (Канада) дня 4 верасьня 1960 году.

*Беларускі Кангрэсавы Камітэт у Амэрыцы* (БККА) – грамадзка-палітычная арганізацыя, утвораная на Першым Кангрэсе беларусаў Амэрыкі 1 лютага 1951 году ў Саўт Рывэры (Нью Джэрзі). Апанент БАЗА. У розны час на пасаду старшыні БККА абіраліся: М. Шчорс (1951 – 1957), І. Касяк (1957 – 1989), Р. Завістовіч (1990 – 2000).

*а. Ул. Фіңькоўскі* (Уладзімер Фіңькоўскі; 1906 – пасьля 1960) – беларускі царкоўны дзеяч. У 50-я гады – настаяцель беларускай праваслаўнай парафіі Сьвятога Юрага ў Чыкага.

*Грыгорый Агійчук* (Григорий Огійчук; 1898 – 1985) – украінскі царкоўны й грамадзка-культурны дзеяч. Браў актыўны ўдзел у аднаўленьні ЎАПЦ (1942). У 1947 годзе пасьля расколу ў УАПЦ ачоліў яе сабornaпраўную частку. З 1971 году – мітрапаліт УАПЦ (Саборнапраўнай) з рэзыдэнцыяй у Чыкага.

*Ян Урбан* (1874 – 1940) – езуіт, тэоляг, пісьменьнік, выдавец. Рэдактар часапісу „Oriens" (1933 –1939). У міжваеннае дваццацігодзьдзе браў актыўны ўдзел у Пінскіх вунійных канфэрэнцыях. Спрыяў выданьню беларускага рэлігійнага часапісу „Da Złučeńnia" (Альберцін – Вільня, 1932 – 1935; рэдактар – а. А. Неманцэвіч).

*Леанід Фёдараў* (Леонид Фёдоров; 1879 – 1935) – экзарх для каталікоў візантыйска-славянскага абраду ў Расеі, апостальскі пранатарый *ad instar*. Рэпрэсаваны савецкімі ўладамі.

*Бэнэдыкт* XV (сьвецкае імя markiz Giacomo della Chiesa; 1854 – 1922) – папа Рымскі (ад 1914).

*Керанскі* (Александр Керенский; 1881 – 1970) – расейскі дзяржаўны й палітычны дзеяч. Быў зьвязаны з сацыялістамі-рэвалюцыянерамі. Ад ліпеня 1917 – прэм'ер міністр Тымчасовага Ўраду ў Расеі.

*арх. Ропп* (Адвард Ропп; 1851 – 1939) – каталіцкі арцыбіскуп Магілёўскі, асыстэнт папскага трону, рэлігійны й грамадзка-культурны дзеяч, палітык і публіцыст.

*Бонч-Бруевіч* (Владимир Бонч-Бруевич; 1873 –1955) – прафэсыйны рэвалюцыянер, савецкі партыйны й дзяржаўны дзеяч, гісторык, мастацтвазнавец.

*Зерчанінаў* (Алексей Зерчанинов; 1848 – 1933) – адзін зь некалькіх каталіцкіх сьвятароў-расейцаў усходняга абраду, якія працавалі ў Расеі да бальшавіцкай рэвалюцыі й пасьля яе, папскі шамбелан. Настаяцель грэка-каталіцкай царквы ў Петраградзе.

*П. А. Сталыпін* (Пётр Аркадьевич Столыпин; 1862 – 1911) – расейскі дзяржаўны дзеяч, старшыня Рады Міністраў (зь ліпеня 1906).

**Адзінства**

с. 268

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 – 2 (12), Саўт Рывэр, 1962. Подпіс – *Протапрэсьвіцер М. Лапіцкі.*

*„Канстанцкая аўтакефалія" 1948 году* – маецца на ўвазе працэс стварэньне БАПЦ у Канстанцы (1948).

*...папярэднія праваслаўныя эпіскапы БАПЦ* – размова ідзе пра эпіскапат БАПЦ з часоў Другой сусьветнай вайны: мітрапаліт Панцялейман (Ражноўскі), арх. Філафей (Нарко), еп. Венэдыкт (Бабкоўскі), еп. Апанас (Март(а)с), еп. Сьцяпан (Сеўба), еп. Рыгор (Барышкевіч), еп. Павел (Мяленцьеў).

*А.К. з Кліўленду* – маецца на ўвазе а. Аляксандр Крыт. Фрагмент зь яго ліста да а. М. Лапіцкага цытуецца ў гэтай публікацыі.

**Сьвятой памяці Анатоль Коўш**

с. 272

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 – 2 (12), Саўт Рывэр, 1962. Подпіс – *Протапрэсьвіцер М. Лапіцкі.*

*Анатоль Коўш* – сын а. Сьвятаслава Каўша.

а. Е. Сурвіла (а. Аўген Сурвіла) – беларускі праваслаўны сьвятар, удзельнік Усебеларускага Царкоўнага Сабору ў Менску (1942).

*Д. Верасаў* (Дзімітры Верасаў; 1919 – 1985) – беларускі грамадзка-культурны дзеяч, кампазытар. Адзін зь кіраўнікоў Беларускага Нацыянальнага Хору ў Саўт Рывэры (Нью Джэрзі), шматгадовы рэгент парафіяльнага царкоўнага хору пры беларускай царкве Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры. Разьвіваў традыцыі беларускай царкоўнай музыкі на эміграцыі.

**Канстантынопальскі Патрыярхат**

с. 274

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 – 2 (12), Саўт Рывэр, 1962. Тэкст бяз подпісу.

*Юстыніян* (каля 483 – ?) – візантыйскі імпэратар.

*...primus inter pares* – першы паміж роўнымі (лац.).

**Сьвятыя Віленскія Мучанікі**

с. 275

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", № 3 – 4 (13), Саўт Рывэр, 1963. Подпіс – *Протапрасьвіцер М. Лапіцкі.*

*Масей Сяднёў* (1915 – 2001) – беларускі культурны дзеяч, паэт, празаік, журналіст.

*С. К.* – крыптанім а. Сьвятаслава Каўша.

*М. Коссак-Шчуцка* (Zofia Kossak-Szczucka; 1890 – 1968) – польская пісьменьніца, аўтар гістарычных аповесьцяў, напісаных у каталіцкім духу („Pożoga", 1922; „Krzyżowcy", t. 1 – 4, 1935).

**Беларусы а камунізм**
Напамінак
с. 283

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", № 3 – 4 (13), Саўт Рывэр, 1963. Подпіс – *М. Віленскі.*

*„Лабор дэй"* (ад ангел. „Labor Day") – сьвята Дня Працы ў ЗША, якое ўрачыста адзначаецца ў першы панядзелак верасьня. Сьвяткуецца ад 5 верасьня 1882 году.

*Ленін* (сапр. Владимир Ульянов; 1870 – 1924) – арганізатар расейскай бальшавіцкай партыі, ідэоляг камунізму, першы кіраўнік савецка-бальшавіцкай дзяржавы.

*В. Кнорын* (сапр. Вільгельм Кнорыньш; 1890 – 1938) – савецкі дзяржаўны дзеяч, адзін зь кіраўнікоў філіі бальшавіцкай партыі ў Беларусі (1919 – 1928).

*Зьмітро Жылуновіч* (псэўд. Цішка Гартны; 1887 – 1937) – беларускі паэт, празаік, драматург, дзяржаўны й грамадзка-культурны дзеяч.

*Л. Цанава* (сапр. Лаврентий Джангджава; 1900 – 1955) – савецкі партыйны й дзяржаўны дзеяч. Узначальваў НКВД БССР (з сьнежня 1938), міністр дзяржаўнай бясьпекі БССР (з 1946). У 1950 – 1951 гадох – намесьнік міністра дзяржбясьпекі. У красавіку 1955 году арыштаваны па „справе Берыі".

**Прот. Іван Кушнер**
У дваццатую гадавіну трагічнай сьмерці
с. 287

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", № 4 -5 (14 -15), Саўт Рывэр, 1964 . Подпіс – *Протапр. М. Лапіцкі.*

*...нарадзіўся ў 1908 годзе ў мясцовасьці Лужкі* – паводле аўтабіяграфіі а. І. Кушнера, якая захоўваецца ў архіве Варшаўскага ўнівэрсытэту, месца яго нараджэньня – вёска Лапунова, той-жа Глыбоцкай акругі.

**Ватыканскі Сабор Рыма-каталіцкае Царквы**
(Папы: Іван XXIII і Павел VI)
с. 288

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Беларуская Думка", № 6, Саўт Рывэр – Нью Ёрк, 1964. Подпіс – *Прот. М. Лапіцкі.*

*Папа Павел VI* (сьвецкае імя Giovanni Battista Montini; 1897 – 1978) – папа Рымскі (ад 1963). Вядомы як папа-пілігрым.

*Флёрэнцкая вунія* (1438 – 1439) – акт царкоўнай вуніі, прыняты на Флёрэнцкім саборы (1438 – 1442). Разглядаўся як спроба паяднаньня Каталіцкай і Праваслаўнай Цэркваў пад главенствам папы Рымскага.

*Берасьцейская вунія* (1596) – царкоўная вунія, заключаная ў кастрычніку 1596 году на царкоўным саборы ў Брэсьце Літоўскім. Абапіралася на Флёрэнцкай вуніі (1438 –1439) і мела на мэце арганізацыйнае падпарадкаваньне Праваслаўнай Царквы Царкве Каталіцкай на ўсходніх абшарах Рэчы Паспалітай. Паводле меркаваньня праваслаўных гісторыкаў вунія прынесла шкоду, бо разьбіла праваслаўнае духавенства й вернікаў на вуніятаў і праціўнікаў вуніі.

*Папа Леў XIII* (сьвецкае імя Vincenzo Gioachino Pecci; 1810 – 1903) – папа Рымскі (ад 1878).

*II Ватыканскі Сабор (Vaticanum II)* – адбыўся ў 1962 – 1965 гадох. Скліканы Янам XXIII, прадоўжаны Паўлам VI. Мэта яго правядзеньня – унутраная аднова й дастасаваньне Рыма-каталіцкага Касьцёла да сучасных варункаў жыцьця. Прыняў рэформу літургіі (лацінская мова замянялася нацыянальнай). Меў экумэнічны характар.

*„русское море”* („славянские ручьи сольются в русском море”) – радкі зь верша А. Пушкіна „Клеветникам России”.

**Дваццаціпяцігодзьдзе Беларускага Аўтакефальнага Праваслаўнага Сабору: Менск – 1942**
с. 294

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач”, №1 (16), Саўт Рывэр, 1967. Подпіс – *Протапр. Мікалай Лапіцкі. Удзельнік Аўтакефальнага Сабору БПЦ, 1942 г.*

Гэты-ж тэкст пад назвай „Дваццаціпяцігодзьдзе Беларускага Аўтакефальнага Праваслаўнага Сабору” быў апублікаваны ў часапісе „Беларуская Думка”, № 10 – 11, Саўт Рывэр, 1967 – 1968. Подпіс – *Протапр. Мікалай Лапіцкі. Удзельнік Аўтакефальнага Сабору БПЦ,1942 г.*

*В. Кубэ* (Wilhelm Kube; 1887 – 1943) – нямецкі палітычны дзеяч, генэральны камісар Беларусі (1941 – 1943). Прыхільнік беларускага нацыянальнага руху.

*„Беларуская Газэта”* – выдавалася ў Менску (1941 – 1944) пад кантролем нямецкіх акупацыйных уладаў. Да 1942 мела назву „Менская газэта”.

**Беларускі праваслаўны манастыр у Супрасьлі й яго „Супрасьльская Рукапісь”**
с. 298

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач”, №1 (17), Саўт Рывэр, 1968. Подпіс – *Протапр. М. Лапіцкі.*

*Супрасьльскі рукапіс* – назва рукапісных зборнікаў, якія да XIX стагодзьдзя зьберагаліся ў бібліятэцы Супрасьльскага манастыра. Рукапіс складаўся з наступных зборнікаў: Зборнік жыцьця і пропаведзяў XI ст.; Летапісны зборнік 1-й паловы XVI ст.; Зборнік 1519 (зьмяшчаў самы поўны сьпіс беларуска-літоўскага летапісу 1446). Зьяўляецца старажытным помнікам царкоўна-славянскай мовы X – XI стагодзьдзяў.

*Гітлераўцы ўзарвалі...* – паводле навочнага сьведкі К. Патранюка Сьв. Благавешчанскую царкву ўзарвалі жаўнеры Арміі Краёвэй (з рэляцыі М. Сенькі, Саўт Рывэр, ЗША).

*П. Бацюшкаў* (Помпей Батюшков; 1810 – 1892) – расейскі гісторык. У сваіх навуковых працах выкарыстаў шмат каштоўных дакумантаў зь гісторыі Беларусі і Украіны XV – XVI стагодзьдзяў.

*Канонік Міхаіл Баброўскі* (1784 ці 1785 – 1848) – сьвятар, беларускі славіст і арыенталіст, сябра Археалягічнай акадэміі ў Рыме. Адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага адраджэньня.

*Граф Замойскі* – трэба меркаваць, што маецца на ўвазе Канстанты Замойскі (1779 – 1866), камер-юнкер, шамбелан расейскага царскага двара, удзельнік паўстаньня 1830 – 1831. Калекцыянер старажытнасьцяў і рарытасаў польскай літаратуры й культуры.

**З вуніяцкіх нератаў на волю**
с. 302

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач”, №1 (17), Саўт Рывэр, 1968 . Подпіс – *Аўтакефаліст.*

*...епіскапы БАПЦ не зьмяніліся з Саўлаў у Паўлы* – метафарычнае параўнаньне, зьвязанае з вобразам біблейнага Саўла, які з ворага хрысьціян стаўся іх прыхільнікам.

*Сыльвестр, арх. УАПЦ* (сьвецкае імя Гаевський) – гіерарх Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (Сабораправунай), украінскі царкоўны дзеяч на эміграцыі.

*Часапіс „Праваслаўным Шляхам"* – беларускі царкоўна-рэлігійны часапіс. Выходзіў у 1964 – 1970 гадох у Аўстраліі. Друкаваны орган Камітэта Беларускае Праваслаўнае Царквы ў Аўстраліі. У першыя гады існаваньня часапіс рэдагаваў архім. Мадэст (Яцкевіч). Дасьледчыкам ведама пра 19 нумароў часапісу. Патрэбы выданьня часапісу яго рэдкалегія бачыла ў паглыбленьні ведаў „аб сьвятым праваслаўі" сярод дарослых. Выданьне інфармавала пра царкоўна-рэлігійнае і грамадзкае жыцьцё беларускай дыяспары ў Аўстраліі, знаёміла зь беларускай гісторыяй і культурай.

*архім. Мадэст* (сьвецкае імя Мадэст Яцкевіч; 1894 –1971) – праваслаўны сьвятар, архімандрыт, беларускі царкоўны й грамадзка-культурны дзеяч, рэдактар, выдавец, публіцыст.

*Царква Сьвятых Апосталаў Пётра й Паўла* – беларуская праваслаўная царква (і парафія) у Адэлаідзе, арганізаваная а. Міхаілам Шчуркам і беларускім праваслаўным актывам. Высьвечана арх. Сяргеем (Ахатэнка) 29 сьнежня 1963 году. Да канца 70-х гадоў – адзіны цэнтр беларускага грамадзка-культурнага жыцьця ў Паўдзённай Аўстраліі. У 1968 – 1971 – знаходзілася ў юрысдыкцыі УАПЦ.

*Вунійны часапіс „Божым Шляхам"* – рэлігійна-грамадзкі й літаратурна-гістарычны часапіс, які выдавала беларускае грэка-каталіцкае сьвятарства ў Парыжы (1947 – 1957) і Лёндане (1957 – 1980) на беларускай мове. Знаёміў зь гісторыяй хрысьціянства на Беларусі, асьвятляў ролю царквы, рэлігійнай і нацыянальнай самасьвядомасьці ў гістарычным разьвіцьці беларускага народу.

*Маскоўскі патрыярх Аляксей* (Сергей Симанский; 1877 – 1970) – патрыярх Маскоўскі і Ўсёй Русі, царкоўны дзеяч.

*Мікалай Мацукевіч* (у рэлігійным жыцьці арх. Мікалай; 1917 – 2002) – беларускі царкоўны дзеяч, гіерарх БАПЦ, публіцыст, выдавец і перакладчык.

*Прот. Іаан Малаток* – беларускі праваслаўны сьвятар, удзельнік беларускага царкоўнага жыцьця на Беларусі і ў эміграцыі.

**Хіратонія а. Сьвятаслава Каўша**

с. 306

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (18), Саўт Рывэр, 1969. Тэкст бяз подпісу.

*Беларускі Студэнцкі Саюз* (БСС) – арганізацыя студэнтаў-беларусаў Віленскага ўнівэрсытэту Стафана Баторага. Дзейнічала ў 1920 – 1939 гадох. Мела два друкаваныя органы – часапісы „Новы Шлях" і „Студэнцкая Думка". Сваю мэту арганізацыя бачыла ў гуртаваньні сваіх сяброў „на грунце духоўных і маральных каштоўнасьцяў, ...выхаваньня нацыянальнай сьвядомасьці".

*„Студэнцкая Трыбуна"* – думаецца, што ў публікацыі маецца на ўвазе іншае выданьне – „Студэнцкая Думка", друкаваны орган *Беларускага Студэнцкага Саюзу* (БСС). Часапіс выходзіў у 1924 – 1935 гадох. Асьвятляў гісторыю беларускага студэнцкага руху. Зьмяшчаў навуковыя матар'ялы па гісторыі й фальклору. Публікаваў літаратурныя творы У. Жылкі, Н. Арсеньневай, І. Дварчаніна, А. Салагуба й інш.

**Жыцьцёвы шлях а. Сьвятаслава Каўша**
с. 307

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (18), Саўт Рывэр, 1969. Тэкст бяз подпісу.

**Амэрыканска-Маскоўская „Аўтакефалія"**
с. 309

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (19), Саўт Рывэр, 1970. Подпіс – *Протапр. М. Лапіцкі.*

*Мітрапаліт Ірыней* (сьвецкае імя Бекеш) – расейскі царкоўны дзеяч. Пасьля сьмерці мітр. Леонція ўзначальваў Амэрыканскую мітраполію. Падтрымоўваў кантакты з Маскоўскай Патрыярхіяй, ад якой у 1970 годзе насуперак кананічным правілам атрымаў аўтакефалію для Амэрыканскай мітраполіі ў ЗША.

**Усяленскі патрыярх Атэнагор І**
с. 313

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (21), Саўт Рывэр, 1972. Тэкст бяз подпісу.

**Новы Ўсяленскі патрыярх Дзімітрыюс І**
с. 315

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (21), Саўт Рывэр, 1972. Тэкст бяз подпісу.

**Высьвячэньне Царквы й БР-Г Цэнтру**
с. 316

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Царкоўны Сьветач", №1 (22), Саўт Рывэр, 1973. Подпіс – *Протапрэсьвіцер М. Лапіцкі.*

У 1975 годзе тэкст гэтай публікацыі а. М. Лапіцкага пад тытулам „Высьвячэньне" ўвайшоў у юбілейнае выданьне „Памятная Кніга: 1950 – 1975" (Саўт Рывэр, 1975), падрыхтаванае й выдадзенае ў 25-я ўгодкі заснаваньня на эміграцыі першай беларускай парафіі ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярха.

**З пэрспэктывы часу**

с. 319

Друкуецца паводле публікацыі ў выданьні: „Памятная Кніга: 1950 – 1975", Саўт Рывэр, 1975. Подпіс – а. *протапр. Мікалай Лапіцкі.*

У аснову публікацыі пакладзены рэфэрат, які а. М. Лапіцкі прачытаў на ўрачыстай Акадэміі з з нагоды 25-х угодкаў існаваньня беларускай праваслаўнай парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры (Нью Джэрзі, ЗША).

**Działalność Koła Teologów Prawosławnych Studentów Uniwersytetu Warszawskiego w roku akademickim 1932 – 1933 (17 IV 1932 – 17 VI 1933 r.)**

с. 324

Друкуецца паводле публікацыі ў часапісе „Путь Правды", №2, Варшава 1934. Подпіс – *M. Łapicki.*

Зьмест публікацыі склала справаздача М. Лапіцкага, кіраўніка й старшыні прэзыдыума „Кола праваслаўных багасловаў". Гэта першая і, здаецца, адзіная вядомая на сёньня публікацыя а. М. Лапіцкага ў польскай мове.

## Разьдзел IV • Chapter IV

## Лісты • Letters

**Ліставаньне з арх. Апанасам (Афанасіем)**

с. 329

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „Арх. Апанас". Друкуецца ўпершыню.

У эпісталярную калекцыю ўвайшло таксама некалькі лістоў да І. Касяка й два лісты, якія не зьвязаныя з асобай арх. Апанаса. Ліст за №3, з травеня 1963 году, адрасаваны арх. Філафею. Гэта пацьвярджаецца тым, што ў лісьце а. М. Лапіцкі называе свайго адрасата Блюсьціцелем Мітрапалітальнага Прэстолу БАПЦ. Ліст № 4, ад 25 травеня 1963 году, быў высланы еп. Мацьвею (Сямашку) у Лёндан. Падставы так сьцьвярджаць дае той факт, што ў лісьце а. М. Лапіцкі гаворыць пра Віленскую епіскапскую катэдру, якая належала ў міжваеннае дваццаці-годзьдзе да еп. Мацьвея.

*Арх. Апанас, Афанасій* (сьвецкае імя Антон Март(а)с; 1904 –1983) – беларускі царкоўны й культурны дзеяч, епіскап Віцебскі й Полацкі (1942). Зь лета 1944 году – на эміграцыі ў Нямеччыне. Выступаў супраць пераходу епіскапату БАПЦ у РЗПЦ, але ня выйшаў зь яго складу. Сынодамі РЗПЦ назначаўся архіепіскапам у Аргентыну й Аўстралію. Дасьледаваў гісторыю Беларускай Праваслаўнай Царквы.

**Ліставаньне арх. Апанаса (Афанасія) зь беларускімі царкоўнымі інстытуцыямі на эміграцыі**

с. 391

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „Арх. Апанас". Друкуецца ўпершыню.

**Ліставаньне з Р. Астроўскім**

с. 396

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „Р. Астроўскі". Друкуецца ўпершыню.

*Радаслаў Астроўскі* (1887 – 1976) – беларускі палітычны й грамадзкі дзеяч, прэзыдэнт БЦР. Быў нязьменным прыхільнікам ідэі аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы на кананічных асновах.

**Ліставаньне зь Ю. Віцьбічам**

с. 402

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „Ю. Віцьбіч". Друкуецца ўпершыню.

*Юрка Віцьбіч* (інш. псэўданімы: Юрка Стукаліч, Алесь Крыжаніч; сапр. Серафім Шчарбакоў; 1905 – 1975) – беларускі грамадзка-культурны дзеяч, пісьменьнік, публіцыст, гісторык, культуроляг. Рэдактар беларускіх эміграцыйных часапісаў „Шыпшына" і „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі".

**Ліставаньне з В. Войтанкам**

с. 404

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „В. Войтанка". Друкуецца ўпершыню.

*Віктар Войтанка* (1912 – 1972) – беларускі грамадзкі й царкоўны дзеяч, сьвятар. На эміграцыі – В. Войтанка-Васілеўскі. Браў актыўны ўдзел у аднаўленьні БАПЦ.

**Ліставаньне з а. П. Вялікім**

с. 407

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „а. П. Вялікі". Друкуецца ўпершыню.

*а. Павел Вялікі* (нар.1925) – праваслаўны сьвятар, мітрафорны протаіерэй, беларускі царкоўна-рэлігійны дзеяч. Працаваў у беларускай праваслаўнай парафіі Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай у Лёндане (60-я і 70-я гады XX ст.). У 1973 годзе з матушка Зоф'яй пераехаў у Канаду, дзе пятнаццаць год служыў у беларускай праваслаўнай царкве Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай у Таронта ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярхату.

**Ліставаньне з Дз. Касмовічам**

с. 414

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „Дз. Касмовіч". Друкуецца ўпершыню.

*Дзімітры Касмовіч* (1909 –1991) – беларускі вайсковы й грамадзкі дзеяч. Пасьля савецкай акупацыі Заходняй Беларусі працаваў у адміністрацыйных структурах улады ў Нясьвіжы. У гады Другой сусьветнай вайны кіраваў менскай паліцыяй (1941–1942), зарганізаваў вайсковае фарміраваньне Беларускай Самаахові на Смаленшчыне (1943). Зь лета 1944 – на эміграцыі (Штутгарт, Нямеччына). Кіраўнік Беларускага Вызвольнага Фронту (1954 –1991).

**Ліставаньне зь І. Касяком**

с. 416

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „І. Касяк". Друкуецца ўпершыню.

*Іван Касяк* (1909 – 1989) – беларускі палітычны й грамадзка-культурны дзеяч. У гады Другой сусьветнай вайны ўваходзіў у склад Цэнтралі Беларускай Народнай Самапомачы. Прыхільнік ідэі аўтакефаліі БПЦ. Зь лета 1944 – на эміграцыі. У 1949 выехаў у ЗША, дзе браў удзел у арганізацыях, зьвязаных з антыкамуністычным рухам. Дзеяч БЦР і Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі на эміграцыі. Актыўна ангажаваўся ў справу аўтакефаліі БПЦ пад юрысдыкцыяй Канстантынопальскага Патрыярхату. Аўтар манаграфіі па беларускай царкоўнай гісторыі.

**Ліставаньне з а. А. Крытом**

с. 429

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „а. А. Крыт". Друкуецца ўпершыню.

*а. Аляксандр Крыт* (у рэлігійным жыцьці мітрапаліт Андрэй; 1901 – 1983) – гіерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, утворанай у 1948 годзе ў Канстанцы. Рукапаложаны ў сан епіскапа ў Аўстраліі (15.2.1968). У 1971 – 1983 гадох – першагіерарх БАПЦ.

**Ліставаньне з М. Сяднёвым**
с. 432

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „М. Сяднёў". Друкуецца ўпершыню.

*Майсей Сяднёў* (1915 – 2001) – беларускі культурны дзеяч, паэт, празаік, журналіст.

**Ліставаньне з кс. Ф. Чарняўскім**
с. 437

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „кс. Ф. Чарняўскі". Друкуецца ўпершыню.

*Кс. Францішак Чарняўскі* (1893 – 1979) – каталіцкі сьвятар, беларускі рэлігійны й культурна-грамадзкі дзеяч, рэдактар і выдавец. У міжваеннае дваццацігодзьдзе ў Заходняй Беларусі зьвяртаўся да вернікаў з казаньнямі ў беларускай мове. Вёў душпастырскую дзейнасьць сярод беларускіх і польскіх вуглякопаў у Францыі, пазьней служыў у Бэльгіі. Рэдактар-выдавец бюлетэня „Божае Слова". З красавіка 1957 году – у ЗША. Працаваў на пасадзе вікарыя ў шэрагу амэрыканскіх каталіцкіх парафіяў. Выдаваў беларускі рэлігійны часапіс „Siaŭbit". На сакавіковыя ўгодкі абвяшчэньня БНР выступаў з малітвамі ў Кангрэсе ЗША.

**Ліставаньне з царкоўным актывам у Аўстраліі**
с. 441

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „Аўстралія". Друкуецца ўпершыню.

*Міхась Зуй* (1909 – 1995) – беларускі палітычны й грамадзкі дзеяч. Зьвязаны зь беларускім рухам з часоў Заходняй Беларусі, калі арганізаваў у роднай вёсцы гурток „Кола Беларускай Моладзі" (1932). У гады Другой сусьветнай вайны ў Беларускай Народнай Самапомачы (з 1942). Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. Дэлегат Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. Ад лета 1944 – на эміграцыі. У першыя паваенныя гады знаходзіўся ў беларускім лягеры ДП у Ватэнштэце. У жніўні 1947 году настала перабраўся ў Аўстралію. Браў актыўны ўдзел у беларускіх грамадзка-культурных арганізацыях. Ініцыятар стварэньня й старшыня Беларускага Аб'яднаньня ў Аўстраліі. Кіраўнік Дэлегатуры БЦР у Аўстраліі. На XIX Пленуме БЦР абраны яе прэзыдэнтам.

*Сяргей Розмысл* (1905– 1969) – беларускі грамадзкі й царкоўны дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі Беларусі ў Беларускай Краёвай Абароне. Дэлегат Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. Ад 1944 году – на выгнаньні. Зь Нямеччыны выехаў у Аўстралію (1950). Адзін з стваральнікаў Беларускага Аб'яднаньня ў Вікторыі. Сябра царкоўнай рады беларускай парафіі Еўфрасіньні Полацкай у юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярхату. Дзеяч БЦР у Аўстраліі.

**Ліставаньне з царкоўным актывам у Кліўлендзе**

с. 443

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „Кліўленд". Друкуецца ўпершыню.

*Аркадзь Сацэвіч* (1925 – 2000) – беларускі грамадзкі дзеяч, сябра кліўлендзкіх аддзелаў БАЗА й ЗБАМ. Браў чынны ўдзел у зарганізаваньні Беларуска-Амэрыканскага Культурна-Дапамаговага Аб'еднаньня ў Кліўлендзе (БАКДА). У 1960 – 1970 гадох кіраваў Амэрыканска-Беларускім Таварыствам Дапамогі.

*Леанід Харытановіч* (1926 ? –1972 ?) – беларускі грамадзкі дзеяч, сябра Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня (БСЗ) і Беларуска-Амэрыканскага Культурна-Дапамаговага Аб'еднаньня (БАКДА) у Кліўлендзе.

*Язэп Шымчык* (1922 – 2003) – беларускі грамадзкі дзеяч, сябра кліўлендзкіх аддзелаў БАЗА й ЗБАВ. Браў удзел у арганізацыі беларускага царкоўнага жыцьця ў Кліўлендзе.

**Ліставаньне з царкоўным актывам у Пассэйку**

с. 455

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „Пассэйк". Друкуецца ўпершыню.

Ліст а. М. Лапіцкага за № 4 быў адрасаваны не Э. Ясюку, а сям'і Масея Сяднёва, хоць і перахоўваецца ў папцы з карэспандэнцыяй да Э. Ясюка.

*Май* (сапр. Эмануіл Ясюк; 1906 – 1977) – грамадзкі й царкоўны дзеяч, удзельнік Усебеларускага Царкоўнага Сабору (Менск, 1942) і Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. Ад лета 1944 – на эміграцыі. У 50-я гады вёў актыўную працу па стварэньню беларускай праваслаўнай парафіі ў Пассэйку (Нью Джэрзі). Адзін зь ініцыятараў заснаваньня арганізацыі Беларускіх Камбатантаў у Пассэйку і Гарфільд (Нью Джэрзі). Заступнік старшыні Беларускага Дапамаговага Камітэту ў Нью Джэрзі, віцэ-прэзыдэнт Беларуска-Амэрыканскага Кангрэсу.

**Ліставаньне з царкоўным актывам у Ракфордзе**
с. 461

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „Ракфорд". Друкуецца ўпершыню.

*Пётр Ракуць* – беларускі царкоўны актывіст з Ракфорду. Выступаў зь ініцыятывай беларусізацыі мясцовай праваслаўнай царквы, старшыня царкоўнага камітэту.

*Міхась Вайтовіч* – беларускі царкоўны актывіст, заступнік старшыні царкоўнага камітэту ў мясцовай праваслаўнай царкве ў Ракфордзе.

*а. Леанід Стаднікаў* – беларускі праваслаўны сьвятар. З 1944 году – на эміграцыі. Сябра ЗБАДК у Норт Галівудзе (Каліфорнія).

**Ліставаньне з царкоўным актывам у Таронта й Вініпэгу**
с. 469

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „Таронта". Друкуецца ўпершыню.

*Віталій Сагайдакоўскі* (Сагайдаківський; 1903 – ?) – украінскі праваслаўны сьвятар. Браў актыўны удзел у зарганізаваньні й функцыянаваньні беларускіх праваслаўных парафіяў у Грэцкай юрысдыкцыі ў ЗША й Канадзе. У 60-ыя гады ХХ ст. служыў настаяцелем беларускай праваслаўнай царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта.

*Кастусь Навіцкі* – актыўны ўдзельнік беларускага грамадзка-культурнага жыцьця ў Канадзе. Браў удзел у арганізацыі Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня ў Таронта.

*Рыгор Беразоўскі* (1918 – 1995) – беларускі царкоўны дзеяч у Канадзе, сябра Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК). Браў чынны ўдзел у арганізацыі беларускай праваслаўнай парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта, сябра царкоўнага камітэту. Адзін з актыўных дзеячаў Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня ў Канадзе (Таронта).

*Міхась Кухарчык* (1922 – 2003) – беларускі царкоўны дзеяч, сябра царкоўнага камітэту беларускай праваслаўнай царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта. Браў актыўны ўдзел у працы Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня ў Канадзе (Таронта).

**Ліставаньне з царкоўным актывам у Чыкага**
с. 475

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „Чыкага". Друкуецца ўпершыню.

*а. Васіль Вячорка* – беларускі праваслаўны сьвятар. Першапачаткова служыў у парафіі Сьв. Юрыя ў Чыкага. Пазьней перайшоў у юрысдыкцыю Амэрыканскай мітраполіі, якую да 1963 году ўзначальваў мітр. Леонцій.

*Мікалай Латушкін* (сапр. Уладзімер Гарэлік; нар. 1922) – беларускі царкоўны й грамадзкі дзеяч. Адзін з заснавальнікаў і актыўных вернікаў беларускай праваслаўнай парафіі Сьв. Юрага ў Чыкага, нязьменны сакратар царкоўнай парафіяльнай рады.

*Васіль Пунтус* (1920–1989) – беларускі грамадзкі й царкоўны дзеяч. Уваходзіў у склад Управы Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, сябра Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага (БАНР).

*а. Алег Міркановіч* – беларускі праваслаўны сьвятар. Служыў у праваслаўных парафіях у Лёндане. Пазьней перабраўся ў ЗША, дзе пэўны час быў на пасадзе настаяцеля ў беларускай праваслаўнай царкве Сьв. Юрага ў Чыкага.

**Ліставаньне з арх. Міхаілам**
с. 483

Ліставаньне перахоўваецца ў архіве а. М. Лапіцкага: папка „арх. Міхаіл". Друкуецца ўпершыню.

*Архіепіскап Міхаіл* (1892–1958) – экзарх Канстантынопальскага Патрыярхату для Паўночнае й Паўдзённае Амэрыкі й Канады (з кастрычніка 1949). Спрыяў арганізацыі беларускага царкоўнага жыцьця ў ЗША, у прыватнасьці беларускай парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры (Нью Джэрзі).

## Разьдзел V • Chapter V

## Стужкі памяці • Recollections

с. 489

У разьдзел увайшлі фрагмэнты ўспамінаў дзяцей і ўнукаў а. Мікалая Лапіцкага: Лёлі Касоўскай, дачкі; Жоржа Лапіцкага, сына; Алекса Касоўскага, унука; Ніка Лапіцкага, унука; Ніка Касоўскага, унука; Стывэна Лапіцкага, унука.

Пераклад успамінаў з ангельскай мовы й літаратурная апрацоўка Лявона Юрэвіча.

## Разьдзел VI • Chapter VI

## Успаміны й рэфлексіі пра а. Мікалая Лапіцкага
## Memories and Reflections about Rev. Nicholas Lapitzki

Антон Шукелойць

**Пачатак сьвятарства: а. Мікалай у Ашмяне**

с. 505

*Антон Шукелойць* (нар. 1915) – беларускі грамадзкі й культурны дзеяч. Абсальвэнт Віленскага ўнівэрсытэту імя Стафана Баторага. Сябра Беларускага Студэнцкага Саюза. У 1941–1944 працаваў дырэктарам Гістарычнага музэю ў Менску. Ад лета 1944 году – на эміграцыі. Старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Паўночнай Амэрыцы, сябра БНР.

Тэкст успамінаў напісаны ў кастрычніку 2003 году.

Рагнеда Аляхновіч

**Служылі Богу й Беларусі**

с. 507

*Рагнеда Аляхновіч* (нар. 1931) – пляменьніца а. М. Лапіцкага (дачка роднай сястры а. Мікалая – Ксеніі Лапіцкай-Грышкевіч). Выдатнік народнай асьветы Беларусі. Да выхаду на пенсію працавала настаўніцай беларускай мовы й літаратуры ў Менску.

Тэкст успамінаў напісаны ў сьнежні 2003 году.

Вітаўт Кіпель

**Знаёмства й супрацоўніцтва з а. І. Кушнерам і а. М. Лапіцкім**

с. 509

*Вітаўт Кіпель* (нар. 1927) – беларускі грамадзкі й культурны дзеяч, гісторык, бібліёграф. Доктар геалёгіі. Сябра СБМ. Зь лета 1944 – на эміграцыі. Адзін з арганізатараў беларускага скаўтынгу ў беларускіх лягерох ДП у Заходняй Нямеччыне (Рэгэнсбург). Выпускнік Лювэнскага ўнівэрсытэту (Бэльгія) і Радгарскага ўнівэрсытэту (ЗША). У 1962 – 1985 працаваў у навуковым аддзеле Ньюёрскай Публічнай Бібліятэкі. Супрацоўнічаў зь Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва. Ад 1982 году старшыня БІНіМа. Аўтар манаграфічных дасьледаваньняў і артыкулаў па гісторыі беларускай эміграцыі ў ЗША ў англамоўных і беларусамоўных выданьнях. Ініцыятар і аўтар-укладальнік (сумесна з Зорай Кіпель) фундамэнтальнай бібліяграфіі, прысьвечанай беларускаму друку на Захадзе. Доктар honoris causa Горадзенскага ўнівэрсытэту (1993).

Тэкст успамінаў напісаны ў студзені – лютым 2004 году.

Надзя Запруднік
**Успамін пра а. Мікалая Лапіцкага**
с. 515

*Надзя Запруднік* (дзяв. Рагалевіч, пазьней – жонка Аўгена Кудасава; пасьля сьмерці А. Кудасава ў 1995 годзе пабралася з др. Я. Запруднікам) – удзельніца беларускага грамадзка-культурнага жыцьця ў ЗША. Адна з арганізатарак мастацкіх выставаў беларускай дыяспары ў Паўночнай Амэрыцы.

Тэкст успамінаў напісаны ў кастрычніку 2003 году.

Янка Запруднік
**Айцец Мікалай – празорлівы будаўнік**
с. 518

*Янка Запруднік* (сапр. Сяргей Вільчыцкі; нар. 1926) – беларускі грамадзкі й культурны дзеяч, гісторык, журналіст, саветоляг. Доктар філязофіі (Нью Ёрк, 1969). У 1942 – 1944 вучыўся ў прагімназіі й гандлёвай школе ў Баранавічах. З 1944 – на эміграцыі. Актывіст беларускага скаўтынгу ў Заходняй Нямеччыне. Скончыў Беларускую Гімназію імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе. У 1948 – 1950 працаваў на капальнях у Вялікабрытаніі. Выпускнік гістарычнага факультэта Лювэнскага ўнівэрсытэту (Бэльгія). Рэдактар беларускай службы радыё „Свабода". З 1957 жыве ў ЗША. Рэдактар беларускай сэкцыі ньюёрскай філіі радыё „Свабода" (1958 – 1998). У 1980 – 1991 рэдагаваў газэту „Беларус". Заступнік старшыні Рады БНР. Віцэ-дырэктар БІНіМа. Сябра Асацыяцыі Амэрыканскіх Славістаў. Аўтар кніг і артыкулаў у ангельскай і беларускай мовах, прысьвечаных беларускай літаратуры, гісторыі Беларусі й Савецкага Саюзу.

Тэкст успамінаў напісаны ў кастрычніку 2003 году.

Яніна Каханоўская
**Мае ўспаміны пра а. Мікалая Лапіцкага**
с. 520

*Яніна Каханоўская* (дзяв. Шабуня; нар. 1909) – беларуская грамадзка-культурная дзеячка. З 1944 году – на эміграцыі. У 1950 з Заходняй Нямеччыны пераехала ў ЗША. Працавала ў беларускай сэкцыі ньюёрскай філіі радыё „Свабода".

Тэкст успамінаў напісаны ў верасьні – кастрычніку 2003 году.

Віталь Цярпіцкі
**Жменька ўспамінаў пра а. Мікалая Лапіцкага**
с. 521

*Віталь Цярпіцкі* (нар. 1924) – беларускі грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай сэмінарыі (1942). У 1943 –1944 быў курсантам

Беларускай Афіцэрскай Школы ў Менску. Улетку 1944 эвакуаваўся ў Заходнюю Нямеччыну. Перайшоў на бок францускіх партызанаў. У 1945 годзе ўступіў у II корпус генэрала Ўл. Андэрса і служыў у Паўдзённай Італіі. Ад 1946 году жыў і працаваў у Вялікабрытаніі. Быў сябрам ЗБВБ. У лістападзе 1951 з жонкай пераехаў у ЗША й пасяліўся ў Саўт Рывэры. У 1968 –1972 узначальваў Будаўнічы Камітэту беларускай праваслаўнай царквы Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры (Нью Джэрзі). Сябра БЦР і Беларускага Кангрэсавага Камітэту ў Паўночнай Амэрыцы.

Тэкст успамінаў напісаны ў лютым – сакавіку 2004 году.

Алег Махнюк

**Ад Ватэнштэту да Саўт Рывэру**

с. 524

*Алег Махнюк* (нар.1928) – удзельнік беларускага царкоўнага й грамадзка-культурнага жыцьця ў ЗША, айцец дыякан беларускай праваслаўнай царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярхату ў Саўт Рывэры.

Тэкст успамінаў напісаны ў сьнежні 2004 году.

Іван Касяк

**Протапрэсьвіцер Мікалай Лапіцкі**

с. 529

*Іван Касяк* (1909 –1989) – беларускі палітычны й грамадзка-культурны дзеяч. У гады Другой сусьветнай вайны ўваходзіў у склад Цэнтралі Беларускай Народнай Самапомачы. Прыхільнік ідэі аўтакефаліі БПЦ. Зь лета 1944 году – на эміграцыі. У 1949 выехаў у ЗША, дзе браў удзел у арганізацыях, зьвязаных з антыкамуністычным рухам. Дзеяч БЦР і Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі на эміграцыі. Актыўна ангажаваўся ў справу аўтакефаліі БПЦ пад юрысдыкцыяй Канстантынопальскага Патрыярхату. Аўтар манаграфіяў па беларускай царкоўнай гісторыі й дзяржаўнасьці Беларусі.

Тэкст друкуецца паводле першапублікацыі: І. Касяк, *Протапрэсьвіцер Мікалай Лапіцкі* – у кн.: Лапіцкі М., *Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы. Пераклаў з польскай мовы і падрыхтаваў да друку а. Сьвятаслаў Коўш*, Нью Ёрк, 1978, с. 7 – 13.

Міхась Сенька

**Колькі слоў пра а. Мікалая**

с. 536

*Міхась Сенька* (нар.1922) – беларускі царкоўны й грамадзкі дзеяч. На пачатку 50-х гадоў пераехаў у ЗША. Сябра першай царкоўнай управы беларускай праваслаўнай парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай

у Саўт Рывэры. Сябра БЦР і Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі.

Тэкст успамінаў напісаны ў студзені 2005 году.

George N. Lapitzki

**My Memories**

с. 538

*Жорж Лапіцкі* (George N. Lapitzki) – сын а. М. Лапіцкага.

Тэкст успамінаў напісаны ў лістападзе – сьнежні 2003 году й зьяўляецца англамоўным варыянтам яго-ж успамінаў у беларускай мове (гл.: Разьдзел V, с. 497 – 499).

Thomas Bird

**Father Nicholas Lapitzki: Dziejač na nivie biełaruskaj dyjaspary**

с. 543

*Томас Бэрд* (Thomas Bird) – прафэсар-славіст Ньюёрскага ўнівэрсытэту, аўтар публікацый па гісторыі царквы й адраджэнскага руху Беларусі. Прымае актыўны ўдзел у навуковым і культурным жыцьці беларускай дыяспары ў ЗША. Сябра БІНіМа ў Нью Ёрку. Рэдактар часапісу БІНіМа „Запісы".

Тэкст успамінаў напісаны ў сакавіку 2004 году.

Walter S. Lapitzki, Jr.

**About Walter Lapitzki, Sr.**

с. 546

*Вальтэр Стывэн Лапіцкі, юньёр* – пляменьнік а. М. Лапіцкага, сын яго малодшага брата Ўладзімера (Вальтэра) Лапіцкага. Доктар мэдыцыны.

Тэкст успамінаў напісаны ў красавіку 2005 году.

## Разьдзел VII • Chapter VII

## Айцец Мікалай Лапіцкі ў дакумантах і фотаздымках<br>The Priest Nicholas Lapitzki in documents and pictures

У разьдзеле выкарыстаны здымкі з прыватнага архіва а. М. Лапіцкага, зь сямейных фатаграфічных калекцый матушкі Валянціны, Лёлі й Лявона Касоўскіх, Жоржа Лапіцкага (Нью Джэрзі, ЗША).

Паасобныя здымкі й копіі дакумантаў паходзяць з архіва арх. Філафея (Гамбург, Нямеччына), з прыватных збораў Алекса Сільвановіча (Нью Джэрзі, ЗША), Віталя Цярпіцкага (Саўт Рывэр, ЗША), Янкі Азаркі (Сэмэрсэт, ЗША), а таксама з Архіва Варшаўскага ўнівэрсытэту (Archiwum Uniwersytetu Warszawskiego; Warszawa, Polska) і Летувіскага Цэнтральнага Нацыянальнага Архіва ў Вільні (Lietuvos Centrinis Valstybes Archyvas; Vilniaus, Lietuva).

**У Грэліках, Вільні й Варшаве (1923–1939)**
с. 549

**На разломах вайны (1939–1945)**
с. 556

**У паваеннай Нямеччыне (1945–1950)**
с. 561

**Парафія ў Саўт Рывэры (1950–1976)**
с. 568

**У сямейным коле (1950–1976): пралог – не эпілог**
с. 585

## Дадаткі • Supplements

Апублікаваныя ў „Дадатках" дакуманты паходзяць з архіва а. М. Лапіцкага (гл.: папка „Regensburg").

**А. Ліста прысутных на Нарадзе Праваслаўнае Беларускае Гіерархіі, Духавенства й Вернікаў у Рэгэнсбургу 5 траўня 1946 году**
с. 589

**Б. Пастанова Праваслаўнага Беларускага Зьезду ў Рэгэнсбургу дня 5. 5. 1946 г.**
с. 591

**В. Пратакол Беларускага Праваслаўнага Зьезду ў Рэгэнсбургу дня 5 траўня 1946 г. (эміграцыя ў Нямеччыне)**
с. 591

**Г. Ліст да Прэзыдэнта ЗШПА Г. Трумэна**
с. 595

## Бібліяграфія • Bibliography


- А.М., мгр. [Мартас А.] *Матэр'ялы да гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы (пэрыяд савецкае і нямецкае акупацыі Беларусі)*, Нямеччына, 1948.
- Апанас, арх., *На ніве Хрыстовай. У пяцідзесятыя ўгодкі сьвятарства: 1928 – 1978. Успаміны*, Нью Ёрк –Варшава – Менск, 2005.
- Афанасий [Мартас А.] арх., *Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Книга в трёх частях,* Буэнос Айрэс, 1966.
- *Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе. Асобныя выданьні. Бібліяграфія/Складальнікі Зора й Вітаўт Кіпелі*, Нью Ёрк – Менск, 2003.
- *Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе. Пэрыёдыка. Бібліяграфія/ Складальнікі Зора й Вітаўт Кіпелі*, Нью Ёрк, 2004.
- *Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя: жыцьцярысы, мартыралогія, успаміны.* Аўтар-укладальнік Ю. Гарбінскі, Мінск – Мюнхен, 1999.
- Васілеўскі В. [Войтанка В.], *20 гадоў БАПЦ: 1948 – 1968,* Пассэйк, 1968.
- Вініцкі А., *Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў гг. 1939 – 1951. Частка I; Частка II: Рэлігійныя справы; Частка III*, Лос Анжэлес, 1968.
- Волаціч М. [Пануцэвіч В.], *Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква (БАПЦ)*, Чыкага, 1957 (манускрыпт).
- Гардзіенка Н., *Беларусы ў Аўстраліі,* Менск, 2004.
- Гарошка Л., а. *Храналёгія да гісторыі Хрысьціянства на Беларусі,* Парыж, 1952.
- *Даведкі з гісторыі аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы,* Мэльбурн, 1960.
- *За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, Выданьне Беларускай Цэнтральнай Рады (пад рэдакцыяй І. Касяка),* Лёндан, 1960.
- За Христа пострадавшие: Гонения на Русскую Православную Церковь, 1917 – 1956, Москва, 1997, кн. 1.
- *Збор дакумэнтаў Сьв. Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (на выгнаньні),* [Аўстралія], 1983.
- Зьніч М. [Адамовіч Ант.], *Здрада (Як запрадаўся былы беларускі япіскапат маскоўскаму зарубежжу)*, Нямеччына, 1948.
- Канфесіі на Беларусі (канец XVIII – XX), Мінск, 1998.
- Касяк І., *З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу*, Нью-Ёрк, 1956.
- Кіпель В., *Беларусы ў ЗША*, Менск, 1993.

- *Краткое изложение организации Белорусской метрополии в 1941 году и положение её до настоящего времени в эмиграции,* „Церковная Жизнь", № 2 – 3, Мюнхен, 1948.
- Лапіцкі М., *Першая кніжка для дзяцей па Закону Божаму,* Саўт Рывэр, 1959.
- Лапіцкі М., *Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы. Пераклаў з польскай мовы і падрыхтаваў да друку а. Сьвятаслаў Коўш,* Нью Ёрк, 1978.
- Максімюк Я., *Беларуская Гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945 –1950,* Нью Ёрк – Беласток, 1994.
- *Памятная кніга 1950 – 1975 (Гісторыя царквы Сьв. Эўфрасіньні),* Саўт Рывэр, 1975.
- Пануцэвіч В., *Матар'ялы да гісторыі БАПЦарквы. Сшытак 2,* [ЗША], 1957.
- Панькоў М., *Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945 – 1984),* Мінск, 2001.
- *Православная Энциклопедия. Русская Православная Церковъ,* под общ. ред. Алексия II, Патриарха Московского и всея Руси, Москва, 2000.
- *Русская Православная Церковъ за границей, 1918 – 1968 гг.,* Нью-Йорк, 1995, 2 кн.
- *Синодик за веру и церковъ Христову пострадавших в Минской епархии (1918 – 1951).* Сост. священник Феодор Кривонос, клирик Минского Свято-Духова Кафедрального собора. Киевец. Свято-Троицкая церковь, 1996.
- Скурат К., История Поместных православных Церквей: в 2 т. Т. 2, Москва, 1994.
- *Статут Праваслаўнай Беларускай Аўтакефальнай Царквы, прыняты Ўсебеларускім Царкоўным Саборам 30.8 – 2.9.1942.* Менск, 19 траўня 1944.
- *Статут для Беларускіх Праваслаўных Парафіяў БАПЦарквы на Чужыне,* [Розэнгайм], 20.12.1949.
- Цярпіцкі В., *Гісторыя пабудовы Беларускае Праваслаўнае Царквы імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры,* Саўт Рывэр, 1984; 1994.
- Шкаровский М. В., *Политика Третьего рейха по отношению к Русской Православной Церкви в свете архивных материалов: 1935 – 1945 годов.* Сборник документов, Москва, 2003.
- Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т.1 – 5. Мінск, 1993 – 1999.

- Bird T., *Orthodoxy in Byelorussia: 1917–1980, „Zapisy"*, nr 17, New York, 1983.
- *Byelorussia, historical Outline, Historical materials collected, reviewed and prepared for publication by Ivan Kasiak, Byelorussian Central Council,* London, 1989.
- *Byelorussian Autocephalic Orthodox Church in America,* New York, 1961.
- Garbiński J., Turonek J., *Białoruski ruch chrześcijański XX wieku. Słownik biograficzno-bibliograficzny*, Warszawa, 2003.
- Kipel V., *Belarusans in the United States*, Lanham – New York – Oxford, 1999.
- Papierzyńska-Turek M., *Między tradycją a rzeczywistością. Państwo wobec prawosławia*, Warszawa, 1989.
- Stankievič A., Biełaruski Chryścijanski Ruch, Vilnia, 1939.
- Teadarovich N. [Abramava N.], *Byelorussian Autocephalic Orthodox Church (in): Religion in der USSR: Dokumente und Berichte.* München: Claudius Verlag, 1970.
- Znosko A., ks. dr, Słownik cerkiewnosłowiańsko-polski, Białystok, 1996.


## Архіўныя крыніцы


- Архіў а. М Лапіцкага – (у): Архіў Радгарскага ўнівэрсытэту (Нью Брансвік, ЗША)
- Архіў арх. Філафея (Гамбург, Нямеччына)
- Архіў В. Цярпіцкага (Саўт Рывэр, ЗША)
- Архівы БАПЦ (Гайленд Парк – Нью Ёрк, ЗША)
- Архіў БІНіМа (Нью Ёрк, ЗША)
- Архіў беларускай праваслаўнай парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай (Саўт Рывэр, ЗША)
- Архіў Епіскапату БАПЦ (1941–1946) – (у): Архіў БІНіМа (Нью Ёрк, ЗША)
- Archiwum Uniwersytetu Warszawskiego (Warszawa, Polska)
- Lietuvos Centrinis Valstybes Archyvas (Vilniaus, Lietuva)
- Беларуская калекцыя Зоры й Вітаўта Кіпеляў (The Slavic and Baltic Division of The New York Public Library: *QM 99-5211 and *QM 99-5212)

## Скароты • Abbreviation

| | |
|---|---|
| ААН | – Арганізацыя Аб'еднаных Нацый |
| АБМА | – Аб'еднаньне Беларускай Моладзі ў Амэрыцы |
| БАЗА | – Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне Амэрыкі |
| БАКК | – Беларуска-Амэрыканскі Кангрэсавы Камітэт |
| БАНР | – Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада |
| БАПЦ | – Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква |
| БАЦ | – Беларуская Аўтакефальная Царква |
| БВР | – Беларускі Вызвольны Рух |
| БВФ | – Беларускі Вызвольны Фронт |
| БККА | – Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі |
| БНА | – Беларускае Нацыянальнае Аб'еднаньне |
| БНК | – Беларускі Нацыянальны Камітэт |
| БНР | – Беларуская Народная Рэспубліка |
| БНС | – Беларуская Народная Самапомач |
| БПА | – Беларускае Праваслаўнае Аб'еднаньне |
| БПЖБ | – Беларускае Праваслаўнае Жыровіцкае Брацтва |
| БПЦ | – Беларуская Праваслаўная Царква |
| БР-ГАЦ | – Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Адпачынкавы Цэнтр „Бэлэр-Менск" |
| БСЗ | – Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне |
| БССР | – Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка |
| БСЧ | – Беларускі Скаўтынг на Чужыне |
| БЦК | – Беларускі Царкоўны Камітэт |
| БЦР | – Беларуская Цэнтральная Рада |
| ВКЛ | – Вялікае Княства Літоўскае |
| ГПУ (ДПЎ) | – Государственное Политическое Управление (Дзяржаўнае Палітычнае Ўпраўленьне) |
| ДП (DP) | – перамешчаныя асобы (ад ангел. Displaced Persons) |
| ЗБАВ | – Згуртаваньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў |
| ЗБАДК | – Задзіночаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамаговы Камітэт |
| ЗБВ | – Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў |

ЗБВБ – Згуртаваньне Беларусаў у Вялікабрытаніі

ЗБК – Згуртаваньне Беларусаў Канады

ЗША – Злучаныя Штаты Амэрыкі

ЗШПА – Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі

ІРО (IRO) – Міжнародная Арганізацыя Ўцекачоў (ад англ. International Refugee Organization)

КОП (КОР) – Корпус Аховы Пагранічча (ад пол. КОР – Korpus Ochrony Pogranicza)

МВД (МУС) – Министерство Внутренних Дел (Міністэрства Ўнутраных Спраў)

НКВД (НКУС) – Народный Коммисариат Внутренних Дел (Народны Камісарыят Унутраных Спраў)

НЭП – Новая Экономическая Политика (Новая Эканамічная Палітыка)

ПАПЦ – Польская Аўтакефальная Праваслаўная Царква

РПЗЦ – Расейская Праваслаўная Зарубежная Царква (ад рас. Русская Православная Церковь за границей); іншыя варыянты скароту: РЗПЦ, РЗЦ, ПЦЗ

РСФСР – Российская Советская Федеративная Социалистическая Республика

СБАПЦ – Сьвятая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква

СБМ – Саюз Беларускай Моладзі

СД – Служба Бясьпекі ў нацысцкай Нямеччыне (ад ням. Sicherheitsdienst)

СПБЦ – Сьвятая Праваслаўная Беларуская Царква

СССР – Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік (ад рас. Союз Советских Социалистических Республик)

УАПЦ – Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква

УНРРА – Адміністрацыя Аб'еднаных Нацый для Дапамогі й адбудовы (ад англ. United Nations Relief and Rehabilitation Administration); беларускі варыянт скароту – ЮНРРА (UNRRA)

ЦК КП(б)Б – Цэнтральны Камітэт Камуністычнай Партыі бальшавікоў Беларусі

ЦР БПЦ – Царкоўная Рада Беларускай Праваслаўнай Царквы
ХАБР – Хрысьціянскае Аб'яднаньне Беларускіх Работнікаў
ЯВП – Яго Высокапрэасьвяшчэнства
AUW – Archiwum Uniwersytetu Warszawskiego
BAOC – Belarusan Autocephalic Orthodox Church
LCVA – Lietuvos Centrinis Valstybes Archyvas
NSW – New South Wales
NYPL – New York Public Library
USA – United States of America
N.J. – New Jersey
Würt. – Würtemberg
Вых. – Выхад
Дзеян. – Дзеяньні
Ев. Ін. – Евангельле ад Іаана
Ев. Лук. – Евангельле ад Лукі
Ев. Мрк. – Евангельле ад Марка
Ев. Мацьв. – Евангельле ад Мацьвея
Іоа. – Кніга Іова
1 Кар. – Першы ліст апостала Паўла да Карынфіян
Псал. (Пс.) – Псалтыр (Псалмы)
Р.Х. – Ражаство Хрыстова
а. – айцец
амэр. – амэрыканскі
ангел. – ангельскі
арх. – архіепіскап
архім. – архімандрыт
аўстр. – аўстрыяцкі
бел. – беларускі
візант. – візантыйскі
вуніяц. – вуніяцкі
вял. – вялікі
гл. – глядзі
грамадз. – грамадзкі
грэч. – грэчаскі

| | |
|---|---|
| др. | – доктар |
| еп. | – епіскап |
| іг. | – ігумен |
| інж. | – інжынер |
| катал. | – каталіцкі |
| кн. | – князь |
| культ. | – культурны |
| к-т | – камітэт |
| мгр. | – магістр |
| мітр. | – мітрапаліт |
| ням. | – нямецкі |
| паліт. | – палітычны |
| пол. | – польскі |
| пратэст. | – пратэстанцкі |
| праф. | – прафэсар |
| прот. | – протаіерэй |
| протапр. | – протапрэсьвіцер |
| псэўд. | – псэўданім |
| рас. | – расейскі |
| рым. | – рымскі |
| рым.-катал. | – рыма-каталіцкі |
| рэд. | – рэдактар |
| рэліг. | – рэлігійны |
| сав. | – савецкі |
| славян. | – славянскі |
| сп. | – спадар (-ыня) |
| стараж. | – старажытны |
| сьв. | – сьвяты |
| сьвяшч. | – сьвяшчэньнік |
| татар. | – татарскі |
| укр. | – украінскі |
| усх. | – усходні |
| царк. | – царкоўны |
| чэш. | – чэшскі |

# Іменны паказьнік • Index of Names

Айцец Мікалай Лапіцкі служыў Усявышняму для дабра беларускага народу й цьвёрда трымаўся законаў тае плыні хрысьціянства, да якое прыйшоў праз пакліканьне.

*Вітаўт Кіпель*

Актыўны ў беларускім рэлігійным і грамадзкім жыцьці праз усе свае гады, а. Мікалай заслугоўвае на пашану й павучальную памяць. У ягонай асобе мы маем выдатную гістарычную постаць, самаахвярнага будаўніка царкоўнага й грамадзкага жыцьця.

*Янка Запруднік*

Глянуўшы з пэрспэктывы часу на жыцьцё й дзейнасьць а. Мікалая Лапіцкага, гэтага Божага Пастыра, трэба зазначыць, што было яно да апошніх хвілін прысьвечана Ўсявышняму, беларускаму праваслаўю й роднаму народу.

*Віталь Цярпіцкі*

Жыцьцёвы шлях, пройдзены а. Мікалаем, гэта цярністая дарога працаўніка, барацьбіта, арганізатара й кіраўніка ў беларускім праваслаўным і нацыянальным жыцьці, які можа служыць добрым прыкладам для будучых пакаленьняў змагароў за рэлігійную й нацыянальную волю Беларусі.

*Іван Касяк*

His uncompromising commitment to Belarusian autocephaly, coupled with his quest for the acknowledgement of his Church's canonicity, led Mitred Protopresbyter Nicholas Lapitzki to seek the protection of the Greek Church of Constantinople. Through Father Nicholas's good offices the identity of Belarusian Orthdoxy was formally recognized by Archbishop Michael, the Exarch of the Ecumenical Partriarch in North America. What had not been achieved in the homeland was accomplished in the New World.

*Thomas E. Bird*